# ЗАПІСЫ

## БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ й МАСТАЦТВА

## BELARUSAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES

**ZAPISY 40**




**NEW YORK — MIENSK**

**2018**

Выдаецца пры фінансавай дапамозе
Беларускай фундацыі Крачэўскага

УВАГА: Гэты том працягвае сэрыйнае выданьне ЗАПІСЫ, запачаткаванае ў 1952 г. Першыя 6 тамоў у 1952—1954 гг. выйшлі ў Нью-Ёрку; 5 наступных — у 1962—1970 гг. друкаваліся ў Мюнхене. З 12-га (1974) да 24-га (1999) тому ЗАПІСЫ друкаваліся ў Нью-Ёрку. Ад 2002 г. ЗАПІСЫ — сумесны нью-ёрска-менскі праект.

ISBN 978-0-9722020-7-7

ADDRESS
Belarusan Institute of Arts and Sciences
166—34 Gothic Drive, Jamaica, NY. 11432, U.S.A
zapisybinim@gmail.com

## ЗЬМЕСТ

**Будучыя кнігі**



**Угодкі**



**Эміграцыязнаўчая сэкцыя на VII Кангрэсе дасьледчыкаў Беларусі**



**Кніжная паліца**

**Кніга ў “Запісах”**



***Да ўвагі патэнцыйных аўтараў!***

Наступны выпуск “Запісаў БІНіМ” будзе прысьвечаны тэме беларускай прысутнасьці ў Канадзе. Тут будуць публікавацца дакумэнты з Нацыянальнага архіву Канады (Атава), Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны (Лёндан), Беларускага інстытуту навукі й мастацтва (Нью-Ёрк), Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва (Менск), а таксама аўтарскія матэрыялы. Усіх зацікаўленых аўтараў запрашаем зьвяртацца на электронную адрэсу: nhardzijenka@gmail.com.

Апошні тэрмін падачы матэрыялаў — 30 чэрвеня 2019 г.

*Рэдакцыя*

## Ад рэдакцыі

Сёлета адзначаецца стагодзьдзе абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. “Запісы БІНіМ” робяць уласны ўнёсак у адзначэньне гэтага юбілею, публікуючы ўспаміны “Чутае, бачанае, перажытае” ўдзельніка Першага Ўсебеларускага кангрэсу 1917 г., які пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся на Захадзе, — Язэпа Гладкага (Адама Варлыгі, 1890—1972). Гэта не друкаваныя раней мэмуары пра дзяцінства на роднай Лагойшчыне, Першую сусьветную й міжваеннае жыцьцё ў савецкай Беларусі, настаўніцкую працу й уцёкі ад рэпрэсіяў, Другую сусьветную й выезд у Нямеччыну. Публікацыя ўспамінаў Адама Варлыгі — гэта яшчэ й наша даніна павагі й любові нядаўна адышоўшаму сябру, колішняму рэдактару “Запісаў” і атрымальніку “Ўдзячнасьці БІНіМу”, мовазнаўцу Зьмітру Саўку, які рыхтаваў тэкст да друку, рэдагаваў яго.

Асноўная ж тэма сёлетняга альманаху — “Амэрыканская гісторыя” — прадстаўленая тэкстамі пра розныя аспэкты беларускай прысутнасьці ў ЗША. У разьдзеле “Архіваліі” зьмешчаныя й перадрукі зь беларускіх пэрыёдыкаў 1920-х гг. артыкулаў, прысьвечаных суродзічам у Чыкага й штаце Мічыган, і выяўленыя гарадзенскім гісторыкам Аляксандрам Горным у маскоўскім архіве лісты Янкі Чарапука й Язэпа Варонкі да дзеячаў Рады БНР у 1923 г. Тут жа падаюцца сьпісы сьвятароў і парафіянаў беларускай царквы Сьв. Юр’я, што дзейнічала ўжо ў паваенным Чыкага, а таксама лісты-сьведчаньні пра беларускія асяродкі ў Нью-Джэрзі й Ілінойсе грамадзкага дзеяча Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка. Завяршае разьдзел “Архіваліяў” нарыс пра дыскусію адносна творчасьці Янкі Купалы, што ўзьнікла ў інтэлектуальных колах паваеннай эміграцыі ў сувязі з выданьнем зборніка паэзіі клясыка “Спадчына” (Мюнхен, 1955), і публікацыя артыкула М. Равіча (Янкі Ліманоўскага) “Фальшаваньне Купалы” ў рэчышчы згаданай дыскусіі.

Амэрыканская тэма працягваецца й аўтарамі ўспамінаў у адпаведным разьдзеле альманаху. Тут зьмешчаныя аўтабіяграфічныя тэксты грамадзкага дзеяча й выдаўца беларускага часопісу ў Саўт-Рывэры Жоржа Наумчыка (падрыхтаваныя Андрэем Блінцом), а таксама ўдавы грамадзкага дзеяча й выдаўца, пляменьніка Якуба Коласа Міколы Прускага (1928—2014) Веры Прускай. У гэтай жа рубрыцы месьціцца некалькі мэмуарных камэнтараў-згадак Вітаўта Кіпеля да гісторыі беларускага скаўтынгу і ўласных кантактаў з Васілём Быкавым.

Разьдзел “Эпісталярыі” сёлета прадстаўлены вялікай падборкай лістоў грамадзкага дзеяча Ўладзімера Бакуновіча да ягонага сябры Янкі Запрудніка пра беларускае студэнцкае жыцьцё ў Лювэне, сямейныя і грамадзкія падзеі ў Нью-Джэрзі, Мічыгане.

У сёлетніх “Запісах” зьявілася новая рубрыка “Людзі кнігі”, дзе публікуюцца дасьледчыя тэксты эміграцыйных аўтараў з мэтай іх пераасэнсаваньня і ўвядзеньня ў больш шырокі навуковы ўжытак. Асноўныя сёлетнія аўтары гэтай рубрыкі — таксама амэрыканскія беларусы. Тут зьмешчаныя дасьледаваньні Часлава Будзькі й Леаніда Галяка, прысьвечаныя раньняй беларускай гісторыі, разам з камэнтарамі й рэфлексіямі адносна іх сучаснага айчыннага гісторыка Сяргея Емяльянава. Таксама ў разьдзеле пададзены беларускі пераклад прадмовы Зоры Кіпель да англамоўнай публікацыі “Беларускага Трышчана” (Нью-Ёрк — Лондан, 1988) і рэфэрат пра гісторыю Сьвіслацкай гімназіі, зроблены чыкагскім беларусам Вацлавам Пануцэвічам.

У працяг амэрыканскай тэмы й апублікаваных у “архіваліях” лістоў Янкі Чарапука й Язэпа Варонкі ў разьдзеле “Архіў” пададзенае апісаньне дакумэнтаў гэтых дзеячаў, што разам зь іншымі паперамі БІНіМу былі перададзеныя ў Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва ў Менску.

“Установы” прадстаўленыя ў сёлетніх “Запісах” адноўленай Лявонам Юрэвічам на падставе пратаколаў гісторыяй заснаваньня навуковай арганізацыі беларускай паваеннай эміграцыі — Крывіцкага (Беларускага) навуковага таварыства Пранціша Скарыны, ініцыяванага Янкам Станкевічам, а таксама двума тэкстамі, прысьвечанымі Беларуска-Амэрыканскаму задзіночаньню. Віталь Зайка напісаў нарысуспаміны пра падзеі ў БАЗА ў 2007—2011 гг., а побач зьмешчанае інтэрвію колішняй старшынькі арганізацыі Ганны Сурмач.

Жанр інтэрвію працягнуты і ў адмысловай рубрыцы, дзе зьмешчаная гутарка Натальлі Гардзіенкі зь дзьвюма амэрыканскімі беларускамі Лізай Літаровіч і Надзеяй Запруднік пра асаблівасьці нацыянальных страваў на эміграцыі. Гэтую размову можна лічыць пралёгам да перадруку напрыканцы сёлетняга альманаху ў адмысловым разьдзеле «Кніга ў “Запісах”» адзінай кнігі беларускіх кулінарных рэцэптаў, якая выйшла на эміграцыі (Нью-Ёрк, 1959) — “Вялікалітоўскай (беларускай) кухаркі” Марыі Станкевіч. Да напісаньня прадмовы да гэтай публікацыі далучыўся сын аўтаркі — Вячка Станкевіч.

Безумоўна цікавая ў сёлетніх “Запісах” і рубрыка “Публікацыі”, дзе можна знайсьці й тэкст прафэсара Ірыны Чыкалавай, прысьвечаны амэрыканісту зь Беларусі Ісааку Гурвічу (1860—1924), і артыкул Лявона Юрэвіча пра жанр эпітафіяў у эміграцыйнай літаратуры, і высьвятленьне гісторыкам з Клецку Андрэем Блінцом дакладнага месца нараджэньня прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага.

“Будучыя кнігі” ў працяг папярэдняга нумару зьмяшчаюць нізку тэкстаў Макара Краўцова для плянаванага зборніка пісьменьніка. Гэтым разам тут публікацыі, прысьвечаныя жыцьцю й творчасьці паэтаў Уладзімера Жылкі і Ўладзімера Дубоўкі. У гэтай жа рубрыцы прадстаўлены праект выданьня ўнікальнага альбома-даведніка “Беларускія могілкі ў сьвеце”, які рыхтуецца Натальляй Гардзіенкай й Лявонам Юрэвічам.

У разьдзеле “Ўгодкі” публікуюцца ўспаміны-згадкі Лявона Юрэвіча пра свайго выкладчыка мовазнаўцу Фёдара Янкоўскага (1918—1989), яму ж прысьвечаны артыкул Станіслава Станкевіча, а таксама ўспаміны Вітаўта Кіпеля пра мовазнаўцу, пэдагога, сябру БІНіМу Алену Юрэвіч (1928—2006). 70-годзьдзе аднаўленьня Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы на эміграцыі адзначаецца адмысловым артыкулам Натальлі Гардзіенкі.

Адносна сьціпла па колькасьці аўтараў выглядае сёлета рубрыка “Эміграцыязнаўчая сэкцыя на VII Кангрэсе дасьледчыкаў Беларусі”, дзе зьмешчаныя даклады Натальлі Гардзіенкі пра іміграцыйную палітыку Канады, Юрыя Грыбоўскага пра дзейнасьць Кастуся Езавітава ў акупаванай Латвіі й Вольгі Зубко пра Янку Геніюша. Затое надзвычай багатая сёлетняя “Кніжная паліца”, дзе зьмешчаныя агляды й рэцэнзіі асобных значных эміграцыязнаўчых выданьняў апошніх гадоў.

Чарговы выпуск альманаху традыцыйна насычаны тэмамі й тэкстамі й спадзяемся, што кожны чытач знойдзе ў ім нешта цікавае.

*Да 100-годзьдзя БНР*

**Лявон Юрэвіч**
*Нью-Ёрк*

# ПРА ДВУХ МОВАЗНАЎЦАЎ

У гэтага тэксту два галоўныя героі.

Першы, натуральна, аўтар. Адам Варлыга — як пазначана на пачатку пры назове. Язэп Гладкі — як было напісана ў ягоных дакумэнтах. Пераказваць біяграфію гэтага чалавека — справа няўдзячная, бо яна і ёсьць зьместам успамінаў. А вось пра творчы даробак лексыкографа, народжанага 4 кастрычніка 1890 г. у вёсцы Міхалкавічы на Лагойшчыне, а памерлага 28 ліпеня 1972 г. у Нью-Ёрку, сказаць варта. Зацытую словы ягонага блізкага знаёмага й калегі Вітаўта Тумаша:

*«У часе "ратататарнае эры" беларускага эміграцыйнага друку, у гадох 1946—1949, Язэп Гладкі апрацаваў ды выдаў лемантар, чытанкі для розных клясаў — "Родны палетак", "Наша краіна", "Малюнкі мінулага", "Помнікі старажытнасьці" — падручнік геаграфіі, зборнік беларускіх песьняў, кніжачкі народных казак ды іншае. Для друку падручнікаў, зь ягонае ініцыятывы, паўстае і адмысловае выдавецтва — "Заранка". За ўсяго колькі гадоў Язэп Гладкі здолеў так выдаць дзесяць падручнікаў!*

*Ды зь перасяленьнем Беларусаў у іншыя краіны й на іншыя кантынэнты сьвету праца над падручнікамі абрываецца. За акіян хутка вандруе й сам настаўнік-пэдагог. Часу аднак-жа не марнуе ён і там, бо ў вольныя ад працы хвіліны піша артыкулы, нарысы, успаміны, і, дзякуючы сваёй фэнамэнальнай, калі ідзе пра гады маленства й юнацтва, памяці, бярэцца за запіс усяго таго пачутага й перажытага. Гэтак паўстаюць каштоўныя вопісы народнага быту, звычаяў, абрадаў ды запісы песьняў, прыказак, казак, народнае лексыкі Лагойшчыны канца мінулага, пачатку гэтага стагодзьдзя.*

*Матэрыялаў за гады назьбіралася столькі, што давялося аднавіць выдавецтва "Заранка", каб запісанае й напісанае выдаць друкам. За восем апошніх год жыцьця, калі Язэп Гладкі пераведзены быў ужо на пэнсію й меў больш вольнага часу, ён надрукаваў больш дзесяці кніжак і брашураў. Зь іх толькі "Лемантар для школаў і хатняга ўжытку" яшчэ з галіны кніжак школьных. Усе-ж іншыя гэта фальклёрныя, этнаграфічныя або лінгвістычныя запісы з роднае Лагойшчыны. Зь ягоных друкаваных успамінаў для гісторыі Беларусі нашага стагодзьдзя асабліва важны вопіс прабегу й разгону Ўсебеларускага кангрэсу 1917 г.*

*Навукова каштоўны нязвычайна “Краёвы слоўнік Лагойшчыны”, у якім зарэгістравана, з паясьняючымі прыкладамі, больш 8000 словаў з таго часу, калі лексыка беларускае народнае мовы яшчэ захоўвала сваю арыгінальную спрадвечную чысьціню.*

*Важная й кніжка “Прыказкі Лагойшчыны”, якую ў 1966 г. выдаў Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Паводле ліку пададзеных у ёй прыказак арыгінальнага запісу, каля 2000, гэта пятае з чаргі падобнае выданьне пасьля кнігі Фэдароўскага*[1] *1935 г.*[2] *ды зборнікаў прыказак, што былі надрукаваныя яшчэ ў мінулым стагодзьдзі — Насовіча*[3], *Ляцкага*[4], *Дабравольскага*[5].

*Не малую навуковую каштоўнасьць мае й зборнік народных песьняў “Дудар” з тэкстамі й нотамі больш 60-ці песьняў, а таксама выданьні з апісаньнем народных звычаяў, абрадаў, забабонаў, дзіцячых гульняў ды іншага. Фальклёрна-этнаграфічныя ды лінгвістычныя запісы Язэпа Гладкага выходзілі пераважна пад мянюшкай Адам Варлыга.*

*Ня ўсё, што працавіты народны летапісец запісаў і напісаў, ён пасьпеў і выдаць друкам. У рукапіснай спадчыне Язэпа Гладкага засталося яшчэ каля 30-ці нядрукаваных артыкулаў, нарысаў, этнаграфічных запісаў. З гэтага асабліва каштоўная кніга біяграфічна-мэмуарнага характару “Чутае-Бачанае-Перажытое”. У ёй шырокая панарама народнага жыцьця Лагойшчыны канца XIX — пачаткаў XX стагодзьдзяў, эпохі, зьявы быту якое адышлі ўжо ў гісторыю. Гэта быццам-бы народны летапіс Лагойшчыны тыпу ведамае Баркулабаўскае хронікі, ды з чатырыста блізу гадоў пазьнейшага часу й з шырэйшым і глыбейшым адбіткам жыцьця й гістарычных падзеяў пары»*[6].

Гэтыя ўспаміны, выдаваныя ўпершыню праз 46 гадоў пасьля сьмерці аўтара, і трымае ў руках шаноўны чытач. Але таго ніколі б не адбылося, каб ня іншы мовазнаўца, якога, на вялікі жаль, ужо таксама няма з намі, — Зьміцер Саўка.

---

[1] **Міхал Федароўскі** (1853—1923), фальклярыст, этнограф, археоляг.

[2] Маецца на ўвазе выданьне: Federowski, Michał. Lud białoruski na Rusi Litewskiej: materjały do etnografji słowiańskiej zgromadzone w latach 1877—1905. Warszawa: Towarzystwo Naukowe Warszawskie, 1935.

[3] **Іван Насовіч** (1788—1877), мовазнаўца-лексыкограф, фальклярыст і этнограф.

[4] **Аўген Ляцкі** (1868—1942), гісторык літаратуры, крытык, зьбіральнік беларускага фальклёру.

[5] **Уладзімер Дабравольскі** (1856—1920), этнограф, краязнаўца, фальклярыст, дасьледнік звычаяў і мовы смаленскіх, арлоўскіх, калускіх сялян.

[6] Беларус. 1972. № 185. С. 4.

Зьміцер узяўся за падрыхтоўку да друку ўспамінаў падчас свайго першага візыту ў Нью-Ёрк. Гэта была другая палова 90-х — вусьцішна падумаць — мінулага стагодзьдзя. Існавалі два машынапісы: арыгінальны аўтарскі, надрукаваны беларускаю лацінкаю, і кірылічны, які на просьбу й за грошы Антона Шукелойца, суседа й прыяцеля Гладкага, перадрукавала Юля Андрусышын.

Чаму ўспаміны друкуюцца толькі цяпер? У Зьмітра ніколі не было аднаго праекту, ён заўсёды гарэў некалькімі, з самых розных дзялянак. Часта гэта было не на карысьць канкрэтнай справе, але няўрымсьлівы й апантаны, прагны да новага, нязьведанага, ён нічога ня мог парабіць з сабою. "Жыцьцё даўгое, — любіў паўтараць Саўка зь незабыўнай усьмешкаю. — Я пасьпею".

І Зьміцер сапраўды пасьпеў шмат. Нават калі пакінуць убаку выкладаньне ў Лінгвістычным унівэрсытэце, працу на радыё і «Белсаце»: менавіта дзякуючы яму зьявіліся ў нас "Эпізоды" Яўхіма Кіпеля й "Маё мястэчка" Васіля Стомы, успаміны Баляслава Грабінскага й сясьцёр Каткавічанак. Ён зь Вітаўтам Кіпелем уклаў і выдаў унікальную для нас бібліяграфію "Беларускія слоўнікі і энцыкляпэдыі" (2001), а разам зь Юрасём Бушляковым, Вінцуком Вячоркам і Зьмітром Саньком упершыню пасьля Браніслава Тарашкевіча напісаў працу "Беларускі клясычны правапіс" (2005).

І вось успаміны Адама Варлыгі, якія фактычна ўводзяць у беларускую культурную прастору ня толькі новыя факты й зьвесткі, але



Зьміцер Саўка. Здымак Budzma.by

й новую асобу — аўтара — знаную раней пераважна ў агульных словах і паўтараных фармулёўках.

Зьміцер Саўка доўга і шмат працаваў над успамінамі. Маючы свае ўласныя мовазнаўчыя пагляды й ідэі, ён не баяўся мяняць граматычныя формы мовы Язэпа Гладкага, лічачы, што гэта будзе на карысьць тэксту. Сёньня кожны, хто зацікавіцца арыгінальным моўным ладам успамінаў, можа гэта лёгка зрабіць: арыгіналы машынапісаў захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва.

Нарэшце “Чутае, бачанае, перажытае” будзе выдрукавана, няхай пакуль толькі ў часапісным варыянце.

Жыцьцё аказалася кароткім. Затое памяць будзе вечнаю.

*Да 100-годзьдзя БНР*

*Адам Варлыга*

# ЧУТАЕ, БАЧАНАЕ, ПЕРАЖЫТАЕ

**Успаміны**

## ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ

Я задумаў пісаць гэтую працу яшчэ ў Нямеччыне ў 1949 годзе, калі быў звольнены з пасады настаўніка. А гэта сталася выпадкова. Мне аднаго разу ўсплыло на думку, што добра б было, каб дзе наўрэцца[7] на такія запісы, як у нашым краі жылі людзі дваста-трыста гадоў таму назад: што яны елі, у што адзяваліся, што сеялі, як што радзіла, як яны праводзілі вольны час, колькі й якога мелі статку, якія мелі будынкі. Тыя людзі не пакінулі пасьля сябе запісаў, бо былі непісьменныя, і мы на іх за тое крыўдзіцца ня можам. А можа б было цікава тым людзям, што будуць жыць пасьля нас за дваста-трыста год, як мы жылі? А калі мы гэтага не запішам, дык яны будуць мець падставу на нас наракаць за гэту нашу нядбаласьць.

Дык вось я тады й наважыў[8] узяцца за гэту работу, каб дагадзіць тым людзям, што зьявяцца па нас. Я без адмысловага пляну пачаў запісваць сьпярша аб тым, што чуў ад сваіх старэйшых аб сваёй вёсцы й ваколіцы. З тых запісаў склаліся два сшыткі: “Карэншчына” (апісаньне нашай воласьці) і “Міхалкавічы” (апісаньне нашай вёскі). Пасьля з гэтых сшыткаў я выбраў той матэрыял аб веры й звычаях, які меў агульнае значэньне для ўсяго беларускага народу, і назваў яго “Вера й звычаі нашых прашчураў” (“Чатыры ўрачыстасьці”).

Каб болей-меней паказаць жыцьцё сялян нашай вёскі й ваколіцы тых часоў, калі я стаў існаваць на сьвеце, дык я пачаў пісаць аб тым, што я перажыў і назіраў, бо лепей пісаць аб тым, што да цябе бліжэй, а менавіта — аб самім сабе й сваёй хаце. Я ўважаў, што гэткі спосаб запісу дапаможа ўсебакова ахапіць сялянскае жыцьцё, і меўся пісаць так: наша хата; нашы будынкі; наша сям’я; наш статак; наша ежа; праца каля зямлі; жыцьцё дзяцей і дагляд за імі; працоўны абавя-

---

[7] ***Наўрэ́цца*** — выпадкава натрапіць (АВ). АВ — тут і далей гэтак пазначаныя камэнтары Адама Варлыгі.

[8] ***Нава́жыць*** — пастанавіць сабе нейкую мэту ды імкнуцца да яе (АВ).

зак дзяцей і падлеткаў; навучаньне пісьменнасьці дома і ў школе.

Пішучы аб сабе й сваёй гаспадарцы, я ўважаў, што гэтым не парушу пастаўленай перад сабой мэты, бо наша гаспадарка на той час была сярэдняя ў вёсцы й сям'я нічым не вылучалася зь іншых сялян. Я думаў сваю асобу далей весьці ў жыцьцё й навокала яе апісваць падзеі й грамадзкае жыцьцё. Я меўся ў гэтай рабоце разгарнуць самы страшны час усяго нашага сялянства, а гэта часы "суцэльнай калектывізацыі" і дэпартацыі сялянства, але як прыйшло да справы, дык напісалася слаба, а прычына тая, што я сам не спадзяваўся жывым выйсьці з таго пекла на вольны сьвет, дык не перадумваў, не распытваўся ў людзей і не запісваў тых страшных падзеяў (ды нават распытваць гэтых падзеяў было небясьпечна), а што й ведаў, дык да гэтага часу павылятала з памяці: як самі падзеі, гэтак і прозьвішчы.



Язэп Гладкі (Адам Варлыга)

Хоць я гэтую працу амаль што давёў да канца, але ў ёй не дасягнуў мэты, бо ўсё таптаўся каля свае асобы, дык яна збрыдла, зьнялюбела, я яе прымушаны пакінуць у чарнавіковых запісах.

## НАША ХАТА

Хата, у якой я радзіўся й жыў (зь перапынкам 5,5 году вайсковай службы й вайны) да 1925 году, была невялікая. Сьцены былі даўжыні й шырыні па 7,5 аршына (каля 5 мэтраў). Столь зь негабляваных тарчыцаў[9] ляжала на трох ачасаных бэльках, а канцы столі пры сьценах апіраліся на тонкія бэлечкі, прымацаваныя да пярэчных сьценаў. Бэлькі сваімі сярэдзінамі апіраліся на чосаную атраму[10]. Сьцены ўсярэдзіне былі ачэсаны тапаром. Дол быў земляны, часамі пасыпаўся жоўтым пяском. Зімой ад нанесенага за нагамі сьнегу й разьліванай вады дол быў гразкі. Тут былі шырокія й нізкаватыя дзьверы — на зялезных завесах і зь зялезнай клямкай — і тры вакны: два на покуці, перарэзаныя на тры бярны, і адно проці печы — на адно бярно. Вушакоў у вокнах не

---

[9] ***Тарчы́ца*** — дошка, адпілаваная падоўжанай пілой (АВ).

[10] ***Атра́ма*** — падоўжаная балька хаты, на якой апіраюцца іншыя балькі (АВ).

было, але вокны прыпускаліся да сьцяны. Хата стаяла кутам на ўсход. Усе беларускія хаты ставяцца вокнамі пад сонца. Уваходзячы ў хату зь левага боку была квадратовая, бітая з гліны печ на драўляных апечках[11]. Перад печчу на ўсю шырычыню печы быў прыпечак. Над сярэдзінай прыпечка, над чалесьнікам печы, быў комін: сплецены з лазы й абмазаны глінай. Над стольлю й на шчыце хаты быў комін з цэґлы. На канцы прыпечка ад парогу была копка з цэґлы — *пячурка, печка*. Туды заўсёды загортваўся жар з прыскам зь печы; там быў заўсёды нязводны агонь. Там бацька прыкурваў люльку, адтуль бралі распаленыя вугольлі й падзьмухвалі агонь лучынку паліць і ў печы падпальваць. Другі канец прыпечка заставаўся вольны; там часта матка малых дзяцей садзіла, калі палілася ў печы.

На рагу печы ўрубліваўся ў апечкі стоўп, ачосаны на чатыры канты; у сяродку яго было зроблена дупло, там ляжалі шчэтка часаць галаву, грэбень, дзіцячыя каптуры, юрок ніткі зьвіваць, краменьне агонь сячы. Стоўп з паўмэтра не даходзіў да столі й з паўмэтра быў вышэйшы за печ. Стоўп у нашых сялянаў меў нейкае магічнае значэньне, як бы азначаў хатняе вогнішча. Калі набывалі наводную[12] жывёліну, дык абносілі хлеба каля стаўпа й давалі ёй зьесьці, каб дому пільнавалася. Калі свой статак не пільнаваўся дому, дык яму таксама давалі абнесены каля стаўпа хлеб. Калі часам хто з падлеткаў да каго часта ходзіць на сяло, дык зь яго дома сьмяюцца: *"Мусіць, табе там далі есьці хлеба, абнесенага каля стаўпа"*. У самы верх стаўпа ўрублівалася адным канцом бэлечка (натоўсткі[13] зь пераплотную[14] жардзіну), а другім — у кутнюю сьцяну. І вось такім чынам зь левага боку чалесьніка (уваход у печ), а з правага — стоўп. На копцы стаяла салянка з сольлю й зімой клаліся рукавіцы. Ля копкі й парогу ў куточку ставіліся вілкі, качарга, чапяла, памяло й венікі, і называўся гэты куточак *качарэжнік*. Калі білася печ, дык, на дзьве пядзі не даходзячы да вярха печы, пакідаўся пяколак[15]. Гэта было вельмі выгадна: на печы сядзець, а на пяколку стаўляць ногі пры абуваньні ў лапці й разуваньні. Ніжэй пяколка, на прыпускных бервянцах апечкаў клалася запечная лаўка. Гэта месца называлася *запечак*.

Прыпечная падоўжаная сьцяна называлася *палавая*, бо ад печы ўздоўж яе да кутняй сьцяны клаўся пол; ён быў трохі вузейшы за печ. У кутняй частцы пала ў нас была маміна пасьцель, а ад печы былі голыя

---

11 ***Апе́чкі*** — драўляны ці мураваны фундамэнт пад печ (АВ).

12 ***Наводны*** — пра новае скацьцё ў статку (АВ).

13 ***Натоўсткі*** — у таўсьціню (АВ).

14 ***Пераплоты*** — азяроды (АВ).

15 ***Пяколак*** — пры печы прыступка, ніжэйшая за печ (АВ).

дошкі. Тут маглі стаяць рашоты, кашалі, а ў самым запечку — ляжаць лапці ці анучы. Ад стаўпа ўздоўж пала (як ужо ўспаміналася) да пярэчнай кутняй сьцяны й была ўрубленая ў гэтую сьцяну бэлечка. У супрацьлежным кутку ад печы на гэтай бэлечцы й на другой, прымацаванай да паловы сьцяны, былі маленькія палаці. Там ляжалі маміны клубкі нітак, напрадзеныя верацёны, маткі. Ад дзьвярэй направа ўздоўж падоўжнай сьцяны на ўкапаных у зямлю калодачках ляжала лава. Другая такая самая лава — ад полу ўздоўж пярэчнай кутняй сьцяны.

Пры стыку гэтых лаваў на покуці стаяў стол. Пасярод стала ўверчаны ў абрус ляжаў хлеб. На покуці пярэчная лава звалася *мужчынская лава,* а ўздоўж падоўжанай сьцяны называлася *жаноцкая лава*. Бацька заўсёды садзіўся з канца стала на мужчынскай лаве, а матка садзілася з краю стала на жаноцкай лаве тварам да полу (да калыскі). За мужчынскай лавай з канца стала быў тапор. (*Добрая знаходка — тапор за лавай*, прыказка.) На пярэчнай сьцяне ля парогу й на падоўжнай сьцяне больш як да паловы пад самай стольлю былі паліцы. Там стаялі міскі ды іншы пасудак, некаторае начыньне, бацькавы старыя боты, якіх ён не абуваў, бо яны патрабавалі рамонту. Над палом уздоўж палавой сьцяны вісеў шасток. На ім зімой віселі вянкі цыбулі й штодзённыя маміны андаракі й хусткі. Другі доўгі шост вісеў ад дзьвярэй каля самага коміна да кутняй пярэчнай сьцяны. На ім віселі чыстыя[16] кажухі, сярмягі, хусткі; ля коміна вешалі тое, што трэ' было прасушыць.

Ад полу трохі не да стала ўздоўж пярэдняй кутняй сьцяны стаяў ложак. На ім спаў бацька й два меншыя хлопцы, а матка спала на палу зь меншымі дзяўчатамі. У нагах маткі над пустым полам у запечку вісела калыска. Каля 1898 году пол выкінулі, а былі пастаўлены каля палавой сьцяны два ложкі: адзін удоўж, другі ў яго галавах уп'эрак[17]. На шырокім ложку спалі мама й дзьве меншыя дзяўчыны, а на вузкім два хлопцы. А бацька зрабіў сабе каля печы палаці. Старэйшы хлопец і старэйшая дзяўчына спалі на лавах. У 1908 годзе зрабілі большыя вокны з вушакамі.

Куры заўсёды зімавалі ў хаце. Уночы сядзелі пад печчу, а днём хадзілі па хаце. Часта зімой, калі акоціцца авечка, дык на нейкі час бралі ў хату. А таксама калі ацеліцца карова, дык цялё бралі ў хату й да яго два разы на дзень пускалі карову й тут яе падкормлівалі. Калі былі кормныя сьвіньні, дык заўсёды кармілі ў хаце. Нават у маё маленства дык і надворных сьвіней пускалі карміць у хату. А каб цялё браць у хату ў маразы й карову да яго пускаць або акаціўшыся маладую авечку браць у хату, дык гэта практыкавалася, хоць штораз радзей, ажа[18] да

[16] ***Чысты*** — тут: які апранаюць *на выхад, у людзі*.

[17] ***Уп'эрак*** — упоперак.

[18] ***Ажа*** — аж, ажно.

20-х гадоў гэтага стагодзьдзя. Гэта было ня толькі ў нас, але ў вусей[19] вёсцы ды іншых вёсках.

## НАШЫ БУДЫНКІ

Праз сенцы супроць хаты была *істопка* (варыўня). Там зімой ссыпалася ў загарадках бульба ды іншая гароднiна, зімавала квашаная капуста ў кадзі й стаялі жорны. Між хатай і істопкай былі кароткія сені. Там па кутках стаялі маміны кублы з палатном і адзежай. Стаялі карыты, начоўкі й кашалі. Даўна, калі я быў малы, дык зімой каня ўводзілі нанач, каб зладзеі ня ўкралі, а то адну зіму й днём стаяў, бо хлеў быў дрэнны. А таксама сьвіней пускалі карміць. Сенцы былі незастолены[20]. Там на бэльках былі палаці, дзе ляжаў хлуд[21] на вёдры й дзежкі, цэбры й бандарскае начыньне. На бэльках ляжалі новыя, яшчэ не апраўленыя восі, палазы, рагачы для сохаў. Хата, сенцы й істопка стаялі пад адным дахам і накрыты былі саломай пад стрыхоўку.

Была невялікая спрадвечная клець, дзе былі дзьверы на пятнікох[22] і з драўляным замком, будаваная дракай[23] угору. У 1898 годзе пабудавалі новую клець пад шчыльны прыдраны[24] закот і накрылі саломай пад стрыхоўку, а старую клець у 1918 годзе перарабілі на мякіньнік. Яна дастояла да гэтага часу, ёй мае быць каля 200 гадоў. Хлеў стары ў 1901 годзе згарэў, дык пабудавалі новы. Яшчэ хляўчук быў для сьвіней. Як адзін, так і другі хлявы былі зімой халодныя, а летам — гразкія, бо не было подсьцілкі, і статак стаяў у гразі. У гумне быў ток з восецьцю й пуня, крытыя драніцамі, пры дажджох працякалі. У 1903 годзе перасыпалі й накрылі пад стрыхоўку ток, а ў 1905-м перасыпалі й добра накрылі пуню. Гэтыя ток і пуня ў 1936 годзе былі разбураныя калгасам. Снапы сушылі ў восеці й на таку малацілі цапамі. Сьпярша малацілі тата з мамай у два цапы, а калі стаў падрастаць старэйшы брат, дык прыбавіўся й трэці цэп. Неўзабаве падрасла й сястра, дык мама заставалася дома, а калі стаў малаціць я, дык малацілі ў чатыры цапы. Малацьба цэпам, хоць работа й не цяжкая, але прыкрая: адно тое, што было сьцюдзёна, калі малацьба зацягвалася да маразоў, а другое, што патрэбна было заранье ўставаць (ад першых петухоў) — каля 12—2 га-

---

[19] ***У вусей*** — ува ўсёй.

[20] ***Незастолены*** — бяз столі.

[21] ***Хлуд*** — дошчачкі, падрыхтаваныя для бандаркі; банда́рка — занятак па вырабе судзьдзя (АВ).

[22] ***Пятнік*** — прыладзьдзе, якім дзьверы прымацоўваліся да вушакоў (АВ).

[23] ***Дра́ка*** — рыскі на бярне, зробленыя драчкай пры пабудове будынку (АВ).

[24] ***Прыдра́ць*** — драчкай зрабіць рыскі на бярне (АВ).

дзіны ночы. Асабліва было прыкра адкалочваць кулí з жытняй саломы для крыцьця страхі.

Зямлі мы мелі паўсялібы: каля шасьці гектараў пахані[25] й каля двух гектараў балотнай сенажаці.

## НАША СЯМ'Я

Сям'я наша складалася з васьмі асобаў: бацька, матка й шасьцёра дзяцей. Трое старэйшых за мяне, а двое маладзейшых. Бацькі жылі бедна й сьціскліва[26], і я гадаваўся ў вялікай нэндзы. Як стаў сябе памятаць, дык як лета, так і зіму я быў адзеты ў ізрэбную кашульку, а пасьля шасьці гадоў у гэткую кашульку й нагавіцы, а іншага ніякага адзетку ня меў. У гэткім убраньні летам гуляў на дварэ, а зімой у хаце на печы ці за сталом. А калі трэ' было вон выходзіць, дык у такім уборы бегаў і па сьнезе ў самыя вялікія маразы. А часам, кашулю падняўшы, лазіў у самыя глыбокія сумяí[27].

Бацька быў высакаваты, тонкі, твар доўгі, вузкі, лоб высокі, але лысы ня быў і ў далёкай старасьці (дажыў да 93 гадоў); меў моцныя рукі й зоркія вочы. Ягоны пракос быў значан, а таксама й баразна. Але сілы ня меў, бо пасьля некалькіх дзён запар цяжкай працы ён слабеў і мог захварэць і некалькі дзён праляжаць у пасьцелі. Да работы пільнасьці ня меў і быў нярупны. Характар меў цьвярды. Быў сьціхлівы да скупасьці, але справядлівы, як то кажуць: *"І чужога не хачу, і свайго не пушчу"*.

У чужыя спрэчкі й звадкі не хацеў умешвацца й за сьведку не хацеў ісьці. Але калі жэўжыкі якія ці чужыя робяць каму шкоду ў яго на вачах, дык ён вымушаны быў умяшацца ў справу й гарэзу ўшчунуць і пакараць (гэта правіла ў яго захавалася ад тых часоў, калі ён быў малым), а за гэта ўсе жэўжыкі-гарэзы яго вараваліся[28] і перад ім не адважáліся рабіць шкоды й распусты. Калі аднаго разу чужыя дзеці ў сваім гумне летам, калі нікога не было дома, разлажылі агонь недалёка ад пуні, дык ён асьцябаў іх дубцом. Аднаго разу ён ішоў полем і ўбачыў, што жэўжыкі-распусьнікі ўцягнулі чужое жарабя ў глыбокую сажалку, каб яно плавала, дык ён пайшоў і разагнаць гэтых вырванцаў[29]. Але Каралёў Міхалка быў спрытны лягтыка[30] (яго ніхто ня мог дагнаць) і вялікі

---

[25] ***Пáхань*** — ворная зямля (АВ).

[26] ***Сьцíсклівы*** — ашчадны, які на марна нічога ня пусьціць (АВ).

[27] ***Сумéй*** — нанесеная гурба сьнегу (АВ).

[28] ***Варавáцца*** — высьцерагацца, пабойвацца (АВ).

[29] ***Вырвáнец*** — разбэшчаны малады чалавек, што можа ўвачавідкі з рук нешта выхапіць (АВ).

[30] ***Лягтыка*** — лёгкі на бягу; бягун (АВ).

распусьнік, стаў дражніцца зь ім ды адбягацца, але бацька кінуўся за ім бегчы, і скора дагнаў, і адсьвянцію[31] повадам. А бацьку тады было каля 60 гадоў, але ён малады быў выдатным лягтыкам.

Калі ён быў маладым, меў вельмі добры зрок, што за 16 кілямэтраў заўважаў мястэчка й разрозьніваў у ім будынкі, але й на блізкую мэту ён мог добра заўважаць і знайсьці тое, што нехта схаваў. Калі ў 1918 годзе ня можна было трымаць стрэльбаў, дык мой меншы брат, калі хадзіў на цецерукі, дык хаваў стрэльбу на полі ў крушні. Дзеці пасьцілі сьвіньні й, знайшоўшы гэтую стрэльбу, перахавалі ў жыце. Брат ня мог знайсьці гэтай стрэльбы, бо цэлае поле было ўжо вялікага жыта. Пайшоў бацька шукаць, прайшоў некалькімі межамі й за гадзіну знайшоў гэтую стрэльбу. Часамі ў неспакойныя часы [у 1919—1921 гадох] мы хавалі паперы ў саламяных стрэхах, а пасьля не маглі знайсьці, дзе схавалі, дык прасілі бацьку пашукаць. Ён толькі паглядзіць на салому, палезе й знайдзе, а яму тады было каля 75 год. Ён ніколі не ўжываў мыла: тлумачыў, што гэта паскудзтва, бо яго робяць з здохлых сабак. Ён у лазьні мыўся венікам, а дома чыстай вадой, а калі рукі часам забруджаны дзёгцем, дык адмываў, шаруючы пяском ці попелам. Насіў белыя нагавіцы й кашулю, каб пядзі не хапала да калень. Анучы накручаны туга, гладка й аборкі нацягнены. Ягоны й пласт як спрасаваны, і капа[32] тугая.

Два разы на ягоным жыцьці я бачыў яго п’яным. Адзін раз, калі я быў зусім малы, дык ён насіў чынш у воласьць, і прыйшоў адтуль п’яны, і ляжаў на палу. Мусіць, паважны чалавек змусіў яго, што ён не адважыўся адмовіцца. Назаўтра рана ён устаў і пайшоў бульбу пераворваць, а я пайшоў памагаць зьбіраць, але баяўся ў ягоныя сьляды ступаць, бо мне яшчэ перш у галаву ўбілі, што ў п’яным чалавеку нячыстая сіла сядзіць. Хоць бацька быў ужо ня п’яны, але я сумняваўся, ці выйшла зь яго нячыстая сіла. Другі раз, калі ён быў у карчме, дык туды заехаў ягоны дзядзька з Прудкоў — Ґрыцаль. Гэты раз ён вельмі ветлы быў, жартаваў, чаго зь ім ніколі не бывала. Ён сябе трымаў перад дзяцьмі ў сям’і афіцыйна, каб лішняга слова не сказаць, як пэдагог у школе; калі хто зь дзяцей скажа непатрэбнае слова, дык зразу заўважыць.

Матка была клапатлівая, працавітая, заўсёды рабіла, заўсёды сьпяшыла. Яна адначасова і ў печы паліць, і шые ці лапці пляце, і заўсёды гаворыць; магла за вечар чатыры-пяць пар лапцей сплесьці. Калі толькі зімой бацька паедзе ў лес, а яна адна застаецца дома, дык прадзе і ў паўголаса песьні пяе, і кожны раз усё новыя, усё іншыя, а калі ў вёсцы дзе ладзіцца вясельле, дык яна вясельныя песьні пяе. Пеючы песьні, яна заўважае, калі й ад каго яна гэту песьню навучылася. Калі сьвятам

---

[31] ***Адсьвянціць*** — тут: адсьцябаць.

[32] ***Капá*** — куча сена восем пластоў (АВ).

ці ў Сьвятыя Вечары калядоўкай[33], дык яна дзецям казкі апавядае. Калі толькі хто зь дзяцей заўважыць, што тата прыехаў на двор зь лесу, дык яна спыняе песьні з словамі:

— *Producing: Дося ўжо пець, а то бацька крыўляцца будзе.*

І сапраўды, бацька не любіў гэтага, уважаючы гэта блазенствам. Яна з пашанай успамінала сваю сям'ю, казала, што ў іх было шмат бабаў, дык яны, прадучы, заўсёды пелі, а калі часам не сьпяваюць, дык дзед загамоніць:

— *Чаму вы, бабы, не сьпяваеце?* — дый сам песьню зацягне, "Мяцеліцу" ці "Каляду".

У маткі яшчэ адна была асаблівасьць памяці, як бы гістарычная. Яна знала амаль усіх людзей сваёй парафіі й іхнае радавое паходжаньне. Хто каму які сваяк, каму далёкі, а каму блізкі. Хто тут спрадвечнага роду, а хто наезны. Даўна асабліва паважаліся тутэйшыя прадвечныя жыхары, а новыя былі не ў пашане: *"Адкуль жа ён?" — "А з усяго сьвету"*.

Старэйшы брат Янка быў змалку гадоў працавіты, рупны, старалы[34], ён кожны час знаходзіў нейкую работу, праўда, ягоная работа была марудная, бо ён стараўся разгледзець, дзе трэба разьмераць. Ён змалку гадоў стаў рупіцца, каб стрэхі не цяклі, каб сьнег ня веяў у хлеў. Стаў сачыць за працай на полі й практыкавацца зь зямлёй, каб лепей расло збожжа. Мог чытаць кнігі, любіў іх, разьбіраўся ў палітыцы й нацыянальным пытаньні, а з паяўленьнем "Нашай Нівы" стаў сьвядомым беларусам.

## Харчаваньне

Харчаваньне ў нашай сям'і было простае й аднастайнае. Сьнеданьне зімой — зазвычай вараная бульба з шалупінамі й хлеб. Як кажуць, *хлеб у нашай вёсцы быў траякі: белы, чорны й ніякі*. Белы хлеб (значыць, зь веянага жыта безь мякіны) у нашай вёсцы елі тры-чатыры хаты, а рэшта — чорны або ніякі. Чорны хлеб меў дзьве асаблівасьці: *якродзілся* (гэта хлеб толькі з тэй мякінай, што намалочаная разам з жытам з адных і тых снапоў) і ў дадатак да гэтай самай мякіны дасыпалася яшчэ іншая: льляная[35] ці грацковая[36]. Большая палова нашай вёскі ела хлеб *якродзілся*, а меншая — зусім чорны з дасыпанай мякіны. Змалочанае й ссыпанае жыта зь мякінай на хлеб — звалася *хлебніца*. Калі трэ' было ехаць у млын, дык хлебніцу ў мяхі набівалі таўкачамі. У нашай сям'і хлеб елі *якродзілся*, ды яшчэ нават насявалі на рэшата,

---

[33] ***Калядоўка*** — працяг часу каля двух тыдняў да Каляд і два тыдні пасьля Каляд (АВ).

[34] ***Стара́лы*** — рупны (АВ).

[35] ***Льляны*** — ільняны.

[36] ***Грацкоўе*** — салома ад грэчкі (АВ).

каб пяску й дробнага пылу не было. Часам на сьняданьне да хлеба й бульбы варылі зацірку, ці кулагу, ці подкалатку, калі было чым біць, ліць ці запраўляць, хоць зрэдзь, поліўку.

На *зацірку* бяруць звычайна ячную муку ў місачку ці начовачкі, спырскаюць вадой ды труць, дык частка гэтай мукі саб'ецца ў клёцачкі рознай велічыні, а пасьля іх у вар засыпаюць.

*Кулага* — гэта проста на вар сыплюць муку ды хутка мяшаюць, каб сухой мукі не было й каб ня зьбілася на вялікія клёцкі.

*Подкалатка* — гэта звараная, абіраная й парэзаная на дробныя кавалкі бульба, а калі прыварыцца, дык яе падкалочваюць ячнай мукой. На абед варылі шэрую (зь лісьця) капусту й ґруцу, большай часткай тоўчаную ў ступе. Найболей у гэту ґруцу дабаўлялі бобу, гароху або скобленай (абіранай) і парэзанай на кавалкі бульбы. На вячэру найболей заставалася гэтай самай стравы ад полудня[37], а часам варылі цёплай бульбы. Вясной страва мянялася, бо пасьля засеву бульбы яе ўжо не было, і да вясны квашаная капуста канчалася. Вясной варывам былі кіслыя буракі або маладая крапіва з кісьлёй[38], а часам з буракамі. А калі цяплела, дык вырастала шчаўе. Вясной на сьняданьне варылі кулагу ці зацірку або халаднік з шчаўя й елі з хлебам. Але калі бульбы не было, дык хлеб быў надта няспорны[39], то склалася й прымаўка: *"Трэба хлеб пакідаць к бабовому цьвету"* (г. зн. на канец чэрвеня — пачатак ліпеня). Летам на варыва варылі лебяду, маладую сьвірэпку з шчаўем, асацец[40], трыпутнік.

Калі пасьпявала жыта й вырастала новая бульба (а цыбуля-пер'е яшчэ перш каля Купальля вырастала), дык тады харчаваньне вёскі паляпшалася: варылі скобленую бульбу й пяклі смачны пахнючы хлеб з новага жыта. Калі бульба пераставала скабліцца (калі на ёй прысыхала шалупіна), тады пачыналі яе зноў варыць з шалупінамі. Але калі каторы год, бывала, бульба лепей зародзіць, дык часамі абразалі зьлёгку шалупіну ды варылі салёную бульбу або, зварыўшы бульбу з сольлю, яе таўклі на кашу ды засквараалі салам. Страву ў скаромныя дні бялілі малаком, а часам затаўкалі[41] здорам ці кідалі скварку сала ды, калі зварыцца, яе расьціралі. Гэтаксама й з затаўкай[42]: калі каляду[43] лепшую

[37] ***Полудзень*** — есьці ў палавіне дня (АВ).

[38] ***Кісьля́*** — чырвоная вада, дзе буракі кісьлі (АВ).

[39] ***Спорнае*** — тое, што не ўбывае; спорны — багаты, безубытковы, трывалы.

[40] ***Асацэ́ц*** — відаць, маецца на ўвазе асот гародны.

[41] ***Затаўка́ць*** — заправіць тлушчам, нечым тлустым.

[42] ***За́таўка*** — здор, саланіна ці мяса, што кідаюць у гаршчок, каб страва была смачнейшая (АВ).

[43] ***Каляда́*** — тут: сьвіньня, якую білі на Каляды.

білі, дык затаўка даўжэй цягнулася, а калі часам сьвіньні выдыхалі, дык зусім цэлы год быў посны. У лепшыя гады наша мама ўмела куркулявацца[44], каб канцы з канцамі стачыць, як з затаўкай, так і зь іншым харчаваньнем. Яна ўсё паўтарала прымаўку: *"А, мае дзеткі. Лепей доўгі голад, як кароткі"*, значыць: лепш даўжэйшы час скупей харчавацца, чымся падскочыць такі час, што ўсё выйшла і ўзяць няма адкуль.

У нядзелі ці сьвяточныя дні зусім іншае было харчаваньне — значна ласейшае[45]. У нядзелю й сьвята заўсёды пяклі бліны. На першае сьняданьне гарачыя бліны часам мазалі здорам ці перапусканым[46] лоем, калі такі быў. На абед (каля 10 гадзіны) варылі расол, калі гэта было восеньню, калі рэзалі авечкі, або зімой, калі білі каляду. А вясной і летам, калі сала цягнулася, дык варылі *мачаньне*. Яно рабілася так: разбоўтвалі бітыя яйкі на салодкім малацэ, а калі малака было вобмаль, дык на вадзе, дамешваючы сюды проста ячнай мукі, калі не было лепшай. Рассквармалі сала ды скваркі з тлустасьцю ўлівалі ў маленькі саганчык ды сюды ўлівалі гэтыя разбоўтаныя яйкі з мукой і варылі ў лёгкім духу памешваючы. Мачаньне мачалі блінамі й елі па скварцы. Найлепшым ласункам было, як на вячэру ў восеці (калі там сушылі снапы) сьпякуць кашалёк бульбы, якая вельмі пахнула й смакавала.

У цяжкія гады, як у нашай сям'і, гэтак і ў бальшыні сялян нашай вёскі, калі вясной не хапала хлеба, дык бралі пазыку збожжа з магазыну[47], але хлеб з магазыновага жыта быў горшы, як з хлебніцы, бо гэта жыта было тухлае, а часам паедзенае мышамі.

Калі патроху наша гаспадарка стала паляпшацца, дык і харчаваньне стала паляпшацца, асабліва гэты зрух пачаўся з 1904—1905 году[48], але хлебніца практыкавалася аж да 1920-га. За майго дзяцінства веянага жыта пакідалі ня болей як шаснастку (1,5 пуда)[49]). Белы хлеб тады пяклі к Дзядом, к Вялікадню ды краўцам, калі шылі. І пакідалі чыстага жыта на ссыпшчыну[50] пастуху. Але пасьля гаспадарчага зруху больш пакідалася чыстага жыта й часьцей пяклі белы (веяны) хлеб. Пасьля ў нас харчаваньне стала паляпшацца, бо было, хоць і далёка ад добрых, але па дзьве каровы, дык, апрача забелкі стравы, і малака збанок-другі

---

[44] ***Куркулява́цца*** — выгадваць, вымяркоўваць, эканоміць; ад *калькуляваць* 'падлічваць'.

[45] ***Ла́сы*** — тут: багаты, сытны; скаромны, тлусты.

[46] ***Перапу́шчаны*** — ператоплены.

[47] ***Магазын*** — тут: склад.

[48] Маецца на ўвазе гаспадарчы год, які не супадае з каляндарным; гаспадарчы год пачынаўся зь сяўбою азімага й канчаўся дажынкамі.

[49] ***Шасна́стка*** — мерка збожжа, шаснаццатая частка бочкі, каля 22 кг (АВ).

[50] ***Ссы́пшчына*** — плата натураю, зьбіраная з усіх, хто карыстаўся паслугамі нанятага работніка.

на тыдні зьбіраўся; хоць і слабая, але затаўка была нязводная. У нас летам пры цяжкай працы была трывалай і ўлюбёнай стравай ґруца з бобам, густавата зварная й кілбасой затаўканая, восеньню — густы булён з пасоляй.

## Статак

Статку было мала. Статак ня вёўся, бо былі дрэнныя хлявы, дрэнныя харчы, ды й таго не хапала.

Калі я пачынаў памятаць, у нас былі два быкі, маладзенькі жарабочак — два гады на трэці, карова (як кажуць, ні бык ні карова) давала малака па кварце на дзень, а Спасам зусім зарывала[51], цялушачка другім годам і некалькі сьвіней, а авечак пускалі ўзіму тры-чатыры.

Памятаю, як вясной бацька з валом гнаўся араць і мяне на сасе падвозіў; пасьля, бадай гэтага самага лета, таксама памятаю, як праз сон, што хворыя быкі стаялі на гумне (здаецца, тады на статак была нейкая пошасная хвароба). Адзін бык, падласы[52], выхадзіўся, а другога, рыжага, прадалі. На наступны год бацька спрагаўся[53] з Брытам, бо ў нас быў адзін бык і ў яго быў адзін бык; аралі па дню: дзень араў тата, а дзень — Брыт.

Недзе гэтымі гадамі з пошаснай хваробы ўсе сьвіньні выдахлі. На трэці год пасьля гэтага мне быў пяты год, дык прадалі апошняга быка, а сталі прывучаць да воранкі[54] гэтага маладзенькага коніка, якому было тры гады. Араць заўсёды хадзілі ўдвух бацька й старэйшы брат. Бацька араў, а брат каня вадзіў. Але гэтай самай восені ў жытнюю сяўбу гэты самы конік нагу зламаў. Памятаю, мяне і ўсю сям’ю разбудзіў плачлівы голас пад вакном старэйшага брата Янкі, які быў на начлезе:

— *Тата, тата! Конь нагу зламаў.*

А сталася гэта так. Быў у нашай вёсцы селянін Цёрла, які трымаў старога (сем гадоў) кусьлівага жарабка, які коні заядаў. Вось гэты кусьлівы конь стаў ганяць і кусаць нашага спутанага каня й прыпёр яго ў кут да плоту й тут, брыкаючы ды кусаючы, нагу зламаў нашаму каню. Бацька падаў скаргу ў валасны суд. Валасны суд прысудзіў гэтую бяду папалам. Ацанілі гэтага Цёрлавага кусьлівага каня 24 рублі. Калі гэты конь застанецца ў Цёрлы, дык Цёрла павінен заплаціць тату 12 рублёў. Цёрла не захацеў плаціць 12 рублёў і браць свайго каня, дык гэтага каня кусьлівага аддалі нам, а тата пазычыў у Мацея 12 рублёў ды сплаціў Цёрлу. (Гэты кусьлівы конь дажыў у нас да 25-гадовага веку.)

---

51 ***Зарва́ць*** — пра карову: спыніць даваць малако (АВ).

52 ***Падла́ска*** — імя каровы, калі сама чорная ці рыжая, а ніз тулава белы (АВ).

53 ***Спрага́цца*** — калі два гаспадары маюць па адным быку, дык запрагаюць абодвух у вадну саху ды аруць па чарзе (АВ).

54 ***Во́ранка, арба́*** — узьніманьне зямлі (АВ).

Вышэйуспомненая цялушачка падрасла й праз тры гады ацялілася. Зь яе выйшла нядрэнная кароўка. Яе звалі *Пяцярэня*, бо ў пятніцу радзілася. Але ад яе не маглі загадаваць[55] статку. Мабыць, цяляты ад яе былі тубэркулёзныя. Некалькі цялушак ад яе гадавалі, але на другім або на трэцім годзе тыя дохлі. Праз год, праз два сьвіная пошасная хвароба паўтаралася, але гэта было паўбяды.

Кожны год уся свая зямля адсявалася й скошвалася сенажаць, ды яшчэ ў дадатак да гэтага кожан год на чужым полі больш як гектар засявалася жыта й больш як гектар ярыны, ды тры-чатыры вазы сена, хоць балотніцы[56], дакошвалася на чужым, — выхаду з нэндзы не было.

Калі зімой статку не хапала харчоў, а летам подсьцілкі для статку зусім не было, дык выходзіла надта мала гною, і зямля была ня ўгноеная й радзіла кепска. Гною хапала толькі на гароды, на бульбу ды на якіх двое гоняў[57] гароху. Гародніна дае вялікую падмогу ў харчаваньні кожнай сям'і, а асабліва бядняцкай, але, хоць да гародаў у тыя гады дадавалася шмат працы, яны нават не аплачваліся за гэтую працу й бадай ніякай карысьці не давалі. А прычынай гэтаму ўсяму было тое, што твыкінуліся[58] туманы й пачарнеў увесь бульбеньнік. Той год бульба была як гарэхі, і яе захавалі толькі на насеньне.

У яравой зьмене сеялі апрача бульбы па сырэйшых месцах авёс, а па пяскох — ярыцу. Каля гектара прысявалі ярыны на чужой зямлі (аўса й ярыцы).

У папарнай зьмене сеялі на леташнім бульбянішчы раньні ячмень, а на аўсяньні[59], калі выставалася гною, дык сеялі гоні-другія гароху шэрага. Хоць нашы сяляне й ведалі прыкмету: *"Гарох кажа: сей мяне на сёмы год, дык будзеш багат"*. Гэта азначае, што гарох трэба чаргаваць з пасевам, каб на адным і тым самым месцы раней ня сеяць сёмага году. Але нашы сяляне гэтага мала прытрымліваліся, бо вытыкаць між суседняга папару было непажадана: селянін, пасучы авечкі й сьвіньні на гэтым папары, ня быў забясьпечаны ад таго, што тыя не аб'ядуць пасеянага, ды й суседзі будуць наракаць, што пярэчкі робіць на полі. Таму й прымушаныя былі сеяць гарох што трэці год; гарох вырастаў зусім дрэнны, а гэтая мясьціна травянела пырнікам, падбелам ды іншымі травамі. Восеньню і ячаньне[60], і гарохаўе[61] ладзілі пад адсеў

[55] ***Загадава́ць*** — разьвесьці (АВ).

[56] ***Балотніца*** — сена з балотнай сенажаці (АВ).

[57] ***Гоні*** — мерка пахані надоўжкі, каля 50 м (АВ).

[58] ***Вы́кінуцца*** — нечакана зьявіцца (АВ).

[59] ***Аўся́ньне*** — пахань, дзе рос авёс (АВ).

[60] ***Я́чаньне*** — пахань, дзе рос ячмень (АВ).

[61] ***Гаро́хаўе*** — пахань, дзе рос гарох; тое ж, што й гарахаві́на, — салома ад гароху (АВ).

на жыта. Вядома, што на трэці год расло благое жыта на ячаньні й на ўдзірванелым гарохаўі, ды ня лепшае расло й на папары на пяску. Праўда, сяляне скардзіліся, што пад водсевам[62] зямля зьярэла[63]; добра было б даць гадок адпачыць — пакінуць пад папарам, але ж ня будзе дзе пасеяць ячменю на груцы й гароху, каб дасыпаць у груцу. І вось такім чынам у ярной зьмене кожны трэці год спрадвякоў бульба пільнавалася свайго месца, авёс свайго, а ярыца свайго, а ў папарнай зьмене таксама ячмень спрадвякоў пільнаваўся свайго месца, а гарох — свайго.

Сеялася кожны год на чужым (запасным дворным) полі больш як дзесяціну жыта й больш як дзесяціну ярыны (аўса й ярыцы). За зямлю ў двор аддавалі трацяк[64] снапамі. З жыта малая была выгранка[65], а на ярыне бадай што была ўтрата, бо авёс пазычаўся ў магазыне, а насеньне ярыцы было сваё, але кожны год колькі расьсявалі ярыцы, столькі й намалочвалі. А ярычная салома для харчу статку не прыгодна.

З 1903—1904 году ў нашай гаспадарцы зрабіўся зрух да лепшага. У 1903 годзе, як ужо ўспаміналася, не ўрадзіла бульба, але насеньне захавалася. Трохі лепей было з жытам і ячменем. У той год жыта былі прысеялі ў Зацішшы больш як дзесяціну; падралі стары дзірван, дык жыта парасло лепшае як на гноішчы[66]; гэта бадай быў адзіны выпадак у нашай гаспадарцы.

Гэтага самага году малацілі ярыцу, сушачы снапы ў восеці, але восець была разгніўшы, кепска грэла, дык гэтая ярыца падпарылася і ў 1904 годзе не ўзышла. З гэтага году мы перасталі сеяць ярыцу — гэтую ўбытковую пашню[67]. А на сваёй пясчанай зямлі, дзе ня мог расьці авёс, сталі сеяць грэчку. Гэтыя гады сям'я стала падрастаць, дык болей пачалі накошваць — хоць благога, балотнага — сена; прыбыло гною. Сталі меркаваць, каб у папарнай зьмене сеяць гарох там, дзе ён ніколі ня быў; то стаў радзіць гарох. Іншы год намалацілі больш як бочку (бочка — 25 пудоў)[68]. Гарох малацілі й пытлявалі для сябе на бліны. Гарохам кармілі сьвіней. З гарохаўя была добрая сечка для статку. З 1907—1908 году сталі сеяць на пясчаным папары лубін, дзе пасьля яго жыта расло лепшае, як на гноі. Гэтыя паляпшэньні рабіліся пад уплывам старэйшага брата, Янкі. Ён жа зьвярнуў увагу й на гарод, асабліва на капусту. Ён закамандаваў капусту садзіць рэдка (на 3/4 аршына

[62] ***Водсеў*** — пасеянае жыта пасьля нейкай іншай пашні (АВ).

[63] ***Зьяр́эць*** — адзічэць, спусьцець (АВ).

[64] ***Трац́як*** — тут: трэцяя доля.

[65] ***Вы́гранка*** — дабытак, карысьць, задаваленьне (АВ).

[66] ***Гноішча*** — угноеная зямля.

[67] ***Пашн́я*** — усе культурныя расьліны, што гаспадар сее на полі (АВ).

[68] ***Бочка*** — мерка на збожжа, каля 3 100 кг (АВ).

каліва ад каліва) бяз град, каб пасьля яе можна было абганяць удоўж і ўпоперак. Ён жа стаў сеяць дзічкі й загатаўляць шчэпы для будучага садка.

## ПЭДАЛЯГІЧНЫЯ Й ПЭДАГАГІЧНЫЯ НАЗІРАНЬНІ [МАЛЕНСТВА]

Восеньню перад Ружанцовай[69] у сям'і Адама й Магдалены нарадзілася чацьвертае дзіця — хлопец Язэп. На Ружанцовую быў кірмаш у К[орані] і хлопца павезьлі хрысьціць. Вядома, дзяцей хрысьцілі пасьля набажэнства, а кумом трэба было пахадзіць па кірмашы, пабачыцца з знаёмымі з далёкіх мясьцін. Кумоў жа на гэты дзень прыехала шмат больш за дзесяць, дык яны пазносілі дзяцей да Галіяшыхі й заложылі гэтымі дзецьмі ўсю лаву, а самі пайшлі на кірмаш. У гэтую хату заходзіліся кірмашнікі выпіць па чарцы й пакурыць або так папалуднаваць[70] з свайго клунка.

Калі, перахрысьціўшы дзіця, прыехалі дамоў, гэтага ж дня былі й хрэсьбіны. Пасьля хрэсьбін захварэла маці на палагавую[71] гарачку, захварэў і Язэп. У дзіцяці ў часе гэтай хваробы па ўсім целе напала скула[72]. Хлопца купалі й даглядалі бабы-суседкі. Пасьля шасьці тыдняў маці паправілася, а дзіця не. Хварэла яно на гэтыя болькі цэлы год і плакала як дзень, так ноч. Якіх лекаў суседкі ня радзілі, дык матка і ўжывала іх. Каб хоць на нейкі час супакоіць дзіця ад плачу, у вёсцы быў ужо выпрабаваны сродак — паіць параным макам. Калі толькі матка ўложыць дзіця ў насоўку купаць, дык уся вада пачырванее ад крыві з гэтых болек. Нарэшце ёй настроілі[73] выціраць цёплым сьвежым хлебам тыя болькі ды гэты хлеб аддаваць сабаку. Ці ад гэтага, ці не, але праз год болькі прапалі й дзіця супакоілася. Цэлы другі год хлопец зусім маўчаў, хоць калі й ня спаў, дык і не спрабаваў гаварыць. Матка бедавала, што, пэўна, яно будзе нямое. Але на трэцім годзе дзіця стала размаўляць.

Першая памяць захавалася ў Язэпа да старасьці: сядзіць ён на печы за стаўпом і глядзіць на застольле, а там поўна людзей, бабы ў белых хустках. Гэта былі хрэсьбіны ягонага наступнага брата, калі самому Язэпу было два гады й пяць месяцаў. Далей ён памятае: калі яму быў трэці год, як сядзіць ён у некага на руках, а той іншы сядзіць на нейкай чужой печы, а за сталом іграюць музы́кі. Язэп тады першы раз

[69] **Ружанцовая (нядзеля)** — першая нядзеля кастрычніка.

[70] ***Палу́днаваць, палу́дневаць*** — есьці галоўны абед (АВ).

[71] ***Палагавы́*** — радзільны, ад *палог* 'роды'.

[72] ***Ску́ла*** — болька, якая ўтварылася ад захрасаньня потавай адтуліны (АВ).

[73] ***Настроіць*** — нара́дзіць (АВ).

пачуў голас скрыпкі, але яму й цяпер здаецца, што тыя музыкі ігралі не смыкамі, але пілачкамі.

Яшчэ Язэп памятае бадай што першую сваю інтэлектуальную праяву: хата адчыненая насьцеж, ён стаіць ля парогу, а парог яму ледзь не да барады. Ён, аднэй рукой апёршыся на парог, другой трымае кветку альясу[74] й гэтай кветкай адбівае такты аб парог ды сьпявае: *"Ак, ак, ак, ак. А-ка-ка-ка-ка-ка-ка-а-а-а"*.

Язэп убачыў, што маці кагось кранула пад бок, ды яны абое сталі сьмяяцца. Ён бадай што ўпершыню адчуў сорам і спыніў свае сьпевы. Хлопец налёгся грудзьмі на парог, тады ногі перакінуў праз парог, як і заўсёды, калі пералазіў праз гэтую перашкоду, і выйшаў у сенцы ды пайшоў на двор.

Калі Язэпу было тры гады, ён нечакана й для сябе, і для маці зрабіў экскурс на прыроду. Ён бачыў, што бацька праз вуліцу пайшоў у гарод; пачакаўшы, і ён туды надумаўся пайсьці. Бацька выйшаў за гарод, павярнуў направа да свайго шваґра, там абуў боты дый падаўся ў К[орань] на кірмаш. А хлапец, выйшаўшы з гароду, пасунуўся мяжой проста на поле. Сышоўшы на аселачку[75], ён убачыў шмат красак. Зьбіраючы гэтыя краскі, Язэп падаваўся ўсё далей і далей ад дому. Ён памятае, як ішоў у лагу Рымаўшчына каля сажалак, далей апынуўся каля балота на хутары Пятроўскага — больш за два кілямэтры ад свае вёскі. Нейкая дзяўчына несла яго на руках, ён думаў, што гэта ягоная старэйшая сястра Ганна. Памятае, што, калі яна стала перамяняцца з рукі на руку, ён ачхнуўся[76]. Было ўжо хмарна. Дзяўчына ішла па лагу між высокай травы. Хлопчык палажыў галаву ёй на плячо ды зноў заснуў і ня памятае, як яна прынесла яго ў вёску й дапыталася, чыё гэта дзіця. Матка, прыйшоўшы з кірмашу, не знайшла ў хаце хлапца. Яна ўсюды шукала, нават у бліжэйшых студнях крукам ваду боўтала, бо думала, што можа дзе ў студню ўваліўся. Нарэшце вечарам пачула, што Пятроўскага Міхаліна прынесла ў вёску дзіця, якое да іх прыблудзіла.

Першую вялікую крыўду адчуў Язэп ад людзей, калі яму было чатыры гады. Ён выйшаў на вуліцу й стаў, аж выбягае з свайго двара Мацеяў[77] Антось і падбягае да яго. Гэты Антось сагінаецца й бярэ зь зямлі ў рукі жыдкога кароўяга калу — поўныя прыгаршчы, а тады як кіне, ды Язэпу на жывот: зарабіў кашулю аж да падалá[78]. Антось пабег дамоў (ён быў старэйшы за Язэпа на паўтара года). Язэп стаў плакаць, але баяўся й стыдаўся ў гэткім убраньні ісьці дамоў, а пайшоў да карыта

---

[74] У машынапісе: *šlasu*.

[75] ***Асе́лачка*** — малая аселіца; асе́ліца — прысялібная сплаўная сенажаць (АВ).

[76] ***Ачхну́цца*** — разбудзіцца (АВ).

[77] ***Мацеяў*** — форма роднага склону множнага ліку ад вулічнага імя Мацей.

[78] ***Падол*** — самы ніз адзежыны (АВ).

ля студні на вуліцы, каб замыць кашулю, аднак толькі горай распэцкаў. У гэты час ягоны бацька выходзіў з двара араць ды ўбачыў, як Язэп, запэцканы, пялешчацца ў карыце, дык ён некалькі разоў ужарыў[79] аробіцай[80], а сам пайшоў араць.

Язэп першы раз у жыцьці пачуўся так моцна пакрыўджаным, зусім бязьвінна пакараным — то й ад чужых, але й ад сваіх. Ён на двары нават і не застанавіўся, бо як жа ён пойдзе ў хату ў такой кашулі; хлопец пабег, плачучы, праз двор, праз гумно ды на поле. Там, за гумном, трохі раней сьвіньні былі пакапалі ямы, дык ён проста й накіраваўся туды. Там Язэп астаўбаваўся[81] ў аднэй яме й зорка сочыць за сваім гумном. Выходзіла за гумно матка й клікала яго, каб ішоў дамоў; выходзіў і старэйшы брат ды клікаў яго дамоў, але ён пастанавіў сабе ня йсьці дамоў. Як толькі хто памкнецца ісьці да яго, дык ён пакідаў яму й бег далей на поле. З воранкі вярнуўся бацька, яму й расказалі пра гэтую прыгоду. І калі бацька, выйшаўшы за гумно, крыкнуў: *"Ідзі дамоў!"*, то ў Язэпа крыўда й жаль ператварыліся ў невыразны страх перад бацькам, і хлопец, як малы зьвярок бяжыць на льва пры ягоным рове, з гэткім жа страхам пабег у бок гумна да бацькі.

Мусіць, праз год Язэпу ўзноў прыйшлося апынуцца ў бацькавых руках. У старэйшай сястры Ганны была аздобненькая[82], бляшаная, з двума вечкамі скрыначка ад гарбаты. Яна там хавала свае іголкі, шпількі, напарстак, касьнікі. Язэп быў адзін у хаце й, дабраўшыся да гэтай скрыначкі, адчыніў яе, пачаў разглядаць гэтыя рэчы ды парассыпаў іх у пясок. Ганна, убачыўшы, што больш за палову яе рэчаў няма, заплакала й пабегла ў гумно паскардзіцца бацьку. Язэп, памятаючы леташнюю бацькаву пугу, пусьціўся на хітрыкі. Гэта было ўжо зусім пад вечар, то ён лёг у пасьцель і накрыўся, бо ўжо ведаў: сонных біць няможна. Калі бацька ўвайшоў у хату, зразу зьвярнуўся да Язэпа:

— *Ты сьпіш?*

Хлапчук адказаў:

— *Сплю!*

Тады бацька сьцягнуў яго за руку з ложка ды, не выпускаючы з рук і круцячы каля сябе, сьцебануў некалькі разоў нейкай балючай аборкай, прымаўляючы:

— *Чаго не палажыў — не чапай! Чаго не палажыў — не чапай!*

Як толькі бацька выпусьціў з сваіх рук, Язэп з жалю хацеў расплысьціся сьлязьмі, але бацька так пагрозна крыкнуў, каб змоўк, што плач

---

79 ***Ужáрыць*** — сьцебануць пугай, бізуном (АВ).

80 ***Аробіца*** — пуга, якой карыстаюцца пры воранцы (АВ).

81 ***Астаўбавáцца*** — часова спыніцца (АВ).

82 ***Аздóба*** — хараство (АВ).

адразу спаралiжаваўся. Хлопец хацеў легчы на ложак пад дзяругу, каб хоць цiхенька паплакаць, але бацька зноў рашуча загадаў сесьцi за стол на вячэру (ужо пачыналi вячэраць). А Язэпава месца было за сталом ля бацькi. Прыйшлося сесьцi й хоць нехацям, але мусiў есьцi.

У раньнiя дзiцячыя гады Язэп цацак для гульняў ня меў, а таксама й сяброў не было. Прыкра было зiму праводзiць у хаце бальшынёй на печы, але затое летам было прывольна сярод прыроды. Зь вялiкай урачыстасьцю й высокiм настроем душы спатыкаў ён вясновыя зьявы, з сумным настроем сустракаў жоўтае лiсьце ўвосень.

Ня ведаю, цi гэта ва ўсiх дзяцей у вольны час галава бывае занятая думкамi, цi гэтак было толькi са мною. Асаблiва шмат было думак-фантазiяў у зiмовую бязьдзейнасьць, але не пакiдалi яны мяне й летам. Часам гэтыя думкi iмкнулiся да геройства, да славы. Iду далёка мяжой на поле за васьмёра гоняў ад вёскi й думаю сабе: а што я рабiў бы, каб тут да мяне воўк прыстаў? Пры мне ёсьць торба й хвастач[83]. Трэба набрацца спрыту, каб надзець ваўку на галаву торбу ды завязаць на шыi, а пасьля зачапiць хвастач i прывесьцi яго ў вёску.

Але больш за ўсё мяне цяпер цiкавiць фантазiя колераў. У веку чатырох, а мо й пяцi гадоў, калi я ўспрымаў новы прадмет, ён павiнен быў застацца ў маёй памяцi наглядным — пэўнай формы й колеру. Калi я чуў пра рэчы далёкiя, якiх я ня мог бачыць, а таксама прадметы разумовыя, якiх не мажлiва бачыць, гэтыя прадметы ў маiм уяўленьнi мелi туманную, неакрэсьленую форму, але колер мелi. Гэтыя колеры былi вельмi размаiтыя. Некаторыя я й да цяпер вельмi добра памятаю, напрыклад: Лагойск — на цёмным фоне шмат сьветла-жоўтых крывуль, як ад палазоў; Менск — амаль гэткiя самыя крывулi, але цёмна-жоўтага (залацiстага) колеру сярод такога ж цёмнага фону. Нядзелька — ружовага колеру, як той камень, што ляжыць каля пярэклецi[84]: па iм усходзiлi на пярэклець, калi ў клець iшлi. Пост[85] — колерам i формай шэры як той камень, што ляжаў пад вуглом клецi. Мысьлi — на цёмным фоне група белых плям адна ля аднэй. Думка — сярод цёмнага фону група сiвых плямак з жаўтаватым адценьнем па краёх, адна ля аднэй, форма iх падобная да вока, а сярэдзiна плямкi цямнейшая. Вёска Лiшчыцы — на цёмным фоне група сiвых плямаў з пунсовымi краямi. Вёска Прудкi — група стоцевых[86], сiвых, падобных да ляскоых[87], кiйкоў. Вёска Церахi — гру[па] сiвых хваль. Вёска Чэрнева —

[83] ***Хвастáч*** — ручнiк з махрамi на канцы (АВ).

[84] ***Пярэ́клець*** — шырокi ґанак перад клецьцю (АВ).

[85] У машынапiсе: *Poast*.

[86] ***Стоць*** — проста з гары на дол (АВ). Стоцевы — вэртыкальны; стоцевая (як назоўнiк) — вэртыкаль.

[87] ***Ля́ска*** — прыгожы кiрмашовы кiёчак (АВ).

група чорных хвалістых лініяў адна на аднэй, якія адрожняюцца[88] адна ад аднэй вузенькімі сіваватымі. Вёска Грамніцы — група пунсовых хваляў. Вёска Корань (Клябанія)[89] — сьветла-сінія паўкругі. Калі толькі вялікія гавораць, а я слухаю й засвойваю новыя словы, дык адразу мне ўяўляецца й іх колеры. Калі часам уночы ня спаў, а глядзеў у цемру, то перад вачмі нібы на экране праходзіла фільмовая стужка: рознакалёрныя плямы розных формаў. Але калі стаў падрастаць, дык колеры перасталі цікавіць мяне, а да маляваньня я ня меў ні здольнасьці, ні ахвоты.

Як я пачаў падрастаць, у мяне стаў у вялікай меры праяўляцца непатрэбны, беспадстаўны сорам. Калі чужыя людзі прыходзілі ў хату, я ўцякаў на печ, але найгорай было, калі я быў за сталом ды не пасьпеў уцячы, а чужыя людзі паселі ў канцы стала. Тады я закрываў вочы рукамі й клаўся ніц за сталом і ляжаў датуль, пакуль чужы чалавек ня пойдзе. Аднаго разу прыйшоў Карвацкага Антось, татаў хрышчэньнік[90], а я ня справіўся ўцячы, лёг на лаве. Ён пранёс міску смажаных пахучых кілбасаў і паставіў на стале. І нашы зь мяне сьмяяліся й ён. А тады ён падсунуў да мяне гэтыя кілбасы й сказаў, каб я браў ды еў. Ён доўга ў нас сядзеў, а кілбасы стаялі перада мной, але я ляжаў аж датуль, пакуль ён не пайшоў.

Гэты празьмерны непатрэбны сорам быў вялікай перашкодай бадай на працягу ўсяго майго жыцьця, хоць можа й ня раз перасьцярог мяне ад шкодных чынаў. Гэтая рыса характару часта мяне адпіхала ад людзкога асяродзьдзя й набліжала да прыроды. Калі я меў пяць-шэсьць гадоў, дык блізка[91] гадзінамі пазіраў з узгорку, ад свайго гароду, на захад, дзе на адлегласьці двух кілямэтраў пачыналася наша балота, зь якога выплывае рака Іля. Блізка нашага поля гэтае балота было зялёнае, а чым далей на захад, тым яно выглядала ўсё больш сінейшым, а далёка-далёка сярод гэтай сіняй смугі вытыркала ўгору белая Крамянецкая гара (каля 16 км ад нас).

Вялікае мне сталася шчасьце, калі надарыўся выпадак паехаць у гэтае балота. Было гэта ў суботу перад Сёмухай. Дзень быў цёплы, нават гарачы. Якраз тады быў у нас першую вясну той конь, што адсудзілі ў Цёрлы. Мы ехалі зь Янкам. Гэты конь меў такую натуру, што з гары бег як шалёны. І гэтым разам у Глінішчы з гары так шпарка пабег, што калёсы, б'ючыся аб каменьне, падскоквалі ўгору. Я моцна трымаўся за

[88] ***Адрожняюцца*** — тут: аддзяляюцца.

[89] ***Клябанія*** — паралельная назва вёскі Корань, бо тут мясьцілася плябанія (клябанія).

[90] ***Хрышчэ́ньнік*** — хлопец даводзіцца хрышчэньнікам свайму хрышчонаму бацьку, а дзяўчына хрышчэньніцай (АВ).

[91] ***Блізка*** — тут: амаль.

надубку[92], прыцiснуўшы бараду да надубкi, дык зьбiў сабе бараду. Мы тады згубiлi торбачку з вараным гарохам, што бралi з сабой на полудзень, бо хлеба не было.

Далей увесь час ехалi мiж выплыўшага жыта. Калi пераехалi Баб'ю Лужу — аж калодкi калёс хавалiся ў вадзе, — уехалi ў сасоньнiк, якi запахнуў смалой. Пераехалi гэтую барчавiну[93], далей сунулiся iмшарай па вадзе блiзка па калодкi. Сьмярдзеў багун, а каля нас роем лёталi мухi й авадні. Апынуўшыся на месцы, Янка каня выпраг, павёў i навязаў на палянцы, яны з татам пачалi сена грабiць i выносiць з балота на барчавiну да калёс. Мне надта хацелася па лесе пахадзiць, але баяўся, каб не заблудзiць цi каб ведзьма не схапiла, як сынка Яначаку. Таму я застаўся на паляне, сядзеў пад калясьмi й бараніўся ад мух i сьляпнёў. Калi тата зь Янкам зграбiлi ды ўзлажылi на калёсы сена, яшчэ й ма́ю[94] насеклi к Сёмусе й таксама палажылi на воз. Я ехаў на калесьнiку́[95] й моцна трымаўся за парубень[96].

На чацьверты дзень Сёмухi сястра Ганна пагнала каровы пасьцiць у балота й я за ёй падаўся. Гэтым разам прабыў у балоце цэлы апаўднёвiк[97] i з гэтым балотам трохi распазнаўся[98].

З шасьцi да васьмi гадоў кожнае лета я меў працоўны абавязак: вясной, калi пачынаў усходзiць ґуґоль[99], дык я з торбай хадзiў па полi й зьбiраў яго для статку. Калi вясной сеялi ячмень цi каноплi або грады рабiлi, дык трэ' было курэй пiльнаваць. Летам хадзiлi з торбамi на поле i ў засеяным збожжы зьбiралi траву для кароў i сьвiней, а для сьвiней яшчэ секлi сечкай у карыце. А калi бульба вырастала надвосень[100], дык трэ' было накапаць i наскаблiць бульбы да заўтрашняга дня.

Калi толькi я быў вольны ад хатняй працы, а Ганна была ў полi ля пастуха ды ля сьвiней, дык я iшоў да яе, бо мне прыемна было быць сярод прыроды й хацелася азнаёмiцца з рознымi мясьцiнамi нашага поля.

---

[92] ***На́дубка*** — верхняя падоўжная рама на панарадзе, бiла (АВ).

[93] ***Барчавíна*** — сухазем'е мiж балота, зарослае хвойнiкам (АВ).

[94] ***Май*** — маладыя галiнкi дрэваў, часьцей бярозы, якiмi ўпрыгожвалi хату й двор.

[95] ***Калясьнíк*** — воз сена, наложаны на калёсы (АВ).

[96] ***Парубе́нь*** — кавалак моцнай жардзiны, што снапы цi сена на возе ўцiскаць (АВ).

[97] ***Апаўднёвiк*** — пара з 12 гадзiны да вечара.

[98] ***Распазна́цца*** — пазнаць адно аднаго ня толькi з твару, але й з натуры (АВ).

[99] Вiдаць, маецца на ўвазе **гугаль**, або **куколь**, — пустазельле, якое расьце ў злакавых расьлiнах.

[100] ***Надвосень*** — пара перад восеньню.

Калі мне быў сёмы год, я з татам езьдзіў да мястэчка й там тата мне купіў новую шапку за дваццаць капеек, і гэта лета[101]. Марцін скроіў з татавай старой сярмягі мне сярмяжку, а мама пашыла, дык я ад жніва гэтага году ўжо самастойна пасьціў свае каровы. А наступным, дзявятым годам я быў ужо зусім упрэжаны ў працу, бо ад самай вясны да познай восені дзень пры дні пасьціў свае тры штукі статку; але калі прыходзіла радоўка праз чатыры тыдні на пяты адпасваць у сяло да пастуха, дык свае каровы пасьцілі старэйшыя, а я *"ганяў у поле"* да пастуха. Гэты год для мяне быў цяжкім, бо трэ' было заўсёды рана ўставаць, а сярод лета хоць паўднём некалькі гадзінаў заставаўся дома, але спаць днём быў не прызвычаены. Калі днём засыпаў, дык балела галава, рабілася блага й было цяжка пад грудзямі. Далейшыя гады я быў ужо прызвычаіўся днём спаць, хоць заўсёды пасьля сну нейкі час балела галава.

У гэтым леце мне здараліся пакутныя моманты, але часам і вельмі цікавыя ды прыемныя. Аднаго разу зь вясны ліў палівень цэлы дзень. Мне мама на галаву закруціла вялікую пасьцілку й, укруціўшы мяне ёй, завязала падпахі. Гэтая посьцілка, сярмяжка й кашуля былі прамокшы. Я пасьціў у густой высокай лазе пад Стаўкамі. Там вялікія хлопцы ўсёй вёскі пасьцілі коні, дык і я застанавіўся каля гэтага агню. Агледзеўся — аж майго статку няма. Я пайшоў у гушчар шукаць, а там у маю пасьцілку ўчапіўся сук, то не было як дастаць, каб ззаду або адчапіць сук, або адвязаць пасьцілку. Я пачаў тузґацца, як птушка ў сіле й плакаць. Калі нарэшце адарваўся ад гэтага сука, дык абмарочыўся[102] й ня ведаў нават, у якім баку тое вогнішча, адкуль я прыйшоў. Нарэшце, плачучы, з расшурпанай[103] пасьцілкай, прыбіўся да вогнішча. Тады суседні дзяцюк, што пасьціў коні, Янка Барука, пайшоў, знайшоў мой статак і прыгнаў да вогнішча. Я тады да самага вечара трымаўся блізка вогнішча з сваімі каровамі.

Другі раз летам я пасьціў каля гэтай самай лазы, але калі зазыґавалі[104] мае каровы й пабеглі ў розныя бакі ў гэтую лазу, я зноў, галосячы, пабег за імі. Па нейкім часе знайшоў старэйшую карову Пяцярэню й прыгнаў яе з лазы. Але зноў галашу, бо калі пакіну яе адну тут, каб ісьці іншых шукаць, дык яна ўлезе ў шкоду. Пачуў мой плач вялікі хлопец Юзя Карвацкі (ён за мяне быў старэйшы на сем гадоў), які пасьціў сваю карову на повадзе, на мяжы; ён прывёўся да мяне й папільнаваў маёй каровы, пакуль я прыгнаў чорную карову, а бычка знайшоў аж

---

[101] ***Гэта лета, у гэтым леце*** — тут: у той год.

[102] ***Абмарочыцца*** — згубіць кірунак у незнаёмай мясьціне (АВ).

[103] ***Расшурпаны*** — разбэрсаны, раскіданы.

[104] ***Зыґава́ць*** — статак зыґуе, калі бяжыць як шалёны таму, што кусаюць ґілі. Ґіль — кузурка, што летам кусае статак (АВ).

на другім баку лазы — у лішчанскай[105] грэчцы. Я гэтую ягоную даброць памятаю ўсё сваё жыцьцё.

Але нямала я меў у гэтае лета і ўсьцешных часінаў. У лепшыя дні я меў за вялікае задаваленьне быць адзінокім сярод прыроды. Мне надакучалі дажджы, дык я прыглядаўся на неба да хмараў, да ветру, каб адгадаць, якое будзе надвор'е заўтра, і з таго часу стаў варажыць па хмарах аб надвор'і наступных дзён. Аднаго разу я ляжу дагары[106] й гляджу на неба. Яно не такое празрыста-блакітнае, як заўсёды, але ледзь-ледзь жаўтаватае. Зірнуў на сонца, а каля яго — вясёлкавы круг. Я тады першы раз заўважыў на небе такую зьяву. Тады й падумаў, што можа гэта на якую ўкажэю[107] на мор ці на вайну. А калі пасьля паўдня пагнаў, дык неба было чыстае й кола каля сонца не было. А назаўтра зраньня было хмарна й цёпла, а ў позныя абеды[108] пайшоў дождж, і блізка да вечара ліў палівень. З таго лета я заўважыў: калі на небе зьяўляюцца рэдкія празрыстыя хмары, дык гэта на дождж. А калі гэткія празрыстыя хмары, як дарогі ў елачкі, дык гэта на вецер. Калі пасьля заходу сонца выплываюць чырвоненькія воблачкі, дык гэта на пагоду, а калі жоўтыя або цёмныя — на дождж, можа нават і доўгі.

На наступны год, калі мне было ўжо дзевяць, я асобна сваіх кароў мала пасьціў, але за гэта да пастуха дзьве радоўкі адпасваў: адну за сябе, а другую за дзядзькоў Якуба й Караля. Выходзіла так, што два тыдні запар адпасваў, а тры быў вольны. У гэтыя вольныя дні я пасьціў каня. Гэтая работа была лягчэйшая й весялейшая, але недахопам было тое, што наш конь (той самы, што некалі адсудзілі ў Цёрлы) быў пужлівы й шаляніца[109]: ён па некалькі разоў на дзень скідаў мяне. Коні пасьціць было досыць прыемна. Звычайна пасьцілі іх у балоце па некалькі хлапцоў разам. Тут хлопцы плялі ракітавыя бізуны, венікі ў лазьню і ў хату ды мётлы да току, так загатоўвалі іх шмат, каб стала на цэлую зіму.

Чытаць я пачаў вучыцца, калі быў яшчэ малы, бадай сёмым годам. Беларусы-каталікі ў тыя часы вучылі дзяцей чытаць па-польску. Цікава было тое, што ні той, хто вучыўся, ні той, хто вучыў, зусім не разумелі польскай мовы, але дзеці хутка чытаць навучаліся — за два-тры гады. Часам маці ці бацька хваліліся: *"Мой сын чытае, як рэпу грызе"*, значыць, вельмі шпарка. Але гэты *чытэльнік* сэнсу ў прачытаным не разумеў і ніхто ад яго гэтага не дамагаўся. Навучэньню чытаньня быў цьвёрда ўсталяваны пэўны мэтад: перш-наперш вучань павінен добра

---

105 ***Лішчанскі*** — прыметнік, відаць, ад назову в. Лішчыцы.

106 ***Дагары́*** — ляжаць тварам угору (АВ).

107 ***Укажэ́я*** — нейкі надпрыродны знак, які вяшчуе людзям нейкую бяду: мор, голад, вайну (АВ).

108 ***У позныя абеды*** — пара каля 16 гадзіны.

109 ***Шаляні́ца*** — дзівак, жартаўнік, калі дзівацтва пераходзіць у дурноту (АВ).

навучыцца альфабэт, каб ён, дзе ні ўбачыць літару, заўсёды мог яе назваць. Потым вывучаліся чытаць склады, дзе па парадку да кожнага зычнага гуку дадаваўся галосны. Далей склады былі з трох літараў і нарэшце з чатырох і больш. Напрыклад: *b-r-z-a = brza, b-r-z-e = brze; k-r-z-e = krze, k-r-z-u = krzu*. Тут кожны гук вымаўляўся выразна, хоць гэта пярэчыла правілам польскай мовы[110]. Пасьля складоў пачыналі чытаць “Rano”[111], а потым “Paciery”[112] ды па парадку ўвесь лемантар, але чыталі сьлібізуючы, г. зн. па складох: *r-a = ra, n-o = no — rano; w-s-t-a = wsta, w-s-z-y = wszy — wstawszy; d-z-i-e = dzie, c-i-ę = cię — dziecię*[113]. Калі канчалі сьлібізаваць лемантар, то варочаліся назад і гэты самы лемантар праходзілі *поверху*.

Першы год я за зіму лемантар прасьлібізаваў і з палову прайшоў поверху. На другі год прачытаў поверху гэты лемантар і “Officium” (кніжка для набажэнства, нашы сяляне называлі яе “Ахвіцьюмка”, а іншыя “Ахвіцынка”). Мяне вучыў чытаць старэйшы брат Янка, а Янку — бацька. Бацька казаў, што ён зь месяц пахадзіў чытаць да старога Шалягоўскага, былога дворнага музыкі. Бацька чытаў памаленьку, па складох, але выразна, а брат Янка чытаў шпарка й выразна. Калі Янка мяне вучыў чытаць, дык пільна не сядзеў, бо часта яго не было дома, а я вучыўся чытаць прытычкамі[114]. У гэтыя гады, апрача чытаньня, у мяне была й іншая работа. Трэ’ было зганяць курэй, калі ўскаквалі на ложак ці на стол, а часам трымаць верацёны, калі матка іх зьвівала ў клубкі. У нас у вёсцы кожную зіму вучыў чытаць яшчэ й дарэктар — былы дворны лёкай Паўлюк. У яго зьбіралася дзяцей каля пятнаццаці, а то й болей. Ён з сваёй школай хадзіў па чарзе па хатах: у кожнага вучня тыдзень займаўся ў хаце, там і харчаваўся. Мэтад вучобы быў гэткі самы. Гэты Паўлюк зіму вучыў дзяцей, а летам за гэта сядзеў у вязьніцы. Я з зайздрасьцю паглядаў на Паўлюковых вучняў і зь вялікай ахвотай пайшоў бы туды, але ў мяне тады не было лапцяў і не было чаго надзець, аж галоўнае — дзе ж бы зьмясьцілася столькі дзяцей у нашай хаце! Ды й тыдзень дарэктара харчаваць, а ў нас саміх былі недастаткі. Але, як я ведаю цяпер, наш Янка болей разьбіраўся ў чытаньні, як той дарэктар Паўлюк, дык і не было ніякай патрэбы туды пасылаць дзяцей.

Апрача казак аб розных ведзьмах, чараўніцах і ўсякіх страхаў, у нас апавядалі дзецям аб розных зданях, зьмеях і нябожчыках, якія выходзілі зь зямлі. Гэта ўсё настолькі падзейнічала на маё дзіцячае

---

110 Склады *brze, krze* мусяць чытацца па-польску як *бжэ, кшэ*, а ня *брзэ, крзэ*.

111 ***“Rano”*** (з польск. “Раніца”) — папулярны ў той час лемантар.

112 ***“Paciery”*** (з польск. “Пацеры”) — каталіцкі малітоўнік.

113 ***Wstawszy, dziecię*** (польск.). — устаўшы, дзіця.

114 ***Пры́тычкам*** — прытыкаючыся на кароткі час на работу (АВ).

ўяўленьне, што й днём усе гэтыя страхі стаялі мне на памяці, а вечарам я баяўся адзін выйсьці на двор, назад жа ў хату пёрся бяз памяці.

Таксама вельмі рана ў маім уяўленьні атабарыліся дзьве ўзаемна варожыя сілы: Боская й чартоўская. Мне ўтаўмачылі, што ў кожнага чалавека пад правай пахай сядзіць анёл і накіроўвае думкі на добры чын, а пад левай пахай — нячысьцік і наводзіць думкі на шкодны чын. Часта, седзячы на лаве, любіў калыхаць нагамі. Мне тлумачылі, што калі я калышу нагамі, дык калышу на нагах нячыстую сілу. Калі часам я агоўтаюся[115], што калышу нагамі, дык страсяну ногі, каб скінуць чорта, ды скоранька падыму на лаву й сяду на іх. Неяк, прыйшоўшы з касьцёлу, старэйшыя дзеці апавядалі, што ксёндз казаў: гарэлка — гэта чортава кроў, а хто нап'ецца гарэлкі, дык у тым чалавеку чорт сядзіць. Калі аднаго разу бацька быў п'яны (а ён на маёй памяці толькі раз быў такі п'яны, што ляжаў на пасьцелі), а назаўтра пайшоў бульбу пераворваць, а я пабег зьбіраць (мне тады быў шосты год), то баяўся ў бацькавы сьляды ступаць, бо быў сумліў[116], ці выйшаў зь яго чорт.

Аб зданях розна дзейкалі[117]: казалі, што на грэблі пад мураванкай і на Копанай гары чацьверыком і шасьцерыком кожную ноч кадукі[118] езьдзяць. У рабіньніку ля могліц[119] нехта бачыў, што пан у чорным і чорным[120] капелюшы касу кляпаў. А недзе было такое здарэньне: ехалі на возе два чалавекі, аж бачаць — на дарозе ляжыць вялізны зьвязаны баран. Мужчыны палажылі гэтага барана на воз ды паехалі далей, куды ім трэ' было. Але штораз конь стаў прыставаць і пацець. Яны зьлезьлі ды сталі падпіхаць, але ўсё роўна конь пад пенай. А калі яны толькі сталі пад'яжджаць да крыжа, які стаяў пры дарозе, то гэты баран толькі зарагатаў і яго ня стала, а гэта быў чорт. Яшчэ казалі, што ў нізкім месцы пад сасоначкай сядзіць дзядок ды падае руку й просіць, каб яго паднялі. Аднаго разу мне была нагода быць недалёка гэтага месца (я тады меў 7 год), мы з Мацеяў Ганнай, вялікай дзяўчынай, пасьвілі каровы. Гэта было раніцай. Я каля кароў кінуў сярмяжку й нават шапку ды, адкраўшыся, пайшоў да таго месца, дзе, казалі, *"дзядок здаецца"*. Я калаціўся ад страху, але цікавасьць перамагла, бо думаў: дзед калі не асьміну[121], дык шаснаццатку[122] срэбра напэўна дасьць, як за руку яго

---

[115] ***Агоўтацца*** — прыйсьці да памяці (АВ).

[116] ***Сумліва́цца*** — не давяраць (АВ).

[117] ***Дзе́йкаць*** — апавядаць нейкія няпэўныя навіны (АВ).

[118] ***Каду́к*** — чорт, злы дух, нячысьцік (АВ).

[119] ***Могліцы, могаліцы*** — месца, дзе хаваюць нябожчыкаў (АВ).

[120] ***Чорны й чорны*** — вельмі чорны, чорны-чорны.

[121] ***Асьміна*** — мерка збожжа каля 50 кг (АВ); мера вагі, роўная 48 кг.

[122] ***Шаснаццатка*** — палова асьміны.

падыму. Забег я на гэты ўзгорак, і хоць там дзеда не было, але мяне апанаваў страх — я пачаў уцякаць з гэтага месца, аднак зьбіўся з напрамку й пабег пад Стаўкі ды, мусіць, з гадзіну бегаў па полі й плакаў. Але ні тады, калі прыйшоў да кароў, ні пасьля нікому не пахваліўся, што хадзіў шукаць дзеда-здані, каб залатыя грошы здабыць.

Наша матка апавядала дзецям ня толькі казкі пра здані, але й пра шмат якія ранейшыя падзеі — і тое, што яна помніла сама, і тое, што ёй апавядалі старыя. Яна часта нам расказвала, як даўней, калі яна была малая, касьцёлы пераварочвалі на цэрквы, а людзей — *"на рускую веру"*. Ад яе я даведаўся, што ў Батурыне арганістага Пагоцкага розґамі насьмерць забілі, каб аддаваў ключы ад касьцёлу, але ён памёр, а ключоў не аддаў. Яна апавядала, як укропаўскага[123] Міхалюка Хвалея, калі ён быў малым хлопцам, дык абманам запісалі на рускую веру, а ён гэтага ня ведаў, але калі вырас ды стаў жаніцца, дык толькі тады даведаўся, што ён рускай веры. Ён на сваім блаславеньні перад шлюбам плакаў і прычытваў да бацькоў:

— *А Вы ж мяне ажэніце! А Вы ж мяне паравернеце!..*

Яна таксама казала, што нейкіх дзьвюх сясьцёр-сірот з Барсукоў дзясятнікі пагналі ў валасьць, а адтуль да папа спавядацца, бо бацьку руская "адстаўка" прыйшла, калі ён вярнуўся з маскалёў, хоць бацька зроду быў каталіком, а гэтыя дзяўчаты параджаліся, калі яшчэ бацьку ў войска не забралі.

У мяне заўсёды паўставаў страх, каб мяне не злавілі рускія[124] ды каб не паравярнулі на рускую веру.

Сястра Ганна за мяне была старэйшая на 8 гадоў. Калі я быў яшчэ зусім малы, яна хадзіла два гады да ксяндза на катэхізмы й вельмі добра вучылася. Ксёндз яе хваліў і даваў розныя кніжкі чытаць, да прыкладу вялікую катэхізмоўку, і яна ўсе гэтыя катэхізмы ведала на памяць. Ён хацеў яе аддаць у лагазінскі[125] двор да Гульмантаў за пакаёўку, каб там з год пабыла, а тады вучыцца аддаць, але мама на гэта не згадзілася. Яна ксяндзу сказала, што Ганна патрэбна дома, а дома сказала: *"Пакуль мы з бацькам жывы, дык ня пусьцім дзяцей валачыцца па сьвеце"*. У даўнейшых людзей было ганьбай аддаваць дзяцей на службу ў двор ці ў места. Сьпярша Ганна нас меншых вучыла гэтыя катэхізмы, а пасьля я, калі навучыўся чытаць, дык амаль усе гэтыя катэхізмы ведаў на памяць. А калі мне быў дзявяты год, дык я наняўся адпасьці тыдзень пры пастуху й зарабіў паўрубель. За гэты паўрубель тата мне купіў

---

[123] Відаць, маецца на ўвазе адна з сучасных вёсак — Вялікія або Малыя Ўкропавічы.

[124] ***Рускі*** — тут: праваслаўны.

[125] ***Лагазінскі*** — ад назвы ўладаньняў Лагаза.

таўстую кніжку "Służba Boża"[126]; я яе заўсёды чытаў і стаўся рэлігійным фанатыкам.

Калі рэлігійная сьвядомасьць — а нават і фанатызм — наступіла ў мяне ў зусім раньнія гады, дык нацыянальная сьвядомасьць была доўга вельмі туманная. Аднаго разу, калі я быў зусім малы, дык чуў, як у нашай хаце вялікія завялі гутарку аб геаграфіі. Хтось да нас прыйшоў і кажа, што вецер вялікі з Польшчы, а нехта другі падаў рэпліку: "*А ці ж мы ня Польшча?*" Хтось іншы паясьніў яму, што мы не палякі, мы толькі веры польскай, а самі — *простыя* й гаворым *па-простаму*. Тымі ж гадамі я атрымаў другую вестку, аб *забраным краі*. Прыйшло з воласьці паведамленьне: калі хто хоча, дык можна пісацца на высяленьне ў Сібір. Прыйшла да нас Алёксава Ганула й пачала гутарку аб высяленьні. Яна сказала, што той лепей зробіць, хто перш запішацца й выедзе, дык зойме лепшую зямлю, а пасьля сілай усіх пагоняць у Сібір, бо наш край *забраны*. Расейскі цар наш край забраў самавольна, дык іншыя цары яму загадалі, каб выйшаў з нашага краю. Расейскі цар адказаў: "*Я хоць і выйду з гэтага краю, але людзей не пакіну. У мяне ў Сібіры шмат зямлі, дык я гэтых людзей пераганю ў Сібір, а зямлю пустую пакіну*".

Я патрохі вучыўся чытаць і па-расейску, можа годам пасьля як па-польску. Першыя словы я навучыўся чытаць на пачках табакі: *махорка*, *бакун*[127], *Цукерманъ* (гэта прозьвішча гаспадара табачнай фабрыкі). А пасьля, калі ўжо чытаў польскія ксёнжкі, дык там на другой старонцы было надрукавана: "*Дозволено цензурою, Варшава*". Калі я добра навучыўся чытаць па-польску, дык мне купілі й расейскі лемантарык, але чытаць не вучылі. Я навучыўся літары, чытаў сам па аналёгіі польскага чытаньня, але маё чытаньне было вельмі калечанае, бо націскі ўсюды ставіў толькі на канцы слова й вялікія літары (яць — **ѣ**, ер — **ъ**, еры — **ы**, фіта — **θ**)[128] вымаўляў поўнасьцю.

Калі мне было 10 год, дык нечакана на мяне ўзваліліся клопаты: стараста з выбарным прыйшлі аж у хату й патрабавалі ад бацькі, каб мяне аддаў у Слабаду (за 6 км) у школу. Для мяне нават быў нейкі гонар, што ў воласьці ведаюць пра мяне; я нават гэтаму быў рад і думаў, што бацька ня выкруціцца й завязе мяне ў школу. А бацька адмаўляўся, што я малы й там сябе не дагледжу, бо там патрэбна было сабе абед гатаваць. А бацька ўсё ж выкруціўся ад гэтых клопатаў: ён пайшоў у карчму й там начальству купіў кварту гарэлкі за 40 капеек.

---

[126] ***"Służba Boża"*** (польск.) — "Служба Божая", падручнік рэлігіі.

[127] ***Баку́н*** — танны гатунак тытуню.

[128] Вялікімі пералічаныя літары аўтар называе, магчыма, таму, што часта выкарыстоўваліся друкарскія гарнітуры, у якіх літары **ъ**, **ы**, **ѳ** былі вышэйшыя за астатнія — **ъ**, **ы**, **ѳ**.

Год 1901 прынёс мне нейкае інтэлектуальнае абуджэньне. Работа ў мяне была, як і папярэднія гады: дзьве радоўкі адпасваў у сяло да пастуха, а ў вольныя тры тыдні пасьціў або асобна свае каровы, або каня. Часамі па сьвятах адвячоркам у вадно месца зьяжджаліся хлопцы й дзяўчаты; дзяўчаты зьбіраліся ў адну грамаду, а хлопцы ў другую. Дзяўчаты грамадой сьпяваюць песьні, а хлопцы зь сярэдняга веку, 15—16 гадоў, займаюцца гульнямі: *барца драць, каты пасьціць, у перацяжкі* ці *ў боркі* бяруцца. А часам сьпявалі й хлопцы, якім прызыў падыходзіў, — рэкруцкія песьні. Дзявочыя й хлапцоўскія песьні на мяне сум наводзілі, але гэты сум нейкі прыемны, захапляючы. Гэты год у чвэрць[129] пасьля Сёмухі сем хат нашай вёскі згарэла. Я гэта назіраў з балота — быў у полі ля пастуха. Тады пастух статку нанач не пагнаў, і я пры статку начаваў на полі. У нас тады згарэў толькі хлеў, а хата й клець былі абаронены.

1900 год аказаўся сухаваты, а 1901 быў зусім сухі, што нават балоты да восені засталіся ўсюды сухія. Той год на полі нідзе вады не было, але я й Антось Мацеяў, калі заставаліся ля сьвіней, дык у Езабавым Лагу выкапалі калодзеж на два аршыны глыбіні, а яго капалі рукамі й шапкамі пясок з вадой выбіралі. 1902 год быў мокры, а 1903 яшчэ макрэйшы й позны. Гэтыя абодва гады, як і перш, я летам адпасваў дзьве радоўкі поля да пастуха ды яшчэ там-сям і дадатковыя тыдні — ад чужых, а ў вольныя тыдні таксама пасьвіў або свае каровы, або каня. А зімой лапцяў не плялі, а калі й плялі, дык надта рэдка, але ўжо ў гэтыя гады сам навучаўся перш падпраўляць старыя, а пасьля зь пянькі рабіць пахлапні[130], бо хацелася днём схадзіць пакоўзацца, а вечарам па вуліцы гайсаць.

Наша вёска была вялікая, хлапцоў-падлеткаў было шмат, каля дзесяці. Вечарам яны выходзілі на вуліцу. Калі дзе было сьлізка, дык рабілі трэль[131] ды коўзаліся, крычэлі, гарэзьнічалі, у сьнежкі біліся, а калі гэта была нядзеля, дык і на ігрышча заходзілі. У гэтыя гады й мяне цягнула ў грамаду. А калі часам дзе пападалася вясельле, дык гэтыя няпрошаныя госьці й моцна заміналі, але па беларускім звычаі іхная прысутнасьць не абмяжоўвалася.

Вясной у 1903 годзе захварэла мая матка на сэрца й пралежала ўсё лета. Пачатак яе хваробы мне вельмі шмат каштаваў сьлёз. Гэтым жа годам мы, хлопцы, пасучы ў балоце коні, надумаліся ісьці ў ягады ў Кучынскага лес. А каб лягчэй было ўцякаць, калі хто напаткае або каб не было чаго зьдзіраць, дык на сваім балоце каля коні

[129] ***Чвэрць*** — тут: квартал.

[130] ***Пахлапні*** — лапці з лазовых кнутоў (АВ).

[131] ***Трэль*** — зімовая дарога праз балоты, рэкі й палі; коўзанка, што дзеці прыладзілі па лёдзе — на нагах ці на санках з гары (АВ).

пахавалі свае сярмяжкі, шапкі й нават паясы. Прыйшло нас да гэтага лесу хлопцаў з восем. Сьмялейшыя пайшлі глыбей у лес, а я й некалькі іншых, палахлівейшых, заставаліся ля берагу. Празь нейкі час мы чуем толькі трэск, а пасьля бачым, што пярэднія на ўзавады[132] бягуць да нас, значыць, уцякаюць, і мы да іх далучыліся ды ўцякаем. Але спопаразку[133] ўзьбеглі на плывун[134] уверх возера ў Бачылаўцы. Назад баімся, але й наперад няма куды дзецца. Прыйшлося павярнуць налева па плыўкім балоце, пакуль не напаткаем кладкі. Пералезшы праз рэчку, беглі як мелі сілаў — аж да сваіх коні. Калі я прыбег на месца, дык абваліўся, але дыхаць ня мог, а толькі хрыпеў ды захліпаўся, бо горла здушвалі спазмы. Пасьля гэтага я захварэў на сэрца й пахадзя[135] хварэў год, хоць дома й не прызнаваўся прычыны. А там не было ад каго ўцякаць, бо пярэднія ў лесе ўбачылі толькі пастухоў з пугамі.

Познай восеньню 1904 года ў Карэншчыне адчынілася школа; я наважыў пахадзіць хоць трохі ў гэту школу. Дамашнія перш працівіліся, а пасьля дазволілі пахадзіць некалькі месяцаў, бо, можа, калі пойдзе ў салдаты, дык каб мог ліст напісаць. Я прыгатаваўся да гэтай школы: у запас сплёў тры пары лазовых лапцяў, бо да гэтага часу сам навучыўся плесьці. Калі я прыйшоў у школу, дык настаўнік мяне прыняў у I клясу другую групу, бо я трохі мог па-расейску чытаць і расьпісацца. Калі я пахадзіў тыдзень да гэтай школы, дык зь вялікай ахвотай кінуў бы яе, але саромеўся сваіх хатніх, бо доўгі час прасіўся ў школу. Чытаць і пісаць дык я мог бы справіцца, але лічыць дык справа зусім дрэнь: я мог лічыць да некалькіх тысяч, і лічбу мог напісаць, і прачытаць аж да мільёна, але ані не разумеў *слагаемое, отнимаемое, уменьшаемое* й г. д. Калі выкліча мяне настаўнік ды пачне лаяць: *"Дубіна! Ідыёт! Балван!"* — ды яшчэ за вуха хопіць, дык я тады не магу адказаць *"колькі будзе, калі да двух дадаць адзін"*. Мне тады ўваччу пазелянее, і ўсё ў галаве варочаецца, круціцца. *"Лапы"*[136] то ніводнай не атрымаў, але не было таго дня, каб на каленях не стаяў, і вельмі часта пасьля лекцыяў заставаўся. Настаўнік хацеў мяне ў першай зімцы нават пасадзіць зь непісьменнымі. Гэтак было каля трох тыдняў, а тады ён ад мяне нешта адчапіўся, бо знайшоў у гэтай нашай клясе слабейшых за мяне, але яны ўмелі сьпісваць у другіх. Калі ён пасьля тыдня ці й большага часу нешта папытаўся ў клясы, дык я руку падняў, але ён не папытаўся ў мяне, дык мяне яшчэ горай зьбянтэжыла, як тое, калі ён лаяўся. Пасьля неяк у мяне папытаўся

---

[132] ***Узавады*** — навыперадкі, хто хутчэй.

[133] ***Спопаразку*** — з налёту, хутка, нечакана (АВ).

[134] ***Плыву́н*** — на вадзяністай дрыгве зыбучы мох (АВ).

[135] ***Пахадзя́*** — ходзячы, а ня лежачы ў ложку (АВ).

[136] ***Ла́па*** — адзнака 1.

чытаць, я прачытаў. Пытае: расказаць прачытанае. Я й гэта выканаў, ды й плюсы й мінусы ды *слогаемые* ўцяміў. Нарэшце ён у мяне стаў пытацца толькі тады, калі ніхто іншы не адкажа.

У хуткім часе пасьля зімовых вакацыяў я захварэў на брушны тыфус. Тады гэта эпідэмія лютавала ў нашай ваколіцы. Да гэтай хваробы я не дапускаў думкі аб свае сьмерці, але калі цяжка ляжаў хворы, дык сядзелі нейкія чужыя бабы ды адна аднэй кажа: *"Гэты хлопец памрэ"*.

Мне тады вельмі спакойная й разважлівая думка прыйшла: *"Ці ж мне аднаму ўміраць! Гэта раней ці пазьней, а трэба"*. Фізычнага болю я тады ніякага не адчуваў, але духовы — ад блюзьненьня[137]. Здавалася, што прыйшоў настаўнік і патрабуе, каб я адказваў верш. Я ўстаю, злажу з ложка й гавару вершы, але мне сорамна, што я неадзеты й босы ды трасуся ад холаду, а мама не дае мне скончыць верша й цягне ў ложак. Другая пакутная мара, што быццам я ў сваёй вёсцы, але ў чужых хатах, і я нейкім цудам у падзямельлі пераходжу з аднэй хаты ў другую, але кожная хата так запёртая, што я ня вылезу вон, бо калі б вылез вон, дык бы прыйшоў дамоў. А ў мяне такая думка ўсплыла: *"Калі я гэдак з хаты ў хату дайду аж на канец вёскі да дзядзькі Міхася, дык тады я вылезу вон і прыйду дамоў"*. Нарэшце я ўжо ў хаце дзядзькі Міхася. Тут знаходжу клямку, адчыняю хату, выходжу на двор і шукаю варотаў, каб выйсьці на вуліцу. Калі стаў праглядацца, аж гэта наш двор, але мне сьцюдзёна ў ногі; тады я пайшоў у хату й сам лёг на ложак. Трэцяя мара[138] самая страшная: я на вуліцы ў сваёй вёсцы, а наўкола поўна людзей — і знаёмых, і незнаёмых, — і ўсе паказваюць на мяне пальцамі ды сьмяюцца. Мне так сорамна, што хацеў бы празь зямлю праваліцца, каб мяне на сьвеце ня стала. У мяне на плячах велізарны мех жыта, мяне ён вельмі цісьне да зямлі, але я яго не пускаю, бо калі выпушчу з рук, дык мяне ня стане — разарвуць натоўпам. Але тут жа чую, што нехта кажа: *"Нашто ты на яго так шмат адзежы навалій?"* А брат Янка адказвае: *"Калі ж ён надта трасецца"*.

Я хварэў і папраўляўся ўсяго шэсьць тыдняў, а потым зноў у школу пайшоў. Але пасьля гэтага ўся наша сям'я пахварэла, апрача бацькі. Шэсьць асобаў ляжала. Але я ў школу хадзіў, бо шэсьць тыдняў прапусьціў. Заўсёды, калі я хадзіў у школу, дык слаба харчаваўся: рана не заўсёды мог дачакацца сьняданьня, бо турбаваўся, каб не спазьніцца, а з сабой хлеб браў дзеля прыліку, бо гэтага чэрствага хлеба зь мякінай не хацелася есьці, а зусім ня браць, дык будуць сьмяяцца, што бедны, дык я лусту гэтага хлеба браў і ў часе полудня пробаваў есьці, хоць нехаця. А цяпер, калі ўся сям'я ляжала, дык бацька падпаліць у печы, прыставіць гаршкі ваду грэць для статку ды пойдзе статку даглядаць.

[137] ***Блю́зьненьне*** — тут: трызьненьне.

[138] ***Ма́ра*** — тут: мроя, трызьненьне.

А я сабе некалькі бульбін сьпяку, зьем і пайду да школы. А калі вечарам прыходзіў са школы, дык была ўжо навараная страва. Але гэта ўсё адбывалася ў вялікім посьце, дык я нават і з малаком не скароміўся, бо гэта тады было не ў звычáі.

На другі год я быў пераведзены ў II клясу. У гэтым навучальным годзе (1905/06) здарылася мітрэнга[139] ў навучаньні, якая перакруцілася ў палітычны страйк. У гэтым годзе на Задушны дзень[140] першы раз пасьля шматгадовай забароны вырушылася працэсія з касьцёлу на могалiцы. У гэты час у школе быў вялікі перапынак, дзеці бегалі па вуліцы і, далучыўшыся да працэсіі, пайшлі на могаліцы. Мы думалі хутка адтуль вярнуцца, але там ксёндз казаньне казаў, ды й набажэнства працягвалася, дык мы забавіліся на ладны час, а калі вярнуліся ў школу, дык ужо й лекцыі кончыліся. Мы забралі свае кніжкі ды пайшлі дамоў. Назаўтра мы ўсе, што хадзілі на могаліцы, былі сурова пакараны, а гэтых вінавайцаў было больш паловы вучняў. Настаўнік загадаў нам усім цэлы дзень стаяць на праходах на нагах, нават на вялікім перапынку. На двор на перапынку можна было выйсьці на кароткі час з дазволу дзяжурнага. Для падлеткаў і дзяцей гэта была занадта цяжкая кара, але мы адстоялі. Калі даведаўся аб гэтым ксёндз, дык сказаў не пайсьці дзецям у школу. Не пайшлі ў школу й пакараныя, і непакараныя каталікі. А праваслаўных было ўсяго сем асобаў. Школа апусьцела. Настаўнік давёў па начальству, што школа застрайкавала. Ураднік прыяжджаў да ксяндза. Ён толькі апытваў, дзе ксёндз вучыўся. Пасьля прыехаў інспэктар народных школаў. Яны з ксяндзом пагадзіліся на тым, што ксёндз будзе мець права прыходзіць у школу й выкладаць рэлігію. Дзякуючы гэтаму страйку два месяцы навучаньня скруцілася[141], а вучыліся толькі адзін кастрычнік.

Некалькі словаў аб настаўніку й ксяндзу. Настаўнік Сьцяпан Шчэмер паходзіў з Наваградчыны; ён, здаецца, закончыў *второклассную церковную школу* ды трымаў экзамэн на народнага настаўніка; быў чарнасоценец і часамі ў школе перад вучнямі высьмейваў каталіцкую веру. Ксёндз Вацлаў Пацэвіч быў малады, па нацыянальнасьці жмудзін, як ён сам сябе называў; закончыў Пецярбурскую духоўную акадэмію, нам быў прысланы вікарыем, але часова застаўся пробашчам. Ён быў знаёмы зь беларускім рухам, гаварыў па-беларуску й распаўсюджваў беларускія лемантарыкі Цёткі[142], дзе на першай ба-

---

[139] ***Мітрэнга*** — трывога, неспакой, сумятня.

[140] **Задýшны дзень** — 1 лістапада, Дзень усіх сьвятых.

[141] ***Скруцілася*** — тут: прапала.

[142] Маецца на ўвазе **“Беларускі лемантар, або Першая навука чытання”** (у арыгінале “Biełaruski lementar abo pierszaja nawuka czytańnia“, “Беларускі лемэнтар або першая навука чытаньня”) — першы беларускі лемантар,

чыне быў анёлак намаляваны. Ксёндз нам у школе часта паўтараў, што Бог разумее й па-беларуску. Ён з ахвотай наведваў вёскі й знаёміўся зь беларускім бытам і звычаямі, у гутарцы зь сялянамі выказваўся, што й ксяндзам трэба ведаць беларускую мову. Жартуючы, расказваў, што быццам яму адна баба спавядалася й казала: *"Я абгукала*[143]*, аскаромілася"*, а ён тады не разумеў беларускай мовы, дык ня ведаў, ці гэта вялікія грахі, ці малыя.

У канцы гэтага году я быў пераведзены ў III клясу. Лета 1906 году настаўнік Шчэмер выехаў, а на яго месца прыехаў Алісей Жалейка — случчак, дэмакрат зь Нясьвіскай сэмінарыі, сьвядомы беларус. Пры ім я закончыў у 1907 годзе пачатковую школу. Ён яшчэ год быў у нашай школе. Я да яго зь месяц прыходзіў прыватна вучыцца, каб азнаёміцца з дробамі, гэта было зімой у 1908 годзе.

З самых першых гадоў разумовай сьвядомасьці ў мяне нахіл быў да летуценьняў, хоць гэтыя мары выходзілі часам за межы магчымасьці, але заўсёды мае жаданьні пхнулі мяне ў героі. Калі я меў 5—6 гадоў, дык марыў, каб мець добрую сярмяжку й каб мог наўскочку ехаць на кані. Вочы прыплюшчу — і як бы бачу, што конь бяжыць наўскочку аж платаецца, а на ім хлопец сьмела сядзіць і не за грыву, але толькі за павады трымаецца, а гэты хлопец — я. Далей бачыў, якураднік часам едзе празь вёску ды толькі падгоцваецца на кані, а шабля збоку боўтаецца, а бізун на руцэ засмаргнён[144]. Я й думаю: як падрасту, дык абавязкова буду дамагацца, каб стацца ўраднікам. Але я нікуды не паеду, а буду ў сваёй вёсцы жыць, толькі пабудую новую вялікую хату на памосьце. Людзі толькі будуць бачыць, што я то ў адну, то ў другую вёску паляцеў на сваім стаеньніку. Калі стаў у школу хадзіць, дык пачаў марыць быць настаўнікам, хоць ужо быў не малы й разумеў, што гэта пустая думка, бо ў нас і вялікая беднота, і бацькі зусім ня рупяцца дзяцей вучыць, і мае гады выходзяць, а галоўнае — я добра ведаў, што каталіку зусім не даступна гэта пасада. Але зноў жа разважаў: *"Каб я толькі адпаведныя веды меў, а гэты закон можа адмяніцца, што каталіку забараняецца быць настаўнікам, бо ўжо нават дазволілі з праваслаўных адварача́цца*[145] *ў каталікоў"*. Першая вялікая перашкода на гэтым шляху — гэта няведаньне дробаў, а сам без дапамогі збоку не апануеш *супольны найбольшы дзельнік, супольны назоўнік* ды тое й іншае. Вось пасьля заканчэньня пачатковай школы ў 1908 годзе я пахадзіў да

выдадзены ў 1906 г. у Санкт-Пецярбургу. Сярод аўтараў згадваюцца Цётка (Пашкевіч), Карусь Каганец, Вацлаў Іваноўскі.

[143] ***Абгука́ць*** — абмовіць, абгаварыць, панізіць чалавека на славе (АВ).

[144] ***Засмаргнёны*** — завязаны засмаргаю (зашмаргаю), пятлёю.

[145] Маецца на ўвазе — каталікам, пераведзеным у праваслаўе, дазваляюць вяртацца ў каталіцтва.

настаўніка Жалейкі блізка месяц, каб ён мне дапамог аўладаць гэтымі хітрымі дробамі, хоць і каштавала мне гэта веда два рублі.

Перш пакуль мне ісьці ў школу, дык я прачытаў вельмі цікавыя польскія кнігі — "Pogadanki o niebie i ziemi" і "Dzieje polskie w 24 obrazkach"[146] Казімера Ґуральчыка[147]. Гэту апошнюю я чытаў, калі вучыўся ў II і III клясах. Калі настаўнік Шчэмер расказваў III клясе аб расейскай гісторыі, дык я вельмі ўважна слухаў і параўноўваў з польскай гісторыяй. Калі ён даводзіў, што *"наш вялікі князь Уладзімір*[148] *ахрысьціў наш народ у праваслаўную веру"*, я ў сваім духу меў: *"Маніш! Тут былі польскай веры каталікі, але рускія іх перавярнулі ў рускую веру й касьцёлы паварочалі на цэрквы"*. Але калі я пачаў чытаць польскую гісторыю, дык аб нашых местах штось не ўспаміналася. У мяне стаў зьяўляцца сумліў наконт маёй польскасьці, але я быў фанатычна настроены супраць довадаў настаўніка Шчэмера, што мы паходзім ад рускіх. Калі ксёндз Пацэвіч гаварыў аб нашай простай мове, што яна ўласная наша, дык я часткова зь ім згаджаўся, але ня толькі цураўся другой часткі гэтага слова, -рус, але й ненавідзеў яе, бо яна быццам даводзіла, што мы рускія. Праходзячы гісторыю ў III клясе, я выразнасьці аб нашым паходжаньні не дабіўся. У расейскай геаграфіі, дык там успаміналася аб беларусах, нават былі намаляваны мужчына й баба. Мужчына меў белую валёнку[149], белую сьвітку, белую сарочку, белыя нагавіцы, але лапці ня наскія, а расейскія. У бабы на галаве было накшталт наміткі, але ўвесь яе перад ад шыі да ног закрыты хвартухом, а нашы бабы гэткіх хвартухоў не насілі, але андарак і шнуроўку.

У канцы кастрычніка 1909 году я ўступіў у Хаценчыцкую дзьвюхклясавую школу, у якой заняткі пачаліся з паловы верасьня, дык я на паўтара месяца спазьніўся, ну й на гэтулькі ж адстаў ад сваіх сяброў, асабліва па арытмэтыцы й геамэтрыі. У іншых такіх дзьвюхклясавых школах праграма была зьніжаная, а тут яшчэ павышаная, ды яшчэ звыш праграмы было дадана гародніцтва, садоўніцтва, пчалярства. Была зьвернена вялікая ўвага на чытаньне кніг, на самастойнае ўкладаньне пісоўных прац. Пісаліся такія тэмы: "Век жыві — век вучыся", "Праца корміць, а гультайства псуе", "Сама себя раба бьет, коль нечисто жнёт", на грамадзкія тэмы: "Шкода ад п'янства", "Што ты рабіў бы, каб меў

---

[146] ***"Pogadanki o niebie i ziemi", "Dzieje polskie w 24 obrazkach"*** (польск.) — "Гутаркі пра неба і зямлю", "Польская гісторыя ў 24 карцінках".

[147] **Казімір Гуральчык** (польск. *Kazimierz Góralczyk*, сапр. *Władysław Ludwik Anczyc*, 1823—1883), польскі паэт, драматург, перакладчык, выдавец, грамадзкі дзеяч.

[148] **Уладзімір Сьвятаславіч, Уладзімір Вялікі** (каля 960—1015), князь кіеўскі, пры якім адбылося хрышчэньне Русі.

[149] ***Валёнка*** — валеная з воўны зімовая шапка (АВ).

шмат грошай?", "Якіх людзей і за што мы павінны шанаваць?" і ім падобныя.

Я кончыў пачатковую школу ў 1907 годзе, а мой брат Казік — у 1908-м, але ні ён, ні я далей і ня думалі ісьці вучыцца. У двары Красны Бор жыла кутам[150] удава Альжбета Сапрык. Да яе кожнае лета прыяжджаў на адпачынак сын Язэп — настаўнік, грамадзкі дзеяч, шырокавядомы на заходняй Барысаўшчыне і ўсходняй Вялейшчыне, родам з нашай парафіі. Ён сказаў, што мог бы аднаго ці двух хлапцоў узяць у сваю школу; дык мой брат схадзіў да яго на праверку. Настаўнік прыняў і сказаў у першай палове верасьня прыяжджаць вучыцца. Восеньню было шмат працы каля гаспадаркі, дык я ня мог паехаць, ды ўжо было 18 гадоў. Але калі старэйшы брат другі раз павёз Казіку хлеб, дык расказаў аба мне, што я хацеў вучыцца ды ўжо й дробы вучыўся трохі. Настаўнік Сапрык дазволіў прыехаць і мне; калі я даганю прапушчанае, дык буду вучыцца. Я прыехаў і неўзабаве дагнаў прапушчаны матэрыял. Акадэмічную працу выконваў досыць пасьпяхова, бо на першым паўгодзьдзі нават атрымаў узнагароду за хуткае разьвязаньне хітрай геамэтрычнай задачы. Пісьмовая самастойная праца першага паўгоду не зусім удавалася, бо рабіў шмат граматычных памылак. Аднаго разу пісалі на тэму "Камэты ўвогуле й камэта Галея[151]", і пры 14 граматычных памылках я атрымаў адзнаку "добра" (4), бо *"думка была глыбокая"*, як сказаў настаўнік. Гэты мой твор ён перад клясай прачытаў.

Але галоўную ўвагу я зьвярнуў на чытаньне кніг. Я ўсёй сваёй істотай аддаўся гэтай справе — чытаў усё тое, што мог дастаць. Асабліва захапіўся мастацкай літаратурай: прачытаў выдатнейшых расейскіх клясыкаў; з паэзіі я захапіўся Лермантавым[152], так зачытваўся творамі Талстога[153], што няўзнакі пралятала доўгая зімовая ноч аж да сьвітаньня. Тады я ставіў сабе мэтай прачытаць як мага болей кніг і закончыць гэту школу, а аб далейшым сваім лёсе ня думаў.

Апрача публічных кніг, настаўнік Сапрык меў кнігі нелегальныя — друкаваныя ў 1905—1906 гадох. Гэтыя кнігі ён даваў чытаць толькі мне, а я даваў некаторым іншым вучням. Між іншых мяне вельмі цікавіла гісторыя Расеі, дзе выпучвалася наверх уся дзікасьць і зьверства расейскіх князёў і цароў ад Івана Каліты[154] да апошніх

[150] ***Ку́там жыць*** — жыць у ваднэй хаце з гаспадаром (АВ).

[151] **Камета Галея** — названа ў гонар англійскага астранома Эдмунда Галея (1656—1742).

[152] **Міхаіл Лермантаў** (1814—1841), расейскі паэт, празаік.

[153] **Леў Талстой** (1828—1910), расейскі пісьменьнік, празаік.

[154] **Іван Каліта** (1288—1340 ці 1341), князь маскоўскі, вялікі князь уладзімірскі, князь ноўгарадзкі. Іван Каліта першым з князёў пачаў называць сябе вялікім князем усяе Русі.

часоў, прычым гэтыя жудасныя падзеі пацьвярджаліся пададзенымі гістарычнымі дакумэнтамі. Другая цікавая для мяне была "Гісторыя рэвалюцыйных падзелаў у Расеі"[155]. Праводзячы гутаркі аб татарскай навале на Расею, настаўнік грунтоўна спыняўся на *"мангольскім уплыве на характар маскоўскага народу"*. Гаворачы аб Пятру Першым[156], ён не забываўся дадаць, што Пецярбург пабудаваны на людзкіх касьцях. Гаворачы аб заваёвах Кацярыны II[157], настаўнік напамінаў, што ейныя героі Пацёмкіны[158], Арловы[159], Румянцавы[160] — гэта былі авантурнікі; калі хто хоча быць патрыётам свайго краю, дык трэ' браць прыклад з Касьцюшкі[161].

Пры школе быў гарод, і сад, і пчолы. Настаўнік з вучнямі вясной капаўся ў гародзе, закладаў парнікі, рабіў градкі, даглядаў саду й знаёміў з пчалярствам, а ў школе вёў гутаркі аб гэтых галінах гаспадаркі. Ён радзіў вучням, асабліва тым, што дастаткова маюць зямлі, не цурацца працы на зямлі, а любіць яе й заставацца земляробам, робячы культурныя паляпшэньні сваёй гаспадаркі. Ён кляйміў ганьбай тых сельскіх інтэлігентаў, што п'юць, лайдачаць ды яшчэ вымагаюць ад сялян магарычá[162] на п'янства й крыўдзяць бедных сялян. Калі часам на лекцыі Закону Божага сьвятар Баярчук (чарнасоценец) прапагуе жыдоўскія пагромы й высьмейвае каталіцкую рэлігію, дык на наступнай лекцыі настаўнік паясьняе вучням аб шкоднасьці такой ідэалёгіі.

Мы з братам кватаравалі пры школе й варылі сабе страву. Нам праз тры тыдні прывозілі харчы: асьміну бульбы, дзьве вялікія булкі чорнага хлеба, круп — драны ячмень у зёрнах і такой-сякой затаўкі. Абед, бывала, часам не даварыцца, а часам згарыць. Вядома, гэтых харчоў было скупа, і мы заўсёды былі галодныя. Нас кватаравала пры школе шэсьць

---

155 Магчыма, маецца на ўвазе кніга: А. Тунъ. Исторія революціонныхъ движеній въ Россіи. Переводъ Вѣры Засуличъ и др. Москва, 1905. Другое выданьне — 1917 г., трэцяе — 1923 г.

156 **Пётр I** (1672—1725), апошні цар усея Русі й першы імпэратар усерасейскі.

157 **Кацярына II** (1729—1796), імпэратрыца ўсерасейская (1762—1796).

158 **Рыгор Пацёмкін** (1739—1791), расейскі дзяржаўны дзеяч, фаварыт Кацярыны II.

159 **Рыгор Арлоў** (1734—1762), расейскі вайсковы й дзяржаўны дзеяч, фаварыт Кацярыны II. **Аляксей Арлоў** (1737—1807), расейскі вайсковы й дзяржаўны дзеяч.

160 **Пётар Румянцаў-Задунайскі** (1725—1796), расейскі вайсковы й дзяржаўны дзеяч, генэрал-губэрнатар Маларосіі.

161 **Тадэвуш Касьцюшка** (1746—1817), палітычны й вайсковы дзеяч Рэчы Паспалітай, кіраўнік вызвольнага паўстаньня 1794 году, удзельнік вайны за незалежнасьць ЗША, нацыянальны герой Беларусі.

162 ***Магары́ч*** — хабар, подкуп (АВ).

вучняў, і мы мелі там працоўны абавязак: трэ’ было па чарзе кожны дзень насячы дроў на шэсьць печак і нанасіць у школу два цэбры вады. Калі я ехаў у гэтую школу, дык меў стараватыя боты, купленыя за два рублі, картовыя штаны за 60 капеек і мультановую сарочку, таксама за 60 капеек, суконную жакетку сваёй работы й сярмягу; кажуха ня меў. Калі на лета прыяжджалі дамоў, дык у двары Мураванка мы з братам капалі канавы, і нам удавалася патрохі грошай зарабіць. А работа была цяжкая й прыкрая: часамі прыходзілася ў балотнай вадзе стаяць блізка па пояс, бо канавы капалі ўглыбкі больш мэтра.

## [НА РАЗДАРОЖЖЫ]

Калі я скончыў гэтую школу, дык апынуўся на раздарожжы. Мне толькі адзін год застаўся да прызыву ў войска, але гэты год быў для мяне распачлівы й страшны ў цэлым маім жыцьці. І цяпер я з страхам аб ім успамінаю. Я, ап’янены кнігамі й навукай, думаў ляцець усё вышэй і вышэй, але заслона спала з вачэй, мары згінулі, і я апынуўся перад сапраўднасьцю. Улюбёным маім паэтам быў Лермантаў, і я па волі лёсу аказаўся ягоным героем. Небыцьцё мяне больш вабіла, як жыцьцё. Мне было не па дарозе з маімі равесьнікамі, былымі сябрамі, якія п’яныя хадзілі па вуліцы, ды галёкалі, ды на ігрышчах дратавалі[163] кадрылю. Я іхныя чыны называў дзікімі, а яны ўважалі, што я ад навукі ды ад *“талстоўскіх кнігаў”* зьехаў з глузду. У мяне не было больш-менш людзкай адзежы, і я нікуды не выходзіў ды нават па нядзелях да касьцёлу не хадзіў. Напаў страшэнны сум-нуда. Летам было так-сяк, бо дзень пры дні быў на працы. Але калі надышла восень, калі моладзь пайшла да школаў, на мяне і ўзвалілася гэтая жудасная нуда. Днём я сядзеў у хаце, а вечарам выходзіў на поле, на балота — на шпацыр, каб трохі намары́цца па куп’і, па імшарах. *“Няма чаго чытаць, дык папробую пісаць”*, — падумаў я. Абдумаў тэму аб паўстаньні 1863 году. Героямі падабраў двух вучняў Маладэчанскай школы (нам настаўнік Сапрык апавядаў, што ў часе гэтага паўстаньня ўсе вучні пайшлі ў паўстаньне, дык гэту школу зачынілі, а пасьля перарабілі на расейскую настаўніцкую сэмінарыю). Але нічога ня выйшла з майго пісаньня, бо я ня ведаў ні гісторыі паўстаньня, ні тагачасных жыцьцёвых умоў, ні практыкі беларускай літаратурнай мовы.

Аб такім пахілым маім жыцьці людзі заўважалі, і кожны рабіў свае высновы. Вядома, што гэта данесьлі й ксяндзу. У гэту зіму ён езьдзіў па калядзе[164]. Ён, пасьвянціўшы хату, сеў на лаве й зьвярнуўся да мяне такімі словамі на расейскай мове:

---

[163] ***Дратава́ць*** — таптаць нагамі (АВ).

[164] Паводле звычаю, пасьля Божага Нараджэньня ксёндз аб’яжджае парафіянаў свае парафіі — ***езьдзіць па калядзе***.

— *Што жа ты, лайдак, начытался Талстога й гаворыш, што Бога нет?*

— *Król Jan Sobieski*[165] *powiedział: sam Bóg panuje nad sumieniem człowieka, i Bóg nie potrzebuje pośredników między sobą a człowiekiem*[166], — адказаў я па-польску.

Я страшэнна абурыўся й ня ведаю, як і адкуль у мяне ўзьбегла на памяць гэта цытата, але яна ксяндза таксама абурыла, і ён выгукнуў:

— *Ты майму падмётку ня стоіш. Я учылся латыньскаму языку й грэчэскаму, а ты А й Б знаеш і гаворыш, што Бога нет!..*

Я толькі адступіў ад яго тры крокі назад і нічога не гаварыў, а ён сыпаў, сыпаў і нарэшце дадаў:

— *Я магу цебе места даць, но не хачу.*

Гэтым, відаць, ён хацеў сказаць, што можа данесьці паліцыі, што я рэвалюцыянэр.

Пасьля гэтага канфлікту з ксяндзом у мяне пачалося вялікае непаразуменьне зь сям'ёй, бо наша сям'я ўважала ксяндза за паўбога, а я зь ім абышоўся як з простым чалавекам. Пасьля аднэй звадкі з бацькам я спыніў яду й два дні ня еў. На трэці дзень на просьбу й плач маткі я пасьнедаў. Мне трэ' было некуды ісьці з дому. Я, пасьнедаўшы, пайшоў у двор Мураванка пытацца работы. Мне адказалі, што не патрэбна. Заставалася ісьці далей і пытацца па дварох ці адзінотніках[167], каб застацца за парабка. Але ж у мяне няма адзетку й няма грошай. А пакуль дапытаеш работы, дык трэба нешта есьці. Хадзіць па хатах і прасіць есьці? Я сам ня раз сабе прараказаў, што лепей з голаду памерці, чымся прасіць есьці, значыць — жабраваць. Я ўважаў, што жыцьцё ўжо страчанае; зь вялікай ахвотай памёр бы, але ж няма прычыны. Памерці ад самазабойства? Гэта вельмі ганебна й ня вытрымана: абняславіць школу й настаўніка ды даць козыры ў рукі таму, хто мяне да гэтага давёў. Нічога іншага ня мог падумаць, як на тыдзень адтэрмінаваць справу. Гэдак і зрабіў. На ўсякі выпадак пайшоў у воласьць узяць пашпарт. Там убачыў абвестку, што праводзіцца запіс у Сібір на залатыя распрацоўкі. (Гэта было якраз у часе Ленскіх расстрэлаў[168], але аб гэтым страйку работнікаў і іх расстрэле ў нас ня ведалі.) Я прашу памочніка запісаць мяне. Ён запісаў, але сказаў, што надзеі слабыя, бо толькі з нашай

---

[165] **Ян III Сабескі** (1629—1696) — кароль польскі й вялікі князь літоўскі (1674—1696).

[166] *"Кароль Ян Сабескі сказаў: Бог сам пануе над сумленьнем чалавека, і Богу не патрэбныя пасярэднікі паміж ім і чалавекам"* (польск.) (АВ).

[167] ***Адзінотнік*** — гаспадар, што жыве на адзіноце (АВ).

[168] **Ленскія расстрэлы** — трагічныя падзеі 4 (17) красавіка 1912 г. на прыісках Ленскага золатаздабыўнага таварыства. У выніку страйку й расстрэлу працоўных войскам загінула 150—270 чалавек, пацярпела да 500.

воласьці каля 200 асобаў запісалася, але мне нічога не заставалася, як чакаць.

Хутка надышла вясна, я пайшоў араць, а далей касіць і мне нічога іншага не выходзіла рабіць, як чакаць восені, бо ўвосень мне чарга прызывацца ў войска. Я цэлае лета працаваў шчыра й аддана, каб адудзячыць сям'і за той хлеб і бульбу, што вазілі мне ў школу два гады, але я сябе лічыў чужым для сваёй сям'і.

## [ВОЙСКА]

Надышла восень. Мяне забралі на вайсковую службу й накіравалі ў Сібір, у Забайкальле. Я ў тыя часы разьбіраўся ў сацыяльным пытаньні й ведаў цяжар вайсковай службы, але гэта падзея мяне вельмі ўцешыла, бо пашэнціла так шляхетна разьвітацца зь сям'ёй (як разьвіталіся і ўсе іншыя). А за жыцьцё трэсьціся не прыходзілася, бо яно было ўжо адпетае: *"И не жду от жизни ничего я"*[169] (Лермантаў). Я сам сабе гэтае падарожжа ў Забайкальле тлумачыў словамі героя Лермантава — Пячорына[170]: *"Еду в Персию — и дальше, авось Бог даст, где-нибудь и умру по дороге"*[171].

Я "Геаграфію Расейскай імпэрыі" Баранава[172] добра ведаў, але да прызыву ня быў ні ў якім, нават павятовым, месьце, а дзякуючы гэтаму доўгаму падарожжу шмат што ўбачыў. Перш-наперш пажыў тры дні ў Барысаве й два тыдні ў Менску ды распазнаўся з гэтымі местамі. Праехаў усю Расею й пабачыў некаторыя расейскія месты, Волгу й Уральскія горы, бачыў сібірскія лясы й акмалінскія стэпы[173], бачыў возера Байкал і Байкальскія горы. Жыў у пасёлку Бярозаўка каля места Верхнеўдзінск (цяпер Улан-Удэ).

У Забайкальлі мароз люты. Вокны замярзаюць каля 1 кастрычніка й замерзшы да красавіка. У сьнежні, студні, лютым і начамі ў сакавіку каля −40°; сьнегу няма. Вечарам у 9 гадзін паверка. Пасьля паверкі бамбардзіры й фаервэркеры (яфрэйтары й унтэр-афіцэры) дзядзьку на сваю ўладу гадзіну, а то й паўтары круцяць. Да заўтрашняга дня трэба

---

169 Недакладная цытата зь вершу *"Выхожу один я на дорогу"*, у арыгінале радок гучыць *"Уж не жду от жизни ничего я"*.

170 Пячорын — пэрсанаж раману Юрыя Лермантава "Герой нашага часу".

171 Дакладная цытата выглядае так: *"Еду в Персию — и дальше… авось где-нибудь умру на дороге!"*.

172 Маецца на ўвазе кніга: Географія Россійской имперіи: Курсъ среднихъ учебныхъ заведеній. Съ дополнительными и справочными свѣдѣніями въ Приложеніи и 48 картинками въ текстѣ. Составили А. Барановъ и Н. Горѣловъ. Санктъ-Петербургъ, 1887.

173 **Акмалінскія стэпы** — цяпер тэрыторыя паўночнага Казахстану.

падчысьціць гузікі, боты ды інш., дык ужо й 12 гадзін. У бараку чатыры шары[174] нараў. Там густа ляжаць туга набітыя адзін ля аднаго матрацы. На іх 4 шары маладых салдатаў. Ляжаш спаць у 12 гадзін, накрыесься коўдрай і шынялём. Сьпіш і чуеш, як чыкае гадзіньнік, як дзяжурны з днявальным гавораць. У палову пятай пачуецца страшны працяжны крык: *“По-ды-майсь!”*. З маланкавай сьпешнасьцю ўсхопліваюцца, адзяюцца, абуваюцца, вымятаюць з-пад нараў, мыюцца, падчышчаюцца. Яшчэ мітусьня каля ўмывальніка й каля пуцоўкі[175] ботаў, гузікаў ды інш. у поўным ходу, а ўжо чуеш: *“Становись на молитву!”* Яшчэ й паловы ня стала, а тут падаецца каманда *“ровняйсь”*. Каманды — і *“направо“*, і *“налево”*, і *“кругом”*. Праверка чысьціні адзеньня, абутку й зброі, прыбіраньне ў кашарах і вонках, высыпках дарожак жоўтым пяском. Начыньня й прыладаў на гэта няма, дабывай як хочаш. А 7-й — сьняданьне, а з 8-й і да 12-й — заняткі. У 12 — абед, а па абедзе зноў заняткі аж да 6. У 6 — вячэра. Па вячэры заняткі па пісьменнасьці й сьпевы да 9-й. І гэтак дзень пры дні.

Калі мы толькі прыбылі на станцыю, дык па нашы куфэркі прыехала некалькі саней, запрэжаных па чацьвера коні папарна — конь перад канём. Яздовыя сядзяць верхам ды прышпорваюць коні, а коні станавяцца дубам, а нам страх, бо думаецца, што, магчыма, і нас заўтра пасадзяць на гэтых шалёных коні. Мяне на разьбіўцы назначылі ў пісары ў брыгадную ўправу й першыя два тыдні меней ганялі. Але пасьля, калі даведаліся па сьпісках, што я не праваслаўны, дык мяне зь пісарскай каманды скрэсьлілі й перавялі ў першы аддзел, дзе рыхтавалі ў вучэбную каманду (падафіцэрскую школу). У гэтым аддзеле я прабыў чатыры месяцы. У канцы красавіка мяне накіравалі ў фэльчарскую школу, якая была пры вайсковым шпіталі. Тут адбывалася навучаньне тэорыі й практыцы.

У гэтым шпіталі мэдычных сёстраў не было, а іхныя абавязкі выконвалі мы, фэльчарскія вучні. Мы былі разьдзелены на 7 частак, бо было 7 аддзелаў у гэтым шпіталі: нутраное I, нутраное II, вочнае й вушное, хірургічнае, вэнэрычнае, эпідэмічнае й аптэка. Кожная група па чарзе ў сваім аддзеле дзяжурыла, прысутнічала ў часе візытацыі доктара. Усе вучні абавязаны былі прысутнічаць і практыкавацца на ўскрыцьці трупа, і па чарзе 2 вучні ўскрывалі труп. А ў гэтым шпіталі шмат людзей умірала, асабліва вясной. На абавязку дзяжурнага ляжала мераць тэмпэратуру два разы на дзень і заводзіць яе на ліст, раздаваць своечасова лякарства, сачыць за раздачай стравы ды назіраць за парадкам і дзень і ноч. Асабліва цяжка было там дзяжурыць, дзе былі

[174] ***Шар*** — нешта палажыць ці паставіць у вадну лінію (АВ).

[175] ***Пуцава́ць*** — чысьціць.

перапоўненыя баракі, дзе былі хворыя ў вялікім па́ле[176] бяз памяці, якія часта з ложкаў схватваліся. Адна выгада была ў гэтым шпіталі — у вольны час ад працы вучань адчуваў сябе зусім вольным і безь ніякага пытаньня ішоў куды хацеў.

Калі я толькі прыбыў у гэты шпіталь, дык мяне паслалі працаваць у эпідэмічны барак. Тут хворых было вельмі мала й работы было вельмі мала, а вольнага часу шмат. Бярозаўка — гэта велізарны барачны пасёлак, дзе кватаравала 4 палкі пяхоты, брыгада артылерыі, мартырны дывізіён, сапёрны й пантонны батальёны. Пасёлак разьлёгся на даліне, з аднаго боку ён прылягаў да вялікай ракі Сілінґа й чыгунцы, а з трох бакоў горы. Паколькі зь мяне ня вытхнуўся быў чад лермантаўскай паэзіі, дык я захапляўся гэтымі горамі, і кожную вольную часіну ішоў у горы. Здаецца, і не высокая гара; лезеш на яе, заморысься; глянеш уніз: зусім мала падняўся; глянеш угору — вельмі далёка да верху. І колькі я ні лазіў, дык ніколі вярхоў самых высокіх тамашніх гораў не дасягаў.

У гэтым эпідэмічным бараку я напаткаў аднаго летувіса — Аўгайціса, які хварэў на шкарлятыну, дык ён мусіў тут шэсьць тыдняў праляжаць пасьля хваробы. Зь ім мы пасябравалі. Сапраўды гэта быў беларус Зьмітравіцкай воласьці з Барысаўшчыны[177], але малы выехаў у Ковеншчыну, быў гімназістам (з V клясы выбыў). Я з гутаркі яму пахваліўся, што маю закончаную дзьвюхклясавую школу. Ён мне парадзіў не закідаць сваёй навукі, але папаўняць яе — падгатаваць самаадукацыяй чатыры дысцыпліны: агульную гісторыю, альгебру, лацінскую мову й адну з новых моваў, а тады паступаць аптэчным вучнем. З нашай гутаркі выявілася, што па агульнай гісторыі я магу трымаць экзамэн, а калі скончу фэльчарскую школу, дык трохі засвою лацінскую мову, далей мне будзе лёгка яе давучыцца; альгебру ён тут жа мяне пачаў вучыць, і мы шмат яе падагналі. Я яго пазнаёміў з нашым нацыянальным адраджэньнем. Ён мне ўталкаваў, што ня толькі расейцы — нашы супольныя нацыянальныя ворагі, але й палякі. *“За Немэн, панічу!”* — гэта было ягонае гасла[178]. Ён мне радзіў чытаць пераклады заходнеэўрапейскіх пісьменьнікаў і ў першую чаргу пазнаёміцца з скандынаўскімі пісьменьнікамі; паслаў мяне ў свой полк з запіскай да студэнта, ад якога я прынёс творы Кнута Гамсуна[179], і мне яны вельмі падабаліся. Мой новы сябра радзіў мне практычна глядзець на жыцьцё — прыдбаць сабе які талент, каб было з чаго пасьля жыць,

---

[176] ***Пал*** — высокая тэмпэратура цела (АВ).

[177] Цяпер в. Дзьмітравічы Бярэзінскага раёну.

[178] ***Гасла*** — лёзунг, дэвіз.

[179] **Кнут Гамсун** (сапр. нарв. *Knud Pedersen*, 1859—1952), нарвэскі пісьменьнік, ляўрэат Нобэлеўскай прэміі па літаратуры за 1920 г.

і ў прыклад мне пачаў гаварыць аб сабе: калі ён адбудзе вайсковую службу й прыйдзе дамоў ды месяц-другі пажыве ў бацькі, тады бацька скажа: *"Ідзі сын, шукай сабе працы, бо я й безь цябе абыдуся"*.

Аўгайцісава практычная парада трохі мяне ацьвярозіла, але я не засвоіў яе. Я плянаваў сабе заняцца самаадукацыяй у часе сваёй вайсковай службы, бо буду трохі грошай мець, калі выйду за фэльчара й буду вольны час мець. Але я не пакідаў зусім пячорынскага фаталізму. Калі хто б папытаўся ў мяне, калі я вярнуся дамоў, дык я адказаў бы словамі Пячорына: *"Бадай? Ды й няма дзеля чаго"*. Я меркаваў папасьці ў яшчэ дзічэйшую краіну, як Забайкальле, — думаў, калі пасьля сканчэньня школы будзе камандзіроўка ў Якуцк ці Манголію (тады якраз расейцы Манголію далучылі), дык паеду.

Замест таго, каб вучыцца два гады ў школе, сталі праграму хутка выконваць, і больш здольных вучняў прыставілі да экзамэну ў канцы сакавіка 1914 году, бо Расея рыхтавалася да вайны. У хуткім часе мяне накіравалі ў часьць, а ў пачатку мая — фэльчарам з асобнай часткай 200 асоб на артылерыйскі палігон за 30 кілямэтраў ад Бярозаўкі. Гэта мясьціна была на беразе ракі Уда між двух бурацкіх улусаў (вёсак), а далей — сопкі й лес. Мяне цікавіла бурацкае жыцьцё — іхныя заняткі, вера й звычаі. Калі артылерысты на гэты палігон прыяжджалі страляць, дык тутэйшыя нашы салдаты мелі з гэтага абрывак: яны зьбіралі каляровы мэтал: медзь, алюмінь, волава — ды прадавалі й мелі якую залатоўку на табаку. Іншыя шрапнэлі ня рваліся. Аднаго разу ледзь золак мяне разбудзіў страшэнны выбух. Я насьпех адзеўся, схапіўся за сваю фэльчарскую торбу ды бягом да кузьні, дзе качаўся дым, аж там мой зямляк — жыдок Аксэльрод зь мястэчка Плешчаніц — ляжыць пад парогам кузьні з разарваным жыватом, і адтуль вывальваюцца нутры.

Ён сьмяротна ранены, і апошнія мінуты дажывае, але я, выконваючы мэдычны закон, накладаю марлю й перабінтоўваю ягоныя нутры ў гэтай велізарнай ране. Там быў і другі ранены, таксама жыдок, Холад з Мазыра. Ён быў лёгка ранены й неяк дзівосна: яму шрапнэліна ўгадзіла якраз між вачэй пад носам, але толькі скуру прабіла. Гэтыя кавалі задумалі, каб у неразарванай шрапнэлі адсеч галоўку, а тады яе разабраць на часткі. Такім было маё першае мэдычнае дачыненьне да ґвалтоўна гінучага чалавека.

## ПЕРШАЯ ВАЙНА

У пачатку ліпеня прыйшоў загад з Іркуцку, з вайсковай акругі, што я з мая месяца ўзьведзен у фэльчары, і з таго часу я атрымаў пэнсію[180] па 7 рублёў 50 капеек на месяц. Я меркаваў восеньню, калі прыеду на

[180] ***Пэнсія*** — тут: заробак.

зімовыя кватэры, купляць кнігі рыхтавацца на аптэкарскага вучня, аж ні з таго ні зь сяго раптоўная вестка: вайна. Адразу ўсё войска зь лягераў і наша каманда з палігону падаліся на зімовыя кватэры й сталі рыхтавацца да вайны. Пачалася мабілізацыя запасных салдатаў і коні. Укамплектаваліся батарэі людзьмі й коньмі, салдатам выдалі новае адзеньне й ранцы, і мы выехалі зноў у лягеры, але на ваенны лад. Чакаем загаду выяжджаць, чакаем вагонаў. Настрой зьмяніўся і ў мяне. Іншага жаданьня няма, як толькі ехаць. Бачу, некаторыя мае сябры па фаху[181] хвалююцца — баяцца, а мне сьмешна: горш сьмерці нічога ня будзе, а сьмерці я не баюся. У мяне зьявілася нейкая шалёная прага да падарожжа, і я баюся, каб вайна ня скончылася да таго часу, пакуль мы выедзем зь месца.

Мы выехалі ў палове верасьня, але Байкальскія горы былі ўжо белыя ад сьнегу. Роўна праз дзень мы спыніліся на дзьве гадзіны на станцыі Мысавой. Тут зьмянілася брыгада, і мы абедалі на беразе Байкалу; вада Байкалу чыстая, вельмі празрыстая й вельмі смачная. Блізка два гады таму я ехаў у Сібір, дык у вагонах вокны былі замерзшы, а на пляцоўках вагонаў было сьцюдзёна, ды й мяцеліца перашкаджала разглядаць наўкольныя прасторы, а цяпер з таварных вагонаў усё адкрыта майму зроку. Калі ехалі ў Сібір, дык блізка месяц часу патрацілі, а калі цяпер на вайну едзем, дык за два з паловай тыдні прыехалі. Аднэй нядзелькі раніцой былі ў Смаленску й мне думалася, што неўзабаве я пабачу родны Менск, але з Смаленску машына[182] заблудзіла — пайшла на Віцебск. Прыяжджаем на станцыю Рудня. Тут на станцыі й каля шляху поўна людзей; тут і гутарка наша й па-нашаму адзеты; гэта самае на станцыі Лёзна.

Калі нас абучалі з рэкруцтва, дык часта лаялі: *"Ты не солдат, а баба рязанская"*. Мне цікава было пабачыць, як выглядаюць гэтыя бабы разанскія. І вось перад Смаленскам мы на нейкі час спыняліся ў Разані. Там бабы чысьцілі транспартныя эшалёны, што коні вазілі. Тут усе бабы адная ў адну нізкаватыя, таўстыя, прысадзістыя, паўнатварыя; адзетыя ў своеасаблівыя чорныя сьвіткі з наўкольнымі заборамі; непараўнальная адваротнасьць ад руднянскіх ці лёзьненскіх.

Калі мы павярнулі на Віцебск, дык думалі, што нас вязуць на Ўсходняпрускі фронт, але з Полацку нас павярнулі на Маладэчна, Масты й станцыю Чарэмха, дзе ссадзілі, і мы там прастаялі тыдзень. Адгэтуль нас пасадзілі зноў на цягнік ды завезьлі ў Варшаву, дзе мы пастаялі каля двух тыдняў. Гэта першае вялікае места па велічыні й аздобе, якое папалася майму зроку. Праз паўтара тыдня аднаго вечара мы выехалі. Перш ехалі местам, а тады выехалі на нейкую раўніну, гэта было

[181] ***Фах*** — прафэсія.

[182] ***Машына*** — тут: паравоз, цягнік.

Макатова Поле[183]. Тут мы сталі й стаялі цэлую ноч. Калі выяжджалі з двара кашараў Кексгольмскага палка[184], дык пачынаў дождж сыпаць, і цэлую ноч ліў палівень як зь вядра, змачыў нас да рубінкі[185]. Мы ў баі яшчэ не былі, а ўжо даведаліся, што вайна — гэта справа несамавітая[186]. На сьвітаньні паехалі на захад — на Блонь[187]. Праехаўшы Блонь, застанавіліся ў Ґродзіску[188] й прастаялі тут тры дні. Нарэшце полк пяхоты й нашы дзьве батарэі накіраваліся на Жырардаў[189], а рэшта нашай дывізіі — тры палкі пяхоты й чатыры батарэі — засталіся ў Ґродзіску на біваку. Надвечар мы прыехалі ў Жырардаў, а ўночы выехалі назад, але Ґродзіск ужо раніцой аб'яжджалі на захад і поўнач за тры кілямэтры, а там была страляніна й відаць быў агонь. А гэта было так: на сьвітаньні ўварваўся ў Ґродзіск нямецкі эскадрон і стаў па вуліцах страляць ды абстрэльваць абозы й конавязі, але па дамах было шмат расейскага войска, і яно з двароў, выскакваючы на вуліцы, стала абстрэльваць немцаў. Хоць значная колькасьць расейцаў была пабіта й паранена, але й нямецкі эскадрон ня змог выехаць з гораду. Мы аб'ехалі й Ґродзіск, і Блонь ды накіраваліся на Варшаву. Але перад вечарам павярнулі назад і перад Блоньню ў адной вёсачцы застанавіліся пераначавалі, а раніцой сталі на пазыцыі. А там перад намі каля трох кілямэтраў у вялікім сяле ля касьцёлу стаіць нямецкая батарэя й страляе. Наша батарэя *"па простай наводцы"* стала прыстрэльвацца, але немцы, калі згледзелі нас ды сыпнулі, дык нашы салдаты ледзь пасьпелі распаўзьціся па бацьвіньні бурачнага поля. Немцы не пускалі пад'ехаць перадком да батарэі, але нашы салдаты па аднэй гармаце пацягалі ў вёску, а пасьля поўдня сталі на іншую пазыцыю. На гэтай пазыцыі да вечара выбыла з строю 45 асобаў, але найболей тых, што патроны падносілі. На гэтай пазыцыі мы прастаялі каля двух тыдняў, але ўбытак у людзях быў штораз меншы й меншы.

Гэты раз немец з кірунку Чэнстаховы ішоў проста на Варшаву й паўднёвей Варшавы дасягнуў Віслы, але пасьля гэтых двухтыднё-

[183] **Макатова Поле** (польск. *Pole Mokotowskie*) — сёньня вялікі паркавы комплекс недалёка ад цэнтру Варшавы.

[184] **Лейб-гвардыі Кексгольмскі Імпэратара Аўстрыйскага полк** — полк Расейскай Імпэратарскай гвардыі, дысьлякаваны ў Варшаве.

[185] ***Рубінка*** — рубец (памяншальнае) (АВ).

[186] ***Несамавіты*** — не зусім добры (АВ).

[187] **Блонь** (польск. *Błonie*) — горад у Мазавецкім ваяводзтве Польшчы.

[188] **Гродзіск** (польск. *Grodzisk Wielkopolski*) — павятовы горад у Велікапольскім ваяводзтве Польшчы.

[189] **Жырардаў** (польск. *Żyrardów*) — павятовы горад у Мазавецкім ваяводзтве Польшчы.

вых баёў павярнуў зноў на захад. Расейскае войска сьледам ішло за немцамі, але так сьмела, што разам ішла пяхота, артылерыя й абозы. Гэткім парадкам аднаго вечара мы прыяжджаем начаваць у мястэчка Стрыкаў[190]. Гэта было ў сяродку кастрычніка, але ноч была цёплая, дык наша батарэя застанавілася начаваць каля аднэй — мабыць, фальварковай — вялікай пуні. Адны палезьлі ў пуню, а іншыя палеглі на гумне. Уночы паўстала панічная трывога. Усё жывое ўсхватваецца, конныя запрагаюць, а пешыя пехатой, але ўсе адзін перад адным бягуць як мага на ўсход. Выйшла, што ў ня сама вялікім мястэчку заначавалі два штабы — нямецкі й расейскі. Мы адскочылі назад, мусіць, кілямэтраў зь дзесяць, і стаялі на полі ў калёне, а ў бок мястэчка цэлую ноч сакаталі кулямёты. Калі мы ехалі на другі дзень назад, дык з канца мястэчка, дзе мы станавіліся начаваць, велізарная плошча была ўслана трупамі расейскай пяхоты. У Стрыкаве мы пастаялі блізка з тыдзень, і калі паехалі далей, дык аб немцу й чутак не было.

Праехаўшы некалькі дзён, мы зноў спыніліся на некалькі дзён ля аднаго маёнтку ў Кольскім павеце. Там стаяў у маёнтку нейкі конны штаб, і вайсковы суд асудзіў двух чалавек да павешаньня. Іх абвінавачвалі ў шпеґоўстве[191] на карысьць немцаў; адзін быў польскі немец, а другі — жыд. Немца вешалі вечарам недалёка гэтай пуні, што я спаў, але я не выходзіў: адно, што неахвотнік быў глядзець на гэта страшнае відовішча, а другое — быў хворы, балеў жывот. У часе баёў пад Варшавай я галадаў дый па дарозе на захад рэдка калі паліла паходная кухня якую капусту ці булён. Між пазыцыяў расейскай і нямецкай пад Блоньню быў цукровы завод. Калі мы вырушылі на захад, дык мой санітар Малец прынёс мне паўгалавы цукру; я, галодны, шмат яго сасмактаў, дык забалеў і сапсаваўся жывот, і [стаўся] нажывот[192]. А другая хвароба — гэта вошы. Пакуль зь Сібіры прыехалі, дык патрохі сталі зьяўляцца; праўда, у Варшаве ў лазьню схадзілі, але гэта вельмі мала дапамагло, бо яны былі ўжо ў верхняй адзежы, а за час пазыцыі ды падарожжа дык амаль што плоймай[193] пайшлі. Праўда, мы зь імі змагаліся: лавілі й скідалі далоў ды грэлі бялізну над запаленай саломай, але вынікі былі слабыя. Асабліва страшна вошы дакучалі, калі ўночы запакоісься, каб заснуць.

На другі дзень жыда вешалі. Я бачыў здалёку: перш казак палез на таполю, а пасьля з натоўпу пад гэтай таполяй чалавек высунуўся ўгору з натоўпу, а потым ён там і павіс. Па нейкім часе яго тут у канаве пад таполяй і пахавалі, а таполю сьсеклі.

---

190 **Стрыкаў** (польск. *Stryków*) — горад у Лодзінскім ваяводзтве Польшчы.

191 ***Шпеґоўства*** — шпіянаж; шпеґ — шпіён.

192 ***Нажывот*** — расслабленьне страўніка (АВ).

193 ***Плойма*** — вялікі рухомы натоўп людзей ці жывых істот (АВ).

Пасьля гэтага мы паехалі на захад да мястэчка Ўнееў[194] на Варце. Сюды прыехалі ў суботу позна. Я палез начаваць у паветку на салому. Салома была ня цёртая й летка ляжала, а тады быў вялікі вецер і праходзіў праз гэту салому. Я, лежучы ў саломе, настолькі азяб, што рукі й ногі сталі дранцьвець, а я ня ў сілах быў паварушыцца. Думаў, што ўжо буду ўміраць, але раскратаўся, зьлез з саломы й пайшоў у хату. Там было поўна людзей, якія ляжалі й сядзелі на падлозе. Я ўсё ж пералез праз парог і ўцягнуў адну нагу між двух чалавек, а другую — на другі бок гэтага чалавека. І такім чынам мусіў пастаяць некалькі гадзін, пакуль прыйшоў у нармальны стан здароўя. Наступны панядзелак, 19 кастрычніка ст. ст[195]., полк пяхоты, дзьве батарэі, наша й 3-я, і рота сапэраў паехалі ўніз па Варце, каб фарсаваць раку, а дзень быў вельмі туманны. Але ў гэты самы дзень немцы былі ўжо на левым беразе Варты, праўда, лявей; яны разьбілі два сібірскія палкі, 1-ю й 4-ю батарэі нашай брыгады забралі ў палон пад мястэчкам Паддэмбіцамі[196] ды пайшлі на ўсход. Мы прыехалі на нейкія багатыя хутары й сталі разьмяшчацца нанач, закупіўшы вялікі стог сена для коні. Позна вечарам нашы афіцэры даведаліся, што яны ня маюць сувязі з сваімі штабамі, і паехалі на вялікую дарогу, каб ёй ехаць на ўсход — аж яна занята войскам; калі разгледзеліся — аж гэта войска нямецкае, якое рухалася на ўсход. Гэта было якраз 31 кастрычніка ст. ст., а ноч была вельмі цёмная. Мы некалькі гадзінаў прастаялі ў калёне, а нарэшце афіцэр пад'ехаў і загадаў, каб былі прыгатаваныя рэвальвэры й кінжалы; пайшоў нейкі шорах. Начальства знайшло правадыра — селяніна, які нас павёў на ўсход малымі дарожкамі на паўдзень ад тэй дарогі, што ішлі немцы. Мы ехалі спакойна ноч і да паўдня, застанавіліся адпачываць у Паддэмбіцах, а калі выяжджалі, дык на нас напаў невялікі разьезд[197], але ўцёк. Адвячоркам мы ехалі шашой, але па бакох была чуваць страляніна й праз нас кулі ляцелі.

Вечарам пад'яжджалі да мястэчка Аляксандрава[198]. З правага боку перад намі ў маёнтку кароткімі чэргамі стукаў нямецкі кулямёт. Ішоў дождж. На шашу ўсходзіла пяхота, дык іхны афіцэр зьвярнуў нашу кабылу з дарогі, і наша санітарная павозка ды кабыла зваліліся ў глыбокую канаву дагары, і мы з сваім фурманам ня можам вылезьці

---

[194] **Унееў** (польск. *Uniejów*) — сёньня горад на рацэ Варта ў Лодзінскім ваяводзтве Польшчы.

[195] ***Ст. ст.*** — паводле старога стылю, н. ст. — паводле новага стылю.

[196] **Паддэмбіцы** (польск. *Poddębice*) — павятовы горад у Лодзінскім ваяводзтве Польшчы.

[197] ***Разье́зд*** — невялікі аддзел коннай выведкі, конны патруль.

[198] Відаць, маецца на ўвазе **Александрувак** (польск. *Aleksandrówek*) — вёска ў паддубіцкай гміне Лодзінскага ваяводзтва Польшчы.

з санітарнай будкі, а пры гэтым я быў моцна хворы. Пакуль мы вылезьлі, дык на дарозе ні душы. Пакуль мы перапрэгліся ды выцягнулі нашу снасьць[199] з канавы, дык было моцна цёмна й дождж ішоў. Ня ведаем, куды ехаць. Паехалі наўгад, але набага[200] прыехалі ў Аляксандраў. І там ні душы, у дамах цёмна. У вадным баку паказалася сьвятло — гэта была трамвайная лінія, па якой мы даехалі да Лодзі, а там напаткалі свайго разьведчыка, які нас давёў да батарэі.

Гэту ноч мы пераначавалі, стоячы на вуліцы. У Лодзі сабралася тры арміі. Назаўтра мы даведаліся, што места аколена з усіх бакоў немцамі; раніцай пяхота заняла пазыцыі на краі места, а артылерыі не было дзе стаць. Была прагаліна каля жыдоўскіх могаліц: тут сталі тры батарэі. Наперадзе горная, потым наша, а за намі — дальнабойная.

На першы дзень вайсковыя ўлады канфіскавалі ўсе запасы хлеба ў мескай[201] управы. Немцы безупынку бамбардавалі места, цывільнае жыхарства ад гэтага больш цярпела за вайскоўцаў — на кожным квартале былі цывільныя мэдычныя пункты. Часта бомбы на вуліцы варочалі трамваі. Праз тыдзень нямецкае кола навокала Лодзі быў прарванае, але ў бок Чэнстаховы. Адтуль сталі цягнікі даходзіць. Празь нейкі час прагналі немцаў зь мястэчка Бжэзіны[202] (усходні бок). Гэтымі частымі атакамі расейцы дашчэнту зруйнавалі сваю пяхоту й 22 лістапада ст. ст. адышлі ў бок Варшавы на раку Раўку, дзе мы пастаялі аж да лютага месяца. Тут былі ўпартыя баі, асабліва на Каляды 1914 году.

У палове месяца нас перакінулі на поўнач на Прасныскі[203] фронт. Тут стаяла нямецкая армія з старых людзей з крыжамі на касках, а расейскай зусім не было — ахоўвала фронт кавалерыя. Тут расейская пяхота перайшла ціха ўночы праз раку: на слабым лёдзе паслалі дошкі й па іх перапаўзьлі ды кінуліся ў атаку. Тут мы былі прайшлі амаль да прускай граніцы, але безупыннымі атакамі зьнішчылі амаль усю пяхоту. Былі выпадкі, што яфрэйтар камандаваў батальёнам. Мы на тым фронце прастаялі амаль да паловы траўня. Аднаго разу нашы гарматы пабілі, дык нас зьмянілі на адпачынак, покуль новыя гарматы прыслалі. Калі пад Сахáчавам[204] немцы першы раз пусьцілі ў атаку газ, дык тады нас былі накіравалі на Варшаўскі фронт. У Сахачаве нас на пазыцыі не паставілі, але накіравалі зноў у Варшаву, а адтуль — на станцыю Малкíня, а праз два тыдні паслалі на Люблін — на Галіцкі фронт, за

199 ***Снасьць*** — прыладзьдзе да работы (АВ).

200 ***Нáбага*** — на вялікае шчасьце (АВ).

201 ***Мéскі*** — гарадзкі, ад *места*.

202 **Бжэзіны** (польск. *Brzeziny*) — горад у Лодзінскім ваяводзтве Польшчы.

203 ***Прáсныскі*** — ад назвы м. Прасныш, цяпер г. Пшасныш (польск. *Przasnysz*).

204 **Сахачаў** (польск. *Sochaczew*) — павятовы горад у Мазавецкім ваяводзтве Польшчы.

станцыю Траўнікі[205] за ракой Вепш. Там наша пазыцыя была рухомая: увесь час адступалі, бо не было чым страляць.

На гэтым фронце мы занялі пазыцыю каля 50 кілямэтраў на поўдзень ад станцыі Траўнікі. Гэта быў час жытняга жніва. Мы сталі на пазыцыі на краі лесу й патрохі прыстрэльваліся. Бачым, перад нашай батарэяй снапы гарацъ і там нейкія людзі ходзяць. Я выбег наперад, каб разгледзець гэтых людзей, аж адтуль засакатаў кулямёт і кулі над маёй галавой зашасталі па лісьцях. Я з усёй сілы кінуўся да свае батарэі, аж батарэі не застаў на месцы, а толькі чуў грукат і звон, як яна перлася лясной дарогай, бо немцы абкружалі гэты лес. Я ляту гэтай дарогай як падсмалены, а нідзе ні чалавека, аж у лесе наўрэўся на мэдычны пункт. Там ляжалі раненыя й была санітарная гаспадарка — ношы для раненых, вата, марля, мэдыкамэнты, а абслугі няма. Праз паўкілямэтра я дагнаў расейскую пяхоту, але яе скора мінуў, бо яна не магла шпарка бегчы. Я быў у ваднэй кашулі, дык баяўся, калі ў такім стане пападу ў палон, дык шмат напакутуюся ад холаду. Гэдак я бег чатыры кілямэтры, пакуль дагнаў батарэю, ды яшчэ каля трох кілямэтраў ехалі, пакуль вырваліся з акружэньня.

Памятна апошняя пазыцыя перад Траўнікамі. Дзень ясны, гарачы. Немец, падцягнуўшы цяжкую артылерыю, бамбіў нашы пяхотныя пазыцыі перад нашай батарэяй. Раз-пораз гэтыя страшэнныя кулі валяцца ў вёску. Ад кожнага выбуху страшэнна стагнала зямля й за кожным разам бярвеньне ад будынкаў, як паскалкі, ляцела ўгору і ўбакі. А 10-й гадзіне раньня пяхота й недабіткі з кулямётам, але без амуніцыі, былі выбітыя з пазыцыі. Мы зьняліся з пазыцыі й разам зь імі паехалі да мосту на Вепшы. Калі пераехалі гэты мост, дык ён быў запалены. Частка пяхоты, што была на флянгах, засталася на тым баку, а іншыя патапіліся, бо рака была глыбокая, а берагі стромкія, дык не змаглі вылезьці. На трэці дзень пасьля гэтага нам зноў прыйшлося раптоўна зьнімацца з пазыцыі. Батарэя схвацілася й паехала ў аб’езд, бо наперад была рэчка й балота. Я не пасьпеў сесьці, дык пайшоў проста; прыйшоўшы да рэчкі, мусіў пераскокваць. Ваду пераскочыў, але на беразе папаў у калатуху-багну амаль па пояс. Шмат замарудзіў, пакуль вылез, бо хацеў, каб з ботамі вылезьці. Вылезшы, прымушаны быў і з ботаў гразь вычысьціць, дык і шмат замарудзіў. Нідзе не было відаць расейскага салдата, я ішоў адзін. Аж з прыдарожнай канавы вылазіць мой санітар — Ёган Пярн, эстонец. Ён застаўся мяне чакаць і кажа жартуючы:

— Я думаў, што цябе забілі, дык я ішоў забраць твае грошы, бо чаму ж яны павінны каму чужому заставацца.

З гэтага месца мы бадай што без супраціву адходзілі праз Уладаву да Берасьця Літоўскага, бо не было чым страляць. Перад намі ехалі

---

[205] **Траўнікі** (польск. *Trawniki*) — вёска ў Люблінскім ваяводстве Польшчы.

конныя аддзелы расейскага войска, жыхароў выганялі зь вёсак, а вёскі палілі. У Берасьці нас затрымалі на тыдзень: нашы фурманкі езьдзілі па акаляючых вёсках ды звозілі сена й снапы да Берасьця. Нас мелі пакінуць у Берасьцейскай крэпасьці, калі расейцы адыдуць далей на ўсход. Але калі здалася Ковенская крэпасьць, дык нас накіравалі проста на Баранавічы, дзе пастаялі з тыдзень і нам з інтэнданцтва давалі ўсяго столькі, колькі зможам узяць. Тут наша батарэя ўселася ў цягнік, і мы праз Вільню ад’ехалі на Дзьвінск. На другі ці трэці дзень пасьля гэтага расейцы Вільню пакінулі. Нас паставілі на пазыцыі на беразе Дзьвіны каля станцыі Рэмэрсгоф[206].

Тут мы пастаялі аж пад вясну [1916 году]. Ды зрабілі нам вялікае падарожжа ў тыл па сьнегавых дарогах, дзе мы паламалі дышлі й снасьць парвалі. Калі мы пад’ехалі пад мястэчка Глазманка[207], паставілі на адпачынак, тут нас і вясна застала. Вясной аднаго разу быў вялікі парад, прымаў гэты парад былы няўдалы герой расейска-японскай вайны генэрал Курапаткін[208] (ён тады камандаваў Паўночным фронтам). Летам, у чэрвені месяцы, 1916 году мы зрабілі прыемнае падарожжа праз усю Латвію; праз два дні прыехалі аж да Рыгі ды праз Рыгу й Дзьвіну на Торэнсбэрґ[209] (прадмесьце Рыгі за Дзьвіной), на Рыскія балоты, дзе мы астаўбаваліся надоўга й прастаялі аж да паловы жніўня 1917 году. Тут нас захапіла рэвалюцыя. 1917 год быў пераменным годам — як у маім жыцьці, гэдак і ў жыцьці ўсёй нашай краіны, дык патрэбна тут спыніцца й зрабіць некаторыя падагульненьні.

## [БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА]

Зь беларускім друкаваным словам я пазнаёміўся ў 1905 годзе зь лістовак, дзе гаварылася аб уціску сялян. Тут патрабавалася розных палёгкаў для сялян і беларускай мовы ў школы. Тады ж давялося чытаць другую лістоўку — польскую, супроць беларускасьці, пад ёй было падпісана слова *ксёндз*. У гэтай лістоўцы перасьцерагалася каталікоў, каб не запісваліся беларусамі, бо хто запішацца *беларус*, дык самахоць пападзецца ў папоўскія рукі — ні ён, ні ягоныя патомкі ня выкруцяцца з праваслаўя. Крамнікаў сын Моська Фаін выпісваў “Нашу Ніву” і сам тое-сёе пісаў у гэту газэту пад псэўданімам М. Пекны. А калі быў

[206] **Рэмэрсгоф** (ням. *Römerhof*) — цяпер вёска Сківеры ў Латвіі.

[207] **Глазманка** — раней мястэчка ў Віцебскай губэрні, цяпер гэта Ґостыні (лат. *Gostiņi*) — раён гораду Плявіняс (лат. *Pļaviņas*) у Латвіі.

[208] **Аляксей Курапаткін** (1848—1925), расейскі генэрал. У руска-японскую вайну камандаваў расейскімі войскамі ў бітвах пры Ляояне, Шахэ, Сандэпу й Мукдэне і ўсе іх прайграў.

[209] **Торэнсбэрґ** — цяпер Торнякалнс (лат. *Torņakalns*) — раён г. Рыгі.

настаўнікам у нашай школе Алісей Жалейка, у пустым пакойчыку ў школе ў століку ляжала “Наша Ніва”, дык вучні бралі й чыталі ды зноў клалі на месца. Ну й ксёндз Пацэвіч трохі паддаў ахвоты да беларушчыны, а галоўнае — ён як бы загарантаваў, што гэта ня шкодна для каталіцкай веры. Калі я вучыўся у дзьвюхклясавай школе, дык тады прыходзіла зь Вільні пэрыядычная літаратура Саланевічавага[210] кірунку, дзе былі напады на беларускіх дзеячоў і на ўвесь рух. Настаўнік Сапрык казаў, што гэта чарнасоценныя рэакцыйныя часопісы й ім ня трэба верыць, а “Наша Ніва” — прагрэсіўная газэта. Сапрык нават часамі дазваляў пісьмовыя работы пісаць па-беларуску, але ня ў сшытках, а на асобных лісткох. Ён нават паведаміў, што беларуская мова ўрадам забаронена, пры тым дабавіў, што беларуская літаратурная мова не распрацаваная, на ёй няма навуковых кніг, ды й граматыкі беларускай няма.

Калі быў я ў войску, дык брат мне пісаў часта аб беларускім руху, аб літаратуры й паэтах і пісьменьніках. Ён вучыўся разам зь Лявіцкай Вандай[211] (дачкой Ядвігіна Ш[212].) у Радашкавіцкім гарадзкім [вучылішчы]. З 1913 году мы з братам перапісваліся толькі па-беларуску.

Аднаго разу ў 1915 годзе ў мяне быў камічны выпадак. Было такое распараджэньне з фронту — здаваць лісты да камандзіра не закрытыя, каб ён мог праверыць, што не выдаюцца вайсковыя сакрэты. А я тады пісаў па-беларуску лацініцай. Камандзір майго ліста не прачытаў, а заклікаў па чарзе й латышоў, і эстонцаў, і жмудзякоў[213], але ніхто ня мог прачытаць. Нарэшце мяне заклікае й пытае, на якой мове я пішу. Я адказаў, што па-беларуску. Ён мне прапанаваў пісаць па-расейску, а я адказаў, што дома па-расейску ніхто не прачытае.

## [НА ПАЗЫЦЫІ / У ЛАТВІІ]

Я зь няўважлівымі поглядамі на жыцьцё (“*Добра, калі жыць буду, а калі памру, ізноў невялікая бяда*”) паехаў і на вайну. А на вайне гэты погляд трохі стаў зьмяняцца, бо стала праяўляцца цікавасьць да жыцьця; асабліва мяне цікавіла, каб пабачыць тое, чым гэта вайна кончыцца, бо яна непадобная на папярэднія войны. Але разам з гэтым небясьпечных месцаў не палохаўся й не ўхіляўся іх, бо зьявілася ў мяне нейкая фатальная ўпэўненасьць, што мяне не заб’юць. Гэта я паказаў

---

[210] **Іван Саланевіч** (1891—1953), прапагандыст расейскага манархізму, заходнерусізму, з паходжаньня беларус.

[211] **Ванда Лявіцкая** (1895—1968), пісьменьніца, пэдагог, жонка Язэпа Лёсіка.

[212] **Ядвігін Ш**. (сапр. *Антон Лявіцкі*, 1869—1922), празаік, публіцыст, паэт, фэльетаніст. Аўтар першага беларускага раману “Золата”.

[213] ***Жмудзя́к*** — літовец; жамойт, праўстаўнік этнічнай групы літоўцаў.

пры баях пад Варшавай і ў Лодзі. Я там, у Лодзі, заўважыў, што больш за ўсіх баяцца сьмерці параненыя й нават сьмяротна параненыя. Мой санітар і зямляк Дамінік Лішай быў вельмі баязьлівы, і я яго стараўся ў небясьпечнае месца не пасылаць. Я зь іншымі санітарамі жыў у халупе, а ён жа хаваўся ў пуні, бо думаў, што па халупе немец будзе страляць. Але аднаго разу вялікая граната пераляцела нашу халупу ды якраз у вадны вароты гэтай пуні ўляцела, а ў другія вылецела й за пуняй разарвалася. Лішай выскачыў ды давай уцякаць у места, а за ім, нібы сумысьля, дваіх гоняў не даганяючы яго, другая й трэцяя (так званай *шкалой наперад*). Калі назаўтра яму прайшло, дык я стаў казаць, што ня трэба так баяцца, бо не ўгадаеш, дзе шчасьлівейшае месца, а ён на тое:

— *Ды я сьмерці й не баюся, калі б і забіла. Але я баюся, каб не спаскудзіла (каб цяжка не пакалечыла).*

Пасьля яму часта прытыкалі:

— *Ну, Лішай, цябе яшчэ не спаскудзіла?*

Праўда, і я больш усяго вараваўся, каб не спаскудзіла. А мне неяк верылася ў мой фаталізм, і трымаў я галаву высака, як пад Лодзьдзю, а тым больш і на Раўцы, і пад Праснышам, і пад Люблінам, і пад Рыгай. Аднаго разу перад сваёй батарэяй у франтавой вёсцы ў аднэй халупе было шмат раненых рускіх і немцаў. Я іх перавязаў ды ішоў назад да батарэі; бачу, што на батарэі безупынна зямля ўзьнімаецца ўгору. Я думаю, што, напэўна, там кашы нарабіла, бо батарэя не акапаўшыся. Я накіраваўся проста туды, аж там ніводнага чалавека: і афіцэры, і салдаты разьбегліся. На тым жа фронце аднаго разу нясу дошкі на акоп і не даходжу да батарэі зь пяцёра гоняў — аж завылі гарматныя бомбы й тут жа дзьве ля мяне й зваліліся: адна за чатыры крокі, а другая — за сем. Але гэта было вясной, разводзьдзем[214], зямля была разбагнеўшы, дык абедзьве не разарваліся, а мяне толькі гразьзю абляпіла, але я не застанавіўся й дошак ня кінуў. Гэты першы й другі выпадкі былі на вачох усёй батарэі. На Люблінскім фронце часта мяняліся пазыцыі, дык я ляніўся дрэва насіць сабе на зямлянку, але з бліжэйшай вёскі прыносіў буч[215], укопваў яго бокам на касагорыне, а наверсе накопваў курганчык. Гэта была вельмі выгадная кватэра: і сухая, чыстая, і пясок ня сыпаўся згары.

Прыехаўшы ў Латвію на Дзьвіну, мы тут уладзіліся зімаваць зіму 1915—1916 гадоў. Тут я сабе добрую ўладзіў зямлянку з вакном і печкай ды сталом, кніжак нанасіў зь мястэчка й заняўся чытаньнем. І трэба прызнацца, што адчуваў сябе нават шчасьлівым.

---

[214] ***Разводзьдзе*** — вялікая паводка ад раставаньня сьнегу (АВ).

[215] ***Буч*** — вялікая пасудзіна для насыпкі, шытая з саломы, якая мела выгляд велізарнага слоіка (АВ).

Царскі ўрад заўважыў, што ў расейскай франтавой арміі стала паніжацца вайсковая дысцыпліна й там-сям у арміі сярод салдатаў і нават маладых афіцэраў сталі праяўляцца вольныя ідэі. Бальшыня працоўнай інтэлігенцыі праходзіла вайсковыя школы й была на фронце афіцэрамі — хацела яна гэтага ці не. Быў сакрэтны загад ад царскага ўраду, што калі дзе выявяцца афіцэры з прагрэсіўнымі ідэямі, дык іх пасылаць на фронце ў небясьпечныя месцы, каб яны адтуль не вярнуліся. Для салдатаў таксама былі ўведзены абмежаваньні: забаранялася насіць доўгія валасы й галіць ці падстрыгаць вусы, але стрыгчыся *"под гребёнку"* і насіць вялікія вусы й нават бараду, калі яна была прыгожая. У загадзе напаміналася, што калі высялялі жыхароў з франтавой лініі, дык там засталося шмат кніг, а іншыя зь іх з вальнадумнымі ідэямі; сачыць, каб салдаты не чыталі, і адбіраць ад іх кнігі. А каб узьняць дысцыпліну сярод салдатаў, дык увесьці *порку* — біць розгамі, бізунамі.

Гэты мэтад пакараньня меў выпадак у нашай батарэі ў канцы 1915 году. Падпрапаршчык ехаў у Маскву купляць цёплыя рэчы. Пісары батарэі падрабілі подпіс камандзіра батарэі й паслалі запатрабаваньне на тры літры сьпірытусу. Там гэты сьпірытус адпусьцілі й прыслалі камандзіру паведамленьне, што сьпірытус адпушчаны. Вось гэтым пісарам і прысудзілі па 25 нагаек. Экзэкуцыя адбывалася так: выстройвалі батарэю, перад ёй клалі на зямлю гэтыя хворыя ахвяры, прыстаўленыя два салдаты з нагайкамі білі іх. Адзін стары салдат з Забайкальля, Дзяменцеў, адмовіўся біць, матывуючы тым, што хворы, што яму сярэдзіна[216] баліць. Гэтага Дзяменцева накіравалі да мяне, але з тэй умовай, каб я непасрэдна зь ім накіраваўся да доктара.

Па дарозе да доктара я намовіў Дзяменцева, каб ён енчыўся, калі доктар стане ціскаць яго сярэдзіну; ён так і рабіў. Доктар даў на тры дні вызваленьне ад працы й загадаў мне лячыць. Прайшла гэта зіма, якраз на Вялікдзень гэты самы Дзяменцеў вёў коні на вадапой і, едучы блізка каля сосны, абадраў галёнку аб сучок. Калі я прыйшоў яго лячыць, дык ён прапанаваў мне, каб яго накіраваў у шпіталь. Я яму адмовіў, бо рана зусім малая. Ён пагражаў мне, што будзе на мяне скардзіцца. Там была недалёка станцыя; ён пайшоў на станцыю, аж там спыніўся санітарны цягнік, які ішоў з фронту ў Петраград. Дзяменцеў аб'явіўся раненым з фронту; яго пусьцілі ў вагон і, прывёзшы ў Петраград, зьмясьцілі ў шпіталь. У яго быў голас сіпаты. Мне помніцца, што пры мабілізацыі Дзяменцева доктар доўга практыкаваўся зь ім, бо падазраваў, што ён сыфілітык. У шпіталі ён заявіў, што і ранены, і атручаны газамі, але ні фэльчар, ні батарэйнае начальства не накіравалі яго ў шпіталь, але, на шчасьце, санітарны цягнік яго прыняў і прывёз у Петраград. Гэта ён сказаў так, калі цар быў у шпіталі й абходзіў раненых і хворых. Цар

---

[216] ***Сярэдзіна*** — задняя частка тулава вышэй клубоў, нараўне ўздухавін (АВ).

уласнай рукой яму начапіў Георгія[217], і было накіравана сьледзтва па дыстанцыях уніз аж да батарэі, што так нядбайна ставіліся да раненага салдата. Да нас на батарэю прыйшла гэта папера аж у пачатку 1917 году. Апытвалі й мяне, фэльдфэбэля й камандзіра батарэі. Праз паўтара месяца пасьля гэтага настала рэвалюцыя, і, напэўна, справа спынілася.

Зварот у расейскай арміі да агіднай кары для салдатаў — розгамі й нагайкамі — мяне вельмі ўстрывожыў. А што калі такая нагода надарыцца мне? Моцна сабе пастанавіў не падпарадкавацца, але адбівацца ці ўцякаць — у палон да немцаў, бо ўжо ў гэты час і Дзьвіна была замерзла. Да яе было каля 1,5—2 кілямэтраў. На другі дзень пайшоў, каб распазнацца зь мясцовасьцю, каб пры нагодзе была больш-менш знаёмая дарога, хоць і добра сабе ўяўляў, што нялёгка прабрацца церазь пяхотныя лініі дый у палоне вялікая пакута. На шчасьце, гэта агідная праява болей не паўтаралася ў нашай батарэі, і я заспакоіўся.

Калі мы ў другой палове чэрвеня пераехалі на Рыскі фронт, дык сталі на пазыцыі недалёка ля Мітаўскай шашы на Рыскіх балотах між Рыгі й Мітавы. Тут капаць зямлянак было немагчыма, а трэ' было будаваць зрубы наверсе ды абсыпаць зямлёй. Мы з сваім Лішаём далучыліся да 6-й гарматы, да васьмі чалавек, і жылі супольна зь імі. Тут мы выпісалі газэту *"Биржевыя Вѣдомости"*[218], каб сачыць за палітыкай. Хоць камандзір батарэі выклікаў нашага начальніка, фаервэркера Канюшэвіча, і рабіў вымову:

— *Чаму вы выпісваеце жыдоўскую газэту?*

Тут у нас былі толькі нацмены[219]: беларусы, украінцы, латышы й летувіс. Нават афіцэры пачыналі сачыць за нашай кампаніяй. Аднаго разу вартаўнічы кажа, што капітан Кулікоўскі з паўгадзіны слухаў пад нашым вакном. А мы тады мелі гутарку аб тым, як у кожнага нашага народу, які статак клічуць (падзываюць) і як гамоняць, каб адагнаць. Але ўвогуле з нашай кампаніяй афіцэры лічыліся, як з паўінтэлігентамі.

Мая асабістая рамантыка стала пераходзіць на рэалізм. Дамоў стаў часьцей пісаць, бо там засталіся толькі старыя ды сёстры, а маладзейшы брат і старэйшы былі ў войску. Перш я вельмі неахвотна пісаў; калі доўга не атрымлівалі ад мяне лістоў, дык пісалі на імя камандзіра батарэі, пытаючы, ці ёсьць я жывы. Мяне вельмі турбавала доля меншага брата. Яго паклікалі ў войска восеньню 1914 году,

---

[217] **Георгій, Георгіеўскі крыж** — ордэн Сьвятога Георгія; ім узнагароджвалі за выключную сьмеласьць у баі.

[218] ***"Биржевыя Вѣдомости"*** — штодзённая палітычна-эканамічная й літаратурная газэта, выходзіла ў Пецярбургу, зачыненая ў 1917 г. за антысавецкую прапаганду.

[219] Тэрмін ***нацмен*** (прадстаўнік **нац**ыянальнай **мен**шасьці) выкарыстоўваўся ў СССР у міжваенны час.

а ў сакавіку [1915-га] ён быў на фронце. Які для мяне быў шчасьлівы Вялікдзень 1915 году, калі мы з гэтым братам выпадкова спаткаліся на пазыцыі ды правялі цэлы дзень! Але ў чэрвені ён быў цяжка ранены; на вялікае шчасьце, яго знайшлі й прывезьлі ў Петраград у шпіталь, дзе быў больш як паўгоду. А пасьля быў у інтэрнаце раненых ваякаў, калі пазнаёміўся зь беларускімі дзеячамі. Ягоны першы ліст з санітарнага цягніка, адрасаваны чужой рукой, зь ягонымі некалькімі словамі аб цяжкім раненьні так страсянуў мае адубелыя нэрвы, што я цэлага паўдня плакаў, як малое дзіця.

На Рыскіх балотах я часта гуляў у свой фаталізм. Аднаго разу наша батарэя ўзмоцнена абстрэльвалася. Далі каманду людзям пакінуць батарэю, але я застаўся ў зямлянцы, бо заняты быў пісаньнем лісту. Тут адна нямецкая бомба ўпала ў яму перад самай зямлянкай, адкуль капалі пясок на зямлянкі, але не разарвалася. Гэта яма была напоўнена вадой. Другога разу, восеньню 1916 году, дзьве гарматы нашай батарэі выцягнулі бадай да пяхотнай пазыцыі ды далі некалькі стрэлаў. Неўзабаве сталі страляць і немцы. Адна нямецкая бомба якраз папала на восем чалавек першай гарматы, калі яны сядзелі ў крузе й пілі гарбату, — далёка параскідала іхныя ногі, рукі й галовы. Ад гэтага месца на паўгоні быў пяхотны так званы *спасательный пункт* — зруб, зроблены з таўстога бярвеньня, а наверсе ўмацаваны бярвеньнем, цэмэнтавымі плыткамі й пяском. Уночы пехацінцы стаялі на першай лініі ў акопах, а на дзень іх пераводзілі ў гэты *спасательный пункт*. Было сьцюдзёна й золка, дык я зайшоў туды грэцца — тут напакавалася цэлая рота. Калі толькі пачуўся страшны выбух на батарэі, дык я за сваю фэльчарскую торбу — ды на батарэю, аж узьняўся другі шалёны выбух, ды якраз па гэтым пункце. Тут палавіну людзей забіла, а палавіна — страшна пакалечана: пры цэлай скуры былі ў іх паломаны косьці. Адзін наш артылерыст — стары чалавек, сібірак — не пайшоў да сваіх піць гарбату, а сядзеў тут зь пехацінцамі. Калі я пабег да батарэі, дык ён і тады ня вылез з гэтага цёплага пехацінскага бліндажа. Калі пачуўся другі выбух, дык я адразу пабег назад — да гэтага бліндажа, аж адтуль ракам выпаўзаюць людзі з страшэннымі енкамі. Выпаўз і наш стары артылерысты — у яго пры цэласьці скуры быў паломаны хрыбетны слуп: ён стаяў каля сьцяны. Я выклікаў санітарную двухколку ды адаслаў яго зь Лішаём у шпіталь, але ён па дарозе памёр. Цікава было тое, што пры ўлёце гэтай гарматнай бомбы — зьверху бліндажа амаль знаку не асталося і ў сяродку яго ўсё было цэла, а дзясяткі людзей было пабіта ад уздрыгу дрэва. Калі я выбягаў з гэтага бліндажа, дык заўважыў, што пры самых дзьвярах сядзеў на калодачцы, прысунуўшыся да сьцяны, малады пехацінскі падафіцэр і еў суп з кацялка. А калі я прыбег назад, дык ён таксама сядзеў на гэтай самай калодачцы, але нежывы.

Калі ехалі на вайну, дык фэльдфэбэль і афіцэры батарэі непрыхільна да мяне ставіліся. Нават на станцыі Інакенцьеўскай Іркуцкай губэрні

паслалі мяне на вывадку коні, дзе мне прыйшлося бяз звычкі да коннай язды, безь сядла больш дзьвюх гадзінаў насіцца па сібірскіх лясох. Зь цягам часу на вайне гэтыя адносіны да мяне сталі мяняцца, мабыць, заўважылі маю спакойнасьць духу й сьмеласьць у небясьпечных мясьцінах. Мусіць, каля пяці разоў прыстаўлялі да вышэйшай узнагароды, але атрымаў толькі два Георгіеўскія ордэны — IV і III ступеняў.

## [СТРАЙКІ]

У канцы 1916 году расейская армія амуніцыяй была забясьпечана, але харчаваньне з кожным днём усё горшылася: страву амаль штодзённа варылі з сушанай сьмярдзючай рыбы. У нас на батарэі салдаты нават застрайкавалі й тры дні ня бралі супу з сушанай рыбы. Нарэшце прыехаў генэрал брыгады й доктар; доктар адазваў мяне й пытае, ці браў я суп. Я сказаў, што ня браў, што я рыбы ніякай ня ем, а нават і селядцоў. Доктар пайшоў да генэрала й сказаў яму гэта самае. Пасьля пастроілі людзей і генэрал сказаў:

— *Вы напэўна хочаце, каб я вас "Ракавымі шыйкамі"*[220] *карміў? Вы павінны ведаць, што за такія рэчы я павінен браць праз дзясятага на расстрэл. Але я вам гэты раз дарую.*

Салдаты цешыліся, што на гэтым кончылася. А перад гэтым былі такія актывістыя, што намаўлялі іншых, каб малатамі пабіць паходную кухню. У латыскіх батальёнах таксама быў гэткі самы страйк, але там пабілі й кухню; яны ўбачылі, што будзе дрэнная расправа. А гэта здарылася ў 1916 годзе перад Калядамі. Гэтыя латыскія батальёны якраз на Каляды па новым стылі ў вялікую мяцеліцу безь ніводнага артылерыйскага выстралу пайшлі ў атаку, прарвалі сем лініяў нямецкіх драцяных загародаў і падышлі аж блізка пад Такум. Шмат набралі палонных, сярод якіх былі афіцэры й іх жонкі, якія прыехалі да мужоў у госьці на Каляды. Ім, вядома, страйк быў дараваны, але яны шмат страцілі сваіх людзей.

Былі страйкі і ў пяхотных частках. Аднаго разу я еду верхам ва ўправу брыгады да доктара, аж каля штабу 17-га Сібірскага палка панцырныя машыны расстаўлены. Пасьля я даведаўся, што тады раззбройвалі батальён гэтага палка, які адмовіўся ісьці ці ў атаку ці зусім на пазыцыю. Гэты батальён быў расстраляны; расстралялі нават некалькі афіцэраў. Гэту экзэкуцыю выконвала *вучэбная каманда* (падафіцэрская школа) гэтага палка. Забітых закапалі ў тарфяных балотах. Гэта было ў студзені месяцы 1917 году. Пасьля рэвалюцыі іх адкапалі й з пашанай хавалі як першых рэвалюцыянэраў.

---

[220] *"Ракавыя шыйкі"* — відаць, маецца на ўвазе гатунак папулярных у той час карамэльных цукерак.

У версе расейскага царскага ўраду стаялі людзі безь дзяржаўнай практыкі. Як пасьля выяўлялася, міністэрскія партфэлі выдаваліся па пратэкцыі Распуціна[221]. Эканоміка краіны валілася. Каб падтрымаць дысцыпліну ў арміі, уводзілі строгія рэпрэсіі: розгі ды расстрэлы, але ўбачылі, што й гэта мала памагае. Тады наважылі павялічыць у арміі пэрсанал праваслаўнага духавенства. Век-вяком у артылерыйскіх брыгадах не было *штату* на сьвятара й карысталіся суседнімі сьвятарамі пяхотных палкоў, а пад канец 1916 году прыслалі ў нашу артылерыйскую брыгаду сьвятара й дзяка. Я сваім хлопцам кажу жартуючы:

— *Памятайце, гэта на нейкую вялікую перамену варожыць.*

Расейскае праваслаўнае духавенства бальшынёй дзеяла зусім няўмела. Яго старану трымала расейскае чарнасоценства: афіцэры зь іх падсьмейваліся, а салдаты ненавідзелі. Я хачу тут дадаць прыклад са слоў аднаго пехацінца. За ноч і паўдня батальён зрабіў больш 50 кілямэтраў. Тут сьвятар прыгатаваўся на малебен, а салдатаў няма. Ён зьвярнуўся да начальства — салдат прыгналі на малебен; яны тут стаяць і праклінаюць сьвятара. Ды і ў нашай батарэі з рэкрутства ў суботу вечарам, толькі прыйшоўшы з уборкі коні, — на праваслаўных крычаць: “*Падчысьціцца ды станавіццаісьці ў царкву*”. У нядзелю толькі прыйдуць з уборкі коні, пап’юць гарбаты ды ўзноў ім крычаць: “*Падчысьціцца ды станавіцца ісьці ў царкву*”. А *турка неправаслаўная* (так у старой Расеі лаялі нацменаў сучасных) у гэтыя часы адпачывае.

## ЛЮТАЎСКАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ

Рэвалюцыю мы прадбачылі ў другой палове лютага. У тыя дні спыніліся прыходзіць петраградзкія газэты. Рыскія газэты і ўрадавыя людзі гэта тлумачылі мяцеліцамі, а мы ў сваім асяродзьдзі сьмяяліся: “*палітычная мяцеліца*”! І тут жа прыехаў адзін сібірака з адпачынку. Ён быў непісьменны й не разумеў палітыкі, то казаў, што да яго ў Петраградзе падыходзілі ўзброеныя людзі й хацелі ў яго адабраць пісталет і шаблю, але ён паказаў дакумэнты й сказаў, што едзе на фронт, дык адступіліся. І яшчэ казаў, што быццам па вуліцах у Петраградзе разьяжджаюць казакі з чырвонымі сьцягамі. Мы з усяго гэтага зрабілі сваю выснову.

1 сакавіка 1917 году зь Петраграду прыйшла ў Рыгу газэта “Известія”, яе куплялі нарасхват і плацілі па рублю. Тут мы ўжо якраз даведаліся, што цара няма. 2 сакавіка сказалі сабрацца людзям батарэі. Прыйшоў не камандзір батарэі, але малады афіцэр, паручнік Марыеўскі. Ён нам толькі абʼявіў:

[221] **Рыгор Распуцін** (1869—1916), фаварыт Мікалая II і імпэратрыцы, палітычны авантурыст.

*— Можа, мяне першага павесяць, але я вам скажу, што ўжо ў нас цара няма.*

Першы тыдзень сакавіка я не адчуваў зямлі пад нагамі й ня ведаў, на якім сьвеце я знаходжуся. Мне здавалася, што каб скінуць цара, дык патрэбна затраціць сама меней год часу й зглуміць ня меней як мільён людзей, а тут усё гэта зрабілася вельмі хутка й блізка без ахвяр. 1917 год быў самым выдатнейшым у маім жыцьці, бо ў ім скончыла сваё існаваньне расейскае самаўладзтва, якое прыгнятала сотні гадоў шмат паняволеных краінаў і народаў. Другі такі шчасьлівы год можа быць толькі той, калі скончыць сваё існаваньне расейскі бальшавізм і стане вольнай наша краіна.

У хуткім часе ў нашай батарэі быў выбраны камітэт, і ён часта перавыбіраўся, але ў нашай батарэі быў узорны парадак, гэдак як і ва ўсёй нашай брыгадзе. Склад людзей нашай брыгады быў прыблізна такі: 65 % — гэта заходнія нацмены (менскія беларусы[222], беларусы-паўночначарнігаўцы[223], люблінскія й сувальскія палякі, латышы, эстонцы й летувісы), 35 % — сібіракі (забайкальцы, іркуцкія, томскія й акмалінскія, з апошніх шмат было ўкраінцаў-перасялінцаў). Расейцаў сапраўдных не было.

Пасьля рэвалюцыі ў нашай батарэі жыцьцё палепшылася. Харчаваньне ўвогуле палепшылася, а ў дадатак нашы жаўнеры шмат накошвалі сена па сенажацях, што даходзілі аж да пяхотных пазыцыяў. Гэтым сенам кармілі коні й прыгатавалі вялікія запасы сена да зімы. За гэта сена з інтэнданцтва атрымоўвалі грошы, якія ішлі на паляпшэньне харчаваньня, і за гэтыя грошы купілі ўсім жаўнерам у Маскве па добрым брызэнтавым плашчы.

Наша група (6-й гарматы), якая была да рэвалюцыі ў афіцэраў на падазрэньні, цяпер стала як бы пасярэднікам між афіцэрамі й жаўнерамі. Мы заняліся культурна-асьветнай працай; на нашу прапанову камандзір батарэі з ахвотай адпусьціў грошы, на якія мы закупілі лемантароў і пісоўных прыладаў і арганізавалі школу для непісьменных. Я хоць тады ня быў знаёмы з настаўніцкай працай, але заняў пасаду кіраўніка гэтай школы й меў першую настаўніцкую практыку. Камандзір батарэі падпалкоўнік Касьціцын з ахвотай прыходзіў нам памагаць вучыць непісьменных. Мы стаялі за 15—20 кілямэтраў ад Рыгі, праз гэта была магчымасьць езьдзіць у Рыгу й бываць на розных мітынгах і сходах, а таксама на выдатных пастаноўках і канцэртах.

Аднаго разу прыйшлі мае сябры з Рыгі й сказалі, што ў народным доме быў беларускі мітынг, дзе беларускія ініцыятары заклікалі

---

222 ***Менскія беларусы*** — маюцца на ўвазе беларусы Менскае губэрні.

223 ***Беларусы-паўночначарнігаўцы*** — маюцца на ўвазе беларусы Гомельшчыны, якая ўваходзіла ў склад Чарнігаўскае губэрні.

беларусаў да арганізацыі, але тады ўжо была забарона Керанскага на фронце заводзіць новыя арганізацыі. Я сачыў за абвесткамі, калі нарэшце найшоў абвестку ў рыскай газэце паручніка Янкі Макарэвіча, які заклікаў беларусаў ініцыятараў сысьціся на нараду ў Летувіскім камітэце. Калі я туды пайшоў, дык там нашых штось нікога не застаў; мне старшыня Летувіскага камітэту паведаміў, што некалькі нашых чалавек заходзілі. Мы зь ім трохі разгаварыліся, і ён мне сказаў, што паручнік Макарэвіч прапанаваў яму, каб сумесна арганізавацца, як гэта было ў 1905 годзе, хоць ім, летувісам, прыйшло паведамленьне з Коўна, з Тарыбы[224], каб не ядналіся ў адну арганізацыю зь беларусамі, але ён нам па-суседзку дазваляе рабіць сходкі ў іхным будынку камітэту.

Блізка[225] з пачатку чэрвеня на нашым фронце стала праяўляцца бальшавіцкая прапаганда. Пехацінцы пачалі хадзіць да немцаў братацца й гандляваць, але калі разьвесяць белую флягу, каб ісьці да немцаў, тады мы пачынаем страляць па нямецкіх акопах. Пехацінцы-бальшавікі пагражалі, што перакуюць артылерыстых. А нам вайсковае камандаваньне абяцала выдаць кулямёты бараніцца ад пехацінцаў. Завяліся былі бальшавікі і ў нашай батарэі, але толькі тры асобы: Эдуард Арцішэўскі, сын менскага сальніка, латыш Ян Дубулт і Фурсаў — сібірак з Іркуччыны. Арцішэўскі да рэвалюцыі стараўся дагаджаць афіцэрам, дык яго без вучэбнай каманды ўзьвялі ў фаервэркеры (падафіцэры), але ён страявой службы ня ведаў, дык яго паставілі фуражным — харчы коням закупляць і раздаваць. Пасьля рэвалюцыі жаўнеры ссадзілі яго з гэтай пасады, дык ён стаў бальшавіком. Ян Дубулт быў лістаношам у батарэі, кожан дзень езьдзіў у Рыгу й зьвязаўся быў з бальшавіцкімі агентамі ды праносіў на батарэю газэту *"Окопная правда"*[226].

Такі парадак быў у нашай батарэі да адыходу ад Рыгі — да паловы жніўня. Лета гэтага году было сухое й гарачае. Бывала, гарачынёй ляжым у халадку пад бліндажом і разважаем; ведаем з газэт, што армія развальваецца. Я жартам задаю пытаньне:

— *Што мы будзем рабіць, хлопцы, як вайна кончыцца?*

Пасьля па мапе рысуем кожнаму маршруты, як ён будзе пехатой дахаты ісьці.

Пасьля таго, калі латыскія стралкі самавольна перайшлі ў атаку й перамаглі немцаў, іх адвялі ў Рыгу на адпачынак. Іх тут і рэвалюцыя захапіла. Яны адпачывалі да паловы лета, калі ім загадалі зноў ісьці на

---

[224] **Літоўская (Дзяржаўная) Тарыба** — прадстаўнічы орган літоўскага народу й краёвай улады ў 1917—1920 гг.

[225] ***Блізка*** — тут: прыблізна.

[226] ***"Окопная правда"*** — бальшавіцкая газэта, якая выходзіла ад 30 красавіка (13 траўня) 1917 г. да сярэдзіны лютага 1918 г., спачатку ў Рызе тройчы на тыдзень, пазьней у Вэндэне (сёньняшні Цэсіс) Латвіі штодзённа.

фронт. Ня ведаю, што зрабілі іншыя латыскія палкі, але Першы Латыскі полк[227] (як часам яго іменавалі — *"рыскія галаварэзы"*), не даходзячы двух кілямэтраў да пазыцыі, застанавіўся й не пайшоў на пазыцыі. Яны кіраваліся бальшавіцкімі лёзунгамі: *"Прэч вайну!"*, *"Досыць гніць у ваколах!"* і да т. п. Іхны камандзір палка застрэліўся, а яны пайшлі назад.

## [У ДАРОЗЕ]

Мы год зь лішнім бязь зьмены прастаялі на пазыцыі. У палове лета прыехала нас зьмяняць нейкая тылавая батарэя й часова застанавілася ў тылу нашай батарэі. Яна амаль уся была складзена з тылавога мітынгуючага зброду. Нашы хлопцы пайшлі праведаць іх, а яны пад вечар у Рыгу гуляць — адны на конях паехалі, а іншыя пехатой пайшлі. Мы свайму камандзіру сказалі, што гэтай батарэі тут няможна ставіць на пазыцыі, бо яна бальшавізаваная й разбэшчаная. Наш камандзір пазваніў у штаб — мы засталіся й надалей на сваіх пазыцыях, а іх забралі ад нас ды паслалі на левы фронт да ракі Оґер[228], дзе нямецкія пазыцыі ад расейскіх аддзяляла рака Дзьвіна. Дзе паставілі гэту тылавую батарэю на пазыцыю, там стаяла такая самая й пяхота; немцы разьведалі іх натуру— што яны нанач езьдзяць у Рыгу — і на іхным фронце пайшлі ў наступ. Яны невялікі аддзел на лодках пераправілі на левы бераг Дзьвіны ды сталі наводзіць пантонны мост; па гэтым мосьце пераправілі эскадрон кавалерыі й лёгкую батарэю. Гэты эскадрон у тылу рабіў паніку. А тут немцы ўжо днём зрабілі дымавую заслону на Дзьвіне ды сталі перапраўляць больш войска. Гэта было, здаецца, між 15—20 жніўня.

Аднаго дня мы чуем, што на левым фронце ад паўдня пад вечар цягнецца безупынку агонь, а вечарам сталі абстрэльваць і нашу батарэю ды на канавязі забіла некалькі коні. Уночы нам паведамілі, што мы маем адступаць. У нас было загатавана некалькі тысяч артылерыйскіх набояў[229], каля тысячы хімічных набояў, тысячы пудоў сьвежага зялёнага сена, толькі што накошанага, велізарны кормны парсюк, тры каровы й шмат іншага багацьця. На сьвітаньні мы адпраўляемся з наседжанага месца. У гэты час падыходзіць да нас дэлегацыя латыскіх стралкоў і запрашае нашага камандзіра батарэі, каб застацца тут і змагацца зь немцамі. Камандзір заклікае нас:

— *Ну, хлопцы, што будзем рабіць? Можа, застановімся?*

---

[227] **1-ы Латыскі стралковы полк** — вайсковае фармаваньне, арганізаванае ў 1941 г. Маюцца на ўвазе, напэўна, так званыя латыскія стралкі, сфармаваныя ў 1915 г., а ў 1916 г. ператвораныя ў Латыскую стралковую дывізію. Ведамыя сваім удзелам у задушэньні антыбальшавіцкіх паўстаньняў.

[228] **Оґер** — цяпер рака Оґрэ (лат. *Ogre*).

[229] ***Набой*** — снарад.

Мы сказалі, што яны надта позна прыйшлі да розуму, а мы ня хочам ісьці на вар’яцкую авантуру. Надвечар мы пад’ехалі да Торэнсбэрґу й спыніліся чакаць чаргі пераяжджаць па мосьце празь Дзьвіну. За Дзьвіной на Рыскіх балотах паўколам былі разьмешчаны тры арміі, а іх трэ’ было прапусьціць праз адзін мост. Мы тут прастаялі да самага сьвітаньня, перад самым днём сьпераду нас пачуўся страшны выбух і было відаць, як на белым агні ўзьнялася быццам чорная гара, а пасьля аж каля нас каменьні валіліся на зямлю.

Мы пераяжджалі мост на сьвітаньні. Я ўскочыў на ляфэт гарматы й моцна трымаўся й рукамі й нагамі. Коні ляцелі як шалёныя. Штось было навалена на дарозе й гармата падскоквала, а прыгледзеўся — аж гэта трупы. Калі быў першы вялікі выбух, дык тады праходзіў шчыльнай калёнай 19-ы Сібірскі полк. На рыскім беразе мосту быў будынак, напоўнены выбуховымі прыладамі, па невядомых прычынах гэты склад узарваўся — ад агню й падаючага каменьня ды цэґлы загінулі гэтыя калёны. Калі мы пераехалі мост, дык з аднаго боку нашай дарогі быў гэты склад, адкуль шугаў белы агонь ад гарэўшага піраксыліну[230], а з другога боку Дзьвіна; каля агню працавалі пажарнікі. Калі мы праляцелі гэта шалёнае рукаво, дык ззаду пачуўся новы выбух. Уехаўшы ў места Рыгу, мы паехалі вольна. Я гляджу на свае ногі — аж у халявах дзіркі, якія папраціраліся, калі мяне шматала па ляфэце. Як ехалі вольна па вуліцах места, быў час разглядаць навокал; места ня можна было пазнаць: калі перш вуліцы былі людныя, з багатымі магазынамі й складамі, дык цяпер яны былі пустыя, забруджаныя ўпаковачнай паперай і шклом ад вокан, вокны й дзьверы былі выламаны. У вадным магазыне мы бачылі, што расейскія “воіны” ручнымі гранатамі разьбівалі супрацьпажарную шафу. Калі мы так памалу ехалі, дык перад намі выскачыў з магазыну нейкі пехацінец і перад сабой пёр распакаваную вялікую скрынку цукерак, ды стаў меркаваць, каб паставіць да нас на ляфэт, але фаервэркер Канюшэвіч наставіў перад ім шаблю. Пехацінец падазрона паглядзеў на нас і пайшоў на бок вуліцы на ходнік. Па вуліцы то там, то сям па ходніках ляжалі жаўнеры — дзе нежывыя, а дзе п’яныя. Па рагох вуліцаў дзе-нідзе стаялі казацкія пікеты.

Калі мы выехалі з Рыгі, дык павярнулі направа. Уехалі ў нейкі малады сасоньнік. Там наўкола быў чуваць трэск карабінных і як бы кулямётных стрэлаў і то туды, то сюды мітусілася напалоханая пяхота. Даехаўшы да ракі Оґер, мы павярнулі зноў на паўночны ўсход і, не даехаўшы да гасьцінца на Вэндэн[231], сталі на пазыцыі фронтам на Рыгу. Тут да нас прыблукаўся аддзел батальёну сьмерці — 15 чалавек, навукоўцы зь Петраграду. Яны былі ў шлемах з карабінамі, але ўсе бяз

[230] ***Піраксылін*** — выбуховае рэчыва.

[231] **Вэндэн** — цяпер г. Цэсіс (лат. *Cēsis*).

ботаў, толькі ў шкарпэтках; паклаліся каля нас і абяцалі ахоўваць нашу батарэю. Змрокам нам загадалі ехаць на шашу й кіравацца на ўсход. Калі мы выехалі на шашу, дык і спыніліся, бо ўся дарога была забіта гарматамі й рознага гатунку павозкамі ды пяхотай. За ноч мы праехалі ня болей як паўтара кілямэтра.

Ноч і раньне былі туманныя. У гэтай калёне ў натоўпе пехацінцаў то там, то сям чуваць стрэлы, дзе-нідзе ўзьлятаюць угору ракеты. Пад паўдня распагодзілася. Зьявіўся ўгары нямецкі самалёт ды стаў па гэтай калёне з кулямёта страляць. Гэта была ўжо ня армія, а натоўп. Афіцэры паскрываліся, а каторы імкнуся ўстанавіць такі-сякі парадак, дык таго прыбівалі да сьмерці. Шаша адна, а наўкола балота з глыбокімі канавамі. Калі паявіўся ўгары самалёт, а сьпераду сталі рвацца гранаты, дык гэты шматтысячны натоўп зусім разгубіўся (як пасьля выявілася, пад мостам знайшлі аднаго немца ў аўстрыйскай форме, што кідаў ручныя гранаты).

Тут быў аддзел казакаў, які прапанаваў пяхоце рассыпацца па гэтым балоце ў ланцуг, але яна — а ня той дух! — ня хоча. Казакі пачынаюць пагражаць і доўгімі пікамі штурхаць, але пехацінцы ня слухаюць, а пхнуцца балотам на ўсход. Некаторыя абозьнікі сталі выпрагаць коні ды ўцякаць. 5-я батарэя нашай брыгады паву́ламала замкі з гармат ды, выпрагшы коні, стала ўцякаць. Нашых афіцэраў пры батарэі не было, быццам паехалі наперад, каб выбраць пазыцыю для батарэі.

Страшная паніка ачапіла ўсю гэтую калёну, тады як немцаў тут зусім не было. Патрэбна было разагнаць гэты страх. Мы ўтрох: летувіс В. Канюшэвіч, беларус з Мгліна І. Капачоў і я (а потым да нас далучыўся й Ян Дубулт, бальшавік) — сьцягнулі сваю 6-ю гармату з шашы праз канаву. Лягчэй бы было страляць проста з дарогі, але ж дарога занята людзьмі. Сьцягнуўшы грамату, мы пачалі агонь. Ня ведаючы, дзе апошнія расейскія жаўнеры, а дзе перадавыя немцы, дык мы стралялі на самы далёкі прыцэл. Калі ўбачыла пяхота, што артылерыя перад імі страляе, дык яны хоць ззаду нас сталі рассыпацца па барчавіне ў ланцуг. Артылерыстыя 5-й батарэі вярнуліся назад і забралі свае гарматы. Затор на дарозе зьнік — дарога збольшага падчысьцілася. Мы выпусьцілі шэсьць патронаў, а сёмы засеў у рулі; у 1917 годзе гэта частаназіралася, бо, як хадзіла гутарка ў народзе, работнікі-бальшавікі, шкоднікі, не даточвалі снарадаў, каб прымусіць урад скончыць вайну. Мы ня ведалі, што рабіць: па статуту, набітай[232] гарматы няможна весьці, а тым больш калі набой засеўшы, дык няможна й замка зачыняць; выбіць засеўшы набой няцяжка, але трэба ў тым месцы, дзе людзей няма, а тут наўкола людзі, ды на гэта патрэбен і час. Мы зрызыкавалі везьці гэту гармату, але замка не зачынялі. Перадок падхапіў гэту гармату й выцягнуў на дарогу, якая цяпер была амаль чыстая. Калі нашы коні шалёным бегам

[232] ***Набіты*** — тут: зараджаны, ад слова *набой* ‘зарад’.

выяжджалі на дарогу (як заўсёды, зьняўшыся з пазыцыі), дык тут ехаў латыш уцякаць. Ён саскочыў з свайго воза, каб стрымаць за аброць свайго каня, але папаўся пад нашы коні, і тут жа яго пераехала гармата. На ягоным возе засталася жонка й двое малых дзяцей.

Калі мы вольна ехалі дарогай, дык нас спатыкае паручнік Марыеўскі й робіць заўвагу, што замок не зачынены; мы яму хвалімся, што набой засеў у рулі гарматы; ён нам зноў робіць заўвагу, што мы ня маем права з набітай гарматай ды яшчэ з засеўшым набоем ехаць, а фаервэркер Канюшэвіч яму:

— *Што пан паручнік загадае — гармату кінуць?*

Ён нічога не адказаў.

Мы дагналі калёну й ехалі ўвесь той дзень і наступную, ужо чацьвертую, ноч бяз сну, але й цяпер болей стаялі, як ехалі. На наступны, чацьверты, дзень ехалі да паўдня, але гэты паўднёвік ехалі ўжо нармальна. Паўднём астанавіліся адпачываць, хто сабе стаў варыць гарбату, а я лёг, каб заснуць. Сон не прыходзіў; быў нейкі хваравіты стан арганізма: быццам то з таго боку, то з другога чуюцца нейкія бяссувязныя рэплікі, але гадзіны са дзьве сьнуў. Над вечар мы даведаліся, што немцаў блізка няма. Мы выбілі свой засеўшы набой і паехалі назад у бок Рыгі.

Немцы забралі Рыгу й яе ваколіцы, але далёка на ўсход не пайшлі. Наша батарэя, як і іншае расейскае войска, мусіла павярнуць назад і стаць на пазыцыі, але далёка ад фронту, а на сам фронт езьдзілі дзяжурыць па дзьве гарматы з батарэі. Афіцэры і ў гэты час не парывалі з нашай групай (6-й гарматы) і пры нагодзе стараліся пагаварыць. Аднаго дня восеньню раніцой туман разьвеяўся, засьвяціла сонца й стала прыемнае цёплае надвор'е. На другім баку раўчака й рэчкі выйшлі на палявыя заняткі ўкраінцы, якія ўжо вылучыліся з расейскай арміі ды сьпяваюць свае песьні. Да мяне падыходзіць капітан Жданаў, даваенны кадравы афіцэр; ён мне паказвае рукой у бок украінцаў і кажа:

— *Вось да якой сваволі мы дажыліся, што ня толькі салдаты, але й афіцэры самавольна вылучыліся з арміі дый зьдзекуюцца з нас, надакучаючы сваімі песьнямі.*

— *Гэта зусім нармальная зьява,* — кажу я. — *Гэта адзіны выхад з анархіі ў арміі. Трэба як найхутчэй разьдзяляць войска на нацыянальныя вайсковыя адзінкі.*

— *Дык жа гэта пагражае распаду Расеі на асобныя незалежныя краіны! А мы ж, рускія, сотні гадоў ваявалі, кроў пралівалі, заваёўваючы гэтыя краіны, а цяпер усё гэта дарма аддаць?* — запытаў ён.

А я кажу:

— *Так! Гэта будзе найлепей, найсправядлівей — чужое аддаць таму, каму яно належыць. Калі вы кроў пралівалі, заваёўваючы гэ-*

*тыя краіны, дык яшчэ болей пралівалі крыві тых людзей, чыю краіну заваёўвалі.*

Мы зь ім разышліся й болей не спатыкаліся. Калі ён спаткаўся з маім сябрам, дык і пажаліўся на мяне:

— *Я Гладкага ўважаў самым надзейным чалавекам, а ён хоча без вайны Расею дзяліць.*

Незадоўга пасьля гэтага я выехаў на Беларускі зьезд ваякаў Паўночнага фронту[233], а на тым зьезьдзе быў выбраны ў Беларускую раду 12-й арміі ды й выехаў з батарэі. У скорасьці пасьля майго выезду з батарэі бальшавікі распарадзіліся выбіраць начальства. Камандзірам батарэі (страёвым) быў выбраны беларус Навуградзкага павету Мазоўка, а гаспадарчым камандзірам батарэі — забайкалец Канстанцінаў, якога ў 1916 годзе розґамі білі за падроблены подпіс камандзіра, каб выдалі з аптэкі сьпірыту. Гэты Канстанцінаў былым афіцэрам даў па пары коні й біў морду, што быццам дрэнна чысьцілі, а іншых афіцэраў паслалі ў інтэнданцтва мяхі насіць.

Калі на Зьезьдзе ваякаў-беларусаў Паўночнага фронту выбралі ў выканаўчы камітэт гэтай арганізацыі М. Пашковіча[234], Мамоньку[235],

---

[233] **Беларускі вайсковы зьезд Паўночнага фронту** праходзіў у Віцебску 15—20 лістапада 1917 г.

[234] **Мікола Пашковіч** (1893 — пасьля 1935), грамадзкі дзеяч, пэдагог. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую сэмінарыю (1915), Уладзімерскае вайсковае вучылішча ў Санкт-Пецярбургу (1916), пасьля чаго быў адпраўлены на фронт. У 1917 г. узначальваў Беларускі камітэт 12-й арміі Паўночнага фронту. На беларускім вайсковым зьездзе Паўночнага фронту быў дэлегаваны ў склад Часовай цэнтральнай беларускай вайсковай рады. У сьнежні 1917 г. удзельнічаў у працы Першага Ўсебеларускага кангрэсу. У 1918 г. увайшоў у Раду БНР, быў сябрам яе фінансавай камісіі. Стаў адным з заснавальнікаў БПС-Р. Вучыўся ў Менскім беларускім пэдагагічным інстытуце, пазьней у БДУ. Настаўнічаў. У 1918—1920 гг. працаваў загадчыкам менскай 29-й пачатковай беларускай школы. Быў інструктарам Школьнай рады па арганізацыі беларускіх школаў. Увайшоў у партыю бальшавікоў. У 1924 г. удзельнічаў у працы зьезду БПС-Р, які прыняў рашэньне аб роспуску партыі. Верагодна, быў пазбаўлены магчымасьці працаваць па спэцыяльнасьці. З 1926 г. непрацяглы час працаваў у Беларускім дзяржаўным выдавецтве. У 1927 г. быў высланы на 3 гады ва Ўральск (Казахстан). Пасьля адбыцьця тэрміну пакараньня вярнуцца ў БССР ня мог. Пасяліўся ў Смаленску, працаваў у абласной плянавай камісіі. Неўзабаве быў зноў арыштаваны, цяпер па справе так званага Саюзу вызваленьня Беларусі. У 1931 г. быў сасланы на 5 гадоў у Елабугу (Татарстан). У ліпені 1935 г. выйшаў на свабоду, але праз кароткі час арыштаваны зноў, асуджаны на 10 гадоў лягераў і адпраўлены на Салаўкі.

[235] **Язэп Мамонька** (1889—1937), грамадзка-палітычны дзеяч, адзін з лідараў партыі эсэраў. У часе Першай сусьветнай вайны быў у царскім войску.

Дадона, якія былі сябрамі рады 12-й арміі, дык на іхныя месцы выбралі мяне, Грыцкевіча, Кукарэку й Мінько. Старшынёй рады быў паручнік Янка Макарэвіч, сакратаром — Браценка з Магілёўшчыны, другім сакратаром — Янка Хвяцковіч, арганісты зь Дзьвіншчыны, актыўны беларус-нашанівец. Сябрамі рады былі магілёўцы: Бялянка, Маханько, Хаткевіч, Маленька. Калі даведаліся, што гэты Маленька хадзіў да бальшавіцкага камітэту й паведамляў, што рабілася й што гаварылася ў нашай радзе, дык пастанавілі яго прагнаць з нашай рады. На гэтым паседжаньні сакратар Брацёнка сказаў да Маленка:

— *Я хоць і сам бальшавік, але буду галасаваць, каб цябе адгэтуль прагнаць, бо калі ты стаіш сябрам гэтай арганізацыі, дык ня маеш права паскудзіць ёй*.

Пасьля новага году некалькі старэйшых сяброў рады — Брацёнак, Бялянка, Маханько й Хаткевіч — былі дэмабілізаваны; з фронту гэдаксама сталі масава дэмабілізавацца, і лучнасьць з вайсковымі адзінкамі стала губляцца.

Мы стаялі недалёка ля Валку[236], там жа стаяў аўтатранспарт, а шофэрамі былі бальшынёй магілёўцы. Мы зь імі дамовіліся ехаць проста ў Менск[237], але дзьве прычыны й нас, і іх палохалі: тую зіму былі глыбокія сьнягі й не было надзеі па дарозе дастаць бэнзіну. Мы харчаваліся пры ўкраінцах і харчаваліся добра, але нарэшце Ўкраінская рада й Украінскі кавалерыйскі полк паехалі конна каля фронту, і калі яны выехалі, дык мы абадзіночылі[238]. Скора пасьля гэтага прыляцеў нямецкі самалёт і стаў рассыпаць над местам Валк лістоўкі — загад ад кіраўніка нямецкай арміі гэтага фронту, каб расейскія войскі адыходзілі ў парадку й не рабілі ніякай нікому шкоды, бо будуць сурова карацца.

---

У траўні 1917 г. стварыў у Рызе першае беларускае вайсковае аб'яднаньне. Быў дэлегатам ад XII арміі Паўночнага фронту на III зьезд БСГ (кастрычнік 1917), адзін з арганізатараў Першага Ўсебеларускага кангрэсу. Сябра Вялікай беларускай рады і Цэнтральнай вайсковай беларускай рады. У 1918—1924 гг. — сябра БПС-Р, уваходзіў у яе кіраўніцтва. Арыштоўваўся савецкімі і польскімі ўладамі. Ад 1922 г. вучыўся ў Празе, пазней жыў у Рызе. У 1928 г. прыехаў у БССР, але адразу быў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў лагераў. У 1937 г. прысуджаны да расстрэлу.

236 Горад Валк з 1920 г. падзелены паміж Латвіяй і Эстоніяй на два гарады — Валка (лат. *Valka*) і Валґа (эст. *Valga*).

237 У сьнежні 1917 г. Язэп Гладкі быў дэлегатам Першага Ўсебеларускага кангрэсу, пра што пакінуў асобныя ўспаміны, якія раней публікаваліся на старонках “Запісаў БІНіМ” (№ 3. Мюнхэн, 1964. С. 137—154).

238 ***Абадзіночыць*** — пазбавіцца сям'і, стаць адзінокім (АВ).

## ВІЦЕБСК

У палавіне лютага з Валку мы паехалі цягнікам у Пскоў, а там з станцыі з сваімі рэчамі накіраваліся ў Беларускі камітэт, аж там ужо нікога няма — усе паўцякалі. Мы ўзялі рамізьнікаў ды ўзноў паехалі на станцыю, адкуль хацелі накіравацца на Менск, аж там на станцыі пачулі, што быццам немцы Менск занялі. Мы рэчы здалі на станцыі ў багаж з накіраваньнем у Віцебск, а самі насілу ўбіліся ў таварны вагон, у якім вазілі коні й гною было ў калена.

У Віцебску накіраваліся ў жаночае вучылішча: там перш быў вайсковы шпіталь, а пасьля закватаравалі беларускія арганізацыі — Выканаўчы камітэт [Зьезду] ваякаў-беларусаў Паўночнага фронту й штаб Віленскай дружыны, якая была перайменавалася ў Віцебскі Беларускі полк. Сюды прымалі ўсіх беларусаў, і прыбывалі асабліва тыя, у якіх дом застаўся на заходнім баку фронту; тут назьбіралася шмат салдатаў і афіцэраў. Зь іншага войска ў месьце былі бальшавіцкія аддзелы й польскія легіянэры — і днём, і ноччу чулася страляніна: гэта легіянэры перастрэльваліся з бальшавікамі.

Беларускі полк меў значную колькасьць людзей, але было мала ўзбраеньня й тое непрыгоднае — старыя бярданкі. У Віцебску стаяў і Сібірскі стралковы полк. Ён дэмабілізаваўся й салдаты адʼяжджалі дамоў. Тут можна было купіць добрую вінтоўку за 10 рублёў і кулямёт за 20—25. Гэты танны продаж дапамог узброіцца беларусам.

Як сымбаль бальшавіцкай улады, на Катэдральным пляцы стаяў панцырны аўтамабіль, у якім сядзеў замурзаны матрос, абчэплены кулямётнымі стужкамі, але калі немцы прыйшлі да Полацку й да Барысава, дык ні гэтага панцыра й ніякага бальшавіцкага войска ў Віцебску ня стала. Аднымі паўнапраўнымі гаспадарамі места засталіся беларусы — гэты Беларускі полк абняў усю варту ў месьце. У беларускі штаб сталі зьяўляцца й старыя адстаўныя расейскія палкоўнікі, і кадэты з школы, прапануючы свае паслугі. Гэткі стан трымаўся каля двух тыдняў, а потым арганізацыя пайшла на ўбытак. А прычыны былі тыя: адно — не было чым харчаваць гэтага войска, бо запасаў у інтэнданцтве не засталося, а другое й галоўнае тое, што перамовы ў Берасьці бальшавікоў зь немцамі падыходзілі да канца й было відаць, што бальшавікі застануцца ў Віцебску гаспадарамі. Мясцовыя віцебскія афіцэры разьехаліся па раёнах, некаторыя афіцэры паехалі на Яраслаўль, а іншыя — у Сібір; рэшта афіцэраў і салдатаў-беларусаў перайшлі на працу ў Вікжэль[239]. Наша рада 12-й арміі таксама распалася: старшыня Янка Маркевіч, родам быў з Картуз-Бярозы, паехаў да сваёй маткі ў Самарскую губэрню; Хвяцковіч яшчэ з Валку

---

239 **Вікжэль** — *Всероссийский исполнительный комитет железнодорожного профсоюза.*

накіраваўся ў сваю Дрысу; случчакі Кукарэка з Грыцкевічам паехалі ў Маскву да Цішкі Гартнага[240], яны туды павезьлі й кнігу пратаколаў паседжаньняў рады 12-й арміі. А я, Міна-Мінько, Карлоўскі (паходзіў з Магілёўшчыны, з Буда-Кашалёўскай воласьці, прыбыў у Беларускую раду 12-й арміі за некалькі дзён да ад'езду з Валку й разам з намі паехаў у Віцебск) і Міхалка Мялешка[241] (перш быў пісарам Дзьвінскай ваеннай акругі) перайшлі на працу ў Вікжэль, у міліцыю. Кіраўнікі Вікжэлю былі заядлымі ворагамі бальшавікоў і людзей набіралі на працу па рэкамэндацыі пэўных людзей, але беларусаў зь беларускіх арганізацыяў набіралі ахвотна, бо былі пэўныя, што не бальшавікі. З часу заснаваньня савецкай улады ў Расеі аж да канца траўня 1918 году чыгункі Расеі мелі аўтаномію пад назовам Вікжэль, які ніякім мясцовым савецкім уладам не падпарадкоўваўся, а толькі старшыні [Савету] народных камісараў Леніну[242].

Калі бальшавікі зь немцамі пагадзіліся ў Берасьці[243], дык у другой палове сакавіка бальшавікі зноў ішлі займаць Віцебск: з Смаленску прыехала пяхота, а зь Петраграду — *особый отдел*[244]. Хоць да гэтага часу Віцебскі Беларускі полк быў разышоўся, але бальшавікі яго вельмі баяліся — яны за некалькі кілямэтраў перад горадам вышлі зь цягніка ды рэдкімі ланцугамі ішлі да гораду й акружалі яго. Нарэшце позным вечарам дайшлі да жаночага вучылішча й акружылі яго здалёку, бо

---

[240] Маецца на ўвазе **Зьміцер Жылуновіч** (псэўд. *Цішка Гартны*, 1887—1937), празаік, паэт, грамадзкі дзеяч. Супрацоўнічаў з газэтай "Наша Ніва". З лютага па сьнежань 1918 г. — сакратар Беларускага нацыянальнага камісарыяту. Рэдактар беларускай бальшавіцкай газэты "Дзяньніца", якая ў 1918—1919 гг. выдавалася ў Маскве. Пазней быў кіраўніком Часовага ўраду першай БССР (1919).

[241] **Міхась Мялешка** (1892—1941), гісторык, этнограф, публіцыст. Ад 1917 г. быў сябрам БСГ. У 1918 г. працаваў у Віцебскім аддзяленьні Белнацкаму. У 1918—1921 гг. вучыўся ў Віцебскім аддзяленьні Маскоўскага археалягічнага інстытуту. Працаваў у Віцебскім археалягічным інстытуце й губэрнскім архіве. З 1922 г. у Мінску. Працаваў у Цэнтрархіве БССР, з 1927 г. у Цэнтральным архіўным упраўленні БССР. З 1923 г. сябра Інбелкульту. У 1926—1928 гг. выкладаў гісторыю Беларусі ў Камуністычным унівэрсытэце Беларусі. Арыштаваны ў 1930 г. па справе "Саюзу вызваленьня Беларусі", сасланы на 5 гадоў у Самару. Паўторна арыштаваны ў 1938 г. Вызвалены з-пад следзтва ў 1940 г.

[242] **Уладзімер Ленін** (сапр. рас. *Ульянов*, 1870—1924), расейскі камуністычны тэарэтык, арганізатар і кіраўнік Кастрычніцкай рэвалюцыі, першы кіраўнік Савецкай дзяржавы.

[243] Маецца на ўвазе **Брэсцкі мірны дагавор**, заключаны 3 сакавіка 1918 г.

[244] ***Особый отдел*** — пададдзел ваеннай контрвыведкі ВЧК-ГПУ-ОГПУ-НКВД.

думалі, што там беларусы сядзяць, а калі адважыліся зайсьці, дык там нікога не знайшлі, толькі некалькі асобаў падарожных. Мы, калі стаялі пры станцыі на варце ды спатыкалі беларусаў, якія накіроўваліся дамоў, дык накіроўвалі на адпачынак у гэты дом, бо тут былі ложкі й пасьцель. Дык вось бальшавікі й прычэпліваліся да іх і некаторых абрабавалі.

Мы трое — Карлоўскі, Міна-Мінько й я — за некалькі дзён да гэтага часу перайшлі на прыватную кватэру. У гэты час нам на станцыі добра плацілі — па 300 рублёў на месяц, але грошай не выдавалі, бо чыгунка іх ня мела. Нам кожнага дня на станцыі давалі абед: талерка рэдкага супу, маленькую лыжку кашы й малюсенькі кавалачак мяса. Ад гэтай яды памерці было немагчыма, але й жыць было цяжка. Я калі быў дома, дык большай часткай ляжаў у пасьцелі, хоць і ня спаў, бо здавалася, ляжачага меней мучыў голад. А каб што дакупіць, дык не было грошай і не было дзе купіць.

Карлоўскі быў чалавек кручкаваты[245] (ён пры цары служыў паліцыйным стражнікам), дык пайшоў да аднаго жыдка, зрабіў пячатку на імя “ліквідацыйнай камісіі Беларускага вайсковага камітэту” і напісаў ад Ліквідацыйнай камісіі беларускага камітэту 12-й арміі патрабаваньне на хлеб — на два пуды чорнага (жытняга) і адзін пуд белага (пшоннага). Сам Карлоўскі падпісаўся старшынёй, Міна-Мінько — сакратаром, а я мусіў ісьці па гэты хлеб.

Прыйшоў на Маркаўшчыну, у вайсковую пякарню, і паказваю гэта патрабаваньне. Мне там сказалі, што хлеба дадуць, калі камэндант *особого отдела* паложыць пячатку, і расказалі, што той камэндант жыве на станцыі ў клясных вагонах. Я, калі панюхаўся ў пякарні паху цёплага хлеба, дык забыўся думаць, што гэта за камэндант, і зайшоў на запасным шляху ў першы клясны вагон — аж там нікога няма, а толькі два кулямёты стаяць з зацягненымі стужкамі. Мяне апанаваў страх, перш падумаў, каб уцякаць, але ўзноў жа найшла думка, што калі ўбачаць мяне, што выйшаў з вагону ды ўцякаў, дык або арыштуюць або й застрэляць. Я пайшоў у другі вагон, і там гэдаксама нікога не было. Тады пайшоў у трэці вагон, аж мне на спатканьне з другога канца вагона ідзе малады хлопец з чубам з-пад матроскай шапкі, у матроскіх нагавіцах і ў скураной куртцы ды пытае, што мне трэба. Я адказаў сьмела й настойліва, што прыехаў у пякарню па хлеб, аж там сказалі, што без дазволу вашага камэнданта ня могуць адпусьціць таго хлеба (пры гэтым трымаў у руцэ сваю паперку). Ён выняў з кішэні пячатку, бярэ ў мяне з рук тую паперку й дадае:

— *У іх белага хлеба няма.*

— *Мне гэта ў пякарні казалі, але я згодзен усе тры пуды чорным узяць.*

---

245 ***Кручкаваты*** — пра чалавека, які знаецца на праўных *кручкох*, іншымі словамі, разьбіраецца ў юрыдычных пытаньнях.

Ён пячатку прылажыў, я падзякаваў, пайшоў у пякарню, атрымаў тры пуды хлеба, узяў рамізьніка й прывёз гэты хлеб на кватэру. Праўда, хлеб быў несамавіты, з тухлай аўсянай нясеянай мукі й зусім патрэсканы, але ня мог развальвацца, бо пасеі[246] не дапускалі гэтага. Колькі б яго ні жаваць, а глынуць без вады было немагчыма. Але праз тыдзень ці паўтара й гэтага хлеба ня стала.

Побач з нашай вікжэлеўскай міліцыяй бальшавікі ў красавіку сталі арганізоўваць сваю чыгуначную ахоўную дружыну. Мы ўбачылі, што цяжка будзе канкураваць з самімі бальшавікамі, і нашы міліцыянэры сталі патрохі звальняцца. Я стаў пры кожнай нагодзе распытваў на станцыі ў людзей, якія перабягалі зь нямецкага боку, як там жывецца. Найболей яны страшылі, што там пад немцамі вельмі кепска.

У галоднага чалавека была заўсёды страшная думка. Страх быў не за сёньняшні дзень, але за дзень заўтрашні. *"А што будзе, калі заўтра й гэтай талеркі супу не дадуць?"* — гэткая думка вісела над галавой. Калі на вайне абыякава глядзелася на жыцьцё, дык цяпер надта не хацелася ўміраць, ды яшчэ з голаду. У галаву лезьлі прыемныя ўспаміны дзяцінства: калі была гэткая самая вясна, як і цяпер, бацька вазіў гной на бульбу праз садок на намазаных дзёгцем калёсах. Як прыемна тады пахнуў і гэты дзёгаць, і гэты гной, а пупышкі вішань у садку былі поўныя й меліся расьцьвітаць. І цяпер там гэткія самыя й прыгожасьці, і прыемнасьці, а я тут з голаду пад плотам мушу ўміраць.

Нарэшце ў канцы красавіка ад нашай міліцыі паехалі ў Петраград і прывезьлі некалькі мяшкоў грошай, тады нам заплацілі за тры месяцы. Я ў скорым часе звольніўся з працы і ў пачатку траўня паехаў дамоў.

Хоць жылося ў Віцебску вельмі цяжка, але тады-сяды зьбіраліся для культурнай працы — часамі на кватэры Міхалкі Мялешкі, а часамі на кватэры (забыўся яе дзявочае прозьвішча) будучай жонкі[247]

---

[246] ***Пасе́і*** — неразмолатыя часткі зярнят і шалупіны зярнят пры іх, што засталося на рэшаце (АВ).

[247] Гісторык Юры Грыбоўскі ў лісьце ад 16.10.2016 да рэдактараў гэтага выданьня напісаў: "*Канстанцін Барысавіч увогуле як мужчына карыстаўся дужай папулярнасьцю сярод жанчынаў. Таму, наколькі мне ведама, ён меў ажно некалькі таварышкаў жыцьця. На ўсялякі выпадак падаю зьвесткі пра ўсіх ягоных жонкаў, якія я маю: 1-я жонка: Матыльда Лечманіс, латышка, аўтарка некалькіх кнігаў, прысьвечаных беларускай літаратуры на латыскай мове, якія былі выдадзены ў 1930-я г. Верагодна, памерла на прыканцы 1920-х г. 2-я жонка: Галіна Нікіфароўская, беларуска, пляменьніца этнографа Міколы Нікіфароўскага. Брала ўдзел у беларускай культурніцка-асьветнай дзейнасьці ў Латвіі. Настаўніца беларускіх школаў. Сябра Таварыства беларускіх настаўнікаў. Падчас вайны супрацоўнічала з савецкай канспірацыяй, потым апынулася ў партызанцы. Паводле некаторых зьвестак, па вайне жыла ў Рызе, а потым Маскве. Некалі я трапіў на ліст Езавітава да Ермачэнкі, у якім*

К. Езавітава[248]. Яна тады працавала ў бюро на чыгунцы й жыла з сваімі старэнькімі бацькамі.

Аб самым дні 25 сакавіка наперад мы нічога ня чулі, але на другі й далейшыя дні ўсе віцебскія газэты раструбілі (тады бальшавіцкая лапа яшчэ не была наложана на друк), пісалі й тое, што было, і чаго не было: што беларусы маюць надта вялікія клопаты, бо трэба рассылаць дыпляматычныя місіі, а тут і самым паслам, і іхным сем'ям няма дзе дастаць адпаведных строяў і ўбораў. Гэтая падзея была надта павялічана: і беларусы, і небеларусы ўсхвалялі падзеі ў Менску, каб гэтым узвысіць беларускі народны рух ды ўнізіць бальшавікоў і надакучаць ім гэтымі падзеямі.

Калі я атрымаў грошы за тры месяцы, дык падаў заяву аб звальненьні з працы, мяне звольнілі, і вечарам я сеў у Віцебску на цягнік, а на сьвітаньні быў у Воршы, дзе пралягала дэмаркацыйная лінія. На нямецкі бок у Воршы пераходзілі праз барак, дзе кожнага ператрасалі, што ён мае. Заместа двух, нас увайшло ў барак трох. Мае сябры ішлі наперад парай, побач, а я ззаду. Адзін чэкіст забраў аднаго направа для ператраскі, а другі чэкіст — другога налева, а я проста пайшоў на нямецкі бок нятрэсены, хоць, праўда, там і не было чаго трэсьці: некалькі пар бялізны, нагавіцаў і верхніх кашуль, чаравікі, але на той голы час, дык і гэта было багацьце. Як відаць, бальшавікі палічылі мяне за свайго супрацоўніка, што не застанавілі.

Мы перайшлі на нямецкі бок усходам сонца. Перад нашымі вачыма зьявіўся вялізны гарод, як вокам скінуць абгароджаны калючым дротам. А поўны гэты гарод быў людзьмі — мужчыны, жанчыны й дзеці,

*першы прасіў кіраўніка БНС дапамагчы ў пошуку жонкі Галіны, зь якой часова страціў сувязь. 3-я жонка (?): Ніна Пінская, беларуска, удзельніца беларускага руху Латвіі. Ня ведаю, ці Езавітаў афіцыйна пабраўся зь ёй шлюбам, але дакладна іх аб'ядноўвала ня толькі супольная праца ў беларускіх арганізацыях".*

[248] **Канстанцін Езавітаў** (1893—1946), вайсковы й грамадзкі дзеяч. У Першую сусьветную вайну праводзіў актыўную тлумачальную й арганізацыйную работу сярод жаўнераў-беларусаў Паўночнага фронту, быў абраны намесьнікам старшыні Цэнтральнай беларускай вайсковай рады. Удзельнік Першага Ўсебеларускага кангрэсу ў сьнежні 1917 г., у лютым 1918 г. — вайсковы камэндант Менску. Народны сакратар па вайсковых справах, удзельнік абвяшчэньня незалежнасьці БНР. У 1919—1920 гг. быў кіраўніком Вайскова-дыпляматычнай місіі БНР у Латвіі й Эстоніі. У 1921—1944 гг. узначальваў Беларускае нацыянальнае аб'яднаньне ў Рызе. У часе Другой сусьветнай вайны займаўся арганізацыяй у Латвіі беларускіх школ. У часе Другога Ўсебеларускага кангрэсу быў абраны ў склад БЦР, у 1945 г. займаў пасаду кіраўніка вайсковага аддзелу БЦР. Затрыманы СМЕРШ у красавіку 1945 г. Паводле афіцыйнай вэрсіі, памёр падчас сьледзтва ад сухотаў і дыстрафіі; паводле іншых зьвестак, расстраляны.

усе абшарпаныя, худыя, у мужчынаў аброслыя твары. Штораз з усходу прыбываюць людзі, а немцы не прапускаюць ужо некалькі дзён. Сонца стала падымацца й прыграваць, мы адышліся на нейкі лажок, прылеглі на клумках і заснулі. Прачхнуліся пасьля паўдня — цёпла, аж млосна, а духі падцягвае й моцна хочацца есьці. Тут ужо не дастанеш і талеркі рэдкага супу. А што будзе заўтра, пазаўтра? Уміраць ня хочацца, але гэдаксама ня хочацца й да бальшавікоў варочацца. Сонца стала ніжэць. Мы ўтрох падышлі да драцяной загароды, а на тым баку загароды ходзіць ужо немалады нямецкі вартавы з стрэльбай; сталі прабаваць загаварыць, аж гэта познанскі паляк. Адзін з нашай тройкі пытае ў яго, ці могуць прапусьціць таго, хто мае прапустку.

— *А хто мае пшэпустку*[249]? — ён пытае.

— *Я маю пшэпустку*, — кажа наш сябра й паказвае яму. А на паперцы па-нямецку напісана: *“Гэты чалавек хоча ісьці да Менску”*. Вартаўнічы пасьмяяўся з гэтай паперкі. Мы сталі далей зь ім гаварыць і прасіць, каб нас прапусьціў. Ён стрэльбу закінуў на плечы ды пайшоў ад нас каля дроту ў другі бок, кіўнуўшы рукой.

Мы паклаліся на зямлю ды папаўзьлі пад дрот. Перапоўзшы, пусьціліся бягом, што мелі сілы ў кусты, што былі перад намі блізка з двое гоняў. Там у кустох узьбеглі на нейкую сьцежачку й бяжым навыцяжку, аж неспадзеўкі напатыкаем нямецкага афіцэра, які з паненкай ідзе нам насустрач. У нас і дух замёр, бо думалі, што ўжо ўсё скончана, аж ён толькі зірнуў на нас і пайшоў сваёй дарогай. Мы ўзноў бяжым гайком, а потым полем. Пасьля заўважылі справа дарогу з прысадамі й накіраваліся на яе. Узышоўшы на дарогу, ідзём ёй на захад, а заходам сонца прыйшлі ў мястэчка Барань. Там на мосьце стаіць нямецкі жаўнер і пытае паперы; мы засоўваем рукі ў кішэні, каб папераў шукаць (якіх у нас не было), а ён сьмяецца й махае рукой — верыць нам, што мы маем паперы.

Зьмярканьнем мы заходзім у нейкую вёсачку на захад ад Барані й просімся начаваць. Аж там кватаруюць нямецкія артылерыстыя. Гаспадыня кажа, што немцы ня любяць, калі пускаюць начаваць падарожных, але гаспадар сказаў: *“Неяк зробім”*. Калі мы расказалі, што ідзём з Расеі дамоў, дык гаспадыня кажа, што іхныя суседзі езьдзілі на бальшавіцкі бок у млын, дык у іх там збожжа адабралі. Яна ў нас пытае, ці праўда гэта, што ў Расеі вялікі голад. Мы сказалі, што гэтыя весткі праўдзівыя, і папрасілі, каб гаспадыня згатавала нам вячэру. Яна зварыла нам вялікі саган скобленай салёнай бульбы, паставіла вялікі *гарлач* (як яна называла збан) кваснага малака, напякла вялікую скавараду яечні на сале з скваркамі, палажыла вялікую булку сьвежага хлеба. Мы зьелі гэту вячэру. Гаспадар прынёс у хату саломы й мы паклаліся

---

[249] ***Пшэпустка*** (польск. *przepustka*) — пропуск.

спаць. Назаўтра гаспадыня згатавала ўзноў гэткае самае сьняданьне. Хоць тады грошы станьнелі, але былі ў хаду. Мы думалі, што ўсё гэта харчаваньне нам кожнаму абыдзецца па 50—70 рублёў, а яна нам сказала, што з кожнага возьме толькі па 10 марак і гэты хлеб (вялікі акраец), што застаўся ад нас, мы можам узяць. Але мы зь вялікай удзячнасьцю заплацілі ёй па 14 рублёў.

## [ДАМОЎ]

Пасьля доўгага часу пакутаў нам здалося, што мы папалі ў нейкі рай. А нам у Віцебску перабежчыкі казалі, што немцы абабралі сялян і сяляне там галадаюць. Мы гэты акраец разрэзалі на тры лусты й пашлі вялікім шляхам на захад. Добра павячэраўшы й пасьнедаўшы, ды й адпачыўшы ў цёплай хаце, дык спачатку ішлі шпарка, але паўднём каля другой гадзіны ляглі адпачываць пад шліхтай шпалаў каля нейкага паўстанку. Неўзабаве пад'ехаў таварны цягнік, дзе ехалі нямецкія жаўнеры. Калі мы падышлі да гэтага цягніка, дык жаўнеры падаюць нам рукі, каб дапамагчы сесьці ў цягнік; мы ўселіся. Там былі жаўнеры й афіцэры, але жаўнеры перад афіцэрамі трымалі сябе вольна, ня гэдак, як некалі ў старой расейскай арміі.

Калі мы прыехалі да другой станцыі й цягнік спыніўся, дык гандляркі падносяць да цягніка малако, масла, яйкі, парасяціну, кілбасу, а ўсё танна. Мы паехалі далей; на трэцяй станцыі нямецкія жаўнеры зьлезьлі, зьлезьлі й мы. Тут казалі, што былі ля станцыі ўзарваныя гарматныя набоі, але празь нейкі час яны самі лопалі, дык трэ' было гэта месца наўкола абыходзіць. Мы й абыходзілі ўночы, дый шмат хадзілі, замарыліся, а ноч была халодная. Прыйшлі ў нейкую вёску, але стукаць пабаяліся, бо ўважалі, што там нямецкае войска кватаруе. Тады залезьлі ў нейкі гарод і там, на абмежку, селі адпачываць і паснулі. Калі ачхнуліся, дык зуб на зуб не пападае, я моцна перамерз.

Нараньні прыйшлі на станцыю, падселі на цягнік і прыехалі да Барысава. Тут мы разлучыліся: Міна-Мінько пайшоў на рачную прыстань, каб да Бабруйску дабрацца, Арцішэўскі (паштавік, да нас далучыўся на цягніку, калі мы ехалі да Воршы) паехаў на Менск, а я застаўся ў Барысаве, бо адгэтуль меўся накіравацца дамоў. З станцыі пайшоў у места, але тут зусім аслабеў: тэмпэратура высокая, больш 39 градусаў, баліць галава і ўсё цела, ногі аслабелі. Зайшоў у карчму й разважаю: дахаты засталося каля 60 кілямэтраў, а калі тут зусім захварэю, дык немцы забяруць у шпіталь, а там памру бяз догляду, а калі й папраўлюся, дык немцы забяруць як вайсковага палоннага. У ваднэй карчме напаткаў жыда зь мястэчка Плешчаніцы (а адтуль да мае хаты 14 кілямэтраў), пытаюся, ці можна зь ім паехаць дамоў. Ён згадзіўся, запрасіўшы ў мяне 25 рублёў, і сказаў, што хутка паедзем, пры гэтым зазначыў, што калі хачу зь ім ехаць і каб ён у гэтым быў пэўны, дык я павінен заплаціць

яму згары, зараз. А калі я стаў плаціць, дык ён стаў дамагацца, каб даў *“царскімі грашыма”*; я й на гэта згадзіўся й заплаціў. Ён як пайшоў, дык прыйшоў аж пасьля паўдня. У мяне тэмпэратура паднялася: 40 градусаў. Няма дзе легчы й не магу сядзець. Калі ён прыйшоў, дык я стаў яму вайцяць[250], што ён грошы забраў і да гэтага часу дамоў не паехаў, а казаў жа, што зараз паедзем:

— *Ты хоць мне й заплаціў, але мяне не купіў, і я тады паеду, калі мне трэба будзе.*

Ды ізноў пайшоў, тады вярнуўся ў карчму, і мы выехалі з Барысава, калі ўжо сьцямнела. А ехаць прыйшлося высака, на драўляных скрынках. Ехалі на Стара-Барысаў і Сьцюдзёнку па старым мосьце — па левай палавіна, бо правая была разабрана.

Калі мы пад’яжджалі да нямецкіх вартаўнічых постаняў і на яго крычэлі, дык ён адказваў: *“Швэбалы”* — і яго прапускалі. У мястэчку Зембіне ён спыніўся на папаску, але паехаў аж у малую вёсачку Чмялевічы. Пасьля я даведаўся, што гэта аказаўся кантрабандысты й быў ён у змове зь нямецкімі вайскоўцамі, якія яму давалі пароль. Апрача мяне, ён вёз яшчэ адну кабету з Сукневіч, якая лячылася ў шпіталі, а кантрабандыстыя набіралі пабочных пасажыраў, каб меней быць падазронымі. У Чмялевічах у карчме мы папасаваліся[251], я там выпіў кубак кавы, мне трохі палягчэла. А калі прыехалі да Селішча, дык адтуль засталося 16 кілямэтраў да Плешчаніц, гэтулькі ж — і да майго дому. Чымся мне на гэтых скрынках ехаць да Плешчаніц і страціць часу бадай што да вечара, а адтуль ізноў ісьці дадому 14 кілямэтраў, дык я надумаўся лепей зь Селішча пайсьці дамоў, ды блізка 10 кілямэтраў борам, ды ў самую вясну, калі сьніў сон. Я ішоў памаленьку, спачатку радзей адпачываў, а потым прымушаны быў часьцей і часьцей. У Млынку зайшоўся да лесьніка; там гаспадыня пачаставала квасным малаком. Зь Церахоў засталося ісьці 5 кілямэтраў, але я ўжо зусім аслабеў. Пайшоў праз Купелы. Перш адпачываў празь нейкіх трое гоняў, пасьля праз двое, а нарэшце праз гоні. Не даходзячы паўкілямэтра да вёскі, я сядзеў за крушняй блізка гадзіны, каб дайсьці без адпачынку, і к вечару ўваліўся ў хату на радасьць самога сябе й бацькоў.

## ДОМА

Пачынаючы з траўня 1918 году я стаў жыць дома й папраўляцца ад голаду, бо, папраўдзе сказаць, надта быў зайшоўшыся на целе[252].

---

[250] ***Вайця́ць*** — рабіць вымову, упікаць (АВ).

[251] ***Папа́савацца*** — адпачываць у дарозе, калі людзі адпачываюць і коні харчуюцца (АВ).

[252] ***Зайсьціся на целе*** — схуднець, паблажэць.

З гэтага часу стаў працаваць каля зямлі, і гэта работа стала для мяне ўцешнай. Было ў нас добрыя гоні логу, што зваўся Сівец, бо там рос толькі сівец ды мох — зязюлін лён. Яго араць было немажліва, дык я яго стаў рыдлам ускопваць. Работа была цяжкая й марудная, але затое ўцешная. А ўцеха была тая, што я сам сабой жыву й што хачу, дык тое й раблю, бо блізка шэсьць гадоў жыў пад няволяй — жаўнерам.

Восень была доўгая й цёплая, дык я пачаў другі лог ускопваць — Рымаўшчыну; гэдаксама каля гоняў даўжыні. Тут гэдаксама было куп'я зязюлінага лёну й надта шмат каменьня — патайнёў[253]. Іх прыйшлося або ўкопваць у зямлю, або выварочваць наверх.

Часамі пехатой хадзіў у Менск, каб даведацца, што ёсьць новае ў беларускай справе, і прынесьці літаратуру, бо ў Менску выходзіў часопіс “Вольная Беларусь”[254], а пошты не было. Кожнага месяца патрэбна было хадзіць у нямецкую камэндатуру й мэльдавацца[255] як былому вайскоўцу.

У пачатку зімы прыйшлі да нас бальшавікі, але ў нашай вёсцы паказаліся, мабыць, чалавекі са тры. Зімой аб'явілі рэгістрацыю фэльчараў, і я мусіў зьезьдзіць аж да Барысава. Там мне далі паперкі, дзе было напісана: да асобнага выкліку адпускаюся дамоў, але мяне ня выклікалі, калі была вясной мабілізацыя, відаць, у воласьці мой блянк згубілі.

Наша хата засталася тая самая маленькая й старэнькая. Зімой закупілі бярвеньне на хату, але дазвол прышоў сеч, калі ўжо сьнег сагнала. Гэты сьсечаны лес і застаўся летаваць у лесе.

Маладзейшы мой брат, Казюк, восеньню 1918 году паступіў на Беларускія настаўніцкія курсы[256]. Гэтыя курсы й інтэрнат слухачоў курсаў зьмяшчаліся па Губэрнатарскай вуліцы[257] ў двары, дзе апошнія гады пры бальшавіках быў паштамт. Выкладалі на гэтых курсах выдатныя беларусы: прафэсар Усевалад Ігнатоўскі[258],

---

253 ***Патае́нь*** — вялікі камень, якога зь зямлі не відаць (АВ).

254 **“Вольная Беларусь”** — грамадзка-палітычная, эканамічная й літаратурная газэта, выдавалася ў Менску ў 1917—1918 гг., галоўным рэдактарам быў Язэп Лёсік.

255 ***Мэльдавацца*** — тут: адзначацца.

256 **Менскія беларускія настаўніцкія курсы** — дзейнічалі з 9 верасня 1918 г. да 15 траўня 1919 г., былі створаныя Сакратарыятам асьветы БНР. Рыхтавалі настаўнікаў для беларускіх пачатковых школ.

257 **Губэрнатарская вуліца** — цяпер вул. Леніна.

258 **Усевалад Ігнатоўскі** (1881—1931), грамадзкі й палітычны дзеяч, гісторык. Старшыня Інбелкульту (з 1926). Першы прэзыдэнт Беларускай акадэміі навук (1928—1931). Скончыў жыцьцё самагубствам пасьля допыту ў ДПУ БССР.

Аркадзь Смоліч[259], прафэсар Вацлаў Іваноўскі[260], Браніслаў Тарашкевіч[261], прафэсар Жаба[262], Мікола Байкоў[263], а пасьля й Язэп Лёсік[264].

Я часамі зімой хадзіў адведаць да брата й праведаць аб беларускіх нацыянальных справах. Калі вясной мы дома збольшага падсеяліся, дык я надумаў схадзіць у Менск праведаць, што там чуваць. Выйшаў з дому а 10-й гадзіне, ішоў шпарка, нават нідзе на дарозе не прысеў, бо па 8-й гадзіне вечара было забаронена на вуліцу выходзіць. Прыйшоў

---

259 **Аркадзь Смоліч** (1891—1938), дзеяч беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня, вучоны у галіне экономікі, сельскай гаспадаркі, картаграфіі, геаграфіі. Удзельнічаў у абвяшчэньні БНР, быў народным сакратаром землярobства. З 1922 г. працаваў у Наркамземе БССР, Інбелкульце. Загадчык кафедры геаграфіі БДУ. Арыштаваны ў 1930 г. па справе "Саюзу вызваленьня Беларусі", сасланы на 5 гадоў. Паўторна арыштаваны ў 1937 г., прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

260 **Вацлаў Іваноўскі** (1880—1943), палітычны й грамадзкі дзеяч, доктар тэхнічных навук. Міністар асьветы ва ўрадзе БНР, які ўзначальваў Антон Луцкевіч. У 1943 г. быў старшынём Беларускай рады даверу пры генэральным камісары Беларусі В. Кубэ. 6 сьнежня 1943 г. быў цяжка паранены невядомымі на вуліцы, прывезены ў шпіталь, але там пакінуты бязь лекарскай дапамогі й назаўтра памёр.

261 **Браніслаў Тарашкевіч** (1892—1938), грамадзка-палітычны дзеяч, мовазнаўца, перакладчык. Акадэмік АН Беларусі (1928). У 1918—1923 гг. адзін зь лідараў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. У 1922 г. абраны дэпутатам польскага сойму. Адзін з арганізатараў Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Арыштаваны польскімі ўладамі. У 1933 г. у выніку абмену палітвязьнямі пераехаў у СССР. Арыштаваны ў 1937 г., прыгавораны да вышэйшай меры пакараньня.

262 Відаць, маецца на ўвазе **Адам Жаба** (?—1918), аграном, грамадзкі дзеяч. Скончыў Варшаўскі ўнівэрсытэт (факультэт натуральных навук). Працаваў як хімік у лябараторыі Лібава-Роменскай чыгункі, адкуль зьехаў і паступіў у Пятроўска-Разумоўскую акадэмію. Атрымаў дыплём агранома. У часе Першай сусьветнай вайны быў у царскім войску, пасьля вайны служыў у Менску ў розных інстытуцыях. Быў фундарам Сацыялістычнай партыі Белай Русі (1904—1906). (Дзякуем за інфармацыю Анатолю Сідарэвічу.)

263 **Мікола Байкоў** (1889—1945?), літаратуразнаўца, мовазнаўца, пэдагог. Працаваў вучоным сакратаром слоўнікавай камісіі пры Інбелкульце. Арыштаваны ў 1930 г. па справе "Саюзу вызваленьня Беларусі", але ў гэтым самым годзе вызвалены. У часе нямецкай акупацыі знаходзіўся ў Менску.

264 **Язэп Лёсік** (1883—1940), грамадзка-палітычны дзеяч, публіцыст, мовазнаўца. Акадэмік АН Беларусі (1928). Удзельнічаў у абвяшчэньні БНР, уваходзіў у склад яе Рады. У 1918 г. адзін з заснавальнікаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Выкладаў у БДУ, працаваў у Інбелкульце й АН БССР. Арыштаваны ў 1930 г. па справе "Саюзу вызваленьня Беларусі", сасланы на 5 гадоў. Паўторна арыштаваны ў 1938 г., асуджаны на 5 гадоў папраўча-працоўных лягераў. Памёр у турме.

у Менск каля 6-й гадзіны ды проста Захараўскай вуліцай цісну ў асяродзьдзе места. Калі прыйшоў да вялікага сквэру, дык бачу на трэцім паверсе ў кансысторыі вокны адчынены, там шмат людзей і прыгожа сьпяваюць, а публікі на сквэры каля вадакачкі поўна; калі артыстыя скончуць сьпяваць, дык публіка з сквэру б’е ў ладкі й крычыць “біс”. У 1918 годзе беларусы ўладалі Юбілейным домам[265], які ўжо звалі Беларускі дом. І я тады падумаў, што беларусы заўладалі ўжо й духоўнай кансысторыяй. А пасьля я глянуў уніз, на першы паверх, — аж там гэдаксама вокны паадчыняны й людзі ходзяць, дый бачу з боку Захараўскай вуліцы мой брат стаіць ля вакна, тварам прыціснуўшыся да кратаў. Я ўпоперак Захараўскай вуліцы — да яго. А ён:

— *Сюды ня можна падыходзіць. Ідзі ў інтэрнат, там табе хлопцы скажуць.*

Я гляджу, аж там на рагу й вартаўнічы з стрэльбай стаіць, але ён зварочвае ўвагу на публіку, што на сквэры стаіць, і на тых артыстых, што на трэцім паверсе сьпяваюць. Я ў няведаньні, што тут адбываецца, накіраваўся ў інтэрнат. Там мне хлопцы сказалі, што бальшавікі праф. Жабу застрэлілі[266], а іншых выкладчыкаў курсаў паарыштоўвалі, праф. Іваноўскага маюць вазіць закладнікам у Смаленск. Б. Тарашкевіч уцёк у Вільню. Мой брат і М. Гуцько былі ў камітэце слухачоў курсаў і кожнага дня сталі хадзіць у ЧК з патрабаваньнем, каб выпусьцілі іхных прафэсараў, каб курсанты, дзеці пралетарыяту й сялянства, маглі здаць экзамэны на настаўнікаў. Старшыня ЧК Беларусі Багуцкі[267] (жыдок зь Беластоку) стаў іх угаворваць, кажучы:

— *Вашы прафэсары былі контррэвалюцыянэры, дык мы іх арыштавалі, а вы выберыце сабе другіх прафэсараў і здавайце экзамэны.*

Хлопцы адказалі, што гэта вялікая бязглузьдзіца, каб вучні выбіралі прафэсараў. Багуцкі ім заўважыў: асьцярожна тут гаварыце — *“здесь ЧК”*[268]. Брат ня ведаў, што азначае слова *Чэка*, ён ведаў, што наша *загваздка* па-расейску называецца *чека*, і сказаў:

---

[265] **Юбілейны дом** — маецца на ўвазе так званы Архірэйскі дамок, цяпер па адрасе: пр. Незалежнасьці, 26, тут месьціцца Патрыяршае прадстаўніцтва РПЦ.

[266] Паводле ўспамінаў Аляксандра Ўласава: *“Бальшавікі вывезьлі Адама Жабу ў красавіку 1919 г. разам з другімі закладнікамі ў Бабруйск. Вывозячы закладнікаў з Бабруйску, на аднэй стаянцы цягніка бальшавікі выклікалі Адама з вагону і тут жа расстралялі… Зьніштожылі вялікую інтэлігентную сілу, адну з сотняў тысяч гэткіх сіл, загубленых бальшавікамі…”* (Беларусь. 5 сак. 1920).

[267] **Вацлаў Багуцкі** (1884—1937), рэвалюцыянэр, савецкі партыйны дзеяч. Рэпрэсаваны ў 1937 г.

[268] **ЧК** — Усерасейская надзвычайная камісія па барацьбе з контррэвалюцыяй і сабатажам (рус. *Всероссийская чрезвычайная комиссия по борьбе с контрреволюцией и саботажем*), дзейнічала ў 1917—1922 гг.

— *Вы ставіце гэтыя свае чэкі, каб нам пашкодзіць, а нам напляваць на вашу чаку, калі па году часу страцілі, а экзамэну ня можам здаць.*

— *Вы арестованы. Сотрудники, сюда!*

А Гуцька пад гэтыя словы:

— *Рад подвергнуться участи Христа.*

Прыйшло пяць латышоў у нямецкіх мундзірах і павялі іх за краты. Хлопцы з інтэрнату занесьлі ім матрацы й кожны дзень насілі ежу. На наступны дзень, у панядзелак, я пайшоў да брата на спатканьне. Там трэ' было на вуліцы перад вакном паказацца, дык ён браў вядро й канваір яго праводзіў на архірэйскі двор па ваду; туды, на той двор, зайшоўшы, можна было доўгі час пагаварыць. Я кожнага дня меў з братам гэткія спатканьні. Яго выпусьцілі аж у чацьвер таго тыдня. Брат тады быў ужо настаўнікам у Менску, хоць экзамэны не адбыліся. Настаўніца яго школы кожнага дня хадзіла прасіць Багуцкага, каб яго выпусьцілі. А Гуцька тыднем болей сядзеў.

Празь месяц пасьля гэтага мне давялося мець шмат клопатаў з братам і дрыжэць за ягонае жыцьцё, калі ён захварэў на тыфус. Раз ён ішоў у Менск ды запазьніўся й да 8-й гадзіны вечара ня мог прыбыць у места, таму перад Камароўкай, у Зялёным Лузе, зайшоў начаваць у карчму. Досьвіткам ён ачхнуўся ад сьвербу; калі агледзеўся ў Камароўскім лесе, аж на ім поўна вошы — яму там, у лесе, прыйшлося выкалочваць кашулю й бялізну ад вошы. Блізка праз два тыдні пасьля гэтага ён захварэў. А мне прыходзілася дзень і ноч сядзець над ім, лячыць і даглядаць. Калі ён паправіўся, дык восеньню паехаў зноў у Менск і там быў настаўнікам у беларускай школе аж да канца 1920 году.

Летам 1919 году прыйшлі да нас палякі. Гэты год я быў дома й працаваў каля гаспадаркі. Восеньню гэтага году быў склікаены сход, дзе стаяла пытаньне аб школьніцтве. Ведаючы, што я каталік, вышэйшая шляхта з фальваркаў выставіла маю кандыдатуру на шэфа школаў воласьці. Я наагул адмовіўся ад гэтай пасады, а далей, калі я стаў выказвацца за адчыненьне беларускіх школаў, дык яны між сабою сталі пераглядацца: відаць, каяліся, што памыляліся. Мне ўдалося ўгаварыць сялян, каб адчыніць дзьве беларускія школы — у Айнаравічах і Дабрэневе, але настаўнікаў не было.

Блізка каля нашай вёскі мелася запасная зямля Баўтоўка, якая належала маёнтку Красны Двор. Гэту зямлю нашы сяляне спрадвякоў засявалі *на трацьцяк* — сабе два снапы, а ў двор трэці. Гэты двор часта пераходзіў з рук у рукі. Апошні ўласьнік гэтага двара, расеец-вайсковы, перад вайной перадаў яго па даручэньні[269] авантурніку Несьцераву. Гэты авантурнік за вялікі хабар па фікцыйных дакумэнтах перадаў зямлю

[269] ***Па даручэньні*** — па даверанасьці.

Баўтоўку васьмі сялянам нашай вёскі ў доўгатэрміновую арэнду ў канцы 1918 году, калі немцы адыходзілі з нашага краю. Аб акце перадачы гэтай зямлі ў арэнду нашы сяляне ня ведалі, бо гэта справа трымалася ў сакрэце. Вясной 1919 году, калі бальшавікі панавалі ў нашым краі, дык гэтыя сяляне-арандатары не прэтэндавалі на Баўтоўку, і ўсе сяляне нашай вёскі вясной гэтага году па-старому, як і папярэднія гады, засеялі дзялянкі на Баўтоўцы, а летам зжалі й забралі дамоў. Але калі зімой устанавілася польская адміністрацыйная ўлада й суд, дык гэтыя арандатары падалі на суд за самаўпраўства на тых сялян, якія засявалі гэту зямлю й забралі ўраджай. Паколькі польская адміністрацыя была з абшарнікаў, дык яна строга ставілася да парушальнікаў уласнасьці на зямлю. Судзьдзя Астроўскі таксама быў абшарнік і стаяў на баку авантурніка Несьцерава й фальшывых арандатараў. Некалькі сялян нашай вёскі спужаліся гэтага й на цяжкіх для сябе ўмовах пагадзіліся з гэтымі арандатарамі. Я ўзяў даручэньне ад сялян вёскі й выступіў на судзе абараняць сялян вёскі. Я даводзіў на судзе, што гэта зямля ў часе прыгону была ўласнасьцю нашых сялян, што пасьля прыгону яна належала да двара, але да гэтага часу ўсе сяляне карысталіся гэтай зямлёй за невялікую плату двару. Я назваў гэтыя кантракты фікцыяй і даказаў, што ў сьпісы вінаватых пастаўлены й такія асобы, якія зусім не карысталіся з гэтай зямлі, і, як прыклад, паказаў, што Магдалена Брыт зусім ня сеяла на зямлі, якую прысвойвае Мацей Калоша, а да суда яна прыцягваецца. Выступае Мікола Равіна й кажа:

— *Магдалена Брыт сеяла на тэй зямлі, што я арандую, а я дазволіў Мацею Калошу падаць на яе на суд.*

Я тады пытаюся ў суду, ці мае ён дакумэнт, што М. Равіна ўпаўнаважвае М. Калошу ад яго імені судзіцца з М. Брыт? Суд адказаў, што ня мае. Я яшчэ запытаўся ў суду, ці мае ён мапу гэтай зямлі, аб якой ідзе справа. Суд адказаў, што ня мае, і пастанавіў: справа астаецца бяз вынікаў, арандатары маюць права нанава падаваць скаргу з больш удакладненымі дакумэнтамі й дадаткам мапы тэй зямлі. Я на тым судзе гаварыў па-беларуску. У часе гэтага суду й пасьля адміністрацыя воласьці мяне называла бальшавіцкім агентам, але ніякіх рэпрэсіяў не было.

Зь вясны 1920 году ў нашай ваколіцы былі ваенныя дзеяньні й вялікі рух войска, дык я зь вясковай моладзьдзю з коньмі сядзеў у балоце. Калі ваенныя дзеяньні адсунуліся на ўсход і на поўнач, я пайшоў грэчку баранаваць, але паляк застаў мяне на полі й пагнаў у фурманку[270]. Я з 8-м палком віленскіх уланаў езьдзіў шэсьць тыдняў — пачынаючы ад мястэчка Плешчаніцы і блізка да Дзьвіны. Нагаладаўся й нагледзеўся свавольства польскіх жаўнераў над беларускімі сялянамі, а нават рабавалі й шляхоцкія засьценкі. Калі абрабавалі шляхоцкі засьценак

[270] ***Пагнаць у фурманку*** — змусіць служыць за фурмана.

Юльянова ля Плешчаніц, дык і ў Докшыцах, і ў Глыбокім выносілі сукенкі й жаночыя футры на базары. Хоць гэты полк называўся Віленскі, але ніводнага жаўнера ні зь Віленшчыны, ні з Гарадзеншчыны ня здарылася спаткаць, а здараліся з Кельцаў, Любліна, Варшавы, Лодзі. Толькі адзін санітарыюс, якога я вазіў, быў зь Віцебску. Як ён мне казаў, што ў царскі час быў фэльчарам, у бальшавіцкі — камісарам роты, у гэтым палку санітарам, а разам з тым — рабаўнікам.

Праяжджалі мы зь ім праз адну вёсачку на Глыбоччыне. Там была мода сьвіронкі будаваць на другім баку вуліцы насупраць двара — дзьвярыма на вуліцу. У гэты час ішло надта шмат пяхоты — познанцаў, дык гэты “камісар” схапіў канец жардзіны з парубень натоўсткі ды стаў дзьверы ў сьвіронку ламаць ды крычэць да познанцаў:

— *Tu słonina jest!*[271].

А адзін познанец яму адказаў:

— *Каб я й тры дні ня еў, дык гэтага рабіць ня буду.*

“Камісар” тады кінуў калок ды пайшоў на воз да мяне. Трэба праўду сказаць, што познанцы былі бальшынёй лю́дзкія жаўнеры; часта яны так выказваліся:

— *Niemiec nas porządku uczył, a ruski warszawskich Antków kraść uczył*[272].

Я вярнуўся з гэтага абозу незадоўга да вялікага адыходу палякаў, які адбыўся ў канцы чэрвеня. У гэту навалу й пры польскім адыходзе, і пры бальшавіцкім надыходзе зноў уся моладзь з коньмі сядзела ў балоце.

## АНТЫПОЛЬСКАЯ ПАРТЫЗАНКА

Партызанка ў нашай ваколіцы мела трох асаблівасьцяў. Адна банда існавала яшчэ з пачатку рэвалюцыі і ўночы нападала на адзіноткі[273], прымушала ўсю сям’ю класьціся на падлогу, забірала ўсё каштоўнае, а калі падазравала, што гаспадар мае грошы ці каштоўнасьці, дык пагражала пісталетам ды падсмальваньнем пят, каб аддаў. Пры польскай акупацыі гэта банда нападала ня толькі на шляхоцкія хутары для рабаваньня, а й на польскую адміністрацыю ды на асобных вайскоўцаў і жандараў. Там па чутках быў начальнікам нейкі Мінчонак. Яна мела

[271] ***Tu słonina jest!*** (польск.) — Тут сала ёсьць!

[272] ***Niemiec nas porządku uczył, a ruski warszawskich Antków kraść uczył*** (польск) — Немец нас парадку вучыў, а рускі варшаўскіх Антэкаў красьці вучыў. Варшаўскія Антэкі — гіранічная мянушка насельнікаў Царства Польскага, тэрыторыі ўсходняй Польшчы, якая трапіла пад уладу Расейскай імпэрыі.

[273] ***Адзінотка*** — хутар.

прыпынак у расейскім (стараабрадніцкім) паселішчы Гілеўшчына. Калі гэта група напала на адну адзінотку, а ў гэты час з Лагойску ксёндз прыехаў па калядзе, дык яго застрэлілі. Калі польскія ўлады стаўлялі сялян масты вартаваць, дык партызаны гэтай групы праганялі гэтых сялян.

Другая група — гэта прадстаўнікі бальшавіцкай улады, якіх паставілі бальшавікі пасьля адыходу немца. Яны не былі ніякія бальшавікі, а хацелі рукі пагрэць каля дворнага дабра ды піць самагонку. Калі прыйшлі палякі, дык паарыштоўвалі іх ды білі. А калі яны паўцякалі ад палякаў, дык сталі дзеяць супроць іх. Гэта група па свайму характару й чынах нічым ня розьніліся ад польскіх жандараў. Калі б палякі іх ня білі, а далі месца ў сваёй паліцыі, дык бы мелі верных супрацоўнікаў. Да гэтай групы належалі Дзям'ян Жызьнеўскі й М. Маўчан зь вёскі Слабада.

У вёсцы Корань жыў адзінокі стараваты чалавек Янка Палітанскі. Ён змалада[274] служыў там-сям кіраўніком маёнтку; у гэты час, вясной 1920 году, служыў у двары Мураванка. Аднаго дня ён пайшоў у валасьць — у мястэчка Гайна. Калі ішоў адтуль, дык быў застрэлены сярод белага дня ў гайку ля дарогі; аб ім гаварылі, што ён мае грошы й заўсёды носіць іх пры сабе. Гэта забойства засталося загадкавым: ці яго забілі за грошы, ці з палітычных паглядаў — за тое, што працаваў у дварэ кіраўніком. Падазравалі на Жызьнеўскага й Маўчана, але калі прыйшлі бальшавікі, дык Мінчонак казаў, што ён забіў сваёй рукой з палітычнай мэтай.

У Гайне быў касьцёл, які належаў да першых сямі каталіцкіх сьвятыняў на Літве, пабудаваных у 1387 годзе князем Ягайлам[275]. Гэты касьцёл у 1867 годзе быў пераверанены на царкву. Зь першых дзён гэтай царквы быў там сьвятаром Раман Маскалевіч, аж да сваёй сьмерці ў 1901 годзе[276], а пасьля — ягоны сын Уладзімер, выхаваны ў чарнасоценным духу. У Гайне каля царквы жылі каталікі, і пасьля рэвалюцыі яны часамі нават урываліся ў царкву й шкодзілі ў набажэнстве. Калі ў 1919 годзе прыйшлі палякі, дык у жніўні месяцы выкінулі з царквы ўсё праваслаўнае абсталяваньне й сьвятара выселілі з клябаніі, а царкву перарабілі на касьцёл і ў клябанію ўсялілі ксяндза. Далей палякі рабілі статыстычную перапіску жыхарства й пыталіся ў сьвятара Маскалевіча, якой ён нацыянальнасьці. Ён назвацца беларусам не хацеў, бо не прызнаваў, што

[274] ***Змаладá*** — з маладых гадоў (АВ).

[275] **Ягайла** (1352—1434), вялікі князь літоўскі, кароль польскі, заснавальнік дынастыі Ягелонаў.

[276] Паводле іншых зьвестак, сьвятар **Раман Якаўлевіч Маскалевіч** (1833—?) быў настаяцелем прыходу ў 1863—1905 гг. Гл.: http://logoisk-church.by/index.php?option=com_k2&view=item&layout=item&id=75&Itemid=154.

гэткая нацыянальнасьць ёсьць, а назвацца расейцам не адважваўся, каб палякі зусім ня выслалі ў Расею. На пытаньне, якой нацыянальнасьці, ён адказваў: *"духоўнага званьня"*, а калі яму з гэтым пытаньнем сталі надакучваць жандары, дык ён уцёк да партызанаў. І так сабралася ладная група з чарнасоценным кірункам.

Калі толькі адышлі палякі, дык прадстаўнікі гэтых трох групаў партызан сабраліся ў воласьць і арганізавалі валасны рэвалюцыйны камітэт, у скароце — *волрэўком*. У той час праваслаўныя беларусы чарнасоценнага кірунку бальшавікоў уважалі сваімі людзьмі — рускімі й праваслаўнымі. Празь нейкі час гэты рэўком упусьціў папа ў царкву й клябанію.

## БАЛЬШАВІКІ Й ІХНАЯ ЎЛАДА

З пачатку заснаваньня ў нас бальшавіцкай улады й аж па 1920 год сяляне нашай вёскі й ваколіц не ўяўлялі сабе як належыць ні бальшавіцкіх парадкаў, ні саміх бальшавікоў, бо на працягу гэтых гадоў яны да нас урываліся наскокамі ды зноў уцякалі. З канца 1917 й па люты 1918 году яны толькі там маглі добра дацца ў знакі, дзе было шмат згрупавана іхнага войска (каля местаў, каля фронту й каля вялікіх дарогаў). Наша сялянства іх уяўляла як рабаўнікоў і разбойнікаў.

Пасьля адыходу немцаў у 1918 годзе да нас зноў завіталі бальшавікі-вайскоўцы. Наша сялянства зьвярнула на іх увагу тым, што іхнае начальства скуплівала ўсё тое, што пападалася пад рукі, асабліва кажухі, а гэта тлумачылася тым, што за гэты час іхныя грошы зусім утрацілі вартасьць, дык яны ў новым краі мелі нагоду добра спэкуляваць.

Тады зразу й па валасьцёх бальшавікі сталі арганізоўваць савецкую ўладу, але да іх на гэтыя іхныя пасады ніхто з паважных людзей не ішоў, а п'яніцы, авантурнікі ды людзі бяз думкі аб заўтрашнім дні. Але й гэтыя людзі не былі ні бальшавікамі, ні спачуваючымі ім. Гэтыя людзі выкарыстоўвалі бальшавіцкі давер дзеля сваёй уласнай нажывы. Калі бальшавікі загадалі маладым хлопцам ісьці рэгістравацца як вайсковапавінным, дык тыя пайшлі на рэгістрацыю й гэтым далі сябе ашукаць. Гэта сталася таму, што й немцы, якія толькі адышлі, вайсковапавінных рэгістравалі, але ня бралі. А калі бальшавікі загадалі маладым хлопцам ісьці ў Чырвоную армію, дык зь іх ніхто не пайшоў.

Нарэшце сам Бэнґер — бальшавіцкі вайсковы камісар Барысаўскага павету — са сваімі карнымі аддзеламі вырушыў з Барысава па павеце, каб выганяць нашых хлопцаў у Чырвоную армію. Калі гэта зграя набліжалася да якой вёскі, дык моладзь разьбягалася ў розныя бакі, як вераб'і перад ястрабам. Калі ён прыехаў у нашу вёску, дык нідзе не відаць было ніводнага маладога хлапца, за вылучэньнем аднаго, які

спакойна й вольна ішоў па вуліцы. Бэнґер хоць па нацыянальнасьці быў і латыш, але расейскай лаянкай спыніў хлопца й патрабаваў дакумэнтаў. Той падаў яму дакумэнты, выданыя Менскім павятовым вайсковым камісарыятам, дзе значылася, што ён як інвалід царскай службы непрыгодны да вайсковай службы й зьяўляецца студэнтам. Камісар, аддаючы дакумэнты, зноў па-расейску вылаяўся й дадаў:

— Уцякай хутчэй адгэтуль, бо як будзе зараз ісьці маё войска, дык не паглядзіць на твае дакумэнты.

Праўда, ягонае войска на другі дзень раніцой ішло праз нашу вёску, але ніхто з моладзі не сядзеў дома, апрача двух інвалідаў: Мікола Акуліч, які па сваёй інваліднасьці не служыў і ў царскай арміі, ды Эля Крэмер, інвалід царскай вайны. Бэнґерава "армія" рада была, што хоць гэткіх спаткала. Яны павязалі сваіх палоньнікаў і папрывязвалі да сядла коньніка, які, падсьцёбваючы іх нагайкай, пагнаў да штабу Бэнґера, а там іх пасадзілі. Праўда, на другі дзень яны прыйшлі дамоў, але доўга помнілі, што азначае пралетарская ўлада. Гэтымі днямі ў нашай вёсцы пабіліся, дзелячыся, два браты — Пранук і Адам Равіны. Дачка першага пайшла на скаргу ў воласьць, але там напаткала большае начальства — Бэнґера; ён загадаў прывесьці да яго Адама Равіну, на якога была скарга. Хоць гэты Адам быў і хворы (меў сухоты апошняй стадыі й быў спухшы), але Бэнґер загадаў усыпаць яму 25 нагаек. Ягоныя чырвонагвардзейцы настолькі шчыра выканалі загад камісара, што пасьля гэткага пачастунку Адам хутка памёр.

Гэта Бэнґерава войска прыехала ў нашу вёску другі раз зь сьпісамі тых хлопцаў, якім трэба было ісьці ў войска. Хлопцы паўцякалі на поле ў жыта, дык войска стала канфіскаваць гаспадаркі бацькоў ці братоў, і гэтыя хлопцы прымушаны былі пайсьці. Сямёх зь іх, самых маладзейшых, безь ніякай вайсковай падрыхтоўкі пагналі на Польскі фронт, дзе іх забралі ў палон на захад ад Вялейкі ў цягніку й некалькі кілямэтраў гналі бягом, падганяючы бізунамі, а пасьля ў палоне блізка год марылі голадам — у поўным сэнсе гэтага слова. Сямёх трохі старэйшых пагналі на Фінскі фронт у паўночныя балоты, адкуль ніводны не вярнуўся.

Апрача вайсковай улады, Бэнґера, аб'яжджала воласьці й бальшавіцкая цывільная павятовая ўлада, якая хацела заснаваць бальшавіцкую ўладу сярод нашых сялянаў. Гэтыя прапагандыстыя патрабавалі, каб па вёсках было хаця па два чалавекі бальшавіцкай партыі. Ці гэта было пажаданьне, ці патрабаваньне, але тыя сяляне нашай вёскі, што былі на сходзе ў воласьці, палічылі, што гэта патрабаваньне. Яны на вясковым сходзе паставілі гэта пытаньне, дзе й пастанавілі аддаць у бальшавіцкую партыю самых горшых неслухаў — Янку Навойчыка й Антося Вашкевіча. Паколькі нялюбыя былі для іх бальшавікі, патолькі й нялюбых людзей пасылалі, але й гэтыя неслухі спужаліся такой пастановы ды ў лес паўцякалі.

Калі ў пачатку ліпеня 1920 году адыходзілі палякі, дык за імі ўсьлед ішлі бальшавікі. Нашы сяляне дзівіліся, калі ў ліпнёвую сьпякоту тыя ішлі ў зімовых касматых шапках і ў ватовых нагавіцах.

Два бальшавікі зайшліся да нас начаваць. Запасу харчоў не было, бо цэлы дзень войска ішло, дык усё паелі. Матка ім прынесла бульбы, мукі й кавалак сала, а яны ўзахвоціліся самі сабе варыць вячэру: начысьцілі бульбы, з мукі зрабілі цеста ды ўсё гэта ўкінулі ў гаршчок большы, як у вядро, дадалі трохі вады й затаўкі. Зварыўся вялізны гаршчок кашы з бульбай. Яны калі сталі есьці — дык мала засталося! Мама баялася, каб ім не зашкодзіла, каб яны не паўміралі, але ім нічагутанькі! Тое, што засталося, паклалі ў торбы; самі паляжалі трохі й пайшлі.

На другі дзень таксама ішло войска, а пад вечар стаў ісьці абоз і паходныя кухні. Гэты абоз на нейкі час спыніўся ў нашай вёсцы. Калі кухары паадчынялі гэтыя кухні, дык нарабілі смуроду на цэлую вёску. Польскія ўлады былі загатавалі ў Барысаве вялікі запас насеннага лубіну, але чамусьці яго шмат залетавала. Калі ішло галоднае бальшавіцкае войска, дык бальшавікі забралі гэты лубін і ім харчавалі сваіх жаўнераў.

Празь нейкі тыдзень ехаў праз нашу вёску вялікі абоз сялянскіх фурманак, але з пустымі калёсамі. Гэтыя людзі былі з Магілёўшчыны й Смаленшчыны. Нашы сяляне дзівіліся: куды бальшавікі гоняць гэтыя фурманкі й чаго яны там хочуць набраць ды везьці дамоў? З гэткага аднаго абозу зайшлася да нас начаваць адна дзяўчына гадоў 16—17, яна была акалеўшы, змокшы, бо цэлы дзень дождж ішоў. Ёй далі павячэраць і пасьцялілі за сталом на лаве, і яна спала да раньня. Раніцай усходам сонца ўскаквае ў хату бальшавіцкі жаўнер. Гэта дзяўчына, калі ўбачыла яго на парозе, дык падняла галаву й трохі ўсьміхнулася, а гэты бальшавік проста да яе — сьцягнуў коўдру ды стаў лупцаваць нагайкай. Дзяўчына ў крык, у плач. Старая матка там круціцца, хоча бараніць, але баіцца ды сама пачынае плакаць. На гэты енк паўсхватвалася з пасьцеляў уся наша сям’я. А маскаль пагнаў нагайкай перад сабой дзяўчыну й хаты не зачыніў. Я, лежачы ў пасьцелі, аж затросься, гледзячы на свавольства маскаля, і падумаў: *“Вось дык пралетарская ўлада, вось дык сацыялізм!..”* А пры размове зь імі, дык яны пачынаюць хваліцца, што іх і ў Польшчы чакаюць, і ў Нямеччыне, і ў Францыі. Мая маці аднаму гэткаму хвальку парадзіла:

— *Дзе ж вы ўсюды справіцеся, лепей ідзіце туды, дзе вас любяць.*

Але невядома, ці была тады ці ёсьць цяпер гэткая краіна, дзе любяць бальшавікоў.

## СУПРАЦЬБАЛЬШАВІЦКАЯ ПАРТЫЗАНКА

Як было вышэй сказана, калі ў нашай вёсцы бальшавіцкія карныя аддзелы сталі канфіскаваць гаспадаркі і ў Ганулі Карэнскай забралі ўсё збожжа за тое, што два сыны не пайшлі ў Чырвоную армію, дык маладзейшыя хлопцы векам да 25 гадоў пайшлі, а старэйшых (мабілізоўвалі векам да 30 гадоў) тады не пасьпелі ўзяць. Зь іншых вёсак нашай ваколіцы — зь Церахоў, Казыроў, Прудкоў, Лішчыц, Ганяў ды іншых — сышліся ў лесе Ставок. Яны мелі некалькі стрэльбаў для самаабароны, але сядзелі ціха. Нарэшце да іх падышоў польскі шпеґ ды стаў намаўляць скласьці баявы аддзел і дапамог ім выбраць начальнікаў. Гэты паляк паставіў ім начальнікам паджылага селяніна Міколу Паўловіча, які быў непісьменны і ў войску ніколі не служыў, дый розуму недалёкага, ды гаспадарчым камэндантам — Тадэвуша Салаўя, таксама непісьменнага. Там усіх хлопцаў было каля пяцідзесяці, амаль усе ўзброены, мелі добрага кулямётчыка Ў. Ліса й добрых снайпэраў: Даражынскага, які падкіненую манэту прабіваў з карабіна, і Жак-Жукоўскага, паляка зь Менску, які ў той час быў настаўнікам у вёсцы Лішчыцы; ён мог засядаць адзін у кусьціку ці за каменьнем ды абстрэльваць бальшавікоў. Але гэты аддзел нічога паважнага не зрабіў, а толькі шмат чаго ганебнага, а гэтаму прычынай было тое, што яны даліся над сабой шэфстваваць чужынцу, бадай што выскачку або злачынцу, які паставіў паўдуркаватых цёмных і карысьлівых людзей у начальства над імі. Яны гэтыя злачынствы ўтварылі, калі ўжо падыходзілі палякі. Галоўныя іхныя злачынствы былі тыя, што па-зьверску закатавалі пана Валіцкага, зрабілі налёт на мястэчка Плешчаніцы й абрабавалі жыдоў, а ў часе польскай акупацыі езьдзілі па глухіх засьценках і рабавалі жыхарства.

Валіцкія лічыліся арыстакратамі й мелі ў Сукневічах фальварак. Адзін брат быў палкоўнікам у расейскай арміі ды пайшоў у 1863 годзе ў паўстаньне й быў павешаны, а фальварак канфіскаваны. Ягоны брат Алькары пайшоў у прымы да шляхцянкі ва Ўкропавічы; быў чалавекам сумленным і добрым, але жыў беднавата. Старэйшы сын гуляка й прапашчы злодзей — яго выслалі ў Сібір. Дачка застрэлілася. Апошні сын, закончыўшы навуку, быў дома. У яго было жаданьне, каб быць кіраўніком, каб стаяць уверсе — над грамадзтвам; калі немцы адышлі, дык ён стаў начальнікам паліцыі ў нашай воласьці. Што яго піхнула на гэты чын? Адно, што, мажліва, у ім зьяўляўся шляхоцкі гонар — каб езьдзіць на кані з шабляй і нікога не баяцца, а другое і, напэўна, галоўнае, што ён уважаў гэту бальшавіцкую ўладу часовай, дык думаў гэтай сваёй службай абараніць свой фальварак ад руйнаваньня. Калі бальшавікі пакінулі нашу ваколіцу, дык Валіцкі быў дома. Гэтыя партызаны ўночы прыехалі, забралі яго, прывезьлі ў свой штаб, дзе нялюдзка каталі, а нарэшце той польскі шпеґ дастрэліў яго.

Калі бальшавікі пакінулі мястэчка Плешчаніцы, а палякі яшчэ не прыйшлі, дык гэтыя “партызаны” паехалі ў мястэчка, сьсеклі на вуліцы некалькі тэлеграфных слупоў, распачалі страляніну з кулямёта й пайшлі жыдоўскія крамы рабаваць. А калі прыйшлі палякі, дык яны за дазволам жандараў Гаенскай валасьці езьдзілі рабаваць жыхарства пад прычынай “szukać oręża”[277].

Калі ў 1920 годзе палякі адышлі, дык хлопцы гэдаксама пайшлі ў лес і баранілі свае вёскі ад нападу бальшавікоў. Калі аднаго разу летам 1920 году Бэнґеравы карны аддзел забралі статак вёскі Казыры, дык яны дагналі карнікаў аж пад Лагойскам і адбілі свой статак. Калі ўцякалі бальшавікі з-пад Віслы, дык яны дзе з кулямётам, а дзе адзіночныя снайпэры задавалі пуду бальшавіком. Гэты аддзел насіў назву “Зялёныя”.

## БАЙКОТ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

Прайшлі бальшавікі на захад, і ў нас у вёсках стала ціха й спакойна. Празь нейкі час бальшавікі аб’явілі новую мабілізацыю. Мне загадалі зьявіцца ў Барысаў зарэгістравацца. Я ў Барысаў зьезьдзіў, але не зарэгістраваўся. А дома сказаў, што чакаю выкліку. Калі аб’явілі мабілізацыю ўсім іншым хлопцам, дык яны пачапілі вялікія мяхі з хлебам на плечы ды публічна накіраваліся назад, зайшлі ў сваё балота ў густую лазу, зрабілі сабе будкі ды й сядзелі там, а толькі начамі прыходзілі дамоў па харчы, але стараліся й сваім не паказвацца на вочы. Гэта былі старэйшыя хлопцы ад 25 да 30 гадоў веку, бо маладзейшыя пайшлі ў 1919 годзе. Нарэшце зьявіліся чуткі, што бальшавікі адыходзяць з-пад Варшавы. І сапраўды там-сям праходзілі групы 5—10 асобаў з стрэльбамі, а нават часамі й з кулямётам — лясамі-палямі на ўсход. Гэта яны праходзілі з зброяй дамоў, каб там дома зброяй бараніцца ад бальшавікоў.

Нарэшце сталі й абозы бальшавіцкія ехаць. Трэба зноў з коньмі ў балота хавацца. Думалася, што прыйдзецца тры-чатыры дні пасядзець у балоце, а там перамена ўлады, дык зноў вернемся ў вёску. Я ўзяў каня ды й падаўся ў балота. Там да тэй грамады, што з паловы лета пайшла ў балота й пабудавала сабе будкі, мы (чатыры асобы) не далучаліся, але з коньмі сядзелі ціха, бо каля тых была ўжо вялікая грамада амаль з усёй вёскі з коньмі сабраліся. Я на другі дзень пайшоў у той бок, аж мне там кажуць, што яны ўжо палоннага маюць: ішоў праз балота бальшавік, дык яны яго затрымалі, спуталі зялезным путам, што коні путаюць, і зьмясьцілі ў будцы.

— *Дык што вы зь ім думаеце рабіць?* — пытаю.

---

[277] ***Szukać oręża*** (польск.) — Шукаць зброю.

— *Патрымаем, пакуль палякі прыйдуць, а тады пусьцім,* — адказваюць.

— *А як палякі зусім ня прыйдуць, дык што тады будзеце рабіць?* — пытаю. — *Гэта ж поўна вёска бальшавікоў*.

Яны са тры дні пратрымалі яго ў пуце ды яшчэ й вартавалі, а нарэшце распуталі ды, завязаўшы вочы, адвялі ў другі лес каля трох кілямэтраў, а там пусьцілі. На другі дзень пасьля гэтага з двух бакоў бальшавікі пайшлі наступам на наша балота. Тут, у гэтым балоце, былі ня толькі тыя хлопцы, якія не пайшлі ў Чырвоную армію, але дзяўчаты, падлеткі й старэйшыя ды коні ўсёй вёскі. Хоць гэта была вялікая грамада, але сядзелі ціха. Гэтыя карныя аддзелы прайшлі ад нашай схованкі каля 100—150 мэтраў, а гэта сталася таму, што калі яны былі збоку нас, дык убачылі перад сабой людзей, якія сталі на іх страляць, а гэта былі таксама бальшавікі, якія ішлі на наша балота з другога боку. Толькі адзін хлопец з нашай вёскі быў блізка каля поля, які пасьціў свайго каня й бульбу пёк (ён быў сьлепаваты), яго з канём забралі. Былі чуткі, што яго застрэлілі, бо дамоў не вярнуўся.

Калі ж паміж адной і другой бальшавіцкімі групамі пачалася перастрэлка, дык мы перш падумалі, што гэта перастрэльваюцца бальшавікі з палякамі, але скора спанатрылі[278] ды раптам бяз шуму падаліся ўлева, у глушэйшае балота, і гэткім чынам выпадкова ацалелі. На вялікае шчасьце, гэта бальшавіцкае войска тэй жа начы зь Міхалкавіч выехала.

Некалькі дзён наша вёска была вольная ад бальшавіцкага войска. Я з сваім сябрам прыйшлі з балота дамоў у суботу, схадзілі ў лазьню ды я падаўся ў пуню спаць. Чую, на вуліцы вялікі грукат, я ўсхапіўся, адзеўся й выйшаў з пуні, а цёмна — што на тры крокі чалавека не відаць. Бачу, у хаце агонь жые. Я падышоў пад вакно, прытуліўся збоку ля вушака й бачу, што два бальшавікі (відаць, начальнікі) разлажылі мапу на стале й гаварылі між сабой аб замірэньні з палякамі. Зь іх гутаркі выходзіла, што, бадай, прыйдзецца й Смаленск пакінуць. Мне праз вуліцу на заходні бок у кірунку балота было немажліва прабрацца, дык я накіраваўся на ўсход ды полем абышоў канец вёскі, каб накіравацца ў бок балота. Цемень была бясконцая, і гэта мне давала мажлівасьць падысьці да дарогі. А калі на дарозе трохі войска разграмілася, дык я гэтай прагалінай пераскочыў на заходні бок дарогі ды пайшоў у балота.

Неўзабаве з гэтых чорных хмараў, што віселі над зямлёю, стаў высыпаць сьнег. Трохі прасьвятлела. Пакуль я прыйшоў у балота да сваіх, дык зямля забялелася. Як гэты дзень, гэдак і наступныя дні мы сядзелі ў балоце, але аднаго хлопца з суседняй вёскі бальшавікі ў гэтым балоце злавілі. Мы баяліся, што ён выдасьць усіх нас і пакінулі гэта дзікае месца з густым зарасьнікам і разышліся па балотных сенажацях,

[278] ***Спана́трыць*** — здагадацца, скеміць (АВ).

зарослых кустамі, па гаёх па дзьве-тры асобы. Але й гэты раз выйшла ўсё добра: хлопец не прызнаўся, што ён тутэйшы. Бальшавікі зайшліся начаваць да ягоных цётак і гэтага хлопца пры сабе трымалі; ні ён да цётак не прызнаўся, ні цёткі да яго, а вечарам, шэрай гадзінай, падкінулі яму спадніцу й хустку, ды ён уцёк з хаты.

Восень набліжалася да зімы, палітычных пераменаў не чуваць. Палякі астанавіліся ад нашай вёскі за нейкіх пятнаццаць кілямэтраў і далей ня рухаюцца. Ёсьць чуткі, што аб згодзе гавораць, але дзе яны будуць праводзіць мяжу — невядома. Калі бальшавікі, як я чуў ад іх, гатовы й Смаленск аддаць, дык граніца на Дняпры ўжо будзе пэўна, а што на Бярозе[279], дык аб гэтым і гутаркі ня можа быць. Хоць бальшавікі й арганізуюць пры воласьцях саветы й абʼяўляюць амністыю па амністыі, але няма дурных у бальшавіцкую армію ісьці.

У балота падавацца на старое табарышча няма ахвоты, бо сьцюдзёна, золка, а там зямлянкі ня зробіш. Нашы хлопцы — бальшынёй старыя ваякі: ведаюць, што ў зямлянках добра ад сьцюжы хавацца. Наша поле камяністае: на ім шмат крушань каменьня; дык вось сталі на полі капаць зямлянкі, а на іх накладалі крушні каменьня, а адтуліну ў гэту зямлянку зручна закладалі плітай. А іншыя на паверхні зямлі разварочвалі крушню, рабілі там будку, абставіўшы саломай ды зноў абкладалі каменьнем і выхад зручна закладалі каменьнем.

Калі стала набліжацца зіма, дык гэткія схованкі сталі непрыгоднымі, бо калі выпадзе сьнег ды стане сьлядно[280], дык бальшавіцкія карныя лёгка змогуць асачыць гэткія схованкі. Шмат якія хлопцы нашай вёскі рабілі падзямельныя схованкі ў пунях пад снапамі, у хлявох пад гноем, у істопках пад бульбай, выхады хітра, па-лісінаму закрывалі. Адзін невялікі ростам хлопец зь вёскі Родзевічы схаваўся ў кулі пласконьня[281]. Калі бальшавікі прыяжджалі на вышукі, дык бацька абстаўляў яго нямятым пласконьнем, абвязваў перавяслам і ставіў пад пуняй між кулёў пласканёў[282].

Да паловы лістапада я быў дома, але бальшынёй хаваўся ў Навінцы — у зямлянцы пад крушняй каменьня, а ў палове лістапада адзін стары зь вёскі Чэрнева адвёў нас, хлопцаў, праз ноч лясамі на польскі бок дэмаркацыйнай лініі. За гэту ноч ён правёў каля 50 асобаў як з нашай вёскі, гэдак і з суседніх. Праўда, польская варта на дэмаркацыйнай лініі нас прыняла прыхільна; адвялі нас у фальварак Зацеміна,

[279] ***Бяроза*** — народная назва ракі Бярэзіны (Усходняй).

[280] ***Сьлядно*** — знаць сьляды на сьнезе (АВ).

[281] ***Куль*** — вялікі пук абмалочаных і зьвязаных канапель; пласконьне — кудзеля з пласканёў (АВ).

[282] ***Пласкані*** — каноплі мужчынскага роду, якія пасьля адцьвітаньня сохнуць (АВ).

дзе мы ў хаце на саломе адпачылі, а назаўтрае пайшлі трохі на захад і астаўбаваліся ў вёсцы Стайкі.

Там мы пражылі каля двух тыдняў, а нарэшце я пачуў, што на поўдні Беларусі ёсьць нейкі беларускі генэрал з сваім беларускім войскам. Я з другім хлопцам накіраваліся на поўдзень. За дзень дайшлі ў мястэчка Іля, мы астаўбаваліся нанач у старасты Марціна Грымоця. Я пайшоў распытвацца да палякаў-жаўнераў аб беларускім войску. Адзін зь іх мне сказаў, што “банды” генэрала Балаховіча[283] былі далёка зайшлі на ўсход на Палесьсі, але адыходзяць назад на захад. Я ў яго пытаюся, чаму ён войска Балаховіча заве “бандай”. Ён мне адказвае, што яно гэдак і ёсьць, бо яны рабуюць, забіваюць, ґвалцяць. Мы з сваім сябрам далей не пайшлі, а засталіся ў Ілі ў аднаго беднага селяніна малаціць — удвух малацілі цапамі жыта. Гэта работа ў нас цягнулася каля трох тыдняў. Якраз у тыя часы адбываліся чыны Слуцкага паўстаньня[284], але мы тады аб ім нічога ня ведалі.

Тады на заходнім баку дэмаркацыйнай лініі было вельмі шмат хлопцаў з усходняга боку, а за гэта й простай гаспадарскай работы, хоць бы за хлеб, цяжка было знайсьці. Дык вось, калі я прыйшоў зь Ілі на поўнач да Альковіч, дзе была бальшыня нашых хлопцаў, дык зь імі некаторымі праз ноч накіраваўся дамоў па хлеб ужо без павадыра. Праўда, мы дарогі не трымаліся, дык ішлі ўцэла[285] ў пэўным кірунку. Гэта было перад Калядамі. Прыйшлося дома й калядаваць.

Пасьля Калядаў трэбала[286], набраўшы ў мяшок хлеба, круп, сала, ісьці зноў на захад ды там і сядзець, покуль не зьясі. Зьеўшы гэты хлеб недзе пад канец студзеня 1921 году, мы зноў прыйшлі дамоў па хлеб. Да гэтага часу мы знайшлі сабе добрую дарогу: з нашага балота калі рэчкі Іля ісьці балотам аж да Стаек каля Альковіч. Гэтая дарога складала больш за 15 кілямэтраў, але блізка яе нідзе не было паселішча.

У гэты час мы разасьмеліліся й больш тыдня праседзелі дома. Аж у нядзелю раніцай наляцела трывога, што карныя бальшавікі ў нашай вёсцы. Я праз вуліцу перабег да суседа Янкі, які пад аўчарнікам меў добрае сховішча, да якога вёў ход-лябірынт. Нам у гэта сховішча данесьлі, што Адама-гарманістага захапілі ў хаце, а ягоны сябра Юзік быў разам

[283] **Станіслаў Булак-Балаховіч** (1883—1940), вайсковы дзеяч, генэрал Асобнага атраду БНР, камандзір добраахвотніцкіх атрадаў польскай арміі ў 1920 г.

[284] **Слуцкі збройны ўздым, Слуцкае паўстаньне, Слуцкі збройны чын** — узброенае выступленьне супраць савецкай улады, якое адбылося ў Слуцкім павеце ў 1920 г.

[285] ***Уцэ́ла*** — без дарогі па сьнезе (АВ).

[286] ***Трэ́бала*** — утварылася з двух слоў: *трэба* й *было* (АВ).

зь ім, але ўскочыў на печ і дзяругай укрыўся, лёгшы між вітухамі[287]. Бальшавік штыхом папароў між клубкоў і вітух ды Юзіку нават трохі жывот штыхом абадраў, але іншыя табаку-самасейку знайшлі, дык і той, што на печы пароў, пабег да табакі. Адама забралі й павезьлі з сабой, калі на трэці дзень канваіры яго везьлі ў места ды пусьцілі дамоў бялізны ўзяць, дык ён за адзін вугол, за другі ды раўчаком папёрся ў балота, а праз ноч быў ужо на сваёй папярэдняй кватэры ў вёсцы Юнцавічы на польскім баку мяжы. Калі мы даведаліся, што Адам уцёк ад бальшавікоў, а канваіры паехалі ў свой штаб, дык мы ўсе шэрай гадзінай, ушчапіўшы на плячы свае хатулі, падаліся знаёмай дарогай на захад. Празь дзьве гадзіны пасьля нас бальшавікі зноў прыехалі ў нашу вёску ды пайшлі за намі наўздагон, але ў нашым балоце ў рудаўкі[288] паўваліліся, дык вярнуліся назад.

## НА ПАСАДЗЕ НАСТАЎНІКА

Спаражніўшы свой хатуль, у палове лютага 1921 году я прымушаны быў зноў прыйсьці дамоў па хлеб. У гэты час быў дома мой маладзейшы брат Казюк. Яшчэ ў 1919 годзе закончыў у Менску беларускія курсы-сэмінарыю й застаўся працаваць у менскіх беларускіх школах настаўнікам. У самым пачатку 1921-га ён пераехаў дамоў і адчыніў у Коране беларускую пачатковую школу. У той час мы ўжо ведалі, што бальшавіцкая ўсходняя граніца застанецца па дэмаркацыйнай лініі, якая была ўстаноўлена з 3 кастрычніка 1919 году. Не было як у далейшым часе набіраць хлеба ды хадзіць за граніцу есьці. На польскім баку немажліва было заставацца, бо адно там працы ня можна было знайсьці, а другое — чым далей, дык палякі сталі ставіцца варожай да беларусаў.

Хоцькі-няхоцькі, а трэбала ўладжваць жыцьцё на Беларусі пад бальшавікамі. Мой брат Казюк пайшоў у воласьць да Кузьміцкага, загадчыка валаснога аддзелу народнай асьветы, які напісаў мне паперку, што я зьяўляюся настаўнікам Коранскай школы. На наступны дзень я пачаў працаваць у школе настаўнікам-практыкантам пад наглядам і кіраўніцтвам брата. Гэта наша Коранская школа была першай беларускай школай ня толькі ў Гаенскай воласьці, але ўва ўсім Барысаўскім павеце. Два гады я працаваў настаўнікам гэтай школы пад кіраўніцтвам брата, а на трэці, калі брат выехаў зноў у Менск, я застаўся кіраўніком школы.

287 ***Віту́ха*** — прылада, што на яе зьвіваюць напрадзеныя ніткі, каб сохлі, матавіла (АВ).

288 ***Рудáўка*** — прорва ў гразкім балоце з рудой гразьзю (АВ).

Калі я быў вучнем гэтай самай Коранскай пачатковай школы дый далей, вучнем дзьвюхклясавай міністэрскай школы, дык я мог толькі марыць стаць настаўнікам, але паважна думаць аб гэтай працы не прыходзілася, бо я й па асьвеце й па рэлігійным стане ня мог быць дапушчаны ў старой Расеі да гэтай працы. Пасьля рэвалюцыі я выпадкова дастаўся на гэтую працу без папярэдняй падрыхтоўкі. Першыя тры гады плацілі настаўнікам на месяц толькі 22 хунты мукі млынавога збору й некалькі савецкіх рублёў, за якія немажліва было купіць і пачка махоркі. Мы з братам у гэтыя гады харчаваліся дома, а іншыя далёкія настаўнікі — або падарункамі мясцовага жыхарства, або галадалі.

Хоць уступленьне маё было на гэту пасаду дзеля таго, каб не служыць у бальшавіцкім войску, але я адразу з усёй шчырасьцю аддаўся гэтай працы. Калі далей мне служба ў бальшавіцкай арміі не пагражала, дык я ўсё роўня ня кідаў гэтай працы, і мне на сумленьні нічога не карцела, што я сеў ня ў свой вазок, бо каля 60 % у павеце было настаўнікаў з гэткай адукацыяй, як і я, але й тое настаўніцтва, што мела такую-сякую пэдагагічную асьвету, дык было наколькі карыснымі, настолькі й шкоднымі, бо русіфікавалі беларускіх дзяцей. Але калі я зрабіў першы выпуск сваёй школы ды ўбачыў сам ды ўбачылі іншыя, што мае вучні былі лепш падрыхтаваны, як вучні настаўнікаў з адмысловай пэдагагічнай асьветай і вялікім настаўніцкім стажам, дык пасьля гэтага мне зусім стала лёгка на сэрцы. Хоць тады мая настаўніцкая праца, як і праца ўсіх настаўнікаў, была зусім дармовай, але мяне цешыла тое, што я вучу беларускіх дзяцей на беларускай мове й пашыраю беларускую культуру сярод беларускай моладзі.

Я, як і бальшыня тагачаснага настаўніцтва, ня меў адмысловай пэдагагічнай адукацыі, дык мяне часта выклікалі на летнія кароткатэрміновыя настаўніцкія курсы. Першы раз мяне выклікалі летам 1921 году. Тады па ўсёй Беларусі, апрача места Менску, панавала расейская мова. Там апрача мяне было яшчэ некалькі сьвядомых беларусаў; мы паднялі пытаньне аднаго разу на лекцыі, чаму на гэтых курсах не выкладаецца беларуская мова. Адзін малады выкладчык, які выкладаў на курсах расейскую, адказаў:

— *Нам гэткая мова невядома.*

Але там амаль усе выкладчыкі варожа ставіліся да беларускага нацыянальнага адраджэньня.

У той час у Барысаве ўся культурна-асьветная й школьная адміністрацыя былі абсаджаны расейцамі, якія варожа ставіліся да праяўленьня беларускай культуры. Тады зьезды саветаў адбываліся кожныя тры месяцы й на адным зь зьездаў пры дамаганьні моладзі быў арганізаваны пры Барысаўскім павятовым аддзеле народнай асьветы беларускі пададдзел; кіраўніком пададдзелу быў малады хлопец, былы гімназісты Аляхновіч. Расейскім шавіністым, чарнасоценцам і камуністым беларускі пададдзел быў бяльмом на воку. Адзін зь зьездаў

саветаў адбываўся ў часе нашых курсаў летам 1921 году, на ім быў пастаўлены даклад беларускага пададдзелу. Калі Аляхновіч выступіў, яго засыпалі пытаньнямі, адно зь якіх было: *"Якую мэту ставіць перад сабою пададдзел?"*. Дакладчык адказаў, што пададдзел дамагаецца распаўсюджаньня беларускай літаратуры й вядзеньня культурнай працы на беларускай мове. Пасьля гэтага дакладу выступала шмат прамоўцаў, якія дамагаліся ліквідацыі беларускага пададдзелу. Адзін прамоўца быў барысаўскі стары настаўнік-чарнасоценец, ён у сваім слове ахапіў гісторыю ўкраінскага руху ў 1917—1920 гадох, кажучы:

— *Украінцы ў 1917 годзе дамагаліся толькі вядзеньня культурна-асьветнай працы на ўкраінскай мове. І гэта культурна-асьветная праца вылілася ў Цэнтральную Раду*[289]*, а там — і гетман Скарападзкі*[290]*, і манархія. Калі савецкая ўлада будзе патураць беларусам арганізаваць гэтыя беларускія пададдзелы ды праводзіць культурна-асьветную працу на беларускай мове, дык да гэтага самага дакоцяцца й беларусы, як і ўкраінцы ў 1917—1920 гадох.*

Аб усім гэтым данесьлі ў Менск, на разбор справы прыяжджаў Язэп Адамовіч[291] і беларускі нацыянальны дзеяч Летаўт[292]. Адамовіч хутка вярнуўся ў Менск, а Летаўт застаўся ў Барысаве на далейшы час. Настаўнік Сечка зь Зембіна данёс бальшавіком, што Летаўт шпеґ, падасланы польскімі ўладамі (Летаўт паходзіў з Заходняй Беларусі й працаваў у Менску ў Камісарыяце земляробства).

Аднаго разу прыехаў да мяне ў Барысаў мой брат Казюк і на вуліцы ў Барысаве спаткаў былога свайго знаёмага Іванова-Казелу[293], які ў Менску ў "Беларускай хатцы"[294] быў артыстым пад псэўданімам Сымон

---

[289] **Украінская Цэнтральная Рада** — спачатку (ад сакавіка 1917 г.) орган украінскіх палітычных, грамадзкіх і прафэсійных арганізацый, ад красавіка 1917 г., пасьля Ўсеўкраінскага нацыянальнага кангрэсу, узяла на сябе функцыі найвышэйшага заканадаўчага органу Ўкраіны, абвесьціла аўтаномію Ўкраіны. Пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі абвесьціла Ўкраінскую Народную Рэспубліку.

[290] **Павел Скарападзкі** (1873—1945), украінскі грамадзкі й вайсковы дзеяч, адзін з ідэолягаў манархічнага гетманскага руху.

[291] **Язэп Адамовіч** (1897—1937), дзяржаўны дзеяч БССР. З 1920 г. наркам ваенных справаў, адначасова з 1921 г. наркам унутраных справаў, намесьнік старшыні ЦВК і СНК БССР. У 1924—1927 г. старшыня СНК БССР. Скончыў жыцьцё самагубствам.

[292] Зьвесткі пра асобу ня выяўленыя.

[293] **Іван Козел** (1928—1970), драматург, аўтар п'есаў "Папараць-кветка", "Над хвалямі Серабранкі".

[294] **"Беларуская хатка"** — клюб беларускай мастацкай інтэлігенцыі (1916—1920), прапагандаваў беларускае тэатральнае музычнае мастацтва, садзейнічаў стварэньню беларускага дзяржаўнага тэатру.

Музыка. У гэты час ён служыў у Чырвонай арміі й быў у тэатральнай сэкцыі пры штабе адной дывізіі. Брат прывёў Іванова-Казелу да мяне ў інтэрнат курсаў, і той потым стаў часта наведваць наш інтэрнат і дапамог нам заснаваць пры курсах беларускі культурна-асьветны гурток. Зараз жа ён пачаў падбіраць артыстых і рыхтаваць сцэнічныя паказы. У скорым часе ён дэмабілізаваўся, застаўся настала ў Барысаве й праводзіў беларускую культурна-асьветную працу, пасьля яго прызначылі школьным інспэктарам на Барысаўскі павет. Побач з інспэктарствам Іваноў-Казела не пакідаў сваёй прафэсійнай сцэнічнай працы: арганізаваў першую трупу з барысаўскай беларускай моладзі й ставіў спэктаклі.

Другім школьным інспэктарам у Барысаўскім павеце — да Іванова-Казелы, пры ім і пасьля яго — быў Барыс Зайцаў, расеец, заядлы русіфікатар, былы выкладчык маляваньня Маладэчанскай настаўніцкай сэмінарыі. Да зьяўленьня Іванова-Казелы ён і публічна, і скрытна вёў прапаганду супроць беларушчыны. У гады масавай беларусізацыі ён стаўся асьцярожным, а пасьля, пры ліквідацыі беларусізацыі, здаецца, быў даносчыкам.

Калі то там, то сям сталі адчыняцца беларускія школы ды стала пашырацца беларуская культура й беларускае мастацкае слова са сцэны, дык русіфікатары, як наезныя, гэдак і мясцовага паходжаньня, сталі актывізавацца. Гэткія русіфікатары былі і ў нашай Гаенскай воласьці ў асобах Лях-Нявінскай (наезнай) і Мажэйкі (тутэйшага), школьнага інструктара воласьці й загадчыка няпоўнай сямігодкі. Коранская школа, дзе я працаваў, была пры касьцёле, і па ўсіх навакольных вёсках жылі каталікі. Вясной 1922 году Мажэйка пастанавіў перавесьці мяне ў Бясяду[295], дзе школа мусіць застацца на грамадзкім утрыманьні, а на маё месца ў Корань паставіць прыволскую расейку Букатую — выкладаць расейскую мову, а другога настаўніка трэба сюды даць паляка, бо тут наўкольныя людзі — каталікі. Гэта ўсё робіцца з гуманнай мэтай, бо Букатая мае старога мужа-каталіка (ён уцякач з Гарадзеншчыны), дык яму блізка будзе хадзіць да касьцёлу. А каталіцкім дзецям даць польскага настаўніка, дык гэта таксама гуманная рэч. Гэткімі сваімі пастановамі русіфікатар Мажэйка хацеў ліквідаваць першую й адзіную ў воласьці беларускую школу. Калі ён паказаў гэту пастанову майму брату, дык Казюк адказаў яму прыказкай Пранціся Пустарэвіча з “Паўлінкі”[296]: *“Паглядзім, дзе каго пасадзім”*. Гэтай жа вясной пасьля школьных заняткаў найлепшых настаўнікаў выклікалі на сельскагаспадарчыя курсы ў Старабарысаўскі тэхнікум; не зважаючы на гэткую пастанову інструктара, туды ж выклікалі й мяне. На курсах я прабыў больш двух месяцаў, для мяне яны былі карыснымі й цікавымі. Увосень гэтага году

[295] Цяпер існуюць вёскі Вялікія Бясяды й Малыя Бясяды.

[296] **“Паўлінка”** — камэдыя Янкі Купалы, напісаная ў 1912 г.

брат выбыў на вучобу ў Менск, ва ўнівэрсытэт, а я застаўся кіраўніком Коранскай школы, і калі на наступную вясну зрабіў пасьпяховы выпуск, дык нават сам адчуў, што адпавядаю свайму прызначэньню.

На наступны, 1923 год беларусізацыя набыла пэўнага значэньня й сілы. У гэтым годзе выклікалі на курсы таксама па адным настаўніку з кожнай местачковай сямігодкі й настаўнікаў шматлюдных цэнтральных школаў; выклік быў пэрсанальны. Гэтыя курсы былі ўкамплектаваныя добрымі выкладчыкамі, зь Менску прыехалі аж тры асобы: Сушчынскі[297] выкладаў беларускую мову, М. Грамыка[298] — геаграфію, А. Гіркант[299] — беларускую гісторыю. Тут яшчэ выкладаліся: пэдагогіка, псыхалёгія, мэтодыка мовы й арытмэтыкі й сьпевы. Хто пасьпяхова закончыў курсы (у тым ліку я), уважаўся паўнапраўным настаўнікам. У гэтым годзе на курсах гегемонам быў беларускі нацыянальны рух — тут выразна заўважылі для ўсіх: хто ня будзе ведаць беларускай мовы й ня будзе выкладаць на беларускай мове, таго звольняць з працы. На курсах у вольныя часы вяліся дыспуты на тэму аб існаваньні Бога: у той час яшчэ бальшавікі не закідалі за ганьбу быць рэлігійным чалавекам.

З гэтага году ў Барысаўскім пэдтэхнікуме пачала выкладацца беларуская мова. Яе выкладаў Янка Катовіч з Барысаўшчыны, з Глівінскай воласьці; гэта быў настаўнік-беларус, патрыёт і антыбальшавік. Я яго заўважыў на сходцы прафэсійнага саюзу настаўнікаў. Стары саюз складаўся з старых настаўнікаў, расейскіх шавіністых, і бальшавікі заснавалі новы прафсаюз на марксісцкіх асновах. Тады яны былі яшчэ слабыя,

---

297 **Язэп Сушынскі** (1885—1967), мовазнаўца. У 1921—1926 г. працаваў ва ўстановах народнай адукацыі БССР, потым у Інбелкульце. У 1929—1939 г. вучоны спэцыяліст Інстытуту мовазнаўства АН СССР. Арыштаваны ў 1930 г., сасланы на 5 гадоў. Паўторна арыштаваны ў 1935 г.

298 **Міхайла Грамыка** (1885—1969), празаік, драматург, геоляг. Распрацоўваў беларускую навуковую тэрміналёгію. Аўтар падручнікаў па геаграфіі й мінэралёгіі. Браў удзел у пошуках нафты на Палесьсі. Ягоныя п'есы ставіліся ў тэатрах. Арыштаваны ў 1930 г. Апошнія гады жыцьця правёў пад Масквой.

299 **Апалёнія Гіркант** (1880—?), пэдагог. Скончыла Пецярбурскую жаночую гімназію. З 1900 г. працавала хатняй настаўніцай. У часе савецка-польскай вайны настаўнічала ў адной зь менскіх беларускіх школаў, сяброўка Беларускай хрысьціянскай дэмакратычнай злучнасьці. З 1921 г. вучылася ў БДУ на факультэце грамадзкіх навук. У канцы 1920-х — пачатку 1930-х гг. працавала настаўніцай у в. Бялынкавічы Касьцюковіцкага раёну Магілёўскай вобл. Першы раз арыштаваная ў 1931 г. Абвінавачвалася ў "контррэвалюцыйнай дзейнасьці". Асуджана не была. Па вызваленьні працавала настаўніцай у школе пры Менскай лямцавай фабрыцы. Зноў арыштаваная ў 1933 г. у Менску. Асуджаная да 3 гадоў ссылкі ў Паўночны край. Вызваленая ў 1935 г. Далейшы лёс невядомы.

каб накідаць сваю волю настаўніцкім масам згары, а націскалі, каб настаўнікі свой статут прынялі адчыненым галасаваньнем. Старыя настаўнікі-русіфікатары не хацелі прымаць бальшавіцкага статуту, а маладыя беларускія настаўнікі не хацелі ні старога статуту расейскіх шавіністых, ні новага — расейскіх камуністых. Тут выступае Катовіч з кампраміснай прапановай ды энергічна й настойліва заяўляе: для нас абодва статуты не падыходзяць; ён прапануе арганізаваць трэці настаўніцкі саюз — Беларускі настаўніцкі прафсаюз. Калі ў яго запыталі, ад якой арганізацыі ён уносіць гэту прапанову, дык ён адказаў, што ад настаўніка Янкі Катовіча й што ён спадзяецца, што беларускае настаўніцтва падтрымае ягоную прапанову. Тут шмат прысутнічала настаўнікаў-курсантаў з воласьцяў, і яны падтрымалі ягоную прапанову. Вядома, бальшавікі ніякім чынам не маглі прыняць гэткай пастановы, і гэты сход застаўся бяз вынікаў.

Калі нацдэмы ўзялі ў свае рукі школьніцтва на Барысаўшчыне, дык Катовіч застаўся адзінай моцнай мясцовай сілай, на плечы каго лягло так шмат адказнай работы. Ён быў і выкладчыкам беларускай мовы ў Барысаўскім пэдтэхнікуме, і інспэктарам народнай асьветы Барысаўскага павету. Вядома, барысаўскія настаўнікі-русіфікатары былі прымушаны прыняць беларусізацыю школаў, але Катовіча амаль што байкатавалі.

Аднаго разу, калі мы праз год спаткаліся зь Янкам, дык ён запрасіў мяне прайсьціся й расказаў аб сваім самотным і цяжкім жыцьці, што ён і днём перасілены працай і па-за працай ня мае, дзе прыхінуцца, бо барысаўскае настаўніцтва ў баку ад яго трымалася, ды й ён не лічыў патрэбным набівацца да іх сваім сяброўствам. Ён наважыў быў жаніцца й прасіў мяне ахарактарызаваць дзяўчат-курсантак, што належалі да беларускага культурна-асьветнага гуртка. Катовіч зьвярнуў увагу асабліва на Назараву, зь якой часта вечарамі шпацыраваў і гутарыў. Ён прасіў выказацца аб ёй. Я тады быў хоць і немалады, але неяк зьбянтэжыўся гэтым пытаньнем і ня мог яму выказаць ні сваіх паглядаў аб ёй, ні нават таго, што ведаў аб ёй. Празь нейкі час я пачуў, што Катовіч ажаніўся з Назаравай. Але калі пры раянаваньні Беларусі наша воласьць адышла ад Барысаўшчыны да Меншчыны, дык мне ня здарылася ні чуць аб самім Катовічу, і ні аб тым, як ён жыў з жонкай, ці быў ён шчасьлівы. Мне здаецца, што ён шчасьця ня меў.

У мяне й цяпер ляжыць на сумленьні як бы грэх нейкі, што я тады ня даў яму парады, як брату, і не расказаў таго, што ведаў аб ёй. А ведаў я тое, што Назарава была расейскай староверкай, жыла толькі з маткай, гадавалася ў Піцеры й там у часе вайны атрымала нейкую адукацыю; была хваравітая, нэрвовая, часамі аж да гістэрыкі. Калі яна запісалася ў беларускі культурна-асьветны гурток, дык не з нацыянальнага пераканаwilla, а з шуканьня прыгодаў. Вось гэта прыгода й надарылася. Як відаць, яна мела багатую жыцьцёвую практыку ў Піцеры ды, як

усе стараверы, мела й язык, а да таго пазнала й беларускіх патрыётаў ды магла ў гутарцы спагадаць ім і патакваць[300]. Я да гэтага часу нічога ня чуў аб Катовічу; думаю, ён загінуў пры ліквідацыі нацдэмаў. Пры нагодзе трэба спытацца ў старых барысаўцаў.

## КАВАЛЕНЯ[301]

Зь ім я таксама пазнаўся тут, у Барысаве, у 1921 годзе, калі быў на курсах. Першы раз спаткаў яго выпадкова: бачу, ідзе па пустой вуліцы між пажарышчаў высокі, трохі прыгнуўшыся, чалавек у доўгім прыношаным шынялі, у будзёнаўцы, нагавіцы салдацкія караткаватыя, а на босых нагах — маскоўскія лапці. Ён, ідучы, махне нагой, дык гэты лапаць па бруку паляціць наперад, а потым ён гэдаксама пусьціць другі лапаць, тады, не спыняючыся, уступіць нагой у вадзін лапаць, а потым у другі. Ён бачыў, што я зьвярнуў увагу на ягоную гульню з лапцямі, дык пры разьмінаньні прыемна ўсьміхнуўся, а далей зноў пайшоў, гуляючы з сваімі лапцямі. А вечарам гэты самы фацэт прыходзіць начаваць у наш інтэрнат. У гэты час маладзейшыя курсанты разьбегліся, а мы зь ім толькі ўдвух засталіся. Я сьпярша паставіўся да яго як да вайскоўца, недаверліва, але калі ён стаў гаварыць па-беларуску, дык мае пагляды да яго зьмяніліся. Ён адразу да мяне зьвярнуўся з пытаньнем:

— *Як тут у вас абстаіць зь беларускай справай?*

Дый кажа мне, што ён з гэткімі пытаньнямі зьвярнуўся да школьнага інспэктара Зайцава, дык той стаў адмаўляць Каваленю, каб і гутаркі не ўзьнімаў аб гэтай беларускай мове, што ён як настаўнік-сэмінарысты дык мусіць імкнуцца да прагрэсу, да культуры, а не да дзічы. І дадаў, што яны з Зайцавым паспрачаліся на гэту тэму…

Аляксандар Каваленя паходзіў з Гарадзеншчыны, з Малой Бераставіцы, закончыў Сьвіслацкую настаўніцкую сэмінарыю ды зразу быў мабілізаваны й накіраваны ў школу прапаршчыкаў. Калі бальшавікі захапілі ўладу, дык яго як афіцэра прымусілі служыць у Чырвонай арміі, дзе ён быў камандзірам. На іхную часьць напаў Махно[302]. Каваленя скінуў чырвоную павязку з рукава, якая абазначала камандзіра, ды сеў на двухколку, у якой конь быў забіты, каб удаваць фурмана гэтай

---

[300] ***Пата́кваць*** — згаджацца з той асоба, зь якой вядзецца гутарка (АВ).

[301] **Аляксандар Каваленя** (1895—1937), археоляг. Скончыў Сьвіслацкую настаўніцкую сэмінарыю, БДУ. З 1932 г. навуковы супрацоўнік Інстытуту гісторыі Беларускай АН. Дасьледаваў стаянкі палеаліту. У 1927 г. вёў раскопкі ў Тураве. Зьбіраў матэрыялы для археалягічнай мапы Беларусі. Рэпрэсаваны й расстраляны.

[302] **Нестар Махно** (1888—1934), украінскі палітычны й ваенны дзеяч, анархіст, арганізатар і кіраўнік рэвалюцыйнага й вызваленчага руху на поўдні Ўкраіны. Ведамы таксама як бацька Махно.

двухколкі; яго толькі абадралі з адзежы, але пакінулі жывым. Некалькі месяцаў ён быў пры махноўцах, пасьля адстаў ад іх ды вярнуўся ў Чырвоную армію, але зрокся афіцэрскага чыну. Дзеяў пры штурме Перакопу[303]. У 1921 годзе быў дэмабілізаваны й прыехаў у Менск да польскага консула, каб эвакуявацца дамоў, але там была вялікая чарга. Ён зьвярнуўся ў Наркамат асьветы БССР, каб далі працу; адтуль яго накіравалі ў Барысаў, дзе я яго й спаткаў на вуліцы.

У Барысаве яго назначылі ў мястэчка Гайну, у нашу воласьць, за настаўніка, але хацелі, каб ён на кароткі час застаўся ў Барысаве выкладаць псыхалёгію на нашых курсах, дык вось яго й накіравалі на кватэру ў наш інтэрнат. Ён тут доўга не заставаўся, бо тут, як я ўжо заўважаў, былі надта дрэнныя харчы, а накіраваўся ў Гайну, але й там не было з чаго жыць. Тады настаўнікі харчаваліся пустапасам[304]; у каго былі бацькі блізка ці сваякі, дык тыя бяз клопату жылі, а іншыя галадалі. У Гайне Каваленя ўмовіўся з Баўтручыхай лета працаваць, каб за лета ён мог харчавацца зімой. Ён быў прымушаны дзень пры дні, як кожны селянін, ісьці на працу з плугам ці касой і харчавацца разам зь беднай сялянскай сям'ёй з аднэй міскі. Ні з адзежы, ні пасьцелі ў яго не было, апрача шыняля.

Аднэй нядзелі познай восеньню настаўнікі нашай воласьці сабралі на зборку, але чакаюць Кавалені. Уночы быў мароз, што зьверху гразь была памерзшы, але коламі гэту груду паламалі й зьмяшалі з гразьзю. Мы глядзім праз вакно — здалёку яго заўважылі: у будзёнаўцы, у доўгім шынялі й босы, шырака ступае па лядзянай калючай гразі, а ногі чырвоныя, як буракі. Уся грамада настаўнікаў пахмурнела, здалёку гледзячы на Каваленю. Пасьля дзьверы шырака адчыняюцца, і праз парог ускаквае Каваленя. Калі дзьверы зачыніў, дык скок-скок на аднэй назе ды лясь-лясь нага аб нагу:

— *А, ліха матары! Мароз за ногі кусаецца,* — прамовіў са сьмехам ды ўсіх разьвесяліў.

На зіму Баўтручыха спляла яму добрыя лапці лычаныя, але ён неяк высака абуваўся, а ў нашых вёсках нізка на галёнцы анучу намотвалі. І гэдак Каваленя ў Баўтручыхі жыў два гады й на працягу гэтых двух гадоў летам па сьвятах да мяне прыходзіў, хоць адлегласьць была 8 кілямэтраў. Але я ніколі ад яго не пачуў скаргі на лёс. У 1923/24 навучальным годзе, апрача настаўніцтва, яшчэ ён вёў бухгальтэрыю ў каапэрацыі, дык ужо мог купіць вялікі жоўты кажух і боты. Восеньню

---

303 **Перакопска-Чонгарская апэрацыя** — наступ войскаў Паўднёвага фронту РККА пад камандаваньнем М. Фрунзэ 7—17 лістапада 1920 г. супраць Рускай арміі ген. П. Врангеля. У выніку чырвоныя занялі Крым.

304 ***Пустапа́сам*** — пушчаны статак на пашу без пастуха; калі дзеці пушчаны на волю без дагляду старэйшага (АВ).

1924 году Каваленя пакінуў Гайну й падаўся ў Менск на ўнівэрсытэт, на гістарычны факультэт.

Калі я ў 1926 годзе быў у Менску на настаўніцкіх курсах, дык ён быў на III курсе й працаваў настаўнікам у 1-й менскай школе, вёў III клясу. Там мы хутка разьвіталіся, бо яму трэбала ехаць з экспэдыцыяй на ўсходнія акраіны Беларусі па дасьледаваньні курганоў. Ён быў там пільна патрэбным і як гісторык, і як рысавальнік — замалёўваць курганы ў разрэзе (меў здольнасьць да маляваньня й красьленьня). Пасьля гэтага наша спатканьне паўтарылася няскора, бо ён пасьля заканчэньня ўнівэрсытэту быў накіраваны ў Аршанскую акругу на дырэктарства сярэдняй школы.

Наступны раз я спаткаўся з Каваленем у Менску ў настаўніцкай сталоўцы ў лістападзе 1932 году. Калі ён быў у Гайне, дык ягоныя валасы былі напалову сівыя, а пры гэтым нашым спатканьні ягоная галава была ўжо белая як сьнег. Ён тады быў прыехаў настала ў Менск. Калі першыя этапы нацдэмаў выслалі, дык у Менску нацыянальныя кадры парадзелі, але пры кіраўніцтве былі нацдэмы, дык яны сьцягвалі свае рэзэрвы ў Менск. Каваленя тады працаваў у Беларускай акадэміі навук, пры катэдры гісторыі, і першы год быў загадчыкам навучальнай часткі 22-й менскай школы. Ён тады й мяне заклікаў у гэтую школу, дзе я вёў III клясу. Мы зь ім тады надта часта бачыліся, бо ён ня меў кватэры й з паўгоду спаў у настаўніцкім пакоі школы. У гутарцы зь ім я яму ніколі не ўспамінаў аб тым, што мой брат забраны энкавэдыстымі й ліквідаваны, каб гэтым часамі не пашкодзіць і яму, хоць ён напэўна гэта ведаў ад іншых асобаў.

Аднаго разу Каваленя прынёс мне на кватэру ўсе брашуры, якія ён укладаў, калі езьдзіў з экспэдыцыяй па Беларусі, уласнаручна падпісаў мне ў падарунак як аўтар і прасіў іх добра схаваць, бо тады яны былі ўжо ліквідаваны, але ў мяне на кватэры ўсе яны загінулі пажарам 23 чэрвеня 1941 году. Вясной і ён, і я пакінулі тую школу й спатыкаліся надта рэдка.

Зімой — здаецца, у 1934 годзе — мы зь ім шэрай гадзінай спаткаліся на вуліцы К. Маркса, калі вуліца была пустая. Праўда, ён перабег на мой бок перак[305] вуліцы, азваўся словамі:

— *Ну што, загінуў брат?*

Мы зь ім кароткі час на гэту тэму перагаварылі, азіраючыся наўкола, ды разышліся. Тое наша спатканьне было апошнім.

[305] ***Пе́рак*** — папярок (АВ).

## БАРЫСАЎ У 1921 ГОДЗЕ Й КАМУНІСТЫЯ

Летам 1921 года наўкольныя лясы Барысава былі перапоўнены антысавецкімі партызанамі й рознымі бандытамі. З Халопеніцкай і Красналуцкай воласьцяў усе савецкія ўрадоўцы[306] й камуністыя былі паўцякалі да Барысава. З тых воласьцяў праганялі ў Барысаў у вязьніцу сялян. Нават места Барысаў было на ваенным становішчы: уночы забаранялася выходзіць на вуліцу, у месьце па вуліцах патрулявалі камуністыя. Яны карысталіся тады вялікімі прывілеямі. Ня толькі мясцовыя беспрацоўныя, але й савецкія беспартыйныя службоўцы тады страшна галадалі, але кожны камуністы за 105 савецкіх рублёў цэлы дзень быў забясьпечаны добрай ежай і папяросамі. Тады камуністых было надта мала і ў партыю ніхто не хацеў ісьці, а доступ туды быў адчынены для ўсіх. Нам на курсы прыносілі анкеты, дзе між іншых былі гэткія пытаньні: ці належаў да якіх партыяў? Чаму да гэтага часу не ўступіў у бальшавіцкую партыю? Я памятаю, што на гэтыя пытаньні адказаў так: *"Кожная партыя накладае на чалавека тыя ці іншыя павіннасьці й абавязкі, а я люблю волю, а за гэта не ўступаў і не ўступаю ні ў якую партыю"*. Шмат нашых курсантаў тут жа ўступілі ў бальшавіцкую партыю. Кандыдацкі стаж быў два тыдні, але ў партыйную сталоўку дапускаліся й кандыдаты партыі.

Нашы курсы былі пры пэдагагічным тэхнікуме. Тэхнікум меў сваю практычную школу, у якой нашы курсанты добраахвотна давалі практычныя лекцыі. На гэтых лекцыях прысутнічалі выкладчыкі пэдагогікі й мэтодыкі ды ўсе курсанты. Даваў практычную лекцыю новы партыец Байко, бо ўжо двухтыднёвы кандыдацкі стаж прайшоў. Выкладчык мэтодыкі на курсах, Мазо (?) (ён жа выкладчык мэтодыкі ў Барысаўскім пэдагагічным тэхнікуме, па нацыянальнасьці жыд), зрабіў яму заўвагу, але Байко так гіркнуў на мэтадыста, што той прымушаны быў прапанаваць сталаму кіраўніку групы весьці далей лекцыю, а Байко — сесьці. Але той паслаў да чорта й мэтадыстага, і кіраўніка групай. Тады мэтадысты паслаў да стоража, каб той вывеў Байко з клясы. Калі прыйшоў стораж і хацеў узяць Байко за руку, каб вывесьці вон, дык той хоць быў малады хлопец (17—18 гадоў), але калі паказаў сторажу два кулакі, дык той уцёк з клясы. Мэтадысты нічога іншага ня мог прыдумаць, як загадаць вучням і курсантам разысьціся.

Як вышэй зазначалася, у той год Барысаў быў на ваенным стане, начамі па вуліцы патрулявалі камуністыя са стрэльбамі. Байко пасьля інцыдэнту на практычнай лекцыі на заняткі не хадзіў. Ён як камуністы кожную ноч патруляваў на вуліцы, а днём спаў; кожнае раньне прыносіў у інтэрнат торбу самых лепшых яблыкаў і груш, бо пад ягонай уладай

[306] ***Урадовец*** — чыноўнік.

была ня толькі вуліца, але й сады. Гэтае патруляваньне дапамагло яму адпомсьціцца свайму ворагу мэтадыстаму: ён кожнай начы стукаўся ў дзьверы да гэтага настаўніка, заходзіў на кватэру й рабіў вышук:

— *Мне даказана, што ў цябе ёсьць пісталет, і я мушу яго шукаць,* — паўтараў Байко.

## КРАСНАБОРСКАЯ ШКОЛА

Восеньню 1923 году брат стаў кіраўніком Коранскай школы, а я перавёўся ў былы маёнтак Красны Бор, за тры кілямэтры ад нашай вёскі, дзе некалі мае дзяды рабілі прыгон. Найбліжэйшыя тры вёскі ад гэтай мясьціны — кожная за два кілямэтры. Бальшыня будынкаў разбурана, а толькі дом пад школу, сьвіран і адна хатка. Тут жыве толькі тры сям'і. Каля школы велізарны парк, дзе асобныя калёны дрэваў: дубоў, кляноў, вязаў, бяроз, ляшчэўніку. За паркам — фруктовы запушчаны сад. Трохі воддаль ад саду й парку, мэтраў сто, балоціна, дзе вялізнае возера й млын. А між паркам, садам і возерам густы зарасьнік. У зарасьніку крыніца. Сярод парку на ўзгорку руіны старога дому зь лябірынтамі скляпоў.

Тут, апрача дому й некалькіх малапрыгодных портаў[307], ніякага абсталяваньня: ні вядра, ні конаўкі, ні тапара, ні пілы, ні стоража. Дзеці, калі хто захоча піць, дык бегалі ў крыніцу: там вада ніколі не замярзала. Яны клаліся на жывот і пілі гэдак, як пілі й пасучы каровы. Настаўнік пазычаў у суседа тапара й пілы ды з вучнямі рэзаў тыя бярозы, што вецер паваліў на балоце, а вучні — хлопцы былі крапячыя 13—15 гадоў. І гэдак змагаліся за сваё існаваньне, аж да новага году, калі далі стоража.

Жырґаючы[308] гэтыя падмуркі, руіны, канавы, я ўспамінаў, што гэтыя падмуркі, руіны аблітыя потам маіх прашчураў, а можа, і крывёй. Аднаго разу, калі стаяў на гэтых руінах, мне ўзышла на памяць сьмешная думка: *"Мой дзед Казімір, бондар, што рабіў тут купы[309] для гарэлкі, пэўна, ніколі ня мог дапусьціць і думкі, што ягоны ўнук будзе хоць часовым гаспадаром гэтых хоць запусьцелых абшараў, дзе ён пад страхам пеклаваў[310]".*

Зімой сьнегу ў парку навалілася ўпояс — нідзе не прайсьці. У восеньскія й зімовыя доўгія ночы парк шуміць — іграе. Пад ягоную музыку добра марыць. Мне прыйшло на думку папрабаваць свайго пяра, каб

---

[307] ***Порты*** — тут: апрані, адзежыны.

[308] ***Жы́рґаць*** — пераступаць нагамі празь нешта (АВ).

[309] ***Ку́па*** — шырокая бочка для гарэлкі (АВ).

[310] ***Пеклава́ць*** — цяжка пакутаваць (АВ).

напісаць нешта ў газэту. Я й напісаў допіс у "Савецкую Беларусь"[311] пад загалоўкам "Гутарка зь селянінам". У гэтым артыкуле настаўнік даводзіў аб патрэбе й карысьці беларускай мовы ў школах, бо на ёй лягчэй вучыцца беларускім дзецям. Селянін з гэтым згаджаўся, што й для яго самога, і для ягонага сына беларуская мова й свая родная, і лепей зразумелая, але ён хоча, каб свайго сына вывесьці "ў людзі" — аддаць у далейшую навуку. Гэты селянін кажа, што ён будзе змушаны аддаць свайго сына ў Гаенскую сямігодку, а там зь яго будуць выкалочваць гэту беларушчыну ды запіхаць ягоную галаву расейшчынай, а на гэту апэрацыю трэба будзе шмат патраціць часу... Гэта тэма на той час была актуальнай. Гэты артыкул быў надрукаваны ў "Савецкай Беларусі" накшталт фэльетону й за жывое закрануў гаенскіх русіфікатараў. На агульнай настаўніцкай зборцы яны выступілі з пратэстам. Ім там жа адказалі, што яны таксама могуць пісаць у газэту.

— *Нашага не надрукуюць,* — кажа Лях-Нявінская.

— *А калі складна напішаце, то надрукуюць,* — адказалі ім.

Яны падазравалі, што гэта была мая работа, але ня мелі сілы помсьціцца. Мажэйка зь Лях-Нявінскай сталі рыхтавацца да адыходу; яны яшчэ зь вясны сталі клапатаць аб пераводзе іх у Смалявіцкую сямігодку, ды вясной Мажэйка нават перавёўся туды, але й там беларусізацыя не давала яму спакою, дык ён быў прымушаны гэтым летам паехаць у Барысаў на беларускія настаўніцкія курсы.

Настала вясна гэтага году (а тады быў яшчэ гэткі звычай, што ў восеньскія халады зьбіралі дзяцей у школу, а вясновая цеплыня распускала дзяцей з школы.) І вось тады я апынуўся сярод гэтага ціхага, адзінокага, утульнага й цьвітучага куточка прыроды.

Нядоўга мне давялося цешыцца з усяго гэтага. Гаенская сямігодка парушыла маю ідылію: мяне як актыўнага беларускага настаўніка сталі пераводзіць у гэту самую школу. Як я ні араў лапамі, як ні ўпіраўся, каб застацца на старым месцы — некалькі разоў хадзіў у раённы школьны аддзел (тады адбывалася раянаваньне Беларусі), ды і ў Менск, і ў акрана[312], і ў прафэсійны саюз, — нічога не памагло, бо, як мне ўсюды адказвалі, гэта ўсё рабілася для карысьці беларускай справы.

Мажэйка паходзіў зь безьзямельных сялян-арандатараў. Ён яшчэ да Першай вайны выйшаў за настаўніка. Паколькі ён сябе ўважаў рускім, а бальшавізм гэдаксама — расейская ўлада, дык пасьля адыходу немцаў у 1918 годзе ўваходзіў у склад павятовай управы Барысаўскага

[311] **"Савецкая Беларусь"** — штодзённая грамадзка-палітычная газэта, заснаваная ЦК Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Літвы й Беларусі. Выходзіла па-беларуску.

[312] **Акрана** — акруговы аддзел народнай адукацыі.

павету й кіраваў школьніцтвам гэтага павету. Пасьля адыходу палякаў быў кіраўніком Гаенскай школы й інструктарам школ воласьці.

Лях-Нявінская засталася ўдавой пасьля двух мужоў, мела трое дзяцей, называла сябе расейскай арыстакраткай і была распуснай бабай: пры польскай уладзе сябравала з польскімі жандарамі, а пры савецкай — з бальшавіцкімі камісарамі. Пры савецкай уладзе прыехаў у Гайну нейкі высокі камісар рабіць у воласьці рэвізію. Прыехаў вечарам ды не хацеў пачакаць да заўтрашняга дня, а хацеў рабіць гэту рэвізію ўночы. Лях-Нявінская пазнала яго: пры польскай уладзе ён быў жандарам. Яна данесла бальшавіцкім уладам, і гэтага чалавека арыштавалі й застрэлілі. Нарэшце яна сышлася жыць з Мажэйкам, калі яны настаўнічалі ў аднэй школе. Калі Мажэйка пакідаў Гайну, дык яна сказала яму, што яна ўцяжку[313], дык ён мусіў зь ёй узяць шлюб, але калі пасьля выявілася, што яна абманіла Мажэйку, дык ён узяў зь Лях-Нявінскай разлуку ды ажаніўся з другой жанчынай. Гэта другая Мажэйкава жонка паходзіла з Заходняй Беларусі. Лях-Нявінская зрабіла данос на Мажэйку, дык яго й ягоную жонку бальшавікі выслалі ў кацэт[314]. Перад нямецкай акупацыяй Лях-Нявінская працавала настаўніцай у ваднэй менскай школе і ў 1939 годзе была ў тэй камісіі, якая сачыла, як выкладаецца беларуская мова ў менскіх школах.

## ГАЕНСКАЯ СЯМІГОДКА

Як я лапамі ні араў, а ўсё ж прымушаны быў перавесьціся ў Гаенскую сямігодку. Тут месца для працы было някепскае, бо кіруючае настаўніцтва былі беларусы й гэта школа сталася беларускай. Мне далі IV клясу; хоць яна была й вялікая, але ж адна. Я шчыра аддаўся працы, але матэрыяльныя ўмовы былі надта няўдалыя: у вёсцы Новая Гайна, дзе мясьцілася школа, не было дзе наняць кватэры, дык я прымушаны быў астацца ў селяніна разам зь сям'ёю. Праўда, сям'я была з траіх дарослых асобаў і хата чыстая, але гэткая кватэра мне не надавалася.

На трэцім месяцы маёй працы ў сямігодцы прыйшла вестка з райвыканкому, што раённы бюджэт ня зможа ўтрымаць дзьве поўныя сямігодкі й наша скарочваецца на дзьве класы — VI і VII, а два настаўнікі павінны быць пераведзены ў іншыя школы. Аднаго маладога настаўніка, Гарбацэвіча, якраз гэтым часам забралі ў армію, а загадчык школы хацеў, каб звольніць другога настаўніка, Міхалкевіча, але я стаў дамагацца, каб звольнілі мяне, ды пайшоў у райвыканком і гэтага дамогся.

---

313 ***Уцяжкý*** — цяжарная (АВ).

314 **Кацэт** (ням. *KZ*) — канцэнтрацыйны лягер.

## МІХАЛКАВІЦКАЯ ШКОЛА

Калі я працаваў у Коранскай школе, а потым і ў Краснаборскай, апрача школьнай працы, мы з братам вялі й пазашкольную: пры цэнтральнай Коранскай школе арганізавалі беларускі культурна-асьветны гурток з моладзі вёсак Коранскай парафіі (а пасьля Коранскага сельсавету, а пасьля Коранскай воласьці). Гэты гурток меў сэкцыі драматычную, харавую й сельскай гаспадаркі. Праца гуртка выяўлялася ў тым, што на сцэне давалі беларускія — і толькі беларускія! — паказы й беларускія песьні, а гэдаксама праводзіліся гутаркі зь сябрамі сельскагаспадарчай сэкцыі гуртка (і як мага болей заклікалі на гэткія зборкі іншых сялян) аб паляпшэньні сельскай гаспадаркі.

У сваёй вёсцы мы зрабілі шмат болей. Зь Міхалкавіч мы зрабілі нешта накшталт сярэднявечнага вольнага места: вярхоўнай уладай вёскі быў агульны сход вёскі; сход выбіраў управу вёскі, якая мела аддзелы: культурны, мэліярацыйны, лясны, зямельны, дарожны й пажарную ахову. Культурная камісія мусіла далажыць усіх стараньняў, каб у вёсцы адчыніць школу (а пад школу адвялі два гектары былой карчмавой зямлі), даваць сцэнічныя паказы (паказы рабілі летам у пустых таках). Праводзілі гутаркі зь дзецьмі й моладзьдзю, каб ня лазілі ў чужыя сады й гароды, каб на полі пры пашы не рабілі суседзям шкоды. Мэліярацыйны аддзел павінен быў на вясковым балоце, што належала да пашы статку, правесьці лінію, дзе пакапаць канавы, і распрацаваць парадак працы пры капаньні.

Лясны аддзел павінен быў клапаціцца, каб на вясковай зямлі не высякаўся малады лес, а таксама мусіў весьці прапаганду, каб зьбіралі дзеці й моладзь сасновыя шышкі, зь якіх дабываць насеньне, ды кожнага году засяваць лесам дзялянкі пясчанай сельскай зямлі, якой мелася каля дзьвюх валокаў. Зямельны аддзел павінен быў старацца, каб унесьці нашую вёску на чаргу землеўпарадкаваньня; ачышчаць насеньне на трыеры ад дробнага насеньня й пустазельля; пратручваць насеньне ад сажы. Дарожны аддзел мусіў сачыць, каб на вясковым полі былі непапсутыя дарогі, каб малыя палявыя дарожкі, дзе возяць гной і снапы, былі папраўленыя. Пажарная ахова павінна дбаць, каб былі правераны й папраўлены ўсе коміны, каб набыць пажарныя крукі й каб яны ляжалі на пэўным месцы. Усе гэтыя аддзелы ўзяліся за працу, і некаторыя зь іх зрабілі досыць шмат. Мэліярацыйны аддзел правёў лінію, арганізаваў работу, і была выкапана ў 1922 годзе велізарная цэнтральная канава — кілямэтар з чвэрткай даўжыні, да трох мэтраў шырыні й мэтар з чвэрткай глыбіні; другая канава, трохі меншая, — на другі год. Каля гародаў была праведзена дарожка, каб добра было гной і снапы вазіць; гэта работа дарожнага аддзелу. Лясны аддзел наняў грамадзкага вартаўніка ахоўваць грамадзкі лес і пачаў загатаўляць насеньне з сасны

для засеву пясчанага сельскага поля. Зямельны аддзел кожную вясну прывозіў трыер для ачысткі насеньня й дабываў купарвасу[315] пратручваць нязбожжавае насеньне ад сажы. Культурны аддзел дабыў зямлі пад школу, ставіў спэктаклі кожнага лета ў такох ды праводзіў гутаркі зь дзецьмі й моладзьдзю аб культурных прызвычаеньнях і каб ухіляцца ад шкодных чынаў. Але аб адчыненьні школы ў вёсцы не было надзеі, хоць там-сям і абяцалі.

У 1924 годзе праходзіла раянаваньне Беларусі. Гэты год я працаваў у Краснаборскай школе. Гаенская воласьць мне даручыла зрабіць сьпіс школаў былой Коранскай парафіі (тады — трох сельсаветаў), дадаць, якія вёскі належаць да кожнай школы й колькі ў кожнай школе вучняў. Калі я рабіў гэтыя сьпісы, дык да існых сьпісаў школ дадаў і Міхалкавіцкую школу з 48 вучнямі, якая да гэтага часу яшчэ не існавала. Старшыня Гаенскай воласьці Язэп Сапрык, былы мой настаўнік, гэтага майго сваволтства ня выправіў, але адаслаў сьпісы ў Барысаўскі павятовы аддзел народнай асьветы, які ўсё пераслаў Менскаму акруговаму аддзелу народнай асьветы. І вось гэткім неафіцыйным чынам нарадзілася на сьвет Міхалкавіцкая школа. Засталося Менскаму акруговаму аддзелу толькі прыслаць настаўніка, і акрана тады яго прышле ў Міхалкавічы, калі будзе мець.

Калі я звольніўся з Гаенскай школы, дык загадчык Лагойскага района паслаў мяне часова ў Міхалкавічы арганізаваць гэту школу, бо там не было ня толькі настаўніка, але ні будынку, ні інвэнтара, ні падручнікаў. Я там і пачаў арганізацыю школы.

Калі я толькі звольніўся з Гаенскай школы, Менскае акрана запісала мяне на Беланскýю[316] школу — за 15 кілямэтраў ад маіх Міхалкавіч. Калі я працаваў у Краснаборскай школе, а гэта было каля 3—4 кілямэтраў ад Міхалкавіч, дык захапляўся грамадзкай працай сваёй вёскі й бесьперашкодна мог удзельнічаць. З Гайны я вырываўся ня толькі за тое, што кватэры не было, але й за тое, што яна была за 7—8 кілямэтраў ад маёй вёскі. Калі я аднаго разу пайшоў у Лагойску, каб пахваліцца, што зрабіў для арганізацыі школы, аж там спатыкаю маладога хлапца, якога Менскае акрана накіравала ў Міхалкавічы. Але ён хацеў лепей застацца ў Беланах, бо яны бліжэй было ад Лагойску й Менску. Мы зь ім памяняліся школамі, і я застаўся ў Міхалкавічах.

На гэтым жа тыдні я дастаў ад загадчыка района 10 лемантароў, 30 сшыткаў, дазвол на заказ зрабіць 10 трохмесных школьных партаў, аднаго стала й аднаго табурэта. Пад клясу наняў хату, але мала адпаведную гэтаму прызначэньню (была занадта нізкая), хоць лепшай пад арэнду ніхто не здаваў. Пры гэтай школьнай маёмасьці я за два тыдні да

[315] ***Купарваса*** — купарос.

[316] ***Беланскí*** — ад назвы в. Беланы́.

Каляд 1924 году распачаў вучыць у Міхалкавіцкай школе, дзе меў тры клясы й 36 вучняў. Працу ў новай школе я распачаў з новай энергіяй і вялікай рупнасьцю. Наступныя гады было ўжо па чатыры клясы й вучняў лікам падыходзіла да паўсотні. Першы год — праўда, ужо вясной — прыяжджаў інспэктар акрана Пісарчык, які зьвярнуў увагу на тое, што школа аднакамплектавая й працавала толькі паўгоду, але мае лепшыя вынікі, чымся іншыя пры належным абсталяваньні й двух камплектах.

Другі год прыяжджаў таксама інспэктар акрана Шыёнак. Ён у мяне праседзеў цэлы дзень на ўсіх лекцыях і запісаў у школьны журнал шмат дадатных бакоў маёй працы ў школе. Да недахопаў аднёс толькі тое, што я карыстаўся на лекцыі не літаратурнай мовай, але жывой вясковай. Далейшыя гады наведваў раённыя школы толькі інспэктар райана. Гэткім інспэктарам доўга, каля чатырох гадоў, быў настаўнік Нарэйка, які паходзіў з Заходняй Беларусі, зь вёскі Лебедзева, і хоць належаў да партыі, але быў добрым беларусам. Ён часта да мяне заяжджаў.

Аднаго разу ў размове мне Нарэйка прызнаўся, што ў 1917 годзе належаў да партыі беларускіх эсэраў і быў дэлегатам Усебеларускага кангрэсу[317] ў Менску, а я яму прызнаўся, што й я быў дэлегатам на гэтым самым кангрэсе. Ён укладаў і надрукаваў краязнаўчую брашуру "Лагойскі раён", а я яму дапамагаў у гэтай рабоце. Неяк ён зьвярнуў маю ўвагу, што ў школе чатыры клясы, у кожнай па дванаццаць вучняў, усе наведваюць школу й няма другагоднікаў, а ў бальшыні іншых назіралася такая зьява, натуральны закон, што I кляса большая, а выпускная самая меншая. Калі я тут будаваў школу коштам сялян і заканчваў гэта будаўніцтва, дык Нарэйка мне праракаваў, што я калі толькі сам захачу, дык і старасьці дажыву, працуючы ў гэтай школе.

Апрача працы днём з вучнямі, я яшчэ працаваў па вечарох з моладзьдзю. У нашай вёсцы шмат было непісьменных хлопцаў, а асабліва дзяўчат, і я адчыніў вячэрнюю школу для непісьменных і малапісьменных. Яны ахвотна прыходзілі вечарам у школу, дзе вучыліся пісьменнасьці, а пасьля заняткаў я ім чытаў лёгкія апавяданьні й вершы; асабліва ім падабаліся Коласавы[318] кароткія апавяданьні. Тут жа я знаходзіў час на гутаркі аб выхаваньні й культурных паводзінах. Часамі пасьля заняткаў яны знаходзілі час пасьпяваць песьні. Я прасіў старэйшых вучняў, каб яны запісвалі ад сваіх матак беларускія народныя песьні й пераймалі ад матак мэлёдыі гэтых песень. Найлепшыя з гэтых песьняў мы ў школе пелі на лекцыі сьпеваў, іх перахоплівалі й дарослыя дзяўчаты. Калі доля выпхнула мяне зь Міхалкавіч у сьвет і часамі летам я прыяжджаў у родную вёску ды праходзіў па полі, дык

[317] **Першы Ўсебеларускі кангрэс** праводзіўся ад 5 сьнежня 1917 г. у Менску.

[318] Маецца на ўвазе Якуб Колас.

дарослыя дзеўкі, былыя мае вучаніцы, жнучы, сьпявалі тыя народныя беларускія песьні, якія мы сьпявалі некалі ў школе.

Часамі і ўвосень, а асабліва вясной, мы з вучнямі пасьля заняткаў выходзілі на поле, у гай, спыняліся на месцы, зьвязаным зь нейкай легендай, і вялі гутаркі аб гэтай ды іншых легендах, а гэдаксама выходзілі на курганы й на месцы старасьвецкіх руінаў ці магільнікаў: Царковішча, Капліца, Сукеньня ды інш.

Каб вывесьці сваю вёску на сьвятлейшы шлях жыцьця, дык я ўважаў, што дзеля гэтага патрэбна тут перш-наперш прынамсі хоць школу адчыніць. Гэтага я дасягнуў, хоць не зусім сумленным чынам. Але ж у сялянскай хаце ніколі ня можна разгарнуць школьнай працы па-сапраўднаму, а калі ў вёсцы й гэткай хаты ніхто ня дасьць у арэнду пад школу, дык і школа тут зачыніцца ды будзе перакінена ў тую вёску, дзе будзе будынак пад школу. Дык вось я задаўся, каб пабудаваць у сваіх Міхалкавічах будынак для школы.

У вёсцы Пуцілава гаспадар Грабоўскі пабудаваў у сваім фальварку дамок для вясковай школы, але ў тэй вёсцы школу зьмясьцілі ў вялікім і прыгожым будынку былога фальваркоўца Плонскага, а ў школьны будынак Грабоўскага ўлез на жыцьцё былы арандатар Грабоўскага — Камейша. Будынак малы, ды яго трэба ґвалтам ці праз суд браць. Нагледзеў я й другі будынак пад школу — вялізны старасьвецкі сьвіран у Красным Бары. На адным зь вясковых сходаў я давёў да ведама сялян аб сваіх плянах наконт пабудовы школы ў вёсцы ды выказаў свае пагляды й на дамок Грабоўскага у Пуцілаве, і на краснаборскі сьвіран. Гэта сходка адбывалася ў нядзелю, і групка з чатырох п’яных сялян выступіла супроць пабудовы школы, што будова школы будзе новым прыгонам для вёскі. Яны даводзілі, што нашы дзяды й бацькі жылі бяз школы, дык і яны, і іхныя дзеці могуць абысьціся бяз школы, а калі хто хоча аддаць дзяцей да школы, дык зможа пасланць за тры кілямэтры ў Корань. Я ў сваім слове пашкадаваў, што позна аб гэтым ад іх даведаўся, і дадаў, што гэтымі сваімі плянамі шмат турботаў на сябе нацягваў, а калі ў Міхалкавічах ня будзе школы, я ўпэўніў іх, што бяз працы не застануся. Гэта зборка скончылася безь ніякіх вынікаў.

Пасьля гэтага прайшло каля двух тыдняў, аж прыходзіць да мяне дэлегацыя зь некалькіх асобаў перапрашаць мяне, але ня з тых, хто казаў, што ім школа ня трэба, а з тых, што не былі на сходзе. Я зь імі пагаварыў і давёў, што мне тут шмат цяжэй працаваць, чымся ў іншай школе, але я гэта раблю толькі дзеля таго, што думаў гэтай надмернай працай зрабіць дабро для жыхароў тэй вёскі, дзе радзіўся, а калі яны гэтай маёй працы не патрабуюць, дык я пашукаю сабе іншага месца.

Пасьля гэтага праз пэўны час прыйшла да мяне дэлегацыя й з тых асобаў, якія казалі, што ім школа ня трэба, перапрашалі мяне й складалі віну на тое, што яны былі п’яныя й ім праціўна было тое, што прыйшоў на нашу сходку старшыня сельсавету. Я ім сказаў, што выказаў свае па-

гляды на школу, а яны свае й што ніхто ні на кога не павінен гневацца за выказваньне сваіх думак. Па нейкім часе надвосень яны склікаюць сходку й заклікаюць мяне на яе, тут яны выказваюцца: трэба забыцца, што гаварылася на тэй бурнай сходцы, — і просяць мяне паклапаціцца, каб выстарацца будыніны пад школу, а яны будуць выконваць усе тыя работы каля пабудовы школы, што змогуць.

Я зьвярнуўся да інспэктара раяна Нарэйкі. Празь нейкі час нам адпусьцілі краснаборскі сьвіран даўжынёй 21 мэтар, шырыні 11. У нас было сваіх грошай, у школьным фондзе, 400 рублёў, а да гэтага райвыканком адпусьціў 2000 рублёў. Зімой я намаляваў падрабязны плян школы, а вясной наняў майстру, пад кіраўніцтвам якога разрылі гэты сьвіран і перавезьлі вясной, у пару першай сяўбы, за кароткі час, і ні ад кога ня чуць было наракакньняў. За лета былі пабудованы сьцены й накрыта страха, а за другое лета — зроблена сталярка й печы ў клясных пакоях, і на пятым годзе існаваньня Міхалкавіцкая школа мела свой уласны будынак. Кіраваць будаваньнем школы, закупляць матэрыялы, умаўляцца з майстрамі было шмат цяжэй і дакучней, чымся самая праца ў школе.

Калі ў Міхалкавічах адчынілася школа, дык уся праца культурна-асьветнага аддзелу перайшла на настаўніка ў школы. Калі мэліярацыйны аддзел пракапаў на балоце вышэйуспомненыя канавы, былы старшыня Гаенскай воласьці Язэп Сапрык дзесь у Менску (здаецца, на зьезьдзе саветаў) расхваліў гэту вялікую нашу работу й выклапатаў 1000 пудоў скідкі з збожжавага падатку, але калі ў 1924 годзе расейская валюта была стабілізаваная, дык урад мусіў кошт гэтага збожжа вярнуць залатой валютай — 400 залатых рублёў. Агульны сход вёскі пастанавіў гэтыя грошы павярнуць на пабудову школы, бо калі мы даведаліся аб гэтай узнагародзе, было ўзьнята пытаньне пабудовы школы.

Калі закончылася раянаваньне Беларусі й Лагойскі райвыканком даведаўся аб гэтай нашай вялізнай мэліярацыйнай рабоце, дык запратэставаў і ўзьняў пытаньне аб праверцы. Для гэтага была складзена камісія зь менскага акруговага агранома, ад Лагойскага райвыканкому Церабіш і ад сялянаў я. Аграном пасьведчыў, што вада добра пайшла й перасушкі няма, я, вядома, зь ім быў згодны, і Церабіш адзін супроць двух нічога ня мог супярэчыць. Але Лагойскі райвыканком забараніў сялянам далей праводзіць мэліярацыйную работу без інжынэра, без мэліяратара; прапанавалі арганізаваць мэліярацыйнае таварыства; вядома, і гэта было зроблена. Сталі прыяжджаць мэліяратары, тэхнікі, студэнты-практыканты. Іх трэба было вадзіць па балоце, утрымліваць, і так цягнулася аж да пачатку калектывізацыі. А горш за ўсіх даводзілася мне як старшыні мэліярацыйнага таварыства.

Праца ляснога аддзелу гэдаксама перайшла ў школу. У вясновыя доўгія дні пасьля заняткаў у школе я з вучнямі хадзіў у лес абіраць

сасновыя шышкі, а ў паўсьвяткі школьнікі й моладзь хадзілі садзіць гэта насеньне. Праца зямельнага аддзелу гэдаксама сваёй чаргой перайшла на мяне.

Яшчэ я запраектаваў арганізаваць машыннае таварыства. Сабралася ахвотнікаў каля 15 гаспадароў, злажылі патрэбныя складкі, выбралі кіраўніцтва. Тут настаўнік, таксама старшыня й разам з гэтым тэхнічны сакратар і рахункавод, бо справа камэрцыйная. Купілі малатарню й арфу, драпак і два плужкі бульбу абганяць. Кожны сябра таварыства карыстаўся дарма, а пабочным асобам малацілі за плату. Калі вялася гутарка аб расьсяленьні сялян на пасёлкі, дык некаторыя сяляне ўпэўнівалі, што на полі гародніна не парасьце, дык я сказаў сваім дамашнім, каб капусту пасадзіць на полі — за пяцёра гоняў ад дому. А на другі год пасадзілі капусту ня толькі на полі, але на тэй зямлі, дзе ўскапалі лог, на якім рос сівец і калючы мох (зязюлін лён). І там парасла добрая! Кожан год я сеяў насеньне яблыкаў і груш, а пасьля прышчэпліваў у прысутнасьці школьнікаў, каб іх прывучыць да гэтага занятку.

## СУД

На другім годзе працы ў Міхалкавіцкай школе мяне спаткала вялікая непрыемнасьць — прышлося сесьці на лаву падсудных. Як вышэй успаміналася, мы з братам пры Коранскай цэнтральнай школе былі арганізавалі Беларускі культурна-асьветны гурток, дзе ўся праца вялася толькі на беларускай мове. Гэты гурток праіснаваў два гады. Пры раянаваньні Беларусі ў Лагойскім райвыканкоме быў пастаўлены загадчыкам культурных справаў чуваш з Паволжа; ягонага прозьвішча ня ведаю, бо ён ужываў жончына прозьвішча — Луцэвіч. Праз паўгоду яго зьнялі з гэтай пасады як неадпаведнага прызначэньню ды паслалі ў наш Корань *избачом* — загадчыкам хаты-чытальні. Ён павёў усю работу на расейскай мове, сабраў усіх настаўнікаў і загадаў напісаць па артыкуле ў насьценную газэту ды прапанаваў гэтыя артыкулы пісаць як мага чыста й чытэльна, каб гэту палоску можна было наклейваць на газэту. Мой брат байкатаваў ягоную прапанову, а я напісаў маленькі артыкул, дзе напомніў, што ўвесь час (з 1920 году) у Коранскім сельсавеце паслугоўваліся беларускай мовай, а цяпер, калі па ўсёй Беларусі стала праводзіцца беларусізацыя, у нас стала праводзіцца русіфікацыя. А загаловак гэтаму артыкулу — “Беларусізацыя”, напісаў навыварат нагамі ўгору. Ён гэты мой артыкул і наклеіў на насьценную газэту. Але яго хутка звольнілі з гэтай работы.

Аднаго разу быў сход па ападаткаваньні сялян сельскагаспадарчым падаткам. Сяляне абгаварылі інструкцыю, што калі мельнік мае каня, некалькі кароў і некалькі сьвіней, дык яму гэтая жывёла ня ўлічваецца, а калі селянін мае тры гектары зямлі, каня, каровы й сьвіньні, дык

яму ўлічваецца ўся гэта жывёла. Ну я і ўмяшаўся ў гэтыя параўнаньні. Пасьля пісалі падатак нашай гаспадаркі: усю сям'ю і ўвесь статак нашай гаспадаркі запісваюць, а мяне едаком у сям'ю не запісваюць. Пасьля я прапанаваў так: калі не запісваеце мяне ў едакі сям'і, дык і не пішыце майго статку — каровы й бычка. Мы з старшынёй сельсавету тут паспрачаліся. На трэці дзень пасьля гэтага я падаў заяву ў сельсавет, што маю дзьве штукі жывёлы й прашу іх улічыць у падатак, калі гэта будзе адпавядаць закону аб падатку. Ускорасьці пасьля гэтага ў Корані кірмаш сьвятога Антоняга. Пасьля набажэнства ў залі хаты-чытальні камуністычная ячэйка з Слабады робіць тут адчынены сход. На парадку дня стаіць пытаньне: даклад старшыні Коранскага сельсавету таварыша Саўрыцкага аб ападаткаваньні сялян. Саўрыцкі ў сваім дакладзе й кажа, што настаўнік Гладкі на сходзе пры ўліку падаткаў крытыкаваў падатковую інструкцыю, выданую партыяй і ўрадам, скрыў ад падатку дзьве штукі статку й стараўся сарваць сход па абкладаньні падаткам. Тут партыйцы ў сваіх выступленьнях на розныя лады ганьбілі настаўніка Гладкага. Сход ком'ячэйкі пастанавіў прапанаваць Саўрыцкаму накіраваць справу Гладкага ў народны суд. Я на тым сходзе прасіў слова, дык мне адмовілі. Блізка празь месяц пасьля гэтага прыяжджае міліцыянэр пісаць пратакол. Згодна артыкулу крымінальнага кодэксу пагра… […][319].

Восеньню — здаецца, у лістападзе — мяне выклікаюць на суд. Маім абаронцам выступіў Юзік Шкялёнак. Суд даў Саўрыцкаму некалькі пытаньняў, на якія той адказаў не на карысьць для сябе, а потым гэдаксама некалькі пытаньняў даў яму мой абаронца. Саўрыцкі напіраў, што быццам я крытыкаваў падатковую інструкцыю, выданую партыяй і ўрадам, і што я ўкрыў ад падатку статак. Шкялёнак пытае:

— *Ці здарылася табе чуць іншых людзей, што крытыкавалі ўрадавыя інструкцыі? Што ты робіш, калі селянін кажа, што ў яго тры штукі статку, а ты ведаеш, што той мае чатыры штукі?*

Саўрыцкі адказвае:

— *Чуў і ад іншых людзей, што наракаюць на ўрадавыя інструкцыі. А чаму ж ты ўсіх не прыцягнуў да адказнасьці, але толькі аднаго Гладкага?*

Саўрыцкі адказаў, што бываюць здарэньні, што селянін зьмяншае лік зямлі ці жывёлы пры ўліку падатку, але ён запісвае столькі, колькі сапраўды мае гэты селянін статку ці зямлі.

— *А чаму ж ты гэдак не зрабіў з Гладкім? З гэтага ўсяго відаць, што ты быў больш патрабавальным да Гладкага, чымся да іншых грамадзян.*

Суд застаўся бяз вынікаў. А старшыня раёну Саўрыцкаму сказаў:

---

[319] Тут і далей шматкроп'е ў квадратных дужках […] абазначае пропуск ці абрыў у машынапісе.

— *Я люблю такіх работнікаў, якія ліквідуюць іншыя канфлікты, а калі ты штучныя ўтвараеш, дык мне гэткіх работнікаў, як ты, ня трэба.*

Пасьля гэтага Саўрыцкі надоўга застаўся бяз працы, калі нарэшце ягоныя сябры нашлі яму работу ў Смалявіцкім раёне.

Мой допіс у насьценную газэту пакрыўдзіў *избача* Луцэвіча. Можа гэта было прычынай звальненьня яго з працы. Засталіся тут ягоныя сябры-партыйцы, якія павінны былі мне адпомсьціцца. Саўрыцкі тады меўся выбівацца ў людзі й быў падаў заяву ў камуністычную партыю. Яму трэбала мець партыйцаў-“паручыцеляў”. Вось гэтыя сябры Луцэвіча й патрабавалі ад Саўрыцкага, каб адпомсьціў мне, а ён ў імя сваёй вялікай партыйнай славы стаўся выканаўцам бруднай справы.

Я быў вядомы ў раённага начальства ня толькі як шчыры настаўнік і будаўнік школы, але й як піянэр сельскай гаспадаркі: садзячы капусту на палявой зямлі, зусім непрыдатнай (ускопаны сіўцаваты й куп’істы лог), я паказаў сялянам, што пры пэўным даглядзе можна й самую благую зямлю зрабіць добрай гароднай зямлёй. У восеньскія Дні ўраджаю на выстаўцы гародніцтва й садоўніцтва я дастаў атэстат І ступені. Завёў у сваёй гаспадарцы пасеў сырадэлі — і на насеньне, і па збожжы на восеньскі скос; увёў пасеў канюшыны й давёў, што яна блізка ўтрая даражэй аплачвае зямлю, чымся жыта. А арганізацыя машыннага таварыства “Еднасьць” і мэліярацыйнага таварыства “Праца” паказалі, што я хоць ня маю аратарскай здольнасьці, але ўмею арганізаваць сялян. Вось за гэта ўсё Юзік Шкялёнак вызваўся сам да мяне ў абаронцы на судзе.

Юзік Шкялёнак паходзіў зь мястэчка Лагойску. Вайсковую службу адбываў матросам. Вярнуўшыся з войска, арганізаваў у палацы графа Тышкевіча[320] народны дом, а гэдаксама аматарскую трупу артыстаў. У гады нацдэмаўшчыны стварыў сельскагаспадарчую каапэрацыю й на працягу некалькіх гадоў быў яе старшынёй. Пры гэтай каапэрацыі зладзіў цаґельню й завод для вырабу кругоў да студні й дахоўкі. Шкялёнак юрыдычнай адукацыі ня меў, але быў добрым прамоўцам, завочна вучыў права і ўступіў у калегію абаронцаў. Пры набліжэньні суцэльнай калектывізацыі ягоная слава стала шпарка каціцца на дол. Хоць ні растратаў, ні недахопаў у ягонай каапэрацыі не знайшлі, але як ідэоляга прышчэпаўшчыны зволнілі з працы. Перш яго накіравалі ў Менск дырэктарам заводу фруктовых він, а празь месяц — загадчыкам менскага астрогу, але разам з гэтым і самога здалі пад суд. Неўзабаве выкінулі з партыі й судзілі. Присудзілі два гады астрогу. Адбыўшы гэта

---

[320] **Лагойскі палац Тышкевічаў** — палацава-паркавы комплекс графаў Тышкевічаў у Лагойску, збудаваны ў 1819 г. Большая частка палаца была зруйнаваная напрыканцы Другой сусьветнай вайны.

пакараньне, ён працаваў сьлесарам у Менску на “Эльводзе”[321], але стаў часта выпіваць і хутка памёр.

У канцы 1928 году зьнялі інспэктара райана Нарэйку. Яго перакінулі ў […] а адтуль прыехаў інспэктар Крайнік. Ён таксама часамі да мяне заходзіў, пры кампаніі паказваўся весялейшым і дружнейшым, чымся былы Нарэйка.

Прыходзіць вясна 1929 году. Мне, як і кожнаму настаўніку, клопат, каб як мага лепшы ўдаўся выпуск IV клясы. Бачу, намесьнік інспэктара, настаўнік Лютарэвіч, паехаў у Корань у цэнтральную школу нашага сельсавету на экзамэны. Кіраўніком Коранскай школы тады быў камсамолец Адам Рудакоўскі (майго брата ў 1928 годзе зьмянілі, бо гэдак райком партыі захацеў).

На Коранскую школу з самага пачатку палякі зь Менску націскалі, каб перарабіць яе ў польскую, але мы гэтыя атакі адбівалі. Туды пасьля вышэйуспомненага чуваша Луцэвіча, прыслалі на кіраўніка хатычытальні паляка, агента НКВД Матусевіча. Ён прывёз польскіх брашур і кніжак ды спрабаваў весьці работу на польскай мове, але тут моладзь была нацыянальна сьвядомая, стала яго высьмейваць, дык ён у хуткім часе перайшоў на беларускую мову. У майго брата былі зь ім нацягненыя стасункі. Нарэшце, не зьвяртаючыся ні да прафсаюзу, ні да насельніцтва, майго брата райвыканком адміністрацыйным парадкам перакінуў на кіраўніка ў Швабскую цэнтральную школу, а ў Корань — Рудакоўскага (каб разам з Матусевічам маглі арганізаваць камсамол і піянэраў), а настаўніцу Ядзю Варанковіч — другой настаўніцай вучыць польскую мову ў маладзейшых клясах, бо ўжо, як відаць, з таго часу пачыналі наступ на беларусаў. Калі экзамэнатар стаў праводзіць экзамэны ў Коранскай школе, ніводзін вучань лёгкай пісьмовай задачкі не разьвязаў, бо Рудакоўскі цэлы год палітграматай ім галовы забіваў, а на навуку глядзеў абыякава. Камсамолец Рудакоўскі палаяўся з камсамольцам Лютарэвічам, але Лютарэвіч напісаў пратакол экзамэну, што ніводзін вучань ня здаў. Рудакоўскі гэтага пратаколу не падпісаў. Лютарэвіч нанач прыйшоў да мяне, на другі дзень сталі экзамэнаваць маіх вучняў. Па нейкім часе зьяўляюцца да нас Рудакоўскі й Матусевіч ды кажуць, што яны зьяўляюцца прадстаўнікамі ад камсамольскай ячэйкі. Я дазволіў прысутнічаць. У мяне экзамэны прайшлі ціха, спакойна, было дзевяць вучняў, і ўсе яны здалі экзамэны. Гэты год на вясновай канфэрэнцыі не ўспаміналі ні маёй школы, дзе добра прайшлі экзамэны, ні Рудакоўскага, дзе ніхто з вучняў экзамэнаў не здалі. Але новы інспэктар Крайнік так уладзіў справу, што вучням Коранскай

321 **“Эльвод”** — першая менская электрастанцыя, стаяла на ўзьбярэжжы Сьвіслачы, насупраць дзіцячага парку. Ініцыяваў будаўніцтва Кароль Гутэн-Чапскі. Назву “Эльвод” займела ў 1899 г. ад скароту *“электро-водопроводная станция”*.

школы выдалі пасьведчаньні аб заканчэньні школы. Гэтаму прычына была ня толькі тая, што Рудакоўскі й інспэктар Крайнік былі абодва Слуцкага павету, але й тая, што Рудакоўскі быў на добрым рахунку ў НКВД.

Наступным летам аднаго разу забягае да мяне заплаканая кабеціна з нашай вёскі Магдалена Тарлецкая, у якой памерла дачка, ужо сталая дзеўка, і кажа мне:

— *Памерла мая Анэта. Хацела б па-людзку пахаваць, бегала да брата Антося, каб пазычыў грошай, дык ня даў. Можа б ты, Юзечка, пазычыў, а я табе аддам ды яшчэ квоты пазжынаю ці што іншае памагу рабіць.*

— *Колькі б ты хацела?*

— *Хаця 20 рубельчыкаў.*

Я даў ёй 20 рублёў і сказаў:

— *Як будзеш мець грошы, дык зьвернеш, а мне ніякай дапамогі тваёй ня трэба.*

Ейны муж паехаў у мястэчка Хатавічы[322], прывёз ксяндза, які й пахаваў іхную дачку за гэтыя грошы. Мусіць, праз паўгоду Магдалена аддала грошы ды аднаго разу на вуліцы перад бабамі мяне пахваліла:

— *На настаўнікаў кажуць, што яны такія-гэткія, але калі я была ў бядзе, дык родны брат не памог, а калі я напомніла настаўніку, дык ён толькі папытаўся, колькі трэба ды ад першага разу пазычыў 20 рублёў, нават не прызволіўся[323], каб я яму што памагла ў рабоце.*

Апрача вышэйпералічаных грамадзкіх работ у нашай вёсцы я яшчэ дамагаўся ад уладаў аб хутчэйшым землеўпарадкаваньні ў нашых Міхалкавічах. Па пляне воласьці землеўпарадкаваньне нашай вёскі мелася б адбывацца ў 1925—1926 гадох, а пасьля раянаваньня мне абяцалі, што гэта землеўпарадкаваньне мае быць у 1928—1929 гадох. Для гэтай работы я быў склаў пляны-праекты: на месцы старой вёскі пакінуць 25—30 сялібаў, дзе будзе школа, розныя крамы, сялібы рамесьнікаў, майстэрні, сялібы ўрадоўцаў ды інш. Стромкія ўзгоркі, сыпкія пяскі, якія амаль не паддаюцца культываваньню, выдзеліць у лясны фонд і аблясіць (ці за кошт грамадзтва, ці той гаспадар, сярод чыей зямлі пападаюцца гэтыя лапіны). Зямлю разьбіваць на прадаўгаватыя чатырохкутнікі. Адзін канец гэтых сялібаў будзе на лепшай зямлі, а другі, горшы, канцом будзе ўпірацца да лесу й балота, дзе цяпер паша, якая й надалей пакуль што застанецца пад пашай. Па лепшай зямлі гэтых чатырохкутнікаў будзе адзначана лінія, дзе маюць закладацца сялібы (сады й гароды). Такім чынам, сяліба будзе проціў сялібы, на нейкіх 200—300 мэтраў адна ад аднэй. Гэткі парадак будзе спрыяць таньней-

---

322 **Мястэчка Хата́вічы** — цяпер вёска Акцябр.

323 ***Прызволіцца*** — даць згоду прыняць ласку (АВ).

шай электрыфікацыі, а з часам і абвадненьня. Гэткі парадак запраектаваны на Вялікім полі, у Рымаўшчыне й на Лукашанскім полі. На Малым полі, дзе мясцовасьць узгоркавая, на Вашкевічавым раўку, будуць каля чатырох сяліб. Гэты мой праект падабаўся й сялянству нашай вёскі.

Вядома, мы не дачакаліся землеўпарадкаваньня й да 1939 году. Аднаго разу раённы аграном заклікае мяне як старшыню машыннага таварыства "Еднасьць", прапануе пабудаваць вялікую будыніну для таварыства на склад машын і абяцае даць крэдыт на гэта будаўніцтва, прапануе таварыствам залажыць грамадзкі сад на 3—5 гектарах і зноў жа абяцае крэдыт ды сваю дапамогу выбраць пляц зямлі. Я, вядома, адмовіўся ад гэтых ягоных праектаў, бо праекты былі не аграномавы, а райкому партыі. Відаць, мяне хацелі выкарыстаць як піянэра-закладальніка калектывізацыі.

## НАСТАЎНІЦКІЯ КАНФЭРЭНЦЫІ

Настаўніцкія канфэрэнцыі праводзіліся тры разы на год. У канцы жніўня перад пачаткам заняткаў, у часе зімовых вакацыяў і ў канцы чэрвеня як падагульненьне гадавой працы настаўнікаў. На гэтыя канфэрэнцыі настаўнікі зьяжджаліся з усяго раёну на тры-чатыры дні, а кватаравалі ў раённай сямігадовай школе на саломе. Актыўнымі прамоўцамі як на пасяджэньнях канфэрэнцыі, гэдак і лежачы на саломе на адпачынку — аказаліся стары настаўнік, народнік Язэп Сапрык і маладзейшы — Янка Чарняўскі, родам зь Вялейшчыны. Яны абодва былі антыбальшавікі ды надта зручна выкручваліся ў сваіх прамовах, каб падкусіць бальшавіцкі парадак і каб няможна было да іх прычапіцца. Восеньню 1929 году гэту завядзёнку парушылі: нам саломы не прывезьлі, але дажджлівым вечарам камсамольцы разьвялі нас па хатах, як няпрошаных гасьцей. Мяне з другім настаўнікам прывялі да нейкага жыда ў хату, дзе некалі была карчма. Мы там цэлы вечар сядзелі за сталом на вузенькіх цьвёрдых канапках і спаць леглі, як нейкая поскудзь, тры ночы заміналі людзям. Мы тады думалі, што бальшавікі ізалявалі настаўнікаў адзін ад аднаго, каб тыя адзін аднаму не расказвалі настроі сялян на калектывізацыю, бо тады яна пачыналася.

На канфэрэнцыі інспэктар меў нечарговую прамову для настаўнікаў, дзе абвінавачваў тых у няшчырасьці да мерапрыемстваў камуністычнай партыі, а часамі й варожасьці, і тут жа ўспомніў і лістападаўшчыну[324]. Сапрык выступіў у вабарону настаўнікаў, сказаўшы, што

[324] Маецца на ўвазе **працэс Юркі Лістапада** — гучная справа 1926 г. над групай навучэнцаў агульнаадукацыйных настаўніцкіх курсаў у Слуцку, якія стварылі нелегальную антысавецкую арганізацыю, якой кіраваў выкладчык гэтых курсаў Юрка Лістапад (удзельнік Слуцкага збройнага чыну 1920 г.).

лістападаўшчына ўзьнікла на Случчыне, дзе зямля чорная й растуць таўстыя ігрушы, а ў нас зямля — каменьне й пясок, а ігрушы, калі дзе й ёсьць, дык дробныя, за гэта нас няможна раўняць з случчакамі. Я пасьля пачуў, што ў тыя часы на Мазыршчыне быў працэс настаўнікаў і вучняў, дык як рэакцыя на тыя падзеі й да нас стасаваліся рэпрэсіі й падазронасьць. Гэта канфэрэнцыя прайшла напружана, як і наступная, зімовая; хоць, праўда, спалі ўжо на саломе.

Гэтага году пад вясну да мяне ў вёску прыяжджаў інспэктар: праводзіў сходку аб самаабкладаньні й калектывізацыі. Пасля яго дакладу пачалі выступаць сяляне, яны ўжо добра ведалі парадак сходаў, таму пачалі выказваць свае заслугі, напамінаючы, што ўсе яны бедныя, што ніводнага *кулака* (заможнейшага селяніна) у нашай вёсцы няма, што яны й школу пабудавалі, што, як медзьвядзі, і канавы па сваім балоце пакапалі, а за гэта савецкая ўлада добрую прэмію дала, якую яны адпусьцілі на пабудову школы. Не забыліся яны ўспомніць і мае заслугі й як настаўніка, і як будаўніка школы, і як арганізатара мэліярацыі ды машыннага таварыства. Інспэктар, выслухаўшы выказваньні сялян, у сваім заключным слове сказаў вельмі трапна па майму адрасу:

— *Вы й школу пабудавалі, вы й балота абсушылі, але вы ня ведаеце або ня хочаце ведаць, што ў вашым грамадзкім жыцьці балота, гніль. Тут патрэбна правесьці мэліярацыю, каб выдаліць гніль з вашага асяродзьдзя. І савецкая ўлада гэта зробіць.*

У той час кіраўнікі савецкай улады й партыі дзялілі настаўнікаў на тры групы: актывістыя, што актыўна ўдзельнічалі ў палітычна-грамадзкай працы; пасіўныя, якія слаба працавалі і ў школе, і ў грамадзкім жыцьці ды часта мянялі месца працы. Да гэтай групы залічалі й тых, хто хоць і добра працаваў у школе, але відаць было, што яны сябе як бы вышэй ставілі за кіраўнікоў савецкай улады. Трэцяя група — гэта тыя, што добра працавалі ў школе, тэхнічна выконвалі й грамадзкую работу, калі ім загадаюць, але сваіх паглядаў не выказвалі і ў палітыку ня ўмешваліся; іх камуністыя называлі *балота, гніль*. Да гэтай катэгорыі залічалі й мяне.

Надышла веснавая канфэрэнцыя гэтага [1929 ці 1930] году, на якой інспэктар рабіў даклад, абгаворваючы ўсе школы, усіх настаўнікаў. Аб школьнай працы з вучнямі ён мяне ня ўспомніў, але спыніўся на маёй грамадзкай дзейнасьці:

— *Савецкая ўлада доўгія гады змагаецца з рэлігійным дурманам і на гэта затрачвае сродкі. Настаўнікі мусяць быць у авангардзе гэтай барацьбы. Але ёсьць і такія настаўнікі, што ня толькі ня*

---

У працэс быў уцягнуты Якуб Колас, якога падазравалі ў падтрымцы групы. Як сьведкі на працэсе выступалі Максім Гарэцкі, Павел Жаўрыд і іншыя, што спрабавалі змякчыць прысуд Ю. Лістападу.

*ўдзельнічаюць у гэтым змаганьні, але стаяць па тым баку нашых барыкад і фінансава падтрымліваюць рэлігійны дурман…*

І шмат часу ўдзяліў маёй асобе. Мне тады думалася: *"Няхай бы тая Магдалена лепей мне доўгу гэтага не вярнула, чымся яна мяне мела хваліць перад бабамі на вуліцы"*.

На абедзе зь мяне настаўнікі жартуюць, пытаючы:

— *Ці не капліцу ты там у сваіх Міхалкавічах будуеш?*

Настала лета. Я думаў, каб за гэты час падшукаць сабе месца ды ўцякаць. Але лета так хутка праляцела, што я не апомніўся, як восень насьпела. Перш я марыў, каб школу давесьці да парадку: пабудаваць пуню на дровы, абгарадзіць школу й пасадзіць сад, а шчэпы ўжо былі загатаваныя. Але *"сьвіньні не да парасят, калі самую смаляць"*. І мне ўжо не да саду, калі трэба ўцякаць з школы, а тут няма куды.

Паклікалі на восеньскую канфэрэнцыю, дзе абыšліся з настаўнікамі, як з рэкрутамі ў кашарах. Пасьля дзьвюх дзён канфэрэнцыі на трэці загадалі рана ўстаць і быць адзетымі да ўсходу сонца. Усходам сонца павялі за 5 кілямэтраў у калгас Аўгустова на суботнік, там далі пасьнедаць ды пагналі на работу — снапы вазіць ды складаць на полі ў торпы. Вядома, кожны на канфэрэнцыю надзяваў самае лепшае, а тут, уціскаючы вазы, лазячы па вазах, каля калёс і ўпражы, дык гэтыя касьцюмы ня толькі, што памяліся, але пабрудзіліся маззю ад колаў каля калёс, і поўна набралася асьця. Мой новы сіні шарсьцяны касьцюм стаўся ад асьця жоўты. Працавалі да цямна, а тады пакуль павячэралі, дык стала хмарыцца й грымець. Прыйшлося ісьці ў пуню й на канюшыне начаваць.

На другі дзень трэба да 8-й гадзіны быць на канфэрэнцыі, а дождж ліе як з лубу. Пайшлі дажджом. Пакуль зайшлі 5 кілямэтраў, дык прамоклі да касьцей. У гэткім стане мусілі садзіцца на канфэрэнцыі. А хто спазьніўся на канфэрэнцыю, дык вялікую меў вымову. Восеньню ў гэты самы калгас прыганялі зь Менску студэнтаў бульбу выбіраць. Ім давялося яшчэ горай: яны мелі па адным касьцюме й па адных чаравіках. Восень была мокрая, дажджлівая; глеістая глеба развадзянела так, што цяжка было ногі выцягваць з гразі. Яны спалі на саломе ў пуні, а цэлы дзень трэбала працаваць на дажджы.

Зімовая канфэрэнцыя [1930 году] адбывалася таксама ў вельмі напятым стане. Урадоўцы-партыйцы прамаўлялі да настаўніцтва з пагрозамі, як фэльдфэбэль да рэкрутаў. Вечарам на саломе настаўніцы-дзяўчаты запелі "Люблю наш край, старонку гэту"[325]… Іх хтосьці спыніў. На другі дзень на канфэрэнцыі ім была блізка паўгадзінная вымова, дзе даводзілася, што гэта песьня шкодная, шавіністычная й фашыстоўская…

[325] *"**Люблю наш край, старонку гэту**"* — песьня на словы Канстанцыі Буйло.

У нядзелю ўвечары пасьля дзённай працы на канфэрэнцыі аб'явілі, што на дварэ чакаюць фурманкі й настаўнікі мусяць разьехацца па вёсках, па калгасах наўкола Лагойску да сямі кілямэтраў. Мы выйшлі на пляц, аж там стаіць больш дзясятка вазюроў[326] зь вялікімі санямі. Райком сагнаў гэтых вазюроў на плошчу, але групы настаўнікаў мусілі дамаўляцца з гэтымі вазюрамі й плаціць ім сваімі грашыма. Я быў паехаў у калгас Аўгустова, і там змог ухіліцца, каб не выступаць. Іншыя, што паехалі ў вёскі, мусілі там выступаць з агітацыяй, каб сяляне ўступалі ў калгас, а сяляне пачыналі іх лаяць і нават дражніць. Гэткі выпадак быў зь Ядзяй Варанковіч у вёсцы Заазер'е, пасьля чаго яна кінулася ў плач. На другі дзень на гэтай самай канфэрэнцыі звольнілі з работы й выкінулі з саюзу настаўнікаў двух самых выдатных — Язэпа Сапрыка й Янку Чарняўскага. Настаўнікі разьехаліся з канфэрэнцыі ўстрывожаныя й няпэўныя ў заўтрашнім дні.

Блізка праз тыдзень ці болей усіх настаўнікаў выклікаюць у раённае мястэчка на сход. Я школу на гэты дзень зачыніў і паехаў. Там нейкая партыйка-полька зь Менску, якая аб'ехала некаторыя галаўнейшыя школы раёну, на гэту тэму робіць даклад і абвінавачвае настаўніцтва ў палітычнай няпільнасьці, што ў шмат якіх школах вісяць нацдэмаўскія партрэты. Успамінае ўчарашні выпадак у Коранскай школе:

— *На сьцяне вісіць партрэт. Я пытаюся вучня: хто гэта? — Янка Купала, — адказвае вучань. Там вісеў і другі партрэт. Я пытаюся ў вучня: а гэта хто? — Ня ведаю, — кажа вучань. А гэта быў партрэт Леніна.*

Тут авансам лаялі ўсіх настаўнікаў, што ня маюць палітычнай пільнасьці, а нарэшце строга папярэдзілі: калі яшчэ ў далейшым часе ў каго ў школе знойдуць нацдэмаўскія партрэты ці літаратуру, дык няхай той наракае сам на сябе. Калі гэта партыйка выявіла ў Коранскай школе гэткі вялікі праступак, дык загадала пазьнімаць партрэты Я. Купалы, Я. Коласа, У. Ігнатоўскага, Ф. Скарыны й творы Я. Купалы, Я. Коласа й "Гісторыю" У. Ігнатоўскага[327]. Усё гэта вынесьлі на вуліцу й публічна спалілі. Назаўтра я пайшоў у сваю школу ды пазьнімаў гэтыя партрэты. Шкода мне было зьнішчаць, дык я перш схаваў у школе пад суфіт[328], але, думаю, калі будуць шукаць ды знойдуць, яшчэ горшая віна

[326] ***Вазю́р*** — мястовы фурман, што цяжары перавозіць (АВ).

[327] Маецца на ўвазе "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" Ўсевалада Ігнатоўскага. Кніга доўга была школьным падручнікам гісторыі, вытрымала 5 выданняў: 1-е ў 1919 г. (канфіскаванае польскімі акупацыйнымі ўладамі); 2-е ў 1921 г. у Беларусі; тады ж, але без дазволу аўтара ў Вільні, 3-е выданьне, папраўленае і дапоўненае, у 1921 г.; 4-е выданьне, перарobленае, у 1926 г.; таксама ў Вільні ў 1927 г.

[328] ***Суфіт*** — столь пад страхой надворнага боку дому, каб было прыгажэй (АВ).

будзе. Прынёс дамоў, да сваёй хаты, і схаваў на гарэ, але ўзноў думаю, завошта ж маюць цярпець нашы хатнія, калі часамі, шукаючы, выпадкова знойдуць. Нарэшце я прымушаны быў зьнішчыць.

Гэтай жа зімы [1930—1931 году] аднаго разу заходзіць да мяне зусім п'яны, што насілу слова можа прагаварыць, сакратар сельсавету, ён жа й даносчык НКВД, ды кажа, што маё імя ёсьць у сакрэтных сьпісках пры сельсавеце разам з "кулакамі", а гэтыя сьпісы пад замком энкавэдыстага. Калі ён іншым разам прыйшоў да мяне цьвярозы, я хацеў у яго распытацца аб гэтым, дык ён стаіўся, што мне гэтага не казаў. Але я даведаўся ад аднаго камсамольца, што гэта праўда й што ў тых сьпісах былі запісаны прозьвішчы тых хлопцаў, якія былі сябрамі Коранскага культурна-асьветнага гуртка.

Аднаго разу гэтай зімы пасьля нейкай сходкі ў нашай школе Матусевіч, загадчык Коранскай хаты-чытальні й агент НКВД (гэтая служба нявінна звалася Рабоча-сялянская інспэкцыя) просіць некаторых хлопцаў і мяне застацца. Калі мы засталіся, ён просіць нас як старшыня Рабоча-сялянскай інспэкцыі запісацца да яго ў памочнікі, дапамагаць яму ў працы. Я перш надта ўсхваляваўся, а потым як мог заспакоіў сябе й сказаў:

— *Я надта перасілены школай, працуючы адзін адначасова з чатырма клясамі, дый сельсавет часта закідае работай, дык не магу ніякай іншай новай работы браць на сябе.*

Матусевіч з упікам толькі зірнуў на мяне, але нічога не сказаў.

У палове лютага прыйшло паведамленьне з райвыканкому на тыдзень зачыніць школы ды іншыя ўстановы ў сельсавеце, а камсамольцы, службоўцы й актывістыя мусяць зьявіцца ў распараджэньне сельсавету. Але ў пачатку назначаных дат я даведаўся, што ў гэтыя дні будуць высылаць кулакоў. Гэта паведамленьне як доўбняй ударыла мяне па галаве. Я на гэтыя дні школу зачыніў, але сам з школы нікуды ня выйшаў. Аднаго вечара гэтых страшных дзён прыйшлі да мяне блізкія сябры-сяляне й кажуць:

— *Ты надта сабой рызыкуеш, калі ў гэткі час не падпарадкаваўся ўладам.*

— *Я не шкадаваў бы й прапасьці, калі б гэтым мог выратаваць хоць сваю вёску ад пагібелі. Гэта будзе нейкі цуд, калі я дажыву да канца навучальнага году ў Міхалкавіцкай школе.*

Тут цуду ніякага не здарылася, але я дапрацаваў да канца навучальнага году ў сваёй школе, а гэта сталася таму, што хутка настаў сталінскі "Закрут галавы ад посьпехаў"[329].

---

[329] "Закрут галавы ад посьпехаў" ("Головокружение от успехов") — артыкул Генэральнага сактарара ЦК УКП(б) Іосіфа Сталіна ў газэце "Правда" за 2 сакавіка 1930 г., што была прысьвечаная праблемам калектывізацыі, "перегибам на местах" і неабходнасьці іх выпраўленьня.

Гэтай жа зімы прыяжджае ў нашу школу інспэктар Крайнік. Ён прабыў у мяне на дзьвюх апошніх лекцыях, а пасьля сам стаў праводзіць гутарку з вучнямі й запытаўся:

— *Колькі з вас ёсьць піянэраў?*

— *Няма ў нас піянэраў,* — адказаў адзін вучань.

— *А чаму няма?* — зноў пытае інспэктар.

Вучні маўчаць ды пазіраюць у мой бок.

— *У нас у вёсцы не было камсамольца, дык не было каму зарганізаваць піянэраў,* — мусіў падказаць я.

— *Дык у вашай вёсцы няма камсамольцаў. А ці ёсьць у вашай вёсцы кулакі й ворагі народу?* — пытае зноў інспэктар.

Дзеці зноў пазіраюць на мяне. Я зноў даю даведку, што наша вёска хоць вялікая, але бедная. Адзін быў у кулакох, але паходзіў зь беднай сям'і ды служыў у Чырвонай арміі, дык яго *вастанавілі ў правох*. Калі я гэта расказваў, дык адна дзяўчына, Анэта Тарлецкая, выказала як бы сама да сябе:

— *А я й ня ведаю, якія гэта ворагі народу.*

— *Дык ня ведаеш, якія ворагі народу? А ксёндз Веляжынскі, які прыяжджае да вас зь мястэчка Хатавічы,* — выказаў павышаным голасам інспэктар.

— *А які ён вораг?* — пытае дзяўчына.

— *Бо людзей ашуквае,* — дадае інспэктар.

— *А як ён ашуквае?* — зноў пытае Анэта.

— *Абманвае людзей, а яны носяць яму сала, кілбасы, яйкі,* — кажа інспэктар.

— *Дык якое ж гэта ашуканства, калі людзі самі даюць?* — пытае як бы зьдзіўлена Анэта.

— *Ёсьць жа такія дурні, што даюць,* — адказвае інспэктар з жалем.

— *Ці ж гэта дурань, што сваё дае? Той дурань, што нап'ецца ды вокны б'е,* — адказала ўпэўнена Анэта.

На гэтым размова й абарвалася. Я стаю й думаю: *"Вось гэта дык мяне кончыць"*. Інспэктар паглядзеў на гадзіньнік і кажа:

— *Пара мне ехаць. Некалі другім разам прыеду пагаварыць з вамі.*

Ён разьвітаўся з намі й паехаў.

Мяне зьдзівіла гэткае красамоўства Анэты. Аднаго разу я й пытаю ў яе, дзе яна чула тыя словы, што казала інспэктару.

— *Ад цёткі Еўкі,* — адказала яна.

Матка Анэты была простая, цёмная ды распушчаная баба. Муж ейны быў вірутны[330] злодзей, які болей па вязьніцах сядзеў, як дома быў, а памёр у 1918 годзе. Ейная цётка Еўка, бацькава сястра, ад якой

[330] ***Віру́тнік*** — злачынец, злодзей, разбойнік (АВ).

Анэта навучылася рэлігію бараніць, была распушчаная баба: замуж ніколі не хадзіла, а мела, мусіць, з чацьвёра дзяцей, праўда, ейная старэйшая дачка была набожная. Сама Анэта найболей служыла нянькай у чужых людзей, як дома жыла; вучаніца яна была тупаватая (перарастак), але спакойная.

Надышла вясна. У сярэдзіне траўня Коранская цэнтральная школа пры сельсавеце запрасіла старэйшых вучняў маёй школы ў госьці — пагуляць разам. Там быў піянэрскі аддзел, і я здагадваўся, дзеля якіх гульняў заклікалі маіх дзяцей: там іх меліся апрацоўваць Рудакоўскі й Матусевіч. У хуткім часе пасьля гэтага адна вучаніца, Юзэпа Тарлецкая, прыносіць у насьценную газэту “Наша школа” допіс наступнага зьместу: “*Падкулачніца Магдалена Тарлецкая зарэзала цялё, а цялят рэзаць савецкая ўлада забараняе. Вока*”. Юзэпа — сястра Анэты, што з інспэктарам гутарыла, а цялё зарэзала тая Магдалена Тарлецкая, што некалі ў мяне грошы пазычала на пахаваньне дачкі.

У тыя часы ў кожнай школе мусіла быць насьценная газэта. І ў нашай школе кожны месяц выдавалася такая газэта. У яе часам пісалі старэйшыя вучні, настаўнік выпраўляў гэтыя допісы й надаваў ім такі ці гэткі сэнс. Тут пісалася аб посьпехах вучняў, аб паводзінах ды іншыя заўвагі з школьнага жыцьця. Калі я ўбачыў гэты допіс, дык аслупянеў: калі б зьмясьціць яго ў газэту, Магдалену Тарлецкую прыцягнулі б да адказнасьці, а можа, і выслалі зь сям’ёй, маглі б загінуць нявінныя людзі. А галоўнае — на настаўніку й школе засталася б на векі вечныя паскудная пляма, што быццам яны былі на шпеґаўскай службе ў НКВД. Не зьмясьціць гэтага допісу — дык настаўнік можа зараз загінуць, як яўны “вораг народу”.

Я стаў шукаць выйсьця з гэтага забойчага становішча й тонам настаўніка стаў гаварыць да карэспандэнткі:

— *Я ня раз і ня два напамінаў вам, што допісы трэба падаваць загадзя, а калі ўжо газэта гатова й засталося яе толькі вывесіць, дык ты падала допіс. А гэты твой допіс мусіць застацца да наступнага нумару.*

Я быў пэўны, што зараз пачнуцца экзамэны й наступнага нумару сёлета ня будзе, а допіс добра схаваў, цэлы вечар і ноч сядзеў ды сам пісаў газэту, а назаўтра вывесіў.

Экзамэны прызначылі на канец траўня; як і заўсёды, я добра рыхтаваўся да іх. Калі ж даведаўся, што да мяне на экзамэн прыедзе зьвяглівы камсамолец з раённай сямігодкі Гарохавік, дык спадзяваўся нечаканай непрыемнасьці. Прыехаў і назначаны экзамэнатар, пачаліся пісьмовыя работы па беларускай мове, а потым па арытмэтыцы. Прыбыў і Рудакоўскі з Кораню, як ён сябе іменаваў, “*прадстаўнік ад камсамольскай ячэйкі*”. Калі я праводзіў пісьмовыя экзамэны, яны абодва пайшлі ў мой пакой і перакапалі мае паперы й кнігі. Я доўга

турбаваўся, каб яны якіх падступкаў[331] не зрабілі: каб чаго не падхапілі, каб скампрамэтаваць мяне перад савецкай уладай.

Настала вясновая канфэрэнцыя. Тут палітычны даклад сакратара райкому партыі быў трохі лагаднейшы, як папярэднія гады. Нарэшце паставілі пытаньне аб выніках працы ў школах за мінулы год. Выступалі настаўнікі зь сельсаветаў, дзяліліся вынікамі працы школаў — сваіх і суседніх. Нарэшце выступіў інспэктар Крайнік. Перабіраючы працу школаў, ён дайшоў і да маёй. Аб працы школы, аб падрыхтаванасьці вучняў ён нічога не сказаў, але моцна закрануў палітычны стан маёй школы:

— *Калі я ўзьняў пытаньне з вучнямі Міхалкавіцкай школы аб рэлігіі, аб ксяндзу, дык мяне вучні ледзь на руках ня вынесьлі з школы* (гэта азначае ледзь ня выкінулі, ледзь кулакамі не пабілі). *Калі б быў трохі слабейшы, калі б быў палітычна не падкаваным, дык гэта й сталася б.*

Мне прыйшлося ўсё гэта перацярпець, перапацець, ператрэсьціся ўсімі нэрвамі ды з гэткім настроем пайсьці на вакацыі.

Гэтай вясны пачаўся гэдак званы сталінскі закрут галавы ад посьпехаў (*головокружение от успехов*). Сталі судзіць некаторых камуністых, актывістых і ўрадоўцаў быццам за прымусовую калектывізацыю, а гэтым пакрыўджаным сялянам сталі зварочваць ґвалтам абагулены статак і снасьць. Сяляне думалі, што гэта й сапраўды савецкая ўлада пакаялася за ґвалт і зьдзек над сялянамі, пачалі падсьмейвацца з тых нізавых камуністых і актывістых, якія цяжка працавалі на цаґельнях ці капаньні торфу. Мне гэдаксама гэта лета стала лягчэй дыхацца, бо спадзяваўся, што, можа, гэта палёгка працягнецца на 2—3 гады.

Хутка праляцела лета й насьпела восеньская канфэрэнцыя, якая была вельмі лагодная: нікому не рабілі ні закідаў, ні пагрозаў. Інспэктара Крайніка на гэтай канфэрэнцыі не было, бо ён, Матусевіч і Рудакоўскі ўночы езьдзілі па вёсках Коранскага сельсавету шукаць у сялян золата й даляраў; тады зьнікла з абыходу дробная манэта.

На гэтай канфэрэнцыі мы даведаліся, што лагойскага ксяндза арыштавалі. Калі на Першую Прачыстую[332] ён прыехаў у Корань на набажэнства, у часе імшы накідалі ў скарбонку дробнай манэты, дык гэтай ночы прыйшлі на кватэру да таго селяніна, дзе начаваў ксёндз, арыштавалі яго, выслалі ў кацэт, адкуль ён не вярнуўся. Таго ж дня арыштавалі й лагойскага старога папа Вержбаловіча; ён меў 5 рублёў

[331] ***Падсту́пкі*** — зрабіць некаму шкоду без карысьці для сябе (АВ).

[332] **Першая Прачыста** (Успленьне, Багародзіца) — старажытнае земляробчае свята ўраджаю і падрыхтоўкі да сяўбы. Адзначаецца 28 жніўня.

золатам і некалькі дробнай манэты ды гэта ўсё панёс здаваць у банк, дык яго там і арыштавалі ды выслалі.

Гэтай зімой у школе працавалася лепей, бо не рабілі так часта сходак для згону людзей у калгас, як гэта было мінулай зімой, калі запар па некалькі дзён зачынялі школу, каб там сходы праводзіць.

У нас кожнага году рабіліся паказальныя лекцыі кожнай школы. У гэту школу сходзіліся настаўнікі ўсіх школаў сельсавету, настаўнік — гаспадар школы — даваў узорную лекцыю, а пасьля ўсе настаўнікі між сабой абгаворвалі яе па зробленых нататках на лекцыі. Сёлета гэдаксама адбываліся паказовыя лекцыі; з чатырма клясамі разам я таго году даў запар дзьве. Мае калегі-настаўнікі ў сваім пратаколе адзначылі гэтыя лекцыі як вельмі ўдалыя.

Набліжаліся экзамэны; як і заўсёды, я добра падрыхтаваўся да іх. Я пачуў, што да мяне на экзамэны той самы Гарохавік з Лагойску прыедзе, але сёлета я меней турбаваўся гэтым: я спадзяваўся на посьпех сваіх вучняў; я даў вельмі добра паказальныя лекцыі; інспэктар сёлета зусім не прыяжджаў; у дадатак праз цэлы год адміністрацыя райвыканкому была ветлівай. На экзамэнах прысутнічаў адзін Гарохавік; я экзамэнаваў, а ён толькі сядзеў ды лыпаў вачыма. Калі экзамэн скончыўся, я стаў пісаць экзамэнацыйны акт, дзеці сядзелі, чакаючы вынікаў экзамэну. У гэты час Гарохавік пайшоў да дзяцей, стаў у іх браць торбачкі й пераглядаць іхныя паперы, сшыткі... Я сьпісаныя сшыткі сваіх вучняў трымаў у шафе, а па заканчэньні школьнага году аддаў іх вучням на рукі. Цяпер, пішучы акт, я пазіраў на Гарохавіка й бачыў, што ён уваднаго вучня, Міхася Вашкевіча, забраў сшытак і палажыў сабе ў партфэль. Я падумаў, што ён забраў сшытак па беларускай мове, каб падкусіць мяне за нейкую нацдэмаўшчыну. Калі ён паехаў, дык я пытаю ў Міхася, які ён сшытак забраў. Ён адказаў, што па матэматыцы. Я думаў, што Гарохавік знайшоў нейкую непапраўленую памылку й мала аб гэтым турбаваўся.

На настаўніцкай канфэрэнцыі ў канцы навучальнага году па пытаньні “Аб выніках гадовай працы школ” выступалі настаўнікі зь сельсаветаў; тут адзін стары настаўнік, які быў на маёй практычнай лекцыі, выказаўся вельмі пахвальна аб маёй школе, што хоць я адначасова працую з чатырма клясамі, але добра ўкладаюся на лекцыі й вынікі на экзамэнах заўсёды добрыя. Між іншымі выступаў і Гарохавік, ён не прамінуў успомніць маю школу:

— *Настаўнік Трубач казаў, што там і тое добра пастаўлена, і другое, што быццам там усё добра, але ён галоўнага не сказаў: там няма палітычнай чоткасьці* (выразнасьці).

Я спадзяваўся, што гэтым разам інспэктар у сваім выступе абміне маю школу, аж не. Ён зразу як бы зьвярнуўся з адказам да Гарохавіка:

— *Таварыш Гарохавік сказаў, што няма палітычнай выразнасьці ў Міхалкавіцкай школе. Яна ёсьць і занадта відаць. Часта настаўнікі*

*кажуць, што прадмет матэматыка — апалітычны, але настаўнік Гладкі надаў яму палітычныя формы. Вось адна матэматычная задачка зь ягоных штодзённых работ: "Селянін меў кавалак зямлі даўжынёй 148 м, шырынёй 45 м. Ён гэту дзялянку засадзіў капустай, з тым разьлікам, каб каліва ад каліва было на адлегласьці 50 см. Колькі селянін змог пасадзіць каліваў капусты на гэтай дзялянцы?" Па-першае, у нас цяпер няма сялян, а ёсьць калгасьнікі. Хто не пайшоў у калгас? Кулак. Ці ж калгасьнік мог засадзіць гэткую дзялянку капусты? Ды й нашто яму столькі капусты? Гэткую дзялянку капусты мог засадзіць кулак для спэкуляцыі.*

Калі летась успаміналіся недахопы ў маёй школе, як пазычка грошай на пашырэньне "рэлігійнага дурману" й выступленьне вучняў у вабарону ксяндза, дык гэтага нічога ў рэзалюцыю не пісалася, а сёлета запісалі гэту задачку: "*Праяўленьне кулацкай ідэалёгіі ў выкладаньні матэматыкі ў Міхалкавіцкай школе*". Я быў упэўнены, што кожная школа мела ня толькі гэткія, але яшчэ й большыя грахі ў выкладаньні матэматыкі. Гэта абвінавачаньне было наўмысьле падтасавана для мяне, каб была юрыдычная прычына мяне абвінаваціць. Канфэрэнцыя праходзіла далей, але я хадзіў пануры, ні з кім не хацелася гаварыць: ні з прыяцелямі, ні з ворагамі, аж неяк нечакана спатыкаю Гарохавіка ў цёмным калідоры, які ні з таго ні зь сяго сказаў:

— *Даю камсамольскае слова гонару, што табе трэбала ўжо даўна пакінуць Міхалкавічы.*

Я толькі пацiснуў плячыма й пайшоў далей. Канфэрэнцыя кончылася, я атрымаў грошы за летнія месяцы й паехаў дамоў, а празь некалькі дзён прывёз да інспэктара заяву, дзе прасіў аб звальненьні з працы, матывуючы слабым здароўем і цяжкасьцю аднаму працаваць адначасова з чатырма клясамі. Інспэктар паказаўся ў гэты час ветлым і радзіў не звальняцца, а перавесьціся ў двух- ці трохкамплектавую школу. Гэта лета я жыў, "*як мыш пад венікам*", але й яно праляцела шпарка.

Пад восень здарыліся два падазроныя выпадкі: з цэнтру ад саюзу каапэратываў прыяжджае ў вёску жыдок кантрактаваць сады й заходзіць да нас. Я зь ім пайшоў у садок. Там ёсьць восем маладых яблынек зь яблыкамі. Гэты "знаток" прызнаў, што на кожнай яблыньцы будзе па 30 пудоў яблыкаў, але ён для прасьцейшага залічэньня напіша па 25 пудоў зь яблынькі, а ўсяго 200 пуд. Я яму кажу, што гэта яблынька зь яблыкамі, зь лісьцямі, з дрэвам і карэньнямі не заважыць 25 пудоў. Тут можа быць ня болей як па 5 пудоў на кожным дрэве, а ўсяго 40 пудоў. На гэту колькасьць я згаджаюся. Кантрактар дамагаецца запісаць кантракт на 200 пудоў, якія мы павінны здаць дзяржаве па цьвярдых цэнах. Ён яшчэ трохі паспрачаўся ды адыходзячы сказаў:

— *Глядзіце, каб ня каяліся.*

У хуткім часе пасьля гэтага прыяжджае пара камсамольцаў (хлопец і дзяўчына) праводзіць сход. У іх стаялі два пытаньні: "Уборачная

кампанія” й “Калектывізацыя”. Хлопец быў ціхі, маўклівы, а дзяўчына язычлівая[333], агрызалася зь сялянамі. Сходка, як заўсёды, праводзілася ў школе й працягнулася за поўнач. Калі людзі разышліся, засталіся толькі “прадстаўнікі ўлады” й я як гаспадар памяшканьня. Я жыў у школе, а харчаваўся дома, таму павёў іх дамоў, да сваіх, каб даць ім вячэраць. Была позная пара, усе спалі, я іх змог пачаставаць толькі малаком і хлебам. Дзяўчына нешта замармытала ды палажыла некалькі медзякоў на стале, як бы зь нейкім гонарам. Я заўважыў:

— *Што вы гэта робіце? Мы жывём у вёсцы, па нашаму сялянскаму звычаю мы з падарожных ніколі не бяром платы,* — ды яшчэ раз перапрасіў, што ня мог належнай вячэры зрабіць.

— *Мы людзі савецкія, што з нас належыцца, мы плацім,* — сказала як бы з задзірствам камсамолка.

Я ім прапанаваў начаваць у вольнай хаце, дзе былі два ложкі з пасьцельлю.

— *Не, завядзі нас у пуню,* — загадала камсамолка.

Я й дагадаўся, што яна хацела агледзець гаспадарку, што яна была з гэтай мэтай і накіравана. Я іх павёў туды, хоць там і зусім нявыгадны быў начлег, бо сена ў пуні ляжала падыспадам, а наверсе было запоўнена канюшынай — аж да самай страхі, куды ім і прыйшлося лезьці па драбінах.

Настаў час восеньскай канфэрэнцыі, якая заўсёды адбывалася з 15 жніўня, а на гэты год зацягнулася на самы пачатак верасьня. Канфэрэнцыя цягнулася некалькі дзён, але аб пераводах з школы ў школу й звальненьнях паведамленьня не было. Настаўнікі пачалі хвалявацца. Нарэшце было пастаўлена й гэта пытаньне, яго разьвязвала адмысловая “тройка”: толькі што прысланы з Магілёўскага паліттэхнікуму палітінспэктар Новікаў (ад райвыканкому), прадстаўнік НКВД, прадстаўнік ад настаўніцтва — настаўніца-камсамолка (часовая жонка гэтага самага энкавэдыстага й шпік НКВД). Гэтая камісія пастанавіла ўсіх старэйшых настаўнікаў выслаць за Дняпро, а пакінуць на месцах толькі камсамольцаў. А мяне й майго брата, які цяпер быў на самым усходнім куце раёну, у Швабах, зусім звольнілі. Засталося на месцы толькі трох старэйшых настаўнікаў, якія, відаць, былі зьвязаныя з працай НКВД.

## ЯК БАЛЬШАВІКІ ПАЛЯНІЗАВАЛІ БЕЛАРУСАЎ

Апрача русіфікацыі, бальшавікі з 1921 да 1936 году праводзілі *ўпартую*, як казаў Славінскі[334], палянізацыю беларускага народу.

---

[333] ***Язы́члівы*** — хто шмат непатрэбна гаворыць (АВ).

[334] Напэўна, маецца на ўвазе **Адам Славінскі** (1885—1937), партыйны й дзяржаўны дзеяч БССР.

У 1905 годзе ў Корані сярод больш чымся дзесяці вёсак каталіцкага насельніцтва была адчыненая расейская народная школа. У 1916 годзе, калі польскія ўцекачы прыпыніліся на прыфрантавой Беларусі, ім было дазволена зарганізаваць свае нацыянальныя пляцоўкі й школы. У нашай парафіі польскіх уцекачоў не было, але польскія шавіністыя выкарысталі гэтае права, нанялі дом, прыслалі сваю настаўніцу, нейкую *панну Марыю,* і адчынілі школу польскую побач з расейскай. Тады ў часе вайны ў расейскай школе працавалі за настаўнікаў малапісьменныя падлеткі, дык панна Марыя, можа, на галаву была вышэйшая за гэтых расейскіх настаўнікаў, але для беларускіх дзяцей, якія хадзілі і ў адну, і ў другую школу, абедзьве мовы былі чужыя. Перарosткі-дзяўчаты пайшлі вылучна да панны Марыі. Яна, мажліва, была адукаваная жанчына, а ў дадатак сумленная; апрача лекцыяў чытаньня, пісьма й лічэньня, праводзіла й гутаркі з вучнямі, асабліва зь перарosткамі. Зайшла гутарка аб краінах і людзях. Нашыя дзяўчаты й пытаюць у яе:

— *А наша тутэйшая зямля ці ёсьць Польшча? І мы ці ёсьць палякі?* (А гэтыя дзяўчаты, трэба сказаць праўду, ужо былі сьвядомыя беларусы.)

Панна Марыя адказала:

— *Ваша зямля ня ёсьць Польшча. Яна даўней называлася Літва, а цяпер яе называюць Białorus.* Другі наведвальнік быў таўставаты, з твару як бы трохі азызлы, пануры, павольны. Скура на твары была шараватая, таму цяжка было адгадаць век. Адзежына на ім была доўгая й зашмальцаваная. Гэта быў настаўнік жыдоўскай школы. Калі ён бачыў, што ў нейкай талерцы заставалася нейкай жыжкі, дык ціха, як здань падсоўваўся й як бы са смакам даядаў.

Як глядзеў я на гэтых няшчасных, сэрца сьціскалася, думалася: *"А ці не давядзецца мне так веку дажываць?"* Гэтак думаў шмат хто з сталых адзінокіх настаўнікаў.

Вясной 1934 году харчаваньне ў гэтай сталоўцы трохі палепшылася: сталі часта варыць суп з сушанага цёртага шчаўя, а на другую страву — грыбы. Я бачыў, што сяляне ў каапэрацыю здавалі грыбы, якія наскрозь растачылі чэрві, але калі з талеркі пахнулі падсмажаныя грыбы, дык я стараўся не прыглядацца да іх, але са смакам еў, бо згаджаўся з прыказкай: *"Ня той чарвяк, што мы зьядзім, а той чарвяк, што нас зьесьць"*.

У тыя часы ў Менску кожная фабрыка, кожнае прадпрыемства мела свае зачыненыя сталоўкі й свае зачыненыя разьмеркавальнікі (крамы). Самыя лепшыя сталоўкі й разьмеркавальнікі былі для Саўнаркому[335] ды партактыву; сюды ўваходзілі партыйныя тузы, але звычайным партыйным работнікам і службоўцам доступу не было. Далей ішлі

[335] **Саўнаркам** — Савет народных камісараў.

сталоўкі й зачыненыя разьмеркавальнікі энкавэдыстых, вышэйшай рангі вайскоўцаў і “партызанаў”.

“Партызаны” высунуліся на паверхню грамадзтва прыблізна ў 1932-м. У 1918 годзе, у часе нямецкай акупацыі, і ў 1919—1920 гадох, у часе акупацыі польскай, на Беларусі не было камуністых, а за гэта надта мала было й партызанаў. Калі былі выпадкі, што пакрыўджаныя й абрабаваныя сяляне выступалі супроць ґвалту польскіх вайскоўцаў, дык гэтыя самыя сяляне з гэткім самым абурэньнем ставіліся й супроць бальшавіцкіх рабункаў і зьдзекаў.

Тымі часамі бальшавікі высунулі на паверхню грамадзтва групу шпіцаляў[336] і даносчыкаў, якіх надзялілі “партызанскімі” білетамі й прымацавалі іх да багатага зачыненага разьмеркавальніку. Але яны ўсюды лезьлі без чаргі й дармова лезьлі ў публічныя месцы — лазьні, кіно ды інш. Менскае насельніцтва да “партызанаў” ставілася з пагардай і нянавісьцю, ды кожнага авантурніка й нахабніка сталі зваць *партызан*. Бальшавікі тады рыхтаваліся да вайны, дык падрыхтоўвалі глебу, каб розныя авантурнікі ішлі ў партызаны за іх. Як нечакана ўсплылі на паверхню гэтыя “партызаны”, гэдак нечакана й зьніклі.

Найгоршыя ўмовы харчаваньня мелі работнікі лёгкай прамысловасьці, службоўцы й сяляне ў саўгасах і калгасах. Самы́я працаўнікі гэтай катэгорыі людзей атрымлівалі па 120—150 грамаў хлеба на дзень, а дарослыя члены сям’і нічога не атрымлівалі.

У тыя галодныя гады бальшавікі ў Менску ў пякарнях трымалі як дзень, так ноч аддзелы да 10 асобаў міліцыі, бо баяліся, каб галодны натоўп не зрабаваў пякарняў.

## АКАДЭМІК ЗАМОЦІН І ВЫКЛАДЧЫК ДЭКУТОВІЧ

Мяне цікавіла паглядзець, як студэнты абараняюць сваю дыплёмную працу, дык вось я, здаецца, вясной 1935 году й зайшоў у ВПІ, калі праходзіла абарона. Студэнт ВПІ Шусьцер абараняў сваю дыплёмную працу па літаратуры; тэмай было “Слова аб палку Ігара”. На гэткую ўрачыстасьць найчасьцей студэнт убіраецца прыстойна, а гэты быў убраны ні то па-дзівацку, ні то па-спартоўску: кашуля расшпіленая на ўсе ґузікі, а рукавы закасаны да самых пахаў, валасы схахлачаныя.

За сталом сядзелі акадэмік Замоцін і выкладчык расейскай літаратуры дацэнт Дэкутовіч. Студэнт досыць шпарка прачытаў сваю работу. Прафэсар і дацэнт пераглянуліся й сталі ціха між сабой гаварыць. Нарэшце прафэсар запытаўся ў студэнта, якім ён карыстаўся матэрыялам, калі ўкладаў сваю работу. Студэнт адказаў, што карыстаўся рознымі матэрыяламі й адшукваў іх у розных месцах; пры гэтым

[336] ***Шпіцаль*** — шпік, сексот.

ён дадаў, што, магчыма, ёсьць у ягонай працы нейкія недахопы, але прасіў прафэсара прызнаць ягоную працу здавальняючай, бо яму няма часу перарабляць, бо партыя яго накіроўвае ва ўсходнюю Сібір — у Бірабірджан. Тут прафэсар Замоцін зрабіў маленькую прамову наконт гэтай дыплёмнай працы, сказаўшы, што гэта літаральная копія працы дацэнта Дэкутовіча, калі той абараняў сваю дысэртацыю, але няўважліва перапісаная, бо ёсьць граматычныя памылкі й не дастае некалькіх косак. А пасьля дадаў, што вельмі несумленна ўводзіць у блуд і прафэсуру, і інстытут, ды заўважыў, што гэта ёсьць літаратурным зладзействам. Праца студэнта Шусьцера засталася бяз вынікаў.

Якім жа чынам мог студэнт Шусьцер сьпісаць працу дацэнта Дэкутовіча, якая пасьля абароны засталася ў Беларускай акадэміі навук? Пасьля ліквідацыі нацдэмаў там шмат было паналазіўшы камуністых, дык вось нейкі зь іх мог знайсьці гэту працу й даць свайму сябру Шусьцеру скапіяваць.

У выніку ўсяго гэтага павінен бы ўсчацца крымінальны працэс за літаратурную кражу, але тут выйшла іначай: празь нейкі час ня стала ні акадэміка Замоціна, ні дацэнта Дэкутовіча.

Прафэсар Замоцін да Першай сусьветнай вайны быў рэктарам расейскага Варшаўскага ўнівэрсытэту. Студэнты казалі, што ў часе Грамадзянскай вайны ён быў нейкі час міністрам народнай асьветы пры дзянікінскім урадзе[337]. Пасьля адчыненьня менскага ўнівэрсытэту працаваў загадчыкам катэдры расейскай літаратуры, выкладаў расейскую літаратуру й мэтодыку літаратуры, у Беларускай акадэміі навук яго выбралі акадэмікам. Ён добра ўладаў беларускай мовай, шмат напісаў крытычных артыкулаў па беларускай літаратуры. Меў адну дачку.

Асыстэнт Замоціна дацэнт Дэкутовіч, беларус, высокаінтэлігентны чалавек, быў добрым выкладчыкам расейскай літаратуры й мэтодыкі літаратуры. Калі разьбірацца ў аздобе мужчын, дык ён быў надзвычайнага хараства — як з твару, так і з складу цела. Студэнткі шапталіся, акадэмік Замоцін спадзяваўся, што Дэкутовіч будзе ягоным зяцем.

## III І IV КУРСЫ ВПІ
## (1933/34 І 1934/35 НАВУЧАЛЬНЫЯ ГАДЫ)

Калі на I курсе я меў амаль усе адзнакі пасьпяховасьці на "пасярэдна", дык на II больш дысцыплін было здадзена на "добра". На III і IV курсах гэдаксама бальшыня адзнак была "добра". На гэтых астатніх

[337] **Антон Дзянікін** (1872—1947), расейскі военачальнік, палітычны й грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, мэмуарыст, публіцыст і ваенны дакумэнталіст. Выконваючы абавязкі вярхоўнага кіраўніка Расеі (04.01—04.04.1920). Адзін з кіраўнікоў Белага руху.

курсах і дысцыпліны, і выкладчыкі былі амаль тыя самыя. На III курсе, як ужо ўспаміналася папярэдне, выкладчык Ламцёў заместа беларускай граматыкі правёў некалькі гутарак аб глаголіцы, ці, лепей сказаць, аб царкоўнаславянскай мове. Барысенка прадаўжаў свае лекцыі па беларускай літаратуры, Замоцін — па расейскай літаратуры й мэтодыцы літаратуры, малады лысы лектар даканчваў выкладаць мэтодыку беларускай мовы. На гэтым жа III курсе прафэсар Бурачэўскі выкладаў заходнеэўрапейскую літаратуру, але не закончыў. Калі мы ў пачатку 1934/35 навучальнага году прыбылі ў Менск, дык прысутнічалі на хаўтурах прафэсара Бурачэўскага (ён памёр ад раку). На IV курсе заходнеэўрапейскую літаратуру выкладала нейкая маладая жыдовачка. На тым курсе ў нас заняткі цягнуліся ўсяго да лютага месяца, і толькі некаторыя выкладчыкі даканчвалі выкладаць свае дысцыпліны.

## ПРАЦА Ў ШКОЛАХ НЕПІСЬМЕННАСЬЦІ Й МАЛАПІСЬМЕННАСЬЦІ

Калі я працаваў у 22-й менскай школе, дык, апрача працы ў школе з вучнямі, было шмат пабочных заняткаў: трэбала два разы на тыдзень вадзіць за кілямэтар вучняў на політэхнізацыю. Мая III кляса — як хлопцы, так і дзяўчаты — шылі чаравікі; самі рыхтавалі й страчылі загатоўкі, самі нацягвалі на капылы ды ўсю работу даводзілі да канца — выходзілі досыць зґрабныя чаравічкі!

Яшчэ кожны настаўнік прызначаўся да нейкай грамадзкай (бальшавіцкай) арганізацыі: Аўтадор[338], Асаавіяхім[339], МОПР[340] ды інш. Я быў прымацаваны да Асаавіяхіму й мусіў зьбіраць сяброўскія складкі з вучняў і настаўнікаў усёй школы ды адносіць іх у цэнтральную арганізацыю. А кожнае савецкае сьвята мусіў з вучнямі выходзіць на вуліцу на дэманстрацыю й хадзіць у калёне па вуліцы.

Калі на наступны год я перавёўся ў школу непісьменных і малапісьменных, якія былі амаль пры кожным прадпрыемстве, дык работа зусім зьмянілася — у лепшы бок: настаўнік мусіў толькі падлічыць усіх непісьменных ды малапісьменных і вучыць іх. Гэтыя работнікі, а асабліва работніцы, папрацаваўшы 8 гадзін пры варштаце, не хацелі заставацца на занятках, але за наведваньне работніцамі школы была адказная дырэкцыя школы, а настаўнік толькі мусіў давесьці да ведама

---

[338] **Аўтадор** — руск. *Общество содействия развитию автомобилизма и улучшению дорог.*

[339] **Асаафіяхім** — руск. *Общество содействия обороне, авиационному и химическому строительству СССР.*

[340] **МОПР** — руск. *Международная организация помощи борцам революции.*

гарана, што дырэкцыя не пасылае людзей да школы. Палітычная асьвета работнікаў настаўніка ня тычылася — на гэта былі на прадпрыемстве парт- і прафарганізацыі. На парады й дэманстрацыі вучні фабрычных школ ішлі ў работніцкіх калёнах, а настаўнік быў вольным.

У 1933/34 навучальным годзе я працаваў у гэткай школе ў лазьне-пральным трэсьце. У маю школу мусіла хадзіць 25 дзяўчат і баб, але прыходзіла надта мала, а школа працавала на дзьве зьмены, бо пральня працавала на зьмены. Пла[ці]лася ўдвайне. Нейкі час школа знаходзілася на другім паверсе пры 1-а лазьні (Паплаўскага) — супроць кватэры Янкі Купалы.

Вучаніцы не прыходзяць, дык я сачу цэлыя дзьве гадзіны за Купалавым дваром. У яго брама была заўсёды зачынена, а на варотах намалявана морда сабакі й вялікімі літарамі: *"Сьцеражыся сабак"*. Там у двару былі, здаецца, два дамкі, і туды надта часта хадзілі людзі рознага веку, але сабакі ні на кога не брахалі. У часе пробных алярмаў[341], якія тады часта практыкаваліся, заўсёды можна было бачыць старэнькую бабульку ў белым хвартусе, якая мусіла ўвесь час алярму стаяць на вуліцы, як дворніца. Гэта была матка Янкі Купалы — Бэнігна Луцэвіч[342].

На наступны, 1934/35 навучальны год я перавёўся на 1-ю мэханічную пякарню на Старажоўцы — у гэткую самую школу. Умовы працы ўзноў былі гэткія самыя. Тут было яшчэ болей дзяўчат, і яны неяк пільней хадзілі ў школу, але здарылася перашкода, а прычына была палітычнай важнасьці.

Маршал Варашылаў[343] паехаў у Турцыю. Там яго запрасілі на баль, дзе адна дама запрасіла яго на вальса, а ён, вядома, ніколі такіх танцаў і ня пробаваў танцаваць, таму меў шмат сораму. Калі прыехаў у Маскву й пажаліўся Сталіну[344], той загадаў, каб уся Расея танцавала.

На нашай пякарні кожнага дня пасьля работы ў абавязковым парадку пачалі ладзіць танцы. Заля перабіта надвое: у ваднэй палавіне — мая школа, а ў другой — танцы. Я ніяк ня мог утрымаць вучаніц у клясе,

---

[341] ***Пробны алярм*** — вучэбная трывога.

[342] **Бэнігна Луцэвіч** (1857—1942), маці Янкі Купалы.

[343] **Клімент Варашылаў** (1881—1969), савецкі партыйны, дзяржаўны й вайсковы дзеяч. З 1925 г. наркам абароны СССР. З 1940 г. намесьнік старшыні СНК СССР, з 1946 г. — Савету міністраў СССР. Член Палітбюро (Прэзыдыюму) ЦК КПСС у 1926—1960 гг.

[344] **Іосіф Сталін** (сапр. Джугашвілі, 1879—1953), адзін з кіруючых дзеячаў КПСС, Савецкай дзяржавы. З 1917 г. наркам па справах нацыянальнасьцяў, наркам дзяржкантролю, Рабоча-сялянскай інспэкцыі. Член ЦК партыі з 1917 г., Палітбюро ЦК з 1919 г. З 1922 г. Генэральны сакратар ЦК КПСС. З 1941 г. Старшыня СНК (СМ) СССР і Дзяржаўнага камітэту абароны, Вярхоўны галоўнакамандуючы.

а каб і ўтрымаў, дык не было б як займацца, калі побач іграюць і скачуць. Насілу дамовіліся мы з дырэктарам пякарні аб ліквідацыі гэтага канфлікту: я абяцаў скараціць час заняткаў, а дырэктар — на час заняткаў устрымаць танцы.

## КАМЭРЦЫЙНЫ ХЛЕБ

У 1935 годзе, здаецца, нарэшце зьявіўся ў Менску ў продажы хлеб. Гэта была падзея вялікай важнасьці! Прадаваўся ён у васобных крамах, каля кожнай гэткай крамы некалькі міліцыянэраў сачылі за чаргой, якая першыя дні цягнулася кварталы на два й болей. Быў у продажы хлеб простага памолу — і жытні, і пшонны. Жытні прадаваўся па тры рублі кілё, а пшонны — па пяць.

У адны рукі давалася толькі адно кілё. Купіўшы адно кілё, можна было заходзіць назад за чаргу й купляць другое. Гэдак я з сваім сябрам, студэнтам Антосем, пайшлі ў чаргу па хлеб, а праз гадзіну мелі па два кілё хлеба: па кілё жытняга й па кілё пшоннага. Мы нагрэлі гарбаты й першы раз за некалькі гадоў пад'елі хлеба.

Гэткія шчасьлівыя мясты ў СССР былі толькі чатыры: Масква, Ленінград, Харкаў і Менск. Пасьля, калі даведаліся сяляне аб гэткім шчасьці, дык чарга па камэрцыйны хлеб утроілася. Той калгасьнік ці аднаасобны селянін (такіх засталося вельмі мала) мусіў пехатой ісьці да Менску 50, а то й 100 вёрст ды купляць камэрцыйны хлеб. Калі міліцыянэр заўважыў, што нехта з мяшком стаяў у чарзе, дзе мелася якіх 4—5 кіляў хлеба, дык тая асоба арыштоўвалася, адводзілася ў міліцыю, і хлеб канфіскоўваўся. Гэтыя людзі хітравалі: куплены хлеб адносілі на прыватную кватэру ды варочаліся зноў у чаргу. За доўгі летні дзень адна асоба магла купіць пуд, а то й два пуды хлеба. Хто ішоў пехатой, таму й пуд хлеба кроўю абліваўся, калі трэбала 50 ці болей кілямэтраў яго несьці. Некаторыя набіралі й да трох пудоў хлеба, выходзілі за места й чакалі вазюрнай машыны, дзе за добрую плату шофэр завозіў гэтага шчасьліўца ў ягонае бліжэйшае мястэчка, але й там чакала яго пакута: трэбала гэты мех хлеба данесьці 3—10 кілямэтраў да сваёй вёскі.

Хутка савецкая ўлада даведалася аб гэткіх вялікіх злачынствах. Міліцыянэры высылаліся за места, арыштоўвалі гэтых злачынцаў — спэкулянтаў хлебам, цягнулі іх ва ўправу міліцыі, канфіскоўвалі гэты хлеб, а самога саджалі ў вязьніцу. Калі ўдавалася даставіць хлеб дамоў, яго сушылі, цёрлі на муку, ды пасьля гэтай хлебнай мукой запраўлялі якое мяцьва[345]: лебяду, крапіву, шчаўе, трыпутнік, сьвірэпку ды інш.; тады гэтае мяцьва было смачнейшае й надта добра пахнула. Калгасьнік ці селянін-аднаасобнік прадаваў бальшавіцкай уладзе пуд жыта па рублю, значыць, па 6,2 капейкі за кілё. З гэтага кілё выходзіла блізка два

[345] ***Мя́цьва*** — страва-варыва, прыгатаванае зь зялёнай гародніны (АВ).

кілё хлеба. Выходзіць, селянін за свой хлеб плаціў савецкай дзяржаве ў сто разоў даражэй, чымся сам быў вымушаны прадаваць савецкай уладзе. Такой ліхвярскай цаны ніякі спэкулянт ня мог узяць: тое, што купіла за капейку, савецкая ўлада прадавала за рубля! На добры лад селянін павінен бы савецкую ўладу судзіць за гэткую ліхвярскую спэкуляцыю, але рабілася наадварот: ліхвяр (савецкая ўлада) судзіла сваю ахвяру (селяніна) за спэкуляцыю. Праўда, да жыхароў Менску савецкая ўлада была ласкавейшая: ён мог выслаць поштай у іншае места СССР да 4 кіляграмаў печанага хлеба.

## ПРОДАЖ ПАРЦЯНАЙ І СУКОННАЙ КРАМНАЙ ТКАНІНЫ

Апрача камэрцыйнага хлеба, тады-сяды ў Менску прадавалася й крамная тканіна. Часамі можна было купіць нават і нядрэннага сукна, але для гэтага трэбала яшчэ вечарам заняць чаргу, дык а 8-й гадзіне рана можна было дастаць адрэз на касьцюм. Часта там-сям прадавалася танная парцяная тканіна[346]. Па гэткую тканіну сяляне, прыехаўшыя зь вёскі, па два дні стаялі ў чарзе. А летам сельскія бабы й падлеткі ў чарзе на ходніках клаліся ўночы адпачываць. Апошнія гады перад вайной міліцыя гэтыя чэргі ноччу разганяла, і не дазвалялася займаць чаргі аж да паўвосьмай гадзіны.

Менск быў найвыдатнейшым местам на захадзе СССР з таго пагляду, што ў ім тады-сяды можна было купіць нейкай тканіны ці абутак. Сюды часамі прыяжджалі людзі ня толькі з Смаленшчыны, але й з Паволжа. Але калі яны пападаліся ў рукі міліцыі ці энкавэдыстым, дык дорага плаціліся. Адзін вайсковы чалавек спыніўся [у нас] і за дзень напрыносіў кавалкаў таннай таўстой тканіны ў шырокія палосы, як на матрац, мусіць, мэтраў каля сарака. Я зьдзівіўся й пытаю:

— *Ці табе столькі патрэбна матрацаў, каб уталкаваць гэты матэрыял?*

— *Што ты, чалавеча, сьмяесься зь мяне?!* — кажа ён. — *Мы даўна сьпім на голай саломе. Гэта я купіў, каб дзецям пашыць якія кашулькі, каб голымі пузамі не сьвяцілі. А дзе там разьбірацца яшчэ ў колерах ды ў якасьцях тканіны!*

Жывучы ў Менску, я кожан год мог раздабыцца на новы касьцюм. Калі хваля натоўпу дапіхвала мяне да касы, я плаціў грошы й атрымліваў квітанцыю, але ня ведаў, якой якасьці й колеру будзе мой касьцюм. А калі хваля даносіла мяне да іншай каморкі, там мне падавалі скрутак тканіны.

[346] ***Парця́ная тканіна*** — тканіна з ільняных ці пяньковых нітак (АВ).

## БАЛЬШАВІЦКАЕ ЎЗГАДАВАНЬНЕ МОЛАДЗІ

У часе НЭПу неяк раз у гутарцы з бальшавіком мы закранулі пытаньне аб узгадаваньні моладзі. Ён мне сказаў:

— *Толькі тады будзе сапраўднае выхаваньне маладога пакаленьня, калі дзеці ня будуць знаць сваіх бацькоў, а бацькі ня будуць знаць сваіх дзяцей. Але цяпер, дзякуючы праклятай спадчыннасьці царызму, мы гэтага зрабіць ня зможам.*

Напэўна, бальшавікі недзе ў Маркса[347] знайшлі гэткую тэорыю, каб узгадоўваць дзяцей не ў сям'і, але ў дзіцячых дамох. Паводле гэтай тэорыі, абавязак маткі — толькі нарадзіць дзіця, а ўзгадоўваць і выхоўваць дзяцей будуць савецкая ўлада й камуністычная партыя.

Пачынаючы зь Першай сусьветнай вайны, а тым больш пасьля Грамадзянскай вайны ў Расеі шмат было беспрытульных, і бальшавікі ў часе ваеннага камунізму й НЭПу[348] маглі практыкаваць сваю тэорыю ва ўзгадаваньні й выхаваньні дзяцей. Але ў савецкіх *дзіцячых яслях* надта малы працэнт дзяцей выжываў, а што й выжылі, дык гаварыць ня ўмелі. Гэткія яслі мне давялося бачыць у 1922 і 1923 гадох у Барысаве, куды прывезьлі дзяцей з Паволжа. А бальшавіцкія дзіцячыя дамы нагадвалі сабой дзіцячыя вязьніцы. Утрыманцы гэтых дамоў былі не падобныя на звычайных нармальных дзяцей, але на нейкіх малых астрожнікаў, дык яны і ўцякалі з гэтых дамоў як з агню.

У часе НЭПу быў такі дзіцячы дом у Астрашыцкім Гарадку пад Менскам. Яго ўтрыманцы пабіліся з адміністрацыяй дому й пакінулі яго. Паслалі міліцыю палавіць гэтых дзяцей, але яны занялі пазыцыю на пляцы, дзе былі звалены старыя бочкі й дрэвы, ды доўгі час адбіваліся ад міліцыі каменьнем і паленьнем. Нашы сяляне ехалі да Менску й назіралі гэту вайну.

У часе сталінскай суцэльнай калектывізацыі, пачынаючы з 1930 году, колькасьць беспрытульных дзяцей у Менску болей як падвоілася за лік дзяцей вёскі й места.

Частка іх была ў дзіцячых дамох, але большыня жыла безь ніякага дому як лета, так і зіму, сама сабой. Харчаваліся крадзяжом на базары з вазоў, пры сьціску ў крамах і трамваях кралі грошы з кішэняў, а найболей галадалі. Зімой грэліся ў калідорах, дзе дзьверы не запіраліся, пры паравых батарэях, на цаґельнях пры печах, на вуліцы пры катлах, дзе разаграваўся асфальт.

---

[347] **Карл Маркс** (1818—1883), нямецкі філёзаф, сацыяліст, эканаміст, суаўтар "Маніфесту камуністычнай партыі", аўтар "Капіталу".

[348] **НЭП (Новая эканамічная палітыка)** — эканамічная палітыка, улучала ўвядзеньне штогадовага харчовага падатку ў вёсцы, дазвол прыватнага гандлю, дазвол замежных канцэсіяў, ператварэньне рубля ў канвэрсаваную валюту.

Аднаго разу ў кіно “Зорка” ў калідоры я задумаў пагаварыць з гэткімі дзецьмі. Выбраў двух самых меншых, якія былі шчыльна прыхінуліся да паравой батарэі й грэліся; аднаму зь іх было каля сямі, другому — каля дзевяці гадоў. Калі яны выйшлі на вуліцу, я пайшоў за імі. Яны мне сказалі, што яны браты, матка іхная памерла, а бацька ў вастрозе.

У гэтых беспрытульных была свая арганізацыя, свой нутраны парадак. Парушальнікаў гэтага парадку строга каралі: білі й выкідалі з арганізацыі, а за вялікае праступства, як здрада (выкрыцьцё) арганізацыі, забівалі. Пачэснымі сябрамі гэтай арганізацыі былі тыя падлеткі, хто зрабіў большае злачынства й ня быў злоўлены, прыкладам, украў шмат грошай або пісталет у трамваі ў вайскоўца ці энкавэдыстага. Гэткія заслужаныя падлеткі станавіліся й правадырамі арганізацыяў. Вялікую заслугу мелі й тыя падлеткі, што пабывалі ў вялікіх і далёкіх местах. Для гэткага падарожжа яны прыладжваліся або пад вагонамі на восях колаў, або між дроў, дошчак ці іншага тавару на адкрытых вагонах. Гэткія падарожнікі ўважаліся за вялікіх герояў ня толькі ў дзяцей на вуліцы, а нават у тых, якія жылі з бацькамі.

Аднаго дня апаўдні я заўважыў, што дзеці нашага двара сталі шыхаліцца[349]. Іх сабралася каля дзясятка, яны паставілі ў браме аднаго вартаўніка, а самі скупіліся ў кутку двара й давай вучыцца песьні аб *“Мурке в кожаной тужурке”*, якая *“зашухарила всю нашу малину, вот за это финку получай”*[350].

Неяк вучань V клясы, над якім я быў шэфам, перастаў наведваць школу, а ён хлопец быў нядрэнны й па вучобе, і па паводзінах. Абавязак шэфа клясы быў даведацца прычыну, чаму вучань не наведвае школу. Дык я ў нядзелю пайшоў да яго на Камароўскую вуліцу. У хаце застаў бацьку, матку й некалькі дарослых хлапчукоў; папытаюся аб гэтым вучню й бачу, што на мяне падазрона глядзяць і неахвотна адказваюць на мае пытаньні. Я пастаяў троху й кажу:

— *Я настаўнік з школы. Гэты хлопец вучыўся ў нашай школе й вучыўся някепска, вось я прыйшоў напомніць яму, каб ён далей наведваў заняткі.*

Разьвітаўся й пайшоў. Неўзабаве даганяе мяне гаспадыня гэтай хаты й кажа з плачам:

— *Калі вы што ведаеце аб гэтым хлапцу, дык, калі ласка, скажыце, бо ўжо блізка два тыдні, як яго ня стала.*

Калі я быў ужо настаўнікам ды ішоў на места, дык заўсёды насіў пры сабе найменей 200 рублёў, бо, бывала, ідучы па вуліцы, напаткаеш, што нешта прадаецца добрае. Я грошы насіў у бакавой кішэні

---

[349] ***Шы́халіцца*** — бегаць, мітусіцца (АВ).

[350] **“Мурка”** — адна з самых вядомых дваравых песень.

нагавіцаў, каб зьвіслыя рукі дакраналіся гэтай кішэні. На прыстанку чакаю трамвая, а рукі пры кішэні. Апошнім уваходжу ў трамвай. Толькі ўзьняў рукі на поручань, стаў на прыступку ды ўвайшоў у вагон, зразу апускаю рукі зноў на кішэнь — аж ужо няма партманэта. На пляцоўцы вагона толькі тры асобы: стары трымае дзьве валізкі, адна пастаўлена на аднэй; нейкі інтэлігент замёр задуманы ды хлапчук гадоў дзесяці стаіць да дзьвярэй задам, гледзячы ў супрацьлежнае дзьвярам вакно. Я зьмерыў вачыма гэтыя тры асобы й думаю: хто першы памкнецца адыходзіць, таго прыйдзецца спыніць. Пачуўся званок — і трамвай рушыўся, а ў гэты час хлапчук каля мяне шмыг ды хацеў на ходу скакаць з трамвая ды закрычэў:

— *Ад мамы астаўся.*

А я схапіў яго за плечы й кажу:

— *Ня бойся, да таты завяду.*

— *Што вы да мяне маеце?* — зьвярнуся ён да мяне.

— *Як што?! Аддай грошы!*

— *Якія грошы? Шукай.*

Я паглядзеў на ягоныя картовыя нагавіцы без кішэняў і картовую блюзку без кішэняў і кажу:

— *Я цябе датуль не адпушчу, пакуль не аддасі грошы.*

А ён мне заўважае:

— *Шукай, дык знойдзеш.*

Я стаў глядзець па кутках, аж там за валізкамі, дзе ён стаяў ля вакна, ляжыць мой партманэт і грошы — усе 200 рублёў у наяўнасьці! Ён быў хоць малы, але адукаваны: заўважыў, што я рукі трымаю на кішэнях, а пасьля спрытна выхапіў грошы, але калі заўважыў, што я агледзеўся ды пазіраю на яго, дык грошы кінуў і хацеў на ходу з трамвая выскачыць. Мусіць, быў у перапудзе.

Аднаго разу мы з маім сябрам ішлі па Савецкай вуліцы ды завярнулі на Ленінскую, аж ззаду нас пачуўся прарэзьлівы жаночы крык. Мы аглянуліся, аж на другім баку Савецкай вуліцы, каля банку, стаіць маладая жанчына, у ваднэй руцэ трымае расшпіленую тэчку, а другой — за руку замазанага хлапчука 13—14 галоў, які сваёй другой рукой дзярэ яе за руку й вырываецца, а пачкі грошай валяюцца каля ходніку — у раштку[351] ў вадзе. Хлопец вырваўся й пабег, а яна сагнулася й стала мокрыя грошы цягаць з вады.

Пры ліквідацыі дзясяткаў тысяч вясковых сем'яў некаторыя бацькі меркавалі, што чымся везьці дзіця на відочную сьмерць у далёкую бязьлюдную пустэльню або на зьдзек катаў-энкавэдыстых, дык лепей гэта дзіця пакінуць у родным краі, хоць і беспрытульным. У ліку гэтых новых беспрытульных былі ня толькі дзеці беларускіх сялян і работнікаў,

[351] ***Раштoк*** — тое самае, што й рыншток, вадасьцёк.

але тут апынулася значная колькасьць дзяцей расейскіх вышэйшых урадоўцаў, а тым больш вайскоўцаў у часе ліквідацыі Тухачэўскага. Беспрытульныя прыбывалі, але бальшавікі дзіцячых дамоў не будавалі, бо й з тых, што былі, дзеці ўцякалі. Тут бальшавікі самі ўбачылі, што іхныя дзіцячыя дамы пératварыліся ў школы крымінальных злачынстваў. Стала відавочным як для пабочных асобаў, гэдак і для саміх бальшавікоў, што дзеці, якія прайшлі праз бальшавіцкія дзіцячыя дамы, рабіліся непапраўнымі злачынцамі, пазбаўленымі людзкой годнасьці на ўсё жыцьцё. Хоць бальшавікі ў 1930-х гадох былі ў цяжкім матэрыяльным стане, але не аддавалі нованабраных дзяцей у свае дзіцячыя дамы — *"школы бясклясавага грамадзтва"* (а лепей — школы крымінальных злачынстваў), але аддавалі ў прыватныя сем'і й плацілі за кожнае дзіця па 200 рублёў на месяц, каб гаспадар карміў яго, адзяваў і ў школу пасылаў. Але ахвотнікаў на такія заработкі страшна мала знаходзілася, а прычын было некалькі: страшэнная кватэрная цесната, больш самастойныя й інтэлігентныя людзі не хацелі зьвязвацца з савецкай уладай, каб пасьля ніякага падатку не налажылі. Маглі квапіцца на гэткі заработак людзі з адмоўнымі паводзінамі, якія й сваіх дзяцей ня ўмелі й не хацелі выхоўваць.

Дзяцей звыш 12 гадоў бальшавікі былі змушаны разьмясьціць па фабрыках. Там для іх былі прыладжаны інтэрнаты. Гэтых дзяцей днём пасылалі працаваць на фабрыку, а вечарамі — у вячэрнія школы. Іх палітычнае выхаваньне ўскладалася на парторгаў і камсамольцаў фабрыкі, а хатняе ў дзявочых інтэрнатах — на пастаўленую фабрыкай жанчыну, а ў хлапцоўскіх — на пастаўленага мужчыну, але гэтыя выхавальнікі ня толькі не былі пэдагогамі, каб у гэткі няўстойлівы ў характары век падлетка маглі іх устрымоўваць ад рознай распусты, але часта самі мелі несамавітыя паводзіны.

Нашую школу наведвалі гэткія дзяўчаты з шальнай прамысловасьці, цукерачнай, цацачнай, галянтарэйнай фабрыкі. Калі каторая вучаніца пакідала наведваць школу, дык прыходзілася ейнаму настаўніку ісьці да яе ў інтэрнат. Мне часамі даводзілася бываць там, калі з маёй падшэфнай клясы вучні пераставалі наведваць школу. Аднаго разу я пайшоў на галянтарэйную фабрыку, бо адтуль добрая вучаніца Філіповіч перастала хадзіць у школу. Там інтэрнат быў у будынку фабрыкі, і мяне туды не пусьцілі, але я, ідучы дахаты, спаткаў яе на вуліцы й пачаў угаворваць, каб яна наведвала школу, што гэта ёй у будучыні згодзіцца.

— *Ды я й сама ведаю, што гэта вучэньне мне ў жыцьці прыдасца, але мне няма як: адно няма чаго абуць (у яе на нагах былі хатнія палатняныя хадачкі*[352]*), а другое, дык вы ня ведаеце, як мне тут дрэнна жывецца, мне няма як і расказаць,* — кажа яна.

— *Што, можа, цяжка працаваць?* — пытаю.

---

[352] ***Хадакі*** — старадаўні жаночы абутак (АВ).

— *А не, працаваць лёгка, але так...* — і ў яе сьлёзы навярцеліся.

Я ёй спагадаў, але ня мог дапамагчы, і мы разьвіталіся.

Тагачасных дзяцей места можна было падзяліць на дзьве групы. Адна зь іх — пасьлядоўцы сямейнага быту, якія стараліся вучыцца й падпарадкоўвацца школьным парадкам. Частка зь іх уступала ў піянэры й камсамол, каб забясьпечыць сабе дарогу ў далейшую навуку.

Другая група хоць і жыла ў сем'ях пры бацьках, але ленавалася вучыцца ды шкодзіла другім дзецям і настаўнікам. Большую частку дня яны праводзілі на вуліцы й, арыентуючыся на так званых *блатных* (па-амэрыканску — маладых бамаў[353]), стараліся быць іхнымі пасьлядоўцамі й пераймаць зробленыя тымі хітрыя й адважныя злачынствы. У выніку ня толькі беспрытульныя зь дзіцячых дамоў ды вандроўныя беспрытульнікі практыкавалі крымінальныя злачынствы, але часта гэтым займаліся й дзеці нават паважных бацькоў.

Як прыклад успомню сям'ю свайго суседа Ламакі, які жыў на нашым двары. У гэтай сям'і былі бацька, матка й два хлопцы. Старэйшы сын вучыўся пільна ды любіў займацца тэхнікай: майстраваў радыёапараты. Меншы сын, Віця, быў спрытны хлопец 12 гадоў, жыў зусім вольна як летам, гэдак і зімой, калі прыходзіў з школы. Летам цэлы дзень бадзяўся без нагляду, бо бацька й матка з раньня да вечара былі на працы, а пасьля працы трэбала то там, то сям стаць у чаргу, каб штось купіць. Як я ўжо ўспамінаў, дзеці нашага двара вучыліся пець *блатняцкую* песьню пра Мурку, дык там і гэты самы Віцька быў. Аднаго разу ён далучыўся да малых дзяцей 3—5 гадоў з нашага двара й пайшоў зь імі ў дом Міхароўскага. Там яму захацелася паглядзець, што ў шафе ёсьць, убачыў ручны гадзіньнік і забраў яго. Пасьля гэтага Віцьку судзілі й далі яму чатыры гады барысаўскай вязьніцы. Ён да вайны адбыў толькі два гады, а калі пачалася вайна, іх пагналі на ўсход, у Расею, але Віцька ў Вязьме ўцёк і вярнуўся дамоў.

З даўніх часоў быў у Барысаве на востраве сярод Бярозы вялізны й прыгожы замак. Расейскі ўрад перарабіў яго ў вязьніцу для крымінальнікаў, а бальшавікі ў пачатку 1930-х — у дзіцячую вязьніцу. Як было вышэй заўважана, пры нацдэмаўскім кіраваньні існавалі чатыры школы для тых вучняў, якія цяжка паддаваліся выхаваньню. Але калі бальшавікі нацдэмаў ліквідавалі, дык скасавалі й гэтыя школы, кажучы: "*Няма благіх вучняў, але ёсьць благія настаўнікі*". Праз 3—4 гады ўсе 50 менскіх школаў па паводзінах вучняў нагадвалі гэтыя чатыры школы. Найгоршымі парушальнікамі школьнага парадку былі дзеці савецкіх вайскавікоў. Калі бальшавікі сваім бязглуздым кіраваньнем зруйнавалі да рэшты дысцыпліну масавых школаў, сталі шукаць вінавайцаў. Вось гэткім казлом адпушчэньня аказаўся дырэктар

[353] ***Бам*** (анг. *bum*) — валацуга, гультай, абібок; люмпэн.

1-й менскай школы Карвякоў, якога судзілі паказальным судом, а віна была тая, што на лекцыі ў часе заняткаў вучань надзеў настаўніцы на галаву кош ад сьмецьця. Хоць Кравякова судзілі й цяжка пакаралі, але гэтым справы не наладзілі. Мне помніцца скарга прафэсара Лявіцкага:

— *Якая віноўніца мая дачка, што яе пасадзілі побач з вырадкам людзкасьці, што яна кожную мінуту мусіць слухаць непрыстойныя словы?!*

Што ж маглі рабіць настаўнікі, калі ў клясе набіралася некалькі гэткіх вырадкаў людзкасьці, якія зрывалі працу на лекцыях і выкрыквалі непрыстойныя словы! Школьны аддзел меставай управы дазволіў дырэктарам выключаць з школы самых горшых хуліганаў, але на іхнае месца прысылалі гэтулькі ж выключаных зь іншай школы, а можа, яшчэ горшых хуліганаў. Калі гэтыя вырванцы праходзілі па чарзе ўсе масавыя школы места, тады прыходзілі запісвацца ў нашыя вячэрнія школы. Ці мог дырэктар школы адмовіцца прыняць гэткіх распусных вучняў? Не! Бо ў гэтым выпадку дырэктару падсоўвалі артыкул Канстытуцыі СССР: *"Кожны грамадзянін СССР мае права на вучобу"*.

На Беларусі былі чатыры дзяржаўныя мовы: беларуская, жыдоўская, расейская й польская. У Менску найболей школаў было беларускіх і жыдоўскіх. Да канца 1930-х гадоў значна пашырыўся лік расейскіх школаў за кошт беларускіх, польскіх і жыдоўскіх, бо польскія й жыдоўскія зусім зьліквідавалі. Жыды-інтэлігенты імкнуліся сваіх дзяцей пасылаць у беларускія ці расейскія школы, а на іх гледзячы, гэта рабілі нізы.

Вялізны працэнт разбэшчаных наглядаўся сярод дзяцей жыдоўскага паходжаньня. Беларускія настаўнікі ўхітраліся пасылаць гэтых разбэшчаных у жыдоўскія школы, бо адтуль у замену ім не было каго прыслаць. Пасылаючы жыдоўскіх дзяцей у жыдоўскія школы, беларускія настаўнікі тлумачылі гэта тым, што тым на сваёй роднай жыдоўскай мове лягчэй будзе вучыцца. Жыдоўскае настаўніцтва тлумачыла распушчанасьць жыдоўскіх дзяцей тым, што гэта дзеці мескіх нізоў, мескай беднаты, але гэта не зусім праўдзіва, бо я заўважаў сярод гэткіх распусных вучняў і сына высокага ўрадоўца.

Калі беларускія школы пасылалі разбэшчаных дзяцей у жыдоўскія дзённыя школы, дык гэта не было такім відавочным, бо жыдоўскіх дзённых школаў было шмат. А вячэрніх жыдоўскіх школаў была толькі адна — 8-я. Дырэктарам яе быў Капчыц — вельмі паважаны чалавек, жыдоўскі патрыёт, на вялікі жаль, зусім глухі. Вось гэткія прэзэнты кожнага дня падсылаюць і падсылаюць, ды пры гэтым дакладаюць артыкул Канстытуцыі: *"Кожны грамадзянін СССР мае права на дармавую асьвету"*. Капчыц адсылае гэткую паперку назад у ваддзел асьветы, дадаючы: *"Калі вы мне пакажаце гэткі артыкул Канстытуцыі, што ўсякі грамадзянін СССР мае права на дармавую асьвету ў 8-й жыдоў-*

*скай вячэрняй школе, дык я толькі тады прыму гэтых разбэшчаных падлеткаў у сваю школу*".

У гэтай школе здарыўся непрыемны выпадак. Вечарам, ідучы з школы, вучні зґвалцілі вучаніцу. Быў паказальны суд, і тут беднага Капчыца пасадзілі на лаву падсудных разам з групай разбэшчаных юнакоў як дырэктара школы.

Як жа бальшавікі перавыхоўвалі малых крымінальнікаў у Барысаўскай дзіцячай вязьніцы? Былі чуткі, што рэжым там быў вельмі строгі: за найменшае парушэньне парадку малыя вязьні сурова караліся боем ды іншымі фізычнымі ўзьдзеяньнямі. Я, праўда, кароткі час меў дачыненьне зь нейкім Кісялём, які чатыры гады адбыў у Барысаўскай дзіцячай вязьніцы. Гэты падлетак быў зусім пазбаўлены сораму й чалавечага гонару. Хоць бальшавіцкія школы былі мешаныя (вучыліся разам хлопцы й дзяўчаты) ды нават быў напамін зьверху, каб і па партах садзілі перамешана, але ў нашай школе садзіліся вольна, дзе хто хоча. Кісель (дзеці жартам яго заўсёды называлі Кампот) сеў ля аднэй спакойнай дзяўчыны. Я нешта пісаў на табліцы[354], але сачыў за паводзінамі Кісяля. Дзяўчына адсоўвалася ад яго, адсоўвалася дый выскачыла з парты. Я быў прымушаны падысьці да Кісяля, узяць яго за каўнер ды выкінуць за дзьверы як збрадлівае[355] кацянё. Ён, праўда, не ўпіраўся.

Апрача хлопцаў, шмат было й дзяўчат амаральных паводзінаў. Адной восені прыходзіць на экзамэн дзяўчына, ростам амаль зь мяне, і піша дыктоўку ў IV клясу. Напісала добра. Калі я выправіў работу й кажу ёй, што паводле дыктоўкі яна можа садзіцца ў VI клясу, яна заўважае, што хоча вучыцца ў IV. На першых занятках мы выбіраем кляском[356]. Хлопцы прапануюць яе ў старшыні, яна не адмаўляецца. Яе й выбралі. Здаецца, гэтага самага дня, на лекцыі беларускай мовы, я выклікаю вучня да табліцы. Ён піша на табліцы сказ, а я стаю ля яго, сачу за пісаньнем і парою — за новай старшынёй кляскому: яна зрабіла з паперы маленькую місачку, наліла ў яе чарніла ды ставіць на маё крэсла. Я гэдаксама вымушаны быў падысьці да яе, узяць за руку й вывесьці за дзьверы. А яна, ідучы праз клясу, толькі хіхікае, безь ніякага сораму.

Наша школа, як і ўсе іншыя вячэрнія школы, лічылася школай для дарослых, дык сачыць за пазаклясНымі паводзінамі вучнёўства як бы не было патрэбы, але былі дзяўчаты-падлеткі, на паводзіны якіх трэба было рэагаваць, іх блатныя нават зь лекцыяў выклікалі. Памятаю, аднаго разу дырэктар выклікаў матку аднэй дзяўчыны жыдоўскай нацыянальнасьці. Гэта маці сказала, што муж у вастрозе, а ў яе малыя дзеці, дый на работу трэба хадзіць, дык яна ня ў сілах пакіраваць сваёй

[354] ***Табліца*** — тут: клясная дошка.

[355] ***Збрадлівы*** — шкадлівы (АВ).

[356] **Кляском** — клясны камітэт.

дзяўчынай, якую зь дзённай школы выключылі. Да маткі другой гэткай дзяўчыны дырэктар мяне пасылаў, каб матка ўзьдзейнічала на яе. Гэта жанчына таксама была бяз мужа. Калі яна пры мне стала лаяць сваю дачку, дык тая толькі сьмяецца. У нашай школе было яшчэ некалькі гэткіх яўна распусных дзяўчат-падлеткаў, але найбольш такога здаралася там, дзе бацькоў пры сем'ях не было.

Каб закончыць разгляд паводзін школьніц менскіх школаў, успомню справу, якая нарабіла ў Менску шмат шуму: бацька застрэліў сваю 16-гадовую дачку й яго судзілі. Гэты камандзір на судзе так тлумачыў справу: ягоная дачка кожнага дня з дому ішла ў школу, але з школы паведамлялі, што дачка школы не наведвае. Ён быццам даведаўся, што ў адных сутарэньнях на Камароўцы[357] наладжаны прытон распусты, куды заходзілі савецкія вайскоўцы. Ён прыйшоў туды, застаў там сваю дачку й там жа застрэліў. Гэдак ён казаў на судзе. Але на вуліцы хадзілі чуткі, што ён пайшоў туды як наведвальнік.

У нашай школе наведваў IV клясу хлопец 14 гадоў, хоць па веку мусіў бы заканчваць VII. Мы ведалі, што ён блатны, але ён трымаў сябе прыстойна. Гэты вучань часта зьвяртаўся да настаўніка за такімі заўвагамі:

— *Вось пабачце, якое прыгожае* ***a*** *я напісаў. У мяне ўсюды гэткія.*

Пасьля ён зьнік з нашай школы. Праз нейкі месяц мы даведаліся, што калі ягоная маці захварэла (а ён жыў толькі з маткай) і яе накіравалі ў шпіталь, ён матчына адзеньне ды ўсе рэчы з хаты прадаў, і самога яго ня стала.

Падобны гэтаму быў другі выпадак у Менску ў часе ліквідацыі Тухачэўскага. Энкавэдыстыя арыштавалі нейкага высокага камандзіра Чырвонай арміі. Ягоная жонка захварэла, і яе накіравалі ў шпіталь. Адзіны іхны сынок застаўся на ўзгадаваньні вуліцы. Пакуль маці прыйшла з шпіталю, дык у кватэры ня стала ні сына, ні рэчаў. Як вялікая рэдкасьць, праз паўтара года быў выпушчаны з бальшавіцкай вязьніцы гэты камандзір, а за гэты час ягоны сын стаў выдатным рэцыдывістам. Бацька яго адшукаў і сам застрэліў, бо ўбачыў, што хлопец ужо загінуў назаўсёды.

Прыбыў у нашу школу ў IX клясу вельмі прыстойна адзеты хлопец 18 гадоў, жыдоўскай нацыянальнасьці. Ягоны бацька працаваў у Маскве ў Камісарыяце прамысловасьці. Хутка выявілася, што сын — вялікі выrванец і трымаць яго ў школе немагчыма. Настаўнікі хацелі яго прагнаць, але дырэктар Бобрык быў партыйны і, відаць, напрошаны сям'ёй, таму праціві́ўся гэтаму, а прасіў настаўнікаў не выганяць. У гэтага вучня самае слабае месца было пісьмовая беларуская мова. Настаўніцкі калектыў абавязаў настаўніка Рублёва (ён жа — пісьменьнік Цімох За-

[357] **Камароўка** — гістарычны раён Мінска. Гэтая ўскраіна была адной з самых занядбаных. У асноўным у прадмесьці сяліліся рамесьнікі й працоўныя.

рэчны[358]) на экзамэне па беларускай мове гэтага вучня не прапусьціць. Перад экзамэнамі празь Менскі аддзел народнай адукацыі падае заяву адзін хлопец, каб яго дапусьцілі трымаць экзамэн у X клясу, ну й прыйшоў на экзамэн. Рублёў і другі настаўнік сядзелі на экзамэне й не маглі дапільнаваць, як гэты чужы хлопец перадаў нашаму вырванцу чарнавік, так вырванец напісаў сваю работу на "добра". А чужы хлопец сказаў, што для яго гэткая тэма зацяжкая й ён ня мог напісаць гэтай работы, і болей на экзамэн не пайшоў.

На наступны, 1939 год сын камісара наведвае X клясу. Але ў лістападзе яго й ягонага сябры няма ў школе тыдзень, другі, а на трэці прыходзяць з стрыжанымі галовамі: сядзелі ў вязьніцы за тое, што ў трамваі ў нейкай жанчыны ўкралі ручную торбачку, а там было трохі грошай і кніжка з касы ашчаднасьці на вялікую суму. Яны пайшлі ў касу атрымліваць гэтыя грошы; там іх папрасілі пачакаць, а потым прыйшлі міліцыянэры й адвялі іх у вязьніцу. Іх судзілі, а паколькі кража не ўдалася, дык суд іх унявіньніў. Яны прыйшлі зноў у школу й нават ганарыліся, што не абы з кім сядзелі, але зь лейтэнантамі й нават маёрамі, якія паадставалі ад эшалёну ехаць у Фінляндыю на вайну.

Нарэшце пад вясну 1940 году яго выкінулі з школы. А было так. Ён стаў на лекцыі дражніцца з настаўніцай — пачаў, як малое дзіця, па чатыры разы прасіцца, каб выйсьці вон. Настаўніца на яго крыкнула, каб сеў і не дакучаў ёй, дык ён тады намачыў пад партай. Вось за гэта яго й адправілі.

Вышэй успомнены вучань нашай школы, сын камісара, быў улічаны ў зладзействе, сядзеў у вязьніцы, але суд унявіньніў яго бадай толькі за тое, што ён быў сынам партыйца й высокага ўрадоўца.

Але былі іншыя вучні нашай школы — і паважныя, і сумленныя, якія папаліся пад суд. Напрыклад, вучаніца Лібік зь Людамонту, прыгожая й шустрая дзяўчына. Калі трэбала часам напісаць практыкаваньне для клясы на кляснай дошцы, дык гэту работу я заўсёды даручаў ёй. Яна вельмі шпарка й беспамылкова выконвала яе й перш за іншых запісвала ў свой сшытак. Настаўніца матэматыкі гэдаксама хваліла яе як найлепшую вучаніцу. Яна знайшла сабе працу ва ўнівэрсальным магазыне ў аддзеле касмэтыкі: прадавала духі, памаду ды інш. Празь некалькі месяцаў працы знайшлі ў яе недалікі ў грашах і засудзілі на некалькі гадоў вязьніцы.

---

[358] **Цімох Зарэчны** — адзін з псэўданімаў пісьменьніка **Цімоха Рублёва** (1910—?). Скончыў ВПІ. У 1930-я гг. працаваў у "Савецкай Беларусі", на радыё, у Інстытуце школьнай пэдагогікі, настаўнічаў. Падчас нямецкай акупацыі настаўнічаў на Нясьвіжчыне. Паводле адных зьвестак, улетку 1944 г. выехаў у Польшчу, дзе жыў пад прозьвішчам Лукашэвіч, паводле іншых — загінуў у часе бамбёжкі каля Гародні. У Бэрліне ў сэрыі "Народная бібліятэчка" выйшла яго кніга "Адам і Ева. Чабор. Апавяданьні".

Іншая дзяўчына, Марыля Акулава, працавала на “Эльводзе”, дзяжурыла пры паравым катле. Калі восеньню 1938 году ў часе гітлераўскай акупацыі Чэхіі была зроблена мабілізацыя, празь недахоп работнікаў яе прымусілі працаваць на дзень па 16 гадзін, а на сон, на падарожжа на працу, на яду й на закуп прадуктаў — астатнія 8 гадзін. І гэдак некалькі тыдняў. Ад гэтай напружанай работы і ў гарачыні яна захварэла на ішыяс (запаленьне сядальнай нэрвы), з паўгоду ляжала ў шпіталі, а летам сабрала ўсе запасы грошай і паехала на курорты на Каўказ. Там як бы паправілася. Але калі прыехала дамоў да Менску позна ўночы, трамваі ўжо не хадзілі, дык пакуль яна прыйшла слотнай ноччу з станцыі на пасёлак Старажоўку, дык хвароба зноў вярнулася. Цяпер яе ў шпіталь чамусьці не ўзялі, а далі сацыяльнае забесьпячэньне, на якое ня можна было й тыдня пражыць. Яна прымушаная была ісьці на тую самую працу, хоць і хворая, і кульгавая. Яна хоць і загадзя прыйшла да трамвая, але людзі, як шалёныя, перліся на трамвай, і ёй не ўдалося сесьці, а пакуль прыйшоў другі трамвай, дык яна ўжо трохі й спазьнілася. Яе да працы не дапусьцілі й накіравалі на суд, бо гэта было ў 1939 годзе, калі выйшаў шалёны закон, што за спазьненьне на некалькі мінут на працу судзілі й пасылалі працаваць у кацэт. Ад першага разу яе не засудзілі, а адлажылі суд, але да працы не дапусьцілі, хоць і ня звольнілі, і яна не магла другой працы шукаць, а сродкаў на жыцьцё не было. І вось гэткі стан жыцьця быў горшы за кацэт. Ня ведаю, калі й чым тая справа скончылася, бо пасьля яе бачыць ня здарылася.

## ШКОЛА ДЛЯ ДАРОСЛЫХ № 3

Зімой 1935 году я закончыў Вышэйшы пэдагагічны інстытут і вясной гэтага ж году быў прызначаны на працу ў 3-ю менскую школу для дарослых выкладаць беларускую мову й літаратуру. У гэтай вячэрняй школе, як і ў іншых менскіх вячэрніх школах, вучні падзяляліся на тры групы. Адна, бадай што большая частка, — тыя падлеткі, якіх за благія паводзіны выкінулі зь дзённых школаў. Да другой групы належала вясковая моладзь, якая ўцякла зь вёскі ад калгаснага прыгону ў Менск і ўладзілася на працу, і моладзь места, вымушаная па тых ці іншых прычынах працаваць. Трэцяя група — камуністыя й фахоўцы з фабрык, якім недахоп асьветы перашкаджаў пасоўвацца на вышэйшыя пасады, але гэта група была самая меншая й скора школу пакінула. Цягучайшая была моладзь, якая прыбывала зь вёсак.

Я ў папярэднім разьдзеле ўжо спыняўся на першай групе, што складалася з падлеткаў места, якіх выгналі зь дзённых школаў. Яны бальшынёй мелі бацькоў, але гэтыя бацькі або мала дбалі аб сваіх дзецях, або нічога не маглі зь імі сабе парадзіць.

Працаваць у вячэрняй школе было трохі выгадней, як у дзённай, бо ў часе бальшавіцкіх сьвятаў ня трэбала вадзіць сваіх вучняў

на дэманстрацыі й парады. За палітычнае й ідэалягічнае выхаваньне ў гэтых школах настаўнікі меней былі адказнымі, бо вучні ўважаліся работнікамі з прадпрыемства, дзе за іхнае палітычнае выхаваньне адказвалі парторгі, а за маральнае — прафсаюзы.

Калі мы восеньню ўкамплектоўвалі сваю школу вучнямі, то стараліся набраць як найболей, каб утварыць дзьве аднолькавыя (паралельныя) клясы, тады настаўнікі мелі двайную пэнсію, а калі набраць работнікаў з тых фабрык, дзе праца вядзецца па дзьве ці тры зьмены, тады гэтыя клясы праводзілі заняткі на дзьве зьмены, а значыць, праца настаўнікаў аплочвалася ўдвая. Мы заўсёды стараліся набраць паралельныя клясы так, каб адна зь іх была пісьменнай, тады кожны настаўнік адну лекцыю на дзень паўтараў тры разы й меў трайную аплату. Пасьля ўкамплектаваньня школы вучнямі зараз жа рабіўся й адсеў. Але настаўнікі стараліся, каб хоць штучна падтрымаць гэткае ўкамплектаваньне да лютага, тады першапачатковая пэнсія захоўвалася настаўніку да канца навучальнага году.

Вучні вуліцы, блатныя, запісваліся ў школу не дзеля таго, каб вучыцца, а дзеля таго, каб дома перад бацькамі было чым апраўдацца, што яны займаюцца паважнай справай, але найгалоўнейшай прычынай было тое, што школа была зборышчам, дзе яны маглі спатыкацца з гэткімі самымі сваймі сябрамі.

Я ўжо заўважаў, што распусныя былі ня толькі хлопцы, але й дзяўчаты. Звычайна яны восеньню трымалі экзамэн на кляс ніжэйшы, чымся мелі веды, каб праходзіць тую праграму, якая ім была ўжо вядомая. Калі пасьля ўкамплектаваньня школы зараз жа пачынаўся й адсеў, адны самі пакідалі школу, а іншых прыходзілася выкідаць за дрэнныя паводзіны. Калі пажаданыя для школы вучні пакідалі школу, настаўнікі хадзілі да іх па кватэрах і заклікалі вярнуцца, а калі гэткія вучні мелі бацькоў ці апекуноў, дык настаўнікі напаміналі ім пасылаць дзяцей у школу. Да лютага-сакавіка бальшыня вулічных дзяцей адсявалася са школы, але частка зь іх не пакідала школы, аднак прыходзіла не вучыцца, а толькі шкодзіць настаўнікам і тым вучням, якія хацелі вучыцца. Часам станеш ім пагражаць:

— *Калі вы самі ня будзеце вучыцца, а будзеце перашкаджаць іншым, дык на экзамэне пастаўлю “два”.*

А яны, ведаючы ўмовы савецкай школы, пачынаюць жартаваць:

— *Вы, настаўнікі, на экзамэнах палéпшаеце: вы падпісалі соцумову*[359] *даць 100 % пасьпяховасьці. Калі вы нас не прапусьціце, вас саміх звольняць з працы за парушэньне соцумовы.*

---

[359] ***Соцумова, або соцабавязацельства*** (рас. *социалистическое обязательство*) — плянавы абавязак, які мусіў браць на сябе працаўнік савецкага прадпрыемства, арганізацыі, установы.

Але мы мелі адзін сродак барацьбы з гэтымі неслухамі: калі вучань за месяц прапусьціць 25 % лекцыяў, школа мае права выдаліць яго вон са школы. Так і рабілі. Усе непатрэбныя вучні былі вылучаны[360], і школа давала добры працэнт выпускаў, хоць да вясны ў школе заставалася нават меней як 25 % тых вучняў, што паступілі восеньню.

Апрача вышэйуспомненых вучняў-шкоднікаў былі вучні старалыя да навукі й з добрымі паводзінамі. Адзін хлопец, матка якога была ўдава з малымі дзецьмі, днём працаваў, а вечарамі вучыўся вельмі добра. Ён быў вялікім любосьнікам кінафільмаў. Калі, бывала, мы ідзем дамоў з школы, дык ён пералічаў добрыя й дрэнныя бакі фільмаў, а найболей захапляўся амэрыканскімі. Былі два хлопцы Дзікі — пільныя й здольныя. Быў адзін хлопец, аматар да пісаньня. Я пытаю:

— *Як гэта робіцца, што ты граматыкі ня ведаеш, а добра пішаш?*

А ён адказвае:

— *У друкарні наборшчыкам працую.*

Было шмат пільных да навукі дзяўчат, што прыбывалі зь вёсак, з чыстай сакавітай беларускай мовай, але хутка, калі пачалі ўрастаць у мескае жыцьцё ды па вечарох сталі выходзіць на вуліцу на шпацыр, дык замест прыгожай беларускай мовы загаварылі на мескім жаргоне — і пільнасьці да навукі ня стала.

Як прыклад на гэткія выпадкі ўспомню Яню з Койданаўскага раёну. Гэта была дзяўчына 17 гадоў, адна з найпільнейшых вучаніц у клясе. Першыя два гады яна працавала ўдзень за хатнюю работніцу. Неяк раз яна пахвалілася, што энкавэдысты абяцаў уладзіць яе на працу ў сталоўку за афіцыянтку. Калі стала працаваць у сталоўцы, дык і чыстая яе беларуская мова стала ператварацца ў нейкі жаргон, зьнікла й пільнасьці да навукі, яна пачала часта прапускаць заняткі, а нарэшце й сшыткі стала падпісваць замест *Яніна* — *Ніна*. Я, выпраўляючы сшыткі, ёй заўважыў:

— *Як гэта сталася, што ты сваё імя перамяніла? Прозьвішча часамі можа мяняцца, калі дзяўчына замуж выйдзе, а імя й тады не мяняецца.*

Яна, як бы трохі засаромеўшыся, адказала:

— *Мне кажуць, што Яніна — гэта нехарашо, па-дзеравенску, а Ніна — гэта правільна.*

Дырэктарам 3-й вячэрняй школы быў Падвышанскі, малады настаўнік. Любіў выпіць. Быў майстра сваёй справы, бо ўмеў канцы хаваць, калі былі дзе недахопы, а гэтых недахопаў у тыя часы ўсюды было. Ён умеў выкручвацца ад падпіскі на аблігацыі й дзяржаўныя пазыкі. Звычайна па ўсіх фабрыках і ўстановах падпіска рабілася вясной, а ён марудзіў да канца навучальнага году, а потым наступалі летнія вака-

[360] ***Вылучыць*** — тут: выключыць.

цыі. А восеньню, пакуль укамплектуецца школа, дык падпіска рабілася толькі з кастрычніка — на палову меншая. Я й Рублёў выкладалі беларускую мову й літаратуру, расейскую — Арэф’ева, шваґерка Ўсевалада Ігнатоўскага, арытмэтыку — настаўніца Д., а фізыку — ейны муж. Зімой 1938 году дырэктара звольнілі за тое, што ў клясах Арэф’евай па расейскай мове пасьпяховасьць была ніжэй за 30 %. Дырэктар ёй прапанаваў паправіць гэтыя лічбы, але яна гэтага не зрабіла. У школах, дзе выкладалася беларуская мова й расейская, часта адна мова шкодзіла другой, але беларуская мова мела перавагу над расейскай, бо ў беларускай мове гэдак пішацца, як чуецца. Уважлівы вучань па-беларуску мог правільна напісаць і ня ведаўшы добра граматыкі. Але беларускія дзеці паводле гэтага прынцыпу пісалі й на расейскай мове.

Пасьля звальненьня Падвышанскага прыслалі дырэктарам Майсея Казіміравіча Бобрыка. Ён часта выпіваў, быў блізкім сябрам да кожнага настаўніка, нікому ніякай заўвагі не рабіў. Хоць быў партыйны, але высьмейваў бальшавіцкія парадкі. У 1940 годзе, калі акупавалі Летуву, Латвію й Эстонію, ён быў у арміі, таму аднаго разу нам, настаўнікам, з захапленьнем апавядаў, як высака ўзьняўся дабрабыт эстонскага селяніна за 20 гадоў незалежнага жыцьця.

Неяк вясной 1941 году я спаткаўся зь ім позным вечарам на Нізкім рынку[361]. Бобрык быў п’янаваты, гутарка зайшла аб савецкай уладзе; бальшавіцкую палітыку ён называў вар’яцкай і высьмейваў яе. Я толькі пазіраў наўкола, каб нікога блізка не было, ды імкнуўся хутчэй уцячы ад яго.

Калі Бобрыка мабілізавалі, яго замяняла нейкая камуністка Казлова. Яна нам апрыкрала тым, што прымушала настаўнікаў вывучаць гісторыю камуністычнай партыі: кожны настаўнік па чарзе мусіў распрацаваць тэму й зрабіць даклад перад настаўнікамі сваёй школы. На маю долю выпала чарга рабіць даклад 23 чэрвеня 1941 году.

Аднаго разу я спаткаў настаўніцу сваёй школы Д. Яна мне кажа, што бачыла на вуліцы Кузьму Чорнага[362], які выглядаў надта страшным. Гэта было тады, калі пасьля доўгага часу зьняволеньня (здаецца, у 1938 годзе), яго выпусьцілі з падзямельля НКВД. Пасьля яна мне й кажа, што вельмі непрыхільна ставіцца да Чорнага, бо, калі была ва ўнівэрсытэце, Чорны заляцаўся да ейнай сяброўкі й доўга зь ёй дружыў, а пасьля пакінуў, дык тая студэнтка доўга хварэла дый памерла.

Працуючы ў 3-й вячэрняй школе, у 1937/38 навучальным годзе я выкладаў беларускую мову і ў 13-й вячэрняй школе. Аднаго разу

361 **Нізкі рынак** — цэнтральная гандлёвая плошча Старога гораду. Цяпер называецца плошча 8 Сакавіка.

362 **Кузьма Чорны** (сапр. *Мікалай Раманоўскі*, 1900—1944), празаік, публіцыст. Арыштаваны 14.10.1938. Прасядзеў у Мінскай турме 8 месяцаў, зь іх 6 — у камеры-адзіночцы. Быў катаваны. Вызвалены 08.06.1939.

пасьля Новага году я прыйшоў у гэту школу на працу. Мне трэбала даць дзьве лекцыі ў VI клясе, а ў V клясе меў даць дзьве лекцыі настаўнік Казак (ня памятаю, які прадмет ён выкладаў). Калі пасьля першай лекцыі мы прыйшлі ў настаўніцкую, я бачу, што Казак у твары зьмяніўшыся й кажа мне, што яму моцна жывот забалеў і ён ня можа далей займацца з вучнямі ды пытае, ці ня мог бы я займацца з V клясай. Я сказаў, што не магу, бо маю лекцыю ў VI. Ён V клясу адпусьціў і пайшоў дамоў. Праходзяць дні, а яго ўсё няма й няма. Я пытаюся ў дырэктара:

— *Ці Казак яшчэ хварэе, чаму яго няма?*

Дырэктар адказаў, што ён у нашай школе ўжо не працуе. Але мне пазьней адна старая настаўніца сказала, што быццам яго арыштавалі. Прайшла вясна, лета, а восеньню я пайшоў на восеньскую настаўніцкую канфэрэнцыю й там спаткаў Казака. Праўда, я яго не пазнаў, бо ён гэдак быў высахшы, што я ніколі жывога чалавека гэткага ня бачыў. Ён першы загаварыў да мяне:

— *Вось што зь мяне зрабілі, а я нявінна празь людзей пакутаваў.*

А гэта быў ня просты чалавек, але камуністы.

## ІНСТЫТУТ ШКОЛЬНАЙ ПЭДАГОГІКІ

Гэта была вышэйшая навуковая пэдагагічная ўстанова, дзе павінны былі разьвязвацца вышэйшыя пэдагагічныя пытаньні. Ня ведаю, як працаваў гэты інстытут пры нацдэмах і хто быў яго дырэктарам, але пасьля ліквідацыі нацдэмаў усё беларускае зь яго выкінулі, і ён працаваў толькі на расейскай мове. Штат быў вялікі, але ніхто ніколі нічога не рабіў: некаторыя штатныя навукоўцы (а навуковымі супрацоўнікамі тут былі расейцы й жыды) заглядалі ў інстытут ня болей як раз на тыдзень. Зь беларусаў толькі адзін Сядура[363] працаваў там навукоўцам, але ў аддзеле расейскай літаратуры. Ён там пісаў і абараняў нейкую навуковую працу, здаецца, на тэму "Горкі аб Лермантаве"[364].

---

[363] **Уладзімер Сядура** (псэўд. **Глыбінны**, 1910—1995), пісьменьнік, літаратуразнаўца, культуроляг. Уваходзіў у літаратурнае аб'яднаньне "Маладняк". Ад 1931 г. сябра Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменьнікаў (БелАПП), узначальваў яе моладзевае крыло (разам з Б. Мікулічам і С. Ліхадзіеўскім). Арыштаваны ў 1933 г. у Маскве, высланы на тры гады ў Сібір, у 1935 г. датэрмінова вызвалены. У 1941 г. абараніў кандыдацкую дысэртацыю. У 1942—1944 гг. галоўны рэдактар часопісу "Новы шлях" (Рыга). Друкаваўся ў "Беларускай газэце". Удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку ў Нямеччыне. У 1951 г. перабраўся ў ЗША. Узначальваў катэдру сучасных моў і рускай літаратуры ў Школе гуманітарных навук Рэнсэлерскага політэхнічнага інстытуту ў Троі (штат Нью-Ёрк).

[364] Дысэртацыя Ўладзімера Сядуры мела назву: "Максім Горкі як гісторык рускай літаратуры".

Я там працаваў на пасадзе малодшага навуковага работніка, але фактычна быў сакратаром масавага сэктару. Звычайнай маёй работай было атрымоўваць лісты й запытаньні зь месцаў, якія я павінен быў раздаваць фахоўцам-навукоўцам для распрацоўкі, а пасьля, калі навуковец напіша, адсылаць адрасату.

Найболей настаўнікі прысылалі запытаньняў, як выкладаць тыя ці іншыя тэмы з расейскай літаратуры. На такія лісты адказваў прафэсар Тэпін[365]. У часы ліквідацыі нацдэмаўшчыны ён сядзеў у НКВД і ад гэтага набыў хваробу сэрца, дык ён з гэтымі адказамі быў вельмі асьцярожны: на цяжкія пытаньні або не адказваў, або адказваў загадкава. Прыкладам, пытаньне гэткае: *"Як распрацоўваць на лекцыі з вучнямі творы Маякоўскага?". "Маякоўскага трэба навучыцца чытаць",* — адказвае Тэпін. Я заўважыў:

— *Гэткі адказ ані не пацешыць настаўніка.*

— *Я ж нічога не магу з пальца высмактаць, каб адказаць на гэткае пытаньне,* — сказаў Тэпін.

Аднаго разу я атрымаў вялікі артыкул ад настаўніка Яна Лобача з Барысава. Ён быў напісаны па-беларуску й на тэму беларускай мовы. А паколькі не было Беларускага сэктару, дык я перадаў яго прафэсару Тэпіну. Ён чытаў, кратаючы вусамі, а потым палажыў у столік ды пачаў шпацыраваць па кабінэце, а пасьля зьвяртаецца да мяне:

— *Вы чыталі гэты артыкул?*

— *Чытаў!* — адказваю.

Ён тады расставіў рукі й стаіць. Я засьмяяўся й кажу:

— *Не бядуйце шмат, гэты чалавек прызнаны вар'ятам.*

Тады ён засьмяяўся й выпрастаўся — як бы сто пудоў зь яго звалілася, потым узяў гэты ліст з століка й аддаў мне.

Праўду кажучы, беларуская мова шмат клопату рабіла расейцам, якія жылі й вучыліся на Беларусі. Сама расейская мова ў бальшыні акаючая, а правапіс окаючы. Расейскі правапіс засвойваецца маторнай памяцьцю. Прыкладам: яны дыктуюць *малако*, а рука сама піша *молоко*. А калі гэтыя самыя вучні пішуць то па-расейску, то па-беларуску, гэтыя самыя словы й гэтымі самымі літарамі, дык маторная памяць тут дзеяць ня можа. Два жыдкі з нашай школы езьдзілі ў Маскву ў нейкую вышэйшую школу паступаць, дык па ўсіх прадметах здалі, але па расейскай мове зрэзаліся — пісалі, што праклятае аканьне падвяло.

Дык вось расейскія бальшавікі надумаліся рабіць новую рэформу беларускага правапісу. Яны мелі за 1938 год падрыхтавацца, каб з новага навучальнага 1939/40 году новую рэформу правесьці ў жыцьцё.

---

[365] **Васіль Тэпін** (1884—?), настаўнік, спэцыяліст у галіне выкладаньня рускай і беларускай моваў, рускай і беларускай літаратураў. Сумесна зь Якубам Коласам напісаў падручнік "Мэтодыка роднае мовы".

Згодна гэтай рэформы, характэрныя асаблівасьці беларускай мовы, як аканьне, дзеканьне й цеканьне, мусілі адпасьці. "Лепшыя" настаўнікі места Менску на сваім паседжаньні гэта адобрылі й прывіталі, а Барысенка напісаў у "Звязду" вялікі артыкул, дзе падрабязна выкладаў гэтыя рэформы: *"Калі беларускія дзеці чытаюць расейскія кнігі, дык не зважаючы, што там часта стаіць ненаціскное **о**, усё роўна акаюць. А калі ў беларускіх тэкстах будзе стаяць ненаціскное **о**, дык беларусы ўсё роўна гэтыя словы будуць акаць. Калі мы ўвядзём гэтую рэформу, дык заашчадзім шмат часу, які нашыя дзеці трацяць у школе на вывучэньне беларускай граматыкі, бо яна тады станецца непатрэбнай. Тое самае зь дзеканьнем. Беларусы заўсёды дзекаюць, калі чытаюць расейскі тэкст. А калі ў беларускім тэксьце да **д** ня будзе дадавацца **з**, дык беларусы ўсё роўна будуць дзекаць. А колькі ж лішняга месца ў кнізе займае гэтае непатрэбнае **з**. Безь яго кожная кніга скароціцца на некалькі старонак"*.

Дык вось Ян Лобач, настаўнік з Барысава, і выступіў з сваім артыкулам супроць Барысенкі. Артыкул быў напісаны ў вытрыманым стылі й вельмі добра абдуманы, у ім між іншага Лобач пісаў: *"Лепшыя расейскія вучоныя змагаліся й гінулі ў 1905 годзе за тое, каб у расейскую мову ўвесьці аканьне"*. У заканчэньне ён заўважыў: *"Мы часта шукаем ворагаў народу, шкоднікаў і дывэрсантаў, але ці ж можна знайсьці горшага шкодніка, дывэрсанта й ворага беларукага народу, як Барысенка, які напісаў гэткі шкодны й бязглузды артыкул"*.

Мой сябра з Барысава апавядаў мне аб гэтым Яну Лобачу. Гэта быў стары чалавек, звыш 70 гадоў, жыў у вельмі жахлівых матэрыяльных умовах (адна старая жыдоўка дала яму кут ды сім-тым дапамагала). Відавочна, яму жыцьцё ўжо апрыкрала, і ён уважаў сьмерць сваім збаўленьнем, таму стаў публічна выказвацца супроць бальшавікоў. Настаўнікі школы, дзе ён працаваў астатні час, назвалі яго вар'ятам, ды гэта сама пацьвердзілі й дактары.

У Барысаве НКВД пабудавала новы будынак для сваёй управы й вязьніцу з навачаснымі[366] ўладжаньнямі. Ніхто не адважваўся й блізка сюды падыходзіць. Аднаго разу Ян Лобач пайшоў туды — аж у самы будынак. Там яго пытаюць:

— *Чаго ты сюды прыйшоў?*

— *Прыйшоў паглядзець, як вы тут уладзіліся,* — адказаў Лобач.

Яго затрымалі. Калі папыталіся, хто ён, дык ён і адказаў:

— *Настаўнік барысаўскай школы Ян Лобач.*

Яны пазванілі да дырэктара гэтай школы. Дырэктар адказаў:

— *Ганіце яго, гэта вар'ят.*

Яго прагналі. З таго часу Ян Лобач стаў зусім вольным чалавекам.

[366] ***Навачасны*** — сучасны.

За час майго прабываньня ў гэтым інстытуце ў Менску адбываліся важныя падзеі: капаньне возера на Сьвіслачы ў ваколіцы Драздоў; увядзеньне для службоўцаў васьмігадзіннага працоўнага дня; увядзеньне пакараньня некалькімі гадамі кацэту за спазьненьне на працу. Для капаньня Менскага возера фабрыкі й прадпрыемствы Менску пасылалі сваіх людзей у парадку грамадзкай павіннасьці, найболей па сьвяточных днях, але за два гады гэтай працы амаль ніякага знаку не было. Аж калі на трэці год перадалі гэту работу органам НКВД, дык меней, чымся праз год возера было выкапана кацэтнікамі, якія трапілі ў кацэт, спазьніўшыся на некалькі мінут на працу. Увядзеньне для службоўцаў працы восем гадзінаў на настаўнікаў мала паўплывала, бо нам і так плацілася ад лекцыі, а толькі трохі было боязна, каб ранкам на лекцыі ў пару прыйсьці, але гэтыя раньнія лекцыі ў мяне здараліся рэдка. А ў інстытут я ішоў на працу зь першай гадзіны дня, дык ніколі ня мог спазьніцца.

## ДАМАШНЯЯ ГАСПАДАРКА

Шмат было клопату старэйшаму брату на гаспадарцы, пакуль павазіў сена, салому, лён, пяньку, бульбу, збожжа й жывёлу на прыёмныя пункты. А ў дадатак да гэтага “кулакам” накладалі вялікую фурманачную павіннасьць — болей як удвая, чымся іншым грамадзянам. З збожжам выкуркуляваліся[367] толькі дзякуючы таму, што былі запасы з папярэдніх гадоў.

Вясной 1932 году ў калгасах не хапала харчоў для статку й статак дох. У некаторых калгасах рэзалі сечкі для статку з дробнага гальля — бярэзьніку, лазы, дык ад гэткіх харчоў статак адразу дох. Гэткім калгасам было дазволена езьдзіць па вёсках ды браць, дзе знойдуць, харчы для статку ў аднаасобнікаў. Дзе гаспадар-аднаасобнік быў вольным ды пачынаў крычэць, лаяцца, дык трохі пакідалі харчоў, а ў нашых, як у “кулакоў”, забралі усё. У наступны й далейшыя гады гэдаксама вялікі падатак накладалі, але трохі меншы, як у 1931 годзе. Дый тое было добра, што за яравое можна было плаціць грашыма, г. зн. можна было тут на складзе купіць збожжа (авес, ячмень) па 15 рублёў за пуд і тут жа здаваць, а лепей сказаць, за належную колькасьць збожжа можна было заплаціць грашыма, але тое было дзіўна й сьмешна, што тут жа бралася 15 % надбаўкі за кепскую якасьць збожжа. Асабліва шмат патрабавалася кожнага году здаваць валакніны — лёну й пянькі.

Апрача гэтага, шмат людзей патрабавалася ў кацэты на цяжкія работы. Гэтых людзей трэбала набраць зь сялян, але перш трэбала іх за нешта засудзіць. Аднаго разу прыйшла ў сельсавет гэткая раскладка

[367] ***Вы́куркулявацца*** — умела выдаткавацца, каб зьвесьці канцы з канцамі (АВ).

на некалькі чалавек. У ліку іх было пастаноўлена майго брата здаць пад суд за невыкананьне здачы валакніны, калі да 15 сакавіка ня здасьць. Ён у гародзе прысеяў шмат канапель і намяў шмат пяньці ды на 15 сакавіка павёз у Лагойск здаваць. Там валакніну прымалі ў касьцёле. Чарга была вялікая, і яму не было надзеі здаць. Калі ён у чарзе дайшоў да закрыстыі, дык на яго шчасьце тут дзьверы адчыніліся й зьявіліся з вагой другія прыёмнікі, ды ён здаў сваю пяньку й да вечара прыехаў дамоў. Калі вечарам прыйшлі правяраць ягоныя цэтлікі аб здачы, каб назаўтра судзіць, ён ужо меў дакумэнты, што здаў пяньку.

У гаспадарцы было патрэбна шмат грошай: плаціць падатак, плаціць самаабкладаньне, плаціць падаходны падатак, падатак ад базару, хоць там ніколі й ня быў. На гэта ўсё я мусіў вымярґоўваць з сваёй пэнсіі, каб выкручвацца ад суду й высылкі. У 1932 годзе заснаваўся ў нашай вёсцы калгас. Лепшую зямлю каля блізку забралі пад калгас, а ўзамен яе далі далёка ад вёскі пустую зямлю ды дзірваны. З кожным годам плошча пасеву зьмяншалася, а на паперы кожнага году паўгектара дабаўлялі. Замест 4 гектараў ворнай зямлі, якой у нас было з даўніх часоў, у 1935 годзе лічылася ўжо 7, за якія мусілі здаваць збожжа, нарыхтоўкі й плаціць падаткі, а сапраўды абсявалася ня болей як два гектары.

Калі вясной 1933 году мой маладзейшы брат Казюк загінуў, дык роўна праз два гады энкавэдыстыя з Лагойску праз сваіх агентаў распусьцілі чуткі, што мой брат вярнуўся: прыехаў у Швабы (дзе жыў, пакуль арыштавалі), аж там жонкі й дзяцей не застаў, дык невядома, ці ён паехаў у Смаленшчыну жонкі шукаць, ці дзе ў Міхалкавічах хаваецца. І НКВД даручыў сваім агентам, каб падгледзелі, дзе ён хаваецца.

Я гэтыя плёткі пачуў у часе зімовых вакацыяў 1934/35 году, дык хоць і сумляваўся ў праўдзе, але наважыў туды паехаць. Сеў на цягнік і прыехаў вечарам на станцыю Стадолішча. Да таго месца, дзе жыла братаўя[368], было каля 8 кілямэтраў. Каб не марнаваць цэлай ночы на станцыі, я папытаўся дарогі й пайшоў. Мне сказалі, што трэба ісьці гасьцінцам, а далей пайсьці на першую дарогу направа, што будзе перасякаць гасьцінец. Сьвежы сьнег быў прайшоўшы, дык я не заўважыў гэтай дарогі й прайшоў каля 10 кілямэтраў гасьцінцам, калі пайшла праз гасьцінец направа вялікая дарога. Я й пайшоў ёй яшчэ каля 10 кілямэтраў, калі ад гэтай дарогі сталі адыходзіць меншыя дарогі, а наастатак гэта дарога ў лесе скончылася. Я стаў рабіць кругі, каб напасьці на сьлед тэй вялікай дарогі, якой я ішоў, але гэткіх шмат пападалася, і я пакуль што быў прымушаны пайсьці аднэй гэткай дарогай. Мароз быў вялікі, больш –30°. Я быў адзеты й абуты нядрэнна: на нагах суконныя шкарпэткі, а на плячах ватнае паліто, але чаравікі зьмерзьліся, і я зусім быў змарыўся й ня мог ісьці.

[368] ***Братаўя*** — братавая, братава жонка.

Перада мной далёка-далёка паказаліся агеньчыкі. Я пайшоў на іх, а гэта аказаліся расьселеныя сталыпінскія хутары. Якраз была калядная ноч, а ў гэтых людзей на Каляды ня гасяць агнёў. Я прыйшоў да аднэй хаты ды пачаў стукаць у дзьверы, а потым у вакно — не адчынілі. Пайшоў на другі хутар, гэдаксама доўгі час стукаў без пажаданых вынікаў, а нарэшце й на трэці. Прымушаны быў ісьці далей. Ногі аслаблі й моцна хацелася хоць на мінутку прысесьці, бо сон цягнуў на зямлю, але часта здаралася чытаць, што гэткім чынам людзі мерзнуць, і я пастанавіў сабе трымацца на нагах, пакуль не абвалюся.

Нарэшце пачуў далёкі сьвіст паравоза й я памаленечку пайшоў у тым кірунку. Калі прыйшоў на тое паселішча, дзе жыла братаўя, дык усходзіла сонца. Я быў ледзь жывы й ня мог прамовіць слова. І вось тая энкавэдысцкая правакацыя мяне ледзь да сьмерці не давяла. Я й цяпер задаюся гэтым пытаньнем: нашто энкавэдыстым патрэбныя гэткія правакацыйныя анэкдоты?

Калі я атрымаў пашпарт, а потым закончыў інстытут і атрымаў працу настаўніка ў сярэдняй школе, дык быў зусім расьсьмеліўся, і папярэдні страх, што мяне могуць арыштаваць ды выслаць, зусім зьнік. Аж аднаго разу вясной 1935 году прыяжджае мой знаёмы зь вёскі й кажа, што мне трэба чым найхутчэй уцякаць зь Менску. А чаму? У нашай вёсцы яшчэ шмат аднаасобнікаў было. Прыяжджаў сам старшыня РВК Анодзкі праводзіць сход і выказаўся ў сваёй прамове:

— *Чаму вы не ўступаеце ў калгас? Вы глядзіцё на Гладкіх і берацё зь іх прыклад? Але незавідны прыклад: аднаго расстралялі, а другі хаваецца ў Менску, але нядоўга яму там хавацца, знайдзем!*

— *Калі Гладкія жывіліся бульбай ды мякінай, калі вучыліся, дык вы тады ня бачылі, а цяпер дык і вы ўвідзелі. А яны нікому нічога благога не зрабілі,* — пачуўся голас зь цёмнага калідору.

А гэта сказаў Юзюк Насэвіч, які перш жыў у Міхалкавіч, а пры калектывізацыі выехаў дзесь далей, а на гэты час прыехаў адведаць матку. А цікава тое, што на гэту рэпліку не было ніякага адказу, ні заўвагі ні з боку прэзыдыюму, ні з боку прамоўцы. Гэта здарылася ў канцы траўня, калі ў школе пачаліся ўжо экзамэны. Пакінуць школу й вучняў непраэкзамэнаваных, пакінуць сяброў-настаўнікаў у вялікім падазрэньні, а там пойдуць пошукі ды допыты. Я палічыў несумленным уцякаць, але што б ні здарылася, весьці да канца працу ў школе, бо заставалася толькі 2—3 тыдні. А калі насталі вакацыі, дык неяк расьсьмеліўся, абырыў[369] і, спусьціўшыся на ласку лёсу, застаўся на месцы. Гэта лета ня стала Анодзкага ў нашым раёне. Калі НКВД забрала нашых калгасьнікаў ды завезла аж у Гомель, дык там яны ў 1938 годзе бачылі арыштаваным таго самага Анодзкага. Здаецца, яго

[369] ***Абы́рыць*** — стацца абыякавым (АВ).

абвінавачвалі ў трацкізьме. Калі наша гаспадарка зусім аслабела, дык яе ня сталі лічыць “кулацкай”, і брат уступіў у калгас.

## МІХАЛКАВІЦКАЯ ШКОЛА ПАСЬЛЯ МАЙГО ВЫЕЗДУ

Як я здаў сваю школу сакратару сельсавету ды паехаў у Менск, яна стаяла пустой аж да лістапада месяца, калі прыслалі на кароткі час студэнта зь Менскага пэдтэхнікуму Субку, які тут пабыў да Каляд. Па Калядах прыслалі нейкага хлапчука Мялешку, які любіў толькі маляваньне. У яго ўсе сьцены ў школе і ўсе дзьверы былі замаляваныя. Казалі, што ён зь дзецьмі займаўся амаль толькі маляваньнем. Інспэктарам у Лагойск пасьля Крайніка прыслалі з Магілёўшчыны нейкага Мікіценку (вучні й насельніцтва празвалі яго Мікітка), партыйца-п’яніцу, але малапісьменнага. Мікіценка пры рэвізіі школы пахваліў Мялешку. Пры набліжэньні вясны школа рассыпалася: вучням бадай што апрыкрала бясконца маляваць, дый сам настаўнік захапіўся яздой на трамваі — ён кінуў настаўніцтва ды пайшоў у Менск працаваць кандуктарам на трамвай. Пасьля яго прысылалі часова студэнтаў зь Менскага пэдтэхнікуму.

Па ліквідацыі нацдэмаў бальшавікі пачалі русіфікаваць і палянізаваць беларускія школы. У Пуцілаве Коранскага сельсавету, дзе было некалькі дзяцей з абеларушаных старавераў, адчынілі расейскую школу, а ў Міхалкавічах, дзе з даўніх часоў былі сьвядомыя беларусы, але каталікі, адчынілі польскую школу, не пытаючы згоды жыхарства, і прыслалі настаўніцу-польку Гансілеўскую. Яна прабыла, здаецца, больш двух гадоў, але не магла спалянізаваць нашых дзяцей. Пасьля яе прыслалі камсамолку Анісаву, а потым камуністку Малянкову, якія праводзілі, як маглі, русіфікацыю ў нашай школе, імкнуліся і ў прыватнай гутарцы, і на лекцыі з вучнямі гаварыць на беларуска-расейскім жаргоне.

Як было ў звычаі з даўніх часоў па ўсёй Беларусі, што дзеці й падлеткі лазілі па чужых садох і гародах. Гэтак было здаўна і ў нашай вёсцы, хоць і не ў вялікіх памерах. Але калі адчынілася наша школа ды дзеці днём, а моладзь вечарам сталі наведвальнікамі школы, дык я вельмі часта знаходзіў час, каб праводзіць гутаркі на гэту тэму й дасягнуў нядрэнных вынікаў. Але пасьля раскулачваньня й калектывізацыі прыватная ўласнасьць стала ня ў модзе, а нават прыватны ўласьнік стаў бяспраўным чалавекам, дык ня толькі дзеці, але й бацькі ня тое што ўночы, а й днём не саромеліся залезьці ў сад. Яны разважалі бадай што гэдак: калі мы пазбавіліся ўласнасьці на зямлю, на жывёлу, на снасьць, дык чаму ж маем шанаваць уласнасьць таго свайго суседа, які выгадаваў і даглядае сад. Ды нават сама савецкая ўлада патурала дробнаму прыватнаму крадзяжу. Калі ў часе НЭПу савецкі народны

суд судзіў — і досыць строга! — парушальнікаў прыватнай уласнасьці (зладзеяў), дык у часе калектывізацыі былі ўстаноўленыя пры сельсаветах як бы “ганаровыя суды” за крадзеж у прыватных асобаў. Гэтыя суды маглі толькі выносіць ганьбаваньне зладзеям. Але за крадзеж у калгасах судзілі вельмі строга. Па законе за значны крадзеж давалі расстрэл ці ня меней як 10 гадоў канцэту, а за малую, прыкладам, за сноп ці качан капусты — да чатырох гадоў.

У вёсцы Слабада жыло двое старых — муж і жонка Марозы. Яны ўкралі ў калгасе бярэмя саломы сабе ў пасьцель, каб бакоў не памуляць. Пакражу знайшлі й гаспадара засудзілі на чатыры гады канцэту. Жонка хацела выратаваць мужа, бо ня раз чула, што савецкая ўлада мае большае абачэньне[370] на баб, пайшла да ўладаў і заявіла, што гэта ня муж салому краў, але яна. Муж Мароз быў ужо засуджаны й падпісаў вырок суду. Але калі баба Мароз прызналася, што й яна крала, дык і яе судзілі, але ёй далі толькі два гады. Яна ўгадала, што баб саветы судзяць лягчэй.

## ДРУГАЯ ВАЙНА

У апошнія гады перад вайной я добра зарабляў; адзежы было дастаткова, і былі грошы. Класьці грошы ў савецкі банк было б тое самае, што купляць савецкія аблігацыі ці выкідаць грошы на вецер, бо з кожным днём курс савецкага рубля падаў. Я заўсёды ўгадваў курс па гарэлцы: калі ў 1924 годзе пры выпуску залатой валюты літар гарэлкі каштаваў 50 капеек, дык у 1939 годзе даходзіў, здаецца, да 19 рублёў. Савецкая ўлада хацела гэтыя грошы выцягнуць ад людзей. І вось у гэтых мэтах настаўнікам падсунулі розныя экскурсіі. Я цікаў[371] быў, каб пабачыць нейкія новыя краі: Украіну, Крым, Каўказ ды інш., але з часу гішпанскай вайны не адважваўся паехаць, бо спадзяваўся, што нечакана можа там ці гэнам выбухнуць вайна. А я хацеў, каб абавязкова вайной быць дома. А з 1938 году я быў пэвен, што вайна будзе немінучай: цэлае лета падвозілі войска з Расеі, якое было разьмешчана па местах і ў лясох.

У 1938 і 1939 гадох у Менску харчовых прадуктаў было дастаткова, а асабліва шмат было цукру. Вакацыі 1939 году я праводзіў у вёсцы. У вясковых каапэратывах гэтаксама было перапоўнена цукрам. Аднэй ночы (здаецца, у сярэдзіне жніўня, калі Рыбэнтроп[372] прыяжджаў да Сталіна ў Маскву) былі прысланыя зь Менску вазюрныя машыны, якія закуплівалі ўсе запасы цукру. Я ў хуткім часе паехаў у Менск, аж

[370] ***Абачэ́ньне*** — увага, пашана (АВ).

[371] ***Цікаў*** — зацікаўлены.

[372] **Іахім фон Рыбентроп** (1893—1946), міністар замежных спраў Нямеччыны (1938—1945), дараднік Адольфа Гітлера па зьнешней палітыцы.

там у продажы няма ніякіх харчовых прадуктаў. Хадзілі чуткі, што ўсе гэтыя прадукты пайшлі ў Нямеччыну. А войска безупынку ўсё везьлі й везьлі на захад.

1 верасьня 1939 году я быў у Барысаве ў свайго знаёмага, калі пачуў, што немцы напалі на Польшчу. У хуткім часе бальшавікі аб'явілі мабілізацыю, а 17 верасьня перакрочылі бяз бою польскую мяжу. Калі я быў у Інстытуце школьнай пэдагогікі, дык аднаго разу завязалася такая гутарка. Прафэсар Замоцін кажа:

— *Цяпер я зусім не магу арыентавацца з палітыкай, бо сытуацыя вельмі часта мяняецца. Ніяк не магу зразумець, як гэта пагадзіліся і ўступілі ў вайсковы саюз савецкая сацыялістычная дзяржава з фашыстоўскай Нямеччынай.*

Камуніст Яворскі адказвае:

— *Трэба разумець, што мы ўступаем у гэту вайну не паважна. Няхай буржуазея крывавіцца. Яны, калі схвацяцца, дык адзін аднаго скончаць, але й той пераможца зусім аслабее, тады мы яго нават голымі рукамі возьмем.*

Калі ліквідавалі польскую дзяржаву, дык немцы аддавалі бальшавіком польскіх жыдоў, а бальшавікі аддавалі немцам тых польскіх, летувіскіх, латыскіх і эстонскіх грамадзян, якія сябе называлі немцамі. Тыя польскія жыды, як пабачылі, у якіх умовах жыве народ пад уладай саветаў, дык шмат зь іх паўцякалі назад. Я меў гутарку з адным гэткім жыдам, які казаў:

— *Яны мяне цешаць*[373]*, што "работу далі". Што мне за ўцеха з гэтай работы, калі я ня маю хлеба й памяшканьня (ім для чатырох асобаў нанялі маленькі пакойчык). Я ў Польшчы беспрацоўным быў, а да мяне раніцой у дзьверы стукаюць і пытаюцца, можа я хачу сьвежых булак і сьвежага малака. Я ўсё ж знаходзіў грошы на гэту пільную патрэбу. А тут колькі я мушу часу страціць і перамерзнуць, каб купіць кілё чорнага чэрствага хлеба!*

У Менску ў Доме ўраду была арганізацыя, якая апекавалася жыдамі-перасяленцамі. Група іх пайшла да гэтай арганізацыі дамагацца для сябе элемэнтарных праў чалавека, але савецкія ўрадоўцы выгналі іх вон, дык яны ў знак пратэсту выйшлі на вуліцу й пакладіся на трамвайных рэйках. Прыйшлі энкавэдыстыя й пагналі іх туды, адкуль яны прыйшлі.

Калі кончылася вайна ў Польшчы, у лістападзе месяцы ў Інстытуце школьнай пэдагогікі паклікалі высокага вайскоўца зрабіць даклад нашым навукоўцам "Аб сучасным палітычным і ваенным стане Савецкага Саюзу". Яму заплацілі за даклад 60 рублёў. Гаворачы аб вайне з Польшчай, ён сказаў:

---

[373] ***Цешыць*** — тут: суцяшаць, супакойваць.

— *Сучасная бліскучая перамога ўдалася нам надта лёгка, безь ніякіх затрат. Але перад намі стаіць вельмі вялікая задача. Будучы наш вораг лепей за нас узброены, абучаны й дысцыплінаваны. Будучая наша вайна патрабуе ад нас вялікага напружаньня сілы й волі, каб выйсьці пераможцамі.*

Гэта ён казаў наконт Гітлера[374]. Тады фінская вайна толькі пачыналася, і той прамоўца яе ня ўспомніў; напэўна, ён думаў фінаў шапкамі закідаць. Зіма 1939/40 гадоў была занадта халодная. Адна з тых, якая ў нас бывае адна на сто гадоў. Мне прыходзілася назіраць, як у гэту зіму пры тэмпэратуры –40˚ расейскія жаўнеры ехалі на фінскі фронт у вадных шынялёх і ў летніх шапках, а ехалі на плятформах.

Зь вясны 1941 году было відаць, што вайна зь немцамі немінучая й яе можна чакаць штодня. Звонку можна было бачыць, што быццам бальшавікі з гітлераўцамі ў вялікай дружбе, але як адны, гэдак і другія пасьпяхова ладзіліся да вайны. Былі чуткі, што бальшавікі ладзіліся напасьці на немцаў 8 ліпеня, бо да гэтага часу павінны былі спыніцца водпускі. Інстытут школьнай пэдагогікі быў яшчэ зь зімы заплянаваў склікаць на 10 ліпеня настаўніцкую канфэрэнцыю, але ў палове чэрвеня адклікаў гэту канфэрэнцыю.

У нядзелю 22 чэрвеня я ўстаў пазнавата, пусьціў сваю радыёкропку й чую алярм: *"Хавайцеся ў скляпы й ямы ды ў розныя ўкрытыя мясьціны, бо варожыя самалёты лятуць на Менск"*. А пасьля пералічваецца, на якія месты СССР нападалі варожыя самалёты. Перад гэтым бальшавікі часта рабілі пробныя алярмы, калі, прыкладам, паведамлялася: *"Завод Варашылава ў агні, вораг бамбіць цэнтральную частку места"*. Я, палічыўшы, што й цяпер гэткая самая пробная трывога, не зьвярнуў на яе ўвагі.

Работа над пабудовай Менскага возера ўжо даўна была скончана й на гэту нядзелю на 12 гадзін меўся быць парад — сьвята адчыненьня возера. Сюды мелася зьехацца ўсё места. Надвор'е гэтага дня было спрыяльнае, да мяне прыйшоў мой знаёмы, і мы праз Старажоўку пехатой пайшлі да возера. Там было сабраўшыся досыць шмат людзей і стаяць напагатове на возеры некалькі маторных лодак. А 12 гадзіне меўся пачацца парад, але прыходзіць 1-я гадзіна, а галоўнае партыйнае й савецкае начальства не прыяжджае. Мы заўважылі, што часамі ў грамадзе адзін аднаго таркане пад бок: яны абодва адыходзяцца на бок ды нешта паціху гавораць між сабой. Падышоў і да нас знаёмы, адвёў набок ад грамады ды й кажа, што ўжо вайна пачалася, а тады й я кажу, што чуў па радыё, але належна ня цяміў.

[374] **Адольф Гітлер** (1889—1945), нямецкі палітык і лідар нацыянал-сацыялістычнай нямецкай рабочай партыі (*NSDAP*). Зь яго імем злучаны шматлікія злачынствы супраць чалавецтва, зьдзейсьненыя нацысцкім рэжымам як у самой Нямеччыне, гэтак і на акупаваных ёю тэрыторыях.

Я прыйшоў дахаты, быў усхваляваны ад гэтых падзеяў, мне не сядзелася на месцы, хацелася хадзіць — і хадзіў да сваіх знаёмых. Я бачыў па людзях, што ўсе цешыліся ад гэтай вялікай падзеі, бо спадзяваліся, што прыйшоў канец бальшавіцкаму панаваньню над нашым краем.

Вечарам я пайшоў да свайго блізкага прыяцеля, Рублёва, там застаў свайго знаёмага па працы ў Інстытуце школьнай пэдагогікі Сядуру. Мы сядзелі ўпацёмку. Тэмай нашай размовы была вайна — стараліся ўгадаць, хто будзе ў ёй пераможца. Мы з Рублёвым, калі бывалі ўдвух, часта не хавалі сваіх поглядаў у дачыненьні да бальшавіцкай улады, а цяпер, калі былі ўтрох, дык трохі стрымліваліся. Рублёў казаў, што, магчыма, немцы перамогуць, а Сядура — што расейцы, а я казаў, што й расейцы маюць шмат зялезьзя (танкаў, гармат), але бадай што яны ня змогуць перамагчы немца.

У Рублёва было радыё, мы пусьцілі яго. З кёнігсбэрскай станцыі перадавалі навіны на польскай мове, зь якіх мы даведаліся, што немцы дайшлі ўжо да Горадні й ідуць далей. Сядура хацеў болей слухаць, але Рублёў пабаяўся. Калі мы зь Сядурам а 12-й гадзіне ішлі ад Рублёва, дык разгаварыліся аб будучай мабілізацыі. Я кажу:

— *Калі мяне змабілізуюць, дык усе рэчы й кнігі прыйдзецца кінуць, бо жыву адзін.*

Ён мне парадзіў занесьці свае рэчы да ягонай маткі й павёў мяне паказваць сваю кватэру й пазнаёміць з бацькамі. Мы там даўгавата пасядзелі. Ягоная матка прасіла нас яшчэ трохі пачакаць, бо хацела нас гарбатай пачаставаць, але я наважыў ісьці дахаты.

А 8 гадзіне раніцай Рублёў ішоў на працу й забег да мяне паведаміць, што ўночы энкавэдыстыя забралі Сядуру, а калі часам мяне забяруць, дык калі будуць пытаць аб ім, аб Рублёве, казаць, што ніякага знаёмства зь ім ня мелі, а толькі былі тым знаёмыя, што ў аднэй школе працавалі настаўнікамі. Я тады падумаў: *“Калі б застаўся ў Сядуравай маткі гарбату піць, напэўна меў бы нагоду спаткацца з энкавэдыстымі”*.

У панядзелак а 12-й гадзіне я пайшоў на працу ў Інстытут школьнай пэдагогікі, але трэбала ісьці перабежкамі, бо то там, то сям бамбілі нямецкія самалёты. Людзі, настрашаныя бальшавіцкімі строгімі парадкамі, ішлі на работу. Тады ў Менску было распачата вялікае будаўніцтва: шмат будавалася новых дамоў, але была такая строгасьць, што ў часе бамбардаваньня не пускалі работнікаў злазіць з рыштаваньняў.

У інстытуце мы нічога не рабілі, бо былі частыя бамбардаваньні. Калі ішоў увечары дамоў, па ходніках ужо шмат ляжала п’яных да непрытомнасьці й ніхто на іх не зьвяртаў увагі — ні міліцыя, ні НКВД.

Ноч была спакойная. Раніцай да мяне прыбег Бэрка Элентух (ён быў настаўнікам у Берасьці Літоўскім) і стаў мне апавядаць, што быў прыгатаваўся ў суботу, каб у нядзелю рана ехаць у камандзіроўку. Уночы чуе, што ўсчаліся грымоты (а ён надта баяўся грому), дык галаву

схаваў пад падушку, але пацікавіўся выглянуць з-пад падушкі на вакно, аж на вуліцы сьветла — дамы гараць. Калі яны беглі (а гэткіх шмат сабралася), дык сяляне сьмяяліся, крычучы:

— *Куды ж вы ўцякаеце ад сваіх таварышаў? Немцы ж вашы таварышы.*

Ён у мяне просіць парады, як яму рабіць: ці заставацца на Беларусі, ці ўцякаць у Расею? Ён лепей хоча застацца тут, кажа, што бачыў нейкія карткі на расейскай мове, быццам скіненыя з самалётаў немцамі, дзе кажацца, што Гітлер ідзе ваяваць супроць камуністых і жыдоў, але Бэрка думае, што гэта правакацыя. Я сказаў, што маю намер тут застацца, а яму радзіў уцякаць. Мы зь ім добра пасьнедалі, і ён лёг адпачываць. Апаўдні я выправіўся на работу, але дайшоў толькі да Ніжняга рынку, а далей ня мог, бо скрозь бамбардавалася.

Каля 4 гадзін я паставіў варыць абед і разбудзіў госьця. У гэты час суседка Міхароўская кліча нас у свой пакой і паказвае нам валізку, зь якой яна мае ўцякаць, калі надарыцца небясьпека; мы, адзін і другі, з далікатнасьці паважылі гэту валізку ў руках. Мінулі ня болей чымся дзьве-тры мінуты, як мы з свайго пакою зайшлі ў пакой суседкі, — аж перад маім вакном упала велізарная бомба, ад якой у маім пакоі вылецела вакно з вушакамі, разьляцелася шафа й печ, тынкоўка зь сьцен і столі абсыпалася. Пад гэтымі руінамі засталіся мае ўсе запісы й кнігі, а некаторыя зь іх былі вельмі каштоўнымі. Пад гэтымі руінамі засталася тэчка, жакетка й шапка майго госьця, а ён сам пабег. Пабегла й суседка з валізкай.

Я агледзеўся, што ў мяне з носа капае кроў, а гэта быў расьсечаны самы канец носа, напэўна, шклом ад вакна. Я глянуў на двор праз тую вялізную дзірку ў сьцяне, дзе было вакно, аж двара не пазнаць: увесь завалены ламаччам. А дзе ад вуліцы стаялі абапал брамы два вялікія дамы, дык па палавіне абодвух адарвана (як выявілася пасьля, у вадным загінула каля 15 асобаў, а ў другім — каля 12). У вадным з гэтых дамоў я ўбачыў жанчыну-суседку, якая сіліцца адвярнуць бярно на руіне, дзе была яе кватэра. Я ведаў, што ў яе былі два маленькія хлопчыкі. Доўга ня думаючы, скакель праз гэта вакно на ламачча, бо думаў, што там былі завалены ейныя дзеці, каб дапамагчы ёй дастаць. Аж скочыўшы на двор, уладзіў скокнуць на дошку, зь якой угору тырчэў вялікі цьвік. Я адразу пачуў моцны боль у назе, дый нагі не адарву ад дошкі. З усяго імпэту ўдарыў другой нагой у гэту дошку, і мая нага вызвалілася. Я кінуўся памагаць гэтай жанчыне, аж яна выцягвае пасьцілкі з адзежай. Яна панесла гэту адзежу на вуліцу, а я пастульгіцкаў[375] у сваю хату, бо чую, што ў чаравіку мокра. Узабраўся праз гэта самае вакно ў свой пакой і думаю, што трэба паглядзець гэтай скалечанай нагі ды, калі

[375] ***Стульгіцкаць*** — ісьці кульгаючы (АВ).

пыл асядзе ў пакоі, трэба пачаць выбіраць кнігі з друзу, аж калі глянуў назад у бок вуліцы, дык па ламаччы, па руінах шырокім фронтам бяжыць агонь на наш панадворак. Я ўхапіў некалькі большых кніжак, якія тырчэлі з друзу, ды думаю, каб паліто ды трохі бялізны захваціць. Тут пад руку папалася валізка, дзе я на лета зладжыў ношаныя касьцюмы. Я гэтыя касьцюмы выкінуў ды туды палажыў бялізну й кнігі.

Агонь ішоў шырокім фронтам ад Старажоўскай вуліцы ў кірунку Траецкай гары. Яго правы фронт ішоў па Старавіленскай вуліцы: усходні бок вуліцы гарэў, а заходні застаўся. Я гэтыя свае рэчы мусіў несьці перад фронтам агню аж на Старавіленскую вуліцу, бо толькі туды быў выхад з пажару. Я першы раз вынес валізку зь бялізнай і кнігамі, а другі раз — два паліто, зімовае й восеньскае, ды выкінуў вэлясыпэд на гарод, але вярнуцца па яго ўжо ня змог, бо агонь перасякаў маю дарогу. З узгорку Старавіленскай вуліцы лёгка было сачыць за гэтым шырокім морам агню, які пачынаўся фронтам ад Старажоўскай вуліцы ды трамвайнага парку. Праз гадзіну гэта плошча ад Старавіленскай вуліцы ўздоўж Старажоўскай і трамвайнага парку ды аж да Савецкай вуліцы сталася пустой, а толькі дзе-нідзе курэў абгарэлы мураваны дом ды тырчэла абгарэлае дрэва.

Школа АБВША[376] некалькі разоў загаралася, але толькі палова яе згарэла, а рэшта сама пагасла. З групы казармаў, што былі між Старавіленскай, Старажоўскай, Камунальнай і Мопраўскай вуліцамі, адна казарма, што выходзіла на Старавіленскую да Сьцяпанаўскага саду, ацалела ад пажару, але калі пажар зусім спыніўся, яна ні з таго ні зь сяго загарэлася.

Надвечар, калі пажар ужо скончыўся, я забраў на плечы свае рэчы ды празь Менскую балотную станцыю пайшоў на новы Камароўскі пасёлак — на Ўсходнюю вуліцу. Мне балела прабітая нага, ды ад мітусьні, ад перажытага, ад голаду я быў зусім аслабеўшы, таму прымушаны быў часта адпачываць і ледзь-ледзь прыцягнуўся на Ўсходнюю да свайго знаёмага Карэнскага — аж там хата разьбіта бомбай і нікога зь сям'і няма. Вечарам прыехаў гаспадар, які быў з канём на рабоце ў Маладэчне пры пабудове аэрадрому. Ён раніцай паехаў сям'ю шукаць і ўзяў мае рэчы на воз.

Гэту ноч я сядзеў на вуліцы й пазіраў на цэнтар Менску. Было спакойна: нямецкія самалёты ня лёталі, але праз усю ноч над местам стаяў чорны дым — гэта бальшавікі палілі цэнтральныя вуліцы. Казалі, што як Савецкая, так і іншыя цэнтральныя вуліцы Менску былі заваленыя пабітымі машынамі й трупамі, а нават і раненых ніхто не падбіраў. Недалёка да таго месца, дзе я быў астаўбаваўшыся нанач, у бок Балотнай

[376] **АБВША** — Аб' яднаная беларуская ваенная школа артылерыі.

станцыі, чуліся енкі раненых. Старая Сарока казала, што там ляжалі цяжка параненыя жанчыны й забітыя дзяўчаты.

Калі я гэтага дня ішоў дамоў, дык бачыў у Зялёным Лузе пад Менскам вайскоўцаў у шпітальнай бялізьне й халатах (відаць, савецкія афіцэры). Былі чуткі, што ў вайсковым шпіталі на Мопраўскай пагарэлі цяжкахворыя й цяжкараненыя савецкія вайскоўцы.

У панядзелак 23 чэрвеня было паведамлена па радыё: хто з жыхарства без дазволу пакіне месца свайго пражываньня, будзе карацца як вайсковы вінавайца. Мне балела прабітая нага, я быў згаладаўшы й аслабеўшы, таму мог хадзіць зь вялікімі цяжкасьцямі, але трэбала ісьці дамоў, бо не было пры чым заставацца, але яшчэ турбаваўся аб тым вайсковым загадзе, што ня можна пакідаць месца свайго пражываньня. Я спаткаў міліцыянэра й прашу парады:

— *Як рабіць? Кватэра згарэла й няма дзе жыць.*

Ён радзіць ісьці на вёску, а я яму напамінаю аб гэтым вайсковым загадзе, бо баюся, каб не судзіў вайсковы суд, а ён мне кажа:

— *Калі ўлада ўстановіцца, дык вы тады вернецеся.*

У гэтага міліцыянэра на блюзцы быў цывільны плашчык з настаўленым каўняром. Каўнер адхінуўся, і я бачу, што на ягонай блюзцы пятліцы паспораны. Тады я падумаў, што ў Менску ўжо няма савецкай улады, і наважыўся пайсьці ў сваю вёску: колькі за дзень прайду, настолькі буду бліжэй да яе.

Уся дарога аж рабелася ад людзей, якія пакідалі Менск. Я ішоў памалу, бо патрапляў, каб добра стаўляць прабітую нагу. У Карэнскага разжыўся з паўкілё хлеба, дык з гэтым хлебам да змроку прыйшоў да Лагойску — 42 кілямэтры. Падарожнікаў была поўна дарога, але тут успомню толькі адну старэнькую бабульку, якая мела два хатулькі: яна перш адзін хатулёк паднясе за двое гоняў, кладзе яго пры дарозе ды варочаецца па другі, і гэтак снавала бадай усю дарогу. Я доўга на яе азіраўся.

Змрокам я прыйшоў да Лагойску, але далей ісьці ўжо ня мог і зайшоўся ў сталоўку. Абедаў не было, але там працавала адна афіцыянтка з нашай вёскі, дык мне далі есьці. Тамсама я спаткаў шмат знаёмых, яны ў мяне распытваліся аб падзеях у Менску. Я проста апавядаў усё, што ведаў. Прашу знаёмую афіцыянтку, каб настроіла мне, куды зайсьці нанач. Яна парадзіла зайсьці ў гатэль. Калі я выйшаў з сталоўкі, дык да мяне падышлі два жыды: малады, гадоў каля 15, і сталы, які запытаў мяне, куды я іду. Я яму адказаў ды пытаю ў яго, нашто яму трэба гэта ведаць. Ён нешта замармытаў сабе пад нос, а я пайшоў да гатэлю. Там стукаў-стукаў — не адчынілі. Тады пайшоў на Луцаўшчыну (дарогі было больш кілямэтра) да сваёй стрыечнай сястры. Ейнага мужа мабілізавалі, у яе адзежа была зьвязана ў хатулёх, а яна сядзела ў кутку на падлозе — нездарова, бо была апошнія дні цяжарнасьці. Я таксама

сеў на хатулі й прываліўся да сьцяны. Мы зь ёй гутарылі, аж сьвітаньнем пачуўся стук у дзьверы, а пасьля чуецца голас з надворку:

— *Ці ёсьць у вас хто чужы?*

Яна адказала:

— *Няма нікога, а толькі мой брат.*

Незнаёмыя людзі зайшлі. Іх было двое: адзін міліцыянэр, другі энкавэдысты. Яны праверылі мае дакумэнты й пайшлі. Вось якая была палітычная пільнасьць: як відаць, гэтыя жыдкі палічылі мяне падазроным чалавекам і сачылі за мной усю дарогу ды нарэшце данесьлі ў НКВД. Назаўтра раніцай сястра дала мне вэлясыпэд і я прыехаў у сваю вёску. Дома я пачуў, што лагойская адміністрацыя дала распараджэньне, што ніхто ня мае права казаць, што Менск гарыць і бальшавікі ўцякаюць зь яго, — гэткія рэчы ўважаліся за антысавецкую прапаганду.

## ІЗНОЎ У МІХАЛКАВІЧАХ

За дзесяць гадоў бяз трох месяцаў вярнуўся я на жыцьцё ў родную вёску і ў родную хату. Стала так весела, так лёгка на душы, што ўжо няма нада мной бальшавіцкай улады! Ня толькі я адзін з гэтага цешыўся, але і ўсё наша сялянства. Усе нашы ўзгоркі й лагчыны, здавалася, весялей сталі выглядаць. А нямецкія самалёты лётаюць нізенька над вёскай, над самымі будынкамі, у якіх іграе музыка й сьпяваюцца песьні па радыё. Бальшыня хлопцаў з нашай вёскі, што былі мабілізаваныя, вярнуліся дамоў. Іх пасылалі ў Менск і ў іншыя месцы й палкі, але яны варочаліся ў Лагойск, а пасьля прыйшлі дамоў. Усе чакаюць, каб хутчэй немцы прыходзілі.

Аднаго дня, на раньні, праз нашу вёску праходзіў бальшавіцкі полк. Жаўнеры былі нагэтулькі зморанымя, што не маглі стаяць на нагах. На другі ці трэці дзень пасьля гэтага, якраз па тыдні пасьля таго, як я прыйшоў дамоў, папаўдні праз нашу вёску праехала першае нямецкае войска.

Я выйшаў за садок, на ўзгорак, каб паглядзець на захад, паназіраць. З самых малых гадоў я меў налогу глядзець на бясконцую прастору лясоў і балотаў у заходнім кірунку даліны, абапал плыні ракі Ілі. Гэты пацяг[377] у мяне адчуўся й цяпер, бо я быў у добрым настроі духу. Гэты раз мой зрок упёрся ў аэрастат, які быў падняўшыся ў гайку на захад ад гары Гатоўкі, дзе стаяў бальшавіцкі бункер з гарматамі й кулямётамі. З бункеру паказаліся два гарматныя стрэлы на моцна далёкую мэту ў заходнім кірунку, але раптам пасьля гэтага аэрастат стаў зьніжацца. Мяне ахапіў нейкі хвалюючы настрой, і я вярнуўся ў хату. Празь нейкіх

[377] ***Пацяг*** — імкненьне, незалежнае ад волі чалавека (АВ).

20 мінут ці й болей пасьля гэтага сталі ехаць праз нашу вёску немцы. Гэта войска не было падобнае на тое нямецкае войска, якое мы бачылі ў мінулую вайну, з 1914—1918 гадоў, калі жаўнер быў у вялікай касцы з ранцам на плячах ды абчапляны амуніцыяй і рознымі рэчамі аж да драўляных ботаў. Сьпераду ехала некалькі матацыклістых па адным на машыне. Пасьля некалькіх матацыклаў па двух на машыне, адзін кіраваў машынай, а другі сядзеў ззаду яго й трымаў на плячы аўтамат. За імі ехала некалькі машынаў з афіцэрамі, а нарэшце ехалі жаўнеры, якія стаялі й сядзелі на адмысловых машынах, навёўшы стрэльбы на абодва бакі дарогі. Гэтыя жаўнеры былі галамі голыя і ў адных падкашульках[378]. Выглядала, што гэтыя хлопцы ехалі не на вайну ў чужую далёкую краіну, але на нейкую вясёлую забаву-гульню.

Частка гэтага войска спынілася ў нашай вёсцы рамантаваць машыну й набіраць вады. Яны паказаліся вясёлымі й ветлымі хлопцамі: дзецям давалі цукеркі, а нашым хлопцам цыгарэты, хоць, праўда, гэтыя цукеркі й цыгарэты былі летувіскага вырабу. Жанчыны заклікалі іх да хатаў, каб пачаставаць малаком, яйкамі ці яечняй. Яны дзякавалі й казалі, што негалодныя. Калі ў суседніх вёсках даведаліся, што ў нашай вёсцы спыніліся немцы, дык беглі ў нашу, каб паглядзець іх. Суседзі ўважалі нашу вёску шчасьлівай, што ў нашу першую завіталі немцы. Усё сялянства ўважала сябе шчасьлівым, што гэтак борзда й нечакана збавіліся ад ненавіснай бальшавіцкай улады.

Праходзяць дні за днямі, людзі цешацца, што ўжо вызваліліся ад калгаснага прыгону, ды за ніякую калгасную работу не бяруцца. Нямецкае войска то там, то сям едзе на ўсход, а калі спыніцца дзе на папас, дык сяляне, калгасная адміністрацыя ідуць да немцаў на параду, што рабіць з калгасамі. Бальшыня немцаў адмаўлялася даваць такія ці гэткія парады, тлумачачы тым, што яны вайскоўцы ды застанавіліся толькі на адпачынак, а іншыя радзілі працаваць у калгасах, пакуль прыедзе цывільная ўлада, а тады яна зробіць нейкі парадак.

Праз тыдні два пасьля прыходу немцаў нашы сяляне, як і сяляне іншых вёсак нашай ваколіцы, надумаліся зьліквідаваць зьненавіджаны калгас, праўда, ужо да гэтага часу яго сталі разносіць самавольна. Пры ліквідацыі калгасу крыкуны й самавольцы цягнулі лепшыя кавалкі, але на гэтым грунце спрэчак не было, бо сумленныя людзі неяк разважалі: *"Няхай сабе мне з гэтага калгасу нічога не дастанецца, але добра будзе й тое, што калгас мне болей ня будзе вачэй мазоліць, а з часам неяк зажывёмся, калі будзе вольная зямля"*. Пасеянае збожжа разьдзялялі паводле тых межаў, якія меліся да калектывізацыі. Згодна гэтых межаў і жыта зжалі.

---

[378] ***Падкашулька*** — майка, саколка.

Прайшло каля месяца часу ад прыходу немцаў, калі прыехала ў павет цывільная ўлада. Начальнік павету паклікаў да сябе былых старшыняў калгасаў і загадаў ім надалей заставацца на сваіх пасадах і кіраваць гаспадаркамі калгасаў. А гэдаксама загадаў, каб брыгадзіры ды іншыя службоўцы калгасаў заставаліся на сваіх месцах і выконвалі сваю работу. А дзе калгасы былі ліквідаваны (разьдзелены), дык строга загадаў абагульніць калгасную маёмасьць (жывёлу, снасьць ды іншыя рэчы). У сялян пасьля вялікай радасьці настаў вялікі смутак: яны ніякім чынам не хацелі ўзноў арганізаваць зьненавіджаных калгасаў і не прыступалі да гэтай работы. Старшыня нашага калгасу некалькі разоў езьдзіў у павет, каб пераканаць нямецкага камэнданта, што калгасная праца не прадукцыйная, каб той камэндант дазволіў нашым сялянам працаваць аднаасобна на сваіх землях. Камэндант адмовіўся весьці гутаркі на гэту тэму й напомніў, што парушальнікі гэтага распараджэньня будуць строга пакараны. Сяляне вымушаны былі падпарадкавацца — яны сьцягнулі зноў у калгас усю маёмасьць і прыступілі да працы: зжатае жыта зьвезьлі ў калгасны ток, а ярыну сталі жаць агульна для калгасу.

Восеньню немцы, як і бальшавікі, далі калгасам нарыхтоўкі збожжа, бульбы, сена, саломы й мяса. Здаваць гэтыя нарыхтоўкі было шмат лягчэй, чымся пры бальшавіках: нарыхтоўкі даваліся трохі меншыя й тэрміны выкананьня — павольныя. Бальшавікі патрабавалі сьпехам малаціць і перш-наперш здаваць нарыхтоўкі, прадаваць дзяржаве, адсыпаць насенны фонд, а потым, што застанецца, дзяліць на працадні. Немцы ні ў парадак работы, ні ў парадак выдаткаваньня ўраджаю зусім ня ўмешваліся. Управа калгасу сама распараджалася й працай, і разьмеркаваньнем ураджаю ў калгасе. Не зважаючы на гэта, сяляне працавалі марудна й без ахвоты, бо былі прыгнечаныя тым, што іхныя мары вызваленьня з калгаснага прыгону не збыліся.

У канцы лета 1941 году павятовы камэндант распарадзіўся, каб калгасы прадалі бедным бескароўным калгасьнікам па цяліцы (маладой трэцім годам цялушцы, што ні разу не цялілася), каб яны маглі дагадавацца каровы. Гэты продаж адбываўся па нямецкіх дзяржаўных цэнах, а гэта амаль тое самае, што й дарма. Такі чын павятовага камэнданта быў гуманным і практычным.

Нанава абагуленыя калгасы праіснавалі да паловы лютага 1942 году, калі нямецкая павятовая камэндатура склікала ў павятовы цэнтар урадоўцаў воласьцяў, настаўнікаў і сялян на вялікі мітынг, дзе было абвешчана аб ліквідацыі калгасаў і разьдзеле калгаснай зямлі й маёмасьці між сялянствам. Пасьля гэтага мітынгу сяляне прыступілі да разьдзелу. Насенныя фонды, будынкі, снасьць і статак калгасьнікі дзялілі між сабой; у гэту дзяльбу ня ўмешвалася ні павятовая камэндатура, ні валасная ўправа, але толькі самі ўдзельнікі калгасаў. Камэндант даў

строгае распараджэньне, каб ніводзін гаспадар ня быў пакрыўджаны. Вялікіх нараканьняў на несправядлівы падзел калгасаў не было чуваць. Сяляне былі ўзрадаваны, што іхныя мары збыліся: калгасы перасталі існаваць, сяляне раптам сталі зажывацца, пачалі будаваць патрэбныя гаспадарскія будынкі, набываць коні, снасьць. У той час грошай ў вёсцы не было, а ўсё куплялася на збожжа, дык некаторыя сяляне высыпалі апошняе збожжа, каб набыць снасьць, а самі галадалі. Ад першага году аднаасобнага гаспадараваньня большыня сялян зажыліся, а можна было спадзявацца, што праз два наступныя гады ўсё сялянства магло давесьці свае гаспадаркі да тэй вышыні моцнасьці, якая была да часу калектывізацыі. Гэтага ня сталася, бо калі ў канцы 1942 году настала бальшавіцкая партызанка, дык сялянскія гаспадаркі былі зруйнаваныя дарэшты, а часта зьнішчаліся й самыя гаспадары.

Немцы прыйшлі й пайшлі далей. Фронт перанёсься недзе аж за Вязьму. У нашых вёсках устанавілася новая ўлада, але калгасы засталіся тыя самыя. Ноч стала прыбываць, насталі доўгія вечары, а гэтыя вечары трэбала праседжваць у паўзмроку пры газоўцы. Мяне стаў агортваць нейкі сум. Я спадзяваўся, што пасьля ліквідацыі бальшавізму завіхрыцца нацыянальнае адраджэньне нашага народу ды разгорнецца праца ў гэтым кірунку, але ўсюды было глуха.

Калі ўстанавілася цывільная ўлада ў нашым раёне, я пайшоў у Лагойск ды зайшоў у павятовую ўправу, каб даведацца аб школьніцтве. Мне сказалі, што школы будуць адчынены, і прапанавалі застацца настаўнікам у Лагойскай школе або кіраўніком Коранскай школы. Я наглуха адмовіўся ад гэтых пасадаў, а прасіў, каб мяне назначылі настаўнікам у тую школу, якую я пабудаваў і зь якой мяне 10 гадоў таму назад бальшавікі прагналі. Мне ў маёй просьбе адмовілі, бо хацелі мяне выкарыстаць для працы ў цэнтральных школах. Я ведаў, што, магчыма, болей быў бы карысным для нацыянальнай справы на вышэйшых школьных пасадах. Калі б праца ў школе не была абмежавана немцамі, а галоўнае, калі б я ведаў, з кім буду супрацоўнічаць, бо шэфа народнай асьветы павятовай управы я ведаў надта мала. Ведаў, што ён быў братам начальніка пошты, у якога бальшавікі ў Лагойску дом канфіскавалі, але гэта яшчэ ня сьведчыла, што ён стойкі антыбальшавік і шчыры беларус, бо ён любіў часта выпіць, а на працу ў школы ставіў і камуністых. Я ведаў і тое, што заступнік шэфа асьветы быў Ґірыс, якога ў 1923 годзе бальшавікі выкінулі з камуністычнай партыі й судзілі за растрату. На яго наракалі, што ён прычыніўся ў раскулачваньні ў 1930 годзе шмат якіх незаможных сялян. Аб ім гаварылі нават і тое, што ён быў шпеґам на карысьць НКВД, бо, калі ўсіх старэйшых настаўнікаў у 1931 годзе выслалі з Лагойскага раёну, яго пакінулі. Я ад яго мог спадзявацца, што ён, стоячы на вышэйшай пасадзе, можа зьнішчыць непажаданага яму чалавека, зрабіўшы на яго фальшывы данос немцам.

Калі я ня даў згоды прыняць іншыя школы, дык павятовыя ўлады прымушаны былі паставіць мяне загадчыкам Міхалкавіцкай. Неўзабаве прыслалі мне ў дапамогу з акругі яшчэ двух хлопцаў, але яны ня ўладзіліся тут нідзе на кватэру, дык пакінулі маю школу.

У хуткім часе пасьля гэтага пехатой прыходзіць з Мсьціслава Малянкова, якая тут папярэднія гады была настаўніцай. Яна пайшла ў Лагойск, і Яршоў яе прызначыў настаўніцай у маю школу. Гэта была камуністка-фанатычка й распусная жанчына. Празь некалькі дзён прыяжджае другая такая самая жанчына ў нашу вёску, якая тут працавала ў 1935 годзе настаўніцай ды была замужам за хлопцам з нашай вёскі, — Анісава. Да гэтага часу яны з мужам былі настаўнікамі на Случчыне. Муж пайшоў на вайну, а яна прыехала зь дзецьмі да мужавай маткі. І гэта пайшла ў Лагойск, Яршоў і яе прызначыў у маю школу настаўніцай. Я ведаю, што яна, калі працавала настаўніцай у нашай вёсцы, была камсамолкай, але ня ведаю, ці была ў той час у камуністычнай партыі, але фанатычна трымалася камуністычных традыцыяў. Малінкова перад самай вайной паехала на вакацыі да маткі ў Амсьціслаўль. Там выходзіла ўзрываць нямецкія танкі (так яна казала знаёмым). Яна прыйшла ў нашу вёску ў старой матчынай ватоўцы.

Я Анісавай даў I клясу, Малянковай — II і III, а сабе ўзяў IV. У III клясе трэбала патрохі знаёміць вучняў з гісторыяй і геаграфіяй Беларусі. У мяне дома былі захаваліся геаграфія Аркадзя Смоліча й гісторыя Ўсевалада Ігнатоўскага, дык я прапанаваў Малянковай гэтыя кніжкі як дапаможнікі, а яна аддала іх аднэй камсамольцы, якая падрала іх ды сьцяну выклеіла ў сваёй хаце.

Прыбіральніцай у Міхалкаўскай школе была Ганна Калоша, матка дваіх камсамольцаў. Калі прыйшлі немцы ды сяляне разьбіралі калгасы, яна забрала школьную мэблю — шафу й сталы, а калі па загадзе немцаў сталі зноў абагульняць калгасы, яна прынесла назад гэтыя мэблі, але пакінула школу незамкнёнай, і туды хто хацеў мог заходзіць.

Калі я застаўся настаўнікам гэтай школы, знайшоў у шафе папку, дзе хаваліся ўсе партыйныя й камсамольскія сьпісы й дакумэнты. Да гэтага часу нікому ня кажучы аб гэтым, я спаліў гэту папку, а толькі выняў адтуль настаўніцкі атэстат Малянковай ды палажыў у школе ў століку. Калі Малянкова прыйшла ў нашу вёску ды яшчэ не хадзіла ў Лагойск, каб застацца настаўніцай, з школьнага століка ейны атэстат зьнік. Калі й як яна падхапіла яго, невядома.

Аднаго разу шэф народнай асьветы павету прапануе мне напісаць атэстацыю настаўніц Малянковай і Анісавай у дачыненьні іх да палітыкі й маральных паводзінаў. Для мяне гэта было вельмі цяжкае заданьне. Мне, як і ўсім, было вядома, што Малянкова камуністка, а Анісава — камсамолка (а можа, і камуністка), і што яны абедзьве маюць сувязь з партызанамі, і што Малянковай паводзіны кепскія. Напісаць праўду —

гэта значыць падпісаць ім сьмяротны прысуд. Адмовіцца ад напісаньня атэстацыі — гэта азначае, што я стаўляю іх пад падазрэньне перад нямецкай палітычнай паліцыяй, а сябе перад большай небясьпекай — перад забойствам з боку партызанаў. Напісаць іхныя палітычныя й маральныя паводзіны слушнымі, дык на гэта не дазваляе маё сумленьне, ды й пагражала небясьпека з боку немцаў. Прыйшлося пісаць каля-навокала, каб выйшла й ня тое й ня гэта. Але так-сяк выкруціўся.

Калі я працаваў у Менску ў 3-й школе для дарослых, пасябраваў зь Цімохам Рублёвым; мы часта адзін у ваднаго бывалі. Аднаго разу ў размове зь ім я выхваліўся, што быў на Ўсебеларускім кангрэсе ў Менску ў 1917 годзе. Як відаць, ён застаўся нездаволеным гэтай навіной і перасьцярог мяне, каб я болей нікому аб гэтым не казаў, але калі я надвосень 1941 году паехаў першы раз пасьля ўцёкаў зь Менску зноў у Менск, дык ён павёў мяне ў рэдакцыю "Менскай ґазэты"[379], і там было шмат нашых хлопцаў, а ў тым ліку й Матусевіч[380], дык там Рублёў прадставіў мяне як дэлегата Ўсебеларускага кангрэсу. А калі я другі раз зімой заехаў у Менск і зайшоў у рэдакцыю, дык мне прапанавалі напісаць успамін аб Усебеларускім кангрэсе.

Працаваць у той год у школе было вельмі цяжка, а асабліва тое, што не хапала дроў, а калі часам і прывязуць сырую сасну, дык яе цяжка было ўпаліць, але й згарэўшы яна духу не давала. Ад гэтага былі перапынкі ў занятках. Разам з працай у школе я стараўся знайсьці час, каб пабываць у Менску, каб пачуць што новае аб беларускай справе.

Зімой 1942 году адзін селянін і дзьве дзяўчыны ехалі да Менску, і я зь імі прыладзіўся ехаць, каб што новае аб беларускай справе пачуць. Уяжджаем у вёску Слабаду, аж на спатканьне нам едзе чалавек з стрэльбай. Гэта быў Бараноўскі з Гайны. Цяпер ён служыў нямецкім паліцыянтам, а пры савецкай уладзе быў 21 год міліцыянэрам. Ягоны фурман спыніў каня, а п'яны Бараноўскі з стрэльбай вылазіць з саней і крычыць:

— *Стой! Я буду рабіць вышук.*

— *А што вы хочаце тут знайсьці?* — пытаю я.

Тут п'яны міліцыянэр пры дадатку бруднай лаянкі закрычэў:

— *Я цябе завяду ў кусты ды застрэлю!*

— *За што ж ты будзеш мяне страляць, нявіннага. Мы ж з вамі блізкія суседзі. Вы з Гайны, а я зь Міхалкавіч. Калі б вам трэбала праверыць наш воз, дык вы б перш праверылі нашы дакумэнты, а калі б*

---

379 **"Менская ґазэта"** (ад 5 лютага 1942 г. "Беларуская газэта") — выдавалася ад 27 ліпеня 1941 г. да 28 чэрвеня 1944 г. у Менску. Самае буйное беларускае антысавецкае пэрыядычнае выданьне ў час Другой сусьветнай вайны.

380 **Матусевіч, Алесь,** журналіст "Беларускай газэты". 5 сакавіка 1943 г. забіў Фабіяна Акінчыца і ўцёк да партызанаў.

*вы ўсё ж захацелі праверыць наш воз, дык бы мы самі паказалі, што мы маем і вам ня трэбала варочаць нашых клумкаў.*

П'яны міліцыянэр пакінуў наш воз ды лаючыся паехаў у кірунку Гайны. Мы наладзілі наш воз ды паехалі за ім. Калі праехалі два кілямэтры наперад, дык перад сабой убачылі таго самага міліцыянэра, які крыкнуў на нас:

— *Стой! Назад!* — і ўзяў стрэльбу як да страляньня, накіраваўшы на нас, калі мы пад'ехалі да яго на сто мэтраў.

Тут дарога ішла раўчаком, а сьнег быў глыбокі — каля паўтара мэтра. Мы сталі прасіцца, каб дазволіў даехаць да крыжавых дарог, а там мы зьвернемся. А між намі й ім другая дарога крыжавала нашу дарогу. Мы пад'ехалі да гэтых крыжавых дарог, дык міліцыянэр гэдак зрабіў, як я яму радзіў. Ён запатрабаваў нашых дакумэнтаў, а тады стаў правяраць нашы клумкі. Стары селянін стаў яму паслугаваць — разьвязваць мяшэчкі.

— *А што ў гэтым мяшку?* — пытае грозна міліцыянэр.

— *Тут мой аўсец для коніка,* — адказвае пакорна селянін.

— *А ў ваўсе што?* — зноў пытае начальнік.

— *Там мая торбачка з хлебцам,* — як можна лагадней адказвае селянін.

— *А што болей у торбе пры хлебе ёсьць?* — зноў пытае начальства.

— *Там напэўна й скварка ёсьць,* — дадаю я жартаўліва. Ён на мяне вызьверыўся:

— *На чорта мне твая скварка!*

Селянін яму паказаў і торбу, і хлеб, а там была й скварка. Міліцыянэр, зрабіўшы вышук, сеў на свае сані й паехаў, бо чаго ён хацеў знайсьці, дык таго не было, а ён хацеў гарэлкі. Мы зладзілі свой воз і паехалі.

Без турбот заехалі да Менску. Я пайшоў у рэдакцыю "Менскай ґазэты", расказаў аб сваёй прыгодзе зь міліцыянэрам і падаў свой першы артыкул аб Усебеларускім кангрэсе ў Менску ў 1917 годзе. Калі я падаваў гэты артыкул, у рэдакцыі быў толькі Матусевіч. Ён, узяўшы артыкул і перавярнуўшы яго, сказаў на адвароце напісаць сваё сапраўднае імя й адрас. Мне стала праціўна й падазрона, але мусіў падпісаць.

Другі, падобны гэтаму выпадак быў узноў, але з начальнікам лагойскай паліцыі. Я адпусьціў вучняў са школы, а сам ішоў на абед. На вуліцы стаяць двое саней, напоўненых маладымі людзьмі ў латанай адзежы, а перад імі на вазку сядзіць чалавек у шапцы-вушатцы і ў чорным кажусе, пашытым на маскоўскі фасон. Калі я параўняўся зь ім, ён у мяне пытае:

— *Ці ёсьць у вашай вёсцы расейскія палонныя?*

— *Павінны быць,* — адказваю я.

— *Садзіся на сані,* — кажа незнаёмы.

Я прысеў, а ён лейцамі крануў каня, каб ішоў. Я ўстаў з саней і пытаю, што ўсё гэта азначае.

— *Ты са мной мусіш ехаць і паказаць, дзе жывуць тыя палонныя расейскай арміі,* — кажа ён.

— *Я ніякі не адміністратар,* — кажу я. — *На гэта ёсьць старшыня калгасу.*

— *Старшыні калгасу дома няма,* — кажа незнаёмы.

— *Дык ягоныя заступнікі — брыгадзіры ёсьць,* — дадаю я.

— *Але калі я загадваю, дык ты мусіш выконваць!* — злосна дадае невядомы чалавек.

— *А хто вы такі будзеце? Паліцыянт?* — пытаю я.

— *Так, паліцыянт,* — кажа ён.

— *Паліцыянты з народам мусяць абыходзіцца ветліва, а ня так, як вы. Мы з вамі будзем гаварыць аб гэтым у начальніка павету,* — заўважыў я.

Я хоць у павеце нікога й ня знаў, але гэтым хацеў зьвярнуць ягоную ўвагу, што й я "няпросты" чалавек. Паліцыянт на мяне вызьверыўся:

— *Вашы дакумэнты!*

Я яму падаў пашпарт, а калі ён прачытаў, дык узяў пашпарт зь ягоных рук ды пайшоў, а паліцыянт па майму адрасу дадаў:

— *Артыст.*

Калі я пайшоў у павятовую ўправу й расказаў аб гэтым выпадку шэфу народнай асьветы, той мне заўважыў:

— *Маеш шчасьце, што ён ня быў п'яны, а то ён бы цябе або прыбіў, або й застрэліў. Гэткія выпадкі ў ягонай практыцы бывалі.*

Гэта быў начальнік паліцыі; ён ведаў нямецкую мову, паходзіў быццам з Заходняй Беларусі, але заўсёды гаварыў на расейскай мове. За ягонае дэспатычнае абыходжаньне з паліцыянтамі й насельніцтвам ён некалькі разоў звальняўся з працы й караўся нават немцамі. Бяз мала праз год пасьля майго спатканьня зь ім ён трагічна загінуў. Гэты начальнік вечарамі садзіўся ў панцыр[381] ды езьдзіў па мястэчку правяраць, ці добра зацемнены вокны. Калі дзе вакно прасьвечвалася, дык ён і страляў у тое вакно. Аднаго разу позна вечарам прыехалі ў Лагойск эсдэкаўцы[382], а ў тым доме, дзе яны закватаравалі, трохі прасьвечвалася вакно. У гэты час п'яны начальнік рабіў свой аб'езд у панцыры па праверцы вокнаў, дык ён і пусьціў туды некалькі куляў. У выніку гэтага два эсдэкаўцы былі забітыя. Тады эсдэкаўцы спынілі гэты панцыр і яго на месцы забілі.

Вясной пасьля заканчэньня працы ў школе я аддаўся працы каля гаспадаркі. Пасьля падзелу калгасу нам дастаўся конік-здыхляк, дык

---

[381] ***Панцыр*** — панцыраваны (бранíраваны) аўтамабіль.

[382] ***Эсдэкавец*** — службовец СД.

мы з братам першым чынам пабудавалі азяроды, бо будынку гуменнага не было, а канец току, дзе меліся малаціць збожжа, выбілі глінай. Купілі, хоць напавер, двое сьвінчат. Я тое цэлае лета цяжка працаваў каля гаспадаркі: араў, касіў, капаў і вазіў гліну ды інш.

Вясной 1942 году сталі часьцей і часьцей паказвацца расейскія партызаны. Аднаго разу ў канцы траўня аддзел немцаў гнаў перад сабой групу партызанаў, якія зь лесу прыляцелі ў вёску Пуцілава, дзе ўсьцягнулі кулямёт на страху ды сталі страляць па немцах, якія за імі гналіся. Тады немцы запалілі вёску й згарэла чатыры хаты. Мне з партызанамі давялося спаткацца летам надвосень 1942 году: уночы пачуўся стук у дзьверы, але ім ніхто не адчыніў. Праз паўгадзіны ці болей зноў прыйшлі, выламалі вакно ды ўлезьлі ў хату. Наставіўшы тры аўтаматы, кінуліся да майго ложка, закрычэўшы: *"Рукі ўгору"*. Я ляжу з паднятымі рукамі. Яны загадалі мне ўстаць. Я налажыў нагавіцы й чаравікі, але не дазволілі чаравікаў зашнуроўваць. Мяне вывелі з хаты й вядуць вуліцай у канец вёскі, наставіўшы на мяне аўтаматы. Я думаю: вядуць за вёску страляць. Ноч была зусім цёмная, што за пяць крокаў чалавека не відаць. Калі б у іх былі звычайныя вінтоўкі, дык спрабаваў бы ўцякаць, але ад трох аўтаматаў няма сэнсу й пробаваць бегчы. У канцы вёскі калгасны клюб, а там вечарынка, арганізованая партызанамі. Мне падаюць каманду "направа" і паўадзетага ўганяюць на вечарынку. Пачулася пытаньне:

— *Хто гэта?*

— *Настаўнік Гладкі!* — пачуўся адказ з грамады.

Мне закамандавалі:

— *Кругом, выходзь.*

Мяне вывелі на крыжавыя дарогі й закамандавалі стаць. Удвух стаяць нада мной з аўтаматамі, а трэці адышоўся. Празь некалькі мінут прыйшоў трэці й кажа на мяне:

— *Можаш ісьці спаць.*

— *Які ў чорта сон пасьля ўсяго гэтага,* — кажу я.

Я прыйшоў дахаты. Там у мяне шафа насьцеж расчыненая й пустая. Адзін трымае за стырно вэлясыпэд, а другі порацца пад лаўкай і пытае:

— *Таварыш лейтэнант, а шчоткі да ботаў браць? А аліву для змазкі браць?*

— *Усё забірай,* — адказвае начальнік.

Я стаю сярод хаты, да мяне ніхто не зварачаецца. Пасьля мяне празь некалькі мінут прыйшоў яшчэ адзін партызан, якога яны называлі *"таварыш камісар"*. Ён загадаў:

— *Усё палажыць на месца й выходзьце!* — а сам пайшоў за дзьверы.

Яны як бы нехаця сталі выкладаць. Партызан, якога называлі *"таварыш лейтэнант"*, трымае ў руках маю тэчку, якая выглядала

вельмі прызваіта[383], і дамагаецца, каб я яму яе аддаў. Мне не хацелася аддаваць, але я хацеў, каб яны хутчэй пакінулі маю хату, бо ў мяне на стале пад абрусам ляжалі допісы ў “Менскую ґазэту”, дык у яго тэчкі не адбіраў. Пры адыходзе партызаны мяне назвалі “таварыш”, перапрашалі, што патурбавалі, і пыталі, чаму я ад першага разу не адчыніў, а я адказваю: думаў, што бандыты лезуць, каб абрабаваць.

Калі зімой гэтага самага году начальнік паліцыі вёз два вазы прымакоў, дык і гэты партызан, якога называлі *“таварыш камісар”*, між імі быў. А калі я сьмела агрызаўся з начальнікам паліцыі, ён падумаў, што я бальшавік. І калі пачуўся адказ ігрышнікаў[384]: *“Гэта наш настаўнік Гладкі”*, — ён і ўспомніў зімовае здарэньне ды загадаў мяне адпусьціць і аддаць зрабаваныя рэчы. (А зімой гэтых прымакоў сабралі ды зноў адпусьцілі.)

Пасьля гэтага вельмі часта мяне наведвалі партызаны. Аднаго разу ўночы прыйшоў п’яны партызан і забраў у мяне касьцюм, які ляжаў пры ложку, пагражаючы мяне застрэліць, бо я настаўнік. Другі раз прыйшоў нейкі заўзяты энкавэдысты й патрабаваў кажуха. Я мусіў яму аддаць. Калі далей ён да мяне стаў гаварыць, дык я ў яго пытаю:

— *Які гэта праступак, калі беларускі настаўнік навучыць чытаць беларускае дзіця па тэй кніжцы, па якой вучыў пры савецкай уладзе?*

— *Выходзіць, што твая праўда.*

У першым пакоі, у сенцах, спала наша сям’я — брат і сёстры, а я спаў у сьвятліцы, зь якой дзьверы адчыняліся ў пярэдні пакой. Прыйшлі тры партызаны й леглі ў пярэднім пакоі пры самых дзьвярах — так, што я ня мог адчыніць дзьвярэй, каб выйсьці зь сьвятліцы. Брату сказалі запрагаць каня. Былі выпадкі па другіх вёсках, што партызаны загадаюць гаспадару запрэгчы каня, а калі той запражэ, дык страляюць усю сям’ю, забіраюць на воз лепшыя рэчы ды вязуць у лес. Я палічыў, што гэтай ночы партызаны рыхтуюць ліквідацыю нашай сям’і. Дзьверы завалены, бо пад імі ляжаць партызаны. Я мог бы вылезьці ў вакно, але на дварэ перад вакном брат запрагае каня й партызаны пры ім стаяць. Ад вуліцы перад вакном высокі востры штыкет. На вуліцы стаяць партызанскія фурманкі й партызаны ходзяць між падводамі. Я ўважаў, што гэтыя фурманкі пад’ехалі па нашу гаспадарку. Хоць і цёмна, але ўцячы няма надзеі. Я лёг на ложку. Чуваць нават вушамі, як б’ецца сэрца. У роце высахла, хоць боб малаці. У гэткім стане я ляжаў больш дзьвюх гадзінаў, але для мяне яны абярнуліся вечнасьцю. Нарэшце яны забралі нашу фурманку й паехалі. У гэту ноч яны абрабавалі далейшага нашага суседа. На другі дзень нашу фурманку адаслалі.

---

[383] ***Прызваíта*** — салідна, прадстаўніча.

[384] ***Ігры́шнік*** — удзельнік ігрышча, вечарынкі.

У нашай вёсцы былі тры прымакі: два былі звычайныя хлопцы, якія хацелі выратаваць сваё жыцьцё, а трэці — нахабны дывэрсант Журба, украінскага паходжаньня, з Харкава, але абмаскалены. Ён быў ударожыўся[385] да мяне хадзіць. Нават калі мяне дома не было, заходзіў у мой пакой, а пры мне лез пароцца ў мае паперы. Ён зьбіраў былых камсамольцаў вёскі, арганізоўваў ігрышчы, на якія прыходзілі партызаны зь лесу, дзе між вясковай моладзі вялася прапагандавая праца. Яны намаўлялі дзяўчат да прастытуцыі, каб пасылаць іх да паліцыі й немцаў, пры гэтым цешылі, што Сталін дазволіў рабіць аборты. Я ведаў, што на Каляды 1942 году Журба ладзіцца рабіць вечарынку ў маёй школе, і гэтым вечарам схаваўся. Ён амаль усю вёску абышоў, але мяне не знайшоў. Тады яны выламалі дзьверы ў маёй школе й зрабілі там ігрышча. Не даваць ключа партызанам я меў дзьве падставы: калі б нямецкія ўлады даведаліся аб тым, што я даў ключ партызанам, каб тыя ў школе праводзілі ігрышча й мітынгі, мяне застрэлілі б ці павесілі. А другое — я як настаўнік не хацеў з школы рабіць дому распусты.

Пасьля гэтага, з 25 сьнежня 1942 году, я ўхіляўся ад спатканьня з партызанамі і ўночы спаў ня дома, але на дварэ на сене, нават пры маразох –30˚. Я меў намер уцякаць з дому ў Менск, але ведаў, што партызаны па дарогах валочацца. Нарэшце 30 студзеня 1943 году, калі быў вялікі мароз, да –30 градусаў, і мяцеліца, я адзеўся лёгка, нічога з сабою ня браў, апрача аднаго хунта хлеба ў кішэнь, ды раніцою выправіўся ў дарогу. К вечару я шчасьліва дабраўся да Лагойску. Гэты дзень меў выдатнае месца ў маім жыцьці. Я хоць і запэўніваў брата й сёстраў, што шчасьліва прайду, але сам у гэта мала верыў, бо мог спаткацца з партызанам, які мог мяне забіць. У гэты дзень я пакідаў сваю родную вёску, якую так моцна любіў. Як я выходзіў з хаты, старэйшая сястра Марыля запыталася, калі я вярнуся. Я адказаў:

— *Толькі тады, калі ўжо бальшавікоў у нашай вёсцы ня будзе.*

— *А калі немцы пакінуць нашу краіну, дык што ты будзеш рабіць?* — пытае яна.

— *Калі немцы будуць адыходзіць на захад, дык і я за імі пайду, хоць, можа, нікуды й не зайду,* — адказаў я.

— *Дык я ж цябе болей ня ўбачу?* — сказала яна бязь сьлёз (у тыя гады сьлёзы былі ня ў модзе)

— *Усё можа быць,* — адказаў я й пайшоў з хаты.

Хоць я быў для сваёй сям'і — брата Янкі й сясьцёр Марылі й Юзэпы — адзінай апорай і надзеяй, але яны рады былі, калі б я ў тыя часы дома зь імі ня жыў, бо для іх было б надта вялікай пакутай, калі б мяне на іхных вачох забілі. Яны спадзяваліся, што калі я зайду ў Менск, дык застануся жывы.

---

385 ***Ударожыцца*** — у вадно месца часта хадзіць (АВ).

Пасьля тэй ночы, калі мяне вадзілі па вуліцы й на ігрышча ды партызаны рабавалі маю маёмасьць, я валізку зь бялізнай, зімовае паліто й кажух адправіў у Лагойск. Пражыўшы два дні ў Лагойску, я з сваімі рэчамі накіраваўся ў Менск. Дома з матэрыяльнага боку жылося дрэнна. Яшчэ ў пачатку сьнежня 1942 году нейкія далёкія партызаны (крымінальнікі, скінутыя з самалётаў) забралі купленага напавер кормнага парсюка, за якога прыйшлося пасьля забору расплачвацца. Потым вясной забралі падсьвінка й авечкі. Пасьля гэтага засталася толькі кароўка ды конік-здыхляк.

## ІЗНОЎ У МЕНСКУ

Маё пражываньне ў Менску, як з матэрыяльнага боку, гэдак і з маральнага, было вельмі цяжкім. Афіцыйна на працу нідзе не станавіўся, а штосуботы адзначалі маю прысутнасьць у рэдакцыі "Менскай ґазэты". Я туды падаваў свае допісы й мне плацілі ганарар. Хоць аплата за артыкулы была нядрэнная, але гэта рэдка выходзіла, дык я зарабляў мала. Калі памёр прафэсар Тэпін, д-р Янка Станкевіч[386] прапанаваў паставіць мяне рэдактарам дзіцячага часопісу, але гэтаму запрацівіўся Кіпель[387] (ён быў старшынёй аддзелу навуковых работнікаў). Я хоць тады й не лічыўся на працы, але займаўся ўкладаньнем падручнікаў для III і IV клясаў пачатковай школы. З дапамогай Язэпа Найдзюка[388] я зьвяртаўся да старшыні Самапомачы Сабалеўскага[389], каб атрымаць працу; ён

[386] **Янка Станкевіч** (1891—1976), грамадзкі дзеяч, мовазнавец, журналіст. У часе нямецкай акупацыі ўваходзіў у склад Цэнтралі Беларускай народнай самапомачы (БНС), займаўся адукацыйнымі праектамі (школьніцтва, выдавецтва). У 1944 г. перабраўся да сям'і ў Прагу. У паваеннай Нямеччыне настаўнічаў у беларускіх лягерах Ды-Пі, выкладаў у Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. Стварыў Крывіцкае навуковае таварыства імя Пранціша Скарыны. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку, пазьней у Нью-Джэрзі.

[387] **Яўхім Кіпель** (1898—1969), грамадзкі дзеяч. Арыштаваны ў 1930 г. па справе "Саюзу вызваленьня Беларусі" й высланы на пяць гадоў у Вяцкую вобласьць, у 1935 г. арыштаваны паўторна й высланы на Далёкі Ўсход. У 1942 г. вярнуўся ў Менск, працаваў у Галоўным школьным інспэктараце, рэдакцыі газэты "Голас вёскі", займаўся падрыхтоўкай падручнікаў. Старшыня Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, потым у ЗША.

[388] **Язэп Найдзюк** (1909—1984), грамадзкі дзеяч, выдавец, друкар. У часе нямецкай акупацыі ў Менску працаваў у Галоўным школьным інспэктараце й тэхнічным кіраўніком Выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі ў Менску, супрацоўнічаў зь менскімі газэтамі. Пасьля вайны пераехаў у Польшчу, дзе жыў у Інаўроцлаве пад імем Юзафа Александровіча. Аўтар папулярнага гістарычнага нарысу "Беларусь учора і сяньня".

[389] **Юры Сабалеўскі** (1889—1957), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі займаў пасаду бурмістра Баранавічаў. Ад лета 1943 г. да студзеня 1944 г.

абяцаў, але я не дачакаўся. Нарэшце пры дапамозе Найдзюка мне ўдалося ўладзіцца на працу ў выдавецтва школьных падручнікаў. Гэтае прыймо цягнулася доўга, і аж у пачатку сакавіка 1944 году я ўладзіўся на працу навукоўцам і ўкладаў гэтыя самыя падручнікі для III і IV клясаў народнай школы. Я спадзяваўся, што ці перш, ці трохі пасьля немцы будуць прымушаны адступаць, а я ніякім чынам не хацеў заставацца пад бальшавікамі, дык апошнія месяцы стараўся ўладзіцца на працу, каб змагчы зь немцамі падацца на захад.

Калі я пайшоў на працу, аддзел маладых навукоўцаў далучылі да школьнага аддзелу Цэнтральнай рады, якім кіраваў д-р Скурат[390]. Як я першы дзень зьявіўся на працы, д-р Скурат прапанаваў мне сесьці за стол школьнага інспэктара й выконваць інспэктарскія абавязкі. Я наглуха адмовіўся. Тады д-р Скурат выклікае Кіпеля й кажа яму, што я адмаўляюся сесьці за стол інспэктара, ды нарэшце прапануе сесьці за стол інспэктара яму. Кіпель ускіпеўся й аблаяў д-ра Скурата шляхцюком і непісьменным ды яшчэ безьліч розных эпітэтаў дадаў. Ня досыць гэтага — Кіпель падае заяву прэзыдэнту Астроўскаму[391], дзе бессэнсоўна маніць, што д-р Скурат хацеў паставіць Гладкага старшынёй аддзелу навуковых работнікаў, а Кіпеля — школьным інспэктарам. На гэткую выдумку Кіпеля ўсе навукоўцы толькі рукамі сталі разводзіць, бо гэта была нахабная хлусьня.

Я пачаў укладаць гэтыя падручнікі вясной 1943 году. Працаваў не сьпяшаючыся, бо ня ведаў, ці будзе калі гэта кніжка друкавацца. Але ў пачатку 1944 году немцы пажадалі, каб кніжка для III клясы была закончана; я пасьпяшыў і давёў работу да канца. Шэф народнай асьветы Генэральнага камісарыяту Беларусь д-р NN[392] перагледзеў гэтыя

старшыня Беларускай самапомачы. У студзені 1944 г. стаў віцэ-прэзыдэнтам БЦР. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, ЗША, ад 1955 г. зноў у Нямеччыне.

[390] **Яўхім Скурат** (1906—1992), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі займаўся арганізацыяй беларускага школьніцтва. Быў акруговым школьным інспэктарам у Глыбоцкай акрузе. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Пры канцы 1940-х гг. пасяліўся ў Канадзе.

[391] **Радаслаў Астроўскі** (1887—1976), грамадзкі дзеяч, пэдагог, прэзыдэнт БЦР. У 1939—1941 гг. старшыня Беларускага камітэту самапомачы ў Лодзі. У ліпені — верасьні 1941 г. быў старшынём Менскага намесьніцтва, потым арганізоўваў беларускую адміністрацыю ў Бранскай, Смаленскай, Магілёўскай акругах. Ад 21.12.1943 прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады. Ад ліпеня 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, у 1944—1948, 1950—1954 гг. — у Швейцарыі, у 1948—1950, 1954 гг. — у Аргентыне. У 1954 г. прыехаў у Вялікабрытанію, а ў 1962 г. з прычыны хваробы пераехаў у ЗША.

[392] Магчыма, маецца на ўвазе **Ёжэф Сівіца**, сілескі немец, які з кастрычніка 1941 г. узначальваў Школьны інспэктарат у Генэральным камісарыяце

матэрыялы й знайшоў іх адпаведнымі для друку, толькі прапанаваў начыста іх на машынцы перапісаць. Я здаў матэрыялы перапісваць начыста, перапіска зацягнулася аж да часу адступленьня немцаў, дык увесь матэрыял для падручніка III клясы загінуў.

Калі я здаў матэрыял у перапіску, Кіпель мне прапануе прыняць да сябе ў суполку аўтарытэтных асобаў, бо посьпех кнігі будзе залежаць не ад якасьці кнігі, але ад рэцэнзіі, а калі аўтарытэтныя асобы будуць падпісаныя аўтарамі, дык і рэцэнзія будзе добрая. Я адмовіўся ад ягонай парады.

Як я ўжо вышэй успамінаў, калі зімой 1942 году я здаў у "Менскую ґазэту" артыкул — мае ўспаміны пра Ўсебеларускі кангрэс у 1917 годзе; беручы ад мяне гэты артыкул, Матусевіч, які сядзеў за рэдактарскім сталом, прапанаваў на адвароце падпісаць свой адрас і прозьвішча. Мне гэта здалося падазрона й праціўна, але ў мяне не хапіла нахабства, каб узяць ад яго назад артыкул, а мусіў усё гэта падпісаць. Калі я ў 1943 годзе прыбыў у Менск і часта бываў у рэдакцыі, дык аднаго разу Матусевіч стаў прыставаць з гутаркай, успамінаючы людзей і паселішчы з Лагойшчыны. Калі я ў яго запытаўся, дык ён кажа, што ягоная сястра працавала настаўніцай і ён там бываў. Ён у мяне пытае, дзе мая кватэра ў Менску. Я сказаў. Я той дзень да вечара дамоў не прыходзіў, а калі вечарам вярнуўся, мне кажуць, што да мяне прыходзілі два чалавекі: адзін высокі зь белымі валасамі, а другі ніжэйшы, з чорнымі валасамі (невядомы). Мне гэты візыт здаўся падазроным. Але калі мяне з Матусевічам знаёмілі, называлі беларускім дзеячом і патрыётам, дый у рэдакцыі ён займаў высокае месца. А дома ў яго было панастаўляна й Пагоні розных выглядаў, і Ярылаў крыж, і на машынцы паперапісваныя патрыятычныя вершы, дык я й думаю: можа, дарма падазраю яго за нейкую цёмную асобу? Ён некалькі разоў прыходзіў да мяне на кватэру, а прычыну даваў такую: можа, сюды прыяжджаюць зь вёскі, дык ён думаў, каб купіць што з прадуктаў.

Наастатку ён быў галоўным рэдактарам сялянскай газэты (я забыўся, як яна называлася), якая выходзіла два разы на тыдзень. Аднаго разу ён мне й кажа:

— *Нашто вам кожны раз па газэту хадзіць аж у рэдакцыю (на Койданаўскую вуліцу ля пляцу Волі), а лепш па суботах і серадах прыходзьце да мяне на кватэру.*

Ад маёй кватэры да ягонай было ня болей як паўкілямэтра, а да рэдакцыі — каля пяці кілямэтраў. Я гэдак некалькі тыдняў і рабіў. Аднэй серады я іду да Матусевіча па сьвежую газэту, а там перад ґанкам

---

Беларусі, а з кастрычніка 1942 г. таксама кіраваў Выдавецтвам школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі ды фактычна выконваў функцыю цэнзара друкаваных кніг.

ягонай кватэры нейкая баба выбівае ад пылу нейкую старую кушэтку. Я ўзышоў на ґанак, а тая баба пытае ў мяне:

— *Куды ж вы? На гару?*

— *А не, сюды, да Матусевіча!* — адказваю.

А яна мяне за плячо спыніла дый кажа:

— *Стойце, не ідзіце сюды, тут гестапа.*

У мяне на думцы ўзьбегла нейкае маленькае абурэньне на гэту кабету: "*Чаму я маю баяцца гестапа, я ж ніякі не злачынец?!*". Але раптам я падпарадкаваўся ёй і пайшоў з ґанку, калі яна мяне адпіхнула. Перш ішоў памаленьку, а пасьля падбавіў кроку, ды, не азіраючыся, паціснуў на вуліцу ды проста аж у рэдакцыю. У рэдакцыі, як заўсёды, было некалькі асобаў, якія між сабой размаўлялі. Прыйшоўшы, я пытаюся ў Адамовіча[393]:

— *Што здарылася з Матусевічам?*

— *Што здарылася? Забіў чалавека, а сам уцёк у лес.*

Я толькі па нейкім часе даведаўся, што яны з сваім сябрам-партызанам (бадай, з тым чорным, зь якім да мяне прыходзіў) забілі Акінчыца[394] ў Казлоўскага[395] на кватэры, а самі ўцяклі ў лес. За дзень ці два перад гэтым ён мне рабіў напамін, але я не здагадаўся. Мы зь ім спаткаліся на вуліцы; я ішоў у рэдакцыю, а ён з рэдакцыі. Ён мне й кажа:

— *Я хутка выяжджаю зь Менску, паеду ў Бэрлін на курсы рэдактараў.*

— *А вы добра ўладаеце нямецкай мовай, каб разумець выкладаньне?* — пытаю я.

— *Там будзе выкладаньне на расейскай мове,* — адказаў Матусевіч.

---

[393] **Антон Адамовіч** (1909—1998), грамадзкі дзеяч, літаратуразнавец, гісторык, публіцыст, літаратар. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Менскай гарадзкой управе, "Беларускай газэце", галоўным рэдактарам выдавецтва "Менск", уваходзіў у Цэнтральную раду Беларускай народнай самапомачы, выконваў абавязкі рэфэрэнта па справах прэсы й прапаганды Генэральнага камісарыяту Беларусь. Увосені 1943 г. выехаў у Нямеччыну. Па вайне працаваў у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу, быў адным з заснавальнікаў газэты "Бацькаўшчына", яе рэдактарам. Радны БНР, у розныя часы ўваходзіў ва ўрад і Раду БНР. Ад 1949 г. жыў у ЗША.

[394] **Фабіян Акінчыц** (1886—1943), грамадзкі дзеяч, юрыст, журналіст. У 1933 г. заснаваў БНСП, разам з У. Казлоўскім выдаваў часопіс "Новы шлях". У 1939 г. выехаў у Берлін. У 1940 г. узначаліў беларускае бюро пры Міністэрстве прапаганды, кіраваў школай беларускіх прапагандыстаў у Вустраве пад Берлінам. Застрэлены ў Менску.

[395] **Уладыслаў Казлоўскі** (1896—1943), грамадзкі дзеяч, паэт, публіцыст. У 1941—1943 гг. рэдактар "Беларускай газэты". 13.11.1943 савецкія партызаны Іван Шнігір і Канстанцін Немчык забілі яго ў рэдакцыі газэты.

Ён завёў мяне на кватэру, даў чатыры кніжкі да чытаньня. А ў яго на кватэры быў цэлы пакойчык, заложаны кнігамі ад долу аж да столі, а жылыя кватэры былі пустыя.

Калі я пачуў ад Адамовіча гэткія словы, у мяне пайшоў мароз па целе. Нават і цяпер, калі ўспамінаю гэта, устрасянуся. Калі б ня тая кабеціна, дык я ўсунуўся б у кватэру Матусевіча. А калі б у мяне запыталіся: "*Чаго ты прыйшоў?*", я, нічога ня ведаючы, сам сябе закапаў бы, сказаўшы: "*Прыйшоў да Матусевіча, гэта мой знаёмы*". І гэтага хапіла б, каб мяне застрэліць ці павесіць. Караленка[396] быў родам з Заходняй Беларусі й працаваў у гэтай самай рэдакцыі, а толькі на кватэры жыў побач з Матусевічам, дык яго арыштавалі й два тыдні трымалі ў вастрозе, хоць за яго й сьведчылі беларусы ды немцы. А я ж там быў зусім чужы.

Працуючы ў Цэнтральнай Радзе ў навуковым аддзеле, кожны навуковец выконваў сваю работу як днём на працы, гэдак і дома, але Сабалеўскі часамі падглядаў, ці ўсе працуюць. Што навуковец піша ці чытае, ён не цікавіўся (дык каб і папытаўся, навуковец мог бы яму не сказаць), але абы толькі пісаў ці чытаў. Сабалеўскі прыходзіў у БЦР рана ды, хаваючыся за слупам, сачыў, дзе службовец шапку зьнімае. Калі службовец перш зьнімаў паліто, а потым шапку, дык ён рабіў заўвагу.

Усе службоўцы БЦР, як і ўсе іншыя жыхары Менску, хадзілі па чарзе на працу рабіць земляныя ўмацаваньні места Менску. Я працаваў аднаго разу на пляцы Волі, дзе стаяў Петрапаўлаўскі сабор, што бальшавікі ўзарвалі. Там з правага боку сабору быў помнік-пліта нейкаму ўніяцкаму біскупу. Таго дня да дамавіны дабраліся, але не вымалі; потым казалі, што на другі дзень вынялі мэталічную дамавіну, дык прыйшлі немцы й некуды панесьлі.

Калі немцы забралі Менск, картатэку беларускага слоўніка, падрыхтаваную яшчэ наццэмамі, у мяшкох і скрынках вывезьлі ў Жыдоўскі пэдтэхнікум ды склалі там у вадзін невялікі пакой (прыблізна 4 × 4 — 16 квадратных мэтраў) ад падлогі па вокны. У гэтым будынку начавалі зьняволеныя жыды, бо ён быў у межах гета. Мяшкі яны забралі накрывацца, а скрынкі пабралі на дровы, таму гэтыя карткі былі выкалачаныя зь мяшкоў і скрынак, а на іх спала 18 асобаў жыдоў, дык карткі былі моцна сапсаваныя й падмочаныя. Агледзеў іх Кіпель. Дык наймалі хлопцаў-падлеткаў з уцекачоў, і я хадзіў некалькі дзён з гэтымі хлопцамі разьбіраць карткі: мы іх вязалі ў пачкі — каля соткі картак у кожную, і блізка трацiны картатэкі разабралі.

Аб II Беларускім кангрэсе мы, звычайныя работнікі БЦР, ня ведалі. Вечарам напярэдадні кангрэсу мне Кіпель перадаў мандат на кангрэс. Раніцой зайшліся да мяне на кватэру два хлопцы з Лагойску, з батальёну

[396] **Мікола Караленка**, журналіст, супрацоўнік "Беларускай газэты". Ад 1944 г. — на эміграцыі. Далейшы лёс невядомы.

Беларускай краёвай абароны, пасланыя дэлегатамі на кангрэс; яны ішлі да Менску ўсю ноч. Мяне часта турбуе доля гэтых хлопцаў, бо, здаецца, таго самага дня немцы пакінулі Лагойск. Калі я ішоў на кангрэс, дык у Вілах (пры злучэньні Лагойскага й Барысаўскага трактаў) сядзелі з клумкамі ўцекачы з Барысава. Іх прывезьлі на вазюрных машынах і ссадзілі там. Ідучы Савецкай вуліцай, я абмінаў скрываўленых кульгавых нямецкіх жаўнераў, якія ішлі да станцыі, а па вуліцы то там, то сям стаялі падбітыя танкі.

## У ВЯЛІКУЮ ДАРОГУ

Калі назаўтра пасьля Ўсебеларускага кангрэсу, 28 чэрвеня 1944 году, я ішоў на працу, там-сям збоку вуліцы капалі ў калена глыбінёй ямы з спусклівым[397] бокам — ад вуліцы машыну ці танк заганяць; мяне гэта ўстрывожыла. Гэтага ж дня службоўцы БЦР, як і заўсёды, прыходзілі на работу, а Сабалеўскі гэдаксама ў фае стаяў за слупам і назіраў, дзе хто шапку зьнімаў — ці на ґанку перад дзьвярыма, ці зачыніўшы ўжо дзьверы. Гэдаксама разьдзяваліся, расьпісваліся ды ішлі па сваіх працоўных месцах. Пасьля паўтарагадзіннай працы пасланец хадзіў па ўсіх пакоях і склікаў службоўцаў у залю на зборку. Прыйшоўшы ў залю, прэзыдэнт БЦР сказаў:

— *Ходзяць па месьце панічныя чуткі, што на фронце ня ўсё добра. Гэтыя чуткі маюць пад сабой падставу, а дзеля гэтага лічым, што з гэтага часу наша работа скончана, і вы вольныя. Хто хоча ехаць, дык ідзіце дамоў, забірайце свае рэчы ды празь дзьве гадзіны прыходзьце сюды з рэчамі. Шмат рэчаў не бярыце, бо невядома, ці доўга прыйдзецца ехаць.*

Я прыйшоў на кватэру, хутка злажыўся, зьвязаў у клумак зімовае паліто й кажух ды, перавязаўшы гэты клумак з валізкай, перакінуў праз вэлясыпэд і папхнуўся да будынку БЦР, дзе пры бальшавікох была цэнтральная бібліятэка. Гэта было ўжо паўднём, там стаяла шмат людзей.

Хоць прэзыдэнт перасьцерагаў, каб шмат рэчаў ня бралі, але надвечар меская ўправа прыслала дзьве машыны-вазюркі. На аднэй звозілі да будынку БЦР рэчы багатых сем'яў, што меліся выяжджаць на захад, а на другой машыне звозілі рэчы невядома адкуль і невядома чые; гэта былі большай часткай запакаваныя й забітыя наглуха скрынкі, іх злажылі на панадворку ля будынку ў вялізную кучу. Перад вечарам службоўцам БЦР выплацілі пэнсію й выдалі прахадныя на пераезд у Нямеччыну.

Назаўтра, 29 чэрвеня, адна машына вазіла на станцыю падарожнікаў зь іхнымі рэчамі, а другая — тыя пакункі, што былі ў вялікай кучы. Мы прыехалі на станцыю блізка паўднём, але вагоны нашага эшалёну

---

[397] ***Спу́склівы*** — нястромкі (АВ).

былі перапоўнены; да якога вагона ні падыдзі, дык крычаць: «Тут поўна! Ідзі далей». І гэдак усюды. Людзі сядзелі на рэчах пад самай стольлю. Трэбала садзіцца ґвалтам. Праўда, у некаторых вагонах было раскошна, прыкладам, для вышэйшых урадоўцаў, папоў, юнакоў. У наш эшалён уваходзіла тры саставы. Наперадзе, вагонаў каля сямі, ехалі юнакі (хлопцы 13—15 гадоў), у васяродку ехалі мы: супрацоўнікі БЦР ды іншых установаў з сваімі радзінамі, а ззаду — нейкі аддзел прапаганды зь немцаў і расейцаў. Позным вечарам мы выехалі зь Менску, але бадай цэлую ноч стаялі за местам на полі на нейкім прыстанку. Днём паехалі. З вагонаў мы маглі назіраць, што ўсе дарогі на захад былі перапоўнены сялянскімі вазамі. Часамі ў дарозе прыходзілася доўга стаяць: прыкладам, вельмі доўга стаялі на станцыі Стоўпцы; на станцыі Гарадзея стаялі блізка цэлыя суткі. Там сталі разьбірацца з рэчамі. Выявілася шмат безгаспадарных рэчаў — з тэй загадковай кучы. Нарэшце да гэтых рэчаў прызнаўся адзін нікому невядомы чалавек — Малчанаў. Калі пайшлі да начальства з пытаньнем, адкуль узяўся гэты чалавек, начальства адказала:

— *Праўда, ён у нас не працаваў, але падаў заяву, каб у нас працаваць гаспадарнікам, а ён працаваў у Гандляпроме.*

Калі цягнік пачынаў адыходзіць з станцыі Гарадзея, дык хлопцы піхнулі з вагона цяжкую скрынку. Уласьнік яе, Малчанаў, хаваючы ўсьмешку, толькі рукой махнуў. З задняга вагона выскачылі юнакі й падчапілі гэту іскрынку ў свой вагон — у ёй было 96 кіляграмаў саланіны; 12 хлопцаў за летнюю ноч быццам гэту саланіну зьелі. Там была й вялізная скрыня менскай махоркі; яе разьдзялілі па вагонах, а старшыя вагонаў раздавалі яе пасажырам.

У нашым вагоне за старшага быў гаспадзін Хількевіч, "інжынэр" БКС[398], зямляк і правая рука Сабалеўскага. Хількевіч вядомы быў тым, што выдаваў службовыя пасьведкі ня толькі расейскім партызанам, але й крымінальнікам. Людзі з пасьведкамі Хількевіча вольныя былі ад вывазу ў Нямеччыну. Мне здарылася бачыць зь Хількевічавай пасьведкай бадай што разбойніка, які паказваў залатыя масткі, дзе ў каронках тырчэлі касьцяныя паламаныя зубы. Калі я ўбачыў гэта, мяне ахапіла такая агіда да гэтага чалавека, бо ён ці ў жывога ці ў нежывога выломваў гэтыя зубы. Калі ў таго чалавека была Хількевічава пасьведка, дык мне здавалася, што й Хількевіч блізкі да гэтых людзей.

Хількевіч раздаваў табаку, што ў Малчанава забралі. Калі ён у мяне стаў пытацца, колькі я атрымаў пачкаў, дык я яму не адказаў, бо мяне апанавала агіда да яго і ў нас на гэтым грунце выйшла звадка, ня так зь ім, як зь ягонай жонкай.

[398] **БКС** — Беларускі камітэт самапомачы.

Калі паднялося пытаньне наконт таго багацьця, якое вёз Малчанаў, Сабалеўскі загадаў сваім “целаахоўнікам”, двум унтэрам са Смаленшчыны, апісаць гэтыя рэчы й сказаў, што забірае іх пад камітэт дапамогі. Але Сабалеўскі зьвярнуў рэчы Малчанаву, які іх пратрымаў да 1945 году, калі павёз іх назад пры бальшавіцкай рэпатрыяцыі ў Расею (гэта мне сказала А. А., якая бачыла гэта ўсё).

Прыехаўшы да Ліды, паравоз прычапілі да эшалёну з другога канца, і тая частка эшалёну, дзе былі расейцы й нямецкія прапагандыстыя, апынулася перад самым паравозам. Калі мы пад’яжджалі да станцыі Масты, дык наехалі на міну, і першыя 6—8 вагонаў было разьбіта (адны вагоны ўгнала на другія) і шмат людзей (расейцаў і немцаў) пабіта. Там мы мусілі прастаяць каля паўтара дня. Калі наладзілі дарогу, мы праз Масты паехалі на Беласток, дзе шмат нашых вылезла — вагон, у якім я ехаў, застаўся амаль пустым. Я надумаў ехаць датуль, куды будуць везьці. Зь Беластоку паехалі на Варшаву. Там таксама некалькі радзін зьлезла. Калі мы спыніліся на першым паўстанку за Варшавай, там было перапоўнена маладымі людзьмі. Яны й нас заклікалі застацца тамка зь імі. Я пасьля здагадаўся, што гэта былі варшаўскія паўстанцы. З Варшавы мы паехалі на Торн[399], а адтуль павярнулі на Кёніґсбэрґ, куды нам і было прызначэньне ехаць.

З харчаваньнем выходзіла дрэнна. З дому гаспадыня дала мне булку — два кілё хлеба. Я яго ўсю дарогу шанаваў, але калі мы стаялі на станцыі перад Мастамі пасьля аварыі, дык да мяне падышла старая Бурбісіха — жонка нябожчыка Бурбіса[400], беларускага дзеяча, — і пытае, можа ёсьць што зьесьці, бо яна аслабела. У мяне быў яшчэ малы кавалачак хлеба, я яго разрэзаў папалам і тут скончыў апошні хлеб. Два астатніх дні нічога ня еў. Мой сябра па падарожжы Нікіцін, настаўнік зь Віцебску, ня меў ні рэчаў, ні ежы, але пры ад’езьдзе зь Менску падхапіў на кухні вядро сырога гароху. А калі ў вагон ня ўлез, дык сеў ехаць з гэтым гарохам у кандуктарскую будку. Пасьля аварыі я пытаю:

— *Мусіць, гарох рассыпаўся ў часе аварыі.*

А ён адказаў, што не было чаму рассыпацца, бо скончыў да аварыі. Прыехаўшы ў Кёніґсбэрґ, мы зь ім пайшлі за места, там была нейкая кухня для перасяленцаў. Нікіцін меў з сабой кацялок і зайшоў на кухню. Там яму далі поўны кацялок кашы з вотрубаў. Там мы пад’елі.

У Кёніґсбэрґу нам прызначылі разьмясьціцца ў эвангелісцкай кірсе, дзе й паловы нашага транспарту не магло зьмясьціцца — людзі сталі захопліваць сабе “жылую плошчу”. Сабалеўскі з сваімі бліжэйшымі

---

[399] **Торн** (ням. *Thorn*) — нямецкая форма назвы г. Торунь.

[400] **Аляксандар Бурбіс** (1885—1922), грамадзка-палітычны дзеяч, публіцыст, актор і рэжысэр. Адзін са стваральнікаў беларускага прафэсійнага тэатру, аўтар дасьледаваньняў па эканамічнай геаграфіі, гісторыі, этнаграфіі, сельскай гаспадарцы, банкаўскай справе. Памёр ад сухотаў.

заняў аўтар і хацеў там разьмясьціцца больш прызваіта, але Кіпель стаў змагацца за ўшчыльненьне плошчы й паставіў на сваім. Сабалеўскі быў вельмі пакрыўджаны й на наступны дзень сказаў:

— *Я каюся, што з вамі зьвязаўся. Цяпер мая місія скончана, вы мусіце самі сабе шукаць месца, бо вы мне надакучылі.*

Гэта першая ноч у Кёніґсбэрґу выдалася надта гарачая, дык большасьць простых людзей з нашага транспарту разьляглася на панадворку на асфальце, дзе нам было выгадней, чымся ў кірсе, і ўвесь час нашага прабываньня ў Кёніґсбэрґу (здаецца, 4 ці 5 ночаў) мы спалі на гэтым асфальце. Калі толькі Сабалеўскі сказаў самім шукаць месца працы, людзі пабедавалі й вылучылі дэлегацыю, якая накіравалася ў Беларускі нацыянальны камітэт у Кёніґсбэрґу. Калі гэта дэлегацыя прыйшла ў камітэт, аж там ужо сядзіць Сабалеўскі, ды як закрычыць:

— *Пайшлі вон! Я тут урадую.*

Дэлегацыя мусіла вярнуцца ў сваю кірху. А есьці хочацца! Аж на трэці дзень па прыезьдзе атрымалі харчовыя карткі. Нарэшце было дамоўлена нас усіх накіраваць на працу ў нейкі прыморскі маёнтак, і мы на другі дзень меліся туды прыбыць. Гэтага самага дня праяжджаў праз Кёніґсбэрґ былы камэндант места Менску. Ён заўважыў нас і распарадзіўся ўвесь наш транспарт накіраваць на Рэйн — на свае прадпрыемствы й маёнткі. Нас пасадзілі ў вагоны й павезьлі праз Бэрлін, дзе Ўсходняе міністэрства[401] нас затрымала. Яму сказалі: ты быў камэндантам у Менску, а тут мы гэтымі людзьмі будзем кіраваць.

## У БЭРЛІНЕ

Нас памясьцілі ў нейкім тэатры, а на другі дзень сюды прыехала нейкая расейская трупа. Мы тут спалі на трохпавярховых ложках. Бэрлін ужо тады быў моцна разьбіты, але былі кварталы яшчэ не кранутыя. Нас там наведвалі Адамовіч і д-р Грынкевіч[402]. Сабалеўскі ды іншая арыстакратыя з БЦР спужаліся Бэрліну й вярнуліся з сваімі сем’ямі на ўсход — у Познань.

Мне прапанавалі працаваць у рэдакцыі ґазэты “Раніца”[403], пры гэтым заўважылі: *“У Бэрліне шмат людзей пабіла бамбардаваньнямі,*

---

[401] Маецца на ўвазе ***Ostministerium*** — Міністэрства ўсходніх акупаваных тэрыторыяў.

[402] **Станіслаў Грынкевіч** (1912—1966), грамадзкі дзеяч. У 1939 г. быў мабілізаваны ў польскае войска, трапіў у нямецкі палон. Ад восені 1941 г. да восені 1943 г. быў сакратаром Беларускага камітэту самапомачы ў Бэрліне, выкладаў на настаўніцкіх курсах пры камітэце. Пазьней рэдактар пэрыёдыкаў “Раніца” й “Беларускі работнік”. У 1950 г. перабраўся ў ЗША.

[403] “**Раніца”** — газэта, якая выдавалася ў Бэрліне на беларускай мове са сьнежня 1939 г. да красавіка 1945 г.

*але беларуса ніводнага не забіла, дык радзім заставацца*". Я з ахвотай даў згоду. Калі пайшоў ва Ўсходняе міністэрства, дык прадстаўнік Усходняга міністэрства Шнайдэр мяне хацеў накіраваць у "Вінэту"[404] карэктарам. Я не згаджаўся ды настойваў, каб лепей мяне накіравалі ў рэдакцыю "Раніцы". Яму гэта не падабалася, і ён ледзь даў згоду накіраваць мяне на працу ў "Раніцу" на пасаду рэдактара (супрацоўніка). Рэдакцыя тады знаходзілася на беразе ракі Шпрээ ў разьбітым будынку безь дзьвярэй і вакон. Галоўны рэдактар д-р Грынкевіч прапанаваў мне перайсьці туды на кватэру; я ахвотна згадзіўся, бо ня меў кватэры; мяне да гэтага будынку й прыпісалі. Там апрача д-ра Грынкевіча працавалі Цыбулька[405] й Караленка ды чатыры хлопцы — тэхнічныя работнікі. Я стаў уцягвацца ў працу: хадзіў на карэкту, напісаў некалькі артыкулаў, атрымліваў грашовыя пераказы на падпіску (бо заўсёды там расходзіўся) ды хадзіў у друкарню па газэту, а потым запакоўваў ды рассылаў. Уночы былі частыя алярмы, і я мусіў бегчы ў бункер.

Як я ўспамінаў, дом быў бяз вакон і дзьвярэй, дык я машынкі нанач састаўляў у куток, а сам расьсьцілаў кажух ды клаўся з краю. Д-р Грынкевіч мяне прыпісаў да гэтай кватэры, аформіў на працу і ўзбудзіў захады, каб мне выдавалі нямецкую харчовую картку, але я гэтай карткі яшчэ не атрымаў, калі ён звольніўся.

У рэдакцыю сталі наяжджаць новыя работнікі: зь Беластоку прыехалі Ільляшэвіч[406] і Сяднёў[407],

---

404 **"Вінэта"** — арганізацыя пры Міністэрстве ўсходніх акупаваных тэрыторыяў і Імпэрскім міністэрстве прапаганды. Была таксама і асобная беларуская рэдакцыя. У складзе "Вінэты" ў розны час працавалі Вінцэнт Гадлеўскі, Ян Пятроўскі, Андрэй Бароўскі, Юльляна Дубейкаўская-Мэнке, Мікола Байкоў, Валянціна Жукоўская.

405 Відаць, маецца на ўвазе **Аўген Цыбулькін**, колішні рэдактар "Газэты Случчыны", які спачатку выехаў у Нямеччыну, а пазьней жыў у ЗША.

406 **Хведар Ільляшэвіч** (1910—1948), грамадзкі дзеяч, журналіст, пісьменьнік. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Беластоку, кіраваў Беларускім камітэтам, рэдагаваў штотыднёвік "Новая дарога". У ліпені 1944 г. выехаў у Бэрлін, працаваў у рэдакцыі газэты "Раніца". У 1944 г. выдаў восем кніг з сэрыі "Народная бібліятэчка". Пасьля капітуляцыі Нямеччыны жыў у лягеры Ватэнштэт, настаўнічаў у мясцовай беларускай гімназіі, апекаваўся беларускім скаўтынгам. Аўтар кніг: "Навагоднія запросіны" (1946), "У Купальскую ноч" (1946), "Песьні выгнаньня" (1947), "Апавяданьні" (1948). Рэдагаваў часопіс "Шляхам жыцьця" (1946—1948), бюлетэнь "Апошнія весткі" (разам з М. Шылам). Загінуў у аўтакатастрофе.

407 **Масей Сяднёў** (1913—2001), паэт, празаік. Быў рэпрэсаваны й высланы на Калыму. У 1941 г. вернуты ў Беларусь на перагляд справы. З пачаткам вайны вярнуўся да бацькоў, працаваў на гаспадарцы. У 1943 г. разам з бацькамі выехаў на Захад. Жыў у Беластоку, працаваў карэктарам у "Новай дарозе", Беларускім камітэце. У 1950 г. выехаў у ЗША.

з Баранавіч д-р Станкевіч[408] і Шышка, а нарэшце з Познані — Наталья Арсеньнева[409] з сынам[410]. Вядомая рэч, калі прыбываюць здольнейшыя людзі па працы й вышэйшыя па грамадзкім стане, дык слабейшыя мусілі адціскацца назад. Сталася рэформа працаўнікоў рэдакцыі. Д-р Станіслаў Станкевіч застаўся галоўным рэдактарам, Шышка — гаспадарчым рэдактарам, Караленка, Ільляшэвіч і Арсеньнева — рэдактарамі. Я й Сяднёў павінны заставацца ў працаўнікох рэдакцыі й пісаць допісы, за якія будзем атрымліваць ганарар, а калі з ганарару не набярэцца пэнсіі 200 марак, дык маем атрымліваць датацыю з камітэту. Але д-ру Станіславу Станкевічу ня трэба было гэткіх работнікаў-дапісчыкаў, бо яны ўдвух зь Ільляшэвічам маглі даць матэрыялу на абедзьве газэты: і на "Раніцу", і на сялянскую газэту (забыўся, як яна называлася[411]). У гэтых газэтах матэрыял дубальтаваўся[412]. Пасьля гэтага Сяднёў звольніўся, а я стаў працаваць толькі ў экспэдыцыі: прыносіў газэты, раскладаў па адрасатах, запакоўваў і рассылаў. Прыносіць газэты памагалі іншыя работнікі, а запакоўваць і рассылаць — я сам, дый ніхто не правяраў выкананьня маёй работы. Я лічыўся месяц літаратурным работнікам (рэдактарам, як там называлі), а паўмесяца работнікам экспэдыцыі.

---

[408] **Станіслаў Станкевіч** (1907—1980), грамадзка-культурны дзеяч, літаратуразнаўца, публіцыст, крытык, выдавец. У 1939—1941 гг. выкладчык у Наваградзкай пэдагагічнай вучэльні. У 1941—1943 гг. быў бурмістрам Барысава, у 1944 г. — намесьнікам прэзыдэнта БЦР на Баранавіцкую акругу. Дэлегат Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1944 — пачатку 1945 гг. у Нямеччыне рэдагаваў бэрлінскую газэту "Раніца". Быў актыўным прыхільнікам аднаўленьня Рады БНР. Ад 1947 г. радны БНР. У 1948—1962 гг. рэдактар газэты "Бацькаўшчына" (Мюнхен). У 1963 г. выехаў у ЗША.

[409] **Наталья Арсеньнева** (у шлюбе **Кушаль**, 1903—1997), паэтка, грамадзкая дзяячка, жонка Ф. Кушаля. У 1940—1941 гг. разам з сынамі Яраславам і Ўладзімерам знаходзілася ў высылцы на поўначы Казахстану. У траўні 1941 г. атрымала дазвол вярнуцца ў Беларусь. У 1942—1944 гг. працавала ў "Беларускай газэце", перакладала лібрэта для Менскага гарадзкога тэатру. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку была ў Нямеччыне, дзе ўдзельнічала ў беларускім культурным жыцьці ў лягерах *DP*, выкладала ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1950 г. пераехала ў ЗША.

[410] Маецца на ўвазе **Ўладзімер Кушаль** (нар. 1926), сын Натальлі Арсеньневай і Франца Кушаля.

[411] Відаць, маецца на ўвазе **"Беларускі работнік"** — штотыднёвая газэта для беларусаў, што знаходзіліся ў Нямеччыне добраахвотна або былі вывезеныя прымусова. Выдаваўся з чэрвеня 1943 г. да лістапада 1944 г. Затым быў аб'яднаны з "Раніцай".

[412] ***Дубальтава́цца*** — дубляваца.

Нарэшце фронт пасоўваўся на захад. БЦР мусіла пераехаць з Познані ў Бэрлін. З 1 верасьня выйшаў загад, што ўсе людзі мусяць быць на працы. Еўцава жонка[413] працавала сакратаркай БЦР, а сам Евец[414] быў бяз працы, а калі выйшаў гэткі загад, БЦР прыслала Еўца на працу ў рэдакцыю. Ён ад мяне прыняў касу, а празь некалькі дзён Букатка[415], старшыня Беларускага нацыянальнага камітэту, піша Станкевічу, каб даць месца працы машыністцы Буйніцкай. Гэтая Буйніцкая была гэткай машыніскай, як я тады машыністым. Пасьля гэтага д-р Станіслаў Станкевіч мяне звольніў з працы ды за паўтара месяца не заплаціў і ніякага дакумэнта аб звальненьні ня даў, але зь сьпісаў маё прозьвішча скрэсьліў і напісаў: Буйніцкая. І гэткім чынам я стаўся дэзэрцірам з працоўнага фронту.

Калі Грынкевіч адыходзіў, а заступіў галоўным рэдактарам Станкевіч, мы зь Сецькам ішлі ў рэдакцыю па газэту, а Сецька й кажа да Станкевіча:

— *Гладкі мяне просіць, каб, ідучы па дарозе зайсьці, да Галі*[416] *аформіць ягоныя прадуктовыя карткі.*

Станкевіч вызьверыўся, каб не заходзілі. Мы зайшлі другі раз і аформілі карткі. Пасьля гэтага кожнага месяца немка прыносіла мне на кватэру да рэдакцыі прадуктовыя карткі, а нават і тады, калі я быў ужо бяз працы.

Калі мяне звольнілі, я ўсё роўна не выходзіў з памяшканьня рэдакцыі, бо не было куды. Аднаго разу мне Шышка напомніў:

— *Калі ты тут жывеш, дык ты зьяўляесься адказным за тутэйшую маёмасьць.*

Я па-ранейшаму прымушаны быў складаць нанач у кут машынкі ды класьціся з краю, каб хто ня ўкраў. Другі раз зноў ён мне напомніў:

— *Калі ты тут жывеш, дык павінен і працаваць.*

Я прымушаны быў прыбіраць памяшканьне, хадзіць па газэту й працаваць пры ўпакоўцы й адсылцы. А тая машыністка Буйніцкая амаль ніколі ў рэдакцыі не паказвалася. Часамі Шышка мне напамінаў:

---

413 Маецца на ўвазе **Раіса Евец** (дзяв. **Палуйчык**, 1915—1966), грамадзкая дзяячка, пэдагог. Працавала сакратаркаю БЦР. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Па сканчэньні вайны апынулася ў Браўншвайгу, працавала сакратаркаю ў Беларускім бюро. У 1949 г. разам з мужам Аркадзем выехала ў ЗША.

414 **Аркадзь Евец** (1904—1985), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны жыў у Беластоку, займаўся музычнай дзейнасьцю. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Ватэнштэце. У 1949 г. пераехаў у ЗША.

415 **Бэрнард Букатка**, грамадзкі дзеяч. У першай палове 1940-х жыў у Бэрліне, дзе працаваў у Беларускім прадстаўніцтве пры Міністэрстве ўнутраных спраў. Пры канцы 1940-х гг. выехаў у ЗША. Жыў у Кліфтане (Нью-Джэрзі).

416 Відаць, маецца на ўвазе **Галіна Палуйчык** (сястра Раісы Евец), якая працавала бухгальтарам у фінансава-гаспадарчым аддзеле БЦР у Бэрліне.

— *А вас усё ж няправільна звольнілі з працы.*

Аднаго разу я зэканоміў картак на хлеб ды ў канцы месяца ў суботу купіў булку паўтара кілё пшоннага белага пахучага хлеба. Якраз у гэты час прыходзіць Шышка.

— *А, цёплы хлеб?* — заўважыў ён.

Дастае ножык з кішэні й пачынае рэзаць ды есьці гэты хлеб, а пасьля дастаў з кішэні масла ды стаў мазаць ды есьці. Мне шкода гэтага хлеба, бо сам галодны як воўк, але не адважваюся адбіраць у яго, адно — сумленьне не дазваляе, а другое — у злосьць не хачу ўводзіць. Думаю, што неяк перажыву, мне не першыня галадаць. Застаўся маленькі шылаваценькі[417] кончык. Потым мой госьць як бы сам да сябе гаворачы:

— *Я не хачу дарма,* — ды стаў у кішэнях пароцца. Нарэшце нейкі талончык выцягнуў з кішэні, кінуў на стол і пайшоў. Я паглядзеў, аж талёнчык фэт[418] на два грамы маргарыну, але мінулага месяца, ужо нядзейны.

Аднаго разу ў нядзелю я сяджу ў гэтых руінах, паставіў машынку на стале ды памаленьку па адной літары друкую. У гэты час заходзіць Станкевіч і, як завідзеў гэта, вызьверыўся на мяне:

— *Глядзі, каб гэта было пасьледні раз.*

Я толькі пацiснуў плячыма ды з сораму й крыўды затросься.

Калі толькі мяне звольнілі, хтось напомніў Станкевічу, што неяк несамавіта Гладкага звольнілі, дык Станкевіч адказаў:

— *Я зь ім не дамаўляўся.*

Я падумаў, гэта азначае, што я мусіў бы да яго зьявіцца й абяцаць магарычу. Я гэтага ня ведаў, мне й ня шкода было б нешта й даць, але я так узгадаваны, што мне было б сорамна абяцаць і даваць магарыч.

Газэта "Раніца" выдавалася шаблённа. Цыбулька перапісваў зь нямецкіх газэт франтавыя падзеі й загады, Станкевіч і Ільляшэвіч садзіліся за машынкі й цэлы дзень білі, а яны пісалі хутка й граматычна, а да якасьці зьместу ніякіх патрабаваньняў не магло быць, бо немцы беларускай мовы не разумелі. Карэкты там не патрабавалася, а Цыбулька з Караленкам упраўляліся зь нямецкімі наборшчыкамі. Пасьля напісаньня Палыш прыносіў пляшку сьпірытусу ды Станкевіч і Ільляшэвіч садзіліся выпіваць. Каб газэта была надрукавана, клапаціліся Цыбулька й Караленка, а каб была разаслана й ці будзе разаслана, ніхто не клапаціўся. Калі прыехаў у Бэрлін Езавітаў, стаў закідваць рэдакцыю допісамі, дык Станкевіч аднаго разу сказаў:

— *Хоць ён і генэрал, але мы не дадзім яму столькі месца займаць у нашай газэце.*

Ён шкадаваў, каб ня выпусьціць з сваіх рук усяго ганарару.

---

417 ***Шылава́ты*** — пра рэч з доўгім вострым канцом (АВ).

418 **Фэт** (ням. *Fett*) — тлушч.

Калі д-р Грынкевіч накіроўваў мяне на жыцьцё ў рэдакцыю, дык прапанаваў мне заняць ложак, які там быў у бакоўцы, але Палыш перахапіў гэты ложак. Ён меў прыватную кватэру, але прывёў дзеўку з табару[419], расейку-остаўку, дык гаспадыня дому яе не пускала ў свой дом. Тады ён прывёў гэту дзеўку ў рэдакцыю, і на гэтым ложку яны спалі. Я зь ім у спрэчку не хацеў уступаць, бо ведаў, што ён працуе шпеґам у нямецкай паліцыі. Я зь Менску прывёз вэлясыпэд, дык да мяне прыходзіў немец у цывільным. Ён мне з споднняй кішэні паказаў бліскучую пушачку, папытаў дакумэнтаў ды стаў вэлясыпэд аглядаць. Я думаю, што Палыш яго прывёў. Д-р Грынкевіч хацеў Палыша звольніць і выселіць з рэдакцыі, але калі заступіў д-р Станкевіч, Палыш застаўся надалей.

У рэдакцыі ляжала старых газэт, мусіць, некалькі тонаў, ад некалькіх гадоў. Я хоць там і не працаваў, але задаўся мэтай разабраць гэтыя газэты па гадах, месяцах і нумарох. Яны былі ў задннім пакоі. Бывала, я разьбяру гэтыя газэты, а прыйдзе Палыш з сваёй дзеўкай ды зь іншымі дзяўчатамі, паскідаюць гэтыя газэты ды лягаюць спаць на іх.

Я баяўся за свой лёс: калі б жандары даведаліся, што я бяз працы, накіравалі б проста ў кацэт. Я папрасіў Лазуту[420], каб памог мне знайсьці працу. Ён знайшоў у пякарні, але там трэбала быць на правах остаўца, бо ў мяне не было нямецкага пашпарта. Калі прыехаў Езавітаў ды пачуў аб маім становішчы (мы зь ім былі знаёмыя яшчэ з 1917 году), ён як віцэ-прэзыдэнт БЦР і як вайсковы міністар напісаў мне рэкамэндацыйную запіску да старшыні Беларускага нацыянальнага камітэту Букаткі, што я ўдзельнік Віцебскай беларускай грамады й Першага Ўсебеларускага кангрэсу ў 1917 годзе, і прасіў яго, каб выдаў мне пасьведчаньне. Гэта пасьведчаньне раўнялася нямецкаму пашпарту. Букатка мне адказаў: *“Гэтага мала”*. Калі я празь месяц пасьля гэтага быў ужо на працы ды павёў да гэтага самага Букаткі палякаў, вывезеных з Варшавы пасьля паўстаньня (жонка мужу казала: *“Nie żałuj złota, oddaj i pierścnie złote, inaczej zginiemy”*[421]), як там было, ці ён што даў ці не, але гэтыя палякі атрымалі пасьведкі, што яны беларусы, і паехалі назад у Польшчу.

Аднаго разу я спаткаўся з Каханоўскім[422]. Ён папытаўся аб маім жыцьці й нарэшце сказаў напісаць заяву ў БКС, каб далі беззваротную

---

[419] ***Табар*** — тут: лягер.

[420] Відаць, маецца на ўвазе **Я. Лазута**, які пазьней жыў у Францыі.

[421] ***“Nie żałuj złota, oddaj i pierścnie złote, inaczej zginiemy”*** (польск.) — Не шкадуй золата, аддай і залатыя пярсьцёнкі, бо інакш мы загінем.

[422] **Аўген Каханоўскі** (да эмігр. **Калубовіч**, 1912—1987), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, гісторык. З пачаткам нямецка-савецкай вайны мабілізаваны ў армію, трапіў у нямецкі палон пад Масквой. Вызваліўшыся, жыў у Менску, кіраваў аддзелам культуры Беларускай Цэнтральнай Рады, узначальваў

пазыку ў суме 200 марак, а ў хуткім часе мне працу дадуць сакратара ў БКС. Я напісаў гэту заяву й падаў Саўку[423]. Ён мне зьвярнуў яе, сказаўшы, што нядобра напісана.

— *А чаму нядобра?* — пытаю.

— *Бо напісана "прашу", але няма слова "ветліва",* — дадаў ён.

Я напісаў і "*ветліва прашу*". Тады ён кажа:

— *Чаму вы напісалі 200 марак, калі можна месяц пражыць і з 150 марак?*

Я на гэта адказваю:

— *Я прашу 200 марак, а вы можаце рэзалюцыю налажыць — 150 марак або й 100, або напішыце, што й нічога ня можна даць, гэта ваша воля.*

Ён усё ж напісаў рэзалюцыю на 200 марак.

Аднаго разу ў пачатку лістапада прапануюць мне працу сакратара.

— *А дзе тая праца?* — пытаю.

— *У камітэце ў Кёніґсбэрґу,* — кажа ён.

Гэта было тады, калі ўжо шмат людзей уцякло з Усходняй Прусіі. Я падзякаваў і кажу:

— *Туды, можа, і пасьпеў бы заехаць, але адтуль не змагу ні прыехаць, ні прыйсьці.*

Сабалеўскі стаў разбудоўваць свой БКС на Штромштрасэ [*Stromstraße*]. Там было занята шмат людзей з Стоўпцаў і невядомых у беларускім грамадзтве (нейкія Вазьдзьвіжанскія). Калі я атрымаў пазыку, дык хоць і на работу ня быў прызначаны, але працу далі: на Штромштрасэ, дзе была рэдакцыя, мелася некалькі тонаў старых газэтаў, я мусіў іх пераносіць у бэрлінскі Беларускі камітэт на [...] штрасэ зьвязкамі па некалькі кілё за раз. Мне цяжкай і прыкрай гэтай работы хапіла б на тыдзень, але Лазута пазычыў недзе двухкольны вазок, дык я скончыў за два дні. Пасьля мусіў гэтыя газэты пакаваць у пачкі ды насіць на пошту, каб разаслаць у розныя беларускія камітэты, а там гэтыя старыя газэты выкідалі вон.

Нарэшце я дастаў сталую работу: на Бойзэльштрасэ [*Beuselstraße*] арганізавалі беларускі інтэрнат для ўцекачоў. Камароўскі[424] быў

---

Беларускае культурнае згуртаваньне. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Выкладаў беларускую мову й літаратуру ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу. Ад 1947 г. быў кіраўніком ураду БНР. Ад 1950 г. жыў у ЗША, спачатку ў Нью-Ёрку, а ад сярэдзіны 1950-х гг. — у Кліўлэндзе.

[423] Маецца на ўвазе **Ўладзімер Саўка**, які загадам віцэ-прэзідэнта БЦР Юрыя Сабалеўскага ад 12 лютага 1945 г. быў прызначаны заступнікам загадчыка сацыяльнага аддзелу БЦР.

[424] **Васіль Камароўскі** (1914—1953), грамадзкі дзеяч, журналіст. Ад 1941 г. быў сакратаром Беларускага камітэту самапомачы ў Бэрліне. У 1945 г. разам зь Сяргеем Хмарам ды іншымі заснаваў Літаратурную сустань "Баявая

назначаны кіраўнікам, а я вартаўніком. Камароўскі часамі па чатыры дні не прыходзіў, калі запіваўся, а ў мяне работы было бясконца: кожны дзень хадзіць у краму па вугальле, паліць печкі, назначаць чарговых прыбіральніц і сачыць за выкананьнем працы; у 9 гадзін ісьці з рапартам да Саўкі, а ў 10 да Сабалеўскага, у 11 адвозіць пошту да Цэнтральнай Рады й там чакаць пошты адваротнай. Прыехаўшы назад, застаеш канцылярыю замкнёнай, трэба чакаць, пакуль не адамкнуць, а толькі тады я мог ісьці на абед, але да гэтага часу ў сталоўках заставаліся толькі *штамы*[425]. Недалёка Цэнтральнай Рады была сталоўка, але Сабалеўскі забараніў мне заходзіць туды, хоць я й час меў. Была ў нашым інтэрнаце нутраная прыбіральня, але яна часта псавалася, то вада замярзала, то мушля[426] разьбівалася. Нарэшце са згоды Сабалеўскага прывезьлі дзьвюх цяжарных дзевак-расеек. Сабалеўскі мне загадаў, каб я іх вадзіў паказваць бліжэйшыя сталоўкі на абед і прыводзіў назад, каб не заблудзілі. А калі сталі ароджвацца, дык мне трэбала, ня знаючы мовы, шукаць паліцэйскай управы, а пасьля ўночы акушэркі. Аднаго разу прывезьлі дзьверы, і Сабалеўскі прыйшоў і грозна загадаў, каб гэтыя дзьверы былі ўстаўлены ў мураваную сьцяну, дзе драўляных вушакоў не было. Я там хацеў цьвікамі прыбіваць завесы да мураванай сьцяны, але Лазута дастаў два драўляныя цельпучкі, а тады мы мысьлікам выбілі па некалькі цаґлін ды цэмэнтам умазалі іх і да іх прысадзілі дзьверы.

Пасьля Калядаў арганізавалі другі беларускі інтэрнат на Морыцпляцы [*Moritzplatz*], і я мусіў туды перацягвацца на працу. Да інтэрнату трэбала даставацца й трамваем, і U-банам (падземкай). Там было шмат лепей, бо далёка ад Сабалеўскага. Там быў інтэрнат пераважна зь сем’яў вайскоўцаў. Калі я там прабываў, 8 лютага 1945 года, было вялікае бамбардаваньне тых ваколіц Бэрліну. Я ў той час ехаў U-банам; калі ў некалькіх месцах U-бан быў прабіты, пасажыраў былі вывелі й павялі ў бункер. Пасьля таго я быў накіраваўся да свайго інтэрнату й папаўся ў страшнае пекла пажару: усё кругом гарыць, дым выядае вочы, падняўся страшэнны вецер, капелюшы, як мяцеліцай, носяцца ў паветры, а людзей поўны вуліцы, зьбянтэжаныя, ходзяць памаленьку, калі прыйдуць у глухі куток, дзе вуліца завалена ці агонь не дае ходу, дык варочаюцца ў другі бок. Я насілу выбраўся з гэтага пекла. Тады ў Бэрліне загінула людзей 45 тысяч.

Наш інтэрнат стаў ліквідавацца, калі вайскоўцы выехалі на фронт, а іхныя сем’і эвакуяваліся на захад. Я кажу свайму кіраўніку

---

Ўскалось”. Пісаў пад псэўданімам Васіль Вярбіна. Ад 1950 г. жыў у Таронта. Загінуў у аўтакатастрофе.

[425] **Штам** (ням. *Stamm*) — абед, які складаецца з адной стравы.

[426] ***Му́шля*** — чарупіна, ракавіна мыць рукі.

Камароўскаму, што трэбала каўдэркі, 60 штук, зьвезьці ў камітэт на Штромштрасэ, а ён адказвае:

— *На якое ліха цягацца! Я ня ведаю, ці буду браць сваю валізку.*

Я падумаў: “*Калі ён пад расьпіску прыняў гэтыя каўдэркі, ды кідае, дык на якое ліха мне трэба супроць яго волі цягацца зь імі*”. Я на Морыцпляцы застаўся амаль адзін, дык прыехаў у камітэт на Штромштрасэ, каб што пачуць. Там застаўся толькі Беляніца, які да мяне й кажа:

— *Дзе вы ходзіце, там вунь усе ладуюцца на цягнік.*

Я вярнуўся назад на Морыцпляц, а туды нялёгка было дастацца, бо трэбала ехаць трамваем, а там праз пажарышча кілямэтар прайсьці пехатой, а далей перасядаць на U-бан. Я адтуль забраў свае рэчы ды назад на Больсэльштрасэ. Там ня ўсьпеў перадыхнуць, бо хватаўся на станцыю. Там прастаялі да вечара, а ўночы сталі ладавацца ў вагоны. Рэчы спакавалі. Гэтым эшалёнам выяжджалі з Бэрліну цэнтральныя ўстановы ўсіх нацыянальнасьцяў: беларусы, кіргізы, украінцы ды інш. Калі цягнік перад раньнем стаў рыхтавацца да адыходу, Сабалеўскі хацеў легчы спаць, а тут у вагоне цесна. Сталі сьвяціць у вочы, каб выкінуць, хто непатрэбны. Простыя сьмяротныя закрываюць вочы. Прычапіліся да Міляшкевіча[427], ён кажа, што Астроўскі дазволіў. Знайшліся дагадлівыя людзі, разраўнавалі рэчы, падабраўшы мяккія клумкі, зрабілі Сабалеўскаму пасьцель. У хуткім часе цягнік пакінуў Бэрлін.

## ГЁКСТЭР

У хуткім часе па прыезьдзе ў Гёкстэр[428] нас павялі ў арбайтсамт[429] рэгістравацца. Мы ўсе зьмясьціліся ў школе, спалі на саломе на падлозе, а сталаваліся ў этапнай сталоўцы й часта памагалі працаваць у гэтай сталоўцы на кухні. Празь некалькі дзён з восем чалавек нашых мужчын назначылі на працу ў інтэнданцтва. Я шкадую, што мяне туды не накіравалі. Наступнага дня мяне назначылі на працу на кухню. Калі мы перад паўднём скончылі сваю працу й нам сталі выдаваць полудзень, аж прыбягае пасланец і кліча мяне да Сабалеўскага. Я прыбег, аж там Сабалеўскі й Шнайдэр[430] сядзяць. Шнайдэр зварочваецца да мяне:

---

[427] Відаць, маецца на ўвазе **Антон Мілішкевіч** (1902—1987), які пазьней жыў у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША).

[428] **Гёкстэр** (ням. *Höxter*) — горад у Нямеччыне, у зямлі Паўночны Рэйн — Вэстфалія.

[429] **А́рбайтсамт** (ням. *Arbeitsamt*) — управа працы, біржа працы.

[430] Ва ўспамінах Леаніда Галяка немец **Шнайдэр** згадваецца як апякун зь Міністэрства ўсходніх акупаваных тэрыторый (гл.: Галяк, Леанід. Успаміны... Т. 2. С. 20).

— *Чаму ты на работу не пайшоў?*

Я адказваю, што пайшоў бы з ахвотаю, але мяне ніхто не паклікаў.

— *Я цябе туды пашлю, адкуль ты не ўцячэш,* — кажа Шнайдэр (значыць, у кацэт).

— *Так-так. Сам дастукаўся,* — дадае Сабалеўскі.

Я шмат каго прасіў за дольмэчэра[431], каб схадзіць у арбайтсамт і даведацца, у чым справа. Ніхто не паслухаў. Нарэшце выявілася, што Сабалеўскі ўпісаў маё імя, калі пасылаў людзей на работу, але ў арбайтсамце зьвярнулі ўвагу на мой век і фах ды не накіравалі на працу.

Выдаюць пэнсію за люты месяц. У гэты час Саўка зварочваецца да мяне:

— *Чаму каўдэрак не перавёз з Морыцпляцу на Штромштрасэ?*

Я адказваю:

— *Якая розьніца, дзе тыя каўдэркі мусяць прападаць: ці на Морыцпляцы, ці на Штромштрасэ. Вы павінны ведаць, што там быў кіраўніком інтэрнату Камароўскі, які пад расьпіску прыняў гэтыя каўдэркі, а ён мне сказаў, што ня трэба іх нікуды перавозіць. Я вас упэўніваю, што ні пры сучаснай уладзе, ні пры якай іншай я ня буду адказным за гэтыя каўдэркі й ніякі суд мяне за іх не зьвінаваціць.*

Мяне выклікаюць атрымліваць пэнсію. Я ўзяў пяро ў руку, каб падпісацца, а Саўка падбег і закрыў рукой паперу, дзе мне трэба падпісвацца. А тады схапіў ведамасьць і пабег да Сабалеўскага, які прыйшоў і сказаў касіру, каб мне пэнсіі не выдавалі.

Прыехалі з Бэрліну К. Новік[432], Пілецкія й некалькі іншых асобаў, якія там працавалі. Сабалеўскі хацеў іх здаць пад суд, што пакінулі працу, але яны ўцяклі ў нейкі кляштар і там сталі на працы.

Да Гёкстэру сталі набліжацца амэрыканцы, ужо часамі быў чуваць гук гарматаў, дык Сабалеўскі, крыўдзячыся на старасьць, здаў свае абавязкі Саўку, а сам паехаў на швайцарскую граніцу, забраўшы свае 18 валізак. Нарэшце прыехаў у Гёкстэр і сам прэзыдэнт БЦР Астроўскі з сваімі ад’ютантамі: Дземідовічам-Дземідзецкім[433], Нэронскім[434] й Со-

---

[431] ***Дольмэчэр*** (ням. *Dolmetscher*) — перакладчык.

[432] Магчыма, маецца на ўвазе **Кузьма Новік**, які ў 1943—1945 гг. працаваў у Беларускім прадстаўніцтве ў Бэрліне, супрацоўнічаў з БЦР.

[433] Відаць, маецца на ўвазе **Адам Дземідовіч-Дземідэцкі** (1888—?), юрыст паводле прафэсіі. Нарадзіўся на хутары ў Пухавіцкім раёне, да вайны займаўся эканомікай, быў інспэктарам па вырошчваньні бульбы. Ад лета 1941 г. жыў у Менску, быў намесьнікам бургамістра гораду. Карыстаўся асабістым даверам Р. Астроўскага, выконваў ягоныя асабістыя даручэньні.

[434] Маецца на ўвазе **Іван Няронскі** (**Наронскі**, 1909—?), ад’ютант Р. Астроўскага. У 1941—1944 гг. памочнік Астроўскага падчас працы ў Бранскай і Смаленскай адміністрацыях, у 1944 г. — яго ад’ютант і кіроўца, выконваў

калавым[435]. Яны прыехалі з хатулькамі за плячыма. Аднаго разу я да яго хадзіў пагутарыць. Ён мне абяцаў, што застануся пры Міністэрстве народнай асьветы. У хуткім часе, калі мы толькі пераехалі ў Гёкстэр, прыходзяць да Ісаенкі (скарбніка БКС) і кажуць яму здаць касу. Ісаенка адказвае, што без загаду Сабалеўскага, пісьмовага ці вуснага, ня можа гэтага зрабіць. Прыходзіць Сабалеўскі й кажа Каракульку[436] ў прысутнасьці Ісаенкі: забраць у яго касу, выкрасьліць зь сьпісаў БЦР ды няхай ідзе сабе куды хоча. Тут усе зьдзівіліся з дэспатызму Сабалеўскага, бо Ісаенка быў пажадаў толькі простай фармальнасьці пры здачы касы.

На Вялікдзень, 1 красавіка, прыйшоў загад БЦР ехаць на ўсход, бо амэрыканцы ўжо набліжаліся да Гёкстэру.

Пасьля таго як Шнайдэр і Сабалеўскі страшылі мяне кацэтам, на другі ці трэці дзень Сабалеўскі паслаў мяне й Шпакоўскага (паэта Алеся Случчаніна[437]) на працу — руйнаваць старыя могілкі: раўняць магілкі й разьбіваць помнікі. Я там зь ім раззнаёміўся. Гэта быў цікавы чалавек; ён вялікім молатам разьбіваў помнікі й сьпяваў опэрныя арыі, а потым мне й тлумачыць, што яму вельмі цяжка на душы, дык ён пяе, каб разагнаць нуду. Па дарозе ў Гёкстэр ягоная жонка захварэла разумова, дык яе здалі ў шпіталь, а маленькую дачушку — у сірацінец[438]. Мяне з тэй работы звольнілі раней за яго. Ён на Вялікдзень паехаў, каб знайсьці й праведаць сваю хворую жонку й дачушку, калі нечакана мы выехалі адтуль. Болей аб ягонай жонцы, дачушцы й ім самім нам невядома, хоць нашых людзей там засталося шмат, але ніхто не хацеў пацікавіцца ягоным лёсам. Былі чуткі, быццам ён памёр з сухотаў.

Калі мы тады, на Вялікдзень пад вечар, раптам зьбіраліся ў дарогу — ехаць у кірунку Бэрліну, дык Астроўскі, спаткаўшыся ў калідоры,

---

даручэньні. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны жыў у Браўншвайгу (Ніжняя Саксонія).

[435] Магчыма, маецца на ўвазе **Анатоль Сакалоў**, які працаваў загадчыкам пэрсанальнага аддзелу БЦР у Бэрліне.

[436] Відаць, маецца на ўвазе **Ўладзімер Каракулька** (1902—1982), грамадзкі дзеяч. У часе нямецкай акупацыі працаваў у аддзеле праектаў БЦР. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У студзені 1945 г. быў прызначаны загадчыкам аддзелу фінансаў БЦР у Бэрліне. Пазьней выехаў у ЗША, жыў у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі).

[437] Маецца на ўвазе **Лявон Случанін** (сапр. **Шпакоўскі**, 1914—1995), паэт. Падчас нямецкай акупацыі працаваў дырэктарам Лучнікоўскай школы (1941—1943), школьным інспэктарам на Случчыне (1943—1944), супрацоўнічаў з “Газэтай Случчыны”. Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну. У 1945 г. вярнуўся ў Беларусь, дзе быў арыштаваны савецкімі органамі. Адпраўлены ў лягер. Пасьля вызваленьня жыў у Варкуце, а потым пераехаў у Салігорск.

[438] ***Сірацінец*** — сіроцкі прытулак.

перада мной непавабна выказаўся супроць немцаў і пажадаў, каб іхная ўлада хутчэй прапала.

Тут я хачу дадаць успамін пра тое, як у канцы верасьня [1944 году] у Бэрліне беларусы ладзілі Дажынкі. Кіраваў зборкай д-р Грынкевіч. Вельмі зьмястоўны й цікавы даклад зь беларускага фальклёру рабіў Каханоўскі. У канцы зборкі ўварваўся Кіпель[439] і, ня просячы слова, распачаў сваю прамову супроць Астроўскага, што ён здраджвае немцам, што ён *"зьнюхаўся зь лёнданскім польскім урадам"*[440]. Публіка з страху стала ўцякаць з залі. Д-р Грынкевіч хацеў яго спыніць, але Кіпель датуль гаварыў, пакуль толькі адзін застаўся ў залі, бо ўсе паўцякалі.

Аднаго разу, будучы ў Менску ў 1943 годзе, мы з д-рам Янкам Станкевічам разгаварыліся аб той вялікай шкодзе, якую зрабілі беларускаму народу бальшавікі. Тут д-р Станкевіч дадаў, што гэдаксама велізарную шкоду беларускаму народу зрабілі й немцы. Толькі перасьцярог, што аб гэтым у іншых месцах ня трэба ўспамінаць. Я зьдзівіўся, што д-р Станкевіч добра мяне ня знае, а выказвае сьмелыя думкі.

У велікодную ноч 1 красавіка 1945 году наладаваліся на цягнік, а раніцой рушылі на ўсход. Беларусы, якія насілі вайсковую форму (афіцэрскую ўніформу), яшчэ ў Гёкстэры апошнія тыдні апранулі цывільную вопратку, але толькі адзін Дзямідаў[441], хоць наракаў на Езавітава, што не *"праізьвёў"* яго ў палкоўнікі, а пакінуў у падпалкоўніках, — упарта насіў вайсковую ўніформу, усе грудзі ўвешаў нейкімі шнурамі й абуў нейкія старамодныя ангельскія гетры ды ў гэткім строі паехаў у дарогу. Разам з намі ехаў і Астроўскі. Ён у вагоне ўсім службоўцам выдаў пэнсію, гэдаксама й мне. Мы ехалі каля трох дзён і нарэшце, не даяжджаючы да Маґдэбурґу [Magdeburg] 20 кілямэтраў, застанавіліся ў мястэчку Шлядынґ[442] за 20 кілямэтраў на захад ад Эльбы. Нас зьмясьцілі ў школе, дзе мы спалі на падлозе. Там мы дачакаліся й капітуляцыі Нямеччыны. Аднаго дня шмат ехала нямецкага вой-

---

[439] Маецца на ўвазе Яўхім Кіпель.

[440] Маецца на ўвазе ўрад Польшчы ў выгнаньні, які дзейнічаў ад 1939 г. спачатку ў Парыжы, пазьней у Лёндане. У 1944—1947 гг. прэм'ер-міністрам гэтага ўраду быў Томаш Арцішэўскі.

[441] **Мікола Дзямідаў** (1888—1967), вайсковы й грамадзкі дзеяч, публіцыст. У 1941 г. кіраваў Беларускім нацыянальным камітэтам у Дзьвінску, потым увайшоў у склад Беларускага нацыянальнага камітэту ў Рызе. У 1942 г. пераехаў у Беларусь, працаваў інспэктарам Генэральнага камісарыяту, потым рэфэрэнтам па школьных справах. Удзельнічаў у фармаваньні лідзкага батальёну БКА. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне, пазьней выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага.

[442] Населенага пункту з такім назовам у зазначаным раёне знайсьці не ўдалося. Магчыма, маецца на ўвазе **Шляйбніц**, сённяшні раён гораду Ванцлебэн-Бёрдэ, што знаходзіцца прыблізна ў пазначаным рэгіёне.

ска, якое на кароткі час спынілася ў гэтай вёсцы на адпачынак. На другі дзень на кірсе бургамістар вывесіў белы сьцяг, але казалі, што зайшлі два эсэсаўцы й хацелі за гэта яго застрэліць. Каля 9 гадзіны нам сказалі зачыніць вокны аканіцамі, бо быццам мелі ўзрываць цягнікі з амуніцыяй. Я пацікавіўся асьцярожна выглянуць на вуліцу, аж там праз вуліцу перабягаюць два амэрыканскія жаўнеры, а за імі ззаду ідзе амэрыканская машына. Пасьля ідзе другая амэрыканская машына, а наперадзе машыны на маторы сядзіць нямецкі падафіцэр, а па ўсіх вокнах дамоў вывешаны белыя сьцягі.

З гэтага дня ў нашым мястэчку запанавала новая — амэрыканская акупацыйная — улада, але перамена ўлады не адбілася на грамадзкім жыцьці. За дзень перад прыходам амэрыканскіх войскаў прадстаўнікі Ўсходняга міністэрства Лёнґе[443] й Шнайдэр ды прэзыдэнт БЦР Астроўскі пакінулі нас. Нашу групу ачоліў інжынэр Шкутка[444]. Да капітуляцыі Нямеччыны наша група была нараўне зь немцамі, але пасьля капітуляцыі дыпістых[445] паставілі па харчаваньні ў лепшыя ўмовы, і мы таксама хацелі параўняцца ў харчаваньні зь імі, але Шкутка нам радзіў устрымацца, каб немцы ня гневаліся на нас за гэта, таму мы нейкі час устрымліваліся, але было цяжкавата.

Недалёка мястэчка было пакінута некалькі эшалёнаў з каштоўнымі рэчамі, між іх было тры цыстэрны з чыстым сьпірытусам, два вагоны з крухмальнымі каўнерыкамі й вагон зь мятай пянькой. Быў вагон з табакай, але мы аб ім толькі тады даведаліся, калі яе ня стала. Сьпірытус быў дараг ня толькі для п’яніц: у тую галоту за сьпірытус можна было хоць што купіць. Мы доўга ўстрымліваліся, каб што прыносіць з гэтых рэчаў, а нарэшце зрабілі выснову, усё гэта належала гітлераўскай дзяржаве, якой цяпер няма. Па праву вайны яны мусілі б належацца амэрыканскім вайсковым уладам, але ім гэта не патрэбна. Дык вось і нашы людзі патрохі сталі хадзіць па гэтыя рэчы: сьпірытус, каўнерыкі, соду на падлогі, ніткі на швэдры. Толькі адзін Адварды Будзька[446] хоць і хадзіў

---

443 Магчыма маецца на ўвазе нехта Лянгольф, які згадваецца разам са Шнайдэрам ва ўспамінах Леаніда Галяка (гл.: Галяк, Л. Успаміны… Т. 2. С. 20—21).

444 **Анатоль Шкутка** (1908—?), грамадзкі дзеяч. Старшыня Беларускага прадстаўніцтва ў Бэрліне. Па сканчэньні Другой сусьветнай вайны стварыў Беларускі камітэт у Браўншвайгу. У 1949 г. разам зь сям’ёй выехаў у Аўстралію.

445 **Дыпісты** — ад *DP — displaced persons* (анг.) — перамешчаныя асобы.

446 **Эдвард (Адварды) Будзька** (1882—1958), грамадзкі дзеяч, паэт, публіцыст, выдавец. Колішні аўтар газэты “Наша Ніва”, удзельнік Першага Ўсебеларускага кангрэсу 1917 г. У часе нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам у Менску й Баранавічах. Ад лета 1944 г. на эміграцыі ў Нямеччыне, пазьней пераехаў у ЗША. Жыў у Чыкага.

каля гэтых эшалёнаў, але нічога й на пфэнінг ня ўзяў. Мы разбагацелі на пяньку. Я заняўся рабіць пяньковыя лапці й абуў у іх большыню нашай грамады. Мы з Будзькам увесь час займаліся віцьцём: зьвілі па добрым драцяку[447], панавівалі розных таўстых і тонкіх аборак і вяровак.

Нарэшце мы даведаліся, што мясцовасьць, дзе мы тады былі, застанецца пад уладай бальшавікоў. Для палякаў былі прыстаўлены машыны, і яны паехалі на захад. Сталі рыхтавацца да ад'езду й мы. Шкутка дамовіўся з адным немцам, каб у аўторак 23 чэрвеня адвёз нас на трактары. Ён абяцаў, але адлажыў на наступны дзень, аж паўднём гэтага дня навалiла ў мястэчка бальшавікоў. Частка іх закватаравала ў гэтай самай школе, дзе й мы. Назаўтра, 24 чэрвеня, яшчэ да ўсходу сонца, пад'ехаў трактар з двума вялізнымі прычэпамі, і мы з сваімі рэчамі хутка расьселіся. Калі трактар ужо загудзеў, выскачыў адзін бальшавік бяз пояса й падскочыў да нас, але трактар ужо рушыўся ў ход. Ён крыкнуў нам наўздагон:

— *Памятайце, што ад савецкай разьведкі нідзе не схаваецеся.*

Мы толькі памахалі рукамі яму на разьвітаньне й паехалі. Праехалі больш за 100 кілямэтраў на захад у вёску Шлядэн [*Schladen*] паміж местамі Браўншвайґ[448] і Ґосьляр[449]. Там Шкутка дамовіўся з бургамістрам, даў яму магарыча, і той нас разьмясьціў па прыватных кватэрах. Прыехаўшы туды, каля трох дзён стаялі ў маёнтку на дзядзінцы. Там было шмат палякаў, яны жылі ў хатах ужо табарам і нас заклікалі да сябе, але мы не згадзіліся пайсьці ў польскі табар. Нарэшце сюды да нас прыехаў прэзыдэнт БЦР Астроўскі й прывёз нам першыя весткі аб лёсе нашай “брыгады”. Ён казаў, што пісаў да лёнданскага польскага ўраду й радзіў нам далучыцца да польскіх арганізацыяў. У гэты час сярод нашых лідараў ужо быў паўстаў канфлікт на эканамічным грунце. Калі мы гэта расказалі Астроўскаму, дык ён моцна сьмяяўся.

У пачатку траўня, прыблізна ў час капітуляцыі Нямеччыны, выбралі Беларускі дапамогавы камітэт (БДК). Сходам кіраваў Адварды Будзька; старшынёй камітэту стаў Шкутка, ягонымі заступнікамі Нэронскі й Галяк[450], а сакратаром Сокалаў. На першых днях пасьля заняцьця

---

[447] ***Драця́к, дратава́нка*** — добрая пуга, зьвітая з трох столак (аборачак).

[448] **Браўншвайг** (ням. *Braunschweig*) — горад у паўночнай Нямеччыне, у зямлі Ніжняя Саксонія.

[449] **Госьляр** (ням. *Goslar*) — горад у Нямеччыне, у зямлі Ніжняя Саксонія.

[450] **Леанід Галяк** (1910—1980), грамадзкі дзеяч, юрыст. У часе нямецкай акупацыі працаваў юрыстам у Менскай акрузе. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1944—1945 гг. быў супрацоўнікам Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР. Заснаваў Беларускае бюро ў Брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны. Адзін з заснавальнікаў Саюзу беларускіх журналістаў на чужыне й выданьня “Летапіс беларускай эміграцыі”. Ад 1949 г. жыў у ЗША.

Шлядынґу амэрыканцамі былы бургамістар места Менску[451], а потым ад'ютант прэзыдэнта Астроўскага Дземідовіч-Дземідзецкі перайшоў да палякаў. Калі мы прыехалі ў Шлядэн, дык Нэронскі й Сокалаў назваліся палякамі й паехалі ў польскі табар. Пасьля гэтага намесьнікам старшыні застаўся Галяк, а сакратаром стаў Р[аіса] Евец. Калі ў ліпені месяцы таго ж году ў Браўншвайґу пры ратгаўсе[452] заснаваліся прадстаўніцтвы іншых нацыянальнасьцяў Ды-Пі: латышоў, летувіскаў, украінцаў ды інш., камітэт зьвярнуўся да ангельскіх вайсковых уладаў, і яны дазволілі заснаваць Беларускае прадстаўніцтва Брытанскай акупацыйнай зоны. Яго ачольваў прэзыдыюм камітэту: Шкутка, Галяк і Евец. Яны й дзяжурылі па чарзе ў кватэры ў Браўншвайґу.

Калі ў Брытанскай зоне зарганізаваліся нацыянальныя лягеры, ангельскія вайсковыя ўлады дазволілі й беларусам зарганізаваць свой табар у Ватэнштэце — АВС[453], куды Браўншвайскі БДК на кіраўнічыя пасады выслаў сваіх людзей.

Табар з кожным днём павялічваўся: прыбывалі беларусы й з табараў іншых нацыянальнасьцяў. Калі ў лягеры сабралася людзей каля паўтары сотні, на агульнай зборцы жыхары табару запрапанавалі выбарамі агульнага сходу аформіць камэнданта лягеру. На гэтую прапанову камэндант Коўш[454] адказаў занадта востра й досыць брутальна:

— *Ня вы мяне тут паставілі, і ня вы мяне будзеце перавыбіраць.*

Прысутныя замаўчалі, а пасьля нехта заўважыў:

— *Мы думалі, што гэта абавязкова патрэбна, бо і ў іншых табарах гэтак робяць. А мы асабіста нічога ня маем супроць камэнданта Каўша.*

На гэтым справа аб перавыбарах камэнданта табару й кончылася. Нацыянальна сьвядомыя беларусы як бы ўсьцешыліся, што камэндант Коўш апіраецца на аўтарытэт таго, хто яго паставіў камэндантам, а менавіта на Беларускі нацыянальны камітэт[455], ды нават не прызнае агульнадэмакратычнага закону аб выбарах камэнданта. Браўншвайскі нацыянальны камітэт стаў уважацца зонным камітэтам на Брытанскую

[451] Адам Дземідовіч-Дземідэцкі быў не бургамістрам Менску, а толькі яго намесьнікам.

[452] **Ра́тгаўс** (ням. *Rathaus*) — ратуша; гарадзкая рада.

[453] **Ватэнштэт** — вёска ў Ніжняй Саксоніі ў ангельскай акупацыйнай зоне Нямеччыны, дзе ў 1945 г. паўстаў беларускі *DP*-лягер, працавалі дзіцячы садок, пачатковая школа, гімназія, аматарскія тэатар, хор, танцавальныя гурткі. Лягер дзейнічаў да лютага 1950 г.

[454] **Сьвятаслаў Коўш** (1917—1997), рэлігійны й грамадзкі дзеяч, праваслаўны сьвятар. Падчас нямецкай акупацыі быў начальнікам Клецкага павету. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У паваеннай Нямеччыне быў камэндантам беларускага лягеру *DP* у Ватэнштэце. У 1949 г. выехаў у ЗША.

[455] Маецца на ўвазе Беларускі дапамаговы камітэт на Брытанскую зону.

зону. У Ґосьляры адчынілі яго аддзел, быць яго старшынёй упаўнаважылі Падагеля, а сакратаром паслалі туды Н. Якубовіч[456].

Калі зімой, у пачатку 1946 году, табар АВС быў укамплектаваны й прыбыло шмат беларусаў, пачалі перавыбіраць мясцовы ватэнштэцкі камітэт (БДК) і сталі прапаноўваць Каўшову кандыдатуру ў гэты камітэт, дык ён катэгарычна адмовіўся, тлумачачы:

— *Я работнік УНРРА*[457]*, я павінен аднолькава ставіцца да ўсіх нацыянальнасьцяў, я нават ня маю права на гэта.*

Коўш ня даў згоды ўвайсьці у склад і рэвізійнай камісіі гэтага камітэту. Ён не лічыўся з аўтарытэтам табарнага камітэту й нават Браўншвайскага зоннага камітэту, а кіраваў табарам самастойна, але час ад часу склікаў нарады беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, як у правядзеньні нацыянальных урачыстасьцяў, выстаў, сьвяткаваньняў. Бальшыня беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі стаяла ўбаку ад кіраўнічай працы; на аднэй з нарадаў інтэлігенцыі Коўш гэта заўважыў, пасьля таго нацыянальна сьвядомая інтэлігенцыя прыступіла да працы: Даніловіч[458] заняў пасаду шэфа бюро, Букатка — бухгальтара, трохі перш Крыт[459] заняў пасаду заступніка камэнданта табару.

---

[456] Маецца на ўвазе **Ніна Якубовіч**, якая ў часе нямецкай акупацыі была сакратаркай Слонімскай акруговай управы БНС, пазьней апынулася ў Бэрліне, а пасьля вайны жыла ў Вялікабрытаніі.

[457] **УНРРА** (анг. *United Nations Relief and Rehabilitation Administration*) — Адміністрацыя Аб’яднаных Нацый для дапамогі й аднаўленьня, міжнародная арганізацыя, створаная ў лістападзе 1943 г. для дапамогі пацярпелым у Другой сусьветнай вайне краінам. УНРРА апекавалася таксама ўцекачамі й перамешчанымі асобамі ў Нямеччыне й Аўстрыі. У 1947 г. спыніла працу, замененая Міжнароднай арганізацыяй па справах уцекачоў *IRO*.

[458] Маецца на ўвазе **Антон Даніловіч** (псэўд. **Янка Золак**, 1912—2000), паэт, грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у “Газэце Случчыны”. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне друкаваў памножаныя на машынцы творы беларускіх пісьменьнікаў і гісторыкаў, заснаваўшы саматужнае выдавецтва “Ніва”: У. Дубоўку, У. Жылку, Т. Лебяду, У. Ігнатоўскага ды інш. У 1950 г. пераехаў у ЗША (Нью-Джэрзі). Жыў у Сэйрэвіле, Саўт-Рывэры, Мілтаўне.

[459] **Аляксандар Крыт** (духоўн. **Андрэй,** 1901—1983), рэлігійны й грамадзкі дзеяч, мітрапаліт БАПЦ. У 1939 г., як жаўнер польскага войска, трапіў у палон, быў вызвалены і ўключыўся ў грамадзкае жыцьцё беларусаў у Нямеччыне. Увайшоў у склад управы бэрлінскага аддзелу Камітэту самапомачы ў Нямеччыне (ад 1943 г. займаў пасаду скарбніка), супрацоўнічаў з газэтай “Раніца”. У паваеннай Нямеччыне знаходзіўся ў беларускім лягеры ў Ватэнштэце, а ў 1948 г. прыехаў у Вялікабрытанію на працу. У 1950 г. быў рукапакладзены ў сьвятары БАПЦ. Жыў у Брадфардзе. Стаў заснавальнікам структураў БАПЦ у Вялікабрытаніі. У 1961 г. выехаў у ЗША. Жыў у Кліўлэндзе.

Браўншвайскі (зонны) БДК два разы перавыбіраўся. На другіх выбарах Галяк ды іншая сьвядомая інтэлігенцыя змагаліся супроць кандыдатуры Шкуткі на старшыню БДК. Шкутка нахабна дамагаўся гэтай пасады, а п'яны Ільляшэвіч упарта падтрымліваў яго. Адпаведнага кандыдата на гэтую пасаду не было, дык усё ж застаўся Шкутка. Неўзабаве пасьля гэтых выбараў, у красавіку таго ж году, Шкутка паведаміў, што ангельскія акупацыйныя ўлады зачынілі Браўншвайскі БДК. Справа выглядала гэдак. Бальшавікі запратэставалі, што аліянты[460] парушаюць Ялцінскую дамову[461], што яны ня толькі не прымусілі вярнуцца ў СССР савецкіх грамадзянаў, але нават дазваляюць ім зарганізоўваць свае камітэты. Ангельцы ня толькі беларусам, але і ўсім іншым нацыянальным арганізацыям загадалі зьняць шыльды з кватэр сваіх камітэтаў і нават забралі паперы зь іхных бюро, але праз тры дні прынесьлі гэтыя паперы й дазволілі працаваць надалей, а толькі не дазволілі вывешваць шыльдаў. Камітэты ўсіх іншых нацыянальнасьцяў сталі прадаўжаць працу ў сваіх канцылярыях, а з часам ім было дазволена мець сваіх прадстаўнікоў у Лемго[462] пры галоўнай кватэры. Шкутка перш дамагаўся быць старшынёй БДК, бо думаў, што пасада будзе платнай, а цяпер не аднавіў працы ў Браўншвайскім БДК, бо гэта яму не давала матэрыяльнай карысьці. Ён бачыў, што Коўш сам зь сям'ёй у той цяжкі час быў матэрыяльна добра забясьпечаны ды рабіў на гэтай працы сабе кар'еру. Шкутка спыніў працу ў Браўншвайскім БДК і пачаў старацца, каб заснаваць незалежны табар ды стаць у ім камэндантам. Ён хутка гэтага дамогся й заснаваў беларускі табар у Варбэргу[463]. Гэты табар існаваў нядоўга, бо ў Шкуткі з жыхарамі табару паўстаў канфлікт, — табар хутка разьвязалі[464]. Па пэўных чутках, гэты канфлікт быў наступнага характару.

Шкутка ў табары назапасіў шмат дарагіх прадуктаў: чакаляды, бон-кавы, мясных кансэрваў. Жыхары табару хацелі ўсё гэта падзяліць. Шкутка заявіў вайсковым уладам, што гэта збунтаваліся падазроныя

---

460 ***Аліянт*** — саюзьнік.

461 **Ялцінская дамова** — пагадненне аб рэпатрыяцыі ваенных і цывільных асобаў, вызваленых ці палоненых саюзнікамі на занятых імі тэрыторыях Нямеччыны, якое было заключана падчас сустрэчы Іосіфа Сталіна, ангельскага прэм'ера Ўінстана Чэрчыля й амэрыканскага прэзыдэнта Франкліна Дэлана Рузвэльта падчас іх сустрэчы ў Ялце 4—11 лютага 1945 г.

462 **Лемго** (ням. *Lemgo*) — горад у Нямеччыне ў зямлі Паўночны Рэйн — Вэстфалія. Тут нейкі час знаходзілася штаб-кватэра Міжнароднай арганізацыі ўцекачоў (*IRO*) у Брытанскай зоне.

463 **Варбэрг** (ням. *Warberg*) — мястэчка ў Нямеччыне, у зямлі Ніжняя Саксонія. Побач зь вёскай у замку быў створаны беларускі ДП-лягер, дзе дзейнічалі школа, скаўцкі зьвяз. Лягер быў ліквідаваны ў 1947 г.

464 ***Разьвязаць*** — тут: распусьціць.

людзі — бальшавікі ці крымінальнікі. Калі прыехала вайсковая паліцыя, дык выявілася, што Шкутка інфармаваў не зусім слушна, але разам з Шкуткам былі замешаны некаторыя й ангельскія ўрадоўцы, дык табар ліквідавалі.

У першыя тыдні заснаваньня табару сталі будаваць царкву й кватэры для сьвятароў Сурвілы[465] й Сьмірнова[466], будоўля ішла пад кіраўніцтвам расейца-чарнасоценца Салдаценкі зь летувіскага табару. Гэты ж Салдаценка пры кожнай нагодзе вёў прапаганду за *"единую и неделимую"* Расею. Калі пабудова была кончаная, сьвятары Сурвіла й Сьмірноў пераехалі ў наш табар. У дадатак да царквы Коўш далучыў пяць платных работнікаў: царкоўнага старасту Салдаценку, ягонага памочніка Гарохава, жонку Гарохава — для ўпрыгожваньня царквы, дзячка-расейца Юрку Сьмірнова й прыбіральніцу. У табары былі яшчэ два сьвятары: Ражановіч[467] і Радзевіч[468]; Ражановіч часамі дапускаўся да служэньня, а Радзевіч не.

---

465 Маецца на ўвазе сьвятар **Аўген Сурвіла** (?—20.03.1984, Бостан, Масачусэтс, ЗША), рэлігійны дзеяч. У 1931 г. скончыў багаслоўскі факультэт Варшаўскага ўнівэрсытэту, прыняў сьвятарства ў Польскай праваслаўнай царкве. У часе Другой сусьветнай вайны быў сьвятаром у юрысдыкцыі БАПЦ. Ад 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Перайшоў у юрысдыкцыю РПЦЗ. Жыў у Ватэнштэце, адкуль пераехаў у ЗША. У 1951 г. быў прыняты ў клір Паўночна-Амэрыканскай расейскай мітраполіі. У 1951—1984 гг. быў настаяцелем сабору ў Бостане.

466 **Міхаіл Сьмірноў** (1905, Дакудава Віленскай губ. — 15.05.1975, Кліўлэнд, Агая, ЗША), рэлігійны дзеяч. Скончыў Віленскую духоўную сэмінарыю і праваслаўнае аддзяленьне багаслоўскага факультэту Варшаўскага ўнівэрсытэту (1931). У 1929 г. рукапакладзены на сьвятарства ў Польскай праваслаўнай царкве. Быў настаяцелем Мясяцінскай царквы Пінскага павету (1929—1933), памочнікам настаяцеля Кобрынскага сабору (1933—1944). У часе Другой сусьветнай вайны належаў да БАПЦ. У 1944 г. выехаў у Аўстрыю, адтуль — у Нямеччыну. У 1945 г. перайшоў у юрысдыкцыю РПЦЗ, у 1945—1950 гг. быў настаяцелем беларускага прыходу ў Гановэры. У 1950 г. выехаў у ЗША. У 1950—1951 гг. быў настаяцелем Сьвята-Андрэеўскай царквы ў Санкт-Пітэрсбэргу (Флярыда), у 1951—1975 гг. — Сьвята-Сергіеўскай царквы ў Кліўлэндзе (Агая). У 1975 г. зноў перабраўся ў Флярыду, дзе й памёр ў часе літургіі.

467 Магчыма, маецца на ўвазе **Іван Ражановіч** (1871—?), праваслаўны сьвятар, які паходзіў зь Ішкалдзі. Скончыў Менскую духоўную сэмінарыю. Ад 1931 г. быў сьвятаром прыходу ў в. Гарадная на Століншчыне.

468 Відаць, маецца на ўвазе **Сяргей Радзевіч** (**Родзевіч**, ? — 1949?), праваслаўны сьвятар, бацька Ўсевалада Родзевіча. Да Другой сусьветнай вайны служыў сьвятаром у Пінску. Пасьля заканчэньня вайны апынуўся ў беларускім *DP*-лягеры ў Ватэнштэце, адкуль пераехаў да сям'і ў Мюнхен. Тут захварэў і памёр ва ўзросьце 60 гадоў. Пахаваны на могілках Вальдфрыдгоф.

Сьвятар Сурвіла разьмяркоўваў вопратку, што прысылалі з Амэрыкі, але рабіў гэта надта несумленна: спачатку лепшае разьмяркоўвалася між сваёй сям'і й знаёмых, а рэшта — між бараковымі[469], а кожны бараковы разносіў і раздаваў па кватэрах. Маім суседзям Кавалёвым бараковы прынёс старэнькую абадраную каўдэрку, а яны аднесьлі яе бараковаму назад. Мне бараковы прынёс вялізную кашулю ў палоску, у якой зад быў выразаны ды падстаўлены белым палатном, а гэтым выразаным матэрыялам быў адрамантаваны каўнер і манкеты. Мне было дзіва й ня верылася, што ў Амэрыцы столькі ўжывалі клопату, каб дарамантаваць кашулю. Я памятаў, што якраз гэткую колерам кашулю бачыў у сьвятара Сурвілы. Праз два гады пасьля гэтага Саюз цэркваў[470] прыслаў у наш табар прадукты й вопратку. Старому Калашніковічу прынесьлі пару бялізны; калі ягоная жонка стала разглядаць гэтую бялізну, аж на ёй пральны знак сьвятара Сурвілы, а яна працавала ў пральні й добра ведала пральныя знакі. Калашніковічыха прынесла гэтыя кальсоны да сьвятара й кажа:

— *Бацюшка, нейкім чынам вашыя кальсоны дасталіся ў Амэрыку.*

Палажыла іх на стол і пайшла. Пасьля гэтага й я даведаўся, як дасталася мне кашуля сьвятара Сурвілы з надточаным задам.

У першае паўгодзьдзе існаваньня нашага табару паліцыя й жыхарства былі надта пільнымі, баяліся, каб уночы бальшавікі не наляцелі ды не пахваталі людзей, бо праз вуліцу на другім баку была іхная кватэра.

Табар быў абгароджаны калючым дротам. Аднаго цёмнага вечара з правага боку табару дрот стаў шастацца, — думалі, што гэта бальшавікі рэжуць дрот. Паліцыя й мужчыны пабеглі туды з кіямі, аж там сьвятар Сурвіла сядзіць, учапіўшыся ў дроце, з ношкай нямецкіх цукровых буракоў, якія тады былі яшчэ ня зьвезеныя з поля. Яны памаглі сьвятару вычапіцца з дроту ды, не сказаўшы яму ні слова, хутка пайшлі ад яго.

Па начах у табарнай кухні сьвятары рабілі самагонку, вядома, са згоды Каўша. Аднаго разу паліцыя гэта выкрыла, дык за гэта Коўш звольніў з працы — для прыліку — кухара, але празь некалькі дзён зноў прыняў. Апрача сьвятароў выраблялі саматужку[471] й іншыя жыхары табару. Аднаго разу ў прысутнасьці начальніка паліцыі Вінаградава й Каўша намесьнік камэнданта Крыт апытваў удаву Кузьміну:

— *Чаму вы робіце самагонку, вы ж ня раз чулі, што выраб самагонкі забаронены?*

---

469 ***Бараковы*** — старэйшы на барак, стараста бараку.

470 Магчыма, маецца на ўвазе ***Church World Service*** — амэрыканская міжнародная арганізацыя, якая займаецца гуманітарнай дапамогай. Заснаваная ў 1946 г.

471 ***Самату́жка, самату́жніца*** — гэтак у нас называлі саматужны выраб гарэлкі ад жа 1918 году (АВ).

— *А чаму ж іншым можна?* — пытае яна.

— *А каму гэта іншым?* — перапытвае Крыт.

— *А чаму папом можна?* — дадае яна.

Нямая сцэна. Крыт і Вінаградаў пазіраюць на Каўша, а Коўш стаіць, апусьціўшы вочы. Пасьля нейкага часу маўчаньня Коўш сказаў на самагоншчыкаў:

— *Можаце ісьці.*

Калі засталіся толькі Коўш, Вінаградаў і Крыт, дык Коўш сказаў як праз зубы:

— *Усё на папоў. Ды яны й ня гналі.*

Быў загад, каб у табары пасьля 8 гадзіны гасілі агні, бо электрычнасьці не хапала. Пасьля забароненага часу ў сьвятара Сурвілы гарыць сьвятло. Паліцыянт Мароз пастукаў у вакно й пайшоў, але пасьля прыйшоў стукаць зноў, а тут сьвятар выскачыў з хаты і ўдарыў паліцыянта па твары, а той яму назад. Пасьля гэтага сьвятар пайшоў у хату, а паліцыянт — у паліцэйскую будку.

## КАНФЛІКТ МІЖ НАШЫХ ЛІДАРАЎ

Канфлікт між нашых лідараў, аб якім я ўспамінаў, выйшаў на матэрыяльным грунце. Як казалася вышэй, нашы людзі хацелі атрымоўваць такія карткі для харчаваньня, як іншыя дыпістыя (гэта было на першым месяцы пасьля капітуляцыі), а Шкутка радзіў заставацца на нямецкім пайку. Нарэшце незадоўга да нашага ад’езду з Шлядынґу Шкутка дамовіўся на нямецкім харчовым складзе ў павятовым мястэчку, каб атрымаць наш недабор прадуктаў за ўвесь час. Мы зь Міляшкевічам прывезьлі на возіку адтуль бульбу. Галяк і нехта яшчэ езьдзілі па мяшок чырвонага цукру й два ці тры мяшкі мукі. Мяса й кілбасы забраў сам Шкутка. У Шлядынґу мы харчаваліся хаўрусам і там бульбу зьелі, а муку, цукар і шмалец забралі з сабой да Шлядэну, бо думалі, што й там будзем хаўрусам харчавацца, аж паставілі асобна на прыватных кватэрах. Мясныя прадукты забраў Шкутка, дык зьелі самі Шкутка, Нэронскі, Сокалаў і Міляшкевіч, бо стаялі ў Шлядэне на аднэй кватэры. Калі мы сталі ў Шлядэне на прыватных кватэрах, запасы мукі й некаторыя прыватныя рэчы зложылі ў дворным сьвіронку. Празь нейкі час агледзеліся, што там быў адламаны замок і рэчаў ня стала. Нашы людзі падазравалі, што Шкутка сам забраў гэтыя рэчы й завёз да жонкі, а потым і замок паламаў. Галяк як юрысты зрабіў гэткую выснову: тое, што пакрадзена праз злом замка, — справа нямецкай паліцыі, няхай яна шукае вінавайцаў. Але дзе дзеўся мяшок цукру, мяшок мукі, шмалец, што стаялі ў Шкуткі на катэры?

Гэта звадка скончылася нічым.

Сябры прэзыдыюму нашага камітэту па чарзе дзяжурылі ў Браўншвайґу. А калі іншыя нацыянальнасьці сталі арганізоўваць нацыяналь-

ныя табары, дык і наш камітэт арганізаваў Беларускі нацыянальны табар ABC у Ватэнштэце. БДК прызначыў Каўша камэндантам табару, бо ён ведаў нямецкую мову, Васіленю[472] — заступнікам камэнданта, Адвардага Будзьку — бухгальтарам, Люню Будзьку[473] — машыністкай. Васіленя адмовіўся ад пасады намесьніка камэнданта, бо не хацеў быць Каўшовым памочнікам, ды стаўся кіраўніком сцэнічнай справы. Тады намесьнікам прызначылі Саўку, а мяне — настаўнікам. Але з-за канфлікту з Каўшом Саўка хутка выбыў з табару, а канфлікт быў гэткага характару.

Сьвятары Сурвіла й Сьмірноў запратэставалі, што ім пад вагу даюць масла, тлумачачы: *"Мы болей не зьядзім, як можам зьесьці"*, але Саўка распарадзіўся даваць ім масла ўсё ж пад вагу. Коўш Саўкава распараджэньне ўняважніў[474], дык Саўка адмовіўся ад пасады й выбыў з табару.

## [ВАТЭНШТЭТ]

### Ватэнштэцкая беларуская школа ў табары ABC

Ватэнштэцкая беларуская школа ў табары ABC заснавалася каля 10 жніўня 1945 году. Калі я прыбыў у табар ABC, дык нагледзеў сабе пусты барак (а тады было шмат пустых баракаў), а канец яго з аднымі выходнымі дзьвярамі абраў пад школу. Гэтага ж дня з бухгальтарам табару Адвардым Будзькам павыцягвалі двухпавярховыя ложкі й матрацы, ачысьцілі баракі ад сьмецьця й пылу. У ваднэй бакоўцы паставілі ў рад чатыры вялікія сталы, а за імі гэткія ж доўгія лаўкі. Сьпераду гэтых сталоў я прыбіў да сьцяны кавалак фанэры. Гэта быў ужо абсталяваны клясны пакой беларускай народнай школы. Праз калідорык, у другім

[472] **Аляксей Васіленя** (1899—1978), грамадзкі дзеяч. У часе нямецкай акупацыі кіраўнік Беларускай народнай самапомачы ў Слоніме, кіраўнік канцылярыі Галоўнага камандаваньня БКА, удзельнік Другога Ўсебеларускага кангрэсу. Улетку 1944 г. выехаў у Нямеччыну, жыў у Бэрліне, займаў пасаду сакратара Прэзыдыюму Беларускай Цэнтральнай Рады. У лягерах *DP* рэдагаваў сатырычны часопіс "Смехам па галаве", у Гамбургу разам з С. Хмарам і М. Паньковым выдаваў сатырычны часопіс "Маланка". Ад 1949 г. жыў у Аўстраліі.

[473] **Будзька Людвіка** (у шлюбе **Бяленіс**, 1911—2002), грамадзкая дзяячка, дачка Эдварда Будзькі. Скончыла Віленскую беларускую гімназію, Віленскі ўнівэрсытэт, была сябрам Беларускага студэнцкага саюзу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне жыла ў беларускім лягеры ў Ватэнштэце. У 1948 г. прыехала ў Вялікабрытанію. У пачатку 1950-х гг. выехала ў ЗША. Пасялілася ў Чыкага, дзе ўзяла шлюб зь беларускім грамадзкім дзеячам Антонам Бяленісам.

[474] ***Унява́жніць*** — зрабіць нядзейным, несапраўдным, скасаваць, адмяніць.

кварталіку, я пакінуў адзін ложак і стол; гэты застаронак меўся быць маёй кватэрай і настаўніцкім пакоем. Над дзьвярамі трэцяга застаронку Будзька прыбіў дошчачку, на якой было напісана: ГІМНАЗІЯ.

Шэсьць вучняў з гэтага лягеру ўжо хадзілі ва ўкраінскую школу 25-га табару. На другі дзень гэтыя вучні прыйшлі ўжо ў маю школу. З кожным днём у табар прыбывалі новыя людзі, а разам зь імі — і дзеці; такім чынам за першы тыдзень набралася каля 15 вучняў, розных і ведамі, і векам: ад 6 да 14 гадоў. Бальшыня зь іх былі непісьменныя, толькі старэйшыя трохі пісьменныя. На першых днях прыйшлося разьдзяліць іх на дзьве клясы.

З самага пачатку праца ў гэтай школе была надта цяжкай, бо не было ня толькі падручнікаў, але ніякіх кніг і ніякіх прыладаў да пісаньня. Першым чынам патрэбна было сплянаваць лемантар і з кожным днём, па меры праходжаньня матэрыялу, дапісваць лемантар уперад ды на асобных паперках размнажаць матэрыял друкаваным шрыфтам, каб было што вучню даць у рукі на лекцыі чытаньня. Для другой клясы гэдаксама трэбала прыпамінаць тыя вершыкі й артыкулы, што некалі праходзіліся ў школе, перапісваць іх, размнажаць і чытаць на лекцыі з вучнямі. Гэтыя мае штодзённыя матэрыялы й далі мне аснову "Лемантара"[475] і "Роднага палетку"[476], выданых у 1946/47 навучальным годзе.

А на ўсю гэтую распрацоўку ў мяне было надта мала часу. Уся адміністрацыя табару АВС жыла ў Шлядэне й кожнага дня езьдзіла на працу ў табар. Гэдаксама езьдзіў і я. Трэбала рана ўставаць, каб да 6-й гадзіны пасьпець на цягнік. А тады на нямецкіх чыгунках было цяжка сесьці, бо быў вялікі збой людзей: часамі некалькі кілямэтраў трэбала ехаць на падножцы. У вокнах і дзьвярах вагонаў былі павыбіваны шыбы; я часта ўсхватваўся з-пад пярыны зусім мокры ад поту, а ў вагоне наскрозь вецер прахватваў. Цягнікам ад Шлядэну да Вольфэнбютэлю [*Wolfenbüttel*] было каля 30 кілямэтраў, а з Вольфэнбютэлю да табару АВС трэбала 8 кілямэтраў ісьці пехатой, а часамі й вялікім дажджом. Пасьля сталі хадзіць і аўтобусы, але на іх цяжка было сесьці. Каб заначаваць у табары, можна было шмат зрабіць работы па апрацоўцы сваіх лекцыяў для вучняў, але ў маім бараку не было лямпачкі, а вечары былі ўжо доўгія, дык усё роўна было немажліва яго выкарыстаць. Аднаго

[475] Маецца на ўвазе выданьне: Г[ладкі, Язэп]. Беларускі лемантар. Ватэнштэт: выданьне супалкі "Заранка", 1946. 53 с.

[476] Маюцца на ўвазе выданьні: Г[ладкі, Язэп]. Родны палетак: Чытанка для II і III клясы беларускай народнай школы. Ватэнштэт: выданьне беларускай выдавецкай суполкі "Заранка", 1947. 104 с.; Rodny Paletak. Čytanka dla 2 i 3 klasy biełaruskich pačatkavych škołaŭ. Vatenštet: vydaviectva "Zaranka", 1947. 120 s.

разу я застаўся начаваць у сваім пакоі, але ледзь не прапаў ад холаду, бо меў толькі адно паліто, дык цэлую ноч мусіў бегаць па бараку.

Калі надвосень у нас у Шлядэне быў прэзыдэнт БЦР Астроўскі, дык пакінуў Шкутку грошы, што засталіся ад былой БЦР. Шкутка гэтымі грашыма плаціў пэнсію прэзыдыюму Беларускага дапамогавага камітэту, што на той час быў у Браўншвайґу, плаціў адміністрацыі табару, адміністрацыі аддзелу камітэту ў Ґосьляры й настаўнікам Ґосьлярскай беларускай школы Васілеўскаму[477] ды Селязьнёвай, а толькі мне аднаму не плацілі. Я гэта ведаў, але не лічыў патрэбным напамінаць ім. З пачатку жніўня да пачатку лістапада я штодзённа езьдзіў з Шлядэну ў табар АВС на працу ў школу й ні разу не спазьніўся.

Апрача працы ў школе, мы з вучнямі зрабілі прышкольны гародчык, дзе садзілі й даглядалі кветкі. Хоць час ішоў да восені, але я гэта рабіў, бо бачыў і цешыўся, як вучні клапаціліся й даглядалі гэтыя маленькія кветкі.

У пачатку кастрычніка прыехала з Ґосьляру настаўніца Селязьнёва, якая стала працаваць з І клясай, а я з ІІ. Я мусіў распрацоўваць матэрыял і для І клясы, каб захаваць адну сыстэму лемантара, якую ўжо зачаў зь першых дзён сваёй працы ў гэтай школе. А гэдаксама распрацоўваў матэрыял для сваёй, ІІ клясы. Было двое настаўнікаў і дзьве клясы, але працавалі ў адным памяшканьні, нават не перагароджаным. Насілу мы дамагліся, каб гэты барак быў перагароджаны дошкамі на два застаронкі, а пасярод паставілі печку, каб грэла на абодва застаронкі. У пачатку лістапада я пераехаў з рэчамі ў табар АВС, дык адпалі штодзённыя клопаты зь пераездам, але доўгія вечары найболей сядзеў упацёмку, бо не было электрычнай лямпачкі. А калі зь вялікай натугай і даставаў лямпачку, дык яна хутка перагарала, бо па вечарох у табарнай кухні гналі самагонку на самаробным электрычным апараце, дык палілі лямпы ад кароткага замыканьня.

У другой палове лістапада ў наш лягер прыехала шмат новых людзей з Гановэру[478], а разам зь імі й многа дзяцей. Гэтымі часамі прыбыў у наш лягер трэці настаўнік, Сіткоўскі[479], і мы пераўкамплектавалі нашую школу. І кляса склалася з новапрыбылых 11 вучняў, якой стала

---

477 Маецца на ўвазе пэдагог **Міхал Васілеўскі**, які спачатку працаваў у Госьляры, а потым у Ватэнштэце.

478 **Гановэр** (ням. *Hannover*) — горад у Нямеччыне, адміністрацыйны цэнтар зямлі Ніжняя Саксонія. У Гановэры знаходзіўся адзін зь лягераў Ды-Пі, дзе жылі беларусы.

479 **Кастусь Сіткоўскі** (1923—1994), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі настаўнічаў, у 1944 г. скончыў Наваградзкую настаўніцкую сэмінарыю. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у лягеры Ватэнштэт, працаваў настаўнікам у беларускай пачатковай школе. Пры канцы 1949 г. выехаў у Аўстралію. Жыў у Сыднэі.

кіраваць настаўніца Селязьнёва. Былая 1-я група, што складалася з 15 вучняў, стала называцца II клясай, якой пачаў кіраваць настаўнік Сіткоўскі. Мая былая 2-я група з 20 вучняў стала называцца III клясай. Гэтая назва клясаў у поўным сэнсе адпавядала й ведам вучняў, бо трэба прызнацца, што мы нават праз меру націскалі на іх, каб як найвышэй падняць іхную веду.

Не зважаючы на вельмі цяжкія матэрыяльныя й кватэрныя ўмовы, я захапляўся й арганізацыяй гэтай школы, і працай у ёй ды ня чуў сябе заморaным. Да таго часу я працаваў 11 гадоў у беларускай народнай школе й 6 гадоў у менскай сярэдняй школе, але заўсёды нада мной вісеў ціск савецкай праграмы, інспэктара-камуністага й русіфікацыі, а тут я сам сабой арганізоўваю школу й праграму яе ўкладаю. Я цэлыя ночы праседжваў над укладаньнем школьнага матэрыялу для трох клясаў і пісаньнем падручнікаў.

Калі мы зарганізавалі тры клясы, дык занялі й тую бакоўку, дзе Адварды Будзька быў павесіў дошчачку з надпісам *"Гімназія"*. А трохі перш гэтага ў наш табар прыехаў Пануцэвіч[480], арганізаваў скаўтаў, адчыніў гімназію ў іншым бараку й выкладаў там з сваёй жонкай[481]. Будзька, калі вешаў шыльду *"Гімназія"*, дык думаў у тэй бакоўцы адчыніць бухгальтарскія курсы, але калі Пануцэвіч адчыніў гімназію, дык Будзька стаў выкладаць там агульнаадукацыйныя дысцыпліны.

Хоць наша школа мела ў канцы 1945 году да паўсоткі вучняў, але прыбіральніцы не было. Першыя месяцы прыбіраў школу я сам з вучнямі, пасьля некалькі месяцаў прыбірала дзяўчына Люба Супрун, ды адмовілася, што цяжка, бо трэбала перацягваць вялікія цяжкія сталы. Школа засталася без прыбіральніцы. Печкі апальваліся дровамі — дубовымі й букавымі таўстымі сукамі. Прыносіў дровы да школы я з вучнямі, а шчапаць прыходзілася мне, бо я жыў пры школе. Пасьля камэндант загадаў, каб бацькі па чарзе прыбіралі школу. Кожны дзень прыходзіў новы работнік і ня ведаў, што рабіць. Кожнай раніцы мне прыходзілася рана выходзіць паказваць прыбіральніку, што рабіць, а вельмі часта ніхто не прыходзіў на работу, і мне трэбала хадзіць шукаць гэтага прыбіральніка. Часта гублялася чарга й трэбала пачынаць працаваць у неапаленай і непадмеценай школе.

---

480 **Вацлаў Пануцэвіч** (сапр. **Папуцэвіч**, 1911—1991), грамадзкі й рэлігійны дзеяч. Падчас Другой сусьветнай вайны займаўся культурна-асьветніцкай працай на акупаванай тэрыторыі. Ад 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Узначальваў Задзіночаньне беларускіх скаўтаў на чужыне. Ад 1949 г. — у ЗША. Жыў у Чыкага.

481 **Клара Пануцэвіч** (1910—2003), грамадзкая дзеячка, дачка Эдварда Будзькі, жонка Вацлава Пануцэвіча. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Настаўнічала ў беларускай гімназіі імя М. Багдановіча ў Ватэнштэце. У канцы 1940-х гг. пераехала ў ЗША, жыла ў Чыкага.

Яшчэ з пачатку зімы 1945 году, абмазваючы печ і комін у школе, я прастудзіў правую руку, яна стала горшаць — штораз горай і горай, і нарэшце я ня мог правай рукой пісаць ды стаў пісаць ужо левай. А нарэшце ў красавіку прымушаны быў пайсьці ў шпіталь і прабыць там блізка тры месяцы. Маім намесьнікам застаўся Хведар Ільляшэвіч. У пачатковай школе ён ніколі не працаваў і школьнай працы не сыстэматызаваў, а выкладаў тое, што яму было на памяці: бальшынёй чытаў вершы й праводзіў гутаркі. Ні пэдагагічных правілаў, ні мэтадычнай сыстэмы ён не прытрымліваўся, а вясной без паўтарэньня, без праверкі ведаў зрабіў выпускі й зусім бессумленныя. Ён нікога не хацеў пакрыўдзіць, для яго ўсе вучні былі добрыя, і ён усім паставіў "добра", нават самым слабым. Калі я вярнуўся з шпіталю й стаў яму аб гэтым гаварыць, дык ён пачаў мяне перапрашаць і адмаўляўся тым, што яму *"дакучыла гэта работа"*, дык ён без прычыны кідаць працы не хацеў, а зрабіў выпуск абы-як. На першым тыдні маёй хваробы да мяне прыйшоў Сіткоўскі й сказаў, што я вельмі кепска зрабіў, што перадаў Ільляшэвічу школу. Калі я выпадкова сказаў Ільляшэвічу, што пайду ў шпіталь, дык ён мне прапанаваў:

— *Я застануся на тваім месцы, пакуль не паправісься.*

Я па маёй мяккасьці натуры не адважыўся яму адмовіць, бо ўважаў, што яго гэтым зусім зьняважу. Вярнуўшыся з шпіталю, я прымушаны быў сабраць школу, паўтарыць праграму й зрабіць выпускі. Хоць гэта было можа й неэтычна, але для карысьці школы й вучняў надта патрэбна. Пасьля свайго экзамэну я шэсьць самых лепшых вучняў перавёў у гімназію, а рэшту — у IV клясу.

У 1946/47 навучальным годзе школа была ўкамплектавана 97 вучнямі. Было чатыры клясы: I кляса — 20 вучняў, Селязьнёва; II кляса — 16 вучняў, Скараход[482]; III кляса — 23 вучняў, Сіткоўскі; IV кляса — 31 вучань, Гладкі. У гэтым годзе гэдаксама заняткі пачаліся рана, яшчэ ў жніўні месяцы. Настаўнікі гэдаксама націскалі на вучняў, каб мець добры посьпех.

Гэта зіма была надта сьцюдзёная. Пасьля Каляд напалі вялікія маразы, што блізка з пачатку студзеня да пачатку сакавіка школа была зачынена. Апалу ў табары не было, а мелі толькі сьвятары, высокія кіраўнікі табару й той, хто меў адвагу пайсьці на станцыю ламаць таварныя вагоны. Я гэтыя два месяцы зусім не паліў печы. Адно шчасьце, што меў цёплую адзежу й добрыя валёнкі. Калі клаўся ў пасьцель, дык адзяваў цёплыя нагавіцы, кароценькі, без рукавоў нямецкі вайсковы ўшпіляны кажушок, на ногі двое суконных шкарпэтак. Накрываўся

[482] **Аляксандар Скараход (Скараходаў**, 1913—?), пэдагог. Ад 1946 г. працаваў у беларускай пачатковай школе ў лягеры АБЦ у Ватэнштэце. Актыўна ўдзельнічаў у афармленьні кніг, выдаваных у Ватэнштэце. У 1947 г. выехаў у Вялікабрытанію, быў сябрам ЗБВБ і Згуртаваньня беларускіх камбатантаў.

трыма коўдрамі, добрым таўстым зімовым палітом на ваціне й велізарным кажухом. Гэта ўсё накрыцьцё так удала абтыкаў пад сябе, каб нідзе ня выехала. Галаву накрываў кажухом, які шчыльна абтыкаў, а дыхаць уладжваўся праз рукаво ў кажусе. Я ў гэтай вялікай похве мог варочацца на розныя бакі. Але калі рукаво ў кажусе зарастала інеем, дык не было чым дыхаць, тады мусіў уставаць і працярэбліваць рукаво. Калі толькі клаўся ў намерзлую пасьцель ды саграваў яе, дык рабіўся мокры, а пасьля з часам абсыхаў, і рабілася цёпла. Надта пакутліва было ўставаць з гэтага лагва на вялікі мароз. Калі ўсхватваўся з пасьцелі, дык хутка нацягваў валёнкі, надзяваў кажух і падпярэзваўся. Два разы на ноч пускалі электрычнасьць: адзін раз зь вечара, а другі перад днём; тады я грэў каву й напіваўся цёплай вады. Днём сядзеў у хаце і ўкладаў падручнікі; пісаў алоўкам, бо чарніла замярзала на пяры. Але днём хацелася, каб хоць на кароткі час пабываць у цёплай хаце, дык амаль ні кожны дзень шукаў прычыны, каб зайсьці дзе ў цёплы барак.

На праваслаўныя Каляды прыйшоў да мяне Скараход і кліча мяне, каб дзе схадзіць у цёплую хату пагрэцца, але калі выйшлі на двор, успомнілі, што сёньня Каляды, ды пасаромеліся заходзіць і вярнуліся ў мой барак. Я ўкруціўся ў кажух, яму даў цёплае паліто, дык нейкі час пасядзелі. Аднаго гэткага вечара зайшлі да мяне Ільляшэвіч і Коўш ды засталі мяне ў хаце зусім зьінеўшым. Яны прапанавалі завесьці мяне нанач у цёплую хату. Я адмовіўся, бо не хацеў надакучаць людзям, ды яшчэ й тое, што мяне прывялі б як пастаяльца на кватэру.

Заняткі ў нашай школе пачаліся на першым тыдні сакавіка, і мы мусілі гэтыя заняткі працягваць аж да ліпеня месяца, каб папоўніць тое, што зімой быў змушаны перапынак на два месяцы. Мая IV выпускная кляса была вялікая — выпускаліся 28 вучняў, разнаякасныя й векам (8—16 гадоў), і ведамі. Старэйшыя дзяўчаты былі слаба падрыхтаваны. Я толькі пасьпеў правесьці пісьмовыя экзамэны, аж прыходзіць камэндант табару Коўш і кажа, што яму трэба часова памяшканьні, і хоча заняць школу. Я яму растлумачыў, што магу толькі дзьве клясы адпусьціць, а трэцюю мушу на тыдзень затрымаць, бо абавязкова трэба экзамэны правесьці. Ён на мае патрабаваньні згадзіўся й пайшоў, але праз пару гадзінаў пасьля гэтага прыходзяць трое работнікаў і давай усё школьнае прыладзьдзе вярнуць вон з усіх клясаў. Я ім тлумачу, што мы з камэндантам дамовіліся, каб IV клясу пакінуць у цэласьці для заняткаў, а яны мне кажуць, што камэндант ім загадаў усе клясы ачышчаць, і выкінулі вон і лаўкі, і сталы, і партрэты, і малюнкі, і геаграфічныя мапы, і расклады экзамэнаў.

Часта старыя настаўнікі выказваліся: “*Школа — сьвятыня навукі*”. Сапраўдныя настаўнікі, сумленныя грамадзяне гэдак і ставяцца да школы, якому б народу яна ні належалася, на якой бы мове ў той школе ні вучылі. А тут з нашай школай, з нашымі вучнямі, у дачыненьні да

беларускай культуры камэндант табару Коўш паступіў як сапраўдны вандал. На той час былі вольныя дзіцячыя ясьлі, клюб, некалькі пакояў гімназіі, але ён наважыў пазьдзекавацца з народнай школы.

Тут блізка праз вуліцу быў нямецкі табар, дзе мелася на той час пустая школа, а з другога боку нашага табару быў летувіскі табар, дзе таксама была тады пустая школа. Як немцы, гэдак і летувісы, не адмовілі б на нейкія два-тры дні выкарыстаць іхную школу, але мы не хацелі людзей сьмяшыць, каб паказаць на якім культурным узроўні наш “беларускі” камэндант. Мы, настаўнікі й вучні, мусілі паўдня часу затраціць і перацягнуць свае сталы й лаўкі ў пусты пакой табару *С*, дзе так-сяк закончылі свой навучальны год.

А патрэба была камэнданту Каўшу ў жылых будынках гэткая. У ваднымукраінскім табары жыхары былі пабіліся ці парэзаліся, і камэндант ДПКСу хацеў расьсяліць гэты табар. Вось ён і прапанаваў камэнданту беларускага табару, калі той мае вольнае месца, каб прыняў на кароткі час некалькі сем’яў. У той час Коўш ужо быў распачаў вайну ўнутры табару зь беларускай інтэлігенцыяй, дык стараўся дагадзіць камэнданту ДПКСу нават там, дзе гэткай дагоды[483] ад яго й не патрабавалася. Коўш хапіўся за гэты выпадак, каб пайграць на нэрвах настаўнікаў. У 25-м украінскім табары былі тады вольныя й школа, і гімназія, і клюб, але яны адмовіліся прыняць гэтых людзей, аж пакуль ня вызваляцца жылыя кватэры.

1947/48 навучальны год пачынаўся пазнавата: на другім тыдні верасьня. Гэтай восеньню разлад паміж камэндантам Каўшом і беларускай нацыянальнай інтэлігенцыяй дайшоў да самага высокага пункту: настаўнікі гімназіі адмовіліся ад працы, бо Коўш нацкаваў супроць нас вучняў гімназіі. Мы, настаўнікі народнай школы, засталіся на месцы. У гэты час Коўш пайшоў нам насустрач і першы раз, на трэцім навучальным годзе, адрамантаваў школу. Тут былі чатыры клясныя пакоі й малюсенечкі настаўніцкі. Мая кватэра была перанесена ў іншы барак. Цяпер камэндант абяцаў ня ўмешвацца ў справы школы, але гэта было зусім нядоўга. Калі мінулай вясной настаўнік Скараход выехаў у Англію, на ягонае месца засталася працаваць Люня Будзька, але гэтай восені яна выехала ў другі табар. Заместа яе я ўзяў настаўніка Лішчонка[484], які закончыў настаўніцкі інстытут, але гэта Каўшу не спадабалася,

[483] ***Дагода*** — праява дагодлівасьці.

[484] Дакладна невядома, ці маецца на ўвазе **Баляслаў Лішчонак** (1919—1990), грамадзкі дзеяч і музыка, або ягоны бацька **Язэп Лішчонак** (1893—1964), грамадзкі й вайсковы дзеяч. Абодва ў 1944 г. пакінулі Беларусь. Некаторы час жылі ў Нямеччыне, Вялікабрытаніі, адкуль на пачатку 1950-х гг. перабраліся ў Канаду. Хто зь іх меў пэдагагічную адукацыю — высьветліць не ўдалося.

і ён назначыў Якубаву, якая ня мела пэдагагічнай адукацыі й ніколі настаўніцай не была. У гэтым годзе Якубава вяла І клясу (16 вучняў), Селязьнёва — ІІ клясу (26 вучняў), Гладкі — ІІІ клясу (20 вучняў), Сіткоўскі — IV клясу (23 вучні). У гэтым годзе настаўнікі гэдаксама націскалі на вучняў, і пасьпяховасьць у клясах была. Хіба І кляса не дацягвала, бо настаўніца была нізкай адукацыі.

Пасьля Новага году Коўш зноў падняў авантуру — загадаў, каб настаўнікі кожнай нядзелі вадзілі вучняў да царквы й там клясамі на каленях трымалі. Я адмовіўся. Коўш і сьвятар Сурвіла па гэтым пытаньні склікалі сход бацькоў, які цягнуўся да самага вечара. Я даводзіў, што непэдагагічна малых дзяцей — ад 6 да 9 гадоў — трымаць на каленях, а другое, што настаўнікі маюць права на адзін дзень у тыдні на адпачынак. Нарэшце я пайшоў на ўступку:

— *Калі камэндант табару так хоча, дык мы парушым і пэдагагічны, і гігіенічны законы, і закон аховы працы настаўніка ды павядзём вучняў у царкву, калі гэта самае зробяць і настаўнікі гімназіі.*

Тут сьвятар Сурвіла запярэчыў, тлумачачы тым, што ён не спадзяецца, што вучні гімназіі падпарадкуюцца гэтай пастанове. Калі спрэчкі закончыліся й сталі рыхтавацца ставіць гэта пытаньне на галасаваньне, бацькі па адным, па два паўцякалі за дзьверы й не было каму галасаваць. Прадстаўніком ад школы быў я адзін, а зь іхнага боку былі Коўш, Сурвіла й каля пяці асобаў іхных падхалімаў. У часе нашых спрэчак бацькі ціха сядзелі, а нарэшце паўцякалі, хоць былі на маім баку, але маўчалі, бо не хацелі гнявіць сьвятара й камэнданта.

Гэта справа заціхла аж да канца навучальнага году. Школа пасьпяхова закончыла навучальны год, быў зроблены выпуск і пераводы зь ніжэйшых у вышэйшыя клясы.

У 1948/49 навучальным годзе школа была ўкамплектавана зь 1 верасьня: І кляса — 14 вучняў, Селязьнёва; ІІ кляса — 11 вучняў, Евец[485]; ІІІ кляса — 29 вучняў, Сіткоўскі; IV кляса — 15 вучняў, Гладкі. Незадоўга перад заняткамі прыходзіць да мяне Коўш і кажа, што ён настаўніцу Якубаву мае звольніць з працы, бо сьвятар Сурвіла ня можа хадзіць да школы на лекцыі рэлігіі, калі Якубава будзе ў школе. Я сказаў, што быў проці ейнага прызначэньня, а цяпер супроць ейнага звальненьня. А калі сьвятар хацеў быць аўтарытэтным сьвятаром, дык не павінен быў закідаць Якубавай непрыстойныя жарты. А справа выяўлялася гэдак.

Сьвятар і Якубава чакалі чаргі ў лазьню на ванну, дык сьвятар закінуў Якубавай жарт: запрасіў яе сумесна ісьці мыцца, а Якубава расказала гэта табарным бабам. Якубаву звольнілі, а на яе месца прызначылі Евец, жанчыну адукаваную, але не пэдагагічку; яна працавала добра, але без асаблівых парываў.

---

[485] Маецца на ўвазе Раіса Евец.

У скорым часе пасьля ўкамплектаваньня школы Коўш прапанаваў мне зноў вадзіць вучняў да царквы па нядзелях, ды паведамляе мне, што й гімназія будзе сваіх вучняў вадзіць. Я згадзіўся, бо і ў леташнім годзе паставіў умову: калі гімназія будзе вадзіць сваіх вучняў да царквы, дык і мы будзем. У першую нядзелю сабраліся ўсе вучні — 70 асоб. Хоць да царквы было 10—15 крокаў, але кожны настаўнік павёў сваю клясу калёнай. Там у царкве пасталі калёнамі. Гэдаксама прыйшлі й з гімназіі каля 30—40 асобаў. Амаль уся царква занята. Прыйшлі й старэйшыя людзі, дык і цесна. У царкве трэбала стаяць або на каленях, або на нагах, а тут дзеці 6—9 гадоў. Прастоялі нейкіх 10—15 мінут, дык і пачалося: *"Пані настаўніца, я выйду"*, і гэдак амаль бясконца, а царкоўная служба каля 1,5 гадзіны. У другую нядзелю прыйшло шмат меней, у трэцюю — менш як палавіна, а ў чацьвертую зусім не прыйшлі. У школе на занятках я й пытаю ў іх:

— *Чаму ж вы, дзеці, учора ў царкву не прыйшлі?*

— *Бацюшка сказаў, што можна й не прыходзіць*, — адказала старэйшая дзяўчынка.

З царквой ужо скончылі. Каўшу хадзіла не аб царкву, але аб тое, каб мяне звольніць з працы настаўніка. Яны спадзяваліся, што, як я каталік, дык наглуха адкажуся ад наведваньня царквы, дык яны будуць дамагацца, каб даць прычыну ды мяне звольніць, але гэтая махінацыя не ўдалася.

Прайшло першага паўгоду школьнай працы, мы праверылі сваю працу й зрабілі адпаведныя выпісы аб пасьпяховасьці вучняў. Я неўзабаве пасьля гэтага атрымліваю паперку ад настаўніка гімназіі Васілеўскага: *"Даць весткі аб выкананьні праграмы за першае паўгодзьдзе ў вашай школе"*. Подпіс: *"Інспэктар народных школаў Васілеўскі"*. На гэту правакацыю я абышоўся маўчаньнем. Празь нейкі час прыходзіць да мяне ў школу Васілеўскі й напамінае мне аб сваёй пісульцы. Я яму адказаў:

— *Трэба перш даць праграму, а тады пытацца, як яна выканана. А калі я пачаў навучальны год бяз вашай праграмы, дык і кончу. Калі я арганізаваў школу й чатыры гады вёў безь ніякага інспэктара, дык я й гэты год закончу бяз вас. Што гэта за правакацыя, каб на адну школу ды адмысловага інспэктара трымаць? Чаму вы дамагаецеся быць нада мной начальнікам?*

Я папрасіў Васілеўскага паказаць дакумэнты аб тым, што ён зьяўляецца маім інспэктарам. Вядома, што ён гэткіх дакумэнтаў не прад'явіў, бо ня меў. Нарэшце я сказаў, што калі яму цікава, якія адзнакі маюць вучні маёй школы за першага паўгоду 1948/49 навучальнага году, дык я магу даць, але толькі як грамадзяніну Васілеўскаму, а не як інспэктару. Калі б я даў Васілеўскаму гэткія зьвесткі, дык гэта сьведчыла б, што я яго прызнаў інспэктарам, і тады б ён мог мяне кожнай мінуты

звольніць з працы. Для гэтай справы Коўш з Васілеўскім і вынайшлі гэткую правакацыю. Гаворачы аб'ектыўна, дык відавочна было й ворагу майму, што я палажыў шмат працы на арганізацыю ватэнштэцкай беларускай народнай школы, а гэдаксама на ўкладаньне й надрукаваньне школьных падручнікаў, якімі карысталіся ўсе беларускія школы на эміграцыі. А якую ад гэтага мелі вялікую палёгку настаўнікі й вучні! Праўда, апошнія гады табарнага жыцьця выйшаў "Лемантар"[486] Апалёніі Раткевіч[487] і некалькі сшыткаў чытанкі[488] М[іхася] М[іцкевіча][489], але гэтыя матэрыялы былі як бы дадаткам-дапаўненьнем да маіх падручнікаў[490].

[486] Маецца на ўвазе выданьне: Радкевіч, А[палёнія]. Беларускі лемантар. [Рэгенсбург], 1946. 88 с.

[487] **Апалёнія Раткевіч** (у шлюбе **Савёнак**, 1901—1982), пэдагог, пісьменьніца, жонка Лявона Савёнка. Да вайны працавала настаўніцай. Ад 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Была выкладчыцай у беларускай гімназіі ў Остэргофэне. Аўтарка некалькіх падручнікаў для дзяцей. Ад пачатку 1950-х гг. жыла ў ЗША, у Нью-Джэрзі.

[488] Маюцца на ўвазе выданьні: М[іцкеві]ч, М[іхась]. Чытанка для II клясы. Сшытак першы. Міхельсдорф, 1946. 42 с.; М[іцкеві]ч, М[іхась]. Чытанка для II клясы. Сшытак другі. Міхельсдорф: выданьне аўтара, 1946. 45 с.; М[іцкеві]ч, М[іхась]. Роднае слова: Школьная чытанка для II клясы. Разьдзел I. Каля дому. Міхельсдорф: "Крыніца", 1947. 44 с.; М[іцкеві]ч, М[іхась]. Роднае слова: Школьная чытанка для II клясы. Разьдзел II. Міхельсдорф: "Крыніца", 1947. 52 с.; М[іцкеві]ч, М[іхась]. Роднае слова: Школьная чытанка для II клясы. Разьдзел III. Зіма. [Міхельсдорф]: "Крыніца", 1947. 70 с.; М[іцкеві]ч, М[іхась]. Роднае слова: Школьная чытанка для II клясы. Разьдзел IV. Вясна. [Міхельсдорф]: "Крыніца", 1947. 54 с.; М[іцкеві]ч, М[іхась]. Чытанка для дзяцей I году навукі. [Міхельсдорф]: "Крыніца", 1947. 48 с.; М[іцкеві]ч, М[іхась]. Чытанка для III клясы пачатковае школы. Сшытак I. [Міхельсдорф]: "Крыніца", 1947. 44 с.; М[іцкеві]ч, М[іхась]. Чытанка для III клясы пачатковае школы. Сшытак II. [Міхельсдорф]: "Крыніца", 1947. 55 с.

[489] **Міхась Міцкевіч** (1897—1991), грамадзкі й рэлігійны дзеяч, пісьменьнік, пэдагог, наймалодшы брат Якуба Коласа. Ад верасьня 1939 г. быў настаўнікам, потым дырэктарам школы ў Мікалаеўшчыне. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Адзін з арганізатараў беларускага лягеру *DP* у Рэгенсбургу. Адзін з заснавальнікаў Беларускага нацыянальнага камітэту ў Нямеччыне, а таксама Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, дзе працаваў настаўнікам. Аўтар чатырох чытанак для дзяцей. У 1950 г. выехаў у ЗША.

[490] Маюцца на ўвазе падручнікі: Г[ладкі, Язэп]. Беларускі лемантар. Ватэнштэт: выданьне суполкі "Заранка", 1946. 53 с.; Гладкі, Язэп. Геаграфія. Частка першая. Падручнік для III клясы пачатковай школы. Ватэнштэт: выданьне Беларускага Дапамаговага Камітэту, 1946. 31 с.; Родны Край. Кніжка першая. Чытанка [Укладальнік Язэп Гладкі]. Ватэнштэт: выданьне Беларускага Дапамаговага Камітэту, 1946. 36 с.; Геаграфія. Падручнік для

Блізка праз два тыдні пасьля маёй гутаркі з Васілеўскім Коўш піша мне звальненьне з працы настаўніка “за субардынацыю”. Гэта амаль і ня дзіва, што Коўш пайшоў на такую авантуру, бо, згодна некаторых чутак, ён мог пайсьці й на гэткія авантуры, дзе нявінныя людзі з жыцьцём расставаліся. Але мяне дзівіць Васілеўскі — настаўнік-інстытутчык. Хоць ён практычнай пэдагагічнай працай мала займаўся, але ж мог улічваць, колькі мне працы й нават пакуты каштавала ўся гэтая работа. Чаму ж ён, жывучы ў лепшых матэрыяльных і жыцьцёвых умовах, ня выдаў ніводнага падручніка? Але ўрэшце пайшоў на гэткую агідную авантуру — зьняць мяне з працы й гэтым прыдбаць у Каўшову касу нейкіх 200 марак, каб таму зь сябрамі было за што лішнюю кварту віскі выпіць. А Васілеўскі, бадай, і ня ўлічваў, што мне была патрэбная праца ў школе найболей для таго, каб сачыць, ці добра прыстасаваныя мае падручнікі да школы, каб зрабіць патрэбныя заўвагі й папраўкі.

Мне адвольна ўсплывае [у памяці] адзін прыклад, як выказаўся князь Крапоткін[491] да жандарскага палкоўніка й пракурора, калі яны прыйшлі на вышук і выкінулі хворае дзіця з ложка, каб там агледзець: “*На гэтага барбоса (жандарскага палкоўніка) няма чаго й наракаць, бо ён сумленьне страціў, калі ішоў на гэту службу, а ты ж, мерзавец (на пракурора), унівэрсытэцкую адукацыю маеш! Куды ты лезеш?!*”. Гэтае параўнаньне можна прыставіць і да Каўша, і да Васілеўскага ў гэтым разе. Калі Каўшу аб тое не хадзіла, што настаўніка клясы звольніць перад канцом навучальнага году, ды яшчэ IV выпускной клясы, дык жа для гэтых вучняў увесь навучальны год змарнуецца, бо ж новы настаўнік ня зможа ведаць, што́ было пройдзена, а што́ не (праўда, на гэтую клясу ставілі па чарзе розных настаўнікаў, а найболей практыкантаў). А Васілеўскі-“інспэктар” мусіў бы гэта ўлічваць, каб яго цікавіла школа, а не Каўшова выпіўка.

Да майго звальненьня маю кнігу “Малюнкі мінулага”[492] чыталі ў беларускіх школах два гады, але ніхто не адклікнуўся аб ёй, што там

III клясы Беларускай Народнай Школы. Ватэнштэт: выданьне беларускай выдавецкай суполкі “Заранка”, 1947. 54 с.; Г[ладк]і, Я[зэп]. Наша краіна, літаратурная чытанка = Naša kraina, litaraturnaja čytanka. Vatenštet: vyd. supałki “Zaranka”, 1948. 142 с.; H[ładk]i, J[azep]. Pomniki staražytnaści = Помнікі старажытнасьці. Čytańnie dla III-kl. Narodnaj Škoły. Vatenštet: vyd. supałki “Zaranka”, 1948. 69 с. і некаторыя іншыя выданьні, што згадваліся вышэй.

[491] Маецца на ўвазе князь **Пётар Крапоткін** (1842—1921), расейскі рэвалюцыянэр-анархіст, навуковец-географ і геамарфоляг.

[492] Маецца на ўвазе выданьне: Г[ладк]і, [Язэп]. Малюнкі мінулага: Частка II. Для IV клясы Народнай Школы і моладзі. Ватэнштэт: выданьне беларускай выдавецкай суполкі “Заранка”, 1947. 176 с.

няпраўда напісана. Баранцэвіч[493] на гэтую кнігу напісаў рэцэнзію на 15 ратататарных старонках, але не адважыўся напісаць, што *"там няпраўда напісана"*. А пасьля майго звальненьня на маё месца на некалькі дзён быў пастаўлены Пунтус[494], які, чытаючы з вучнямі гэтую кніжку, казаў вучням, што ў гэтай кніжцы няпраўда. Цікава, для чаго чытаць кніжку, дзе няпраўда напісана. Цікава, ці патрабаваў настаўнік, каб вучні перадавалі сваімі словамі гэтую "няпраўду". У якое бязглуздае становішча ставіў дзяцей гэты "настаўнік"! Чаму ж Васілеўскі-"інспэктар" ня меў адвагі давесьці да ведама публікі, што ў тэй кнізе хлусьня, а не гісторыя?

На пачатку лютага Коўш піша мне паперку *"звальненьне з працы за субардынацыю"*, каб я пакінуў школу. Я набраўся цярплівасьці й выказаўся аб'ектыўна, дзе выявіў яму ўсю ягоную недарэчнасьць, калі ён хоча зьмяніць настаўніка, не дачакаўшы канца навучальнага году. Пасьля гэтага я са два тыдні прахварэў на грыпу. Нарэшце ў пачатку красавіка Коўш узноў прыходзіць мне напамінаць аб звальненьні. Наконт гэтага пытаньня я надумаў два выйсьці: шукаць права ў нямецкіх школьных установах або пры падтрымцы насельніцтва не пакідаць працы ў школе датуль, пакуль Коўш з паліцыяй ня прыйдзе мяне выкідаць. Першы шлях для мяне быў цяжкі, бо я ня ведаў ні ангельскай, ні нямецкай мовы. Другі шлях для мяне быў узноў вельмі цяжкі, бо я глядзеў на школу як на месца сьвятое — дом навукі, дом культуры! — і ня мог дапускаць скандалу ў самую школу. Другі шлях быў для мяне больш безнадзейным, але я мусіў пайсьці па ім. Пры гэтым мне было вельмі крыўдна за нашу інтэлігенцыю, што мяне пакінулі аднаго *"на полі бітвы"*, а самі толькі клапаціліся аб сваіх пасадах ды аб сваім спакойным жыцьці. З гэтай крыўды ў мяне пачалі апускацца рукі ў гэтым змаганьні.

Я папрасіў баптысцкага прапаведніка Сохара[495] за дольмэчэра зьезьдзіць у Лебэнштэт [*Lebenstedt*] — у школьную ўправу. На аўтобусным прыпынку спатыкаем паляка Мітыса, кіраўніка кадраў нашага табару, які гэдаксама едзе ў Лебэнштэт. Гэты Сохар і просіць Мітыса, каб ён мне дапамог перагаварыць у школьнай управе ў Лебэнштэце, той ахвотна згадзіўся. Праўда, я яму не давяраў, але ня верыў у вагідную подласьць гэтага чалавека. Я спадзяваўся, што, паколькі ён стаіць на табарнай

[493] Магчыма, маецца на ўвазе **Іван Баранцэвіч**, эмігрант-фэдэраліст, пазьней часты аўтар газэты "Новое Русское Слово" й апанэнт Юркі Віцьбіча.

[494] Відаць, маецца на ўвазе **Васіль Пунтус**, які пазьней жыў у Чыкага (ЗША).

[495] Магчыма, маецца на ўвазе **Гарасім Сахар** (1916—1993), баптысцкі прапаведнік. У 1945 г. скончыў *Horn Seminary* ў нямецкім Гамбургу і на працягу чатырох гадоў пасьля Другой сусьветнай вайны прапаведваў у лягеры для перамешчаных асобаў па-беларуску, па-польску, па-расейску і па-нямецку. У 1950 г. з дапамогаю Сусьветнага саюзу баптыстаў (World Baptist Alliance) яго сям'я здолела іміграваць у Нью-Ёрк. Пазьней жыў у Флярыдзе.

пасадзе, дык ён мусіў бы перакладаць слушна, як належыць, калі б гэта мова была накіравана й супроць яго самога. [У школьнай управе] я паказваю паперку ад Каўша аб маім звальненьні й пры гэтым пытаю:

— *На якіх падставах Коўш мяне звольніў з працы настаўніка?*

А Мітыс кажа [немцу], што я хачу звольніцца з працы настаўніка. Немец пытае ў яго, чаму я хачу звольніцца, а Мітыс яму адказвае, што я як кіраўнік школы не паладзіў з сваімі настаўнікамі, дык за гэта й хачу звольніцца. Мітыс мне сказаў, каб я схаваў гэтую паперачку. А далей кажа мне, што немцу мая справа звальненьня з працы невядома, а ён праз некалькі дзён мяне выкліча. Калі я, не дачакаўшыся гэтага выкліку, праз некалькі дзён пайшоў зноў да школьнай управы, але з Жызьнеўскай[496], гэты немец мне ўсё гэта расказаў. Але да гэтага часу я ўжо быў звольнены з працы *"згодна маёй просьбы"*. Мне заставалася толькі судзіцца. Тады ў Браўншвайґу пры УНРРА былі бясплатныя адвакаты, але я гэтага ня ведаў, бо з нашай інтэлігенцыі ніхто мне гэтага не парадзіў.

З боку Каўша й Васілеўскага зь іхным "інспэктарствам" гэта была ня першая правакацыя супроць мяне. Спачатку 1948/49 навучальнага году ўжо была адна, нават, з майго пагляду, горш агідная, але яна ім не ўдалася. Ільляшэвіч трагічна загінуў у аўтамабільнай катастрофе. Блізка праз тыдзень пасьля гэтага ў табары было паседжаньне радных БЦР — ватэнштэцкага аддзелу (ня помню, як ён называўся). У гімназіі Ільляшэвіч выкладаў літаратуру, і пасьля ягонай сьмерці ня стала падручніка па літаратуры (ня ведаю, ці хрэстаматыі, ці гісторыі літаратуры). На гэтым паседжаньні было ўстаноўлена, што гэтая кніга ў мяне, і вынесена пастанова зрабіць у мяне на кватэрыператрус, а паліцыя павінна пакараць мяне (а Каўшова паліцыя карала самым агідным спосабам — розґамі ці іншымі пабоямі). Пасьля гэтага паседжаньня позна вечарам прыходзяць да мяне Коўш і начальнік паліцыі Занковіч[497]. Я быў сакратаром каталіцкай акцыі "Харытас"[498] і запісваў дыпістых на выезд у ЗША. Тады ў мяне сядзелі некалькі асоб дыпістых, якія запісваліся на выезд у Амэрыку. Хоць Коўш і Занковіч былі самыя высокія асобы ў табары, але ў прысутнасьці пабочных людзей не адважыліся рабіцьператрус у маім пакоі. Некалькі часу пастаяўшы, Коўш прамовіў:

---

[496] Магчыма, маецца на ўвазе **Еўдакія Жызьнеўская** (1900—1994), жонка Стэфана Жызьнеўскага, якая ад 1950-х гг. жыла ў Чыкага.

[497] **Аўген Занковіч** (**Занкавіч**, 1923—1997), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Пастаўскай настаўніцкай сэмінарыі, быў кіраўніком СБМ у Паставах. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Быў у беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце, дзе быў кіраўніком лягернай паліцыі. Пры канцы 1940-х гг. прыехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі).

[498] Маецца на ўвазе тагачасная ***Caritas Catholica*** — міжнародная каталіцкая дапамаговая арганізацыя са штаб-кватэрай у Люцэрне (Швайцарыя).

— *Мы прыйшлі да вас, каб вы аддалі кніжку, падручнік па літаратуры.*

Я адказаў, што ў мяне гэткай кнігі няма, дык я й ня маю, чаго аддаваць.

— *А Ільляшэвіч жа казаў, што перадаў яе вам,* — сказаў Коўш.

— *А я ўсё ж уважаў Ільляшэвіча сумленным чалавекам, і ён нікому ня мог сказаць, што ён мне аддаў кнігу тады, калі ён мне яе не даваў,* — адказаў я.

— *І я ўважаў Ільляшэвіча сумленным чалавекам, а ён мне казаў, што аддаў вам кнігу, і яна ў вас,* — дадаў Коўш.

— *Кажу з гонарам беларуса й настаўніка, што ніколі ня бачыў тэй кнігі й яе ў мяне няма,* — адказаў я павышаным голасам.

Яны пайшлі. Блізка праз тры дні спатыкае мяне Коўш і кажа, што кніга знайшлася. Я яму нічога на гэта не адказаў. Празь некалькі дзён пасьля таго, як яны з Занковічам прыходзілі да мяне па кніжку, дзяўчына ў гімназіі вымае кніжку й пытае ў настаўніка:

— *Каму я мушу аддаць гэтую кніжку, яе мне даў Ільляшэвіч пачытаць.*

Калі б ня гэтая дзяўчына, дык мажліва, што для мяне гэтая справа скончылася б трагічна. Я, калі выйшаў з гадоў падлетка-хлапчука, дык ні з кім ніколі ня біўся, але калі б Каўшова паліцыя ці баёўка[499] пачала мяне фізычна катаваць, я прымушаны быў бы бараніць у сабе гонар чалавека й біцца да астатняга подыху.

Першыя гады існаваньня нашай школы былі вялікія зрывы працы ў школе кожнага панядзелка. Кожную нядзелю ў клюбе табару былі сходы ці забавы; на гэтыя патрэбы забіралі ў школе ўсе лаўкі. Калі дзеці прыходзілі ў панядзелак рана ў школу, лавак не было. Прыйшоўшы у школу, настаўнікі перш мусілі ўвесь табар абысьці, каб знайсьці, дзе заначаваў п’яны Ільляшэвіч, каб узяць ад яго ключ ад клюбу. Дзеля гэтага ў кожны панядзелак блізка на гадзіну лекцыі зрываліся.

У пачатку заснаваньня школы, аж да новага 1946 году, я, як іншыя настаўнікі, не атрымліваў аплаты. А пасьля гэтага стаў атрымліваць пэнсію, але ня роўную: адзін месяц болей, а другі меней (прыкладам, 192 марак, 206 марак, 218 марак). Аднаго разу я пытаю ў Еўсы[500], які заўсёды выдаваў пэнсію:

— *Чаму гэта гэткая няроўная пэнсія: то большая, то меншая, то зноў большая?*

Ён мне адказвае:

499 ***Баёўка*** — тут: банда, хеўра.

500 Відаць, маецца на ўвазе **Кастусь Еўса**, грамадзкі дзеяч, які пасьля Другой сусьветнай вайны жыў у ЗША. Ад 1957 г. быў старшынём Амэрыканска-Беларускага культурна-дапамаговага аб’еднаньня ў Кліўлэндзе.

— *Бывае, што адзін месяц пераплоцяць, дык другі за тое не даплоцяць.*

Мне прыйшлося паверыць, бо ведаў, што ён дома ведамасьць складае на аплату, а там яму грошы даюць па ведамасьці, і калі ён грошы выплочвае, дык кожны атрымальнік падпісваецца на ведамасьці. Я папярэднія гады атрымліваў пэнсіі каля 200 марак, а ў 1949 годзе блізка каля 400 марак на месяц.

Калі мяне звольнілі з працы, далі выпіску, колькі я ўсяго зарабляў грошы; выходзіла, блізка пароўну кожны год. Я толькі тады даведаўся ягоную махінацыю: ён, калі складаў ведамасьць, дык пісаў праўдзівыя лікі, колькі каму атрымліваць, і ў касе столькі грошай, колькі належала, і выдавалі. Прыехаўшы дамоў, ён змочваў гэтыя лічбы хімічнай вадкасьцю, якая забірала чарніла, падпісваў блізка ўдвая меншыя лічбы ды згодна гэтых лічбаў плаціў пэнсію, а выплаціўшы, зноў змазваў хімічнай вадкасьцю лічбы, зьбіраў чарніла ды зноў выстаўляў сапраўдныя лічбы, колькі па праву належалася платніку. Хоць яны мелі трохі клопату, але затое з кожнага месяца ім заставаліся тысячы марак, зрабаваных з службоўцаў. Я ўпэўнены, што Еўса рабіў гэткія вялікія злачынствы са згоды Каўша.

Аднаго разу афіцэр ДПКСу пытае, колькі ў мяне настаўнікаў. Я адказваю, што са мною чацьвёра. А ён сьмяецца:

— *Які ж вы кіраўнік школы, калі ня ведаеце, колькі ў вас настаўнікаў.*

Я толькі пасьля даведаўся, што Каўшова жонка, малапісьменная жанчына, была прыпісана да маёй школы настаўніцай. Быў прыпісаны й Пунтус — агент Каўшовай тайнай разьведкі, а хто яшчэ быў прыпісаны, дык я да сёньня ня ведаю. Толькі я тады дагадаўся, чаму Еўса, калі я расьпісваўся на ведамасьці пры атрыманьні пэнсіі, рукой ці паперай закрываў ведамасьць, хто запісаны ніжэй мяне.

## Выдавецкая суполка “Заранка”

Калі я адчыніў у Ватэнштэце школу й пачаў вучыць дзяцей чытаньню й пісьму, дык стаў сыстэматычна ўкладаць свой штодзённы матэрыял. У далейшыя часы па гэтым матэрыяле працаваў і я, і іншыя настаўнікі нашай школы. Згодна гэтага матэрыялу быў укладзены мой першы “Лемантар”[501] і чытанка “Родны палетак”[502]. Абодва гэтыя

[501] Маецца на ўвазе выданьне: Г[ладкі, Язэп]. Беларускі лемантар. Ватэнштэт: выданьне суполкі “Заранка”, 1946. 53 с.

[502] Відаць, маецца на ўвазе выданне: Г[ладкі, Язэп]. Родны палетак: Чытанка для II і III клясы беларускай народнай школы. Ватэнштэт: выданьне беларускай выдавецкай суполкі “Заранка”, 1947. 104 с.; Rodny Paletak. Čytanka dla 2 i 3 klasy biełaruskich pačatkavych školaŭ. Vatenštet: vydaviectva “Zaranka”, 1947. 120 s.

падручнікі я апрацаваў яшчэ да маёй хваробы ў 1945/46 навучальным годзе, а гэдаксама пераклаў з украінскай мовы "Геаграфію"[503]. Год пасьля заснаваньня нашай школы я й настаўнік Сіткоўскі задумалі заснаваць выдавецкую суполку, а для гэтага сабралі сход сьвядомых грамадзян, а іх было ня так ужо й шмат: настаўнікі Гладкі, Сіткоўскі, Селязьнёва, д-р Грабінскі[504], д-р Тумаш[505], Ю. Мурашка[506], А. Крыт і А. Будзька. Кожны сябра ўклаў 100 марак да рэформы валюты[507]. Гэта й быў наш першапачатковы капітал, зь якога мы й пачалі. На гэтыя грошы купілі некалькі матрыцаў ратытарнай паперы, фарбы й ляку. Ратытар быў у табары, але ні я, ні Сіткоўскі не маглі зь ім абыходзіцца. Сіткоўскі на машынцы трохі мог пісаць, але матрыцаў ніколі не адбіваў, а тут прыйшлося яму ўзяцца за гэту новую для яго работу. Выйшла папалам зь бядой. Малюнкі й каліграфічную работу выконвалі Чэсь[508]

[503] Маецца на ўвазе выданне: Гладкі, Язэп. Геаграфія. Частка першая. Падручнік для III клясы пачатковай школы. Ватэнштэт: выданьне Беларускага Дапамаговага Камітэту, 1946. 31 с.

[504] **Баляслаў Грабінскі** (1899—1991), грамадзкі дзеяч, лекар. Быў старшынём Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, старшынём Беларускага нацыянальнага камітэту ў Заходняй Беларусі, намеснікам старшыні Беларускага навуковага таварыства. Працаваў на катэдры анатоміі мэдычнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту. У 1942—1944 гг. быў старшынём Беларускага нацыянальнага камітэту ў Вільні. У 1943 г. ледзь не расстраляны літоўскай адміністрацыяй. Ад 1944 г. — на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне. Сябра Аб'яднаньня беларускіх лекараў на чужыне, аўтар артыкулаў у часопісе "Мэдычная думка". У 1950-я гг. перабраўся ў ЗША.

[505] **Вітаўт Тумаш** (1910—1998), грамадзкі дзеяч, лекар, навуковец (скарыназнаўца). У 1940—1941 гг. быў старшынём Беларускага камітэту ў Лодзі. З пачаткам нямецкай акупацыі Беларусі ў ліпені — лістападзе 1941 г. быў кіраўніком цывільнай адміністрацыі Менску. Напрыканцы 1941 г. выехаў у Нямеччыну, займаўся лекарствам, уваходзіў у рэдакцыі бэрлінскіх газэт "Раніца" й "Беларускі работнік", працаваў у бэрлінскім аддзеле Беларускай народнай самапомачы. У 1948 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку.

[506] **Юстын Мурашка** (1890—1952), грамадзкі дзеяч. Быў фармальным старшынём Беларускай сялянскай партыі. У лістападзе 1941 г. прызначаны бургамістрам Ашмянаў. Пазьней быў бургамістрам у Валожыне. Арыштоўваўся нямецкімі ўладамі. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у Заходняй Нямеччыне, Францыі. Браў удзел у першым Сусьветным зьезьдзе беларускай эміграцыі. У 1950 г. разам зь сям'ёй выехаў у Канаду. Жыў у Эдмантане.

[507] 20 чэрвеня 1948 г. у Нямеччыне была праведзеная грашовая рэформа, у выніку якой старыя рэйхсмаркі былі замененыя на нямецкія маркі (Deutsche Mark).

[508] **Часлаў Будзька** (1913—1985), грамадзкі дзеяч, гісторык, пэдагог, сын Эдварда Будзькі, брат Людвікі Будзькі-Бяленіс. Падчас Другой сусьветнай вайны знаходзіўся ў Нямеччыне. Па сканчэньні вайны жыў у беларускім

й Люня Будзькі. Досыць прыгожую вокладку намалявала ...[509] Мурашка. Але калі сталі мы зь Сіткоўскім круціць рататар, дык шмат і матрыц парвалі, і паперы зглумілі, але папалам зь бядой сабралі каля 200 паасобнікаў "Лемантара". Гэтым выданьнем мы задаволілі й сваю школу, і ўсе іншыя беларускія школы на эміграцыі. Хоць тэхнічна "Лемантар" выйшаў няўдалы, але ён вызваліў ад пакутаў дзясяткі беларускіх настаўнікаў на эміграцыі, і соткі беларускіх дзяцей на эміграцыі навучыліся чытаць на роднай мове. А пры гэтым наша "Заранка" раздабылася й на грошы. Зараз жа мы сталі друкаваць і "Родны палетак", які выйшаў у пачатку 1947 году. Тут мы адбіваць матрыцы запрасілі добрага фахоўца Хведара Ільляшэвіча. Мы добра яму плацілі, і работа была выканана вельмі добра. На "Лемантару" Сіткоўскі навучыўшыся ўпраўляцца з ратататарам, дык на "Родным палетку" ў нас выходзіла надта мала поглуму[510] й выгляд быў чысты. Малюнкі выконваў добры фаховец — настаўнік Скараход.

Надрукаваная кніжка стала хутка разыходзіцца, бо быў вялікі попыт. Да нас у касу наплывалі грошы. Я кіраваў рассылкай кніг і быў скарбнікам. Каб не мяшаць грамадзкіх грошай з сваімі, я грамадзкую касу разам з прыбытковымі дакумэнтамі трымаў у вадным пачку. Аднаго разу ў нядзелю ўвечары Васілеўскі здаў мне за кнігі 500 марак, я іх палажыў у касавы пачак. Калі я ў панядзелак паглядзеў, аж няма ўсяго пачка, дзе былі й сьпісы (каму кнігі выслалі, ад каго колькі атрымалі грошай), і ўся каса "Заранкі". Як жа аформіць пакражу? Мы падлічылі, колькі было кніжак "Роднага палетку" ў наяўнасьці ды аднялі іх ад колькасьці выпушчаных. Выявілася, што выдаткаваных кніг было роўна на 2000 марак. Я іх і прыняў на свой кошт ды блізка два гады аплачваў сваімі цыгарэтамі[511] й пэнсіяй.

Восеньню таго самага году выдалі "Геаграфію"[512] й пачалі выдаваць "Малюнкі мінулага"[513]. Гэтую кнігу мы друкавалі два разы. Першы раз

---

лягеры *DP* у Ватэнштэце, выкладаў гісторыю ў беларускай гімназіі. У 1948 г. выехаў на працу ў Вялікабрытанію. У 1951 г. перабраўся ў ЗША. Жыў у Чыкага.

509 Так у арыгінале.

510 ***Поглум*** — убытак, марнаваньне напуста (АВ).

511 Практыка аплаты працы настаўнікаў цыгарэтамі была звычайнай у школах у лагерах *DP* у паваеннай Нямеччыне.

512 Маецца на ўвазе выданьне: Геаграфія. Падручнік для III клясы Беларускай Народнай Школы. Ватэнштэт: выданьне беларускай выдавецкай суполкі "Заранка", 1947. 54 с.

513 Маецца на ўвазе выданьне: Г[ладк]і, [Язэп]. Малюнкі мінулага: Частка II. Для IV клясы Народнай Школы і моладзі. Ватэнштэт: выданьне беларускай выдавецкай суполкі "Заранка", 1947. 176 с.

адбіў матрыцы неспрактыкаваны машыніст, які сьпяшаўся ў рабоце, дык ня сьпісваў тэксту даслоўна, а рабіў як бы пераказ майго рукапісу; гэткая сыстэма сьпісваньня часта мяняла сэнс у зьмесьце артыкулаў. Хоць гэта работа нам каштавала 200 марак, але я прымушаны быў перапісаць матэрыял, а тады мы перадалі набіваць матрыцу вядомаму фахоўцу-машыністу Ільляшэвічу, які зрабіў вельмі ўдала; гэта нам каштавала яшчэ 500 марак. Малюнкі да кнігі гэдаксама рабіў Скараход. Гэта кніга з усяго нашага выданьня мела самы большы тыраж (блізка 1000 асобнікаў), але ўсе паасобнікі хутка разышліся, і попыт на кнігу не спыняўся аж да гэтага часу.

Наступным быў выпушчаны падручнік "Помнікі старажытнасьці"[514]; яго я ўклаў паводле сваёй практыкі, калі працаваў на Бацькаўшчыне настаўнікам народнай школы ў сваёй вёсцы, але гэты матэрыял быў мной недастаткова апрацаваны. Зноў жа машыністы быў неспрактыкаваны адбіваць матрыцы, дый машынкі Коўш зь Еўсам не давалі, дык трэбала хватацца, каб напісаць хоць як. Гэтай кніжкай я хацеў увесьці дзяцей у мінулыя часы на акаляючым іх штодзённым матэрыяле, зацікавіць іх і выклікаць любасьць да ўсяго роднага — як да гісторыі, гэдак і да народнай культуры. Побач з гэтай кніжачкай быў выпушчаны "Дудар"[515], зборнічак народных песень. Адны з гэтых песьняў былі сабраны маімі вучнямі некалі яшчэ на Бацькаўшчыне ў роднай вёсцы, а іншыя — вучнямі маёй Ватэнштэцкай школы. Бальшыню песьняў разам мэлёдыямі запісаў ад мяне яшчэ ў Бэрліне ў 1944 годзе кампазытар Равенскі[516], але пасьля ў яго ў пажары гэтыя запісы загінулі, дык я й хацеў аднавіць іх, з мэлёдыямі. Гэта работа забрала ў мяне шмат і часу, і энергіі й прынесла мне ня толькі шмат клопату, але нават і пакут, але гэтай маёй працы ніхто яшчэ ня выкарыстаў, бадай што яна зусім непрыгодная.

Зборнік "Наша краіна"[517] выйшаў у 1948 годзе. Частка матэрыялу ў мяне захавалася яшчэ зь Менску, а рэшту зьбіраў у Нямеччыне.

---

[514] Маецца на ўвазе выданьне: Н[ładk]i, J[azep]. Pomniki staražytnaści = Помнікі старажытнасьці. Čytańnie dla III-kl. Narodnaj Školy. Vatenštet: vyd. supałki "Zaranka", 1948. 69 c.

[515] Маецца на ўвазе выданьне: Дудар = Dudar. Зборнік народных песьняў (этнаграфічны матарыял). Укладальнік Я[зэп] Г[ладкі]. [Meierwik]: выдавецтва супалкі "Заранка", [1949]. 85 с., ноты.

[516] **Мікола Равенскі** (1886—1953), кампазытар, хормайстар. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Чэрвені, быў рэгентам царкоўнага хору. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Працаваў рознарабочым на тартаку ля Мюнхену. У 1950 г. пераехаў у Лювэн (Бэльгія), арганізаваў студэнцкі ансамбль пры Лювэнскім унівэрсытэце. Аўтар музыкі гімну-малітвы "Магутны Божа" (словы *Н*. Арсеньне*вай*).

[517] Маецца на ўвазе выданьне: Г[ладк]і, Я[зэп]. Наша краіна, літаратурная

Нешта ў гэтым зборніку я ўважаю паважным, нешта менш паважным, але зьбіраў тое, што мог дастаць. Зборнік выкарыстоўвалі і ў народных школах, і ў гімназіях. Тут маіх уласных твораў надта мала, здаецца, тры артыкулы. Занадта шмат вершаў, можа й болей, як трэба. Прозу гэдаксама выбіраў з твораў прыгожага пісьменства, але некаторыя абзацы й сказы прыходзілася адкідаць пад пэдагагічным ці нацыянальным паглядам. Тут частка матэрыялу была адбіта кірылічным шрыфтам, а частка — лацініцай. Кірылічны шрыфт адбіваў Ільляшэвіч, і адбіў вельмі добра. Лацінічны таксама адбіваў добры машыністы, але ён першы раз адбіваў матрыцы, дык ня ўладзіў адбіць: ці перабіў, ці машынка была не пачышчана. Лацінічны шрыфт выходзіў амаль усюды замазаным. Мы вельмі шкадавалі, што нанава яго не перабілі.

Апошнім нашым выданьнем у Ватэнштэце ў 1949 годзе былі тры брашуры казак паводле народнай тэматыкі: “Рыцар Дабравід”[518], “Казкі № 2”[519] і “Казкі № 3”[520]. На гэтыя тры брашуры набіваў матрыцы я сам.

Як я ўспамінаў, выдавецтвам мы займаліся ўдвух зь Сіткоўскім: я пісаў кнігі й быў адказны за зьмест, Сіткоўскі купляў паперу і ўсё патрэбнае да друку. У той час купіць добрай рататарнай паперы было справай нялёгкай. Трэбала шмат аб’езьдзіць дый мець знаёмства з прадаўцамі. Пры друкаваньні стаялі пры рататары абодва, але Сіткоўскі быў галоўным майстрам, а я дапаможнай сілай. Пасьля надрукаваньня матэрыялу заставалася яшчэ шмат работы: брашураваць, правяраць тэкст надрукаванага й збрашураванага матэрыялу, сшываць ручным спосабам, нажом абразаць, наклейваць вокладкі. Апошняя работа амаль уся ляжала на мне. Вельмі шмат я затраціў і часу, і энергіі на напісаньне й апрацоўку кніжак, але безь Сіткоўскага гэтая вялікая й карысная для беларускага грамадзтва работа не была б выканана.

Шмат мы мелі матэрыяльнага ўбытку з боку Каўша. Яны з Ільляшэвічам таксама займаліся выдавецтвам, выдавалі часопіс “Шляхам жыцьця”[521], перадрукоўвалі п’ескі й зборнічкі вершаў, чарнасоцен-

---

чытанка = Naša kraina, litaraturnaja čytanka. Vatenštet: vyd. supałki “Zaranka”, 1948. 142 с.

[518] Маецца на ўвазе выданьне: H[ładk]i, J[azep]. Rycar Dabravid: Kazka pavodle narodnaj tematyki. Watenstedt: vydaviectva “Zaranka”, 1949. 25 s.

[519] Маецца на ўвазе выданьне: H[ładk]i, J[azep]. Kazki № 2. Watenstedt: vydaviectva “Zaranka”, 1949. 17 s.

[520] Маецца на ўвазе выданьне: H[ładk]i, J[azep]. Kazki № 3. Watenstedt: vydaviectva “Zaranka”, 1949. 23 s.

[521] **“Шляхам жыцьця”** — часопіс Беларускага дапамаговага камітэту ў Ватэнштэце, які выходзіў у 1946—1948 гг. Рэдактары Я. Сурвіла, Хв. Ільляшэвіч, М. Шыла.

ныя пасквілі супроць “крывічоў”[522] ды інш. У нас заўсёды быў вялікі запас паперы, і Коўш да нас прыходзіў у пазыкі, а калі мы не хацелі пазычаць, ён пагражаў, што некалі прыпомніць гэта нам. Я трымаўся ўпарта, каб не пазычаць, а Сіткоўскі намаўляў мяне, каб пазычыць, бо сапраўды Коўш нам пашкодзіць, казаў ён, і я згаджаўся. Мы зноў пазычалі, а яны зноў не аддавалі. Аднаго разу мы ў Валодзі Сенькі[523] закупілі блізка два цэнтнэры паперы за 500 марак і нанялі машыну прывезьці са станцыі. Коўш, Ільляшэвіч і Шыла[524] сталі дамагацца, каб мы ім палову адступілі. Папера выявілася ня першага гатунку, дык мы ім адступілі. Гэтая папера была ў велізарных аркушах, дык Шыла ўзяў дзясятак скаўтаў, яны паперу расклалі на клумкі й павезьлі ў Вольфэнбютэль у друкарню, каб парэзаць на малыя аркушы. Калі яны прывезьлі гэтую паперу, дык Сіткоўскі ад іх прынёс найбольш 7—10 кіляў. Я пайшоў да Шылы пытацца, як там было, колькі можа быць поглуму пры рэзаньні паперы. Шыла кажа, што пры рэзаньні паперы можа быць поглуму найболей 10 %. Тады я пытаю, дзе ж столькі паперы дзелася? Ён на гэта маё пытаньне толькі паціснуў плячыма, і я паціснуў плячыма. Трэба думаць, гэтую паперу або ў друкарні немцы пакралі (але я гэтага не магу дапусьціць), або скаўты за дарогу, або Коўш з Шылам забралі.

Празь месяц пасьля гэтага, на Каляды, Шыла захварэў, пасьля хваробы паехаў у Ґосьляр на адпачынак, а там зноў захварэў і нарэшце вясной памёр[525] у Браўншвайґу ў шпіталі. Вясной Ільляшэвіч друкаваў

522 **“Крывічы”** — мянушка прыхільнікаў Рады БНР пасьля Другой сусьветнай вайны, выкліканая ідэяй замены саманазвы “беларусы” на “крывічы” некаторымі зь іх у другой палове 1940-х гг.

523 **Уладзімер Сенька** (1918—1997), грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў гімназіі ў Стоўпцах і Віленскім унівэрсытэце. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу. Скончыў школу афіцэраў рэзэрву ў Замброве й быў прыпісаны да баранавіцкага палка пяхоты. У 1939—1941 гг. працаваў настаўнікам. Быў начальнікам паліцыі ў Стоўпцах. Ад 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Працаваў з прафэсарам фон Мэндэ ў Службе досьледаў Усходняй Эўропы. Быў настаўнікам у беларускай гімназіі лягеру *DP* у Ватэнштэце, а пасьля яе дырэктарам і кіраўніком лягеру да канца яго існаваньня. Рэдагаваў пэрыёдык “Жыве Беларусь!”, а пасьля выдаваў “Інфармацыйныя сшыткі” ў нямецкай мове аб палітычным і эканамічным жыцьці ў БССР. Служыў у бундэсвэры.

524 **Мікола Шыла** (1888—1948), грамадзкі дзеяч, журналіст. Дэлегат Першага й Другога Ўсебеларускіх кангрэсаў. У 1917—1920 гг. быў старшынём Партыі беларускіх эсэраў. У 1920—1930-я гг. браў удзел у заходнебеларускім нацыянальным руху. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Падтрымліваў БЦР і Р. Астроўскага.

525 Мікола Шыла памёр 6 красавіка 1948 г.

брашуру "А што далей?"[526] і прыбег да нас пазычаць паперы. Я ўжо не спрачаўся, дык Сіткоўскі аддаў яму й рэшту.

Кніжкі мы рассылалі гэткім чынам: школа ці асоба прысылалі нам запатрабаваньне, мы ім высылалі замоўленую колькасьць кніжак і рахунак, а пасьля атрымлівалі пераказам па пошце патрэбную колькасьць грошай. Усе беларусы сумленна з намі разьлічваліся, а толькі дырэктар беларускай гімназіі зь Міхэльсдорфу[527] айцец Лапіцкі[528] 80 марак скруціў. Колькі разоў мы яму ні пісалі, дык нічога не адказаў. Мы пісалі й да пасланца, што ў нас кнігі атрымоўваў, дык ён адказаў, што можа толькі сваімі грашыма заплаціць, бо здаў кніжкі дырэкцыі школы. Часамі беларусы, трапіўшы масай у нейкі табар, дамагаліся для сваіх дзяцей беларускай школы. Расейцы ці беларускія рэнэгаты абяцалі ім даць беларускую школу й выпісвалі ад нас беларускія кнігі, але нам грошай за гэтыя кнігі не прысылалі. Гэтым вучням сьпярша побач з расейскай мовай давалі чытаць і па-беларуску, а калі дзеці навучаліся чытаць па-расейску, тады забаранялі чытаць па-беларуску. Аднаго разу Шыла атрымаў 17 марак нашых грошай за кнігу "Малюнкі мінулага" й занёс іх у касу "каўшоўскага" камітэту (ён быў там скарбнікам). Мы не маглі ад іх спагнаць гэтых грошай ні пры жыцьці Шылы, ні па сьмерці, хоць і Коўш, і Шыла ведалі, што яны нікому не пасылалі кніжак "Малюнкі мінулага". Далей адзін паштовы пераказ на 17,50 марак ад інжынэра Ханяўкі[529] атрымаў Коўш і не прызнаўся, аж тады справа выкрылася, калі Ханяўка ўзьняў пошукі па пошце.

---

[526] Маецца на ўвазе выданьне: Шыла, Мікола. А што далей? (Кароткі нарыс узаемаадносінаў сярод беларускай эміграцыі). Браўншвайг, 1948. 20 с.

[527] **Міхельсдорф** (ням. *Michelsdorf*) — вёска каля г. Кам, зямля Баварыя. Знаходзілася каля вайсковага лётнішча з баракамі, у якія перасялілі беларусаў з Рэгенсбургу ў 1946 г. Разам зь імі былі перавезеныя дзіцячы садок, пачатковая школа, гімназія. Гэта быў адзін з найбуйнейшых беларускіх лягераў у Нямеччыне. Дзейнічаў да 1949 г.

[528] **Мікалай Лапіцкі** (1907—1976), рэлігійны й грамадзкі дзеяч, праваслаўны сьвятар, пэдагог. Працаваў у прыходах у Ашмянах, Стэфанпалі Дзісенскага павету. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Менску, быў актыўным прыхільнікам БАПЦ. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Настаяцель царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Рэгенсбургу — першай беларускай царквы на Захадзе. Выкладаў у Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1950 г. выехаў у ЗША.

[529] **Часлаў Ханяўка** (1909—1988), грамадзкі дзеяч. Падчас Другой сусьветнай вайны працаваў у Камітэце беларускай самапомачы ў Бэрліне, Беларускім камітэце ў Варшаве. Займаўся вызваленьнем беларусаў, што трапілі ў нямецкі палон. У паваеннай Нямеччыне займаўся арганізацыяй беларускага школьніцтва. У 1950-я гг. выехаў у ЗША. Жыў у Саўт-Рывэры.

## Паўстаньне супроць Каўша й мой удзел у ім

Калі беларуская нацыянальная інтэлігенцыя ў сувязі з канфліктам з Каўшом пакінула табар АВС, дык я й Сіткоўскі засталіся, бо трэбала закончыць і выдаць пачатыя кнігі ды прасачыць, як яны будуць прыстасоўвацца на практыцы ў школе зь дзецьмі. Вясной наступнага году супроць Каўша выбухнула паўстаньне, якое пачалі былыя каўшоўскія падхалімы, але да яго далучыліся й паважныя ды сумленныя людзі: Пілецкі, Брушкевіч, Б. Лісічонак, Шэнец, Васанскі ды шмат іншых. Зьвярнуліся па дапамогу й да нас зь Сіткоўскім — каб і мы прынялі ўдзел. Мы згадзіліся, хоць былі перасілены школьнай работай, а найболей выдавецкай, але голас нацыянальнага сумленьня прымусіў мяне згадзіцца на гэтыя прапановы, хоць мне гэтая работа й не падабалася. Масавыя паўстанцкія нарады адбываліся на полі ў пустых вагонах. Я бачыў, што на гэтых нарадах наўкола нас круцілася шмат каўшоўскіх платных шпеґаў, як Швэфель і Пунтус. Сіткоўскаму сталі пагражаць ягоныя былыя сябры-юнакі, якія цяпер былі на службе ў Каўша. Таму ён ад нашай кампаніі адстаў, хоць казаў, што адстаў ні з-за страху пагрозаў, але тлумачыў свой выхад тым, што нам, настаўнікам-інтэлігентам, не падыходзіць гэтая работа. І я адчуваў гэта, але супроць сваеі волі мусіў трымацца, бо ўважаў, што быў бы здраднікам для тых сумленных людзей, якія пачыналі гэтае паўстаньне. Я ўжо тады заўважаў прарасейскую чарнасоценную палітыку Каўша. Гэтае паўстаньне было супроць ня толькі ягонай прарасейскай палітыкі, але супроць ягонай брутальнасьці, тэрору, нялюдзкіх ґвалтаў. Я ўважаў, што, калі пакінуць аднаго Якуба[530], дык ён гэтую маласьвядомую масу гатоў завесьці ў далейшае зарубежжа, чымся быў гатовы Коўш[531]. Калі ўжо зусім стала відавочным, што на-

---

[530] Маецца на ўвазе **Кастусь Якуб (Якубаў)-Птах** (1916—2005), пісьменьнік, выдавец. Вучыўся ў Горы-Горацкай акадэміі. У 1935 г. быў арыштаваны і прысуджаны да двух гадоў зьняволеньня, якое адбываў у Вяземлагу. У 1937 г. асуджаны зноў яшчэ на тры гады. У 1940 г. вызвалены зь Севжэлдорлагу і вярнуўся на радзіму ў вёску Нізы каля Лёзна. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Нямеччыне. Удзельнік Камітэту праваслаўных хрысьціян-беларусаў, выдавец часопісаў “Праваслаўны беларус”, “Белая Русь”, “Голас беларуса”, пазьней — “Літаратурна-мастацкі зборнік”, “Детство во Христе”, “Русская быль”, “Христианская православная семья”, “Православный Миссионер”, “Житейская Мудрость”, “Православные картинки” і інш. На пачатку 1950-х гг. выехаў у ЗША, жыў у Трэнтане. Заснаваў выдавецтва “Родны край”, дзе выдаваў свае пэрыёдыкі.

[531] Цікавая характарыстыка С. Каўша зь недатаванага ліста К. Якуба да Ю. Віцьбіча: *«Другі лягер — Коўш, Ільляшэвіч і Шыла. Пра Ільляшэвіча ня ведаю й казаць ня буду. Шыла — вельмі добры п'яніца, а таму ўжо не заслугоўвае ўвагі. Коўш — разумны й прытрымліваецца даволі правільнай палітыкі,*

ша справа прайграна, дык Якубаў прапанаваў шукаць апекі ў япіскапа Апанаса[532]. Я на гэта адказаў:

— *Койш хоць і зарубежнік, але прынамсі маскуецца беларусам. Мы ў гэтым табары можам вольна карыстацца роднай мовай, а калі хто паслухае Якуба й пойдзе пад апеку япіскапа Апанаса, дык будзе цярпець падвойную няволю — і матэрыяльную, і нацыянальную.*

У сакавіку 1949 года мяне звольнілі з працы, і я жыў без заняткаў, а толькі тры разы на тыдзень па дзьве гадзіны займаўся ў школе дарослых — вучыў чытаць і пісаць старых жанчын. 4 траўня выклікаюць мяне й старога Жызьнеўскага[533] ў канцылярыю табару, аж там сядзяць два джэнтльмэны ў цывільнай вопратцы й начальнік 5 ДПКСу капітан Прале. Там быў яшчэ іхны шофэр, судэцкі немец, які да мяне зьвярнуўся на ломанай польскай мове:

— *Я па-польску мовіць не магу, але ўсё разумею. Тое, што я буду ў вас пытаць, вы мне адкажыце, але аб чым я буду ў вас пытаць, дык таго вы не павінны казаць.*

— *Чы Панкоўс камуніста?* — пытае ён.

— *Які Панькоў, Мікола*[534]*?* — перапытваю.

---

*але вялікі жулік і падлец. Сумленнасьці ні на грош. Усе яны й тыя й другія канчаткова абанкроціліся на эміграцыі. Яны паказалі сапраўдны свой твар: нягоднікаў, казнакрадаў і народных ліхадзеяў і абкрадальнікаў. У які б (не барані толькі) рог яны загналі б людзей, каб ім сапраўды давялося "восседать" на міністэрскім крэсьле"»* (гл.: Юрэвіч, Л. Дзьве душы маргінальнага беларуса // Запісы БІНіМ. № 31. Нью-Ёрк — Менск, 2008. С. 321—342).

532 **Апанас** (сьвецк. **Антон Мартас**, 1904—1984), рэлігійны дзеяч, архіяпіскап. У 1942 г. у Менску высьвечаны на япіскапа Віцебскага й Полацкага. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Разам зь іншымі беларускімі ярархамі ў 1946 г. перайшоў у юрысдыкцыю Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой. Адміністратар Паўночнанямецкага вікарыяту Нямецкай япархіі РПЦЗ. Выкладаў рэлігію ў беларускай гімназіі ў Ватэнштэце, супрацоўнічаў зь беларускай праваслаўнай прэсай, выдаў падручнік Старога Запавету па-беларуску. У 1950—1955 гг. вікарны япіскап у Аўстраліі. Потым пераехаў у Аргентыну. Япіскап (пазьней архіяпіскап) Буэнас-Айрэскі й Аргентынска-Парагвайскі. У 1966 г. выдаў кнігу "Белорусь в исторической государственной и церковной жизни" (прадмова па-беларуску).

533 Маецца на ўвазе Стэфан Жызьнеўскі (1893—1962), які ад 1950-х гг. жыў у Чыкага (ЗША).

534 **Мікола Панькоў** (1911—1995), грамадзкі дзеяч, бібліёграф, публіцыст. Паходзіў зь Люцыну (сёньня Латвія). Вучыўся ў Дзьвінскай беларускай гімназіі. У міжваенны час сябра партыі эсэраў. У 1926 г. арыштаваны латвійскімі ўладамі й асуджаны да пяці гадоў турмы. Па вызваленьні супрацоўнічаў зь беларускімі пэрыёдыкамі ў Заходняй Беларусі й Латвіі. У часе нямецкай акупацыі працаваў на чыгунцы. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У лягеры

— *A nie, ten wasz pan!*[535]

Я нічога не разумею й гляджу як казёл. Я знаў Міколу Панькова, які ў наш табар прыяжджае з латыскага табару, і ведаў, што латышы ягонае імя ў дакумэнтах пішуць *Pankous* (Панкоўс). Гэты шофэр вымае з кішэні нейкую паперачку, кладзе яе на стале й закрывае яе рукой, а два пальцы рассунуў, між якіх напісана лацініцай *Koйš*, і нават гачак над *š* пастаўлены, а ён не зьвярнуў увагі на гачак і чытаў *Коўс*. Я тады адказваю:

— *Tego ja nie wiem, czy on komunista, czy nie*[536].

І Жызьнеўскі дадае:

— *А хто ж яго ведае. Мы нічога ня ведаем.*

— *А Гадковіч*[537] *ці Хахолка*[538] *ці камуністыя?* — пытае ён.

— *Я гэтага таксама ня ведаю,* — адказваю.

— *A czy dobry ten pan Kous?*[539] — зноў пытае ён.

— *Як каму,* — адказваю я.

Тое самае паўтарыў і Жызьнеўскі.

— А для бальшыні людзей нядобры, — дадаю я.

— А чым ён нядобры? — пытае ён.

— *U nas trzy lata tabor, a nie było nie jedynych demokratycznych wyborów komendanta. On straszy ludzi, a nawet i bije*[540], — кажу я.

---

*DP* у Ольдэнбургу заснаваў Беларускую бібліяграфічную службу, зьбіраў і апісваў беларускія выданьні. У 1951 г. пераехаў у ЗША.

[535] ***A nie, ten wasz pan!*** (польск.) — А не, гэты ваш пан!

[536] ***Tego ja nie wiem, czy on komunista, czy nie*** (польск.) — Я ня ведаю, камуністы ён ці не.

[537] Маецца на ўвазе **Алесь Гатковіч** (1925—2007), грамадзкі дзеяч. У часе Другой сусьветнай вайны вучыўся ў гандлёва-адміністрацыйнай школе ў Маладэчне. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце браў удзел у арганізацыі літаратурна-мастацкіх вечарын. Пры канцы 1940-х гг. як перамешчаная асоба прыехаў у Вялікабрытанію. Жыў у Лідсе.

[538] **Юрка Хахолка** (1926—1996), грамадзкі дзеяч. Бацьку і брата расстралялі немцы. Быў у "батальёне Радзюка", потым у савецкіх партызанаў, адкуль уцёк. У паваеннай Нямеччыне апынуўся ў беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце, дзе актыўна займаўся спортам. У 1948 г. прыбыў на працу ў Вялікабрытанію. Пасяліўся ў Лідсе, дзе арганізаваў беларускую валейбольную каманду "Нёман", якая пасьпяхова выступала да 1955 г.

[539] ***A czy dobry ten pan Kous?*** (польск.) — А ці добры гэты пан Коўш?

[540] ***U nas trzy lata tabor, a nie było nie jedynych demokratycznych wyborów komendanta. On straszy ludzi, a nawet i bije*** (польск.) — У нас лягер існуе тры гады, а не было ніводных дэмакратычных выбараў камэнданта. Ён запалохвае людзей, а нават і б'е.

— *A jak on bije?*[541] — ён пытае.

— *Nawet bywały i takie wypadki, że narzuca koc na głowę swej ofiary a bije kijami*[542], — дадаю я.

— *A kto bił, on sam?*[543].

— *Mówili, że Hadkowicz przerabiał te egzekucje*[544], — дадаў я.

Мы выйшлі вон, і ён выйшаў за намі, на вуліцы яшчэ раз папярэдзіў, каб мы нікому не казалі, аб чым ён пытаўся ў нас. Джэнтльмэны й капітан Прале паехалі.

Зразумела, што нехта пісаў гэткі данос. Але хто б гэта ні быў, гэта зрабіў правакатар, бо я ня толькі не даручаў нікому гэткай работы ад свайго імя пісаць, а нават ні з кім ня вёў гутаркі на гэтую тэму, што Коўш ці Гадковіч камуністыя. Я ўпэўнены гэдаксама, што й Стэфан Жызьнеўскі, спакойны малапісьменны чалавек, ніколі ня стаў бы гэтымі справамі займацца. Нейкі правакатар або дурны, але ведаў, што я й Жызьнеўскі ў варожых дачыненьнях з Каўшом, дык пойдзем на гэткую правакацыю. А Коўш вельмі ўзрадаваўся правакацыі ды ўважаў, што прыйшла нагода пазьдзекавацца з нас — сваіх ахвяр. Ён спадзяваўся, што гэтым правакатарскім паклёпам на яго падымецца ягоны аўтарытэт ня толькі ў сваім табары, але й на ўсё эміграцыйнае насельніцтва. І сапраўды, гэты паклёп на Каўша, што ён камуністы, зрабіў вялікую паслугу Каўшу, бо абяляў яго перад грамадзкасьцю за ўсе ягоныя папярэднія злачынствы й дазволіў яму рабіць наступныя злачынствы. Хто б ні быў той правакатар, што майстраваў допіс на Каўша ў эМ-Пі[545], ці з “крывіцкага”, ці з “зарубежніцкага” асяродзьдзя, але ён меў зусім убогі розум, калі, напісаўшы гэткую беспадстаўную хлусьню супроць Каўша, спадзяваўся, што Гладкі будзе гэткім безразважным ідыётам і, ня маючы ніякіх падставаў, пасьведчыць фальшыва гэтую хлусьню? Калі б Коўш сапраўды быў камуністы, і я на гэта меў пэўныя доказы ці дакумэнты, дык не пісаў бы ніякіх даносаў. І гэта я ўдаводню прыкладамі.

Пры нямецкай уладзе камуністка Малянкова нахабна, супроць маёй волі ўлезла на настаўніцу ў тую школу, дзе я быў кіраўніком. Яна шкодзіла й мне асабіста (наводзіла партызанаў на мяне), і беларускай

---

[541] ***A jak on bije?*** (польск.) — А як ён б’е?

[542] ***Nawet bywały i takie wypadki, że narzuca koc na głowę swej ofiary a bije kijami*** (польск.) — Бывалі нават і такія выпадкі, што накідае коўдру на галаву сваёй ахвяры ды б’е кіямі.

[543] ***A kto bił, on sam?*** (польск.) — А хто біў, ён сам?

[544] ***Mówili, że Hadkowicz przerabiał te egzekucje*** (польск.) — Казалі, што Гадковіч выконваў гэтыя экзэкуцыі.

[545] ***MP — Military Police*** (анг.) — вайсковая паліцыя.

нацыянальнай справе. Я як кіраўнік школы мусіў пісаць характарыстыку аб яе палітычным і маральным стане, але я яе ня выдаў, хоць і моцна ненавідзеў, бо немцы яе павесілі б. Я з-за яе мусіў пакінуць сваю вёску й хату ды пайсьці ў сьвет.

Адам Рудакоўскі са Случчыны, сын кулака, камсамолец, — колькі ён на мяне даносаў — і тайных, і яўных — рабіў у часы калектывізацыі! Я ведаў, што яго бацькі раскулачаны, але маўчаў. А што я меў дапамагаць партыі ачышчаць ейныя рады ад кулакоў? Між іншага, я чуў ад прыхільнікаў Каўша й ад варожа настроеных да яго, што ў часе, калі ён быў раённым камэндантам[546], дык спрычыніўся да сьмерці нявінных людзей, але я ня ведаю, ці гэта праўда. Ды гэта й ня тычыцца да тэй крыўды, якую ён зрабіў мне ды іншым жыхарам табару. А калі ў мяне пыталіся, ці добрым быў Коўш для людзей табару, дык я ўважаў сваім абавязкам сказаць, я́к ён ставіўся да некаторых людзей, бо гэта прараблялася на маіх вачах.

Пасьля гэтага наведваньня эМ-Пі нашага табару Коўш і ягоныя прыхільнікі не маглі сябе ўстрымаць ад радасьці. Калі Коўш хацеў шпарка пусьціць нейкую сэнсацыю ў натоўп, дык ён скажа пад сакрэтам на вуха й папярэдзіць, каб той нікому не казаў гэтай навіны, дык яна ў момант увесь табар абляціць.

### Гімназія

Спачатку заснаваньня табару стары бухгальтар Адвард Будзька меркаваў адчыніць рахунковыя курсы для старэйшай моладзі, але каб прыдаць гэтым курсам болей аўтарытэту, хацеў іх назваць гімназіяй. Прайшло некалькі часу пасьля гэтага, і калі прыехаў Пануцэвіч, дык у кастрычніку месяцы распачалі вучэньне ў гэтай павышанай школе. Рахункаводзтва тут не выкладалася, а толькі агульнаадукацыйныя прадметы. Спачатку гэтая школа была малалюднай і слабенькай, але хутка стала разрастацца. Хоць настаўнікаў-фахоўцаў не было, але былі людзі з вышэйшай адукацыяй, якія ахвотна браліся за працу, дык шпарка школа ўзрасла й колькасна, і якасна. Пасьля двух гадоў працы яе ахапіў крызіс з прычыны зьмены адначасова ўсіх настаўнікаў. Але з новых настаўнікаў некаторыя выявіліся някепскімі, як Шнэк, Міровіч, Васілеўскі, дык школа праіснавала яшчэ два гады, хоць іншыя настаўнікі былі й слабымі.

### Скаўты

Дырэктар гімназіі Пануцэвіч у лістападзе месяцы стаў зарганізоўваць групу скаўтаў. Перш-наперш ён сабраў хлопцаў з народнай

[546] Відаць, маецца на ўвазе пэрыяд, калі Сьвятаслаў Коўш быў начальнікам Клецкага павету ў часе нямецкай акупацыі.

школы ды ўтварыў групу "ваўчанятаў". Мы думалі, як іх назваць, і назвалі "Крывіцкія скаўты". Ці гэта была ўдалая назва, ці не, але ніхто не папраўляў і ніякіх заяваў на гэтую назву не рабіў. Празь нейкі час ён зарганізаваў групу й старэйшай моладзі — хлапцоў і дзяўчат. Да 25 Сакавіка існавалі ўжо два сьцягі — хлапцоўскі й дзявочы, якія перад сьвятам склалі прысягу.

Сьвятар Сурвіла недалюбліваў скаўтаў і называў іх *камсамольцамі*. Некаторыя з старэйшых скаўтаў, што служылі ў паліцыі й хадзілі ў гімназію ці працавалі ў бюро, зарганізоўваючы скаўцкія забавы, п'янствавалі й нават ухітраліся за кошт скаўцкіх сум рабіць выпіўку. Частка старэйшай моладзі перастала наведваць гімназію й выйшла з скаўтаў, сталі п'янстваваць і разбэсьціліся. Гэта ўсё рабілася зь ведама сьцяжнога начальніка паліцыі Занковіча. Як выявілася пазьней, ён спрыяў раскладу гэтай старэйшай моладзі і, каб замаскаваць гэтую авантуру, утварыў з гэтай моладзі "спартовую дружыну".

## Пачатак разладу

Камэндант Коўш імкнуўся правіць табарам незалежна, і яму ў гэтым ніхто не перашкаджаў. Апрача Каўша, у табары былі яшчэ два прэтэндэнты на гегемонію: адзін — гэта беларуская нацыянальная інтэлігенцыя; другі, супрацьлежны першаму, — гэта прарасейскае праваслаўнае сьвятарства, якое спадзявалася ўзьдзейнічаць на цёмныя масы табару й павесьці іх да *"единой и неделимой"*. Коўш быў сваім чалавекам як у ваднэй, гэдак і ў другой групе, бо ён яшчэ ня ведаў, каторая з гэтых сілаў больш будзе спрыяць у ягонай кар'еры. Кожная з гэтых групаў хацела авалодаць масамі (значыць, натоўпам) і моладзьдзю. Нацыянальная інтэлігенцыя ўзяла курс на моладзь праз школу й скаўтынг, а на натоўп не зьвярнула ўвагі. Сьвятар Сурвіла перайшоў тут у контранаступ і праз Занковіча вывеў з шэрагу скаўтынгу частку старэйшай моладзі, але гэта зусім не пашкодзіла, бо адсеяўся зусім разбэшчаны элемэнт.

Расейскія сьвятары беларускага паходжаньня беларускай нацыянальнасьці не прызнаюць, а беларускі нацыянальны рух называюць польскай агентурай. Калі расейскі япіскап Нафанаіл[547] аб'яжджаў з Курскай іконай расейскія асяродкі, дык сьвятары лягеру АВС, лічачы гэты табар расейскім, заклікалі япіскапа ў табар без папярэджаньня аб гэтым кіраўніцтва табару; беларуская нацыянальная інтэлігенцыя зарэагавала на гэта. Тут Коўш прымушаны быў склікаць зборку інтэлігенцыі й сьвятароў, каб пагадзіць адных з другімі.

---

[547] Маецца на ўвазе **Нафанаіл** (сьвецк. *Васіль Львоў*, 1906—1986), япіскап Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой, архіяпіскап Венскі й Аўстрыйскі.

На Купальле быў прызначаны канцэрт. Коўш на гэты канцэрт запрасіў УНРРАўцаў. Пачатак канцэрту быў прызначаны на 8 гадзіну. На гэты самы дзень пасьля паўдня на 3 гадзіну меўся прыехаць япіскап. Паколькі Коўш быў сваім чалавекам і ў адных, і ў другіх, дык ён пагадзіў гэтую справу: япіскап прыедзе а 3-ю й празь дзьве гадзіны закончыць, а тады зь 5-й да 8-й будзе часу падрыхтавацца да канцэрту. Тут сьвятары наўмысьля надумалі скруціць канцэрт: япіскап спазьніўся на 3 гадзіны. Прыйшла 8-я гадзіна, прыехалі УНРРАўцы, а людзі з царквы не выходзяць, хоць малебен даўна закончаны. Коўш пасылаў некалькі разоў пасланцоў, але бяз вынікаў. Мінула й 9-я гадзіна, Коўш ня можа ўстаяць на месцы, папрасіў УНРРАўцаў, каб яшчэ пачакалі. Адчынілі клюб і сталі рыхтавацца да пастаноўкі, але частка дзяцей, што мелі ўдзельнічаць на сцэне, яшчэ ў царкве; іх сталі замяняць дзецьмі, якія ні разу не былі на рэпэтыцыі. Распачалі канцэрт. Клюб недалёка царквы, дык выглядае, што быццам дзьве ўзаемна варожыя сілы выйшлі на спаборніцтва: хто застанецца пераможцам — царква ці клюб? Папалам зь бядой канцэрт закончыўся. Закончылася й маленьне ў царкве.

На другі дзень раніцой зноў прыяжджае япіскап ды з працэсіяй усе куткі табару абходзіць. Гэтага ж дня ён складае ліст да начальніка ДПКСу зь сьпісам на 86 асобаў, якіх трэба разьмясьціць па 2—3 асобы па іншых табарах, бо гэта камуністыя. У сьпіс уваходзілі каталікі й нацыянальна сьвядомая інтэлігенцыя. Пад гэтым лістом падпісаліся сьвятары й некалькі жыхароў табару, у тым ліку й былыя камуністыя (Гаршкалеп). Цікава тое, што ліст падпісвалі тыя асобы, каго быў Коўш пакрыўдзіў, але самога Каўша ў сьпіс не занесьлі.

Перш начальнік ДПКСу даў згоду на гэта, але калі разабраўся ў сутнасьці справы, дык спыніў гэтую справу. Узьнікла спрэчка, на якой мове павінны гаварыцца казаньні ў царкве — на беларускай ці на расейскай. Яўнай бальшынёй выказаліся за беларускую, тады сьвятары Сурвіла й Сьмірноў зноў узьнялі новую прапанову, каб прагаласаваць нанава — на беларускай мове ці на польскай. Начальнік ДПКСу адкінуў гэтую прапанову, бо бальшыня перад гэтым выказалася за беларускую. Пасьля гэтага Коўш зрабіў сьпіс тых людзей, якія падпісалі ліст япіскапу Нафанаілу, каб нацыянальную інтэлігенцыю выслаць з табару АВС у табар расейскі. Сьвятары Сурвіла й Сьмірноў намаўлялі праваслаўных людзей, каб усе пакідалі табар АВС, але надта малая колькасьць людзей пакінула табар. Самі сьвятары абадралі царкву, маліцца цэлае лета ў царкву не ішлі, але зь лягеру не выяжджалі. Часамі прыяжджаў служыць украінскі сьвятар з Галендорфу[548], часамі расейскі з Ґосьляру.

[548] **Галендорф** (ням. *Hallendorf*) — адзін з раёнаў гораду Зальцгітэр у Ніжняй Саксоніі, недалёка ад Ватэнштэту. У Галендорфе знаходзіўся ўкраінскі лягер для перамешчаных асобаў.

Нарэшце восеньню Коўш зь сьвятаром Сурвілам пагадзіліся. За ўвесь час змаганьня беларускага насельніцтва табару АВС з прарасейскімі сьвятарамі выглядала, што Коўш быў на баку нацыянальна настроенай інтэлігенцыі й народу. Але калі Коўш зь сьвятаром Сурвілам пагадзіліся, з таго часу Коўш яўна перайшоў на бок расейскага зарубежжа, хоць разам з гэтым маскаваўся беларускім нацыяналізмам.

Як было вышэй зазначана, пры выбарах Беларускага нацыянальнага камітэту ў табары АВС Коўш бараніўся, каб не ўвайсьці ў яго. Сказаць праўду, беларуская нацыянальная інтэлігенцыя мала цікавілася працай камітэту й мала ўдзяляла ўвагі як у часе выбараў, гэдак і ў часе яго існаваньня. Уся работа камітэту ўскладалася на старшыню, Янку Сурвілу[549], які быў займаўся толькі адшуканьнем сродкаў для яго, але ён бязмэтна іх выдаткаваў, напрыклад: шофэрская школа, мастацкая школа.

Час перавыбараў камітэту насьпеў у канцы лета гэтага ж году. У перавыбарах стаў прымаць актыўны ўдзел і Коўш: ён знайшоў, што статут камітэту не зусім прыгодны й яго трэба перарабіць. Як пасьля выявілася, ужо тады Коўш заплянаваў зграмадзіць[550] у сваёй асобе ўсю ўладу й стаць дыктатарам. Ён некалькі разоў склікаў нараду інтэлігенцыі, дзе абгаворвалася зьмена статуту. Па новым статуце старшынёй Беларускага нацыянальнага камітэту аўтаматычна мусіў стаць камэндант табару, а менавіта Коўш, а яму ў дапамогу мусілі быць выбраныя чатыры сябры. Усе дарослыя жыхары табару, якой бы нацыянальнасьці яны ні былі, хацелі ці не хацелі, але мусілі быць сябрамі БНК і плаціць сяброўскія складкі. У нашым табары была значная колькасьць расейцаў, дык гэты статут быў дапасаваны да таго, каб у разе патрэбы Коўш мог на іх аперціся. І вось гэткім чынам, дзякуючы пратэкцыі начальніка ДПКСу капітана Прале, алькаголіка, Коўш застаўся пажыцьцёвым камэндантам табару і ў дадатак старшынёй Беларускага нацыянальнага камітэту, а праз гэта — дыктатарам табару. Супроць гэткага статуту пратэставалі толькі Сіткоўскі й Янка Сурвіла. У камітэт выбралі бальшынёй Каўшовых прыхільнікаў, але ў рэвізійную камісію — людзей сумленных і незалежных ад Каўша.

---

549 **Янка Сурвіла** (1925—1997), грамадзкі дзеяч. У 1943—1944 гг. працаваў у Беларускім камітэце самапомачы ў Бэрліне. У паваеннай Нямеччыне жыў у лягеры *DP* у Ватэнштэце, выдаваў і рэдагаваў першыя нумары часопісу "Шляхам жыцьця". У 1951 г. пераехаў у Гішпанію, дзе скончыў факультэт палітычных і эканамічных навук Мадрыдзкага ўнівэрсытэту. У 1952 г. заснаваў беларускую рэдакцыю Нацыянальнага гішпанскага радыё, сталыя перадачы на якой вёў ад 1958 да 1965 г. У 1969 г. разам з жонкай выехаў у Канаду.

550 ***Грама́дзіць*** — зьбіраць у грамаду людзей ці рэчы (АВ).

Як вышэй было зазначана, Коўш уважаў сябе працаўнікам УНРРА, што толькі ён мае права прызначаць на лягерныя пасады працаўнікоў і ніхто ня можа ўмешвацца ў справу харчаваньня жыхароў табару. Як толькі Коўш дасягнуў усёй паўніні ўлады, дык не замарудзіў праявіць сваю дыктатуру. Ніякі дыктатар, ні вялікі, ні малы, ня можа доўга трымацца без падтрымкі хоць нязначнай часткі народу. А гэта дасягаецца подкупам і абяцанкамі безыдэёвых людзей, а на гэта патрэбны сродкі. Коўш гэткія сродкі меў. Як пасьля выявілася, ён плянава рыхтаваўся да дыктатуры й набыў гэтыя сродкі. У першы год існаваньня табару Коўш згарнуў у сваіх руках вялікія запасы харчовых прадуктаў: кансэрваванага мяса, малака, масла, бон-кавы — і цыгарэтаў. Гэта было сабрана часткова недадаваньнем жыхарству правіянту, а найболей падачай у рапартах няісных душ, якіх штодзённа прыпісвалі да 20 асоб. Першы год існаваньня табару самагонка выраблялася скрытна, а на другі год, пры Каўшовай дыктатуры, сымпатыкі ягоныя сталі вырабляцца яе яўна.

Неўзабаве пасьля гэтых перавыбараў Коўш праявіў сваю дыктатуру: паразумеўшыся зь сьвятаром Сурвілам, ён яўна перайшоў на бок расейскага зарубежжа. У новы, каўшоўскі камітэт увайшлі вядомыя ў беларускім грамадзтве асобы: Шыла й Ільляшэвіч. Абодва яны былі вядомыя як алькаголікі, якія за самагонку гатовы былі прадаць і нацыянальныя справы, і гонар чалавека. Сьвятар Сурвіла гэдаксама быў добрым майстрам у выпіўцы. Хоць Шыла ўвесь свой век нічога супольнага ня меў з праваслаўнай верай, але сьвятар Сурвіла паставіў яго царкоўным старастам, а Коўш — скарбнікам новага табарнага камітэту. Ільляшэвіч застаўся сакратаром каўшоўскага камітэту ды каўшоўскім прапагандыстым і перакладчыкам на беларускую мову расейскіх зарубежніцкіх пасквіляў супроць беларускіх нацыяналістых, якія ў ватэнштэцкай царкве раздаваліся нацыянальна несьвядомым беларусам.

Першая праява каўшоўскай дыктатуры была заўважана на першай гадавіне табару, калі ён вывеў на вуліцу ўвесь народ па фахах: урадоўцы бюро, паліцыя, пажарнікі, скаўты, настаўнікі з школамі й мэдпэрсанал, — усе маршыравалі па вуліцах табару й салютавалі Каўшу. Дэфілядай[551] кіраваў Ільляшэвіч. Дзьве настаўніцы гімназіі выйшлі з шэрагу ды пайшлі дамоў, за што мелі строгае спагнаньне з п’янага Ільляшэвіча. Гэта была пасіўная праява дыктатуры, але неўзабаве гэтая дыктатура стала выяўляцца актыўней.

Восеньню гэтага году паявілася ў нашым табары невялічкая газэтка мэтадыстых на беларускай мове, дзе ў навінах было заўважана, што ў беларускім табары ў Ватэнштэце сьвятары застрайкавалі й не пайшлі ў царкву маліцца. Гэта паведамленьне не разыходзілася з праўдай, але Коўш загадаў газэтку канфіскаваць, а таго, хто распаўсюджваў яе, — арыштаваць і пасадзіць у бункер. Коўш пусьціў у ход яўную й таемную

[551] ***Дэфіляда*** — парад; маршаваньне.

паліцыю, каб адшукаць таго злачынцу, што прынёс у табар газэтку. Тайная паліцыя Каўшу данесла: у Васілені госьціць беларускі паэта Сяргей Хмара[552], і гэтая газэтка — работа ягоных рук. Коўш загадаў паліцыі арыштаваць Хмару й пасадзіць у бункер. Калі паліцыя прыйшла да Васілені, аж там Хмары ўжо не было — уцёк.

Той год у табары ABC было некалькі рататарных выдавецтваў: выдавецтва школьных падручнікаў "Заранка", выдавецтва Янкі Сурвілы, выдавецтва Часлава Будзькі, выдавецтва "Крывіцкіх скаўтаў" Пануцэвіча. Коўш выдае загад, што ні адно выдавецтва ня мае права нічога выдаваць без апрабаты *"табарнага цэнзара"*, а табарным цэнзарам ёсьць Хведар Ільляшэвіч. Усё грамадзтва табару падняло на сьмех гэты загад, і ні адно выдавецтва не панесьла кніг на апрабату "цэнзару". Коўш не заспакоіўся. Ён склікаў зборку інтэлігенцыі й стаў пагражаць, што пазачыняе тыя выдавецтвы, якія ня будуць зьвяртацца па апрабату кніг да цэнзара. Супроць яго выступіў шэф скаўтаў Пануцэвіч, сказаўшы, што абымае ўсіх беларускіх скаўтаў на эміграцыі й ня будзе зьвяртацца па апрабату да Каўшовага "цэнзара", а калі Коўш яму забароніць у табары друкаваць свае работы, дык ён праз вуліцу пераедзе ў нямецкі табар ды там надрукуе. Коўш напомніў Пануцэвічу, што той неўзабаве пашкадуе за свае словы.

Ніхто ніколі не заўважаў, што ў беларускіх ватэнштэцкіх скаўтаў няўдалы назоў і не рабіў прапановы, каб яго перайначыць. Але ні з таго ні зь сяго Шыла й Ільляшэвіч выпускаюць часопіс "Беларускі скаўт"[553] паралельна "Крывіцкаму скаўту"[554], што выпускае Пануцэвіч. Разам з гэтым Коўш стаў засылаць Ільляшэвіча на кватэру старэйшых скаўтаў, дзе яны п'янствавалі й пры чарцы Ільляшэвіч вёў прапаганду супроць шэфа скаўтаў Пануцэвіча.

Шыла, някепскі маляр[555], стаў выпускаць малюсенькую гумарыстычную, на два лісткі, газэтку "Сьмех на здароўе"[556], дзе закранаў Янку

---

[552] **Сяргей Хмара** (сапр. **Сіняк**, на эмігр. **Марыян Зіняк**, 1905—1992), паэт, публіцыст, грамадзкі дзеяч, выдавец. У час польскай акупацыі Заходняй Беларусі працаваў настаўнікам. У 1927 і 1939 гг. арыштоўваўся дэфэнзывай. У часе нямецкай акупацыі працаваў у Беларускай народнай самапомачы ў Слоніме. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У Бэрліне заснаваў палітычную суполку пад назвай "Двупагоня". У 1948 г. прыехаў у Канаду. Жыў у Таронта.

[553] **"Беларускі скаўт"** — *"часопіс Першага Сьцягу Ватэнштэт"*. Выйшаў толькі адзін нумар у 1946 г.

[554] Відаць, маецца на ўвазе ***"Skaut"*** — *"časapis kryvickich Skautau"*, выдаваўся Згуртаваньнем крывіцкіх скаўтаў ад сакавіка 1946 г. да студзеня 1948 г. спачатку ў Ватэнштэце, пазьней у Фленсбургу. Пабачылі сьвет 8 нумароў.

[555] ***Маляр*** — тут: мастак.

[556] **"Сьмех на здароўе"** — гумарыстычная лістоўка, якая выходзіла ў лістападзе — сьнежні 1946 г. у Ватэнштэце. Першапачаткова пазначалася як

Сурвілу. Той, — гэдаксама мастак, як і Шыла, — стаў выдаваць гэдкую самую гумарыстычную газэтку — "Сьмех па галаве"[557], дзе адплаціў таму: намаляваў Шылу з шклянкай, у якую зь дзьвюх бутэлек ліецца гарэлка; адну бутэльку трымаюць нейчыя рукі (каса каўшоўскага камітэту), а другая бутэлька абкружана абломкамі (гэта царкоўная скарбонка), бо ён быў царкоўным старастам. У наступным нумары сваёй газэткі Шыла намаляваў вялікую сытую карову зь вялікім вымем і з тварам вядомага беларускага дзеяча Юстына Мурашкі, якую сьсе цялё з тварам Янкі Сурвілы. Янка Сурвіла і Мікола Шыла былі хоць і ў жартоўным задзёры між сабой, але Юстын Мурашка ня меў ніякіх дачыненьняў ні да Янкі Сурвілы, ні да Міколы Шылы, але быў у задзёры з Каўшом. Шыла, каб дагадзіць Каўшу, адным замахам ударыў і па сваім ворагу, і па Каўшовым.

Зь якой прычыны Шыла гэта рабіў? Мурашка быў старшынёй рэвізійнай камісіі і, зрабіўшы ў складах табару рэвізію, выкрыў вялікія недахопы. А Янка Сурвіла адбіў матрыцы й надрукаваў на рататары за ноч тую газэтку мэтадыстых "Сьветач"[558], для якой Хмара прывёз матэрыял.

Калі летам выбіралі БНК, выбралі й рэвізійную камісію. Доўгі час Мурашка меркаваў прарабіць рэвізію правіянцкага магазыну. Коўш стараўся яго не дапусьціць да гэтага — уважаў, што справа рэвізійнай камісіі правяраць вагу, калі жыхарам выдаюць прадукты. А Мурашка хацеў праверыць склад па накладных дакумэнтах, па якіх прадукт паступаў у табар, і параўнаць з тымі дакумэнтамі, па якіх прадукт выдаваўся, бо ў складзе было запасу некалькі цэнтнэраў бон-кавы. Усім было цікава, куды Коўш выдаткоўвае такі вялікі лік правіянту, бо штодзённа прыпісвае па некалькі няісных асобаў. Коўш нахабным чынам стаў запуджваць Мурашку. Калі Мурашка склікаў сяброў рэвізійнай камісіі ісьці рэвізаваць магазын, Коўш пасылае бараковага, каб Мурашка ў гэты час ішоў чысьціць табарны выходак[559], бо быццам сёньня Мурашку чарга. Мурашка прарабіў рэвізію, зьверыўшы прыходныя дакумэнты з выдатковымі — выявіўся запас некалькі пудоў бон-кавы й шмат іншых прадуктаў.

---

выданьне *"Асацыяцыі Крывіцкіх і Дрыгавіцкіх Гумарыстых"*, а пазьней — Дапамаговага камітэту лягеру АБЦ. Пабачылі сьвет 6 нумароў.

[557] **"Сьмехам па галаве"** — гумарыстычны лісток, які выдавалі Янка Сурвіла і Аляксей Васіленя ў лістападзе — сьнежні 1946 г. Вядомыя 2 нумары.

[558] Відаць, маецца на ўвазе "**Хрысьціянскі Сьветач"** — пэрыёдык "сябрыны беларускіх мэтадыстаў за мяжою", які выдаваўся ў 1946 г. у Нямеччыне. Вядомыя два нумары, другі зь якіх быў канфіскаваны.

[559] ***Выходак*** — прыбіральня.

Склікалі агульны сход, на якім Коўш разгубіўся й хапаўся за розныя негрунтоўныя прычэпкі супроць сяброў рэвізійнай камісіі. Масы настроены былі супроць Каўша, але моўчкі глядзелі на ход падзеяў. Паколькі гэта справа была чыста крымінальная, беларуская нацыянальная інтэлігенцыя стаяла ўбаку ад гэтых падзеяў, у справы ня ўмешвалася, не хацела пускаць няславы на беларускі табар, бо гэта быў ці не адзін беларускі табар у Ангельскай зоне, і там камэндант табару мусіць стаць перад судом за шахрайства з мэтай нажывы... У вабарону Каўша выступіў Валодзя Сенька, кажучы:

— *Коўш у рапарце прыпісваў лішніх асобаў і з гэтага набыў запас прадуктаў. Ён жа гэтым нікога не пакрыўдзіў, а толькі рызыкаваў сам сабой. Але калі б улады раскрылі гэта, то толькі яго б пасадзілі.*

Мурашка паставіў пытаньне аб даверы рэвізійнай камісіі й папрасіў у сходу звольніць яго з гэтай пасады. Сенька й Старавойтаў[560] пераміргнуліся ды сталі выказвацца, каб уважыць просьбу Мурашкі й ставіць пытаньне на галасаваньне. Нацыянальная інтэлігенцыя сядзела ціха, як вады ў рот набраўшы, не выказвалася ні "за", ні "супроць" і ад галасаваньня ўстрымалася. Яе пасачылі[561] й сьвядомыя масы. Галасавала за тое, каб уважыць просьбу Мурашкі, мала, а супроць таго, каб уважыць, яшчэ меней, а палова прысутных устрымалася. Перавага была за тое, каб уважыць. Ставяць новых кандыдатаў на старшыню сяброў рэвізійнай камісіі. Асобы, што ўстрымаліся й што былі супроць дэмісіі[562] Мурашкі, устрымаліся ад удзелу ў выбарах новай рэвізійнай камісіі, а іх было блізка дзьве траціны. Выбранымі засталіся: Сенька — старшынёй рэвізійнай камісіі, Старавойтаў — ягоным заступнікам, сябрамі гэдаксама Каўшовы людзі. Дакумэнты Мурашкі аб Каўшовых злоўжываньнях дасталіся ў рукі Каўшу й больш сьвету ня ўбачылі. Пасьля гэтага ніякай рэвізіі нікім не рабілася за ўвесь час існаваньня табару ABC. Пры заканчэньні сходу Ільляшэвіч стаў дзякаваць тым асобам, якія падтрымалі Каўша, і пры гэтым выказаўся, што быццам дакумэнты аб злоўжываньні Каўша былі фікцыйнымі й ня мелі пад сабой падставы. Але Пануцэвіч як сябра камісіі заўважыў, што камісія мела рацыю ў выкрыцьці Каўшовых злоўжываньняў. На гэтым сходзе беларуская нацыянальная інтэлігенцыя сваім устрыманьнем (пасіўным

[560] Магчыма, маецца на ўвазе **Карп Стар** (**Старавойтаў**, 1913—2006), рэлігійны дзеяч, праваслаўны сьвятар. Падчас акупацыі разам з жонкай і чатырма дочкамі быў эвакуяваны ў Нямеччыну. У 1951 г. пераехаў у ЗША. Спачатку жыў у штаце Агаё, потым пераехаў у Нью-Джэрзі. У 1969 г. быў рукапакладзены ў дыякана, а праз некаторы час — у сьвятара.

[561] ***Пасачыць*** — зрабіць так жа, пераняць дзеяньне.

[562] ***Дэмісія*** — адстаўка.

маўчаньнем) падтрымала Каўша, але з гэтага часу Коўш стаў да яе адносіцца варожа.

Калі Коўш парваў дачыненьні зь беларускай нацыянальнай інтэлігенцыяй, дык стаў шукаць падтрымкі й апірышча ў нацыянальна несьвядомым збродзе, расейцах і паляках (паляк быў адзін толькі Мітыс). Але галоўным ягоным апекуном быў начальнік 5 ДПКСу капітан Прале, які два разы на тыдзень прыяжджаў на выпіўку. Коўш яго частаваў не самагонкай, а дарагімі вінамі, на гэтую патрэбу зьдзіраючы грошы зь бедных дыпістых: браў аплату за лазьню, сяброўскія складкі на БНК, даход з рамесьніцкіх арцеляў, індывідуальны падатак на настаўнікаў (ад 20 да 50 марак ад асобы на месяц). З дазволу гэтага Прале Коўш шмат рабіў крымінальных злачынстваў. Апрача гэтага, Коўш вычуў натуру дабрадушнага беларуса й нахабна выкарыстоўваў мяккасьць натуры й прастату беларускага селяніна. Як ужо ўспаміналася, Коўш меў вялікія запасы правіянту на складох. Часта перад нейкім гадавым сьвятам Коўш пасылае сваіх прыслужнікаў у вабход з кошыкам у руках. Гэты прыслужнік прыходзіць у хату й дае нейкі падарунак гаспадару (пудэлак мяса ці рыбы, малака ці сыру або пачак сухароў) і кажа:

— Спадар камэндант помніць на вас і прыслаў вам к сьвяту гасьцінца, але трэба, каб і вы гэта помнілі ды ў разе патрэбы яму дапамаглі.

Іншы сумленны чалавек не хацеў бы ні браць гэтага “гасьцінца ад камэнданта”, ні сьлепа лезьці ў ягоную пятлю, але ж адмовіцца прыняць — ужо гэтым самым пападзеш у няласку камэнданту. Мусіш супроць сваёй волі прыняць гэты агідны гасьцінец. А калі Коўш зьбірае нейкія подпісы, дык ягоны пасланец прыходзіць у хату да дыпістага й кажа:

— Камэндант дапамагаў вам, дык і вы павінны цяпер з усёй дарослай сям’ёй падпісацца тут.

Аднаго разу гэты пасланец прыносіць інтэлігенту біксу[563] мяса й кажа, што гэта ад самога камэнданта. А гэты інтэлігент пытае:

— Гэта вы для кожнага так разносіце?

— А не! Гэта толькі для вас, — адказвае пасланец.

— Калі гэдак, дык другі раз гэткага падарунку мне не нясіце, — заўважае інтэлігент.

Аднаго разу й мне гэткі пасланец прынёс буханачак (паўкілё) паўбелага хлеба, праўда, ніякіх абавязкаў не накладаў, але гэты хлеб аказаўся ўсярэдку плясьнівы. Я падзякаваў і сказаў:

— Калі выйдзе ў мяне хлеб, дык я сам да вас зьвярнуся.

На працягу гэтай зімы вялася “халодная вайна”, а разам з гэтым Коўш замацоўваў дасягнутую перамогу й мабілізаваў новыя сілы да поўнай перамогі. Ненадзейных людзей Коўш з працы ў бюро звольніў:

[563] ***Бікса*** — бляшанка кансэрваў.

перш Г. Мурашку, а потым Б. Даніловіча[564], які быў шэфам канцылярыі, а на ягонае месца паставіў разбэшчанага хлопца й зладзюка К. Еўсу. Пасьля прымусілі адысьці ад працы ў бюро й Люню Будзьку. Коўш абсадзіў бюро сваімі людзьмі, а ў іх ліку былі расеец Казлоў і паляк Мітыс, які ў гітлераўскім касьцёле працаваў кап[элян]ам. Шмат моладзі было ў апазыцыі да Каўша. Аднаго разу Коўш, напаіўшы сваю баёўку на вечарынцы, накіраваў яе супроць непакорных. Адну з ахвяр цяжка пабілі. Коўш і Занковіч стараліся памірыць іх, але пакрыўджаны й ягоны бацька не ішлі на ўступкі, тады Коўш накіраваў гэтых разбойнікаў у амэрыканскую зону, забясьпечыўшы іх адпаведнымі дакумэнтамі.

Як было ўжо вышэй зазначана, для раскладальнай работы сярод скаўтаў абавязкі былі ўскладзены на Ільляшэвіча; ён як настаўнік гімназіі з дапамогай Каўшовай самагонкі справіўся з гэтай работай добра. Ільляшэвічу было даручана прарабіць гэтую самую работу й сярод скаўтак. Шэфам скаўтак была настаўніца гімназіі В[алянціна] Жукоўская[565], жанчына высокай маралі, энергічная й патрыётка — яна не шкадавала ні часу, ні сілы, каб узгадаваць сваіх падшэфных у нацыянальным духу. Калі Жукоўская прызначала зборы скаўтак, на гэты час п'яныя хлопцы заводзілі вечарынкі ды падмаўлялі дзяўчат, каб ішлі не на скаўцкія зборкі, а на вечарынкі. У хуткім часе ўкраінцы запрасілі беларускіх скаўтак і скаўтаў на зьлёт. Жукоўская хацела падрыхтаваць скаўтак да гэтага зьлёту, але яны на зборку не хадзілі, дык яна адмовіла[566] падарожныя пропускі дзяўчатам на гэты зьлёт. Па загадзе Каўша хлопцы як бы з салідарнасьці зь дзяўчатамі адмовіліся ад сваіх пропускаў. Коўш праз капітана Прале выстараўся пропускі для хлопцаў і дзяўчатаў. І вось такім чынам Пануцэвіч, шэф скаўтаў, а Жукоўская, шэф скаўтак, засталіся амаль бяз скаўтаў, а засталіся

---

[564] **Браніслаў Даніловіч** (1908—2003), грамадзкі дзеяч. У 1930-я гг. вучыўся ў Барунскай настаўніцкай сэмінарыі. У гады навучаньня далучыўся да беларускага руху, быў сябрам Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У пошуках працы пераехаў у Латвію, адкуль перабраўся ў Нямеччыну. Як перакладчык удзельнічаў у вызваленьні ваеннапалонных беларусаў (былых жаўнераў польскага войска) зь нямецкіх лягераў. Служыў у 1-м Беларускім штурмовым зьвязе, пазьней — у цывільнай адміністрацыі на Смаленшчыне, адкуль у 1943 г. эвакуяваўся ў Нямеччыну. Адзін з актыўных удзельнікаў аднаўленьня Рады БНР. Ад канца 1940-х гг. жыў у ЗША.

[565] **Валянціна Жукоўская** (у шлюбе **Пашкевіч**, 1916—2004), грамадзкая дзяячка, пэдагог. У 1935 г. скончыла польскую гімназію імя А. Міцкевіча ў Пружанах, вучылася ў Віленскім унівэрсытэце. Падчас Другой сусьветнай вайны жыла ў Бэрліне, працавала ў перакладчыцкім бюро "Вінэта". Па капітуляцыі Нямеччыны апынулася ў Ватэнштэце (Ніжняя Саксонія), апекавалася беларускім скаўтынгам. У ліпені 1949 г. пераехала ў Таронта.

[566] ***Адмовіць*** — адклікаць замову.

ў іхным послуху некалькі старэйшых скаўтаў (сэньёраў), "ваўчаняты" і "пралескі".

Першы раз Коўш прадэманстраваў сваю перамогу над Пануцэвічам, спраўляючы Купальле 1947 году. Заля ІМКА[567] была ўстаўленая сталамі; на покуці — стол "знаці", там сядзеў Коўш з жонкай, сьвятар Сурвіла, начальнік ДПКСу капітан Прале й бліжэйшыя Каўшовы падхалімы. Абапал падоўжаных двух сталоў сядзелі жыхары табару. Бліжэй ад кута былі людзі, заслужаныя ў Каўша, а бліжэй да парогу — простыя. Кутні стол быў устаўлены добрымі гарэлкамі й вінамі, а падоўжаныя сталы — найболей бутэлькамі гарэлкі свайго вырабу, тут людзі самі выпівалі й частавалі сваіх суседзяў, што прыйшлі без гарэлкі. Ля самага парогу стаялі два немалыя сталы, каля аднаго сядзелі скаўты, а ля другога — скаўткі. Яны весялілі п'яную публіку сваімі песьнямі й назіралі, хто колькі чарак выпіў. Пануцэвіч прыйшоў тады, калі ўся публіка ўжо сядзела за сталамі, ён пастаяў ля парогу й пайшоў за дзьверы.

У тым жа годзе ў канцы лета склікалася канфэрэнцыя беларускіх скаўтаў-сэньёраў Нямеччыны й Аўстрыі. Тады яшчэ самыя старэйшыя скаўты-сэньёры былі падпарадкаваны Галоўнай кватэры й яе шэфу Пануцэвічу, апрача Ільляшэвіча й штандаровых. Пануцэвіч і сэньёры, ня хочучы рабіць замяшаньня паміж маладзейшых скаўтаў і "ваўчанятаў", пакінулі іх пры каўшоўскіх штандаровых. Цяпер Коўш вярнуў у скаўты тую амаральную разбэшчаную моладзь, што летась пакінула скаўтаў (Гарачка, Анішчык ды інш.), бо яны былі здольныя на розныя авантуры. Калі ехалі на гэтую канфэрэнцыю, Пануцэвіч выпісаў сэньёрам новыя блюзкі й порткі. Гэта паслужыла матэрыялам Каўшу, каб весьці прапаганду сярод маладзейшых скаўтаў і "ваўчанятаў" супроць Пануцэвіча. На зьлёце-канфэрэнцыі ў Остэргофэне[568] Ільляшэвіча, Каўша й штандаровага Маеўскага[569] аддалілі ад скаўцкай арганізацыі. Коўш туды сваіх прадстаўнікоў не пасылаў, але аднаго наглядальніка. На гэтым зьлёце былі вылучылі сяброўскі суд, які павінен быў ліквідаваць ватэнштэцкі канфлікт. Гэты канфлікт быў ліквідаваны, але не на карысьць Каўша. Тады Ільляшэвіч быў падпарадкаваўся гэтаму суду.

---

[567] ***Young Men's Christian Association*** (*YMCA*) — заснаваная ў 1844 г. у Лёндане хрысьціянская арганізацыя моладзі (юнакоў). З часам выйшла за межы аднае краіны й стала міжнароднай арганізацыяй, што аб'ядноўвае больш за 45 мільёнаў сяброў. Мае на мэце выхаваньне здаровых духам, розумам і целам юнакоў. Арганізацыя вельмі актыўна працавала зь перамешчанымі асобамі і ўцекачамі пасьля Другой сусьветнай вайны.

[568] **Остэргофэн** (ням. *Osterhofen*) — горад у Нямеччыне, у зямлі Ніжняя Баварыя, на чыгуначнай лініі Рэгенсбург — Пасаў. У 1946 г. тут быў створаны беларускі *DP*-лягер, насельніцтва якога складала больш за 400 чалавек.

[569] **Міхась Маеўскі**, скаўцкі і грамадзкі дзеяч. Жыў у Ватэнштэце.

Незадоўга да гэтай скаўцкай канфэрэнцыі Коўш стаў мабілізаваць усе свае сілы, каб атрымаць канчатковую перамогу над беларускай нацыянальнай інтэлігенцыяй; тут ён мабілізаваў царкву, моладзь (скаўтаў і вучняў гімназіі), самагоншчыкаў, уласаўцаў ды іншыя цёмныя сілы. Каб мець перамогу над сваім праціўнікамі, Коўш не ганьбаваў ніякіх сродкаў[570], а нават самых нізкіх: выдумляў рознага роду плёткі ды распаўсюджваў іх праз сваіх сексотаў. У Каўша ў Ватэнштэце скаўты й вучні гімназіі выконвалі тую ролю, якую ў саветаў камсамольцы; нават даходзіла да таго, што на публічным агульным сходзе вучань патрабаваў, каб настаўніца ўстала, калі зь ім гаварыла. Каб абурыць вучняў супроць настаўнікаў гімназіі, Ільляшэвіч выдаваў вучням сакрэты з пэдагагічнай нарады, што аб паводзінах таго ці іншага вучня гаварыў які настаўнік ці настаўніца.

Пачынаецца 1947/48 навучальны год. Утварыўся канфлікт між дырэктарам і настаўніцай гімназіі (ён жа — шэф скаўтаў, яна — шэф скаўтак) з вучнямі й вучаніцамі (скаўтамі й скаўткамі). Назначана было паседжаньне настаўнікаў і адміністрацыі табару, на якое быў запрошаны прадстаўнік 5 ДПКСу. Настаўніца І. Пануцэвіч[571] на гэтым паседжаньні выказвала свае прыгоды, што часамі яна прыходзіла ў гімназію раніцой, а тут няма ні старэйшых вучняў, ні настаўніка Ільляшэвіча, дык яна тады заходзіць на кватэру гэтых вучняў, аж гэтыя вучні й настаўнік Ільляшэвіч, сьпіўшыся, ляжаць бяз памяці. Настаўніца Г. Галяк у сваёй прамове зазначыла, што ў старэйшых клясах школы робіцца амаральны развал вучняў, што настаўнік Ільляшэвіч з вучнямі сьпіваецца напавал, але галоўным вінавайцам гэтага зла ёсьць Коўш, бо Ільляшэвіч ня мае ні грошай, ні гарэлкі, а грошы на выпіўку дае Коўш. Тут прадстаўнік ДПКСу заўважыў, што калі настаўніца Галяк пісьмова падасьць гэта, дык Каўшу не мінуць вязьніцы, а калі яна не падасьць гэтых фактаў, будзе выглядаць, што яна сказала няпраўду, і ёй будзе такая ж вялікая непрыемнасьць. Яна гэтыя факты падала ў ДПКС пісьмова, але справа не была накіравана ў суд. Празь нейкі час Коўш праз начальніка ДПКСу выселіў настаўніцу Галяк з табару, ён нават быў распаўсюдзіў хлусьню, што настаўніца падала заяву на самагоншчыкаў, але ён, Коўш, ніколі ў крыўду не папусьціць таго, хто будзе яго падтрымліваць.

З прычыны таго, што пры намове Каўша вучні гімназіі на апошнім агульным табарным сходзе зьняважылі настаўнікаў гімназіі, усе настаўнікі гімназіі мусілі падацца да дэмісіі. З салідарнасьці з гэтымі настаўнікамі доктар Гарбінскі, які выкладаў у гімназіі анатомію чалавека, і доктар Тумаш, які выкладаў геалёгію, адмовіліся ад выкладаньня.

---

570 ***Не ганьбаваў ніякіх сродкаў*** — ня грэбаваў ніякімі сродкамі.

571 Відаць, маецца на ўвазе Ірэна (Клара) Пануцэвіч, жонка Вацлава Пануцэвіча.

Гэтым агульным сходам кіраваў Я. Кананові́ч, а Ільляшэвіч пісаў пратакол, дык выявілася, што пратакол быў напісаны фальшыва, і Кананові́ч пратаколу не падпісаў. Пасьля гэтага доктар Тумаш пакінуў ня толькі табар АВС, але й 105 (5) ДПКС. Доктар Грабінскі тут жа недалёка, у Ватэнштэце, быў дырэктарам зубной клінікі й часта прыходзіў у табар АВС. Каўшу гэта не спадабалася, дык ён намаўляў скаўтаў, каб уночы падпільнавалі ды пабілі доктара, бо быццам доктар скаўтаў называў эсэсаўцамі й быццам нават казаў: *“У іх жа й кашулі жоўтыя”*. Праўда, у іх і былі жоўтыя кашулі, бо, калі Пануцэвіч выпісваў ім кашулі, у складзе іншых не аказалася.

У хуткім часе пасьля таго шумлівага сходу у табары АВС адбывалася гэдак званая зонная канфэрэнцыя брытанскай зоны. Канфэрэнцыя ішла безь перапынку круглыя суткі: яна пачалася ў нядзелю паўднём, а скончылася ў панядзелак перад паўднём. На ёй прысутнічала толькі інтэлігенцыя. Тут быў і прэзыдэнт Астроўскі, але ён афіцыйна трымаў сябе нэўтральна ды нават рабіў спробы, каб прывесьці да згоды. Безупынку ўсю ноч праводзіліся зацятыя спрэчкі. Сілы абодвух бакоў былі роўныя. Нарэшце выбралі выканаўчы камітэт і рэвізійную камісію. Празь нейкі час, калі Астроўскі відавочна перайшоў на бок “зарубежжа”, дык “зарубежнікі”[572], пакінулі гэты камітэт і з Астроўскім на чале выбралі сабе другі. Гэткім чынам у брытанскай зоне афіцыйна сталіся дзьве ўлады: “зарубежніцкая” і “крывіцкая”.

Калі настаўнікі гімназіі звольніліся, Коўш укамплектаваў яе новымі настаўнікамі. Некаторыя зь іх былі някепскія, як Шнэк, Міровіч, а пасьля й Васілеўскі, але Сенька як дырэктар гімназіі й ён жа выкладчык хіміі ды геалёгіі, згодна выказваньняў настаўнікаў і вучняў, не падыходзіў нават і на вучня гімназіі. Папярэдніх настаўнікаў Коўш праз капітана Прале выкінуў з табару, але каб яны хутчэй выяжджалі, прызначыў іх на работу на станцыю — вугаль ладаваць. Нарэшце яны — лікам каля 30 асобаў — прымушаны былі пакінуць табар АВС.

Пасьля выезду беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі з табару АВС Коўш сьвяткаваў сваю перамогу: усюды ў табары адданая яму адміністрацыя, на ягоных паслугах восем асобаў паліцыі, каля гэтулькі ж асобаў тайнай палітычнай паліцыі-баёўкі. У дадатак да гэтага блізка соткі асобаў патаемных падглядчыкаў, якія павінны былі падслухоўваць і даносіць Каўшу, дзе хто што гаварыў. Гэткая сыстэма ўлады ня спала,

---

572 **“Зарубежнікі”** — мянушка прыхільнікаў БЦР на эміграцыі, атрыманая імі за тое, што пэўны час з тактычных мэтаў падтрымлівалі беларускіх праваслаўных ярархаў, якія перайшлі ў 1946 г. у Расейскую зарубежную праваслаўную царкву. Не дабіўшыся вяртаньня япіскапаў, сябры БЦР пачалі крытыкаваць іх і падтрымалі з 1950 г. ідэю стварэньня Беларускай царквы ў падпарадкаваньні канстанцінопальскага патрыярха праз ягоных экзархаў у Амэрыцы й Эўропе, але мянушка “зарубежнікі” засталася.

але дзеяла. Пошта, якую прыносіў нямецкі паштальён (лісты, газэты й пачкі[573]), падлягала кантролю Сенькі, Еўсы й Занковіча. Лісты падазроныя, што слаліся да няпэўных асобаў, канфіскоўваліся, беларуская газэта "Бацькаўшчына"[574] — таксама. Лісты, што ішлі з ЗША, Канады, Аўстраліі, разрываліся й, калі былі ўложаны грошы, забіраліся, а лісты выкідаліся; часта й пачкі разрываліся. Непаслухмяных людзей каралі бункерам, а яшчэ горш — гэта сярэдневяковае катаваньне: ахвяры накідалі на галаву коц, зьнімалі адзеньне, клалі на дол ды білі да непрытомнасьці. Гэдак, прыкладам, прараблялі з М. К. і С. Ш. Выконвала гэткую экзэкуцыю па загадзе Каўша паліцыя або часьцей усяго патаемная паліцыя.

Пры гэткай сыстэме ладу ў табары Коўш сваё становішча ўважаў непахісным, але здарылася нечаканасьць. Калі Астроўскі прагаласіў[575] БЦР існай, дык на аднэй табарнай зборцы Коўш аб'явіў, што будуць выбары ў Цэнтральнае прадстаўніцтва. Ён між іншага сказаў, што спадзяецца, што ўсе жыхары табару прымуць удзел у гэтых выбарах, хіба толькі за вылучэньнем "крывічоў", але *"дзякаваць богу ў нас іх зусім мала, толькі паўтара"* (Гладкі й Сіткоўскі). У вадным кутку зашумелі мужчыны ды пачуўся голас Русецкага:

— *Мы цяпер сталі мілы вашаму прэзыдэнту Астроўскаму, а чаму ён тады нас ня бачыў, калі мы галодныя ў драўляных ботах мерзлую бульбу па полі зьбіралі ды елі або калі бальшавікі нас хапалі ды вывозілі на "родину"?!*

Якуб на гэта выгукнуў:

— *Жывушчыя "крывічы"*.

Нехта сказаў:

— *Мы можа й будзем галасаваць у тое ваша прадстаўніцтва, але трэба пагаварыць аб нутраных парадках табару.*

Коўш у прыўзьнятым настроі абяцаў склікаць адмысловы сход аб табарных парадках.

## [Сходы]

Коўш з Ільляшэвічам праводзяць сход аб падрыхтоўцы да выбараў у Цэнтральнае прадстаўніцтва. У вадным кутку даручаюць Міляшкевічу падлічыць галасы. Там было 15 асобаў, мусіць з палавіну падняло рукі. У Мілішкевіча пытаюць:

— *Колькі ў цябе галасоў?*

— *Васямнаццаць,* — адказвае ён.

---

[573] ***Пачка*** — тут: пасылка.

[574] **Газэта "Бацькаўшчына"** — тыднёвая беларуская газэта, якая выдавалася ў 1947—1966 гг. у Нямеччыне: першапачаткова ў Остэргофэне, Розэнгайме і ад 1950 г. у Мюнхене.

[575] ***Прагаласіць*** — тут: абвесьціць.

— *А чаму ня дваццаць восем?* — збоку заўважае Белякоўскі.

Прыйшоў дзень выбараў. Там было два сьпісы: у вадным адна палавіна зарубежніцкіх лідараў, а ў другім — другая, прыкладам: у вадным сьпісе першае месца займае Коўш, у другі — Сенька. Дзень выдаўся цёплы, урны расстаўлены, але слаба людзі прыходзяць. Васілеўскі прапанаваў насіць урны па штубах[576]. Сіткоўскі, Радзюк і Белякоўскі, усьміхаючыся, прайшлі каля урнаў ды падаліся ў нямецкую вёску піва піць; я гэдаксама пайшоў у лес на шпацыр.

Праходзіць тыдзень, а сходу аб табарных парадках Коўш не склікае. Некалькі асоб пайшло напамінаць яму аб гэтым. На права склікаць сход Коўш патрабаваў заявы з 50 подпісамі, дык на гэткую заяву сабралі 150 подпісаў і занесьлі да Каўша. Ён заяву прыняў, але надта абурыўся на пасланцоў і прагнаў з канцылярыі, назваўшы іх хуліганамі й зладзеямі.

Цяпер ён падняў на ногі сваю яўную й патаемную паліцыю ды сексотаў. Пачаліся рэпрэсіі супроць тых, хто падпісаўся на заяве аб скліканьні сходу. Паліцыя склікала на будку й прымушала зракацца сваіх подпісаў, а для некаторых былі ўжыты фізычныя ўзьдзеяньні. З паліцыянтаў і скаўтаў была складзена баёўка, якая ўночы нападала на тых асобаў, што падпісаліся на заяве, прыкладам, Русецкаму пабілі вокны і ў хату каменьня накідалі. Грамадзяніна Жука ўночы падпільнавалі, калі ён ішоў ад суседа, ды пабілі. Ягоная жонка пайшла да Каўша й папрасіла, каб выкрасьліў мужа са сьпісу на заяву. Коўш з ахвотай споўніў просьбу кабеты й абяцаў, што болей ніхто ня будзе мужа біць уночы.

Усё ж Коўш вымушаны быў склікаць агульны сход. На ім жыхары табару патрабавалі зьмяніць некаторых працаўнікоў адміністрацыі табару й работнікаў правіянцкага магазыну, якім жыхары не давяралі; выбраць патаемным галасаваньнем табарную раду й рэвізійную камісію, бо табарны дапамогавы камітэт, выбраны ў 1946 годзе на адзін год, ужо перастаў існаваць як праўна, гэдак і фізычна, бо пратэрмінаваў ужо год ды зь яго складу выбылі тры асобы: д-р Тумаш, Галяк і Шыла (памёр), а засталося толькі двое — Коўш ды Ільляшэвіч. Выбраная ў 1946 годзе рэвізійная камісія разам з дапамогавым камітэтам пры канфлікце з Каўшом у 1947-м падалася ў дэмісію, а новая рэвізійная камісія, вылучаная каўшоўскімі прыхільнікамі, не зрабіла ніводнай рэвізіі, пры гэтым старшыню гэтай камісіі, Уладзімера Сеньку, Коўш прызначыў сваім наступнікам, а сябры выехалі, таму яна не існавала ні праўна, ні практычна. Пры гэтым Коўш у прэзыдыюме абсадзіўся сваімі падхалімамі (Ільляшэвіч, Шнэк, Васілеўскі), не дапусьціў патаемнага галасаваньня, не даваў магчымасьці апазыцыі выказвацца, махляваў у падлічэньні галасоў.

---

576 ***Шту́ба*** (ням. *Stube*) — жылы пакой.

Гэты сход быў прызначаны вылучна аб табарных парадках, але на ім Коўш паставіў першым пытаньне аб вайне ў Палестыне. П'яны Ільляшэвіч даклад рабіў больш дзьвюх гадзін (даклад быў справакаваны Каўшом сумысьля, каб зацягнуць час, каб людзі разышліся). На пачатку сходу было 300 асобаў, а калі кончыўся даклад, засталося каля 50—60. Пры гэткай колькасьці людзей Коўш даручыў свайму заступніку Сеньку зноў застацца старшынёй рэвізійнай камісіі, і да яго далучылі яшчэ дзьве асобы зь сем'яў работнікаў магазыну. Табарнай рады зусім не выбіралі, але абяцалі празь нейкі час выбраць. Абураны й пакрыўджаны народ ня мог дабіцца сваіх правоў. Пры гэтым камэндант Коўш і ягоныя прыслужнікі гэта абурэньне назвалі "крывіцкай" вылазкай і бальшавіцкай правакацыяй.

Калі праз тры тыдні частка актыўнейшых змагароў супроць Каўшовага тэрору пакінула табар (13 асобаў паехалі ў Англію й столькі ж у Францыю), дык камэндант склікаў другі гэткі сход для выбару табарнага дапамогавага камітэту. На яго была падрыхтаваная каўшоўская баёўка з прыладзьдзямі да бойкі, яны сябе трымалі нахабна й выклікаюча. У прэзыдыюм села тая самая тройка: Коўш, Шнэк, Васілеўскі; патаемнага галасаваньня зноў жа не дапусьцілі. П'яныя скаўты пад кіраўніцтвам Еўсы, Бурноса[577] й Занковіча лаяліся, сьвісталі крычэлі, калі хто з апазыцыі выказваўся, а п'яны Ільляшэвіч крычэў са сцэны:

— *Правакацыя! Правакатар!*

У дапамогу скаўтам і Каўшу актывізаваліся і ўласаўцы. Калі прымушана была выйсьці апазыцыя, дык выйшлі й іншыя сумленныя людзі. Засталася кучка Каўшовага актыву, які зь сябе выбраў "дапамогавы камітэт" і "рэвізійную камісію". Месца старшыні камітэту заняў сам Коўш, месца старшыні рэвізійнай камісіі — Васілеўскі. Выдатнейшыя месцы ў новым складзе камітэту й рэвізійнай камісіі занялі: Коўш, Васілеўскі, Ільляшэвіч, Казлоў (расеец), Мітыс (паляк) і іншыя сьляпыя выканаўцы волі Каўша, які надалей застаўся дыктатарам табару АВС.

## [Моладзь]

Калі Коўш шляхам правакацыі й хітрасьці выкінуў з табару ў 1947 годзе беларускую нацыянальную інтэлігенцыю, а потым у 1948-м брутальнай дыктатурай зламаў волю паўстаўшых супроць ягонага ґвалту табарных масаў, дык думаў сьвяткаваць сваю поўную перамогу, аж ні адтуль ні адсюль узьнікла новая небясьпека з боку моладзі, на якую ён

[577] Магчыма, маецца на ўвазе **Міхась Бурнос** (1924—2009), грамадзкі й рэлігійны дзеяч. Вучыўся ў Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі, а пазьней у гімназіі імя М. Багдановіча ў Ватэнштэце. Ад 1949 г. жыў у Аўстраліі.

моцна спадзяваўся й якая сьлепа выконвала ягоныя самыя брудныя жаданьні. Вынікла нечаканасьць. Больш разважлівыя адзінкі гэтай моладзі (Сянькоўскі[578], М. Л.) склікаюць сход гэтай моладзі, а каб ён быў афіцыйным, запрасілі на яго Каўшовых папіхачоў: начальніка паліцыі Занковіча, начальніка бюро Еўсу, начальніка патаемнага выведу Бурноса, байцоў — Гарачку й Анішчыка. Тут, у сваім асяродзьдзі, яны [выказваліся] аб шкоднасьці каўшоўскай інтрыгі для беларускай нацыянальнай справы. У шмат каго з разважлівай моладзі расчыніліся вочы на паводзіны Каўша, а сьляпым выканаўцам Каўшовай волі стала нават дзіўная гэткая сьмелая думка іхных сяброў. Вядома, Занковіч і Еўса пасьпяшылі Каўшу данесьці аб гэтым здарэньні.

Гэта зборка навонкі не магла быць вынесена, бо бальшыня гэтай моладзі была заблытана ў Каўшовы нават крымінальныя злачынствы. Калі Коўш перацягваў на свой бок скаўтаў і моладзь, дык даваў ёй рабочую кантыну[579], а пасьля рэформы валюты даваў ім і кантыну, і пэнсію. Каля 40 платных пасад, прыкладам, прыбіральнік школаў, клюбу, майстэрняў, бюро, магазынаў і інш. Тая моладзь была запісана на гэтыя пасады, хоць гэтыя працы выконвалі не яны, а іншыя простыя людзі (мужчыны, а найболей жанчыны) толькі за кантыну. Калі гэтыя платныя пасады ліквідаваліся, гэта моладзь шэсьць месяцаў атрымлівала грашовую дапамогу з арбайтсамту па беспрацоўі, а тыя асобы, што выконвалі гэтыя работы, засталіся безь нічога. За гэта Коўш яшчэ ў 1946 годзе выдаліў зь бюро ненадзейных асобаў, каб ня выкрылі сакрэту. Гэткія махінацыі ўважаліся крымінальным злачынствам, калі б гэтыя злачынствы высьветліць, былі б прыцягненыя да адказнасьці Коўш і тыя асобы з моладзі, што бяз працы атрымлівалі плату. Вось чаму гэта моладзь ухілялася ад вялікага канфлікту з Каўшом.

На гэтым сходзе моладзь выказвалася, што трэба ўсім беларусам на эміграцыі аб'яднацца, а асабліва гэта патрэбна моладзі.

Неўзабаве пасьля гэтага Коўш склікае зборку, дзе ставіцца даклад на тэму «Ці мажліва кансалідацыя з "крывічамі"?». Дакладчыкам па гэтым пытаньні Коўш паставіў Ільляшэвіча, але перадаў яму выпіць. У п'янага Ільляшэвіча мова бясконцая. Ён гаварыў вельмі шмат, а нарэшце стаў лаяць "крывічоў" і крычэць:

— *Яны ня варты званьня крывічоў. Я сам лепшы крывіч за іх!*

---

578 **Юры Сянькоўскі** (1926—1995), грамадзкі дзеяч, журналіст. У часе акупацыі быў сябрам СБМ, потым служыў у батальёне "Дальвіц". Па сканчэньні вайны апынуўся ў беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце. Актыўны ўдзельнік скаўтынгу, у 1949 г. прызначаны кіраўніком Беларускага скаўтынгу на чужыне. У 1950—1956 гг. вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце на эканамічным факультэце. Па сканчэньні ўнівэрсытэту пераехаў у Мюнхен.

579 ***Канты́на*** — харчоўня, сталоўка; тут: паёк.

Ды стаў каля стала хістацца. Коўш падбег да яго, схапіў у вахапак ды адвёў ад стала да сьцяны на лаўку й пасадзіў, а сам падышоў да стала на Ільляшэвічава месца й кажа:

— *Мне Ільляшэвіч даручыў кончыць свой даклад.*

Прысутныя засьмяяліся. Коўш стаў апавядаць, як ён, Сенька й Ільляшэвіч езьдзілі восеньню 1947 году ў амэрыканскую зону да інжынэра Абрамчыка[580], каб пры ягоным садзеяньні прыйсьці да ладу з "крывічамі" (лепей — зь беларускай нацыянальнай інтэлігенцыяй табару АВС), але інжынэр Абрамчык не згадзіўся на гэта.

З другіх крыніц былі чуткі, што яны сапраўды езьдзілі тады й зьвярталіся да прэзыдэнта Абрамчыка па гэтым пытаньні, але дамагаліся, каб прэзыдэнт Абрамчык прызнаў іхныя дзеяньні аб высяленьні інтэлігенцыі слушнымі. Але прэзыдэнт Абрамчык радзіў ім пакінуць інтэлігенцыю ў табары й дайсьці зь ёй да згоды. Аж праз нейкі час прэзыдэнт Астроўскі аднавіў БЦР і стаў падзяляць Каўшовы пагляды наконт выселенай з табару АВС інтэлігенцыі, дык Коўш прыстаў да яго спулкі па аднаўленьні БЦР.

І апазыцыйная моладзь, і ўсё іншае грамадзтва, што прысутнічала на сходзе, гіранічна выслухала гэтыя прамовы, але ніхто не даваў ніякіх пытаньняў і не выказваўся, а ціханька разышліся. Адзін зь юнакоў, што перш сьлепа паслугоўваў Каўшу, ідучы дахаты сказаў:

— *Я дагэтуль ня ведаў, што яны гэткія дурныя.*

Апошнія два гады існаваньня табару моладзь Каўшу ўжо ня верыла, але матэрыяльна й праўна была заблытана ў Каўшовых інтрыгах, дык парываць зь ім не адважвалася. Коўш часта пры выпіўцы з моладзьдзю паўтараў:

— *Той у мяне не чалавек, хто гарэлкі ня п'е.*

Дык вось і той, хто згодна Каўшовай "філязофіі" быў "чалавекам", ня мог адасобіцца ад Каўшовай суполкі. Як вышэй успаміналася, амаль уся гэта моладзь мела ад Каўша платныя фікцыйныя пасады, хоць ніякай працы не выконвалі, а іншыя, што стаялі на працы ў бюро ці магазынах, былі зьвязаны ў суполцы з Каўшом у ягоных крымінальных злачынствах. Парваць з Каўшом азначала падставіць сябе непрыемнасьці, а можа, і крымінальнай адказнасьці. Некаторыя зь іх, якіх Коўш давёў да амаральнага стану, ужо не паважалі яго й не баяліся: калі ён даваў гарэлку — пілі, а калі не даваў — патрабавалі й пагражалі яму. Аднаго разу пасьля першай сходкі моладзі п'яны Гарачка цягнецца па панадворку табару зь зялезкай у руках, плача й пагражае Каўшу:

— *Пайду заб'ю Каўша, што ён мяне зрабіў сабакам ды цкуе мной нявінных людзей.*

---

[580] **Мікола Абрамчык** (1903—1970), палітык, грамадзкі дзеяч, публіцыст, прэзыдэнт Рады БНР (1947—1970).

## [Пакражы]

Аднаго разу пакралі ў летувіскім табары трусоў. Нямецкая паліцыя паўдня з сабакам вадзілася наўкола нашага табару, але сабака ў табар не заходзіў. Толькі праз год хлопцы выхваліліся, што гэта іхная работа. Безумоўна, Коўш гэта ведаў, але маўчаў, а ў патрэбе мусіў бы бараніць, каб сабе не зрабіць непрыемнасьці.

Пасьля высылкі беларускай інтэлігенцыі з табару Каўшовым прыхільнікам дазвалялася вырабляць гарэлку, а толькі былі чуткі, што гаспадар мусіў плаціць ад кожнага затору[581] па 2 літры першаку для Каўша. Мядзьведзкі й Сыты завялі вялікі затор брагі. Гэта бочка брагі стаяла замкнёная ў пральні. Адной ночы гэта брага была ўкрадзена. Але пральня была адамкнёнай і зноў замкнёнай; адно зь вёдраў, якімі насілі крадзеную брагу, было трохі дзіравае, дык брага капала каля сьцежкі. Пазвалі паліцыю ды пайшлі сьлядамі брагі, а яны павялі ў табар В, дзе была царква й кватэра царкоўнага старасты Кананoвіча. Калі гэтыя сьляды накіраваліся ў бок кватэры царкоўнага старасты, паліцыя мусіла павярнуць назад, бо аднолькавыя замкі былі ў царкве і ў пральні. А шукаць крадзенай брагі ў царкве ці ў царкоўнага старасты не выпадала. Безумоўна, і сьвятар Сурвіла аб гэтых начных чынах ведаў. Наступную нядзелю пайшлі ў царкву й тыя, хто ніколі не хадзіў, бо думалі прынамсі, што хоць царкоўнага старасту як казла адпушчэньня зьнімуць з працы, але сьвятар Сурвіла нават і не заікнуўся ў часе казані аб гэтым.

Пасьля гэтай кражы каля пральні сабраўся вялікі натоўп дыпістых. Падыходзіць у вясёлым настроі Гарачка да гэтага натоўпу. У яго пытаюць, ці ня ведае ён, хто брагу пакраў:

— *Ды чаму мне ня ведаць, калі я сам насіў яе,* — адказвае ён і далей апавядае: — *Я ўночы сплю й чую, нехта стукае ў дзьверы. Я ўстаў, пайшоў адчыніў дзьверы, аж прыходзяць да мяне царкоўны стараста Кананoвіч і браты Пракопчыкі прасіць, каб я памог камітэцкую брагу перанесьці. Я хлопец паслухмяны, дык і памог.*

На гэтым справа скончылася.

Пад вясну 1949 году ў табары ў Валасевіча ды іншых пакралі курэй і трусоў. Беспрацоўныя дыпістыя сядзяць, грэюцца на сонцы й толькі аб гэтай кражы й гавораць. Падыходзіць да іх Гарачка. У яго зноў пытаюць, ці ведае ён аб гэтай пакражы.

— *Як мне ня ведаць, калі ў маёй хаце скублі й варылі.*

— *Дык як там было?* — пытаюць далей.

Гарачка адказвае:

— *Да мяне ў хату прыносяць пабітых курэй. Тут, у мяне ў хаце, скублі й варылі. Хату запаскудзілі, пары надалі, а мне за ўсё гэта толькі адзін кумпячок далі.*

---

[581] ***Затор*** — заквас брагі.

— *А рэшту дзе дзелі?*

— *Кастусь Еўса ўсё забраў і панёс у бюро.*

Шэф бюро Еўса быў першай асобай у Каўша. Гарачка пайшоў. Адны людзі адыходзяць, другія падыходзяць, а ўсё адзін аднаму пераказваюць аб гэтай кражы. Прыйшоў сюды Юрка Сьмірноў, брат сьвятара й агент Каўшовага сакрэтнага выведу. Ён выслухаў, пайшоў да Каўша й сказаў, што гэдак Васанскі й Шэнец гаварылі. На другі дзень Коўш выклікае Васанскага й Шэнца ды абвінавачвае іх, быццам яны выдумалі гэткую хлусьню на шэфа бюро. А яны адказваюць, што аб гэтым ува ўсім табары гавораць, а яны ўсё гэта чулі ад Гарачкі. Коўш выклікае Гарачку. Той хутка зьявіўся й трымае сябе весела. Коўш у яго пытае:

— *Ты казаў, што ў тваёй хаце курэй скублі й варылі ды што Еўса панёс звараныя куры ў бюро табару?*

— *Казаў!* — адказвае Гарачка.

— *А чаму ты гэта казаў?* — пытае Коўш.

— *Бо п'яны быў,* — адказвае з ухмылкай Гарачка. — *Я цьвярозы ніякіх сакрэтаў ня выдам.*

Коўш перамяніў тэму гутаркі. Ён стаў навучаць Гарачку, як трэба весьці сябе, але на гэтым і скончылася справа аб пакражы курэй і трусоў. Васанскі й Шэнец пытаюцца ў Каўша, што зь імі будзе, можа іх у бункер пасадзяць, але Коўш стаў лагодны й вясёлы ды адказаў:

— *Ідзіце дахаты.*

Коўш Гарачку даў кары: каб праз тыдзень кожнага дня хадзіў у паліцыйную будку мальдавацца[582]. Усе апытаныя з ухмылкай разышліся, пайшоў і Гарачка з выглядам героя-пераможцы. Тут Гарачка паказаў, што ён ня толькі не баіцца Каўша, але й высьмейвае яго.

## [Уласаўцы]

Вясной 1949 году зноў нечакана ўсплыў канфлікт у Каўша з моладзьдзю на нацыянальнай глебе. У табары АВС пад Каўшовым крылом існавала група расейскіх шавіністых-уласаўцаў, якія вялі прапаганду сярод беларускай нацыянальна несьвядомай масы за *"единую и неделимую"*. Калі на Вялікдзень у табарнай knайпе[583] хлопцы павялі гутарку аб нацыянальнай справе, уласавец Парчак вылаяў беларусаў і дадаў:

— *Вашай незалежнай Беларусі не было й ня будзе.*

Адзін малады беларус, Луж[584], не сьцярпеў нацыянальнай абразы й запратэставаў. Яны, спрачаючыся, разышліся па сваіх хатах. Луж..

---

582 ***Мальдава́цца*** — адзначацца.

583 ***Кна́йпа*** — шынок, піўная.

584 Відаць, маецца на ўвазе **Міхась Лужынскі** (1926—2011), грамадзкі дзеяч. Сябра СБМ. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, дзе па сканчэньні вайны апы-

прыйшоў дамоў і лёг спаць. Празь нейкі час прыходзіць да яго лідар уласаўцаў, Каўшоў блізкі сябра, Буглай. Ён у ваднэй руцэ трымае пісталет, а другой пабіў Луж.. у пасьцелі.

На другі дзень прыйшла група беларускіх хлапцоў у тую самую кнайпу, там ляжыць для праданьня расейская газэта *"Посев"*[585]. Луж.. пытае ў крамніка:

— *Хто пазволіў распаўсюджваць у беларускім табары расейскую газэту?*

— *Камэндант табару Коўш!* — адказвае крамнік.

Луж.. купіў гэту газэціну ды, падышоўшы да Каўша, пытае:

— *Чаму расейская распаўсюджваецца?* — і тут жа разадраў газэту, кінуў пад ногі й патаптаў.

Тут Коўш азьвярэў і пачаў нема клікаць паліцыю. Зьявіліся начальнік паліцыі Занковіч з паліцыянтамі. Коўш крычыць:

— *Арыштаваць хулігана на тры дні й пасадзіць у бункер!*

А Луж.. адказвае:

— *Я за расейскую газэту "Посев" гатовы сядзець у бункеры тыдзень.*

Калі Занкавіч пачаў паднушкоўваць[586] паліцыянтаў, каб забралі Луж.., некалькі хлопцаў выступілі наперад і кажуць да Каўша:

— *Не, ты яго ў бункер не пасадзіш!*

Тут ускаквае Каўшоў папіхач граміла Ўладзімер Сенька, але яму заступае ягоны брат Міхась[587] і кажа:

— *Сядзь, Валодзя!*

Той, лыпаючы вачыма, пацiснуў у кут і пакорна садзіцца. Тады Коўш, зьмяніўшы тон, кажа да Луж..:

— *Я вам дарую, можаце ісьці дамоў.*

А Луж.. адказвае:

— *А я ў вас не прасіўся!*

---

нуўся ў беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце. Ад 1950 г. выехаў у Аўстралію. Жыў у Сыднэі.

585 ***"Посев"*** — расейскі грамадзка-палітычны часопіс, орган Народна-працоўнага саюзу, які выдаецца ад 1945 г. (спачатку ў Заходняй Нямеччыне, цяпер — у Маскве).

586 ***Паднушкоўваць*** — заахвочваць, падганяць (АВ).

587 **Міхась Сенька** (1922—2016), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі скончыў Баранавіцкую мэдычную школу, працаваў кіраўніком аптэкі ў Стоўпцах. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Па сканчэньні вайны знаходзіўся ў беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце, дзе скончыў гімназію, браў удзел у скаўтынгу. У 1947—1949 гг. вучыўся ва Ўкраінскім тэхнічна-гаспадарскім інстытуце ў Мюнхене. У 1949 г. пераехаў у ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рывэры.

Тут прысутнічаў украінец з 25-га табару Галендорф, ён апынуўся ў непрыемным стане й пачаў імкнуцца, каб пагадзіць гэтых хлопцаў з Каўшом. А ў яго пытаюць:

— *Ці бывае ў вашым табары, каб украінскія газэты забаранялі, а расейскія распаўсюджвалі?*

Коўш сказаў:

— *З гэтага часу я ўжо ня ваш камэндант,* — і пайшоў у сваю кватэру.

У гэты вечар хлопцы, не пытаючыся ў Каўша, зрабілі вечарынку й гулялі да дня. П'яны К. Н..к, знаёмы Каўшоў з Бацькаўшчыны, на працягу ночы стукаў каменьнем Каўшу у сьцяну. Ён яшчэ й другому жыхару пабіў вокны. Калі яго раніцай хацелі пасадзіць у бункер, ён адказаў:

— *Калі мяне Коўш пасадзіць у бункер, дык сам яшчэ ня столькі ў іншым месцы адседзіць.*

Наступны дзень прайшоў спакойна, але вечарам таго самага дня Коўш пусьціў у ход сваю дыпляматычную машыну, а разам з гэтым — разьліўное мора самагонкі. А на трэці дзень справа была залагоджана.

## Бессаромнае кручкатворства й правакацыі

Як вышэй тут ужо ўспаміналася, Коўш падпарадкаваў сваёй цэнзуры пошту, якая прыплывала ў табар: лісты, пачкі й газэты. Лісты да ненадзейных, падазроных асобаў затрымліваліся й канфіскаваліся, беларуская газэта "Бацькаўшчына" гэдаксама; лісты з ЗША, Канады, Аўстраліі, якія падазраваліся, што ёсьць грошы, забіраліся, грошы вымаліся, а лісты нішчыліся; пачкі з ЗША й Канады гэдаксама часта разрываліся.

Аднаго разу прыбыў у наш табар Хвалько[588]. Скаўтка Зыз.. напісала ліст да шэфа скаўтаў Пануцэвіча ды папрасіла Сіткоўскага, каб перадаў Хвальку. Калі Сіткоўскі не застаў Хвалька на кватэры, дзе той начаваў, дык наляпіў паштовы значок[589] ды кінуў у паштовую скрынку, а не зьвярнуў увагі, што на лісьце адрас быў напісаны па-беларуску, кірыліцай. Нямецкі паштальён накіраваў гэты ліст наш табар. Коўш забраў яго і ўсюды паказваў як рэчавы доказ.

Скаўтка Зыз.. гэтай вясны мелася здаваць экзамэн і задала яго добра па ўсіх прадметах, але ёй пасьведкі не далі, а патрабавалі мэтрыкі нараджэньня. Яна падала мэтрыку, але Коўш зганьбаваў яе, бо

---

[588] Магчыма маецца на ўвазе **Лявон Хвалько** (1905—1995), грамадзкі дзеяч. У 1943 г. быў вывезены на працу ў Нямеччыну. Адтуль у 1947 г. трапіў у Вялікабрытанію. У 1958 г. перабраўся ў ЗША. Жыў у Нью-Ёрку, потым у Стамфардзе (Канэктыкут).

[589] ***Паштовы значок*** — паштовая марка.

згодна мэтрыцы дзяўчыне ня споўнілася 18 гадоў, а быццам быў такі закон у Рэчы Паспалітай, што асобы ў такім веку не маглі канчаць гімназіі. Яна даводзіла, што ў нямецкіх, польскіх, летувіскіх і ўкраінскіх гімназіях ейныя равесьніцы паканчалі навуку. Нават дырэктар летувіскай гімназіі зьдзівіўся гэткаму кручкатворству й сказаў, каб зь беларускай гімназіі аддалі яму ейныя экзамэнацыйныя адзнакі, а ён выдасьць гэтай вучаніцы пасьведку. Коўш не згадзіўся на гэту прапанову.

Калі яна падла скаргу ў вышэйстаячыя ўстановы над уцекачамі, там Коўш сказаў, што яна не вучылася ў гэтай гімназіі ды не здавала экзамэну. Гэтую Каўшовы хлусьню падтрымаў капітан Прале. Яна добра ведала летувіскую мову, дык на наступны год пайшла ў летувіскую гімназію й праз год закончыла.

## Белякоўскі

Калі Коўш звольніў з працы беларускую нацыянальную інтэлігенцыю, дык прыняў на працу ў бюро Белякоўскага й даў яму заданьне інтрыгаваць Б. Даніловіча, каб яго выкурстаць[590] з табару АВС. Але Даніловіч даседзеў да таго часу, калі пакідала табар іншая наша інтэлігенцыя, і разам зь ёй выехаў. Белякоўскі перастаў услугаваць Каўшу у ягоных цёмных справах, а нават часамі стаў і высьмейваць Каўшову правакацыю. Вышэй мы ўжо ўспаміналі, як Белякоўскі публічна гіранізаваў Мілішкевіча, калі той падлічваў галасы пры выбарах у Цэнтральнае прадстаўніцтва.

Калі прыходзілі самі выбары, Белякоўскі разам зь Сіткоўскім, Букатым[591] і Радзюком дэманстрацыйна прайшлі каля урны й пайшлі ў нямецкую вёску піва піць. А Белякоўскі пасьля гэтага спакойна працаваў у бюро табару.

Праз тыдзень пасьля гэтага ў табарным клюбе вялікая вечарынка. Да Белякоўскага прыехалі госьці, дзяўчаты з Гановэру. Калі ён частаваў у сваім пакоі гасьцей, пад ягонае вакно прыходзіць п'яны Гарачка, выдатны баец Каўшовай баёўкі, стукае ў вакно ды просіць Белякоўскага выйсьці на двор на мінутку. Белякоўскі выйшаў і пытае:

— *Што табе трэба?*

Гарачка схапіў Белякоўскага адной рукой за грудзі ды пытае:

---

590 ***Вы́курстаць*** — выкурыць, выселіць, выгнаць.

591 Магчыма, маецца на ўвазе **Адольф Буката** (1902—1977), грамадзкі дзеяч. У 1930-я гг. выехаў у Францыю, дзе жыў да пачатку Другой сусьветнай вайны. Потым пераехаў у Бэрлін, дапамагаў М. Абрамчыку выдаваць газэту "Раніца". Пасьля вайны знаходзіўся ў лягерах *DP* Нямеччыны, адкуль у 1949 г. выехаў на працу ў Вялікабрытанію.

— *Ты верыш мне?*

— *Ну, веру, дык што там такое?*

— *Прысягні, калі верыш,* — кажа Гарачка ды давай хвастаць Беляkоўскага па твары ў прысутнасьці гасьцей-дзяўчат. Той вырваўся з рук Гарачкі й пабег на вечарынку ў клюб на скаргу да Каўша. Гарачка пайшоў за ім ды там перад Каўшом на вечарынцы некалькі разоў ударыў Белякоўскаму па твары.

Белякоўскі бачыць, што непераліўкі[592], — трэба ўцякаць з табару. Якраз тады праходзіў запіс у Англію. Ён, працуючы ў бюро, і запісаўся ды прайшоў мэдычны агляд, а Коўш ня ведаў гэтага й толькі тады даведаўся, калі падышоў дзень выезду.

Тады пры выезьдзе людзей з табару выходзілі на разьвітаньне ўсе жыхары з баракаў. Калі ўся моладзь, што выяжджала, расьселася на машыны, іншыя зь іх прамаўлялі да сваіх суродзічаў, што заставаліся ў табары. Кароткую прамову-запавет прамовіў і Белякоўскі, а пасьля дадаў:

— *Памятайце, суродзічы, калі хто хоча надалей чалавекам застацца, дык не прадавайцеся Каўшу за чарку самагонкі ці за кавалак чорнага хлеба.*

Празь некалькі дзён Коўш накіроўвае Гарачку й Анішчыка ў пераходны табар, дзе быў Белякоўскі, з пэўнымі паперамі аб тым, што Белякоўскі камуністы. Калі ўсіх тых людзей, якія выехалі з нашага табару, накіравалі ў Англію, Белякоўскага затрымалі й трымалі два тыдні, а нарэшце ўпэўніліся, што данос быў фальшывы.

## Сексоты, або патаемныя супрацоўнікі

Коўш меў нейкую слабасьць, каб чым болей завэрбаваць патаемных супрацоўнікаў-даносчыкаў. Апрача таго, што ўся афіцыйная паліцыя (каля 8—10 асоб), баёўка (каля 10 асоб), скаўты й вучні гімназіі, супрацоўнікі бюро й магазынаў, дык было завэрбаваных каля паўсоткі яшчэ звычайных дыпістых, а сярод іх Пунтус і Швэфель. Пунтус за гэту службу атрымоўваў настаўніцкую пэнсію й адначасова дапамогу па беспрацоўі.

Вэрбаваліся сексоты з звычайных дыпістых вельмі проста й нахабна. Работнік магазыну набірае ў карзінку нейкіх біксаў ці сухароў, як ужо вышэй успаміналася, заходзіць у штубу да беднага дыпістага й кажа:

— *Спадар камэндант прыслаў вам к сьвяту гасьцінца, але трэба, каб і вы ў разе патрэбы памагалі яму: калі дзе пачуеце, што аб ім нехта будзе гаварыць, дык вы павінны прыйсьці да яго і ўсё расказаць, або*

[592] ***Непераліўкі*** — справа дрэнь, няма ратунку.

*калі патрэбна будзе за яго расьпісацца ўсёй сям'ёй, або пры патрэбе прыйсьці на сход з усімі дарослымі сваёй сям'і й галасаваць за яго.*

Аднаго разу Коўш прапануе добраму краўцу Бусянку ўзяць у памочнікі жанчыну-ўдаву. Бусянок шыў у сваёй хаце й адмовіўся, кажучы:

— *У мяне адна баба ёсьць — і хваце мне. Нашто мне другая жонка.*

У Бусянка адабралі машыну й забаранілі ў табары працаваць. Праз два тыдні Коўш заклікае да сябе Бусянка й кажа яму:

— *Я вам, Бусянок, дарую; заўтра вам на кватэру прынясуць машыну й вы зноў будзеце шыць, але, калі ласка, спадар*[593] *Бусянок, калі дзе пачуеце, што хто будзе аба мне гаварыць, дык вы павінны да мяне прыходзіць і ўсё тое перадаваць:*

— *Мне няма чаго даріваць, хіба толькі тое, што я з вашай ласкі два тыдні бяз працы сядзеў,* — кажа Бусянок. — *А наконт таго, каб перадаваць вам, дзе хто будзе гаварыць, дык я да гэткай службы ня здатны. Ці ведаеце, спадар Коўш, калі дзе ў вёсцы папа[дзецца] такі сабачок, што каля аднаго вакна ціўкне, каля другога, каля трэцяга, дык як хто й заб'е яго — няма каму яго й за плот адцягнуць. Дык вось і я за такую сабацкую службу не вазьмуся.*

Нейкі час было маўчаньне, а потым Коўш сказаў:

— *Можаце ісьці дамоў.*

Але назаўтра рана Басянку машыну прынесьлі. Трэба быць пэўным, што не аднаму Бусянку Коўш даваў гэткае заданьне, але ня ўсякі змог даць яму такі адказ. Адны для ветлівасьці абяцалі даносіць, а найболей было такіх, што абяцалі ды стрымалі сваё слова: хадзілі падслухоўвалі, дамешвалі свае словы ды даносілі камэнданту Каўшу.

Па справе шпеґаваньня былі пільнымі паліцыя, патаемная паліцыя й скаўты, але найбольшую пільнасьць праяўлялі начальнік паліцы Занковіч і Бурнос. Калі толькі каторы ўбачыць, што сусед да суседа пайшоў ды абодва непрыхільна ставяцца да Каўша, дык яны каторы (калі ўвечары) да сьцяны ды дошчак прытуліцца й будзе [слухаць], або ідзе да ягонага суседа ў барак, каб праз дошкі пачуць, што там будуць [казаць], або каля сьцяны ў быльніку ляжа ды выслухвае.

Кучура каля свайго вакна зрабіў будачку-складзік, дзе клаліся прадукты для ежы. Занковіч убачыў, што да Кучуры суседзі пайшлі, дык ён ціханька залез у гэты складзік. Гэта было вечарам. Суседзі надумалі па чарцы выпіць, а жонку гаспадар паслаў па закуску. Жанчына пабегла навокал канца бараку да складзіку. Яна мэханічна дзьверы адчыняе — ды ў складзік і ўпацёмку ўдарылася ў жывога чалавека. Жанчына як жыва засталася ад такога раптоўнага перапуду! Ну й удалае месца выбраў начальнік паліцыі для падслухоўваньня: вакно адчынена, дык

[593] У сапраўднасьці Коўш наўрад ці мог выкарыстоўваць зварот *"спадар"*, бо ў "зарубежніцкім" асяродзьдзі ён лічыўся "крывіцкім".

кожнае слоўца можна злавіць, а ён стаіць за дзьверцамі ў складзіку, і яго тут ніхто ня бачыць, але гэта баба накасалася[594] й папсавала хітра задуманую вынаходку, а тут выскачыў сын гэтай бабы з кіем і хацеў косьці параўнаваць.

## Стары Палюховіч

Як летам 1946 году застрайкавалі сьвятары, час ад часу прыяжджаў украінскі сьвятар з 25-га табару, а калі — расейскі сьвятар з Ґосьляру, за дзячка запрашалі старога Палюховіча, які ведаў гэту работу й дапамагаў сьвятарам адпраўляць Божую службу. Калі Коўш зь сьвятаром Сурвілам пагадзіліся, дык Палюховіч па-старому выконваў свае абавязкі дзячка.

Палюховіч меў вялікую сям'ю й сам быў стары, дык яму была большая пэнсія як сьвятару. Сьвятар Сурвіла на яго злаваў, але найболей стаў злаваць, калі той стаў, згодна Сурвілавых поглядаў, штрэйкбрэхерам, як сьвятары застрайкавалі. Калі Коўш зноў сабраўся зь сьвятаром Сурвілам ды супольна сталі праводзіць русіфікатарскую палітыку, Палюховіча звольнілі з працы, на ягонае месца паставілі расейца Сьмірнова, але старому гэтага не паведамілі. У Вялікдзень, як і заўсёды, Палюховіч заняў сваё месца на клірасе, але сьвятар Сурвіла калі крыкне з аўтара:

— *Куды ты залез! Вунь тваё месца!* — і паказаў рукой на дзьверы.

Сьвятар Сурвіла падабраў зручную часіну й адпомсьціўся пахуліганску старому сумленнаму чалавеку.

Як калісьці Палюховіча запрашалі на дзячка, ён доўга не згаджаўся, дык сам Коўш яго доўга ўпрошваў. А калі звольнілі Падлюховіча зь дзякоўства, Коўш у дагоду Сурвілу стаў помсьціцца Палюховічу й паслаў таго працаваць на цяжкую работу на фабрыку, амаль зусім дарэмна (да рэформы валюты). Калі пасьля прыслалі ахвяры ад Саюзу амэрыканскіх пратэстанцкіх цэркваў, жыўнасьць і вопратку, а дзяліў гэтыя ахвяры сьвятар Сурвіла, дык Палюховічу не даваў.

## Рамесьніцкія арцелі

У нашым табары было некалькі рамесьніцкіх арцеляў: сталяры, шаўцы, краўцы. Частку іхнага заработку аддавалі ім на рукі, частку браў табар для арбайтсамту ў фонд беспрацоўя. Коўш зь Еўсам адлічалі ад гэтых рамесьнікаў праз шэсьць гадоў грошы для аплаты ў арбайтсамт, але калі табар ліквідавалі, дык гэтым рамесьнікам праз 6 месяцаў выхадной дапамогі не заплацілі: у арбайтсамце ім адказалі, што бюро табару за іх грошай не плаціла.

---

594 ***Накаса́цца*** — прычапіцца, апанавац (АВ).

## А. Мацукевіч[595]

А. Мацукевіч быў чалавек спакойны й сумленны. Коўш яго хацеў мець на сваім баку, але ён не хінуўся да Каўша, хоць яму й давалі працу пры магазыне. Ягоная жонка была разьвейшая й няўступлівая — як думае, гэдак і кажа, калі бачыць якую недарэчнасьць — ня змоўчыць. Яе для страху выклікалі ў паліцыйную будку на допрыт:

— *Ты казала гэдак?* — у яе пытаюць.

— *Так, казала, бо гэта праўда,* — адказвае яна. — *Я і ўсюды буду казаць гэта, калі папытаюць.*

Паехаў Мацукевіч у Францыю шукаць работы й так забавіўся на доўгі час. У Каўшовых прыхільнікаў хрэсьбіны. Туды запрашаюць Мацукевічаву жонку, а гэдаксама галоўнага супрацоўніка Каўшовага выведу — Швэфеля. З гэтага дня яны падружылі, і Мацукевічыха перастала заважаць і гаварыць аб табарных несправядлівасьцях.

Прыехаў муж з Францыі, не знайшоўшы работы, але жонка да яго не вярнулася. Справа дайшла да нямецкага суду, які прызнаў, што маленькая дачушка павінна застацца на выхаваньні бацькі. А Мацукевічава жонка стала жонка Швэфеля й Каўшовай прыяцелькай. Коўш ведаў, як абясшкодзіць упартую бабу.

## Сьвятар Сурвіла

Сьвятар Сурвіла быў галоўнай рухальнай сілай у табары АВС. Аб ім ужо тое-сёе ўспаміналася.

У наш табар прыяжджаў Куліковіч[596] з канцэртам, у якім выступаў артысты Зызыка; публіка, а асабліва дзеці, яго любілі. Аднэй нядзелі сьвятар Сурвіла апавяшчае з амбоны:

— *Зызыка не жыве — яго забілі нехрысьці-“крывічы”.*

Народ абураецца на “крывічоў” і ходзіць пытацца да сьвятара:

— *Што зрабілі амэрыканскія ўлады з забойцамі-“крывічамі”?*

Той адказвае:

— *Забойцы ў лес уцяклі, а можа, і да бальшавікоў.*

---

[595] Відаць, маецца на ўвазе **Андрэй Мацукевіч** (1914—2003), грамадзкі дзеяч, стрыечны брат мітрапаліта Мікалая (Мацукевіча). Ад 1950-х гг. жыў у ЗША.

[596] **Мікола Куліковіч** (сапр. **Шчаглоў**, 1893—1969), кампазытар, музыка, музыказнаўца, грамадзка-культурны дзеяч. Ад 1937 г. працаваў выкладчыкам у Беларускай кансэрваторыі. У часе нямецкай акупацыі кіраваў аркестрам у Менскім гарадзкім тэатры. Ад студзеня 1944 г. кіраўнік музычнага аддзелу пры БЦР. Ад 1944 г. — на эміграцыі. У Нямеччыне ў 1947 г. арганізаваў Беларускі тэатар эстрады, які гастраляваў па лягерах *DP*. У 1950 г. выехаў у ЗША. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, пазьней перабраўся ў Кліўлэнд, а ад 1959 г. жыў у Чыкага.

Праз тыдзень пасьля гэтага прыяжджае ў наш табар паэта Масей Сяднёў, і ў яго пытаюць аб сьмерці артысты Зызыкі. Сяднёў расказаў усю праўду: той атруціўся, прыняўшы некалькі дозаў сонных парашкоў.

За тое, што ён лаяў на ўсе бакі нехрысьцяў і бязбожнікаў-“крывічоў”, яго няможна вінаваціць, бо ён выконваў волю расейскіх зарубежных япіскапаў.

Каталіцкая арганізацыя “Харытас” стала пісаць і праваслаўных на выезд у Амэрыку. Сьвятар Сурвіла ў сваім казаньні выступіў супроць гэтага:

— *Няма патрэбы сьпяшыць на выезд у Амэрыку: там беспрацоўе, там людзі з голаду ўміраюць, а тут, у Нямеччыне, пакуль што яшчэ можна някепска жыць.*

Яму было някепска жыць, бо нейкі расейскі прафэсар выклапатаў перад ангельскімі вайсковымі ўладамі, што яму на месяц плацілі каля 500 марак. (Да рэформы нямецкай валюты [20 чэрвеня 1948 году] працоўным дыпістым давалі кантыну й грошы, але кантына ў шмат разоў была вартнейшая, чымся грошы, а пасьля рэформы маркі сталі дарагімі, і пачалі добра плаціць.)

Выйшаўшы з царквы, мужчыны сталі гаварыць аб тым, што казаў сьвятар на амбоне, што ў Амэрыцы з голаду ўміраюць. Супрацоўнікі выведу раптам аб гэтым і Каўшу данесьлі. Коўш выскачыў і стаў дапытвацца ў ваднаго, другога, хто гэта выдумаў, што бацюшка гэдак казаў, што ў Амэрыцы беспрацоўныя з голаду ўміраюць. То той, то іншы адказвае: “*Я ня чуў*” і “*Я ня чуў*”, а стары мужчына чэсна кажа:

— *Што тут доўга дапытвацца, хто чуў. Я сам чуў, як ён гэта казаў.*

Ён гаварыў сьмела, бо ўжо год прайшоў, як ягоная дачка выехала ў Канаду, а на днях ён і сам зь сям’ёй меўся выяжджаць. Коўш, калі пачуў гэткі сьмелы адказ, дык змоўк ды пайшоў у сваю хату.

Амэрыканскі “Харытас” прыслаў у табар АВС вялікі запас харчовых прадуктаў. Каталіцкія арганізацыя табару разьмеркавала гэты правіянт пароўну — як каталіком, гэдак і праваслаўным ды самы́м праваслаўным сьвятарам. Калі пасьля прыслаў Саюз амэрыканскіх пратэстанцкі цэркваў, у які была залучана й Расейская праваслаўная царква, дык сьвятар Сурвіла каталіком ня даў, а нават і некаторым праваслаўным не даваў, на каго злосьць меў. Каталіку Юнкерскаму даў пачку толькі за тое, што той перайшоў на праваслаўе (пайшоў да яго на споведзь). Пасьля зноў каталіком прыслалі пачкі, дык каталіцкія арганізацыі раздавалі каталіком і тым праваслаўным, каму сьвятар Сурвіла ня даў. Нават Юнкерскі прыйшоў, ад’яжджаючы ў Аўстралію, дык і яму далі.

Апошнія гады ў табары дыпістым выдавалі вугаль на апал пад вагу па 2 кіляграмы на дзень на душу, а сьвятару Сурвілу вялікі мех

насыпа́лі. Народ тут жа абураўся. На гэта абурэньне сьвятарова жонка крычэла:

— *Каму гэта праціўна, што я шмат бяру вугалю, дык няхай едзе да бальшавікоў.*

А між іншага сьвятар атрымліваў вялікую пэнсію й меў прыбытак ад царквы.

Хоць сьвятар Сурвіла агітаваў, каб людзі ня ехалі ў Амэрыку, але сам у першую чаргу запісаўся й выехаў у пераходны табар Вэнторф[597]. Пры табары АВС была пральня. Сьвятар Сурвіла здаваў туды бялізну да мыцьця, але ніколі не плаціў прачкам. І калі ён выехаў у Вэнторф, кіраўнік пральні напісаў заяву ў той табар, што ён не разьлічыўся з пральняй, дык яго ўстрымалі на выезд у Амэрыку. Каўшоў намесьнік У. Сенька паслаў фальшывую даведку ў табар Вэнторф, што быццам сьвятар Сурвіла яму ў табар заплаціў 40 марак, тады яго прапусьцілі на выезд.

## Шыла й Ільляшэвіч

Каб даць паўнейшы малюнак становішча ў табары АВС, трэба яшчэ ўспомніць аб дзьвюх асобах — прыслужніках Каўша: пра Міколу Шылу й Хведара Ільляшэвіча.

Шылу я пазнаў яшчэ ў Менску ў 1917 годзе на Ўсебеларускім кангрэсе; ён тады быў адным зь пісараў пры Беларускай вайсковай радзе, але я ня ведаю, ці быў ён дэлегатам, бо на паседжаньнях кангрэсу я яго не заўважаў. Ён ня быў і на тым паседжаньні, калі бальшавікі разганялі кангрэс. Нябожчык Ю. Мурашка ўспамінаў, што ў часе паседжаньня кангрэсу ён застаў Шылу на Нізкім рынку, калі той там нейкія мядзяныя катлы прадаваў.

У 1905 годзе Шыла быў звольнены з Маладэчанскай настаўніцкай сэмінарыі за прыналежнасьць да партыі сацыялістых-рэвалюцыянэраў. Адбыўшы пакараньне, некалькі гадоў жыў у Пецярбургу, дзе наведваў курсы крэсьленьня (ён досыць добра маляваў). Летам прафэсар Раманаў[598] разам зь іншымі пасылаў яго на вёску зьбіраць беларускі фальклёр. Ня ведаю, дзе ён там працаваў, але чуў ад яго самога, што часта гаспадары высялялі іх з кватэраў, бо ён кватараваў зь іншымі гэткімі ж п'яніцамі й штоночы яны шум падымалі ды не давалі суседзям спаць. У часе [Першай сусьветнай] вайны служыў у нейкім конным палку, які тады стаяў у Барысаве, адкуль ён быў дэлегаваны ў Менск на зьезд ваякаў-беларусаў, дык гэткім чынам апынуўся ў беларускай

---

[597] **Вэнторф** (ням. *Wentorf*) — цяпер Вэнторф-Хамбург, камуна ў Нямеччыне, у зямлі Шлезьвіг-Гальштэйн.

[598] Відаць, маецца на ўвазе **Еўдакім Раманаў** (1855—1922), этнограф, фальклярыст, археоляг, які ад 1910 г. быў загадчыкам сэкцыі этнаграфіі й археалёгіі Расейскага геаграфічнага таварыства.

вайсковай арганізацыі. У 1919—1920 гадох лічыўся студэнтам Менскага настаўніцкага інстытуту, калі гэты інстытут не працаваў.

Я чуў зь ягоных слоў, што вясной 1919 году ён пайшоў на службу да бальшавікоў, якія яму далі шмат грошай на арганізацыю беларускай работы, але ён з гэтымі грашыма ўцёк у Вільню й там хаваўся да прыходу палякаў. Восеньню 1920 году Шыла й Мамонька аднаўляюць у Менску працу беларускіх эсэраў і на бальшавіцкія грошы выдаюць беларускую газэту "Барацьба" (гэта было якраз у тыя часы, калі случчакі выступалі супроць бальшавікоў). Зь Менску Шыла й Мамонька езьдзілі ў Рыгу на Рыскі кангрэс[599] як прадстаўнікі беларускага ўраду. Гэта быў па ліку чацьверты беларускі ўрад. (1-ы ўрад — Найвышэйшая Рада БНР, якая тады прабывала ў Вільні; 2-і ўрад — Беларуская Рада БНР, якая тады прабывала ў Коўне; 3-і — урад БССР, які тады ачольваў Чарвякоў; 4-ы ўрад — Шыла й Мамонька[600].) Ужо ж пэўне гэты чацьверты ўрад быў накіраваны ў Рыгу са згоды бальшавікоў. Гэта было на руку й бальшавіком, і палякам, каб паказаць сьвету, што беларусы маюць шмат урадаў, каб ніводнага не дапусьціць на кангрэс. Далей Шыла хадзіў — ужо з Польшчы — на Бэрлінскую канфэрэнцыю[601]. Калі аднаго разу ён апавядаў аб цяжкасьцях, якія меў, пакуль дастаўся[602] ў Прусы[603] на гэтую канфэрэнцыю, дык я пачаў распытвацца аб самой канфэрэнцыі. Ён мне адказаў:

— *Ты ведаеш, брат, там жа буфэт зусім дармовы: выбірай любое пітво, любую ежу й пі й еж, колькі табе ўлезе.*

Далей мне не было чаго распытвацца, бо вядома было, што ён нічога ня чуў і ня бачыў, акрамя гэтага буфэту.

Якая ягоная дзейнасьць была ў часе панаваньня на захадзе Беларусі палякаў, мне невядома, але толькі тое вядома, што ён часта хваліўся сваім 13-гадовым астрожным стажам[604]. Ён мне аднаго разу ўспамінаў,

---

[599] Афіцыйна беларускія ўдзельнікі не былі дапушчаныя да перамоваў у Рызе й не ўплывалі на падпісаньне дамовы паміж РСФСР і Польшчай.

[600] Не зразумела, пра які менавіта ўрад ідзе размова.

[601] Маецца на ўвазе **Другая Ўсебеларуская канфэрэнцыя**, якая адбывалася 12—16 кастрычніка 1925 г. у Бэрліне як нарада беларускіх палітычных дзеячаў у эміграцыі, скліканая з ініцыятывы старшыні Рады Міністраў БНР Аляксандра Цьвікевіча. На канфэрэнцыі, дзе прысутнічалі й прадстаўнікі БССР, былі прынятыя пастановы аб спыненьні дзейнасьці Рады Міністраў БНР і прызнаньні Менску *"адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня Беларусі"*.

[602] ***Дастацца*** — тут: дабрацца.

[603] ***Пру́сы*** — Прусія.

[604] Мікола Шыла сапраўды шматразова арыштоўваўся польскімі ўладамі ў міжваенны час.

што, спаткаўшыся, палаяўся з генэралам Аляксееўскім[605], які ў 1917 годзе прызнаваў сябе беларусам і быў дэлегатам на Ўсебеларускім кангрэсе. Сварка была за тое, што ён назваў генэрала *"таварыш Аляксееўскі"* й стаў з гэтага старэнькага генэрала жарты строіць.

У табары АВС Шыла культурнай працай амаль што не займаўся. Мне вядомыя толькі тры невялікія артыкулы, што ён напісаў у табарны часопіс "Шляхам жыцьця". Разам з Ільляшэвічам яны выдалі нумар скаўцкага часопісу правакацыйнага характару, каб разлад унесьці ў скаўцкую арганізацыю, бо Пануцэвіч быў шэфам скаўтаў і рэгулярна выдаваў скаўцкі часопіс. Адзін раз Шыла на сцэне артыстым выступаў, але гэты выступ быў яму, старому, не да твару.

Шыла быў дружбісты й занадта паслухмяны, у гонар дружбы быў сьляпым выканаўцам каўшоўскіх ідэяў, сваіх палітычных поглядаў ня меў, але па прапанове Каўша застаўся царкоўным старастам і раніцой кожнай нядзелі мусіў ісьці ў царкву сьвечкі прадаваць, разам з гэтым быў царкоўным касірам. Праўда, былі кандыдаты на царкоўнага старасту, людзі нават і набожныя, але сьвятар Сурвіла не хацеў іх дапусьціць на гэтую пасаду, каб яны не выносілі сакрэту царкоўнага прыбытку й не перашкаджалі сьвятару Сурвілу прысвойваць гэтага прыбытку.

Чалавек набожнага права Кастусь Якубаў пісаў у сваім "пасланьні" да япіскапа Апанаса аб сьвятару Сурвілу: *"Гэта чалавек ня толькі няверуючы, але й пазбаўлены людзкой маралі..."*.

Калі Шыла памёр, Коўш з Ільляшэвічам "узьвялі" яго ў годнасьць пісьменьніка, вытварыўшы на ягоным каменным помніку кнігу. Мне аб Шылавым пісьменьніцтве ці навуковасьці нічога невядома.

Хведар Ільляшэвіч ад прыроды быў здольным чалавекам і працавітым. Вялікім ягоным няшчасьцем было тое, што ён быў алькаголікам. У гэтым няшчасьці ён перавышаў і Шылу. Хв. Ільляшэвіч, як і М. Шыла, кожнага таго ўважаў блізкім прыяцелем і дапамагаў яму як мог, з кім выпіваў (здаецца, гэткая рыса характару ўва ўсіх алькаголікаў), а дзеля таго кожны, хто жадаў ягонай дапамогі, дык стараўся перш выпіць зь ім, а ён ніколі нікому не адмовіў, хто запрашаў яго выпіць. І гэтую ягоную слабасьць спанатрыў Коўш і выкарыстоўваў яго для сваіх часамі брудных справаў. Гэтае п'янства падарвала ягоны аўтарытэт сярод грамадзтва, гэтае п'янства прысьпяшыла ягоную заўчасную трагічную сьмерць.

Мне здаралася чуць, што аб Ільляшэвічу адклікаліся як аб добрым настаўніку-выкладчыку, але мне здаецца, што тут яго перахвальвалі. Ён

---

605 Маецца на ўвазе **Канстанцін Аляксееўскі** (1855 — пасьля 1918), вайсковец, ад 1916 г. генэрал-лейтэнант. Ад 1911 г. быў начальнікам артылерыі Свэаборскай крэпасьці. Удзельнік Першага Ўсебеларускага кангрэсу.

мог шмат, бясконца гаварыць, але часамі ў ягонай гутарцы назіралася вадзяністасьць і недакладнасьць. А мэтадысты й пэдагог-выхавальнік зь яго быў нават вельмі дрэнны. Па ўсёй упэўненасьці ён гэтых дысцыплінаў нідзе не праходзіў і ня чуў аб іх, а за гэта вельмі цяжка грашыў супроць іх.

Што тычыцца ягонага штодзённага асабістага жыцьця, дык ён быў дарослым бездапаможным дзіцем, якое бязь няньки не магло жыць. Калі ён у гэтую мінуту быў пад'еўшы, дык ён ня думаў, што праз 4—6 гадзінаў захоча зноў есьці, і мог выкінуць вон усе свае запасы, а за гэта ён заўсёды галадаў і пакутаваў. Я жыў зь ім болей як паўгоду ў аднэй штубе й бачыў ягонае жыцьцё. Тут прывяду некалькі прыкладаў.

Аднаго разу Коўш пасылае яго ў партыйную камандзіроўку ў амэрыканскую зону. Ільляшэвіч прыйшоў у штубу, падпіўшы й наеўшыся, ды прынёс з сабой на дарогу хлеба й чатыры мясныя біксы, кожную расьпячатаў, з кожнай паспытаў і пакінуў іх усе на вакне, — напэўна, у дарозе галадаў. Ён прабыў у камандзіроўцы болей як паўмесяца; за гэты час з кожнай біксы вырас высокі зялёны пух, і яны, як вазоны, упрыгожвалі настаўніцкі пакой маёй школы, дзе ён кватараваў.

Аднэй ночы Ільляшэвіч вярнуўся п'яны й забруджаны ды свой забруджаны касьцюм пакінуў у калідорчыку нашай штубы. Гэта было летам у гарычыню, і ад гэтага касьцюма смурод напоўніў і маю штубу, і клясныя пакоі. Я не хацеў яму аб гэтым казаць, бо ён сам гэта адчуваў і бачыў, ды ён жа настаўнік гімназіі! Гэта ўсё прадаўжалася некалькі дзён.

Неяк Ільляшэвіч выправіўся ў амэрыканскую зону. Зь ім едзе адна жанчына, якая вязе болей як дзясятак амэрыканскіх цыгарэт свайму брату, які сядзіць у табары палонных зь Беларускай штурмавой брыгады[606]. Каб па дарозе нямецкая паліцыя не сканфіскавала ў яе гэтых цыгарэт як у жанчыны, яна аддала іх на сховы Ільляшэвічу ў падарожны мяшок. Пакуль яны прыехалі на месца, ён скурыў усе гэтыя цыгарэты. Гэты праступак Ільляшэвіч зрабіў ня з злой волі — курачы гэтыя цыгарэты, ён нават і ня думаў, што гэтым некага крыўдзіць. Бадай што, ён ня крыўдзіўся б, калі б нехта й ягоныя рэчы на гэткіх правах забраў.

Калі Ільляшэвіч загінуў, Коўш пачаў зьбіраць кнігі для арганізацыі бібліятэкі ягонага імя. Я тут хачу тое заўважыць, што Ільляшэвіч кніжак зусім не шанаваў. Ён у сябе ніякіх кнігаў не трымаў, бо меў такую натуру, што не імкнуўся да ніякай уласнасьці. Ён быў нейкім своеасаблівым

---

[606] Відаць, маецца на ўвазе **1-я Беларуская грэнадэрская штурмовая брыгада "Беларусь"**, якая была створаная 11 студзеня 1945 г. у выніку аб'яднаньня рэштк аў 30-й расейскай дывізіі СС з 1-м кадравым батальёнам БКА (афіцэры, афіцэрская й падафіцэрская школы, стралецкі зьвяз). 9 сакавіка 1945 г. брыгада перафармаваная ў 30-ю грэнадэрскую дывізію войск СС (1-ю Беларускую).

анархістым. Калі яму даставалася ў рукі нейкая чужая кніга, ён мог аддаць яе тэй асобе, якая ня мела ўяўленьня аб гэтай кнізе. Я дастаў ад Янкі Сурвілы некалькі кніг Якуба Коласа, якія часамі ўжываў для кляснага чытаньня. Калі я захварэў ды пайшоў у шпіталь, а Ільляшэвіч мяне замяняў, дык нават дазваляў вучням лісткі вырываць, каб ня трэ' было з сабой усёй кнігі насіць дамоў. Калі пасьля я заўважыў яму аб гэтай скрайнасьці, дык абышлося тым, што ён мяне далікатна перапрасіў за гэта[607].

*Падрыхтоўка да друку:*
*Зьміцер Саўка й Ілона Ўрбановіч-Саўка*

*Навуковае рэдагаваньне:*
*Натальля Гардзіенка й Лявон Юрэвіч*

*Камэнтары:*
*Адам Варлыга,*
*Натальля Гардзіенка,*
*Зьміцер Саўка*
*й Лявон Юрэвіч*

607 На гэтым машынапіс абрываецца. Працягу аўтар не напісаў.

*Тэма нумару: Амэрыканская гісторыя*
*Архівалії*

# ДА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ МІЖВАЕННАЙ ЭМІГРАЦЫІ Ў ЗША

*Нягледзячы на існаваньне грунтоўнай манаграфіі др. Вітаўта Кіпеля “Беларусы ў ЗША” (другое выданьне — 2017 г.), тэма беларускай прысутнасьці ў Амэрыцы застаецца нявычарпанаю: калодзеж гісторыі глыбокі і донца тым часам ня бачна. Нямала дадатковай і важнай — зь першых бо рук — інфармацыі захоўваецца ў беларускіх віленскіх газэтах, скуль передрукоўваем матэрыялы, датычныя галоўнага цэнтру міжваеннай нашай дзейнасьці ў Злучаных Штатах — Чыкага, а таксама ў штаце Мічыган.*

## Жыцьцё нашых Беларусаў у Амэрыцы[1]

Прачытаўшы ў “Нашай Думцы”[2] артыкул “Да Амэрыканскіх Беларусаў” за подпісам Дзед Кузьма, лічу за свой маральны доўг як шчырага беларуса напісаць дэталічна ў рэдакцыю “Нашай Думкі”, спадзяючыся, што рэдакцыя будзе настолькі добрая і надрукуе на сваіх страніцах пра жыцьцё нас, Беларусаў, у Амэрыцы.

У пачатку ды й пасьля Руска-Японскае вайны эміграцыя з Беларусі, Меншчыны, Гарадзеншчыны і наагул з нашых родных краёў прыняла, як ведама, эпідэмічны характар: спачатку паехалі жыды, ратуючыся ад ваеннае службы або ад сваволі вураднікаў ды іншых дзяржымордаў. За жыдамі пайшлі нашыя сяляне зарабіць у Амэрыцы, каб можна было паправіць сваю ўбогую гаспадарку — збудаваць новую хату, а на’т і прыкупіць кавалак зямлі. Гэтак ехалі, ня сьціхаючы, да пачатку Эўрапэйскае вайны[3] й, карацей кажучы, ехалі, пакуль пушчалі ехаць.

Апынуўшыся на тэрыторыі Злучаных Штатаў бяз знаньня ангельскай мовы, найчасьцей у вялікіх местах, з звычаямі вясковага жыцьця, часамі зусім няпісьменныя, натуральна, павінны былі сяліцца паміж жыдоў і атрымоўваць першую падмогу і настаўленьні ў чужой старане.

---

[1] Публікуецца паводле: Наша Думка. № 23. 10 чэрвеня 1921. С. 2—3. Тут і далей правапіс першапублікацыі захоўваецца.

[2] **“Наша Думка”** — штотыднёвая грамадзка-палітычная й літаратурная газэта, якая выходзіла ў Вільні ў 1920—1921 гг. Рэдактар-выдавец Максім Гарэцкі.

[3] Маецца на ўвазе Першая сусьветная вайна.

Але таму, што жыды жывуць найчасьцей у вялікіх местах, як Нью-Йорк і Чыкаго, дык і нашыя Беларусы туляцца між жыдоў. (Нялішнім будзе зазначыць, што вельмі шмат хто навучыўся жыдоўскай мовы і зжываюцца даволі дружна.) Апрача Нью-Йорку, у якім жыве больш як 15 тысячаў, што працуюць найчасьцей у крывецкай індустрыі, шмат жыве ў Чыкаго, працуючы ў вядомых Чыкагскіх быдларэзьнях, значны лік працуе на сталелітных заводах Пітсбургу, у Дэтройце на самаходных фабрыках і іншых заводах; вельмі шмат пасялілася ў нова-ангельскіх штатах Конэкцікут і Масачузэц, дзе займаюцца ў паперна-ткацкай прамысловасьці, на цэмэнтных і цагельных заводах, у лясістых мясцовасьцях Канады, на чугунках, у рудніках, капаюць канавы, пракладаюць падземныя чугункі, будуюць дамы, дастаюць руду, займаюцца сельскаю гаспадаркаю, у кожнай галіне ёсьць добрыя спэцыялістыя, якія прынясуць шмат карысьці нашай Беларусі.

Працуюць Беларусы ва ўсіх галінах прамысловасьці, праходзяць практычную школу абсалютна ўва ўсіх майстэрках, ёсьць свае каапэратывы, як краўцоў у Бронзьвіле (ваколіца Нью-Йорку), сталяроў і цесьляроў, дома-будаўляны і г. д. Большасьць працуе вельмі цяжка; Амэрыка цягне пот і кроў усіх, хто трапляе да яе, бяруць за сваю катаржную працу глупства і ня надта-ж цешацца, калі ўзяць пад увагу, што самая цяжкая і трудная праца робіцца іменна Беларускімі эмігрантамі. Працуюць цяжка, зарабляюць у параўнаньні з караннымі амэрыканцамі непадобна меней; тлумачыцца гэта тым, што нашыя землякі вельмі мала цікавіліся рабочым рухам, ня ўходзілі ў саюзы, а праца неарганізованых аплачваецца куды ніжэй, як арганізованых рабочых; неарганізованыя бязьлітасна эксплёатуюцца рознага гатунку цёмнымі асобамі. Амэрыкаю Беларусы ня вельмі ўжо й задаволены. Гэта можна бачыць з таго, што шмат якія жывуць па некалькі дзясяткаў гадоў у Злучаных Штатах, але гэтак сама далёкія ад амэрыканскае культуры, як кожны Беларус у Менскай ці Горадзенскай губэрні, 95 процэнтаў ня знаюць ангельскай мовы, ні грамадзкім, ні палітычным жыцьцём ня жывуць ды й ня цікавяцца, вечна думаюць аб доме, мараць, каб як найхутчэй вярнуцца да сваіх родных палёў, пры першай магчымасьці пакінуць Амэрыку і скіруюцца да сваіх родных гнёздаў. Паварот на радзіму трэба вітаць і патураць, як-бы там у Вас блага ня было, бо здаровыя і сьвежыя сілы пасобяць хутчэй аднавіць спопеленыя вайною і рэвалюцыяю родныя месцы, асабліва, калі прыедуць з досьледам і струмантамі; чым хутчэй будуць ехаць, тым будзе лепей для нашай радзімы як у палітычным, так і ў эканамічным сэньсе.

У культурна-прасьветным жыцьці нашыя Беларусы пайшлі ня вельмі далёка; пасьля ўсерасейскай рэвалюцыі крыху пачалі задумвацца аб тым, каб як напоўніць сваю ўбогую адукацыю, наадчынялі розных школаў аж да ўнівэрсытэту і рамесьленых майстэрняў.

Як ні балюча, але прыходзіцца канстатаваць факт, што нацыянальных Беларускіх арганізацыяў у Амэрыцы няма, а значыцца няма й газэты на беларускай мове, а тое, што нехта падаў вестку, што ў Чыкаго ёсьць 30 тысяч арганізованых Беларусаў у нацыянальныя арганізацыі — гэта не адпавядае праўдзе; у Чыкаго, як і ў шмат якіх іншых местах Амэрыкі, Беларусы арганізованы, але толькі не нацыянальна; шмат выхадцаў з Беларусі ёсьць у брацтвах узаемнай падмогі, якія злучаны ў адну буйную грамаду "*Римско-Кафолическое Об-во Взаимопомощи*", на чале якога стаяць праваслаўныя сьвяшчэньнікі. Ёсьць грамады ўзаемнай дапамогі й незалежныя — адно з мацнейшых, складзенае з Менчан і Горадзенцаў — гэта "*Русско-Славянское Об-во Взаимопомощи*", якое кіруецца й кантралюецца рабочымі; апрача грамадаў узаемнай падмогі ёсьць арганізацыі прасьветныя, гурткі самаадукацыі і іншыя грамадзкія інстытуцыі; усе вучацца на рускай мове, аб беларускай, якою ўсе гавораць, ня думаюць, каб яе ўдасканаліць. Гэта й ня дзіўна: гэтулькі гадоў стараліся выціснуць з нас усякае разуменьне аб нашай Радзіме, што цяпер дзеля таго, каб уваскрасіць нашу родную мову, нашу незалежнасьць і дарагую волю, нашаму народу Беларускаму прыходзіцца працаваць і часам вельмі цяжка. Але што-ж? Будзем працаваць дзеля дабра 16 мільённага народу, за яго шчасьце, за яго вызваленьне з-пад няволі; я веру, што й мы будзем жыць нароўні з іншымі народамі свабоднымі й незалежнымі, бо мы маем права на жыццё.

Палітыкаю беларусы ня вельмі шмат займаюцца, хаця ёсьць гурткі, вакол якіх групуюцца людзі палітычна разьвітыя, самая хіба многалюдная група гэта "*Саюз Русских Рабочих*". Вялізная большасьць Беларускіх выхадцаў не належыць ні да якіх палітычных арганізацыяў і ад палітычнага жыцьця вельмі далёкая.

Аб Беларускім руху вельмі мала ведалі, што дзеецца на нашай Роднай старонцы, бо толькі ў апошнія часы пачалі атрымоўваць ведамасьці праз Рыгу, Коўна і Бэрлін; даведаліся, якое вялікае гора выпала на нашу Бацькаўшчыну; чытаючы навіны, якіх поўны Вашыя газэты, мы непакоімся да глыбіні нашых душ, мы — адарваныя ад Вас, але душою з Вамі, маральна пераносім тыя мукі, якія Вы церпіце фізычна, бо зачыненьне школ, забарона гаварыць сваею роднаю моваю дзецям Беларускіх сялян, арышт грамадзкіх працаўнікоў ня могуць пасяліць пашаны да тых, якія цяпер сталі панамі, у нашых сэрцах зараджаецца нянавісьць, кроў наша булькоча помстаю пры думцы, што наша радзіма разьдзіраецца на лахманы, воля Беларускага народу касуецца, і гэта ўсё ў той час, калі самыя маленькія нацыі атрымалі вольнае права на існаваньне.

Мы, сыны слаўнага Беларускага народу, ня можам спакойна супакоіцца, пакуль зямля нашых бацькоў ня будзе ачышчана ад хціўцаў, якія стараюцца разарваць нашу дарагую для нас айчыну.

Нарэшце, вітаю Вас, вялікія й слаўныя барацьбістыя за вызваленьне і аднаўленьне вольнае, многапакутнае нашае Радзімы; боручыся за дабро народу свайго, Вы маеце вялікую сілу, бо праўда за Вамі, а таксама на старане праўды будзе грамадзкая думка вольных народаў і гарачае спачуцьцё нас, Беларусаў, жывучых у Злучаных Штатах. Яшчэ раз вітаю нашу родную Беларусь. Будзьце мудрымі і бодрымі ў Вашай сьвятой барацьбе за волю роднага народу Беларускага.

С. О. Бубешка[4].

Нью-Йорк, 1921 г. мая 3 дня.

## Беларускі краўцоўскі коопэратыў у Амэрыцы[5]

У Броневіле[6] зарганізаваўся коопэратыў краўцоў-выхадцаў з Меншчыны. Майстэрня мае 30 машын, пры якіх працуюць 40 чалавек. Шыюць мужчынскія каптаны. Кожны дзень шыецца па 2000 і болей каптаноў.

(Бел. прэсбюро ў Амэрыцы[7])

## Беларускі вечар у Чыкага[8]

*(ад нашага амэрыканскага карэспандэнта)*

Беларускі Нацыянальны Саюз[9] у Амэрыцы ладзіў у нядзелю 7-га сакавіка Беларускі вечар у вялікай залі Вэст-Сайд Аўдиторіум на помач Беларускай Школе ў Заходняй Беларусі.

Яшчэ за некалькі тыдняў да вечара распачалася энэргічная агітацыя супроць гэтага Беларускага Вечара з боку мяйсцовых расейскіх груп. Здавалася, што можа лучыць маскоўскіх манархістаў з маскоўскімі

[4] **Сьцяпан Бубешка** (1874?, м. Лунна Гродзенскай губ. — 23.01.1928, Нью-Ёрк, ЗША), грамадзкі дзеяч. Ва ўзросце 38 гадоў прыехаў у ЗША. Працаваў у прамысловасьці, потым меў свой бізнэс. Удзельнік Руска-славянскага таварыства ўзаемадапамогі ў Нью-Ёрку. Адзін са стваральнікаў першых беларускіх арганізацый у гэтым горадзе, у тым ліку Беларускага прэсавага бюро.

[5] Публікуецца паводле: Беларускі Звон. № 9. 26 жніўня 1921. С. 2.

[6] Маецца на ўвазе **Браўнсьвіл** (анг. *Brownsville*) — раён ва ўсходнім Брукліне, дзе ў 1921 г. узьнікла беларуская арганізацыя.

[7] **Беларускае прэсавае бюро** — арганізацыя, заснаваная ў 1921 г. у Нью-Ёрку. Выдавала *“Bulletin of the White Russian Press Bureau in USA”*.

[8] Публікуецца паводле: Сялянская Ніва. № 14. 28 красавіка 1926. С. 3.

[9] **Беларускі нацыянальны саюз** — арганізацыя, заснаваная Язэпам Варонкам у Чыкага.

бальшавікамі, незалежнай (антырэлігійнай) інтэлігэнцыі з бальшавікамі.

Аднак, калі ў кацапаў заходзіць патрэба бараніць *"единой недилимой России"*, тагды яны працуюць супольна. На самых выдатных беларускіх дзеячоў, Янку Чарапука[10], Язэпа Варонку[11], Язэпа Курдзёнка, маскалі пачалі выкідваць розныя лёзунгі перад сьведамай і нясьведамай масай, крычучы: *"Это сепаратисты, расчленители России, враги всего русского, не верьте этим белорусским шовинистам, стремящимся отделить Белоруссию от России"* і т. д.

З другога боку Беларускі Нацыянальны Саюз прыняў вызаў маскалёў і павёў з сваёй стараны зноў контр-агітацыю. Яго лёзунг быў: *"Беларусы, верце толькі сваім сілам. Самі толькі можам дабыць вольнасьць і незалежнасьць Бацькаўшчыны!"*.

І вось хутка наступіў дзень 7-га сакавіка. Пагода дрэнная. Але беларускія работнікі, якія зразумелі, што змогуць палепшыць сваю долю, дружнай сям'ёю адклікнуліся на прызыў Беларускага Нацыянальнага Саюзу й прыйшлі, каб памагчы беларускай школе. Мора галоў. Шум. Гутарка пра долю Бацькаўшчыны. Балей як 1600 чалавек выявілі сваю сымпатыю на гэтым праўдзівым народным сходзе. Такім чынам, расход на Беларускім Вечары ў суме 500 дал[яраў] быў пакрыты і яшчэ даляраў 200 асталіся на Беларускую Школу. Цяпер аб праграме вечара. З прамоваю выйшаў сябра Беларускага Нацыянальнага Саюзу гр. Я[зэп] Варонка, які гаварыў аб тым, што патрэба рабіць беларусам у Новым Сьвеце. Падчас яго прамовы ўстае з крыкам маскоўскі манархіст, а мо' нават і бальшавік (не далося даведацца), вынімае вялікі нож і рвецца на трыбуны прамоўцы. У гэты самы час амэрыканскі жаўнер беларус

[10] **Янка Чарапук** (псэўд. **Змагар**, 1896—1957), палітычны дзеяч. Вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбурскага ўнівэрсытэту. У 1918 г. супрацоўнік Міністэрства замежных спраў Украінскай Народнай Рэспублікі, членец Беларускай рады ва Ўкраіне. Ад канца 1918 г. — на Гарадзеншчыне, быў сакратаром Цэнтральнай беларускай рады Віленшчыны й Гарадзеншчыны. Ад канца 1919 г. жыў у Рызе, працаваў сакратаром Вайскова-дыпляматычнай місіі БНР у Латвіі й Эстоніі, сябра Народнай Рады БНР. У 1922 г. выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага. Адзін з ініцыятараў стварэньня Беларускага народнага камітэту ў штаце Ілінойс, Беларуска-амэрыканскага нацыянальнага клюбу. Уваходзіў у міжнародную каталіцкую арганізацыю "Рыцары Калюмба" (меў найвышэйшую ступень).

[11] **Язэп Варонка** (1891—1952), палітычны дзеяч, журналіст, выдавец. Першы старшыня Народнага сакратарыяту БНР. Ад канца 1918 г. жыў у Коўне. Да красавіка 1920 г. міністар беларускіх спраў ва ўрадзе Літвы. У 1923 г. выехаў у Чыкага (ЗША), дзе спрычыніўся да заснаваньня беларускіх арганізацый: стварыў Беларускі нацыянальны саюз, ад 1926 да 1932 г. выдаваў газэту "Белорусская трибуна", вёў беларускія й расейскія перадачы на радыё.

вымае рэвольвэр, ідзе да гэтага маскаля-бунтыра і станоўча заяўляе: *"ні кроку далей альбо сьмерць на мейсцы!"* Дзякуючы такту кіраўніка вечара А. Змагара[12], удалося супакоіць абодвых і, быць можа, прычыніцца да выратаваньня ад забіцьця маскаля.

Народ з вялікім зацікаўленьнем сьлядзіў за п'есай "Сялянскае вясельле". Добра гралі вучні школы В. Варанца. Дэклямацыя вершаў беларускіх паэтаў, якую выпаўнілі беларускія дзеткі: А. Будзюк, Н. Будзюк і С. Курдзёнак, зрабіла вялікае ўражаньне. Танцы малалетняй беларускай балярыны А. Брэнько ўпрост раз'энтузыялі сабраўшыхся. Каралевай Вечара была опэрная сьпявачка І. С. Георгіеўская, якой прысутныя за яе сьпеў адудзячыліс вялікімі апладысмэнтамі. Балет трупы Н. Цукалоса меў вялікі посьпех. Яго клясычныя танцы проста чаравалі прысутных. Пасьля канцэрту распачаўся баль, які цягнуўся да позьняй ночы. З першай адкрытай барацьбы з маскалямі — беларусы выйшлі пераможцамі, а гэта прычынілася да больш актыўнай працы для дабра Беларускага Народу.

Беларусы выпаўнілі свой абавязак перад Многапакутнай Бацькаўшчынай. За Чыкагам пойдуць і другія гарады.

Янка Навадворскі.

## Сьвяткаваньне 10-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці[13]

Банкет Беларускага Нацыянальнага Саюзу ў Конгрэс-Отэлі 25 сакавіка 1928 году, зроблены ў 10-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, сабраў у Флёрэнтын-Рум, аднэй з найпрыгажэйшых саляў у даун-тауну (цэнтру места) да 200 чалавек гасьцей. Тут былі беларусы, літоўцы, украінцы, латвійцы, карпатарусы, ірляндцы, немцы і шмат інш., аднак пераважалі першыя тры нацыянальнасьці, што прыдало беларускаму сьвяту яшчэ і характар дэманстрацыі дружбы гістарычна і палітычна найбліжэйшых адзін аднаму народаў на ўсходзе Эўропы.

Ад палавіны 7-ай гадз. увечары госьці ўжо пачалі зьбірацца ў прыгожых салёнах Конгрэс-Отэлю, але толькі ў канцы 7-ае гадзіны адчыніліся дзьверы Флёрэнтынскае Салі, упусьціўшы туды публіку пад гукі шуманаўскага маршу[14]. За сталамі разьмясьціліся па арганізацыях і нацыянальнасьцях. Кожнаму госьцю беларускі-гаспадыні падносілі жывыя белыя рожы...

---

[12] Маецца на ўвазе Янка Чарапук-Змагар.

[13] Публікуецца паводле: Беларускі Дзень. № 18 (58). 12 траўня 1928.

[14] Маецца на ўвазе адзін з маршаў нямецкага кампазытара Робэрта Шумана (1810—1856).

Прэсу прадстаўлялі рэпрэзэнтаты: “Чыкаго Трыбюн”, “Чыкаго Дэйлі Джорнал”, “Чыкаго Дэйлі Ньюс”, “Науенос”, “Рассвет” і інш.

За ганаровым сталом, апрача афіцыяльных асобаў і аратараў, др. В. Семяновіч, кан. а. Мік. Семяновіч, Б. Пеляховіч, Павал Чопка, Антон Змагар, гр-ка Б. Калвайтіс, гр-ка Л. Гайзат, гр-ка І. Ульман, а. М. Урбановіч[15] і інш. Над сталом прыгожа разьвешаны два штандары — беларускі і амэрыканскі.

Вячэра адбывалася пад канцэртнае трыо жанчын, кіраванае маладою скрыпачкаю Марусяй Білік, пры ўдзеле віолёнчэлісткі Кэтрын Корк і піаністкі Гэрыт Сміт.

Пад канец вячэры Язэп Варонка ад імя Беларускага Нацыянальнага Саюзу перадаў старшыняваньне на банкеце прафэсару Я. Тарасэвічу[16], і гэты малады беларускі прафэсар і паэт дзякуе за выбар, далей кажучы па-ангельску прамову аб ідэалістычнай аснове нацыянальнага адраджэньня і шляхох да яго беларускага народу. Прамова была гучна прывітана публікаю; музыка выпаўніла амэрыканскі (“Стар спэнгэр бэнэр”[17]) і беларускі (“Адвеку мы спалі”[18]) гімны.

---

[15] **Міхал Урбановіч** (1890—1973), каталіцкі сьвятар. У 1910 г. паступіў у Варшаўскую каталіцкую сэмінарыю. 24.01.1915 быў рукапакладзены на сьвятара. Служыў у Віленскай япархіі. У 1922 г. уступіў у ордэн марыянаў. У 1924 г. выехаў у ЗША. Выкладаў у каталіцкай сэмінарыі каля Чыкага. Ва Ўнівэрсытэце імя І. Лаёлы абараніў магістарскую дысэртацыю па багаслоўі. У 1926 г. прыняў манаства. Служыў у касьцёле Вастрабрамскай Божай Маці ў Чыкага. Дзякуючы веданьню літоўскай мовы шмат працаваў для мясцовых летувісаў. Быў знаёмы зь Янам Тарасэвічам, удзельнічаў у жыцьці беларускай грамады ў Чыкага. У 1944—1950 гг. зноў навучаўся ва Ўнівэрсытэце імя І. Лаёлы, атрымаў ступень магістра псыхалёгіі. Друкаваўся ў беларускіх эміграцыйных пэрыёдыках “Божым Шляхам”, “Зьніч” і інш. Пахаваны на могілках Сьв. Казіміра ў Чыкага.

[16] **Ян Тарасэвіч** (1892—1978), рэлігійны й грамадзкі дзеяч. З 1911 г. жыў у ЗША. У 1917—1918 гг. вывучаў тэалёгію ў Манрэалі (Канада), у 1925 г. скончыў Фрыбурскі каталіцкі ўнівэрсытэт у Швайцарыі. У 1923 г. быў рукапакладзены на сьвятара. У 1926 г. выкладаў у сэмінарыі ў Нью-Ёрку. З 1937 г. працаваў у кляштары ў Лайле каля Чыкага. У 1941 г. стаў адным з заснавальнікаў і старшынём (да 1948 г.) Беларуска-Амэрыканскай нацыянальнай рады ў Чыкага. Аўтар шэрагу філязофска-тэалягічных трактатаў, друкаваўся на старонках міжваенных заходнебеларускіх і паваенных эміграцыйных рэлігійных пэрыёдыкаў. Пахаваны на могілках кляштара Сьв. Пракопа ў Лайле (Ілінойс).

[17] ***“The Star-Spangled Banner”*** — нацыянальны гімн ЗША.

[18] ***“Адвеку мы спалі”*** — песьня на словы Аляксандра Мікульчыка, якую называлі “Беларускай Марсельезай” і якая ў 1920-я гг. была фактычным гімнам БССР і беларускага руху ў замежжы.

Далей прамаўляюць: консуль Літоўскае Рэспублікі А. Калвайтіс, консуль Латвійскае Рэспублікі І. Ульман, галава Украінскага Грамадзкага Клюбу др. Сімэнс, ад Карпатарусаў а. Кавальчык, Язэп Варонка (па-беларуску), рэдактар "Науенос" П. Грыгайтіс (па-літоўску), атаман "Січаў" Амэрыкі і Канады др. Грыневіцкі (па-ўкраінску) і адвакат Кодзіс (па-ангельску).

У перарывах паміж прамовамі ідзе концэрт: солё на роялі выконвае таленавітая піяністка жонка латвійскага консуля гр-ка І. Ульман, выступаюць артыстыя: П. Савельеў (тэнор) і А. Грышаеў (барытон), вядомая сьпявачка графіня М. Кучкоўская-Сікора (сопрано). У канцы праф. Тарасэвіч дзякуе пп. консулям, ганаровым гасьцём, аратарам, артыстым і чытае прывітальныя тэлеграмы, атрыманыя Бел[арускім] Нац[ыянальным] Саюзам. Іх шмат.

Пасьля прачытаньня прывітаньняў на салі зьяўляецца вядомы віолёнчэлісты Францішак Сікора і сустрэнуты громам воплескаў выконвае трудную для віолёнчэлі "Вэнгэрскую рапсодыю"[19]. Банкет канчаецца а 1-ай гадзіне ўночы.

26 сакавіка амэрыканскія газэты апублікавалі пісьмо падзякі беларусаў гасьцём, наведаўшым банкет, ладжаны імі ў вялікай Заатлянтычнай Рэспубліцы ў гістарычны дзень абвешчаньня поўнай свабоды Беларусі. Пісьмо падпісана праф. Янкай Тарасэвічам, Паўлам Чопкай, Антонам Змагаром і Язэпам Варонкаю, быўшым Старшынёю Першага Беларускага Ўраду — Народнага Сакратарыяту 1918 г.

Прысутны

## З жыцьця беларусаў у штаце Мічыган[20]

*Ад нашага ўласнага карэспандэнта з Амэрыкі*

У штаце Мічыган беларусаў знаходзіцца паважны лік — прыблізна іх тут налічваецца да 20 тысяч. Жывуць яны галоўным чынам у м. Дэтройт і Гранд Рапідс — гэта самыя галоўныя цэнтры прамысловасьці Мічыгана.

Горад Дэтройт налічвае 993 678 жыхароў. Мае Ўнівэрсытэт і славіцца на ўсю Амэрыку сваімі Аўтамабільнымі хвабрыкамі. Тут знаходзяцца і галоўныя фабрыкі знакамітага Гэнрі Форда, сусьветнага аўтамабільнага караля, найбагачшага чалавека ў сьвеці. Аўтамабільны завод Форда як па сваім разьмеру, так і па тэмпу разьвіцьця займае сярод прамысловых прадпрыемств першае месца ў Злучаных Штатах

[19] **"Вэнгерская рапсодыя"** — адзін з найбольш вядомых твораў вугорскага кампазытара Фэрэнцы Ліста (1811—1886).

[20] Публікуецца паводле: Беларускі Звон. № 1. 24 лютага 1923. С. 2.

Амэрыкі. Да вайны фабрыка Форда выпускала больш як 1000 аўтамабіляў у дзень — цяпержа 4000, г. зн. каля 1500 000 у год. Не так даўно лет 25 таму назад Форд быў бедным звычайным слесарам — а цяпер па багацьцю яму няма роўнага чалавека ў сьвеці.

У фабрыцы Форда працуе многа нашых беларусаў. Зарабляюць яны тут надта добра, найменшая плата 5 даляраў у дзень для непрафэсыянальнага работніка, а найбольшая 10—15 за 8 гадзінную дзённую працу.

Трэба адзначыць, што Форд за ўсіх фабрыкантаў славіцца тым, што найбольш плаціць работнікам. Трэба толькі Форду аб'явіць у газэтах, што яму патрэбны рабочыя сілы — як з усіх Злучаных Штатаў пасьпяшаць ня толькі тысячы, але і дзясяткамі тысяч рабочыя, каб толькі ў яго атрымаць "джаб" — работу — а гэта роўназначна, што найсьці залаты скарб.

Але ня толькі ў Форда працуюць беларускія эмігранты, многія маюць добрую работу і ў іншых фабрыках, як, напрыклад, "Бады Фініш Компані" — дзе таксама маюць добры заробак.

Другія зноў, каля вырубкі вядомых Мічыганскіх лясоў — тут маюць 100 долароў у месяц і жыцьцё. Трэцяя катэгорыя зноў аседлілася на фармах (калёніях), яны працуюць толькі вясною, летам і восеньню — а на зіму кожны спяшаецца зноў да фабрыкі.

Што тычыцца Гранд Рапідс, дык ён славіцца сваімі сталярнымі фабрыкамі, якіх тут налічваецца 250. Ён па характву і па лагоднасьці клімату займае адно з найлепшых мейсц. Тут няма тае ўдушлівае атмасфэры Чыкага і Нью Ёрка.

Заробкі тут таксама добрыя. Сталяр атрымае ад 35 да 45 дал[яраў] у тыдзень за 9 гадзінную работу. Такую больш-менш суму мае кажны прафэсыянальны спэцыяліст. А работнік, які ня знае сталярскай працы, мае — нежанаты 20—21 дал[яр], жанаты дастае 21.50—25 дал[яраў] у тыдзень, выплата заўсягды бывае толькі тыднева.

Некаторыя працуюць на жалезнай дарозе і ў жалезнадарожных майстэрнях, тут плата рожніцца, найменшая 30—32, найбольшая 40 дал[яраў].

Шмат беларусаў занялося і гандлем, маюць рэстараны, калоніяльныя таргоўлі, мясныя. Гэта кляса беларускіх біжэсістаў (гандляроў) самая заможная. Майнасьць кожнага амаль ацэніваецца ад 12 тысяч да 30 тысяч долараў.

Беларус, які аставіў сваю Бацькаўшчыну і жывучы там у страшным соцыяльным заняпадзе, калі ў хаце сваёй ня меў часам ані солі, ані крупы — тут сапраўды для яго рай. Дзякуючы савакупнасьці прыроднай ашчаднасьці і надзвычайнай працавітасьці ён у Амэрыцы прыйшоў у сілу гэтых прычын да дабрабыту. З усіх тут нашых эмігрантаў 90 % маюць свае дамы — у сярэднім маёмасьць кожнага ацэніваецца ад 4 тысяч да 6 тысяч даляраў, пры чым яшчэ маюць гатоўкі ў банках.

Так выглядае беларус па свайму сацыяльнаму становішчу ў штаце Мічыган — мне ўдалося ўстанавіць, што беларусы тут з матэрыяльнага боку занімаюць першае мейсца сярод нашых эмігрантаў у Злучаных Штатах. Асабліва эўрапэйская вайна прычынілася да паляпшэньня быту эмігранта, бо ў гэты час заробкі былі дубэльтовыя.

У грамадзкай справе беларус адышоў на апошняе мейсца. Такому зьявішчу нельга дзівіцца.

Большая палавіна нашае эміграцыі ў Амэрыцы складалася з людзей, якія на Бацькаўшчыне ня атрымалі нават і пачатковай асьветы, а прытым з роднага краю выежджалі з забітым духоўным і нацыянальным пачуцьцём праз расейскую царскую ўладу, праваслаўную царкву і каталіцкі касьцёл. Аднак любоў да ўсяго роднага пылае ў грудзях беларусаў-эмігрантаў. І вось калі ў штаце Мічыган началася праца культурная і палітычная — наш эмігрант таксама прыняўся і да грамадскай справы. Сталі ўжо закладывацца гурткі і таварыства. Паявіліся беларускія газэты і літэратура. І беларускі адраджэнскі незалежніцкі рух усё больш і больш умацоўваецца.

Л. Ч.

*Падрыхтоўка да друку Лявона Юрэвіча.*
*Камэнтары Натальлі Гардзіенкі.*

***Аляксандар Горны***
*Гродна*

# "ІДЗЁМ ЎСЁ УПЯРОД І УПЯРОД…": ЛІСТАВАНЬНЕ АМЭРЫКАНСКІХ БЕЛАРУСАЎ З РАДАЙ БНР У 1923 г.[1]

Зараджэньне беларускай нацыянальна актыўнай дыяспары ў ЗША ў міжваенны пэрыяд зьяўляецца малавывучанай і прывабнай тэмай для сучаснага пакаленьня дасьледчыкаў эміграцыйнай гісторыі. Фармаваньне грамадзкіх структураў даваеннай беларускай эміграцыі ў ЗША адбывалася ў складаных умовах русыфікацыі й палянізацыі эмігрантаў, а таксама адсутнасьці значнай матэрыяльнай падтрымкі з боку мэтраполіі. Зьяўленьне беларускіх арганізацыяў у ЗША ва ўмовах, калі нацыянальная самасьвядомасьць эмігрантаў знаходзілася на нізкім узроўні, можна разглядаць як гістарычны фэномэн, які трэба дасьледаваць для разуменьня сучасных праблемаў існаваньня беларускай дыяспары на амэрыканскім кантынэнце.

На сёньняшні час найбольш грунтоўным дасьледаваньнем у гэтым накірунку застаецца кніга Вітаўта Кіпеля "Беларусы ў ЗША", выдадзеная ў 1993 г. і перавыдадзеная ў сэрыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" ў 2017 г..[2] Вялікай заслугай аўтара зьяўляецца ўвядзеньне ў навуковы зварот дакумэнтаў з амэрыканскіх архіваў і бібліятэк, выкарыстаньне пэрыядычных выданьняў эмігрантаў, фактычна недаступных для беларускіх гісторыкаў. Разам з тым у гэтым дасьледаваньні не былі выкарыстаныя матэрыялы з эўрапейскіх архіваў, і ў першую чаргу з прастораў былога СССР, дзе адклалася пэўная колькасьць дакумэнтаў, што адлюстроўваюць кантакты амэрыканскіх беларусаў зь беларускімі арганізацыямі й інстытуцыямі як у іншых краінах, гэтак і ў мэтраполіі. Менавіта на гэты корпус дакумэнтаў, які па-ранейшаму застаецца малавывучаным і неверыфікаваным, неабходна зьвярнуць увагу гісторыкаў, каб склеіць дзьве часткі адзінага навуковага пазла, прысьвечанага беларускай дыяспары ў ЗША ў міжваенны пэрыяд.

---

[1] Публікацыя падрыхтаваная ў рамках гранту Беларускага рэспубліканскага фонду фундамэнтальных дасьледаваньняў № Г17М-153 "Культурнае жыцьцё беларускай дыяспары ў краінах Эўропы й Амэрыкі ў міжваенны пэрыяд".

[2] Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША. Мінск, 1993. 348 с.

Значная частка эга-дакумэнтаў амэрыканскіх беларусаў, у першую чаргу іх ліставаньне, адклалася ў архіўных матэрыялах, зьвязаных са структурамі Беларускай Народнай Рэспублікі. У 1920-я гг. дзеячы БНР, маючы значныя фінансавыя праблемы, зьвярнулі ўвагу на беларускіх эмігрантаў за акіянам як на магчымасьць атрымаць дадатковую крыніцу фінансаваньня. Адмыслова дзеля гэтага ў ЗША былі накіраваныя першапачаткова Янка Чарапук, а пасьля адзін з дасьведчаных дзеячаў беларускага нацыянальнага руху Язэп Варонка. Адной з галоўных мэтаў іх дзейнасьці было наладжваньне трывалых кантактаў эміграцкага асяродзьдзя са структурамі БНР і пошук фінансавых сродкаў для беларускага нацыянальнага руху ў Старым Сьвеце. Менавіта гэтая тэма праходзіць чырвонай ніткай у надрукаваных нижэй лістах згаданых дзеячаў аб сваіх першых грамадзкіх кроках у ЗША.

Архівы БНР сёньня не складаюць адзінага корпусу дакумэнтаў і расьцярушаныя па розных архівасховішчах у некалькі краінах. Дакумэнты, прадстаўленыя ў гэтай публікацыі, захоўваюцца ў Дзяржаўным архіве Расейскай Фэдэрацыі і ўяўляюць зь сябе невялікую частку значнага масіву дакумэнтаў БНР, які ў міжваенны й ваенны пэрыяд захоўваўся ў Расейскім замежным архіве ў Празе ды быў сыстэматызаваны намаганьнямі Івана Ермачэнкі. Пасьля Другой сусьветнай вайны гэтыя дакумэнты разам з усім Расейскім замежным ахівам трапілі на захоўваньне ў Маскву.

Ніжэй публікуюцца чатыры лісты Янкі Чарапука з ЗША да міністра замежных справаў БНР Аляксандра Цьвікевіча, якія, хутчэй, можна назваць справаздачамі. У іх Чарапук апісаў тагачаснае становішча беларускай эміграцыі ў ЗША й акрэсьліў тыя мерапрыемствы, якія павінны былі б ажывіць нацыянальную сьвядомасьць сярод эмігрантаў ды стаць значным фактарам фінансавай дапамогі для ўраду БНР. Акрамя гэтага, публікуецца ліст Язэпа Варонкі аб пачатках яго грамадзкай дзейнасьці ў ЗША й паўнамоцтвы ад ўраду БНР, выдадзеныя гэтаму дзеячу для правядзеньня шэрагу мерапрыемстваў па актывізацыі грамадзкага жыцьця беларусаў у Амэрыцы. Дакумэнты друкуюцца ўпершыню з захаваньнем асаблівасьцяў мовы аўтараў.

Гэтая публікацыя дакумэнтаў Янкі Чарапука й Язэпа Варонкі шмат ў чым дапаўняе й працягвае ранейшую публікацыю лістоў Чарапука на старонках “Запісаў БІНіМ”, якія захоўваюцца сярод дакумэнтаў БНР у фондах літоўскіх архіваў[3].

3 S. S. Лісты Янкі Чарапука з Амэрыкі (1922—1923) // Запісы БІНіМ. № 21. 1994. С. 125—137.

## № 1
## Ліст Янкі Чарапука да Аляксандра Цьвікевіча ад 12 студзеня 1923 г.[4]

*John Charapuk*
*585 Stocking ave. N.W.*
*Grand Rapids, Mich.*
*United Stats of America.*
12. I. 23
№ 3 = не для друку =

Дарагі Міністр:

Ваш ліст ад 23 сьнежня 1922 мною атрымляны. Прымеце сэрдэчную падзяку за 1-шы нумар бюльлетэня Ц. П.-Б. Прашу Вас выслаць мне Вашых кніжак 100 экзэмпляраў “Беларусь”[5], 200 экзэмпляроў “Карта Беларусі” і 200 штук аткрытак “Ніхай жыве Беларуская Народная Рэспубліка”. Гэты матэр’ял мне патрэбны для нашай нацыанальнай агітацыі ў Амэрыцы. Грошы, якія будуць выручаны ад прадажы кніжак, карт і аткрытак — будуць Вам прысланы.

Мая тут праца с кожным днём павелічываецца. У Гранд Рапідс зарганізавана Беларускае Таварыства. У данны мамэнт распачаў крокі да зарганізаваньня Цэнтральнай Беларускай Арганізацыі ў Злучаных Штатах і скліканьня Беларускага З’езду. Мейсца і дата скліканьня яшчэ ня ўстаноўлены. Калі ўжо сарганізуецца паважная грамадзкая установа і нацыанальная агітацыя дойдзе да свайго кульмінацыйнаго пункту — тагды прыступлю да збору акцый на адкрыцьцё беларускіх фабрык у Заходняй Беларусі (сталярскай, ткацкай, цэгэльні). Цяпер праца вядзецца толькі сярод беларускіх эмігрантаў. Бэзумоўна яна ня можа агранічвацца толькі на сваіх, нам патрэбна зьвярнуць увагу на амерыканскае грамадзянство, пакуль-што, дзякуючы нязнаёмасьці мовы трудна што небудзь зрабіць у гэтым напрамку. Часова знаходжуся у Гранд Рапідс, але на будучую зіму прыдзецца пераехаць у *New York* ці *Chicago* ужо на сталы пабыт.

Стварыўшы паважную арганізацыю — можна будзе атрымаць вялікі крэдыт, а таксама праз сэнатараў і конгрэсманаў дабіцца, каб Амэрыка сказала свае слова ў абарону Беларусі. Вы ж добра ведаеце, як з Амэрыкай лічацца ўсе дзяржавы. Мушу адзначыць, што сюды патрэбна эміграцыя беларускі інтэлектуальных сіл — а таму таксама робяцца ўсе

---

[4] Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі (ДАРФ). Ф. 5875. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 45, 53.

[5] Маецца на ўвазе брашура Аляксандра Цьвікевіча “Беларусь: политический очерк”, выдадзеная ў Бэрліне ў 1919 г. Надзвычайнай дыпляматычнай місіяй БНР.

захады. Вось у яком напрамку і шляху грамадзкай працы — я раблю ўсё тое, як толькі магу.

Ваш Я. Чарапук

## № 2
## Ліст Янкі Чарапука да Аляксандра Цьвікевіча ад 24 студзеня 1923 г.[6]

*John Charapuk*
*585 Stocking ave. N.W.*
*Grand Rapids, Mich.*
*United Stats of America.*
24. I. 23

Яго Дастойнасьці
Пану Міністру Заграночных
Спраў Б. Н.Р. Др. А. Цвікевічу

Дарагі Міністр:

Хачу Вас паінфармаваць аб маёй чынасьці:

1. Удалося ўвайсьці у кантакт з украінскімі дзеячамі групы Дра Петрушевіча[7] і з Украінскім Нацыанальным Камітэтам у Нью-Іорку. Спадзеюся атрымаць ад іх часовую ўзаімаабразную матэрыяльную пазычку. Ці калі прыдасца Ваш уплыў — магу разлічываць на Вас??

2. Пазнаеміўся з некаторымі профэссарамі Унівэрсытэтаў расейцам і палякамі з мэтай выкарыстаць іх у дапамозе беларускім студэнтам як на Бацькаўшчыне, так і у прыездзе некаторых для навукі у Амэрыку. Аб прыездзі сюды нашых студэнтаў я ужо пісаў многім нашым арганізацыям Віленскім і Латгальскім. Але яны маўчаць. Сюды маглі бы сьмела прыехаць двох студэнтаў, праца для іх знайшлася бы, хаця і фізычная, але лёгкая і добра аплачываемая. Трэба зьвярнуцца да Балтыцка-Амэрыканскай Лініі ў выдачы безграшовых [...] картаў для студэнтаў на экскурсію у Амэрыку туды і назад II кл. — Кампанія ня адмовіць — бо гэтак скарысталі ўжо латышы і эстонцы, факты мне ведамы. Прыбыцьцё сюды студэнтаў на навуку, пра год падвучыўшыся мовы маглі бы сьмела слухаць выклады у Унівэрсытэце, прычынілося бы да павелічваньня нашага інтэлігэнтнага ліку і да атрыманьня асьветы. Консул візу дасьць зараз жа у таком выпадку, а яны тут асталіся бы, ужо з месцовымі ўладамі дасца рады.

[6] ДАРФ. Ф. 5875. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 49, 54—56.

[7] **Яўген Петрушэвіч** (1863—1940), украінскі грамадзка-палітычны дзеяч, юрыст. У 1918—1919 гг. прэзыдэнт Заходнеўкраінскай Народнай Рэспублікі (ЗУНР). З 1920 г. кіраваў структурамі ЗУНР на эміграцыі.

3. Стварыўся Камітэт па скліканьню з’езда на восень у Чыкаго. Спадзеюся мнагалюднага прыбыцьця дэлегатаў з розных Штатоў і Канады.

4. Значэньне такога з’езду для нашай справы незалежніцкай будзе вялікае.

5. Маю на мэце зарганізаваць паездку з нашых эмігрантаў на Беларусь у ліку 50—100 чэлавек каб яны сапраўды пазнаеміліся з праўдзівым становішчам на Бацькаўшчыне і праз нашыя арганізацыі і налепшае спатканьне запаліць у іх сэрдцах беларускі нацыанальны агонь, тады калі яны назад вярнуцца ўжо будзем мець у іх асобе добрых змаганьнікаў.

6. Стараюся каля сябе згрупаваць нашых беларусаў (нежанатых перэважна), якія маюць грошы, каб іх адправіць у Віленшчыну і там на роўных акцыях збудаваць фабрыку і пусьціць яе у рух. Такіх ахвотнікаў ужо ёсьць каля 8 ч. з капіталам 10—16 тысяч дол.

7. Мушу паведаміць, што праца мая знаходзіцца у надта цяжкіх варунках, тлумачыцца гэта тым, што нашая эміграцыя надта здэнацыаналізавана. Каталікі лічаць сябе палякамі — праваслаўныя расейцамі, немаль 95 % нашых выхадцаў забылося мовы роднай, адсутнасьць сярод іх інтэлігэнтных сіл, вялікая цемнота і няпісьменасьць — ўсё гэта з’яўляецца тым, што трэба палажыць многа труду і энэргіі, каб з гэтай массы зрабіць зужытэчны і карысны матэр’ял для нашай справы.

Зрабеце належны загад у хучэйшай прысылцы мне літэратуры для агітацыі, асабліва у расейскай і польскай мове. Прычым павінна быць добрая ўпакоўка, бо я недаўна з Вільні павінен быў атрымаць кнігі, ці газэты — сам ня ведаю, але мне пачтальён прынес толькі адзін адрэс і цэлую карзіну польскіх пачт[овых] марак.

Прымеце запэўненьне у вялікай пашане

Ваш Я. Чарапук

P. S. Будзьце ласкавыя перэдаць пану Жытлоўскаму[8] ніхай прышле ён мне адрэсы жыдоўскіх дзеячоў, з якімі я мог бы уступіць у цесную сувязь, а таксамо, калі хто з беларусоў мае знаёмых у Амэрыцы, то ніхай прышле іх адрэсы.

[8] **Самуіл Жытлоўскі** (1870—?), габрэйскі грамадзка-палітычны дзеяч, міністар па справах нацыянальных меншасьцяў ва ўрадзе БНР у 1921—1923 гг.

## № 3
## Ліст Янкі Чарапука да Аляксандра Цьвікевіча ад 26 сакавіка 1923 г.[9]

*Chicago, Ill.*
26.III.23

Дарагі Таварыш:-

Пішу да Вас з Чыкага, дзе ўжо знаходжуся целы тыдзень. Меў 24 сакавіка лекцыю на тэму “Палітычна-Нацыянальнае Становішча Беларусі”. Слухачоў было каля 400. Лекцыя зрабіла добрае уражэньне на ўсіх, усе настрояны процiў палякаў і іх гвалту над Заходняй Беларусі. Хацелі мне нанесьці удар супроць усяго беларускага манархісты і анархісты — але я іх так разбіў пад адабрэньне усей залі, што яны пэўне больш ніколі ня падымуць галаву.

Грамадзянство сустрэнуло мяне прыхільна і сардэчна. 1) Сарганізаваўся Камітэт 2) адбудзецца массавы мітынг пратэсту супраціў Польшчы 3) зроблены крокі да скліканьня з’езду. Наогул рух пачынаецца шырыцца ўсё больш і больш. Звязаўся з газетаю “Свабодная Россія”[10], якая памяшчае ўсё, што толькі ёй пішу. Прысылайце мне як найбольш інфармацыі на стары адрас.

Заняў я тутака апалітычнае становішча і працую як Антон Змагар, на восень пераеду на стала да Чыкаго. І думаю зімою можна будзе ужо даволі солідна матэрыяльна памагчы на Бацькаўшчыне. Але ўпярод трэба стварыць добрую арганізацыю. Цяпер зноў вяртаюся да *Grand Rapids*, але хутка тут буду зноў, беларусы нават [...] [...] згадзіліся, каб я прыехаў 23.IV.23 і зноў прачытаў другую лекцыю. Ітак па-малу, але ідзём ўсё упярод і упярод...

Ваш Я. Чарапук

---

[9] ДАРФ. Ф. 5875. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 57—58.

[10] ***“Свободная Россия”*** — штодзённая газэта рускай эмграцыі ў ЗША, выдавалася ў Чыкага ў 1917—1923 гг.

## № 4
## Ліст Янкі Чарапука да Аляксандра Цьвікевіча ад 2 красавіка 1923 г.[11]

*John Charapuk*
*585 Stocking ave. N.W.*
*Grand Rapids, Mich.*
*U.S.A.*
2 IV. 23

Міністру загранічных спраў Б.Н.Р.
Др. А. Цвікевіч Коўна

Дарагі Таварышу:-

Я вельмі здзіўляны, чаму Вы нічога мне ня пішэце, а нават і ня адказываеце на тыя мае інфармацыйныя лісты, якія высылаў да Вас. Усё ж такі ня гледзючы на ўсё гэта, хачу вас гэтым пісьмом інфармаваць аб беларускім руху ў Амэрыцы. 17 сакавіка г. г. я быў у м. Чыкаго і знаёміўся там з становішчам беларускай справы. Зтуль мною вынесяна самае цьвердае перакананьне, што Чыкаго павінно стаць цэнтрам беларускасьці у Амэрыцы. Тут беларусаў налічваецца каля 35—40 тысяч праваслаўных, столькіж і каталікаў. Рух наш спачатку павінен апірацца пераважна на праваслаўных беларусах. Грунт для працы тут ёсць самы выдатны, як ні ўводным другім горадзе. Прычынамі да гэтага з’яўляецца тое, што ў Чыкага абсолютна няма інтэлігентных маскоўскіх сіл. І вось гэта на руку нам. Беларусы якія тут зарганізаваны пры “Георгіевскім брацтве”, “Уладзімірскім” і “Народным Таварыстве”, пры умелай і реальнай беларускай агітацыі і палітыцы — ўсе адразу прымкнулі бы да беларускага руху, для гэтай працы патрэбен тутака —праваслаўны беларускі дзеяч. Такога чалавека Вы мусіце падумаць і прыслаць сюды як найхучэй. Ён таксама павінен быць добрым літэратарам і здольным рэдактарам. Таму, што тут ёсьць тыпографія. Яна знаходзіцца ў руках “Георгіеўскага Брацтва” (у яком ўсе сябры беларусы праваслаўныя), гэтая тыпаграфія цяпер ацэніваецца на 75 тысяч дол[араў] і даўгу на ёй няма, ані цэнта. Газэту “Свободная Россия” яку Вам паслаў ужо, можна было бы захапіць ў свае рукі разам з тыпографіяй.

На гэтую рэч трэба звярнуць увагу Вам там і прыступіць да яе рэалізацыі, як мага хучэй. Асобай на гэту справу мог бы быць Варонко альбо Рак-Міхайлоўскі[12], паводлуг маёй думкі, але Вам ужо там лепей відаць.

Справу з паперамі (*affidavit*) я бяру на сябе урэгуляваць. Вам трэба дабыць грошай у Літоўскага Ураду найменш 500 дол[араў] ці 1000

[11] ДАРФ. Ф. 5875. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 50—52.

[12] **Сымон Рак-Міхайлоўскі** (1885—1938), грамадзка-палітычны дзеяч, публіцыст, пэдагог, дзеяч Беларускай Народнай Рэспублікі. У 1922—1927 гг. пасол польскага сейму І скліканьня.

дол[араў], альбо ад Украінцаў тутака па такім адрэсу: 1) *Diplomatic Representative of Galicia, Mutual Fire Ins. Bldg, Washington, D.C.* 2) Украінскі Народны Саюз, *83 Grand [...] Gersey City, N.G.* — праз ½ года, а найпазней праз год грошы можна было бы звярнуць нават і пад 6 %.

Я грошай дабыць ня магу, бо сам сваей сямейнаю справаю цяпер так зруйнованы, што толькі праз 1 год змагу стаць на ногі.

Усё вышэйпададзянае мае вялікае значэньне для нашай справы і пакуль яшчэ ня поздна рабеце стараньня і зараз паведамеце мяне.

24-га сакавіка я меў лекцыю "Палітычна Нацыянальнае становішчо Беларусі". Слухачоў было каля 400. На днях арганізуецца сход пратэсту супраць пастановы Рады паслоў ад 14 сак[авіка]. У хуткім часе і зноў еду да Чыкаго, дзе буду чытаць лекцыю. Прысылайце стацьці аб беларускай справе ў расейскай мове для памешчаньня у газ. "Своб[одная] Россия".

Ваш Я. Чарапук

## № 5
## Паўнамоцтва, выдадзеныя Радай БНР для Я. Воронкі[13]

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі
28 жніўня 1923 г.
№ 242

Паўнамоцтва

Згодна пастанове ад 25 жніўня 1923 года паказчык гэтаго грамадзянін Язэп Варонка, упоўнамачваецца:

1. Быць надзвычайным упаунамочным дэлегатам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі у Паўночна-Амерыканскіх Злучаных Штатах і ў Канадзе і ва ўсіх адпаведных выпадках офіцыяльна рэпрэзэнтаваць Урад[14].
2. У згодзе з мейсцовымі Амэрыканскімі і Канадзскімі арганізацыямі, перавесьці рэгістрацыю сьвядомага беларускаго элементу ў мэтах скіраваньня яго на актыўную дапамогу Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі у яе працы.
3. Перавесьці справу самаападаткаваньня беларускай эміграцыі Амэрыкі і Канады на карысьць адраджэньня Беларусі.
4. Перавесьці там-жа дзержауную пазыку "Адраджэньня Беларусі" згодна выданым яму асобным паунамоччам і інструкцыям.

[Пячатка] Старшыня Рады Рэспублікі
За Сэкрэтара Нам. Старшыні Рады Рэспублікі

[13] ДАРФ. Ф. 5875. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 5.

[14] Дапісана алоўкам "*Раду БНР*".

## № 6
## Ліст Язэпа Варонкі да сяброў Рады БНР ад 8 кастрычніка 1923 г.[15]

*Chicago,* 8 кастр. 23

Дарагія таварышы!

Дапаўняю свой ліст ад 4.X. Маю ўжо больш матэрыялаў аб нашых тут. 5.X. быў на агульным сходзе Б.Н.Т. (Беларускага Народнага Таварыства, а як яны гавораць самі — “Белорусского Народного Общества”[16]) — выпадкова. Сход быў прызначаны [да] арганізацыі “Белорусского бала” 7.X. Выступіў там з колькімі прамовамі, датычных дня і характару майго першаго выступленьня. У пачатку вітаў іх кароткім словам. Частка пляскала, другая прыняла моўчкі, а адзін — якісьці віленец Семашка (sic!) чалавек лет пад 40, вельмі крыклівы, дурны і анархічны (яго тут вельмі палюбяць усе, нават камуністы) нават аблаяў Чарапука і мяне (адказваючы на мову Ч[арапука]), назваўшы абодвух “панічамі” і закрычаўшы — “*Як прыехалі, так і варочайцеся! Далоў навуку і вучоных! Мы самі вучоныя! Да здравствует Белороссийская Россия! Да здравствует нашыя узники в тюрьмах как красных, так и белых*”. І т. д. і т. д. За нім выступіў добры беларус Бакалец, які злаяў Семашку (між іншым Семашка хваліўся, што мала не быў разстраляны пры царскім урадзе) за хамскія адносіны да гасцей-землякоў і навукі і заважыў, калі-б Семашку ў свой час і разстралялі, то ніхто бы аб гэтым не гараваў! Вось якія тут узаемаадносіны!!! Пастанавілі не раней 14.X склікаць массовыя мітынгі на якіх я буду выступаць з дакладам прамовай “Лёс Беларусі і сучаснае палажэньне на ўсходзе Эўропы (прыблізна!)”. А пакуль […] каб я адпачыў.

Ўчора, 7.X. быў гэты беларускі бал (праграму пасылаю), на якім між іншым выступіў Чарапук (тут ён вядомы больш як “Джон”, альбо — Змагар) аба мне, што хутка выступіць і т. д. такі то, які ўжо 5 дзён сярод нас. Кляскалі. Выступіў ізноў і Семашка, які крычаў *“Да здравствует Белороссия! Да здравствует наука! Товарищи, уважайте науку! При помощи ее мы освободимся от власти капитализма и разбойников! Да здравствует женщина, которая должна придти на помощь освобождению Белоруссии! Долой семейные узы!”* і т. д. Публіка вельмі сьмяялася!

---

[15] ДАРФ. Ф. 5875. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 13—17.

[16] **Беларускія народныя таварыствы** — грамадзкія арганізацыі беларускай эміграцыі, створаныя ў розных гарадах ЗША ў 1920-я гг. пракамуністычнымі актывістамі.

Пазнаёміўся з большым лікам людзей: не-камуністы ўсе на нашай нацыянальнай старане (аб Урадзе[17] пакуль ні слова!). Камуністы на ½ прыхільны. Яны ўсе блізка зьбіты з толку ранейшымі агітатарамі чужынцамі вайнштэйнаўскага тыпу. Частка іх слухае мяне паддаківаючы і, як дзеці, ходзіць за мною па пятам просіць расказаць яшчэ што-небудзь [...] аб Беларусі. Як я і думаў, тут настрой такі, як у кастрычніку — лістападзе 1917 г. у Менску! Нашыя супраціўнікі ні маюць інтэлігентаў зусім, таму ў нас і больш шансаў раскрыць ім вочы. Але гэта і горэй, бо неінтэлігентныя супраціўнікі вельмі абразлівы і страшэнна чулы да вострага чы наагул незнаёмага ім слова. Сягоння я ўжо пачынаю [...] да грошы. Ўчора быў баль і ёсьць сякі-такі даход. Яшчэ раз папяраджаю не пісаць аба мне, як м......у[18], толькі як дэлегаце і не Ураду, а Рады. Прашу, як найхучэй, прыслаць мне такое паўнамочча ад Рады (за подпісам Пятра[19] і Зах[20].), якое я маю ад Ураду за № 230 ад 29.VIII.23, а таксама ад Нац. Сувязі такое, як мае Чарапук ад 8.IV.22 за № 145. Апроч таго прашу мне пільна прыслаць звычайны пашпарт за тым жа нумэрам № 12/225 ад 6 жніўня 1923 г. толькі як Дэлегату не больш. Калі Крэч[эўскі] выехаў, ніхай падпіша Зах[арка] і за пісара Вальковіч[21].

Ну пакуль-што бывайце здаровы. Заўтра можа напішу яшчэ, але вы не чакайце, бо калі вы будзеце адказваць неакуратна і не прышлеце ўсяго, аб чым прашу, за добрыя вынікі я не гварантую! Цісну ўсім рукі. Пішыце. Язэп.

---

[17] Маецца на ўвазе ўрад БНР.

[18] Так у тэксце. Маецца на ўвазе “міністру”.

[19] **Пётра Крэчэўскі** (1879—1928), грамадзка-палітычны дзеяч, публіцыст, у 1919—1928 гг. старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

[20] **Васіль Захарка** (1877—1943), грамадзка-палітычны дзеяч, у 1918—1919 і 1923—1925 гг. міністар фінансаў БНР, з 1928 да 1943 г. прэзыдэнт Рады БНР.

[21] **Аляксандар Валькові́ч** (1892—1937), грамадзка-палітычны дзеяч, у 1923 г. загадчык справаў ураду БНР.

# ПАРАФІЯЛЬНЫЯ СЬПІСЫ БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ СЬВ. ЮР'Я Ў ЧЫКАГА

**(з архіву Міколы Латушкіна)**

*Рэлігійнае жыцьцё эміграцыі наогул і амэрыканскай у прыватнасьці застаецца па-ранейшаму маладасьледаванай тэмай. Калі пра беларускія цэрквы ў Нью-Ёрку й Нью-Джэрзі інфармацыя для дасьледчыкаў больш даступная й праз адпаведныя своечасовыя юбілейныя парафіяльныя выданьні, якія можна знайсьці ў бібліятэках, і дзякуючы некаторым манаграфіям, дзе згадваюцца тыя парафіі, то зьвесткі пра беларусаў у Чыкага застаюцца сёньня надзвычай фрагмэнтарныя. Тым каштоўнейшыя тыя новыя дакумэнты, што выяўляюцца ў архіўных зборах. На старонках "Запісаў" мы працягваем іх публікаваць з думкаю пра рэлігійную гісторыю эміграцыі, якая некалі будзе напісаная.*

*Прадстаўленыя ніжэй сьпісы зь Беларускай праваслаўнай царквы Сьв. Юр'я ў Чыкага былі складзеныя пры канцы 1990-х гг. доўгачасовым сакратаром парафіі Міколам Латушкіным і перададзеныя ў БІНіМ, разам з дакумэнтамі якога апынуліся сёньня ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва ў Менску.*

*Гэтыя сьпісы цікавыя тым, што адлюстроўваюць своеасаблівае чалавечае вымярэньне гісторыі парафіі. Пералік усіх сьвятароў і розных "пасадовых асобаў" з пазнакамі часу выкананьня імі сваіх абавязкаў дазваляе ўдакладніць адпаведныя біяграмы. Асабліва гэта датычыць паслужных зьвестак настаяцеляў царквы, прыкладам Уладзімера Фінькоўскага, Алега Мірановіча, Міхася Мігая, Язэпа Строка. Дадаюцца асобныя рысы і да біяграфіяў Міколы Дзямідава, Васіля Пунтуса й іншых, дый самога Міколы Латушкіна. Сьпіс шараговых вернікаў (у большасьці з датамі жыцьця) таксама цікавы з гледзішча зьвестак пра такіх дзеячаў, як Іван Касяк, Радаслаў Астроўскі і інш., іх прыналежнасьці да парафіі. Ён жа дае магчымасьць казаць пра пэўныя колькасныя і дэмаграфічныя характарыстыкі паствы. Каштоўны апошні дакумэнт і для тых, хто будзе шукаць месцы пахаваньня чыкагскіх беларусаў, — маючы прозьвішчы й гады жыцьця гэта рабіць значна прасьцей.*

*Пры публікацыі сьпісаў мы захавалі асаблівасьці арыгінальнага напісаньня прозьвішчаў і датаў, выправілі толькі тэхнічныя памылкі ў нумарацыі пазыцыяў.*

***

*St. George Byelorussian Orthodox Church*
*1500 North Maplewood Avenue*
*Chicago, Illinois 60622*

За 40-гадовы пэрыяд часу 1958—1998 гг.
у парафіі служылі настаяцелямі:

1. арх. Уладзімір Фіньковскі (1958—1959)
2. а. Леў Парандоўскі (1959—1960)
3. а. Міхась Мігай (1960—1963)
4. протоіерэй Ілья Нагірняк (1963—1963)
5. протоіерэй а. Алег Мірановіч (1963—1977)
6. а. Леў Астроўскі (1977—1978)
7. архімандрыт Строк (1978—1980)
8. а. іераманах Санчык-Варнава (1980 да 25 сьнежня 1984)
9. а. Анатолі Сегень (лістапад 1, 1984 — верасень 9, 1986)
10. а. Міандрак Антіч (кастрычнік 1986 — май 1987)
11. а. Вячаслаў Ільчук (май 10, 1987 — жнівень 8, 1988)
12. а. Канстанцін Бандарук (9-га 111988—2-га кастрычн. 1991)
13. а. Міраслаў Кулік (2-га кастр. 1991 да 10—11—1993)
14. іераманах Якаў Піруга (10—11—1993 да 6—5—1994)
15. а. Міандрак Антіч (чэрвень 21994 да 1 сьнежня 1994 г.)
16. а. протоіерэй Башко (11-га сьнежня 1994 г. — ..)

Былі старшынямі парафіяльнай управы:

1. Новік Кастусь (1957—1958)
2. Даніла Шфэфэль (1958—1964)
3. Панкевіч Іван (1965—1966)
4. Глеб Калтаноўскі (1966—1977)
5. Васіль Пунтус (1977—1978)
6. Іван Дімідік (1978—1985)
7. Павел Агалец (1985 да 23-га кастрычніка 1988 г.)
8. Уладзімір Яканюк (10—28—1988 да 24-га лютага 1991 г.)
9. Аляксандар Шышко (15-га сакавіка 1992 г. да 15-га мая 1994)
10. Міхась Каленік (15-га мая 1994—20-га кастрычніка 1998 г.)
11. Юрка Калінік (1998 г. 20 кастр. — ..)

Былі скарбнікамі парафіі:

1. Віктар Фешчанка (1957—1959)
2. Міхась Дубінін (1959—1960)
3. Флорыян Радзюк (1961—1963)
4. Павел Брушкевіч (1963—1967)
5. Анатолі Новік (1967—1992)

6. Анна Осейчек (6—21—92—5—24—94)
7. Пётар Нягода (5—24—94 — студзень 1999 г.)

Былі сакратарамі парафіяльнай управы:

1. 1957—1958 — Мікалай Дзямідаў
2. 1958—1968 — Мікалай Латушкін
3. 1968—1984 — Пятро Нягода
4. 1984—1999 — Мікалай Латушкін (ад 5—24—84 да 2—28—99)

Былі рэгэнтамі парафіяльнага хору:

1. Юрчанка Аляксандар (1957—1965)
2. Усевалад Барышкевіч (1965—1998)
3. Уладзімір Вераб'ёў (1998 — ..)

Узначальвалі парафіяльнае сястрыцтва:

1. Петрык Анна (1957—1960)
2. Ліда Шфэфэль (1960—1965)
3. Марыя Каленік (1965 — ..)

Былі парафіяльнымі старастамі:

1. Мікола Дзямідаў
2. Іван Багдановіч
3. Іван Зубенка
4. Іван Рагалевіч
5. Афанасі Глаўчоў
6. Кастусь Пуп
7. Панкевіч Іван

*Падана паводле парафіяльнага архіва*
*быўшым Сакратаром Параф. Управы М. Латушкіным*

***

Сьпісак адышоўшых у вечнасьць парафіянаў
(за ўпакой рабоў Божых)

1. Іван Дімідзік (нар. 10-га мая 1910 г., памёр 29-га сьнежня 1989 г.)
2. Іван Касяк[1] (2-га лістапада 1909—16-га сакав.1989 г.)
3. Ольга Дзімітранка (10 лістапада 1936 г. — 3-га мая 1994 г.)
4. Іван Захаркевіч (10-га лістап. 1905—29-га жнівеня 1971)
5. Александра Багдановіч (2 лістап. 1909 г. — 20-га ліпен. 1989 г.)
6. Марыя Папоў (7-га ліпеня 1902—19 лістап. 1987 г.)

[1] Іван Касяк ад 1978 г. жыў у Рывэр-Форэсьце (штат Ілінойс).

7. Люба Варэніч (.. — 21-га лютага 1989)
8. Іван Багдановіч (21-га лютага 1899—20-га студз. 1990)
9. Сцяпан Пуп (20-га ліпеня 1951 г. — 10-га студзеня 1990)
10. Аляксей Саснавой (19 лютага 1914—18 снежня 1987 г.)
11. Анна Агалец (май 15—1911 — кастрыч. 261984)
12. Агрыпіна Кулагіна (чэрвень 1—1894 — жнівень 13—1979 г.)
13. Глеб Калтаноўскі (чэрвень 1922 — чэрвень 13—1983)
14. Антон Шостак (.. — 10 ліпеня 1982)
15. Цімафей Папоў (люты 16—1901 — сьнежань 25—1988)
16. Леў Астроўскі (студзень 26—1918 — красавік 6—1988)
17. Васіль Шусьцік (студзень 1921—1914 — лістападр 20—1983)
19. Раман Невяржыцкі (люты 15—1908 — чэрвень 19—1983)
19. Праскоўя Крэз (сакавік 7—1914 — люты 24—1983)
20. Анна Дудакоў (красав. 28—1900 — ліпень 10—1981)
21. Францыска Сыры (кастр. 24—1902 — люты 6—1975)
22. Кастусь Мажула (жнівень 10—1913 — чэрвень 5—1984)
23. Павел Цвірко (жнівень 16—1906 — сьнежань 28—1978)
24. Марыя Шпакоўская (сакавік 15—1920 — жнівень 5—1987)
25. Таня Новік (чэрвень 15—1926 — ліпень 25—1986)
26. Макар Аблажэй (1894—1984)
27. Анатолі Новік (красавік 18—1924 — кастрычнік 3—1992)
28. Кастусь Новік (сакавік 19—1914 — сакавік 9—1974)
29. Васіль Дімідік (чэрвень 10—1940 — сьнежань 5—1990)
30. Грыгоры Анціпаў (красавік 15—1894 — жнівень 31—1995)
31. Александар Дімідік (люты 15—1937 — сьнежань 12—1992)
32. Уладзімір Хмель (красавік 23—1919 — чэрвень 13—1992)
33. Міхаіл Елас (лістапад 21—1909 — май 30—1986)
34. Іван Зубенка (лістапад 7—1910 — жнівень 16—1985)
35. Ірма Валатоўскі (красавік 7—1938 — студзень 28—1994)
36. Афанасі Глаучоў (.. — сакавік 12—1988)
37. Александар Юрчанка (1896 нарадз. — 17 люты 1967)
38. Міхаіл Шостка (.. — памёр у чэрвені 1975)
39. Васіль Пунтус (сакавік 29—1920 — ліпень 7—1989)
40. Сямён Селязьнёў (май 8—1914 — чэрвень 4—1986)
41. Антон Хмель (люты 9—1880 — верасень 22—1961)
42. Люба Багдановіч (1-га мая 1900—19-га жніўня 1964)
43. Александар Пашкевіч
44. Мікалай Новік
45. Афанасі Кулагін
46. Віктар Невяроўскі (май 29—1906 — люты 3—1990)
47. Надежда Куліковіч[2](сакавік 30—1912 — сакав. 19—1984)
48. Генерыта Шостаковска (кастр. 14—1918 — май 28—1961)

[2] Маецца на ўвазе Надзея Куліковіч-Градэ.

49. Іван Захаркевч (лістападр 10—1905 — жнівень 29—1971)
50. Павел Брушкевіч (лістапад 18—1913 — сакавік 9—96)
51. Васіль Лутоўскі (кастрычнік 30—1920 — ліпень 27—1997)
52. Анатолі Дандрожак (люты 7—1932 — ліпень 15—1972)
53. Канстантын Мажула (жнівень 10—1913 — чэрвень 5—1984)
54. Павел Швірко (жнівень 16—1906 — сьнежань 3—1978)
55. Марыя Шпакоўская (сакавік 15—1920 — жнівень 5—1987)
56. Іван Панкевіч (красавік 12—1912 — чэрвень 17—1996)
57. Крысціна Елас (люты 16—1915 — жнівень 11—1995)
58. Іван Рагалевіч (верасень 14—1911 — май 6—1998)
59. Уладзімір Рагалевіч (май 3—1933 — лістапад 1996)
60. Софія Латушкін (кастрычнік 3—1931 — чэрвень 13—1998)
61. Канстанцін Загонак (чэрвень 13—1922 — лістапад 7—1998)
62. Франк Невяроўскі (сьнежань 5—1905 — верасень 25—1979)
63. Анатон Куляс (люты 31—1904 — май 9—1979)
64. Грыгоры Сыры
65. Васіль Рагалевіч
66. Пётар Шацкі
67. Стэфанія Валатоўская
68. Барыс Рамановіч
69. Антаніна Радзюк
70. Савелі Маркоўскі
71. Кацярына Маркоўская
72. Анна Пілецкая
73. Дамініка Глаўчоў
74. Клеонісія Дземідік
75. Іван Варэніч
76. Мікалай Дзямідаў[3]
77. Анна Хмель
78. Тамара Нягода
79. Уладзімір Нягода
80. Марыя Нягода
81. Адам Каралёк
82. Іван Каралёк
83. Павел Агалец
84. Пелагея Цвірко
85. Валодзя Пуп
86. Анна Рагалевіч
87. Пётар Манжула
88. Якаў Чаркасаў
89. Васіль Рагалевіч
90. Наста Дубінін

[3] Даты жыцьця Міколы Дзямідава ведамыя — 10.12.1888—23.06.1967.

91. Алесь Салавей
92. Іван Навумовіч
93. Міхаіл Валатоўскі
94. Васіль Ермачонак
95. Барыс Popановіч
96. Барыс Шостак
97. Марыя Анціпаў
98. Андрэй Мазанаў
99. Міхась Пушак
100. Радаслаў Астроўскі[4]
101. Анна Петрык
102. Сідар Хадаровіч
103. Вера Хадаровіч
104. Нікалай Мінкевіч
105. Іван Клітны
106. Хведар Насульчык
107. Ева Насульчык
108. Грыгоры Жук
109. а. Васілі Вячорка
110. Грыгоры Кудраўцаў
111. Аўген Пілецкі
112. Зоя Пілецкая
113. Андрэй Крэз
114. Праскоўя Крэз
115. Сяргей Лабун
116. Наста Лабун
117. Фёдар Быкаў
118. Антон Хмель (люты 1880 — верас. 22—1981)
119. Софія Пуп (1925— люты 26—1999)
120. Софія Латушкін (10—3—1931—6—13—1998)
121. Багдановіч (Богдан) Уладзім. (5—3—33—11—5—96)
122. Кастусь Загонак (13—6—1922—7—11—1998)
123. Надежда Дімідзік (10—10—1911—10—12—1999)

*Падана паводле парафіяльнага архіва Сакратара*
*парафіяльнай Управы М. Латушкіна*
*15-га лістапада 1998 г.*

*Падрыхтоўка да друку Натальлі Гардзіенкі*

---

[4] Радаслаў Астроўскі ў ЗША жыў пад апекай дачкі Галіны й зяця Мікалая Мінкевіча, які пэўны час працаваў у шпіталях Ілінойсу. Відаць, менавіта таму ён, як і Мікалай Мінкевіч, трапіў у сьпісы парафіянаў.

*Тэма нумару: Амэрыканская гісторыя*
*Архівалії*

***Аляксандар Асіповіч-Асіпчык***

# ЛІСТЫ

*Аляксандар Асіпчык (01.04.1909, в. Пляшкі Гарадзенскай губ., цяпер Гарадзенская вобл. — 14.03.1990, Джэксан, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі й рэлігійны дзеяч. У часе нямецкай акупацыі працаваў у рамеснай школы ў Слоніме, быў дырэктарам мясцовай бібліятэкі й Народнага дому. Быў прыхільнікам беларусізацыі праваслаўнай царквы, удзельнік Беларускага царкоўнага сабору 1942 г. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Спачатку шчыльна супрацоўнічаў зь беларускімі япіскапамі, а ў 1946 г. пасьля пераходу іх у склад Расейскай праваслаўнай царквы за мяжой стаў іх праціўнікам. У 1947 г. у Заходняй Нямеччыне заснаваў Беларускае праваслаўнае таварыства Жыровіцкай Божай Маці, што мела суполкі ў розных краінах. У 1948—1965 гг. выдаваў часопіс "Сіла веры", уклаў брашуру "Я Сьвятло Сьвету. Сьвятыя Беларускага народу" (1984), але найбольш пісаў пра Жыровічы. У 1950 г. перабраўся ў ЗША. Жыў у Нью-Ёрку, потым у Таронта (Канада), Чыкага, Кліўлэндзе. Ад 1950-х гг. быў зьвязаны з Рускім аб'еднаным таварыствам узаемадапамогі (РООВА). Пахаваны ў Джэксане на могілках "Фармы РООВА".*

*"Запісы БІНіМ" раней ужо зьвярталіся да асобы Аляксандра Асіпчыка. Адмыслова была апублікаваная, прыкладам, яго аўтабіяграфічная "Праўдзівая даведка" (2001. № 34), якая дазволіла ўнесьці карэктывы ў наяўную біяграму аўтара. Прадстаўленыя ніжэй лісты паходзяць з архіву Янкі Запрудніка, перададзенага ў менскі БДАМЛМ, і цікавыя асабліва з гледзішча гісторыі беларускай прысутнасьці ў ЗША.*

21.XII.1986 г.

Паважаны Сп. Запруднік[1]!

Прачытваючы Вашыя брашуры выданьня "Беларусь"[2], ужо не адзін раз захацелася мне пераслаць Вам прызнаньне і пахвалу за так прыгожы і зьмястоўны ўклад іх ды пажадаць, каб яшчэ калі нешта

[1] Янка Запруднік (нар. 1926) у той час быў галоўным рэдактарам газэты "Беларус".

[2] Відаць, маецца на ўвазе выдавецтва газэты "Беларус".

падобнае паявілася! Маю на думцы "Агледзіны — спадчына бацькоў"[3] і "Праваслаўная царква ў Беластоцкім краю"[4], якія ад сябе даваў да прачытаньня а. Яну Карпюку, зь якім Вы знаёмыя, а да якога хаджу на Богаслужбы, жывучы цяпер у фарме РОВА[5], пераехаўшы з С[аўт] Рывэру ў пэнсыянерскі дом 1 ліпеня.

Так сталася, што я цяпер перасяліўся сюды із С[аўт] Рывэру і, маючы час, усё нанова перачытваю беларускае, якое яшчэ важу з сабою, як спадчыну нашых бацькоў і творчасьць нашых пісьменьнікаў і паэтаў. Тут жывуць нямала людзей беларускага паходжаньня, 35 %, а больш 50 % украінскага ды іншых. Сп. Кіпель[6] ведае аб гэтым, і я яму пераслаў юбілейную кнігу з 1946 г. заснаваньня гэтае арганізацыі, у якой не адзін старшыня быў беларускага паходжаньня, а зь іх найбольш дзейным быў М. Гуз, які ахвіцыяльна называў сябе Беларусам, і хавалі яго гэтакім, на паховінах якога я і быў. Ды першы старшыня быў Беларус із Случчыны, і цяпер ёсьць прозьвішчам Кулеш, а заступнікам В. Міхалок. Праўда, "урадава" фарма называецца "рускай", ды ўсе жыхары яе называюцца "рускімі", але ўсе жывуць згодна безь ніякіх непаразуменьняў, г. зн. апалітычна, хоць у цэнтры яе стаіць царква зарубежнай юрысдыкцыі[7]. Большасьць усіх праваслаўных прыпісана да Парахвіі на могілках[8], якая перш была пабудавана і належыць да амэрыканскай мітраполіі[9]. Там настаяцелем ёсьць а. Ян із Беласточчыны, калега а. Яноўскага[10]

---

[3] Маецца на ўвазе выданьне: Запруднік, Янка. Спадчына бацькоў: "Агледзіны". Да 100-годзьдзя ад нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа. Нью-Ёрк: Беларус, 1982. — 30 с.

[4] Маецца на ўвазе выданьне: Праваслаўная царква ў Беластоцкім краі і беларуская мова ў ёй. Роздумы. Нью-Ёрк: Беларус, 1984. — 33 с.

[5] **РОВА**, або **РООВА** (*Российское объединенное общество взаимопомощи в Америке)* — арганізацыя, заснаваная расейскімі імігрантамі ў 1926 г. для ўзаемадапамогі й захаваньня нацыянальнай культуры.

[6] Маецца на ўвазе Вітаўт Кіпель.

[7] Маецца на ўвазе **Сьвята-Ўладзімерскі храм-помнік,** запачаткаваны ў 1938 г. і канчаткова высвячаны ў 1988 г., які знаходзіўся ў юрысдыкцыі Расейскай праваслаўнай царквы замяжой.

[8] Храм стаіць на аднайменных праваслаўных Сьвята-Ўладзімерскіх могілках.

[9] Маецца на ўвазе колішняя Паўночна-Амэрыканская мэтраполія РПЦЗ, цяпер аўтакефальная Праваслаўная царква ў Амэрыцы (*Orthodox Church in America*).

[10] Відаць, маецца на ўвазе **Аляксандар Яноўскі** (?—?), рэлігійны дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ЗША. Быў сьвятаром парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд-Парку. Яго пазьнейшы перавод у Кліўлэнд спрычыніўся да далейшага паглыбленьня крызісу ў БАПЦ у 1980-я гг.

і айца Паплаўскага[11], якога палякі забілі, ды добра знаёмы а. дзяканам Янавам, якія ўжо ня раз былі ў яго як правялі яго із Брукліна, дзе з Вамі ён пазнаёміўся. Абставіны яго, ведама, не беларускія і пропаведзь гаворыць па-расейскі з акцэнтам Беластоцкім, як сьвячаў, але назваў сябе Беларусам, як са мною знаёміўся. Аб старых эмігрантах — самі ведаеце як ёсьць, але між сабою гавораць, як у С[аўт] Рывэры, простай мовай, гэтак і я зь імі гавару.

Пэўне, нічога больш няма тут беларускага, хоць як быў у 1976 г. старшынёй Гуз, сябра з Барысава, з Б. Шчорсам[12] дазволіў, што із С[аўт] Рывэру пара раз выступаў хор "Каліна"[13], і беларускія футбалісты зь *New Yorku*[14] выйгрывалі мяч, і ў сям'і Александровічаў начавалі, бо іх сям'я мае тут свой дом, іх бацькі ўжо пахованы тут на могілках. Я часта хаджу на гэтыя могілкі і проста дзіўлюся, якія тут цікавыя прозьвішчы на помніках нам, Беларусам, знаёмыя з гісторыі ці лягероў, напрыклад, ёсьць прозьвішча Сапега, Калядка, Мерляк, Дашкевіч, Калоша... Я многа падаў інфармацыі сп. Кіпелю, пераслаў яму гістарычную кнігу фармы РОВА, як ён прасіў мяне аб гэтым, бо ён піша гісторыю[15] беларускай эміграцыі ды аб фарме РОВА ёсьць чаго напісаць, як аб іншай мясцовасьці пасяленьня Беларусаў.

У царкоўных справах дамінуюць расейскія зарубежнікі і на 1988 г. аб'явілі, што тут адбудзецца юбілейнае сьвяткаваньне "Крэшчэніе Русі" 28 аўгуста ў дзень Уладзімера.

У нас яшчэ ніякага расьпісаньня няма ды навет няведама, дзе ў 1988 г. адбудзецца Сустрэча Беларусаў[16]. Добра, што я пасьпеў выдаць

[11] Маецца на ўвазе **Пётра Паплаўскі** (?—1985), праваслаўны сьвятар зь Беласточчыны. У чэрвені 1985 г. ён быў знойдзены ў лесе зь пятлёй на шыі. Афіцыйная прычына сьмерці была пазначаная як самагубства, але многія вернікі ў яе не паверылі.

[12] **Барыс Шчорс** (1916—1975), грамадзкі дзеяч. Ад пачатку 1950-х гг. жыў у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША). У 1951 г. узначаліў Беларускае выдавецкае таварыства пры Злучаным беларуска-амэрыканскім дапамаговым камітэце, узначальваў Беларускі нацыянальны фонд, уваходзіў у склад рэдакцыі саўт-рывэрскага часопісу "Беларуская думка", у кіраўнічыя органы Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, шмат спрычыніўся да арганізацыі харавой і мастацка-выяўленчай дзейнасьці ў Саўт-Рывэры. Ініцыятар пабудовы Беларускага грамадзкага цэнтру ў Саўт-Рывэры.

[13] **"Каліна"** — жаночы хор, заснаваны ў Саўт-Рывэры ў 1963 г. Заснавальнікам і кіраўніком быў Ксавэры Барысавец.

[14] У Нью-Ёрку ад 1950-х гг. існавала беларуская футбольная каманда "Пагоня".

[15] Маецца на ўвазе праца Вітаўта Кіпеля над кнігай "Беларусы ў ЗША", першае беларускае выданьне якой пабачыла сьвет у Менску ў 1993 г.

[16] У 1988 г. 18-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі адбывалася ў Таронта 3—5 верасьня.

свае кніжкі. У беларускіх баптыстаў праводзяцца цяпер захады, каб выдаць усю Біблію па-беларуску, і ўцягнулі ў гэтую справу М. Гайдука[17], рэдактара "Нівы"[18]. Так паведаміў мяне сп. Рапэцкі[19], які прыслаў мне нова перавыданы Н[овы] Запавет па-беларуску з Таронта. Ён мае пэўную групу сваіх вернікаў, перадае па-беларуску казаньні праз і цяпер шукае сучаснае літаратурнае беларускае мовы для выданьня ўсяе Біблii. Яго пераканаў Гайдук, што гэтай мовай выдаецца "Ніва". А як Вы думаеце?

PS. Яшчэ мне прыпомнілася адна справа. Сп. Павал Урбан[20] напісаў вельмі зьмястоўны адказ Абэцэдарскаму[21] на ўсе яго хвальшы з гісторыі Беларусі[22]. Вось гэты зьмест добра было-б выдаць асобнай кніжыцай, паправіўшы яго зьмест-адказу не як Абэцэдарскаму, а як факты з гісторыі Беларусі[23]. Там ёсьць вельмі цікавыя весткі аб Беларускім паходжаньні, хто мы, і другія довады. Вы некалі выдавалі маленькія кніжачкі прыгожага зьместу і цяпер маглі-б такую кніжачку апрацаваць і выдаць ад рэдакцыі "Беларуса" з тым зьместам, што напісаў сп. П. Урбан, і выдаць яго асобнай кніжачкай якіх прымернікаў 500. Як-бы паявілася-б такая кніжачка, я-б аплаціў увесь кошт яе выданьня.

*А. Асіпчык.*

---

17 **Мікола Гайдук** (1933—1998), пісьменьнік, журналіст, краязнаўца, пэдагог. Быў дырэктарам беларускага ліцэю ў Бельску Падляскім. Ад 1971 г. працаваў у газэце "Ніва", у тым ліку і як намесьнік галоўнага рэдактара (1986—1988).

18 **"Ніва"** — беларуская газэта, што выдаецца ў Беластоку (Польшча) ад 1956 г.

19 Відаць, маецца на ўвазе **Юры Рапэцкі** (нар. 1944), пратэстанцкі сьвятар, грамадзкі дзеяч. Сьвятар эвангельскай царквы хрысьціянаў-баптыстаў у Таронта, рэдактар беларускамоўнай перадачы "Добрая вестка" на Сусьветным радыё ў Монтэ-Карла, аўтар кнігі "Новае жыцьцё ў Хрысьце" (1995).

20 **Павал Урбан** (1924—2011), гісторык, грамадзкі дзеяч. Скончыў гістарычны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту, абараніў дысэртацыю пра дзейнасьць вялікага князя літоўскага й польскага караля Аляксандра. Працаваў у Інстытуце вывучэньня СССР у Мюнхене, потым у беларускай рэдакцыі Радыё "Свабода".

21 **Лаўрэнці Абэцэдарскі** (1916—1975), гісторык, доктар гістарычных навук, прафэсар. У пасьляваенны час быў стваральнікам і лідарам навуковай школы вывучэньня дасавецкага пэрыяду гісторыі Беларусі.

22 Маецца на ўвазе выданьне: Абэцэдарскі, Лаўрэнцій. У святле неабвержных фактаў. Мінск, 1969. — 110 с., а таксама адказ на яго: Урбан, Паўла. У сьвятле гістарычных фактаў (У сувязі з брашурай Л. С. Абэцэдарскага) = Im Lichte der historischen Tatsachen = In the light of historical facts. Мюнхэн — Нью-Ёрк: БІНІМ, 1972. — 129 с.

23 Цікава, што адказ Паўла Урбана на кнігу Абэцэдарскага ад самага пачатку быў менавіта ў кніжным варыянце.

4.II.1988 г.

Паважаны Сп. Запруднік.

Перасылаю Вам вось гэтую карэспандэнцыю. Прашу апрацаваць па сваёй рэдактарскай здольнасьці і падаць у “Беларусе” як матэрыял для Сп. Кіпеля ў яго гісторыю аб беларускай эміграцыі ў ЗША. Ён пахваліў мяне за той ліст у рэдакцыю, што я напісаў Вам, і за тое, што я падаў у ім некалькі прозьвішчаў[24]. У гэтым наступным артыкуле больш такіх прозьвішчаў, якія ўжо не жывуць між намі.

Падпісваюся толькі ініцыяламі А. А.[25].

З паважаньнем да Вас *А. Асіповіч Асіпчык.*

На поўнач-захад ад Чыкага ёсьць г. Рокфорд, а на ўсход ад яго вялікае возера Мічыган. Вось-жа, ня так, як у Джаксане, *NJ*, старыя эмігранты з нашага краю-Беларусі пасяліліся ў лесе ў Рокфардзе, наадварот, у бязьлеснай мясцовасьці за горадам, пабудавалі сабе прыватныя дамы, і толькі на ўзгорку царкву збудавалі талакой. Цікава ведаць, як там усё рабілася з ініцыятывы ўжо новых нашых эмігрантаў т. зв. ДП у 1955 г. у росквіце амэрыканскага будаўніцтва, паступовай тэхнікі і разумнай калькуляцыі. І яшчэ тым цікава, што ўзначаліў гэтую ініцыятыву наш амаль няграматны суродзіч (А. Волах), які правёўшы дагаворанасьць зь фірмамі аб дастаўцы будаўнічага матэрыялу, закупіў вялікі абшар зямлі, разьдзяліў яе на паасобныя ўчасткі, надаў ім цану, а ўжо пакупнікі самі будавалі сабе дамы, плацячы за будаўляны матэрыял прывозячым фірмам. І так паўстаў пасёлак з вуліцамі, якія таксама назваліся прозьвішчамі пасяленцаў. Пераважна гэта былі суродзічы з быўшых лягероў Нямеччыны: Остэргофэн[26], Віндзішвэрг[27] і Бакнанг[28], а ўжо ў пазьнейшым часе куплялі тут дамы новых будоўляў, якія ставіў ад свайго імя сп. Волах, каму хацела і падабалася тут пасяліцца. Ня

[24] Маецца на ўвазе публікацыя: Асіповіч, А. Ліст у Рэдакцыю [Беларуская грамада г. Джэксан, Н.-Дж.] // Беларус. № 342. Сьнежань 1987. С. 7.

[25] Тэкст быў апублікаваны як: А. А. Беларуская грамада ў Рокфардзе // Беларус. № 348. Чырвень 1988. С. 7.

[26] **Остэргофэн** (ням. *Osterhofen*) — горад у Нямеччыне, у зямлі Ніжняя Баварыя, на чыгуначнай лініі Рэгенсбург — Пасаў. У 1946 г. тут быў створаны беларускі *DP*-лягер, насельніцтва якога складала больш за 400 чалавек.

[27] Маецца на ўвазе **Віндзішбэргердорф** (ням. *Windischbergerdorf*) — вёска ў зямлі Баварыя, непадалёк ад Міхельсдорфу, дзе ў траўні 1947 г. быў створаны беларускі *DP*-лягер. У 1948 г. сюды перавезьлі Беларускую гімназію імя Я. Купалы зь Міхельсдорфу. У чэрвені 1949 г. беларусаў вывезьлі ў горад Розэнгайм.

[28] **Бакнанг** (ням. *Backnang*) — горад у Нямеччыне каля Штутгарту, у зямлі Бадэн-Вюртэмбэрг, дзе ў 1949—1950 гг. месьціўся беларускі *DP*-лягер.

раз я наведваў гэтую мясцовасьць, жывучы тады ў г. Чыкага. У 1962 г. нават намовіў царкоўны Камітэт, каб запрасілі адведаць іх Ул. Васілём Т[амашчыкам][29], бо мелі труднасьць мець сталага настаяцеля. А перад тым вось якая адбылася падзея (бо а. Лапіцкі[30] усяк перашкаджаў, каб гэтая Парахвія не перашла пад апеку Ул. Васіля[31]). Сп. Волах такім чынам запрасіў на свой кошт зь Лёндану-Англіі арх. ПАП Царквы Мацея Семашку[32] з намерам пасьвяціць свайго зяця (І. Валюкевіча) у дзіяканы. Арх. Мацей рады быў наведаць ня толькі Рокфорд, але і Амэрыку, ды прывёз з сабою сьвятара а. П. Яська[33], быўшага настаяцеля Парахвіі ў Краснаставе каля Маладэчна, якога ў 1939 г. саветчыкі вывезьлі зь сям'ёю ў Сібір, а пасьля, як генерал Андэрс зьбіраў сваё войска да ўдзелу ў ваенных падзеях II сусьветнай вайны, а. Ясько ўпісаўся таксама ў гэтую службу як санітар і сьвятар, які абслугоўваў усіх праваслаўных жаўнераў Корпусу ген. Андэрса, а такіх было вельмі шмат, бо больш як 12000. Як ужо ведама, Корпус ген. Андэрса прайшоў шлях з СССР праз Іран, Палесьціну, Эгіпт, Італію, рэшткі яго апынуліся ў Англіі, куды і а. Ясько пераехаў ужо ўдаўцом, а ў Амэрыку ў сане архімандрыта і кандыдата ў япіскапы.

---

29 **Васіль** (сьвецк. **Уладзімер Тамашчык,** 1900—1970), рэлігійны дзеяч, першаярарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў 1949—1970 гг. Жыў у Нью-Ёрку. Узначальваў епіскапат БАПЦ у Паўночнай Амэрыцы.

30 **Мікалай Лапіцкі** (1907—1976), рэлігійны дзеяч, праваслаўны сьвятар. Ад 1950 г. жыў у ЗША. Ініцыятар стварэньня беларускіх прыходаў у юрысдыкцыі Канстанцінопальскага (сусьветнага) патрыярхату. Арганізаваў беларускую праваслаўную парафію ў Саўт-Рывэры, яе настаяцель у 1950—1976 гг. Спрычыніўся таксама да арганізаваньня парафіяў у юрысдыкцыі Канстанцінопальскага патрыярхату ў Чыкага (у 1958 г.), аказваў падтрымку ў стварэньні аналягічных парафіяў у Рычманд-Гіл (Нью-Ёрк, Сьв. Кірылы Тураўскага) і Лёндане (Сьв. Эўфрасіньні Полацкай). Узначальваў Царкоўную Раду беларускіх праваслаўных парафіяў у Паўночнай Амэрыцы.

31 Беларускія параваслаўныя парафіі ў ЗША звычайна належалі або да БАПЦ, або да Сусьветнага патрыярхату. Часам некаторыя зьмянялі юрысдыкцыю.

32 Маецца на ўвазе **Мацей Сямашка** (сьвецк. *Канстанцін*, 1894—1985), праваслаўны дзеяч, паводле паходжаньня ўкраінец з Холмшчыны. У 1938 г. стаў япіскапам Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы**.** Падчас Другой сусьветнай вайны эміграваў у Вялікабрытанію, дзе жыў да канца жыцьця.

33 Напэўна, маецца на ўвазе **Ўсевалад Яськоў**, расеец паводле паходжаньня, які, згодна сьведчаньня Міхася Швэдзюка, да Другой сусьветнай вайны меў сваю парафію на Віленшчыне, быў вывезены Саветамі ў Сібір, адтуль выправіўся ў Армію Андэрса, дзе выконваў сьвятарскія абавязкі. Пасьля вайны трапіў у Вялікабрытанію, адкуль перабраўся ў Рокфард (ЗША), дзе ўзьведзены ў сан архімандрыта зь імем Вісарыён.

Але вернемся да жыцьця нашых людзей у Рокфардзе. Цяпер некаторыя там старыя пэнсыянэры. Дзеці іх былі ў амэрыканскай арміі, а ўнукі здабылі вялікія навукі рознага рамясла і пісьменнасьці, але сувязь іх зь беларускімі цэнтрамі вельмі слабая. Некалі беларусы з Кліўлэнду імі апекаваліся, прыяжджалі часьцей да іх з канцэртамі на вясельля. У Чыкага знайшоўся быў кандыдат у сьвятары (С. Марціновіч). Навязалі мы тады з Ул. Васілём перапіску, каб пасьвяціў яго ў сьвятары, які пазьней некалькі месяцаў прыяжджаў на богаслужбы ў царкву Рокфардцаў, бо а. Ясько выехаў быў у Флярыду як пэнсыянэр. Потым усяк было. Абслугоўвалі іх розныя духоўнікі із розных цэркваў, а цяпер ужо з расейскай зарубежнай юрысдыкцыі. Вельмі сумуюць там нашыя людзі, што іх пакінулі белдзеячы, хоць вельмі лёгка зьмяніць там сытуацыю. Прыяжджаў у гэтай справе і Ўл. Васіль. Але кажа прыказка, як хто хоча зрабіць нешта добрае — знойдзецца вецер або сьнежная бура, якія засьлепяць кажнаму вочы, што зыйдзе з правільнай дарогі.

Але ў Рокфардзе падобнае ёсьць, як у Беларусаў у Парахвіі ў *Richmond Hill, NY*[34]. Навет лепш, бо яны ў свой статут парахвіі не ўпісалі сабе ніякае царкоўнае юрысдыкцыі, а сьвятароў прыймаюць, як звычайных наёмнікаў, абы толькі былі праваслаўнымі і захоўвалі традыцыі нашай веры.

Таму вельмі было-б добра, каб дапамагчы ім спровадзіць сьвятара зь Беласточчыны, як гэта ёсьць ужо ў іншых нашых Парахвіях.

А. А.

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча*

[34] Маецца на ўвазе парафія **Сьв. Кірылы Тураўскага**, заснаваная ў 1968 г. у выніку расколу ў аналягічнай бруклінскай парафіі (на Антлянтык авэню, 401) і сыходу часткі вернікаў на чале з Кастусём Мерляком. Новая царква зьвілася на іншым канцы Атлянтык авэню ў раёне Квінзу Рычманд-Гіл.

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# "ЗМАГАНЬНЕ ЗА КУПАЛУ" НА ЭМІГРАЦЫІ

Тэксты Альгерда Бахарэвіча пра Янку Купалу[1] колькі гадоў таму выклікалі немалое абурэньне сярод часткі нацыянальнае інтэлігенцыі, што, напэўна, было вытлумачана больш формаю, чым зьместам. Бо ходаньне за Купалу, змаганьне за яго пачалося значна раней, яшчэ пры паэтавым жыцьці. Працытуем Анатоля Сідарэвіча: *«Тут важна зацеміць, што з 1931 г. пачалося змаганне за Купалу. Бальшавікі пісалі, што яны бяруць са старое нацыянальнае культуры толькі яе сацыялістычныя, яе дэмакратычныя элементы. З прычыны спецыфічнага разумення сацыялізму і дэмакратыі бальшавікам ад ранейшага Купалы засталося няшмат: на пачатку 1930-х яны адкінулі Купалу-неарамантыка, Купалу-сімваліста ды абвясцілі, што бяруць адно "Жалейку" з "Гусляром"»*[2].

Актуальным гэта было й для эміграцыі. *"Ад чаго мы сяньня павінны адмаўляцца, робячы агледзіны спадчыны бацькоў?"*[3] — задаваў пытаньне Янка Запруднік. І тычылася яно ня проста спадчыны агулам, але й канкрэтна Купалавай.

Наогул купалазнаўства на эміграцыі, рэцэпцыя паэтавай творчасьці як эмігрантамі — пісьменьнікамі (Юрка Віцьбіч, Міхась Кавыль, Масей Сяднёў), мэмуарыстамі[4], навукоўцамі (Антон Адамовіч, Станіслаў Станкевіч, Вольга Арэхва, а. Міхась Маскалік, Алесь Грыцук), гэтак і заходнімі дасьледчыкамі (Арнольд Макмілан) — яшчэ чакае свайго асэнсаваньня. Мы ж спынімся толькі на адным сюжэце своеасаблівага "змаганьня за Купалу".

---

[1] Бахарэвіч, Альгерд. Гамбурскі рахунак Бахарэвіча. Радыё Свабодная Эўропа: Радыё Свабода. 2012. С. 109—123.

[2] Сідарэвіч, Анатоль. Луцкевічы і Луцэвіч. Мінск, 2003. С. 49.

[3] Запруднік, Янка. Спадчына бацькоў: "агледзіны". Нью Ёрк, 1982. С. 11.

[4] Янка Купала і Якуб Колас, 1882—1982: вянок успамінаў пра іх. Кліўлэнд, 1982.

Змаганьне звычайна прадугледжвае мінімум два бакі. І ў абставінах эміграцыі адзін такі бок даволі добра ведамы: ён агучаны ў працах і артыкулах найперш Антона Адамовіча, а таксама Станіслава Станкевіча, Янкі Запрудніка й іншых. Для яго прадстаўнікоў характэрна неўспрыманьне й асуджэньне “пракамуністычнай” часткі біяграфіі й творчасьці Янкі Купалы. Антон Адамовіч пісаў: *«Бо ці-ж — хай сабе й зламаны нялюдзкаю сілаю бальшавіцкага гвалту, а не самахоцькі — ці-ж ня апынуўся й ён, паэта, у рэшце рэштаў сярод тых-жа бацькашчынагубцаў, да якіх кінуў адзін з найпраўнейшых спадкаемцаў ягоных: “Бо пры вашай дапамозе бацькаўшчына ўкрыжавана?”. Ці не зарабіў гэтым сабе самому на гэткую ўзнагароду — сьніць сны аб любай Беларусі — і толькі сны — і толькі… у магіле? І нарэшце: ці ня вымеркаваў-вымераў гэтую ўзнагароду сабе сам, сваёю воляю й дзеяю, адабраўшы сабе жыцьцё зусім так, як гэроі ягоных балядаў 1918 г., што па бацькагубсьцьве канчалі самагубствам?»*[5].

Другі ж бок “змаганьня” — за кошт і сваёй малалікасьці, і меншай актыўнасьці заставаўся бадай няведамы як для дасьледчыкаў эміграцыі, гэтак і для купалазнаўцаў. А ён, гэты бок, заслугоўвае, каб прынамсі быць пачутым.

Асноўнай яго фігураю быў ад міжваеннага часу апанэнт “узвышэнца” Антона Адамовіча, БелАППавец, пісьменьнік, літаратуразнаўца Янка Ліманоўскі. На пачатку 1950-х гг. ён кароткі час быў кіраўніком Беларускага інстытуту навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку, супрацоўнікам беларускай рэдакцыі радыё “Вызваленьне” ў Мюнхене. Менавіта на гэты час прыпала праца па падрыхтоўцы да друку грунтоўнага тому “Спадчына: Выбар паэзіі Янкі Купалы”, што мусіла аб’яднаць беларускіх інтэлектуалаў на эміграцыі і да якога дырэктар БІНіМу рыхтаваў прадмову.

Гісторыю стварэньня “Спадчыны” добра адлюстроўвае ліставаньне яе галоўнага ўкладальніка Вітаўта Тумаша й выдаўца Станіслава Станкевіча, выдрукаванае сёлета ў адмысловым томе[6]. З апублікаванага можна даведацца, што прадмову Янку Ліманоўскага ўкладальнікі зборніка забракавалі. Пакрыўджаны аўтар пэўны час спрабаваў дамагчыся агучваньня сутнасьці прэтэнзіяў да ягонага тэксту, а таксама апублікаваў гэтую прадмову ў газэце “*Українські Вісті*”[7].

Зь ліставаньня Вітаўта Тумаша й Станіслава Станкевіча можна зразумець, чаму прадмова Ліманоўскага была адкінутая. Вітаўт Тумаш

[5] Адамовіч, Антон. Да гісторыі беларускае літаратуры. Менск, 2005. С. 727.

[6] Як укладалі “Спадчыну”. Мінск, 2018.

[7] Равіч, Міл. Янка Купала: життя і творчість // Українські Вісті. New Ulm. Рік X. Ч. 80 (855). 7 жовтня; Ч. 81 (856), 10 жовтня; Ч. 84 (859), 21 жовтня; Ч. 85 (860), 24 жовтня; Ч. 86—87 (861—862), 28 і 31 жовтня 1954.

пісаў: *"Увесь артыкул як прадмова да грунтоўнага выбару паэзіі Купалы недарэчнасьць. Аўтар ня толькі не задаў сабе труду крыху задумацца над гэтым, што трэба ў такой прадмове даваць і як ды чаго там будуць шукаць чытачы, а проста напісаў палітычную расправу з сваім накш думаючым контрагентам. Артыкул у сваёй сутнасьці нішто іншае, як самаабарона Равіча перад тымі закідамі, якія яму тутака ставіліся людзьмі, якія атакавалі яго, каб пашкодзіць гэтым арганізацыі, каторай ён быў старшынёй*[8]*. Купала толькі зачэпка. Пісаў пра тое, што яму баліць, пры тым прымітыўна, публіцыстычна. У падыходзе чыста палітычным ёсьць крыху й савецкай школы. Аднак тыповы для яе Мазалькоў вывязаўся куды лепш з свайго заданьня. Мушу сказаць, што я наперад ведаў, што артыкул ня будзе надавацца да друку. Але лічыў, што ўсё-ж можна будзе яго падцягнуць, падгладзіць, дакінуць нешта, недзе скараціць. Тымчасам вышла нешта, з чаго нічога ня можна зрабіць. Прыходзіцца прызнаць з гэтым поўную няўдачу ды разглянуцца за выхадам"*.

Выйсьцем стала напісаньне адпаведнай прадмовы выдаўцом Станіславам Станкевічам. Янка ж Ліманоўскі хутка сышоў з БІНіМу, а потым і наогул фактычна парваў зь беларускай грамадой. Аднак у 1958 г. на старонках канадыйскай газэты "Беларускі голас" яшчэ зьявіўся ягоны тэкст пад красамоўнай назвай "Фальшаваньне Купалы". Менавіта ён і рэпрэзэнтуе погляд на праблему "з другога боку", іншае бачаньне "змаганьня за Купалу".

Дзеля амаль недаступнасьці для айчынных дасьледчыкаў гэтага артыкулу падаем яго тут цалкам.

***М. Равіч (Янка Ліманоўскі)***

## Фальшаваньне Купалы

*(урыўкі з нарысу)*

*Напэўна, падумае чытач, гэта магло здарыцца з творчасьцю Купалы ня тут, дзе кожны можа сказаць праўду і ня мае патрэбы фальшаваць. Аднак здарылася гэта тут.*

*Пачатак зрабіў сп. А[нтон] Адамовіч. У 1951 г., у часе, дапасаваным да ўгодкаў сьмерці паэты, сп. Адамовіч прачытаў некалькі рэфэратаў аб Купале для беларусаў у Нью Ёрку. Паводля слоў прысутных, Янка Купала быў акрэсьлены з грамадзкага палітычнага боку як "прыдворны савецкі паэта", а ягонае мейсца ў беларускай літаратуры як пачынальніка беларускай літаратуры тыпу*

[8] Маецца на ўвазе БІНіМ, кіраўніком якога Янка Ліманоўскі быў у 1952—1954 гг.

*Дзяржавіна ў расейскай... Некаторыя з прысутных пратэставалі, некаторыя плакалі...*

*Год пазьней — 1952 — давялося мне забраць голас аб Купале перад гэтымі-ж беларусамі на акадэміі, прысьвечанай 10 угодкам нашага вялікага паэты. Ня было запярэчаньняў, а на тварах некаторых слухачоў (магчыма, ранейшых плакальнікаў) я заўважыў нейкую трыумфальную ўсьмешку. Прагледзіўшы ўсё, што пісалася пра Купалу ў беларускім эміграцыйным друку, уключаючы з ратартарнымі выданьнямі, у сувязі з гэтымі сумнымі ўгодкамі, я з задавальненьнем не знайшоў ніякіх сьлядоў там Адамовічавай “устаноўкі”: усе выданьні былі аднагодны ў высокай нацыянальнай ацэне Купалы. Скарочаны варыянт майго рэфэрату, пакалечаны й папсаваны рэдакцыяй нагэтулькі, што ў шмат якіх мясьцінах ён падае не мае пагляды, быў надрукаваны ў нумары 2 часопісу “Запісы БІНіМ-а” за 1952 год.*

*Пасьля няўдалай спробы “адкінуць” Купалу прыйшла пастанова выдаць выбраныя творы Купалы. Ужо самы факт выданьня Купалы “апошнім”, пасьля надрукаваньня ўзвышэнскіх “шэдэўраў”[9], калі трэба было пачынаць з Купалы, навеяў на мяне думку, што ізноў можа з Купалам “нешта здарыцца”. Таму я запрапанаваў сваю паслугу напісаць прадмову да зборніка Купалавых твораў, якая і была, хоць неяк не ахвотна, прынята.*

*Тое, што мая прадмова была “забракавана”, не зьдзівіла мяне, бо я ўжо пачынаў бачыць закулісныя рыскі справы выданьня Купалы. Што мяне тады зьдзівіла, дык гэта тое, што як імёны рэдактараў, так і прычыны забракаваньня маёй прадмовы аказаліся ў катэгорыі вялікай “дзяржаўнай тайніцы”; нават у Саветах не баяцца сказаць аўтару, чаму ягоны твор забракаваны, або якія вымагаюцца ад яго перапробкі ці папраўкі. Бясплённая перапіска, якую я пачаў (быў я тады ў Нямеччыне) з Др-ам Тумашам (які быў тады выконваючым абавязкі старшыні БІНіМ-а), ані ня выясьніла гэтае пытаньне. Раз-па-раз ён цьвердзіў адное і тое-ж, што прадмова “дыскусыйная”, але не казаў, якія часткі прадмовы дыскусыйныя і хто іх лічыць дыскусыйнымі. У адным зь лістоў Др. Тумаш сказаў мне, што хоць маю прадмову прачытала ня менш пяці асобаў, толькі дзьве выказаліся за прыняцьцё маёй прадмовы на ўмовах, калі я зраблю значныя зьмены, — а тры вырашылі адкінуць прадмову бяз прапановы мне зрабіць зьмены ў ёй. Вонкава — дэмакратычная большасьць!*

---

[9] Маюцца на ўвазе выданьні “Бацькаўшчыны”: Мрый, Андрэй. Запіскі Самсона Самасуя. Мюнхэн, 1953; Калюга, Лукаш. Нядоля Заблоцкіх. Мюнхэн, 1954. Янка Станкевіч у тым самым 1953 г. выдаў у Нью-Ёрку “Творы” Ўладзімера Жылкі.

*Калі Др. Тумаш сьцісла захаваў “дзяржаўную тайніцу”, дык адзін з гэтага сакрэтнага трыбуналу даканаў “здраду” і частку гэтай “тайніцы” выдаў мне пад сакрэтам: рашаючым голасам у забракаваньні прадмовы быў М[ікола] Абрамчык*[10]*; гэтым ужо адпадае фармальная “большасьць”, бо Абрамчык мог вырашыць... адным голасам супраць рэшты чатырох. Імёны гэтай сакрэтнай чацьвёркі ня маюць значэньня ў гэтым аспэкце — хто забракаваў маю прадмову — яны могуць мець толькі вартасьць з пункту гледжаньня — хто адказны за выданьне гэткага зборніка Купалы і гэткай прадмовы. Ня маю сумніву, што гэта былі Др. Тумаш і Др. Ст[аніслаў] Станкевіч як афіцыйныя ўкладальнікі зборніка, М[ікола] Абрамчык, А[нтон] Адамовіч і В[інцэнт] Жук-Грышкевіч як “неафіцыйныя” рэдактары.*

*Дзяржаўная тайніца была для мяне тайніцай дагэтуль, пакуль я не прачытаў прадмовы Д-ра Ст[аніслава] Станкевіча і не прагледзіў больш пільна сам зборнік Купалы “Спадчына”. І тады я апынуўся ў становішчы пераканананага пэрсанажа зь беларускай п’есы:*

*— Ці табе ясна ўсё гэта?*

*— Так ясна, што аж вочы баляць.*

*У сваёй прадмове я даў праўдзівую й пазытыўную ацэну беларускіх нацыянал-дэмакратаў у Савецкай Беларусі за часы гэтак званага НЭП-у аж да іх разгрому. Янка Купала быў аднак з кіруючых удзельнікаў гэтага нацыянальна-вызвольнага руху, і нельга даць праўдзівага вобразу Купалы, адрэзаўшы яго ад гэтага руху. Вялікі аўтарытэт, які беларускія нацдэмы здабылі сабе ў народзе (тады й цяпер) сваёй самаахвярнай працай, вялікімі дасягненьнямі ў галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва, як і сваім трагічным лёсам, відаць, стаіць на перашкодзе сакрэтных плянаў і “саюзаў” М[іколы] Абрамчыка й няпрыймальны для ягоных сакрэтных дабрадзеяў. Таму праводзіцца сыстэматычная кампанія “ізьніштажэньня” нацдэмаў. Найбольш актыўным і зласьлівым правадніком гэтай часткі Абрамчыкавай “генэральнай лініі” зьяўляецца сп. Адамовіч: ён літэральна бэсьціць іх, аплёўвае, надзяляе іх абразьлівымі мянушкамі “заблоччыны” ды ім самім выдуманымі мянушкамі “нацыянал-камуністаў”.*

*Дык гэтая частка прадмовы, дзе гаворыцца пра Купалу і нацдэмаў, пярэчыць “гэнэральнай лініі“, аказалася “дыскусыйнай” і, побач зь іншымі, прычынілася да забароны прадмовы “мазгавым трэстам” М[іколы] Абрамчыка.*

*Др. Ст[аніслаў] Станкевіч, праўда, ня стаў на шлях “ізьніштажэньня” нацдэмаў у стылю Адамовіча, але і ў яго адчуваецца,*

[10] Прэзыдэнт БНР Мікола Абрамчык (1903—1970) арганізаваў фінансаваньне выданьня “Спадчыны”.

*хоць ускосна, “незацёрты сьлед” Адамовічавай устаноўкі. Ён зусім не гаворыць пра нац-дэмакратычны рух як пэўны акрэсьлены нацыянальна-вызвольны рух. Пра нацдэмаў ён успамінае, толькі калі ідзе гутарка пра разгром гэтага руху бальшавікамі, абвінавачаных у нацыянал-дэмакратызьме, пагардліва названых “нацдэмамі”, а рух “нацдэмаўшчынай”. Ня ясна, ці сам др. Ст[аніслаў] Станкевіч ня лічыць назву “нацдэмы” пагардлівай. Для саміх нацдэмаў яна ня была пагардлівай, і паколькі спробы бальшавікоў прышчапіць ёй пагардлівае значэньне не ўдаліся, яна была імі-ж адкінена і заменена іншай — “буржуазныя нацыяналісты”.*

*Др. Ст[анаслаў] Станкевіч, даючы пазытыўную, у асноўным, ацэнку “адкіненаму” раней Купале, вяртае яго ў беларускі літэратурны пантэон, але адначасна пакідае “адкіненымі” беларускіх нацдэмаў, да якіх належыў Купала. З гэтай супярэчлівай сытуацыі ён спрабуе выйсьці шляхам падвойнай “адрэзальнай” апэрацыі: ён адрэзае Купалу ад нацдэмаў, і адну частку, як і самога Купалу, супроцьставіць іншай. Частка беларускай інтэлігенцыі паверыла, што беларускае нацыянальнае пытаньне можа быць разьвязанае ў рамках савецкае сыстэмы, іншая яе частка толькі навонкі маніфэставала сваю ляяльнасьць да рэжыму, упрыйманага ёю, як і раней, нэгатыўна. Купала, аднак, як і шмат Беларусаў, не пайшоў на ніякія, навет чыста фармальныя й дэкляратыўныя кампрамісы з бальшавікамі.*

*Ня відаць, якой меркай мерыў Др. Ст[аніслаў] Станкевіч, каб прыйсьці да гэтых штучных высадаў. Каб ён меў у мінулым глянуць на справы знутры, мець давер і магчымасьць сяброўскага выказваньня з боку тых, каго ён залічае да тых, што “паверылі” ў гэтае “разьвязваньне”, дык ён тады ведаў-бы, што яны былі поўныя і сумніву, і “нэгатызму”. Нацыянальна-дэмакратычны рух быў рухам дэмакратычным і ня меў той накіненай прымусова “аднадумнасьці” таталітарных арганізацыяў; таму, як паасобныя ўдзельнікі, так і пэўныя часткі гэтага руху маглі спрачацца, нават сварыцца. Але гэта было ўнутры, у межах аднаго руху, які быў адзіным. Так, напрыклад, у тым часе ўзвышэнскі паэта напісаў верш, не прапушчаны да друку савецкай цэнзурай, у якім ён востра нападаў на старэйшых пісьменьнікаў (не падаючы прозьвішчаў), а ў тым ліку й Купалу, за тое, што яны быццам не ставіліся нэгатыўна й не змагаліся супраць бальшавікоў. Перад нацдэмамі не стаяла магчымасьць выбару, аставалася толькі выкарыстоўваць існуючыя магчымасьці, націскаць на палепшаньне гэтых магчымасьцяў, каб будаваць той “безназоўны” падмурак “нацыянальнага пытаньня”. Ці ўдасцца яго дабудаваць, ніхто ня мог мець дакладнага адказу. Гэта было адно, супольнае для ўсіх. Вонкавая розьніца вынікала толькі з розных роляў, функцыяў,*

*пасадаў, але гэта нацдэмы разумелі. Каб Др. Ст[таніслаў] Станкевіч ведаў і тыя падзеі і тых людзей зблізка, каб ён ня блытаўся ў тэндэнцыйнай і непраўдзівай Адамовічавай павуціне і каб быў зусім незалежным ад штучна створанай "гэнэральнай лініі", дык ён не шукаў-бы гэтага "падзелу", які нагадвае нямілы для ўспамінаў "разьдзеляй і властвуй".*

*У сваёй прадмове я цьвердзіў, што, як відаць зь вялікай колькасьці вершаў Янкі Купалы, ён адмоўна ацэньваў дзейнасьць польскіх абшарнікаў на Беларусі яшчэ ў дарэвалюцыйным часе, востра асудзіў польскую акупацыю Беларусі і шматкроць гнеўна пратэставаў супраць гвалтоўнай палянізацыі ў Заходняй Беларусі пад Польшчай і пазбаўленьня трохмільённага насельніцтва гэтай часткі этнаграфічнай Беларусі нават самых мінімальных правоў нацыянальнай меншасьці дэмакратычных краўнаў. Сапраўды, Янка Купала зьяўляецца найбольш "антыпольскім", у гэтым сэньсе, беларускім пісьменьнікам (як і ягоны прыяцель і аднадумца — Якуб Колас). Праўда, я аб гэтым гаварыў няшмат, быццам мімаходам, бо зьвяртаў галоўную ўвагу на запярэчаньне тэзісам савецкага крытыка Я[ўгена] Мазалькова[11], які маляваў партрэт Купалы густымі чырвонымі фарбамі ды меў на ўвазе і Адамовічаву тэзу "прыдворнасьці" нашага паэты, якая фактычна супадала з Мазальковымі тэзамі. Але і тым, што я сказаў аб гэтай асаблівасьці творчасьці Купалы, я наступіў на вельмі-ж чульлівы мазоль Абрамчыкавай "гэнэральнай лініі" і гэтым стварыў галоўную прычыну забароны маёй прадмовы.*

*"Гэнэральная лінія" дапільнавана ў той спосаб, што вершаў, у якіх Купала асуджае польскую акупацыю, вершаў, прысьвечаных Заходняй Беларусі, ці хаця-б урыўкаў з гэтых вершаў, у зборніку няма. Верш "Шляхам гадоў", які быў уключаны ў зборнік, калі я яшчэ пісаў прадмову, аказаўся выкіненым таму, я ўпэўняны ў гэтым, што ў ім ёсьць востры ўрывак супраць польскае акупацыі Беларусі. У прадмове Др. Ст[аніслава] Станкевіча не ўпамінаецца нават пра існаваньне гэтых вершаў. Больш таго, пра палыменныя вершы, якія Купала пісаў у 1919 годзе, калі ён жыў пад польскай акупацыяй, Др. Ст[аніслаў] Станкевіч гавора мімаходам, як пра вершы, скіраваныя супраць расейскіх бальшавікоў, калі ў сапраўднасьці Купала скіраваў гэтыя вершы як супраць бальшавікоў, так і супраць польскіх акупантаў.*

*Возьмем для прыкладу верш "Паўстань з народу нашага...", аб якім Др. Ст[аніслаў] Станкевіч кажа агульнымі разважаньнямі і не спрабуе расшыфраваць яго канкрэтна.*

[11] Мозольков, Евгений. Янка Купала: жизнь и творчество. Москва, 1949.

*Зьмяці з палёў яе чужых бадзяк,*
*На стражы стань гранічнае мяжы...*
*Свой край заваяваць паўстань, Ваяк!*

*Згодзімся на хвіліну, што гэты заклік накіраваны толькі супраць бальшавікоў, і зірнем, як гэты Ваяк павінен быў выканаць яго. Ён стаў бы са сваім войскам удоўж Бярэзіны, якая тады была лініяй фронту, і прагнаў бы бальшавікоў на ўсход ад гэтай лініі, не кранаючы тэрыторыі на захад ад яе. Хіба-ж ясна, што Купала не прадбачыў такое разьвязаньне беларускага нацыянальнага пытаньня ў рамках свайго Прарока — Ваякі. У вершы “Сын і маці” з 1921 году, які ён супрацьставіў стварэньню толькі шасьціпавятовай Савецкай Беларусі, Купала сказаў даволі выразна, якія ён межы вызначыў свайму Ваяку. Словамі маці ён называе гэткія гэаграфічныя аб'екты ўнутры Беларусі: “Белавежы, Налібокаў там чуваць гоман...” і “Смаленск зь сьцяной цаглянай...”. А значыць, паводле сапраўднага зьместу Купалавага вершу, ягоны Ваяка павінен стаць на мяжы на захадзе ад Белавежскай Пушчы і на ўсходзе ад Смаленску і прагнаць усіх, каго ён знойдзе паміж гэтымі межамі, і расейскіх бальшавікоў, і польскіх акупантаў, як “чужых бадзяк”. Да гэткага-ж толькі выніку мы прыйдзем, калі прааналізуем такія вершы, як “Груган”, “Беларускія сыны”, “На нашым” ды іншыя.*

*Др. Ст[аніслаў] Станкевіч падаў вытрымкі з прадмовы Купалы на акадэміі, прысьвечанай 15-м угодкам творчасьці паэты, якая мела месца 24 чэрвеня 1920 году ў Менску (тады пад польскай акупацыяй). Паводле гэтых урыўкаў (крыніцы не пададзены) Купала ў прыгожых аптымістычных тонах гаварыў пра агульны посьпех беларускай нацыянальнай справы. Ён адзначыў і ценевыя бакі яе, калі ўспомніў пра “хвальшывых прарокаў” і “рэнэгацкія душы”, што “запрадаюць свой народ чужынцам”, адзначыўшы, што новыя людзі й новыя прарокі іх асудзяць.*

*Др. Ст[аніслаў] Станкевіч дадае наступны камэнтар: “З гэтай прадмовы, як і зь ягоных вершаў дадзенае пары, прабіваецца сільная ідэя вольнай і незалежнай Беларусі, а ня творанай тады ў розных формах беларускай савецкай рэспублікі, пра якую Купала нават не ўспамінае, як пра чужацкую і не адказваючую народным патрэбам крэатуру. Гаворачы аб “хвальшывых прароках” і “прадажных душах”, над якімі “новыя людзі” і “новыя прарокі” будуць “суды судзіць, з пакаленьня ў пакаленьне праклянцем успамінаць”, хіба-ж нікога іншага, як тых нямногіх Беларусаў, што прысталі тады да расейскага бальшавіцкага руху, меў на думцы Купала.*

*Адчуваецца, што Др. Ст[аніслаў] Станкевіч вельмі задаволены, што гэтым камэнтаром ён зрабіў вельмі зручны фокус-покус. Але,*

*калі дагэтуль ён старанна хаваў чульлівы мазоль “гэнэральнай лініі”, моўчкі абыходзячы няпрыемныя для яго асаблівасьці ў творчасьці Купалы, дык тут ён сапраўды паказаў, дзе ягоная слабая ахілесава пятка знаходзіцца. Вось-жа Купала гавора ня толькі пра фальшывых прарокаў на ўсходнім баку, але і на заходнім баку. Як ужо відаць зь вершу “Паўстань з народу нашага”, Купала гаворыць пра “чужакоў на ўсходняй і заходняй частках Беларусі”, так і тут ён гавора пра “фальшывых прарокаў”, што прадаліся абодвым гэтым чужакам. Яшчэ нядаўна перад тым Купала гаварыў, што адны ўглядаліся ў Няву, а другія ў Віслу. Ці-ж бы гэтая вісьлянская парода зусім вывелася?*

*Чаму Купала ў сваіх вершах таго часу і ў успамяненай прамове не дае канкрэтнага акрэсьленьня, а кажа ў агульных формах? Пачнем аналіз зь ягонага тачагаснага месцажыхарства. Хоць, як відаць з пазьнейшых вершаў, Купала вельмі адмоўна адносіўся да польскіх акупантаў, рэжым пілсудчыкаў, асабліва ў тым часе вайны, быў далёкім ад дэмакратычнага, каб Купала мог бы адкрыта і бясьпечна крытыкаваць польскую акупацыю і нават “фальшывых прарокаў” — палёнафілаў на гэтым боку. Але-ж ён мог крытыкаваць больш канкрэтна бальшавікоў і тых, што “прысталі да іх на ўсходнім баку”. Купала ня мог стаць на шлях такой аднабокасьці, бо палякі першыя скампрамэтавалі-б яго, паказваючы яго як свайго “саюзніка”. Беларусы, якія прыслухоўваліся да кожнага ягонага слова, маглі-б атрымаць памылковае ўражаньне, быццам Купала калі не прыхільна, дык прымірэнча адносіўся да польскіх акупантаў. Купала не хацеў прычыніцца да стварэньня памылковай арыентацыі. Ён ня ўспомніў пра савецкую “крэатуру” і не назваў больш канкрэтна “фальшывых прарокаў” таму, што ня мог канкрэтна ва ўмовах прыфрантавога Менску назваць заходнюю разнавіднасьць гэтых “прарокаў”, якія, “нямногія”, таксама сядзелі за банкетным сталом. Таму Купала як у вершах таго часу, так і ў сваёй угодкавай прамове карыстаўся мэтадам: хто мае вочы, хай бачыць, хто мае вушы, хай чуе. І кожны, хто будзе аналізаваць Купалы без аглядкі на “кан’юктуру”, “пляны” ды “гэнэральныя лініі”, лёгка зразумее праўдзівы зьмест ягонай творчасьці.*

*У гэтай прадмове Др. Ст[аніслаў] Станкевіч толькі адзін раз успамінае пра палянізацыю Заходняй Беларусі і то з выразнай мэтай сьвядома скіраваць у іншы бок значэньне Купалавага вершу “Адшчапенцам (Заходнім)”. Купала “пратэстуе супраць польскай палянізацыйнай палітыкі ў Заходняй Беларусі (прыкладам, верш “Адшчапенцам”). Палянізацыю праводзілі, пэўне-ж, палякі. Верш Купалы скіраваны супраць беларусаў — “адшчапенцаў”, палянафілаў.*

*Пытаньне “фальшывых прарокаў”, “прадажных душ” Купала ўзьняў у часе сваіх наступных угодкаў, 20-х угодкаў ягонай твор-*

*часьці ў маі 1925 году. У вершы “Шляхам гадоў”, прысьвечаным гэтым угодкам, Купала, як і раней, кажа ў агульным акрэсьленьні — “Другія і сягоньня іншым б’юць паклон багам”, каб не парушаць урачыстага тону вершу. Ён выказвае веру, што народ “не прадасьць ён за чужую скварку ані сваёй зямлі, ані сваіх дум чулых”. Але адначасна ён піша верш “Адшчапенцам (Заходнім)”, у якім ён ужо канкрэтна і надзвычайна востра асуджае “прадажныя душы”. У першай частцы вершу, граматычна і паводле зьместу зьверненай да мінулага, ён бічуе бліжэйшых і далейшых продкаў беларусаў, беларускую шляхту, якія — “чужой прадалі славе сваю зямлю і свой Народ” дзеля сваіх карысных мэтаў — “у звоне золата ўтапілі трухлявы душ сваіх абраз”. Далей у граматычна й паводле зьместу цяперашнім часе, ён асуджае цяперашніх адшчапенцаў, якія фактычна сталі на шлях гэтых здрадніцкіх продкаў і заняліся шкоднай для народу дзейнасьцю дзеля тых-жа карысных мэтаў. Адшчапенцы не зьяўляюцца самастойнымі чыньнікамі, а толькі выканаўцы волі сваіх гаспадароў:*

*Зь пянчанай пугай на адводзе,*
*На лбе зь пячаткаю сьвятой,*
*Ў чужым распасьвены гародзе,*
*Яшчэ гарод паганяць той.*

*Прыкрываючыся яшчэ беларускасьцю, яны й самі ня маюць ніякай пэрспэктывы на будучыню, на мейсца ў сучасным:*

*Свае распасьвеныя шыі*
*Ў ярмо нясуць на сьмех і зьдзек.*

*Жывуць, брыдуць, а дзе — ня знаюць*
*Сягоньня іх начлег, папас,*
*Адно — народ з пуцьця зьбіваюць*
*І ў процьму гоняць кожны час.*

*Хіба-ж ясна, што гэта не палякі апынуліся ў такім безнадзейна нізкім становішчы, а беларускія адшчапенцы, якія “народ з пуцьця зьбіваюць” сваім адвакацтвам “добрасуседзкіх адносін” тады, калі гэты “сусед” дзейнічае толькі варожа да беларускага народу. І гэта найвайстрэйшы прысуд, скіраваны супраць каго-небудзь зь беларусаў, які можна знайсьці ва ўсёй творчасьці Купалы. Зрабіў ён гэта толькі таму, што лічыць гэтых адшчапенцаў фактычна па-за мяжой беларускага нацыянальнага вызвольнага руху.*

*Усё гэта не належыць да катэгорыі памылак ці розьніцы ў поглядах, а выразнае сфальшаваньне. Прыгожы творчы твар нашага паэты-прарока аказаўся скалечаным, падстрыжаным “пад польку” партачамі-цырульнікамі. Абрамчык і тыя дзьве асобы ягонага “маз-*

*гавога трэсту", адкідаючы маю прадмову без прапановы "перарабіць" яе, зрабілі мне камплімэнт, бо прызналі, гэтым высокі ўзровень маёй прынцыповасьці: на такое сфальшаваньне Янкі Купалы я не згадзіўся-б.*

*Верш Янкі Купалы "Адшчапенцам (Заходнім)" можа быць толькі заключнай ацэнкай працы тых, хто яго сфальшаваў.*

Варта зазначыць, што погляды на творчасьць Купалы Янкі Ліманоўскага, што прайгралі на эміграцыі, фактычна перамаглі ў мэтраполіі й збольшага адпавядаюць сучаснаму айчыннаму бачаньню жыцьця й спадчыны клясыка. А зь перамогшымі тады, у 1950-я, трактоўкамі эмігрантаў добра суадносіцца агучанае праз паўстагодзьдзя Альгердам Бахарэвічам. Вось такі парадокс: пераможцы сталі пераможанымі.

***Жорж Наумчык***
*Саўт-Рывэр*

# МАЕ ЎСПАМІНЫ З ЖЫЦЬЦЯ НА БЕЛАРУСІ, У НЯМЕЧЧЫНЕ І АМЭРЫЦЫ[1]

## 1. Беларусь. Дзяцінства

Свае ўспаміны варта пачаць за многа гадоў да майго нараджэньня, зь біяграфіі бацькі. Ягоны лёс шмат у чым прадвызначыў і маё жыцьцё. Бацька, Іван Наумовіч (на Беларусі яго ўсе звалі Янка), нарадзіўся 2 лютага 1899 г. на Случчыне ў вёсцы Семежава[2]. У 1920 г. прымаў удзел у Слуцкім паўстаньні, і калі бальшавікі разьбілі паўстанцаў, то ён разам зь сябрам вырашылі перабегчы на польскі бок. Зайшлі да аднаго селяніна і папрасіліся пераначаваць. Гаспадар пагадзіўся, пусьціў у гумно і нават прынёс нешта паесьці. Тыя былі радыя, але выклікала падазрэньне тое, што ён так лёгка прыняў незнаёмых людзей і нават не папытаўся, хто яны і адкуль. Бацька падышоў да дзвярэй і ўбачыў, што яны з вуліцы закрыты на замок. Ну, значыць, бяда! Трэба шукаць выхад, каб уцячы. Добра, што дах быў накрыты саломай. У ім выдралі дзірку і давай наўцёкі! Пазьней даведаліся, што палякі мелі ўмову з саветамі аб абмене палоннымі: за аднаго паляка аддавалі дзесяць паўстанцаў. Выбраўшыся з гумна, бацька зь сябрам вырашылі, што паасобку будзе спакайней шукаць прытулак. На гэтым і разышліся.

Неўзабаве бацька асеў на хутары Логнавічы[3], што недалёка ад мястэчка Заастравечча[4]. Ён зьмяніў прозьвішча з Наумовіча на Наумчыка,

---

[1] Пры публікацыі ўспамінаў захоўваліся асаблівасьці мовы аўтара, упарадкаваны быў толькі правапіс і пунктуацыя. — ***Рэд.***

[2] У нэкралёгу, які быў зьмешчаны ў “Беларускай Думцы”, была пазначана памылковая дата нараджэньня 1 лютага 1898 г. — ***Ж. Н.***

[3] **Логнавічы** — вёска ў Клецкім раёне Менскай вобласьці, 163 км на паўднёвы захад ад Менску. У 1908 г. акрамя вёскі існавалі аднайменны маёнтак і хутар. У матэрыялах перапісу насельніцтва польскімі ўладамі 1921 г. згадваецца вёска Логнавічы й тры фальваркі з такой самай назвай.

[4] **Заастравечча** — вёска ў Клецкім раёне Менскай вобласьці, 165 км на паўднёвы захад ад Менску. У 1921—1939 г. мястэчка, цэнтр гміны ў Лунінецкім, з 1926 г. — у Нясвіскім паветах.

пазнаёміўся зь Пелагеяй Карсюк, і яны з часам пажаніліся (ня памятаю, у якім годзе). Мама была на шэсць гадоў маладзейшая за бацьку (нарадзілася 10 жніўня 1905 г.). Паходзіла зь беднай сялянскай сям'і. У яе было двое братоў: старэйшы Іван ды малодшы Ігнат, пра яго я яшчэ скажу. У бацькоў нарадзілася пяцёра дзяцей. Першыя тры — дзве дзяўчынкі і адзін хлопчык — не дажылі нават да году, памерлі немаўлятамі. З-за гэтага мама і бацька моцна перажывалі. Па рэкамендацыі знаёмых яны паехалі да аднаго знакамітага знахара. Ён сказаў маме: *"Не хвалюйся. Неўзабаве ў вас народзяцца два сыны, яны будуць доўга і добра жыць. З часам уся ваша сям'я пакіне радзіму і апынецца за акіянам. Там вашы сыны створаць свае сем'і. Малодшы стане багатым і выбітным чалавекам..."* (Усё так і споўнілася, апрача апошняга.)

У 1931 г. нарадзіўся мой брат Стэфан, а 14 лютага 1935 г. там жа на хутары ў Логнавічах і я зьявіўся на сьвет (у пазьнейшых дакумэнтах датай нараджэньня запісана 4 лютага 1937 г.). Хрысьцілі мяне ў тамтэйшай маленькай праваслаўнай царкве. Гэтую драўляную царкву, яшчэ пры саветах, перавезьлі ў музэй, недалёка ад Менска. Калі я ў 1990-я гг. прылятаў у Беларусь, то наведаў той музэй і бачыў тую цэркаўку[5].

Пры Польшчы бацька працаваў на розных работах. Некаторы час нават быў кіроўцам аўтобуса, які купіў ягоны сябра Бобрык. Езьдзіў у Нясьвіж, Клецк, Баранавічы. Пазьней Бобрык[6] таксама апынуўся на эміграцыі ў ЗША. Купіў фарму ў штаце Нью-Ёрк у гарах Катскіл, бацька яго часам адведваў. На гэтую фарму часта зьязджалася моладзь на некалькі дзён на адпачынак. Недзе ў 1958 г. і я там адпачываў з многімі сябрамі і сяброўкамі. Мясцовасьць там вельмі прыгожая, вазёры, ручаі, дзе можна купацца і лавіць рыбу.

Пазьней бацька стаў працаваць фурманам у заастравецкага войта. Таксама ён быў добрым музыкантам, граў на гармоніку, і яго часта запрашалі на вясельлі і хрэсьбіны. У той час мы жылі ў мястэчку пры самай гміне ў хатцы з двума пакоямі. У адным месьцілася наша сям'я, а другі — прызначаўся для маленькай турмы. Праўда, там вельмі рэдка хто сядзеў. Толькі памятаю, што аднаго разу туды пасадзілі звар'яцелага

---

[5] **Сьвята-Пакроўская царква ў Логнавічах** была збудаваная паміж 1784 і 1828 гг. на месцы былой уніяцкай капліцы. Дзейнічала як уніяцкая, пазьней як праваслаўная царква. У дакумэнтах часам называлася Астроўчыцкай паводле назвы бліжэйшага фальварку — Астроўчыцы. Пасьля таго як у 1935 г. была збудаваная царква Сьвятога Дзіянісія ў Заастравеччы, набажэнствы ў Логнавічах праводзіліся час ад часу. У 1954 г. адбылася апошняя служба. У 1987 г. паўразбураная царква была перавезеная ў Музэй народнай архітэктуры й побыту пад Менскам.

[6] Відаць, маецца на ўвазе **Атаназы Бобрык**. Абвестка пра ягоную фарму з запрашэньнем на адпачынак распаўсюджвалася ў беларускіх асяродках ЗША.

мужчыну, які хадзіў кругом пакою, стукаў кулаком па сьцяне ўвесь час, пакуль там быў. Не хачу хваліцца, але ў мяне добрая памяць на даўнія падзеі. Калі думаю аб нейкіх асобах ці мясьцінах, то проста бачу іх перад сабой, як на фота. Як зараз згадваю Заастравечча даваеннага часу. Перад хатаю, дзе мы жылі, была вялізарная рыначная плошча. На самай сярэдзіне расла нізкая, але аграмадная сасна, на якую дзеці часта залазілі, каб пагуляць. Вакол плошчы стаялі дамы, а ад яе адыходзілі пяць ці шэсьць дарог у розныя бакі. Адна вяла на Морач[7], другая — на Логнавічы, трэцяя — на старую частку Заастравечча, якую называлі “сяло”, а астатнія — ня памятаю куды.

Нейк летам, калі мне было гады тры, раненька, перад самым сьвітаньнем, будзіць нас бацька — мяне і Стэфана. Хуценька мы адзеліся. Вядзе нас пад гумно, якое належала да Заастравецкае гміны, каля якой мы жылі. Памаленьку адчыняе дзьверы, а там мноства зайцаў: і маленькіх, і вялікіх, мо 25—30, якія ядуць расьцярушанае сена ці зярняткі. Убачыўшы нас, яны шмарганулі хто куды. Вось гэты момант я памятаю аж па сёньня. Проста і цяпер бачу перад сабою гэтых цудоўных зайчыкаў.

Таксама я памятаю адно зімовае здарэньне. Нападала вельмі многа сьнегу і сям-там завіруха надула вялікія гурбы. Вось у такое надвор’е бацька ўзяўся пакатаць мяне на санках. Цягаў іх з адной гурбы на другую, і ў адной зь іх я выпаў з санак і ўваліўся ў сьнег, а бацька, не заўважыўшы гэтага, пацягнуў далей пустыя санкі. Я пачаў крычаць, і тады бацька агледзеўся і прыбег выручаць мяне. Выцягваючы мяне са сьнегу, ён сьмяяўся, а я плакаў, але з часам усё супакоілася.

Яшчэ адно здарэньне было ўжо пры саветах. Аднае раніцы я прачнуўся ад таго, што з рыначнай плошчы даносіўся шум і плач. Я падышоў пад вакно і ўбачыў шмат фурманак, а пры іх мноства людзей: мужчын, жанчын і дзяцей. У той час я ня знаў, хто яны і куды зьбіраюцца, а калі б хто і сказаў, то наўрад ці зразумеў бы, бо мне было толькі чатыры гады. І толькі праз некалькі гадоў я даведаўся, у чым была прычына таго ранішняга гвалту. На плошчы сабраліся “кулакі”, якіх саветы вывозілі ў Сібір ці на Паўночны Ўсход.

У той час бацька моцна перажываў, што саветы выкрыюць, што ён быў слуцкі паўстанец, і вышлюць нас у Сібір. Каб не прыйшлі немцы, то напэўна так і сталася б. Бацька казаў, што бачыў савецкі сьпіс асоб, якія падлягаюць высяленьню, дзе сярод іншых было і нашае прозьвішча. Але пакуль што ўсё абыходзілася, і ён працаваў памочнікам фэльчара.

Пры саветах мы перабраліся ў іншую хату, у старой частцы Заастравечча, за якія паўкілямэтра ад гміны. Гэта было зімою. Памятаю,

[7] **Морач** — вёска ў Клецкім раёне Менскай вобласьці, 172 км на паўднёвы захад ад Менску. У 1921—1939 гг. — у складзе Заастравецкай гміны.

як мама дала мне збанок і паслала па малако да суседзяў, якія жылі цераз дарогу. На дварэ было многа сьнегу, я ўзьдзеў валёнкі і пайшоў. Калі зайшоў на суседзкі двор, то там мяне сустрэлі велізарныя гусі. Я натапурыўся, бачу — небясьпека. Адзін гусак раптам раскінуў крылы і пачаў гусаць, шпарачы да мяне. Я кінуў збанок і бегам паімчаў дадому, нават згубіў свае валёнкі. Прыбег у хату босы, з крыкам і плачам і кажу маме, што мяне гусі ледзь не забілі. Мама са сьмехам супакоіла мяне і пайшла на двор шукаць мае валёнкі.

Аднаго летняга вечара я з братам сядзеў пры дарозе, недалёка ад хаты. Гэта было нашае любімае месца. Стэфан зрабіў са сьвінога пухіра балён, высушыў яго і насыпаў усярэдзіну сухога гароху, які моцна бразгаў, калі хто-небудзь пачынаў махаць. Брат прывязаў пухір да кійка і даў яго мне. І вось я сяджу, гуляю, махаю кійком, гарох бразгае, мне весела. Раптам бачу па дарозе павольна едзе фурманка, а наперадзе сядзіць мужык з доўгаю пугаю. Нешта мяне штурханула напалохаць гэтага фурмана. Я падбег да каня і давай махаць пухіром, конь спужаўся і аж на дыбкі стаў, а фурман з крыкам *"Ах ты сукін сын!"* перацягнуў мне пугаю па сьпіне. Я зь перапуту кінуў пухір і наўцёкі...

Неўзабаве пасьля таго выпадку я ізноў сядзеў з братам на тым самым месцы. Гэтым разам мы назіралі, як мноства савецкіх салдатаў конна, пешшу, на роварах і грузавіках уцякалі на ўсход. А цераз пару дзён глядзелі, як праходзілі нямецкія жаўнеры. Прайшоў, мажліва, месяц, і зноў мы з братам сядзелі на тым самым месцы. Але гэтым разам нам давялося назіраць нешта страшнае. Па дарозе ішоў мясцовы жыд, яшчэ малады чалавек, са сваім маленькім сынам. У гэты самы час праяжджаў грузавік зь нямецкімі жаўнерамі. Раптам машына спынілася. З кабіны выскачыў немец і яшчэ некалькі жаўнераў — з кузава. Адзін зь іх падышоў да жыда і пытаецца: *"Jude?"*[8], той адказвае: *"Ja"*[9], ён, відаць, размаўляў па-нямецку. Тады жаўнер узяў мужчыну, паставіў яго каля грузавіка, а сам ускінуў вінтоўку і прыцэліўся. Хлопчык з плачам кінуўся да бацькі, жыд стаў нешта гаварыць, паказываючы на малога: *"Kleine kinder!"*[10]. Да таго немца падышоў другі жаўнер і пачаў гаварыць. Нарэшце той першы пхнуў жыда, даў яму ботам у задніцу і крыкнуў *"Raus hier!"*[11]. Пасьля таго эпізоду мы ўжо баяліся выходзіць на дарогу і нешта там выглядаць.

У 1941 г. у Заастравеччы жылося спакойна. Партызанкі яшчэ не было. Людзі займаліся сваімі справамі, працавалі на гаспадарцы. Ад-

[8] ***"Jude?"*** (ням.) — "Габрэй?"

[9] ***"Ja"*** (ням.) — "Так".

[10] ***"Kleine kinder!"*** (ням.) — "Маленькія дзеці!"

[11] ***"Raus hier!"*** (ням.) — "Прэч!"

крылася беларуская школа, куды я самастойна пайшоў і запісаўся. Бацькі нават не хацелі паверыць, што я, шасьцігадовы, мог такое зрабіць. Школа, пабудаваная яшчэ пры Польшчы, новая і прыгожая, была ад нашае хаты, можа, за які кілямэтар з паловай.

У хуткім часе, памятаю як сёньня, бацька забягае ў хату, хапае шчотку, пачынае чысьціць боты. Маці пытае: *"Ты куды?"* — *"Я запісываюся ў беларускую паліцыю!"* Маці ў крык: *"Ты што здурнеў?"* Прабавала адгаварыць ад такога намеру, але дарма. Так бацька паступіў у заастравецкую паліцыю. Ён з маладых гадоў страшэнна не любіў камунізм. Затым і пайшоў у Слуцкае паўстаньне. Калі прыйшлі немцы, пайшоў зь імі, бо думаў, што яны — нашыя вызвольнікі, так тады думалі многія, але пазьней выявілася, што гэта ня так.

У першы час паліцыі ў мястэчку было мала, здаецца, каля 15—20 чалавек. Узброены яны былі слаба, нават ня кожны паліцыянт меў вінтоўку. Камэндантам быў нейкі паляк (прозьвішча ягонае я ня памятаю). Вядома, што адразу з пачаткам акупацыі палякі стараліся захапіць уладу ў свае рукі, і шмат у якіх мясцовасьцях ім гэта ўдалося. З часам беларусы ўзварушыліся і пачалі пераймаць адміністрацыю. Такім чынам немцы недзе прыбралі першага камэнданта паліцыі, а на ягонае месца стаў мой бацька, які нядоўга прахадзіў шараговым паліцыянтам. Ягоным заступнікам таксама быў беларус Муравіцкі. Пасьля таго мы перасяліліся ў невялікую хатку каля пастарунку. Пастарунак быў двухпавярховы і, здаецца, мураваны. Разам з намі жыў і мамін брат, дзядзька Ігнат Карсюк, які прыйшоў у паліцыю неўзабаве пасьля бацькі. Ён ніколі ня быў жанаты, і нашая сям'я стала яму як родная.

Неўзабаве пайшла пагалоска пра партызанаў, хаця ў Заастравеччы ўсё заставалася спакойна. Але раптам адной позьняй ноччу пачуліся крыкі *"ўра!"* і ўсчалася страляніна — напалі партызаны. Мама схапіла соннага мяне і Стэфана і пацягнула ў пограб, кінула туды некалькі падушак, і мы палезьлі ўніз, мама — за намі. Калі мы беглі ў пограб, я бачыў, як на сьцяне праз вакно адбіваліся вялікія цені — гэта партызаны беглі паўз нашу хату.

Бацька падчас таго здарэньня начаваў у пастарунку і пазьней расказваў, што адбылося. Паліцыя перастрэльвалася з партызанамі цераз вокны, але апошніх было больш, чым паліцыянтаў, і справа прымала сур'ёзны абарот. Было ясна, што без дапамогі напад не адбіць. Дзядзька Ігнат неяк здолеў выскачыць праз заднія дзьверы ў кусты і цераз агароды пабег на другі канец мястэчка, дзе стаялі немцы — ці гэта была жандармэрыя ці нейкая лясная каманда. Іх было няшмат, але ўсе добра ўзброеныя. Яны знаходзіліся за які кілямэтр ад пастарунку, але чамусьці ніяк не адрэагавалі на партызанскі напад. Магчыма, думалі, што паліцыянты праводзяць нейкія начныя навучаньні. Адным словам,

дзядзька Ігнат дабраўся да іх і расказаў, у чым справа. Немцы адразу ж павярнулі некалькі кулямётаў у бок пастарунку і распачалі вялікую страляніну. Партызаны спужаліся, падумалі, што паліцыі ідзе вялікая помач, і давай наўцёкі, падабраўшы сваіх раненых і забітых. Такім чынам паліцыя была выратавана. Калі б ня немцы, то пастарунак быў бы захоплены, так як слабаўзброеныя паліцыянты не маглі яго доўга ўтрымліваць. Загінуў толькі адзін паліцыянт, які выскачыў з будынку на двор, дзе яго і забілі. Гэта быў расеец па прозьвішчу Лучын. Ён пакінуў маладую жонку з маленькім дзіцём, якія неўзабаве зьехалі зь мястэчка[12].

Пасьля таго выпадку маці кожны раз вечарам пасылала нас з братам начаваць на хутар, да знаёмых, баючыся, што партызаны зноў нападуць на пастарунак і разаб'юць паліцыю, а так мы, мажліва, застанемся ў жывых. Тыя вечары, калі мне і Стэфану даводзілася пешкі ісьці на хутар, былі для нас вельмі смутнымі. Але нашую маму можна зразумець. Хадзілі чуткі, што партызаны цалкам зьнішчалі сем'і паліцыянтаў, забівалі і жанчын, і дзяцей.

У хаце каля пастарунку мы пражылі некалькі месяцаў, а потым перабраліся за якую чвэрць кілямэтра ў былую жыдоўскую хату. Боль-

[12] Магчыма маюцца на ўвазе падзеі жніўня 1942 г., калі Заастравечча было атакаванае партызанскай брыгадай імя Леніна. Пасьля вайны камандзір брыгады В. Васільеў прыгадваў: *"...в начале августа 1942 года отряд располагал достаточными данными разведки о состоянии и расположении Заостровечского гарнизона немцев, расположенного у шоссейной дороги Барановичи — Слуцк. Гарнизон немцев располагался на двух участках. Жандармский участок в центре местечка насчитывал более 20 немцев. Полицейский участок насчитывал более 40 человек и находился на окраине Заостровечья в двухэтажном доме.*

*Было решено выйти всем составом отряда и произвести нападение на гарнизон. 15 августа 1942 года отряд в полном составе... к 3 часам ночи достиг м. Заостровечье. Одной группой партизан окружили гарнизон с жандармерией. Второй группой броском перебежали, подползли к полицейскому участку. Третья группа оцепила здание начальника полиции и склада. Четвёртая группа в 24.00 прервала телефонную связь Заостровечье — Клецк.*

*В 3 часа ночи, по сигналу, открыли огонь по полицейскому и жандармскому участкам. Из здания полицейского гарнизона в страхе выскакивали из окон полицейские, побросав оружие, без сопротивления скрывались в темноте. Одного полицейского захватили в плен, многие были ранены. Возвращаясь в лагерь, партизаны восхищались и с радостью рассказывали друг другу как и кто действовал в этой операции. Настроение было приподнято, все были восхищены проведённой операцией..."* (Успаміны В. Васільева захоўваюцца ў зборах У. Сазановіча ў фондах Музея гісторыі Клеччыны).

шую частку жыдоў немцы адразу ж расстралялі на рынку[13], але многія яшчэ жылі ў мястэчку, насілі на адзёжы жоўтыя зоркі і працавалі дзе-небудзь. Адна маладая жыдоўка — Сара — прыходзіла да нас. Яна дапамагала маёй маме ў хаце: прыбірала, рабіла дробную работу. Мама плаціла ёй прадуктамі: хлебам, малаком, рознай агароднінай. У Сары была маленькая дзяўчынка, год зь нечым. Сара ўсё прасіла маму, каб яна ўгаварыла бацьку аддаць дзяўчынку ў прыют. Яна казала, што для жыдоў цяпер дрэнныя часы, і яна хоча, каб хоць яе дачка засталася жыць. Маці сказала пра гэта бацьку, але каб аддаць дзіця ў прыют, трэба было мець дазвол ад немцаў. Таму бацька спачатку не пагаджаўся, але ўрэшце паехаў у Клецк да нямецкага капітана, зь якім быў добра знаёмы, і расказаў пра гэтую сітуацыю. Той памахаў пальцам у бацькі перад носам і сказаў: *"Каб ты распавёў якому-небудзь СС-аўцу, а не мне, што хочаш ўратаваць жыдоўскую дзяўчынку, то цябе б застрэлілі на месцы"*. І на гэтым справа скончылася. Шкада, што мы не змаглі ўратаваць нявіннае дзяўчо.

Праходзілі дні, тыдні, месяцы. Паліцыя павялічвалася. Яна налічвала ўжо больш за 70 чалавек, якія былі добра ўзброеныя. У кожнага паліцыянта была вінтоўка. Мелі кулямёты (адзін савецкі "максім" стаяў на вышцы каля пастарунку, другі — у бункеры за пастарункам), мінамёт, шмат патронаў і гранат. Немцаў у Заастравеччы было мала. Пасьля таго як жандармерыя выехала, засталіся толькі два нямецкія вайскоўцы: фольксдойч лейтэнант Тыль — мужчына сталага веку, гадоў пад сорак, і жандар, малады лейтэнант Ляйтнэр, ці Летнэр. Час ад часу прыязджалі некалькі нямецкіх афіцэраў па афіцыйных справах, але доўга не затрымліваліся. Партызаны яшчэ раз спрабавалі атакаваць мястэчка, але былі адбітыя, і пасьля таго выпадку нападаў не было. Хадзілі чуткі, што партызаны называлі Заастравечча *"маленькі Бэрлін"*. На парадах і ўрачыстасьцях паліцыя разгортвала бел-чырвона-белыя сьцягі, часам я бачыў на рукавах бел-чырвона-белыя стужкі, і, здаецца, у некаторых былі значкі з Пагоняй. Дзякуючы моцнай паліцыі людзі ў мястэчку жылі спакойна. Вядома, я чуў размовы старэйшых пра вайну, пра тое, што адбываецца навокал. Казалі, што партызаны грабяць па вёсках насельніцтва, часта бываюць забойствы. Але ў Заастравеччы людзі не адчувалі такога страху. Калі я ў 1993 г. упершыню праз 49 гадоў наведаў сваю радзіму, то мой стрыечны брат Юзік Карсюк казаў: *"Дзякуючы твайму бацьку і паліцыянтам, заастравечцы не пацярпелі ні ад партызанаў, ні ад немцаў"*. Пра гэта яму даўно гаварылі многія мясцовыя людзі.

Недзе ў 1943 г. падлеткі ва ўзросьце ад 7 да 15 гадоў зарганізавалі групу накшталт скаўтаў (хоць тады мы такога слова ня чулі). Нас было

[13] Расстрэл яўрэяў Заастравечча адбыўся ў жніўні 1941 г. Карнай камандай, якая прыбыла з Баранавічаў, было забіта 86 чалавек з 18 сямей.

хлопцаў 20—30. Мы вырабілі сабе драўляныя вінтоўкі і пачалі муштравацца, як жаўнеры, і маршыраваць па вялікім рынку пасярэдзіне мястэчка. Так як мы маршыравалі часта, нас прыкмеціў адзін з паліцыянтаў і пачаў нас абучаць так, як абучаюць жаўнераў у войску. Мы былі вельмі радыя гэтай вайсковай забаве. Памятаю, што, маршыруючы, мы сьпявалі ваенныя песьні. Вось помню адну зь іх. Пачынаў запявала, сын аднаго з паліцыянтаў, які меў моцны і прыгожы голас: *"Бяз таткі, бяз мамкі, бяз родных сваіх забралі нас у салдаты, мы служым удваіх"*. Тады ўсе разам: *"Гэй, горы-даліны мы ўсе перайдзем, жыдоў-камуністаў усіх пераб'ем!"*. Цяпер мне гэта здаецца вельмі няправільным, але што было, тое было. Што дзеці маглі знаць, ці ж яны думалі пра зьмест гэтай песьні?

Бацька часта заставаўся на ноч у пастарунку. Некалькі разоў я заставаўся начаваць разам зь ім у пакоі на другім паверсе, хоць гэта моцна не падабалася маме, якая баялася, што партызаны могуць зноў напасьці. Але я любіў гуляць па пастарунку. Асабліва мне падабалася ўзьбягаць на другі паверх і зьяжджаць па парэнчах наніз. Таксама было цікава залазіць на вышку і разглядаць з вышыні прыгожыя ваколіцы. Усе паліцыянты мяне знаалі і добра да мяне ставіліся, часам частавалі цукеркамі. Аднаго разу я гуляў у бацькавым пакоі. Там у кутку стаялі дзьве вінтоўкі: адна бацькава, савецкая, а другая нямецкая — лейтэнанта Тыля, які кватараў зь ім у адным пакоі. Іх саміх у той час не было. Мне не было чым заняцца, і штосьці пацягнула да тых вінтовак, хоць бацька мне забараняў чапаць зброю. Я пачаў пстрыкаць забясьпечнікам у нямецкай вінтоўцы — то ў адзін бок, то ў другі. Нарэшце нагуляўся і вырашыў зьяжджаць па парэнчах уніз, але вырашыў праверыць, ці правільна пакінуў забясьпечнік. Бо, думаю, калі што ня так, немец можа выпадкова застрэліць бацьку. Я чуў пра такія выпадкі: у Клецку адзін паліцыянт, чысьціўшы вінтоўку, незнарок забіў другога. Думаю, як жа праверыць? Адзін выхад — паспрабаваць націснуць на курок: калі забясьпечнік узьведзены, то ня выстраліць. Так і зрабіў. І калі націснуў на курок, раптам грымнуў стрэл, куля паляцела ў столь. Я спалохаўся, думаю: *"Вот зараз будзе мне па задніцы"*. Хутка нанізу выбег дзяжурны паліцыянт і пачаў крычаць: *"Хто выстраліў?"* Я маўчаў, а калі ўсё супакоілася, ціхенька зьехаў па парэнчах уніз і шмыгнуў дадому.

Прайшло некалькі месяцаў, і здарыўся яшчэ адзін падобны выпадак. Дзесь пад вечар я залез на вышку, на самым версе якой стаяў савецкі кулямёт "Максім", цалкам падрыхтаваны да стральбы, накрыты брызэнтам. Я скінуў брызэнт і пачаў разглядаць гэты вялізны кулямёт. Ён быў накіраваны на лес, збоку вісела стужка з патронамі. Я падумаў: *"А што будзе, калі зьлёгку націснуць на кнопку?"* Калі я націснуў тую кнопку, прагучаў стрэл, але, дзякуй Богу, толькі адзін, відаць, каб націснуў мацней, то атрымалася б чарга. Тут я ўпаў на падлогу і прытаіўся. Ізноў выбег дзяжурны паліцыянт і крыкнуў: *"Хто*

*стрэліў?"* Але, пастаяўшы некалькі хвілін і, відаць, не здагадаўшыся, адкуль быў выстрал, пайшоў назад у пастарунак. Я паціхеньку зьлез з вышкі і пабег дадому.

Так я праводзіў летнія вакацыі. Восеньню трэба было зноў ісьці ў школу. Але недзе ў 1943 г., калі навокал актыўна дзейнічалі партызаны, пайшлі чуткі, што будзе напад на Заастравечча. Тады прыехала многа паліцыі з Клецку, Баранавіч і яшчэ аднекуль, і ўсе яны разьмясьціліся ў школе. Аднаго разу зь нейкай прычыны там усчаўся пажар, і драўляны будынак згарэў дашчэнту. Празь нейкі час школа зноў пачала працаваць у старых дамах у розных канцах мястэчка, але мы з братам туды не хадзілі. Мама баялася, што там могуць апынуцца партызаны, што для нас, як сыноў камэнданта паліцыі, было асабліва небясьпечна.

Час ад часу бацька браў 20—30 паліцыянтаў і ладзіў засаду на партызан. Яны часта затрымлівалі абозы з нарабаваным дабром і ўсё прывозілі ў Заастравечча. Часам увесь рынак быў запоўнены фурманкамі, а на іх розная адзёжа, хлеб, мука, сала. Тут жа была свойская жывёла: куры, гусі, сьвіньні, авечкі, каровы. Усё гэта трэба было здаваць у Клецк. У адзін дзень прыходзіць да майго бацькі селянін і просіць амаль з плачам: *"Пане камэнданце, аддайце мне майго каня, безь яго не магу жыць"*. Бацька, трохі падумаўшы, сказаў: *"Ідзі бяры скарэй, каб ніхто ня бачыў"*. Той ня мог надзякавацца і хутка пабег. Наколькі я ведаю, бацька неаднойчы аддваў людзям іхнюю апошнюю кароўку ці каня, хоць гэта было небясьпечна, бо немцы за ім наглядалі.

Аднаго разу разам з абозам узялі ў палон партызана. Бацька ў той час некуды ад'ехаў, а я быў на пастарунку і чуў, як палоннага дапытвалі ў суседнім пакоі. Яго білі нагайкаю і нешта пыталі, а ён усё крычаў: *"Таварышы! Таварышы!"* Мне было страшна гэта чуць, і я выйшаў на двор. Неўзабаве на ганак вывелі палоннага, які трымаў рукамі свае расшпіляныя порткі. Раптам пачуўся выстрал зь пісталету. Я не заўважыў, хто страляў: ці нямецкі жандар, ці заступнік камэнданта Муравіцкі. Куля трапіла партызану ў грудзі, ён паваліўся на сходы. Немец нагой раскрыў яму расшпіляныя порткі і сказаў: *"Jude!"* Забітага жыда хутка падабралі і павезьлі хаваць у поле за мястэчкам. Тады я першы раз пабачыў, як забіваюць чалавека. Для мяне ўсё гэта было жудасным, я ня мог больш гуляць і пабег дадому. Таксама помню: калі мы каталіся на лыжах на полі каля спаленай школы, то бачылі застрэленага партызана, які ляжаў некалькі дзён. Пазьней нехта яго пахаваў.

Другім разам у палон узялі маладую жанчыну-партызанку, у якой на грудзях вісеў пісталет, які бацька забраў сабе. Яе толькі дапытвалі, але ня білі, а цераз пару дзён завезьлі ў Клецк, таксама як і іншых палонных. Што зь ёю было далей, ня ведаю. Таксама аднойчы злавілі ў палон маладога чэха-партызана. Яго паліцыя ня біла на допытах, а адносілася культурна. Ён выглядаў здаровым і нават адказваў на

некаторыя пытаньні. Потым яго перадалі немцам. Цераз многа гадоў, каля я ўжо жыў у Амэрыцы, то чуў, што той чэх уцёк і вярнуўся дадому. Ён напісаў мэмуары, дзе ўспамінаў пра заастравецкую паліцыю і майго бацьку[14].

Здаецца на пачатку 1944 г. паліцыя вырашыла паехаць у лес паблізу мястэчка, каб насекчы дроваў. Сабралася якіх 30 паліцыянтаў. Бацька меўся ехаць зь імі, але нямецкі жандар Летнэр сказаў, што замест камэнданта паедзе ён сам. Перад гэтым у Заастравеччы была нейкая старая кабета, якая расказвала, што ў лесе зьявілася шмат партызанаў[15], але нямецкі афіцэр на гэта толькі махнуў рукою і сказаў, што дасьць ім рады. Аказалася, што партызаны арганізавалі засаду. Яны дазволілі ўзяць дровы, а потым раптоўна пачалі страляць з усіх бакоў. 20 паліцыянтаў і нямецкі афіцэр былі забіты. Уся гэта страляніна была чутная ў Заастравеччы. Мой бацька схапіў некалькі кулямётаў на воз і з другімі паліцыянтамі паімчаўся ў той бок. Пад'ехаўшы блізка, яны пачалі страляць з кулямётаў і прымусілі партызан адступаць. Выручылі чалавек сем паліцыянтаў, у тым ліку і дзядзьку Ігната[16].

---

[14] Гаворка ідзе пра **Ладзіслава Сташко**, надпаручыка (старшага лейтэнанта) славацкай арміі, які служыў у ахоўным палку ў Беларусі. Восеньню 1943 г. ён арганізаваў пераход групы сваіх байцоў на бок савецкіх партызанаў. У пасьляваенных успамінах Л. Сташко згадваў пра свой палон, але не ўспамінаў ні І. Наумчыка, ні Заастравечча: *"23 февраля 1944 г., возвращаясь из разведки, вместе с партизаном Винцко Погодским мы попали недалеко от деревни Морочь, Клецкого района, в немецкую ловушку. В неравном бою Винцко погиб. Что случилось со мной, не помню. Пришёл в себя в тюрьме СД в городе Барановичи. Я был тяжело ранен…"* (Огни партизанской дружбы. Минск: Гос. изд-во БССР, 1962. С. 329). З Баранавічаў Л. Сташко накіравалі ў Славакію, дзе над ім рыхтавалі паказальны судовы працэс. Падчас Славацкага нацыянальнага паўстаньня быў вызвалены з турмы. Пасьля вайны працягваў службу ў арміі ЧССР.

[15] На пачатку 1944 г. у Клецкі й Ганцавіцкі раёны была перадысьлякаваная з-пад Менску **18-я партызанская брыгада імя М. Фрунзэ**, якая разгарнула актыўную баявую дзейнасьць.

[16] Газэта "За совецкую Беларусь!", орган падпольнага Клецкага РК КП(б)Б, у нумары ад 30 студзеня 1944 г. зьмясьціла інфармацыю "Ўдар па бандытах" з апісаньнем тых падзеяў: *«Гэта было ў другой палове дня. Стаяла ціхае, добрае надвор'е. Па дарозе ехалі народныя мсціўцы… Раптам пачуўся голас разведчыка: "Таварыш камандзір, на балоце паліцаі".*

*Паліцаі з фашысцкага гнязда Заастравечча прыехалі браць сена. Не прайшло і хвіліны, як запрацавалі партызанскія аўтаматы. Паліцаі, кідаючы зброю, кінуліся ўцякаць. Але кулі, вылецеўшыя з партызанскай зброі, дасягалі фашысцкіх прыхвастняў.*

*На полі бою засталіся 22 трупы і 6 параненых паліцаяў. Так былі правучаны бандыцкія галаварэзы з фашысцкага гнязда Заастравечча».*

Пахаваньне загіблых было вельмі ўрачыстым. Прыехалі ганаровыя каманды паліцыянтаў з Баранавіч, Клецку, Нясьвіжу. Усіх пахавалі ў адной доўгай магіле, а цела нямецкага афіцэра адправілі ў Нямеччыну[17].

Тым часам да мястэчка набліжаўся фронт. Дзесь у чэрвені 1944 г. прыйшоў загад, каб паліцыя і адміністрацыя гміны, разам зь сем'ямі, зьбіраліся адступаць на захад. Бацька зь дзядзькам Ігнатам запрэглі каня да возу. Паклікалі другога дзядзьку Івана, яго сыноў Івана і Юзіка, што жылі недалёка на хутары. Яны дапамаглі нам наладаваць воз патрэбнымі рэчамі і прадуктамі на дарогу. Я быў малы і не разумеў, чаму нам трэба ўцякаць, хто наступае, хто адступае. Пасадзіў на воз свайго коціка, а брат — сабачку Жучку. Дзядзька кажа: *"А гэтых куды?"* За іх — і вон! Да воза прывязалі карову Ляльку, якую мама вельмі любіла. Між іншым, калі ў 1944 г. прыйшлі саветы, то ў Карсюкоў з хутара хацелі забраць карову. Казалі, што яна "паліцэйская", але тыя давялі, што карова іхняя, а "паліцэйскую" Наумчыкі забралі з сабою. Таксама мы ўзялі

---

[17] Баранавіцкая газэта "Пагоня" ў № 9 ад 2 лютага 1944 г. зьмясьціла зацемку "Кроў за шчасьце Бацькаўшчыны", падпісаную крыптанімам Р. К.: *«У мястэчку Заастравечча дня 23 студзеня гэтага года адбыліся паховіны паліцыянтаў, каторыя ахвяравалі жыцьцём у змаганьні з бандытамі. На жалобную ўрачыстасьць прыбылі прадстаўнікі акруговай жандармеры, Старшыня Клецкага Павету, прадстаўнікі павятовай жандармеры і паліцыі, прадстаўнікі павятовага аддзелу СБМ, пажарнае аховы і шмат людзей з усіх вёсак павету. Масавае прыбыцьцё сялянства Клецкага павету на паховіны сваіх абаронцаў-паліцыянтаў пацвярджае іх глыбокую і станоўчую лучнасьць із сваёй збройнай сілай, каторая змагаецца супраць жыда-бальшавіцкіх бандытаў.*

*Жалобны праход з удзелам чатырох сьвятароў, баранавіцкай паліцыйнай аркестры і ганаровага зьвязу беларускай паліцыі, праводзіць герояў, якія аддалі сваё жыцьцё ў змаганьні — у вапошнюю вялікую дарогу. Над магілаю прамаўляе прадстаўнік акруговай жандармеры. Сказаўшы словы шчырай удзячнасьці за верную і адданую службу ён запэўнівае, што ахвяра іх крыві не дарэмная, бо прыйдзе такі дзень, калі сьцяг перамогі залунае над іх магілаю.*

*Старшыня павету сказаў: "Беларуская зямля пакрылася яшчэ адной нацыянальнай сьвятыняй — гэтай сьвятыняй будзе брацкая магіла нашых слаўных змагароў. Няхай ня цешацца ворагі, празь сьмерць і кроў найлепшых сыноў нараджаецца новае жыцьцё Беларусі. Гэта братняя магіла стане твярдыняю беларускага духа. Заастравечча было заўсёды дарагім для нас, цяпер яно будзе даражэйшым, бо яно асьвечана беларускай крывёю. Сьпіце спакойна гэрої і няхай вам сьніцца шчасьлівая Беларусь, а мы, жывыя, не дамо пахіснуцца таму сьцягу, у вабарону якога вы аддалі жыцьцё. На вашай крыві ўзрасьце і закрасуе кветка лепшай долі Беларусі. Ня будзе забыта ваша магіла! У веснавы дзень прыйдуць сюды беларускія дзеці і нявіннаю рукою пасадзяць кветкі зь беларускіх палеткаў, у абароне якіх загінулі Вы"».*

двух коней. Адзін цягнуў воз, а другі быў кавалерыйскі. На ім бацька часта езьдзіў у засады на партызан. Аднаго разу, як ён расказываў, яму ўдалося, седзячы на кані, злавіць малога ростам партызана. Бацька схапіў яго за вінтоўку, што вісела на сьпіне, але той выкруціўся і кінуўся наўцёкі. Бацька прыцэліўся ў яго з захопленай вінтоўкі, але яна ня выстраліла, мабыць была няспраўная.

Амаль усе паліцыянты разам зь сем'ямі таксама рушылі ў дарогу. Праўда, некалькі зь іх уцяклі ў лес да партызанаў. Выехаў наш абоз спачатку на Клецк, а адтуль — на Баранавічы. Але Баранавічы тады моцна бамбілі, і мы абмінулі горад, не заязджаючы ў яго. Бацька і іншыя паліцыянты ехалі ў сваіх чорных уніформах, з Пагоняю на шапках, са зброяй. Да абоза ўвесь час далучаліся новыя і новыя людзі, і ён вырас да якіх 200 фурманак, ды значна расцягнуўся. Па дарозе бацька сустрэў нейкага знаёмага, які ехаў на малым грузавіку з паравым рухавіком: у печ кідалі чуркі, яны гарэлі, рабілася пара, і такім чынам машына рухалася. Мы з братам селі ў грузавік разам з бацькам, а мама і дзядзька Ігнат паехалі на возе. Меліся сустрэцца ў прызначаным месцы. І вось, калі мы з бацькам былі недалёка ад Слоніму, у машыне наваліла (лопнула) кола. Бацька спыніў самаход і стаў мяняць кола. У той самы час якраз па дарозе ехалі некалькі нямецкіх самаходаў, і раптам зьявіўся савецкі самалёт і пачаў страчыць па іх з кулямётаў. Мы кінуліся ў поле хавацца. Дзякуй Богу, засталіся жывымі. Бацька нарэшце справіў кола і мы паехалі далей. Дагналі абоз, бацька кінуў грузавік і далей паехалі з абозам.

Аднаго разу, калі мы сталі на начлег, я разам са Стэфанам узялі коней і павялі на недалёкае возера, каб напаіць. Я сеў на бацькавага каня безь сядла, а Стэфан на другога, і мы паехалі. Калі ўвайшлі ў ваду, мой конь раптам пайшоў у сярэдзіну возера, а потым паплыў, так што на паверхні была відна толькі яго галава. Я, седзячы на ім, кінуўся ў паніку, думаў, што ўтаплюся, бо яшчэ ня ўмеў плаваць. Пачаў крычаць: *"Стэфан, ратуй!"* Брат стаў супакойваць мяне, казаў, што коні ўмеюць добра плаваць. Нарэшце конь завярнуў да берагу. Як толькі мы выбраліся з вады, я зьлез з каня і ўжо ніколі больш на ім ня езьдзіў.

Наш абоз меўся ехаць на Беласток, але немцы паведамілі, што ў Белавескай пушчы вельмі шмат партызанаў, і мы павярнулі на поўнач. Такім чынам заехалі ў Польшчу. Аднойчы спыніліся на начлег каля нейкай вёскі недалёка ад Ломжы, і мы, дзеці, як заўсёды, пайшлі агледзець месца, шукаючы дзе пагуляць. У той раз знайшлі шмат вінтовак, скінутых у кучу. У кожнай была нейкая паломка. Стэфан выбраў адну вінтоўку нішто сабе, толькі ствол быў крыху пагнуты. Неўзабаве паявілася некалькі польскіх хлапчукоў, якія пачалі з намі дражніцца. Стэфан захацеў іх напалохаць і прыцэліўся на аднаго большага паляка, які стаяў мэтраў за сто. Ня ведаючы, што вінтоўка зараджана, ён націснуў на курок — выстрал. Палякі кінуліся хто куды. Стэфан

кінуў вінтоўку і мы таксама пабеглі наўцёкі да абозу. Добра, што ствол у вінтоўцы быў выгнуты, а так бы, мажліва, застрэліў таго паляка.

Аднойчы, калі абоз ехаў у адкрытым полі, раптам паявіліся некалькі савецкіх самалётаў і давай стракатаць па нас. Там пры дарозе быў роў, і мы ўсе ў яго кінуліся. Маці ўпала на мяне зьверху, каб закрыць ад куляў. Бацька пазьней ёй сказаў: *"Дурная, гэта буйнакаліберныя кулі, яны, калі трапілі, забілі б вас абаіх"*. З нашай сям'і ніхто не пацярпеў, а ў абозе было забіта і паранена некалькі людзей і коней. Дзесь на мяжы з Прусіяй немцы ўсіх паліцыянтаў забралі ў армію, казалі, што ў Беларускі батальён, а іх сем'і прадоўжылі шлях. Бацьку далі дакумэнты, што ён застары, а таму не падлягае службе і можа ехаць разам зь сям'ёй, а дзядзьку Ігната Карсюка забралі ў войска. Праз шмат гадоў, будучы ў Саўт-Рывэры, мы даведаліся ад Аўгена Занковіча[18], што ён быў моцна паранены ў баях з савецкімі войскамі і памёр у яго на руках. Дзе дакладна гэта адбылося — ня ведаю.

Нарэшце мы заехалі ва Ўсходнюю Прусію, вельмі прыгожы край. Памятаю, як праяжджалі міма аднаго вялікага і прыгожага замку. Недалёка ад Кёнігсбэргу спыніліся ў лесе на начлег. У сам горад не заяжджалі, бо яго ў тую ноч моцна бамбілі, паехалі туды толькі назаўтра. Там немцы забралі ў нас коней, заплаціўшы за іх нейкую невялікую суму, і нашую кароўку Ляльку. Мама моцна плакала, і кароўка таксама нема мыкала, не хацела расставацца з мамай. Мама моцна любіла яе, а яна маму.

## 2. Нямеччына. Ватэнштэт

Ва Ўсходняй Прусіі баўэры разьбіралі людзей да сябе на работу. Мы трапілі ў велізарны маёнтак за якія 5—6 кілямэтраў ад порту Пілаў[19], каля самага Балтыйскага мора. З намі пасяліўся заастравецкі бацюшка Гаховіч з унучкай, якой было гадоў 7—8. У гэтым маёнтку былі вялікія агароды, дзе расьлі памідоры, агуркі ды розная іншая агародніна. Памятаю, гуркі былі доўгія і велізарныя, як гарбузы. У маёнтку працавала шмат людзей, як у якімсьці савецкім калгасе. Бацька штодня, акрамя нядзелі, хадзіў на работу на агароды. Стэфана часам таксама бралі дапамагаць. А мне тады было дзевяць гадоў, і мяне не чапалі, таму я мог вольна гуляць на марскім узьбярэжжы. Тут я ўпершыню ўбачыў мора і некалькі разоў у ім купаўся. Сям-там хвалі вымывалі на бераг

[18] **Аўген Занковіч** (1921—1997) пасьля заканчэньня вайны жыў у лагеры Ватэнштэт, потым пераехаў у Саўт-Рывэр (ЗША).

[19] **Пілаў** (ням. *Pillau*) — горад ва Ўсходняй Прусіі на беразе Балтыйскага мора. З 1946 г. у складзе РСФСР, атрымаў новую назву Балтыйск. Цяпер адміністрацыйны цэнтар Калінінградзкай вобласьці Расейскай Фэдэрацыі.

маленькія кавалачкі бурштыну, якія я зьбіраў у панчоху, і празь якія два тыдні ў мяне была цэлая панчоха, напоўненая бурштынам. Пазьней, калі трэба было ехаць далей, бацькі загадалі яе выкінуць, а мне ў рукі далі невялікую валізку. Я помню, што плакаў па сваім бурштыну.

Аднаго разу да нас завіталі Коля Новік, былы сакратар заастравецкай паліцыі, і яго сябра Шура Шулякоўскі. Ён таксама быў паліцыянтам у Заастравеччы і выехаў разам з бацькамі і, здаецца, малодшымі братамі. Сям'я Шулякоўскага працавала ў баўэра недалёка ад нас. Хлопцы прыехалі ў шыкарнай ваеннай уніформе і паведамілі, што служаць у Беларускім батальёне, а цяпер атрымалі водпуск на тыдзень. Коля сказаў нам, што ён на днях ажаніўся з Шуравай сястрой (імя яе я ўжо ня памятаю). Яны распавялі пра апошнія ваенныя падзеі і сказалі, што хутка прыйдзецца ўцякаць далей на захад.

І праўда, недзе ў кастрычніку, калі ўжо сталі чуваць блізкія стрэлы, мы і шмат немцаў пагрузіліся на самаходы і адправіліся ў дарогу на нейкі вузкі і доўгі паўвостраў. Па дарозе ўсіх мужчын забралі кудысьці на работы, а жанчыны, дзеці, старыя паехалі далей. Калі мы разьвітваліся, бацька сказаў, што непакоіцца ня варта, што ён нас знойдзе, бо ведае куды ўсіх вязуць. Нарэшце мы прыехалі ў нейкі лес, дзе спыніліся і пачалі вячэраць. Ежы ў нас было мала — хлеб і кавалачак каўбасы. Але я ня мог есьці, бо вельмі перажываў за бацьку і вырашыў ісьці назад па той самай дарозе, як нас везьлі, каб яго сустрэць. І так ідучы, я ўбачыў бацьку, які ішоў мне насустрач. Я кінуўся да яго і ад радасьці заплакаў. Бацька крыху накрычаў на мяне, сказаў, што я мог згубіцца і мы б ніколі не ўбачыліся. І гэта праўда, бо калі я выходзіў, то ўжо пачынала цямнець, і калі б я не сустрэў бацьку, то мог бы не знайсьці дарогі назад да мамы з братам. Але ўсё неяк абышлося.

Церазь якую гадзіну мы ўсе разам сабраліся, і пайшлі ўздоўж берагу, і так неўзабаве прыйшлі ў невялікі порт, назву якога я ня памятаю. Там стаяў вялікі карабель, на які мы пагрузіліся. Карабель быў напоўнены бежанцамі, пераважна немцамі. Большасьць складалі жанчыны, дзеці ці мужчыны старэйшага веку. Ваенных сярод іх не было. Нарэшце карабель вырушыў з порту ў напрамку Данцыгу. Ён быў перапоўнены людзьмі і, здавалася, ад гэтага ішоў вельмі павольна. Людзі ўладкоўваліся хто як мог, і некаторыя ўжо паснулі, калі пачуўся гул самалётаў. У небе запаліліся асьвятляльныя ракеты на парашутах. Людзі спалохаліся, думалі, што нас будуць бамбіць. Усчаўся плач, крык. Мы ўсе думалі, што тут нам будзе канец. Але, дзякуй Богу, самалёты пакружлялі і паляцелі ў адваротным накірунку. Ракеты ўпалі ў мора, і вакол зноў зрабілася цёмна. Відаць, лётчыкі ўбачылі, што на караблі знаходзяцца цывільныя людзі і ня сталі яго атакаваць. Чые гэта былі самалёты — невядома: амэрыканскія, ангельскія ці савецкія. Але я і па сёньняшні дзень ім дзякую, што яны зьміласьцівіліся над намі. Ужо будучы ў Амэрыцы, я чытаў у адным выданьні, што ў той час, калі мы

плылі, былі патопленыя два караблі зь бежанцамі. На іх загінулі некалькі тысяч чалавек, пераважна жанчыны і дзеці.

Нарэшце наш карабель прыйшоў у Данцыг. Тут мы выйшлі на бераг. Было яшчэ цёмна, да ранку заставалася некалькі гадзін, і мы прылеглі каля сьцяны на цэмэнтнай падлозе, дзе была разасланая салома. Я аказаўся самым крайнім, а каля мяне ляжаў нейкі стары чалавек. Я яго прасіў, каб ён пасунуўся, спрабаваў неяк папхнуць, а ён не варушыўся. Калі разьвіднела і мы пачалі ўставаць, то я ўбачыў, што побач са мной ляжаў мёртвы стары. Мяне ахапіў жах. Той раніцай нам далі рэдкай гарачай зупы і па кавалачку хлеба, памазанага маргарынам, а пасьля хутка пасадзілі на цягнік.

Мы ехалі некалькі гадзін, пакуль не прыбылі ў Шчэцін. Там перагрузіліся ў другі цягнік і вырушылі далей. Так апынуліся ў нейкім маленькім мястэчку каля рэчкі Одэр, дзе засталіся зімаваць. Неўзабаве даведаліся, што недалёка ад нас жывуць былы заастравецкі войт Мурашка і заступнік камэнданта Муравіцкі. У Муравіцкіх тады нарадзілася дзяўчынка. Мы часта іх наведвалі. Бацька ўгаворваў разам уцякаць далей на захад, але тыя адмовіліся. Шмат пазьней мы даведаліся пра іх лёс. Муравіцкі пасьля вайны жыў у Польшчы, але саветы яго знайшлі, асудзілі і павесілі. Мурашкі вярнуліся на Беларусь, і колішні войт адбыў 20 гадоў зьняволеньня ў Сібіры.

Нарэшце, ужо ў 1945 г., мы направіліся на Бэрлін. Па дарозе, падчас адной зь перасадак, бацька забыўся сваю торбачку, якую павесіў у вагоне, дзе мы ехалі. Там былі амаль усе нашыя дакумэнты і многа фатаграфій. Ён кінуўся да вагону, але цягнік ужо рушыў зь месца, і ўсё прапала. Нарэшце мы прыехалі ў Бэрлін. Горад быў моцна разьбіты. Бацька знайшоў штаб Беларускай Цэнтральнай Рады, дзе мы спыніліся на пару тыдняў[20]. Часта трэба было бегчы ў падвалы, каб зьберагчыся ад бамбардзіровак, якія адбываліся штоночы, а таксама ўдзень. На шчасьце, ад гэтых налётаў ніхто з нас не пацярпеў. Фронт набліжаўся, і мы, атрымаўшы ў БЦР адпаведныя паперы, рушылі цягнікам на захад. Трэба сказаць, што немцы былі добра зарганізаваныя. На кожнай станцыі можна было бачыць людзей у зялёна-жаўтаватай уніформе, якія раздавалі ўцекачам ежу. Пераважна давалі рэдкі суп і кавалак хлеба з маргарынам, а таксама ячменную эрзац-каву.

З таго падарожжа па чыгунцы запомнілася, што вагоны заўсёды былі перапоўненыя народам і трэба было скора ўлазіць у цягнік, каб не застацца на станцыі. Аднаго разу, калі мы пералазілі ў іншы вагон, людзкі натоўп выпхнуў мяне, малога, назад, тым часам цягнік пачаў рухацца, і я закрычаў. Бацька неяк выскачыў з вагону, схапіў мяне за

[20] Ад пачатку верасьня 1945 г. БЦР займала памяшканьні ў будынку на Гумбінен-штрасэ, у прадмесьці Вайсэнзээ, на паўднёвым захадзе Бэрліну.

руку і ўцягнуў за сабой. Што было б са мной, каб я застаўся на станцыі, — Бог знае.

Цераз пару дзён мы апынуліся ў невялічкім мястэчку Рэбэк. Там на ўскраіне нам далі невялікі пусты дом. Бацьку хутка забралі капаць акопы. Мы думалі, што больш яго не пабачым, мама часта плакала, але церазь месяц-другі бацька, на вялікую радасьць нам усім, вярнуўся. Казаў, што немцы ўжо прайгралі вайну і скора будзе капітуляцыя. Трэба сказаць, што немцы ў Рэбэку вельмі добра да нас адносіліся і дапамагалі чым маглі. Прыпамінаю некаторыя здарэньні з таго часу.

Аднаго разу мы з братам шнырылі каля хатаў і ўбачылі кучу дроваў, а пры іх сякеру. Стэфан узяў яе і пачаў секчы далей дровы, а я складаў іх каля плоту. Так мы працавалі, калі з хаты выйшла немка і стала нешта радасна казаць. Відаць, яе муж быў на фронце, і яна сама была вымушаная секчы дровы, а цяпер дзякавала нам за помач. Яна завяла нас у хату, накарміла і дала нешта з сабою. Мама была вельмі радая гэтаму, бо зь ежай у той час было цяжка. Назаўтра раніцай мы ізноў пайшлі туды і далей секлі дровы. І рабілі так некалькі дзён. Аднойчы зайшлі ў хлеў, дзе несьліся куры. Тут мы ўбачылі шмат яек і вырашылі ўзяць з паўтузіна дадому. Маме сказалі, што яйкі нам дала немка за работу. Мама ўзрадавалася, але нараніцу, калі пачала рабіць сьняданне, аказалася, што адно яйка не разьбіваецца. Яно было штучнае, і немка наўмысна клала яго ў седала для курэй, каб тыя ведалі, дзе несьціся. Мама здагадалася, што яйкі мы ўзялі самавольна, пачала на нас крычаць і прымусіла ўсё занесьці назад. Таксама загадала, каб больш мы да гэтай немкі не хадзілі. Так і сталася, больш мы там дровы не калолі, нам было сорамна.

Наступнага разу, гуляючы на пашы недалёка ад нашай хаты, я ўбачыў высокага хударлявага немца гадоў сарака, які абразаў кусты пры дарозе. Я падышоў да яго і стаў дапамагаць: зьбіраў гальлё і адносіў на воз, які стаяў непадалёку. Церазь якую гадзіну немец скончыў сваю работу, наладаваў апошнія галінкі на воз, сеў наперадзе і махнуў рукою, каб я ішоў да яго, што я і зрабіў. Немец сказаў, што яго завуць Ганс, і запрасіў ехаць зь ім. Прыехалі мы ў ягоны двор, і я памог разладаваць гальлё з возу, пасьля чаго Ганс паклікаў мяне ў хату. Там якраз рыхтаваліся да вячэры. Уся сям'я сабралася за сталом, і мяне пасадзілі таксама. Вячэра была цудоўная, даўно я так добра не вячэраў. Напрыканцы мне далі match ежы з сабою, відаць, немцы знал, хто я такі. Я сказаў ім "*Danke!*" і шчасьлівы пабег дадому. Пазьней той самы Ганс час ад часу браў мяне для невялікай дапамогі на розных работах.

Разам з тым хапала і непрыемных выпадкаў. Самыя страшныя здарэньні адбываліся з намі на чыгуначнай станцыі, на ўскрайку гораду. Аднаго разу мы са Стэфанам лазілі па нейкіх цыстэрнах, што стаялі на рэйках. Стэфан залез у цыстэрну, і ў гэты момант люк зьверху замкнуўся. Брат пачаў крычаць, каб я яго адкрыў. Я спрабаваў-

спрабаваў, але ніяк ня мог падняць. Так доўжылася хвілін дзесяць, пакуль Стэфану нарэшце не ўдалося адкрыць накрыўку зь сярэдзіны. Ён вылез наверх увесь мокры ад поту і ад страху.

Яшчэ да абвяшчэньня капітуляцыі ў горад увайшлі амэрыканцы — невялікі аддзел рэгулярнага войска. Некалькі разоў уночы з абодвух бакоў страляла артылерыя, было чуваць, як сьвішчуць снарады, і недалёка ад нас раздаваліся выбухі. На чардаку дому, дзе мы жылі, паставілі кулямёт, каля якога ўвесь час дзяжурылі два жаўнеры. Адзін зь іх быў польскага паходжаньня. Так як бацька добра валодаў польскай мовай, яны часта размаўлялі. Пэўна бацька не казаў яму, што быў у паліцыі, а гаварыў, што нас забралі на працу ў Нямеччыну. Таксама ён перадаў мне і брату свае нямецкія ўзнагароды: два мэдалі і значок, які насіў на фуражцы, і сказаў, каб мы іх дзесь закапалі. Так мы і зрабілі — закапалі на полі каля кустоў, дзе яны, напэўна, знаходзяцца і цяпер, калі хто не знайшоў.

Аднойчы, калі мы ў чарговы раз гулялі на станцыі, у небе зьявіўся самалёт і застракатаў па цягніках. Мы кінуліся пад вагон. На шчасьце, самалёт над станцыяй не затрымаўся. Мы выскачылі з-пад вагону і пабеглі ў нейкі будынак, які знаходзіўся побач. Там убачылі дзьве вялізарныя бочкі. Адна была ўзарваная, а другая цэлая, але з паламанага крану нешта памаленьку капала. Стэфан падышоў да яго, падставіў палец, панюхаў, паспытаў і кажа: *"Сьпірт"*. Мы знайшлі невялікае вядро і хацелі набраць з крану, але ён не адкрываўся. Тады брат залез наверх бочкі, пасунуў накрыўку на бок, чарпануў поўнае вядро і мы пайшлі дадому. Паказалі сваю знаходку бацьку. Ён кажа: *"Гэта вельмі моцны і чысты сьпірт!"* Расказаў аб гэтым немцам. Яны пабеглі на станцыю са сваімі вёдрамі. Калі мы некалькі пазьней зноў туды прыйшлі, то ўбачылі каля бочкі доўгую чаргу людзей, якія чакалі, каб набраць сваю порцыю. Дазналіся аб гэтым і амэрыканскія жаўнеры, якія таксама набралі сабе сьпірту. Назаўтра мы даведаліся, што амэрыканцы ўзарвалі гэтыя бочкі, бо адзін іхні жаўнер згарэў ад таго сьпірту, відаць, забагата выпіў.

Аднаго разу мы са Стэфанам шнарылі недалёка ад рэчкі, якая працякала праз гарадок. І вось у нейкіх кустах мы наткнуліся на кучу рознай зброі, найбольш паляўнічых дубальтовак. Усе яны былі пашкоджаныя. Мы пачалі іх разглядаць і выбіраць лепшыя. Я знайшоў адну дубальтоўку без прыкладу, залажыў у яе патрон, але баяўся націснуць курок, бо асьцерагаўся, што магу выстраліць сабе проста ў твар. Тут жа я знайшоў нейкую вяровачку, прывязаў яе да курка і рыхтаваўся пацягнуць. Мы нават не заўважылі, што недалёка праяжджаў амэрыканскі грузавік з салдатамі. Нарэшце я пацягнуў за вяровачку. Стрэл! Самаход спыніўся, і адтуль выскачылі некалькі жаўнераў зь вінтоўкамі напагатове. Відаць, яны думалі, што страляюць па іх. Мы ўпалі на зямлю і стараліся, каб нас ня ўбачылі. Вельмі баяліся, што пачнуць

страляць у наш бок. Амэрыканцы пабегалі, нешта пакрычалі, селі назад у самаход і паехалі далей. Калі яны ад'ехалі ад таго месца, мы кінуліся дахаты. Па дарозе Стэфан насварыўся на мяне, што з-за маіх гульняў нас ледзьве не пастралялі.

У адзін пагодны дзень я выйшаў на гарадзкую плошчу, дзе ўбачыў амэрыканскіх жаўнераў, якія гулялі ў якуюсь невядомую мне гульню. Цяпер я знаю, што гэта бэйсбол. Я прысеў збоку і назіраў, як яны білі палкаю невялікі белы мяч. Раптам адзін жаўнер схапіў вінтоўку і выстраліў у сабаку, што бег недалёка. Сабака ўпаў мёртвы, да яго падбегла дзяўчынка і пачала плакаць. Другія амэрыканцы схапілі таго нягодніка, які забіў нявінную жывёлу, пачалі яго трэсьці і сварыцца зь ім. Чым усё гэта скончылася, я не ведаю, бо з жалем пабег да дому. Мне было шкада дзяўчынку, якую я трохі ведаў, і ейнага сабачку. Але гэта быў адзіны кепскі выпадак з амэрыканцамі на маёй памяці. Пераважна яны добра адносіліся да жыхароў Рэбэка. Ці мог я ў той час падумаць, што некалі сам буду служыць у амэрыканскай арміі?

З часам усё ўспакоілася. Амэрыканцы пагрузіліся ў свае самаходы і ад'ехалі. А недзе ў чэрвені 1945 г. зьявіліся савецкія прадстаўнікі, якія зьбіралі сваіх былых салдатаў, што трапілі ў палон і працавалі ў баўэраў, для вяртаньня на радзіму. Такіх у Рэбэку было можа зь дзясятак.

Савецкія афіцэры завіталі і да нас, але бацька сказаў, што мы палякі. Саветчыкі расказалі, што хутка палякаў таксама будуць вяртаць зь Нямеччыны, і параілі нам ехаць у Польшчу. Бацька адказаў ім, што так і зробіць, а сам пачаў шукаць іншага выхаду. Неўзабаве даведаўся, што недалёка ад нас ёсьць украінскі лягер Ды-Пі. Спачатку бацька туды зьезьдзіў адзін, а празь нейкі час цягніком пераехала ўся сям'я. Украінцы далі нам невялікі пакой у бараку. Мы са Стэфанам паступілі ў школу. Хоць мовы ня ведалі, вучыцца было няцяжка, бо нашыя мовы падобныя, толькі ва ўкраінскім алфавіце некаторыя літары адрозьніваюцца ад беларускіх. Адно мне не падабалася, што мяне называлі Грыгор, а ня Жорж, як я прывык. Казалі, што гэта французскае імя, хоць у Беларусі мяне называлі менавіта так. Я зь імі спрачаўся, але нарэшце сказаў, што хай называюць, як хочуць, а я ўсё роўна Жоржык. У гэтым жа лягеры нейкім цудам паявіўся і Коля Новік. Ён пасяліўся разам з намі, хоць было цеснавата, але спраўляліся. Коля расказаў, што калі іх батальён стаяў у Францыі, то ён, Шура Шулякоўскі і яшчэ некалькі чалавек здаліся французскім партызанам. Адтуль Новік уцёк у глыб Нямеччыны і нейкім чынам дабраўся да нас. Пра сваю жонку ён нічога ня ведаў.

Так прайшло некалькі месяцаў, пакуль Коля не пачуў, што недалёка ад нас, каля гораду Зальцгітэр[21] ёсьць беларускі лягер у Ватэнштэце. Ён паехаў туды, каб дазнацца, ці знойдзецца там месца для нас. Ака-

[21] **Зальцгітэр** (ням. *Salzgitter*) — горад у зямлі Ніжняя Саксонія.

залася, што камэндантам таго лягеру Сьвятаслаў Коўш, якога бацька добра знаў. Падчас акупацыі Коўш быў раённым начальнікам у Клецку, і бацька часта зь ім сустракаўся[22]. Коля вярнуўся назад, расказаў нам пра лягер і што мы можам туды пераяжджаць. Рэчаў у нас было вельмі мала, мы хутка спакаваліся і дзесьці ў сьнежні 1945 г. пераехалі ў Ватэнштэт. Падчас рэгістрацыі бацька, ня ведаю чаму, усім нам паменшыў узрост на два гады. Зрабіць гэта было няцяжка, паколькі ўсе дакумэнты згубіліся. Сабе ён запісаў 1901 год нараджэньня, мне — 1937 г., Стэфану — 1933 г. У сваіх пазьнейшых дакумэнтах я так і пакінуў 1937 г. як дату нараджэньня.

Лагер "АБЦ Ватэнштэт" знаходзіўся недалёка ад зруйнаваных бамбардзіроўкамі велізарных ваенных фабрык. Вакол іх былі пабудаваны баракі для рабочых, што некалі тут працавалі. І цяпер у гэтых бараках разьмясьцілася некалькі лягераў. Побач зь беларускім быў вялікі лягер нямецкіх бежанцаў (казалі, што яны прыехалі з Судэтаў з Чэхіі) і лягер "Балтык", дзе знаходзіліся літоўцы, латышы, эстонцы. Недалёка на поўдзень знаходзіўся польскі лягер, а кілямэтраў за пяць ад Ватэнштэту — украінскі лягер "Гайлендорф". Усе яны разьмяшчаліся ў ангельскай акупацыйнай зоне і падпарадкоўваліся ангельскай мілітарнай адміністрацыі. Ніякай варожасьці паміж беларусамі і ангельскімі вайскоўцамі ніколі не назіралася. Зь немцамі мы мелі мала дачыненьня, хоць яны ставіліся да нас вельмі добра і мы да іх таксама. Харчы, вопратку і іншыя патрэбныя рэчы дастаўляла спачатку *UNRRA*, а пазьней *IRO*[23]. Акрамя таго, тыя, хто хацеў, мелі свае маленькія агароды, дзе вырошчвалі памідоры, гуркі, цыбулю і г. д. Быў такі агародзік і ў нас. Бацька на ім пасадзіў тытунь для свайго ўжытку.

---

[22] Мэмуарны характар мае другая частка аповесьці Сьвятаслава Каўша "На дарогах вайны" — "Па воўчых сьцежках". Дзеяньне твора адбываецца ў горадзе К., што стаіць *"на водах лянівае Лані"*, у якім бязь цяжкасьцяў пазнаецца Клецк. Сярод іншага С. Коўш піша пра пастарунак у мястэчку З-ча, *"найбольш высунутым на паўдзённы-ўсход валасным цэнтры павета"*: "...Гэтая *мясьціна сталася пляцоўкай, якая вязала рухі партызанаў і давала магчымасьць беларускай адміністрацыі кантраляваць самыя аддаленыя мясцовасьці павету. Дзякуючы поўнаму гэраізму становішчу беларускіх жаўнераў у паліцэйскай форме ў З-чы на чале з баявым камандантам, тут разьвівалася беларускае грамадзкае жыцьцё: працавалі школы ў самым З-чы і суседніх зь ім вёсках, ладзіліся беларускія культурныя імпрэзы, распаўсюджваліся газеты"* (На дарогах вайны // Коўш, Сьвятаслаў. Русалчына бальляда. Лягенды, апавяданьні, выбраныя рэфэраты. ЗША, 1980. С. 134).

[23] ***IRO*** (анг. *International Refugee Organization*) — Міжнародная арганізацыя па справах бежанцаў, якая была ўтвораная ў 1946 г. для дапамогі асобам, што страцілі пастаяннае месцажыхарства ў выніку баявых дзеяньняў. З 1948 г. пераняла большасьць функцый ранейшай *UNRRA*.

Беларускі Ватэнштэт меў дзьве часткі: “Б” і “Ц”. Частка “А” была разьбітая, там засталіся толькі падмуркі ад колішніх баракаў. Чаму яны былі разабраныя, ня ведаю. Мы разьмясьціліся ў частцы “Б”, у бараку на ўскрайку лягеру. У пакоі, які нам выдзелілі, ужо жыла сям’я Сенькаў — Валодзя, яго брат Міхась і іхнія бацькі. Пакой мы падзялілі на дзьве часткі коўдрамі. З намі жыў і Коля Новік, які стаў як член сям’і[24].

На час нашага пераезду ў лягеры было яшчэ мала жыхароў, але кожны дзень, тыдзень прыяжджала ўсё больш і больш беларусаў. Сярод іх былі знаёмыя, якіх мы ведалі з часоў акупацыі. Быў Новік (ня той Коля з Заастравечча), а былы начальнік з Клецку, зь якім бацька пасябраваў[25]. Дзесь у пачатку 1950-х гадоў ён з жонкай Тацьцянай пераехаў у Амэрыку. Помню, некалькі дзён яны жылі ў нас, у Саўт-Рывэры, а потым зьехалі ў Чыкага. Яго малодшы брат Анатоль у 1949 г. у Ватэнштэце ажаніўся зь Верай Лапцік, і яны выехалі ў Канаду. Таксама памятаю Ірэну Пілецкую, вельмі прыгожую дзяўчыну, трохі старэйшую за мяне. Яе бацька працаваў у беларускай адміністрацыі ў Клецку[26]. Сама яна ў Ватэнштэце актыўна ўдзельнічала ў скаўцкім руху. Калі пераехала ў Амэрыку, то некаторы час жыла ў Саўт-Рывэры[27].

Неўзабаве мы даведаліся і пра Шуру Шулякоўскага. Пад канец вайны ён застаўся ў францускіх партызанаў, а адтуль паступіў у Іншаземны легіён. Са сваім аддзелам апынуўся ў Афрыцы, на востраве Мадагаскар, дзе праслужыў 6 гадоў. Бацька, жывучы ў Ватэнштэце, зь ім перапісваўся. Я вельмі радаваўся, калі прыходзілі лісты ад Шу-

[24] Пазьней Новік выехаў у ЗША, у Саўт-Рывэр. Ён даведаўся, што ў яго жонкі дзесь у канцы 1945 г. нарадзілася дачка. Жонка разам зь дзіцём апынулася ў Польшчы і, нічога ня ведаючы пра мужа, выйшла замуж другі раз. Коля часта пасылаў дачцэ пасылкі і спрабаваў выпісаць яе ў ЗША, але нічога з гэтага не атрымалася. У 1960-я гг. ён выехаў у Чыкага, дзе і памёр напрыканцы 1970-х. — ***Ж. Н.***

[25] **Кастусь Новік** (1914—1974), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі быў бургамістрам Клецку. У 1943 г. савецкія партызаны забілі ягоную жонку, бацьку, бабулю, брата й сястру. У 1944 г. ажаніўся другі раз з Тацьцянай Пілецкай (1926—1986). У Чыкага быў адным зь дзеячаў Беларуска-Амэрыканскай нацыянальнай рады.

[26] Відаць, маецца на ўвазе **Хведар Пілецкі** (?—?). Паходзіў зь мяшчанаў Клецку. Працаваў тэлеграфістам. Зьвесткі пра дзейнасьць у пэрыяд нямецкай акупацыі ня выяўлены. Зь лета 1944 г. на эміграцыі. Памёр падчас туляньняў па Нямеччыне.

[27] **Ірэна Пілецкая** (у шлюбе **Ільчук**, 1932—2010) вучылася ў беларускай гімназіі ў Ватэнштэце, удзельнічала ў скаўцкім руху. У 1950 г. разам з маці выехала ў ЗША, спачатку — у Саўт-Рывэр, пазьней, на запрашэньне брата, перабралася ў Чыкага. Выйшла замуж за ўкраінца **Вячаслава Ільчука** (1921—2003). Брала ўдзел у царкоўным жыцьці, была прыхаджанкай царквы Сьв. Юр’я.

ры, бо на іх былі прыгожыя каляровыя паштовыя маркі, якія ў мяне захаваліся і да сёньняшняга дня[28]. Калі скончыўся тэрмін службы, ён вярнуўся ў Нямеччыну і ажаніўся зь немкай, заляцацца да якой пачаў яшчэ ў вайну. Шулякоўскі перапісваўся з маім бацькам да самай яго сьмерці і ў адным з апошніх лістоў пісаў, што моцна хварэе.

У лягеры панавала беларуская патрыятычная атмасфэра. Ладзіліся ўгодкі Слуцкага паўстаньня, і там зачытваліся прозьвішчы беларускіх вайскоўцаў, якія загінулі за Бацькаўшчыну. У тым ліку і заастравецкіх паліцыянтаў. На гэтых урачыстасьцях прамаўлялі Ўладзімір Сенька, Міхась Лужынскі. Пазьней у Ватэнштаце, як і ў іншых беларускіх лягерах, распачаўся падзел на "крывічоў" і "зарубежнікаў". "Зарубежнікі" — гэта прыхільнікі прэзідэнта БЦР Р[адаслава] Астроўскага, а "крывічы" — старшыні Рады БНР М[іколы] Абрамчыка. І пачалася бясконцая сварка паміж лідарамі адной і другой партыі. Некаторыя з гэтых сварак пазьней апісаў С[ьвятаслаў] Коўш у сваёй кнізе[29], а я ў той час быў занадта малы, каб гэтым цікавіцца.

На самым пачатку існаваньня лягеру яго часам наведвалі савецкія афіцэры разам з ангельцамі. Саветы шукалі расейцаў ці выхадцаў з Усходняй Беларусі, каб сілаю адвезьці іх *"на Родину"*. Да канца 1945 — пачатку 1946 г. яшчэ былі выпадкі гвалтоўнага "вяртаньня", пазьней такога ўжо не дазвалялася. Але ў нашым лягеры ва ўсіх было запісана, што яны паходзяць з Заходняй Беларусі. Сярод іншых былі і расейцы, якія ператварыліся ў былых польскіх грамадзян і пазьней былі ўдзячныя беларусам за тое, што іх выратавалі. Да 1947 г. Ватэнштэт быў цалкам запоўнены. Дзейнічалі дзіцячы садок, пачатковая школа — у суседнім з намі бараку часткі "Б" — і гімназія імя Максіма Багдановіча, якая знаходзілася ў частцы "Ц". Таксама ладзіліся вячэрнія лекцыі для непісьменных, якія наведвала мая мама (яна ў адрозьненьне ад бацькі ня ведала граматы). Я паступіў у пачатковую школу, а брат вучыўся на дзьве клясы вышэй. За тыя амаль пяць гадоў, што мы пражылі ў лягеры, я пасьпеў скончыць школу і пачатковыя клясы гімназіі. Заняткі адбываліся 5 дзён на тыдзень, акрамя суботы і нядзелі. Кожны дзень былі лекцыі па беларускай мове і літаратуры, арыфмэтыцы. Таксама чыталі геаграфію, гісторыю, геамэтрыю, прыродазнаўства, замежныя мовы: нямецкую, ангельскую, лаціну (яны выкладаліся па чарзе некалькі разоў на тыдзень). Праходзілі фізкультурныя заняткі. Усе прадметы выкладаліся на беларускай мове. У канцы кожнага навучальнага

[28] Магчыма, менавіта ліст Аляксандра Шулякоўскага з Мадагаскару быў апублікаваны ў часопісе "Беларус на Чужыне" (№ 11 (15). 1948). Гл.: Падарожныя лісты // Запісы БІНіМ. № 32. Нью-Ёрк — Менск, 2009. С. 187—222.

[29] Маецца на ўвазе мэмуарна-дакумэнтальная кніга Сьвятаслава Каўша "Беларускі лягер у Ватэнштэт. Альбом — гістарычная даведка", выдадзеная ў 1981 г. і перавыдадзеная ў 2003 г.

году здавалі вусныя і пісьмовыя экзамэны і атрымлівалі адпаведныя пасьведчаньні. Канікулы доўжыліся два летнія месяцы. У гімназіі былі добрыя настаўнікі, якія працавалі на Беларусі ў час акупацыі. Пералічу, каторых помню: Васілеўскі, Стэфан Міровіч[30], Вацлаў Пануцэвіч, Часлаў Будзька, Хведар Ільляшэвіч — беларускі паэт, які трагічна загінуў у аўтамабільнай аварыі ў 1948 г., Уладзімір Сенька, Аркадзь Евец і яго жонка, Сьвятаслаў Коўш ды іншыя. Настаяцель айцец Аўген Сурвіла выкладаў рэлігію. Дарэчы, тут зноў давялося "зьмяніць імя". Калі ва ўкраінскай школе я быў Грыгорам, то цяпер стаў Юркам, а брат — Сьцяпанам, хаця мы заўсёды называлі яго "Стэфан".

У школе хутка пазнаёміўся зь іншымі беларускімі хлопцамі. Першым маім сябрам быў Альбэрт Васанскі, а пазьней — Анатоль Кучура. З Альбэртам мы ўвесь час шукалі сабе гуза на галаву. Здаецца, зімою 1946 г. мы пайшлі аглядаць былыя ваенныя фабрыкі за які кілямэтр ад лягеру. Там было шмат вялікіх варонак ад бомбаў, якія заходнія аліянты скідалі на гэтыя прадпрыемствы. Некаторыя падчас восеньскіх дажджоў запоўніліся вадою і выглядалі, як невялікія сажалкі. Падышлі мы да адной такой "сажалкі", вада ў ёй замёрзла. Альбэрт разагнаўся і перасьлізнуў па лёдзе на другі бок. Я за ім, але разгону не хапіла і пасярэдзіне спыніўся. Тут лёд пада мною пачаў трашчаць і ламацца, і я праваліўся аж па шыю. Альбэрт памог мне выбрацца з вады, і мы хутка пайшлі назад. Усю дарогу я калаціўся ад страшэннага холаду. Пакуль дайшлі да лягеру, то мае штаны адзеравянелі. Я ўвайшоў у свой барак, пакуль мама ня бачыла, і прысеў каля печкі, якая была добра напалена, бо на дварэ было вельмі холадна. Цераз пару гадзін я цалкам абсох, але мяне пачало калаціць, узьнялася тэмпэратура. Захварэў і праляжаў у ложку цэлы тыдзень. Здаецца, у той раз я не прызнаўся бацькам, ад чаго захварэў.

Дзесь у 1949 г. мы разам заснавалі арганізацыю пад назвай Беларуская адраджэнская кампанія (БАК). Анатоль Кучура быў вельмі здольным чарцёжнікам і вырабіў нам траім пашпарты з фатаграфіямі, на якіх стаяла круглая пячатка зь літарамі "БАК", якую ён выразаў

[30] Біяграфічныя зьвесткі пра **Стэфана Міровіча** ўкладальнікам ня выяўлены. Паводле сьведчаньня Ж. Наумчыка, былы настаўнік стала жыў у Нью-Ёрку, рэгулярна прыяжджаў у Саўт-Рывэр на беларускія мерапрыемствы. У № 73 "Беларускай Думкі" (сакавік 2015) зьмешчана зацемка "Быўшыя студэнты Ватэнштэцкай гімназіі паставілі памятнік свайму настаўніку": "*Дзякуючы стараньні Казі Гайшун, быўшыя студэнты склаліся па 50 даларах, каб паставіць памятнік на магілу свайму настаўніку геамэтрыі Стэфану Міровічу, які памёр у 2010 годзе. Зь недагляду тых, хто меўся гэта зрабіць, над ягонай магілай стаяў толькі невялікі дзераўляны крыж. Да гэтай добрай справы далучыліся і яшчэ некалькі асобаў, якія яго ведалі*". Сярод 12 ахвярадаўцаў згадваецца й Жорж Наумчык. Пахаваны С. Міровіч на беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

уласнаручна. Мы думалі, што да нас далучыцца болей сяброў, але пад канец 1949 г. лягер закрыўся, і так наша арганізацыя замерла.

Таксама я браў удзел у танцавальным гуртку. Ён меў, здаецца, шэсьць пар танцораў: шэсьць хлапцоў і шэсьць дзяўчат. У адным з баракаў была вялікая заля, дзе часта ладзіліся розныя вечары: музычная канцэрты, тэатральныя пастаноўкі, народныя танцы. Мы час ад часу там выступалі. Танцавалі “Крыжачок”, “Лявоніху”, “Мяцеліцу” і “Кадрыль”. Некалькі разоў таксама выступалі ў суседнім украінскім лягеры Галендорф.

У Ватэнштэце жыць было весела. У тым самым бараку, дзе праходзілі канцэрты, раз на тыдзень паказвалі кіно. Прывозілі ангельскія, амэрыканскія і нямецкія фільмы. Яны мне вельмі падабаліся, раней я кіно ніколі ня бачыў. Кінасэансамі заведваў Анатоль Шурак. Ён узяў мяне, Кучуру і Васанскага памочнікамі. Перад сэансам у зале трэба было паставіць лавы, якія мы насілі з пачатковай школы, а калі кіно канчалася — заносілі іх назад. Праца гэтая нялёгкая, бо лавы былі досыць цяжкімі, але мы спраўляліся. За тое атрымлівалі бясплатныя білеты на кожнага (звычайны квіток каштаваў 2 маркі). Празь нейкі час я і Анатоль Кучура прыдумалі падрабляць уваходныя білеты. Іх перад сэансам прадавалі ў касе, і кожны раз яны былі іншага колеру. Папера, на якой друкаваліся білеты, была такая самая, як і папера рэкламных афішак з назвамі фільмаў і імёнамі артыстаў. Калі фільм канчаўся, мы здымалі гэтыя афішкі па ўсім лягеры. Такім чынам, у нас назапасілася дастаткова плякатаў самых розных колераў. Мы загадзя бачылі, якога колеру будуць білеты на сеанс у той ці іншы вечар, бралі свае бясплатныя квіткі і выходзілі з “кінатэатру”. Хутка ішлі ў Толеў барак, там выбіралі афішку патрэбнага колеру, і Толік чарціў чорнай тушшу падробленыя білеты. Свой бясплатны квіток я аддаваў маме — яна любіла глядзець кіно, — а сам праходзіў, прад’яўляючы падроблены білет, бо баяўся, што калі маму зловяць з падробкай, то ёй будзе вельмі сорамна, а мне неяк прасьцей. Анатоль рабіў тое ж самае, але ня памятаю, каму ён аддаваў свой білет. Як бачна, ніякага прыбытку са сваёй “спэкуляцыі” мы ня мелі. Хутчэй, гэта была хлапечая забава.

Брат Стэфан таксама быў не сьвяты. Аднаго разу ён, Міхась Троіцкі і сын сьвятара Анатоль Ражановіч пайшлі недзе на прагулку. Пачало ўжо цямнець, вечар, ноч... Дзе Стэфан? Маці ў паніку — давай шукаць па лягеры. Аказваецца, і Міхася, і Анатоля няма. Пайшлі бацькі ў паліцыю. Тыя давай званіць ангельцам, немцам. Ніхто нічога ня знае. На наступны дзень немцы па абедзе звоняць, каб лягерная паліцыя прыйшла ў Імэндорф забраць трох хлопцаў. Аказваецца, яны залезьлі ў сад да аднаго баўэра, каб набраць яблыкаў. Баўэр заўважыў іх і прыбег з аўчаркай. Хлопцы, убачыўшы злоснага сабаку, ня злазілі з дрэваў. Немец выклікаў паліцыю, тая арыштавала “злачынцаў” і пасадзіла іх у турму. Справу разабралі, калі прыехала беларуская паліцыя з Ватэнштэту.

Хлопцаў не пакаралі, але строга загадалі, каб больш такога не рабілі, іначай будуць сплочваць вялікі штраф. Пасьля гэтага ўсе вярнуліся ў лягер. Хлопцы шкадавалі, што ў паліцыі ў іх забралі ўсе яблыкі, якія пасьпелі нарваць і пакласьці за пазуху.

У канцы 1945 г. у Ватэнштэце былі арганізаваны хлапечая і дзявочая скаўцкія арганізацыі, у якія ўступілі амаль усе дзеці, агулам больш за сотню, у тым ліку і мы з братам. Кожная арганізацыя падзялялася на дзьве групы — старэйшую і малодшую, якія называліся "ваўчкі" і "ваўчаняты". Галоўным кіраўніком беларускіх скаўтаў быў Вацлаў Пануцэвіч, тады яго яшчэ называлі Папуцэвічам. Я належаў да старэйшых скаўтаў. Нашым штандаровым быў Міхась Маеўскі, а адным са зьвязовых — Міхась Сенька. Ангельцы выдалі нам зялёныя скаўцкія гальштукі і жоўтыя кашулькі, на якія мы нашылі пагончыкі. На правым рукаве, на перадплеччы, мы мелі нашыўкі "Беларусь". Таксама ўсім хлопцам і дзяўчатам выдалі чорныя бэрэты. Некаторыя са старэйшых скаўтаў насілі на бэрэтах прыгожыя мэталёвыя Пагоні, а астатнія — маленькія бел-чырвона-белыя сьцяжкі.

Летам старэйшыя скаўты часта выяжджалі на адзін-два тыдні ў горы Гарц, кілямэтраў за 20 на паўночны ўсход ад лягеру, пад самую граніцу з савецкай акупацыйнай зонай Нямеччыны. Тут мы праводзілі скаўцкія заняткі, гульні і манёўры. Начавалі ў вялікіх брызэнтавых палатках. Кожны вечар распальвалі вогнішчы, пры якіх вячэралі, а пасьля сьпявалі розныя песьні. Гэтыя вечары былі маімі любімымі момантамі з часоў пражываньня ў Ватэнштэце.

Юнакі і дзяўчаты часта маршыравалі ў калёне па тры чалавекі па лягеры, сьпяваючы беларускія патрыятычныя песьні: "Ідуць жаўнеры-беларусы", "У гушчарах...", "Люблю наш край" і многія іншыя. Неаднаразова мы выходзілі зь лягеру і маршыравалі па шашы, якая праходзіла ўздоўж частак "Б" і "Ц". На другім баку шашы, насупраць часткі "Ц", быў уваход у лягер № 23 — транзытны лягер для адпраўкі савецкіх людзей на Радзіму. Там пры браме заўсёды стаяў савецкі вартавы зь вінтоўкаю. Мы ў скаўцкай форме, зь бел-чырвона-белымі абвязкамі на рукавах, зь песьнямі праходзілі міма яго ў адзін бок, потым разварочваліся, ішлі назад і зноў сьпявалі. Для нас было вялікім гонарам, маршыруючы каля савецкага лягеру, пець "Ідуць жаўнеры-беларусы", асабліва радок: "*...вон, гадаўё, з нашай зямлі*". Пры гэтых словах у нас аж мароз прабягаў па скуры, а той баец толькі ўсьміхаўся. Але транзытны лягер № 23 доўга не праіснаваў. Неўзабаве на ягоным месцы быў заснаваны чэскі лягер, але людзей там было мала, і хутка яго закрылі. А празь некалькі тыдняў перадалі беларусам, бо нашых людзей з кожным днём прыбывала ўсё болей і болей. У той лягер перабралася і сям'я майго сябра Альбэрта Васанскага.

Трэба ўспомніць яшчэ некалькі момантаў з той пары, калі лягер № 23 належаў саветам. Там час ад часу на дварэ на велізарным экране

паказвалі фільмы. Некалькі разоў я з Альбэртам і іншымі сябрамі адмыслова пралазіў у лягер, каб глядзець кіно. Калі пра гэта даведаліся бацькі, то строга загадалі нам больш туды не хадзіць. Сказалі: *"Цапнуць вас саветчыкі, і будзе вам Радзіма!"* Такое сапраўды магло стацца, і глядзець кіно мы больш не хадзілі. Увогуле, жыхары Ватэнштэту моцна нэрваваліся з нагоды такога суседзтва, бо баяліся, што каго-небудзь могуць схапіць ноччу. На шчасьце, такіх выпадкаў не было, але здаралася, што ў лягеры зьяўляліся савецкія афіцэры. Тады пачыналі званіць у звон, што вісеў каля царквы, зьбягаліся людзі, і саветчыкаў выводзіла за браму лягерная паліцыя, якой кіраваў Аўген Занковіч.

Над уваходам у Ватэнштэт высока ўгору шугаў наш бел-чырвона-белы сьцяг, а цераз дарогу ад яго, над савецкім штабам, на высокім слупу заўсёды вісеў чырвоны сьцяг зь сярпом і молатам. Аднаго разу, ноччу, некалькі старэйшых хлопцаў пракраліся ў лягер і зьнялі яго. Савецкае начальства моцна ўзрушылася і заявіла аб гэтым ангельскай адміністрацыі. Да нас прыехалі некалькі ангельцаў, шукалі вінаватых, але нікога не знайшлі, ніхто не прызнаўся. А праз нейкі час наша футбольная дружына пашыла сабе новую форму: белыя кашулькі з Пагоняй на грудзях і белыя шорты з чырвонай паласой збоку. Чырвоныя палоскі былі выразаны акурат з таго самага савецкага сьцяга[31].

Так ішло лягернае жыцьцё з году ў году. Я заўсёды быў заняты: то скаўтынг, то канцэрты, то кіно. Часта дапамагаў бацьку. Ён вылічваў нормы-паёк для кожнай сям'і і выдаваў прадукты. За гэтую працу ён атрымліваў невялікую суму грошай, хоць большасьць жыхароў Ватэнштэту іх ня мела. Грошы плацілі толькі камэнданту і тым, хто працаваў у адміністрацыі ці паліцыі. Здаецца, раз на месяц бацька езьдзіў на грузавіку да ангельцаў за прадуктамі і прывозіў іх на склад. Пасьля людзі прыходзілі і атрымлівалі, што ім палагалася. Кожны гатаваў у сваёй кватэры, але на некаторыя сьвяты ці важныя мерапрыемствы рабілі агульны абед на вялікай кухні.

Час ад часу нехта ад'яжджаў у іншыя краіны на сталае жыцьцё. Некалькі сямей паехалі ў Аўстралію, Бэльгію, Канаду, Аргентыну. Помню, аднаго разу зладзілі провады для групы халастых хлопцаў і дзяўчат,

---

[31] У кнізе Сьвятаслава Каўша гэты эпізод апісаны некалькі іначай: *"У нашым лягеры знайшліся маладыя людзі з гарачымі галовамі (дзе такіх няма?). Гэтым людзям захацелася пашыць спартовыя порткі для валейбольнай каманды з чырвонага матарыялу. Пасьля вайны матарыял не валяўся на вуліцы. І вось гэтыя людзі пабачылі патрэбны матарыял на машце савецкага рэпатрыяцыйнага штабу — вялізны чырвоны сьцяг. Карыстаючыся з таго, што вартавы ў тым штабе стаяў каля брамы, а сьцяг вісеў на сярэдзіне дворышча паводдаль ад стражніка, жартаўнікі зайшлі паночы з поля і, нікім не заўважаныя, зьнялі чырвонае палотнішча. З увагі на тое, што аднаго сьцягу на ўсе порткі для дружыны не хапіла, апэрацыю паўтарылі"* (Коўш, Сьвятаслаў. Беларускі лягер у Ватэнштэт. 2003. С. 17).

асобаў 15, якія ехалі на працу ў Англію. Дзесьці на пачатку 1949 г. выехаў зь сям'ёй і наш камэндант лягеру Коўш. Ягонае месца заняў Уладзімір Сенька. Ужо было вядома, што лягеры будуць закрывацца, і людзі рыхтаваліся разьяжджацца хто куды.

Увосень 1949 г. прыйшоў загад закрыць Ватэнштэт і перавезьці нас у вялікі інтэрнацыянальны лагер Зээдорф. Большасьць людзей адразу пагрузіліся на самаходы і паехалі. У Ватэнштэце засталася толькі адміністрацыя ды яшчэ некалькі асоб, у тым ліку і наша сям'я. Цераз пару тыдняў прыйшла пара і нам зьбірацца на выезд. Рэчы пагрузілі на чыгуначнай станцыі ў Імэндорфе ў адзін таварны вагон. Мяне і Анатоля Кучуру вызначылі вартаўнікамі. Хоць калі б нехта захацеў аграбіць, то што б мы, 13-гадовыя хлопцы, маглі зрабіць? Далі нам пару ліхтарыкаў, і мы засталіся ў вагоне. Начавалі на спакаваных рэчах. Было страшнавата адным, але ўсё прайшло добра. Назаўтра прыехала лягерная адміністрацыя і астатнія сем'і, селі на цягнік, і мы дабраліся да Зээдорфу.

Тут часткі лягеру называліся не па літарах, а па колерах. Здаецца іх было чатыры: "зялёная", "чырвоная", "белая" і яшчэ нейкая. Беларусы апынуліся ў "белай" частцы, а ў іншых былі ўкраінцы, румыны, балты, палякі. Тут таксама дзейнічалі школы, у тым ліку беларуская, але я ў яе пахадзіў нядоўга, бо цераз пару месяцаў, у красавіку 1950 г., мы ўсёй сям'ёй выехалі ў лягер Гронэ, недалёка ад порту Брэмэнгафэн[32], праходзіць камісію перад ад'ездам у Амэрыку. На той час у ЗША яшчэ мала хто ехаў, пераважалі іншыя накірункі. Мы таксама спачатку запісаліся на выезд у Аўстралію, але дакумэнты недзе згубіліся і давялося затрымацца. Калі ў 1950 г. пачалі набіраць ахвотных выехаць у ЗША, запісаліся туды. На камісіі правяралі наш фізічны стан, ці здольны чалавек працаваць, ці ня мае нейкіх захворваньняў. Распытвалі, хто дзе жыў і чым займаўся. Мой бацька, натуральна, не сказаў, што служыў у беларускай паліцыі. Назваўся простым селянінам, які працаваў на гаспадарцы.

### 3. Амэрыка. Саўт-Рывэр

У Брэмэнгафэне мы прабылі некалькі тыдняў, а 1 чэрвеня 1950 г. пагрузіліся на амэрыканскі ваенны карабель "Генэрал Гоўз"[33]

---

[32] **Брэмэнгафэн** (ням. *Bremerhaven* ) — горад на паўночным-захадзе Нямеччыны недалёка ад Брэмэну. Зь сярэдзіны XIX ст. ператварыўся ў найбуйнейшы эміграцкі порт Эўропы.

[33] **"Генэрал Гоўз"** (анг. *General R. L. Howze*) — ваенна-транспартны карабель ВМФ ЗША, названы ў гонар генэрала Робэрта Лі Гоўза (1864—1926). З 1944 г. знаходзіўся ў складзе флоту. Выкарыстоўваўся для забесьпячэньня войскаў на Ціхаакіянскім тэатры баявых дзеяньняў, вяртаньня амэрыканскіх жаўнераў з Эўропы, перавозкі ваеннапалонных і г. д. З 1949 г. ажыць-

і адправіліся ў ЗША. На караблі даволі добра кармілі і заўсёды ляжалі звараныя курыныя яйкі. Іх можна было есьці колькі хочаш. Казалі, што гэта памагае ад марской хваробы. Усю дарогу акіян быў досыць спакойны, але некаторыя людзі ўсё роўна адчувалі сябе кепска. Я ад гэтай хваробы пакутваў нядоўга, відаць, таму, што еў багата яек, якія любіў. Цераз 13 дзён падарожжа праз Атлянтыку мы прыплылі ў канадзкі порт Галіфакс[34]. Тут высадзілася частка пасажыраў, якія ехалі ў Канаду, а мы рушылі ў напрамку Нью-Ёрку. Назаўтра, 15 чэрвеня 1950 г., мы сышлі на бераг у Амэрыцы. У порце прайшлі невялікую праверку і пасьля гэтага маглі вольна ехаць ў прызначанае кожнаму месца. Мы прыбылі ў ЗША на "ашуранс" (запрашэньне) адной з царкоўных арганізацый і, відаць, мусілі накіроўвацца на нейкую фарму, куды дакладна — не даведаўся і па сёньня. Але ў порце нас сустрэў малады амэрыканец Пётра Казьлякоўскі, бацька якога даўно жыў у ЗША. Ён сказаў, што яго прыслаў Сьвятаслаў Коўш, каб забраць нас у штат Нью-Джэрзі. Коўш знаў, што мы меліся прыехаць, і адмыслова так зрабіў. Бацька пытае ў начальства, ці маем мы права ехаць у Нью-Джэрзі? Нам сказалі, што можам ехаць, куды хочам, абы там было, дзе спыніцца. Мы селі ў новенькі *Chevrolet* і паехалі ў Саўт-Рывэр. Праяжджалі праз індустрыяльныя раёны, якія зрабілі на мяне вялікае ўражаньне. Таксама я дзівіўся значнай колькасьці новенькіх самаходаў на "гайвэю".

Цераз пару гадзін мы прыехалі і спыніліся ў доме Казьлякоўскіх — старых эмігрантаў зь Вілейшчыны, якія пераехалі ў Амэрыку на пачатку 1900-х гг. Коўш папрасіў іх часова прыняць нашую сям'ю. Нас разьмясьцілі ў падвале, які аказаўся вельмі ўтульным. Там стаялі ложкі, была акуратная маленькая кухня, умывальнік. Адным словам, вельмі прыютнае месца. Пасьля таго як мы ўладкаваліся, я выйшаў на двор, каб агледзецца навокал. Калі ішоў па вуліцы, каля мяне спынілася машына, і чалавек, які сядзеў за рулём, запытаўся: *"What time is it?"* Я не разабраўся, што ён пытаецца пра час, мне падалося, што прагучала слова *"town"* — горад. Таму я толькі паглядзеў на шафёра ды паціснуў плячыма. Той пакруціў галавою і паехаў. Вось такой была мая першая сустрэча з амэрыканцам.

Трэба сказаць, што мой настрой быў ня надта добры. Я ўжо пачаў сумаваць па сябрах. Таму назаўтра пайшоў адведаць колішніх прыяцеляў, якія раней за мяне апынуліся ў Злучаных Штатах. Адзін зь іх быў

цяўляў рэйсы па дастаўцы Ды-Пі ў розныя часткі сьвету. У 1949 і 1950 гг. даставіў 2421 чалавека ў Мэльбурн (Аўстралія). Зь вясны 1950 г. рабіў рэйсы з Эўропы ў ЗША. Пазьней быў задзейнічаны для пасажырскіх перавозак у Паўднёвай Азіі падчас войнаў у Карэі й В'етнаме.

[34] **Галіфакс** (анг. *Halifax*) — горад на атлянтычным узьбярэжжы Канады.

Сьцёпа Медзьвядок, а другі — Анатоль Коўш[35], сын былога камэнданту лягеру. Ён пазнаёміў мяне зь іншымі беларускімі хлопцамі: Юркам Орсам, Юркам Хмызом, Алексам Плескачэўскім. Лета праляцела вельмі хутка: купаліся, хадзілі на рыбу, амаль кожны дзень гулялі ў бэйсбол, які мне вельмі спадабаўся. Мы заўсёды гутарылі па-беларуску, але патроху ад сяброў я пачаў вучыцца ангельскай мове, бо яны ўжо год ці болей жылі ў Амэрыцы і досыць добра размаўлялі па-ангельску.

На пачатку верасьня я пайшоў у школу. Паколькі мовы добра ня ведаў, мяне залічылі ў 6-ю клясу. Наогул у школе было каля 15—20 нашых беларускіх хлопцаў і дзяўчат, якія кепска гаварылі па-ангельску, і некалькі ўкраінцаў. Дырэктар школы для ўсіх нас прыдзяліў адну дадатковую гадзіну заняткаў на дзень, каб паскорыць вывучэньне мовы. Гэты ўрок праводзіў амэрыканец польскага паходжаньня Джозэфовіч. Вельмі ветлівы малады чалавек, ён стараўся нас добра навучыць мове, патрэбнай для далейшай вучобы і жыцьця ў Амэрыцы. Калі Джозэфовіч купіў сабе новы прыгожы *Chevrolet*, то некалькі разоў па суботах вазіў мяне на ім на прагулку. Я хутка падвучыў мову, і мяне перавялі адразу ў 8-ю клясу, прапусьціўшы 7-ю. Напачатку, калі яшчэ добра ня знаў мовы, з навукай было нялёгка. Часам прыходзілася чытаць услых перад цэлай клясай, і калі я няправільна вымаўляў словы, вучні пачыналі сьмяяцца. Мне гэта было непрыемна. У такія моманты хацелася назад на радзіму. Але потым ужо спраўляўся някепска. У саўт-рывэрскіх школах я вучыўся да 1955 г.: 3 гады — у пачатковай і 2 гады — у гімназіі.

Калі мы прыехалі ў Амэрыку, то бацька меў толькі 10 амэрыканскіх даляраў, якія яму даў нехта, вярнуўшыся са Злучаных Штатаў у Беларусь. Было таксама некалькі залатых манет: дзьве царскія 10-рублёўкі і тры 5-рублёўкі, якія бабуля дала маёй маме, калі тая выходзіла замуж. Так што на першых парах даводзілася цяжкавата. У Казьлякоўскіх мы пражылі некалькі месяцаў, а потым пераехалі ў дом на *Service street, 5*, які ўзялі ў арэнду. Тут пражылі больш за год, але неўзабаве былі вымушаныя шукаць іншае месца, бо гаспадар прадаваў дом. На пару месяцаў прыпыніліся ў сям'і Арцюшэнкаў, на той жа самай вуліцы, цераз адну хату. Потым перабраліся на другую вуліцу, а ў 1956 г. купілі свой дом. Найбольшую дапамогу нам аказаў С[ьвятаслаў] Коўш. Гэта быў вельмі парадачны чалавек, адзін з найбольш выдатных дзеячаў эміграцыі. Ён заўсёды адносіўся да людзей дыпляматычна і ветліва, меў добрую адукацыю і пісьменьніцкія здольнасьці (яшчэ ў лягеры пісаў кароткія паэмы і артыкулы), актыўна дзейнічаў у грамадзкіх і царкоўных справах. Таксама дапамагалі і іншыя знаёмыя зь "лягерных" часоў. У сваю чаргу і мы стараліся падтрымаць іншых. Летам 1951 г. у Саўт-Рывэр

[35] **Анатоль Коўш** (1940—1962), сын Сьвятаслава Каўша. Летам 1962 г. падчас службы ў амэрыканскай арміі ў Нямеччыне ён загінуў у аўтакатастрофе. — ***Ж. Н.***

прыехала сям'я сьвятара Аўгена Сурвілы (а. Сурвіла, матушка і дзьве малыя дочкі). Неўзабаве Сурвіла паехаў на два тыдні ў Масачусэтс шукаць працу. Гэтыя два тыдні я жыў у ягонай сям'і, дапамагаючы ім па гаспадарцы. Хутка а. Аўген атрымаў месца ў нейкай праваслаўнай царкве і зьехаў[36]. Бальшыня старых эмігрантаў ставіліся да нас вельмі добра. Толькі з эмігрантамі-камуністамі, якіх было няшмат, часта ўзьнікалі спрэчкі. Яны пыталіся: "*Чаму вы не паехалі назад, на радзіму? Там жа так добра людзі жывуць!*" На што мы адказвалі: "*А што ж вы самі туды ня едзеце? Паедзьце і паглядзіце, як жывуць беларусы!*" Старэйшае пакаленьне спрачалася паміж сабою наконт падтрымкі Р[адаслава] Астроўскага і М[іколы] Абрамчыка, а мы, маладыя, ніколі аб гэтым не спрачаліся. "Зарубежнікі" сябравалі з "крывічамі", і наадварот. Разам выдавалі часопіс "Беларуская Моладзь"[37]. Я асабіста належаў да "зарубежнікаў", але заўсёды добра ставіўся да "крывічоў".

З дапамогай Каўша бацька знайшоў працу ў старога эмігранта паляка Крампацкага, які займаўся будаўніцтвам дамоў. Адпрацаваў там некалькі месяцаў, а потым уладкаваўся ў суседнім гарадку Сэйрвіле рабочым на цагельні. Там працаваў, пакуль фабрыка не закрылася і ён не пайшоў на пэнсію, калі яму было 70 з гакам гадоў. Маці ўладкавалася на швейнай фабрыцы ў старога беларускага эмігранта Казака, але там доўга не працавала, бо захварэла, і ёй зрабілі дзьве апэрацыі. Апэрацыі прайшлі пасьпяхова, але працу давялося кінуць. Бацька хутка інтэграваўся ў амэрыканскае грамадзтва. Ён досыць добра авалодаў ангельскай мовай і мог паразумецца з кожным. Маці мову ведала слаба, але сяк-так дагаворвалася зь людзьмі. Любіла глядзець тэлевізійныя фільмы і разумела іх, хоць часам пыталася ў мяне, што азначае тое ці іншае слова. Брат Стэфан не пайшоў у школу, а адразу ўладкаваўся на працу да Казака, але хутка перайшоў на вялікую фабрыку *Johnson & Johnson* у гарадку Мілтоўн за якія 4 мілі[38] ад нас, на якой адпрацаваў больш за 40 гадоў. З 1952 да 1954 г. служыў у войску. Большую частку службы правёў у Нямеччыне.

Пачынаючы з 1951 г. у Саўт-Рывэр пачало перасяляцца шмат беларусаў зь іншых штатаў. Дзякуючы вялікай колькасьці моладзі тут паўсталі беларускія спартовыя дружыны: валейбольная "Нёман" і дзьве футбольныя — старэйшая і малодшая (для гульцоў да 18 гадоў) з такой самай назвай. З 1954 г. я гуляў у левым крыле малодшай дружыны. У 1956 г. мы занялі першае месца ў штаце Нью-Джэрзі. Але

---

[36] А. Аўген Сурвіла ў 1951—1984 гг. быў настаяцелем сабору ў Бостане.

[37] **"Беларуская Моладзь"** — штоквартальны часопіс "*беларускага маладога пакаленьня ў Амэрыцы*". Выдаваўся ў 1959—1967 і 1972—1980 гг. у Нью-Ёрку ў беларускай і ангельскай мовах.

[38] **1 амэрыканская міля** = 1609,34 мэтра.

ў чэмпіянаце на першынства паўночных штатаў Амэрыкі, які праходзіў у Філадэльфіі (штат Пэнсыльванія) прайгралі немцам зь лікам 2:0. Калі б ня гэтая параза, то выйшлі б у чэмпіянат ЗША ў Чыкага. У наступным годзе я ўжо быў у складзе старэйшай футбольнай дружыны. Мы выйгралі кубак Трэнтану — сталіцы штату Нью-Джэрзі, які мне ўручыў мэр гораду, так як я на той час быў капітанам каманды. У гэтай жа дружыне гуляў мой сябра Альбэрт Васанскі. Ён з бацькамі з 1951 г. жыў у Сэйлеме (штат Мэрылэнд), а неўзабаве пераехалі ў Трэнтан. Альбэрт часта прыяжджаў да нас і быў гульцом саўт-рывэрскай каманды, пакуль не пайшоў служыць у армію[39]. Увогуле, старэйшая футбольная дружына была досыць моцная і праіснавала да 1960 г. Потым распалася: хто ажаніўся, хто пайшоў у армію, а хто выехаў у іншы штат.

У валейбольнай дружыне я гуляў сорак гадоў: з 1951 да 1991 г. Мы належалі да ўкраінскае лігі. Часта адбываліся турніры, у якіх прымалі ўдзел ад 5 да 8 дружын з розных гарадоў. Наша каманда была вельмі моцная, мы мелі добрых забойшчыкаў, якімі былі Рыгор Арцюшэнка[40] і я. Добра гуляў Хведар Бордак. На спаборніцтвах мы звычайна займалі 1-е, 2-е і рэдка калі 3-е месца. У 1955 г. на турніры ў Ньюарку (штат Нью-Джэрзі) занялі другое месца сярод дзевяці каманд, а Рыгор Арцюшэнка атрымаў узнагароду як найлепшы забойшык турніру. Таксама гулялі зь іншымі беларускімі камандамі — кліўлэндзкай "Пагоняй" і нью-ёрскай "Беларусьсю". На беларускіх спаборніцтвах нашая дружына заняла першае месца па валейболу[41].

Дарэчы, у спартыўнай форме выкарыстоўвалася нацыянальная сімволіка. Старэйшая футбольная дружына мела белыя кашулькі з Пагоняй і белыя шорты з чырвонай палоскай збоку. Малодшыя футбалісты насілі чорныя кашулькі зь белымі каўнярамі і белыя шорты. Валейбольная дружына спачатку мела белыя кашулькі з Пагоняй

---

[39] Альбэрт служыў у Заходняй Нямеччыне. Калі вярнуўся з арміі, скора ажаніўся з амэрыканкай, і яны жылі ўвесь час у Трэнтане. Мелі шасьцёра дзяцей. Памёр мой сябра на 81-м годзе жыцьця 13 студзеня 2017 г. Мой другі блізкі сябра з часоў Ватэнштэту Анатоль Кучура ў 1951 г. зь сям'ёй пасяліўся ў Чыкага. Часта прыяжджаў да мяне ў Саўт-Рывэр. Тут пазнаёміўся зь беларускай Галяй Вайцэхоўскай, зь якой неўзабаве ажаніўся. Мае сына і дачку. Цяпер жыве ў Даласе (штат Пэнсыльванія), часта наведвае Саўт-Рывэр. Разам з жонкай некалькі разоў ахвяравалі грошы на "Беларускую Думку". — ***Ж. Н.***

[40] **Рыгор Арцюшэнка** (1928—2004), грамадзкі дзеяч, арганізатар спартовага жыцьця. З часоў знаходжаньня ў Ватэнштэце да сярэдзіны 1970-х гг. гуляў у беларускіх валейбольных камандах. Доўгі час кіраваў беларускім адпачынковым цэнтрам "Белэр-Менск".

[41] Гаворка ідзе пра **Спартовую сустрэчу беларускай моладзі Амэрыкі**, якая адбылася ў Саўт-Рывэры 4—5 ліпеня 1959 г. У валейбольных спаборніцтвах "Нёман" выйграў у "Пагоні" (15:12) і "Беларусі" (15:4).

каля сэрца і белыя шорты з палоскай. Пазьней купілі новую форму: сьветла-сінія кашулькі з Пагоняй на грудзях і надпісам *Nioman*, а шорты засталіся, як і раней.

У 1956—1957 гг. я вучыўся ў тэхнічнай школе ў Нью-Брансьвіку, дзе вывучаў друкарскую справу. Пасьля атрыманьня дыплёму мне, як аднаму зь лепшых вучняў, школа знайшла працу ў вялікай друкарні *Consolidated Business Systems*, якая спэцыялізавалася на выпуску розных блянкаў і канцылярскіх формаў. Тут я працаваў памочнікам майстра і вучыўся ўпраўляцца з новым для мяне абсталяваньнем. Праца была цікавая, але прыпадала на другую зьмену: ад 3 гадзін па абедзе да 11 гадзін вечара. Часта прыходзілася працаваць па суботах. Усе мае сябры працавалі ці вучыліся ўдзень, і калі яны кожны вечар зьбіраліся, то я мусіў быць на працы. Таксама і суботы былі занятыя. Гэта мне моцна не падабалася, і я церазь некалькі месяцаў кінуў друкарню і перайшоў на кабельную фабрыку, дзе працаваў да восені 1959 г.

У месяцы верасьні мяне выклікалі на прызыўную камісію, і 6 кастрычніка 1959 г. я пачаў службу ў амэрыканскай арміі. Прайшоў курс вучэбных заняткаў у Форце Дыкс (штат Нью-Джэрзі), пасьля чаго мяне перавялі ў артылерыйскую школу ў Форт-Сіль (штат Аклахома), дзе прабыў аж да 2 лютага 1962 г. У той час у амэрыканскай арміі служылі два гады, але пад канец 1961 г. здарыўся Бэрлінскі крызіс[42], і нам абвясьцілі, што тэрмін службы жаўнераў падоўжыцца на тры месяцы, а афіцэраў — на адзін год. Нават былі гаворкі, што можа выбухнуць вайна. У той час былі патрэбныя жаўнеры, якія б зналі расейскую мову. На экзамэне па ёй я атрымаў вынік 95%, і ў маіх дакумэнтах была зроблена асобная пазнака, што я валодаю расейскай. Быўшы ў арміі, я атрымаў рангу *Privat First Class*[43].

Амэрыканцы ў той час мала ведалі пра Беларусь. У Саўт-Рывэры многія называлі нас расейцамі, а калі мы пярэчылі, што не расейцы, а беларусы, не маглі зразумець, што гэта такое. Мы тлумачылі, што Беларусь — адна з рэспублік Савецкага Саюзу, некалі была самастойнай і славутай краінай. Некаторыя гэтаму верылі, некаторыя ня верылі. У арміі я называў сябе *Whiterussian* (у той час не было слова

---

[42] **Бэрлінскі крызіс 1958—1962 гг.** — адзін з найбольш напружаных момантаў халоднай вайны, быў выкліканы жаданьнем савецкага боку скасаваць асаблівы статус Заходняга Бэрліну, што выклікала адпаведную рэакцыю з боку ЗША. Пік супрацьстаяньня прыпаў на лета — восень 1961 г., калі шэраг злучэньняў амэрыканскай арміі былі прыведзеныя ў баявую гатоўнасьць. Вынікам крызісу стала пабудова Бэрлінскага муру.

[43] ***Privat First Class*** (анг.) — радавы першай клясы, вайсковае званьне шарговага складу ў сухапутных войсках ЗША, прыблізна адпавядае званьню яфрэйтара Ўзброеных Сілаў Рэспублікі Беларусь.

*Belarussian*). Многія ўпершыню чулі пра такую краіну, але ўрэшце рэшт мяне сталі клікаць *Whiterussian yankee. "Yankee"* — таму, што я паходзіў з паўночных штатаў.

Падчас службы ў Аклахоме я купіў сабе аўтамабіль — *Chevrolet*, 1955 году выпуску. На ім пару разоў езьдзіў у водпуск, у Саўт-Рывэр, гэта нейкія 2000 з гакам кілямэтраў у адзін бок. Таксама даведаўся, што ў Аклахома-Сіці жывуць мае былыя сябры з Ватэнштэту Валодзя і Аркадзь Шчэпкі. Ад нашага лягеру да гораду было якія 150 км, і я мог часта адведваць сяброў. Мы разам праводзілі час на забавах і гулянках. У горадзе была праваслаўная грамада, якая належала да Сірыйскай праваслаўнай царквы[44], мы часта яе наведвалі. 8 кастрычніка 1961 г. я з двума сябрамі-вайскоўцамі ехаў раніцай з Аклахома-Сіці ў наш ваенны лягер па *HighWay № 277*. Ехалі з хуткасьцю 130 км на гадзіну і за нейкія 15 км ад гораду трапілі ў аварыю. Калі я рухаўся пад гару, то на сустрэчнай паласе ўбачыў аўтамабіль, які абганяў другую машыну і апынуўся проста перада мной. Мы стукнуліся кола ў кола. Мой *Chevrolet* вылецеў з дарогі ў вялікі роў. Аднаго сябра выкінула з машыны. Другі, які сядзеў сьпераду, ударыўся галавой аб столь. А я стукнуўся аб руль падбародзьдзем. На шчасьце, ніхто з нас ня быў пакалечаны. Скора на месцы здарэньня апынулася паліцыя. Яны прызналі, што вінаваты быў ня я, а другі шафёр. Нас траіх падабралі добрыя людзі і завезьлі ў наш лягер, да якога было кілямэтраў 120—130. Там у ваеным шпіталі нас перабінтавалі, мне зашылі рану на падбародзьдзі і адправілі для далейшай службы.

Калі вярнуўся з арміі, маці дала мне 1200 даляраў, якія я ўнёс як задатак і купіў сабе новы аўтамабіль *Pontiac* 1962 году выпуска. Гэта была мая чацьвёртая машына. Першы *Pontiac* я купіў, калі мне споўнілася 18 гадоў. У 1959 г. купіў *Pontiac convertible* з адкрытым верхам, які каштаваў трохі болей за 5000 долараў, але на ім доўга не паезьдзіў, таму што забралі ў армію і машыну давялося прадаць. Усяго за сваё жыцьцё я купіў восем "пантыякаў", хоць яны і каштавалі больш, чым *Chevrolet*, але я іх спадабаў. У Амэрыцы без аўтамабіля — як бяз ног. Амаль кожны жыхар мае адзін, а часам і два аўтамабілі. На працу ўсе пераважна езьдзяць на ўласных аўто. Гэта датычыцца і Саўт-Рывэру, дзе няма ніякай індустрыі, а большасць людзей працуе ў суседніх гарадах, дзе ёсьць вялікія прадпрыемствы. Мой бацька сам вадзіў машыну, пакуль яму ня споўнілася 82 гады. Толькі летам калі-нікалі хадзіў на працу пешкі. Да таго ж у тыя часы аўтамабілі каштавалі ня так дорага, як цяпер. У 1968 г. я набыў новы *Pontiac*, заплаціўшы за яго 9500 даля-

[44] **Сірыйская праваслаўная царква** — адна з найстаражытнейшых цэркваў, якая ўзьнікла ў V ст. Найбольшая колькасьць вернікаў жыве ў Індыі й на Блізкім Усходзе, адна з царкоўных япархій ахоплівае тэрыторыю ЗША.

раў. Калі мы прыехалі ў Амэрыку, галён[45] бэнзіну каштаваў 25 цэнтаў, цяпер — 2,75 даляра.

Цераз пару месяцаў пасьля звальненьня з арміі я ўладкаваўся на працу ў *National Can Company* — прадпрыемства за якіх 15 км ад Саўт-Рывэру, якое вырабляла кансэрвавыя банкі для соды, піва і г. д. Тут я адпрацаваў на розных пасадах амаль 43 гады. Найдаўжэйшы час быў інспэктарам. Спачатку фабрыка вырабляла банкі са швом, спаяныя збоку, да якіх ніз прыкручваўся асобна (пры гэтым верх заставаўся адкрытым). Але ў 1986 г. прадпрыемства закрылі для пераабсталяваньня. Усе старыя машыны прадалі Японіі на мэтал, а замест іх усталявалі новыя, якія выбівалі банкі разам з дном бяз шва. Фабрыка працавала 24 гадзіны ў суткі, 7 дзён на тыдзень, і выпускала 3—3,5 млн банак у суткі. Працавалі ў чатыры зьмены: дзьве дзённыя і дзьве начныя. Кожная зьмена па 12 гадзін. Чатыры дні працуеш, чатыры адпачываеш. Першыя восем гадзін працы аплачваліся ў звычайным памеры, апошнія чатыры — у паўтара раза даражэй. Калі, напрыклад, за першыя восем гадзін я атрымліваў па 20 даляраў, то за наступныя — ужо 30. Калі даводзілася некага замяняць і выходзіць не ў сваю зьмену, плата павялічвалася ў два разы і складала адпаведна па 40 і 60 даляраў на гадзіну. У апошнія гады працы я зарабляў 55—62 тысячы даляраў на год. Першыя 15 гадоў працы давалі двухтыднёвыя вакацыі адзін раз на год. На 16-ы год належалі вялікія трохмесячныя вакацыі. Далей — водпуск 5 тыдняў на год, а кожны пяты год — зноў тры месяцы. Але калі я выходзіў на пэнсію, 1 красавіка 2005 г., трохмесячны адпачынак перасталі даваць.

Прыйшоўшы з арміі, я неўзабаве пазнаёміўся зь беларускай дзяўчынай Надзяй Дашкевіч. Яе бацькі, Дзьмітрый і Поля Дашкевічы, паходзяць зь вёскі Церабава[46] ва Ўсходняй Беларусі. У 1944 г. яны выехалі ў Нямеччыну, дзе ў горадзе Котбус 20 жніўня 1944 г. і нарадзілася Надзя. Мы пажаніліся 24 лістапада 1962 г. У нас нарадзіліся дзьве дачкі: Элізабэт — 11 траўня 1963 г. і Дэбі — 3 жніўня 1966 г. Калі Элізабэт была маленькая, то мы і нашыя бацькі гаварылі зь ёю толькі па-беларуску. На гэтай мове яна сказала свае першыя словы. Мы нават баяліся, што яна ня будзе знаць ангельскай мовы, як прыйдзе пара ісьці ў школу. Аднак калі Элізабэт падрасла ды пачала гуляць зь іншымі дзецьмі, то за пару месяцаў стала добра гаварыць па-ангельску. Па-беларуску яна і дасюль добра размаўляе, хоць і з акцэнтам. Малодшая — Дэбі — беларускую мову не вучыла, зь сястрой размаўляла па-ангельску. Цяпер яна беларускую ведае слаба. Абедзьве дочкі даўно

[45] **1 амэрыканскі галён** = 3,785 літра.

[46] **Церабаў** — вёска ў Петрыкаўскім раёне Гомельскай вобласьці.

замужам і маюць уласных дзяцей. У Элізабэт — сын Нікалас (нарадзіўся 19 лютага 1996 г.), у Дэбі — дачка Савана (нарадзілася 7 жніўня 2000 г.). Унук і ўнучка па-беларуску ведаюць толькі асобныя словы, але знаюць, што яны беларускага паходжаньня.

Брат Стэфан быў жанаты двойчы. Першы раз у 1960 г. ажаніўся з ураджэнкай Італіі Тарэсай Баргабэло. У іх нарадзіліся сын Джон і дачка Сьюзэн. Аднак пасьля разьвяліся, і на пачатку 1980-х Стэфан ажаніўся з Марыяй Юрцэвіч, беларускай, якая прыехала ў ЗША праз Польшчу ў 1970-я гг. У іх нарадзіліся два сыны: Майкл і Алекс.

Ад 1963 да 1990 г. я быў актыўным у дзейнасьці амэрыканскіх палітычных арганізацый. У 1960—1980-я гг. належаў да Этнічнай Рэспубліканскай партыі штату Нью-Джэрзі. 90 % беларусаў на выбарах традыцыйна галасавалі за рэспубліканцаў, таксама галасаваў і мой бацька, і я. Даводзілася часта езьдзіць на мітынгі ў горад Юніон-Сіці за якія 30 міль ад нас. Таксама ўваходзіў у Беларуска-Амэрыканскую рэспубліканскую партыю-клуб, якая ўдзельнічала ў прэзыдэнцкіх выбарах. Меў шчасьце пацісьнуць руку прэзыдэнту Рэйгану[47] і іншым высокім палітыкам. У 2000 г. у Белы Дом у Вашынгтоне першая лэдзі ЗША Гілары Клінтан[48] запрасіла лідараў усіх этнічных груп Амэрыкі, у беларускую дэлегацыю ўвайшоў і я. Быў наладжаны невялікі прыём з буфэтам, і спадарыня Клінтан з кожным запрошаным зрабіла асобны здымак, які пазьней быў прысланы кожнаму па пошце. Мы выкарыстоўвалі любы кантакт з амэрыканскімі арганізацыямі, каб пашырыць інфармацыю пра Беларусь, пра якую яны мала зналі.

У 1970—1980-я гг. даволі актыўна дзейнічала беларуска-амэрыканская вэтэранская арганізацыя[49]. У яе ўваходзілі былыя жаўнеры БКА, паліцыянты, некалькі былых сяброў СБМ, якія пазьней служылі ў амэрыканскай арміі, і некалькі чалавек, якія служылі ў Арміі Андэрса. Да гэтай арганізацыі належаў і я. Мы прымалі ўдзел у сьвяткаваньнях Акту 25 сакавіка і таксама часам маршыравалі ў амэрыканскіх парадах. Падчас пахаваньня Прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага я стаяў у ганаровай варце каля труны[50]. Да вэтэранскай арганізацыі належалі мой бацька і брат. Мы нават мелі афіцэрскія рангі. Спачатку бацька,

---

[47] **Рональд Рэйган** (1911—2004), дзеяч Рэспубліканскай партыі, 40-ы прэзыдэнт ЗША ў 1981—1989 гг.

[48] **Гілары Клінтан** (нар. у 1947), амэрыканскі палітык, дзеяч Дэмакратычнай партыі, першая лэдзі ЗША ў 1993—2001 гг.

[49] Маецца на ўвазе **Саюз амэрыканска-беларускіх вэтэранаў**, суполка якога пачала дзейнічаць у Саўт-Рывэры зь верасьня 1966 г.

[50] Радаслаў Астроўскі памёр 17 кастрычніка 1976 г. у мястэчку Бэнтан-Харбар (штат Мічыган). Пахаваны ў Саўт-Рывэры на беларускіх могілках царквы Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай.

а потым я і Стэфан атрымалі сімвалічныя афіцэрскія званьні “капітан Беларускай краёвай абароны” за актыўны ўдзел у грамадзкай і палітычнай дзейнасьці. У 1980 г. я і брат былі ўзнагароджаны мэдалём “Беларускія вэтэраны на чужыне”.

У 1976 г. праводзіўся Першы беларускі фэстываль у Нью-Джэрзі. Быў створаны выканаўчы камітэт. Маімі функцыямі было арганізаваць продаж білетаў і валейбольнае спаборніцтва падчас фэстывалю. Усё прайшло вельмі ўдала. На фэстывалі было звыш тысячы ўдзельнікаў і гледачоў. Выступаў танцавальны гурток “Васілёк”, які паказаў беларускія народныя танцы. У яго складзе былі мае дочкі Элізабэт і Дэбі. Я сьпяваў у сьвецкім хоры[51].

Але большасьць часу ў мяне займала друкарская і грамадзкая дзейнасьць пры царкве Еўфрасіньні Полацкай.

У Саўт-Рывэры старыя эмігранты, якія прыехалі з Расеі яшчэ пры цары, пабудавалі прыгожую праваслаўную царкву Сьвятых Пятра і Паўла. Беларусы спачатку хадзілі туды, але нядоўга. Ужо ў 1951 г. беларуская грамада купіла старую жыдоўскую сінагогу (жыды якраз пабудавалі новую) і перарабіла яе на царкву. Там доўгі час праводзіліся Божыя службы. У 1968 г. нашая парафія Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай купіла ў гарадзкой управы Саўт-Рывэру кавалак зямлі за мінімальную цану, і мы пачалі будаваць новую царкву, а пры ёй — Грамадзкі цэнтар зь вялікай заляй. Усе парафіяне, асабліва малодшыя, прыходзілі працаваць на будаўніцтве штодня, апрача нядзелі, з малаткамі, піламі ды іншымі інструмэнтамі[52]. Нарэшце, у 1972 г., будова скончылася і адбылося афіцыйнае адкрыцьцё і асьвячэньне царквы і Грамадзкага

[51] **Першы беларускі фэстываль** адбыўся 12 чэрвеня 1976 г. у Цэнтры мастацтваў штату Нью-Джэрзі і меў вялікі посьпех. Паводле ўспамінаў Вітаўта Кіпеля, на мерапрыемства было прададзена звыш 4 тысяч білетаў, а *«пачынаючы ад 1-й гадзіны фэстывальнага дня публіка магла праходзіць бясплатна — “паглядзець на беларусаў” прыйшло каля тысячы дадатковых гледачоў»* (Кіпель, Вітаўт. Жыць і дзеіць. Успаміны. Мінск, 2015. С. 385).

[52] Пабудове царквы Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай прысьвечаныя выданьні: “Памятная кніга 1950—1975” (1994) і “Гісторыя пабудовы Беларускае Праваслаўнае Царквы імя Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры, Нью Джэрзі” (1984) Віталя Цярпіцкага, якія былі надрукаваны Жоржам Наумчыкам у Саўт-Рывэры. Сярод іншага там ёсць зьвесткі пра ўдзел у будаўніцтве аўтара ўспамінаў і яго блізкіх. *“У канцы ліпеня 1969 г. ...муляры ўзяліся абкладаць сьцены цэглай. Дзякуючы Івану Наумчыку ўдалося атрымаць патрэбную цэглу па значна заніжанай цане...”*, *“...Лічу патрэбным падаць сьпіс людзей добрае волі, якія прынялі актыўны ўдзел пры заканчэньні пабудовы царквы ў 1970 годзе: ...С. Наумчык — 23 дні, Ж. Наумчык — 16 дзён...”* (Памятная кніга 1950—1975. С. 38, 40—41).

цэнтру[53]. З гэтай нагоды ў зале быў ладжаны банкет, на які сабралася звыш 300 асобаў. У той час настаяцелем царквы быў а. Мікалай Лапіцкі, які фактычна заснаваў нашу парафію. Гэта быў шчыры і актыўны дзеяч, сьмерць якога сталася моцным ударам для беларусаў. Нашая сям'я належала да актыўных парафіян. Бацька набыў для ўпрыгажэньня царквы дзьве харугвы, а брат Стэфан — ікону "Хрыстос Збаўца". Таксама брат доўгі час уваходзіў у склад Царкоўнай управы і некалькі гадоў быў заступнікам яе старшыні. Разам са мной ён сьпяваў у царкоўным хоры.

Адразу калі закончылася будоўля, мы купілі ў беларуса Яна Пятроўскага[54], у Сырак'юз (штат Нью-Ёрк) друкарню, якую перавезьлі ў падвал пад заляй Грамадзкага цэнтру. Так пачалася мая друкарская дзейнасьць, якая працягваецца дагэтуль. У Саўт-Рывэры друкаваліся часопісы "Беларуская Думка"[55], "Царкоўны Сьветач"[56], каталіцкі часопіс "Сяўбіт"[57] і праваслаўны насьценны каляндар. "Царкоўны Сьветач" выдаваўся нерэгулярна. Я надрукаваў толькі два ці тры ягоныя нумары. Першым рэдактарам быў а. Мікалай Лапіцкі, а пазьней а. Сьвятаслаў Коўш. Таксама надрукаваў некалькі нумароў "Сяўбіта". Ён выходзіў два-тры разы на год, палова тэксту набіралася кірыліцай, а палова — лацінкай. Часта друкаваў запросіны на вясельлі і хрэсьбіны і іх пасьведчаньні, а таксама розныя дыплёмы для спарто-

---

[53] 29 ліпеня 1972 г. у суботу ў царкве адбылася першая ўсяночная служба, якую служыў протапрэсьвітар а. Мікалай Лапіцкі. На наступны дзень, 30 ліпеня, прайшло асьвячэньне архірэйскім чынам царквы Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай і Беларускага грамадзкага цэнтру, якое правёў япіскап Канстанцінопальскага патрыярхату Філатэос.

[54] **Ян Пятроўскі** (1905—2001), рэлігійны й грамадзкі дзеяч, пратэстанцкі прапаведнік. Напрыканцы 1920-х гг. далучыўся да царквы мэтадыстаў. Падчас Другой сусьветнай вайны працаваў у Беларускім камітэце самапомачы ў Бэрліне. У 1945—1953 гг. жыў у Аўстрыі, у 1953 г. выехаў у ЗША. Аўтар шэрагу кніг, у тым ліку перакладаў Плятона й Марка Аўрэлія.

[55] **"Беларуская Думка"** — грамадзка-палітычны й літаратурна-мастацкі часопіс. Першы нумар выйшаў у кастрычніку 1960 г. Спачатку выдаваўся як неафіцыйны друкаваны орган Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі, друкаваў важнейшыя палітычныя дакумэнты арганізацыі, хроніку беларускага жыцьця, палемічныя артыкулы, прысьвечаныя грамадзка-рэлігійным праблемам, матэрыялы па гісторыі й культуры, мэмуары, літаратурныя творы. Да канца 1990-х гг. за рэдкім выключэньнем выдаваўся адзін нумар на год. З 2009 г. стала выходзяць два нумары на год. Па стане на ліпень 2018 г. выдадзена 79 нумароў.

[56] **"Царкоўны Сьветач"** — часопіс беларускіх праваслаўных прыходаў у ЗША. Выдаецца з 1951 г.

[57] **"Siaubit = The Sower"** — "каталіцка-грамадзкі" часопіс, які запачаткаваў у 1958 г. а. Францішак Чарняўскі. Выходзіў да кастрычніка 1973 г.

вых спаборніцтваў, рахунковыя паквітальныя кніжачкі для беларускага рэсорту “Белэр-Менск” у Глен-Спэй (штат Нью-Ёрк), разнастайныя брашуры, паштоўкі, запрашэньні. Таксама ў нас друкаваліся блянкі дыплёмаў прэзыдэнта БЦР аб узнагароджваньні вэтэранскімі мэдалямі (гарызантальныя).

Увесь час пачынаючы ад 1972 г. галоўным выданьнем быў часопіс “Беларуская Думка”. Яго друкаваў я, а дапамагаў паэт Янка Золак (Антон Даніловіч)[58]. Я набіраў матэрыялы на лінатыпе[59], а Янка разьбіваў іх на старонкі і рабіў карэктуру. У канцы я ўсё друкаваў на станках. Так працавалі аж да 1993 г. Справа ішла марудна, бо лінатып часта ламаўся, трэба было купляць да яго запчасткі і рамантаваць. З часам я навучыўся ўвесь рамонт рабіць самастойна. Нарэшце, у 1993 г., мы купілі новы кампутар і прынтар, і друкарская справа нашмат палепшылася. З гэтага часу я намагаўся выпускаць “Беларускую Думку” два разы на год[60]. Усё набіраў дома на кампутары, а друкаваў у свайго зяця Джыма МэкЛур, мужа Элізабэт, які мае ўласную друкарню ў горадзе Пойнт-Плэзэнт, на беразе акіяну, за якія 50 км ад нас. У майго зяця самае сучаснае абсталяваньне. Я даю свой макет часопісу, а дзяўчына-спэцыялістка націскае адпаведныя кнопкі і пускае яго на друк. За паўтары хвіліны выходзіць гатовы нумар. За паўтары-дзьве гадзіны друкую ўвесь наклад. За гэта я пакідаю зяцю невялікую суму (звычайна 100 даляраў), хоць, напэўна, мог бы і не плаціць. Сам я за сваю работу нічога не атрымліваю. Тыя грашовыя ахвяры, якія прысылалі падпісчыкі, усе ішлі на паперу, друкарскія выдаткі і расходы на перасылку. Часам на перасылку не хапала грошай, то прыходзілася выкладаць з свае ўласнае кішэні.

Адначасова з царквой будаваўся Грамадзкі цэнтар. Тут зробленая вялікая прыгожая заля, кухня і бар. У залі цэнтру кожны год сустракалі Новы год, сьвяткавалі 25 Сакавіка, угодкі Слуцкага паўстаньня ды іншыя нацыянальныя сьвяты. Часта яе здавалі ў арэнду для вясельляў, хрэсьбінаў і т. п. Пры бары мы заснавалі клюб, які называецца *Belarusian-American Community Center* (Беларуска-Амэрыканскі грамадзкі цэнтар). Першым прэзыдэнтам цэнтру быў праўдзівы патрыёт і актыўны дзеяч, які шмат зрабіў для пабудовы нашай царквы — Барыс Шчорс[61]. На жаль, ён памёр у маладым веку. На кароткі час

---

[58] **Антон Даніловіч** (псэўд. **Янка Золак**, 1912—2000) у 1960—1983 гг. быў галоўным рэдактарам часопісу “Беларуская Думка”.

[59] **Лінатып** — друкарская наборная радковаадлівальная машына, з дапамогай якой атрымліваюць набор у выглядзе маналітных металічных радкоў з рэльефнай друкаванай паверхняй.

[60] У 1993 г. часопіс “Беларуская Думка” не выходзіў. У 1995—1997, 1999, 2001, 2002, 2004, 2008 гг. выйшла па адным нумары.

[61] **Барыс Шчорс** (1916—1975), грамадзкі дзеяч. Быў камэндантам беларускага лягеру ў Міхельсдорфе. У 1949 г. выехаў у ЗША, жыў у Саўт-Рывэры.

яго замянў якасьці прызавога фонду для навучэнцаў, якія паказваюць лепшыя веды па гісторыі (каб ведалі аб Беларусі). Звычайна іх разьмяркоўвалі так, каб па 100 даляраў атрымлівалі лепшы вучань і вучаніца (хлопец і дзяўчына).

2 траўня 1985 г. памёр мой бацька Іван Наумчык. Ён да апошніх дзён браў актыўны ўдзел у грамадзкай беларускай дзейнасьці. Належаў да вэтэранскай арганізацыі, уваходзіў у адміністрацыю царкоўнай рады, быў сябрам Беларускага кангрэсавага камітэту Амэрыкі[62]. Заўсёды прысутнічаў на ўрачыстых сьвяткаваньнях і ахвяраваў грошы на многія беларускія справы. 6 верасьня 1989 г. памерла мама Пелагея Карсюк. Бацькі пахаваныя на беларускіх могілках у Саўт-Рывэры. На гэтых жа могілках пахаваны і брат Стэфан, які памёр 28 лютага 2006 г. ад цукровага дыябэту.

У канцы 1980-х гг. мы пільна сачылі за падзеямі ў СССР і Беларусі. Навіны аб гэтым амаль штодня паказвалі па тэлевізары. Таксама я чытаў *"New York Times"* і выразаў з газэты ўсё, дзе пісалі пра Беларусь. Цэлы скрутак гэтых выразак у мяне захаваўся і па сёньня. Вельмі цяжка ўспрынялі навіну пра Чарнобыльскую катастрофу, усе моцна перажывалі. І гэтак жа моцна радаваліся, калі пачаліся першыя кантакты з Бацькаўшчынай. Спачатку да нас прыехаў ансамбль "Жывіца" з Валянцінай Пархоменкай[63]. Падчас яе выступленьня заля была перапоўненая[64]. Потым прыехаў міністар замежных спраў Краўчанка[65] з групай "Песьняры"[66], Анатоль Ярмоленка[67]

[62] **Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА)** — грамадзка-палітычная арганізацыя беларусаў у ЗША, якая каардынуе работу згуртаваньняў, што прытрымліваюцца платформы БЦР. Утвораны ў 1951 г. у Саўт-Рывэры.

[63] **Валянціна Пархоменка** (у шлюбе **Казак**, нар. 1956), заслужаная артыстка Беларусі. У 1981—1992 гг. салістка Беларускага тэлебачаньня й радыё ды ансамбля народнай музыкі "Жывіца". З 1992 г. жыве ў ЗША.

[64] Канцэрт "Жывіцы" ў Саўт-Рывэры адбыўся 31 сьнежня 1990 г. Увесь прыбытак пайшоў на закупку мэдыкамэнтаў для беларусаў, пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

[65] **Пётра Краўчанка** (нар. 1950), палітык, дыплямат, кандыдат гістарычных навук. У 1990—1994 гг. быў міністрам замежных спраў Беларусі.

[66] Канцэрт ансамбля "Песьняры" пад кіраўніцтвам Уладзімера Мулявіна адбыўся ў залі Беларуска-Амэрыканскага грамадзкага цэнтру 2 лістапада 1991 г. Выступленьне было прымеркаванае да 100-годзьдзя з дня нараджэньня Максіма Багдановіча. Адмыслова да гэтых гастроляў Уладзімер Мулявін падрыхтаваў музычны цыкль на вершы паэта. Ініцыятарам паездкі выступіў міністар замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётра Краўчанка.

[67] **Анатоль Ярмоленка** (нар. 1947), сьпявак, народны артыст Рэспублікі Беларусь, мастацкі кіраўнік гурта "Сябры".

зь “Сябрамі”[68]. Усё праходзіла вельмі цудоўна! Калі Беларусь абвясьціла незалежнасьць, то ў гэта напачатку проста ня верылася! Пасьля гэтай падзеі беларусы нібыта ажылі, амэрыканцы нас віншавалі.

У гэты час я блізка пасябраваў з паэтам Леанідам Пранчаком[69]. Першы раз ён прыехаў да нас з “Жывіцай”, потым — з групай Анатоля Ярмоленкі. Трэці раз прыехаў на цэлы год. Ён кватараваў у паэта Янкі Золака, які жыў у Мілтоўне за 3 мілі ад нас. Пранчак часта прыяжджаў у Саўт-Рывэр, у наш клюб, дзе меў шмат сяброў. Яго зналі ўсе беларусы гораду. Падчас маіх паездак на Беларусь Л[еанід] Пранчак заўсёды наведваў мяне ў гатэлі, а таксама некалькі разоў запрашаў да сябе на абед. На жаль, апошнім часам я згубіў зь ім кантакт. Таксама ён выдаў кніжку, дзе былі сабраны гутаркі з амэрыканскімі беларусамі, у тым ліку і са мной[70]. Пранчак згадаў пра маё захапленьне касіно. Я казаў, што аднойчы выйграю мільён, запрашу ў Злучаныя Штаты ўсіх сяброў і арганізую для іх вялікі пікнік.

Гульнёй у касіно я сапраўды захапіўся ў сталым узросьце. З 1986 г. пачаў досыць часта наведваць Атлянтык-Сіты, дзе было аж 13 вялікіх касіно. З Саўт-Рывэру да яго крыху больш за 100 міль, або нейкія паўтары гадзіны язды. Дарога проста шыкарная, па тры лініі ў кожны бок і хуткасьць 65 міль на гадзіну, а я заўсёды езьдзіў з хуткасцю 75 міль, а часам і скарэй. На пачатку мне добра шанцавала. Мой найбольшы выйгрыш за адзін дзень быў 12 500 даляраў, а за год — 93 000, гэта было ў 1991 г. Два разы выйграваў па 10 000. Некалькі разоў прыпадалі выйгрышы па 7000 і 5000; разоў дзесяць — па 4000; шмат разоў па 2 і 3 тысячы. Не менш за сотню разоў выйграваў па тысячы даляраў. У касіно, калі выйграеш зараз 1199 даляраў або менш, падатак плаціць ня трэба, а калі больш — то табе даюць квіток, і ў канцы года, калі запаўняеш падатковыя блянкі (колькі зарабіў ці выйграў), трэба ўпісываць і гэтыя сумы і плаціць зь іх 22 % дзяржаве. Быў выпадак, калі я свой выйгрыш падаў як пройгрыш. Маглі б праверыць, але не чапалі. І так, паступова, я ўцягнуўся ў азартную гульню. Мяне лічылі *High roller* (буйным гульцом). Гэта значыла, што я мог бясплатна начаваць у гатэлі пры касіно, заказваць бясплатную ежу і напоі падчас гульні і шмат чаго яшчэ. Праблема была ў тым, што за выйгрышамі здараліся пройгрышы. Мой найбольшы пройгрыш за дзень быў 5000.

---

[68] Ансамбаль “Сябры” пад кіраўніцтвам Анатоля Ярмоленкі выступіў у залі Беларуска-Амэрыканскага грамадзкага цэнтру 10 кастрычніка 1993 г.

[69] **Леанід Пранчак** (нар. 1958), паэт, журналіст. Працаваў у сродках масавай інфармацыі, дзяржаўным канцэртным аркестры Беларусі. У 1994—1995 гг. уласны карэспандэнт газэты “Рэспубліка” ў ЗША.

[70] Маецца на ўвазе кніга “Беларуская Амерыка” (Мінск, 1994), дзе зьмешчана гутарка з Жоржам Наумчыкам “Падтрымліваць беларускае жыццё ў Амерыцы з кожным годам становіцца цяжэй...” (с. 34—40).

Гэтыя грошы я пазычыў на крэдытную картку і мусіў вярнуць цягам трыццаці дзён, у адваротным выпадку на іх кожны месяц налічвалася 26 %. Такім спосабам я ўлез у вялікія даўгі. Адным словам, спачатку я багата выйграваў, пазьней пачаў багата прайграваць. З часам быў вінаваты крэдытным банкам 146 000 даляраў. Трэба было хадзіць у спэцыяльныя суды і толькі ў 2007 г. я нарэшце вызваліўся ад усіх даўгоў. Цяпер я ўжо грошай ніколі не пазычаю, а ў касіно еджджу раз у месяц, а то і ў два. І больш азартна не гуляю. Прайграў сотню-дзьве — і марш дадому! Гэтай гісторыяй з касіно я не ганаруся, але пішу так, як было.

У 1993 г. я ўпершыню праз 49 гадоў разам з групай беларусаў наведаў Радзіму. Калі 27 чэрвеня самалёт заходзіў на пасадку ў Менскім аэрапорце, у мяне аж дрыжыкі па целу пайшлі і сьлёзы пацяклі ад радасьці. Ніяк ня мог паверыць, што я зноў у Беларусі, думаў, што гэта сон. У аэрапорце нас сустракалі з кветкамі, караваем, абдымкамі і пацалункамі. У гэтым годзе ў Менску ў Опэрным тэатры праходзіў Першы зьезд беларусаў сьвету, які трываў тры дні[71]. Я і многа іншых з маёй групы прымалі ўдзел у мерапрыемстве. У апошні дзень для ўдзельнікаў зьезду паказалі цудоўны канцэрт, у якім былі выступленьні танцавальных гурткоў, сьпевы. Напрыканцы хор выканаў беларускі нацыянальны гімн “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”. На нас гэта падзея зрабіла вялікае ўражаньне.

У тым самым годзе я наведаў Заастравечча. Спыніўся ў дваюраднага брата па лініі мамы Юзіка Карсюка, які зладзіў шыкарны абед. Пасьля абеду Юзік павёў мяне па вёсцы. Праўда, былыя мясьціны я пазнаваў зь цяжкасьцю. Заастравечча моцна зьмянілася. Колішні рыначны пляц увесь быў забудаваны хатамі. На месцы, дзе калісь расла велізарная сасна, быў разьбіты маленькі парк. Калі я запытаў у Юзіка, дзе тая сасна, ён сказаў, што летась яна засохла і яе зрэзалі. Застаўся толькі корч, які я сфатаграфаваў, каб па вяртаньні ў ЗША паказаць брату Стэфану. Калі я фатаграфаваў хату, у якой некалі жыла наша сям’я, адтуль выйшла жанчына і спытала, для чаго я раблю здымкі. Я адказаў, што жыў у гэтым доме ў саракавыя гады і запытаўся, ці можна ўвайсьці ўсярэдзіну. Яна дазволіла. Хата здалася мне вельмі малой у параўнаньні з тым, як я яе памятаў. Калі я падзяліўся гэтым назіраньнем зь Юзікам, той засьмяяўся і сказаў, што ў тыя гады я быў маленькі, дык мне ўсё навокал здавалася вялікім. Юзік паказаў мне брацкую магілу паліцыянтаў, пахаваных у 1944 г. Яна ўся зарасла кустамі і вялікімі дрэвамі. Ніякіх крыжоў ці помнікаў. Я сфатаграфаваў гэтае месца, перахрысьціўся і сказаў: *“Вечная памяць — нашыя беларускія героі!”*

---

[71] **Першы зьезд беларусаў сьвету** праходзіў у Менску 8—10 ліпеня 1993 г. На ім прысутнічалі 996 дэлегатаў зь Беларусі й замежжа, а таксама звыш 200 гасьцей.

Усяго я арганізаваў пяць паездак на Радзіму: у 1993, 1994, 1995, 1997 і 1999 гг. Арганізоўваліся паездкі такім спосабам: падаваў абвестку ў газэту "Беларус" і часопіс "Беларуская Думка" і прымаў заяўкі ад усіх зацікаўленых[72]. На кожную паездку зьбіралася група зь некалькіх дзясяткаў асоб, найбольш 35 чалавек, найменш — 27. Большасьць была з Саўт-Рывэру і блізкіх ваколіцаў. Былі людзі з Каліфорніі, Флярыды, Нью-Ёрку, Пэнсыльваніі, Ілінойсу, Агаё, некалькі асоб з Канады, нават далучаліся з Аўстраліі. Кожны раз мы езьдзілі на 14—17 дзён.

На Беларусі я дамаўляўся зь Яўгенам Лецкам[73]. Ён наймаў аўтобус, які забіраў нас з аэрапорту, і здымаў для кожнага пакоі ў гатэлі "Беларусь". Мы заўсёды першую ноч начавалі ў Менску, а назаўтра раніцай выяжджалі на некалькі дзён і начэй на вандроўкі па цэлай Беларусі. Паўсюль нашую групу цудоўна прымалі і часта сустракалі з караваямі. У адной палескай вёсцы ўсіх запрасілі на танцы-вечарыну на вялікім пляцы, і мы там добра пагулялі. У Віцебскім тэатры імя Якуба Коласа артысты для нас паставілі "Паўлінку", а пасьля спэктаклю запрасілі ўсіх у рэстаран, дзе пачаліся танцы. На сталах было шмат розных страваў і напіткаў. Гулялі аж да 11 гадзін ночы, позна выехалі ў Менск і прыехалі туды аж пад ранак. Дзякуючы Яўгену Лецку, які арганізоўваў экскурсіі, мы адведалі амаль усе большыя гарады і гістарычныя месцы, такія як Белавеская пушча, у тым ліку вядомыя Віскулі[74], Жыровіцкі манастыр, Полацк, Віцебск, Магілёў, Гомель, Рэчыцу, Тураў, Столін, Пінск, Брэст, Гродна, Нясьвіж. Усе былі радыя бачыць славутыя мясьціны і слухаць расповеды пра іх, шчыра дзякавалі сп. Яўгену за такую выдатную арганізацыю (на жаль, цяпер ён моцна хварэе, дапамажы Божа яму выздаравець). Пасьля агульнай паездкі кожны самастойна ехаў да сваіх родных ці знаёмых.

Я наведваў маю дваюрадную сястру па лініі мамы Алу Бурдзейку, якая жыла ў Снове[75]. Бацька перапісваўся зь імі, калі нашая сям'я

[72] Вось адна з такіх абвестак, надрукаваная ў "Беларускай Думцы" (№ 40. 1995): *"Беларуска-Амэрыканскі Грамадзкі Цэнтр плянуе летам гэтага года чарговую вандроўку ў Беларусь з 2 па 17 ліпеня. Вы можаце наведаць родныя мясьціны, зрабіць экскурсію ў Белавежскую пушчу, на Палесьсе, у Горадню. Дадатковую інфармацыю можна атрымаць у Прэзыдэнта Цэнтра Жоржа Навумчыка. Тэл. (908) 257—8431 (пасьля 6:30)"*.

[73] **Яўген Лецка** (нар. 1944), пісьменьнік, літаратуразнаўца. У 1989—1990 гг. старшыня аргкамітэту, у 1990—1993 гг. старшыня Рады Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына".

[74] **Віскулі** — паляўнічая ўрадавая дача ў беларускай частцы Белавескай пушчы, дзе 8 сьнежня 1991 г. былі падпісаныя пагадненьні аб спыненьні існаваньня СССР і ўтварэньні СНД.

[75] **Сноў** — вёска ў Нясьвіскім раёне Менскай вобласьці, 122 км на паўднёвы захад ад Менску.

перабралася ў ЗША (зь Нямеччыны лістоў на Беларусь мы ня слалі). Каб ім не зашкодзіць, бацька пісаў прозьвішча адпраўніка "Ліна Крыпава" і ўказваў наш адрас. Ала працавала настаўніцай ангельскай мовы ў мясцовай школе і добра на ёй размаўляла. Яе дочкі — Ірына гадоў 16 і Наталля гадоў 14 — таксама ведалі ангельскую. Ала і яе муж Слаўка на сваім самаходзе вазілі мяне ў Заастравечча, а потым — у Логнавічы. Там паказалі месца, дзе стаяла хата, у якой я нарадзіўся і якой ужо не было. А таксама месца, дзе некалі была царква.

Кожны раз мы стараліся ня толькі аглядаць Беларусь, але і дапамагаць людзям. Разам зь Міхасём Сенькам і Соняй Арцюшэнкай развозілі па бальніцах лекі для хворых дзяцей, якія бясплатна атрымлівалі ад вялікіх амэрыканскіх фармацэўтычных фірмаў. Пасьля 1999 г. паездак на Бацькаўшчыну я не рабіў. З таго часу большая палова тых асоб, якія разам са мною наведвалі Беларусь, адышлі ў вечнасьць, многія пастарэлі, таксама і я. Але хто знае, калі будзе здароўе, мажліва, наведаю яшчэ хоць раз Радзіму.

У новым стагодзьдзі актыўнасьць амэрыканскіх беларусаў зьнізілася. Колькасьць падпісчыкаў "Беларускай Думкі" зьмяншаецца. У 1972 г. кожны нумар выдаваўся накладам дзесь 500 асобнікаў, у 1980-я гг. — 300, пазьней — 200. У 2010-я — стала каля 150. Цяпер я друкую 100 экзэмпляраў. Усе разыходзяцца, акрамя 5—7, якія пакідаю ў сябе і ў архіве пры царкве. Штогод памірае 5 ці 6 нашых чытачоў, так што ў наступным годзе, мабыць, давядзецца друкаваць 90—95 асобнікаў. У 2008 г. апрача ЗША рассылаў часопіс у Англію і Канаду — па 6 асобнікаў, у Беларусь — 15, у Аўстралію — 3. Таксама дасылаў у Расею, Украіну, Латвію, Польшчу, Чэхію. Цяпер рассылаю 10 асобнікаў на Беларусь, 5 — у Польшчу, па 3 — у Англію і Канаду, астатнія — у розныя штаты Амэрыкі.

Калі ў 1972 г. мы купілі друкарню, тады сапраўды была рэдкалегія і выдавецкі камітэт. Пазьней камітэт застаўся толькі на паперы, а часопісам займаліся два чалавекі: Міхась Кавыль[76], рэдактар, і я, друкар. З пачатку 2000-х Кавыль з-за ўзросту адышоў ад выдавецтва. Апошнія гадоў дзесяць я сам зьбіраю, рэдагую і друкую ўсе матэрыялы. Буду займацца гэтым, пакуль будзе каму чытаць і, сама важна, пакуль буду мець здароўе.

У Грамадзкім цэнтры актыўных сяброў засталося чалавек 20, неактыўных, можа, яшчэ столькі. Многія былыя сябры памерлі або пастарэлі, некаторыя выехалі ў іншыя рэгіёны. Але дзейнасьць пра-

[76] **Міхась Кавыль** (сапр. **Язэп Лешчанка**, 1915—2017), паэт, грамадзкі дзеяч. У 1930-я гг. вучыўся ў Беларускім пэдагагічным тэхнікуме, быў сябрам "Маладняка". У 1933—1935 гг. знаходзіўся ў зьняволеньні на Далёкім Усходзе. Падчас акупацыі працаваў у Менску ў аддзеле прапаганды. З 1944 г. на эміграцыі ў Нямеччыне, потым у Бэльгіі. У 1950 г. выехаў у ЗША, жыў у Саўт-Рывэры. Выдаў некалькі зборнікаў паэзіі. З 1983 г. быў рэдактарам часопісу "Беларуская Думка".

цягваецца. Па-ранейшаму адзначаем 25 Сакавіка. Гэтая традыцыя існуе ў Саўт-Рывэры з 1956 г. У гэты дзень мэр гораду перад будынкам гарадзкой управы зачытвае праклямацыю аб сьвяткаваньні Беларускага дня, і на мачце пад амэрыканскім сьцягам на тры дні вывешваецца бел-чырвона-белы сьцяг. У 2008 г. упершыню за шмат гадоў вялікага сьвяткаваньня не было. Прычыны розныя. Шмат старэйшых ужо адышлі ў лепшы сьвет, а малодшае пакаленьне мала цікавіцца беларускай мінуўшчынай. А па-другое, 30 сакавіка недалёка ад Саўт-Рывэру арганізацыяй БАЗА[77] ў шыкарным гатэлі *Hyatt* было прызначана сьвяткаваньне 90-х угодкаў БНР. Было вырашана, што жадаючыя з Саўт-Рывэру могуць адсьвяткаваць там супольна з арганізатарамі. Так і было. У нас усё прайшло скромна. 23 сакавіка сябры цэнтру разам з новаабраным мэрам Саўт-Рывэру і трыма "кансылманамі" перад управай урачыста паднялі бел-чырвона-белы сьцяг. Наш сьвятар прамовіў кароткую малітву за беларускі народ, а мэр зачытаў праклямацыю аб абвяшчэньні 25 сакавіка Беларускім днём у Саўт-Рывэры. Пасьля мы ўсе разам сабраліся ў Грамадзкім цэнтры, дзе была прыгатаваная кава, ежа і паднялі тост за Беларусь. 24 сакавіка пасьля Божай службы ў царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай адбыўся малебен за Беларусь.

Тым ня менш цэнтар дзейнічае. Пачынаючы з 2000 г. адбываецца Беларускі фэстываль, на які зьбіраецца шмат народу. Тут гучаць беларускія народныя і сучасныя песьні, маладыя хлопцы і дзяўчаты выконваюць беларускія танцы, такія як "Лявоніха", "Юрачка" ды іншыя. Прадаюцца сувэніры, разыгрываюцца лятэрэі, на кухні гатуюць традыцыйныя беларускія стравы, а на двары смажацца амэрыканскія гот-докі, гамбургеры, а таксама — беларускае сала. У 2013 г. замест фэстывалю быў арганізаваны касіно-вечар. Паставілі сталы для гульні ў покер, блэк-джэк, рулетку. Вечар прайшоў удала і даў добры прыбытак. Я быў адным з арганізатараў і ігракоў у покер[78].

Адным словам, хоць ужо шмат старэйшых беларусаў адышлі ў лепшы сьвет, Грамадзкі цэнтар трымаецца добра і будзе далей існаваць, калі новае пакаленьне будзе надалей трымацца беларускіх традыцый. На гэта ёсьць добрая надзея, бо некалькі маладых амэрыканцаў-беларусаў прымаюць удзел у кіраўніцтве цэнтрам. Жадаем ім вялікіх посьпехаў!

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары Андрэя Блінца*

---

[77] **Беларуска-Амэрыканскае задзіночаньне (БАЗА)** — першая масавая грамадзка-палітычная арганізацыя беларусаў у ЗША. Заснаваная ў 1949 г. і зарэгістраваная ў 1950 г. у Олбані (штат Нью-Ёрк). Аб'ядноўвала прыхільнікаў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

[78] Інфармацыя пра мерапрыемства зьмешчаная ў "Беларускай Думцы" (№ 70. Жнівень 2013. С. 35).

**Вера Пруская**
*Гранд-Рапідс*

# УСПАМІНЫ

*22 студзеня 2014 г. у Дэтройце памёр дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША, выдавец, сын стрыечнай сястры Якуба Коласа Мікола Прускі. Ён нарадзіўся ў в. Мікалаеўшчына (сёньня Стаўпецкі раён Менскай вобл.) 1 студзеня 1928 г. Пасьля Другой сусьветнай вайны прыехаў у ЗША й пасяліўся ў Дэтройце. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва Дэтройцкага аддзелу арганізацыі. У 1960—1970-я гг. быў актывістам Беларуска-Амэрыканскага рэспубліканскага клюбу ў Дэтройце. Выдаў дзясяткі беларускіх кніг, у тым ліку выданьняў БІНіМу, а таксама "Эвангельле" ў перакладзе Міхася Міцкевіча. Рэдагаваў і выдаваў пэрыёдыкі "Беларускі сьвет" (1971—1989), "Беларускі дайджэст" (ад 1993), пісаў вершы пад псэўданімамі Сэр, Сэр Прускі і інш. Шмат займаўся арганізацыяй дапамогі пацярпелым ад Чарнобыльскай аварыі ў Беларусі.*

*Пасьля сьмерці мужа на просьбу дырэктара БІНіМу Вітаўта Кіпеля Вера Пруская напісала невялікія ўспаміны, якія й прапануюцца ўвазе чытачоў.*

Пісаць пра прошлае — гэта вельмі цяжка. Калі ўспамінаю, то сама ня ведаю, чаму й навошта так сталася.

Жыцьцё ў Польшчы было вельмі добрым, але бурлівым для мяне. Заўсёды шукала нешта новага, пры гэтым мела многа рызыкі. Калі я пазнала Міколу [Пpускага], мне было 26 гадоў. Маладая, адукаваная, прыгажуня, на добрай рабоце, поўна радасьці жыцьця, многа прыяцеляў і ўхажораў — падняла рашэньне выехаць на чужыну. Нягледзячы на тое, што трэба было пакінуць даражэнькіх бацькоў, родных і друзей, рашэньне канчатковае: еду.

Мы расьпісаліся ў Польшчы, і я як жонка пачала складаць дакумэнты на выезд, а Мікола таксама з сваёй стараны. Гэта было вельмі складана. Польскія ўлады ставілі нам вялікія перашкоды цягам двух гадоў. Але дзякуючы помачы добрых людзей удалося мне атрымаць пашпарт, а неўзабаве й візу.

Прыйшоў дзень выезду, а з гэтым і разлука з бацькамі, найбольш балючая, якую памятаю да сёньня. Мая маці пацяшала сябе, кажучы: *"Так ён жэш беларус, то ўсё будзе добра"*. Так і сталася, бо ў чужой

краіне ў сваіх людзей — як у сваім доме. Гэта для мяне быў доўгі "сон", каторы спыніўся на пасадцы ў Дэтройце. Міколавы сябры, сям'я спаткалі мяне ў аэрапорце. Пачуцьцё было вельмі добрае й цёплае "*welcome*".

Зь першага дня пачалася падрыхтоўка да вясельля, бо ўсе прыяцелі Міколы хацелі пабыць на ім. Публіка ветлівая: для мяне гэта было так, як у родным краі. У часе нашага вясельля ў Амэрыцы мае бацькі на Беласточчыне таксама адбывалі нашае вясельле.

Пасьля пачалося нармальнае жыцьцё. Мікола працаваў. Маім першым намерам было вывучаць мову. Першым і астатнім, бо зацяжарыла й паездкі аўтобусам для мяне скончыліся. За пару месяцаў перавялі Міколу на працу ў Гранд Рапідс. Мы купілі дом па нашай магчымасьці, і тут ў сьнежні нарадзілася дачушка Анна-Юлія. Я бачыла, як цяжка было для Міколы прывыкаць быць бацькам у 45 гадоў. І для мяне было ўсё новае. Мы мусілі вучыцца гэтаму разам.

Дачушка расла, а я пачала вывучаць характар Міколы. Пасьля двухгадовага супольнага жыцьця пачаліся праблемы, зьвязаныя зь цяжкасцю прыманьня рашэньняў. Мікола быў добрага характару чалавек, спакойны, але ён меў цяжкасьці з прыняцьцем рашэньняў. Як я потым дазналася ад Ганны Пляскач, гэта яна нагаварыла яго жаніцца, кажучы, што ўжо час прыйшоў, каб ён меў сваю сям'ю. І ягоная паездка да мяне была рашэннем вельмі цяжкім, бо баяўся, што я магу сказаць "не", хоць і меў іншых дзяўчат.

Каб любіць Міколу й быць разам, я пераняла ўсе праблемы й рашэньні на сябе. Было мне гэта ня вельмі, але выйсьця іншага ня мела. Рабіла ўсё як мага скарэй і адчула ягоную вялікую свабоду духу. І сама пачувалася свабоднай птушкай у Міколавым жыцьці на працягу 41 году.

Калі Ані было 1,5 годзіка, дасталі тэлеграму, што мой бацька вельмі хворы. Узяла Аню й паляцела на радзіму. Мой знаёмы доктар хірург дазволіў узяць бацьку дахаты на два тыдні. Правялі мы вельмі добра час усе, а найбольш бацька цешыўся маленькай унучкай. У гэты самы час я была цяжарная другім дзіцём, і гэтую навіну бацька прыняў са сьлязамі радасьці.

Калі прыйшлося выяжджаць зноў у Амэрыку, мой доктар сказаў, што бацька выйдзе хутка з шпіталю, яго здароўе вельмі палепшылася. Ён быў адзін пацыент на тысячу з той хваробай, што выздаравеў. Бацька верыў глыбока ў жыцьцё й ня падаў духам. Памёр 23 гады пазьней, у 86 гадоў (папросту заснуў).

Праз шэсьць месяцаў па вяртаньні ў Амэрыку нарадзілася другая дачушка Сафія-Гэлена (*Sophia-Helena*). Аня любіла маленькую "лялю". У хаце было ўсяго — найбольш мне — работы й клопату. У 1976 г. мая маці прыехала адведаць нас, а таксама памагчы мне трохі каля дзяцей. Час ляцеў вельмі хутка. Па васьмі месяцах маці мусіла варочацца дахаты.

Расстаньне з маці было вельмі балючае. Мікола мяне супакойваў словамі, якія я памятаю да сёньня. Ён гаварыў: *"Маці яшчэ прыедзе, а ты таксама можаш іх адведваць, калі хочаш"*. А маці, калі пабыла ў нас, то як бы "закончыла інстытут". Яна пабачыла й дазналася многа, што іншыя ў жыцьці ня мелі аказіі ўзнаць.

Дзеці раслі, Мікола пачаў думаць, каб прадаўжаць свой часопіс "Беларускі сьвет"[1]. Ён выдаваў яго яшчэ перад маім прыездам у Дэтройт у форме кніжачкі. На рабоце Мікола дастаў стары лінатып і друкарскую машынку. Каб гэта прывезьці дахаты, трэба было знайсьці месца. Мы разьдзялілі гараж напалову, ацяплілі й пачалі ўсё афармляць. У кароткім часе паявілася новая ідэя, каб пабольшыць хату — дабудаваць пакой з падвалам і паставіць машыны. Міколавы мроі споўніліся, паставілі друкарскія прылады, і зь вялікім энтузіязмам муж пачаў рыхтаваць матэрыялы.

З часам у Міколы на рабоце пайшлі вялікія зьмены. Новыя людзі кідалі яго зь месца на месца, зьменшылі зарплату й г. д. Трэба было й мне штось думаць, каб дамагчы ў гэтай справе, бо бачыла яго вельмі прыбітым і сумным. Мусіў прыняць рашэньне пакінуць працу ў 62 гады[2]. З гэтага моманту пачаў думаць, якім спосабам навязаць большыя кантакты з Бацькаўшчынай. Калі Беларусь стала незалежнай, многа беларусаў пачало прыяжджаць — зьявіліся новыя кантакты й супольныя ідэі. Мікола навязаў больш блізкую сувязь з *"International Aid"*[3]. Яе кіраўнікі, вельмі добрыя людзі, стараліся лепш зразумець, у якой сытуацыі знаходзяцца Беларусь і Ўсходняя Эўропа. Міколу паставілі прадстаўніком арганізацыі на Ўсходнюю Эўропу.

У 1990 г. з групай дактароў Мікола меў магчымасьць першы раз пасьля 50 гадоў адведаць Радзіму. Уражаньне было вялікае, цяжка яму было ўсё гэта ўсьвядоміць. Спатканьне зь ягоным добрым прыяцелем, месца, дзе была хатка й памятнае дрэва, каторых не было, — гэтае месца было для яго сьвятое, бо тут рабіў першыя крокі. Успаміны дзяцінства, людзі й расстаньні, і самы прыгожы, спакойны, славуты "бацька Нёман", які апісвае Якуб Колас. Калі выбухнула гэтая катастрофа 1986 г. у Чарнобылі, Мікола вельмі хутка ўзяўся за шуканьне грошай на закупку гуманітарнай дапамогі. Беларусы, дзякаваць Богу, у Амэрыцы адгукнуліся вельмі хутка. Мікола адкрыў рахунак у *"International Aid"* на сваё прозьвішча, і ён паціху пачаў працаваць. Ішлі вялікія кантэйнэры.

[1] **"Беларускі Сьвет"** — грамадзка-культурны часопіс, што выходзіў у 1963—1991 гг. у Дэтройце, пазьней у Гранд-Рапідсе намаганьнямі рэдактара й выдаўца Міколы Прускага.

[2] Гэта адбылося ў 1990 г.

[3] ***International Aid*** — міжнародная арганізацыя, заснаваная ў 1980 г. для аказаньня разнастайнай гуманітарнай дапамогі ў розных рэгіёнах сьвету.

Некалькі зь іх прапалі ў Рызе. Наражацца на такія кошты мы не маглі пазволіць. Наступным разам я зь Міколам у 1994 г. паляцелі ў Менск, каб падзяліць груз, які ўжо прыйшоў. Ніколі не забуду тых вялікіх грузавікоў, адзін быў зь Менску, а другі з Брэсту. Дзяліліся й сварыліся, адзін аднаму не давяраў, але разьдзел прайшоў чэсна й спраўна.

У Менску мы сустрэлі гасьцінных людзей. Мікола зь першага дня быў вельмі заняты сустрэчамі зь людзьмі, якія стаялі ў чарзе, каб даznацца аб родных у Амэрыцы й падзякаваць за падарункі, якія былі ім перададзеныя. Пазьней былі сустрэчы зь вельмі слаўнымі людзьмі, такімі як Васіль Быкаў, Міцкевіч, міністар аховы здароўя, а дзень пазьней — з рэктарам мэдыцынскага інстытуту.

Калі мы адведалі самы вялікі шпіталь у Менску, убачылі, у якіх абставінах знаходзіліся хворыя, дый мэдычныя прылады былі ў аплаканым стане. А дырэктар брэсцкага шпіталю ня вельмі хацеў нам паказаць, але неяк нам удалося ўбачыць, ягоны прыватны дом, які быў вельмі багаты. На абед ён нас запрасіў, але адклікаў, бо не хацеў нам паказаць свайго багацьця. Ці гэта нармальна? Мы прывезьлі гуманітарную дапамогу людзям у іх вялікай патрэбе, а ён сам багаты чалавек і ня ведае, што з грашыма рабіць!

У Брэсьце й Менску карэткі першай дапамогі былі як "пусты чамадан". Калі мы вярнуліся дадому, Мікола спрабаваў недзе дастаць ужываны амбулянс — гэта адзінае яго жаданьне, што за жыцьця ня споўнілася. Па дарозе адведалі маіх бацькоў у Польшчы, а таксама даставілі мэдыкамэнты ў дзіцячы шпіталь у Гайнаўку. Мелі спатканьне з дырэктарам Гайнаўскага беларускага музэю сп. Майсеняй[4] у справе помачы гэтай установе. Кожны беларус павінен пабачыць экспанаты музэю й прыгаство архітэктуры. Белавеская пушча, якую мы адведалі па дарозе, дала нам многа ўспамінаў і цяпла душы. Прырода стварыла гэтае харaство, якое трэба бачыць і адчуць асабіста. Мікола, калі пабываў у пушчы, быў вельмі ўзрушаны гэтай прыроднай прыгажосьцю. Прырода й на чужыне давала яму магчымасьць выказаць свае думкі ў паэзіі (ён пісаў вершы да 1953 г.). Мікола, як і ўсе Міцкевічы, быў вельмі задуменным, маўклівым, часамі вельмі рамантычным, а найбольш "*скромным у сваіх пачуцьцях*".

У Беларусі прайшлі мы шляхам Якуба Коласа ўсе гістарычныя месцы ягонага жыцьця. Пазнаёміліся зь ягонай старэнькай сястрой, якая нам дэклямавала пару ягоных вершаў.

Пра Беларусь я мала ведала, бо расла ў Польшчы. Палякі казалі, што мы праваслаўныя ("кацапы") палякі. Але я з гэтым ніколі не згаджалася, кажучы, што мы беларусы польскага падданства. Калі

---

[4] **Канстанцін Майсеня** (1923—2006) — заснавальнік Беларускага музэю ў Гайнаўцы.

я прыехала ў Амэрыку, пачала больш-менш вывучаць беларускую мову, адначасова з ангельскай. Я ганаруся тым, што я беларуска. Калі Мікола пачаў друкаваць газэту[5], я магла памалу рабіць карэкту. Мне жыцьцё ў Амэрыцы падалося вельмі цікавым, бо можна было ўсяго асягнуць, калі не лянівы. Мая прафесія "эканаміста" вельмі дапамагала тут, бо трэба было зь нічога зрабіць нешта. Час ляцеў вельмі хутка. Мікола перайшоў на кампутарную праграму — трэба прызнаць, стала нашмат лягчэй. У выданьні часопісу часта ўся сям'я брала ўдзел. З гэтым была зьвязана крытыка, якая дапамагала рабіць пэрыёдык лепшай якасьці.

Мы рэгулярна адведвалі Беласточчыну. Бацькі былі вельмі радыя, што маглі пабавіцца з унучкамі з далёкай Амэрыкі. Самая любімая майго бацькі ўнучка была малодшая Соня. Яна таксама яго любіла й бавіла час зь дзядулем якнайбольш паўсюль. Мікола вельмі любіў, як дзяўчаткі адведвалі маіх бацькоў, ён ганарыўся гэтым і хацеў, каб яны захавалі гэтыя спатканьні назаўсёды. У 1989 г. мая сястра Люба адведала нас. Было вельмі прыемна, і яна чулася, як у сваёй сям'і.

Пачалі адведваць нас беларусы зь Беларусі, Польшчы, а вельмі часта з Дэтройту, Чыкага, Кліўлэнду. Гэтыя спатканьні былі для Міколы, як "ранішняе сонца". Туга па Бацькаўшчыне была вельмі вялікая, гаварыў ён вельмі мала пра гэта, але я, як усе жанчыны, адчувала й бачыла.

Час ляцеў, дзеткі раслі, а з гэтым і іхныя жаданьні, як і Міколавыя. У міжчасе прыходзілі новыя заказы зь Беларусі. Прыкладам, дзеці з школы ў Стоўбцах прасілі "дзядзьку Міколу" пра шчотачкі й пасту для зубоў, пра крэдкі, алоўкі, пісакі, а найбольш цікава ім было папрабаваць цукеркі "*M&Ms*" і "сьнікерс", каторыя бачылі яны па *TV*. Некаторыя знаёмыя бізнэсмэны зналі, што Мікола мае дзяцей ў Беларусі пад апекаю, і называлі яго "*Nick children*". Яны вельмі хутка дапамаглі выканаць вялікую колькасьць заказаў, а я ўжо скончыла пакупку "сьнікерсаў". Успамінаю, як стаяла ў чарзе да касы, каб плаціць, а некаторыя людзі, бачачы тую колькасьць "сьнікерсаў", пыталіся, мо я іх замарожу на другі год на *Haloween* буду карыстаць. Са сьмехам я ім адказвала, што высылаю тыя цукеркі дзецям, якія іх ніколі не каштавалі, а толькі бачылі па *TV*. Двое людзей хуценька кінуліся памагчы мне аплаціць у касе, але я ім падзякавала й дала інфармацыю пра "*International Aid*" і гэтыя "*donation*"[6] для дзяцей. Мы патрабавалі, каб падзел нашых падарункаў быў роўны й без аплаты. Прыходзілі часам асобныя заказы на адзежу для дзяцей і інш.

У 1998 г. Міколу запрасілі ў Славенію на спатканьне зь дзецьмі, якія былі абраныя паводле іх здароўя на адпачынак у лягер. Муж браў удзел

---

[5] Маецца на ўвазе **"Беларускі Дайджэст"** — газэта, "*часапіс беларускага замежжа ў Амэрыцы*", які выдаваўся Міколам Прускім ад 1993 г.

[6] ***Donation*** (анг.) — ахвяраваньні.

у дыскусіі зь міністрам здароўя аб будучай дапамозе. Падарожжа было вельмі прыемным і цікавым. Калі Мікола вяртаўся дадому, міністар здароўя быў вельмі ўдзячны за адведзіны й адправіў Міколу на лятак ды пасадзіў яго з падарункамі ў першую клясу. Мікола быў вельмі ўзрушаны, калі расказваў нам пра іхняе глыбокае душэўнае "дзякуй". Гэтае падарожжа дало болей ідэяў, як далей памагаць людзям у вельмі *"цярплівай і хворай бацькаўшчыне"*.

Даражэнькія, не падумайце, што мы забыліся пра сямейнае жыцьцё. Маючы дзяцей, трэба было думаць, як памагчы ім уладкавацца. Малодшая Соня закончыла ўнівэрсытэт *WMU*[7]. Выйшла замуж, абое працуюць і гадуюць прыгожую дачушку Аляксандру. Старэйшая Анна закончыла каледж і працуе ў госьпіталі як мэдсястра. Мае сыночка Міколку, якога я дапамагаю гадаваць.

Калі ўжо здавалася, што ўсё ўладзілася ў жыцьці, у Міколы пачаліся хваробы — больш работы для мяне й больш нараканьняў на здароўе. Неўзабаве зламаў руку. З гэтага ён памалу здаравеў, але ў другой хваробе дактары адмовіліся дапамагаць, кажучы, што ня маюць для яго лекаў. Я пачала з дачкой шукаць іншыя сродкі дапамогі. Доўгі час набывалі найлепшыя мінэралы й й аміны (арганічныя, вельмі дарагія). Зь вялікай цяжкасьцю Мікола прымаў іх, я настойвала, хоць і чула ад яго й дзяцей, што гэта ягонае жаданьне ня браць лекі. Дзякуючы гэтым вітамінам Мікола працягнуў сваё жыцьцё на блізу 10 гадоў. Пазьней стаў нэрвовы, не любіў гукаў-стукаў-крыкаў. Калі мог яшчэ езьдзіць машынай, то было ОК. Толькі мы пабойваліся, каб не зрабіў якой аварыі аўтамабільнай. Пазьней ногі пачалі адмаўляць, і інваліднае крэсла стала ягонай найбольшай дапамогай.

Мы як сям'я жылі вельмі дружна. Мікола любіў дзяцей і ўнукаў. Стараліся яны разумець абставіны, у якіх ён і я знаходзіліся. Дапамагалі як маглі і аддавалі яму многа ўвагі.

Вельмі цяжка ўспамінаць астатнія дні ягонага жыцьця. Хвароба гэтая страшная змагла адабраць у яго ўсё, чым ён карыстаўся як чалавек — розумам і целам. Часта ў сьне выгаворваў словы "Стоўбцы" й й "мама". Памёр на 87-м годзе ў сьне, успамінаючы свой родны край. Пахаваньне адбылося паводле нашага рашэньня на вельмі прэстыжных могілках недалёка ад нашай хаты, дзе пражыў 41 год. Вечная яму памяць.

*Падрыхтоўка да друку*
*й камэнтары Натальлі Гардзіенкі*

---

[7] ***Western Michigan University — WMU*** (анг.) — Заходне-Мічыганскі ўнівэрсытэт.

*Тэма нумару: Амэрыканская гісторыя*
*Успаміны*

***Вітаўт Кіпель***
*Haworth*

# ЭПІЛЁГ ЗГУРТАВАНЬНЮ БЕЛАРУСКІХ СКАЎТАЎ НА ЧУЖЫНЕ (ЗБСЧ) ДЫ НОВЫЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ МАЛАДЫХ БЕЛАРУСКІХ ЭМІГРАНТАЎ

Удзячны рэдактарам “Запісаў БІНіМ”, што парадкуюць эміграцкую спадчыну (перадрук і падборка раней друкаваных матэрыялаў) ды імкнуцца ўлучыць усю дзейнасьць эміграцыі ў спадчыну-творчасьць беларускай нацыі.

Як зусім правідлова відаць з апублікаваных у мінулым нумары матэрыялаў Алеся Вініцкага, беларускі скаўцкі рух у Заходняй Нямеччыне па Другой сусьветнай вайне спыніўся ў пачатку 1950-х гг. Галоўны кіраўнік ЗБСЧ сп. Юры Сянькоўскі перабраўся ў Бэльгію на навуку (у Лювэнскім унівэрсытэце), а ягоныя скаўцкія матэрыялы засталіся ў Ватэнштэце. Пазьней яны былі перавезеныя ў ЗША на перахаваньне ў падвале царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры, а ў 2016 г. спадарствам Запруднікаў перададзеныя ў Менск у БДАМЛМ. Архівы ЗБСЧ/ЗКСЧ сп. Вацлава Пануцэвіча былі часткова перададзеныя ў Бібліятэку імя Ф. Скарыны ў Лёндане, а часткова перавезеныя ў Чыкага (ЗША). Па сьмерці сп. Пануцэвіча, на просьбу сям’і, архівы былі перададзеныя (упакаваныя й крыху ўпарадкаваныя) Вітаўтам і Зорай Кіпелямі й Нікадымам Жызьнеўскім у амэрыканскія архівы Ўнівэрсытэту штату Мінэсота. Мушу тут, аднак, зазначыць, што ў тую паваенную эпоху беларускія скаўты дзейнічалі і ў Ангельшчыне, выдавалі часопіс “Да мэты” (1948—1949), былі паасобныя скаўты ў Францыі, Аўстрыі — будучыя дасьледчыкі гэта мусяць мець на ўвазе.

Таксама трэба зазначыць, што хоць і ў нязначным удзеле (маленькая адзінка) у Заходняй Нямеччыне дзеілі марскія, ці мо лепей сказаць “водныя”, скаўты — была дружына такіх скаўтаў у ангельскай акупацыйнай зоне ды ў 1947 г. на вялікім возеры ў прадальпавым горным ланцугу каля г. Мурнаў (паміж Мюнхэнам і Гармішам у Баварыі) выступаладзеіла дружына беларускіх скаўтаў на зьлёце марскіх беларускіх скаўтаў. Беларускі скаўцкі рух у Нямеччыне спыніўся з прычыны эміграцыі ўцекачоў хвалі Ды-Пі ў заакіянскія краіны: у Аўстралію, Паўдзённую

й Паўночную Амэрыкі. У беларускім эміграцыйным друку былі весткі, што ў Аўстраліі, Новай Зэляндыі й ЗША былі заснаваныя беларускія скаўцкія адзінкі, але бальшыня былых беларускіх скаўтаў далі пачаткі адмысловым арганізацыям моладзі: у ЗША — ЗБМА, СБАМ, Згуртаваньне моладзі штату Ілінойс і іншыя меншыя. Шмат былая скаўцкая моладзь улучылася ў студэнцкія ды грамадзкія беларускія арганізацыі, ды часта тыя былыя бойскаўты выбіваліся на кіраўнічыя становішчы. Праўда, у ЗША пры беларускай парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага у Брукліне ў 1950-я гг., а пры парафіі Сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры ў 1970-я гг. дзеілі амэрыканскія скаўцкія адзінкі ды была дзейная беларуская скаўцка-маладзёвая дружына ў Чыкага. Неабходна падкрэсьліць, што амэрыканскі скаўтынг (арганізацыя *Boy Scouts of America*) выдатна надаецца для спалучэньня з этнічнымі цэнтрамі: цэрквамі, дамамі. Этнічныя цэрквы, дамы могуць быць спонсарамі амэрыканскіх скаўцкіх групаў. З другога боку, у амэрыканскім скаўтынгу скаўт-майстар можа рабіць ладна прапаганды й сваёй нацыянальнасьці праз адукацыйную праграму. Аўтар гэтае зацемкі дзеіў у амэрыканскім скаўтынгу на шмат якіх становішчах і з дасьведчаньня ведае, які дадатны ўплыў на скаўта мае веданьне этнічнасьці, ці нацыянальнай спадчыны. На сёньняшні дзень у амэрыканскім скаўтынгу ёсьць сябрамі сотні беларускіх дзяцей, па-над тузін скаўцкіх кіраўнікоў ды асабліва кіраўнічак (амэрыканскі тэрмін *Cub Scouts den Mother*).

Для гісторыі беларускага скаўтынгу на чужыне варта занатаваць таксама й такія факты: некалькі беларусаў-скаўт-майстраў скончылі самыя высокія тэарэтычна-практычныя курсы кіраўнікоў (*Wood Badge, Girlwell*), ды калі пачаў адраджацца беларускі нацыянальны скаўтынг на Бацькаўшчыне, былыя беларускія скаўты прыйшлі на дапамогу. Упэўнены, што гэтак будзе і ў будучыні...

*Тэма нумару: Амэрыканская гісторыя*
*Успаміны*

**Вітаўт Кіпель**
*Haworth*

# КАНТАКТЫ З ВАСІЛЁМ БЫКАВЫМ

Калі аднаўляць вобразна кантакты-супрацоўніцтва БІНіМу зь “вялікімі-малымі” сябрамі, аўтарамі-дасьледчыкамі й г. д., відавочна гіганцкім помнікам прыпамінаецца Васіль Быкаў. Апрача таго, што ён друкаваўся ў БІНіМаўскіх выданьнях, Зора Кіпель паспрыяла, каб выдаліся англамоўныя пераклады ягоных твораў, а Зіна Гімпелевіч (і наш сябра, і доўгагадовая старшыня Канадыйскага БІНіМу) выдала некалькі аўтарытэтных дасьледаваньняў-манаграфіяў пра пісьменьніка, ёсьць пару мамэнтаў у “нашай тэчцы”, якія для будучай “быкавіяны” трэба зафіксаваць. Гэта хоць і малыя дэталькі, але яскравыя!

Вядома, у друк увайшоў факт, што “Мёртвым не баліць” Васіля Быкава як кніга ўпершыню выйшла на эміграцыі ў ЗША ў 1965 г. Паўторымся: гэта факт. А цяпер колькі дэталяў да падзеі. Недзе ўлетку 1963 г. сп. Мікола Прускі сказаў мне, што “гараць рукі” выдаць кніжкай “Мёртвым не баліць” (друкаваўся твор, як сэрыял) — ці ня дасьць БІНіМ на друк “пару капеяк” і мо дапаможа з карэктай, ломкай. Відавочна, я адказаў адразу, што дапаможам, пры гэтым заручыўшыся падтрымкай для карэкты Марыі Кіпель. У той пэрыяд, у гады 1960-я, зь фінансамі ў БІНіМе было слабавата. Сп-р Мікола Гарошка, энэргічны грамадзкі дзеяч, скарбнік БІНіМу, у сапраўднасьці інстытуту аддаваў мала ўвагі: складкі не зьбіраліся, пра ахвяры для дзейнасьці арганізацыі амаль ня думалася. Таму д-р Тумаш плянаваў на бліжэйшым сходзе БІНіМу даручыць скарбніцтва мне. Хоць я на гэткія пляны й “ня бег”, але дзеля павагі да д-ра Тумаша й думаючы арганізацыю актывізаваць, асабліва друк, пагадзіўся на будучую дзейнасьць, згадзіўся на скарбніцтва й пачаў патроху складкі зьбіраць. Калі паўстала справа, каб даць на друк “Мёртвым не баліць” суму, я доўга абдумоўваў, як сытуацыю прадставіць д-ру Тумашу. І пайшоў на такое: паколькі “Запісы” на той час друкаваліся ў Мюнхэне, можна было (паводле кантракту) нейкі час цягнуць з часткай амэрыканскай аплаты друку. Я выкалькуляваў, што БІНіМ зможа даць на друк “Мёртвым не баліць” 500 даляраў. Доктар Тумаш з маімі разрахункамі пагадзіўся: грошы былі дадзеныя, кніжка — надрукаваная. Праўда, у згодзе з друкаром Міколам Прускім мы вырашылі ня ставіць на кнізе ні выдаўца, ні рэдакцыі, ні карэктара — нічога, бо адчувалі мы сябе ніякавата, бо рабілі кніжку без апрабаты, згоды аўтара. Рабілі, як кажуць, для справы: Васіль Быкаў быў папулярны,

грамадзтва "хацела Быкава". Гэтае выданьне "Мёртвым не баліць" шырока разышлося — шмат якім каледжам, студэнтам БІНіМ кнігу дарыў без аплаты. Папулярызацыя твору, аўтара, Беларусі была значная.

Прыпамінаю й такое. Калі мне давялося сустрэцца ў Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы з Чынгізам Айтматавым[1] і гутарыць аб беларускай літаратуры, найперш пра Быкава, кыргыскі бард спытаў, ці можна было б мецьць кнігі Быкава, якія друкаваліся на Захадзе. Амаль такое ж пытаньне мне задаў мітрапаліт УАПЦ Мсьціслаў[2] у горадзе Баўндбруку (ЗША), калі я яго адведваў з д-рам Ісаевічам[3].

Трэба заўважыць, што кнігаў Васіля Быкава друкавалася багата: у ангельскай, расейскай і іншых мовах. Часта ў БІНіМ зьвярталіся па інфармацыю. У Нью-Ёрку ў Гарадзкім каледжы была ўкладзеная бібліяграфія Васіля Быкава (Л. Акуліч) і працавала над доктарскай дысэртацыяй, прысьвечанай пісьменьніку Быкаву, Ніна Палянская (на жаль, дысэртацыя не была абароненая). БІНіМ рабіў захады, каб запрасіць Васіля Быкава на Беларускі сымпозіюм у Ратгерскім унівэрсытэце (1983 г., арганізатар Галіна Русак) і на канфэрэнцыю Рым-I у 1990 г. Але абодва разы вынікі былі адмоўныя: пісьменьнік выехаць-прыехаць ня мог.

Калі мы нарэшце пазнаёміліся з Васілём Быкавым ў Менску — 1993—1994 гг., — сустрэчы, гутаркі былі даўгія, шчырыя, амаль выключна на нашыя беларускія тэмы. Але найбольш мы зь пісьменьнікам нагаварыліся, падаравалі яму нашыя БІНіМаўскія друкі й інш., калі амаль тыдзень жылі разам у гатэлі ў Празе зімой 1996 г. падчас Тыдню беларускай культуры — канфэрэнцыі, якую арганізавала Ганна Сурмач. Госьці, дакладчыкі канфэрэнцыі былі разьмешчаныя ў адным гатэлі, а Васіль Быкаў, Радзім Гарэцкі, Зора й Вітаўт Кіпелі жылі ў адным нумары! Ясна, мы хадзілі на канфэрэнцыю, канцэрты й г. д., але найбольш гутарылі, зьбіралі, аналізавалі нашыя біяграфіі, нашыя жыцьцёвыя шляхі. Яны былі розныя, але ўва ўсіх у глыбіні душы была Беларусь. І аднойчы ў позьняй гутарцы Васіль Быкаў задуменна, ціха-ціха, як бы абдымаючы нас, прамовіў: *«Час пісаць і тэму "Беларускі лёс". Можа, не нашаму пакаленьню, але пісаць трэба. Беларускі лёс павінен закрануць душу, разварушыць цяперашнюю абыякавасьць. І гэта станецца»*.

Пасьля Прагі мы яшчэ сустракаліся зь пісьменнікам, перапісваліся, абменьваліся паглядамі, думкамі, друкавалі кнігі…

---

[1] **Чынгіз Айтматаў** (1928—2008), кыргыскі празаік, народны пісьменьнік Кыргыскай ССР.

[2] **Мсьціслаў** (укр. сапр. *Степан Скрипник*, 1898—1993), украінскі рэлігійны дзеяч, патрыярх Кіеўскі і ўсяе Русі-Ўкраіны УАПЦ, першагерарх УАПЦ у дыяспары.

[3] **Яраслаў Ісаевіч** (укр. *Ярослав Ісае́вич*, 1936—2010), украінскі гісторык, акадэмік НАН Украіны, дырэктар Інстытуту ўкраіназнаўства НАН Украіны.

***Тэма нумару: Амэрыканская гісторыя***
*Эпісталярый*

# АДЫСЕЯ ЎЛАДЗІМЕРА БАКУНОВІЧА

*Паваенныя эмігранты — вымушаныя падарожнікі. Шмат хто, пакінуўшы Беларусь, праехаўшы ці прайшоўшы палову Эўропы, кіраваліся на сталае жыхарства за акіян. Ня ўладзіўшыся ў новай краіне адразу, некаторыя вандравалі далей, у іншыя краі, атрымоўваючы адукацыю, працуючы, шукаючы на зямлі тое месца, дзе можна будзе асесьці назусім.*

*Адным з такіх вымушаных вандроўнікаў быў Уладзімер Бакуновіч. Ён нарадзіўся 10 сьнежня 1926 г. у вёсцы Малыя Сьцяблевічы Лунінецкага павету (сёньня Жыткавіцкі раён Гомельскай вобл.) у вялікай сям'і Пятра й Васілісы Бакуновічаў. Ён меў двух старэйшых братоў — Аляксандра й Мітрафана — ды малодшую сястру Лізу. У міжваенны час вучыўся ў польскай і савецкай школах. Як прыйшлі Саветы, бацька — заможны гаспадар ды яшчэ й солтыс пры паляках — быў арыштаваны, пасаджаны, паводле ўспамінаў сястры Лізы, у Брэсцкую крэпасьць. Вызваленьне зь яе прынесьлі немцы. І ня дзіва, чаму зь іх адыходам у 1944 г. уся вялікая сям'я Бакуновічаў апынулася ў Нямеччыне. Да канца вайны бацька з сынамі працавалі ў баўэра, а потым трапілі ў амэрыканскую зону акупацыі й пасяліліся ў лягеры ў Рэгенсбургу. Тут Уладзімер Бакуновіч вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы, якую скончыў ужо ў Віндышбэргердорфе, і спадзяваўся паехаць далей у ЗША. Аднак сям'і прыйшоў выклік ехаць у Аўстралію, і трэба было падпарадкавацца агульнаму рашэньню.*

*У 1950 г. разам з бацькамі, братамі й сястрой Уладзімер Бакуновіч апынуўся ў Сыднэі, уладкаваўся на працу паводле абавязковага кантракту, улучыўся ў беларускае жыцьцё — браў удзел у арганізацыі першага Беларускага аб'яднаньня ў Аўстраліі. Сястра Ліза згадвала, што яму вельмі не падабалася новая паўднёвая краіна: "Для майго малодшага брата, то гэта было страшэнна. Ён казаў, што выходзіў над мора, бо ў Сыднэі меў кантракт, і проста плакаў, што так далёка. Ён вельмі хацеў назад у Эўропу. Тут яму зусім не падабалася й аўстралійцаў не любіў, казаў, што такія людзі некультурныя, у іх ніякай адукацыі няма. А ў Аўстраліі раней сапраўды так было — 15 гадоў і канец — трэба на працу ісьці. І вельмі мала хто яшчэ вучыўся, звычайна*

*дактароў сыны або дочкі вучыліся далей"* [1]. *Як бы насуперак гэтым словам у 1959 г. на старонках газэты "Бацькаўшчына" зьявіліся надзвычай цікавыя нататкі Ўладзімера Бакуновіча (пад псэўданімам Сьцяблевіч) пра Аўстралію, прыезд, уладкаваньне, асаблівасьці мясцовага жыцьця* [2]. *Аднак пісаліся яны ўжо з адлегласьці часавай і геаграфічнай — з Эўропы.*

*У 1954 г. Уладзімер Бакуновіч зьвярнуўся ў Лювэн, што хоча стаць яшчэ адным тамтэйшым беларускім студэнтам. І пасьля пяці гадоў працы ў Аўстраліі, у 1955 г., паступіў на эканамічны факультэт Лювэнскага ўнівэрсытэту ў Бэльгіі, дзе ў 1963 г. атрымаў тытул доктара эканомікі. Ён быў сярод апошніх беларускіх студэнтаў у гэтым унівэрсытэце. Большасьць прыехала ў Лювэн пры канцы 1940-х ці на самым пачатку 1950-х. Але пераважна гэты былі знаёмыя Бакуновічу яшчэ па Беларускай гімназіі імя Я. Купалы дзяўчаты й хлопцы, зь якімі і з далёкай Аўстраліі, і потым зь Лювэну ён падтрымліваў лістоўную сувязь. Здаецца, менавіта ў Лювэнскія часы наладзілася ліставаньне з равесьнікам, які ўжо скончыў свае бэльгійскія студыі й працаваў на радыё "Вызваленьне" ў Мюнхэне Янкам Запруднікам. Зьмешчаныя ніжэй некаторыя зь лістоў адлюстроўваюць асаблівасьці беларускага студэнцкага жыцьця ў Лювэне ўжо апошняга пэрыяду, настроі, жаданьні й памкненьні аўтара. Некаторыя свае думкі на тэмы беларускага грамадзкага жыцьця ён выказваў таксама ў допісах у газэту "Бацькаўшчына", пазьней пісаў і для "Беларуса".*

*Па заканчэньні навучаньня Ўладзімер Бакуновіч пераехаў у ЗША. Некаторы час жыў у Нью-Брансьвіку (штат Нью-Джэрзі), быў сакратаром і сябрам управы Нью-Джэрзійскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. У 1968 г. перабраўся ў Дэтройт (Мічыган), дзе працаваў як спэцыяліст у падатковых справах. Доўгі час быў сакратаром управы Дэтройцкага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. У 1980-я ўвайшоў у Галоўную ўправу БАЗА. Быў радным БНР.*

*Ня надта шчасьліва склалася асабістае жыцьцё Ўладзімера Бакуновіча. Жонка Людміла была дачкою беларускага грамадзкага й рэлігійнага дзеяча Віктара Войтанкі-Васілеўскага. Праз ь яе сувязь зь Янкам Бруцкім (будучым мітрапалітам БАПЦ Ізяславам) Бакуновіч пакінуў сям'ю й жыў адзін. Нейкі час плянаваў перабрацца*

[1] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Аўстраліі: Да гісторыі дыяспары. Менск, 2004. С. 229.

[2] Сьцяблевіч, Ул. Ад "Дэ Пі" да "новага аўстралійца" // Бацькаўшчына. № 1—2 (437—438). Праваслаўныя Каляды 1959. С. 2—3, 6—7; № 4 (440). 25 студзеня 1959. С. 2—3; № 5 (441). 1 лютага 1959. С. 2—3.

*з Дэтройту ў Кліўлэнд, але так і не ажыцьцявіў гэтыя пляны. Памёр 23 траўня 1992 г.*

*Праз усё жыцьцё, ад Лювэну 1950-х да Дэтройту 1980-х, Уладзімер Бакуновіч ліставаўся зь Янкам Запруднікам. Выбраныя лісты й прапануюцца ўвазе чытачоў як адлюстраваньне жыцьцёвай адысеі, складанага й цікавага лёсу яшчэ аднаго беларускага паваеннага эмігранта, што пасьпеў пажыць у розных краінах і пакінуў па сабе нейкі сьлед.*

Лювэн, 7.11.57

Даражэнькі Янка[3], Коцік, Цыпачка й г. д.

Вось, як бачыш, я маю настолькі дурнога шчасьця, што ў нейкага просяць, а я мушу аддувацца. Але гэта ня страшна, пакуль што спраўляюся. Некалі Цьвірка[4] быў прыехаў у Лювэн зьмяніць "тітр дэ вуаяж"[5], зьмяніў і паехаў, а потым толькі атрымоўваю ліст-алярм: браток, маеш тут пару фотаў, зрабі там сэртыфіка дэ сівізм[6] (паходзіць ад слова "Сівы"[7] альбо "сівізна"), я лётаў паўдня, як дурны, давёў на паліцыі, што ён сівы, заплаціў 25 руб.[8] і пэрам[9] адаслаў у Брусэлю. За гэта ад Сівога атрымаў 80 фр[анкаў] і прыказ іх прапіць з Арэшкаю[10]! Зь якое рацыі? Але гэта было між іншым, пішу таму, што няма, чым хваліцца.

---

[3] Публікаваныя ніжэй лісты былі адрасаваныя Янку Запрудніку, які на той час ўжо жыў у ЗША, і захаваліся ў ягоным прыватным архіве.

[4] **Уладзімер Цвірка** (да эміграцыі **Вадзім Сурко,** 1928—1992), журналіст. Сябра "Дванаццаткі". Браў актыўны ўдзел у выданьні часопісу "Наперад!". У 1950—1954 гг. вучыўся ў Лювэнскім унівэрсытэце. Ад 1954 г. працаваў у беларускай рэдакцыі радыё "Вызваленьне" ў Мюнхэне.

[5] Маецца на ўвазе ***Titre de voyage*** (фр.) — выдадзены ў Бэльгіі афіцыйны праязны дакумэнт, які мелі беларускія студэнты (і выпускнікі) Лювэнскага ўнівэрсытэту, каб перасоўвацца за межы краіны.

[6] ***Certificat de civisme*** (фр.) — пасьведчаньне аб грамадзянстве.

[7] **Сівы** — мянушка Ўладзімера Цьвіркі.

[8] Так у арыгінале. Відаць, маюцца на ўвазе франкі.

[9] Тут і далей як "пэр" фігуруе **а. Робэрт ван Кавэлярт дэ Ўілс** (1906—?), грэка-каталіцкі сьвятар, які апекаваўся беларускімі студэнтамі ў Лювэне.

[10] **Аляксей Арэшка** (нар. 1923), хімік, фармацэўт, грамадзкі дзеяч. Вучыўся ў Мюнхэне ва ўнівэрсытэце ЮНРРА, дзе стаў адным з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага згуртаваньня, удзельнічаў у выданьні "Студэнцкай Думкі" (пазьней перайменаванай у "Крывіцкі Сьветач"). У 1947 г. паступіў ва ўнівэрсытэт у Марбургу, адтуль перабраўся ў Лювэнскі ўнівэрсытэт (Бэльгія), дзе вучыўся на хімічным факультэце. Актыўны сябра Саюзу беларусаў Бэльгіі. У 1956 г. абараніў дысэтацыю й атрымаў ступень доктара хімічных навук. Ад 1957 г. працаваў у фармацэўтычнай фірме *"Labaz"* як кіраўнік групы хімікаў у галіне пошуку сінтэзу лекаў ад сардэчна-сасудзістых захворваньняў.

Думаю, ведаеш, што Жук[11] праваліў, дык робіць зараз два гады на раз. Ня ведаю, як справіцца, але будзем спадзявацца, што здасьць. Пару дней таму прыехаў Мірскі з Гішпаніі. Хлопец малады, зь вялікімі рагамі, на ўсіх глядзеў зьверху. За гэтыя пару дней рожкі падпілілі, і ён паспакайнеў. У будучыні будзе добры хлапец. Францускую, гішпанскую й нямецкую мовы знае пэрфэкт, польскую таксама, расейскую і ангелійскую слаба. Жму на яго на беларускую мову.

5.11 мы атрымалі тэлеграму ад Тані[12] (яна зараз у Парыжы), што матка памерла. Хворая была на рака. Да таго была ўжо ненармальная. Некалі яна перарэзала была сабе жылы — хацела пакончыць самагубствам, дык забралі ў шпіталь, а адтуль хацелі паслаць у дом вар'ятаў, але нехта пастараўся й да гэтага не дапусьцілі. Ня ведаю яшчэ, ці прычынаю яе сьмерці быў рак. Таня пісала пэру, што мама ў шпіталі і толькі адзін раз пазнала яе, а зараз нічога ня бачыць і ня чуе, з гадзіны на гадзіну чакаем, што памрэ. Значыць, становішча было ўжо безнадзейнае.

А так усё рэшта ў парадку. У ўкраінцаў адбылася “рэвалюцыя”, і Дзвонэк[13] даволі многа (здаецца, 8 чалавек) выкінуў з дому, з чаго адную дзяўчыну, што прыехала зь Нямеччыны. Чуць пэра ня ўмешалі, але ў час яны атрымалі нагана ад пэра, і закрылася. Бегалі яны да віцэ-рэктара адныя й другія, і ў Рым пісалі, і нарэшце ўсе разам аскандаліліся, асабліва перад віцэ-рэктарам, перад пэрам таксама. Пэр сказаў, каб іх разумець, трэба быць украінцам. Дык на сяньня хопіць. Высылаю сяньня “програм дэ кур”[14], а заўтра дыплём, бо трэба дастаць картонную трубку, каб яго ўлажыць, бо ня хочу ламаць. У нас у Аўстраліі

---

[11] Маецца на ўвазе **Янка Жучка** (1928—2010), інжынэр, журналіст, грамадзкі дзеяч. Сябра “Дванаццаткі”. Вучыўся на політэхнічным факультэце Лювэнскага ўнівэрсытэту. Атрымаў дыплём будаўнічага інжынэра. Жыў у Бэльгіі, працаваў у галіне сталёвых канструкцый, ад 1968 г. — у інфармацыйным цэнтры па выкарыстаньні сталі ў будаўніцтве. У 1954 г. увайшоў у склад управы Беларускага студэнцкага згуртаваньня, у 1957—1958 гг. быў ягоным старшынём. Быў сябрам Саюзу беларусаў Бэльгіі, ягоным кіраўніком.

[12] Паводле сьведчаньняў Янкі Запрудніка, ідзецца пра **Тацьцяну Родзьку**, дачку жонкі Ўсевалада Родзькі. Калі ёй было гадоў 16—17, у 1953––1954 гг., яна вучылася ў Лювэне ў кароткатрывалай Беларускай гімназіі (дырэктарам быў а. Аўген Смаршчок), брала ўдзел у студэнцкім танцавальным гуртку. Пазьней вярнулася назад у Парыж да сваее мамы. Ёсьць зьвесткі, што празь нейкі час Тацьцяна выйшла замуж за багатага гішпанца.

[13] Відаць, маецца на ўвазе **Даніла Дзвонык** (укр. *Данило Дзвоник*, 1923—1981), украінскі рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар, які ад 1953 г. апекаваўся студэнтамі ў Лювэне, быў адміністратарам студэнцкага дому.

[14] ***Programme de cours*** (фр.) — навучальны плян, праграма курсу.

таксама ўсё ў парадку[15]. Бацька ахварэў азіяцкую грыпу, а болей ніхто. Недзе пасьля Новага Году Мітрафан[16] жэніцца. Дык трымайся!

Прывітаньне Тваёй сям'і[17] і ўсім знаёмым.

Бакуновіч.

Лювэн, 11.12.57.

Здароў, Янка!

Дык шчыра дзякую за ліст і ўкладку. З адказам затрымаўся, бо зараз у нас на першым лісансе[18] трэба рабіць т. зв. лектюр экономік[19]. Я маю як першую мову — англійскую, і каб зрабіць гэную лектюр, дык трэба было запраўды пасядзець. Зараз ужо кончыў. Таня зрабіла карэкцыю й набіла на машынцы. 19.12. мушу прадставіць. Астаецца яшчэ расейская і польская мовы, але гэта ўжо ерунда, зь Няверавым заўсёды заладзіцца. Ён мне даў як заданьне з расейскае мовы зрабіць пераклад аднае кніжкі 19 строчак (!), гэта-ж выгада. Польскую буду рабіць зь мейсца пераклад — вусна. У студзені буду мець ужо і эгзамін, калі здам, дык адпадае, а не — дык яшчэ раз у сэсыі. Трэба старацца здаць. Вось, браточак, горшая справа ў мяне з мэмуарам[20]. Зараз трэба падаць сюжэт, знайсьці дырэктара й рэпортэра, а таксама плян мэмуару. Як сюжэт я ўзяў "Вонкавы гандаль ВКЛ у XVI ст.". Дык не магу знайсьці дырэктара — усе прафэсары адказваюцца, бо ня ёсьць у курсе справы. Зараз мяне накіравалі да праф. Ван Гут'а. Калі ён згодзіцца, дык ОК, а не — ня ведаю, што рабіць. Мяняць тэму ня хочу, бо падчас вакацыяў я сабраў ужо дакумэнтацыю ў "Брытыш Мюзэўм"[21] у Лёндане. Учора быў у праф. дэ Раймакэр'а, ён захапіўся тэмаю, бо для яго гэта невядомая рэч. Пахваліў, што вельмі паважная тэма, каторая вымагае многа працы, і, значыць, сур'ёзна падыходжу да мэмуару. Таксама ня хоча, каб мяняў, паабяцаў, што асабіста пастараецца, каб знайсьці прафэсара,

---

[15] У Аўстраліі жылі бацькі, два браты (Аляксандар і Мітрафан) і сястра Ліза Бакуновічы.

[16] **Мітрафан Бакуновіч** (1921—?), грамадзкі дзеяч, брат Уладзімера Бакуновіча. У 1950 г. выехаў у Аўстралію. Пасяліўся ў Сыднэі. Быў сябрам Беларускага аб'еднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі й ягоным скарбнікам. Доўгі час быў адным з дырэктараў Беларускага культурна-грамадзкага клюбу ў Сыднэі.

[17] У Янкі Запрудніка й ягонай жонкі Вольгі на той момант былі ўжо дзьве дачкі: Ніна й Вера.

[18] ***Licence*** (фр.) — ліцэнцыят, або аналяг ступені бакаляўра.

[19] ***Lecture économique*** (фр.) — тут, відаць, маецца на ўвазе праца па інтэрпрэтаваньні тэксту з галіны эканомікі.

[20] ***Mémoire*** (фр.) — тут: дыплёмная праца.

[21] ***British Museum*** (анг.) — Брытанскі музэй у Лёндане.

каторы возьмецца як “дырэктар дэ травай”[22], а ён будзе як “рэпортэр”[23]. Вось, браток, лётаю так па Лювэне, высалапіўшы язык. Да таго, каб пэр быў у доме[24], дык ён дзядзька спрытнейшы ад мяне. Ён некага з прафэсароў угаварыў-бы. Пэр паехаў у Рым аж да панядзелка, г. зн. да 16.12, а выяхаў таксама ў панядзелак 9.12. Бяз пэра мы тут сядзім як тыя *“сероткі оджэканэ”*[25]. Ён, здаецца, паехаў у пошуках грошай, бо ўзяў у мяне касавую кнігу, каб паказаць кардыналу[26], як акуратненька вядзецца ў нас контабіліта[27]. А на шчасьце кніга ў мяне вялася без памылак і чыста без крэсьленьняў і паправак.

21.11 мы мелі агульны Сход, рабілі перавыбары Ўраду і выбралі… Янушэвіча[28] як старшыню, я астаўся скарбнікам і адміністратарам дому, а Таня асталася таксама сакратаркаю. У “Бацькаўшчыну” нічога аб перавыбарах не пісаў. Напісаў быў фэльетон, але паглядзеў потым, што завойстры, і выкінуў. А апрача мяне, так ніхто і не пацікавіўся напісаць.

Здаецца, я Табе некалі пісаў, што маем аднаго “блё”[29] князя Мірскага з Мадрыду. Зь першага дня ён здабыў сабе вялізарную антыпатыю, бо хадзіў з носам, задраным уверх, адразу кожнага на “ты” і глядзеў на ўсіх зьверху. Болей таго, зь першага дня, а фактычна з першае ночы пачаў гуляць у лунацікі. Да гэтага чаду ён быў толькі два разы на выкладах. Грошай ня мае ні капейкі, дык зьвязаўся з палякамі, гішпанцамі і з рознай дрэньню, і яны, відаць, яму фундуюць. Ноч недзе лазіць і цэлымі днямі сьпіць. Зараз пэра няма ўдома, дык мне, нават, яго і ня прышлося пабачыць да гэтага часу. Ня ведаю, ці ён начуе калі-небудзь удома ці не. У кажным выпадку, ягоная комната цэлы час закрытая на ключ. Перад тым, як прыняць яго сюды, пэр выставіў яму некаторыя ўмовы, а між іншым вывучыць за год беларускую мову, гісторыю, гісторыю беларускай літаратуры і ведаць беларускую літаратуру. Ён мае на гэта ўсе магчымасьці, але да гэтага часу абсалютна за нішто ня ўзяўся.

---

[22] ***Directeur de travaille*** (фр.) — тут: навуковы кіраўнік дыплёмнай працы.

[23] ***Reporter*** (фр.) — тут, відаць: рэцэнзэнт.

[24] Маецца на ўвазе студэнцкі дом, дзе жылі беларускія студэнты ў Лювэне.

[25] ***Sierotki odrzekane*** (пол.) — магчыма, кінутыя сіроткі.

[26] Магчыма, маецца на ўвазе **Эжэн Тысэран** (*Eugène-Gabriel-Gervais-Laurent Tisserant*, 1884—1972), каталіцкі дзеяч, кардынал. У 1936—1959 гг. сакратар Свяшчэннай кангрэгацыі па справах Усходняй царквы. Ён дапамагаў у атрыманьні стыпэндый для беларускіх студэнтаў у Лювэне.

[27] ***Contabilità*** (італ.) — тут: улік, бухгальтэрыя.

[28] **Мікола Янушэвіч** (1925—1992), грамадзкі дзеяч, літаратар. У 1952 г. распачаў навучаньне ў Агранамічным інстытуце ў Лювэне (Бэльгія). Па сканчэньні навучаньня вярнуўся ў Вялікабрытанію, дзе жыў да таго. Пасяліўся ў Шатляндыі. Займаўся паэтычнай творчасьцю ў ангельскай мове.

[29] ***Bleu*** (фр.) — тут: навічок.

Я яму даў "Спадчыну"[30], дык так і ляжыць да гэтага часу неразрэзаная. Як прыедзе пэр, дык трэба будзе нешта зрабіць. Зы мной ён проста ня хоча гаварыць, калі пачынаю яго ўпікаць, і страшэнна грубы з кажным адным. А трэба сказаць, што ён ёсьць вельмі інтэлігэнтны, але што-ж смаркач, яшчэ ня мае 18-ці гадоў.

Вось толькі што атрымаў ліст ад Кавалеўскага Аўгена[31] з Парыжа. Мае яшчэ адную дачку, назваў Элізабэт. Хоча на Каляды прыехаць у Лювэн, дык пытае, ці буду ў Лювэне. Напішу, хай прыяжджае, пазнакомлю яго зь Лювэнам. Рэшта навінаў ніякіх. Жука таксама бачу толькі на сьнеданьні ў 7:30 і вечарам перад тым, як класьціся спаць. Што-ж, чалавек робіць 2 гады нараз, дык няма часу ў цацкі гуляць.

Здаецца, болей няма чаго пісаць, дык на гэтым кончу. Прывітаньне ўсім Запруднікам ды й вітай ад мяне др. Орсу[32] й Паланевіча[33], а таксама др. Набагеза[34].

---

[30] Маецца на ўвазе выданьне: Купала, Янка. Спадчына. Нью-Ёрк — Мюнхен, 1955. — LXVI + 497 с.

[31] **Аўген Кавалеўскі** (1921–1963), грамадзка-культурны дзеяч, драматург. У лягерах *DP* у Нямеччыне ў другой палове 1940-х гг. арганізаваў з прафэсійных актораў на эміграцыі Тэатар эстрады, які езьдзіў з гастролямі па розных лягерах. У 1947 г. у Міхэльсдорфе выдаў адмысловы "Кароткі курс навучаньня актора". Пісаў апавяданьні, фэльетоны й п'есы, якія публікаваліся на старонках эміграцыйных пэрыёдыкаў, а таксама выходзілі асобнымі выданьнямі. У 1949 г. перабраўся ў Францыю, дзе быў вымушаны працаваць у парыскай кравецкай майстэрні. Быў сябрам Аб'яднаньня беларускіх работнікаў у Францыі (АБРФ), а таксама сакратаром і кіраўніком аддзелу культуры Галоўнай управы Беларускай незалежніцкай арганізацыі моладзі ў Францыі.

[32] Маецца на ўвазе **Аляксандар Орса** (1896—1959), грамадзка-палітычны й культурны дзеяч, пэдагог. У часе Другой сусьветнай вайны быў школьным інспэктарам Наваградзкай акругі. У 1944 г. выехаў у Нямеччыну, быў дырэктарам Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу (Міхэльсдорфе). У 1949 г. выехаў у ЗША. Браў актыўны ўдзел у грамадзкім жыцьці: у працы Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, БІНіМу.

[33] **Гіпаліт Паланевіч** (1907—1997), грамадзка-культурны дзеяч, пэдагог, гісторык. У 1932 г. скончыў Ленінградзкі пэдагагічны інстытут. Быў рэпрэсаваны і ў 1936—1940 гг. адбываў пакараньне ва Ухта-Іжэмскім лягеры (Комі АССР). Пасьля вызваленьня вярнуўся ў Беларусь і працаваў настаўнікам. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Выкладаў гісторыю ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне, кіраваў тэатральным гуртком. У 1950 г. выехаў у ЗША. Жыў у Нью-Ёрку. У 1962 г. атрымаў унівэрсытэцкі дыплём у галіне бібліятэказнаўства. Працаваў па спэцыяльнасьці. Сябра Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў ва ўправу Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. Аўтар шэрагу публікацый па гісторыі Беларусі.

[34] **Уладзімер Набагез** (1919—2011), грамадзкі дзеяч, лекар. Па сканчэньні Другой сусьветнай вайны вучыўся на мэдычным факультэце Марбурскага

Дык трымайся.

Твой В. Бакуновіч.

Лювэн, 23.7.59.

Здароў, Янка!

Учора раскрыў Твой ліст, паколькі й маё прозьвішча фігуравала на капэрце, і адразу-ж пачаў "дэмарш". Аднак, пабачыўшы, што мне самому цяжкавата, я ўзяўся за пэра. Пэр паабяцаў зрабіць усё пасьля вячэры, а пасьля вячэры зьбіраецца недзе ў дарогу, дык я яго за каўнер і не адстаў датуль, пакуль ня было ўсё зроблена. Дык справа выглядае наступна: адзін фармуляр ахвотна ўзяўся праф. Обэр запоўніць (паміж іншага вельмі добра памятуе цябе й Паўлушу[35], доўга распытваўся, дзе каторы знаходзіцца, як уладзіліся й г. д.). Адносна другога фармуляру пэр тэлефанаваў да сакратара Твайго факультэту[36], каторы ёсьць добры знакомы й сябра па студэнцкай лаўцы пэра. Той адказаў, што ахвотна зрабіў-бы, але як можна выстаўляць апінію аб чалавеку, не знаючы яго? Нарэшце згадзіўся, што пэр выпаўніць фармуляр, а ён падпіша. Ня знаючы, як выпаўняць, пэр патэлефанаваў яшчэ раз да Обэра, расказаўшы, у чым справа. Обэр адказаў, што для яго гэта ня першы раз гэтыя фармуляры, і гэтым займаўся я (Обэр) і Жэніко. Жэніко таксама згадзіўся. Яны меліся ўчора вечарам спаткацца, абгаварыць разам і запоўніць фармуляры. Спадзяюся, што сяньня будуць высланыя. Учора вечарам пазадрасоўвалі ім капэрты таксама на лётніцкую пошту, і я паразносіў. Да кажнае капэрты далучылі па тры інтэрнацыянальныя паштовыя купоны. Думаю, хопіць. Хацеў я пэру зьвярнуць за купоны, але ён адмовіўся; гэта, кажа, для Янкі, бо ён для мяне таксама многа рабіў у Амэрыцы. Але пры ўмове, што 5 дал. падзялюся з Жучкаю — хітры Язуіт! Такім чынам, думаю, што ўсё будзе ўпарадку.

Зараз з другое бочкі. Я здаў і чакаю толькі да 26-га, каб ажаніць Занкоўскага Рыся[37] з грэчанкаю, а там у аўторак ці ў сераду еду ў Мюнхэн,

---

ўнівэрсытэту, пазьней перайшоў у Лювэнскі ўнівэрсытэт, які скончыў з дыплёмам доктара мэдыцыны. Сябра Беларускага студэнцкага таварыства. У 1956 г. перабраўся ў ЗША. Працаваў у нью-ёрскім шпіталі, пазьней распачаў прыватную практыку ў г. Уолдэн (штат Нью-Ёрк). Сябра БАЗА, у 1963—1968 гг. кіраўнік яго Нью-Ёрскага аддзелу.

[35] Маецца на ўвазе **Павал Урбан** (1924—2011), гісторык, грамадзкі дзеяч. Сябра "Дванаццаткі". Скончыў Лювэнскі ўнівэрсытэт па спэцыяльнасьці "гісторыя", абараніў дысэртацыю пра дзейнасьць вялікага князя літоўскага й польскага караля Аляксандра. Працаваў у Інстытуце вывучэньня СССР у Мюнхэне, потым у беларускай рэдакцыі Радыё "Свабода".

[36] Маецца на ўвазе факультэт філязофіі й літаратуры (*faculté de philosophie et letters*), які скончыў Янка Запруднік.

[37] Маецца на ўвазе **Рычард (Рысь) Занкоўскі**, беларус, які жыў у Бэльгіі, а потым пераехаў у Чыкага (ЗША).

тэзу пачынаць трэба. Тэзу пішу на тэму: “Разьвіцьцё беларускае эканоміі пасьля 2-е сусьветнае вайны”. Даных сабраў дастаткова, бракуе яшчэ аб цяжкай індустрыі і бюджэт. Жучка здаў таксама — ужо інжынер. Мае сабе фляманку ў Антвэрпэне, дзяўчына нічога сабе. Кончыла ў Лювэне філялёгію (ня ведаю, якую), працуе зараз настаўніцаю ў сярэдняй школе ў Антвэрпэне, зарабляе нешта 12000 фр[анкаў] на месяц. Жук там угруз па вушы. Яе бацькі й цэлая сям'я паехалі на вакацыі ў Італію, а Жук зь ёю “хазяйнічаюць” у іхным доме. Можна спадзявацца, што потым будзе жаніцца бягом, як некалі Цьвірка. Да хаты калі прыедзе, магчыма, калі нахапаецца каля яе, як Мурзік.

Пасьля ўсіх фармуляраў учора вечарам перасварыўся з пэрам, але пасварыўся зусім паважна. І гэта адносна адказу Рагалевічам[38]. Ён ліст атрымаў, адказу ня даў, кажа, ня меў часу. А фактычна справа выглядае наступна: тут у нас жыў адзін Альбанец — магамэтанін. Чалавек дурны, як бот зь левае нагі, інтэлігэнтнасьці ні на грош. Ужо 2 гады робіць першую кандыдатуру мэдыцыны і ніяк ня можа здаць. Выхілкі й рухі пэдэраста, дзе яго пэр знайшоў — ня ведаю. У кажным выпадку пэр за ім прападае, як за дзяўчынаю. Гэты цэп і зараз праваліў, знаходзіцца недзе ў Намюры[39], дык пэр ціханька, нікому нічога не гаворачы, гоніць у Намюр. І ў мяне, таксама, як і ў іншых, пачынаюцца грэшныя думкі адносна пэра. Канчаецца тым, што Сівы, будучы ў Лювэне, адмовіўся есьці ў доме, назваўшы дом інтарнацыянальным бардаком, у чым меў поўную рацыю. Пэра тады ня было ўдома, іначай ён абарваў-бы ад Сівога. У доме бруд страшэнны, у клюбе вокны ўжо год цэлы ня мыліся, а ў доме працуе 2 асобы як уборшчыкі, цэлымі днямі чытаюць газэты й пьюць каву і падлічваюць гадзіны. Ня гледзя, што ў нас у доме жыло 8 асобаў з пэрам разам, на вячэры заўсёды 12—15. Рэзультат — я адмовіўся весьці кантабілітэ групы, за што й зараз на мяне пэр дуецца. Беларускаю студэнцкаю групаю пэр зусім ня цікавіцца. Усё, што для яго існуе, гэта Жучка й Магамэт (так называем Альбанца). І калі я вярнуся зь Мюнхэну й ня будзе новых студэнтаў-Беларусаў — я выйду з дому толькі дзеля таго, каб закрыць гэты бурдэль.

На гэтым канчаю. Прывітаньне Олі зь дзецьмі.

Дык трымайся!

Твой Бакуновіч.

П. С. Зьнішч гэты ліст.

Аб магіле Равенскага[40] нічога ня ведаю. Напішу пазьней.

---

38 Відаць, маецца на ўвазе сям'я Рагалевічаў, што жыла ў той час у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі, ЗША).

39 **Намюр** (фр. *Namur*) — горад у Бэльгіі, сталіца Валоніі.

40 Мікола Равенскі ў 1950—1953 гг. жыў у Лювэне, дзе арганізаваў Беларускі студэнцкі ансамбль.

Лювэн, 26.10.59.

Здароў, Янка!

Сяньня разам з гэтым лістом высылаю таксама й ліст Шчэцьку[41]. Справа ў тым, што сьпеўнік Равенскага падыходзіць да канца, а грошай няма. Больш таго, я ня знаю, колькі гэтых грошай павінна быць, бо імі заведаваў Шчэцька. Па нашым падліку павінна быць каля 30-ці тысяч. Перад сваім адʼездам у Амэрыку Шчэцька хацеў перадаць "касу" Жучку, але Жук не згадзіўся пераняць, бо гэта былі толькі кніжкі й расьпіска Шчэцькі, колькі ён вінаваты ў касу. Фактычна грошы асталіся ў лювэнскіх кафэйках.

Зь Мюнхэну перадалі мне давесьці сьпеўніка да канца, таксама й памятнік Равенскаму, паколькі я ўжо астаўся адзін тут (за што трэба "падзякаваць" пэру). Набіраецца ўжо ў Мюнхэне словы апошніх 12-ці песьняў рэлігійных. Там дапільную пэра, каб зрабіў карэкту, і трэба будзе друкаваць. Думаю, прыступім да друку недзе ў пачатку наступнага году. А паколькі няма грошай і ня ведаю, колькі іх павінна быць, дык ня ведаю, як націскаць Годры і які можа быць тыраж. Можа таксама стацца, што сьпеўнік будзе гатовы — трэба будзе плаціць, а мы ня маем чым. Што тады рабіць? Шчэцька ў Лювэне грошы прапіў із сваёй палавінаю, думаў, заедзе ў Амэрыку й там даляры зь неба падаюць. Аказваецца, што ён праз увесь час не працаваў. Тады як зь яго сьцягнуць гэтыя грошы? Калі спаткаешся зь ім, дык прыпомні таксама.

Сяньня таксама высылаю ліст Навумовічу[42]. Проста стаўлю ўльтыматум, што калі да канца наступнага месяца нічога ня будзе[43], дык падам у газэту "Бацькаўшчыну" і там абʼеду яго па прозьвішчы. Думаю, гэта яму паможа нешта рабіць ці думаць.

У нас тут усё старына. Жучка сядзіць бяз працы, бо інжынеры ўцякаюць з Конга[44], дык ім стараюцца даць працу — яны маюць першын-

[41] **Васіль Шчэцька** (1923—2011), грамадзкі дзеяч. Сябра "Дванаццаткі". Ад 1950 г. вучыўся ў Лювэне. У 1955 г. скончыў факультэт палітычных і сацыяльных навук Лювэнскага ўнівэрсытэту. У 1959—1988 гг. працаваў у бібліятэцы Калюмбійскага ўнівэрсытэту (Нью-Ёрк). Быў сакратаром Галоўнай управы БАЗА, належаў да кіраўніцтва парафіі сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку. Быў адным з заснавальнікаў прыходу сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіл.

[42] **Міхась Наўмовіч** (1922—2004), скульптар, мастак, грамадзкі дзеяч. Пасьля вайны жыў у Францыі. Скончыў факультэт скульптуры Нацыянальнай вышэйшай школы мастацтваў у Парыжы (1953). Браў удзел у беларускім нацыянальным жыцьці. Выдаваў часопіс "Моладзь".

[43] Міхась Наўмовіч займаўся вырабам помніку на магілу Міколы Равенскага.

[44] Маецца на ўвазе сучасная Дэмакратычная Рэспубліка Конга, якая да 1960 г. была бэльгійскай калёніяй.

ство. Займеўся ён дзяўчынаю, будучы на апошнім годзе, і зараз ахвотна паехаў-бы ў Канаду, але яна ня хоча. (Яна Флямандка з Антвэрпэну.) Пэр яму проста з прынцыпу ня хоча памагчы ўлесьці дзе-колечы на працу. Грошай ня мае, і ўсё разам справы дрэнь. Дом поўны ўсялякага сьмецьця, а мы фактычна знаходзімся ў падсуседзях. Каб Бог даў хутчэй дабіць гэты апошні год і пазбыцца гэтага інтэрнацыянальнага калгасу. Думаю, "пуркуа па"[45] атрымоўвае. Пэр зрабіў падпіску.

На тым канчаю. Прывітаньне ўсім Запруднікам. Пры нагодзе вітай Орсаў, Паланевічаў і Набагеза.

Дык трымайся!

Твой Бакуновіч.

Лювэн, 21.11.59.

Здароў, Франц!

Сяньня атрымаў Твой ліст і каб не зацягваць, дык адпісваю адразу. Ліст ад Васі [Шчэцькі] атрымаў разам з Тваім. Ад яго нічога канкрэтнага я не атрымаў. Вось што ён мне піша: *«Калі Цябе хлопцы зь Мюнхэну інфармавалі, каб Ты зьвярнуўся да мяне па грошы, дык думаю, Ты арыентуешся, сколькі я павінен павярнуць Табе грошай на сьпеўнік. Я то ў Амэрыцы й нармальна мусеў-бы мець даляры, але ня маю пакуль што. Аднак на гэтым справа, спадзяюся, ня скончыцца й на сьпеўнік нешта выкамбіную. Што мы мелі ў свой час пару грошай у "Наперад"[46], дык іх пры разьезьдзе пазычылі й хлопцы, што ў Мюнхэне[47], і Запруднік. Ня ведаю, як зь іх адзін з другім назьбіралі, каб зьвярнуць нешта на сьпеўнік, бо назьбіраць на падпісную лісту зь людзей, скажам, у Амэрыцы, больш справа ня пойдзе. У свой час гэткі заклік быў, і ў выніку яго на сьпеўнік Равенскага прыслалі 14 500 фр[анкаў]. Расход ізь сьпеўнікам быў, пакуль я быў у Бэльгіі, 15 800 фр[анкаў]. Розьніцу, што выглядае, больш мы пакрылі з "Наперад". І, як выглядае, дык трэба рэшту пакрываць з "Наперад", толькі што няма "налічных" у касе, каб узяць ды даць. Ня ведаю, што могуць зьвярнуць Марговіч[48], Урбан, Цьвірка на гэтую мэту, ёсьць у іх магчымасьць ці няма?»*.

---

[45] ***Pourquoi pas*** (фр.) — чаму не.

[46] **"Наперад!"** — моладзевы часопіс, орган "Дванаццаткі", які выходзіў у 1947—1953 гг., спачатку на шляху ў Вялікабрытанію, потым у Брытаніі, а ў 1953 г. — у Бэльгіі. Выйшлі 26 нумароў.

[47] У Мюнхэне ў той час знаходзіліся выпускнікі Лювэну: Уладзімер Цьвірка, Алесь Марговіч і Павал Урбан.

[48] **Алесь Марговіч** (1927—1967), журналіст, грамадзкі дзеяч, выдавец. Вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У Міхельсдорфе заснаваў выдавецтва "Крыніца", дзе выходзіў часопіс "Напагатове!". Сябра "Дванаццаткі". Ад

Вось-жа, браток, як выглядае, вы там усе пальцы памачалі. І гэта толькі сьведчыць аб вашай нявыраблянасьці ў той час і брак адказнасьці. Тут у нас ёсьць расьпіска Годры на 14 500 фр[анкаў]. А рэшта? Калі-б ён мне напісаў больш канкрэтна, хто колькі вінават зь Мюнхэну — я сьцягнуў-бы. Пакуль што Шчэцьку пісаць нічога ня буду, трэба паразумецца зь Мюнхэнам. Ды й тэксту яшчэ няма набранага да канца. Што там у Мюнхэне робяць — ня ведаю. Пішу да іх, дык няма ніякага адказу, як з бочкі бяз дна. Калі далей так будзе, то няхай яно агнём ідзе, кіну ўсё. Карэспандэнцыя, а асабліва падарожжы мушу сам буліць і далей крычаць да бацькоў *"грошы ня маю"*. Рэшта ўсё хоць-бы хны! Зараз, пакуль маю яшчэ крыху вольнага часу, дык магу вазіцца із сьпеўнікам, а далей, калі сяду цьвёрда ўжо над тэзаю, дык навет карэспандэнцыю пакіну. У Мюнхэне адных жонкі трымаюць, а другіх б…, я тут лётаю, як дурань, і рэзультат зэро. Годры разводзіць рукамі, мол, ня маю тэкстаў у камплеце й не магу пачынаць, а што-ж я зраблю? Мюнхэн маўчыць, ці там робіцца што, ці не — нічога ня ведаю. Баюся, што яшчэ будзе цягнуцца гадоў 10, пакуль сьпеўнік пабачыць сьвет. Ды яшчэ пытаньне, ці пабачыць[49].

Пазаўчора атрымаў адказ ад Навумовіча. Просіць, каб пэр прыслаў пасьведчаньне, што памятнік ня мае нічога супольнага з мэтамі даходу. Гэта яму патрэбнае пры перавозцы праз граніцу бэльгійскім мытнікам. Пэр казаў, зараз напішу. Дык вось няможна паймаць, каб даведацца, ці напісаў. Напэўна, што не. Але гэта я ўжо дапільную. Паводля Навумовіча, памятнік ужо гатовы, бо піша, што пазычыў ужо камямэтку (?) і ў вадну з гэтых нядзеляў прывязе. Так што ёсьць яшчэ нейкая надзея, што памятнік, хоць праз шэсьць год, але паставіцца[50].

У мяне тут старына. Із мэмуарам вазіцца няма часу. Трэба раней зрабіць 3 т. зв. лектюр экономік (ангельская, расейская й польская мовы). Потым сэмінар, потым 4 гадзіны журнэ д'этюд[51]. У мэмуар да гэтага часу напісаў уводзіны, каб пазнакоміць каротка, што гэта "Беларусь"; пачаў таксама першы шапітэр[52] і пакінуў, няма часу.

Дык на гэтым канчаю, бо пошта можа закрыцца, сяньня сыбота, і пошта, здаецца, працуе да 12:30. Ага! "Беларуская Моладзь"[53] часапіс

1950 г. вучыўся ў Лювэне. Скончыў факультэт паліталёгіі й сацыялёгіі Лювэнскага ўнівэрсытэту. Працаваў у Інстытуце вывучэньня СССР у Мюнхэне.

49 Рыхтаваны ў Лювэне зборнік Равенскага так і ня быў выдадзены.

50 Мікола Равенскі памёр 9 сакавіка 1953 г.

51 ***Journée d'étude*** (фр.) — вучэбны дзень.

52 ***Chapitre*** (фр.) — разьдзел, частка.

53 **"Беларуская Моладзь"** — квартальнік Згуртаваньня беларускай моладзі ў Амэрыцы, які выходзіў у Брукліне ў 1959—1980 гг. У выданьні браў удзел Янка Запруднік.

№ 3 да нас не дайшоў. Станкевіч Ю[ры][54] пісаў, што выслаў, але пакалькі я не атрымаў, то думаў, што ён зрабіў памылку, меў на ўвазе № 2, які маем.

Дык вітай там нашую братву! Шкада Орсы[55], што так і ня прышлося пабачыцца мне зь ім.

Бакуновіч.

P. S. Жук сядзіць яшчэ тут бяз працы. Кажа, што будзе пісаць Табе і аблае, што ня даў яму адказу. Так Табе, халера, і трэба!

Лювэн, 23.9.60.

Здароў, Франц!

Пару дзён таму мы атрымалі некалькі лістоў зь Беласточчыны ад прыватных людзей і 2 лісты ад старшыні БГ-КТ[56] сп. Ул[адзімера] Станкевіча[57] ў справе іхніх кандыдатаў на Лювэнскі Ўнівэрсытэт. Ідэя сама сабою не благая, але… Перад тым, як прапанову ўносіць у Беласток, трэба было хоць зь ветлівасьці зьвярнуцца да пэра. Гэта першае, на што ён зьвярнуў увагу. Крок вельмі нетактоўны, аднак трудна — у нас заўсёды так рабілася. Тым больш, што тут нам усе фонды адмоўленыя, пакалькі няма ўжо болей студэнтаў ДыПі. Вельмі магчыма, што сп. Становіч запрапанаваў зусім прыватна. Але мы атрымалі афіцыяльны ліст ад Станкевіча зь Беластоку. Як мы можам на яго рэагаваць? Хто ёсьць Станкевіч зь Беластоку з пункту гледжаньня нацыянальнага? Якія будуць кандыдаты на ўнівэрсытэт з пункту гледжаньня нацыянальнай сьведамасьці? Зрэштаю, хто такі Становіч? — Стагановіч[58]? На якое ліха

---

[54] **Юры Станкевіч** (1928—2014), грамадзкі дзеяч, сын Янкі й Марыі Станкевічаў. Пасьля Другой сусьветнай вайны вучыўся Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу. У 1949 г. выехаў у ЗША. Паводле адукацыі інжынэр-электрык. Быў актывістам шэрагу беларускіх моладзевых арганізацый, сябрам рэдкалегіі часопісу "Беларуская моладзь". Сябра Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Аўтар падручніка "Кароткі агляд гісторыі Беларусі" (вытрымаў некалькі перавыданьняў), выдавец беларускіх кніг і пэрыёдыкаў, у тым ліку часопісу *"Belarusian Review"*.

[55] Маецца на ўвазе Аляксандар Орса, які памёр 2 лістапада 1959 г.

[56] Маецца на ўвазе **Беларускае грамадзка-культурнае таварыства** — грамадзкая арганізацыя беларусаў у Польшчы, заснаваная ў 1956 г.

[57] Уладзімер Станкевіч ад 1958 г. быў старшынём БГКТ.

[58] **Аляксандар Стагановіч** (1890—1988), грамадзкі дзеяч. У 1925 г. уступіў у Беларускую сялянска-работніцкую грамаду. У 1928 г. вылучаны дэпутатам ад Наваградзкай акругі ў польскі сойм па сьпісе "Змаганьня", але за два дні да выбараў арыштаваны й зьняволены. Пасьля асабістага заступніцтва маршалка сойму вызвалены. У канцы 1928 г. адмовіўся ад дэпутацкага мандату ў знак пратэсту супраць супрацоўніцтва з КПЗБ. Праз некаторы час быў арыштаваны (пакалькі пазбавіўся дэпутацкай недатыкальнасьці)

ўсе гэтыя шыфроўкі? Мы ня ведаем, зь кім маем дачыненьня ў Беластоку, а таксама і ў ЗША.

Тут я перасылаю Табе копію ліста Станкевіча. Мы яму далі адказ, а фактычна запрасілі, каб прыехаў сюды прадыскутаваць усё на месцы. Пабачым, які ён дасьць адказ.

Дык перадай вусна ці як хочаш Становічу гэта, што я напісаў. Калі гэта ёсьць Стагановіч, дык яму належыцца салідны наганяй. Бо што, але паінфармаваць нас мог-бы хоць адносна Станкевіча. А так ліха ведае — таргуем ката ў мяшку. Тут быў якраз Сіповіч[59], дык абяцаў нам дастаць стыпэндыі для тых, што прыедуць зь Беласточчыны. Калі яшчэ прыедуць.

Я тут распачаў аднова атаку на Годры ізь сьпеўнікам. Словы рэлігійных песьняў ужо адбітыя. Горш будзе, калі сьпеўнік будзе гатовы й ня будзе, чым заплаціць. Частка грошай "Б[цькаўшчы]ны", што былі ў Бруксэльскім банку, Жучка распусьціў. Такім чынам, ня маем грошай ні ад Шчэцькі, ні ад Жука, і сядзім на бабох. Я таксама гэта ўсё кіну к ліху, бо ўжо ня маю грошай на цягнік.

Учора прыехала ўжо Людміла Войтэнка[60]. Я некалі зьбіраўся ў Амэрыку ехаць, але яна мне расказала аб жыцьці й "дзейнасьці" нашых Беларусаў там, дык гэта нават не саладуха, а горшае нешта ад палескае дрыгвы. Такім чынам у мяне адпала ахвота ад эміграцыі ў ЗША. У радыя ў Мюнхэне[61] не прыймаюць, а ў інстытуце[62] ўжо звольнілі 8 асобаў, у тым ліку і Ляўковіча[63]. Што рабіць далей — ня ведаю. У Аўстралію варочацца навет і ня думаю. Такім чынам апынуўся зь нічым. Магчыма, што з болем сэрца прыдзецца варочацца ў Аўстралію дзеля бацькоў. Бо, брат, я апынуўся пры разьбітым карыце.

Вітай там усіх у хаце. А пакуль што трымайся, бо мне няма за што.

Бакуновіч.

---

і асуджаны на шэсьць гадоў турмы. Падчас нямецкай акупацыі кіраўнік Беларускай народнай самапомачы на Наваградзкую акругу. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. Пры канцы 1940-х гг. выехаў у ЗША. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, Згуртаваньня беларускіх ветэранаў і епархіяльнай Рады БАПЦ. Ад 1957 г. намесьнік Прэзыдэнта Рады БНР. Пакінуў успаміны, выдадзеныя ў Менску (2011).

59 **Часлаў Сіповіч** (1914—1981), рэлігійны дзеяч, стваральнік беларускага рэлігійна-грамадзкага асяродку ў Лёндане, ад 1960 г. грэка-каталіцкі біскуп.

60 Людміла Войтанка стала жонкай Уладзімера Бакуновіча.

61 Маецца на ўвазе беларуская рэдакцыя радыё "Вызваленьне" ў Мюнхэне, якая пачала сваю працу ў 1954 г.

62 Маецца на ўвазе Інстытут вывучэньня гісторыі й культуры СССР у Мюнхэне.

63 **Ніканор Ляўковіч** (1922—1993), брат Ніны Абрамчык, жыў у Мюнхэне.

Лювэн, 17.4.62.

Здароў, Янка!

Я тут, брат, узяўся давесьці сьпеўнік да канца. Але баюся, што нічога не атрымаецца. Атрымаў ад Шчэцькі ліст, дзе ён падае ўсе прыходы і выдаткі, што тычыцца сьпеўніка. І як выглядае паводле яго, дык у касе атрымаўся дэфіцыт. Ён кажа, што мае яшчэ грошы з "Наперад", але яны ня маюць нічога супольнага зь сьпеўнікам. Філязофія гэта ўся выглядае ня толькі камічна, але проста дурна. Калі "Наперад" ня мае нічога супольнага зь сьпеўнікам Равенскага, дык што я маю супольнага і чаму павінен бегаць, як дурань? Тут быў Марговіч у прошлым тыдні, дык я яму даў прачытаць ліст Шчэцькі, ведаючы, што Марговіч у тую касу вінават добрую порцыю. Марговіч мне катэгарычна сказаў, што я ня маю ніякага права дамагацца грошаў з "Наперад" на сьпеўнік, бо гэтыя грошы ёсьць уласнасьцю некалькіх чалавек, у тым ліку й Марговіча. Я ніколі гэтых грошаў не дамагаўся й ня ведаў, што яны ёсьць. Я зьвяртаўся да ўсіх папарадку за дапамогаю, і адказ Марговіча мне не падабаўся. Цяпер, як апошняе, рашыў зьвярнуцца яшчэ да Цябе. Згодна кантракту, мы мусім яшчэ заплаціць для *Godry* 18500 фр[анкаў]. Дзе ўзяць грошы? Да таго-ж ня я і ніхто іншы тут ня ведае, які мае быць тыраж. Калі тыя грошы з "Наперад" ёсьць (на паперках), дык было-б добра, каб Шчэцька пасьцягваў іх ад тых, каму панадаваў, і перавесьці на сьпеўнік. Ты як сябра 12-кі[64] можаш там забіраць голас ці выносіць нейкую пастанову, чаго я не магу зрабіць. Альбо меней з тым, скуль гэтыя грошы будуць, галоўна, каб у нас сьпеўнік выйшаў. Я тут даволі пабегаўся *Godry* — пэр і назад. Дайшло, што нарэшце пэр узяўся за карэкту. Калі ён карэкту кончыць, дык што далей? Хто падпіша вэксэль, каб пусьціць сьпеўнік у друк? Я думаю, што ўжо даволі выдаў Войтанкавых[65] грошаў, каб

---

[64] **"Дванаццатка"** — група беларускай моладзі, што ў 1948 г. паехала зь Нямеччыны ў Вялікабрытанію працаваць у капальнях, каб зарабіць на навучаньне. З Брытаніі большасьць хлопцаў пастуіпіла ў Лювэнскі ўнівэрсытэт у Бэльгіі. Ад 1948 г. сябры "Дванаццаткі" выдавалі часопіс "Наперад!". Падрабязьней пра гэта можна знайсьці ў кнізе Янкі Запрудніка "Дванаццатка: Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1946—1954 гг.)" (Нью-Ёрк, 2002).

[65] Маецца на ўвазе **Віктар Войтанка** (на эміграцыі **Васілеўскі**, 1912—1972), грамадзкі й рэлігійны дзеяч, лекар. Скончыў мэдычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу. Падчас нямецкай акупацыі быў бурмістрам Баранавічаў. Удзельнік Беларускага царкоўнага сабору. Ад 1943 г. акруговы лекар у Слоніме, у 1944 г. доктар-інспэктар Беларускай краёвай абароны. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945—1949 гг. жыў у паўднёва-заходняй Нямеччыне (Бадэн-Вюртэмбэрг, француская зона акупацыі). Удзельнік зьезду беларускіх сьвятароў і грамадзкіх дзеячаў, прыхільнікаў Рады БНР (5 чэрвеня 1948 г.), на якім

давесьці памятнік Равенскаму да канца й да гэтага часу на сьпеўнік. Цяпер я рашыў напляваць на ўсе патрыятызмы, будуць грошы — буду варушыць яго наперад, а не — дык хоць трава не расьці. Разумею, што Марговіч разявіў горла, бо ня хоча доўг сплачваць. Але не разумею, чаму гэта я павінен дабівацца аднекуль нейкіх грошаў і чаму я павінен сварыцца з кажным трутням тыпу Марговіча?

Вось-жа я прапаную, каб ты там дагаварыўся з Шчэцькам і зь Мюнхэнам, ці хоць з чортам, і каб дастаў грошы на сьпеўнік. Я зрабіў, што мог, і на гэтым кропка. Што адносна сьпеўніка, дык гэта ёсьць мой апошні ліст, бо ня варта дурыць галаву людзям і забіраць свой час справамі, якія ад мяне зусім не залежаць і за якія я ня маю абсалютна ніякае адказнасьці. Далей рабіце, што хочаце.

Стрэчынь[66] перадае "дзякую" за вельмі прыемны ліст ад Цябе (мне не сказаў, што за ліст, толькі хваліўся, што вельмі цікавы й добры ліст). Таксама перадае прывітаньне Табе зь сям'ёю. Дом на Гувэры[67] зруйнаваны. Будуюць ужо новы. Пэра ўдома няма, паехаў недзе на францускую граніцу. Як быў у хаце, дык як сядзіш на карку, дык робіць карэкту, а выйдзеш ад яго, дык ён і кідае. Потым, як я пакінуў яго падганяць, дык сьпеўнік ляжыць пад самым сподам на стале, а на вярху кучы папераў. Зрэштаю, тым сталом ён не карыстаецца ўжо, бо немагчыма прыступіцца.

Рэшта ўсё старына. Я зрабіў фотакопію Літургіі Равенскага, бо з друкам нічога ня будзе. Сабе трымаю для архіваў маіх. Жучка жыве ў Бруксэлі, чакае насьледзтва. Рэшта ўсё старына. З дактарату я зрабіў тры шапітры, астаецца яшчэ 2 й тэзісы. Бачу, што калі кончу ў гэтым годзе, дык не спраўлюся выдрукаваць.

На гэтым канчаю. Прывітаньне Олі й дочкам ад нас абаіх.

Вясёлых Вялікодніх Сьвят.

Твой Бакуновіч.

---

была адноўлена БАПЦ. Ад 1950 г. жыў у штаце Нью-Джэрсі, ЗША. Віктар Войтанка быў цесьцем Уладзімера Бакуновіча.

[66] Маецца на ўвазе **Андрэй Стрэчань** (1916—1999), грамадзкі дзеяч. У 1947—1948 гг. працаваў у вугальных капальнях Бэльгіі, непадалёк ад Льежу; тады ж улучыўся ў беларускае нацыянальнае жыцьцё. Адзін з заснавальнікаў Саюзу беларусаў Бэльгіі. У 1955 г. пераехаў у ЗША. Пасяліўся ў Кліўлэндзе. Актыўны будаўнік першай кліўлэндзкай царквы БАПЦ і Беларускага грамадзкага цэнтру "Полацак". Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва Кліўлэндзкага аддзелу арганізацыі. Шматгадовы прадстаўнік газэты "Беларус" у Кліўлэндзе.

[67] Відаць, маецца на ўвазе Беларускі студэнцкі дом, што знаходзіўся ў Лювэне на *Hoover Place, 19*.

Лювэн, 26.9.62

Дарагі Янка!

Ад некалькі тыдняў зьбіраюся напісаць Табе ліста, ды з часам ніяк ня мог сабрацца. Справа ў тым, што а. Робэрт мае ехаць у Рым на каталіцкія “кучкі”[68], гэта мае зацягнуцца пару месяцаў. Здаецца, ён гаварыў, што выядзе на тры месяцы. А я ў міжчасе стараўся кончыць мой 4-ы шапітр і аддаць прафэсарам. Ясна, што пэр папраўляе, і таму сьпяшу. Цяпер я нажаў на пэра, каб нешта рабіў зь сьпеўнікам, бо запраўды, сорамна ўжо. У наступным годзе прыпадаюць 10-ыя ўгодкі сьмерці Равенскага, і трэба было-б нарэшце выдаць зборнік. Пару вечароў я сам сядзеў і падпісваў словы пад ноты. Зрабіў ужо нейкую чацьвёртую частку сьпеўніка. Нарэшце і я ўпёрся ў труднасьці: няма арыгіналаў із словамі. Як набіралі словы ў Мюнхэне, дык недзе там і выкінулі. Цяпер маем адбіткі нотаў і словаў, а таксама й партытуры Равенскага. Аднак большасьць гэтых песьняў ня згодныя з партытурамі Равенскага таму, што ён іх перарабляў. Зрэштаю, тыя песьні, што згодныя з партытурамі — мусіць вазіцца зь імі калі не спэцыяліст, дык прынамсі чалавек, што знае ноты, а ня такі знаток, як я. Гэта работа была-б для пэра, але й да гэтага часу ён ня ўзяўся нават. Усё корміць “заўтракамі”. Нарэшце сказаў, што забярэ з сабою ў Рым і там у міжчасе будзе “працаваць”. Фактычна ён хоча забраць усё з сабою, бо я хацеў “пастрашыць”, а фактычна падагнаць яго, і сказаў, што калі не прыступіць да апрацоўкі зборніка, дык будзем вымушаныя аддаць усё ў Мар’ян Гаўз[69], а ведаеш, якія пэр мае “пачуцьці” да Мар’ян Гаўз’у. Праўда, у Мюнхэне ў нас гутарка была аб тым, каб перадаць усё ў Лёндан. Сянькоўскі[70] й цяпер яшчэ мае зь імі “перагаворы”, а паколькі ўсё ідзе ў лістах, дык зразумела, цягнецца ўсё, як каўчук. Найгоршая справа, што апрача мяне ніхто не падганяе пэра. Нядаўна, будучы ў Мюнхэне, я прыпамінаў Цьвірку, дык той як разявіўся на мяне, што, мол, ён ужо некалькі лістоў напісаў да пэра ў справе сьпеўніка. Як вылязла потым, дык ён нават і ня зьбіраўся

[68] **“Кучкамі”** на Беларусі называлася габрэйскае сьвята **Сукот** (ад іўр. — шалаш, кушчы) — сямідзённае сьвята ў памяць аб бадзяньнях габрэяў па пустэльні пасьля выхаду з Эгіпту.

[69] **Марыян Хаўз** (Марыйскі дом — *Marian Haus*) — будынак на *Holden Avenue, 12* у Лёндане, дзе ад 1947 г. месьцілася Беларуская каталіцкая місія ўсходняга абраду. У Марыян Хаўз ад пачатку 1950-х гг. сталі збіраць бібліятэку й архівы, што паклалі пачатак будучай Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны.

[70] Юры Сянькоўскі таксама быў выпускніком Лювэну, пасьля сканчэньня якога працаваў у беларускай рэдакцыі радыё “Вызваленьне / Свабода” ў Мюнхэне.

пісаць. Зрэштаю, пайшоў ён сьлядамі Гіцкага[71], дык ня мае часу ўзяцца за нешта паважнейшае. Я, брат, запашуся тут цярпелівасьцяй і памалу націскаю. Веру, што ў наступным годзе сьпеўнік выйдзе, затрымка толькі ў грашах. Вось, браток, для Цябе заданьне (баявое): зрабі, што хочаш, але каб Шчэцька грошы прыслаў на мяне, бо выслаўшы на пэра, дык ён іх праесьць із сваімі нэграмі і флямакамі ў італьянскім рэстаране. Некалі мне Шчэцька адказаў, што ён ніякіх грошаў на сьпеўнік ня мае, а тое, што ён мае, гэта грошы "Наперад", даўшы адначасна намёк, што я ня маю права іх дамагацца. Слухай, брат, гэта не падыход да справы. Для сябе я наагул ніякіх грошаў не дамагаюся. А тыя, што ён мае тэарэтычна, — гэта не ягоныя, і ён гэтыя грошы мусіць аддаць. Ты ёсьць адзін із лідэраў дванаццаткі, дык, калі ласка, слова за Табою. Думаў пагаварыць зь Цьвіркам, але не ўдалося. Таму пішу да Цябе, а не да Шчэцькі. Я тут наезьдзіў ужо да Годры 480 фр[анкаў] ($9), думаю, што вы там таксама не раскідаецеся далярамі (зарабіўшы іх), дык чаму я павінен аплачваць усё грашамі цесьця? Даволі часта ў мяне пэсымістычны настрой. Жучка жыве ў Бруксэлі, мае аўта сваё, мае тэлефон, прычым у суботу не працуе. А я мушу пёрці, як дурань, зь Лювэну, каб застаць Годрага ў сыботу перад абедам. Жучка гэтага зрабіць ня можа, бо мусіць ехаць у Антвэрпэн да цёшчы (жонка бяз маткі ня можа жыць). Зразумела, калі-б тут нікога ня было, апрача мяне, дык чалавек маўчаў-бы і цягнуў-бы спакойна, але бачыўшы, што ёсьць тыя, што знаходзяцца ў лепшых умовах, і яны мусілі-б рабіць, а ні халеры ня робяць, дык мімаволі рукі ападаюць.

Таксама трэба было-б атрымаць ад Шчэцькі, ці ня ведаю, дзе гэта ўсё знаходзіцца, гэта ліста ахвярадаўцаў на зборнік і іхныя адрасы (калі ёсьць). Бо я мусіў спэцыяльна езьдзіць да Годрага, каб паглядзець кантракт, якія там стыпуляцыі[72], а арыгінал ляжыць у Шчэцькі. А цяпер што да цаны: у кантракце стаіць, што мы павінны заплаціць Годраму, калі будзе на звычайнай паперы 72 грамы 1000 эгз[эмпляраў] — 32 франкі штука; калі 2000 эгз[эмпляраў] — 19,7 фр[анкаў], калі 3000 эгз[эмпляраў] — 16 франкаў штука. Калі на люксовай паперы (90 грамаў): за 1000 эгз[эмпляраў] — 34 фр[анкі], 2000 эгз[эмпляраў] —

[71] Маецца на ўвазе **Ўладзімер Дудзіцкі** (сапр. **Гуцька**, на эміграцыі **Гіцкі**, 1911 — пасьля 1976), літаратар, публіцыст, грамадзкі дзеяч. У 1949 г. выехаў у Вэнэсуэлу, дзе заснаваў Згуртаваньне беларусаў у Вэнэсуэле. Працаваў у Інстытуце сельскай гаспадаркі. У 1956—1962 гг. кіраўнік беларускай рэдакцыі радыё "Вызваленьне" ў Мюнхэне. Пазьней жыў у ЗША. Уладзімер Дудзіцкі меў праблемы з алькаголем, таму выраз "*пайсьці сьлядамі Гіцкага*" трэба ўспрымаць як заўвагу, што чалавек (у гэтым выпадку Ўладзімер Цьвірка) пачаў піць.

[72] ***Stipulation*** (фр.) — умова.

21,7 [франкаў] за паасобнік; калі 3000 эгз[эмпляраў] — 18 франкаў за паасобнік. Як па Твоему, што лепей рабіць? Зразумела, што першая ўмова, гэта трэба мецьгэтыя грошы, але я думаю, што яны будуць, бо калі не, дык я кіну ўсё й перастану дурыць галовы іншым. А таксама якую цану ставіць? Я думаю, што мінімум гэта будзе $2. Што Ты на гэта? Я вельмі добра разумею, што ў Цябе таксама з часам не раскошна, але пастарайся, можа, падчас працы дастаць Шчэцьку тэлефанічна і "падахвоць" яго паварушыцца.

Я да нікога болей ня пішу, бо ня маю часу, ды й з грашыма справы дрэнь, цесьць не працуе, дык нас папярэдзілі, каб трымаліся скупа. У прошлым тыдні пэр выйшаў з шпіталю, ён сказаў, меў апэрацыю. Нешта ў жываце выразалі. Перад тым, як пайсьці ў шпіталь, ён сказаў, што едзе ў Рым. Зрабіў гэта спэцыяльна, каб яму не надакучалі з візытамі. Меў рацыю. Прычым не гаворыць, што выразалі. Кажа, я спаў і ня ведаю, што выразалі. Хто яго ведае, можа меў аборт, як Ты думаеш? Цяпер ён нешта пахудаў. У шпіталі сказалі, што мусіць пахудаць мінімум 8 кг, але ведаеш, гэта не зь ягоным апэтытам худаць. У мяне ўсё ОК, галоўнае ўжо зроблена. Канчаю 4 шпітар, а ўсіх пяць. Прычым палавіна пятага ўжо зроблена. Некалі ня меў матарыялу, каб прадаўжаць 4-ы, дык узяў рабіць 5-ы, каб ня траціць часу. Спадзяюся кончыць першую рэдакцыю да Калядаў. Спадзяюся недзе ў лютым ці сакавіку абараніць. А як там справы ў Цябе? Ня толькі з дактаратам, але наагул. Нядаўна тут быў Сенькоўскі (прадаўжаў свае паперы[73]), дык наракае, што Цьвірка з Марговічам папіваюць у кантыне за дарогаю, бо тут забаранілі прадаваць алькаголь. Марговіч там працуе часова. Вось гэта было-б усё на сёньня. Мне з Аўстраліі прыслалі маю машынку. Я як ехаў у Лювэн, дык баяўся браць яе з сабою, дык цяпер каштавала ім пару фунтаў перасылка. Мусіў тут чысьціць яе, але галоўна, што піша. Вітай ад нас сям'ю, таксама Кіпеляў[74] і Шчэцьку. Экстра прывітаньне Адамовічу[75].

Твой Валодзя.

---

[73] Як і іншыя беларускія студэнты ў Лювэне, Юры Сянькоўскі меў афіцыйныя паперы пасьведчаньня асобы (пасьведчаньне аб грамадзянстве, праязны дакумэнт), выдадзеныя ў Бэльгіі, і мусіў іх пэрыядычна абнаўляць да часу атрыманьня ўжо нямецкага грамадзянства.

[74] Зора Савёнак і Вітаўт Кіпель таксама скончылі Лювэнскі ўнівэрсытэт. Ад 1956 г. яны жылі ў ЗША, дзе ажаніліся.

[75] **Антон Адамовіч** (1909—1998), грамадзкі дзеяч, літаратуразнавец, гісторык, публіцыст, літаратар. Ён быў выкладчыкам Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў Рэгенсбургу, дзе вучыўся Ўладзімер Бакуновіч, як і Янка Запруднік. Гэтым і тлумачацца "прывітаньні".

Лювэн, 11.1.63.

Дарагі Янка!

Атрымаў Тваіх два лісты, а не адпісаў, бо ня было чым хваліцца. З другога боку, з часам таксама ўжо ня надта раскошна, бо цяпер рыхтую ўжо маю тэзу да друку, дык стараюся перабіць на чыста, бо трэба, каб прафэсары аксэптавалі — тады можна будзе прыступаць да друкарскае справы. Асталася мне яшчэ старонак паўсотні перабіць на машынцы, а там будзе затрымка за прафэсарамі. Сьпяшу, бо хочу недзе ў красавіку абараніць, каб у маі ці хутка пасьля выяжджаць у Амэрыку. Мне ўжо Лювэн надаеў.

У міжчасе сядзеў таксама над зборнікам Равенскага. Цяпер ужо галоўнае зробленае. Фактычна, затрымка за Годрым. Таксама хочу, каб да майго выязду ў Амэрыку зборнік пабачыў сьвет. Ведаю вельмі добра, што калі я гэтага тут не зраблю, дык зборнік будзе ляжаць наступных сем гадоў, калі ня боляй. Хлапцы з Мюнхэну ня змогуць прыяжджаць сюды з мэтаю рабіць карэкту ці нейкія праўкі, а нашыя бруксэльцы: Арэшка[76], Жучка[77] і Саўка[78] нават нічым і ня цікавяцца. Наракаюць заўсёды толькі, што перамучаныя на працы. Такім чынам, прыходзіцца аднаму спраўляцца. Пэр мне некалькі разоў абяцаў, што, будучы

---

[76] Аляксей Арэшка ад 1957 г. працаваў у фармацэўтычнай фірме “*Labaz*” як кіраўнік групы хімікаў у галіне пошуку сінтэзу лекаў ад сардэчна-сасудзістых захворваньняў. Аўтар дзясятка навуковых артыкулаў у спэцыялізаваных бэльгійскіх і францускіх часопісах. Удзельнік шматлікіх міжнародных навуковых кангрэсаў.

[77] Янка Жучка працаваў у галіне сталёвых канструкцый, ад 1968 г. у інфармацыйным цэнтры па выкарыстаньні сталі ў будаўніцтве. У 1968—1985 гг. працаваў у рэдакцыі міжнароднага часопісу “*Acier — Stahl — Steel*”. Аўтар мноства артыкулаў у галіне сталёвых канструкцый. Ад 1985 г. займаў пасаду дарадцы ў сваёй спэцыяльнасьці, чытаў лекцыі й праводзіў канфэрэнцыі для інжынэраў і архітэктараў.

[78] Маецца на ўвазе **Міхась Саўка-Міхальскі** (1927—1990), мастак, рэстаўратар, грамадзкі дзеяч. У 1951—1955 гг. навучаўся на факультэце археалёгіі й гісторыі мастацтва Лювэнскага ўнівэрсытэту (Бэльгія). Па атрыманьні дыплёму ўладкаваўся на працу мастаком-рэстаўратарам у Каралеўскі інстытут мастацкае спадчыны ў Брусэлі. У 1969 г. пасьля адпаведных экзамэнаў заняў пасаду адміністрацыйнага сакратара, а ў 1982 г. — кіраўніка працаў інстытуту. Выяжджаў на археалягічныя раскопкі ў Грэцыю, Турцыю, Алжыр. Дзякуючы выдатным вынікам працы атрымаў прызнаньне бэльгійскіх мастацкіх колаў і быў пакліканы ў каралеўскі палац, дзе вучыў каралеву маляваньню й рэстаўрацыі. Быў спэцыялістам у старажытным насьценным росьпісе, распрацаваў спэцыяльную тэхніку рэстаўрацыйнага працэсу; тэарэтычныя асновы й практычныя рэкамэндацыі асьвятліў у шэрагу публікацыяў. За заслугі ў галіне рэстаўрацыі быў уганараваны званьнем Кавалера Ордэна Кароны.

ў Бруксэлі, пад'едзе ці патэлефануе да Годры, але далей абяцанак не пайшло. Запраўды некалі хацеў пакінуць усё, а ўзяцца шчыльней за тэзу. Потым перадумаў, што гэта найлягчэй, што можна зрабіць. Зрэштаю, нехта павінен цягнуць. Відаць, Шчэцька, таксама, як і пэр, — далей абяцанкі ня можа рушыць.

Што да статыстычных даных, дык я карыстаюся савецкімі зборнікамі народнага хозяйства СССР з 1959 году, з 1960 году, з 1961 году і бюджэтам СССР і бюджэтамі саюзных рэспублік. Вось паводля гэтых зборнікаў раблю мае вылічэньні. Гэтыя зборнікі, напэўна, мае Кіпель.

З Конюхам[79] у Бруксэлі мы спаткаліся. Першы раз я быў з пэрам. Потым былі ўсе бруксэльцы нашыя, а таксама й пэр. Другі раз я ня езьдзіў — ня было чаго. Паміж іншага, хлопцы з Бруксэлі асталіся незадаволеныя Конюхам: пасьля вячэры хацелі схадзіць зь ім разам на піва, і Конюх адмовіўся, бо ў гатэлі ягоная брація арганізавала папойку, дык ён не хацеў упусьціць водачку. Магчыма, аб гэтым нічога там успамінай Конюху. Бо Жучка, Саўка і Арэшка чуюцца, што Конюх хацеў спаткацца зь імі на гвалт, а потым прамяняў іх на расейцаў і на расейскую водку[80]. У гэтым яны, зрэштаю, маюць паўнейшую рацыю. Думаю, што наступным разам, як Конюх прыедзе ў Бруксэлю, а ён мае прыехаць з хорам недзе ў сакавіку, дык брація да яго болей не паедзе.

18.11.63 у нас радзілася дачушка Натальля, завём проста Натка, дык у хаце ўжо болей шуму й меней часу ўжо ёсьць, бо трэба то пакупаць, то пазабаўляць. А то проста немагчыма працаваць, бо стол заняты — трэба перапеляноўваць яе. Вітай сям'ю ад нас. Сэрвус[81]!

Твой Валодзя.

Самэрсэт, 7.11.67.

Дарагі Янка!

Цешуся, што яшчэ адзін паважна бярэцца за справу выданьня сьпеўніка. Да гэтага часу я адзін пісаў і да Жучкі, і да Сенькоўскага, і праз цэлых тры гады пісаніны я нават не атрымаў парадачнага адказу. Фактычна кончылася тым, што яшчэ чакаю — а можа... Жучку я пісаў дакладна, у якім стане я пакінуў сьпеўнік Равенскага, але калі ён пайшоў

---

79 **Пётра Конюх** (1910—1994), грамадзкі дзеяч, сьпявак. У 1951 г. скончыў Рымскую акадэмію мастацтваў, Пазьней цягам доўгіх гадоў быў удзельнікам хору данскіх казакоў пад кіраўніцтвам Сяргея Жарава. Езьдзіў з гастролямі па Эўропе й Амэрыцы.

80 Маецца на ўвазе тое, што Пётра Конюх выступаў у хоры данскіх казакаў і слухачамі найбольш была менавіта расейская публіка.

81 **Сэрвус** — разьвітаньне лацінскага паходжаньн, ад *servus humillimus, domine spectabilis* — "*пакорлівы раб майго гаспадара*". Сёньня мае значэньне "*да тваіх (Вашых) паслугаў*" або выкарыстоўваецца як простае разьвітаньне кшталту італійскага "*Ciao*".

да Годрага — усяго, што там знайшоў, гэта памылку ў маёй французкай мове. Маладзец, што й казаць! Затое не пацікавіўся, відаць, дастаць у Годрага тую карэкту, што я рабіў.

Будучы ў Лювэне, я быў пастанавіў сабе выдаць сьпеўнік Равенскага на 10-я ўгодкі ягонае сьмерці. Годры зрабіў мне быў адную адбітку нотаў — я іх праверыў разам з а. Робэртам. Потым на кірылічнай машынцы пападпісваў пад нотамі словы так, як яны павінны былі быць згодна арыгіналу, а каб быць пэўным, што там не натварыў "цудаў", яшчэ раз праверылі разам з пэрам. Такім чынам, там уся праца кончана, і няма што болей рабіць. Тут далучаю адную старонку Табе, каб мог сам пераканацца, ці там патрэбны яшчэ рукапіс. Гэтую старонку я ўважаў папсутаю, бо чалавек, незнаёмы із славянскай моваю, можа не даперці. Можаш зразумець, наколькі там усё чысьценька і акуратненька зроблена. А калі цяпер Годры хоча дастаць рукапіс, дык толькі дзеля таго, што замяўшы ў сябе рукапіс — мы будзем вымушаныя заплаціць тую цану, якую ён ад нас зажадае, каб выдаць гэны сьпеўнік. Прычым рукапіс рэлігійных песьняў забраў з сабою сп. Кіслы[82] й карэкту нотаў, а таксама падпісваньнем словаў займаўся, фактычна, а. Робэрт. Казаў, што ўсё зроблена без памылак. Словы ён падпісваў ад рукі, а потым я перапісваў на машынцы, і зноў ён правяраў. Апошнія 2 тыдні перад маім ад'ездам у ЗША Годры проста мяне вадзіў за нос. Усё казаў *"учора выслаў"*, *"заўтра пасьля абеду вышлю, бо мой сакратар забыўся"*, *"ах, шкада, зноў забыўся выслаць"*. Я ўжо адсюль пісаў Жучку й Сенькоўскаму, каб дасталі ў Годрага яшчэ адну адбітку й забралі тую, што я падпісаў словы, і ўсё гэта каб пераслалі мне сюды, а я адразу пусьціў-бы іх у друк. Я радзіў, каб Жучка зьвярнуўся да Годрага й сказаў, што гэны чалавек, які рабіў карэкту, ня мае ніякага паняцьця ў нотах, і няхай Годры зробіць яшчэ адну адбітку й дасьць тую адбітку, дзе я падпісваў словы, і на гэтым забывай, Годры, як звалі. Да гэтага часу, як ведаеш, нічога не зрабілі, што адносіцца сьпеўніка, ні Юрка, ні Жучка.

Рукапіс народных ці сьвецкіх песьняў знаходзіцца ў мяне. Цяпер раблю фотакопіі. Трэба сказаць, што гэты рукапіс уцалеў цудам. Некалі пры нагодзе раскажу.

На гэтым канчаю. Вітай сям'ю ад нас.

Дык трымайся!

Твой Валодзя.

---

[82] **Кастусь Кіслы** (1898—1980), грамадзка-культурны дзеяч, хормайстар. Перад вайной і падчас яе арганізоўваў беларускае культурнае жыцьцё ў Беластоку. З 1944 г. — на эміграцыі. Ад 1948 г. — у Бэльгіі, працаваў у вугальных капальнях. Пасьля сьмерці кіраўніка лювэнскага Беларускага студэнцкага хору М. Равенскага быў запрошаны дырыгаваць хорам. У траўні 1956 г. прыехаў у ЗША. Жыў у Кліўлэндзе. Кіраўнік беларускіх музычных калектываў і драматычнага гуртка ў Кліўлэндзе. Увосень 1976 г. выехаў да дачкі ў Польшчу. Жыў у Беластоку.

21 чэрвеня 1971.

Дарагі Янка!

Зацягнулася ў мяне з высылкай абяцаных часапісаў. Злажылася гэтак, што прыехалі зь Нью Ёрку даволі позна, і мне ня было ўжо як клікаць сп. Віцьбіча[83], каб ён пераслаў Табе часапіс. Прышлося чакаць, пакуль не прышле. Цяпер высылаю Табе ўсе 4 нумары за 1970 год. Першы нумар за 71 высылаю сп. Віцьбічу з тым, што ён Табе перашле. Пастарайся не трымаць месяцамі, як гэта робіць сп. Віцьбіч. Калі маеш магчымасьць у радыё[84], дык пафатаграфуй, што Цябе цікавіць.

Што Ты думаеш, каб у Фундацыі Крэчэўскага[85] зрабіць бібліятэку беларусаведы. Думаю, што многія нешта далі-б. А ў будынку можна было-б адпусьціць адзін пакой на бібліятэку, і зборкі там маглі-б адбывацца, як і да гэтага часу. Я, напрыклад, аддаў-бы гэтыя часапісы для бібліятэкі.

Я сяньня атрымаў ліст ад Жучкі з Зальцбургу (Аўстрыя). Цяпер ён зьяўляецца галоўным рэдактарам тэхнічнага (?) часапісу[86] й паехаў у Аўстрыю на кангрэс. Але ня піша, што за кангрэс і што за часапіс. Думае, што я знаю, а, магчыма, некалі зьбіраўся мне аб гэтым напісаць. Падаў мне свой новы адрас. Дык тут перасылаю й Табе.

Прывітаньне Табе зь сямейкаю ад нас.

Ул. Бакуновіч.

П. С. Папрасі ад мяне спадарыню Бартуль[87], каб пасьпяшыла выслаць мне пратакол Кангрэсу БАЗА[88] — іначай доўга зацягнем.

---

[83] **Юрка Віцьбіч** (на эміграцыі **Юры Стукаліч**, народжаны як **Серафім Шчарбакоў**; 1906—1975), грамадзка-культурны дзеяч, пісьменьнік. З 1949 г. жыў у ЗША. Друкаваўся ў беларускім і расейскім пэрыядычным друку, у тым ліку ў *“Новым русским слове”*. Супрацоўнічаў з Радыё “Свабода”.

[84] Янка Запруднік ад канца 1950-х гг. да 1991 г. працаваў у нью-ёрскай рэдакцыі радыё “Вызваленьне” (“Свабода”).

[85] **Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага** была заснаваная ў Нью-Ёрку ў 1958 г. з мэтай падтрымкі беларусаведных дасьледаваньняў. У лістападзе 1964 г. фундацыя змагла набыць некалькі будынкаў, дзе меліся разьмясьціцца бібліятэка, архіў, грамадзкая заля для імпрэзаў.

[86] Маецца на ўвазе часопіс *“Acier-Stahl-Steel”*.

[87] **Вера Бартуль** (1922—2006), грамадзкая дзячка, жонка Франціша Бартуля. Ад 1956 г. жыла ў Нью-Ёрку. Працавала як мадэлька, пазьней як мэнэджар кампаніі модаў. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у 1960—1970-я гг. была старшынёй жаночай сэкцыі арганізацыі.

[88] Маецца на ўвазе 14-ы Кангрэс Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, які адбыўся 30 траўня 1970 г. у Брукліне.

*Roseville, Michigan*,
9 чэрвеня 1981.

Дарагі Янка!

На пачатку гэтага месяца напісаў Табе даволі доўгі ліст і ўлажыў чэк на 20 даляраў — падпіска на газэту “Беларус”[89]. Выслаў ліста на Твой адрыс, што мне быў вядомы. Уважаў, што людзі гэтак ужо адрасоў не мяняюць. Хутчэй мяняюць нумар тэлефону. Памыліўся, бо ўчора ліст мой вярнуўся назад із штэмплям паштовым, што тэрмін на перанакіраваньня лістоў на новы адрас кончыўся. Думаў, браце, што рабіць? Калі Запруднік зьмяніў адрыс, дык чаму ня можа гэтага зрабіць сп. Адамовіч? Ажно стрэліла думка: ану-ж пашлю на Фундацыю Крачэўскага. Можа яшчэ не прадалі. Гэтак і раблю.

Вось-жа, дружа, хіба аб маіх прыватных праблемах чуў[90]. Напэўна, нічога добрага аба мне не пачуў. На маё шчасьце, так яно ня ёсьць. Чуюся добра і ў найлепшым здароўі. Але аб гэтым пагаворым калінебудзь пры спатканьні. Шкадую часам, што не паехаў у Мюнхэн, як калісьці сп. Адамовіч прапанаваў — магчыма, да гэтага не дайшло-б, але, з другога боку, зноў-жа, дзеля гэтае самае прычыны я выяхаў зь Нью Джэрзі, і нічога не зьмянілася. Аднак гэта ўсё ёсьць прошлае, і “*после бою кулакамі не машут*”. Жывёліна астаецца жывёлінаю, і з гэтым трэба пагадзіцца.

Вось напішы крыху аб сабе: чаму зьменены адрас? Калі купіў сабе іншую хату, дык, напэўна, купіў нешта лепшае. Што праўда, папярэдняе хаты я таксама ня бачыў. Што чуваць на беларускай ніве? Вось ужо два зь лішнім гады, як я адыйшоў. Спадзяюся, што ня будзеш кідацца да канклюзыі[91] на зламаньне карку. На гэта ёсьць паважныя прычыны. Калісьці я ўмеў прыпісваць лякарства чужым хваробам, а калі прышлося да сябе, дык розуму бракавала.

Я маю тры тыдні вакацыяў у гэтым годзе. Думаў паехаць у Мюнхэн спаткацца зь сябрамі ці ў Англію. Да гэтага часу ня вырашыў і так сяджу, пакуль што, на месцы.

Калі маеш у запасе, дык прышлі хоць пару папярэдніх нумароў “Беларуса”. Прышлі таксама адрасы Цьвіркі і Сенькоўскага. Хто яго знае, магчыма, спаткаюся зь імі.

Цікава, ці зьмена адміністрацыі ў Белым Доме[92] зрабіла зьмену ў праграмах радыя “Свабоды”? Ці гэта яшчэ захутка на нейкія зьмены?

---

[89] У 1981—1995 гг. Янка Запруднік быў галоўным рэдактарам газэты “Беларус”.

[90] Уладзімер Бакуновіч, прыраўнаваўшы жонку да Яна Бруцкага, быў змушаны сысьці зь сям’і. Прыватны скандал меў вялікі грамадзкі розгалас.

[91] ***Conclusion*** (фр.) — тут: высnова.

[92] У 1991 г. у Белым доме зьявіўся новы, 40-ы прэзыдэнт ЗША рэспубліканец

Думаю, што на першы раз гэта хопіць. Спадзяюся, што ня будзеш марудзіць з адказам. Укладаю гэтта той самы чэк, што ўжо раз быў выслаў. Магчыма, гэтым разам ня вернецца.

Дык прывітаньне сям'і і нашым супольным знаёмым і сябром. Магчыма, ведаеш адрас, дзе можна было-б заказаць ці купіць гатовую беларускую машынку да пісаньня (кірыліцу). Два гады таму я быў у Аўстраліі, дык Янка Гавеньчык[93] прасіў мяне гэты адрыс. Яму высылаць ня трэба машынкі — ён сам напіша да іх і вышле грошы. Я із-за маіх праблемаў скантактавацца раней ня мог. Але лепш пазьней, як ніколі, сказаў Жыд.

Бывай здароў!

Твой Валодзя.

Розвіл, 19 чэрвеня 1981.

Здароў, Янка!

Далучаю гэтта абяцаныя фотакопіі рэлігійных песьняў М[іколы] Равенскага. Ня ведаю, ці ў Цябе што атрымаецца зь Ягаўдзікам[94], а калі й так, дык Ты ад яго нічога болей не атрымаеш, чым гэта, што я высылаю.

Гэтыя зырокс[95] копіі зробленыя із звычайнае фотакопіі, якую я маю, і, трэба сказаць, што гэтыя фотакопіі выглядаюць лепей, чым мае "арыгіналы".

У мяне асталося яшчэ перафатаграфаваць поўную Літургію, што М[ікола] Равенскі напісаў спэцыяльна для а. Робэрта. Гэты сшыток (32 старонкі), які мае а. Робэрт і ўважае за сваю ўласнасьць, у чым мае слушнасьць. Думаю перафатаграфаваць і выслаць адну копію Табе

Рональд Рэйган (1911—2004).

[93] **Янка Гавенчык** (1921—?), грамадзкі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Самапомачы на Беласточчыне. У 1950 г. прыехаў у Аўстралію. Жыў у Брысбэне (Квінслэнд), дзе спрабаваў наладзіць беларускае грамадзкае жыцьцё. Быў сябрам Задзіночаньня беларускіх вэтэранаў. Каля 1954 г. перабраўся ў Сыднэй, увайшоў у склад Беларускага аб'еднаньня ў Новай Паўднёвай Валіі. Ад часу заснаваньня Беларускага культурна-грамадзкага клюбу быў адным зь яго дырэктараў.

[94] **Мікола Ягаўдзік** (**Ягоўдзік**, 1926--1989), грамадзкі дзеяч. Быў у 2-м Польскім корпусе. У 1946 г. прыбыў у Вялікабрытанію. Быў сябрам ЗБВБ. У 1951 г. выехаў у Бэльгію, дзе скончыў факультэт палітычных і сацыяльных навук Лювэнскага ўнівэрсытэту (1955). Уваходзіў у кіраўніцтва Беларускага студэнцкага згуртаваньня. У 1956 г. перабраўся ў ЗША. Пасяліўся ў Кліўлэндзе, працаваў бухгальтарам. Быў сябрам Рэвізійнай камісіі Кліўлэндзкага аддзелу БАЗА. Узначальваў Згуртаваньне беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў.

[95] Ад анг. ***xerox*** — ксеракс, ксеракопіі.

проста дзеля таго, каб ня зьгінула — болей фотакопіяў на руках — большыя ёсьць магчымасьці, што не прападзе бязь сьледу.

Я выслаў калісьці адную фотакопію для ўладыкі Часлава[96]. Гэтым разам рабіў дзьве фотакопіі нараз, бо думаю перасланць адную для а. Аўгена Смаршчка[97] ў Бэльгію. Калісьці, будучы тут, у Амэрыцы, ён гаварыў, што возьмецца давесьці сьпеўнік да канца. Ня верыў я тады й ня веру цяпер, што ў яго нешта атрымаецца з Годрым. Ты, напэўна, ведаеш сам, што Годры ёсьць чалавек вельмі непаважаны — проста жулік. Гэта якраз мяне прымусіла выкрасьці рукапіс у яго з друкарні. Ня ведаю цяпер, наколькі разумна зрабіў, бо рукапіс сьвецкіх песьняў я маю — ляжыць у "сэйфты дэпозыт бокс"[98] у Дэтройце, а рэлігійныя песьні, я разьлічваю, што прапалі.

Калісьці, як выслаў ліста Табе, я выслаў таксама ліста для Сенькоўскага на адрыс, што Ты мне падаў. Да гэтага часу ад яго я ніякага адказу не атрымаў. Магчыма, што ён быў на вакацыях, але-ж я ня думаю, што ён узяў вакацыі цэлы месяц на раз. Ягонае маўчаньне для мяне павявае пэсымізмам.

Я яму быў паставіў некалькі пытаньняў, каб даў адказ. І, магчыма, із-за гэтага ён не адказвае.

Думаю, што Ты ёсьць добра паінфармаваны і зможаш даць адказ на тыя пытаньні, што я ставіў Сенькоўскаму. Мяне цікавіць, што сталася із Сяднёвым[99], ён ідзе ўжо на пэнсыю ці яго выкідаюць? Калі так, дык чаму? Якое ёсьць супрацоўніцтва паміж працаўнікамі беларускае сэкцыі? Ці няма тае грызьні, якая была із-за часоў Гіцкага[100]?

Я хочу аб гэтым ведаць, бо баюся, што магу ўпасьці, як сьліўка ў "канфітуры".

---

[96] Маецца на ўвазе біскуп Часлаў Сіповіч.

[97] **Аўген Смаршчок** (1914—1984), сьвятар, пэдагог, перакладнік. У 1950 г. скончыў факультэт псыхалёгіі й філязофіі Філіпс унівэрсытэту ў Марбургу. Зь верасьня 1950 г. высьвячаны на ярэя БАПЦ, пераехаў у Лювэн (Бэльгія) для абслугоўваньня рэлігійных патрэбаў мясцовых беларусаў, заклаў парафію БАПЦ. У 1955 г. скончыў Лювэнскі ўнівэрсытэт з ступеньню магістра псыхалёгіі й філязофіі. У 1960-я гг. навучаўся ў Вольным інстытуце філялёгіі й гісторыі ўсходніх славянаў Брусэльскага ўнівэрсытэту, атрымаў ступень магістра славістыкі. У 1965—1980 гг. выкладаў расейскую мову ў Вышэйшай флямандзкай школе перакладнікаў у Антвэрпэне.

[98] ***Safety deposit box*** (анг.) — сэйф; тут, відаць, маецца на ўвазе ячэйка дэпазітарнага захоўваньня ў банку.

[99] Літаратар Масей Сяднёў (1913—2001) у 1968—1983 гг. працаваў у беларускай рэдакцыі Радыё "Свабода", быў яе кіраўніком.

[100] Маецца на ўвазе Ўладзімер Дудзіцкі.

Гэныя тры артыкулы я напісаў. Цяпер астаецца адзін нагаварыць на плёнку. А гэта ўжо і ня ёсьць так проста, бо ўсё маё асталося ў Грос Поінце. Пастараюся не зацягваць.

Ня думаю, што Ты там маеш настолькі вольнага часу, каб усіх задаволіць. Таму, магчыма, зьвярніся да Кіпеля, каб ён дастаў і пераслаў мне імя і адрыс фірмы і адваката, які вядзе справу Бруцкага[101]. Мне ехаць да вас і шукаць ветра ў полі — тыдзень часу будзе мала. Я хочу пачаць пошукі адсюль, з Дэтроіту.

Шкадую цяпер, што я ня ў Нью Ёрку ці ня ў Нью Джэрзі. Каб я там быў, дык падставіў-бы Табе ў помач не адно плячо, а абыдва. "Беларус" за мову пахваліць няможна, і карэкта таксама кульгае. Відаць, што робіцца прыхапкамі. Я тут ня кідаю каменьчык у Твой гарод. Разумею, што "дзеячы" ўгаварваюць *"вазьміся — мы паможам"*, а як узвалілі на плечы, дык усе атрусілі рукі. Але аб гэтым пагаворым некалі пры першым спатканьні.

Цяпер ужо гадзіна позьняя (1:30 пасьля поўначы), дык трэба канчаць, бо заўтра на працу.

Прывітаньні ўсім у хаце, таксама Кіпелям і сп-ру Адамовічу.

Дык трымайся!

Твой Ул. Бакуновіч.

Розвіл, 30 ліпеня 1981.

Здароў, Янка!

Высылаю артыкулы, што меўся напісаць. Знаеш, дружа, у мяне зь пісаньнем атрымоўваецца нешта, як у таго чалавека, што праляжаў тры месяцы ў шпітальным ложку, а як выздаравеў і ўстаў з ложка, дык нанава пачынае вучыцца хадзіць.

Калі чалавек праз цэлы час чытае аб савецкіх "дасягненьнях", дык мае ўжо выробленыя пэўныя ідэі, да якіх бракуе нешта крышку, каб напісаць артыкул. Гэтым "нешта" можа быць звычайная абвестка ў савецкай газэце. У мяне на цяперашні час матарыял агранічаны. А паколькі кажны дзень чытаю амэрыканскія рэчы, дык з амэрыканскім сюжэтам мне непараўнаўча лягчэй.

---

101 **Янка Бруцкі** (пазней уладыка **Ізяслаў**, 1926—2007) грамадзкі й рэлігійны дзеяч, інжынэр, потым царкоўны ярарх. У 1969 г. пасяліўся ў Кліўлэндзе (штат Агаё), браў актыўны ўдзел у беларускім рэлігійным жыцці, быў сябрам Кіраўнічай Рады БАПЦ. 29 красавіка 1979 г. хіратанісаны ў сан дыякана мітрапалітам Андрэем, а 26 жніўня 1979 г. — у сан ярэя ўладыкам Мікалаем. 22 студзеня 1981 г. пасьвечаны мітрапалітам Андрэем у япіскапа, прыняў імя Ізяслава, што спрыяла ўмацаваньню расколу ў БАПЦ, які суправаджаўся судовымі працэсамі. У 1984 г. на саборы ў Манчэстэры (непрызнаным часткаю БАПЦ) прызнаны на мітрапаліта БАПЦ.

Нагаварыў на плёнку ў маім бюры на маленькім фірмовым “тэйп рэкордэр’ы”[102]. Разумею, што вы там ня будзеце пускаць гэта ў эфір — вам патрэбна чуць голас. Дык ня выглядае, каб мой голас надаваўся да мікрафона. Гэны “рэкордэр” ёсьць танный і таму немагчыма паправіць памылкі. Нагаворанага не сьцірае, а рэгіструе голас на голасе. Дык высылаю з памылкамі.

Я меў добры “тэйп рэкордэр” у Грос Пойнце. Там ён і астаўся. Люда паехала із скаўтамі ў Эўропу. Дзеці асталіся самі ў хаце. Я думаў выкарыстаць гэтую нагоду й пазычыць гэтую штуку, ажно мая дачушка Ната (18 год) адказала мне, што яна ня ведае, дзе яго мама палажыла. Разумею, што атрымала ад мамы строгі прыказ нічога мне не даваць.

«Падбрэхачу “Голасу Радзімы”[103]» напісаў пад уплывам гэтае газэціны. Высылаю Табе — проста паглядзі. Яно мне падабаецца.

Ад Сенькоўскага да гэтага часу я адказу не атрымаў, а таму пачынаю думаць, што мой ліст у ягоныя рукі не папаў.

Калі-б хацеў тэлефанаваць да мяне ўдзень, дык тэлефануй на працу.

Сьпяшу гэта выслаць. “Зьвязду” вышлю аддзельна.

Дык трымайся!

Ул. Бакуновіч.

Розвіл, 18 ліпеня 1983.

Здароў, Янка!

Думаю, можна было-б выкарыстаць у газэце “Беларус” гэтую здымку, як Юры Тарасэвіч братаецца з дэтройцкім нэграм[104]. “Дэтроіт Ньюс”[105] гэта рэспубліканская газэта ў Дэтроіце, а таму і ўкусілі ўжо, што Тарасэвіч атрымаў ключы да пустога гарадзкога скарбу. Фактычна ён атрымаў сымбалічны ключ да гораду.

У мяне справы дрэнь. Тры тыдні таму я страціў працу. Маю працу пераняў кампутар. Пакуль што іду на “унэмплоймэнт”[106], а там

[102] ***Tape recorder*** (анг.) — касэтны магнітафон.

[103] **“Голас Радзімы”** — інфармацыйна-асьветная газэта для беларусаў замежжа, што выдаецца ад 1955 г. Да 1960 г. мела назву “За вяртаньне на Радзіму”. Выкарыстоўвалася для прапаганды савецкага ладу жыцьця сярод суродзічаў на Захадзе.

[104] Напэўна, маецца на ўвазе **Колеман Янг** (анг. *Coleman Young*, 1918—1997), амэрыканскі палітык, які быў мэрам Дэтройту ў 1974—1994 гг. Ён быў першым афра-амэрыканскім мэрам гэтага гораду.

[105] ***“The Detroit News”*** — адна з дзьвюх найбуйнейшых газэтаў у Дэтройце. Выдаецца да 1873 г.

[106] ***Unemployment*** (анг.) — беспрацоўе; але вызначэньне, згодна з амэрыканскімі законамі, больш складанае: гэта стан, калі чалавек ня мае працы, актыўна шукае яе й шукаў у апошнія чатыры тыдні і які ў гэты час можа працаваць.

паглядзім. У нашым веку ўжо й ня так проста знайсьці працу — канкурэнцыя малодшых.

Я калісьці напісаў быў ліста Сенькоўскаму, але й да гэтага часу ніякага адказу не атрымаў. Ведаю, што ён ёсьць даволі цяжкі на пад'ём, калі ходзіць аб пісаньне лістоў, аднак, магчыма, што ён майго ліста не атрымаў.

Як у цябе справы? Прывітаньні сям'і і сп-ру Адамовічу.

Твой Валодзя.

Розвіл, 17.11.84

Здароў, Янка!

Высылаю гэтта "пошукі". Мы мелі нейкія зьвесткі, што гэны Міша[107] папаў у бальшавіцкія рукі ў 1945 годзе, быў вевезены ў Сібір і на гэтым сьлед застыў. На апошняй Сустрэчы ў Кліўлэндзе даведаўся, што ён жыве недзе ў Амэрыцы. Гэная балбэсіна зрабіўся ні то палякам, ні то паўпалякам і ціхенька сядзіць. У міжчасе ягоная мама ў Масачусэц знаходзіцца пры сьмерці. Зьмясьці гэтую абвестку ў трох нумарох. Калі-б у міжчасе я яго знайшоў, дык паведамлю цябе тэлефанічна.

Янка, прышлі мне адрас Цьвіркі. Ня ведаю, чаму, але я ўлез у гразь і цяпер ня ведаю, як вылясьці. Ходзіць тут а памятнік Равенскаму. Людзі злажылі ахвяры на памятнік. Памятнік паставілі, а ў газэце нідзе ня ўспомнілі ні слова аб ахвярадаўцах. Зразумела, многім на гэтым залежыць. Мяне атакавалі ў Аўстраліі асабліва Міхась Зуй[108], які ад дэлягатуры БЦР выслаў на памятнік 10 фунтаў. Людзі дамагаюцца, каб хоць спозьнена зьмясьцілі лісту ахвярадаўцаў. А на апошняй Сустрэчы ў Кліўлендзе[109] меў зы мною доўгую гутарку Міхась Навумовіч. Раней ён дамагаўся грошы, а цяпер ён проста хоча мець крэдыт, што ён паставіў памятнік Равенскаму. Нават ня просіць ніякае падзякі. Я паабяцаў, што просьбу ягоную выканаю.

Я маю лісту ахвярадаўцаў і лісту выдаткаў. Мне гэта некалі ў Лювэне перадаў Жучка, а ён атрымаў ад Шчэцькі. На руках у Шчэцькі мелася

[107] Ідзецца пра стрыечнага брата Ўладзімера — **Міхаіла Бакуновіча**. Абвестка пра ягоныя пошукі была змешчаная ў газэце "Беларус" № 323 (лістапад 1984).

[108] **Міхась Зуй** (1909—1995), палітычны й грамадзскі дзеяч. Ад 1949 г. жыў у Аўстраліі. Стваральнік і нязьменны старшыня Беларускага аб'еднаньня ў Аўстраліі. У 1950—1960-я гг. арганізатар і кіраўнік беларускага драматычнага гуртка ў Сыднэі. Кіраўнік Дэлегатуры БЦР у Аўстраліі. У 1978 г. старшыня Беларускага культурна-грамадзкага клюбу ў Сыднэі. На XIX Пленуме БЦР у 1987 г. абраны прэзыдэнтам БЦР.

[109] Маецца на ўвазе 16-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі, якая адбывалася ў Стронгсьвілі — Кліўлэндзе 1—3 верасьня 1984 г.

быць яшчэ 740 бэль[гійскіх] франкаў і 300 фр[анцускіх] франкаў, якіх ён Жучку не перадаў, бо гэных грошай ужо ня было — Шчэцька прапіў з Марговічам. Аб гэтым ведаю ад Марговіча — ён мне некалі расказваў ў Мюнхэне, зразумела, пры піве. Пры нагодзе папытай у Шчэцькі, што сталася з грашыма. Што ён скажа?

У расходах Шчэцька запісаў: *"У паразуменьні із старшынёй ЦБАА*[110] *сп. Цьвіркай і а. Робэртам я выдаў 6396 фр[анкаў] на падрыхтоўку канцэрту ў Лёндане*[111]*. Айцец Робэрт паабяцаў зьвярнуць, калі будуць патрэбныя грошы"*.

Міхась Навумовіч паставіў памятнік, і ніхто не ўважаў за патрэбнае зь ім разьлічыцца. А таму дамаганьні Навумовіча ёсьць слушныя.

Вось-жа, каб не пакінуць Цьвірку ў дурнях, я хочу яму напісаць аб гэтым, каб ён быў падрыхтаваны. А таксама няхай шукае нейкага выхаду, бо я трымаюся думкі, што Навумовічу мы павінны заплаціць.

Я марудзіў з пытаньнем памятніка, бо гэтая справа ня то што зарасла ўжо травою, але пакрылася ўжо тоўстым дзірваном. Да таго я ведаў, што як пачну раскопваць, дык замнога смуроду выйдзе наверх. Таму рукі не падымаліся брацца за пісаніну. Цяпер раблю гэта проста на дамаганьне Міхася Навумовіча.

Паміж іншага, ці робіцца што-небудзь, каб выдаць сьпеўнік Равенскага? Можа нехта выдасьць на сотыя ўгодкі сьмерці? Думаю, з гэтым трэба было-б пасьпяшыць, покуль жыве праф. Карповіч[112], бо ён ёсьць адзіны, што можа зрабіць карэкту. Іначай трэба будзе наймаць чалавека, а гэта каштуе грошы, якіх мы ня маем.

У мяне асабіста справы дрэнь. Я меў флебайтіс[113] у правай назе, і кусочак запечанай крові адарваўся, прайшоў праз лёгкія й папаў у сэрца. Маю нармальны ціск крыві, здаровае сэрца, а ў сэрцы сьметнік зрабіўся. У рэзультаце ніякае фізычнае працы выконваць не магу, бо

---

[110] Відаць маецца на ўвазе **Цэнтраля беларускіх акадэміцкіх арганізацый (ЦБАА),** што была спадкаемцам Цэнтралі беларускіх студэнцкіх арганізацый на чужыне (ЦБСА), заснаванай у 1946 г. з мэтамі абароны правоў беларускіх студэнтаў, фінансавай дапамогі пры паступленні ва ўнівэрсытэты, каардынацыі студэнцкага руху.

[111] Маецца на ўвазе вялікі канцэрт Беларускага студэнцкага хору зь Лювэну ў Лёндане на сьвяткаваньні ўгодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі ў сакавіку 1954 г.

[112] **Алесь Карповіч** (1908—1992), кампазытар, грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў Заходняй Нямеччыне, дзе працаваў як выкладчык у музычнай школе ў Ольдэнбургу. Выступаў разам зь Беларускім студэнцкім хорам зь Лювэну (Бэльгія). Пазьней пераехаў у ЗША, жыў у Нью-Ёрку.

[113] ***Phlebitis*** (анг.) — флебіт, запаленьне вены.

бракуе паветра. Запечаная кроў і да гэтага часу сядзіць у правай назе. Калі даўжэйшы час знаходжуся на нагах, дык правая нага пухне. Да нядаўна быў здаровы, як слон, і раптам усё абарвалася. Няхай яно прападзе такое жыцьцё! Падаў на "дысабілыты"[114], але гэта віламі па вадзе пісана — я маю ня той колер шкуры.

Знаю, што ўжо час, каб заплаціць за газэту[115] ды за пошукі, але, знаеш, дружа, вам прыдзецца пачакаць. Спадзяюся, што мая сытуацыя паправіцца, дык разьлічуся.

Дык трымайся!

Твой Валодзя.

Розвіл, 16.1.1985.

Здароў, Янка!

Далучаю гэтта карэспандэнцыю ў газэту, фатаграфію мае пляміньніцы й 50 даляраў. Фатаграфія ёсьць вельмі паскудная, але якую прыслалі, такую й зьмесьцім. Паміж іншага, у Мітрафана ёсьць надзвычай здольныя дзеці. Іх ніколі ня трэба было падганяць да навукі. Ларыса як жанчына не магла здэцыдавацца, што студыяваць: псыхалёгію ці геаграфію. Дык узяла абодва й за два з палавінаю гады кончыла два факультэты[116]. Гэткім парадкам і Мітрафана ўжо ўсе трое дзяцей кончылі ўнівэрсытэт, дык можа цяпер пачнуць вадзіцца грошы ў яго.

Гэтыя 50 даляраў падай як падпіску на газэту, за пошукі й за клішэ. Думаю, што ня варта рабіць разьбіўку колькі за што. З пошукаў у мяне пакуль што нічога не атрымоўваецца. Ніхто не адзываецца.

Я быў тут падаўся на "дысабылыты", дык сяньня атрымаў адказ, што адкінулі. Цягнулася ўсё гэта роўна два з палавінаю месяцы. Што цяпер рабіць — ліха яго знае. Трэба шукаць нейкую працу. Што праўда, і "дысабылыты" мяне не ратавала-б. Далі-б нейкіх 600 даляраў на месяц, і за гэтыя грошы я не пражыву, а працаваць ня маеш права.

Навінаў у мяне ніякіх. Каляды й Новы Год сядзеў у хаце, дык прынамся галава была цьвярозая.

Прывітаньні сп-ру Адамовічу, Кіпелям і тваёй палавіне.

Дык трымайся!

Валодзя.

---

[114] ***Disability*** (анг.) — інваліднасьць.

[115] Маецца на ўвазе газэта "Беларус".

[116] Абвестка пра Ларысу Бакуновіч, дачку Мітрафана й Міраславы Бакуновічаў, што скончыла вышэйшую асьвету ў Сыднэйскім унівэрсытэце, была надрукаваная ў газэце "Беларус" (№ 325, студзень 1985).

27.3.1987.

Здароў, Янка!

19-га гэтага месяца ў Аўстраліі памерла мая мама, дык высылаю гэтта яшчэ фатаграфію й нэкралёг[117]. Ведаю, што для клішы патрэбная чорная фатаграфія, але пакольківі я такое ня маю, дык трэба задаволіцца тым, што ёсьць. Ведаю таксама, што газэта выходзіць рэдка, і зь месцам там не раскошна. Я не стараўся расьцягваць, хацеў толькі падаць галоўныя мамэнты зь яе жыцьця ў скароце. Думаю, што праз 30 год у Аўстраліі яна сабе зарабіла хоць месца ў газэце — цягнула сама й падганяла іншых. А як ужо сілы пусьцілі, дык і надалей яе хата была заездным домам і гасьціньніцай для кажнага Беларуса, бо каструляў насіць была ўжо ня ў сілах. Гэта тымбольш, што некалі Мэрляк[118] зьмясьціў нэкралёг аб Адаму Горбату[119], аб гэтым бяздарным прымітыву, брахню амаль на паўстаронкі ў газэце “Беларус”. Кажу брахню, бо Горбата я ведаю яшчэ з дому, і ніякім лясьніком ён ніколі ня быў, а служыў у польскай тайнай пагранічнай паліцыі. Гаспадарка ягонага бацькі ўпіралася ўжо ў раку Случ, а з другога боку ракі — Савецкі Саюз. А хто даў непісьменнаму чалавеку рангу капітана, ці ня Мэрляк часам? Уласаў[120] яго капітанам не нарадзіў — гэта я ведаю дакладна.

Як адступалі з дому, і Немцы фармавалі ваенныя адзінкі з паліцэйскіх аддзелаў, дык Горбат і Цыган[121] (гэтыя самы, што ў Саўт Рывэры цяпер сядзіць бяз ног) пайшлі да Ўласава, а мой брат Аляксандра[122] пай-

[117] Нэкралёг быў апублікаваны як: Валодзя. Сьв. памяці Васіліса Бакуновіч (20.08.1895, Палесьсе — 19.03.1987, Аўстралія) // Беларус. № 334. Красавік 1987. С. 8.

[118] **Кастусь Мерляк** (1919—2007), грамадзкі дзеяч. У 1947—1954 гг. жыў у Аргентыне, дзе стварыў і ўзначаліў Згуртаваньне беларусаў у Аргентыне. Ад 1954 г. — у ЗША. У 1959—1964 гг. старшыня Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. У 1964 г. праз канфлікт пакінуў БАЗА і стварыў Беларуска-Амэрыканскае аб’яднаньне ў Нью-Ёрку.

[119] Маецца на ўвазе нэкралёг: Мярляк, Кастусь. Сьв. памяці Адам Горбат (1914—1984) // Беларус. № 322. Верасень — кастрычнік 1984. С. 7.

[120] **Андрэй Уласаў** (рас. *Андрей Власов*, 1901—1946), савецкі вайсковы дзеяч, генэрал. Пасьля палону нямецкімі войскамі ў 1942 г. перайшоў на бок Трэцяга райху, узначаліў Расейскую вызваленчую армію (*РОА*), што ваявала на баку немцаў.

[121] Відаць, маецца на ўвазе **Яўхім Цыган** (1917—1987), які жыў у Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі).

[122] **Аляксандар Бакуновіч** (1918—?), грамадзкі дзеяч, брат У. Бакуновіча. У 1950 г. выехаў у Аўстралію. Ад 1973 г. быў сябрам Беларускага культурна-грамадзкага клюбу, у якім на працягу 17 гадоў працаваў на пасадзе скарбніка. Жыў у Сыднэі.

шоў у 30-ю дывізыю[123], што тады фармавалася, пад беларускі сьцяг. Мы асталіся тым, кім нас мама выхавала. Яшчэ ў перадваеннай Польшчы я, будучы падлеткам, быў Беларусам. Аб Беларусі ня знаў нічога — маю на ўвеце гісторыю Беларусі, але "тутэйшым" я ня быў. Аб "тутэйшых" я даведаўся толькі на эміграцыі ў беларускай гімназіі.

Калі-б ужо і не каструлі ў Аўстраліі, дык толькі за гэта ёй трэба было-б адпусьціць цэлую бачыну.

Янка, пастарайся не абразаць. Калі ўбачыш шарахаватасьць, дык падгладзь, бо ў мяне ў Аўстраліі ёсьць яшчэ цэлая куча крытыкаў, і мне трэба зь імі лічыцца. Ведаеш, пісаць аб нейкім мне лёгка, але калі ходзіць напісаць аб маме, дык ужо справа іншая.

У наступным тыдні ў мяне выплата, дык вышлю чэк на 25 дал[яраў]. Спадзяюся, што хопіць, калі не, дык не саромяйся сказаць, што каштуе 26.93. Ужо-ж чэка ня буду выпісваць з дакладнасьцю да цэнта. Зразумела, фатаграфію абрэж, каб была толькі ад грудзей, а бакі вон.

Дык адразу дзякую за ўсё.

Трымайся!

Валодзя.

Розвіл, 5.11.1987.

Здароў, Янка!

У маім апошнім лісьце да цябе я так зухавата пляснуў, што вось у наступным тыдні будзе выплата, і я табе вышлю 25 даляраў за клішэ. Я проста забыўся, што 18-га красавіка трэба будзе заплаціць даніну нашаму супольнаму Дзядзі Сэму. Разумееш, ён мяне як шкробнуў, дык і да гэтага часу не магу яшчэ паймаць паветра. Ходзіць аб тое, што я забраў мой "Індывіджуал Рэтаермэнт Экаўнт"[124], бо патрэбныя былі грошы. Ну й за 6000, якія некалі адлічыў ад падатку, прышлося заплаціць.

З грашамі ў мяне й цяпер не раскошна, але не хачу, каб газэта рабіла нешта для мяне на крэдыт, дык высылаю чэк на 25 даляраў.

---

[123] **30-я дывізія СС** (2-я расейская, 1-я беларуская, ням. *30. Waffen-Grenadier-Division der SS* (*russische Nr. 2, weißruthenische Nr. 1*)) — вайсковая частка ў складзе Вафэн СС. Створана ў жніўні 1944 г. Яе склад быў разнастайны: служылі немцы, расейцы, украінцы, беларусы, палякі. Камандаваў дывізіяй Ганс Зіглінг. Гісторык Юры Грыбоўскі адзначае, што ў дывізіі апынуліся беларусы — як удзельнікі антыпартызанскіх апэрацый, гэтак і юнакі зь Менскай школы афіцэраў БКА, якія ня бралі ўдзелу ў вайсковых апэрацыях. Скончыла існаваньне ў красавіку 1945 г. Падрабязьней гл.: Грыбоўскі, Юры. Беларусі легіён СС: міфы і рэчаіснасць // Беларускі гістарычны агляд. Т. 14. Сш. 1—2 (26—27). 2007. С. 97—139.

[124] ***Individual retirement account*** (анг.) — пэрсанальны пэнсійны рахунак.

Тыдзень таму назад атрымаў ліста ад сястры з Аўстраліі[125]. Прыслала фатаграфіі з паховінаў. На паховінах было больш-менш сотня людзей. Мая мама была там папулярная. Яна сама цягнула й падганяла іншых. Прычым было многа Ўкраінцаў, бо чуліся таксама вінаватыя перад ёю.

Паміж іншага, сястра піша, што ўжо столькі гадоў плаціць ці, як яна кажа, дае грошы на газэту, а газэты не атрымоўвае. Спадзяюся, што ў наступным нумары нэкралёг будзе, дык вышлі хоць гэты нумар для яе паветранай поштай. Тут далучаю адрыс.

У мяне ні халеры няма чым хваліцца. Грамадзкага тут нічога ня робіцца, дык проста марную час. 17-га гэтага месяца ў Кліўлэндзе будзе парафіяльнае сьвята, дык стараюся зарганізаваць нашых абібокаў і паехаць у Кліўлэнд. Трэба падтрымаць.

Афіцыяльна мне кончылася 60 гадоў (неафіцыяльна 58), дык думаю неяк пратаптацца яшчэ два гады й пайду на пэнсыю. Пляную прадаць хату і махну ў Кліўлэнд на сталае жыцьцё. Там ёсьць людзі, але бракуе матору. Калоша[126] паказаў, што ён ёсьць слабёш — за ўсё хапаецца й нічога не канчае. У рэзультаце выклікае агульнае незадавальненьне людзей.

Дык трымайся!

Твой Валодзя.

Розвіл, 28.12.1987.

Здароў, Янка!

Далучаю чэк (25 дал[яраў]) на газэту й “Народнае Шчадраваньне зь Піншчыны”. Гэтая рэч у 1936 годзе была надрукаваная ў польскай газэце “Газэта Полеска”[127], якая мела, сказаў-бы, лякальны характар. Паколькі мой бацька быў солтысам, дык гэную газэту атрымоўвалі бязплатна. Здаецца, што гэная газэта выходзіла раз на тыдзень. Таксама

---

[125] **Ліза Бакуновіч** (у шлюбе **Грыцай**, нар. 1936), грамадзкая дзяячка, сястра Ў. Бакуновіча. Ад 1950 г. жыла ў Сыднэі (Аўстралія). У 1958 г. пабралася шлюбам першы раз з баўгарынам, зь якім мае сына й дачку, але праз некаторы час ўзяла развод. У 1974 г. выйшла замуж другі раз за ўкраінца Якава Грыцая. Ад 1989 г. удава. Ад самага пачатку дзейнасьці ў 1970-я гг. Беларускага культурна-грамадзкага клюбу была ягонай сяброўкай.

[126] **Кастусь Калоша** (1924—2004), грамадзкі дзеяч. Ад 1950 г. жыў у ЗША. Закончыў Унівэрсытэт штату Мічыган (1955) па спэцыяльнасьці інжынэра-будаўніка. Сябра БАЗА і царкоўнай рады парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ у Кліўлэндзе. Адзін з заснавальнікаў і стваральнікаў Беларуска-Амэрыканскага грамадзкага цэнтру “Полацак”. Заснавальнік выдавецкай суполкі “Пагоня”.

[127] Магчыма, маецца на ўвазе ***“Gazeta Poleska: pismo społeczne, gospodarcze i kulturalne Polesia”***, якая выдавалася ў Берасьці ў 1933—1938 гг.

не памятаю ні нумару, ні даты газэты, у якой была зьмешчана гэтая шчадроўка.

Тое, што ты зьмясьціў у вапошнім нумары “На Першы дзень, да на Раство” — відаць, передрук зь нейкага зборніка[128]. А гэта, што я цяпер высылаю, нідзе ў беларускім друку ня друкавалася, і цяпер як ня зьмесьціш у газэту, дык прападзе.

[…] Адносна грамадзкае працы ў Дэтройце, дык ужо ад даўжэйшага часу тут даслоўна нічога ня робіцца. Раз альбо два разы на месяц адбудзецца служба ў царкве[129] й на гэтым канец. Я тут проста марную час, як ніколі ў маім жыцьці. Дзеля гэтага думаю неяк прабадзяцца яшчэ год часу і ў 62 гады пайду на “сошал сэкюрыты”[130] (80 %). Прадам хату і пераеду ў Кліўлэнд. Там працы — не пачаты край, а рабіць няма каму. Калоша і Ягоўдзік сябе не апраўдалі. Але як яно будзе — пакажа час.

На гэтым канчаю. Прывітаньне сп. Адамовічу й Кіпелям.

З прывітаньнем,

Твой Валодзя.

Народнае шчадраваньне зь Піншчыны паводле польскае газэты “Газэта Полеска” за 1936 г.

*Я маленькі хлопчык,*
*Ускочыў на стоўпчык,*
*У дудачку йграю,*
*Хрыста забаўляю.*
*А вы, людзі, знайце —*
*Мне каўбасы дайце.*
*Вам Шчадрэц,*
*А мне блінец*
*І каўбасы канец.*

21 чэрвеня 1990 г.

Здароў, Янка!

Высылаю гэтта справаздачу аб нашым парафіяльным сьвяце. Знаю, што спозьнена. Мяне праз цэлы час астма душыла — сьвет быў ня мілы. Дык пісаньне адкладаў усё “на заўтра”. Др. Сажыч[131] адразу адмовіўся

---

128 На першы дзень, да на Раство. Калядка зь Пінскага павету. «Беларус», № 342, сьнежань 1987, с. 1. Передрук з: Зімовыя песьні. Калядкі і шчадроўкі. Мінск, 1975.

129 Маецца на ўвазе **Царква Сьв. Духа** БАПЦ, заснаваная ў Дэтройце ў 1967 г.

130 ***Social security*** (анг.) — сацыяльнае забесьпячэньне, сацыяльная дапамога.

131 **Язэп Сажыч** (1917—2007), грамадзка-палітычны дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі ўдзельнічаў у арганізацыі беларускіх вайсковых адзінак. Ад

пісаць. Зрэштаю, усё, што ён піша, прыносіць да мяне, і я перарабляю й перабіваю на машынцы. Я не хацеў, каб Пляскач[132] пісаў, бо гэта ёсьць вельмі далікатная рэч.

Справа ў тым, што як гэтая жанчына расказвала мне, кажа, я страшылася пускацца ў гэткую дарогу, у няведамую краіну зь няведамай мне моваю. У Нью Ёрку спаткалі іх зь беларускае дыпляматычнае місіі, завезьлі іх у місію і там яны пераначавалі. Місія ўсё-ж неяк дабілася да Старшыні нашае Парафіяльнае Рады (др. Сажыч) і папрасілі, каб нехта з нашае парафіі спаткаў гэтых людзей і памог ім дабрацца да Ан Арбор[133] і памог з фармальнасьцямі ў шпіталі, і каб парафія заапекавалася імі. Мы гэта ўсё зрабілі. Хочам іх тут затрымаць да Сустрэчы, каб яны пабывалі таксама й на 19-й Сустрэчы[134].

Характэрным ёсьць, што гэтая настаўніца беларускае мовы ня ведала аб існаваньні беларускае эміграцыі. І як везьлі яе на нашую ўрачыстасьць — яна думала, што тут праз 50 год эміграцыйнага жыцьця ўсе будуць гаварыць па-ангельску, і яна будзе сярод нас, як белая варона. Прыемна зьдзівілася, што не пачула даслоўна ні аднаго ангельскага слова. У мяне нават папытала, ці я гавару па-ангельску. Для яе было дзіўным, што чалавек, які так добра гаворыць па-беларуску, можа гаварыць па-ангельску таксама.

Вось-жа бяручы на ўвагу ўсё вышэйсказанае, такі ёсьць тон артыкулу. І такі ёсьць канец. Галоўнае, што Беларуская Місія пры ААН ёсьць замешаная. Пастарайся надта не мяняць. Пастарайся таксама прапхнуць у наступным нумары “Беларуса”.

Дык трымайся!

Твой Валодзя.

---

1944 г. — на эміграцыі. У 1950 г. скончыў Марбурскі ўнівэрсытэт у Нямеччыне з дыплёмам лекара й выехаў у ЗША. Стаў адным з заснавальнікаў аддзелу БАЗА ў штаце Мічыган. З 1953 г. сябра, у 1982—1997 гг. старшыня Рады БНР.

132 **Васіль Пляскач** (1916—2006), грамадзкі дзеяч. Ад 1949 г. жыў у ЗША, у Дэтройце (Мічыган). Працаваў на заводах “Джэнэрал Мотарс” у аддзеле дызайну. Браў актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці ў ЗША, стварэньні структураў БАПЦ.

133 **Эн Арбар** (анг. *Ann Arbor*) — горад ў штаце Мічыган, цэнтар акругі Ўоштэна.

134 19-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі адбылася ў Стронгсьвілі — Кліўлэндзе 1—3 верасьня 1990 г.

## Артыкулы Ўладзімера Бакуновіча ў газэтах “Бацькаўшчына” й “Беларус”

**Бакуновіч, Ул. Беларускае вясельле [Віктар Дубяга, Алла Лосік]** // Беларус. № 129. Студзень 1968. С. 6.

**Бакуновіч, Уладзімер. Вершы Рыгора Данілеўскага** // Беларус. № 247. Лістапад 1977. С. 5.

**Бакуновіч, Ул. Каб і жывым не балела** // Беларус. № 127. Лістапад 1967. С. 5.

Праблемы беларускага магільніку ў Нью-Джэрзі.

**Бакуновіч, Ул. Сакавіковыя ўгодкі ў Дэтройце** // Беларус. № 180. Красавік 1972. С. 3.

**Бакуновіч, Ул. Станіслаў Мак-Яроцкі** // Беларус. № 314. Лістапад — сьнежань 1983. С. 7.

**Бакуновіч, Ул. Сямейная ўрачыстасьць. [Саракагодзьдзе шлюбу сп-ва Казлоўскіх — Дэтройт]** // Беларус. № 216. Красавік 1975. С. 6.

**Бакуновіч, Ул. Хрысьціны ў Саўт Рывэры** // Беларус. № 118. Люты 1967. С. 6.

**Сьцяблевіч, Ул. Аб гэтым нельга маўчаць** // Бацькаўшчына. № 43 (325). 21 кастрычніка 1956. С. 3—4.

Зьнішчэньне сядзібы Францішка Багушэвіча як гістарычнага помніка.

**Сьцяблевіч, Ул. Ад “Дэ Пі” да “новага аўстралійца”** // Бацькаўшчына. № 1—2 (437—438). Праваслаўныя Каляды 1959. С. 2—3, 6—7; № 4 (440). 25 студзеня 1959. С. 2—3; № 5 (441). 1 лютага 1959. С. 2—3.

**Сьцяблевіч, Ул. Адкрыцьцё акадэмічнага году ў Лювэне. (Зь беларускага жыцьця)** // Бацькаўшчына. № 42 (324). 14 кастрычніка 1956. С. 4.

**Сьцяблевіч, Ул. Два прыклады маскоўскага каляніялізму** // Беларус. № 125. Верасень 1967. С. 3.

**Сьцяблевіч, Ул. Нясьведамая хвальсыфікацыя** // Бацькаўшчына. № 45 (529). 13 лістапада 1960. С. 1.

Неабходна выпрацаваць моўныя нормы перадачы беларускіх найменьняў у іншамоўных выданьнях.

**Сьцяблевіч, Ул. Падвойная ўрачыстасьць у Лювэне** // Бацькаўшчына. № 50—51 (534—535). Каталіцкія Каляды 1960. С. 7.

Высьвячэньне помніка Міколу Равенскаму. Дзесяцігодзьдзе сьвятарскае дзейнасьці а. Аўгена Смаршчка.

**Сьцяблевіч, Ул. “Хрэсьбіны”** // Бацькаўшчына. № 14 (450). 5 красавіка 1959. С. 4.

**Сьцяблевіч, Ул. Ці ж гэта слава?** // Бацькаўшчына. № 37 (572). 10 верасьня 1961. С. 2.

Да гісторыі Берасьцейскае цьвярдыні.
Алесь Махнач.

**Сьцяблевіч, Ул. Што даў Беларусі кастрычнік** // Беларус. № 128. Сьнежань 1967. С. 2.

**Сьцяблевіч, Ул. Яшчэ крыху аб пісьменьніках [Кастусь Акула, Янка Юхнавец]** // Бацькаўшчына. № 40 (426). 19 кастрычніка 1958. С. 3.

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

***Часлаў Будзька***

# ДА ГІСТОРЫІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ЎСЬВЕДАМЛЕНЬНЯ. ЛІСТЫ

*Часлаў Будзька (29.06.1913, Вільня — 15.08.1985, Чыкага, ЗША) — грамадзкі дзеяч, гісторык, пэдагог, сын Эдварда (Адварда) Будзькі. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, а ў 1938 г. — аддзяленьне гісторыі гуманістычнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту. Браў удзел у нацыянальным грамадзкім руху, быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу. За актыўную грамадзкую дзейнасьць пазбаўлены права працаваць па спэцыяльнасьці. Уладкаваўся ў каапэратыўнае таварыства ў Варшаве, потым працаваў у Кельцах. Падчас Другой сусьветнай вайны знаходзіўся ў Нямеччыне: па сьведчаньні Леаніда Галяка, "выявілася нейкае разыходжаньне характараў з кс. В[інцэнтам] Гадлеўскім, і той, будучы часова ўплывовым, паграджаў".*

*Па сканчэньні вайны жыў у беларускім лягеры DP у Ватэнштэце, выкладаў гісторыю ў беларускай гімназіі. Былы камэндант гэтага лягеру Сьвятаслаў Коўш згадвае: "Пытаньне аб пабудове царквы выклікала першыя нязначныя разыходжаньні паміж мною й некаторымі асобамі ў адміністрацыі лягеру, у прыватнасьці са Сп. Сп. Будзькам і Саўкам. Асабліва Сп. Будзька паўстаў супраць намеру пабудовы царквы ў Лягэры й казаў: лягэр трэба будаваць не ад царквы, а ад уборнае"[1].*

*У 1948 г. прыбыў на працу ў Вялікабрытанію. Ад 13.12.1948 стаў сябрам Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі.*

*У 1951 г. выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага. Быў актывістам Чыкагскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Займаўся грамадзка-асьветніцкай працай. Дасьледаваў старадаўнюю гісторыю Беларусі; у 1955 г. выдаў першы том "Кніжкі пра Івашку Гарнастая", задуманай маштабнай, але ніколі ня скончанай працы пра вялікага пісара літоўскага.*

---

[1] Беларускі Лягер у Ватэнштэт. Альбом — Гістарычная даведка. 1981. С. 9.



Часлаў Будзька

*Айцец Надсан у кнізе пра Часлава Сіповіча, гаворачы пра Чыкага, пісаў: «Парафія Хрыста Спаса вызначалася тым, што ў яе ўваходзілі групы сем'яў, хацелася б сказаць "кляны" ў найбольш сымпатычным сэнсе гэтага слова. Адзін зь іх — "Будзькаў клян", патрыярхам якога быў стары беларускі грамадзкі дзеяч Эдвард Будзька (памёр у 1958 годзе). Ягоная дачка Ірэна выйшла замуж за Вацлава Пануцэвіча, а Людвіка — за Антона Бяленіса. Абедзьве сям'і жылі недалёка ад царквы ў адным прыгожым, вялікім доме, дзе кожная сям'я займала адзін паверх. Разам зь імі жылі Валерыя, удава Эдварда Будзькі, і нежанаты сын Чэслаў, вялікі знаўца гісторыі Беларусі. Іхны дом заўсёды гасьцінна вітаў усіх беларусаў. Антон Бяленіс шмат дапамагаў Уладыку Чэславу, калі той прыяжджаў у Чыкага. Чэслаў Будзька падараваў усе свае кнігі і архівы ў Бібліятэку Ф. Скарыны».*

*У адмыслова напісаным да гэтай публікацыі ўспаміне доктар Янка Запруднік згадвае: "З Чаславам у мяне была вялікая дружба на гістарыяграфічным полі: абмен лістамі, кніжкамі, мікрафільмамі й паглядамі на прафэсіяналізм у гістарыяграфіі. Часлаў быў заўсёды гатоў дапамагчы ў маіх патрэбах і зацікаўленьнях, ну і, зразумела, у лістах. Ягоную дапамогу я вельмі цаніў і быў яму ўдзячны.*

*Мне казалі (не памятаю, хто), што Часлаў ня меў закончанае ВНУ (у Вільні), але ў адным зь ягоных лістоў да мяне ў 1951 г. ён пісаў: "Пасьля скончэньня ўнівэрсытэту я пару гадоў пісаў кніжку — гісторыю полацкага княства... навясёла. Навясёла таму, што думаў, што толькі такім чынам можна было-б спапулярызаваць беларускую гісторыю сярод найшырэйшых масаў. [...] Перад самай вайной кніжка была гатовая, у часе вайны аднак згарэла".*

*Часлаў быў рамантыкам у гістарыяграфіі. Яго цікавілі "вялікія" тэмы (асабліва Полацак і ВКЛ), прычым паўставалі яны больш на*

*глебе, калі чытаньне й жаданьне (у прапорцыі, скажам, адзін да чатырох) давала яму моцны імпульс да пісаньня — "навясёла".*

*У Часлава былі вострыя разыходжаньні ў паглядах на далёкую беларускую мінуўшчыну зь ягоным шваграм Вацлавам Пануцэвічам, юрыстам па асьвеце, а гісторыкам па занятку. Разыходжаньні гэтыя, аднак, выяўляліся, бадай, больш у хатніх спрэчках (абодва жылі амаль разам адзін каля аднаго) ды ў прыватных лістах, чымся ў публікацыях".*

*З нэкралёгу, напісанага Міколам Прускім: "Апошнімі гадамі цесна лучыла нас супольная выдавецкая дзейнасьць. Гэта сьв. памяці Часлаў Будзька ўкладаў для часопісу "Беларускі Сьвет" прыгожыя беларускія арнамэнты. Ён іх умела рыхтаваў да рэпрадукцыі й фінансаваў усе з гэтым зьвязаныя друкарскія расходы. Яго арнамэнты набылі сярод беларусаў шырокае зацікаўленьне й прызнаньне"*[2].

*У 1979 г. сп. Часлаў Будзька выдаў альбом распрацаваных ім узораў да вышываньня — "Беларускі арнамэнт"*[3]*. Ад таго часу выходзілі паасобныя дадаткі да альбому, якія зьмяшчаў у сваім часопісе "Беларускі Сьвет" Мікола Прускі. Узоры Часлава Будзькі, выкананыя ў чырвоным і чырвона-чорным калёрах, адзначаюцца багацьцем кампазыцыі. Пра іх можна было б сказаць падобна да сказанага Ларысай Геніюш пра беларускую ткальлю ў вершы "Дыван":*

*Вузор пяе на лоне пражы белай*
*шнурок з квадратаў роўненька бяжыць.*
*Як вылічыць, як аснаваць сумела*
*дыван свой,*
*каб аж так заваражыць?*

*Так далікатна, анідзе памылкі,*
*на бель асновы колерам лягло,*
*так ад калыскі да самой магілкі*
*жыцьцё людзкое выткана было:*

*квадраты дзён,*
*запоўненыя працай,*
*між імі — сонца залаты прасьвет.*

---

[2] Думкі й пагляды. Дадатак да "Беларускага Сьвету". № 7. 1985. С. 1.

[3] Беларускі арнамэнт. Выбраў і падрыхтаваў да друку Ч. Будзька. Друкарня Міколы Прускага, 1979.

*Так роўненька,*
*так нельга памыляцца,*
*каб спраўным быў дыван жыцьця*
*як сьлед*[4].

*Дасюль былі апублікаваныя толькі асобныя лісты Часлава Будзькі*[5]*, ягоная ж спадчына, без сумніву, заслугоўвае быць сабранай і выдрукаванай у Беларусі.*

*Арыгінал працы "Да гісторыі нацыянальнага ўсьведамленьня" захоўваецца ў зборах Нью-Ёрскай публічнай бібліятэкі*[6]*. Зьмешчаныя ніжэй лісты разам зь іншымі, што засталіся па-за публікацыяй, захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва.*

## Да гісторыі нацыянальнага ўсьведамленьня[7]

### *Пытальнік у статыстычнай рубрыцы*

Кажны перапіс насельніцтва на тэрыторыі Беларусі адкрываў у нашым народзе балючае мейсца, рану незагойную — нястачу нацыянальнага самаазначэньня, — што пры адсутнасьці ў шырокіх колах нашага народу традыцыяў (дзякуючы сваясабліваму ходу гістарычных падзеяў) — ставіла наш народ у крытычнае палажэньне поўнай амаль няведы сваёй нацыянальнай прыналежнасьці.

І дзякуючы гэтаму ў народным перапісе — праводжаным пераважна чужынцамі — зьяўляецца нават новая дзівосная рубрыка із сваясаблівай нейкай новай народнасьцю — "тутэйшы". Ня была-б гэтая зьява зусім такая сьмешная, а нават і не такая вельмі ўжо трагічная, каб ня вонкавыя палітычныя абставіны і каб ня сьведамая сумысная блытаніна, праводжаная адказнымі за перапіс адзінкамі.

Ня можна вымагаць ад нашага беларускага селяніна, які яшчэ ня так даўно выбраўся з-пад ярма прыгону й паншчыны, каб ён — ва ўмовах амаль поўнай адсутнасьці пасьля паншчыны сваёй нацыянальна-сьведамай інтэлігэнцыі — свабодна разьбіраўся ў нацыйных пытаньнях, калі яшчэ так нядаўна ўбівалі яму ў галаву, што ён наогул не з'яўляецца народам, а толькі "рабочай сілай", "сілай" — якая запаўняе ўвесь кантынэнт Эўропы і гаворыць аднэй тэй самай "простай" мовай

[4] Беларус. № 314. 1983.

[5] Юрэвіч, Лявон. Эмігрант Францыск Скарына, або Апалогія. Мінск, 2015. С. 486—503.

[6] New York Public Library (NYPL). *QM 06—98.

[7] Пры публікацыі захаваны правапіс арыгіналу.

і пад Менскам, і пад Парыжам. Пры гэтым ня трэба забывацца, што сяньняшні больш-менш усталены і так-сяк афіцыйна замацаваны за намі назоў як народу (беларускі, Беларусь) зьяўляецца гістарычным вытварам ужо навейшых часоў.

Бяручы на ўвагу вышэйсказанае, слова "тутэйшы" ня будзе ўжо такім дзівосным і сьмешным, як яно можа камусь здавацца на першы погляд — а наадварот — у ім крыецца адна вялікая і здаровая народная думка, думка якраз тая, што народ наш, асеўшы зь незапомных часоў адвечных на гэтай нашай беларускай зямлі, заставаўся і застаецца ўсё тым-жа самым народам, не зважаючы на тое, як-бы яго калі ні называлі і як-бы ні называлі зямлю і край, дзе ён жыве і жыў ад дзеда-прадзеда. ТУТ ён і ягоныя прашчуры нарадзіліся і век свой адвекавалі.

## ***Крывічы***[8]

Наш народ, носячы сяньня афіцыяльны назоў "беларускі", на зары, на пачатку сваёй гісторыі (як і кажны народ напярэдадні вытварэньня сваёй дзяржаўнай арганізацыі), распадаўся на колькі складовых групаў, званых пляменьнямі — ня меў свайго аднаго агульнага для ўсіх нацыянальнага назову і называўся іменьнямі сваіх пляменьняў — як: Крывічы, Дрыгавічы, Радзімічы, Вяцічы, Севяране. Аднак з увагі на тое, што найбольшым спаміж іх нашым плямом, прытым найбольш палітычна актыўным і творчым, было племя Крывічоў, імя гэтага племені нагэтулькі заглушала імёны іншых сваяцкіх плямёнаў, што гэтыя апошнія сталі ўважацца толькі як пабочныя мянюшкі таго самага крывіцкага племя. Прыкладам — племя дрыгавічоў уважалася за галіну крывічоў, якія былі пасяліўшыся на дрыгве, г. зн. на дрыгавістабалоцістай меснасьці[9]. У гэтай брашуры, ясна, малаабходзіць — якое

---

[8] *«Крывічы... былі прабабкамі цяперашніх беларусаў. ...У найбліжэйшым зь імі сваяцтве знаходзіліся Дрыгавічы, якія жылі паміж Прыпяцьцю і Бярэзінай. Гэта была асобная галіна тых-жа крывічоў, азначаная асобным імем у залежнасьці ад прыроднай уласьцівасьці занятай імі тэрыторыі ("дрыгва" — балота, "трасіна"). ...У цесным сваяцтве з крывічамі былі Радзімічы, якія жылі на Сожы»* (Праф. М. Н. Любавский. Основные моменты истории Белоруссии. Москва, 1918 г.).
"*Крывічы з сыстэмы Дняпра выйшлі на поўнач, на вытокі рэк Волгі і Зах. Дзьвіны, а іхняя галіна Словене занялі сыстэму возера Ільменя*" (Академик С. Ф. Платонов. Учебник русской истории. Прага, 1924 г.).
"*У даўнасьці беларусы, засяляючыя большую частку паўночна-заходняга краю Расіі, называліся крывічамі*" (П. Н. Батюшков. Белоруссия и Литва. Спб. 1890 г.). — *Заўв. Ч. Будзькі.*

[9] Для параўнаньня — Мітрафан Доўнар-Запольскі выказваў думку, што крывічы й дрыгавічы — адно племя, але названае, адпаведна, па-балцку і па-славянску (гл.: Довнар-Запольский, Митрофан. История Белоруссии. Минск: Беларусь, 2003. С. 24). — *Заўв. С. Емяльянава.*

нашае племя ад якога выходзілася, даволі тут будзе толькі сьцьвердзіць самы факт існаваньня ў часы першапачатковай нашай гісторыі такога нацыянальнага назову ("крывічы"), які мог-бы пры спрыяючых гістарычных абставінах — стацца агульна-нацыянальным нашым імем, абыймаючы ўвесь наш народ.

Чаму-ж, аднак, гэтае нацыянальнае імя аднаго з наймагутнейшых нашых пляменьняў (перахаванае толькі ў памяці нашых суседзяў латышоў, якія доўга былі нам гаспадарсьцьвенна падпарадкаванымі) ня ўтрымалася ў нацыянальнай сьведамасьці нашага народу (як гэта сталася, прыкладам, з імем ляскага племені "палянаў" ў адносінах да ляскага — цяпер польскага — народу) — пастараемся высьвятліць ніжэй у наступных разьдзелах.

## *Палачане*

Вялікае племя крывічоў, шырака раськіненае на вялізным прасторы, дзякуючы свайму геаграфічнаму разьмяшчэньню, рана распалася палітычна на асобныя "землі", галоўнымі цэнтрамі якіх сталіся гарады — Полацак, Смаленск і Пскоў[10]. І дзякуючы гэтаму палітычнаму падзелу самога племя ягонае пляменнае імя, г. зн. "крывічы", — з палітычным ростам гэтых новых палітычных арганізмаў — падмянілася, выціснулася, занядбалася. Паўсталі новыя, палітычныя ўжо назовы — як "палачане", "смальняне", "пскавяне", пайшоўшы, як бачым, ад вспомненых палітычных цэнтраў (Полацак, Смаленск, Пскоў). З увагі на тое, што Смаленск, а таксама і Пскоў куды пазьней за Полацак выразна нацыянальна выявіліся, сэрца тагачаснай (XI — XII ст. ст.) Беларусі білася, калі так можна сказаць, на званіцы Сьвятасафійскага сабору ў Полацку. І слова "палачанін" — пры ўзможанай дзейнасьці полацкіх князёў, Рагвалодавічоў, разам з пашырэньнем тэрыторыі і межаў Полацкага княства — набірала ўсё больш шырэйшага значаньня і мела ўсе дадзеныя стацца (як у старадаўняй Рымскай імпэрыі слова "рымлянін") агульна беларускім нацыянальным назовам.

---

[10] Гісторыю Вялікага Ноўгараду ня можна далучыць да нашай гісторыі, бо Ноўгарад хаця й створаны быў беларускім племем крывічамі, але крывічы гэтыя — трапіўшы ў пераважаючае фінскае асяродзьдзе — казаў той — "абруселі" (у сяньняшнім значаньні гэтага слова). Ня будзе гэта так ужо дзіўным, калі мы ўсьведамім сабе наагул, што расейскі народ як нацыя паўстаў і акрысталізаваўся ў выніку скрыжаваньня пераважна беларуска-украінскіх элемэнтаў з мангола-фінскімі. (Гл. праф. Дм. Дорошэнко. Історія Украіны: *"Чэрэз зьмяшаньня словенскіх колоністів з тубыльнымі фінамі склалася нова словянска народнисть, т. зв. московска, яка позначылася вжэ в XII ст."*). — *Заўв. Ч. Будзькі.*
Магчыма, аўтар мае на ўвазе выданьне: Дорошэнко, Дмитро. Історія України. Кракив, 1942.

Гэтага аднак ня сталася, бо Полаччына, асягнуўшы Полацак, Віцебск, Менск, Друцк і не закончыўшы яшчэ зьбіраць вакол сябе беларускія землі, — ужо пасьля сьмерці Ўсяслава Вялікага-Чарадзея (1101 год) распалася на асобныя меншыя няствы і аслабіўшы гэтым падзелам свае сілы, не магла ўжо дасягнуць выкананьня сваёй гістарычнай місыі[11].

Слова-ж “палачанін” і “полацкі” з далейшым драбненьнем Полаччыны на паасобныя “ўдзелы” з часам пачало траціць сваё дасюлешняе, шырэйшае, блізкае да агульна-народнага, значаньне. І так, калі яшчэ ў першай палове XII ст. пад “полацкім князем” маглі разумецца таксама і ўдзельныя князі, прыкладам, Менску, дык ужо ў другой палове таго самага стагодзьдзя слова “полацкі” і “палачанін”, звузіўшыся, уваходзіць ізноў у свае першапачатковыя межы й датычыць вылучна гораду Полацку і ягонай бліжэйшай ваколіцы[12]. Гэткім парадкам у XIII і XIV ст. ст., калі ўся Беларусь пераносіла гістарычную хваробу ўсіх эўрапэйскіх народаў г. зв. феадальную ці ўдзельную раздробленасьць, калі кажны кавалачак нашай зямлі называўся не адным якім агульным імем, а імем свайго палітычнага цэнтру, г. зн. найбліжэйшага гораду, — народ наш — ня вытварыўшы сваёй агульнанацыянальнай інстытуцыі (хаця-б на ўзор старагрэцкіх алімпійскіх гульняў або агульна-нямецкага сойму) — ня меў спрыяючых абставінаў — дзякуючы свайму палітычнаму раздрабленьню ані для культываваньня сваіх старых нацыянальных назоваў, ані для ўтварэньня новых.

Тое, чаго не маглі зрабіць нашыя полацкія князі, выпала на долю нашым наваградзкім князём, якія, перанёсшы сваю сталіцу з Наваградку ў Вільню, злучылі ў канцы XIV ст. усе беларускія землі ў іх вадзін дзяржаўны арганізм, празваўшы гэты новы дзяржаўны твор на нашай зямлі ВЯЛІКІМ КНЯСТВАМ ЛІТОЎСКІМ, і слова “ліцьвін” зрабілі на досыць даўгі кавалак часу беларускім нацыянальным назовам. Як гэта сталася і чаму гэтак сталася — пастараемся высьвятліць у наступным разьдзеле.

Тут трэба толькі зазначыць, што словам “Літва” нашыя найбліжэйшыя суседзі, папяраджаючы гістарычныя падзеі на нашых землях, называлі нашыя землі задоўга да злучэньня іх у Вялікім Княстве

---

[11] Аўтар літаральна прытрымліваецца думкі аб тым, што пасьля Ўсяслава Брачыславіча Полацкая зямля ўваходзіць у пэрыяд так званай удзельнай (удзельна-фэўдальнай) дробнасьці й распадаецца на асобныя палітыка-тэрытарыяльныя адзінкі. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[12] Дадзенае цьверджаньне зьяўляецца аўтарскай інтэрпрэтацыяй наяўных крыніцаў, якая кладзецца ў лёгіку ідэі “фэўдальна-ўдзельнай дробнасьці”. Практычна ж нешматлікія наяўныя ўзгадкі, што захаваліся ў крыніцах, не дазваляюць адназначна адказаць на пытаньне аб палітонімах у Полацкай зямлі XII ст. і іх мажлівай эвалюцыі. — *Заўв. С. Емяльянава.*

Літоўскім. Повадам да гэтага ім паслужылі нашыя гандлёвыя рэспублікі (прыкладам, Полацак), якія ўжо ад другой паловы XII ст. пачынаюць прыймаць да сябе на ваенную службу (на ўзор італьянскіх рэспублік тыпу Флярэнцыі) так званых кандацьераў зь іхнымі дружынамі ў нас і па-за нашымі межамі "Літвой"[13].

## *Русь*

Паходжаньне слова "Русь" навукова яшчэ цалком ня высьветлена. Пэўным зьяўляецца толькі тое, што слова гэтае ня было пляменным славянскім тэрмінам, г. зн. што ніякае славянскае племя не называлася ў пачатках сваёй гісторыі гэтым імем.

Гістарычная навука таксама яшчэ цалком ня ўзгодніла, адкуль гэтае слова зьявілася на славянскім грунце. І на сяньняшні час мы маем дзьве гістарычныя канцэпцыі, зь якіх адна кажыць, што слова гэтае "Русь" прынесьлі варагі, скандынаўскае племя Русь, якія на нашым славянскім усходзе на сярэднім Дняпры зарганізавалі сваю варварскую (г. зн. рускую) дзяржаву з цэнтрам у Кіеве (г. зв. імпэрыю Рурыкавічаў), другая-ж канцэпцыя цьвердзіць, што слова "Русь" прыйшло ў Кіеў ня з поўначы, не з Скандынавіі, а з паўдня, дакладней кажучы, з вытокаў Дняпра, дзе мелі свае прозьвішча розныя ваяўнічыя разбойнічыя банды, званыя "русамі", якія на "ўзор" пазьнейшым украінскім казакам займаліся рабаўніцтвам па берагох Чорнага мора, званага тады Рускім[14].

Нас тут, што праўда, мала абыходзіць справа — з поўначы ці з поўдня занесена было ў Кіеў слова "Русь", даволі тут будзе толькі сьцьвердзіць той факт, што слова гэтае як абазначэньне палітычна-дзяржаўнага арганізму прыкладалася вылучна да тагачаснай прыдняпроўскай Украіны (Кіеўшчыны)[15].

Зразумелая рэч, што Полаччына (у гістарычным значаньні гэтага слова), якая як дзяржаўны арганізм ніколі не ўваходзіла у склад кіеўскіх, г. зн. рускіх валоданьняў, пры тым якая ніколі ня прызнавала

[13] Абсалюна не падмацаванае арыгінальнымі крыніцамі аўтарскае цьверджаньне. Нягледзячы на праблемы лякалізацыі так званай гістарычнай Літвы XI — пачатку XIII ст., відавочна, што гэты назоў не ахопліваў усёй тэрыторыі сучасных беларускіх земляў. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[14] Аўтар дапускае надзвычай вольнае й абагульненае выкладаньне поглядаў гістарыяграфіі на праблематыку паходжаньня й першапачатковага значэньня слова "Русь". Відавочна, што такім чынам ён імкнуўся пазначыць вядомую дыскусыю "нарманістаў" і "антынарманістаў". — *Заўв. С. Емяльянава.*

[15] Гл.: Дм. Дорошэнко. Историја Украіны. *"Слово "Украіна" на означэньня простору, дзе жыве наш народ, зыстырчаецца вжэ в памятнікох XII віку, але в ці часы вжывалася здебілтого кніжна назва "Русь". — Заўв. Ч. Будзькі.*

й не падлягала Кіеву як палітычнаму цэнтру, — а таксама ня будучы, як дзяржаўны арганізм, створанай русамі (ні гэнымі з поўначы і ня гэнымі з паўдня) — не магла называцца і ніколі не называлася Русьсю[16].

Гаворачы аднак аб "Русі" як аб гістарычным тэрміне, ня трэба ніколі забывацца, што слова гэтае, апрача вышэйсказанага палітычна-дзяржаўнага значаньня, мела — на розных гістарычных этапах — яшчэ і іншыя значаньні ў залежнасьці заўсёды ад таго, хто гэты тэрмін ужываў і ў якім часе. І так, паколькі жыхары Русі (г. зн. прыдняпроўскай Украіны) пад словам "русін"[17] разумелі ўсіх поўнапраўных (свабодных) грамадзянінаў сваёй рускай дзяржавы, — дык кіеўскае духавенства, разглядаючы гэтую ўзьмежную пляцоўку эўрапэйска-хрысьціянскай цывілізацыі на Ўсходзе як вонкавае афармаваньне хрысьціянска-праваслаўнай грамадзкасьці, — пад словам "русін" пачало разумець чалавека, які належыць да гэтай праваслаўна-рускай культуры, а з гэтуль — пашыраючы нутраны зьмест слова "русін" як процістаўленьне слову "паганін" і "барбар" і як роўназначнае із словам праваслаўны — духавенства гэтае разьнясло гэты тэрмін "русін" разам з праваслаўем і славянскай граматай на ўсе суседнія паўночнаўсходнія землі. У гэткім значаньні, г. зн. з чыста рэлігійным (а ня палітычным, ані тым больш з нацыянальным) зьместам прыйшло слова "русін" разам з праваслаўем з гэтай так званай тады "рускай вераю" і да нас. Атрымалі яго не на канцы мяча рускіх (кіеўскіх) князёў, але вылучна кантрабандным спосабам, як быццам прыліпшым да праваслаўнага крыжа, прынесенага да нас кіеўскімі, а знача — рускімі сьвятарамі. Ужыванае ў нас спачатку вылучна праваслаўным духавенствам слова "русін" — з паступовым заняпадам палітычнага значаньня Кіеву — паступова ў нас акліматызавалася, прыжылося, — хаця ўкаранілася на нашых землях надобра — толькі з часу поўнага палітычнага разгрому Русі (г. зн. Кіеўшчыны), якая была спаленая спачатку і спустошаная татарамі,

---

[16] Аўтар наўпрост ігнаруе дадзеныя крыніцаў. Так, у легендзе аб закліканьні варагаў, што ўтрымліваецца ў "Аповесці мінулых гадоў", крывічы названыя сярод плямёнаў, што запрашалі Рурыка, а Полацк прыгаданы ў шэрагу гарадоў, куды Рурык саджае сваёх намесьнікаў. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[17] Тут і далей аўтар, ужываючы тэрмін "русін", правакуе відавочны анахранізм. Па-першае, панятак "русін" значна пазьнейшы за старажытнарускі пэрыяд, пра які ідзе гаворка ў тэксьце, — ён адносіцца да часоў Позьняга Сярэднявечча й Раньняга Мадэрну, аўтар жа распаўсюджвае яго на ранейшыя часы, ігнаруючы, напрыклад, тэрмін "людзі рускія". Па-другое, Часлаў Будзька не зьвяртае ўвагі на тое, што дадзеныя паняткі (як і іншыя) маглі мець розныя значэньні й зьмяняць гэтыя значэньні з часам. У той жа час Будзька даволі трапна ўказвае на сувязь між рускай / русінскай ідэнтычнасьцю і хрысьціянствам усходняга ўзору. — *Заўв. С. Емяльянава.*

а пасьля падпала пад уладу вялікага Войска Літоўскага[18]. Да гэтага тут яшчэ трэба дадаць, што слова гэтае “русін”, распашыранае з часам між фінскімі пляменьнямі сяньняшней Расеі, прынялося адно сярод іх з зусім іншым нутраным зьместам, стаўшыся там — у зьмененай форме “рускія” — азначэньнем палітычнай залежнасьці гэтых плямёнаў ад узброеных выхадцаў прыдняпроўскай Украіны (Русі), якія падчас і пасьля развалу Русі і Кіева патварылі сярод гэных (з часам аславяненых) народаў пазьнейшай Маскоўшчыны свае рускія княствы. Гэтае ўжываньне таго самага тэрміну — з розным хаця нутраным зьместам — на вялікім прасторы паўночна-ўсходняй Эўропы было прычынай разгляду гэтай рознанацыянальнай тэрыторыі (зусім нясьведама — тагачаснай заходняй Эўропай, як і сьведама — пазьнейшымі маскоўскімі царамі) як нечага аднаго цэлага, з другога-ж боку, у часы нацыянальных узрухаў на ўсходзе Эўропы прывяло да тэй блытаніны паняцьцяў, перашкаджаючы нашаму паняволенаму Масквой народу нацыянальна самаазначыцца.

## ***Літва***

Паходжаньне слова “Літва” навукова дакладна яшчэ ня высьветлена. У кажным выпадку больш пэўнасьці ў тым, што словам гэтым не называлася ні адно племя. Блытаніна-ж, якая паўстала вакол гэтага слова ў гістарычнай навуцы, тлумачыцца як і маладосьцю самой гістарычнай навукі наогул, так і тэндэнцыйнасьцю яе ў нашых суседзяў і поўнай бадай нераспрацаванасьцю ў нас.

Месцам, дзе гэтае слова паўстала, а таксама адкуль яно пасьля пашыралася ў нас на нашу краіну — былі землі Наваградка — Ліды — Вільні, лясістыя незалюдненыя абшары, якія аддзялялі нашыя пляменьні ад балтыцкіх. Асабліва лясістая Наваградчына была ад даўных часоў выгадным месцам для ўсялякіх неспакойных і свабодных душ. Людзі з усіх куткоў беларускіх земляў, якія не маглі з тых ці іншых прычынаў ужыцца з наяўным палітычна-грамадзкім ладам у сябе дома, цягнуліся сюды (як украінцы калісь на сеч Запарожскую) для супольных грабежніцкіх паходаў (нападаў) — пераважна на ляхаў. Гэтыя свабодныя ваенныя згуртаваньні і выступілі на гістарычную арэну пад таямнічым назовам “літва”[19].

У грабежніцкіх гэтых паходах на ляхаў апроч выхадцаў з нашых земляў бралі ўдзел таксама і нашыя суседзі — жмудзякі, якія, аднак, —

---

[18] Відаць, трэба чытаць: *“...Вялікага Княства Літоўскага”. — Заўв. С. Емяльянава.*

[19] Часлаў Будзька ў развагах пра дружынны характар паходжаньня старажытнай літвы ідзе сьледам за тэорыяй, выказанай Генрыкам Лаўмянскім. — *Заўв. С. Емяльянава.*

з увагі на свабоднае яшчэ пляменнае жыцьцё ў сябе на бацькаўшчыне — у самой Наваградчыне доўга не заседжваліся, але зараз-жа пасьля ўдалага паходу варочаліся з ваеннай здабычай да сябе на бацькаўшчыну на Жмудзь, вытвараючы там у сябе нутраныя перадумовы паўстаньня на Жмудзі рыцарскага надпластаваньня і дзяржаўнага арганізму. Беларусы-ж з прычыны палітычна-грамадзкіх парадкаў у сябе на бацькаўшчыне і да сваіх старых хатаў вяртацца не маглі, прычыняючыся да ўтварэньня ў лясох Наваградчыны штораз большых ваенных скупішчаў, якім шчасьлівы лёс надзяліў зрэалізаваньне вялікай гістарычнай задачы на нашых землях. Няпрыязная беларусам гістарычная навука, каб давесьці небеларускасьць гэтай першапачатковай Літвы, стараецца як мага галасьней рэклямаваць ейную паганскасьць пры адначасовым перабольшваньні магутнасьці хрысьціянства ў старых беларускіх княствах. Аднак нікаму не зьяўляецца таямніцай, што хрысьціянства на беларускіх землях у першых вякох свайго існаваньня абняло толькі некаторыя пласты жыхарства і то вылучна гарадоў, таму ня трэба дзівіцца, што выхадцам з нашых вёсак бліжэйшым быў у Наваградчыне стараславянскі бог Пярун, чымся бог Абрахама, Ісака і Якуба. Трэба яшчэ тут зацеміць, што й самае слова “паганін”, паходзячае ад старарымскага “*paganus*”, якое абазначала жыхароў вёскі (селяніна), зьяўляецца яшчэ адным доказам таго, што гэтыя апошнія (пагане, г. зн. сяляне) — ня толькі ў нас, але і на цэлым сьвеце найпазьней за іншых жыхароў прысталі да хрысьціянства.

Зразумела, што ў Наваградчыне, у гэтым ваенным скупішчы вольных і неспакойных элемэнтаў, не заўсёды магла ўлажыцца згоднасьць і брацтва, адсюль і зразумелыя спробы арганізаванага пераходу паасобных ваенных бандаў на сталую ваенную службу да ўсіх нашых старых гарадоў і княстваў. Пераход гэты быў магчымы дзякуючы, з аднаго боку, пляменнаму сваяцтву, а з другога-ж боку, дзякуючы нястачы ваенных людзей у старых нашых дзяржаўных арганізмах. Нястача гэтая была выкліканая разьвіцьцём грамадзкасьці, больш складанай структурай народнай гаспадаркі, дзякуючы чаму жыхары нашых дзяржаўных арганізмаў больш ахвотна займаліся сваімі гаспадаркамі, чымся ваеннымі. (Нешта падобнае можна будзе назіраць у пазьнейшай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага пры ператварэньні нашай шляхоцкай масы з рыцараў у грэчкасеяў.)

Зразумелая рэч, што ўтрыманьне вялікіх наймовых ваенных гарнізонаў у нашых гарадох было-б для нашых раздробленых княстваў справай вельмі каштоўнай, згэтуль выплывала й тая слабенькая сіла апошніх у XIV ст., дзякуючы чаму так лёгка ўдалося т. зв. князям літоўскім, гэтым спадкаемцам нашых атаманаў наваградзкай вольніцы, падпарадкаваць сабе — тым ці іншым спосабам — усе беларускія землі.

Тое, чаго так баяўся аўтар “Слова аб паходзе Ігаравым” у канцы XII ст, а гэтта — каб гэткая нашая наваградзкая вольніца, званая “літ-

вой”, апанавала наш край, ня зьнішчыла-б нашай старой культуры (хрысьціянскай), як ведама, у далейшым не спраўдзілася. Мала таго, гэтыя нашыя новыя творцы нашай агульна-нацыянальнай палітычна-дзяржаўнай арганізацыі г. зв. Вялікага Княства Літоўскага, зьліўшыся з нашым старым аселым баярствам, ня толькі што пераняли ад яго нашую старую культуру, але ў свой чарод паднялі яе на небывалае яшчэ ў нас узвышша. Адначасна з паступовым цэмэнтаваньнем-узмацаваньнем нашай зямлі культурна й палітычна ў вадзін арганізм, таксама і слова “ліцьвін” з палітычнага рабілася ўсё больш нашым нацыянальным назовам. Аднак агульна-нацыянальным нашым назовам слова гэтае ў нас ня сталася — і хаця суседзі нашыя (маскалі і ўкраінцы) і называлі народ наш гэтым імем (“ліцьвіны”), усё-ж у нас тэрмін гэты за часоў Вялікага Княства Літоўскага абняў вылучна толькі кіруючыя пласты нашага народу, г. зн. вялікую й дробную шляхту — рэшта-ж народу — уся сялянская маса называлася ўжо тады “простым народам”. Ператварэньню-ж гэтага слова (“ліцьвін”) у наш агульна-нацыянальны назоў перашкодзіў разрыў і адыход нашай тытуловай інтэлігэнцыі ад народу і блізу пагалоўнае яе апалячваньне ў канцы XVIII ст. Гэтая поўная дэнацыяналізацыя нашай шляхты — тагачасных носьбітаў нашай нацыянальнай культуры — было прычынай перарыву ў нашым народзе нацыянальна-гістарычных традыцыяў, што прывяло сваім парадкам да дэнацыяналізацыі й нашага нацыянальнага назову “ліцьвін”. Суседзі нашыя — жмудзякі — карыстаючыся з часовай пасыўнасьці нашага народу ў XIX ст. — слова “ліцьвін”, выкутае калісьці ў супольных проціляскіх паходах нашых і жмудзкіх — пастараліся прысабечыць, нягледзячы на тое, што слова гэтае толькі сваім паходжаньнем, але ніколі далейшай сваёй гісторыяй магло выдавацца такім-жа іхным, як і нашым.

### *Руская мова*

Наш народ, паслугоўваючыся праз увесь час сваёй шматвяковай гісторыі вылучна й заўсёды сваёй асабістай і народнай мовай, усё-ж аднак, як ведама, ня вытварыў для яе свайго асобнага нацыянальнага назову, хаця-б для адрозьненьня яе ад іншых народных моваў іншых народаў. Гэта тлумачыцца насамперш тым, што народ наш як складовая частка вялікага славянскага масыву, раскінутага на вялізарным прасторы, хаця і заўважаў пэўную розьніцу ў славянскіх гаворках, але ня маючы вялікіх цяжкасьцяў ва ўзаемным разуменьні зь іншымі славянамі, ніколі не задумваўся ў магчымасьці наагул існаваньня розных славянскіх народных моваў. Адсюль выплывала тая нястача супольных назоваў для розных славянскіх моваў, адсюль і народнае перакананьне (моцна пераховыванае аселым славянскім жыцьцём і нястачай сучасных формаў камунікацыяў і лучнасьці) у існаваньні адной агульнай,

з мясцовымі толькі дзівоснымі асаблівасьцямі, супольнай усім нармальным людзям народнай мовай. Адгэтуль і ўважаньне сваёй славянскай мовы за адзіную сапраўдную народную мову.

Дзеля гэтага зусім зразумела тое, што калі вялікая славянская маса сустракалася зь іншай вялікай масай, гаворкі якой яна ніяк зразумець не магла, трымаючыся свайго паняцьця адзінасьці чалавечай народнай мовы, мусіла гэты народ — з прычыны яго неразуменьня, а таксама вынятковай адпорнасьці на славянскую асыміляцыю — прызнаць за народ няздольны да прысваеньня мовы наагул ці, інакш кажучы, прызнаць яго за "нямы" народ. Адгэтуль і вядзе сваё паходжаньне агульнаславянскі тэрмін "нямецкі" народ у дачыненьні да суседняга славянам вялікага Гэрманскага народу.

І нават зьяўленьне у нашым асяродзьдзі такога чужога этнічна народу, як цыганскі, з такой незразумелай, як цыганская, мовай — не заламала ўкаранелага пераконаньня, бо і самую мову цыганоў народ наш не прызнаў за народную цыганскую мову, а толькі вылучна за прафэсыянальны дыялект, выдуманы знарок цыганамі, каб іншыя іх не разумелі.

Нараджэньне-ж прыстаўкі "простая" ў дачыненьні да нашай народнай мовы было выклікана ўжываньнем асьвечанымі шляхоцкімі пластамі народу розных мудрэйшых, кніжных моваў. І гэтыя кніжныя мовы, як быццам выдуманыя мовы, толькі й здабылі сабе права называцца сваімі спэцыяльна прыдуманымі назовамі для адрозьненьня адна ад аднае. Народная-ж мова, астаючыся й надалей мовай г. зв. простага народу для адрозьненьня ад гэтых больш хітрых, панскіх моваў атрымала назоў мовы "простай".

Аднак-жа, як ведама, народная наша мова была калісьці ня толькі мовай народнай, але таксама й кніжнай, а значыць з хвіліны свайго ператварэньня ў кніжную мову мусіла — у вадрозьненьне ад іншых кніжных моваў — атрымаць таксама й свой уласны нацыянальны назоў. Хоць гэткі назоў яна і атрымала, але аднак зусім ня свой і не нацыянальны, што магло-б быць аднэй з пазьнейшых прычынаў ейнага заняпаду.

### Беларусь

Слова "Беларусь" ці, лепш кажучы, "Белая Русь" замежнага й даволі старога паходжаньня. Сустракаецца яно ў Эўропе ўжо ў пачатку XIV ст., аднак аж да канца XVIII ст. ня мела таго выразна азначанага сэнсу, які, прыкладам, мае яно сяньня. Слова гэтае як геаграфічнае паняцьце праз даўгія вякі было даволі туманным і, зьявіўшыся на геаграфічнай карце, як бязь[ця]лесны дух, блукала па ўсёй усходня-паўночнай Эўропе.

Нават маскоўскія цары, прычапіўшы сабе тытулы — на ўсякі пажарны выпадак — тытул *"государя великой, белой и малой Руси"* — самі

дакладна ня ведалі, дзе гэтыя белыя і іншыя Русі маюць знаходзіцца. А што слова "Белая Русь" не прыкладалася шчэ за часоў маскоўскіх цароў да нашай зямлі можа сьведчыць хаця-б маскоўскі гісторык Тацішчаў, адзін з найбольш асьвечаных палітыкаў Пятра І, які словам Белая Русь называе ў сваёй гісторыі Расеі Маскоўшчыну.

І толькі з часінай, калі нашая зямля, страціўшы 150 год таму свой дзяржаўны быт, перастала называцца Літвой, — чужынцам адкрылася шырокая магчымасьць [называць?] новымі якімі давольнымі назовамі. І калі ў канцы XVIII ст. на сьвежапрылучаных да Расеі уходніх нашых землях была створана Кацярынай II "беларускае намесьніцтва", гэтым самым быў пакладзены моцны грунт для сталага асядленьня тэрміну "Беларусь" на нашых землях і адначасна былі зробленыя канцы геаграфічным блуканьням гэтага геаграфічнага паняцьця.

Дарма што тэрмін гэты меў чужаземнае паходжаньне і даволі двусэнсавае гучаньне — быў ён для нас усёткі — пры факце парваных гістарычных традыцыяў — найбольш панятлівы з усіх, што пашыраліся на нашыя галовы, тэрмінаў, як: *Северо-Западный Край*, Западная Расія і г. д. І слова "беларус", хоць і было назовам накінутым, а значыцца і шкодным для нас, як свайго роду абух у руках нашых суседзяў, усётакі, дзякуючы вялікай нацыянальна-ўсьведамляючай працы, зробленай — без свайго нават жаданьня — у нашай народнай масе — зрабілася ўрэшце словам для нас блізкім і блізу што нашым.

## *Заканчэньне*

Нацыянальны назоў, як і кажны назоў, зьяўляючыся часта словам выпадковым, а часта і ня сталым ці ўмоўным — сам па сабе зьяўляецца ані благім, ані добрым, і толькі ня кажны аднолькава з тае ці іншае прычыны зьяўляецца для народу выгадным. Гэта тое, што народ наш выказаў словамі: *"хоць гаршчком называй, толькі ў печ ня стаў"*.

Калі-ж ідзець аб нашае сяньняшняе нацыянальнае імя "беларус", дык усё-ж такі трэба прызнаць, што яно зьяўляецца занадта "гаваркім" і да таго-ж такім, дзякуючы якому ў нашага ўсходняга суседа тлеюць нездаровыя імкненьні — пасадзіць наш народ у так званую "рускую печ", а пасьля давядзі, што ты не гаршчок і табе тут ня месца! Гэтая небясьпека, адчутая намі асабліва ў вапошнім дзесяцігодзьдзі, добра вытлумачывае імкненьне перадавых нашых адраджэнцаў, сьведамых свае адказнасьці за нацыянальны быт свайго народу, — да зьмены ягонага нацыянальнага назову[20]. Адзін з такіх адраджэнскіх дзеячоў, Вацлаў Ластоўскі, казаў: *«Ня выракаючыся сваіх гістарычных іменьняў, мы вяртаем цяпер ізноў да першапачатковага нашага імя "Крывічы", бо*

[20] Маецца на ўвазе спроба замяніць у паваенны час на эміграцыі назовы "Беларусь, беларускі" на "Крывія, крывіцкі", актыўна прапагандаваная Янкам Станкевічам.

*гэтае імя ня ёсьць дынастычнае (“Літва”), ня ёсьць веравызнаўчае (“Русь”), а ёсьць імя народнае, нікім нам не накінутае і якое ні ў каго ня было і ня ёсьць у залежнасьці»*.

Зразумелая рэч, што зьмена нацыянальнага назову нашага народу зьяўляецца ў сучасны мамэнт нялёгкай справай, аднак пры магчымасьці мець сваю школьную сэтку і пры магчымасьці мець свае адміністрацыйныя ўстановы — ня будзе гэтая справа і вельмі цяжкай. У кажным выпадку справа гэтая, хаця і наглядаюцца паасобныя спробы рэалізацыі яе сяньня, гэта ёсьць справа, аканчальнае разьвязваньне якой будзе задачай недалёкай будучыні.

*Oldenburg, 1947*

## Лісты

Фленсбург, 19.XII.1949

Дарагі Сябра Я[нка] Запруднік!

Прыкра мне, што, пачынаючы пісаць пісьмо, мушу прасіць выбачэньня за доўгае маўчаньне, але так неяк складваецца жыцьцё, што заўсёды неяк нестае часу да пісаньня. Асабліва трудна было з часам у апошніх месяцах, калі мы з дня на дзень рыхтаваліся да выезду. Спадзяюся, што тут на новым мейсцы будзе з гэтым крыху лягчэй, так што маю надзею часьцей з Вамі перапісвацца.

Мы тут ужо пару тыдняў, усё ўладжваліся ў новыя ўмовы жыцьця і толькі цяпер — прывёўшы ўсё зноў у парадак — пачынаем памаленьку разглядацца, што рабіць далей і з чаго пачынаць. Лягер наш належыць да адных зь лепшых, гэта ня баракі ватэнштацкія[21], але салідная мураваная будыніна. Тут мясьцілася калісь марская школа, дамы спэцыяльна для яе збудаваныя, так што ўсе выгоды на мейсцы. Жывуць тут пераважна палякі, югаславы і сэрбы. Кожны мае сваю адміністрацыю. Беларусы таксама ёсьць, толькі — як гэта агульнавядома — іх трэба пашукаць. Зь дзясятак сем’яў пры ўкраінцах і пару дзясяткаў пры паляках. Пры паляках нават і больш, але ўсё гэта яшчэ вельмі нявыраблены элемэнт. Мы прыпісаліся да польскага лягеру, бо ўкраінцы ня вельмі ляяльна адносяцца да беларусаў. У польскай адміністрацыі пераважна віленчукі, так што зь імі можна хутчэй дагаварыцца. Учора мелі мы гутарку з польскім камандантам лягеру, і як вынікае зь яго слоў — ніякіх перашкод у нашай працы ён рабіць ня будзе. Сягоньня склікалі мы сход тутэйшых беларусаў, прышло аднак людзей яшчэ даволі мала, бо

[21] Перад тым сям’я Будзькаў, як і Пануцэвічаў, жыла ў беларускім лягеры *DP* у Ватэнштэце й была вымушаная выехаць, відавочна, праз канфлікт з Станіславам Каўшом.

беларусы з украінскага лягеру баяцца, каб украінцы не рабілі ім за гэта прыкрасьці, а з польскага лягеру — няпэўныя яшчэ, як паглядзіць на гэта польская адміністрацыя. Але ёсьць надзея, што з часам усё неяк уляжыцца, бліжэй пазнаёмімся, і праца неяк пойдзе.

Галоўная нашая скаўцкая кватэра атрымала даволі добрае памешканьне, зрабілі рэмонт, так што варункі да працы зусім магчымыя. Да працы, ясна, пакульшто толькі для галоўнага шэфа[22], бо разгарнуць тут у лягеры шырэйшай скаўцкай работы ня ўдасца, бо ў лягеры амаль зусім няма беларускай моладзі. Затое моладзь ёсьць у ваколічных лягерох, да якой, ясна, трэба яшчэ даехаць і разварушыць.

Справа са значкамі "Пагоня" — якія Вы калісьці прасілі мяне прыслаць — выглядае так. Я асабіста гэтых значкоў ня маю. Сурвіла-ж доўгі час не хацеў даць. Урэшце быў згадзіўшыся. Я яму перадаў Ваш адрас, і ён абяцаў іх Вам пераслаць. Аднак ніяк ён ня мог сабрацца гэтага зрабіць. Урэшце значкі перадаў мне, каб я іх выслаў. Але якраз падышоў выезд з Ватэнштэту, так што справа гэтая працягнулася яшчэ на нейкі час. Нядаўна быў у нас адзін сябра з Остэрфогэну, і я значкі даў яму, просячы, пры першай нагодзе даручыць Вам. Ня ведаю толькі, ці яны яшчэ Вам патрэбныя. У выпадку чаго значкі перашліце мне назад. Калі-б аднак Вам яны былі патрэбныя, належнасьць за іх прашу перадаць спадару А[ўгену] Каханоўскаму ў Міхельсдорф. Мы там маем зь ім парахункі, так што ня варта перасылаць грошы туды ды сюды. Кошт значка 10 марак, думаю, што ня будзе вельмі дарага. Рахунак А[ўгена] Каханоўскага будзе меншы як 90 марак, так што рэшту перадайце ў Остэргофэн на газэту[23].

На днях прыслаў пісьмо [Мікола] Панькоў, пішыць, што едзіць на скаўцкі зьлёт у Ватэнштэт. Зьлёт, здаецца, што ўжо адбыўся, чакаем на справаздачу Панькова. Як прыйдзе, паведамлю Вас аб гэтым.

У Ватэнштэце — пасьля нашага выезду — барацьба ня скончана. Наступ ідзе на пачатковую школу. Настаўнікаў ругаюць ужо не крывічамі, а проста бязбожнікамі. Поп Сурвіла ў царкве заклікаў верных вясьці кампанію супроць бязбожных настаўнікаў. Думаю, што барацьба доўга не зацягнецца, і настаўнікаў усё-ж выкінуць са школы. Настаўнікаў Вы можа асабіста ня ведаеце, але затое напэўна чулі аб выдавецкай супалцы "Заранка"[24]. Вось супроць гэтай супалкі — якой кіруюць настаўнікі пачатковай школы — і вядзе кампанію ватэнштэцкі ваявода. Разьбіўшы "Заранку", ужо ў Ватэнштэце амаль нічога не астанецца.

---

[22] Маецца на ўвазе Вацлаў Пануцэвіч.

[23] Маецца на ўвазе газэта "Бацькаўшчына", якая ў той час выходзіла ў Остэргофэне.

[24] Выдавецкую суполку "Заранка" заснаваў Язэп Гладкі.

Ватэнштэцкія скаўты — яшчэ перад Вашым выездам — залажылі бровар. Маюць нейкага б[ылога] савецкага афіцэра, які начамі ходзіць на паляваньне за буракамі, дням сьпіць, а броварчык працуе. Цяпер ужо ані [Сьвятаслаў] Коўш, ані тым больш [Хведар] Ільляшэвіч не папрабуюць ламаць галовы, адкуль і як дастаць самагонкі. Пій колькі ўлезе, на мейсцы і бясплатна. Ільляшэвіч цяпер, як у раі, ня можыць ужо вытрымаць у гімназіі да заканчэньня заняткаў, ужо пасьля трэцяй лекцыі п'яны, як бэля. Але чорт зь імі. Ёсьць горшыя рэчы, паўтараецца там тое, што было зь Цьвіркам[25].

Прывітаньні!

Ваш Ч. Будзька.

Чыкага, 28.XI.60

Глыбокапаважаны Спадар Ю[ры] Віцьбіч!

Калі сягоньня нехта ўцякае з Саветаў, ён першым чынам пападае ў рукі контрразьведкі (амэрыканскай ці іншай), якая яго корміць і зь яго пампуе ўсё, што ёй патрэба. Тое самае рабілі і палякі — і такія нашыя людзі, як Мамонька[26], Мэнкэ, Аляхновіч[27] і Адамовіч[28] — даўжэй ці карацей мелі дачыненьні з польскай дэфэнзывай. Калі Польшча трэснула, і Вільня, дзякуючы Сталіну, дасталася жамойцам, жамойцы запрапанавалі беларусам паглядзець некаторыя тайныя польскія архівы. Архіў віленскага стараства праглядалі — Я[нка] Шутовіч[29], М[арыян] Пецюкевіч[30], У[ладыслаў] Казлоўскі і іншыя. У[ладыслаў] Казлоўскі тады жыў разам са мной, і ён прыносіў некаторыя дакумэнты дахаты і паказваў мне. Між іншага, ён мне паказваў некаторыя рэчы аб Адамовічу (Дзяргачу). З дакумэнтаў гэтых вынікала, што Адамовіч жыў у Вільні, ня маючы польскага грамадзянства. Працаваў ён у польскай дэфэнзіве як інфарматар аб расейскай эміграцыі. Калі адбываўся, напрыклад, нейкі зьезд расейцаў у Гданьску, палякі паслалі туды як сваю ўтычку Адамовіча, даўшы яму ўсе патрэбныя паперы. (Сярод архіўных дакумэнтаў была адна паперка, зь якой вынікала, што Адамовіч, вярнуўшыся з Гданьску, мусіць усе дакумэнты зьвярнуць назад, бо яму як чужынцу мець падобных рэчаў не належалася.) У Гданьску

[25] Маецца на ўвазе Ўладзімер Цьвірка.

[26] Маецца на ўвазе Язэп Мамонька.

[27] Маецца на ўвазе Францішак Аляхновіч.

[28] Маецца на ўвазе **Вячаслаў Адамовіч** (1890 — пасьля 1939), палітычны й вайсковы дзеяч, ведамы як Язэп Дзяргач, атаман Дзяргач.

[29] **Янка Шутовіч** (1904—1973), грамадзкі й культурны дзеяч, літаратуразнаўца, выдавец. У 1935—1939 гг. быў выдаўцом і рэдактарам часопісу "Калосьсе".

[30] **Марыян Пецюкевіч** (1904—1983), этнограф, грамадзкі дзеяч, публіцыст.

Адамовіч бязумоўна расейцам не казаў, што ён польскі шпіён, тым больш не заікаўся, што ён беларускі дзяяч, палякі яго пасылалі туды як ісьцінна рускага чалавека, бо інакш ён многа інфармацыяў палякам дастаць ня зможа[31].

Я аб гэтым Вам пішу не патое, каб ачарніць ці абяліць Адамовіча, я ўважаю, што толькі ў сьвятле гэтых фактаў можа быць зразумелым флірт Адамовіча з расейскай эміграцыяй. На маю думку, калі Адамовіч прад расейцамі разыграваў расейца, дык гэта на жаданьне польскай дэфэнзівы, бо толькі такой дарогай палякі мелі ведаць, што робіцца сярод расейскай эміграцыі.

У свой час Адамовіч быў выдаўшы кніжку сваіх успамінаў на беларускай мове. Магчыма, што некаторыя кускі з гэтай кніжкі лучылі ў расейскае выданьне *"Там, где бьются"*[32]. Цікава было-б параўнаць, што ў гэтым выданьні было зьменена.

---

[31] *«М. Адамовіч (Дзяргач) — бальшавіцкі агэнт. Рожныя газэты зьмясьцілі вельмі цікавыя даныя аб выселяным нядаўна зь Вільні разам з некалькімі расейцамі М. Адамовічу (Дзяргачу). Іх, як ведама, гданьскія ўлады не прынялі, і яны да самага апошняга часу жылі ў польскім пагранічным месьце Тчэве. Польскія ўлады выдавалі бязплатнае памешканьне і грашовую дапамогу. І вось, як паведамляюць газэты, няведама якім спосабам і пры чыей пратэкцыі, М. Адамовіч апынуўся на гданьскім грунце і распачаў правакацыйную дзеяцельнасьць у адносінах сваіх калегаў. Адамовіч як давераная асоба і актыўны сябра расейскай манархістычнай арганізацыі ў Бэрліне пад назваю "Братство Русской Правды", да каторай належыць і кн. Кірыл, атрымлівае ад старшыні гэтай арганізацыі палкоўніка Кольбэрга экзэмпляры выходзячага ў Бэрліне манархістычнага органу "Правда". Матэр'ял гэты Адамовіч прадае бальшавікам за добрую плату. Апрача таго атрымлівае значныя сумы з Бэрліну. Тры тыдні назад Адамовіч паведаміў бальшавікоў аб маючым адбыцца ў Гданьску зьезьдзе "Братства Русской Правды". І, выступаючы як арганізатар зьезду, прывёў на зьезд бальшавіцкага агэнта, прадставіўшы яго як сябру арганізацыі і ахвяру бальшавіцкага тэрору. І здолеў да гэткага стопня выклікаць даверра, што гэтаму агэнту выдана была нават 50 зл. дапамогі.*

*На віленскім бруку Адамовіч выступаў як "заядлы антыбальшавік" і "арганізатар антыбальшавіцкіх паўстаньняў на Усх. Беларусі", блутаючыся з падазрыцельнымі і цёмнымі асобамі з расейскіх манархістычных колаў, у тым ліку і зь Міткевічам з Наваградчыны. Дык цяпер, нарэшце, высьвятлілася аблічча і роля гэтага "антыбальшавіка" і "расейскага манархіста".*

*Паводле апошніх вестак з Данцыга Адамовіч арыштаваны данцыгскімі ўладамі і пасаджаны ў турму за распаўсюджваньне фальшывых бальшавіцкіх чырвонцаў»* (Беларускае Слова. № 40 (49). 31 сьнежня 1927 г. С. 4).

[32] Тамъ, гдѣ еще бьются. Повѣсти-были изъ жизни русскаго повстанчества. (Атаманъ Дергачъ, Атаманъ Кречетъ, Атаманъ Шагунъ, Атаманъ Моровъ и другіе.). [Berlin: Tip. br. Girshbaum, 1929]. 247 с.

Калі-ж ідзе аб Казлоўскім, дык тое, што ён расказваў мне аб Адамовічу, штось не зусім клеіцца. Казлоўскі — наколькі я цяпер прыпамінаю, думаў, што ў часе вайны Адамовіч схаваўся быў у Гданьску пад апекай немцаў. Ён быццам (Казлоўскі) пісаў у Бэрлін да [Фабіяна] Акінчыца ў справе Адамовіча, Акінчыц быццам шукаў Адамовіча у Гданьску і быццам Адамовіч з Гданьска некуды схаваўся, бо, як вынікала са слоў Казлоўскага, жонка Адамовіча ў Вільні, даведаўшыся, што беларусы маюць аб Адамовічу дакумэнты ў сваіх руках, быццам паведаміла свайго мужа аб гэтым. Гэта ўсё мне ня зусім падабаецца, бо Адамовіч, паводле нэкралёгу ў "Шляху Моладзі"[33], памёр у Вільні перад вайной. Пры нагодзе я калісь напішу [Леаніду] Галяку, можа, ён гэтыя справы ведае лепш, бо ён як віленчук мусіць таксама нешта ведаць.

Вы калісь парушалі ў адным зь лістоў справу палемікі на бачынах польскай прэсы ў Амэрыцы. Калі Вас цікавіць мая прыватная апінія ў гэтай справе, дык мой погляд такі —

З увагі на тое, што мы, беларусы, самі ня ведаем нашай гісторыі, на мой погляд, спярша чым займацца наступам на вонкі, мы мусілі-б сабрацца пры адным стале і ў сваім асяродзьдзі абгаварыць усе нашыя балячкі. Калі-ж гэта ня можна зрабіць за адным разам, гэта трэба рабіць на раты, але трэба нам абгаворываць, дыскутаваць, спрачацца, біцца, аж пакуль нешта вытаўчыцца. Калі я аб гэтым гаварыў у Нью Ёрку на зборцы Інстытуту[34], [Кастусь] Мярляк сказаў, што для іх, палітыкаў, гэтая справа цяпер ня важная, што як вернемся на бацькаўшчыну, дык тады яны, палітыкі, абмяркуюць тэзы, паводле якіх маюць беларускія прафэсары вучыць на ўнівэрсытэце беларускую гісторыю. Бязумоўна, з Мерляком спрачацца на гэтую тэму няма ніякога сэнсу, але факт фактам, што Інстытут не спаўняе сваіх абавязкаў.

У Вільні перад вайной існавала дваццаць гадоў Беларускае Навуковае Таварыства[35]. Зьбіраліся яны сабе пасьля абеду, выгодна расьсядаліся ў крэслах і, пакуль абед пераварваўся ў жываце, яны сабе аб нечым гаварылі. Пасьля разыходзіліся, так і не пакінуўшы па сабе

---

[33] Маецца на ўвазе публікацыя ў: Шлях Моладзі. № 5 (147). 5 сакавіка 1939. С. 6. Аднак гэта нэкралёг Вячаслава Антонавіча Адамовіча, бацькі Вячаслава Вячаславіча Адамовіча (Язэпа Дзергача).

[34] Маецца на ўвазе Беларускі інстытут навукі й мастацтва (БІНіМ).

[35] **Беларускае навуковае таварыства** існавала ў Вільні ў 1918—1939 гг. Сярод заснавальнікаў былі Вацлаў Ластоўскі, Антон і Іван Луцкевічы, Янка Станкевіч. Сярод сяброў — Уладзімер Самойла, Часлаў Будзька, Станіслаў Станкевіч, Вацлаў Іваноўскі, Ігнат Дварчанін, Аркадзь Смоліч і інш. БНТ выдала навуковыя зборнікі "Гадавік Беларускага навуковага таварыства ў Вільні" (1933), "Запісы Беларускага навуковага таварыства" (1938), кнігу Адама Станкевіча "Доктар Францыск Скарына — першы друкар беларускі, 1525—1925" (1925) і інш.

ніякага сьледу. Маладыя-ж сучасныя беларускія гісторыкі фактычна пачынаць мусяць усё ад пачатку, і ня дзіва, што ў нас поўны разброд.

На маю думку, каб чытаць навуковыя рэфэраты, дык зусім не патрэбна Інстытуту, гэта можа рабіць культурны рэфэрэнт БАЗы[36]. Інстытут патрэбны па тое, каб выковываць беларускую думку. А для гэтага патрэбна хоць некалькі асоб, якія спатыкаліся-б рэгулярна і прадыскутавалі розныя няясныя рэчы. Тады і вынікі нейкія былі-б і тады куды лягчэй можна было-б весьці работу і навонкі.

Прывітаньні!

Ваш Часлаў Будзька.

*P. S.* У Вільні на Завальнай вуліцы быў рынак, на якім прадавалі рыбу. На гэтым рынку былі і будкі са старымі кніжкамі. Вось-жа аднойчы мой школьны сябра Бэрнась Стэповіч[37] (брат пасла Альбіна[38] і К[азіміра] Сваяка[39]) купіў там за 2 злотых Літоўскі Статут Мамоніча[40]. Гэты Статут я асабіста трымаў у сваіх руках, і ён недзе і сёньня перахоўвываецца ў Стэповіча ў Варшаве.

Учора ў "Беларускім Голасе"[41] я прачытаў, што Літоўскі Статут каштуе "мільёны даляраў". Трэба мусіць напісаць Стэповічу, каб ён хутчэй са сваім Статутам уцякаў заграніцу, тады ўрэшце зажывем.

Між іншага, я пісаў да цёткі ў Польшчу, каб яна прыслала мне "Віцебскую Старыну" Сапунова[42], а цётка пішыць, што пошта няпрымае, бо кніжка затоўстая.

26.III.1961 г.

Глыбокапаважаны Спадар Ю[ры] Віцьбіч!

Сягоньня ў нас тут адбыліся дзьве Сакавіковыя акадэміі: ад 1-ай гадзіны да 3-ай была бэцээраўская, ад 3-ай да 6-ай — бэнээраўская. Ад

---

[36] Маецца на ўвазе Беларуска-Амэрыканскае задзіночаньне.

[37] **Бэрнард Стэповіч** (1909—1982), грамадзкі дзеяч, доўгі час працаваў у Міністэрстве сельскай гаспадаркі Польшчы, жыў у Варшаве, быў сябрам Беларускага грамадзка-культурнага таварыства. Аўтар успамінаў пра Казіміра Сваяка.

[38] **Альбін Стэповіч** (1894—1934), грамадзкі й музычны дзеяч. Выкладаў сьпевы й музыку ў Віленскай беларускай гімназіі.

[39] **Казімір Сваяк** (сапр. *Канстанцін Стэповіч*, 1890—1926), каталіцкі сьвятар, грамадзкі дзеяч.

[40] Маецца на ўвазе Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г., выдадзены ў друкарні братоў Мамонічаў.

[41] **"Беларускі Голас"** (*Byelorussian Voice*) — газэта, якую выдаваў ад імя Беларускага незалежнага фонду ў Канадзе Сяргей Хмара. Выходзіла цягам 1952—1992 гг. Усяго выйшла 370 нумароў.

[42] **Аляксей Сапуноў** (1852—1924), гісторык, археограф, краязнаўца, дасьледчык помнікаў старажытнай культуры.

6-ай да 9-ай — кураль піве. Вось-жа папіваючы гэтае піва, я распытваўся ў старыкоў аб Балаховічу[43] і Адамовічах. Даўней я аб гэтым мала цікавіўся, але ў сувязі з Вашымі лістамі мяне гэта пачынае цікавіць.

Стары Баркоўскі расказваў, што ён радзіўся і ў тым часе жыў на тэрыторыі дзейнасьці Балаховіча. Ён нават асабіста знаў некаторых ахвіцэраў Балаховічаўскіх яшчэ з царскай арміі. Аднойчы ў ягоную ваколіцу ўвайшоў аддзел Балаховіча на чале з ахвіцэрам, ягоным асабістым знаёмым. Гэты знаёмы прадставіўся яму як ад'ютант Дзямідава[44].

Калі Баркоўскі ўспомніў аб Дзямідаве, я тады толькі паверыў, што Дзямідаў сапраўды быў у арміі Балаховіча, бо хаця я і раней аб гэтым чуў ад Дзямідава, але ня зусім гэтаму верыў. Дзеля таго, што тут-жа разам з намі піў піва і Дзямідаў, і Дзямідаў таксама далучыўся да гутаркі, і цяпер я яму ўжо пачаў больш верыць.

Тут-жа быў і Ліманоўскі[45], які ўспомніў, што ён разам з Балаховічам вучыўся ў школе, ня помніць толькі, з каторым, бо Балаховічаў было двух. Другі называўся Юзік.

У канцы мы ўгаварыліся, што спаткаемся ўсе яшчэ раз і пагаворым аб Балаховічу, але гутарку нашую наіграем на стужку, каб пасьля можна было гэта замацаваць на паперы. Вось-жа, калі Вас цікавяць выпадкі тых дзён, я мог-бы прыслаць Вам інфармацыі, але Вы павінны прыслаць мне пытаньні, якія Вы хочаце, каб гэтыя сьветкі выясьнілі. Копіі гэтых гутарак аб Балаховічу, што мы тут наіграем на стужку, я пасьля прышлю Вам для далейшай літаратурнай апрацоўкі.

З сягоньняшніх гутарак, даволі хаотычных, я зрабіў выснаў, што армія Балаховіча складалася зь дзьвюх частак: з расейскай і зь беларускай. У беларускай частцы камандаваў Дзямідаў. Палітычна Балаховіч падпарадкаваўся Аляксюку[46] і Адамовічу. Аляксюк-жа быў фігурантам Пілсудзкага, і грошы ад Пілсудзкага праходзілі праз рукі Аляксюка. З увагі на тое, што Аляксюк быў жулікам, уся акцыя з Балаховічам

---

[43] Маецца на ўвазе Станіслаў Булак-Балаховіч.

[44] Маецца на ўвазе Мікола Дзямідаў.

[45] **Янка Ліманоўскі** (1896—1989), пісьменьнік, літаратуразнаўца. Ад 1949 г. жыў у Чыкага. Быў сябрам Беларуска-амэрыканскай нацыянальнай рады ў Чыкага. У 1952 г. выехаў у Нью-Ёрк. Быў сябрам Рады БНР. У 1952—1954 гг. дырэктар БІНіМу. У 1954 г. перабраўся ў Мюнхэн для працы ў беларускай рэдакцыі радыё "Вызваленьне", аднак працаваў там нядоўга. Вярнуўся ў Чыкага. Праз канфлікт з В. Тумашам адышоў ад БІНіМу. Быў сябрам Крывіцкага навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны. З часам абарваў кантакты зь беларусамі.

[46] **Павел Аляксюк** (1892—?), дзеяч беларускага нацыянальнага руху. У 1920 г. узначальваў Беларускі палітычны камітэт у Варшаве. У 1920-я гг. займаўся адвакацкай практыкай у Наваградку, дзе быў віцэ-старшынём Таварыства беларускай школы.

у вачох тагачасных беларускіх нацыянальных дзеячоў ня была добра бачна. Калі-ж ідзе аб маладога Адамовіча (Дзергача), дык ён таксама быў жулікаватым і як атаман вайсковай адзінкі ня меў добрай славы.

Беларуская палітыка адносна акцыі Балаховіча ішла ў тым кірунку, каб ягоная армія была ачышчана ад расейскага элемэнту, які, як чужы налёт, сваімі благімі паводзінамі толькі зьнеслаўляў гэтую ўсю акцыю. Ішло нават аб тое, каб нават Балаховіча зьняць і замяніць яго нейкім іншым ахвіцэрам. Дзямідаў кажа, што беларускія палітычныя колы высоўвалі кандыдатуру Дзямідава. Але на большыя зьмены ўжо ня было часу, бо вайна канчалася.

Як з гэтага ліста Вы бачыце, я вельмі слаба арыентуюся ва ўсім гэтым і дзеля гэтага, калі Вы хочаце, каб я памог сабраць інфармацыі аб Балаховічу і Адамовічах, Вы прышліце мне апытальнік, каб я мог арыентавацца, што трэба выцягнуць ад навочных сьветках тых падзеяў. Гэтыя сьветкі, як Вы можаце дагадывацца, самі ўжо ня вельмі помняць бег выпадкаў, і іхную памяць трэба падпіраць фактамі і дэталямі зь іншых крыніц.

З нагоды надыходзячых Вялікодных Сьвятаў перасылаю Вам і Вашай Сямейцы як найлепшыя пажаданьні!

Ваш Часлаў Будзька.

Чыкага, 21.1.1969

Дарагі Янка [Запруднік]!

Прагледзіў "Беларуса". Аб Літоўскім Статуце гэта Ты пісаў[47]. Восьжа пару слоў на гэтую тэму.

Калі спрачаемся з украінцамі, трэба біцца на іхнай тэрыторыі, г. зн. на ўкраінскую цытату даваць іншую ўкраінскую цытату.

М. І. Марченко[48] — "Історія української культури", Київ, 1961, б. 123: "*Великою подією в історії білоруської й української культур була поява в 1517—1519 рр. 22 окремих вопусків біблії в перекладі на тодішню білоруську мову, яка була поширена і на Україні*".

Інакш кажучы: украінскай кніжнай моваю таго часу была беларуская мова.

На віленскім унівэрсытэце я слухаў лекцыю кракаўскага прафэсара Богдана Лепкага[49] аб украінскай літаратуры. Паводле яго першым,

---

[47] Маецца на ўвазе публікацыя: Будзіч, А. Якою моваю напісаны "Літоўскі Статут"? (Адказ "Новаму Шляху" й "Вільному Слову") // Беларус. № 141. Студзень 1969. С. 1.

[48] **Міхайла Марчанка** (укр. *Михайло Іванович Марченко*, 1902—1983), украінскі гісторык, аўтар шматлікіх прац па гісторыі Ўкраіны часоў Сярэднявечча.

[49] **Багдан Лепкі** (укр. *Богдан Теодор Нестор Лепкий*, 1872—1941), украінскі

які пачаў пісаць украінскай мовай, быў гэтман Іван Мазэпа (лісты да дзяўчыны[50]).

Юры Крыжаніч[51], які едучы ў Маскву, праяжджаў праз Украіну, пасьля сьцьвердзіў (гл. у Карскага[52]), што на Ўкраіне гавораць на двух мовах: просты народ балакае па-ўкраінску, а шляхта па-беларуску. Гэтая шляхоцкая мова Крыжанічу не падабалася, але як ён сьцьвярджае, шляхце ня толькі падабалася, але яна ўважала гэтую мову як вонкавы паказьнік свайго шляхоцтва. З гэтага зусім зразумела, чаму ўкраінская мова ня мела доступу ў літаратуру.

Ты пішаш: *«трэба прызнацца, аднак, што да пасяганьня на беларускасьць "Літоўскага Статуту" не дадумаліся навет расейскія чорнасоцэнцы».*

Цьверджаньне гэтае згрунту няправільнае.

У XVI ст. беларуская мова ў Маскве называлася "літоўскай" мовай. У XVII-жа стагодзьдзі яны для гэтай мовы знайшлі новы тэрмін — якраз "беларуская" мова". Слова "беларускі" гэта якраз маскоўская выдумка. Выдумка якраз чорнасоценская. Бо-ж "беларускі" для іх гэта тое, што "заходне-рускі" (маскоўскі тэрмін "беларусец" не адносіўся толькі да нашых земляў, але і да ўкраінскіх. Усе выхаванцы кіеўскай акадэміі былі "беларусцамі". Украінцы маюць права да гэтага тэрміну таксама), інакш кажучы — *все мы русскіе*. У XIX ст. гэты тэрмін быў выцягнуты

пісьменьнік, літаратуразнаўца, крытык, перакладчык, выдавец, мастак.

[50] Лісты Івана Мазэпы да Мотры Качубей, усяго напісана было іх 12 (1704 г.). Ліст 11: *«Моя сердечнее коханая, наймильшая, найлюбезнейшая Мотроненько! Вперед смерти на себе сподевався, неж такой в серцу вашом одмени. Спомни тилко на свои слова, спомни на свою присягу, спомни на свои рученки, которие мине не поединократ давала, же мене, хочь будеш за мною, хочь не будеш, до смерти любити обедала. Спомни на остаток любезную нашу беседу, коли есь бувала у мене на покою: "Нехай Бог неправдиваго караеть, а я, хочь любишь, хочь не любиш мене, до смерти тебе, подлуг слова свого, любити и сердечнее кохати не перестану, на злость моим ворогам". Прошу, и велце, мое серденко, яким колвек способом обачься зо мною, що маю с Вашой Милостью далей чинити; бою ж болш не буду ворогам своим терпети, конечне одомщение учиню, а якое, сама обачиш. Щаслившии мои писма, що в рученках твоих бувают, нежели мои бедние очи, що тебе не оглядают».*

[51] **Юры Крыжаніч** (харв. *Juraj Križanić*, 1617—1683), харвацкі багаслоў, філёзаф, пісьменьнік, лінгвіст-паліглёт, гісторык, этнограф, публіцыст і энцыкляпэдыст, сьвятар-місіянэр. Прыехаў у Маскву ў 1659 г. У 1961 г. быў абвінавачаны ў падтрымцы ўніятаў і адпраўлены ў высылку ў Табольск, дзе правёў 16 гадоў. Там і напісаў свае асноўныя працы.

[52] **Яўхім Карскі** (1861—1931), філёляг-славіст, заснавальнік беларускага навуковага мовазнаўства й літаратуразнаўства, этнограф, фальклярыст, палеограф.

з маскоўскіх архіваў (першыя маскоўскія навукоўцы былі архіўнымі работнікамі), і ён быў карысны маскалём, паколькі яны на нашых землях мелі сутык ня столькі зь беларушчынай, але з польшчынай.

Справа ў іх зьмянілася, калі паўстаў беларускі адраджэнскі рух.

Прафэсар І[ван] Лаппо[53], выдаючы "Літоўскі Статут" у Коўні[54], многа мейсца і высілку прысьвяціў якраз, каб даказаць, што мовай Статуту ня была беларуская мова. Калі Ты кажаш "навука" і цытуеш аўтара, які данай праблемай не займаўся, дык Ты ўводзіш людзей у блуд. Цытаваць трэба таго аўтара, які над данай праблемай сядзеў гадамі. Ягоная апінія гэта ёсьць "навука". У даным выпадку Лаппо (Лаппа гэты), пішучы сваю кніжку, меў перад сабой жудасны вобраз Ластоўскага.

Справа мовы Статуту і наогул канцэлярыйнай мовы В[ялікага] Кн[яства] Літ[оўскага] зьвязана вельмі цесна з тым, як мы глядзім на Вялікае Княства Літоўскае. Калі мы глядзім на Літву як на беларускую дзяржаву, дык тады і мова — кніжная і канцэлярыйная — таксама зразумела беларуская. Калі-ж на Літву мы глядзім, як на балцкую дзяржаву, дык тады і канцэлярыйная мова, хаця і падобная да беларускай, але не абавязкова мае быць беларускай. Мову гэтую тады называем — славянскім жаргонам альбо эспэранто (так, як у тагачаснай Малдавіі). Калі-ж узяць пад увагу, што тыя навукоўцы, якія Літву ўважаюць балцкай дзяржавай, яны таксама ўважаюць, што гэтая балцкая дзяржава была спадкаемніцай Кіеўскай дзяржавы, а знача і яе культуры, і тут ужо крок да таго, каб прызнаць, што літоўская канцэлярыйная мова тварылася на кіеўскіх традыцыях, а гэта ўжо пахне не беларушчынай, а ўкраіншчынай.

На мой погляд, нельга спрачацца з украінцамі аб тым, ці Статут быў напісаны беларускай ці ўкраінскай мовай, а адначасна ў "Запісах" друкаваць "навуковыя" працы, што Літва была балцкай дзяржавай[55]. Калі ўжо Літву аддаваць балтам, дык ужо няма чаго злавацца, што нехта хоча забраць і "Статут". Гэта пахне трагікамэдыяй, калі мы кідаемся на ўкраінцаў, а самі — публічна — жамойцаў называем ліцьвінамі. А гэта-ж робіць увесь цьвет нашай інтэлігэнцыі — і прэзыдэнт Абрамчык, і міністр прапаганды [Станіслаў] Станкевіч[56], і прафэсар-гісторык

[53] **Іван Лапо** (рус. *Иван Лаппо*, 1869—1944), расейскі гісторык, дасьледчык гісторыі й культуры Вялікага Княства Літоўскага XVI — XVII стст.

[54] Маецца на ўвазе выданьне: Лаппо, Иван. 1588 metu Lietuvos statutas — Литовский статут 1588 года. 2 т. Kaunas: "Spindulio", 1934—1938.

[55] Магчыма, маецца на ўвазе публікацыя: Урбан, Павал. Пра нацыянальны характар Вялікага Княства Літоўскага й гістарычны тэрмін "Літва" // Запісы БІНіМ. № 3 (9). Мюнхэн, 1964. С. 35—90.

[56] У Радзе БНР не было пасады міністра прапаганды, быў міністар інфармацыі, але Станіслаў Станкевіч гэтую пасаду не займаў.

Жук-Грышкевіч[57]. І нават — Запруднік (калі я пачуў з Тваіх вуснаў — гэта было страшна й жудасна).

Калі я ў Нямеччыне выдаваў "Статут" (выняткі)[58], наперадзе я даў цытату з прамовы Льва Сапегі: *"А калі якому народу сорамна права свайго не ведаць, асабліва нам, якія не чужой якой мовай, але сваёй уласнай правы запісаныя маем і ў любы час, што нам неабходна да адбіцьця ўсякай крыўды, можам ведаць"*.

Гэтыя словы Сапегі зьяўляюцца найлепшым адказам тым, хто хоча ведаць, у якой мове пісаны "Статут" і хто быў гаспадаром Вял[ікага] Кн[яства] Літоўскага. Інакш кажучы, Літва ня была Малдавіяй, дзе канцэлярыйная мова была адна, а народ гаварыў на іншай мове.

Ты як сталы чытач савецкай прэсы, напэўна, помніш той артыкул у "Літаратуры і Мастацтве", у якім была парушана справа мовы (тэрміналёгіі) у віленскіх выданьнях. У Вільні расейцы, выдаючы прапагандовыя кніжкі аб Вільні, ужываюць ня тэрмін "беларуская мова", а "руская".

Я бачыў савецкую кніжку ў ангельскай мове, дзе гаворыцца, што ў Вільні было ўсё рускае (а не беларускае). З гэтага выглядае, што савецкія чорнасоценцы ўсё-такі — на ўсуперак табе — дадумаліся.

Мне ўжо трэба ісьці спаць, але яшчэ ёсьць курыёзная справа: Ты раіш украінцам заглянуць у Статут 1529 году, каб даведацца, у якой мове быў напісаны Статут 1561 году[59]. Альбо што такое Казімір Ягелён (Ягайлавіч?).

Альбо такі сказ: *"...тэкст Літоўскага Статуту 1529 году пад рэдакцыяй акадэміка Літоўскае ССР..."*.

Каб я быў рэдактарам "Беларуса", я-б гэтага "літоўскага" акадэміка не прапусьціў-бы.

Прывітаньні!

Твой Ч. Будзька.

---

[57] **Вінцэнт Жук-Грышкевіч** (1903—1989), грамадзкі дзеяч, пэдагог. Скончыў факультэт славянскай філялёгіі й гісторыі Карлавага ўнівэрсытэту ў Празе. Выкладаў беларускую мову й гісторыю ў Віленскай беларускай гімназіі, беларускую мову ў Праваслаўнай духоўнай сэмінарыі й Вышэйшай школе палітычных навук у Вільні. У 1939—1942 гг. быў у савецкай высылцы, адкуль трапіў у Армію Андэрса. Служыў на Блізкім Усходзе, у Афрыцы, Італіі. У 1945—1948 гг. выкладаў гісторыю й псыхалёгію ў вайсковых польскіх школах у Італіі й Вялікабрытаніі. Быў адным з заснавальнікаў Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, першы старшыня арганізацыі (1947—1948). У 1954 г. стаў першым кіраўніком беларускай рэдакцыі радыё "Вызваленьне". Пазьней — віцэ-прэзыдэнт БНР, а пасьля сьмерці Міколы Абрамчыка быў абраны на пасаду Старшыні Рады БНР і выконваў гэтыя абавязкі да 1982 г.

[58] Маецца на ўвазе выданьне: Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 году: выняткі. Ватэнштэт, 1947.

[59] Магчыма, маецца на ўвазе Статут 1566 г. — *Заўв. С. Емяльянава.*

Чыкага, 3.1.1970

Дарагі Янка [Запруднік]!

Сеўшы пісаць гэты ліст, прачытаў тваю рэцэнзыю ў "Беларусе"[60], а за адным скрыпам: артыкул аб Дубейкаўскай[61]. Прачытаўшы гэты апошні, задумаўся, майн лібэр Готт[62], у ім нечага не стае. Хто ў Вільні ня знаў Леаніда Мэнкэ? Вучыўся ў Празе, з Прагі паехаў будаваць Беларусь у Менск, з Саветаў празь Фінляндыю вярнуўся ў Вільню. У Вільні чытаў лекцыі аб Саветах. Кажуць, што немцы яго расстралялі. Няўжо-ж сястра ня ведала, што зь ім сталася? Няўжож, пішучы аб ягонай сястры, ня можна было ўспомніць, што мела такога брата? Між іншага, у беларускай гімназіі вучылася нейкі час дзяўчына зь сям'і Мэнкаў[63]. Пасьля я зь ёй спаткаўся на ўнівэрсытэце, яна была на германістыцы. Будучы аднойчы ў Дубейкаўскіх, я бачыў ейны пакой.

Але не аб гэтым я хацеў напісаць.

У сваёй рэцэнзыі ты пішаш: "*…Літоўскай Мэтрыцы, што была зборам судовых справаў…*". Майн лібэр Готт!

"*…з прытарнаваньнем да іх пісанага й звычаёвага беларускага права…*". І гэта няпраўда!

Кожнае дзіцё ведае, што "Літоўская Мэтрыка" гэта быў архіў гаспадарскай канцэлярыі.

Вялікі князь быў гаспадаром Вялікага Княства, г. зн. быў найвышэйшым судзьдзёй, а згэтуль у "Літоўскай Мэтрыцы" ёсьць і судовыя акты, але гэтыя акты гэта гаспадарскія акты, акты манарха, слова якога ёсьць законам. Адсюль, калі пісаліся Літоўскія Статуты, аўтары заглядывалі ў Літоўскую Мэтрыку.

Сягоньня мы гэта бачым найлепш у Амэрыцы, калі пастановы амэрыканскага Найвышэйшага Суда вызначаюць дарогі амэрыканскага жыцьця. Ня трэба забывацца, што побач Найвышэйшага Суда ў Амэрыцы дзеіць Кангрэс, чаго ў ВКЛ ня было. Калі ў нас нарадзіўся парлямэнтарызм, быў створаны Літоўскі Трыбунал. Але гэта было пазьней.

Перада мной ляжыць Нр. 3 "*The Journal of Byelorussian Studies*"[64]. Гэта журнал для чужынцаў. Вось, на мой погляд, беларус, які пішыць

---

[60] Маецца на ўвазе публікацыя: Я. З. "Журнал Беларусаведы", № 3 // Беларус. № 152. Сьнежань 1969. С. 5.

[61] Маецца на ўвазе публікацыя: Пашкевіч, Валянтына. Жыцьцёвы шлях Юльляны Дубейкаўскай // Беларус. № 151. Лістапад 1969. С. 3; № 152. Сьнежань 1969. С. 4.

[62] ***Mein lieber got*** (ням.) — Божа мой.

[63] Магчыма, маецца на ўвазе **Ляля Мэнке**, сястра Юльяны Дубейкаўскай-Мэнке.

[64] "***The Journal of Byelorussian Studies***" — англамоўны навуковы часопіс,

у гэтым журнале рэцэнзыю на савецкую кніжку, мусіць у першую чаргу вытлумачыць чужынцам, што ў данай кнізе ёсьць з нашага гледзішча — благое. Што-ж робіць Надсон[65]?

У рэцэнзыі аб кніжцы Аляксеева[66] ён пішыць: *"It is an excellent work"*[67].

Інакш кажучы, Надсон тлумачыць чужынцам, што расеец піша добра. Памінаючы ўжо тое, што ніякі расеец ня можа аб нас пісаць добра, тут ёсьць і іншая справа: каб так аўтарытэтна сьцьвярджаць, што ёсьць *"excellent"*, рэцэнзэнт сам мусіць даны прадмет ведаць *"excellent"*, а Надсону якраз да гэтага вельмі далёка.

Пахваліўшы расейца, Надсон цяпер пробуе перад чужынцамі ачарніць беларусаў: *"...and it is hoped that it will encourage Byelorussian scholars to a deeper study of the history of their own country..."*[68].

Беларускіх гісторыкаў за *"deeper study"* маскоўскія фашысты парасстрэльвалі й пахавалі глыбока ў землі. Аб гэтым Надсон перад чужынцамі маўчыць. Маўчыць таксама аб тым, што праца Аляксеева дыплямовая, г. зн. што Масква дэцыдавала, хто яе мае пісаць — беларус ці расеец. Далі пісаць расейцу, г. зн. што беларусу і ў будучыні не дадуць. Іншая справа, калі-б гэтую дыплямовую працу пісаў беларускі студэнт, ён таксама мусіў-бы пісаць яе паводле маскоўскіх інструкцыяў, і яна напэўна ня была-б лепшая, але беларус, пішучы яе, сам нешта для сябе на вус наматаў-бы. А гэтага якраз Масква і ня хоча. Палеміка ў "Полымі" вельмі хутка скончылася, і больш нічога не пачнецца, бо, як аўтарытэтна сьцьвердзіў Абэцэдарскі[69], кожны, хто будзе рабіць *"deeper study"*, будзе абвешчаны агентам імпэрыялістаў. Аб гэтым Над-

---

орган Англа-Беларускага таварыства, выходзіў у Лёндане ў 1965—1988 гг.

[65] **Аляксандар Надсан** (**Надсон,** сапр. **Бочка**, 1926—2015), рэлігійны дзеяч, грэка-каталіцкі сьвятар. У 1946—1953 гг. жыў у Лёндане, пазьней паехаў вучыцца ў Рым, дзе атрымаў сьвятарскія сьвячэньні й адкуль ў 1959 г. зноў вярнуўся ў брытанскую сталіцу. Ад 1971 г. кіраваў Беларускай бібліятэкаймузэем імя Ф. Скарыны. У 1986 г. быў прызначаны на пасаду апостальскага візытатара для беларусаў-каталікоў у замежжы.

[66] Ідзецца пра кнігу: Алексеев, Леонид. Полоцкая земля: очерки истории северной Белоруссии в IX—XIII вв. Москва, 1966.

[67] ***It is an excellent work*** (анг.) — *Гэта выдатная праца.*

[68] *"Спадзяемся, што гэта падштурхне беларускіх дасьледчыкаў да больш глыбокага вывучэньня гісторыі сваёй краіны"* (тут і далей пераклад Н. Гардзіенкі).

[69] **Лаўрэнці Абэцэдарскі** (1916—1975), гісторык, доктар гістарычных навук, прафэсар. У пасьляваенны пэрыяд быў стваральнікам і лідарам навуковай школы вывучэньня дасавецкага пэрыяду гісторыі Беларусі, апалягетам савецкага бачаньня гэтай гісторыі.

сон таксама не напіша, затое яны (у Лёндане) хваляцца, што з Саветаў атрымліваюць прыхільныя лісты.

А цяпер паглядзім, што ён піша аб Быхаўцы[70].

Літоўскія хронікі, як ведаем, дзеляцца на дзьве групы — кароткія і доўгія. Кароткія гэта — ад сьмерці Гэдыміна, доўгія — ад Палемона.

Надсон, гаворачы аб *"shorter version"* і *"extended vesrion"*[71], яснай дэфініцыі не дае. Паводле яго, *"shorter version"* гэта такая хроніка, у якой *"the principal theme is preceded by a compilation from the ancient Rus chronicles"*[72].

Літоўскія хронікі перапісваліся таксама, як перапісваліся іншыя хронікі, і калі так выйшла, што нехта ў зборніку розных хронік памясьціў побач рускую хроніку і літоўскую, гэта яшчэ ня значыць, што характэрнай адзнакай літоўскай кароткай хронікі ёсьць тое, што яна знаходзіцца ў зборніку побач зь іншай хронікай. А наогул, што гэта за дэфініцыя?[73].

Зьвярнуць увагу яшчэ трэба, што рускія хронікі — паводле Надсона — гэта ня копіі, але *"compilation"*. Гэта маскоўскі пагляд, маскалём ён выгадны, бо назваўшы копію рускай хронікі кампіляцыяй, яны могуць яе назваць *"западно-русской"*, а пасьля, выхваціўшы цытату з такой хронікі, крычаць: *"глядзіце, як цёпла беларусы пісалі аб Маскве!"*.

Кароткія літоўскія хронікі, як ведама, пачыналіся ад сьмерці Гэдыміна: *"Гэдымін меў сямёх сыноў"* і г. д. У Надсона-ж: *"from the death of the Grand Duke Alherd in 1377..."*[74].

У доўгіх хроніках — паводле Надсона — аўтар стараўся *"attempts to derive the originals of the Lithianian people from ancient Rome"*[75].

Пад тэрмінам *"Lithuanian people"* Надсон і ангельцы разумеюць жамойцаў. Вось-жа Надсон стараецца ангельцам вытлумачыць, што

---

[70] Маецца на ўвазе **"Хроніка Быхаўца"** — трэці, найбольш поўны агульнадзяржаўны летапісны звод Вялікага Княства Літоўскага, помнік беларускалітоўскага летапісаньня 1-й паловы XVI ст.

[71] *Shorter version, extended version* (анг.) — кароткая вэрсія, доўгая (поўная) вэрсія.

[72] *"Галоўнай тэме папярэднічаюць кампіляцыі з старажытнарускіх летапісаў"*.

[73] Падаецца, тут Часлаў Будзька не зразумеў сэнсу напісанага Аляксандрам Надсанам. У цытаваным тэксьце вялося пра тое, што адметнай рысай "кароткіх" беларуска-літоўскіх летапісаў зьяўляецца наяўнасьць фрагмэнтаў, скампіляваных з ранейшых старажытнарускіх крыніцаў ці створаных на ўсходзе дзяржавы (на Русі, у Смаленску), што адпавядае рэчаіснасьці. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[74] *"...Ад сьмерці Вялікага князя Альгерда ў 1377 г. ..."*.

[75] *"...Спробы вывесці паходжаньне літоўскага народу з старажытнага Рыму"*.

наш прашчур, пішучы гісторыю нашай бацькаўшчыны, стараўся ўзьвялічыць суседні народ, выводзячы яго ад рымлянаў. Гэта называецца беларуская прапаганда.

Ідыётызм ідэяў Надсонаўскіх выкрываецца, навет не заглядаючы ў хроніку, бо-ж аўтар выводзіў з Рыму ня той ці іншы народ, але пануючую клясу ў ВКЛ, да якой належыў і сам (аўтар хронікі).

У хроніцы Быхаўца чытаем (паводле Ластоўскага): *"Ляхове не была шляхта, але былі люды простыі, ані мелі гэрбоў сваіх... але мы шляхта старая Рымская, которыі прэдкі нашы з тымі гэрбы своімі зашлі до тых паньств..."*.

Як з гэтага бачым, Надсон выкарыстоўвае беларускую трыбуну, каб абдурваць чужынцаў, праводзячы антыбеларускую прапаганду.

Шляхта нашая, вывяўшы свой радавод з Рыму, мусіла таксама ў сваіх хроніках выясьніць паходжаньне свайго назову Літва. Выводзілі яны розна. Адны ад Італіі (*L'italia, Lithuania, Litva*), другія ад трубаў. Але назоў гэты яны тарнавалі толькі да славянскай часткі В[ялікага] Княства. У хроніцы выразна кажацца, што калі гэтыя рымляне выселі каля Нёмна на бераг, гэтую зямлю яны назвалі Жамойцяй. І толькі прайшоўшы жамойцкую зямлю і ўвайшоўшы на зямлю славянскую, гэтую зямлю яны назвалі Літвой (г. зн. новай бацькаўшчынай — другой Італіяй). Такім чынам, шляхціч наш, называючы сябе Ліцьвіном, не падшываўся пад чужы назоў, як цьвердзіць Надсон, *«were conscious of being "Lithianian" in a political sense»*[76]. Слова *"Lithuanian"* ён бярэ ў чужаслоў, так як за маёй маладосьці быў тэрмін *"тожэ белорус"*.

Увесь сэнс майго гэтага пісаньня той, што так пісаць чужынцам аб Беларусі, як піша Надсон, усё-ж такі нельга. Інакш кажучы, з гэтым часапісам ня ўсё ў парадку. Інакш кажучы, пішучы аб гэтым часапісе рэцэнзыю ў "Беларусе", трэба было-б хоць адным баязьлівым словам зазначыць, што з гэтай прапагандай навонкі ў нас ня ўсё так бліскуча, як-бы вынікала з Тваёй рэцэнзыі.

Прывітаньні!

Твой Ч. Будзька.

Чыкага, 10.1.1970

Дарагі Янка [Запруднік]!

Як бачыш — пішу на машынцы. Прыватных лістоў на машынцы пісаць я не люблю, бо, увайшоўшы ў азард і пагнаўшыся за зайцам, трудна бывае дапільнаваць, каб воласы на галаве не разьвіхрыліся,

---

[76] *«...Усьведамлялі сябе "Ліцьвінамі" ў палітычным сэнсе»*. Тут Аляксандар Надсан меў на ўвазе не *"падшываньне пад чужы назоў"*, як здаецца Чаславу Будзьку, а выкарыстаньне паняцьця "ліцьвін" як палітоніма.

а тыя, якія чытаюць мае лісты, пераважна не лятуць за мной зайцам, але забаваўляюцца вылаўліваньнем у маіх лістох граматычных памылак. А памылкі гэтыя якраз найлепш вылаўліваюцца ў лістох, пісаных на машынцы.

Калі я пішу ліст, галава мая ў разбродзьдзе, я ганюся за думкамі высака па горах, а што робіцца на нізу, мне мала абходзе, і некаліграфічнасьць літараў якраз сьветкай гэтаму. Але калі ліст мае быць даўгі, ёсьць небясьпека, што літары пад канец будуць наогул не да адцыфраваньня, і такім чынам увесь мой эпісталярны высілак пойдзе на марна. Дзеля гэтага вось пішу на машынцы гэты ліст, бо баюся, што будзе даўгі.

Твой Чаптэр[77] Першы я прачытаў. Пачнем здалёку. У восьмай клясе гімназіі[78] настаўнік матэматыкі Ральцэвіч[79] праз цэлы год убіваў у нашыя галавы т. зв. дыскусыю з двумя няведамымі. У канцы году мы гэтыя формулкі вызубрылі на фэст, але на матуральныя эгзаміны ісьці баяліся, бо з гэтымі вызубрынымі формулкамі тая бяда, што калі чалавек здэнэрвуецца, дык і формулкі ўцякуць. Вось-жа перад матурай мы ўсёй клясай скінуліся па пару залатовак і за гэтыя грошы запрасілі да сябе на гадзінку ведамага ў Вільні хірурга ад дурных мазгоў — Дубіцкага[80]. Дубіцкі прыйшоў і ў працягу некалькіх дзесятак мінут

---

[77] ***Chapter*** (анг.) — частка, разьдзел.

[78] Маецца на ўвазе **Віленская беларуская гімназія** (1919—1944), заснаваная Іванам Луцкевічам, дзе вучыўся Часлаў Будзька.

[79] З успамінаў Леаніда Галяка: “*Канстантын Ральцэвіч –– выкладаў матэматыку ў сёмай і восьмай клясах будучы яшчэ сам студэнтам. Прадмет свой ведаў, але растлумачыць яго ясна вучням ня ўмеў. Быў зрусыфікаваным беларусам, сынам сьвятара. Пабеларуску гаварыў вельмі слаба. Быў заўсёды вельмі добра апранены. Пасьля сканчэньня гімназіі не спатыкаўся зь ім аж да 1963 году. Аднойчы ў 1963 г. паехалі адведаць сям'ю Кендышаў у Спрыгфільд, Масс., і даведаліся там ад Кендыша, што ў мясцовай расейскай царкве сьвятаром манах Ральцэвіч. Зайшлі ў царкву, Багаслужба была ўжо скончаная. Пабачылі худога, асцэтычнага манаха. Жонку маю, Раісу, ён пазнаў адразу. Зь ім часамі спатыкаўся Ніл Краўцэвіч і гаварыў мне, што Ральцэвіч вельмі цьвяроза глядзеў на царкоўныя справы і гаварыў, што непаладкі ў царкве ідуць стуль, што людзі часта не адрозьніваюць што ў царкве Божае, а што людзкое. Прыхільна выказваўся пра беларускую аўтакефалію. Памёр у 1966 годзе ад урэміі*” (Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 1. ЗША, 1982).

[80] Леанід Галяк згадвае: “*Апрача пералічаных рэгулярных настаўнікаў трэба яшчэ ўспомніць Дубіцкага. Дубіцкі быў асобай вядомай у Вільні. Ён вёў прыватныя курсы падгатоўкі да эгзамену сьпеласьці (матуры). Калі ў Вільні нехта ня мог даць сабе рады з навукаю ў віленскіх гімназіях, дык паступаў у гімназію ў Новай Вілейцы — сем кілямэтраў ад Вільні, дзе ўважалася, што навука была шмат лягчэйшаю. Калі тая лягчэйшая навука аказвалася аднак занадта цяжкаю, дык тады запісваліся на ма-*

вылажыў нам на лапаце тое, што мы не маглі зразумець на працягу цэлага году. Тайніца ягоная палягала ў тым, што ён навучыў нас не матэматычных формулак, а выясьніў, як гэтыя формулкі самому выдумаць, калі іх забудзеш. А каб гэта было магчымым, ён у першую чаргу нам выясьніў, на якую халеру яны наогул нам патрэбны. Калі Дубіцкі свой гадзінны сэанс скончыў, кожны з нас пачуў, як на нашыя галовы зыйшоў Дух Божы. Ральцэвіч быў вельмі злы, бо на матуры мы ўсе разьвязалі матэматычныя задачкі спосабам Дубіцкага.

Дубіцкі гэта быў беларускі пэдагог, які ня меў права выкладаць у школах. Ён жыў з прыватных лекцыяў. Калі я ня вельмі ветліва выражаюся аб навуцы як такой, дык гэта таму, што сярод навукоўцаў вельмі трудна спаткаць чалавека, які меў-бы такі крыштальны розум, як Дубіцкі. (У дужках зазначу, што мы часам любім гаварыць аб геніяльнасьці беларускага народу, але імя Дубіцкага ніколі не сустракалася на бачынах беларускае прэсы. Адкуль ён паходзіў, я ня ведаю, але жонка ягоная — з дому Андрушкевіч — паходзіла зь Віцебска. Магчыма, і ён быў адтуль. Я добра знаў ягонага швагру, і каб ня ведаў, што гэта швагер, думаў-бы, што гэта сын Дубіцкага. Ён працаваў ў аддзеле прапаганды, калі гаварыў, дык публіку абвіваў вакол свайго пальца.)

На ўнівэрсытэце маім бажышчам быў студэнт гісторыі Леанід Жытковіч[81]. Ніколі мне не ўдалося сядзець каля яго поруч, бо там умаш-

---

*туральныя курсы Дубіцкага. Панавала такая думка, што калі і Дубіцкі не патрапіў навучыць, дык ня варта ўжо больш і прабаваць.*

*У маёй восьмай клясе дырэктар гімназіі Р. Астроўскі неяк заўважыў, што вучні ня вельмі бойка спраўляюцца з матэматыкай (дыскусія квадратнага раўнаваньня), дык парадзіў запрасіць на дадатковыя лекцыі з матэматыкі — Дубіцкага. Вучні ахвотна згадзіліся, і за пару месяцаў дадатковых лекцыяў, Дубіцкі запраўды ўзьняў матэматычную роўню клясы. Пад канец ягоных выкладаў большасьць вучняў напрактыкавалася разьвязваць задачы за якіх дзесяць мінутаў, а задачы былі паважныя, — часта тыя, што фактычна былі даваныя на ўступных эгзамінах у вайсковых школах — Сэндгурст у Англіі або Сэнт Сыр у Францыі.*

*Дубіцкі належаў да катэгоры гэтак званых ціхіх Беларусаў. У Вільні было многа такіх, якія за царскіх часоў, калі аснаўным імкненьнем усіх было змаганьне з Расейцамі, прыймалі ўдзел у беларускім руху, але выселі зь яго на прыстанку польскай незалежнасьці і відаць стараліся забыцца пра сваё мінулае, ды таксама стараліся, каб аб гэтым забыліся ўсе іншыя. Эдуард Будзька, які зь імі супрацоўнічаў за царскіх часоў, надалей лічыў іх усіх Беларусамі і доваду аб іншым ня прыймаў. Як прыпамінаю, да гэтых былых Беларусаў належаў Сталыгва, собсьнік складу сельска-гаспадарчых машынаў, Зыгмунт Нагродзкі, собсьнік пераплётнай майстэрні на Млыновай вуліцы, Наркевіч і сястра Э. Будзькі Паліна. Такіх, былых, Беларусаў было ясна многа больш"* (Галяк, Леанід. Успаміны. Кн. 1).

[81] **Леанід Жытковіч** (пол. *Żytkowicz*, 1909—1991), гісторык, доктар габілітаваны, прафэсар. Скончыў Віленскі ўнівэрсытэт (1929), дзе пасьля выкладаў.

чываліся іншыя, такія, як Аляксей Дзяруга (імя якога мусіць Табе быць знаёмым, бо ён цяпер у Польшчы спэц ад БССР, у беластоцкай “Ніве” таксама быў ягоны артыкул). Я сядзеў заўсёды ззаду, ён пахіляў часамі да мяне галаву і пару слоў кідаў у мой бок. Напрыклад: *“Калі будзеш пісаць рэцэнзыю, дык помні, што рэцэнзыі бываюць двух гатункаў: рэцэнзыя для аўтара і рэцэнзыя для публікі. Калі пішаш рэцэнзыю для аўтара, валі і на нічога не аглядывайся, прыдзірайся нават да коскі. Гэта ўсё пойдзе на карысьць для аўтара. Калі-ж пішаш публічную рэцэнзыю, дык не забывайся, што апрача вас двох прысутнічае публіка, а з увагі на гэта сьцеражыся, каб не пакрыўдзіць аўтара як чалавека”*.

Я гэта помню, хоць у жыцьці бачу іншае: прыватна пахвалюць, а ў газэце змажуць. Пакольки я захапляўся Жытковічам, дык зразумела, што я сабе ўяўляў, што як такі чалавек пачне пісаць доктарскую працу, дык гэта будзе пудовая праца. *“Леанід,* — аднойчы пытаюся яго, — *не магу сабе ніяк уявіць, як тоўстая будзе твая доктарская праца”*. *“Мая праца,* — кажа ён, — *будзе найцянейшая з усіх доктарскіх працаў. Як пішаш працу, дык яна расьце і расьце, і толькі як скончыш пісаць, тады толькі даведаешся, аб чым хацеў напісаць. Вось вазьмі і выкінь гэтую працу ў печ і напішы на 20 бачынках тое, што ты хацеў пісаць на 1000. Праца мусіць быць крыштальна яснай, а калі знаеш прадмет, дык і будзе ўсё коратка”*.

Усё, што я тут пішу, гэта не на тэму, але пішучы не на тэму, а ўсё-ж кручуся вакол тэмы. А пішу не на тэму таму, што ў Тваім Чаптэры Першым многа розных цытатаў, а няма аднэй нейкай ніткі, якая зьвязала-б гэтыя цытаты ў адзін паток, які-б прамыў чытацкія мазгі. Ты пішаш так, як матэматык Ральцэвіч вучыў нас матэматыкі. А я хацеў-бы, каб Ты, пішучы чужынцам, пісаў у духу Дубіцкага.

У гэтым мейсцы ёсьць мейсца (“й” непатрэбнае) на анегдот. Нехта некалі пытаўся ў такога чалавека, як Дубіцкі: *“Скажэце, калі ласка, як хутка можна навучыць чалавека?”*. *“А гэта залежыць ад таго, ці ён штось ведае ці нічога ня ведае. Калі нічога ня ведае, дык яго можна вельмі хутка навучыць, калі-ж нешта ведае, дык справа цяжэйшая. Бо сьпярша, чым вучыць, трэба добра напацець, каб вычысьціць ягоныя мазгі з усяго таго бараxла, што ён туды сам напхаў”*.

Гэта найлепш можна спраўдзіць, калі хочам некаму вытлумачыць паходжаньне тэрміну “Беларусь”. Як гарохам аб сьцяну. Кожнае слова адаб’ецца назад. Ня можна ніяк пралезьці ў чужы мозг.

---

З 1940 г. працаваў у бібліятэцы польскага аддзелу Інстытуту літуаністыкі, у 1941 і 1944—1945 гг. навуковы супрацоўнік Цэнтральнага архіву Літоўскай ССР. З 1945 г. жыў у Польшчы, да 1962 г. выкладаў у Торунскім унівэрсытэце, у 1953—1980 гг. працаваў у Інстытуце гісторыі Польскай акадэміі навук. Дасьледаваў гісторыю ВКЛ XVIII ст., паўстаньне 1794 г., праблемы сацыяльна-эканамічных адносінаў у Польшчы й Рэчы Паспалітай.

Куды горшая сытуацыя, калі той, хто хоча пісаць на гэтую тэму, сам перад тым, як пачаць вывучаць гэтую праблему, не ачысьціць сьпярша свайго ўласнага мазга. З мазга мусіць быць усё выкінута, дакуманты трэба чытаць чыстым мазгом, г. зн. — кожны тэрмін, які мы спатыкаем у дакуманце, мусіць быць для нас іксам, гэты ікс мы мусім вытлумачыць даным дакумантам, а не пры помачы таго барахла, які загнязьдзіўся ў нас у мазгох.

Думаю, што я не памылюся, калі скажу, што Янка Запруднік, напісаўшы разьдзел аб тэрміне Беларусь, не зрабіў ані воднага кроку наперад, бо ўсё, што ён тут напісаў, ён ужо ведаў перад тым, як пачаць пісаць. Цытаты з кніжак ілюструюць толькі ягоную старую веду, а ня новую. Аўтар паказвае пальцам на адну цытату і кажа: *"Гэта карова, гэта я ведаю ад мамы. А гэта вось конь, гэта я ведаю ад таты. А гэта, запраўды, што за кур'ёз натуры — ані карова, ані конь..."*.

Пачнем з драбніц. На бач. 8 чытаем, што слова "Русь" і "Расея" гэта два розныя тэрміны. А гэта няпраўда. Калі ў Кіеве была заложана Магілянская Акадэмія[82], студэнты там вывучалі грэцкую мову, і як людзі граматныя, пачалі слова "Русь" вымаўляць на грэцкі фасон "Расея". Пасьля яны навучылі гэтаму маскалёў, за што з часам атрымалі ад маскалёў тэрмін "маларосаў". Хаця і гэты апошні тэрмін выдумалі не маскалі, але ўкраінцы.

Калі нехта даводзіць, што ў тэрміне "Беларусь" частка "Русь" паходзіць не з Масквы, а з Кіева, дык увесь камізм палягае ў тым, што там, на Ўкраіне, з гэтым тэрмінам было куды горш, як у нас. Даволі толькі разгарнуць кніжку Гогаля, каб ужо на першай бачыне ў першым радку пабачыць гэтую Маларасію[83].

Ты пішаш, што ў XIV і XV стагодзьдзях, калі ўпершыню зьявіўся тэрмін "Белая Русь", слова "Русь" азначала праваслаўных. А гэта няпраўда, бо ўжо сам факт, што слова "русь" ужывалася ў трох дзяржавах, не дае асноў цьвердзіць, што гэтае слова магло азначаць тое самае.

У Расеі "Русь" гэта была татарская правінцыя "рускі улус", у Польшчы гэта "Рускае ваяводзтва" (Галічына або Чырвоная Русь), на літоўскай Украіне гэта былая Русь, у Ліцьве — гэта праваслаўныя. Такім чынам, калі Ты цьвердзіш, што тэрмін "Белая Русь" паўстаў на базе рэлігійнага тэрміну, дык з вышэй пералічаных дзяржаваў базай такой магла быць толькі Літва. Але цьвердзіць, што тэрмін "Белая Русь" паўстаў у Літве, гэта ўжо фальсіфікацыя гісторыі, якой займаюцца там у Менску і тут Вітаўт Тумаш.

---

[82] **Кіева-Магілянская акадэмія** — названая ў гонар мітрапаліта Кіеўскага Пётра Магілы, першая вышэйшая навучальная ўстанова на Ўкраіне, дзеіла ў 1632—1817 гг. у Кіеве.

[83] *"Сорочинская ярмарка"* Мікалая Гогаля пачынаецца сказам: *"Как упоителен, как роскошен летний день в Малороссии!"*.

У тэрміне “всея Руси”, на мой погляд, ня было нічога благога. Калі татары заваявалі Расею, яны ператварылі яе ў сваю правінцыю з назовам “рускі улус”. Гэты “рускі улус” распадаўся на шэраг дробных княстваў, і калі татары аднаго з мясцовых князёў вызначалі вялікім князем як намінальнага рэпрэзэнтанта рускага улуса, дык гэты вялікі князь меў поўнае права на тытул *“всея Руси”*, бо-ж пад гэтым тытулам разумеўся ўвесь рускі улус. Іншая справа, калі “рускі улус” як татарская правінцыя практычна перастаў існаваць, а вялікі князь *“всея Руси”*, стаўшы мілітарна на ногі, захацеў быць ня толькі тытулярным гаспадаром быўшага татарскага “рускага улуса”, але і фактычным. Тады толькі паўстала пытаньне, што крыецца пад шыльдай *“гаспадар всея Руси”*? Пытаньне гэтае аднак паставіў не вялікі князь літоўскі, як думаюць некаторыя ў нас, а польскі кароль, бо-ж у Польшчы гэта Русьсю называлася адно з польскіх ваяводстваў. (Гэта вельмі выразна відаць на тагачасных картах, дзе каля Львова фігуруе вялікімі літарамі Русь ці на лаціне Руссія.)

Вялікі літоўскі князь на тэрмін *“усяе Русі”* чхаў, уважаючы, што ў Ліцьве ніякай Русі няма. Для нас сягоньня гэта можа выдавацца дзіўным, бо пад гэты тэрмін можна было-б падцягнуць тагачасную Ўкраіну. Але факты гавораць штось іншае. Украіна, калі яшчэ была Русьсю, была разбурана татарамі й ператворана ў пустыню, і да Літвы была прылучана ўжо не як Русь, а як кусок татарскай пустыні. На гэтай пустыні Літва пабудавала замак Кіеў, але гэты замак быў пабудованы не дзеля таго, каб трымаць у абцугох падбіты народ, але каб не дапушчаць татарскіх загонаў да літоўскіх зямель. Ужо сам факт, што для рэмонту гэтага замку прывозіліся работнікі зь літоўскай зямлі, сьцьвярджае той просты факт, што вакол Кіева ня было людзей, інакш кажучы — на былой Русі ўжо фактычна ня было Русі. (У Літоўскай Мэтрыцы ёсьць дакуманты, на аснове якіх можна прыглядзіцца гэтай дыскусыі на тэму: на якога чорта нам патрэбны Кіеў? У Літоўскай Мэтрыцы таксама знойдзем скаргі кіеўскіх старастаў, якія жалюцца, што шляхта, прыпісаная да кіеўскага замку, замест сядзець на Ўкраіне, праводзіць весела час у Вільні, а ў Кіеве, у часе татарскай пагрозы, няма каму бараніць замку.)

Быў такі савецкі анегдот аб зайцы, што ўцякаў, баючыся, каб яго не падкавалі разам зь вярблудамі. Як мы падобныя на яго. Маскаль толькі пісьне аб нейкай *“усяе Русі”*, а мы ўжо дрыжым, як зайцы, хоць перад усім сьветам божымся, што мы ня Русь…

Ці-ж справа зь Мікалаем Першым не трагікамэдыя? Той прыказаў, каб у афіцыйных паперах замест слоў “літоўскія” ці “беларускія губэрні” пісаць іх паіменна, а ўжо наш брат робіць крык, што цар забараніў ужываць тэрмін “Беларусь”. Па-першае — няпраўда, а па-другое, ну дык што? Замест крычаць гвалту, трэба было-б паставіць помнік. Але якраз помніку ставіць няма за што, бо ўвесь гэты шум высасаны з пальца.

Трэба толькі глянуць, што рабілася ў Эўропе. Напалеон сваімі войнамі растрос і разбудзіў Эўропу. Нараджаецца штось новае, нараджаецца “нацыянальнае пытаньне” ці нацыянальнае пачуцьцё, рэчы дасюль няведамыя, родзіцца рамантызм, зацікаўленьне да народу, якога дасюль ня было, родзіцца этнаграфія як навука, родзяцца этнаграфічныя тэрміны.

І вось — дзе сабака закопаны — калі ў нас родзяцца этнаграфічныя тэрміны, асновай для гэтых этнаграфічных тэрмінаў прыймаецца расейская адміністрацыйная тэрміналёгія, якая жывое цела народа падзяліла на “літоўскія” і “беларускія” губэрніі. Калі-б царская забарона адносна нашых губэрняў была праведзена раней, дык этнаграфія, якая вось радзілася, у тэрміналёгічным пытаньні ня мела-б зьвязаных рук адміністрацыйнай тэрміналёгіяй. Ідзе ня толькі аб сам этнаграфічны назоў, але і аб ягоны абсяг. Нованароджаны этнаграфічны тэрмін “Беларусь” як дзіцё адміністрацыйнага тэрміну “беларускіх губэрняў” было пры такім ненатуральным пародзе[84] — пакалечана.

Калі-ж разглядаць забарону Мікалая Першага[85] аб губэрнях як акт варожы супроць беларускага народу (якому быццам нават назоў адабралі), дык гэта пустая гутарка. Цар ня мог выступаць супроць беларускага народу, бо такога народу яшчэ ня было, этнаграфія яшчэ толькі радзілася. З другога боку, мы забываемся, што такое была Літва ў вачох расейскага народу. Літва ў вачох расейскага народу гэта перадусім пальшчына, а па-другое — каталіцтва. Для змаганьня з гэтай пальшчынай і каталіцтвам у інтарэсах расейскага народу трэба было-б стварыць беларускі народ, нават калі-б яго ня было. І вось, пару гадоў пасьля той слаўнай забароны Мікалая Першага, у Пецярбургу пад бокам таго-ж цара ў жандарскай друкарні друкуецца кніжка расейскага генэрала Бэз-Карніловіча аб Беларусі[86]. У прадмове аўтар жаліцца, што так мала пішацца аб Беларусі. Пісаць больш аб Беларусі было ў расейскіх інтарэсах на тым гістарычным этапе паходу расейшчыны на Захад. Навуцы быў дадзены загад — шукаць рускіх карэньняў на тэрыторыі гістарычнай Літвы, на тэрыторыі пакрытай тады польшчынай.

Ахілес, пераадзеўшыся за жанчыну, схаваўся быў сярод дзяўчат. Каб яго там адшукаць, кінулі перад дзяўчатамі меч і затрубілі на трывогу ў рог: дзяўчаты разьбегліся, а Ахілес кінуўся за меч. Гэта прыпомнілася мне ў сувязі з штучным падзелам былога Вялікага Княства Літоўскага на літоўскія й беларускія губэрні. Сяньня яшчэ многія з нас думаюць,

---

[84] **Парод** — нараджэньне.

[85] **Мікалай I** (1796—1855), імпэратар Расейскай імпэрыі ў 1825—1855 гг.

[86] Маецца на ўвазе выданьне: Без-Корнилович, Михаил. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся. Санкт-Петербург, 1855.

што адміністрацыйны падзел гэты быў зроблены паводле нацыянальнага прынцыпу. Вось-жа, каб пераканацца ў гэтым, багіня гісторыі затрубіла была ў ваенны рог. Расейскія ўлады адразу-ж зрабілі адпаведную адміністрацыйнуюператасоўку: беларускія губэрні прылучылі да літоўскіх пад адзінае літоўскае кіраўніцтва, а зь Віленскай губэрні, выдзяліўшы Жамойць і Ўпіцкі павет, стварылі незалежнае кіраўніцтва пад назовам *"Временное управление Самогитских областей"*. Гэта было ў трыццатых гадох мінулага стагодзьдзя. Як бачым, расейскія ўлады падзялілі ВКЛ на дзьве часткі — Самагіцію і Літву — правільна. Аднак, калі мінула небясьпека, вярнуліся ізноў да падзелу на літоўскія і беларускія губэрні. Гэты паварот ёсьць сьцьверджаньнем, што падзел ВКЛ быў не выпадковы, а што ён адпавядаў расейскай палітыцы. Палітыка гэтая зводзілася ясна не да мэханічнага падзелу на такія ці іншыя губэрні, а да стварэньня двух акупацыйных цэнтраў, пры гэтым кожны з гэтых цэнтраў меў даручанае іншае палітычнае заданьне. Выдзяленьне беларускіх губэрняў пад асобнае кіраўніцтва безумоўна сьцьвярджала, што русыфікацыйная палітыка ў гэтай частцы колішняга ВКЛ будзе больш актыўнай. А наогул сам падзел быў мэтазгодны, Літву трэба было рэзаць на часткі і жуць па кусочку. Рабіць жа закід Мікалаю, што ён запрапасьціў справу Аляксея[87] і Кацярыны[88], гэта пустая гутарка.

У 1472 годзе праз усю Эўропу праяжджае афіцыйнае пасольства з далёкай і амаль няведамай краіны. Пасольства вязе з сабой афіцыйныя граматы, якія афіцыйна пад пячаткамі сьцьвярджаюць, што пасольства гэтае ад вялікага князя Белай Русі. Папа рымскі вітае гэтае пасольства ў прысутнасьці дыпляматычнага корпусу. Так што, калі хто ў Эўропе ня ведаў дасюль, што такое Белая Русь, дык цяпер мае афіцыйную нагоду — зь першых крыніц — даведацца, што Белая Русь гэта тая краіна, якую ў Эўропе называюць Масковіяй. Пераклад, між іншага, тэрміну "Белая Русь" на лацінскую мову зроблены правільна — Альба Руссія.

(В документе папской курии за 1472, имеющим характер протокола совета кардиналов, указывается, что *"предметом обсуждения было посольство Иоанна, князя Белой России"*[89]. А гэта ўжо змадэрнізаваны пераклад з лацінскае мовы.)

---

[87] Відаць, маецца на ўвазе **Аляксей Міхайлавіч** (1629—1676), другі маскоўскі цар з дынастыі Раманавых, пры якім у выніку вайны з Рэччу Паспалітай да Маскоўскай дзяржавы адышлі Браншчына, Смаленшчына і Левабярэжная Ўкраіна.

[88] Маецца на ўвазе **Кацярына II** (1729—1796), імпэратрыца ўсерасейская ў 1762—1796 гг. Пры яе актыўным удзеле адбыліся падзелы Рэчы Паспалітай.

[89] "**Script** *rer. italic. XXIII. an. 1472, col. 88. Сегодня собраны на совет кар-*

Пару год пасьля гэтага пасольства, у Італіі друкуецца ўпершыню карта Нямеччыны (і суседніх краін). На гэтай першай друкованай карце ёсьць і тэрмін Белая Русь. На карце выразна напісана: *"Белая Русь або Масковія"*. Цяпер кожны ў Эўропе, хто ўмее чытаць, можа даведацца, што такое Белая Русь і дзе яна знаходзіцца.

---

*диналы. Предметом обсуждения было посольство Иоанна, князя Белой России. Послы пришли во-первых с тем, чтобы бить челом папе, а потом, чтобы помолвить дочь (inde desponderent filiam) бывшего деспота Пелопоннеса, которая воспитывалась вместе с двумя своими братьями, бежавшими из отечества, в Риме по милости апостольского престола. Послам указано жить во дворце Монте Марио, откуда открывается вид на весь город, пока будут приняты решения относительно брака и церемонии приема посольства, ибо явились некоторые сомнения относительно разностей обряда и недостаточными оказались сведения о вере русской. Поданы были мнения: брак одобрен, разрешено также чтобы церемония обручения совершена была торжественно в базилике апостолов Петра и Павла, в присутствии прелатов. Постановлено, чтобы на встречу послам вышли фамилии папы и кардиналов. Эти постановления обусловлены были следующими мотивами: русские приняли акты флорентийского собора и имели архиепископа латинского, назначенного от римского престола, между тем, как греки получают своих епископов от константинопольского патриарха. Русские просят назначить к ним посла, [685] который бы, осведомившись об их вере и изучив положение дел, исправил что окажется ошибочным. Они заявляют послушание римской церкви. Наконец, если бы даже русские были еретиками, брачные союзы с ними допускаемы по каноническому римскому праву (non tamen ex jure poutificio virita cum iis conjugia habentur), тем более, что заблудшиеся чада должны быть привлекаемы почестями и благосклонностию в лоно матери церкви.*

*Мая 25-го, послы упомянутого князя приглашены были в секретную консисторию, они поднесли пергаменную грамоту с золотой висячей печатью. В грамоте содержалось следующее на русском языке: Великому Сиксту, папе римскому, Иван князь Белой России челом бьет и просить дать веру его послам. Эти последние приветствовали папу, поздравили его с восшествием на престол, повергли к ногам апостольским от имени своего князя почтение и предложили подарки: шубу и 70 соболей. Папа похвалил князя за его приверженность к христианству, за принятие постановлений флорентийского собора, за недопущение подчинения по делам веры константинопольскому патриарху, назначаемому султаном, за предложение сочетаться браком с христианкой, воспитанной при апостольском престоле; наконец, выразил удовольствие по поводу изъявления почтения римскому первосвященнику, что у русских равняется признанию полного послушания. За подарки высказана благодарность. При этом присутствовали послы: короля неаполитанского, венецианский, миланский, флорентийский и герцога феррарского"* (гл.: Успенский, Федор. Брак царя Ивана III Васильевича с Софией Палеолог // Исторический вестник. Т. XXX. № 11. 1887).

Мала таго, найбліжэйшы сусед таямнічай Белай Русі — вялікі князь літоўскі Аляксандр[90], пішучы ліст у Вэнэцыю, сцьвярджае пад сваёй пячаткай, што князь маскоўскі ёсьць князем Белай Русі.

Мала таго, цяпер у гэтую Белую Русь едуць граматныя людзі з заходу, прыяжджаюць, глядзяць і дыскутуюць з маскоўцамі, што азначае слова "белы". Вярнуўшыся-ж на Захад, пішуць кніжкі аб сваіх падарожжах.

Сягоньня я на гэтым закончу, заўтра буду пісаць далей.

Закончу цытатай аб артадоксыі: *«Польский митрополит Ян Лаский в 1514 году в Риме знает разделение русского народа на три части, но оно своеобразно; он объясняет папе, что "Белые Русины" это Московиты, у которых есть свой великий князь, "Червоные Русины" это все подчиненные Польше и Литве, а третьи это "Русины-Валахи", имеющие итальянское наречие, но русскую веру»*.

11.1.1970 г.

Пачнем з цытаты: В[асилий] Ключевский[91] — "*Сказания иностранцев о Московском государстве*".

*"Сводя иностранные известия за XV и первую четверть XVI века, мы находим в них следующие географические представления о северо-восточной Европе.*

*За Польшей на восток и северо-восток лежит обширная страна, ровная, обильная лесами, озерами и реками, во многих местах пустынная и вообще менее населенная, нежели Польша (Барбаро, 62). Более известную часть этой страны, ближайшую к Польше и Литве и подвластную им, составляют Красная и Нижняя Россия (Г.* де Ланно*); далее на северо-восток, до самых границ Азии, простирается также Россия, называемая Белой Россией или Московией, но независимая, вовсе неизвестная западным космографам и историографам (Кампензе, 12) и составляющая как бы другую часть света; в первой четверти XVI века можно было еще сказать, что имя этой страны недавно стало известно Западной Европе (Иовий, 22)"*.

Характэрнай рысай тэрміну "Белая Русь" ёсьць тое, што гэты тэрмін не ўкараніўся ў маскоўскую тэрыторыю. І дзеля гэтага трэба прыгледзіцца бліжэй, што азначаў гэты тэрмін і што азначала слова "белы". (Слова "белы" тарнуецца ня толькі да Русі, але і да цара: "Белая Русь", "белы цар".)

Маскоўскі мітрапаліт Віленскаму біскупу пісаў: *"А окольные все государи не токмо хрестьянскые, но и бусурманскые, имени его не*

[90] Відаць, маецца на ўвазе **Аляксандар Ягелончык** (1461—1506), вялікі князь літоўскі (1492—1506), кароль польскі (1501—1506), унук Ягайлы.

[91] **Васіль Ключэўскі** (рус. *Василий Ключевский*, 1841—1911), расейскі гісторык, прафэсар Маскоўскага ўнівэрсытэту, аўтар прац па гісторыі Расеі.

*убавливают, но и свыше прибавливают называючы его Белым Рускым царем...*".

З гэтага ліста робім два вывады: слова "белы" не азначае колер, але нешта вышэйшага, па-другое-ж яно азіяцкага паходжаньня.

Маскоўшчына была татарскай правінцыяй, і дзеля гэтага зразумела, што расейская юрыдычная тэрміналёгія прасякнута азіяцкім духам.

Возьмем такое нявіннае выражэньне, як "Чорны лес" ("Чорны лес" гэта ня тое самае, што "чорны бор", бо слова "бор" гэта "збор", і чорны бор гэта агульны падатак на татараў). Вось-жа ніхто ў нас ніколі не дадумаецца, што "чорны лес" гэта лес, які належыць "чорнапашцам". Што такое "чорнапашцы"? Гэта людзі, якія жывуць на "чорнай зямлі"? Што такое "чорныя землі"? Ці гэта часамі ня землі, на якіх жывуць прыгонныя сяляне? Не, прыгонныя сяляне жывуць на "белых землях" і называюцца "белапашцамі". На чорных-жа землях жывуць вольныя сяляне і называюцца "чорнапашцамі". Землі вольных сялян "чорнапашцаў" таму "чорныя", што яны абложаны дзяржаўнымі павіннасьцямі. "Белыя-ж землі" гэта баярскія землі, землі "выбеленыя", г. зн. асвабоджаныя ад дзяржаўных павіннасьцяў.

*«...Он (новокрещенный из крымских татар) просит государя освободить его двор в Путивле от налогов и повинностей, "обелить" и велеть ему служить царскую службу вместе с белодворцами»*.

Як з гэтай цытаты бачым, "беладворцы" гэта людзі вольныя, але "белапашцы" вольнымі ня былі.

Гэтая каляровая расейская тэрміналёгія для нашай мовы чужая, нават самі расейцы на ёй ногі ломяць.

У ваднэй грамаце ёсьць выражэньне, што ў манастырскім лесе "*крестьяне лес секут и белуют*".

Амвросий[92], составитель "Истории российской иерархии", а также Н. Коноплев ("Святые Вологодского края"93) переводит это слово: «"*по своей воле владеют", но мне кажется, что здесь речь идет о том, что соседние крестьяне... белок ловят*»...

Яшчэ адно слова "бялец":

*Феодосий Суморин*[94] *среди прочих предсмертных распоряжений дает и такое: "И придет кто роду моего с верою в монастырь мой,*

[92] Маецца на ўвазе япіскап **Амвросій** (**Арнацкі**, рус. *Амвросий (Ортанский)*, 1778—1828), япіскап Пензенскі й Саратаўскі, гісторык Рускай праваслаўнай царквы, аўтар сямітамовай працы "История российской иерархии".

[93] Маецца на ўвазе праца: Коноплев, Н. Святые Вологодского края. Москва, 1895.

[94] Маецца на ўвазе **Феадосій Суморын Татэмскі** (рус. *Феодосий Суморин Тотемский*, каля 1530—1568), прападобны Рускай праваслаўнай царквы.

*а захочет жити в бельцах, и вы бы его держали, а захочет постричись, и вы б их постригали без вкладу"*.

Да такіх "бяльцоў" залічыць можна было-б кампазытара Лішта[95], які на нейкі час зачыняўся ў манастыры і пісаў музыку, а манахі яго кармілі.

Значаньне слова "Белая Русь" тое самае, што і "Сьвятая Русь", гэта значыць, што яно нічога ня значыць — пустая рэторыка. Калі ваявалі яшчэ з татарамі, дык яно магло прамаўляць да душы, калі-ж татарская пагроза скончылася, яно сталася звычайным прыгожым славечкам, г. зн. яно ня было ані геаграфічным тэрмінам, ані дзяржаўным. Добрае хіба што для песьні:

*Отпустите меня на волюшку,*
*Что на волюшку — на белую Русь,*
*На белую Русь к царю белому,*
*К царю белому Петру Первому.*

Сьцьвярджэньне, што "Белая Русь" ня было тэрмінам ані геаграфічным, ані дзяржаўным, патрэба па тое, каб зразумець той факт, што тэрмін гэты можна лёгка перасунуць на іншае месца. Тэрмін можна перасунуць тады, калі ён не запусьціў моцных карэньняў. Калі я кажу аб карэньнях, я маю на думцы маскоўскую зямлю, а не чалавечую галаву, бо на Захадзе гэты тэрмін яшчэ доўга ў галавах трымаўся, і калі гэты тэрмін з аднэй зямлі быў перасунуты на другую, на геаграфічных картах усё яшчэ Белай Русі абазначалі Маскоўшчыну.

Вось-жа, як перасунулі? Каму прыйшла ў галаву гэтая ідэя?

Гэркулес гэты, што перасоўваў горы, называўся Мацей Стрыйкоўскі[96].

Наш дарагі і каханы Павал Урбан аб Стрыйкоўскім піша (б. 84—85): «*Мацей Стрыйкоўскі ў вадным месцы свае "Хронікі" Белую Русь проста атаесамлівае з Маскоўшчынай, а ў іншым месцы ён успамінае таксама й пра "літоўскіх Беларусаў", не ўдакладняючы аднак іхнага месцазнаходжаньня. У "Хроніцы Эўрапэйскай Сармацыі" Аляксандр Гваніні*[97] *ці, праўдападобна, той-жа Мацей Стрыйкоўскі,*

---

[95] Маецца на ўвазе **Фэрэнц Ліст** (вугор. *Liszt Ferencz,* 1811—1886), вугорскі кампазытар-рамантык, піяніст, заснавальнік вэймарскай (новай нямецкай) школы ў музыцы.

[96] **Мацей Стрыйкоўскі** (пол. *Maciej Stryjkowski,* 1547—1593), польскі гісторык, пісьменьнік і дыплямат. Аўтар "Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі" (1582).

[97] **Аляксандар Гваніні** (іт. *Alessandro Guagnini,* 1534—1614), выдавец і, магчыма, аўтар некалькіх гісторыка-геаграфічных твораў, у тым ліку "Апісаньня эўрапейскай Сарматыі" (1578).

*зазначыўшы, што Русь дзеліцца на Белую, Чорную й Чырвоную, пра "Белую Русь" піша наступнае: "...Белая (знаходзіцца) каля Кіева, Мозыра, Мсьціслава, Віцебску, Воршы, Полацку, Смаленску і ў Северскай зямлі, што здаўна належылі Вялікаму Княству Літоўскаму"...»*.

З гэтай цытаты ясна відаць, што Урбан чуў звон, ды ня ведае, дзе ён.

Урбан чуў, што Гваніні мае нешта супольнага са Стрыйкоўскім, але цытату з Гваніні дае ня з той кніжкі, да якой меў прэтэнсыю Стрыйкоўскі. Стрыйкоўскі цьвердзіў, што Гваніні ўкраў у яго рукапіс і выдаў друкам па лаціне пад сваім імям. Вось-жа, калі Урбан даў цытату з гэтай лацінскай хронікі, дык ён мог-бы сказаць, што гэта *"праўдападобна той-жа Мацей Стрыйкоўскі"*. Цытату аднак Урбан узяў з польскага перакладу, а гэты пераклад гэта ня той-жа самы лацінскі тэкст. Ужо сам факт, што польскі пераклад у некалькі разоў таўсьцейшы ад лацінскага арыгіналу, сьцьвярджае, што гэта не пераклад, але пераробка, прычым новы матарыял, даданы да старога, ёсьць новым ня толькі новымі фактамі, але й новымі паглядамі. А гэтыя новыя погляды гэта ня погляды Стрыйкоўскага, але перакладчыка — Пашкоўскага[98].

Гэтыя новыя погляды (Пашкоўскага) важныя для нас тым, што пераклад лацінскай хронікі Гваніні на польскую мову быў зроблены, калі ад выхаду арыгіналу мінула ўжо 30 гадоў, а за гэтыя трыццаць гадоў многа што зьмянілася.

Але вернемся да Стрыйкоўскага. Урбан піша, што Стрыйкоўскі *«ўспамінае таксама й пра "літоўскіх Беларусаў", не ўдакладняючы аднак іхнага месцазнаходжаньня»*.

Вось-жа, што Стрыйкоўскі разумеў пад тэрмінам "літоўскіх беларусаў"? Стрыйкоўскі дзяліў землі ВКЛ на тры часткі. Жамойць — гэта "балты" (тэрмін мой) па мове і па паходжаньню, Літва гэта славяне па мове, а "балты" па паходжаньню, і Ўсходняя Літва (ад Бярэзіны) гэта чыстыя славяне па мове й па паходжаньню.

Каб зразумець, што Стрыйкоўскі разумеў пад тэрмінам "чыстых славян", трэба глянуць у радавод народаў Стрыйкоўскага. Стрыйкоўскі, згодна з духам свайго часу, народы выводзіў ад прабацьку Ноя. Славяне, паводле Стрыйкоўскага, паходзяць ад унука Ноя — Мосоха, шостага сына Яфетавага. Сьпярша быў адзіны славянскі народ, але калі частка яго разыйшлася сярод іншыя народы, яны пад уплывам суседзяў папсавалі сваю славянскую мову і з гэтуль паўсталі розныя славянскія народы з рознымі славянскімі мовамі. Адзіная толькі частка патомкаў Мосоха асталася чыста славянскай, бо яна нікуды не хадзіла і зь нікім не мяшалася. Гэта былі маскалі, якія нават імя свайго прабацьку захавалі ў сваім народным назове. Інакш кажучы, *"чыстымі славянамі"* асталіся

98 Маецца на ўвазе польскамоўнае выданьне *"Kronika sarmacji europejskiej"*, перакладзенае Марцінам Пашкоўскім з лацінскай і выдадзенае ў 1611 г.

толькі маскалі, а з гэтага вывад, што й славяне ў іншых краінах, калі яны чыстыя славяне, дык яны тыя-ж маскалі.

З гэтай філязофіі ўжо толькі адзін крок, каб тых чыстых славянаў, якія жылі ў Ліцьве й на Ўкраіне, залічыць да маскалёў.

Усходнюю Літву Стрыйкоўскі ўважаў за чыстых славянаў. Значыць, гэта той самы народ, што і ў Маскоўшчыне, значыць той самы народ, што і ў Белай Русі, бо Белая Русь і Маскоўшчына гэта тое самае. А з гэтага ўжо зусім ясна, што паколькі Ўсходняя Літва гэта чыстыя славяне, чыстыя маскалі, яны-ж — тыя-ж беларусы. А таму, што жывуць у літоўскай дзяржаве, дык зразумела, што гэта "літоўскія беларусы".

Кніжка Стрыйкоўскага была выдана друкам у 1582 годзе. Кніжку гэтую чыталі таксама і ў Маскве. І цяпер толькі патрэбны быў час, каб з гэтай кніжкі маскалі зрабілі адпаведны ўжытак.

Багатаму чорт дзеці калыша.

Што новага дала кніжка Гваніні ў апрацоўцы Пашкоўскага? Восьжа, у тым месцы, дзе Стрыйкоўскі толькі вырасаваў контуры, зрабіў накід, Гваніні-Пашкоўскі намаляваў рысунак. Тэрмін "Белая Русь" ён падмацаваў пералікам гарадоў літоўскіх. Мала таго, паколькі для Стрыйкоўскага літоўская Белая Русь гэта толькі хвост маскоўскай Белай Русі, Гваніні-Пашкоўскі перарэзаў гэты хвост, назваўшы Маскоўшчыну новым тэрмінам Чорная Русь, гэтым самым з колішняга маскоўскага хваста зрабіў самастойнага зьвяра.

І тут мы зьблізіліся да В[ітаўта] Тумаша. Наш дарагі і каханы Вітаўт піша: *«Яны (вышэй прыведзеныя канкрэтныя факты) у кажным выпадку не сумяшчаюцца зь цьверджаньнем аўтара, што "тэрмін… "Белая Русь"… сьпярша й даўжэйшы час прымяняўся вылучна да Маскоўшчыны". Блізу чатыры стагодзьдзі таму ведамы храністы, Аляксандра Гваніні, меў зусім супроцьлежны пагляд, бо ў сваёй кнізе "Сарматіе Эуропэ дэскрыптіо"*[99] *пісаў, што землі Маскоўшчыны даўней называліся "Чорнай Русяй"»*.

Ня трэба мусіць казаць, што тут дарагі Вітаўт робіць тую самую махлёўку, што і дарагі Урбан: бярэ цытату з аднэй кніжкі (польскага перакладу), а паклікаецца на другую кніжку (лацінскі арыгінал). Тумаш ня ведае адну рэч: у польскай пераробцы лацінскай кніжкі Гваніні, поруч з новымі цьверджаньнямі, знаходзім і старыя цьверджаньні, якія хоць і супярэчныя, але ў тыя часы нікому не перашкаджалі, бо тага-

99 Маецца на ўвазе выданьне: Gwagnin, Alexander. Sarmatiæ Evropeæ Descriptio, quæ Regnum Poloniæ, Lituaniam, Samogitiam, Russiam, Masouiam, Prussiam, Pomeraniam, Liuoniam, & Moschouiæ. Tartariaéq[ue] partem complectitur. Alexandri Gwagnini Veronensis … diligentia conscriptæ. [Cracouiæ]: Typis Matthiæ Wirzbietae, [1578].

часныя аўтары кніжак не пісалі, але кампілявалі, і набраўшы з розных кніжак розных думак, не маглі даць сабе рады, каб прывесьці супроцьлежныя погляды ў нейкую адзіную схэму.

Ніжэй дзьве розныя цытаты з той самай кніжкі Гваніні-Пашкоўскага.

I.

*A jest Ruś trojaka, jedna Biała, druga Czarna, trzecia Czerwona. Biała około Kijowa, Mozera, Mscisławia, Witebska, Orszy, Połocka, Smolenska, i ziemie siewierskiej, ktŏra z dawna do wielkiego ks. Litewskiego przynaležy.*

*Czarna w ziemi moskiewskiej około białego jeziora, i tam wszędzie ku Azyi.*

*Czerwona przy gŏrach, ktŏre Beskiedami zowią, ktŏrej krŏl polski rozkazuje, i do korony przynaležy: jako… a w pośrzodku jest miasto sławne Lwów… Od północy ma ziemię litewską, a od zachodu polską.*

II

*Kniazia Moskiewskiego białym Carem nazywają, to jest, królem Białej Rusi, može dla tego, že obywatele państw jego sukni i czapek białych užywaja.*

*Ruś pod kniaziem Moskiewskim Białą Rusią nazwano, a tę, która do Polski naležała, Czarna.*

М[ацей] Стрыйкоўскі ў сваёй Хроніцы Львоў называе сталіцай Чорнай Русі. Калі мы цьверджаньне Стрыйкоўскага параўнаем з гэтымі двумя цытатамі Гваніні-Пашкоўскага, дык цьверджаньне Стрыйкоўскага будзе супадаць з другой цытатай. Першая цытата такім чынам будзе ўжо аўтарства Пашкоўскага. Стрыйкоўскі, назваўшы Львоў Чорнай Русяй, улез у калізыю з панаваўшым у Польшчы паглядам, што Львоў ёсьць Чырвонай Русяй. Пашкоўскі, вярнуўшы Львоў ізноў да Чырвонай Русі, атрымаў вольны тэрмін, які ён кінуў на Маскву. Такім чынам, усе намаганьні Тумаша падшыцца пад аўтарытэт Гваніні ляснулі.

А цяпер некалькі інфармацыяў аб Гваніні. Гваніні, выдаўшы польскі пераклад сваёй лацінскай хронікі, наняў быў аднаго каралеўскага пісара, каб той пералажыў гэты польскі пераклад на лацінскую мову.

У Літоўскай Мэтрыцы ёсьць ліст караля Гэнрыха[100] Аляксандру Гваніні (*Лист пана Кгванинов на Филипово*). Кароль Гэнрых быў французам, Гваніні італіянцам, ліст пісаны ў беларускай мове. Дата: Кракаў, 1 чэрвеня 1574 году[101].

---

[100] Маецца на ўвазе **Генрых III Валуа** (фр. *Henri III*, 1551—1589), кароль польскі і вялікі князь літоўскі ў 1574 г., кароль Францыі ў 1575—1589 гг.

[101] Гл: Лаппо, И. И. Великое Княжество Литовское за время от заключения Люблинской Унии до смерти Стефана Батория (1569—1586). Т. 1. Санкт-Петербург, 1901. С. 423.

Гісторыкі, якія знаёмяцца з Гванінім па польскім тэксьце, даступным сяньня ў бібліятэках, не заўсёды ведаюць, што тэкст гэты ня поўны (1860 году).

Гваніні быў перакладаны на іншыя мовы, гэтыя пераклады падобныя спосабам перакладаньня да польскага перакладу — яны былі пераробкамі. Напрыклад, нямецкі пераклад. Расейскі пераклад быў роблены зь нямецкага. Расейскі тэкст, такім чынам, будзе розьніцца ня толькі ад польскага, але і ад лацінскага.

Я ўжо напісаў 10 бачын, да канца вельмі далёка, хутка трэба ісьці спаць, інакш кажучы, трэба канчаць, а наогул я ўжо змарыўся.

Но, гэтую картку скончу і пастаўлю пункт.

Я прыпомніў, што маю нешта да работы.

У гэтых днях я меўся прыслаць Табе першы кусок полацкага летапісу, але гэты кусок я меўся скончыць якраз учора, а ўчора якраз я сеў пісаць гэты ліст, так што справу зь летапісам трэба адлажыць яшчэ на тыдзень.

Трэба ўзяць гарачую ванну, легчы ў ложак, цёпла накрыцца (мароз у нас цяпер сібірскі) і хай усе Чорныя і Белыя Русі пропадам гінуць.

Прывітаньні!

Твой Ч. Будзька.

Чыкага, 1.X.1970

Дарагі Янка [Запруднік]!

Сягоньня атрымаў Твой ліст, а я яшчэ не адказаў на папярэдні. Вось-жа, кніжкі, якія Ты атрымаў ад мяне, гэта ў Тваю бібліятэку. Між іншага, у мінулую суботу я выслаў Табе яшчэ некалькі кніг, гэта таксама ўжо Тваё.

У "Літаратуры і Мастацтве" надрукаваны ўрывак з успамінаў Машары[102]. З Машарам я бачыўся адзін раз. Будучы ў Вільні, ён зайшоў да мяне (ці лепш кажучы — яго прывёў Янка Шутовіч[103]). Машара кажа мне: *"Ты жывеш у вялікім горадзе, вакол цябе бібліятэкі. Мала таго, ты яшчэ сваю бібліятэку маеш. А я сяджу на глухой правінцыі: вакол нідзе ніякіх кніжак"*. Згадзіўшыся зь ягонымі жалямі, я паставіў перад ім пустую валізку і кажу: *"што ўлезе ў гэтую валізу — тваё. Толькі адзін варунак — бяры толькі па сваёй спэцыяльнасьці"*. Ён забраў у мяне поўныя зборы твораў Пушкіна, Жукоўскага, Майкава, Надсона, Гайнэ і таму падобныя кніжкі. Вось-жа кніжкі гэтыя былі мною ўжо прачытаныя, і яны валяліся ў мяне на паліцы, як мёртвы капітал. Машару-ж яны, магчыма, прыдаліся.

[102] **Міхась Машара** (1902—1976), паэт, перакладчык, публіцыст.

[103] **Янка Шутовіч** (1904—1973), грамадзкі й культурны дзеяч, літаратуразнаўца, выдавец. У 1935—1939 гг. быў выдаўцом і рэдактарам часопісу "Калосьсе".

Між іншага, усе мае рэдкія кніжкі й гадавікі беларускіх газэтаў я ў свой час аддаў у беларускі музэй[104]. Гэтыя рэчы сягоньня ў Вільні знаходзяцца ў бібліятэцы Акадэміі навук. Мне прыемна на душы, калі зь Менску навукоўцы прыяжджаюць у Вільню і іх "знаходзяць".

А цяпер пару слоў у справе часапісу.

Пару гадоў таму Белямук[105] напісаў мне ліст, просячы маёй апініі аб часапісе. Празь нейкі час ён прыслаў быў другі ліст, прыціскаючы да посьпеху з адказам. Калі-ж ён урэшце атрымаў мой адказ, дык прыслаў трэці ліст, у якім пісаў, што ён чалавек запрацаваны і мае мала часу, і гэты дарагі час я яму адбіраю сваімі дурнымі лістамі. У выніку — як Ты можаш дадумвацца — мы ня маем дыплёматычных зносінаў.

Выдаваць часапіс трэба мець грошы. Ня маючы-ж грошы, выдаваць таксама можна, але пад адным варункам: трэба сябе арганізаваць, г. зн. ня браць узору зь іншых часапісаў, а стварыць спэцыфічны часапіс, дапасаваны да нашых спэцыфічных варункаў на нашым гістарычным фроньце.

А на нашым гістарычным фроньце справа выглядае наступна: на бацькаўшчыне гісторыкі стаяць на западно-рускіх пазыцыях, на эміграцыі — як гэта ні дзіўна — беларуская інтэлігэнцыя стаіць таксама на тых-жа западно-рускіх пазыцыях. Вось-жа, пакуль мы з гэтых западнорускіх пазыцыяў ня зыйдзем, ніякой беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі мы ня створым.

З гэтага я раблю вывад, што калі нам патрэбны гістарычны часапіс, дык патрэбны ён у першую чаргу па тое, каб пераламаць у беларускай мэнтальнасьці западна-русізм. Бо толькі вызваліўшыся з-пад ярма западна-русізму, мы будзем магчы ствараць нацыянальную беларускую гістарыяграфію.

Белямук уважаў, што мае гутаркі аб западна-русізме — гэта звычайнае пустаслоўе. Паводле яго ніякага западна-русізму няма, а знача, і ня можа быць ніякага змаганьня з западна-русізмам. Інакш кажучы, часапіс павінен быць нармальным гістарычным часапісам, мала таго — у гэтым часапісе могуць супрацоўнічаць і людзі адтуль, і ўсе людзі згэтуль. Я магу згадзіцца, што часапіс можа быць і такі, як хацеў Белямук, толькі каб ён выдаваўся не за мае грошы. А ўся справа якраз у грошах. Я, зразумела, магу са сваёй кішэні выціснуць крывава запрацаваныя

[104] Маецца на ўвазе заснаваны ў 1983 г. **Беларускі музэй у Гайнаўцы**, на пабудову й экспазыцыю якога зьбіралі сродкі па ўсіх беларускіх асяродках сьвету.

[105] **Міхась Белямук** (1924—2014), грамадзкі дзеяч. Ад 1949 г. жыў у Кліўлэндзе (ЗША). Узначальваў Згуртаваньне беларускай моладзі ў Амэрыцы. Адзін з заснавальнікаў часопісу "Полацак". Аўтар кніг "Вытокі беларускіх пячаткаў" (Кліўлэнд, 1986), "Свайго лёсу не мінеш" (Вільня, 2006), "Нумізматыка. Сфагістыка. Успаміны" (Мінск, 2010).

грошы, але таксама зразумела, што свае крывава запрацаваныя грошы я не хачу даваць на абыякую справу, а тым больш на справу, якую я ўважаю шкоднай.

А заходне-русізм у нас зусім ня зьяўляецца хімэрай, як думае Белямук. Я Табе ўжо пісаў аб Надсоне, які дзейнічае ў "*The Journal of Byelorussian Studies*". Гэта тыпічны заходнарусс. У Нр. 4 на б. 339 ён аб князёх Сьвірскіх піша: "*The family of Svirski was of etnical Lithuanian origin*"[106]. Калі ўзяць пад увагу, што довадаў на такое цьверджаньне няма, дык з гэтага можна ўявіць, што гэта за сьвінскае цьверджаньне. А гэтае сьвінскае цьверджаньне яму патрэбна на тое, каб абясшкодзіць гутарку Еўлашэўскага[107] аб кн[язі] Сьвірскім як аб "нашым ліцьвіне".

Надсон як заходнорусс уважае, што тэрмін "ліцьвін" ня ёсьць нашым тэрмінам, і калі нашая шляхта называла сябе ліцьвінамі, дык яны былі падшыванцамі, бо падшываліся пад чужы нацыянальны назоў, г. зн. падшываліся пад балтаў. Аб тым, што балты сябе ліцьвінамі не называлі, аб гэтым ён, ясна, маўчыць.

Я тут пішу аб Надсоне не патое, каб палемізаваць зь ім, а па тое, каб паказаць, што з гэтага выходзіць, калі беларускі інтэлігэнт пачынае пісаць на гістарычныя тэмы. Вось-жа выходзіць нічога іншага, як заходнарусізм. Той самы заходнарусізм, што і ў Менску. І Надсон — родны брат Абэцэдарскага. І ў гэтым і заключаецца ўся нашая трагэдыя. І ці ня з гэтай-жа заходнарускай прычыны ўпаў "*ліцом в грязь*" Урбан?

На днях я атрымаў камунікат "Пагоні"[108] аб тым, што яны рыхтуюць да друку "*новую кнігу пра гісторыю Беларусі*" ў ангельскай мове[109]. Ня трэба быць прарокам, каб прадбачыць, што яна будзе напісана з пазыцыяў заходнарускіх. І цяпер паўстае пытаньне, чаму беларуская эміграцыя мае даваць "шчодрую падтрымку" на заходне-рускія выданьні?

Быў тут Сіповіч[110]. У нашай хаце быў якіх чатыры разы. Але я яго на вочы ня бачыў, бо не магу даравць ягонаму Надсону.

Прывітаньні!

Твой Ч. Будзька.

---

[106] *"Сям'я Сьвірскіх была этнічнага літоўскага паходжаньня".*

[107] **Хведар Еўлашоўскі** (1546—1616), пісьменьнік і грамадзкі дзеяч у Вялікім Княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай. Аўтар аднаго зь першых узораў старажытнабеларускай мэмуарнай літаратуры — "Дзёньніка" (1603—1604).

[108] Маецца на ўвазе **выдавецкая суполка "Пагоня"**, заснаваная ў Канадзе Кастусём Акулам і Міколам Маркевічам.

[109] Такое выданьне плянавалася Кастусём Акулам, але ніколі ня было зьдзейсьненае.

[110] Маецца на ўвазе ўладыка Часлаў Сіповіч.

Чыкага, 23.V.1971 г.

Дарагі Доктар [Вінцэнт Жук-Грышкевіч]!

На пытаньні, пастаўленыя ў лісьце Пікарда[111] да Вас, я мог-бы адказаць толькі тады, калі-б я быў у блізкіх дачыненьнях з прэзыдэнтамі БНР альбо сам быў сягоньня старшынёй Рады БНР. І дзеля гэтага я яму нічога напісаць не магу, бо інфармацыі, якія ён патрабуе, ён можа атрымаць толькі ад Вас.

І так, ведаючы, што Вы былі ў Празе блізка [Пётры] Крэчэўскага і [Васіля] Захаркі, Пікард хацеў-бы ведаць, ці Вы маеце ад іх нейкія канкрэтныя весткі аб бэнээраўскіх марках (аб выданьнях або перавыданьнях).

Ведаючы-ж аб Вашых блізкіх адносінах да [Міколы] Абрамчыка, Пікард[а] хацеў-бы даведацца ад Вас, ці Абрамчык у часе вайны перавыдаваў бэнээраўскія маркі ці не.

Далей Пікард[а] зьвяртаецца да Вас як да старшыні рады БНР з пытаньнем, ці ў архіве БНР існуюць нейкія канкрэтныя данныя аб марках БНР ці не (дата, выдавец, друкарня, тыраж).

Далей Пікард[а] зьвяртаецца да Вас як да старшыні Рады БНР з просьбай памагчы яму выясьніць справу з фатаграфіяй маркі БНР, зьмешчанай у бэнээраўскім воргане "Бацькаўшчына" (№ 12—13 з 1953 г.). Ня трэба выясьняць, што справа з гэтай фатаграфіяй мае першакляснае значаньне ня толькі для філятэлістыкі, але і для самой БНР. Філятэлістычны сьвет, як ведама, не прызнае марак БНР толькі таму, што маркі БНР ня былі быццам у паштовым ужытку. А тымчасам БНР друкуе ў сваім воргане фатаграфію маркі БНР, якая была аштэмплёваная беларускай поштай! Мала таго, як вынікае з тэксту пры гэтай фатаграфіі, мы маем дачыненьне ня толькі з самой маркай, але маркай на лісьце! Мала таго, на другім баку гэтага ліста, як хваліцца ворган БНР, ёсьць яшчэ і другі штэмпаль!!! А гэта ўжо ня марка, гэта ўжо цэлая Мона Ліза! Маючы ў сваіх руках такі намацальны довад, што бэнээраўскія маркі былі ня нейкімі там налепкамі, але праўдзівымі паштовымі маркамі, БНР магло-б вельмі лёгка залегалізаваць свае маркі ў філятэлістычных каталёгах, а гэтым самым прабіць урэшце дарогу да многамільённай масы філятэлістычнага сьвету для імені БНР і Беларусі. Пікард[а] мог-бы памагчы БНР у гэтай справе, калі-б старшыня Рады БНР аўтарытэтна сьцьвердзіў, ці гэтая бясцэнная марка

[111] **Гай Пікарда** (анг. *Guy Reginald Pierre Picarda*, 1931—2007), брытанскі беларусіст, юрыст, дасьледчык беларускай музыкі, кнігадрукаваньня, гісторыі беларускай прысутнасьці ў Вялікабрытаніі й інш., сябра Англа-Беларускага таварыства. Дапамагаў у арганізацыі беларусаведных лекцыяў, выданьні "*The Journal of Byelorussian Studies*", стварэньні Беларускага музэю ў Лёндане й пашырэньні фондаў бібліятэкі.

сапраўды сягоньня ёсьць у нечых руках ці не. Разам зь Пікардам увесь філятэлістычны сьвет чакае на Вашае слова.

Далей Пікард[а] зьвяртаецца да Вас як да старшыні рады БНР з просьбай памагчы яму выясьніць справу з артыкулам, зьмешчаным у “Беларусе” (№ 98 за 1965 г.)[112]. У гэтым бэнээраўскім воргане бэнээраўскі міністар піша, што першымі беларускімі маркамі былі ня маркі “Асобнага Атраду”, але сэрыя з трох марак “Беларусь пошта”, выданая ў Менску ў 1918 годзе. А аб гэтых марках у некаторых эўрапэйскіх каталёгах падана, што яны былі выданы ў Коўне ў 1923 годзе. Вось-жа — хто гаворыць праўду, а хто маніць? Далей Пікард[а] просіць інфармацыі аб марках БКС[113], успомненых у бэнээраўскім часапісе “Запісы” (кн. 5)[114]. Аб гэтых марках я ніколі нічога ня чуў і іх ня бачыў, таксама ня бачыў яшчэ і “Запісаў”.

З гэтых вышэйпрыведзеных пытаньняў ясна вынікае, што адказаць на іх можа толькі афіцыйная асоба з колаў БНР (знаёмая з архівам БНР), бо пытаньні гэтыя зьвязаныя зь дзейнасьцю БНР. Выясьненьне гэтых пытаньняў Пікарду патрэбна не для заспакаеньня прыватнай цікавасьці, але для навуковай працы ангельскага дасьледчыка Вільямса[115]. А для гэтага патрэбны матарыял зь першай рукі.

Ёсьць і яшчэ адно нявыясьненае пытаньне, якое Пікард[а] яшчэ не паставіў, але можа паставіць. У 1919 годзе ў Горадні стаяў беларускі гарнізон, быццам пад шыльдам БНР, а на тэрыторыі Гарадзеншчыны была зарганізована беларуская адміністрацыя. Вось-жа на гэтай беларускай тэрыторыі (зь беларускай адміністрацыяй і беларускім войскам) курсавалі царскія паштовыя маркі зь беларускім надрукам “Літва”. Калі-б на гэтых марках быў толькі беларускі надрук “Літва”, дык гэты надрук “Літва” можна было-б уважаць за стары беларускі нацыянальны назоў. Але дзеля таго, што на гэтых марках побач зь беларускім надрукам “Літва” быў жамойцкі надрук “Лятува”, дык справа з гэтымі маркамі пахне ўжо зусім інакш. Надрук “Літва” гэта не стары беларускі нацыянальны назоў, гэта — новы жамойцкі нацыянальны назоў. Пры гэтым выглядае так, што гэтыя якраз гарадзенскія маркі трэба будзе прызнаць як першыя беларускія маркі і да гэтага — бэнээраўскія.

---

112 Маецца на ўвазе публікацыя: Б. С. Паштовыя маркі БНР. Сэрыя 1918 году // Беларус. № 98. Травень 1965. С. 2.

113 **Беларускі камітэт самапомачы** быў заснаваны ў Бэрліне ў 1940 г. Мікола Шкялёнкам.

114 Маецца на ўвазе публікацыя: Бібліяграфія скарыніяны // Запісы БІНіМ. Кн. 5 (11). Мюнхэн, 1970. С. 181—268. Пра маркі — с. 254.

115 Маецца на ўвазе **Леон Норман Вільямс** (анг. *Leon Norman Williams*, 1914—1999), брытанскі знаўца марак і пісьменьнік, значную колькасьць працаў напісаў у супрацы з братам Марысам.

Бэнээраўскі-ж ворган “Беларус”, пішучы аб беларускіх марках, аб гэтых першых беларускіх марках нават і ня ўспомніў.

У гутарцы з [Міколам] Абрамчыкам я яму зьвярнуў увагу, што на філятэлістычным рынку знаходзяцца ў продажы беларускія маркі розных фабрыкацыяў, з увагі-ж на тое, што філятэлістычныя каталёгі ігнаруюць беларускія маркі, дык трудна адрозьніць праўдзівыя маркі ад фальшывых. На гэта Абрамчык мне адказаў, што ў архіве Захаркі знаходзяцца праўдзівыя маркі, і ён мне іх прышлець. І запраўды прыслаў, пры гэтым пісаў: *“Перасылаю камплект БНРаўскіх марак, аб якіх з Вамі была гутарка. Аб арыгінальнасьці іх ня можа быць сумніву, бо ў Архіве Захаркі яны знаходзіліся ад 1920 году”*.

Маркі гэтыя аднак аказаліся найгорш падробленымі маркамі з усіх падробленых, якія курсуюць на філятэлістычным рынку. Падумаць толькі — у архіве БНР маркі горшай фабрыкацыі, як у першага лепшага філятэліста. Я Абрамчыку зараз-жа паслаў два розныя камплекты, якія хаця таксама магчыма падробленыя, але куды лепшай графічнай работы.

Праўдзівыя бэнээраўскія маркі, якія можам бачыць у старых альбомах, ня маюць ценьняваньня на рукаве дзявочай блюзкі. Гэтае ценьняваньне мы знаходзім на марках, падробленых у Бэрліне, а таксама на марках з архіву Захаркі, што сьведчыць, што Захарка, падрабляючы маркі БНР, ня меў у руках праўдзівых марак. На амэрыканскім рынку прадаюцца маркі БНР таксама без ценьняваньня на рукаве, але рысунак маркі не такі далікатны, як арыгінальных марак, што сьветчыць, што іх тут падрабляюць фатаграфічна.

Абрамчык паінфармаваў мяне, што ў Нямеччыне фабрыкацыяй БНРаўскіх марак займаўся інж. Шкутка[116], які, узяўшы ў Абрамчыка камплет марак, даў іх аддрукаваць у Гамбургу.

У часе паштовага страйку ў Англіі лёнданскія бэнээраўцы, узяўшы бэнээўраўскія маркі з таго запасу, які ў іх быў, зрабілі на гэтых марках свой надрук[117]. Калі-б гэтыя маркі былі запраўды праўдзівыя, дык лёнданскія бэнээраўцы аказаліся такімі самымі барбарамі, як і сярэднявечныя манахі, якія з пэргамінаў выскробывалі рымскія тэксты, каб на іхнае месца запісываць свае дурніцы.

Калі я вось так пацею над гэтым лістом і адным пальцам выбіваю гэтыя літары, спраўдзілася беларуская пагаворка: аб воўку мова, і воўк тут.

Сягоньня атрымаў ліст ад Пікарда.

Прывітаньні!

З пашанай.

---

[116] Маецца на ўвазе Анатоль Шкутка.

[117] Маецца на ўвазе арганізаваная з ініцыятывы Гая Пікарды ў часе паштовага страйку ў Брытаніі ў 1971 г. “Пошта ЗБВБ”. Падрабязней пра гэта гл.: Гардзіенка, Наталля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск, 2010. С. 220—223.

*Chicago, 9 Jun[e] 1971.*

*Dear Sir*[118],

Пішу гэты ліст не па-ангельску, бо па-ангельску пісаць я ня ўмею.

Сэрыя з трох марак з надпісам "Беларусь Почта", на мой пагляд, была выдана не ў Менску, але ў Коўні, і не ў 1918 годзе, а значна пазьней. Я вельмі сумляваюся, каб у Менску ў 1918 годзе можна было выдаць паштовыя — з палітычных і тэхнічных прычын. Адкуль, напрыклад, можна было дастаць адпаведную паперу, адпаведныя фарбы і адпаведную друкарню? А наогул, у 1918 годзе Беларусь знаходзілася пад нямецкай акупацыяй, а пад нямецкай акупацыяй дзеіла толькі нямецкая вайсковая пошта (*Feldpost*). Маркі гэтай пошты — маркі нямецкага райху з надрукам *"Postgebiet Ob. Ost."* (у часе другой вайны — надрук *"Ostland"*).

У сакавіку 1918 году на ўсход ад Менску стаяў польскі корпус генэрала Довбор-Мусьніцкага[119] (рэшткі расейскай царскай арміі не зьліквідованай бальшавікамі). На тэрыторыі гэтага корпусу дзеяла пошта вайскова-цывільная. Маркі гэтай пошты былі царскія расейскія маркі з польскім надрукам і польскім арлом. Пошта гэтая дзеіла некалькі месяцаў. У маі 1918 году немцы пачалі ліквідоўваць гэты корпус і ў першую чаргу скасавалі паштовыя палёгкі. Сам факт скасаваньня паштовых прывілеяў даводзіць, што нямецкая вайсковая пошта ў нейкай меры прыходзіла на дапамогу корпуснай пошце.

У канцы 1918 году нямецкая армія пакідае беларускую зямлю, перадаючы яе бальшавікам. Найдаўжэй немцы ўтрымліваліся на тэрыторыі Горадзеншчыны. Тут перад сваім адыходам немцы дазволілі беларусам зарганізаваць цывільную й вайсковую адміністрацыю ня толькі тэорытычна, але й практычна. Пачала дзеіць таксама і беларуская пошта. Маркі гэтай пошты — царскія расейскія маркі зь беларускім надрукам. Пошта гэтая дзеіла на працягу пару месяцаў 1919 году, гэта значыць — да часу акупацыі Горадзеншчыны польскай арміяй.

Гэтыя горадзенскія маркі гэта першыя беларускія маркі. Але гэтыя беларускія маркі былі адначасна і не беларускімі. І не дзеля таго, што на гэтых марках быў надрук "Літва" (Горадзеншчына-ж заўсёды называлася Літвой), а дзеля таго, што на гэтых марках побач беларускага надруку "Літва" быў жамойцкі надрук *"Lietuva"*. Адкуль узялася гэтая *"Lietuva"*? Вось-жа, пасьля адыходу немцаў з тэрыторыі Горадзеншчыны Горадзеншчына мелася стацца аўтаномнай часткаю жамойцкай рэспублікі. Інакш кажучы, слова "Літва" на беларускіх марках Горадзеншчыны было такім чынам не старым беларускім нацыянальным

[118] Ліст адрасаваны Гаю Пікарду.

[119] **Юзаф Доўбар-Мусніцкі** (1867—1937), расейскі й польскі ваенны дзеяч. Кіраўнік польскага мяцяжу супраць савецкай улады ў Беларусі ў 1918 г.

назовам, але новым жамойцкім нацыянальным назовам. Ужо сам гэты факт настолькі нацыянальна непрыемны, што беларусам сягодня нават ня вельмі выпадае афішавацца сваймі першымі беларускімі маркамі.

Як дзіковінку тут трэба адзначыць, што амэрыканскі каталёг *Scotta*[120] яшчэ ў 1960 г., думаючы, што беларускі надрук на гэтых марках гэта надрук расейскі, адносіў іх да марак акупацыйных — *"Issued under Russian Occupation"*[121].

У канцы 1920 году, калі "збунтаваны" генэрал Жэлігоўскі[122] заняў Вільню, на беларускай зямлі паўстала новая філятэлістычная дзяржава "Сярэдняя Літва". Паколькі ў польскай мове пад паняцьцем "Літвы" разумеліся беларускія землі ад Вільні да Смаленску, дык для гэтай "Сярэдняй Літвы" больш адпаведны назоў быў-бы "Заходняя Літва". Але палякі ўжо на пачатку дваццатага стагодзьдзя ўгаварвалі сябе і іншых, што існуюць быццам дзьве Літвы — "гістарычная Літва" (Беларусь) і "этнографічная Літва" (Жамойць). Як вынік гэтага і быў створаны імі тэрмін "Сярэдняй Літвы". (Новую-ж дзяржаву, якая паўстала на жамойцкай зямлі, палякі назвалі "Ковенскай Літвой".)

Між іншага, маркі "Сярэдняй Літвы" рысаваў віленскі мастак Ф[эрдынанд] Рушчыц[123], той самы мастак, які дваццаць гадоў раней праектаваў вокладку для "Кароткай гісторыі Беларусі" В[ацлава] Ластоўскага[124].

У 1919—1920 гадох у Рызе была беларуская дыплёматычная місыя на чале з палкоўнікам К[анстанцінам] Езавітавым. У 1920 годзе Езавітаву ўдалося дагаварыцца з генэралам Балаховічам, што меў нейкае сваё прыватнае войска, каб Балаховіч прылучыўся да БНР і памог БНР стварыць беларускую армію. (Гэта быў, як той казаў, Езавітаў камень у агарод Пілсудзкага[125], які таксама тварыў беларускую армію, але

---

[120] Маецца на ўвазе **каталёг "Скота"** (анг. *The Scott Catalogue*) — штогадовы англамоўны каталёг паштовых марак, што выдаецца ў Нью-Ёрку ад 1840 г. выдавецтвам *"Scott Publishing Company"*.

[121] *"Выдадзена пад расейскай акупацыяй"*.

[122] **Люцыян Жалігоўскі** (пол. *Żeligowski*, 1865—1947), польскі палітычны й вайсковы дзеяч, генэрал. Браў удзел у польска-савецкай вайне, у 1920 г. камандзір 1-й Літоўска-беларускай дывізіі, якая 9 кастрычніка 1920 г. захапіла Вільню й Віленскі край. Да сьнежня 1921 г. зьяўляўся вярхоўным кіраўніком г. зв. Сярэдняй Літвы.

[123] **Фэрдынанд Рушчыц** (1870—1936), мастак, графік, тэатральны дэкаратар і пэдагог.

[124] Маецца на ўвазе выданьне: Власт. Кароткая гісторыя Беларусі: з 40 рысункамі. Вільня: Друкарня М. Кухты, 1910. 104 с.

[125] **Юзаф Пілсудзкі** (пол. *Józef Klemens Piłsudski*, 1867—1935), польскі палітычны й вайсковы дзеяч, першы кіраўнік незалежнай польскай дзяржавы

больш языком, як на справе.) Вось-жа для гэтай будучай беларускай арміі Езавітаў і надрукаваў у Рызе сэрыю паштовых марак, правільна ўважаючы, што ў тагачасных неспакойных умовах толькі ваенная палявая пошта можа быць рэальнай поштай.

У беларускай прэсе была калісь апублікаваная фатаграфія такой маркі, аштэмпаляваная беларускай палявой поштай. Хаця на фатаграфіі няма адрэсата, можна аднак дадумвацца, што гэты ліст паходзіць з прыватнага архіву Езавітава да самога сябе. Было так ці не, у кожным выпадку гэта не перашкодзіць разглядаць дату на гэтым лісьце як "*first day of issue*". Калі-ж цяпер параўнаць гэту дату з датай пачатку бальшавіцкага наступу на Варшаву, дык мы атрымаем толькі некалькі мізэрных тыдняў, у часе якіх гэтыя Езавітаўскія маркі маглі-б быць ужываныя, інакш кажучы, часу было замала, каб гэтыя маркі запраўды маглі быць скарыстаныя для паштовага ўжытку. Тым ня менш маркі гэтыя былі праўдзівымі паштовымі маркамі, а не "прапагаднымі налепкамі", як думаюць некаторыя філятэлістычныя каталёгі (*Scott: "Stamps of this design were not put to use and were probably propaganda labels"*[126]). Калі-б Езавітаў друкаваў гэтыя маркі з думкай кінуць іх на міжнародны філятэлістычны рынак й пры помачы іх падрэдагаваць фінансы беларускай дыпляматычнай місыі ў Рызе, дык на філятэлістычным рынку і сягодня можна было-б гэтыя маркі дастаць, аднак сягоньня іх нідзе сустрэць нельга. Маркі прадаюцца, але не арыгіналы, але падробкі розных фабрыкацыяў. Што сталася з арыгіналамі? Гэтае пытаньне тым больш цікавае, бо нават у БНРаўскім архіве ў Празе і Парыжы перахоўваліся не арыгінальныя маркі, але фальсыфікаты.

Хто рысаваў гэтыя Езавітаўскія маркі, я ня ведаю[127] і мала гэтым цікавіўся, бо-ж і сам рысунак ня вельмі арыгінальны, а ўзяты зь нейкай кніжкі ці часапісу[128] (я яго недзе бачыў), дык і выкананьне рысунку — на мой погляд — Езавітаў мог даручыць нейкаму ананімнаму рыскаму рамесьніку. Сягоньня аднак я думаю, што гэтыя маркі "Асобнага Атра-

(1918—1922) і галоўнакамандуючы польскага войска, двойчы прэм'ер-міністар Польшчы (1926—1928, 1930).

[126] *"Маркі ў гэткім дызайне не выкарыстоўваліся і, магчыма, былі прапагандысцкімі знакамі"*.

[127] Лічыцца, што аўтарам марак "Асобны атрад" быў латыскі мастак Рыхард Зарыньш (гл.: Карповіч, Лявон. Беларуская паштовая марка: ад вытокаў да эміграцыі // Запісы БІНіМ. № 36. Нью-Ёрк — Менск, 2013. С. 91).

[128] У якасьці прататыпу малюнку для маркі "Асобны атрад" была скарыстаная гравюра У. дэ Гарнэна з выданьня "Живописная Россія. Западная и Южная Россія. Белорусское Полесье" (Т. 3. Ч. 2. Санкт-Петербург — Москва, 1882. С. 255) (гл.: Карповіч, Лявон. Беларуская паштовая марка: ад вытокаў да эміграцыі. С. 93).

ду" рысаваў ня нейкі няведамы мастак, але чалавек зь імем агульнаведамым.

Дзе гэтыя маркі друкаваліся, падае каталёг Мінкуса[129]: *"typo by Latvian State Ptg Office"*[130]. Вось-жа кіраўнікам гэтай друкарні ў тым часе быў праф. Рычард Заррынс[131], чалавек, які перад прыездам у Рыгу на працягу 20-ці год працаваў у Петраградзе ў царскай друкарні, дзе быў мастацкім дырэктарам аддзелу паштовых марак. Усе лепшыя расейскія маркі рысаваў ён, і калі мы параўнаем тэхніку рысаваньня расейскіх марак і марак БНРаўскіх, дык прыйдзем да выснаву, што рысавала іх тая самая рука. Возьмем для прыкладу слова "коп" на БНРаўскіх марках і на 15 капеечнай расейскай марцы (з партрэтам Мікалая І-га) — тут і там тая самая тэхніка палучэньня літараў. (На беларускай марцы, што праўда, мусіла-б быць ня "коп", але "кап", але калі гэта рысавала тая самая рука, дык і памылка зусім зразумелая.) Што праўда, на найлепш падробленых БНРаўскіх марках якраз на 15 капеечнай марцы слова "коп" напісана ня разам, а аддзельна, але гэтая дэталь якраз і кампрамітуе гэтую марку, аб чым можна пераканацца, параўнаўшы гэтую марку з маркамі, падробленымі фотатэхнікай. Вось-жа, сярод гэтых апошніх у большасьці выпадкаў на 15 капеечнай марцы ў слове "коп" літары не палучаны, але ёсьць і такія маркі, дзе слова "коп" пісана разам, а гэта сьведчыць, што падраблялі маркі ня толькі з падробленых, але і з арыгінальных, а на гэтых апошніх, зразумела, не магло быць разнабою.

Сёлета мінаюць 101-я ўгодкі з дня нараджэньня прафэсара Рычарда Заррынса. Латышы напэўна маюць дакладную біяграфію і сьпіс гэтага свайго земляка. Калі-ж не, дык можна пашукаць у іншым мейсцы. Праф. Р[ычард] Заррынс быў прафэсарам Акадэміі Мастацтва ў Рызе. У гэтай акадэміі вучыўся беларускі мастак Мірановіч[132], які цяпер жыве ў Нью Ёрку. Магчыма, ён мог-бы нешта расказаць і пра Заррынса і пра Езавітава. (Да Мірановіча ўжо ліст высланы ў гэтай справе.)

---

[129] **Каталёг "Мінкус"** (анг. *The Minkus catalogue*) — амэрыканскі каталёг паштовых марак, што выдаваўся фірмай *"Krause Publications"* у 1950—2004 гг.

[130] *"Выдрукаваны Латвійскай дзяржаўнай друкарняй"*.

[131] Рыхард Зарыньш (лат. *Rihards Zarinņš*, таксама *Richards Zarriņš* ці *Richard Sarrinsch*, 1869—1939), славуты латыскі графік, аўтар грашовых знакаў Расейскай імпэрыі, першых марак Савецкай Расіі, аўтар гербу (1921) і грашовых знакаў Латвіі. Адносна меркаванага ўдзелу мастака ў выданьні марак БНР гл.: Мясковский, И. Ф. Особый отряд БНР (выпуск Булак-Балаховича) // Филателия. 2009. Прил. к № 7. С. 11—40.

[132] **Пётра Мірановіч** (1902—1990), мастак. Вучыўся й да эміграцыі працаваў у Латвіі. Ад 1950 г. жыў у Нью-Ёрку.

У справе марак Самапомачы ў Бэрліне я асабіста нічога ня чуў, але тут на эміграцыі жывуць людзі, што ў той час жылі ў Бэрліне й магчыма ня толькі чулі, але й пальцы мачалі. Я буду старацца гэтую справу неяк выясьніць.

У залучэньні перасылаю некалькі камплетаў БНРаўскіх марак рознай фабрыкацыі, таксама некалькі іхных фатаграфіяў для лягчэйшага ўгляду ў дэталі фальшывых марак.

Нр. 2 — вельмі блізкія да арыгіналу, зубчыкі замест II ½ — 10 ½, а нават 10 ½ × 11 ½. На 15 капеечнай марцы слова "коп".

Нр. 3 — маркі з архіву Захаркі. Дадатковыя штрыхі на рукаве дзявочай блузкі і на шапцы. Марка 15 кап. зусім іншая.

Нр. 4 — фотакопія марак Нр. 2.

Нр. 5 — фотакопія магчыма з арыгіналу. Квадрацікі з цыфрамі рухомыя і таму шкрыўленыя.

З пашанай.

## Артыкулы Часлава Будзькі ў газэце "Бацькаўшчына"

**Балцкая тэорыя сьпераду й заду** // Бацькаўшчына. № 7 (542). 12 лютага 1961. С. 3—4.

**Валадарка. У 800-ую гадавіну нараджэньня Вялікага Княства Літоўскага. (Па сьлядох "Слова аб Ігаравым паходзе")** // Бацькаўшчына. № 40—41 (524—525). 16 кастрычніка 1960. С. 4—7; № 42 (526). 23 кастрычніка 1960. С. 2—3; № 43 (527). 30 кастрычніка 1960. С. 2.

**Гарыслава //** Бацькаўшчына. № 2 (602). 24 лютага 1963. С. 2—3.
Водгук на артыкул Юркі Віцьбіча "Зь мячом Рагнеды, з крыжам Праславы". (Беларус. № 78. 1962).

**Легенды карысныя й шкодныя //** Бацькаўшчына. № 9 (609). 1 жніўеня 1963. С. 3—4.
Водгук на артыкул Мікалая Лапіцкага "Сьвятыя Віленскія Мучанікі" (Царкоўны Сьветач. 1963. № 3—4).

**Ліст у Рэдакцыю** // Бацькаўшчына. № 11 (595). 22 ліпеня 1962. С. 4.
Заўвагі да артыкулу Паўла Урбана "Новае хвальшаваньне гісторыі пачынаецца".

**"Русская зямля"** // Бацькаўшчына. № 14—15 (549—550). Вялікдзень 1961. С. 6—7.
Беларуская гісторыя ў расейскай гістарыяграфіі.

**Татары ці Манголы?** // Бацькаўшчына. № 15 (599). 2 сьнежаня 1962. С. 2—3.

**“Чорная Русь” і кіеўскія акадэмікі** // Бацькаўшчына. № 12 (596). 22 жнівеня 1962. С. 2—3; № 13 (597). 22 верасьня 1962. С. 2.

*Падрыхтоўка да друку й прадмова*
*Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча*

*Камэнтары*
*Сяргея Емяльянава,*
*Лявона Юрэвіча*
*й Натальлі Гардзіенкі*

*Тэма нумару: Амэрыканская гісторыя*
*Людзі кнігі*

***Леанід Галяк***

# ПАХОДЖАНЬНЕ “ЛІТОЎСКІХ” КНЯЗЁЎ[1]

*“Я, Леанід Галяк, сын Яна і Аўгеньні, нарадзіўся 18 кастрычніка (ст. ст.), а 31 кастрычніка ў пералічэньні на новы (грэгарыянскі) стыль у 1910 годзе ў сталічным горадзе Вільні, на Зарэччы — частцы гораду за ракой Вілейкай, у частцы Зарэчча называнай Папоўшчынай, на Папоўскай вуліцы ў доме Буйкі. Частка гораду называлася Папоўшчынай дзеля таго, што ўся зямля ў гэтай ваколіцы належала да Сьв. Духавага манастыра, паходзячы з розных магнацкіх запісаў-падарункаў. Папоўшчына пачыналася больш-менш ад зарэчнага рынку і ляжала ў вілах, агранічаная з правага боку Полацкай вуліцай, а тады Полацкім трактам (тракт Батора за польскіх часоў), а зь левага боку Папоўскай вуліцай, што ляжала насупроць Бэрнардынскага саду, уздоўж Вілейкі, і далей жыдоўскім могільнікам, і даходзіла да Роўнага Поля (такі быў назоў вуліцы і ваколіцы).*

*Дзеля мешаніны стыляў у адных дакумантах я фігураваў як народжаны 18 кастрычніка, а ў іншых 31. У ўнівэрсытэцкім дыплёме дата нараджэньня была 18 кастрычніка”.*

*Так пачынаюцца ўспаміны актыўнага ў першы паваенны час, у лягерах для перамешчаных асобаў і па прыезьдзе ў Амэрыку, дзейнага, а што больш істотна (і не сынанімічна, на жаль, асабліва ў эміграцыйных варунках) — плённага дзеяча Леаніда Галяка.*

*Безаблічнае “дзеяч” у дачыненьні да гэтага чалавека ўбірае ў сябе неверагодна шмат: пісьменьніка, аўтара цудоўных па зьмесьце і мове ўспамінаў, даволі нехарактэрных для эміграцыйнай мэмуарыстыкі ды блізкіх па духу да “Майго мястэчка” Васіля Сініцы-Стомы[2]; прафэсійнага юрыста, стваральніка першага беларускага юрыдычнага слоўніка[3]; перакладчыка сярэднявечных*

---

[1] Пры публікацыі захаваны правапіс арыгіналу.

[2] Стома, Васіль. Маё мястэчка. Мінск, 2014. 292 с.

[3] Галяк, Леанід. Слоўнік юрыдычнай тэрміналёгіі: беларуска-расейска-польскі. Stamford (CT), 1994. 80 с.

*легендаў*[4] *і кніг Біблії. Таксама журналіста: аднаго з заснавальнікаў Саюза беларускіх журналістаў на эміграцыі й першага рэдактара нью-ёрскай газэты "Беларус", стваральніка й рэдактара "Летапісу беларускай эміграцыі". А яшчэ й палітыка: сябры Рады БНР (аўтара праекту Канстытуцыі БНР, ня менш!) і Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня… каб у сярэдзіне 1950-х пакінуць тыя арганізацыі й зачыніцца ў сваім доме ў Стэмфардзе, штат Канэктыкут.*

*Гэта быў далёка ня першы раз, калі нехта рваў сувязь з грамадою. У пераважнай большасьці выпадкаў тое быў разрыў адначасна й зь беларускай справаю — у высокім значэньні выразу, і з уласнай творчасьцю (згадайма, напрыклад, колішняга дырэктара БІНіМу Янку Ліманоўскага). Галяк жа быў цалкам самадастатковай асобаю, якой непатрэбныя зьнешнія мыліцы, каб заставацца беларусам. Нават болей: менавіта адышоўшы ад згаданых арганізацый, ад усіх тых закалотаў, сварак, інтрыгаў, ён займеў час для стварэньня сваіх найгалоўнейшых рэчаў.*

*Леанід Галяк працаваў шмат, але выдаваць не сьпяшаўся: пераважная частка яго спадчыны пабачыла сьвет па сьмерці аўтара ў 1980 г. дзякуючы намаганьням жонкі Раісы й сяброў-паплечнікаў, найперш Васіля Шчэцькі, а таксама Міколы Панькова.*

*Ягоныя працы застаюцца быццам дасягальнымі, але разам з тым бадай невядомымі, успаміны — не перавыдадзенымі, а імя — проста хіба яшчэ адным у шэрагу іншых на эміграцыі, за якім не стаіць зьдзейсьненае, урэчаісьненае.*

*І тут трэба згадаць яшчэ адну іпастась Леаніда Галяка — гісторыка, які асабліва цікавіўся пэрыядам Вялікага Княства Літоўскага. Пададзеная ніжэй праца "Паходжаньне літоўскіх князёў" была надрукаваная невялікім накладам у Нью-Ёрку ў 1983 г. і фактычна невядомая сёньня дасьледчыкам. Спадзяемся, што гэтая публікацыя паспрыяе сучаснаму асэнсаваньню даробку "стэмфардзкага самотніка" й вяртаньню ягонага імя ў айчынную гісторыю.*

Пачну ад цьверджаньня. Цьверджаньне маё наступнае. Гэтак званыя літоўскія князі Вялікага Княства Літоўскага і часоў, што папераджалі афармленьне Вялікага Княства Літоўскага, ня мелі этнічна нічога супольнага з балцкім племенем Жамойцаў, якія ў пэўным часе пачалі называцца Ліцьвінамі, ані наагул з Балтамі, а былі паходжаньня паўночна-гэрманскага, а дакладней — скандынаўскага.

[4] Парсіваль: сярэднявяковая лягенда. Ватэнштэт, 1947. 70 с.; Бэдзье, Жазэф. Трышчан ды Іжота // Запісы БІНІМ. № 29. Нью-Ёрк — Менск, 2005. С. 44—132.

Калі я цьверджу, што яны ня мелі нічога супольнага з Жамойцамі, дык маю на думцы іхняе паходжаньне, а ня мову.

Данскія вікінгі, якія на чале са сваім правадыром Ролло, у пачатку дзясятага стагодзьдзя, атрымалі ад францускага караля, як лен, тэрыторыю, што цяпер называецца Нармандыяй, згубілі сваю мову на працягу стагодзьдзя і заваявалі Англію. Пасьля бітвы пад Гастынгсам, у 1066 г., ужывалі францускую мову, хаця ў поўнасьці захоўвалі сьведамасьць свайго нарманскага паходжаньня; дзеля гэтага ня лічыцца, што Англію заваявалі Французы, а гаворыцца аб нарманскім заваяваньні Англіі.

У гэтай працы словы Літва, Ліцьвін адпаведна ўжываюцца для азначэньня Вялікага Княства Літоўскага і ягоных жыхароў. Для бліжэйшага азначэньня этнічнай прыналежнасьці вядучай народнасьці гэтай дзяржавы будзе ўжывацца азначэньне “Беларус”. Для азначэньня Балцкай этнічнай групы будзе ўжывацца азначэньне Жамойдзь (для тэрыторыі) і Жамойдзец (для жыхараў).

Думка аб нябалцкім паходжаньні літоўскіх князёў выказвалася ў навуковай літаратуры неаднаразова, зыходзячы з розных падставаў для сваіх цьверджаньняў, але да сягоньня мне не прыйшлося бачыць ніводнага твору, які-б даў поўны агляд гэтай праблемы.

Навукоўцы, якія выказваліся адносна гэтай праблемы, пераважна апіраліся толькі на моўныя даныя, а гэта толькі частка цэлае праблемы.

Перад тым, як даводзіць скандынаўскае паходжаньне літоўскіх князёў, будзе добра зрабіць кароценькі агляд скандынаўскай гісторыі і культуры, што можа дапамагчы ў ацэнцы цьверджаньняў гэтай працы.

Паводле даных археалёгіі, гісторыі і мовазнаўства, продкі Скандынаваў пачалі асяляцца на мясцох іх сёньнешняга знаходжаньня ўжо ў трэцім тысячагодзьдзі перад Н[араджэньнем] Х[рыста]. Большменш да X стагодзьдзя гэта была адналітая група, якая ўжо ў тыя часы адрожнівалася ад іншых гэрманскіх групаў і якая потым распалася на блізкія пляменьні Швэдаў, Нарвэгаў і Данаў. Да X стагодзьдзя дзеля гэтага можна гаварыць толькі аб агульнай групе скандынаўскіх пляменьняў паўночных людзей — Нарманаў[5].

Рэлігія Нарманаў была вельмі падобная да рэлігіяў іншых, асабліва тэрытарыяльна блізкіх інда-эўрапейскіх народаў — Славянаў і Балтаў,

---

[5] Нарманы — гэта назва скандынаваў, што паўстала ў Заходняй Эўропе ў эпоху вікінгаў. Яна ніколі не была племяннной назвай жыхароў Скандынавіі. Да таго ж аўтар, малюючы этнічную гісторыю скандынаўскіх народаў, прытрымліваецца скажонай лёгікі “драбленьня” нейкага вялікага протаадзінства на больш дробныя групы, хоць шлях звычайна акурат адваротны — аб’яднаньне лякальных групаў у надплемянныя супольнасьці. — *Заўв. С. Емяльянава.*

з тэю папраўкаю, што скандынаўская рэлігія мела вельмі буйна распрацаваную міталёгію, або што гэтая міталёгія лепш захавалася[6].

Галоўным богам Скандынаваў быў Одын, які, паводле іхняй міталёгіі меў усе характэрныя рысы тагачасных Скандынаваў: быў адважны, любіў жанчынаў, ды любіў добра зьесьці, папіваючы мёдам. Побач з галоўным богам Одынам быў цэлы рад другарадных багоў і багіняў. Паводле скандынаўскіх вераваньняў, Одын падчас сваіх вандровак па зямлі быў заўсёды ў таварыстве двох ваўкоў, якія наагул ігралі вялікую ролю ў скандынаўскай міталёгіі. Другой вельмі шанаванай жывёлай быў конь[7].

Другім паводле значаньня быў бог Тор (*Thor*), бог пяруноў, грымотаў, стражнік устаноўленага багамі парадку, а праз гэта і бог вайны. Тор — гэта адпаведнік славянскага Пяруна і балцкага Перкунаса. Існавала сярод Скандынаваў вера ў жыцьцё пасьля сьмерці, прычым становішча ў тым, другім жыцьці залежала ад роду сьмерці. Тыя, што памерлі не на полі змаганьня, знаходзіліся пасьля сьмерці ў краіне імглы і хмараў, пад уладай багіні Гэль. Тыя-ж, што загінулі ў змаганьні, пасьля сьмерці траплялі ў скандынаўскі рай — Валгаллу, дзе было 540 уваходных брамаў, і жылі там у блізкасьці галоўнага бога Одына і цешыліся там з усіх прыемнасьцяў, як і за жыцьця на зямлі. Паколькі да аднэй з прыемнасьцяў жыцьця належала змаганьне, дык і на тым, другім сьвеце займаліся змаганьнем, прычым тыя, што палеглі ў змаганьні вечарам, ізноў аджывалі і падмацоўваліся ежай і мёдам для змаганьня на наступны дзень.

Скандынавы часта насілі на шыі на ланцужку мэталёвы сымбаль бога Тора, так званы молат Тора — двустаронны молат на кароткай адручні, у надзеі запэўненьня дапамогі Тора ў патрэбную хвіліну.

Паколькі, як і ў іншых індаэўрапейскіх народаў, існавала вера ў жыцьцё пасьля сьмерці, дык дзеля гэтага да абавязку блізкіх належала ўкладаньне ў магілу рэчаў тагачаснай першай патрэбы. Каня, сабаку, мяча, шчыта, нявольнікаў і часамі жанчыну. Целы пераважна спальваліся, часамі ў лодцы, а попел складаўся ў урну і закапываўся. Конь быў сымбалем плоднасьці і сілы. На многіх помніках на магілах ці на помніках у памяць загінуўшых далёка знаходзіцца рысунак каня.

Былі пашыраныя рожныя магічныя спосабы лячэньня. У трэцім стагодзьдзі нашай эры пачынаюць выступаць гэтак званыя ру-

---

[6] Верагодна, слушным зьяўляецца другое меркаваньне аўтара. Настолькі падрабязна захаванай скандынаўская міталёгія застаецца дзякуючы запісам разнастайных тэкстаў вуснай творчасьці, што былі зробленыя пераважна ў Ісьляндыі ў XIII ст. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[7] Паводле скандынаўскай міталёгіі, Одзін меў васьміногага каня Сьлейпніра. — *Заўв. С. Емяльянава.*

ны — пазьнейшыя пісьмовыя знакі, якія пачаткова мелі толькі магічнае значаньне і якім потым пачалі прывязываць рожнае фанэтычнае значаньне і руны пачалі выпаўняць функцыю альфабэту. Руны выразаліся на камянёх ці дрэве і складаліся пераважна з простых ліній. Руны апрача сваёй альфабэтычнай функцыі ня ў меншай меры захавалі і сваё магічнае значаньне і інтэрпрэтаваньне рунаў часта прадстаўляе цяжкасьці.



Леанід Галяк

Прывязываньне магічных уласьцівасьцяў літарам альфабэту не загінула і да сягоньня. У маі месяцы 1979 году прыпадкова пабачыў на тэлевізыі, на 13 канале, продаж з публічнага торгу рожных мастацкіх прадметаў: абразоў, скульптураў і г. д. Сярод прадаваных абразоў зьвярнуў на сябе ўвагу абраз: на зялёным фоне праз цэлы абраз намаляваная адна гэбрайская літара, якая, як казаў аўкцыянер, мела выабражаць сьвятасьць. Ня будучы мастаком, не бяруся судзіць аб мастацкай вартасьці аднэй літары на зялёным фоне і думаю, што гэты абраз прадстаўляе нейкую пазамастацкую вартасьць. Абраз быў ацэнены на 1400 даляраў.

Найстарэйшыя рунічныя напісы гэрманскіх народаў паходзяць з II — III веку нашай эры[8]. Агульна гэрманскі рунічны альфабэт налічываў 24 знакі і гэтым альфабэтам карысталіся да VII веку ўсе гэрманскія пляменьні. Большая частка памяткаў, напісаных старэйшым рунічным альфабэтам, паходзіць са Скандынавіі і Шлезьвіку. Пераважны зьмест гэтых старых памятак — гэта магічныя формулкі (замовы) або імя собсьніка прадмету. У сувязі з магічным значаньнем кожнай руны, часта напіс складаўся з аднаго ці некалькіх знакаў, ня творачых слова або руны накладаліся адна на другую, творачы ў адным знаку камбінацыю некалькіх рунаў.

Старэйшы рунічны альфабэт складаўся з трох радоў-сэрыяў, па восем рунаў у кожным радзе.

Сэрыі гэтыя наступныя:

---

[8] Сёньня існаваньне рунічнага пісьма адсунутае як мінімум да канца I ст. н. э. Гл.: Мельникова, Е. Скандинавские рунические надписи. Новые находки и интерпретации. Тексты, перевод, комментарий. Москва: Издательская фирма “Восточная литература” РАН, 2001. С. 9—10. — *Заўв. С. Емяльянава.*




У рожных гэрманскіх пляменьняў старэйшы рунічны альфабэт, называны паводле назоваў першых шасьцёх знакаў гэтага альфабэту футгаркам[9], пазьней пачаў падлягаць зьменам, у выніку чаго ўзьніклі мясцовыя рунічныя альфабэты, як англа-саксонскі, данскі і іншыя. У Даніі быў створаны прасьцейшы (карацейшы) рунічны альфабэт, які складаўся з 16 рунаў, пры частковым выкарыстаньні старэйшага рунічнага альфабэту, прычым некаторыя руны атрымалі новае фанэтычнае значаньне, і паколькі колькасьць рунічных знакаў была меншая, дык часамі тая самая руна замела некалькі фанэтычных значаньняў у адносінах да фанэтычна зблíжаных гукаў.

Напрыклад тая самая руна пачала азначаць (падаю лацінскімі літэрамі) “P” і “B”; “T” і “D”; “K” і “G”. Як было ўспомнена, паасобныя руны былі сымбалямі паасобных паняцьцяў, прадметаў і асобаў. Напрыклад руна ᚺ была сымбалям няшчасьця, бо была першай рунай у слове HAGLA — град.

Руна ᚨ — A; ᚦ — TH; ᛏ — T былі сымбалямі паасобных багоў.

У скандынаўскай міталёгіі зборнае імя ўсіх багоў было — Ассы (адзін бог Асс)[10]. Дзеля гэтага знак рунічнага альфабэту для азна-

[9] Слушна — ***“футарк”***. Відаць, форма ***“футгарк”*** паўстала ў Леаніда Галяка праз палітарнае прачытаньне скандынаўскага ***futhark*** — менавіта так гэтае слова пішацца ў сучасных дацкай, швэдзкай і нованарвэскай, хоць мажлівы й варыянт ***fuÞark***. У дадзеным выпадку, перадаючы слова па-беларуску, аўтар чамусьці расклаў дыфтонг *th* на два асобныя гукі. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[10] Асы ў скандынаўскай міталёгіі — адна з групаў багоў. Акрамя іх узгадваецца яшчэ адна група — Ваны. Паводле “Прароцтва вёльвы” й шэрагу іншых тэкстаў, вядомае паданьне пра вайну між Асамі й Ванамі, у якой першыя атрымалі перамогу й замацавалі сваю ўладу. — *Заўв. С. Емяльянава.*

чэньня гуку “А” быў адначасна сымбалем багоў — боскім знакам і часта ўжываўся ў рожных магічных формулах — сам ці ў палучэньні з іншымі рунамі, напісанымі побач ці наложанымі на іншыя руны. Ніводная руна ня мела так многа напісаньняў, як руна на азначэньне гуку “А”. У рожных часох і ў рожных рунічных альфабэтах гэтая руна мела наступныя графічныя прадстаўленьні: ᛆ , ᛆ, ᚨ, ᚬ , ᚬ .

Пасьля прыняцьця хрысьціянства і ўводу лацінскага альфабэту пачалі ўжываць 31 руну, каб мець адпаведнік кожнай літэры лацінскага альфабэту.

Найбольш рунічных напісаў з IV — X стагодзьдзяў (якіх агульна апублікавана каля 3500) захавалася як напісы на памятнікавых камянёх, устанаўляных сябрамі сям’і ці прыяцелямі ў памяць загінуўшых. Трэба адзначыць, што такія памятнікавыя камяні устанаўляліся амаль заўсёды каля ягонай радавой сядзібы, і дзеля гэтага нават там, дзе скандынавы перасяляліся цэлымі грамадамі, часам цэлымі сем’ямі, як напрыклад у Ісьляндыю, у Нармандыю ці Англію, такія памятнікавыя камяні адсутнічаюць.

Памятнікавыя камяні пастаўленыя ў памяць і чэсьць загінуўшых на ўсходзе, складаюць 33 працэнты ўсіх такіх помнікаў у Швэцыі, 4 працэнты на востраве Готляндзе і толькі адну трэцюю частку працэнта ў Нарвэгіі. Гэтая статыстыка паказывае, скуль паходзілі ўдзельнікі вікінгу на Ўсходзе (пераважна слова “вікінг” ужывалася ў Скандынавіі як дзеяслоў)[11]. У Швэцыі памятнікавыя каменьні, у якіх успамінаецца Ўсход, найчасьцей выступаюць на швэцкім узьбярэжжы, супроць Рыскай і Фінскай затокі і сягаюць на паўдні да вастравоў Готлянд і Элянд, а значыць, знаходзяцца і на поўдзень ад балтыцкага ўзьбярэжжа, дзе ўпадае ў мора Нёман.

У аналізе напісаў, у якіх успамінаецца Ўсход, трэба выключыць тыя, у якіх дакладна абазначаецца краіна, дзе загінула даная асоба, бо такія напісы не датычаць бязпасярэдна цікавячай нас праблемы, — экспансыі Скандынаваў праз Нёман. Дзеля гэтага нельга браць пад увагу напісаў тыпу:

“*Олаф загінуў у часе аднаго з паходаў у Эстлянд*”, ці

“*...ён памёр на Ўсходзе ў Грэцыі*”.

Павінны, аднак, брацца пад увагу тэсты, у якіх гаворыцца, што нехта загінуў *“на ўсходнім шляху”* ці *“на Ўсходзе”*, бо гэтыя словы у такой

---

[11] Аўтар спалучае ў адно два тлумачэньні паходжаньня панятку *viking / vikingr*. Само слова *viking* — назоўнік і азначае *“паход, выправа”* (*“пайсьці ў вікінг”*). Магчыма, што гэтае слова, якое пазьней стала пазначаць і ўдзельнікаў паходаў, утворанае ад дзеяслова *vik* — *“адхіляцца ўбок”*. Гэта магло ўказваць, што ўдзельнікі выправаў-вікінгаў “адхіляліся” ад традыцыйнага жыцьцёвага шляху селяніна-бонда або на манэру хадзіць на дракары, ідучы ня роўным курсам, а адхіляючыся па ветры. — *Заўв. С. Емяльянава.*

самай меры можна аднесьці як да Ноўгарада ці Ладагі, як і да Нёмана ці Дзьвіны. Маю на ўвазе напісы тыпу:

*"Тосці ўстанавіў гэты камень у памяць Тові, які памёр на Ўсходзе".*

*"Гулі ўстанавіў гэты камень у памяць братоў сваёй жонкі... а яны памерлі ў войску на Ўсходзе".*

Цікавасць для нас прадстаўляе помнікавы камень у мясцовасьці Мойбро (*Möibro*) у Швэцыі з рунічным напісам. На плоскім камяні знаходзіцца высечаны ваяўнік на кані са шчытом і ўзьнятым мячом. Каля ягоных ног два ваўкі. Коньнік вельмі падобны да нашай Пагоні.

Дзеля нявыясьненых прычынаў пачалася нарманская экспансыя ў VIII веку. Над прычынамі яе навукоўцы ды сягоньня вядуць спрэчкі, але факту экспансыі ніхто не запярэчвае.

Вядома, што спачатку самыя актыўныя былі Скандынавы з востраву Готлянд і са ўзьбярэжжаў паўдзённай Швэцыі. Экспансыя іх кіравалася пераважна на ўсходнія ўзьбярэжжы Балтыцкага мора. Хутка да іх далучыліся Скандынавы з Нарвэгіі і пачалі рабіць рабаўнічыя налёты на Брытанію і Ірляндыю, частка іх асела настала на Ісьляндыі, скуль была калёнізацыя Грынляндыі, а з Грынляндыі было зроблена некалькі не зусім пасьпяховых экспэдыцыяў у Паўночную Амэрыку.

Скандынавы з Даніі рабавалі побач з Нарвэгамі Англію і часткова там аселі, а па-за гэтым рабавалі Францыю, дзе ў касьцельных літаніях маліліся *"Ад нарманскай ярасьці выбаў нас Пане"* (*a furrore Normanorum libera nos Domine*[12]), Фрызыю, Марокко, Балеарскія вастравы ў Сяродземным моры і іншыя краіны.

Калі ў гэтай працы будзе ўжывацца слова "Скандынавы", дык гэта будзе агульнае азначэньне жыхароў Скандынавіі гэрманскага паходжаньня і жыхароў Ютляндыі, гэта значыць Швэдаў, Данаў і Нарвэгаў.

Пад назовам "вікінгаў" трэба разумець Скандынаваў, удзельнікаў рабаўніча гандлёвых экспэдыцыяў, без дыфэрэнцыяцыі іх паводле месца іх паходжаньня, калі гэта адумыслова не зазначана.

Слова "Варагі" будзе азначаць Скандынаваў, што праводзілі сваю экспансыю ўздоўж шляху з Варагаў у Грэкі.

Слова "Нарманы" будзе ўжывацца адназначна са словам "Скандынавы", а выключна ў адносінах да Скандынаваў — Данаў, асеўшых на паўвостраве Нармандыя ў Францыі, скуль адбылася ўторная экспансыя і заваяваньне Англіі і Сыцыліі.

Нарманская праблема на нашых і суседніх абшарах, гэта значыць існаваньня і значаньня нарманскай экспансыі ў паўстаньні нашай аб'еднанай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага і ў паўстаньні дзяр-

---

[12] Слушна — *"A furore Normannorum libera nos, Domine"*. — *Заўв. С. Емяльянава.*

жаваў нашых суседзяў Палякаў і Ўкраінцаў у навуцы ня новая і ў гэтай справе, асабліва ў справе Кіеўскай дзяржавы і Польшчы, больш сотні гадоў вядуцца навуковыя спрэчкі. Гэтыя спрэчкі было-б больш правільна назваць палітычнымі спрэчкамі, убранымі ў навуковую вопратку. Ад часоў Гэрадота лічылася заданьнем гісторыі шуканьне гістарычнай праўды, але ў запраўднасьці большасьць гісторыкаў была больш зацікаўленая ў фальшаваньні гістарычнай праўды з палітычных меркаваньняў.

Хаця Кіеўская дзяржава ня мела нічога супольнага з многа пазьнейшай расейскай дзяржавай — Масковіяй, апрача дынастычных павязаньняў, аднак Расейцы хочуць выводзіць пачатак сваёй дзяржаўнасьці якраз з Кіева, як старэйшага ад Масквы, і выкарыстовываюць з гэтай мэтай і сьведама стараюцца памяшаць рожныя паняцьці Русь і Расея. Дзеля сказанага, для Расейцаў, дзеля прэстыжу важна давесьці, што паўстаньне кіеўскай дзяржавы не мела нічога супольнага з Нарманамі — Варагамі, апрача таго, што Варагі належалі да князёўскіх дружынаў, ды займаліся дыплёматычнай дзейнасьцяй ад імя кіеўскіх князёў, якія ясна, паводле Расейцаў, нічога супольнага з Нарманамі ня мелі.

Перад прыходам да ўлады бальшавікоў у Расеі была магчымасьць свабодна выказываць свае думкі на навуковыя тэмы, да якіх царскія ўлады ня прывязывалі палітычнага значаньня, і дзеля гэтага сярод расейскіх навукоўцаў былі як прыхільнікі думкі аб вялікай ролі Нарманаў-Варагаў у паўстаньні і арганізацыі Кіеўскай дзяржавы, так і навукоўцы, якія або адмаўлялі Варагам гэтай ролі, або стараліся яе ўсяляк паменшыць. Пасьля некаторай лібэральнасьці на пачатку савецкай улады, як толькі савецкая ўлада і яе адназначнік расейскі шавінізм узмацаваліся, дык савецка-расейская ўлада, у той ці іншай форме, дала дырэктыву запярэчываць нарманскім каранём Кіеўскай дзяржавы. Калі ў 1918 годзе М[ацьвей] Любаўскі[13] прызнаваў факт прыходу кіеўскіх князёў з-за мора, дак у 1942 годзе акадэмік В. Греков[14] напісаў, што нарманская тэорыя — гэта праца фашысцкіх фальсіфікатараў гісторыі, а у 1947 г. Н. Яковлев[15] у часопісе *“Большевик”*[16] асьветчыў, што нарманская тэорыя ёсьць палітычна шкодная. Маючы ўжо заданы з маскоўскага цэнт-

---

[13] **Мацьвей Любаўскі** (рус. *Матвей Кузьмич Любавский*, 1860—1936), расейскі гісторык, аўтар прац па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.

[14] Відаць, маецца на ўвазе **Барыс Грэкаў** (рус. *Борис Дмитриевич Греков*, 1882—1953), савецкі гісторык і грамадзкі дзеяч.

[15] Магчыма, маецца на ўвазе **Мікалай Якаўлеў** (рус. *Николай Никифорович Яковлев*, 1898—1970), савецкі гісторык, бібліятэчны і партыйны дзеяч.

[16] ***“Большевик”*** — у 1924—1952 гг. тэарэтычны й палітычны часопіс ЦК УКП(б), які пазней стаў выходзіць пад назвай *“Коммунист”*.

ру, як камэртонам тон, у Гісторыі Беларусі, выданай Акадэміяй Навук у 1954 годзе[17], сказана на старонцы 26, што нарманская тэорыя ёсьць антынавуковая і палітычна шкодная. Ясна, што ў умовах расейскай дыктатуры зрабілася немагчымай усялякая дыскусія аб "палітычна шкоднай" тэорыі.

У сатэліцкай Польшчы таксама ясна абавязывае расейская ўстаноўка, як у адносінах да Кіева, так і да Польшчы, дзе раней было даволі навукоўцаў, што надавалі тую ці іншую вагу нарманскай тэорыі, аб ролі Нарманаў у паўстаньні польскай дзяржавы — нарманскай тэорыі ў рожных яе варыянтах. Напрыклад К[араль] Шайноха[18] ідэнтыфікаваў племя Лехітаў з Нарманамі з VI стагодзьдзя. Тадэуш Чацкі[19] даводзіў існаваньня нарманскіх уплываў на паўстаньне польскага і літоўскага заканадаўства. Фр[анцішак] Пекосіньскі[20] даводзіў, што племя Лехітаў ужывала рунічныя знакі ў сваіх гэрбох.

У сучаснай Польшчы В. Ловмяньскі[21] піша, што сучасная навука ўсе пералічаныя пагляды адкідае. Нічога ў гэтым дзіўнага няма; у ўмовах расейскай акупацыі ён і ня можа пісаць інакш.

Ня ёсьць маім заданьнем займацца паўстаньнем польскай дзяржавы, але ўсё-ж трэба адзначыць цікавы момант, што гэтая дзяржава паўстала ня ў цэнтры разьсяленьня польскіх плямёнаў, а на паўночным захадзе, бліжэй да мора.

Захаваўся ў ватыканскіх архівах дакумэнт з 991 году аб адданьні пад папескую апеку тэрыторыі тагачаснай Польшчы. У дакумэнце гэтым знаходзіцца апісаньне межаў дзяржавы і пачатквы пункт гэтага апісаньня — гэта той, дзе заходняя мяжа сягала мора, як думаюць некаторыя ад тагачаснай сталіцы Штэціну, які быў добрым выхадным пунктам для далейшай экспансыі на паўдзённы ўсход. Вельмі цікавым таксама ёсьць тое, што хаця з апісаньня межаў дзяржавы вынікае, што апісаньне адносіцца да тагачаснай Польшчы, аднак у дакумэнце не ўспамінаецца імя тагачаснага князя Мешка Першага (963—992), а як князь фігуруе

---

[17] Маецца на ўвазе выданьне: История Белорусской ССР = Гісторыя Беларускай ССР / под редакцией В. Н. Перцева, К. И. Шабуни и Л. С. Абецедарского. Т. 1. Минск: Издательство Академии наук Белорусской ССР, 1954. 502 с.

[18] **Караль Шайноха** (пол. *Karol Szajnocha*, 1818—1868), польскі гісторык і пісьменьнік.

[19] **Тадэвуш Чацкі** (пол. *Tadeusz Czacki*, 1765—1813), польскі гісторык, дзеяч асьветы й навукі на тэрыторыі ВКЛ.

[20] **Францішак Пекасіньскі** (пол. *Franciszek Piekosiński*, 1844—1906), польскі гісторык, геральдык, юрыст, прафэсар Кракаўскага ўнівэрсытэту.

[21] Маецца на ўвазе **Генрык Лаўмяньскі** (пол. *Henryk Łowmiański*, 1898—1984), польскі гісторык-медыевіст, прафэсар, доктар навук, аўтар шасьцітамовай працы "Пачаткі Польшчы" (Początki Polski. 1963—1985).

Дагомэ ці Дагонэ, паводле некаторых аўтараў — скандынаўскі Дагр (*Dagr*). На ўсё можна знайсьці вытлумачэньне і некаторыя польскія аўтары цьвердзяць, што Дагомэ — гэта перакручанае імя Дагобэрт і дадумываюцца, што, можа, Мешко Першы пры прыняцьці хрысьціянства быў ахрышчаны Дагобэртам, хоць у гістарычных крыніцах няма аб гэтым нават ценю ўспаміну. Дачка Мешка Першага называлася Сігрід (гучыць ня вельмі па-славянску) і была замужам за швэцкім каралём.

Згодна з савецкімі ўстаноўкамі, існаваньне нарманскай праблемы зусім сьведама заціраецца.

Напрыклад, калі ў Польшчы нядаўна быў знойдзены нарманскі могільнік, дык адразу была дадзеная афіцыйная вэрсыя (бо факту нарманскасьці могільніку нельга было запярэчыць), што гэта могільнік наёмнай Вараскай дружыны, завэрбаванай у Кіеве, што была на службе ў мясцовага князя, хаця, як меў называцца той князь, ня ўспомнена.

Гэтыя прыклады паданыя для адлюстраваньня цэлёвага замаўчываньня нарманскай праблемы з увагі на палітычную неадпаведнасьць.

Можа, нехта зусім слушна папытаць, чаму нашыя суседзі ня могуць сабе дазволіць на аб’ектыўны падыход да праблемы дзеля палітычных прычынаў, а Беларусы могуць. На мой погляд, Беларусы могуць сабе дазволіць на аб’ектыўны падыход да праблемы, бо ня маюць іншага выхаду, бо кожны іншы падыход будзе дзеяць на нашу некарысьць.

Перад Беларусамі ў гэтай справе тры магчымасьці: прызнаць, што літоўскія князі былі славянскага паходжаньня, балцкага паходжаньня або скандынаўскага.

Ніякіх даных аб славянскім паходжаньні літоўскіх князёў няма.

Прызнаць, што літоўскія князі былі балцкага паходжаньня, гэта было-б запярэчыць фактам, якія нязгодныя з такім цьверджаньнем.

Такімі фактамі ёсьць факты наступныя: немагчымасьць выводу іменьняў літоўскіх князёў з балцкіх моваў, па-другое, немагчымасьць вытлумачыць факт, што Балты, якія пачаткова займалі амаль усю тэрыторыю сучаснай Беларусі (не БССР!), далей гублялі сваю тэрыторыю пад кіраўніцтвам сваіх літоўскіх князёў. Факт, што субстратам беларускага народу былі Балты, прызнаецца нават савецкімі навукоўцамі ў кнігах, не прызначаных для масавага чытача. Напрыклад, В. В. Седов[22] у сваёй кнізе *“Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья”* з 1970 году на старонцы 12 піша:

*“Выйдя из разных диалектных групп праславян и в разное время племена Верхнего Поднепровья и Подвинья в XIII — XIV вв. формируются в единую славянскую народность — белорусов. Причиной*

[22] **Валянцін Сядоў** (рус. *Валентин Седов*, 1924—2004), савецкі й расейскі археоляг-славіст, загадчык аддзелу палявых дасьледаваньняў Інстытуту археалёгіі РАН, доктар гістарычных навук.

*этого является однородный балтский субстрат на всей белорусской территории*".

Балты, што пачаткова займалі амаль усю тэрыторыю Беларусі, былі, як гэта звычайна адбывалася ў такіх выпадках, часткова вынішчаныя, часткова асыміляваныя, а часткова у канцы гэтага працэсу даціснутыя да Балтыйскага мора, ясна ня былі ў стане павярнуць гэты гістарычны працэс у адваротны бок і ў пэўным моманце стварыць пануючую дынастыю ў В.К.Л. і падпарадкаваць сабе беларускія землі. У сьвятле гэтага робіцца ясным, што тут быў увайшоўшы ў гэты працэс нейкі новы элемэнт. Жамойцы, якія цьвердзяць, што В.К.Л. было іхняй дзяржавай, ніколі нават не прабавалі адзыскаць згубленай на карысьць Беларусоў тэрыторыі, бо нават прабаваць гэтага ня былі ў стане і пануючай нацыяй у В.К.Л. сталіся Беларусы, якія лічылі і лічаць, што Вялікае Княства Літоўскае — гэта была дзяржава Беларускага народу, дзе ў характары меншасьцяў былі і іншыя народы, зь вялікшых гэта былі Украінцы і Жамойцы.

Усялякія сёньняшнія і мінулыя спробы даказываньня, што вядучай, пануючай групай у В.К.Л. былі Жамойцы, павінны быць адкінутыя хаця-б з увагі на выказаньне выдатнага дзеяча В.К.Л. Л[ьва] Сапегі[23], род якога выводзіцца ад Сямёна Сапегі са Смаленшчыны.

Леў Сапега, які займаў галоўныя становішчы ў В.К.Л. — гэтмана, ваяводы віленскага, канцлера і іншыя становішчы, у прадмове да Статуту Вялікага Княства Літоўскага, выданага ў 1588 годзе, напісаў наступна (цытую паводле перадруку, выданага ў 1938 годзе ў Коўні Міністэрствам Асьветы):

"*А если которому народу встыд правъ своих не умети, поготовю нам, которыя не обчым якым языком, але своим власным правы списанные маем и кождого часу чого нам потреба ку отпору всякое кривды ведати можем*".

Гэтае аўтарытэтнае сьверджаньне канцлера дзяржавы, што Статут напісаны ягонай мовай, мовай большасьці жыхараў В.К.Л., дастаткова сьцярджае беларускі характар В.К.Л.

Пасьля выданьня Статуту ня было чуваць аб пратэстах са стараны Жамойцаў, бо як можна было пратэставаць супроць усім вядомых фактаў.

Як было ўжо сказана, у VII — IX вякох Скандынавы праявілі вялікую экспансыю. Экспансыя гэтая насіла рожны характар у рожных часох і ў рожных мясцох. У адных мясцох, як напрыклад у Зах[одняй] Эўропе гэтая экспансыя праяўлялася найчасьцей у форме звычайных рабаўнічых-пірацкіх нападаў, хаця побач з гэтым была і калёнізацыя, як у Ісьляндыі, Грэнляндыі, Англіі. У Ўсходняй Эўропе іхняя экспансыя

[23] **Леў Сапега** (1557—1633), дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, канцлер (1589—1623), стваральнік Статуту ВКЛ 1588 г.

мела рабаўнічы характэр, але, можа, у большай меры гандлёвы і з мэтай лепшай эксплёатацыі таксама дзяржаватворчы.

Ведаючы з гісторыі аб размаху скандынаўскай экспансыі, што сягала ад Грэнляндыі і Амэрыкі да Канстантынопаля, цяжка думаць, што Скандынавы не пацікавіліся, што ляжыць у іхнім безпасярэднім суседзтве, праз мора, над Нёманам.

У маім разуменні справа скандынаўскай экспансыі ўздоўж Нёмана прадстаўляецца наступна.

У дакладней неазначаным часе, магчыма неаднаразова, нейкая скандынаўская група, магчыма зьбліжаная да групы, што пазьней зарганізавала кіеўскую дзяржаву Русаў, увайшла з Балтыцкага мора ў Нёман, стварыла апорны пункт пры уйсьці Нёмана ў мора і пачала паступова пасоўвацца ўгару ракі і яе прытокаў, падпарадкуючы мясцовае жамойдзкае насельніцтва. Блізкасьць групы, што арганізавала Кіеўскую дзяржаву з групай, што пачала экспансыю ўгару Нёману, вынікае з паўтаральнасьці назоваў з карнём “рус” і паходных словаў у мясцовасьцях каля ўпаду Нёману ў мора. Нёман перад упадзеньнем у мора дзеліцца пачаткова на два вялікшыя рукавы, з якіх правы называецца Русс. Сама затока, што цяпер вядомая пад назовам Куронскай, да XV стагодьдзя называлася Русна. Два галоўныя рукавы Нёману далей (бліжэй да мора) дзеляцца на многа рукавоў, з якіх адзін называецца Варрус. З паданага можна зрабіць вывад, што ў гэтых мясцовасьцях была нейкая этнічная група, што называлася Рус ці Русь. Можна было-б рабіць дадумы пра этнічную прыналежнасьць гэтай Русі — Славяне, Жамойцы, Скандынавы? У вырашэньні гэтай праблемы дапамагае гісторыя. У гісторыі Нарвэгіі Торфэус’а падаецца, што кароль Гальфдан вёў вайну ў заморскай краіне на ўсходзе і забіў у змаганьні іхняга караля імём Зынтрыг. Там-жа гаворыцца, што іншы кароль Русаў на імя Эймунд аддаў за яго замуж сваю дачку Альвэйг. Гэтыя іменьні выразна Скандынаўскія, і на падставе гэтага можна цьвердзіць аб існаваньні скандынаўскай калёніі пры ўпадзе Нёману ў мора[24].

У беларускіх гістарычных кроніках, г[этак] званай Кроніцы Быхаўца і ў Кроніцы Літоўскай і Жамойдзкай[25], ды іншых згодна гаворыцца, што літоўская княжая група разам са сваім акружэньнем паходзіла з Рыму. Кронікі падрабязна апісваюць, як гэтая група трапіла у ўйсьце Нёману

[24] Маецца на ўвазе кніга ісьляндзкага гісторыка XVII — XVIII стст. Тормада Торфэўса *“Historia Rerum Norvegicarum”* (“Гісторыя Нарвэскага каралеўства”), што ўпершыню пабачыла сьвет у 1711 г. Зразумела, што сёньня гэтая праца цікавая выключна як гістарыяграфічны помнік. Літаральную спасылку Леаніда Галяка ня варта разглядаць як добрае падмацаваньне ягонай тэорыі. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[25] **“Хроніка Літоўская і Жамойцкая”** — помнік беларуска-літоўскага летапісаньня, створаны ў XVII ст., частка “Вялікай хронікі”.

і пачала пасоўвацца ўгару ракі, закладаючы гарады (замкі) і падпарадкуючы сабе мясцовае насельніцтва. Легенду пра паходжаньне літоўскай княжай групы з Рыму трэба адкінуць як незнаходзячай падтрымкі ў іншых крыніцах, трэба адкінуць, аднак прыняць пад увагу той факт, што ў кожнай амаль легендзе часта захоўваюцца сьляды праўдзівых здарэньняў і гэтым праўдзівым здарэньнем у легендзе аб паходжаньні літоўскіх князёў будзе факт прыбыцьця гэтай групы з мора. Група гэтая з увагі на сваю малалікасьць, а таксама дзеля адсутнасьці скандынаўскіх жанчынаў моўна, магчыма, хутка здэнацыяналізавалася, хаця ў поўнасьці захоўваючы традыцыю свайго паходжаньня і свае звычаі. Невялікая колькасьць тыповых скандынаўскіх пахаваньняў, ня дзіва, бо колькасьць прыбыльцаў ня была вялікая, а з другога боку, цікавячая нас тэрыторыя ня была археалягічна сыстэматычна дасьледавана, ды і дасьледаваць у гэтым кірунку сучасныя валадары ня маюць ніякай ахвоты.

Традыцыя заморскага паходжаньня існавала у В.К.Л. ня толькі ў тым часе, калі жыў Гэдэмін, Альгерд, але гэтая традыцыя была жывая нават у канцы XVI стагодзьдзя. У гэтым часе існавала ў В.К.Л. плынь, якая хацела перайсьці ў В.К.Л. на ўрадавую лацінскую мову. Адзін з прыхільнікаў гэтай плыні Ротундус[26], удзельнік рэдакцыйнай камісыі выданьня Статуту 1588 г., выдаў у лацінскай мове кроніку літоўскіх князёў *Epitomae Principium Lithuaniae*[27] і ў прадмове да яе напісаў, што самыя Ліцьвіны ахвотна прызнаюць, што яны ёсьць, за вынняткам сялянаў лацінскага паходжаньня і з русінаў, найбольш выдатныя такога-ж паходжаньня. З гэтага выказываньня Ротундуса вынікае тое, што шляхта адчувала сваё пачаткова чужое паходжаньне яшчэ ў XVI веку[28]. Адносна-ж лацінскага паходжаньня, дык зразумела, што ім лепш было паходзіць са слаўнага Рыму, чым ад піратаў-гандляроў.

---

[26] Маецца на ўвазе **Аўгустын Ратундус-Мялескі** (каля 1520 — 1582), вялікалітоўскі палітычны й грамадзкі дзеяч, юрыст, публіцыст, гісторык, дзеяч Контррэфармацыі.

[27] Аўтарству Аўгустына Ратундуса прыпісваюць лацінамоўную “Літоўскую хроніку, або гісторыю” (*Cronica sive Historia Lituaniae*) і “Кароткую гісторыю літоўскіх князёў” (*Epitome Principum Lituaniae*), знойдзеных у адным з экзэмпляраў трэцяй рэдакцыі Статуту ВКЛ 1588 г., дзе выкладаецца рымская тэорыя паходжаньня літоўцаў, усхваляецца лацінская мова й заклікаецца да вяртаньня яе ўжываньня ў дзяржаве, перш за ўсё ў галіне права, як сапраўднай мовы літоўскага народу.

[28] Леанід Галяк дапускае тут досыць сьмелае цьверджаньне. Практычна ж размову варта весьці не пра нейкае сапраўднае “адчуваньне” шляхтай свайго замежнага паходжаньня, а пра імкненьне арыстакратычнай карпарацыі з дапамогай паданьня пра іншаземныя карані адасобіцца ад масы “народу простага”. — *Заўв. С. Емяльянава.*

Даўшы агульны нарыс праблемы паходжаньня літоўскіх князёў, перайду цяпер да канкрэтных момантаў на пацьверджаньня тэзы аб скандынаўскім паходжаньні літоўскіх князёў. Бязумоўна, ніводзін з паданых момантаў ня можа быць бязспрэчным довадам, але ў сваёй суме яны даюць пацьверджаньне тэзы. У гэтым месцы будзе на мейсцы адзначыць, што ў гуманістычных навуках ніколі няма згоды ўсіх на нейкую праблему і часта здараецца, што бывае толькі паглядаў, колькі людзей, і тут я коратка прадстаўлю свае пагляды.

***

У выданых Акадэміяй Навукаў СССР Кроніках Літоўскай і Жамойцкай і Быхаўца зьмешчаны апісаньні Жамойці, так, як яе бачылі суседзі Беларусы.

Часта спатыкаюцца ў навуковай літаратуры цьверджаньні, што кронікі гэтыя пісаныя з мэтай узьвялічэньня літоўскіх князёў. Так, напрыклад, піша ў “Полымі” Мікола Ермаловіч[29] у рэцэнзыі пад загалоўкам: “Перачытваючы летапісы”. Такую самую думку выказывае польскі прафэсар Гэнрык Ловмяньскі. Думаю, што каб вышэйназваныя кронікі мелі такую мэту, дык там не знайшлі-б месца такія выказываньні, як ніжэйцытаваныя выпіскі з “Літоўскай і Жамойцкай кронікі”. Падаю тут, што знаходзіцца ў кроніцы:

*“…аднак той-жа народ літоўскі праз доўгі час ад пачатку свайго панаваньня быў нязначны. Русь мела над ім зьверхнасьць і дань ад іх брала…*

*бралі ад іх у дань венікі і лыка на вяроўкі, а гэта дзеля недастатку і няплоднасьці зямлі, каторая яшчэ ня была выпраўлена”.*

Выглядае, што Скандынавы з кіеўскага цэнтру, што ўжывалі дняпроўскі шлях, бралі з Жамойці дань аж да тае пары, пакуль з другога боку не аказаліся таксама Скандынавы, што праніклі на гэтую тэрыторыю нёманскім шляхам.

Адносна агульнай роўні матэрыяльнай культуры, знаходзім у іншым месцы таго-ж летапісу наступнае апісаньне:

*“А строі іх — усе зьвярынныя скуры, а маемасьць іх — на сабе што мог насіць; а дамы іх кучка плеценая, дорам простым пакрытая, а боты іх з лык. А зьвярыны лоб аблуплены замест шапкі на галаву клалі, а калі дзе ў рускіх землях дасталі з плуга лемешоў, дык на доўгія кіі валочні нарабіўшы асадзілі і да стрэл таксама жалезец або шыл набівалі”.*

Адносна ўзбраеньня Жамойцаў, дык у гэтай-жа кроніцы знаходзіцца вельмі маляўнічае апісаньне:

[29] **Мікола Ермаловіч** (1921—2000), гісторык, публіцыст, крытык і літаратуразнаўца.

*“…асобна таксама абоз з калёсаў скрыпучых паставіў на старане, бяз зброі (бо яны яшчэ гэтага ня ведалі), толькі зубровыя, мядзьвежыя, воўчыя скуры невыпраўленыя насілі, а аружжа лук просты з дубіны або лешчыны загнёны… Шабля толькі ў гэтмана была, муштук з лык на каня, а на нём самым на вайне замест лямпарта рагожа на плячох…”.*

Гэтулькі гаворыць кроніка, правільна апісываючы роўню матэрыяльнай культуры Жамойці, але ў гэтым апісаньні перасунутая храналёгія гадоў хіба на сто. Пры гэткай роўні матэрыяльнай культуры і вайсковай тэхнікі Жамойцы, нават пад выдатным вайсковым кіраўніцтвам літоўскіх князёў-Скандынаваў, ня былі-б у стане здабыцца на нешта большае, як звычайны каротка трывалы неспадзяваны рабаўнічы напад и будаваньне імпэрыі, як перавышала іхнія магчымасьці.

***

Адным з довадаў небалтыцкага паходжаньня гэтак званых літоўскіх князёў ёсьць іхныя іменьні; ня толькі іменьні самых князёў, але і іменьні іхняга акружэньня — баяраў-шляхты — іменьніцтва цэлай гэтай групы, якая сталася, прынамсі напачатку, пануючай — кіруючай групай у Вялікім Княстве Літоўскім. Я ўзяў слова “літоўскіх” у чужаслоў, бо гэтыя літоўскія князі ня былі Балтамі паводле свайго паходжаньня і ня мелі этнічнай лучнасьці з Жамойцамі, якія ў пэўным часе пачалі сябе называць Ліцьвінамі.

На падставе раду фактаў і на падставе іхняй інтэрпрэтацыі я прыйшоў да выснаву, што гэтыя літоўскія князі маглі быць і былі гэрманска-скандынаўскага паходжаньня.

Супроць гэтай думкі прыходзілася спатыкацца з засьцярогамі, дзеля тых ці іншых прычынаў. Адным з Беларусаў, што займаўся гэтай праблемай ёсьць В[ацлаў] Пануцэвіч. Пагледзім ягоныя пагляды. У сваёй кнізе “З гісторыі Беларусі”, выданай у 1965 годзе[30], на старонцы 74 В[ацлаў] Пануцэвіч піша наступнае:

*«З лінгвістычнага пункту гледжаньня балтафілы спасылаюцца на…*

*2) іменьні, так тапаграфічныя, як і на асабовыя, даводзячы зусім неабаснавана, што тэрытарыяльныя назовы, а таксама імёны літоўскіх князёў і баяраў быццам не славянскія. Яны, “балтафілы”, зусім не даводзяць балцкасьці гэтых іменьняў, толькі адмаўляюць ім у славянскасьці на тэй падставе, што быццам у славянскай мове яны*

[30] Маецца на ўвазе выданьне: Пануцэвіч, Вацлаў. З гісторыі Беларусі, або Крывіччыны-Літвы. Т. I. Назовы і археалёгія. Chicago: Беларуская Выдавецкая Сябрыня, 1965. 368 с.

*не знаходзяць вытлумачэньняў. А ці знаходзяць яны вытлумачэньне ў жамойцкай мове яны маўчаць»*.

Цяпер маленькае тэрміналягічнае выясьненьне. “Балтафілы” ў тэрміналёгіі В[ацлава] Пануцэвіча гэта тыя, што не згаджаюцца з паглядамі В[ацлава] Пануцэвіча на гэтую праблему.

Падпадаўчы ў тэрміналёгіі В[ацлава] Пануцэвіча пад мянюшку балтафіла, ня буду даводзіць балцкасьці гэтых іменьняў, хаця-б якраз гэтага трэба было-б ад балтафіла спадзявацца; таксама я павінен прызнацца, што ня ў стане вывесьці гэтых іменьняў са славянскіх каранёў, без ужываньня лінгвістычнай жанглеркі.

Думаю, што іменьні літоўскіх князёў і зьбліжанай да іх групы носяць выразныя азнакі паходжаньня з гэрманскіх моваў скандынаўскай групы — швэцкай і данскай.

У выданай В[аццлавам] Пануцэвічам у 1953—1954 г. кнізе “Жамойць і Літва”[31] ён парушае крыху гэтую праблему на старонках 133—134 і піша, што:

*“...дае асновы думаць, што іменьні тыпу Скірмунт, Доўмант, Ясмант — яцьвяскага паходжаньня”*.

Яцьвягі-ж, паводле В[аццлава] Пануцэвіча, гэта народ іранска-сармацкай групы. Калі гэтак было-б у запраўднасьці, дык тады было-б лёгічна цьвердзіць, што ўсе іменьні падобнага тыпу, а значыць і іменьні многіх літоўскіх князёў, як, напрыклад, Нарымунт, Ромунт ці Эймант, таксама іранска-сармацкага паходжаньня. Гэтакага, аднак, Пануцэвіч выснаву чамусьці ня робіць.

Спробы выясьненьня значаньня іменьняў літоўскіх князёў рабіліся ўжо неаднаразова, але я не сказаў-бы, каб вельмі пасьпяхова. Сярод гэтых спробаў ёсьць цікавая праца В. Н. Юргевіча[32], выданая ў 1881 годзе пад загалоўкам: “*Опыт объяснения имен князей литовских*”. У кнізе гэтай В. Н. Юргевіч, як выглядае з прозьвішча жамойскага паходжаньня, паставіў сабе мэтаю давесьці, што ўсе гэтыя іменьні славянскага, а лепш гаворачы, хрысьціянскага ў славянскім выданьні паходжаньня.

Для ілюстрацыі цьверджаньняў В. Юргевіча даю некалькі прыкладаў: паводле Юргевіча, Ягайла гэта тое самае, што Яков (Якуб), Скіргайла — гэта Сяргей, Сьвыдрыгайла — гэта тое самае што Сідар, Альгерд — гэта сапсаванае імя Аляксандар, Кейстут — гэта Канстантын.

Задаволены са сваіх вывадаў Юргевіч скарыстаў з нагоды, каб пасьмяяцца з тых, хто хацеў-бы знайсьці выясьненьне іменьняў літоўскіх князёў з жамойцкай мовы, і падае, што ў польскай газэце

[31] Маецца на ўвазе выданьне: Panucevič, Vacłaŭ. Žamojdź i Litva: Roznyja krainy i narody = Samogitia and Lithuania: The different lands and folks. Tom I. Chicago, 1953—1954. 382 s.

[32] **Уладыслаў Юргевіч** (рус. *Владислав Норбертович Юргевич*, 1818—1898), расейскі археоляг і філёляг, элініст і лацініст, пэдагог.

“Тыгоднік Пэтэрсбурскі”[33] з дня 17 чэрвеня 1850 году два Жамойцы, зь якіх адзін называўся Данілло, а другі Доўгдаріс, далі свае спробы выясьненьня значаньня іменьняў літоўскіх князёў, і падае прыклады гэтых выясьненьняў, у якіх абодва Жамойцы даюць свае выясьненьні, якія вельмі рожняцца паміж сабою.

Імя Ягайла, паводле думкі Данілло, азначае *“Калі жаль”*, паводле-ж Доўгдарыса, азначае *“Добры яздак”*.

Кейстут, паводзе Данілло, — *“той, што зьмяняецца”*, паводле-ж Доўгдарыса, — *“той што разагравае”*.

Гэдымін, паводзе Даніллы, значыць *“Той, хто топча сорам”*, паводле-ж Доўгдарыса, азначае *“Дасканалы сьпявак”*.

Сьвідрыгайла, паводле Даніллы, — *“Жаль сэрца”*, паводле-ж Доўгдарыса, *“Той, хто дагнаўшы можа зьніштожыць”*.

Хіба гэтых прыкладаў досыць для паказаньня цяжкасьцяў, зьвязаных са спробамі выясьненьня іменьняў літоўскіх князёў на падставе Жамойцкай мовы.

Калі возьмем славянскія іменьні падобнага тыпу, дык не спаткаемся з ніякімі труднасьцямі. Кожнаму, хто ведае хоць адну славянскую мову, не прадставіць цякжасьці разшыфраваць значаньні імёнаў Балеслаў, Расьціслаў ці Вячэслаў ці ім падобных.

Перад тым, як перайсьці да разгляду самых іменьняў, трэба зрабіць некалькі ўступных увагаў. Напісаньні іменьняў у нашых і іншых летапісах і дакумэнтах адзначаюцца вялікай разmaітасьцяй, ня толькі ў рожных летапісах ці дакумэнтах, але часта здараецца, што напісаньні таго самага імені ў той самай кроніцы ці дакумэнце рожніцца. Тое самае зьявішча наглядаем і ў матэрыялах нашых суседзяў.

Паасобныя літэры ў тым самым імені, а часта і ў тым самым дакумэнце бываюць рожныя. Літэры — “а”, “о”, “у”; “г” і “д”; “т” і “д”; “е” і “і” — часта зьмяняюцца без ніякай сыстэмы. Напрыклад, маем “Гедімін” і “Гедіман”; “Міндок” і “Міндог” і “Мендог”; “Скірмунт” і “Скірмонт”; “Кейстут” і “Кестутей”; прыкладаў можна даць больш.

Гэтыя рожніцы зразумелыя, бо запісы рабіліся пераважна паводле слуху, хто як чуў, і надададак часта асобамі, што ня ведалі мовы, з якой данае слова паходзіла. Некаторыя нязгоднасьці вынікаюць таксама з таго, што ў той час адсутнічалі нормы для перадачы гукаў у пісьмовай форме, а трэба ведаць, што вуха ў гэтым сэнсе прылада вельмі недасканалая ў адрожніваньні зьбліжаных гукаў.

Вельмі добрай ілюстрацыяй гэтага можа быць зроблены больш менш у тым самым часе запіс лацінскага тэксту малітвы на слух двума рожнымі асобамі рунічным альфабэтам, а лепш сказаць футгаркам.

[33] ***“Tygodnik Petersburski”*** — палітычна-літаратурны пэрыёдык, які выходзіў у Санкт-Пецярбургу ў 1830—1858 гг. пад рэдакцыяй Восіпа Пшэцлаўскага і Францыска Малеўскага.

*Ave Maria gratia plena dominus tecum* — лацінскі тэкст.

*Ake Maria kratia plena Tominus ticum* — адзін запіс.

*Aue ma ria gracia plena Domin ticum* — другі запіс.

Такая самая праблема існавала і пры запісах іменьняў нашых князёў. Гэтая праблема існуе і цяпер — досыць паслухаць ангельскамоўнае радыё ці тэлевізыю ці паглядзець тэлефонную кнігу, у якой паданыя славянскія прозьвішчы. Калі запісаць на слух ці прачытаць паводле запісу, дык гаспадар прозьвішча сам сябе не пазнае.

Старагэрманскія, а ў нашым выпадку скандынаўскія іменьні часта складаліся з двох частак — словаў, што азначалі пераважна тагачасна ўважаныя ў тым асяродзьдзі рожныя пазытыўныя вартасьці, як удача, адвага, сіла, улада, багацьце, кіраўніцтва, або важныя рэчы, як лук, меч, кінжал і г. д. Гэтыя словы камбінаваліся ў бязконцую колькасьць палучэньняў, творачы іменьні, што складаліся з двох кампанэнтаў — словаў. Гэтыя двучастковыя іменьні былі азнакаю вышэйшага становішча, бо звычайныя вікінгі мелі часта кароткія іменьні, як Токі, Буй, Алі, Вульф і г. д. Іменьні двухскладовага тыпу дазваляюць на шырокую інтэрпрэтацыю іхняга значаньня.

Як было ўжо ўспомнена пра скандынаўскія іменьні, тое самае адносіцца і да “літоўскіх” іменьняў літоўскіх князёў і баяраў. Іменьні складаюцца з двох частка ў-словаў, прычым некаторыя словы выступаюць часьцей на канцы слова, чым на пачатку, хаця не заўсёды. Маем напрыкад імя Геді-мін, але маем і Мін-дог; маем Дов-монт, але маем і Монт-віл. Пяройдзем цяпер да найбольш пашыраных канцавых частка ў іменьняў. Найбольш пашыранай канцавой часткай гэтых іменьняў ёсьць *Монт*, як у Скірмонт і *Мунт*, як у імені Нарі-мунт. Слова гэтае *монт* ці *мунт* у першым значаньні азначае руку, а ў больш пераносным значаньні сілу, апеку.

Паходжаньне іменьняў з элемэнтам *монт* ці *мунд* зробіцца хіба ясным, калі мы зьвернем ўвагу на тое, што ў сагах вікінгаў, а таксама на памятнікавых каменьнях з рунічнымі напісамі ў Швэцыі і Даніі гэта вельмі пашыраны элемэнт скандынаўскіх іменьняў. Там мы знаходзім іменьні: Ар-мунд, Гудмунд, Гер-мунд, Ас-мунд, Э-мунд і іншыя.

Наступна, хіба другой паводле пашырэньня ёсьць канцавая частка іменьня *“Бут”* — *“Bud”* — слова гэтае азначае загад, каманду, кіраўніцтва, як у іменьнях Корі-бут.

Наступны элемэнт іменьняў — *Віл*, як у іменьнях Раді-віл, Монт-віл, азначае волю, асобу са сваёй воляй, непадуладную іншым.

Элемэнт *Гайло, Гело*, праўдападобна паходзіць ад *geled*, чын, становішча, або ад *“gal”* — злосны, шалёны.

Элемэнт *Герд*, як у Аль-герд, Дол-герд, паходзіць найбольш праўдападобна ад слова ger — кап’ё. У скандынаўскай міталёгіі ўспамінаецца імя *Gerdha*.

Элемэнт *Волд, Валд*, як у Рагволд, азначае сілу, уладу, кіраваньне.

Элемэнт *Віт* мае многа значаньняў, бо *Від* — белы, шырокі, вялікі, *Відэ* — ведаць, разумець. Ад гэтага караня паходзіць англа-саксонскае — *Вітан* — мудры, дасьветчаны, райца, сябра вітангэмат — сходу каралеўскіх райцаў. Сярод беларускіх прозьвішчаў маем таксама Вітана ў асобе Вітана-Дубейкоўскага[34].

Скончыўшы кароткія агульныя ўвагі і разгляд некаторых слоўных элемэнтаў, што паўтараюцца ў канцоўках двуслоўных іменьняў літоўскіх князёў, перайду цяпер да спробы вытлумачэньня першага слоўнага элемэнту гэтых іменьняў, даючы такім чынам прыблізнае значаньне гэтых іменьняў.

Буй-від: *bue* — лук[35], *vid* — вялікі[36] (трэба ўспомніць, што імя Буй успамінаецца ў расказах пра дружыну Ёмсборгскіх вікінгаў)[37].

Дол-герд: *dolk* — кінжал[38], *ger* — кап'ё[39].

Эй-монт: *eye* — мець[40], *mont* — апека, сіла[41].

---

[34] **Лявон Вітан-Дубейкаўскі** (1869—1940), дзеяч беларускага нацыянальнага руху, архітэктар. Ад 1919 г. быў старшынём Беларускага камітэту ў Варшаве. Ад 1922 г. жыў у Вільні, адышоў ад палітычнай працы, займаўся архітэктурна-будаўнічай дзейнасьцю.

[35] Слова "*bue*" з значэньнем "лук" прысутнічае ў сучаснай дацкай і нарвэскай. У стараскандынаўскай было "*bogi, -a*". Паколькі аўтар не спасылаецца на канкрэтныя слоўнікі, а ў прапанаваных ім этымалёгіях пастаянна прасочваецца ігнараваньне ўласна стараскандынаўскай (стараісьляндзкай) мовы, далей у выпадках, калі не патрабуецца асобных тлумачэньняў, будзе проста падавацца стараскандынаўская форма. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[36] Відаць, аўтар імкнецца патлумачыць частку "від" праз форму жаночага (!!!) роду стараскандынаўскага прыметніка "*víður*" — "шырокі", "вялікі" (пра краявід ці вопратку). — *Заўв. С. Емяльянава.*

[37] Аўтар дапускае відавочнае скажэньне: імя вікінга, пра якога вядзецца размова, было *Búi* (Бу'і), пры скланеньні — *Bua*. Дарэчы, адназначную этымалёгію гэтага імя прапанаваць немагчыма. Напрыклад, слоўнік імёнаў парталу "Паўночная Слава" (http://norse.ulver.com/dct/names.html#b) падае варыянт "бонд, селянін". — *Заўв. С. Емяльянава.*

[38] У стараскандынаўскай — "*dolkur, -s*". Слушнае ўказаньне кораню ("*dolk-*") у Леаніда Галяка. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[39] У стараскандынаўскай — "*geirr, -s, -ar*". Як "*geirr*" пераўтвараецца ў "*-гердъ*", аўтар не тлумачыць. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[40] У стараскандынаўскай — "*eiga*". — *Заўв. С. Емяльянава.*

[41] У стараскандынаўскай мове слова з прыведзенымі аўтарам значэньнямі будзе мець форму "*mundr*" (*gen.* — "*mundar*", *dat.* — "*mundi*"). Набольш блізкая да аўтарскага напісаньня форма — стараверхненямецкае "*munt*". Варта адзначыць, што форма "*-mundr*" — частка вялікай колькасьці скандынаўскіх мужчынскіх імёнаў, напрыклад: Асмунд (*Asmundr*), Эймунд (*Eymundr*) і інш. Першаснае значэньне гэтага слова ў дадзеным кантэксьце — "рука", пераноснае — "бясьпека, апека". — *Заўв. С. Емяльянава.*

Евнут: *evne* — здольнасьць, сіла[42].
Гаш-алт: *gast* — марак[43], *old* — стары[44].
Геді-мін: *gedigen* — праўдзівы[45], *min* — мой[46].
Гер-монт: *ger* — кап’ё, вайна, *mont* — сіла.
Я-монт: *ja* — але[47], mont — сіла.
Кейстут, Кестутей: *kejste* — левая рука, леваручны[48].
Корі-бут, Кор-бут: kori — кучаравы[49], bud — камандзір, правадыр[50].
Корі-гайла: *kori* — кучаравы, *gajla* — той, што мае становішча[51].
Монт-віл: *mont* — сіла, *vil* — воля[52].
Нарі-мунт: *narig*[53] — суровы, няроўны, *munt* — сіла.
Ол-герд: *ol* — усё[54], *heard* — чуючы[55]. У скандынаўская міталёгіі

[42] Назоўнік *“evne”* — з сучасных нарвэскай і дацкай моваў. Ён узыходзіць да стараскандынаўскага слова *“efni”* —– “матэрыя, матэрыял, рэчыва”, іншае значэньне — “прычына”. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[43] Незразумела, адкуль аўтар узяў і гэтую форму, і гэтае значэньне. У германскіх мовах ёсьць падобная форма з значэньнем “госьць, падарожнік”, што ўзыходзіць да старагерманскага *“gastiz”*. У стараскандынаўскай яго мела форму *“gestr”*, адкуль паходзіць дацкае *“gæst”*. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[44] У стараскандынаўскай — *“elli”*. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[45] Магчыма, аўтар узяў дадзеную форму й значэньне ў сучаснай швэдзкай. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[46] Слушна — *“minn“, “min”* — форма жаночага роду. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[47] Зусім незразумелае вылучэньне ў асобнае слова (корань?) літары “я” з “расшыфроўкай” як *“ja”*. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[48] Такое слова ўвогуле адсутнічае ў стараскандынаўскай. “Левая рука” — *“vinstri hǫnd”*. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[49] Такое слова ўвогуле адсутнічае ў стараскандынаўскай. “Кучаравы” — *“hrokkin-hárr”*. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[50] Форма *“bud”* з значэньнямі “каманда, загад” (не “камандзір”!), таксама “запавет”, “паведамленьне”, “ганец” існуе ў сучасных швэдзкай і нарвэскай (букмоле). Яна ўзыходзіць да стараскандынаўскай формы *“boð”* — “загад, паведамленьне, камандаванне”. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[51] Такое слова адсутнічае ў стараскандынаўскай, а наяўны тэкст не дае магчымасьці зразумець, што меў на ўвазе аўтар. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[52] У стараскандынаўскай — *“vili”*. *“Vil”* азначае “свавольства”. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[53] Слова адсутнічае ў стараскандынаўскай. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[54] У стараскандынаўскай — *“allr”*. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[55] Дзеяслоў “чуць” у стараскандынаўскай будзе *“heyra”*, выраз “той, хто чуе” можа быць перададзены праз дзеепрыметнік I тыпу *“heyrandi”*. Раней частку *“-гердъ”* аўтар расшыфоўваў як *“ger”*, то бок — *“geir”*, “кап’ё” — гл. расшыфроўку імя “Долгерд”. — *Заўв. С. Емяльянава.*

ўпамінаецца імя *Gerdha*[56].

Пісі-монт: *piske* — сячы, біць[57], *mont* — сіла.

Сіг-мунт (у беларускім ужываньні Жыгімонт) пахозіць ад *Sigmundr*, гэта тытул скандынаўскага бога Одына[58] і тлумачыцца як Самаўладца. *Sig* — значыць сам[59], *munt* — сіла.

Радзі-віл: *rad* — сябра, цела, вяславаць, рада[60], *vil* — воля.

Раг-вілд: *rag* — цягнуць у значаньне вяславаць, *vald* — сіла, кіраваньне. Корань Раг выступае ў іменьні швэцкага князя XI стагодзьдзя, а таксама ў рунічных напісах з X ст. — Рагнгілд і Рагнфрід[61].

Віді-монт: *vid* — шырокі, разумны, *mont* — сіла, апека.

Скір-гайла: *skir* — ясны, чысты[62], *gajla* — той, што мае становішча.

Скір-монт: *skir* — ясны, чысты, *mont* — сіла.

Віскут: *viske* —разрываць, нішчыць[63].

Тот-віл: *tot* — тугі[64], *vil* — воля.

Як відаць з паданых прыкладаў, многа іменьняў літоўскіх князёў знаходзяць вытлумачэньне гэтых іменьняў у скандынаўскіх каранёх, і вельмі непраўдападобна, што гэта сталася прыпадкова. Больш пад-

---

[56] Мабыць, маецца на ўвазе жанчына-волат Герда (*Gerðr*). — *Заўв. С. Емяльянава.*

[57] Слова *"piske"* значыць "біць, паганяць (жывёлу), узьбіваць (крэм)" у сучаснай нарвэскай. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[58] **Сыгмунд** (*Sigmundr*) — гэта герой германа-скандынаўскага эпасу (цыклю пра Вёльсунгаў), бацька Сыгурда, героя цыклю пра Ніфлунгаў. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[59] У германскіх імёнах *"Sig-"* азначае "перамога" або "бітва". Імя Сыгмунд можна перакласьці як "Пераможная Рука", або "Абарона праз перамогу". — *Заўв. С. Емяльянава.*

[60] Слова *"ráð"* мае некалькі значэньняў, сярод іх — "рада", "дарадца", "шлюб", "сродак" (для дасягненьня мэты). — *Заўв. С. Емяльянава.*

[61] Тут аўтар дапускае істотную памылку ў вызначэньні каранёў. У прыведзеных прыкладах імёнаў першы корань — *"Ragn"*, што значыць "боскі", "які адносіцца да багоў". Напрыклад, імёны, якія ён прыводзіць, перакладаюцца наступным чынам: "Рагнхільд" (*Ragnhildr*) азначае "Бітва Багоў", а *"Рагнфрыд" (Ragnfriðr)* — "Боская Прыгажосьць", "Любіміца Багоў", "Боскі Мір". — *Заўв. С. Емяльянава.*

[62] У стараскандынаўскай — *"skirr"*. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[63] У сучасных нарвэскай і дацкай слова *"viske"* (як дзеяслоў) мае значэньне "церці, праціраць, чысьціць". Яно ўзыходзіць да назоўніка стараскандынаўскага паходжаньня *"visk"* — "пучок (сена / саломы / etc.)". — *Заўв. С. Емяльянава.*

[64] Не зразумела, якое слова аўтар мае на ўвазе — аналягічнае аўтарскаму напісаньню слова ў стараскандынаўскай адсутнічае, а падобныя да яго маюць іншыя значэньні. — *Заўв. С. Емяльянава.*

ставы думаць, што прычына гэтай зьбежнасьці ёсьць у скандынаўскім паходжаньні літоўскіх князёў. Мяне больш дзівіць, што праход гэтых князёў праз жамойскія землі не зрабіў ніякага ўплыву на іменьніцтва літоўскіх князёў.

***

Было ўжо ўспомнена, што ў паганскіх Скандынаваў існавала вера, што чалавек у нейкай форме жыве і пасьля сьмерці, і гэтая навіна накладала маральны і звычаёвы абавязак на блізкіх памерлага, забязьпечыць памерламу ўжываньне рэчаў і ўслугаў такіх самых, як і за жыцьця.

Такім чынам вытварыўся звычай, што ў гроб ваяўніка, апраненага ў найлепшае ягонае адзеньне, клалі ягонае аружжа, забівалі на мейсцы паховінаў ягоных сабакаў, сакалоў, коняў, часта жонку, слугаў і тады ўсё разам спалівалі. Пазасталыя косьці пасьля гэтага складалі ў спэцыяльнае глінянае ці мэталёвае начыньне і насыпалі над гэтым магілу-курган. Як-жа выглядалі хаўтурныя звычаі ў літоўскіх князёў? У беларускіх кроніках знаходзяцца апісаньні хаўтураў князёў Свіндорога, Гэрмонта, Гедыміна і іншых. Ніжэй падаю апісаньне хаўтураў Вялікага Князя Гэдыміна як найбольш падрабязнае. Апісаньні хаўтурах іншых князёў у аснаўным такія самыя, толькі карацейшыя.

Вось апісаньне паховінаў Вялікага Князя Гэдыміна, як гэта падае Кроніка Літоўская і Жамойская пад 1328 годам.

“А потым, калі ўсе сем сыноў зьехаліся на хаўтуры свайго бацькі, дык апранулі яго ў княжую вопратку, якую за жыцьця найлепш любіў, а пры ім шаблю, рагаціну, сагайдак, пару сокалаў, пару хортаў, каня жывотнага з сядлом, сдугу яго найвярнейшага любімага, з нім, зьвязаўшы на стос дрэва палажылі, а таксама зброю яго і частку нейкую ваеннай здабычы і трох вязьняў Немцаў збройных жывых, навокал дровы падпаліўшы, зь нім спалілі...”

Абрад хаўтураў са спаліваньнем цела ня ёсьць выключнай асаблівасьцяй Скандынаваў, бо звычай гэты быў пашыраны амаль ва ўсіх індаэўрапейскіх народаў і вельмі часта быў зьменены на целапахавальны абрад (бяз спаленьня цела) толькі ў сувязі з прыняцьцем хрысьціянства, хаця здараліся выпадкі, што звычай спаліваньня нябошчыкаў быў пакінуты многа стагодзьдзяў перад прыняцьцем хрысьціянства.

Можа паўстаць пытаньне, чаму калі целапальны абрад быў шырака пашыраны сярод індаэўрапейскіх народаў, целапальны абрад хаўтураў літоўскіх князёў ёсьць скандынаўскі, а ня балцкі.

Гэтага пагляду, што целапальны абрад пахаваньня ня быў уласьцівы балцкім пляменьням, трымаецца В[ацлаў] Пануцэвіч, але найлепш і найвыразьней узняла гэтую праблему прафесар Каліфарнійскага

ўнівэрсытэту Марыя Гімбутас[65], якая ў кнізе пад загалоўкам "Балты" (The Balts), выданай у 1963 годзе, на старонцы 112 піша наступнае: (падаю згодна з ангельскім арыгіналам, каб ня было ніякіх сумніваў у значаньні напісанага):

*"The Baltic tribes, except for the Prussians, abandoned cremation at about the time of the birth of Christ and began to inhume their dead. Separate tribes developed their own distinctive burial rites..."*[66].

Палучыўшы цьверджаньне жамойцкай навукоўкі з фактам, што паховіны літоўскіх князёў адбываліся целапальным абрадам, праз 1400 гадоў пасьля таго, як балцкія пляменьні пакінулі целапальны абрад, робіцца ясна, што літоўскія князі не належалі да балцкай этнічнай супольнасьці, а захавалі свой, на тыя часы ўжо архаічны, целапальны абрад, бо Скандынавы на сваёй бацькаўшчыне былі змушаныя пакінуць гэты абрад у сувязі з прыняцьцем хрысьціянства, пачынаючы ад IX стагодзьдзя. Калі-б нават ня было ніякіх іншых довадаў скандынаўскасьці літоўскіх князёў, дык адзін гэты факт целапальных хаўтураў павінен быў-бы выклікаць прынамсі сумліў у балцкасьці літоўскіх князёў[67].

***

У рожных беларускіх летапісах успамінаецца, што ў 1329 годзе Вялікі Князь Гэдымін, сьпючы пасьля паляваньня на месцы, дзе звычайна спалівалі пасьля сьмерці літоўскіх князёў, там, дзе рэчка Вілейка ўпадае ў Вільлю, меў сон, што на тэй гары, дзе ён у гэты дзень забіў тура, стаяў зялезны воўк і выў так голасна, як-бы ў ім было сто ваўкоў. Князь Гэдымін зьвярнуўся, як кажа кроніка, да "паганскага біскупа" Ліздэйкі, каб той вытлумачыў яму значаньне сну. Ліздэйка вытлумачыў значаньне сну наступна:

*"Княжа вялікі Гэдымін і пане мой і Воўк той, якога ты бачыў якбы выкаванага з зялеза знача, што на гэтым месцы целапаленьня князёў (жэглішча) будзе галоўны замак і галоўнае месца тае дзяржавы, а сто ваўкоў у тым ваўку выючых, каторых голас на ўсе сто-*

---

[65] **Марыя Гімбутас** (анг. *Marija Gimbutas*, 1921—1994), амерыканскі археоляг і культуроляг літоўскага паходжаньня, вядомая сваімі дасьледаваньнямі культураў нэаліту й бронзавага веку ў Эўропе.

[66] *"Балцкія плямёны, за выключэньнем прусаў, адмовіліся ад крэмацыі прыкладна ў час нараджэньня Хрыста і пачалі хаваць сваіх мерцьвякоў у зямлю. Асобныя плямёны распрацавалі ўласныя адметныя пахавальныя абрады".*

[67] Насамрэч літоўцы й іншыя балты захоўвалі абрад крэмацыі. У тым ліку пра трупаспаленьне ў літоўцаў гл., напрыклад: Роўэл, Стэфан К. Уздым Літвы: паганская імперыя ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, 1295—1345. Мінск: Медысонт, 2015. С. 158—169. — *Заўв. С. Емяльянава.*

*раны даходзіць, значыць, што той замак і месца дабратою і адвагаю сваіх грамадзянаў і вялікімі справамі Тваіх патомкаў вялікіх князёў літоўскіх, каторыя будуць тут мець сваю сталіцу, разгалосіцца і пашырыцца сваёй вялікай славай па ўсіх старонах сьвету”.*

Князю Гэдыміну спадабалася выясьненьне сну і ён зараз-жа даў загад пачаць будову замку і месца віленскага і перанёс сюды *“на патомныя часы”* сталіцу, назваўшы яе Вільняю ад назову ракі Вільлі[68].

Сны бываюць рожныя і могуць прысьніцца рожныя зьвяры, ведаючы, аднак, пра ролю ваўка ў скандынаўскай міталёгіі як сталога спадарожніка і пасланца галоўнага бога Одына, робіцца зразумелым, што Гедымін успрыняў свой сон як боскі наказ залажэньня замку і месца. Залажэньне Гедымінам замку і месца віленскага існавала ўжо ў супярэчнасьці з тым фактам, што на месцы Вільні існавала ўжо беларускае паселішча, бо гэтае залажэньне выразілася ў ператварэньні існуючага паселішча ў абаронны і адміністрацыйны цэнтр.

Хіба-што не прыпадкова ваўкі ізноў выступаюць у легендзе пра залажэньне гораду Вілкаміру. Цытую з Кронікі Літоўскай і Жамойскай:

*“Калі-ж Даспрунгус прыйшоў на тое мейсца, дзе яго збудаваў, дык знайшоў вялікую колькасьць ваўкоў. Каторыя ваўкі, згодна жывучы з быдлам, коньмі, авечкамі даспрунгусавымі, ніякай шкоды не рабілі ў ягоным дабытку, так што логавы свае маючы пладзіліся між імі і хадзілі між авечкамі, як авечкі, а дзеля гэтага маючы мір Даспрунгус назваў месца Ваўкамір”*[69].

Трэба зазначыць, што па-жамойцку гэтае месца называецца Укмярге, назоў нічога супольнага з ваўкамі ня маючы.

Адносна значаньня ваўка ў скандынаўскай міталёгіі, дык трэба сказаць, што воўка мае падобнае становішча і ў славянаў. Успомненая ўжо Марыя Гімбутас у выданай у 1971 годзе кнізе пад загалоўкам “The Slavs”[70] (Славяне), на старонцы 163, падае:

*“…ёсьць вельмі старое славянскае вераваньне, што белы воўк ёсьць боскага паходжаньня. На Беларусі ён называецца каралём усіх зьвяроў”.*

У балцкай этнаграфіі спэцыяльнага значаньня да ваўка не прывязываецца. Скандынаўская пашана да ваўка адбілася ў радзе скандынаўскіх іменьняў, як Гадувулф, Гарівулф, Гэрывулф і іншых. Слова Вулф у скандынаўскіх мовах азначае ваўка.

---

[68] Аўтар досыць падрабязна пераказвае летапісную легенду. Гл., напрыклад: Хроніка Літоўская і Жамойцкая // Летапісы і хронікі Беларусі. Сярэднявечча і раннемадэрны час / укладальнік В. Варонін; прадмова: В. Варонін, М. Улашчык. Мінск, 2010. С. 441—443. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[69] Гл., напрыклад: Хроніка Літоўская і Жамойцкая… С. 409. — *Заўв. С. Емяльянава.*

[70] Gimbutas, Marija. The Slavs. London: Thames and Hudson, 1971. 240 p.

***

Аднэй з асаблівасьцяў скандынаўскай экспансыі гэта было павязаньне з воднымі шляхамі. З увагі на адрэзаньне скандынаўскага паўвострава ад іншых краінаў з трох бакоў морам на кантынэнце выхад быў толькі на поўнач, на малазаселеныя паляўнічым народам фінскай групы — лапаў (лапароў) тэрыторыі, дык зразумела, што скандынаўская экспансыя кіравалася ў кірунку гусьцей заселеных аседлым земляробскім жыхарствам тэрыторыяў. Будучы акружаныя амаль з усіх бакоў вадою, скандынавы здаўна былі дасканалымі будаўнікамі большых і меншых лодак. Дзеля свайго геаграфічнага палажэньня скандынаўская экспансыя павінна была пачынацца з мора, а тады або агранічывацца марскім узьбярэжжам з другога боку мора, або паглыбляць экспансыю ўглыбіню сухазем'я ўздоўж рэкаў і вазёраў. Практыка гэтай экспансыі была такая, што скандынавы стараліся апанаваць тэрыторыю пры помачы сеці апорных пунктаў — замкаў, будаваных у важных стратэгічных пунктах.

Беларускія і іншыя славянскія летапісы нашых суседзяў, што апісывалі падзеі на нашых землях, вельмі добра апісываюць гэты працэс пасоўваньня Скандынаваў ад Балтыцкага мора ўглыб кантыненту, спачатку праз жамойцкія, а тады беларускія землі.

Паводле гэтых летапісаў, легендарны правадыр гэтай групы — Палемон, ідучы са сваім акружэньнем ад мора ўгару Нёману, дайшоў да ракі Дубісы і асеў там[71]. Пасьля ягонай сьмерці, ягоныя сыны далей праводзілі экспансыю ў вярхоўе рэкаў. Адзін з сыноў, на імя Боркус, залажыў горад, дзе ў Нёман упадае рака Юра і назваў горад Юрборк, другі сын залажыў Коўню, дзе ў Нёман ўпадае Вільля, трэці сын пайшоў у гару ракі Невяжы (прытоку Нёману), далей угару Сэрвэты і Свэры, знайшоў выгаднае мейсца над возерам і залажыў замак Спэру. Іншы князь з гэтай групы — Доспрунг, над ракой Сьвятой (прыток Нёману) пабудаваў Вілкамір. Далей былі заложаны — Кернова над Вільлёю, Вільня над Вільлёю, Горадня над Нёмнам. Пасьля гэтага пачаткавага пашырэньня ўздоўж рэкаў пачалося апанаваньне абшару між рэкамі і паўсталі замкі і гарады Ліда, Наваградак, Старыя Трокі, а пазьней Новыя Трокі, Крэва. Ясна, што нельга гаварыць аб нейкай выключнасьці закладаньня замкаў у першым перыёдзе на рэках, а ў другім у міжрэччах, бо граніцы між гэтымі стадыямі зацёртыя.

***

Для Скандынаваў, удзельнікаў іхніх экспэдыцыяў, характэрнай была адсутнасьць прывязанасьці да пэўнага мейсца — адсутнасьць

[71] Паводле летапіснай легенды, Палямон меў рымскае паходжаньне. — *Заўв. С. Емяльянава.*

адчуваньня прывязанасьці да сваіх каранёў (тэрытарыяльных). Для Скандынаваў на нашых землях — тое самае і на іншых землях, справа ўмейсцавеньня іхняга галоўнага гораду, заўсёды была толькі праблемай утылітарнай, — як выгадней для кіраваньня — эксплёатацыі. Для іх, у выпадку нашых земляў, не рабіла рожніцы — Кернова, Наваградак, Трокі ці Вільня.

Добры прыклад гэтай скандынаўскай мэнтальнасьці можа быць выказаньне кіеўскага князя Сьвятаслава — Скандынава, ня гледзячы на ягонае славянскае імя:

*“Не падабаецца мне сядзець у Кіеве, хачу жыць у Пераяславе над Дунаем — там сярэдзіна зямлі маёй, туды сьцякаюцца ўсе багацьці”.*

***

Аднэй з тыповых рысаў Скандынаваў — удзельнікаў у вікінгу, гэта значыць у рабаўніча-гандлёвых і адкрыўчых экспэдыцыях, была іхняя лёгкая моўная асыміляцыя з мясцовым насельніцтвам, мо лепш будзе сказаць з верхнім слоем гэтага насельніцтва. Вікінгі, асеўшыя ў Нармандыі у 911 годзе, на працягу ста гадоў згубілі сваю мову на карысьць мовы францускай, мовы пануючай групы. Падобнае зьявішча наглядаецца ў экспансыі па Нёмну. Прыйшоўшы на беларускую тэрыторыю, яны вельмі хутка моўна зьбеларусізаваліся. Ці былі яны калі-небудзь пераняўшы жамойцкую мову, цяжка сказаць. У летапісах спатыкаем запісы словаў, гавораных князямі, усе яны па-беларуску, так што няведама, ці гэтыя князі наагул ведалі жамойцкую мову. У гістарычных жаролах я гэтага не знайшоў. Можа, хто іншы знойдзе.

***

Пасьля Другой вайны былі праведзеныя больш сыстэмытычныя, чым папярэднія, археалягічныя раскопкі ў Горадні — царквы на Каложы і горадзенскіх замкаў. Як наступства гэтых раскопкаў, Акадэміяй Навук СССР, у 1954 годзе была выдадзена кніга Н. Н. Вороніна[72] пад загалоўкам “Древнее Гродно”[73], у якой апрача цікавага і вартаснага фактычнага матэрыялу знаходзяцца характэрныя для Расейцаў выказываньні аўтара. Напрыклад, Воронін выказываецца:

*“Нет никаких оснований для нелепой теории Ёдковского (кіраўніка перадваенных раскопкаў), что Гродно было основано в IX — X веку, ранее чем началась экспансия варяго-русского государства со стороны Киева”.*

---

[72] **Мікалай Варонін** (рус. *Николай Николаевич Воронин*, 1904—1976), расейскі савецкі археоляг, адзін з найбуйных спэцыялістаў па гісторыі старажытнай культуры й дойлідства.

[73] Маецца на ўвазе выданьне: Воронин, Николай. Древнее Гродно: По материалам археологических раскопок 1932—1949 гг. Москва, 1954. 236 с.

З гэтых цытаваных словаў Вароніна гучыць выразная думка, што з пункту гледжаньня расейскага, гэта гэрэзыя думаць, што магла быць нейкая скандынаўская экспансыя на нашых землях перад тым, як заіснавала гэтая экспансыя з Кіеву.

Гэтая думка навязаньня ўсіх падзеяў да Русаў з Кіеву выразна наступае ў іншым выказываньні ў гэтай кнізе, напрыклад:

*“...сюда вела Великая улица. Эти имена очень напоминают названия типические для топонимики древне русских городов”.*

Гэтая цытата адносіцца да Горадні. Нават не студыяваўшы праблемы назоваў вуліцаў, адразу кідаецца ў вочы, што цьверджаньне Вороніна зусім неабаснаванае. Галоўная вуліца ў Вільні таксама называецца Вялікая, а Вільня-ж, паводле расейска-савецкай міталёгіі, не належыць да *“древне русских”* гарадоў. Галоўная вуліца ў горадзе Фленсбургу (Шлезьвіг-Гольштайн — Нямеччына), які ужо ніяк нельга залічыць да *“древне русских”* гарадоў, таксама называецца Вялікай (*Große Str*).

Фрагмэнты ўпрыгажэньняў, знойдзеныя падчас раскопкаў у Горадні, вельмі напамінаюць тыповы скандынаўскі арнамэнт, які, як ведама, складаўся з пераплеценых стужкаў. Там-жа знойдзена некалькі пярсьцёнкаў з рунічнымі знакамі. Варонін сьцвярджае аналёгію забудовы старой Горадні з забудовай Старой Ладагі. Трудна прыпусьціць, што тут мог быць беспасярэдны ўплыў на так вялікую адлегласьць, ды і чаму-б мелі горадзенцы пераймаць са Старой Ладагі, больш праўдападобна, што і адны, і другія карысталі з тае самае крыніцы.

Варонін падчырківае таксама аналёгію знойдзеных падчас раскопкаў у Горадні драўляных мячоў ды мячоў, знойдзеных у Старой Ладазе і Ноўгарадзе. Аналёгія будзе зразумелай, калі прымем пад увагу, што Старая Ладага была апорным пунктам на шляху з Варагаў у Грэкі. У гэтай-жа кнізе Варонін піша, што папярэдні раскопывальнік Ёдкоўскі дайшоў да правільнага вываду, што галосьнікі — амфоры, убудаваныя ў сьцены царквы на Каложы, рожныя ад пскоўскіх і ноўгародзкіх. Мяне дзівіць толькі тое, што так высока кваліфікаваны спэцыяліст, як Воронін, не падумаў аб параўнаньні галосьнікаў Каложскай царквы з галосьнікамі швэцкіх і данскіх цэркваў. Тэма цікавая, але, як выглядае, належыць да тэмаў, у Саветах забароненых.

У гэтай самай кнізе (ст. 186) Варонін піша, што архітэктурныя асаблівасьці царквы на Каложы ў Горадні не маюць аналёгіяў у іншых раёнах Русі. Цікава, што навуковец Воронін не зацікавіўся тым, што такія аналёгіі могуць быць таксама ў іншых месцах, зусім не на Русі.

***

Было ўжо ўспомнена, што скандынаўскі альфабэт — футгарк, меў вялікае застасаваньне ў магіі. Выглядае, што тое, што некаторыя на-

зываюць крыжом Ярылы, ёсьць ніштo іншае, як рунічны знак на азначэньне гуку “а” ᚼ, як было ўжо ўспомнена, сымбаль агульнага паняцьця багоў. Існуе вялікая размаітасьць у рунах у рожных краёх і ў рожным часе. У швэцка-данскім укладзе рунаў двукрыж часамі азначаў гук “а”, але ў удным ангельскім кодэксе быў ужыты для азначэньня гуку “г”, хаця ва ўсіх іншых рунічных альфабэтах ужывалася руна ᚺ ці ᚻ.

***

Знак, што ўжыты на гэрбовым шчыце сям’і Сапегаў ‡, быў апісаны ў вершы Андрэя Рымшы[74] і зьмешчаны ў Літоўскім Статуце выданьня 1588 году:

*“Въ тых же геръбехъ посредку есть стрела з крестами*
*Двема, а третий блиско, осажоному лунами, —*
*Тые знаком, ижъ они болш для хрестианства*
*Клали здоровъе свое, не смотречи паньства”.*

Ужо даўно, перад тым часам, калі быў выданы Статут (1588), было забыта значаньне рунаў, нават у тым асяродку, дзе яны калісьці ўжываліся, і дзеля гэтага Андрэй Рымша дае сваю панэгірычна-паэтычную інтэрпрэтацыю цэнтральнага знаку гэрбу Сапегаў. Мае веды ў галіне гэральдыкі вельмі скромныя, і дзеля гэтага зацытую выказываньне ў гэтай справе спэцыяліста:

*International Heraldry, by L. G. Pine, page 175:*

*Thus the Sapieha family had for its blazon an arrow-like object crossed by two straight lines on the shield. This design could not be heraldically described but it is quite likely to be derived from the old runic symbols the origin and meaning of which had been lost by fourteen century.*

*...The arrow-like sigma was the emblem of the Norse war god and this was combined with other runic signs.*

Выказаньне вышэйпаданае вельмі цэннае, але не абыймаючае ўсяе праблемы, бо шляхоцкія гэрбы такога тыпу ня ёсьць нейкім выняткам, што існуе толькі ў гэрбе Сапегаў. Напрыклад, падвойны крыж мае ў гэрбе род Сьвенчыцаў. У гэрбе Касьцешаў фігуруе знак, падобны да гэрбовага знаку Сапегаў — страла з аднэю папярэчнаю і зьнізу стралы знаходзіцца падстава, такая самая, як заканчэньне стралы ⍏. Род Голубаў мае знак у форме лацінскай літары ігрэк з аднэю папярэчнай — Ұ.

Гэрб роду Яцынаў мае на шчыце стралу і побач няпоўны падвойны крыж ⍏ ᛭. У гэрбе роду Прус знаходзіцца няпоўны падвойны крыж ᛭. Знак роду Крычэўскіх мае стралу, зьвернутую ўніз ↓. Найцікавейшы знак маем у гэрбе роду Гэйшаў, да якога належаць сем’і Дрыдаў,

[74] **Андрэй Рымша** (каля 1550 — 1599), паэт-панэгірыст, адзін з асноўных прадстаўнікоў старабеларускай паэзіі другой паловы XVI — пачатку XVII ст.

Эльяшэвічаў і Орвідаў. Тут на палове гэрбавога шчыту маем з правага боку (ад гледача) молат Тора, аб якім было ўспомнена пры аглядзе скандынаўскай міталёгіі.

Гэрбоў падобнага тыпу ёсьць больш, і гэта дазваляе зрабіць выснаў аб скандынаўскім паходжаньні гэтых гэрбовых знакаў.

Сям'я Бурбаў ужывае ў гэрбе Z — руну на азначэньне гуку "з". Бязумоўна, можна спаткацца з закідам, што вышэй апісаныя і іншыя гэрбы пазьнейшага паходжаньня і дзеля гэтага нельга іх навязываць да скандынаўскіх рунічных знакаў. Цікава дзеля гэтага пазнаёміцца з выказываньнем Яна Якубоўскага[75], зьмешчаным у № 7 Працаў Варшаўскага Навуковага Таварыства з 1912 году. Падаю ў перакладзе з польскае мовы гэтае выказываньне:

*"Пазьнейшая літоўская кроніка расказывае, што літоўскія паны, абураныя на падступныя махінацыі Палякаў, адаслалі ім свае гэрбы, што былі атрыманыя ў Городле. Дадае пры гэтым, што вярнуліся да сваіх старых гэрбоў. Гэрбы гэныя былі сымбалем братэрства з Палякамі, калі братэрства гэтае мела быць сарванае, дык трэба было гэрбы адаслаць Палякам. Застацца аднак бяз гэрбоў літоўскія паны не маглі. Не маглі нават прызнаць, што перад вуніяй з Польшчай, продкі іхнія ніякіх гэрбоў ня мелі. Для ратаваньня свайго гонару, сваіх радоў, пастанавілі ўскрасіць а фактычна стварыць літоўскія гэрбы з часоў перад вуніяй у Городле. Ці гэтая іх праца была зробленая ўжо тады, ці толькі пазьней у XVI веку ня ведаем"*.

Запраўды мы ня ведаем, але самы факт, што ў гэтых гэрбох аказаліся рунічныя знакі і молат Тора, дастаткова ясна гаворыць аб існаваньні старой скандынаўскай традыцыі, а прынамсі іншага выясненьня ня ведаю.

***

Довад на немагчымасьць паходжаньня літоўскіх князёў з Жамойцаў робіцца ясьнейшым, калі пазнаёміцца з характарам Жамойцаў. З многіх літэратурных і навуковых апісаньняў характару Жамойцаў найлепш уняў гэта вядомы навуковец Аляксандар Брюкнэр[76], які пісаў, што жамойцы, калі гэта адносіцца да ніжэйшых слаёў, дык вызначаюцца кансэрватызмам, але вядучы слой вызначаецца вялікай ініцыятыўнасьцяй у вялікім дзяржаўным маштабе.

Ужо здаўна былі спасьцярожаныя псыхалёгічныя рожніцы паміж гэтымі двума слаямі і на гэтым фоне паўставалі спробы вытлумачэнь-

[75] **Ян Якубоўскі** (пол. *Jan Feliks Jakubowski*, 1874—1938), польскі гісторык, архівіст.

[76] **Аляксандр Брукнер** (пол. *Aleksander Brückner*, 1856—1939), польскі славіст, гісторык літаратуры і культуры.

ня гэтага зьявішча, пачынаючы ад вываду літоўскіх князёў з Рыму ў XVI веку. Гэтая кароткая праца дае маё вытлумачэньне гэтага зьявішча.

***

Заканчываючы гэты кароткі канспэктыўны агляд праблемы паходжаньня літоўскіх князёў, хачу сказаць, што маю і надалей цікавіцца гэтай праблемай, бо думаю, што мамэнтаў, што прамаўляюць на карысьць прадстаўленай тэзы ёсьць больш, а ўжо прадстаўленыя вымагаюць паглыбленьня і пашырэньня. Кожная з парушаных праблемаў можа быць прадметам доктарскай працы. Найлепш гэтай праблемай магла-б заняцца асоба, якая была-б адначасова гісторыкам, праўнікам, філёлёгам і лінгвістам у некалькі мовах, архэолёгам, антраполёгам, гэральдыкам ды яшчэ з дадатковымі ведамі з іншых галінаў. Важнай была-б таксама роля статыстыкаў, якія аблічылі-б праўдападобнасьць таго, што Скандынавы, знайшоўшы дарогу ў Амэрыку, ня ведалі і не цікавіліся, што знаходзіцца ў іхным блізкім суседзтве, праз мора.

Я веру, што ў больш спрыяючых умовах такія людзі або група такіх людзей знойдзецца, а пакуль што хай гэтыя кароткія ўвагі прычыняцца да заінтэрэсаваньня гэтай праблемай.

*Падрыхтоўка да друку й прадмова*
*Лявона Юрэвіча й Натальлі Гардзіенкі*

*Камэнтары*
*Сяргея Емяльянава й Натальлі Гардзіенкі*

***Сяргей Емяльянаў***
*Менск*

# ПАМЫЛКІ ЯК УРОКІ: РАЗВАГІ НАД ДВУМА ТЭКСТАМІ ПА БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ

## (камэнтары да тэкстаў Часлава Будзькі й Леаніда Галяка)

Станаўленьне любой нацыянальнай гістарыяграфіі заўжды суправаджаецца падвышанай цікавасьцю дасьледчыкаў да пэўных тэмаў, якія расцэньваюцца як знакавыя, найважнейшыя для таго ці іншага дыскурсу. Зразумела, што, акрамя ўласна навуковых публікацыяў, такія тэмы заўжды будуць у цэнтры ўвагі ў публікацыях папулярных. Папулярныя тэксты нарастаюць вакол асноўнага "дрэва" навукі, і іх шчыльнасьць дадаткова паказвае на ключавыя пункты калектыўнага бачаньня гісторыі, якое прысутнічае ў кожным грамадзтве.

Асаблівасьцю папулярных тэкстаў нярэдка зьяўляецца імкненьне досыць простым шляхам вырашыць складаныя й дыскусійныя пытаньні, а таксама распавесьці аб гэтым як мага больш зразумелаю й пераканаўчаю моваю. Пры гэтым перакананьне дасягаецца не за кошт "сумнай" навуковай аргумэнтацыі, а менавіта за кошт выразнай дэманстрацыі "прыгожага піруэту", дзякуючы якому аўтар-аматар вырашае праблему, што зрабілася цяжкапераадольнай для "вузкалобых" прафэсіяналаў.

Падаецца, што кола такіх тэмаў, праблемаў, роўна як і прыёмаў іх вырашэньня, могуць быць вызначаныя ў досыць канкрэтнай колькасьці для большасьці нацыянальных дыскурсаў. Сярод гэтага кола пачэснае месца замаюць праблемы старажытных каранёў сучасных народаў, раньняй дзяржаўнасьці, а таксама часоў росквіту старажытнай дзяржаўнасьці народу, да якіх звычайна — афіцыйна або неафіцыйна — апэлююць сучасныя дзяржавы й нацыянальныя рухі.

Было б дзіўна, каб беларускі дыскурс чымсьці адрозьніваўся. І шэраг характэрных прыпынкаў на шляху станаўленьня нацыянальнай гістарыяграфіі акурат рэпрэзэнтуюцца тэкстамі Часлава Будзькі й Леаніда Галяка — эміграцыйных аўтараў, што зрабілі свой унёсак у комплекс працаў на тэмы гісторыі нашай краіны. Тэксты, што разглядаюцца тут, — "Да гісторыі нацыянальнага ўсьведамленьня" Часлава Будзь-

кі і «Паходжаньне “літоўскіх” князёў» Леаніда Галяка — ствараліся яшчэ ў часы халоднай вайны. Таму адной з характэрных іх рысаў нароўні з выразна патрыятычнай скіраванасьцю, зьяўляецца імкненьне палемізаваць з афіцыйнай савецкай гістарыяграфіяй. Згодна з традыцыяй клясычнай беларускай гістарыяграфіі і насуперак гістарыяграфіі савецкай абодва тэксты зьвяртаюцца да праблематыкі сярэднявечнай гісторыі, пры гэтым не ў сацыяльна-эканамічным вымярэньні, як гэта рабілі гісторыкі ў БССР, а ў вымярэньнях палітычнай, этнічнай, культурнай гісторыі. Таксама, што зноў жа характэрна для такога кшталту твораў, гэтыя тэксты ўтрымліваюць у сабе, так бы мовіць, ідэалягічнае зерне — прызнаньне чытачом слушнасьці доказаў аўтараў па тых ці іншых пытаньнях непазьбежна мае пацягнуць за сабой паўстаньне матывацыі для дзейнасьці ды зьмены парадыгмы поглядаў на гісторыю ды сучаснасьць. Ня важна, пра што ідзе размова — пра нацыянальнае найменьне, як у Часлава Будзькі, ці пра этнічныя карані эліты Вялікага Княства Літоўскага, як у Леаніда Галяка, — аўтары задаюць чытачу імпульс да пераацэнкі рэчаіснасьці. Шэраг канкрэтных пунктаў, якія асабліва вылучаюцца ў працах, прапануецца да падрабязнага разгляду ніжэй.

### *Між племем і нацыяй*

Першы з аўтараў, Часлаў Будзька (1913—1985), прысьвяціў свой твор аналізу калектыўных найменьняў, якія ў розныя часы існавалі на беларускіх землях. Фактычна перад намі кароткі нарыс гісторыі Беларусі праз прызму саманазваў, ад гістарычных “крывічоў” да сучасных “беларусаў”. Будзька падзяляе тэкст на падразьдзелы згодна з нутранай лёгікай пытаньня: “Крывічы”, “Палачане”, “Русь”, “Літва”, “Беларусь”, таксама, кажучы пра Літву, асобна спыняючыся на канцэпце “рускай мовы” позьняга Сярэднявечча й раньняга Новага часу.

У фрагмэнце, прысьвечаным племянным назвам, адразу зьвяртаюць на сябе ўвагу некалькі даволі характэрных рысаў. Гэтыя рысы ставяць дадзены тэкст у шэраг іншых беларускіх і замежных, адзначаных выразнай пячаткай эпохі станаўленьня нацыянальных гістарыяграфіяў XIX—XX стст.

Ужо першы сказ праводзіць ***паралель*** між “сучасным народам” (з кантэксту відавочна, што аўтар мае на ўвазе мадэрную беларускую нацыю) і старажытнымі плямёнамі (у аўтарскім напісаньні — “пляменьнямі”), вядомымі з старажытнарускіх летапісаў. Такім чынам, ігнаруецца складаная гісторыя разьвіцьця разнастайных супольнасьцяў і ідэнтычнасьцяў, адкідаецца ўся розніца сутнасных характарыстык, што аддзяляюць племя дадзяржаўных часоў ад мадэрнай нацыі XX ст. Роўным чынам аўтар апускае той факт, што паміж першым і другім тыпамі супольнасьцяў стаіць цэлы шэраг прамежкавых этапаў. У выніку

ў тэксьце Часлава Будзькі прысутнічае выразна заўважнае імкненьне падоўжыць гісторыю нацыі ў мінулае, рэтраспэктыўна працягнуць яе да найстаражытнейшых зь вядомых на дадзеных землях гістарычных супольнасьцяў (у дадзеным выпадку — плямёнаў, прыгаданых у "Аповесьці мінулых гадоў"). Будзька не выключэньне на гэтым шляху — наадварот, ён знаходзіцца ў межах парадыгмы, якую можна акрэсьліць як тыповую для "нацыянальных" гістарыяграфіяў XIX—XX стст. Хоць і ня так просталінейна, але яна захоўваецца й да нашага часу, асабліва калі размова ідзе пра масавае ці папулярнае выкладаньне гісторыі.

Больш цікава вылучэньне аўтарам у якасьці ключавога для беларускага абшару менавіта племені крывічоў. Тут ён ідзе па шляху, выразна акрэсьленым ранейшай генэрацыяй беларускіх гісторыкаў, перш за ўсё — Вацлавам Ластоўскім, які ня толькі бачыў у вобразе крывічоў гістарычную стадыю ў разьвіцьці беларускага народу, але й разглядаў яго як магчымы канцэпт трансфармацыі беларускага праекту ў будучыні, як альтэрнатыўную "беларусам" саманазву для народу. Часлаў Будзька сьледам за Ластоўскім не імкнецца "астаражытніць" панятак "Беларусь" і этнонім "беларусы", а адназначна акрэсьлівае іх як зьяву мадэрнай эпохі (*"сяньняшні больш-менш усталены і так-сяк афіцыйна замацаваны за намі назоў як народу (беларускі, Беларусь) зьяўляецца гістарычным вытварам ужо навейшых часоў"*).

У гэтым жа рэчышчы варта разглядаць і аўтарскае імкненьне падаць назоў "крывічы" як асноўны для "нашага" (чытай — "беларускага") краю. Тлумачэньне Будзькам дрыгавічоў толькі як галіны крывічоў, якія жылі на дрыгве, знаходзіцца ў межах ранейшай інтэлектуальнай традыцыі. Нагадаем, што Мітрафан Доўнар-Запольскі прапаноўваў балцкую этымалёгію назвы "крывічы" ад літоўскага *krievi* — "багна, дрыгва, балота" — і, такім чынам, быў схільны бачыць у крывічах і дыгавічах адно племя, толькі вядомае ў крыніцах пад рознымі — балцкай і славянскай — назовамі[1].

Улічваючы, што крывічы й дрыгавічы займалі большую частку той "Беларусі", якая геаграфічна разумелася ў часы Часлава Будзькі, а таксама тое, што аўтар набліжае разам з дрыгавічамі да крывічоў іншыя плямёны, што складаюць "наш народ", варта адзначыць імкненьне наблізіць да сучаснай нацыі ня толькі гістарычную рэчаіснасьць, але й сам абшар. Гэты крок таксама, з аднаго боку, нельга палічыць унікальным, але адначасова варта расцаніць як важны менавіта ў сваёй тыповасьці. ***Экстрапаляцыя сучасных нацыянальных межаў на мінулае*** заўважаецца нават у аўтараў канца XX — пачатку XXI ст., адным з самых яскравых прыкладаў могуць паслужыць мапы, дзе арэалы крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў досыць удала супадаюць зь

[1] Довнар-Запольский, М. В. История Белоруссии / М. В. Довнар-Запольский. Минск: Беларусь, 2003. С. 24.

межамі Рэспублікі Беларусь, што ў канчатковым выглядзе паўсталі для БССР у 1945 г.[2].

## Пошук сэнсаў "Русі" ды каранёў "Літвы"

Адной з характэрных рысаў ня толькі папулярнай, але й сур'ёзнай навуковай гістарыяграфіі зьяўляецца наданьне ў размове пра эпоху Сярэднявечча высокай значнасьці этнічнаму складніку ў візіі гісторыі. Для праблематыкі гісторыі Вялікага Княства Літоўскага гэта традыцыйна спараджае спрэчку аб значнасьці й ролі "літоўскага", або "балцкага", і адпаведна "славянскага", або "рускага", пачаткаў. Пры гэтым неабходна адзначыць, што панятак "рускі" тут таксама набывае менавіта этнічную афарбоўку. Наяўная гістарыяграфічная традыцыя ў цэлым ігнаруе той факт, што культура старажытнарускага рэгіёну фармавалася на розным этнічным грунце ды разумее "старажытнарускі" як сынонім "славянскага". Магчыма, у гэтым палягае корань некаторых дыскусіяў, што вядуцца адносна стварэньня ВКЛ, а дакладней, адносна таго, які "этнічны" элемэнт адыграў у гэтых працэсах асноўную ролю. Варта канстатаваць, што спрэчкі між літоўскімі й беларускімі гісторыкамі, якія вяліся ды ўсё яшчэ вядуцца, зводзяцца да імкненьня адстаяць усё тое ж першанства "сваёй" супольнасьці, якая разумеецца як аналяг сваёй нацыі.

Стандартным прыёмам з "славянскага" боку ў гэтай дыскусіі ёсьць спроба давесьці важнасьць складніку, прынесенага "русінскім" элемэнтам пры стварэньні ВКЛ (мова, культура, рэлігія, дзяржаўна-палітычная традыцыя, нарэшце, колькасьць насельніцтва). Такія развагі ўзыходзяць яшчэ да расейскай гістарыяграфіі XIX ст., прысутнічаюць яны і ў сучаснай сытуацыі — дастаткова ўзгадаць працы беларускіх гісторыкаў Аляксандра Краўцэвіча ды Вячаслава Насевіча. Пры гэтым большасьць аўтараў не адмаўлялі й не адмаўляюць балцкую прыналежнасьць летапіснага племені "літва".

Часлаў Будзька ж належыць да іншага крыла рамантычнай плыні айчыннай гістарыяграфіі. Знаходзячыся ў рэаліях XX ст., якія мелі ў сабе й сытуацыю зь несвабодай Беларусі ды пагрозай русыфікацыі беларускага народу, такія аўтары імкнуліся адкінуць "рускасьць" Беларусі, на адмену ад рамантычных украінскіх гісторыкаў, аддаючы яе сучаснай Расеі. А вось летапісную "літву" наадварот варта было зрабіць "сваёй" тым ці іншым чынам.

Сьледам за клясычнымі гісторыкамі, а таксама стандартызаваным у масавай сьвядомасьці ўяўленьнем аўтар уважае за продкаў беларусаў

[2] Нарысы гісторыі Беларусі: У 2 ч. Ч. 1. Мінск: Беларусь, 1994. С. 65; Штыхаў, Георгі; Ракуць, Васіль. Гісторыя Беларусі ў Сярэднія вякі: вучэбны дапаможнік для 5 класаў агульнаадукацыйных школ з беларускай і рускай мовамі навучання. 2-е выд. Мінск: Народная асвета, 2003. С. 19.

выключна славянаў. Балцкі элемэнт ён трактуе выключна як “іншы” — адносна “латышоў” (то бок плямёнаў, што жылі на тэрыторыі сучаснай Латвіі) Будзька прыгадвае толькі факт іх падпарадкаваньня Полацкай зямлі, а адносна старажытнай літвы ўвогуле спрабуе давесьці яе славянскае (полацкае, крывіцкае) паходжаньне. Балцкія ж карані ён пакідае выключна жамойтам, у тым ліку сцьвярджаючы “неправамернасьць” выкарыстаньня імі нацыянальнага назову “літоўцы”. Аналягічна, сьледам за пэўнай плыньню ва ўкраінскай гістарыяграфіі Часлаў Будзька вызначае этнічныя карані расейцаў як фінскія, трактуючы славянскі складнік праз прызму каланізацыі рэгіёну будучай Расеі, якую нібыта зьдзяйсьнялі выхадцы з тэрыторыі Украіны.

Будзька дэкляруе дзьве пазыцыі, якія можна каротка сфармуляваць наступным чынам:

✓ Найменьне “Русь” і вытворныя ад яго першапачаткова ня мелі нічога агульнага з продкамі беларусаў, а былі ім накінутыя звонку;

✓ “Літва” — славянскае племя ці аб’яднаньне, і старажытныя ліцьвіны былі прамымі продкамі беларусаў.

Адносна “Русі” Часлаў Будзька прыводзціць досыць грунтоўную думку аб рэлігійным характары распаўсюду гэтай назвы ў сувязі з хрысьціянствам як “верай русаў”, то бок пачаткова — скандынаваў. Аднак, імкнучыся адасобіцца ад “Русі”, ён сьцьвярджае: “*…Полаччына (у гістарычным значаньні гэтага слова), якая як дзяржаўны арганізм ніколі не ўваходзіла у склад кіеўскіх, г. зн. рускіх валоданьняў, пры тым якая ніколі ня прызнавала й не падлягала Кіеву як палітычнаму цэнтру, — а таксама ня будучы, як дзяржаўны арганізм, створанай русамі… не магла называцца і ніколі не называлася Русьсю*”.

Па незразумелых прычынах аўтар ігнаруе цэлы шэраг паведамленьняў крыніцаў, перш за ўсё тое самае паведамленьне “Аповесьці мінулых гадоў” пад 862 г., дзе ўпершыню згадваецца Полацк, і менавіта ў сувязі з тым, што ўваходзіў у протадзяржаву, ачоленую легендарным Рурыкам. Што ж да скандынаўскай прысутнасьці ў Полацку, то дастаткова толькі згадаць Рагвалода, які, паводле летапісаў “*прыйшоў з замор’я*”, а яго імя мае выразную скандынаўскую этымалёгію (Рагнвальд або Рагнфрод).

Таксама зазначым: Часлаў Будзька ведае аб тым, што пад летапіснай “Рускай зямлёй” разумелася толькі асобная вобласьць сучаснай паўночна-ўсходняй Украіны (фактычна — сукупнасьць Кіеўскай, Чарнігаўскай і Пераяслаўскай земляў), але пры гэтым спрабуе даводзіць “незалежнасьць” ад Кіева беларускіх земляў замест таго, каб проста адзначыць, што “Старажытная Русь” (так званая “*Руская зямля ў шырокім сэнсе слова*”, як называла яе савецкая гістарыяграфія) — выключна сучасны навуковы канцэпт і як адзіная прастора ў дамангольскія часы не ўспрымалася. Зыходзячы з агульнага кантэксту, можна зрабіць выснову, што для Будзькі дэкляраваньне палітычнай незалеж-

насьці "Полаччыны" выглядала больш важным і пераканаўчым за спробы разабрацца ў структуры земляў старажытнарускага рэгіёну і ўзаемадачыненьнях між імі.

Ці то папулярны характар твору Часлава Будзькі, ці то некія яго асабістыя матывы або акалічнасьці прыводзяць да пэўнага спрашчэньня — незразумела, сьвядомага ці несьвядомага, — пытаньня аб найменьнях насельніцтва "рускага" рэгіёну. Ужо адносна старажытнарускага часу й той самай гістарычнай "Рускай зямлі" (як піша аўтар, "*падняпроўскай Украіны*") ён ужывае назву "русіны". Відавочна, што яна зьяўляецца анахранізмам для X — XIII стст., і такое спрашчэньне гісторыі ідэнтычнасьцяў выклікае пытаньні.

Нарэшце, варта адзначыць яшчэ адну выразную рысу тэксту Часлава Будзькі, якая таксама зьяўляецца характэрнай для айчыннай (і ня толькі) папулярнай літаратуры. Гэта рыса мэтадалягічнага характару: калі ў размовах аб палітычнай ці культурнай гісторыі аўтар гатовы рэзка супрацьстаяць афіцыйнай савецкай гістарыяграфіі, што казала пра "*Старажытнарускую дзяржаву*", "*старажытнарускую народнасьць*" ды "*заваёву беларускіх земляў літоўскімі феадаламі*", то ў аспэктах сацыяльна-палітычнай гісторыі ён застаецца ў межах поглядаў, прынятых у савецкай марксысцкай навуцы. Згодна з пашыранай у савецкай гістарыяграфіі канцэпцыяй "фэўдальна-ўдзельнай дробнасьці" Будзька піша пра распад Полацкай зямлі на асобныя "княствы" пасьля сьмерці Ўсяслава Брачыславіча, адпаведна — пра незрэалізаваны шанец для найменьня "палачане" стаць паноўным на большай частцы беларускіх земляў. Такі падыход да пытаньняў, што маюць глыбінны тэарэтычны характар, таксама можна расцаніць як тыповы для папулярнай гістарыяграфіі. Сярод айчынных працаў, што адзначаюцца гэтай жа рысай, можна прыгадаць цэлы шэраг, асабліва напісаных у позьнесавецкія часы або раньнія часы незалежнасьці. Напрыклад, у савецка-марксысцкай парадыгме сацыяльнай і палітычнай гісторыі па сутнасьці заставаліся кнігі Міколы Ермаловіча, а таксама такія выданьні, як "Нарысы гісторыі Беларусі", дзе беларусацэнтрычны погляд на трактоўку канкрэтных падзеяў суіснаваў з захаваньнем ранейшых падыходаў да праблематыкі мэханізмаў стварэньня й разьвіцьця сярэднявечнай дзяржаўнасьці або сацыяльнай эвалюцыі. Яшчэ больш красамоўны прыклад маецца ў літоўскай гістарыяграфіі: аўтарская тэорыя знакамітага літоўскага гісторыка Эдвардаса Гудавічуса аб разьвіцьці "балцкага алоду", якая фактычна паўтарае асноўныя пастуляты клясычнай савецкай тэорыі генэзісу фэўдалізму[3].

[3] Груша, Аляксандр. Крытычныя нататкі з нагоды новай працы Гудавічуса // Беларускі гістарычны агляд. Т. XIV. Сш. 1—2 (26—27). Снежань, 2007. С. 266.

## *Леанід Галяк: вынаходніцтва “трэцяга шляху”*

Тэкст Леаніда Галяка, на першы погляд, прысьвечаны больш вузкай і канкрэтнай тэме. Тут не нарыс з шырокім аглядам усёй айчыннай гісторыі, як у Часлава Будзькі, а спроба прапанаваць адказ на адно, але важнае для беларускага гістарычнага дыскурсу пытаньне — паходжаньне літоўскіх князёў.

Аўтар разумее наяўную гістарыяграфічную традыцыю, дакладней, традыцыі. Першая зь іх (і безумоўна прызнаная афіцыйнай навукай) сцьвярджае балцкасьць гістарычнай літвы і літоўскае, а адпаведна — балцкае, паходжаньне й вялікіх князёў літоўскіх, і вялікага шэрагу прадстаўнікоў элітаў ВКЛ. Другая, што паўстала сярод беларускай раматычнай гістарыяграфіі, як цудоўна бачна з тэкстаў Часлава Будзькі, спрабуе давесьці славянскія карані кіраўнікоў і знаці Вялікага Княства. У сваю чаргу, Леанід Галяк не імкнецца ісьці за гэтымі традыцыямі, а прапануе сваю, спрабуючы расьсячы гордыеў вузел адным узмахам ляза. Замест спрэчак аб балцкім ці славянскім паходжаньні літоўскіх элітаў, ён дае трэці адказ, які адмятае два папярэднія: кажа, што літоўскія князі й прадстаўнікі арыстакратычных родаў паходзілі з Скандынавіі.

На першы погляд, Леанід Галяк грунтуецца на відавочным і вядомым факце — у пэрыяд так званай эпохі вікінгаў (VIII — пачатак XI ст.) скандынавы разгарнулі надзвычай значную экспансію й спрычыніліся да паўстаньня цэлага шэрагу раньніх дзяржаваў. Сам аўтар прыгадвае перш за ўсё Нармандзкае герцагства й наступную заваёву Англіі *нармандцамі* (Леанід Галяк традыцыйна называе іх “нарманамі”, наўпрост атаясамляючы зь вікінгамі, хоць рыцары Вільгельма I былі фактычна французамі — іх праціўнікі ў бітве пад Гастынгсам, англасаксы, па сваёй культуры, мове й звычаях больш нагадвалі нарманаў часоў эпохі вікінгаў).

Такі падыход, заўважны ў беларускай гістарыяграфіі, дакладней, у яе нацыянал-рамантычным кірунку, ня можа не нагадваць зьяву “антынарманізму”, характэрную перадусім для расейскага дыскурсу. Канструкцыя гэтага гістарыяграфічнага фэномэну можа быць раскрытая наступным чынам:

а) пры напісаньні мадэрнай “нацыянальнай” гісторыі неабходна паказаць “спрадвечнасьць” існаваньня таго ці іншага народу (чытай — сучаснай мадэрнай нацыі) і дзяржаўнасьці гэтага народу. “Залішнія” складанасьці этнічнай і грамадзка-палітычнай гісторыі пры гэтым ігнаруюцца, умоўныя “нашыя продкі” разумеюцца ў досыць прымардыялісцкім ключы;

b) наяўныя палітычныя стасункі, дый увогуле наяўны грамадзкі дыскурс, накладаюцца на разуменьне мінулага;

c) калі гістарычныя зьвесткі супярэчаць актуальным грамадзка-палітычным патрэбам, то робяцца спробы прапанаваць любыя аль-

тэрнатывы, хай нават самыя нечаканыя, абы не прызнаць нейкую “здрадніцкую” й “неадпаведную нацыянальным інтарэсам” канцэпцыю.

Так, напрыклад, на старонках толькі аднаго зборніку антынарманістычнага кірунку, выдадзенага ў Расеі, можна прачытаць, што летапісныя варагі былі заходнімі славянамі, кельтамі, балтамі — карацей, кім заўгодна, абы не скандынавамі[4]. Такім чынам, актуальныя рэаліі грамадзкага жыцьця Расейскай імпэрыі XVIII ст. — змаганьне элітаў расейскага паходжаньня з замежнікамі “немцамі”, якіх шмат было ў дзяржаўным кіраваньні, навуцы й адукацыі, — паўплывалі на тое, што частка расейскага грамадзтва й прадстаўнікоў навуковай супольнасьці ня могуць пагадзіцца з германскім паходжаньнем варагаў. Наступныя акалічнасьці гістарычнага працэсу падмацавалі гэтыя думкі й сюжэтамі германа-расейскага супрацьстаяньня, у выніку чаго адзін з аўтараў згаданага зборніку наўпрост параўноўвае прыхільнікаў традыцыйнай “нарманскай” тэорыі з кіраўнікамі Трэцяга райху[5].

У выпадку ж Леаніда Галяка акурат скандынавы, так непажаданыя ў якасьці заснавальнікаў дзяржавы для расейскіх аўтараў, выступаюць прыгожым і простым адказам на пытаньне аб элітах Вялікага Княства Літоўскага. Гісторыя й шляхі разьвіцьця гістарыяграфіі ў XX ст. перавялі этнічную й грамадзкую гісторыю краю ў плоскасьць сучасных беларуска-літоўскіх стасункаў ды надалі ёй выгляд спрэчкі за спадчыну. Прызнаньне савецкай гістарыяграфіяй погляду на генэзіс ВКЛ як працэс “*заваёвы беларускіх земляў літоўскімі феадаламі*”, які ўзьнік у свой час у польскай і літоўскай гітарычных школах[6], яшчэ больш падштурхоўвала патрыятычных беларускіх дасьледчыкаў, тым болей эміграцыйных, да пошукаў альтэрнатывы. Аднак імкненьне даказаць славянскасьць (а фактычна — беларускасьць) старажытнай Літвы таксама мела відавочна хісткія падмуркі, што выразна бачна на прыкладзе тэксту Часлава Будзькі. Такім чынам, непрымальнасьць балцкай вэрсіі ды цяжкасьці ў спробах даказаць славянскую прымусілі Леаніда Галяка шукаць трэці шлях — скандынаўскі.

## *Аматарская лінгвістыка на службе патрыятызму*

Леанід Галяк у доказ сваёй тэорыі прыводзіць ня толькі развагі пра характар эпохі вікінгаў і зьвесткі пра той уплыў, які зрабілі скандынавы

[4] Сборник Русского исторического общества. Т. 8 (156). Антинорманизм / под ред. А. Г. Кузьмина. Москва: Русская панорама, 2003. 320 с.

[5] Фомин, В. В. Кривые зеркала норманизма // Сборник Русского исторического общества. Т. 8 (156). Антинорманизм / под ред. А. Г. Кузьмина. Москва: Русская панорама, 2003. С. 118.

[6] Краўцэвіч, Аляксандр. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Беласток: WSAP im. S. Staszica, 2008. С. 50—55.

ў той час на ўсю Эўропу. Ён імкнецца падаць шэраг канкрэтных пунктаў, якія падмацоўваюць ягоную здагадку.

Варта адзначыць, што скандынаўскі матэрыял зьяўляецца даволі папулярным сярод гісторыкаў, якія пішуць на тэмы Сярэднявечча, аднак праца зь ім вымагае падрыхтоўкі. У адваротным выпадку аўтар можа як мінімум апынуцца ў ролі трансьлятара мітаў. Так, сучасны беларускі гісторык Ягор Новікаў сярод доказаў аб тым, што славуты вікінг Рагнар Скураныя Штаны ладзіў выправы на тэрыторыю Ўсходняй Эўропы, цытуе па-беларуску (відаць, ва ўласным перакладзе) фрагмэнт “адной з саг”, дзе прысутнічала “перадсьмяротная песьня” Рагнара[7]. У якасьці крыніцы інфармацыі гэты аўтар спасылаецца на трэці том “Полацка-віцебскай старыны”, а канкрэтна — на артыкул Аляксея Сапунова, дзе, у сваю чаргу, сапраўды прысутнічае пераклад на расейскую згадагага фрагмэнту[8]. Гэты пераклад, які не нясе ў сабе ані каліва ад характэрных рысаў стараскандынаўскай паэзіі, быў зроблены самім Сапуновым і суправаджаецца спасылкай на французкае выданьне *“Antiquités russes d’après les monuments historiques des Islandais et des anciens Scandinaves”*, дзе ўтрымліваецца арыгінал і лацінскі пераклад (зь якога перакладаў Сапуноў) паэмы XII ст. *“Krákumál”*, дзе сапраўды гаворыцца пра Рагнара[9]. Але, відавочна, што гэты тэкст ніяк ня можа сьведчыць ані пра тое, ці насамрэч існаваў гэты паўлегендарны вікінг, ані, тым болей, пра акалічнасьці яго біяграфіі ды ваеннай актыўнасьці.

Аналягічна, Леанід Галяк для доказаў дзейнасьці вікінгаў у балтыйскім рэгіёне спасылаецца нават не на скандынаўскія сагі, напрыклад на знакамітую “Пасму пра Эймунда Хрынгсана” (*“Eymundar þáttr Hringssonar”*). Ён згадвае зьвесткі з кнігі “Гісторыя нарвэскага каралеўства” (*“Historia Rerum Norvegicarum”*) ісьляндзка-нарвэскага гісторыка канца XVII — пачатку XVIII ст. Тормада Торфэўса. Зразумела, што сам характар гэтай працы й тыя формы, якія мела напісаньне гісторыі (фактычна гэта была яшчэ не гістарычная навука) у 1711 г., калі пабачыла сьвет прыгаданая кніга, не дазваляюць аднесьціся да спасылкі сур’ёзна.

Але найбольш сур’ёзным аргумэнтам, якому Леанід Галяк надае шмат значэньня, безумоўна, зьяўляюцца этымалёгіі вядомых па летапісах імёнаў літоўскіх князёў і нобіляў. Аўтар падае цэлы шэраг

---

[7] Новікаў, Ягор. Ваенная гісторыя беларускіх земляў да канца XII ст. Т. 1. Мінск: Логвінаў, 2007. С. 96.

[8] Сапунов, Алексей. Сказанія исландскихъ, или скандинавскихъ сагъ о Полоцкѣ, князьях полоцкихъ и р. Западной Двинѣ // Полоцко-Витебская старина. Витебск, 1916. С. 33.

[9] Antiquités russes d’après les monuments historiques des Islandais et des anciens Scandinaves. Copenhauge, 1850. P. 88.

такіх імёнаў, прапануючы для іх расшыфроўкі, якія, паводле яго цьверджаньня, паходзяць з стараскандынаўскай мовы. Пры гэтым імёны, як правіла, разьбіваюцца на асобныя карані. Па мажлівасьці Галяк спрабуе прыводзіць прыклады аналягічных імёнаў ці асобных каранёў сярод імёнаў, вядомых па скандынаўскім матэрыяле.

Аўтар гэтых радкоў зьяўляецца гісторыкам і ня мае лінгвістычнай адукацыі. Аднак яму неаднойчы даводзілася працаваць з стараскандынаўскімі тэкстамі й рознымі іх перакладамі, і даць першасную ацэнку этымалёгіям Леаніда Галяка падаецца магчымым. У той жа час варта было б атрымаць такі аналіз ад прафэсійнага мовазнаўцы-германіста.

Дэталёвы аналіз этымалёгіяў Леаніда Галяка не дазваляе пагадзіцца з дадзенай аргумэнтацыяй аб скандынаўскім паходжаньні літоўскіх імёнаў. Больш за тое, неабходна адзначыць, што прапанаваныя этымалёгіі маюць выразныя прыкметы так званай аматарскай, ці народнай, лінгвістыкі.

Аўтар нідзе не падае спасылак на тое, якімі слоўнікамі ён карыстаўся, роўна як не спасылаецца на ранейшыя публікацыі іншых аўтараў, дзе даводзілася б магчымасьць такіх расшыфровак імёнаў. Практычны разбор дае падставы мекаваць, што Леанід Галяк найчасьцей браў словы з ***сучасных*** слоўнікаў скандынаўскіх моваў. Напрыклад, замест стараскандынаўскага *“boð”* ён падае сучаснае *“bud”*, бязь ценю сумневу зьвязваючы яго з запісаным рускай мовай ВКЛ у крыніцах *“-бут”* у форме імя “Карыбут” (*“Корибут”*). Многія з каранёў, якія прыводзіць аўтар, увогуле не падобныя да скандынаўскіх.

## ***Некаторыя прыклады расшыфровак Леаніда Галяка***

У асобных момантах ўзьнікаюць пытаньні адносна таго, наколькі аўтар разьбіраўся ў стараскандынаўскай. Так, найбольш яскравым прыкладам можа паслужыць імя “Буйвід”, якое аўтар падае як *“Bue-Vid”* ды расшыфроўвае як “Вялікі Лук”. Пры гэтым ён узгадвае, што ў скандынаўскай літаратуры прысутнічаў пэрсанаж, які меў імя “Буй” (напісаньне Леаніда Галяка).

Разьбіраючы дадзеную этымалёгію, па-першае, варта адзначыць, што слова “лук” мае форму *“bue”* менавіта ў сучасных дацкай і нарвэскай (букмол). Дарэчы, ніякіх указаньняў на тое, што Леанід Галяк разумеў розьніцу між рознымі варыянтамі нарвэскай няма — не зразумела, ці ўлічваў ён, што нарвэская ня мае адзінага стандарту, а розныя яе варыянты, два асноўныя зь якіх — букмол і нюнорск, маюць розную ступень уплыву дацкай і гутарковых дыялектаў розных рэгіёнаў Нарвэгіі. Стараскандынаўская ж форма гэтага слова — *“bogi”*, і застаецца незразумелым, як корань *“bog-”* паводле аўтара мог пераўтварыцца ў рускай мове ВКЛ у корань *“буй”*.

Што ж да ўзгадкі ўласнага імя “Буй” у стараскандынаўскіх тэкстах, то тут Леанід Галяк зноў робіць немагчымае дапушчэньне. Прыгаданы пэрсанаж — вікінг Бу’і Тоўсты. Яго імя па-скандынаўску мае форму *“Búi”*, дзе апошняя літара — канчатак. Пры скланеньні яна замяняецца на канчатак *-a*, напрыклад: *“Þá tók **Búi** upp kistur tvær fullar gulls ok kallaði hátt: fyrir borð allir **Búa** liðar!”* (*«Тут Буі схапіў дзьве скрыні, поўныя золата, ды крыкнуў гучна: “За борт, усе Буевы людзі!”»*). Такім чынам, відавочна, што Леанід Галяк ня мог слушна вызначыць нават часткі словаў, асабліва карані, ды трактаваў любыя сугуччы ў стараскандынаўскай абсалютна адвольна, каб падагнаць іх пад сваю тэорыю.

Яшчэ больш характэрным прыкладам няслушнага вызначэньня каранёў зьяўляецца выпадак з прапанаваным Галяком коранем “*rag*-”. Так, аўтар піша: *“Раг-вілд: rag — цягнуць у значаньне вяславаць, vald — сіла, кіраванне. Корань Раг выступае ў іменьні швэцкага князя XI стагодзьдзя, а таксама у рунічных напісах з X ст. — Рагнгілд і Рагнфрід”*.

Аднак мінімальныя веды ў этымалёгіі скандынаўскіх імёнаў ці хоць бы спроба разабраць пададзеныя ў якасьці аргумэнту імёны “Рагнхільд” (*Ragn-hildr*) ды “Рагнфрыд” (*Ragn-friðr*) прывялі б Леаніда Галяка да думкі аб няслушнасьці вызначэньня кораня такім чынам. Незразумела таксама, якога князя мае на ўвазе аўтар, магчыма — Рагнвальда-ярла (канец X — пачатак XI ст.), які служыў у Олафа Шотконунга, а пазьней быў пасаднікам у Старой Ладазе. У любым выпадку, першы корань у прыведзеных імёнах — *“ragn-”*, папулярная складовая частка мужчынскіх і жаночых скандынаўскіх імёнаў. Ён мае значэньне “боскі”, “зьвязаны з багамі”, напрыклад: імя *“Ragnvald”* будзе азначаць “Боская ўлада”.

Адносна ж слова *“vid”*, якое вызначае Леанід Галяк, перакладаючы яго як “вялікі”, варта адзначыць, што ў стараскандынаўскай мове сапраўды можна знайсьці падобны корань, арыентуючыся прынамсі на значэньне, якое падае Леанід Галяк. Узьнікаюць толькі дзьве праблемы. Першая — гэты корань азначае “шырокі” ці “вялікі”, але з канкрэтным адценьнем словаўжываньня, напрыклад “шырокі краявід” ці “вялікая / шырокая вопратка”. Другая ж праблема яшчэ больш паказальная: арыгінальнае слова ў мужчынскім родзе — *“víðr”*. Форма ж *“víð”*, найбольш блізкая паводле сэнсу й напісаньня да прапанаванай Галяком, — гэта форма жаночага роду. Якім чынам яна, на думку аўтара, павінна была спалучацца з назоўнікам мужчынскага роду *“bogi”* ці нават *“bue”*, застаецца загадкай.

Яшчэ адной характэрнай рысай аматарскай лігвістыкі, як і ў цэлым любой псэўданавукі, зьяўляецца непасьлядоўнасьць. Звычайна ўсе тыпалягічна роднасныя зьявы навука тлумачыць аднолькава, калі няма ўказаньняў на адваротнае — гэтага вымагае вядомы лягічны прынцып

“ляза Окама”. У псэўданавуцы ў залежнасьці ад мэтаў аўтара адныя й тыя зьявы ці рэчы могуць атрымліваць розныя тлумачэньні.

Так, у Леаніда Галяка чытаем, што імя “Альгерд” азначае “ўсё чуючы” (*“ol”* + *“heard”*). Пакінем убаку такія “дробязі”, як неадпаведнасьць прыведзеных “каранёў” стараскандынаўскай мове. Замест *“ol”* мелася быць *“allr”*, а дзеепрыметнік са значэньнем “які чуе” варта падаць у форме *“heyrandi”* (ад дзеяслова *“heyra”* — “чуць”). Зьвяртае на сябе ўвагу іншая акалічнасьць: вышэй аўтар даваў расшыфроўку імя “Долгерд” (так у тэксьце — у летапісах фігуруюць формы *“Долгордъ”, “Долкгирдъ”, “Дольъкгирдъ”, “Довгирдъ”* і інш., Галяк абірае адну, якая, відаць, узыходзіць да “Хронікі Быхаўца”, дзе сустракаецца напісаньне *“Dowgierd”*). Пры гэтым дадзенае імя дзялілася аўтарам як “Дол-герд” ды расшыфроўвалася як *“dolk”* — “кінжал”, *“ger”* — “кап’ё”. Тут аўтар слушна пазначыў прынамсі першы корань: “кінжал” па-стараскандынаўску — *“dolkur”*, дзе корань сапраўды *“dolk-”*. Зыходзячы зь вельмі вольнага спосабу перадачы скандынаўскіх словаў, якое паўсюль сустракаецца ў Леаніда Галяка, дапусьцім таксама, што *“ger”* — гэта стараскандынаўскае *“geirr”* (дзе корань — *“geir-”*). Але пры гэтым застаецца незразумелым, якім чынам скандынаўскае слова *“geirr”* трансьлюецца ў рускай мове ВКЛ як *“-герд(ъ)”* — абгрунтаваньнем лёгікі й прывядзеньнем сыстэматычных прыкладаў такой трансьляцыі аўтар сябе не абцяжарваў. Галоўнае ж пытаньне паўстае пры параўнаньні двух прыведзеных вышэй імёнаў — *“Ольгерд(ъ)”* і *“Долгерд(ъ)”* (адмыслова захаваем напісаньне Галяка): чаму ў адным выпадку аўтар расшыфроўвае другую частку імя адным чынам, а ў другім — іншым?

Аналягічны разбор можна было б зрабіць па кожным з прыведзеных Леанідам Галяком прыкладаў. Аднак відавочна, што гэта ня мае ў межах дадзенага тэксту ніякага сэнсу. Пададзеныя вышэй этымалёгіі цудоўна й красамоўна адлюстроўваюць агульны ўзровень аўтарскай аргумэнтацыі аб скандынаўскім паходжаньні літоўскіх імёнаў.

## *Замест высноваў*

Тэксты Часлава Будзькі ды Леаніда Галяка, безумоўна, зьяўляюцца прыкладам, хутчэй, аматарскага падыходу да гісторыі. Калі даваць ім кароткую ацэнку, то можна сказаць, што й першы, і другі аўтар імкнуліся даць простыя адказы на складаныя пытаньні. Шырокі агляд гісторыі, зроблены Чаславам Будзькам, або арыгінальнае вырашэньне канкрэтнай праблемы ў выкананьні Леаніда Галяка — усё гэта аб’ядноўваецца агульнасьцю базавых падыходаў на мэтадалягічным і мэтавым узроўнях. Нягледзячы на тое што, напрыклад, на адно й тое пытаньне — паходжаньне летапіснай “літвы” й яе князёў — гэтыя аўтары давалі кардынальна розныя адказы, але іх яднае менавіта падыход і скіраванасьць. Галоўная й ключавая мэта тут — адстойваньне

“нацыянальнага інтарэсу” ў сфэры гістарычнай веды. Гэтая мэта — агульны момант для значнай часткі тэкстаў ня толькі беларускай, але любой гістарыяграфіі. І на гэтым можна было б спыніцца, асабліва ўлічыўшы колькасьць памылак і хібаў у абодвух тэкстаў, пра што ішла гаворка вышэй. Спыніўшыся, можна было б адштурхнуць два прапанаваныя тэксты з поля “сур’ёзнай” навукі.

Аднак, падаецца, гэты крок быў бы заўчасны. Варта адзначыць, і па магчымасьці ў гэтай рэцэнзіі зьвярталася ўвага на дадзеную акалічнасьць, што памылкі Часлава Будзькі й Леаніда Галяка зьяўляюцца надзвычай тыповымі. Існуе мноства ня толькі беларускіх, але й замежных тэкстаў, якія маюць роўна тыя ж хваробы і, здараецца, у нашмат большай ступені.

Спробы зыходзячы з практычных патрэбаў сёньняшняга часу спрасьціць складаную гісторыю, накінуць сучасныя межы ці ідэнтычнасьці на даўнія стагодзьдзі й людзей, што жылі тады, — агульнае месца ў многіх папулярных, навучальных, а бывае, што й у навуковых тэкстах. Пабудова нечаканых ды дзіўных тэорыяў ва ўмовах непрыняцьця з той ці іншай прычыны агульнапрынятых тэзаў, роўна як і гульні ў псэўдалінгвістыку ды іншыя падобныя рэчы, сустракаюцца даволі шырока. “Новая храналёгія” ці дзіўныя “лінгвістычныя” пошукі расейскага матэматыка Фаменкі, захапленьне многіх беларускіх, украінскіх, расейскіх аўтараў “Кнігай Вялеса” — гэта толькі тыя прыклады, якія ўзгадваюцца адпачатку. Хіба тое, што можна ўбачыць у Часлава Будзькі ды Леаніда Галяка, насамрэч могуць мець непараўнальна большы маштаб.

Варта задацца некаторымі пытаньнямі. Ці не зьяўляюцца гэтыя хібы “хваробаю росту” нацыянальнай гістарычнай думкі? Ці не павінна гістарычная навука цьвяроза ўсьвядоміць іх ды прапанаваць адэкватныя адказы? Іначай кажучы, ці ня ёсьць памылкі нашых папярэднікаў важнымі ўрокамі на шляху стварэньня адэкватнай ды сур’ёзнай навукі, а таксама папулярнага вымярэньня гістарычнай веды на яе падставе? Падаецца, што пазытыўныя адказы на гэтыя пытаньні дапамогуць абазначыць месца цэлага шэрагу тэкстаў і ідэяў, што ўзьнікалі ў розныя часы ў беларускім дыскурсе, і сярод іх — разгледжаных працаў Часлава Будзькі ды Леаніда Галяка.

***Зора Кіпель***

# БЕЛАРУСКІ ТРЫШЧАН[1]

*Зора Кіпель (1927—2003) — дастаткова ведамая эміграцыйная дзяячка, аўтарка й пэўны час рэдактарка "Запісаў БІНіМ". Дачка пісьменьніка й журналіста Лявона Савёнка, выпускніца хімічнага факультэту Лювэнскага ўнівэрсытэту, яна большую частку жыцьця адпрацавала ў Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы. Дзясяткі публікацый, грунтоўныя бібліяграфіі, у тым ліку й найвялікшая, супольная з мужам Вітаўтам Кіпелем — "Беларускі друк на Захадзе", заснаваная на сабранай сужэнцамі калекцыі беларускіх выданьняў, — гэта толькі частка творчага даробку рупнай бібліятэкаркі.*

*Асаблівы інтарэс Зоры Кіпель быў скіраваны на беларускую сярэднявечную літаратуру й менавіта "Аповесьць аб Трышчане" XVI ст., якую яна дасьледвала й выдала ў перакладзе на ангельскую мову. Ніжэй пададзены беларускі варыянт прадмовы да амэрыканскага выданьня "Беларускага Трышчана" — выдатны ўзор сёньня яшчэ далёка не ацэненай навуковай спадчыны спадарыні Зоры й адна з прыступак да будучага адмысловага выданьня збору твораў аўтаркі.*

## *Аўтар і чытачы*

Беларуская вэрсія аповесьці пра Трышчана, адзіны славянскі празаічны твор пра прыгоды Трышчана, які захаваўся да нашых дзён, была знойдзеная ў рукапісе XVI стагодзьдзя, які захоўваецца ў Бібліятэцы Рачыньскіх у Познані (Польшча)[2]. Гісторыя Трышчана (у арыгінале: "Повесть о Трышчане"[3]) ананімнага аўтара-перакладніка займае першыя 127 старонак старадаўняга рукапісу, які ўпершыню быў выяўлены ў 1842 г. і апісаны ў 1846 г. славістам Восіпам Бадзянскім[4]. Першая

[1] Пераклад зроблены паводле: Introduction // The Byelorussian Tristan / Translated by Zora Kipel. New York — London: Garland Publishing, Inc., 1988. P. XI — XXVI.

[2] Biblioteka Raczyńskich. Poznań. MS. 94. C. 1580. (Microfilm. New York Public Library).

[3] Повесть о витезях с книг сэрбъских, а звлаща о славном рыцэры Трысчан[е], о Анцалоте и о Бове, и о иншых многих витезех добры[х]

[4] Бодянский, Осип. О поисках моих в Познанской публичной библиотеке // Чтения в Обществе истории и древностей российских. Кн. 1. 1846. С. 27—32.

згадка пра “Аповесць аб Трышчане” зьявілася ў 1822 г. у кнізе Юльяна Урсына Нямцэвіча *“Zbiór pamiętników historycznych…”* (“Зборнік гістарычных помнікаў…”)[5], але пад крыху іншай назвай, не такой, як у рукапісе, што прымусіла некаторых дасьледнікаў лічыць, што існуе яшчэ адна вэрсія “Аповесьці аб Трышчане”. Аднак на сёньняшні дзень ня знойдзена ніякіх іншых тэкстаў, акрамя Пазнаньскага рукапісу, які застаецца адзіным празаічным тэкстам пра жыцьцё й лёс Трышчана, напісаным славянскай мовай. Гэты манускрыпт быў расшыфраваны й прааналізаваны Аляксандрам Весялоўскім, расейскім літаратуразнаўцам, чыё крытычнае дасьледаваньне 1888 г. шмат гадоў заставалася адзінай навуковай працай па гэтай тэме[6].

Перад гэтым, у 1886 г., Аляксандр Брукнэр, польскі філёляг, зрабіўшы лінгвістычнае й палеаграфічнае дасьледаваньне рукапісу, прыйшоў да высновы, што гэта старабеларускі тэкст XVI ст., больш дакладна — 1580 года[7]. Дакладная дата, пазьней пацьверджаная іншымі навукоўцамі, была вызначана дзякуючы параўнальным дасьледаваньням іншых матэрыялаў у тым жа самым манускрыпце. Асабліва карысным быў беларускамоўны тэкст “Гісторыя пра Атылу, вугорскага караля”, зроблены на аснове польскага перакладу з лацінскага арыгіналу Цыпрыяна Базыліка, які быў надрукаваны ў 1574 г., а таксама хроніка сям’і Ўніхоўскіх, якія валодалі гэтым рукапісам на працягу некалькіх пакаленьняў.

Каб зразумець беларускае грамадства XVI ст., неабходна зрабіць некалькі заўвагаў гістарычнага кшталту. Беларуская тэрыторыя ў тыя часы займала большую частку Вялікага Княства Літоўскага, насельнікамі якога былі беларусы (ліцьвіны), летувісы (жамойты) і ўкраінцы (русіны). У 1569 г. ВКЛ, дзе старабеларуская мова была дзяржаўнай, аб’ядналася з Польшчай і ўтварылася Рэч Паспалітая. У справаводзтве Вялікага Княства, законатворчай дзейнасьці, хроніках і дыпляматычнай перапісцы з суседнімі славянскімі краінамі ўжывалася беларуская мова. Акрамя ўжываньня на афіцыйным узроўні, беларускай мовай карысталіся эліта й арыстакратыя, большасьць зь якіх у XVI ст. усё яшчэ належалі да праваслаўнага веравызнаньня й былі носьбітамі беларускай культуры. Палянізацыя ВКЛ і асабліва яго найвышэйшых клясаў пачалася пазьней, у XVII ст., ужо пасьля таго, як была заклю-

[5] Niemcewicz, Julian Ursyn. Zbiór pamiętników historycznych o dawnej Polszcze. Warszawa, 1822. S. 391.

[6] Веселовский, Александр. “Тристан”. Из истории романа и повести. Санкт-Петербург, 1888. С. 132—228.

[7] Brükner, Alexander. Ein Weissrussischer Codex miscellaneus der Gräflich-Raczynskischen Bibliotek in Posen // Archiv für Slavische Philologie. № 9. 1886. P. 345—391.

чана рэлігійная вунія з Польшчай у 1596 г. Дваране былі адукаванымі, ведалі замежныя мовы, мелі эканамічныя й культурныя зносіны са сваімі заходнімі суседзямі, палякамі й чэхамі, паўднёвымі славянамі й іншымі эўрапейцамі, асабліва італьянцамі й немцамі. Падчас сваіх вандровак яны набывалі шмат кніг, а потым наймалі людзей, якія ўзначальвалі іх уласныя бібліятэкі, а таксама запрашалі на працу перапісчыкаў. Заможныя і ўплывовыя магнацкія сем'і сталіся прыкладам і паўплывалі на шляхту, якая імкнулася пераймаць ўсе звычкі арыстакратаў. Такім чынам, ня дзіўна, што ў гэтай атмасфэры разьвіваліся ня толькі розныя культуры й мовы, але й перакладная літаратура — у Беларусі XVI стагодзьдзя гэты працэс быў асабліва маштабным. Старадаўні рукапіс, які належыў сям'і Ўніхоўскіх, зьяўляецца прыкладам такой перакладной літаратуры. Апрача "Трышчана" ў ім знаходзіцца пераклад "Аповесці пра Баву́" й "Гісторыя пра Атылу".


Зора Кіпель

Уніхоўскія былі шляхціцамі, умерана багатымі землеўладальнікамі, жылі пад Наваградкам у Заходняй Беларусі. У 1594 г. Рыгор Уніхоўскі зрабіў першы запіс у сямейнай хроніцы, якая завяршае старадаўні рукапіс. Рыгор нарадзіўся ў 1549 г., ён быў сынам Паўла Ўніхоўскага й Кацярыны Трызны, якая паходзіла зь іншай заможнай і ўплывовай сям'і. У 1571 г. Рыгор ажаніўся з Сафіяй Улатоўскай, якая была ўдавой (яе муж Карп Цішковіч памёр за год да гэтага), — абое належалі да шляхты, як і Ўніхоўскія. Павел Уніхоўскі сканаў у сьнежні 1593 г., незадоўга да таго, як быў зроблены першы запіс у сямейнай хроніцы. У 1589 г. Рыгор працаваў зьбіральнікам падаткаў у Наваградзкім павеце. Пасьля сьмерці Рыгора ў 1606 г. запісы ў сямейнай хроніцы пачаў рабіць ягоны старэйшы сын Ян. Нельга сказаць, што сям'я Ўніхоўскіх была вельмі адукаванай. Яны былі адміністратарамі, палітычнымі дзеячамі, актыўнымі людзьмі, якія бралі ўдзел у шматлікіх ваенных кампаніях. Напрыканцы XVI ст. і ў пачатку XVII ст. Вялікае Княства было вымушана весьці войны з Масковіяй і казакамі. Сумніўна, каб Рыгор Уніхоўскі сам быў перакладнікам "Трышчана" ці іншых гісторый, зьмешчаных у манускрыпце. Але несумненна, што ён быў спонсарам тых, хто ажыцьцяўляў пераклад: пра гэта сьведчаць ягонае становішча ў грамадзтве, кола сяброў і партнэраў, а таксама інтарэсы й зацікаўленасьці.

Перакладнік (ці перакладнікі) былі відавочна начытанымі людзьмі, якія ведалі некалькі замежных моваў і літаратуру і выдатна разумелі густы сваіх заказчыкаў, а таксама абмежаваньні й патрабаваньні, накладзеныя грамадзтвам. Такім чынам, яны зрабілі некаторыя рэдакцыйныя скарачэньні, якія будуць акрэсьленыя ў разьдзеле "Творчыя дасягненьні".

Мова рукапісу й яе багаты слоўнікавы склад добра вывучаныя. Гэта старабеларуская літаратурная мова XVI ст., але з досыць шматлікімі дыялектнымі асаблівасьцямі, што дазволіла навукоўцам дыскутаваць пра час і паходжаньне гэтага тэксту й пра месца паходжаньня перакладніка ці пісара. У сваёй працы *"System fleksyjny starobiałoruskich zabytków"* ("Флексійная сістэма старабеларускіх помнікаў") Тэрэза Ясіньска-Соха[8] прыходзіць да высновы, што: (a) малаверагодна, каб рукапіс быў напісаны да 1580 года, і (b) невядомы пісар, хутчэй за ўсё, паходзіў з паўднёва-заходняй Беларусі й быў добра знаёмы з нормамі беларускай мовы. Трэба адзначыць, што мы павінны адрозьніваць перакладніка-аўтара й перапісчыка. Манускрыпт быў напісаны адным дасьведчаным чалавекам — за выключэньнем некалькіх абзацаў, якія былі напісаныя перапісчыкам ці, як мяркуе Брукнэр, магчыма, нават уласнай рукой Рыгора Ўніхоўскага. Аднак амаль дакладна можна канстатаваць, што рукапіс быў запісаны пад дыктоўку двух ці болей чалавек, бо слоўнікавы склад і правапіс, асабліва ўласных імёнаў, адрозьніваецца ў першай і другой частках тэксту. Мы можам толькі выказаць здагадку, што перакладнік-аўтар быў тым самым чалавекам, які дыктаваў тэкст, ці існаваў нейкі іншы тэкст, зь якім працаваў капіявальшчык. Як бы там ні было, гэты манускрыпт зьявіўся на сьвет дзякуючы намаганьням некалькіх чалавек: аб гэтым сьведчаць непасьлядоўнасьці, якія можна заўважыць у тэксьце. Адзін аўтар-перакладнік быў бы пасьлядоўным і пісаў бы імёны ўсіх пэрсанажаў аднолькава ва ўсім тэксьце, нават калі б у ягоным распараджэньні было б некалькі вэрсіяў гісторыі пра Трышчана.

Чаму ж увогуле было вырашана перакладаць "Аповесьць аб Трышчане"? Адказ, магчыма, крыецца ў інтарэсах і густах чытачоў — беларускага грамадзтва XVI ст. ці, больш дакладна, шляхты Наваградзкага павету, дзе й зьявіўся гэты рукапіс. Старажытны беларускі горад Наваградак, яго замак і навакольлі, калісьці сталіца Вялікага Княства, быў бацькаўшчынай шмат якіх старажытных высакародных і багатых сем'яў, сярод якіх былі й Радзівілы — вельмі моцныя і ўплывовыя ў ВКЛ, асабліва ў сярэдзіне XVI ст., яны былі вельмі вядомыя ня толькі на радзіме, але й за мяжой. Адна зь іх, прыгажуня Барбара Радзівіл,

[8] Jasińska-Socha, Tereza. System fleksyjny starobiałoruskich zabytków II połowy XVI wieku. Wrocław, 1979.

была каханкай, а потым ня вельмі шчасьлівай у шлюбе жонкай вялікага князя Жыгімонта Аўгуста, які пазьней стаў каралём Польшчы. Гісторыя іх таемнага каханьня, інтрыгі польскай арыстакратыі супраць Барбары й, нарэшце, яе трагічная сьмерць у 1551 г., а таксама вялікая роспач караля з-за гэтага, былі ўсё яшчэ вельмі жывыя ў памяці людзей, калі зьявілася "Аповесьць аб Трышчане". Такім чынам, паданьні пра няшчаснае каханьне, авантурныя прыгоды й воінскую доблесьць былі зразумелыя, віталіся й сталі вельмі папулярнымі.

Цікава адзначыць, што Рэнэсанс хоць і паўплываў на разьвіцьцё сьвецкай беларускай культуры, перакладная літаратура ў Беларусі замест таго, каб пераймаць традыцыі эўрапейскага раману эпохі Адраджэньня, заставалася вернай традыцыям раману сярэднявечнага. Тут, ізноў-такі, можна ўбачыць адлюстраваньне кансэрватыўных густаў і стану тагачаснага грамадзтва, якое аддало перавагу сярэднявечным любоўным раманам і рыцарскім прыгодам, а ня больш вытанчанай і інтэлектуальнай літаратуры эўрапейскага Рэнэсансу.

## *Творчыя дасягненьні*

У гэтым разьдзеле мы паспрабуем прааналізаваць, чым "Беларускі Трышчан" адрозьніваецца ад іншых вэрсіяў гісторыі пра Трышчана й ад стандартных тэкстаў, такіх як: *"Le Roman de Tristan en prose"* ("Раман пра Трыстана ў прозе") пад рэдакцыяй Рэнэ Кёрціс[9] і *"Le Roman en prose de Tristan"* пад рэдакцыяй Лёсэта[10]. Мы вызначым, што робіць "Беларускі Трышчан" цікавым і ўнікальным, што ў ім новага й чаго бракуе, як аўтар усталёўвае кантакт са сваімі чытачамі й прыстасоўваецца да густаў публікі.

Што адразу кідаецца ў вочы чытачам "Беларускага Трышчана" — дык гэта тое, што "Аповесьць" у першую чаргу — гэта аповед аб рыцарскіх прыгодах, у якім перавага аддаецца высакародным рыцарскім подзьвігам, а рамантычнае каханьне адыходзіць на другі плян. Гэта не любоўны раман — тут на першым месцы рыцарства, сямейныя адносіны й сяброўства. Галоўныя матывы — гэта барацьба, прыгоды й сьмерць; любоўныя сюжэтныя лініі другасныя.

Дзеля нашага дасьледаваньня "Беларускі Трышчан" можна прыблізна падзяліць на дзьве часткі: першая частка прытрымліваецца стандартнага тэксту пра Трышчана (Лёсэт і Кёрціс); у другой частцы, аднак, беларускі перакладнік (ці аўтар) паказвае свой творчы патэнцыял і фантазію. Барацьба Трышчана й Блянора, каб адпомсьціць за бацьку

9 Le Roman de Tristan en prose / Ed. by Renée Curtis. 3 vols. Cambridge: Brewer, 1985.

10 Le Roman en prose de Tristan / Ed. by Oluf Eilert Løseth. New York: B. Franklin, 1970.

Іжоты, караля Лянвіза, можа лічыцца адхіленьнем ад традыцыйнага тэксту — спачатку даволі дакладны пераклад, а потым больш ці менш вольны пераказ, хаця на працягу некаторага часу падзеі ў "Беларускім Трышчане" супадаюць з "Раманам пра Трыстана ў прозе": адʼезд Трышчана й Іжоты з Ірландыі; любоўнае зельле; іх прыгоды ў Горадзе Слёзаў; іх прыбыццё ў Карнавалію (Ко́рнуол); шлюб Іжоты й караля Марка, і падмена ў шлюбным ложку.

Сон караля Марка, які адбываецца незадоўга да выкраданьня Іжоты Паламідэжам, — гэта той момант, калі "Беларускі Трышчан" пачынае адхіляцца ад традыцыйнага тэксту, і мы адвольна вызначалі гэтае месца пачаткам другой часткі. Гэта таксама той момант, калі чытач можа падумаць, што да працы далучыўся другі аўтар ці перакладнік. Слоўнікавы склад і правапіс пачынаюць зьмяняцца. Напрыклад, імя "*Гвіне́ўра*" ў першай частцы прадстаўлена як "*Велівера*", а ў другой частцы яно ўжо амаль непазнавальнае — "*Жэнібра*"; рыцара Кеўса называюць "*Кеніш*", але ўжо некалькімі старонкамі пазьней, у другой частцы, яго завуць "*Геуш*". Патронімы (тыпова славянскія — хоць і не абавязкова беларускія), формы імёнаў, сустракаюцца некалькі разоў, але толькі ў другой частцы. І гэта цалкам зразумела. Калі мы дапускаем, што тут ёсьць унёсак другога чалавека, то ўнікальныя й адрозныя элемэнты будуць знойдзеныя галоўным чынам у другой частцы. Аднак нават у першай частцы можна знайсьці ледзьве ўлоўныя, часам амаль незаўважныя адрозьненьні, якія зьяўляюцца даволі цікавымі й істотнымі.

Адно адрозьненне асабліва важнае, бо яно яскрава адлюстроўвае тое, што часьцяком называюць "*славянскай душой*". У самым пачатку апавяданьня, калі нараджаецца Трышчан, яго маці памірае, але пасьпявае сказаць: "*Маркотная прыехала я сюды й нарадзіла цябе ў смутку, але мая журба зьмянілася радасьцю, калі я нарадзіла цябе, хоць і надыходзіць мой канец*"[11]. Ніякі іншы тэкст пра Трышчана не перадае гэтую думку з такой цеплынёй і так мякка: "*але мая журба змянілася радасцю, калі я нарадзіла цябе*". Гэтая кароткая дададзеная фраза карэнным чынам зьмяняе тон і пачуцьцё сказу й задае тэму й настрой усяго твора. Трышчан прыносіць радасьць і каханьне — але ён таксама прыносіць і сьмерць. Дамінантная тэма сьмерці асабліва выразна прадстаўленая ў беларускай вэрсіі.

Яшчэ адзін прыклад амаль незаўважнага адрозьненьня паміж "Беларускім Трышчанам" і іншымі вэрсіямі — той момант, калі кароль

---

[11] "*Прышла есми жалосна на сее место и в жалости есми тебе породила, але ми тая жалост у веселе ся обернула для твоего пороженя, и хоче быти вже мой конец*». Тут і далей пададзеныя цытаты з арыгінальнага тэксту "Беларускага Трышчана" ў публікацыі Тамары Суднік. Гл.: http://www.wysotsky.com/0009/168.htm#3024.

Марка шпіёніць за Трышчанам ды Іжотай у садзе — калі ён залазіць на яблыню. Гэты эпізод прысутнічае і ў больш раньніх аўтараў, такіх як Томас Брытыйскі (*Thomas of Britain*) і Бэруль (*Béroul*), а таксама і ў іншых вэрсіях, якія паходзяць ад іх, але дрэва ў іх — гэта сасна, лаўр ці ліпа. "Беларускі Трышчан" — адзіны тэкст, наколькі мы ведаем, дзе выкарыстоўваецца дрэва, якое падразумявае першародны грэх ці яблык разладу.

Яшчэ адно істотнае сымбалічнае адрозьненьне "Беларускага Трышчана" — гэта тое, што у ім больш, чым у любым іншым тэксьце, мы зьяўляемся сьведкамі нараджэньня каханьня: спачатку нявіннага, якое пачынае квітнець на першай сустрэчы нашых героя й гераіні, калі Іжота вылечвае раны Трышчана. Спрыялі гэтаму пачуцьцю й заахвочвалі яго адданая кампаньёнка Іжоты Брагіня й бацька Іжоты кароль Лянвіз, які спадзяваўся, што маладыя людзі закахаюцца. Спачатку матывы Трышчана не былі такімі галантнымі: менавіта ягонае спаборніцтва з Паламідэжам і прыхільнасьць апошняга да Іжоты й падштурхнулі Трышчана зьвярнуць увагу на прыгожую прынцэсу.

Адно адрозьненьне вельмі важнае, таму што яно выбудоўвае новую структуру беларускага аповеду: кароль Марка, хоць і неўсьвядомлена, аддае Іжоту Паламідэжу ў абмен на Брагіню. У іншых вэрсіях Трышчана Іжота сама абяцае аддацца Паламідэжу. Гэты эпізод, які фактычна зьяўляецца пачаткам другой часткі "Беларускага Трышчана", асабліва істотны, бо дае Іжоце й Трышчану высакароднае апраўданьне, легітымную падставу не вяртацца да караля Марка пасьля таго, як Трышчан ратуе яе ад Паламідэжа. *"Ня варта мне ехаць да караля, бо ён аддаў мяне Паламідэжу"*[12], — гаворыць Іжота. Іх прыгоды працягваюцца, але сцэны ідылічнага каханьня ў лесе Маруá адсутнічаюць, бо ніякага лесу Маруа ў беларускай вэрсіі няма ўвогуле. Раньні ад'езд Трышчана й Іжоты з двара караля Марка таксама робіць немагчымымі сцэны патаемных любоўных уцех паміж імі. Усе наступныя эпізоды шлюбнай нявернасьці апушчаны, гэтак жа як і шпіянаж ды пасткі (мука ці вострая каса на падлозе); няма ніякага ражка, каб праверыць нявернасьць Іжоты; яе не аддаюць пракажоным і не зачыняюць ў турэмнай вежы. Гісторыя каханьня зьведзеная да мінімуму. Фактычна, за выключэньнем эпізоду з любоўным зельлем на лодцы, яшчэ адзін раз калі ёсьць намёкі на блізкасьць паміж Трышчанам і Іжотай — гэта калі яны знаходзяцца ў Горадзе Сьлёзаў: пасьля перамогі над "паннай" і адмены агідных звычаяў гэтай выспы, да шлюбу Іжоты з каралём Марка. Такім чынам, аўтар "Беларускага Трышчана" прытрымліваўся маральнага кодэксу беларускага грамадзтва XVI ст. і ўносіў адпаведныя карэктыроўкі ў традыцыйны аповед пра Трышчана, аднак у першай частцы рабіў гэта больш акуратна.

[12] *"Не годит ми ся ехати ик королю, иж ме отдал Паламидежу"*.

У другой частцы “Беларускага Трышчана” мы заўважаем ня толькі галоўныя адхіленьні ад стандартнага тэксту, але таксама й новыя элемэнты, якія адсутнічаюць ва ўсіх іншых вэрсіях. Адзін зь іх асабліва цікавы й пікантны. Трышчан, падчас адной са сваіх прыгодаў на моры, прыяжджае на выспу, якой валадарыць адна “панна”, даволі жорсткая жанчына, якая дазваляе мужчынам пакланіцца ёй толькі пры ўмове, што яны кастрыраваныя. Трышчану ўдаецца захаваць сваю мужнасьць непашкоджанай — і ў прыдачу ён забівае гэтую “панну” й адмяняе варварскі звычай. Эпізод сапраўды ўнікальны. Мы не знаходзім нічога нават аддалена падобнага ў сярэднявечнай эўрапейскай літаратуры.

Іншым цікавым эпізодам, ня знойдзеным у іншых вэрсіях пра Трышчана, зьяўляецца сцэна сустрэчы Трышчана й Анцалота (Ланселота) са старым рыцарам Лібрунам, які сорак гадоў таму *“з-за старасьці адпусціў свайго каня, адклаў дзіду ў бок, павесіў сваю браню, і дзіда ягоная імхом зарасла”*[13]. Пасьля няўдалых спробаў спакусіць прыгожую жонку Лібруна, Цвытажыю, Трышчан і Анцалот былі ня толькі пераможаныя старым рыцарам, але й абняслаўленыя ім: ён даў ім на гарэхі, як маленькім дзеткам. Гэтая сцэна асабліва істотная, бо яна малюе Трышчана й Анцалота даволі нетрадыцыйнымі хварбамі. Абодва пэрсанажы тут выпадаюць са сваіх звычайных роляў — яны больш не рамантычна-ўзьнёслыя рыцары.

Наогул “Беларускі Трышчан” адрозьніваецца ад стандартных празаічных тэкстаў пра Трышчана тым, як менавіта ў ім прадстаўленыя галоўныя героі. Аналіз таго, якім чынам аўтар малюе галоўных герояў, — найлепшы спосаб праілюстраваць спэцыфіку беларускай вэрсіі, яе навізну й супярэчлівасьці.

### *Трышчан*

Адно з азначэньняў добрага рыцара, якое, здаецца, скапіявана з Трышчана, кажа, што рыцар павінен быць адважным, сьмелым, верным, пачцівым і справядлівым; ён абараняе слабых і адмаўляецца ад усіх матэрыяльных дабротаў, хітрасьці й любых дзеяньняў па дасягненьні мірской выгады. Сапраўды, у першай частцы “Беларускага Трышчана” ў галоўнага героя ёсьць усе гэтыя якасьці — больш за тое: ён таксама пабожны й ходзіць у царкву на імшу перад кожнай бітвай. Трышчан намаляваны выдатным рыцарам. У самым пачатку Мэрлін прадказвае, што Трышчан будзе *“найвялікшым рыцарам”* з трох (Трышчан, Анцалот і Галец (або Галаад)), што крыху супярэчыць традыцыйным згадкам, дзе Трышчан — *“адзін з трох найвялікшых*

[13] *“...Коня опустил для старости, а сулицу прыслонил, а зброю повесил, и была сулица мхом обросла”.*

*рыцараў»*. Перавага Трышчана прызнаецца нават каралём Артыюшам (Артурам): *"О, найвялікшы рыцар Трышчан, твая высакароднасьць прызнаецца ўсімі рыцарамі і ўсімі людзьмі ва ўсіх чатырох старанах сьвету! Твая доблесьць ня мае сабе роўных ні ў блізкіх, ні ў далёкіх землях"*[14].

Традыцыйна Трышчан не зьяўляецца жорсткім па сваёй прыродзе, але ён — ваяр, і таму мае ўсе якасьці воіна — гонар, гордасьць і сілу, якія ён дэманструе падчас бітваў. Праўда, ёсьць адзін эпізод, калі ён змушаны забіць жанчыну, што, вядома, супраць яго прыроды, і ён шкадуе пра гэта: *«"Як я магу забіць жанчыну?" Яны адказалі: "А інакш і быць не можа". Трышчан быў вельмі разззлаваны й пачаў раздумваць, а потым сказаў: "Хай будзе пракляты той, хто прыдумаў гэты закон, і тыя, хто не адмяняюць яго. Я вымушаны зрабіць такую рэч, з-за якой буду заўсёды засмучаны, калі толькі ўзгадаю пра яе"»*[15]. Усё ж такі: *"Пайшоў і адсек ёй галаву"*[16]. Магчыма, кагосьці занепакоіць такое пасыўнае прыняцьцё гэтай жудаснай справы, але неабходна памятаць, што Трышчан клапоціцца пра бясьпеку Іжоты, якая ў гэты момант знаходзіцца пад яго апекай.

Ужо пасьля таго, як ён забівае другую жанчыну, хоць яна й была вельмі дрэннай, кожны згадвае першы эпізод і раптам разумее, што занадта шмат людзей, у тым ліку й жанчын, паміраюць з-за Трышчана: маці пры ягоным нараджэньні, бацька, дзіця ягонай ма́чыхі, дачка караля Парамонта, маці Галёта, дрэнная "панна" й яе брат, вераломны крыжаносец, кароль Самсіж, а таксама безьліч рыцараў і ваяроў. Шматлікасьць сьмяротных выпадкаў па віне Трышчана асабліва відавочная ў беларускім Трышчане, бо тут ягоным любоўным прыгодам надаецца нашмат менш ўвагі, чым высакародным рыцарскім подзьвігам. Мала таго, што ён носьбіт сьмерці — у другой частцы гісторыі ён намаляваны як даволі жорсткі й часам бязьлітасны чалавек: *"Трышчан схапіў яе за верх галавы, адсек ёй галаву і выкінуў прэч"*[17]; *"Трышчан схапіў свой меч аберуч і пачаў бесьперапынна наносіць лютыя ўдары. Ён адсек абедзьве рукі караля Самсіжа — яны ўпалі на зямлю разам*

---

[14] *"О навышшый витезю Трыщане, захвалено ти будь великое твое рыцарство всими витезми и всими людми по всих чотырох сторонах! Доброти твоее нет друга ни близко ни далеко на земли".*

[15] *"Як я маю вбити жону?» И они рекли: «Инак не может быти». Трыщан был велми сердит и почал много мыслити. Рек Трыщан: «Проклят тот, который тот закон поставил, и тые, которые тот закон держат; я мушу вчынити таковую реч, што не буду николи весел, коли то успомену".*

[16] *"И пошол, стял ей голову".*

[17] *"И пан Трыщан ухватил ее за верх головы и стял голову, кинул вон далеко".*

*зь ягоным мячом*”[18]. Характар Трышчана значна зьмяніўся — ён больш ужо не ідэальны герой. Ён раўнівы й помсьлівы: ён адразае галаву няшчаснаму маладому прынцу, які закахаўся ў Іжоту. Ён таксама фрывольны й любіць розныя забавы. Калі Жэнібра шукае Трышчана, ёй кажуць: “*Ты яго пашукай там, дзе шмат раскошы й забаваў, бо яму гэта вельмі падабаецца*”[19]; “*Ведаючы, што Трышчан любіць весяліцца, Іжота схапіла каралеву за руку й пачала прыгожа скакаць у танцы харутанскім*”[20]. Зламысныя й невысакародныя паводзіны Трышчана ўжо згадваліся вышэй — у эпізодзе пра старога рыцара й ягоную маладую прыгожую жонку.

Аднак хоць ягоны характар і зьмяніўся і цяпер Трышчан зусім не ідэальны рыцар, а, хутчэй, звычайны чалавек, ягонае стаўленьне да Іжоты застаецца нязьменным на працягу ўсёй гісторыі. Яна заўсёды каралева, якую ён кахае; ён абараняе яе, і хаця ён магчыма нават трохі стамляецца ад яе напрыканцы апавяданьня, усё роўна ахоўвае яе як заўсёды. Гэта добра адлюстравана ў тых выпадках, калі ў Трышчана што-небудзь просяць, а ён адказвае: “*Тое, што просіш, дам табе, акрамя Іжоты; Усё можаш у мяне ўзяць, акрамя прыгажуні-Іжоты*”[21]. Гэта не выпадковая фраза: яна неаднаразова паўтараецца. Відавочна, што аўтар жадаў зрабіць акцэнт на гэтым.

## *Кароль Марка*

Ахова Трышчанам Іжоты супрацьпастаўляецца першапачатковым нядбайным паводзінам караля Марка, які дазваляе Паламідэжу выйграць Іжоту. Гэты эпізод, ужо згаданы раней зь іншых прычынаў, таксама пралівае сьвятло на характар караля Марка й ягоны двор.

Па-першае, здаецца, што кароль Марка клапоціцца больш аб Брагіне й яе бясьпецы, чым аб сваёй жонцы Іжоце. Ён вельмі ўсьцешаны, што Брагіня вярнулася, і нікольکі не шкадуе, што страціў сваю жонку: «*а калі пабачыў яе [Брагіню] кароль Марка, дык вельмі ўзрадваўся і сказаў сваёй служанцы: “Ідзі і скажы Іжоце, каб яна апраналася ў строі,*

---

[18] *“Трыщан взял меч у обе руки и почал чынити жестокие ударъцы без укладанья и тял короля Самсижа по обеюх руках, и отпали ему руки з мечом на землю”.*

[19] *“Ты его там пытай, на котором стану красу и веселье наболшое узрыш, бо то он любит”.*

[20] *“Ведаючы Ижота обычай Трыщанов, иж ему мило веселе, и похватила королевую за руку и почала играти горатанский танец велми пекне”.* Харутанскі (гаратанскі) танец належыць да харутанаў, што жылі на тэрыторыі сучаснай Славеніі.

[21] *“Чого просиш, дам ти, окром Ижоты”, “Все еси волен у мене взяти, окром красное Ижоты”.*

*бо паедзе з Паламідэжам"»*[22]. Паводзіны Марка нас зьдзіўляюць, бо ў нашай вэрсіі ў яго няма ніякіх падставаў падазраваць Іжоту ці кахаць яе менш — у адрозьненьне ад іншых вэрсіяў аповесьці пра Трышчана. Калі прааналізаваць адносіны Марка й Іжоты ў беларускай вэрсіі, то можна са зьдзіўленьнем зразумець, што ніякіх адносінаў паміж імі няма ўвогуле. Пасьля шлюбнай ночы, калі Іжоту падмянілі на Брагіню, і кароль Марка быў задаволены ды пахваліў Трышчана за тое, што ён прынёс яму *"чыстае золата"*, няма ніякіх згадак пра каханьне караля Марка да Іжоты. Такім чынам, пачуцьці Марка да Брагіні, магчыма, зусім не бацькоўскія й не высакародныя; ён правёў сваю шлюбную ноч зь ёй, хоць нават і не здагадваўся пра гэта.

Па-другое, гэты эпізод таксама ілюструе ягоную слабасьць як караля, паколькі ў той час, як Трышчан быў на паляваньні, ні адзін з рыцараў Марка не выказаў намер кінуцца ў пагоню за Паламідэжам, каб вярнуць Іжоту. Ягоных рыцараў лічылі найгоршымі ў сьвеце.

Кароль Марка таксама зайздросьціць славе іншых людзей, ён помсьлівы: ён здрадліва забівае свайго ўласнага брата, таму што баіцца, што брата звычайныя людзі будуць любіць больш, чым яго. Пазьней ён пляную зрабіць тое ж самае з Трышчанам, калі адсылае яго на выкананьне місіі, якая дакладна скончыцца сьмерцю рыцара. Спаборніцтва паміж каралём Марка й Трышчанам, якое пачалося з-за жанчыны (жонкі сэнэшаля Марка Сэгурадэжа), намаляванае ў "Беларускім Трышчане" больш падрабязна й з большай інтэнсіўнасьцю й, здаецца, зьяўляецца больш важнай тэмай, чым іх барацьба за прыхільнасьць Іжоты, якая фактычна грае тут мінімальную ролю. Марк адчувае гнеў і ганьбу з-за таго, што ў гэтым любоўным трыкутніку яго перамог малады чалавек, і з тае́ пары ён паводзіць сябе вераломна ў дачыненьні да Трышчана, але апошні апраўдвае свайго дзядзьку й імкнецца палепшыць свае адносіны зь ім. Трышчан *"ня можа не давяраць свайму дзядзьку"*. Наогул, "Беларускі Трышчан" спрабуе зьмякчыць рэзкія словы й ня згадваць далікатныя сытуацыі паміж сваякамі — у адрозьненьне ад іншых вэрсіяў аповесьці пра Трышчана. Хоць кароль Марка й намаляваны як даволі злачынны чалавек, Трышчан застаецца верным і паслухмяным яму.

Кароль Марка амаль ня згадваецца ў другой частцы "Беларускага Трышчана", і вельмі дзіўна, што калі пра яго згадваюць, дык робяць гэта ў самай пахвальнай манэры — ён прадстаўлены тут як любячы шчодры дзядзька: *«Мой дарагі пляменьнік Трышчан, ты зрабіў шмат добрых спраў: я ўвесь твой і ўсё, што я маю, — тваё, рабі з гэтым усё, што пажадаеш… І даў кароль Трышчану ключы ад свайго каралеўства й прамовіў: "Пляменьнік, ты вольны кіраваць маім каралеўствам*

[22] *«…а коли видел ее [Брагіню] король Марко, велми был весел и рек одной девцэ: «Пойди, мов Ижоте: нарежайся, поехати маеш с Паламидежом"».*

*на свой густ, паколькі я бачу, што ты аддана служыў мне верай і праўдай"»*[23].

## *Іжота*

Як мы ўжо казалі, у "Беларускім Трышчане" вельмі дакладна паказана каханьне Іжоты да Трышчана яшчэ да таго, як яны выпілі любоўнае зельле. Каханьне Трышчана да яе таксама відавочнае, нават калі яно разьвівалася спачатку, толькі каб дасадзіць Паламідэжу, яшчэ аднаму адданаму прыхільніку Іжоты. Хоць напачатку Іжота намаляваная нявіннай і сарамлівай дзяўчынай, у яе бясспрэчна моцны характар. Менавіта яна вылечвае Трышчана, вяртае яго да жыцьця й абараняе ад мяча сваёй разьюшанай маці. Калі-нікалі яна паказвае сваю ўразьлівасьць, але па большай частцы Іжота — моцная жанчына, да чыіх парадаў прыслухоўваюцца. Яна сама прымае рашэньні, якія, аднак, могуць быць бязьлітаснымі, што бачна ў яе жорсткіх паводзінах у дачыненьні да Брагіні, чыя адданасьць не выклікае сумневаў. У выніку дзеяньні Іжоты невытлумачальныя, неразважлівыя й надзвычай брутальныя. Пасьля такіх сваіх паводзінаў яна не адчувае раскаяньня й не шкадуе — у адрозьненьне ад іншых вэрсіяў — што робіць гэты эпізод нават яшчэ больш неспасьцігальным.

Яна таксама ведае, як падабацца мужчынам і маніпуляваць імі. Хоць у нашай гісторыі яе даволі часта параўноўваюць з кветкай, а дакладней — з ружай, кветкай каханьня й жарсьці, Іжота зусім ня жарсная. Яе каханьне да Трышчана больш падобнае да каханьня старэйшай сястры: яно апякунскае й паблажлівае. Яна сочыць за Трышчанам, што не заўсёды бывае тактоўна, і яму гэта не падабаецца. Адзін эпізод вельмі красамоўны: каралева Жэнібра прыехала да Трышчана з просьбай вызваліць яе мужа, караля Артыюша, Анцалота й іншых рыцараў ад зьняволеньня на высьпе. Трышчан, які ў той час быў прыкаваны да ложку, пачуў гэтую сумную навіну пра сваіх сяброў і ўскочыў з ложку з такой сілай, што яго раны адкрыліся. Тады Іжота накінулася на каралеву з такімі словамі: *"Пані, вы — каранаваная каралева, навошта вы прыехалі да самага вялікага рыцара з сумнымі словамі? Вы павінны былі прыехаць спакойна й адчыніць свае мяккія вусны далікатнай гутаркай"*[24].

---

[23] *«Мой милый сестрэнче Трыщане, ты много доброго вчынил, а я твой и все твое, што я маю, будь на твою волю… И дал король Трыщану ключы своего королевства и рече: "Сестренчэ, волен еси моим королевством, иж есми тебе верного нашол, бо ми еси сполнил веру и правд"».*

[24] *"Пани, ты королевая корунованая, як еси ты прышла к наболыному витезю с печалными речми? Тобе было прыйти тихо и отворыти мяккие уста на тихие беседы".*

Таксама цікава адзначыць зьмену роляў у "Беларускім Трышчане". Трышчан — абаронца й вызваліцель караля Артыюша; каралева Жэнібра зьвяртаецца па дапамогу да Трышчана ды Іжоты. Мала таго, што рыцары Круглага стала прадстаўленыя як другасныя героі й ім надаецца меншая ўвага нашым аўтарам, дык яшчэ яны намаляваныя так, быццам бы яны менш істотныя й валодаюць меншымі сілай, адвагай ды прыгажосьцю — за выключэньнем Анцалота, які паказаны як амаль раўня Трышчану.

Аналізуючы галоўных герояў "Беларускага Трышчана", асабліва ў другой частцы, можна зразумець зьмест і значэньне — "*matiere et san*" у трактоўцы Крэцьена дэ Труа (*Chrétien de Troyes*) — гісторыі "*о славном рыцэры Трысчане, о Анцалоте и о иншых многих витезех добрых*". Прысутнасьць Іжоты тут — неабходнасьць, бо безь яе ня будзе ніякай гісторыі, але гэты пэрсанаж амаль не ўплывае на тое, як разьвіваецца сам сюжэт апавяданьня. І сапраўды — гэта прыгодніцкая гісторыя: у ёй вельмі шмат фальклёрных матываў і прыёмаў, якія ствараюць свой уласны своеасаблівы стыль, дзякуючы якому ў нас узьнікае адчуваньне, што гэта славянскае паданьне, а не французскі раман.

Давайце разгледзім некалькі прыкладаў тыповых этнічных элемэнтаў, уласьцівых гэтай вэрсіі:

Частае выкарыстаньне беларускіх, даволі стандартных, але тым ня менш красамоўных **эпітэтаў**: "*некрануты лес*", "*гвалтоўная сьмерць*", "*сьмяротны страх*", "*закляты вораг*".

**Мэтафары й мяшаныя мэтафары**: "*адчыніць свае мяккія вусны далікатнай гутаркай*"[25], "*Богам прашу, зьнімі цярновы вянок з нашага караля Артыюша й пакладзі на яго вянок зь несьмяротнага бясьсмертніку*"[26], Трышчан і Анцалот — два арлы; "*ён — сымбаль доблесьці й храбрасьці*"[27], "*Нельга біцца на нагах пасьля таго, як рыцар зваліўся з каня. Перамог той, хто застаўся на кані*"[28].

**Параўнаньні**: "*яна паважна ляжала на залатых падушках як змяя на насыпе*"[29], "*і напалі яны адзін на другога вельмі храбра, і пачалі ганяцца адзін за другім як два ільвы*"[30], "*бо яна была прыгожая, як ру-*

[25] "*…отворыти мяккие уста на тихие беседы*".

[26] "*…для бога сойми з нашего пана короля Артыуша тернов венец и узложы смилного*".

[27] "*…он ест цвет добротам и храбръством*".

[28] "*Не можемо побитое битвы на ногах поставити, тот витез битву добыл, который ся с конем не ростал*".

[29] "*…она на золотом узголовю посмыкалася, як змия на купе*".

[30] "*…и скочыл один на другого велми храбро, и почали ся гонити, як два лвы*".

*жа-кветка”*[31] й *“белая, як папера, і прыгожая, як ружа”*[32], *“рыцар Анцалот прывёў мяне, як аленя, за горла да вашага праасьвяшчэнства”*[33].

**Фальклёрныя стэрэатыпныя фразы**, некаторыя зь іх фактычна неперакладальныя: *“біць чалом”*, *“усе ад малога да вялікага”*; вельмі часта выкарыстоўваецца фраза: *“поведати все по раду”* — пераказаць усё ў пасьлядоўнасьці, адзін выпадак за іншым.

**Выразнасьць (экспрэсія)**, як: *“не было такога чалавека, які быў бы нагэтулькі бессардэчным, што не расплакаўся б, гледзячы на яе”*[34], *“каб не памёр раптоўнай сьмерцю ад бязьлітасных удараў тваіх і ад твайго вострага мяча”*[35], *“богу душу аддала”*, *“узьнёс хвалу богу”*[36], *“з божаю дапамогаю будзеш здаровы”*[37]. Моляцца богу вельмі часта й вельмі пачціва. Увогуле тут шмат паважлівых прыметнікаў: *“О найлявікшы князе Трышчане, пахвалёнае будзь усімі рыцарства тваё!”*[38], *“О, найвялікшы кароль, усім каралям кароль”*[39].

**Тыповыя фальклёрныя паўторы** — звычайна тры адразу, якія кожны раз павялічваюцца: *“Ня будзь адзін, няхай будуць двох! Ня будзь адзін, няхай будуць трох! Ня будзь адзін, няхаі іх будзе дзесяць”*[40].

Шаблён батальных сцэнаў, які бясконца паўтараецца, па сваёй канструкцыі нагадвае народную казку. Усе сцэны бітваў амаль ідэнтычныя — правакацыя, выклік, бой і параза, раненьні ці сьмерць супернікаў Трышчана: *“І павярнуліся адзін да аднаго, і ўдарыў адзін аднаго так моцна, што Дандыэль [супернік Трышчана] з канём ўпаў на зямлю й ад ад таго падзеньня моцна пабіўся”*[41]. У тэксьце літаральна дзясяткі падобных паядынкаў, і Трышчан амаль заўсёды перамагае ў іх. Аднак

---

31 *“…бо она была яко цвет и рожа”.*

32 *“…бела, як папер, и красна, як рожа”.*

33 *“…витез Анцэлот прывел мя як еленя за горло пред вашу велебност”.*

34 *“…и хто бы тое видял, не был бы так твердого сэрца, штобы на нее смотречы не плакал”.*

35 *“…абых не вмер наглою смертью от жестоких вдарцов твоих и от острого меча твоего”.*

36 *“…въздал фалу богу”.*

37 *“…з божею помочю будеш здоров”.*

38 *“О навышшый витезю Трыщане, захвалено ти будь великое твое рыцарство всими витезми и всими людми по всих чотырох сторонах!”.*

39 *“Пренаможнейшый кролю, всим королем коруно”.*

40 *“Не будь один, нехай будут два! Не будь один, нехай будут тры. Не буд один, будь их десеть”.*

41 *“И обернулися к собе, и вдарыл один другого так моцно, иж Донъдіэль с конем пал на землю, и от того паденя забился велми”.*

падчас апошняй бітвы Трышчан хоць і перамог свайго суперніка, але быў вельмі сур'ёзна паранены, і таму дасылае каралю Марка такое паведамленне: *"Дарагі мой дзядзька, я не магу сам паехаць і ня вынесу, калі мяне павязуць; я добра служыў вам і, магчыма, я вам яшчэ спатрэблюся, таму дашлі каралеву Іжоту да мяне, каб яна вылечыла мяне, бо яна ведае добрыя лекі"*[42].

Структурна "Беларускі Трышчан" прытрымліваецца ўзораў народнай казкі да самага канца. Замест трагічнай ці жахлівай сьмерці двух закаханых, мы атрымліваем хоць і не *"і жылі яны доўга й шчасьліва"*, але прынамсі нейкую надзею: *"Іжота прыйшоўшы, пачала яго лекаваць, як магла. І ня ведаем, ці ад тых ран выздаравеў ці памёр. Гэта ўсё, што пра яго вядома"*[43].

## *Крыніцы і ўплывы*

Нягледзячы на тое, што аповяд пра "Беларускага Трышчана" пачынаецца так: *"повесть о витезях с книг сэрбъских"*, ніякіх паўднёваславянскіх вэрсіяў нам не вядома, і "Беларускі Трышчан" застаецца адзіным славянскім тэкстам у прозе пра прыгоды згаданага героя. Гэты факт нават дазволіў некаторым аўтарам, напр. Мікалаю Калінікавічу Гудзію, разважаць у сваёй *"Истории древней русской литературы"*[44] аб тым, што *"с книг сэрбъских"*, магчыма, азначала *"кнігі, якія былі атрыманы з сэрбскіх бібліятэкаў"* ці *"праз Сэрбію"*, і, магчыма, былі насамрэч італьянскімі кнігамі. Аднак сэрбіянізмы, знойдзеныя ў беларускім тэксьце шматлікімі навукоўцамі (Аляксандар Бручнэр, Аляксандар Весялоўскі, Ірэна Грыцкат, якая пераклала "Беларускага Трышчана" на сэрбскую мову), кажуць пра тое, што, хутчэй за ўсё, існаваў сэрбахарвацкі тэкст, зь якога быў перакладзены "Беларускі Трышчан". Да таго ж культурныя й эканамічныя сувязі спаміж гэтымі дзьвюма краінамі ў XV і XVI стагодзьдзях былі моцныя. Гэта быў пэрыяд інтэнсіўных сэрбска-беларускіх узаемасувязяў, які выпадкова супаў з пэрыядам росквіту беларускай культуры, што прывяло да асаблівай цікавасьці да сьвецкай і наагул заходняй літаратуры. З Сэрбіі ў Беларусь прыйшло й шмат іншых літаратурных твораў, напр.: "Сэрбская Александрыя", "Траянская вайна" й "Аповесць пра Баву́".

---

[42] *"Пане дядко, не могу ехати а ни стерпети, штоб мя несли; если-м вам добре послужыл, еще може мене вам потреба быти, пошли ми кролевую Ижоту, ачей бы мя злечыла, иж она лекаръство добре умеет. Корол Марко отпустил Ижоту вдячне, и она пошла велми з веселым серцэм".*

[43] *"Ижота прышодшы почала его лечыти, што могучы. И не вем, если с тых ран выздоровел або так вмер. Потуль о нем писано".*

[44] Гудзий, Николай. История древней русской литературы. Москва, 1945. С. 373.

Аднак ня варта рабіць занадта вялікі акцэнт на невядомым сэрбскім тэксьце, як гэта робяць некаторыя аўтары (напрыклад, Соня Дэканіч-Яноскі[45], Люнэт М'юр[46]), што нават выкарыстоўваюць няправільную назву *"Сэрбска-Рускі Трышчан"*. Гэта стварае толькі дадатковую неразьбярыху. Больш важна засяродзіцца на існых тэкстах і параўнаць іх, каб прасачыць бесьперапыннае разьвіцьцё сярэднявечнай легенды пра Трышчана, яе зьмены на працягу стагодзьдзяў і культураў, адрозьненьні, скажэньні, дапаўненьні й прагалы.

Найбольш цесна "Беларускі Трышчан" асацыюецца з італьянскай вэрсіяй пад назвай *"Tristano Veneto"* ("Вэнэцыянскі Трышчан"), датаванай 1486 г.[47]. Італьянскае паходжаньне "Беларускага Трышчана" ўжо адзначалася Аляксандрам Весялоўскім. У 1971 г. у сваёй працы *"Hrvatska glagoljska književnost"* ("Харвацкая глагалічная літаратура") Сантэ Грачыёці[48] ўпершыню згадаў вэнэцыянскі рукапіс як магчымую крыніцу беларускага варыянту. І "Беларускі Трышчан", і *"Tristano Veneto"* пачынаюцца з прыбыцьця караля Апалёна да караля Клеўдаса (Кёрціс, § 212)[49]. У 1977 г. у сваёй публікацыі *"Note sul Tristano bielorusso"* ("Нататкі пра беларускага Трышчана")[50] італьянская славіст Эмануэла Згамбаці абгрунтавала гэтую гіпотэзу, а пазьней разьвіла яе ў сваёй навуковай працы *"II Tristano Biancorusso"* ("Беларускі Трышчан")[51]. Яна зрабіла беларуска-італьянскі пераклад, крытычны аналіз і параўнальнае дасьледаваньне тэксту. На думку Згамбаці, італьянскае (вэнэцыянскае) паходжаньне прататыпу "Беларускага Трышчана" асабліва відавочна ў трансьлітарацыі ўласных імёнаў, напр.: у палаталізацыі сьвісьцячых зычных "с" [s] > "ш" [sh] (Brebes > Berbesh [Бербеш]), "з" [z] > "ж" [zh] (Isote, з гукам "з" [z] > Ижота).

Згамбаці прыходзіць да высновы, што "Беларускі Трышчан" паходзіць ад *"Tristano Veneto"*, але ў сваёй другой частцы запазычвае некаторыя моманты зь легендаў пра Трышчана ў Тасканскай тра-

[45] Dekanić-Janoski, Sonja. The Serbo-Russian Romance of Tristan and Isolt — Povest o Tristanu i Izote // The Tristan Legend / Ed. by Joyce Hill. Leeds, 1977.

[46] Muir, Lunette. The Serbo-Russian Tristan and French Prose Tristan // Bibliographical Bulletin of International Arthurian Society. № 31. 1979. P. 217—227.

[47] Nationalbibliothek, Vienna. MS. 3325.

[48] Graciotti, Sante. Hrvatska glagoljska književnost // Slovo. № 21. 1971. P. 305—323.

[49] Le Roman de Tristan en prose / Ed. by Renée Kurtis. 3 vols. Cambridge: Brewer, 56.

[50] Sgambati, Emanuela. Note sul Tristano bielorusso // Richerche Slavistiche. № 24—26. 1977—1979. P. 33—53.

[51] Sgambati, Emanuela. II Tristano Biancorusso. Firenze, 1983.

дыцыі, такіх як: *“La Tavola Ritonda”* і *“Il Tristano Riccardiano”*. Яна распрацоўвае схэму магчымага паходжаньня “Беларускага Трышчана”: у вэнэцыянскім арыгінале (*TV1*), перакладзеным непасрэдна з францускага тэксту, былі памылкі й апушчэньні, якія мы заўважаем ужо ў *“Tristano Veneto”* (*TV*); TV2 паходзіць ад TV1 з дапаўненьнямі й карэкціроўкамі, якія, верагодна, былі зроблены дзякуючы францускаму тэксту; TV2 зьяўляецца асновай “Беларускага Трышчана”.

Хоць “Беларускі Трышчан”, прынамсі ў першай частцы, вельмі падобны да вэнэцыянскай вэрсіі, неабходна паўтарыць, што гэтая частка “Беларускага Трышчана” таксама вельмі падобная да стандартных францускіх тэкстаў. Аднак параўнаньне францускіх і італьянскіх тэкстаў паказвае, што беларускі варыянт больш адпавядае *“Tristano Veneto”*.

Менавіта ў сваёй другой частцы “Беларускі Трышчан” адхіляецца ад стандартных тэкстаў пра Трышчана. Было б цікава вызначыць крыніцы, якія паўплывалі на зьяўленьне некалькіх арыгінальных эпізодаў, некаторыя зь якіх ўжо згадваліся ў разьдзеле “Творчыя дасягненьні”.

Першы такі эпізод — алегарычны сон караля Марка, зь якога пачынаецца другая, арыгінальная частка нашай вэрсіі:

*«Тады кароль Марка сказаў прыгожай Іжоце: “Бачыў я сон: у адным добрым каралеўстве рос вельмі прыгожы ру́жавы куст зь вельмі прыгожымі кветкамі… Кароль гэтага каралеўства сказаў: “Каралеўства належыць мне, а вось ру́жавы куст — не; той, хто здолее сашчыкнуць ружу-кветку, завалодае й ру́жавым кустом”. Шмат рыцараў прыехала ў гэтае каралеўства… але нікому не ўдалося сарваць ружу з куста; а потым прыехаў адзін рыцар і працягнуў руку да гэтага куста й сашчыкнуў адну ружу-кветку… Гэты рыцар вельмі ўзрадаваўся, але калі ён пажадаў сарваць больш кветак, у яго гэта не атрымалася. І тут я прачнуўся»*[52].

Эпізод са сном караля Марка адсутнічае ва ўсіх іншых тэкстах аб прыгодах Трышчана. Аднак цікава тое, што гэты эпізод нагадвае “Раман пра Ружу” (*The Romance Of The Rose*) Гіёма дэ Лёрыса (*Guillaume de Lorris*) і Жана дэ Мёна (*Jean de Meun*), асабліва пачатак і канец. Немагчыма дакладна вызначыць, ці дадаў беларускі перакладнік гэту цікавую частку сам, ці яна ўжо была ў папярэдніх вэрсіях, якія паслужылі кры-

---

[52] *«А потом рек король Марко красной Ижоте: “Видел есми сон: было одно панство велми хороше, и на нем была выросла одна рожа велми пекна, а на ней были цветы велми красны; …И говорыл пан того панства: “Панство мое, але рожа не моя; хтоколвек озмет цвет от рожы, будеть ему рожа”. И многие рыцэры прыеждчали у тое панство… и нихто не мог взяти цвета от рожы; и прышол один витезь и простер руку к той рожы и отнял один цвет от рожы… А тот витез был велми весел о той рожы, а коли еще большей хотел цветов, тогды не мог болш уфатити. И в тот час прочутился есми от сна».*

ніцай беларускага перакладу. Справа ў тым, што ў ніводнай вядомай нам францускай і італьянскай вэрсіі Трышчана няма гэтага прыгожага эпізоду, які выпадкова забясьпечвае верагоднае тлумачэньне падазронасьці Іжоты ў дачыненьні да Брагіні й злучаецца з алегарычнай гісторыяй Брагіні пра тое, як Іжота *"ўтапіла сваю кветку"* ў моры.

Цяжэй вызначыць паходжаньне эпізоду пра *"панну, якая кастрыруе"*: гэта ізаляваны эпізод, які ня мае аніякага відавочнага ўплыву на разьвіцьцё гісторыі — толькі калі ён не закліканы прадэманстраваць нечакана зьверскія рысы характару Трышчана ці падкрэсьліць ягоную бясспрэчную мужнасьць. Жанчыны, якія кастрыравалі мужчын, былі вядомыя ў старажытнай гісторыі й міфалёгіі: Кібела (*Cybele*) — малаазіяцкая багіня-маці, культ якой патрабаваў, каб маладыя людзі праходзілі працэдуру самакастрацыі; царыца Асырыі Сэміраміда, 2000 г. да н. э., жонка легендарнага цара Ніна, якая пасьля ягонай сьмерці акружыла сябе еўнухамі й нават кастрыравала сваіх былых палюбоўнікаў; і шмат іншых падобных прыкладаў. Ніводны, аднак, не падаецца нам верагоднай крыніцай для нашай гісторыі. Адзіным магчымым прататыпам (бо гэта нельга нават назваць крыніцай) прыгодаў Трышчана ў моры зьяўляецца эпізод з Кіркай (Цырцэяй) у "Адысеі" Гамера. Гэта асабліва верагодна, бо вандраваньні Трышчана ў беларускай вэрсіі час ад часу нагадваюць падарожжы Адысея па выспам. Кірка ператварыла спадарожнікаў Адысея ў сьвіней, але сам Адысей пазьбег такой долі дзякуючы сваім сілам і чарам — падобнае здараецца й з Трышчанам. Аднак на гэтым усё падабенства сканчаецца, і загадка паходжаньня гэтага эпізоду застаецца нявырашанай.

Эпізод зь пераапрананьнем Трышчана ў лацінскага місіянэра ці гандляра, каб вызваліць караля Артыюша з палону, зьяўляецца чымсьці новым у празаічных тэкстах пра прыгоды Трышчана. Хоць само па сабе травесьці́ — вельмі распаўсюджанае ў сярэднявечнай літаратуры й не зьяўляецца нечым цалкам новым для апавяданьняў пра Трышчана: яго можна знайсьці ў Томаса Брытыйскага (Трышчан паломнік), у Бэруля (Трышчан пракажоны) і ў Айльхарта фон Обэрге (*Eilhart von Oberge*) (Трышчан юродзівы). У Готфрыда Страсбурскага (*Gottfried von Strassburg*) Трышчан — манах, а ў *"La Tavola Ritonda"* ён — паломнік, вар'ят і сьвятар у залежнасьці ад розных акалічнасьцяў — галоўным чынам ён пераапранаецца, каб выратаваць Іжоту ці каб атрымаць да яе доступ. Абсалютна новым у нашай вэрсіі зьяўляецца тое, што пераапранаюцца гераіні — каралева Жэнібра й Іжота (у манашак). Ніводная зь вядомых нам вэрсіяў Трышчана ня мае згадак пра такі непачцівы камуфляж, які быў бы больш рэлевантным у творах Бакача.

Сюжэт зь дзяўчынай, якая панесла цяжкую страту, у "Беларускім Трышчане" трохі нагадвае адзін эпізод у *"La Tavola Ritonda"* (CXV), дзе *Tristano* й *Lancilotto* дапамагаюць старому рыцару перамагчы

злачыннага графа *Sebio*, а таксама эпізод з гасьціннасьцю зьбяднелага вальвасора ў рамане Крэцьена дэ Труа "Эрэк і Эніда" (*Érec et Énide*). Беларуская вэрсія, аднак, малюе гэты эпізод крыху інакш. Па-першае, змаганьне за зьбяднелую спадарыню на турніры ідзе дзеля таго, каб зрабіць яе каралевай — для розных вэрсіяў Трышчана сама гэта ідэя ня новая й, магчыма, была запазычаная з розных крыніцаў: Трышчан змагаецца за пазбаўленую спадчыны дзяўчыну (Лёсэт, § 444). Яна таксама даволі распаўсюджаная ў традыцыі аповедаў пра караля Артура: у рамане Крэцьена дэ Труа "Івэйн, ці Рыцар з ільвом" (*"Yvain, le Chevalier au Lion"*), герой змагаецца з Гавэйнам (*Gawain*), каб дапамагчы дзяўчыне авалодаць іншай зямлёй. Па-другое, цікавыя апісаньне й сымболіка ежы, прыгатаванай гаспадыняй для двух рыцараў. Ім падалі дзьвюх птушак: смажаную й адварну́ю; гэтымі птушкамі былі ястрабы-перапёлачнікі, якія зьяўляюцца сымбалем вернасьці, улады, высакароднасьці й прыгажосьці. Тут ізноў такі можна ўбачыць паралелі ў кампазыцыі (але не ў сымбалізьме) з *"La Tavola Ritonda"* ў эпізодзе з *Spinogores*'ам і ягонай дачкой (LXXV), у якім дзяўчына прапануе *Tristano* й *Dinadano* адварное й смажанае мяса птушкі: жураўля, паўліна, фазана й вялікага каплуна, але ня ястраба-перапёлачніка. Шаноўнаму госьцю падносяць у падарунак дарагую птушку — сокала — такі эпізод прысутнічае ў "Дэкамэроне" Бакача (Дзень 5. Гісторыя 9). Трышчан й Анцалот у гэтым эпізодзе параўноўваюцца з сокаламі, калі дзяўчына кажа: *"Рыцары, я не шкадую, што забіла двух ястрабаў для двух сокалаў"*[53]. Да іх ставяцца як да членаў каралеўскай сям'і, як да арыстакратаў, а пазьней, у гэтым жа эпізодзе, Трышчану прапануюць надзець карону з кветак, каб ён насіў яе на шлеме. Таксама істотна, што гэты эпізод малюе Трышчана й Анцалота ў найлепшым сьвятле: яны пачцівыя, паслужлівыя, вынаходлівыя, адважныя й перамоганосныя, што вельмі кантрастуе з характарамі гэтых двух рыцараў у эпізодзе, які ідзе адразу за гэтым.

Мы ўжо згадвалі пра інцыдэнт са старым рыцарам Лібрунам і ягонай прыгожай жонкай Цвытажыяй у якасьці прыкладу, які ілюструе зьменлівы й няўстойлівы характар Трышчана. Такія няроўныя адносіны аўтара да галоўных пэрсанажаў пераканаўча сьведчаць пра тое, што ён рабіў кампіляцыю са шматлікіх розных крыніцаў — сёньня ўжо відавочна, што гэты эпізод таксама не выключэньне. І хоць гэты сюжэт у тым выглядзе, у якім ён прадстаўлены ў "Беларускім Трышчане", новы, але барацьбу Старога Рыцара супраць Новага Рыцара й перамогу апошняга можна знайсьці ў "Кампіляцыі" Русьцічэла Пізанскага *("La Compilation de Rusticien de Pisa"*) (Лёсэт, § 620—622) і ў італьянскіх вэрсіях легенды аб Трышчане, што было адзначана раней Весялоўскім і падрабязна прааналізавана Згамбаці.

[53] *"Витези, я того не жалую, што есми убила два скока двум соколом"*.

Заключны эпізод — канчатак, які ламаецца на амаль аптымістычнай ноце й таму цалкам зьмяняе трагічны фінал гісторыі каханьня Трышчана й Іжоты — унікальны й прысутнічае толькі ў "Беларускім Трышчане". Некалькі рукапісаў францускага Трышчана сканчаюцца рэзка ў розных месцах, такім чынам пазьбягаючы аповедаў пра трагічныя сьмерці двух закаханых. Гэтыя скарачэньні звычайна адбываюцца з-за страты старонак манускрыпта ці з-за няздольнасьці аўтара скончыць рукапіс зь невядомых нам прычынаў. Большасьць рукапісаў, у якіх прысутнічае другая частка рамана, утрымліваюць сцэны сьмерці Трышчана ды Іжоты, якія часьцяком адрозьніваюцца ў дэталях. Асабліва цікава адзначыць, што адзін манускрыпт, раней невядомы францускі рукапіс XVI ст[54]., апісаны Э. С. Марэлам[55], заканчваецца калі ня ў тым самым месцы ці часе, дык вельмі блізка па значэньні да "Беларускага Трышчана" наступнымі словамі: *"Tristan demoura en Cornailles et atant d'eulx je me tairay et feray la fin de mes comptes car au livre ou les ay pri(n)s je n'en rien trouve pas plus avant"* (*"Трыстан памёр у Корнаі і, пачуўшы пра гэта, я змаўкаю й скончаю свае нататкі, таму што ў кнізе, зь якой я іх узяў, нічога больш я знайсьці не магу"*). *"Гэта ўсё, што напісана пра яго"* — апошнія словы беларускай вэрсіі.

Такім чынам, нашая вэрсія Трышчана, асабліва яе другая частка, абавязаная сваім зьяўленьнем шмат якім іншым крыніцам. Аднак некаторыя эпізоды й дэталі несумненна ёсьць уласнымі вынаходзтвамі аўтара-перакладніка й робяць своеасаблівым і непаўторным гэты новы й адносна мала вывучаны тэкст. "Беларускі Трышчан" XVI стагодзьдзя, апошняя вядомая вэрсія прыгодаў Трышчана ў прозе, зачыняе доўгі ланцуг легендаў аб Трышчане, які пачаўся ад кельцкіх паданьняў, пераасэнсаваных у XII стагодзьдзі францускімі й нямецкімі паэтамі й празаікамі, чые творы былі перакладзеныя на шмат якія мовы, разышліся шматлікімі рознымі вэрсіямі й нарэшце дасягнулі аддаленай славянскай мовы — старабеларускай.

*Пераклад з ангельскай А. Б.*

[54] National Library of Wales. Williams 529.

[55] Murrell, E. S. Quelques manuscripts meconnus du "Roman de Tristan en prose" // Romania. № 56. 1930. P. 277—281.

***Вацлаў Пануцэвіч***

# ПРА СЬВІСЛАЦКУЮ ГІМНАЗІЮ Й ЛІСТЫ

*Вацлаў Пануцэвіч (да эмігр. Папуцэвіч) нарадзіўся ў 1910 г. у вёсцы Малая Альшанка Гарадзенскага павету (сёньня Гарадзенскі раён). У 1936—1939 гг. вучыўся на юрыдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. Уваходзіў у склад Беларускага інстытуту гаспадаркі й культуры, быў сябрам Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. У 1936 г. увайшоў у склад ініцыятыўнай групы па стварэньні Беларускага нацыянальнага фронту. У 1939—1941 гг. настаўнічаў у Горадні. Падчас нямецкай акупацыі працаваў на розных адміністрацыйных пасадах у Баранавічах. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945 г. узначаліў Беларускую гімназію імя Максіма Багдановіча ў Ватэнштэце. Ад 1946 г. кіраваў Згуртаваньнем крывіцкіх скаўтаў на чужыне.*

*У 1949 г. Вацлаў Пануцэвіч выехаў у ЗША, пасяліўся ў Чыкага. Быў актывістам мясцовага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Займаўся дасьледніцкай дзейнасьцю (вывучаў рэлігійную гісторыю Беларусі), браў актыўны ўдзел у арганізацыі грэкакаталіцкай парафіі Сьвятога Хрыста-Збаўцы ў Чыкага. Актыўна працаваў як рэдактар і выдавец часопісаў “Беларуская царква”, “Літва”, аўтар кніг пра Язафата Кунцэвіча, Берасьцейскую Вунію і інш. Шмат публікаваўся пад псэўданімам Мікола Волаціч. Памёр 25 жніўня 1991 г. у Чыкага.*

## Роля Сьвіслацкай гімназіі ў разьвіцьці Беларускага Адраджэньня[1]

*З навуковых крыніцаў апрацаваў В[ацлаў] Пануцэвіч*

У першай палове XIX ст. вялікі пачатак нацыянальнага адраджэньня Беларусі пакінула Сьвіслацкая гімназія. Яе гісторыя, дасюль не напісаная, мае для нас вялікую зацікаўленасьць перш за ўсё таму, што ў гэтай навучальнай установе, як ведама, атрымаў асьвету народны герой Беларусі — Кастусь Каліноўскі. Але акрамя К[астуся] Каліноўскага,

[1] Публікуецца наводле: Беларускі Час. № 43—44. Верасень — лістапад 1983. С. 9—10. Асаблівасьці правапісу першапублікацыі захаваныя.

са Сьвіслацкай гімназіі, дзякуючы высокаму ўзроўню выкладаньня й лунаўшым у яе сьценах вызваленчым ідэям, выйшлі выдатныя рэвалюцыянеры, вучоныя, пісьменьнікі, аб якіх мы, на жаль, ведаем пакуль нямнога.

Ужо ў 20-я гады XIX стагодзьдзя тут існавалі тайныя таварыствы: “Навуковае”, “Маральнае”, “Заран”, група, зьвязаная з дэкабрыстамі, “Таварыства вайсковых сяброў”. Яе выпускнікі Лявон Зянковіч[2], Райнальд Сухадольскі[3] ды Віктар Гельтман[4] былі арганізатарамі і ўдзельнікамі паўстаньня 1830—1831 гадоў. У гімназіі незадоўга да паступленьня туды К[астуся] Каліноўскага атрымаў адукацыю адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863 г. Рамуальд Траўгут[5]. Выхаванцамі Сьвіслацкай гімназіі былі: унікальны вучоны — арыенталіст, акадэмік Пецярбургскай акадэміі навук В[осіп] Кавалеўскі[6]; прафэсар Віленскай мэдычна-хірургічнай акадэміі Станіслаў Горскі[7]; выдатны польскі пісьменьнік Язэп Ігнат Крашэўскі[8]; яго брат, таксама пісьменьнік, Каятан[9]; брат Кастуся Каліноўскага — Віктар[10] і многія іншыя.

Каб паказаць асаблівую ролю Сьвіслацкай гімназіі як аднаго з цэнтраў асьветы ды вызваленчай барацьбы, неабходна напомніць, што пасьля “канчатковага” злучэньня Беларусі з Расеяй (1795) значная колькасьць школаў на беларускіх землях па-ранейшаму засталася ў руках манашскіх каталіцкіх ордэнаў — дамініканцаў, францішканцаў, кармалітаў, піяраў ды іншых.

Заняткі ў гэтых школах адбываліся паводля разнастайных праграмаў, насычаных рэлігійнасьцю. Каб перабудаваць гэтую вельмі

---

[2] **Лявон (Леан) Зянковіч** (1808—1870), паэт, публіцыст, мэмуарыст, удзельнік паўстаньня 1830—1831 гг.

[3] **Райнольд Сухадольскі** (1804—1831), беларускі й польскі паэт, удзельнік паўстаньня 1830—1831 гг.

[4] **Віктар Гельтман** (1796—1874), публіцыст і рэвалюцыйны дзеяч.

[5] **Рамуальд Траўгут** (1826—1864), генэрал, удзельнік паўстаньня 1863—1864 гг., адзін зь ягоных кіраўнікоў.

[6] **Восіп (Юзаф) Кавалеўскі** (1801—1878), філёляг, гісторык, арыенталіст, адзін з заснавальнікаў манголазнаўства ў Расеі.

[7] Відаць, маецца на ўвазе **Станіслаў Горскі** (1802—1864), прыродазнаўца, мэдык, пэдагог, загадчык батанічнага саду Віленскага ўнівэрсытэту ў 1830 г., адзін зь першых дасьледчыкаў Белавескай пушчы.

[8] **Юзаф Ігнаці Крашэўскі** (1812—1887), беларускі й польскі пісьменьнік, гісторык, фальклярыст, рэдактар, выдавец, публіцыст.

[9] **Каятан Крашэўскі** (1827—1896), пісьменьнік, астраном-аматар, бібліяфіл.

[10] **Віктар Отан Каліноўскі** (1833—1862), гісторык, археограф, бібліяфіл, удзельнік нацыянальна-вызвольнага руху 1860-х гг., старэйшы брат Кастуся Каліноўскага.

зблытаную і ўстарэлую сыстэму адукацыі, зьвязаць у адно цэлае яе мінуўшчыну, у 1803 годзе была створана Віленская навучальная акруга, у падпарадкаваньне якой увайшлі ўсе бяз выняткаў навучальныя ўстановы беларускіх губэрняў. Адміністрацыйным ды навучальным цэнтрам акругі стаў Віленскі ўнівэрсытэт — цэнтр перадавой пэдагагічнай думкі таго часу, цэнтр, прыцягальны ўсіх прагрэсыўных навуковых і культурных сілаў. Пераадольваючы вялікія цяжкасьці, перш за ўсё матэрыяльнага, фінансавага характару, натыкаючыся на ідэалягічнае супрацьдзеяньне каталіцкай царквы, не адчуваючы істотнай падтрымкі сваім пачынаньням з боку царскага ўраду, кіраўніцтва Віленскага ўнівэрсытэту тым ня менш з усіх сілаў імкнулася ажыцьцявіць перабудову сыстэмы адукацыі, што знаходзілася ў руках духавенства, стварыць сьвецкія школы, абмежаваць уплыў царквы на працэс навучаньня й выхаваньня. Асабліва актуальнай падобная справа была для Горадзенскай губэрні ў яе адміністрацыйных граніцах таго часу, таму што да пачатку XIX ст. тут ня было ніводнай сьвецкай школы. У Горадні й Наваградку яны знаходзіліся ў руках дамініканцаў, у Берасьці й Жыровіцах — базыльянаў, у Шчучыне, Лідзе й Драгічыне — піяраў, у Беластоку, які тады таксама ўваходзіў у Горадзенскую губэрню, — місіянераў і г. д.



Вацлаў Пануцэвіч

Таму зразумела, што, выказаўшы ідэю стварэньня першай у Горадзенскай губэрні сьвецкай гімназіі, кіраўніцтва Віленскага ўнівэрсытэту, каб пасьпяхова вытрымаць клерыкалаў ды не загубіць гэтае важнае пачынаньне задоўга да адкрыцьця, павінна было паклапаціцца і аб добрым матэрыяльным забясьпечаньні школы, і аб высокім узроўні выкладаньня, і аб пурытанскай маральнасьці гімназістаў. Кіруючыся лепшымі традыцыямі сьвецкай ідэалёгіі XVIII ст., яно імкнулася да таго, каб будучая школа знаходзілася бліжэй да прыроды, разьмяшчалася ў населеным пункце, пазбаўленым многіх спакус гарадзкога жыцьця. Выбар паў на Сьвіслач — ціхае й спакойнае мястэчка, якое адпавядала гэтым патрабаваньням. Да таго-ж уплыў рэлігійнага фанатызму адчуваўся тут значна менш, чым у іншых гарадох Горадзенскай губэрні.

Мястэчка належала рэфэрэндару Вялікага Княства Літоўскага Вінцэнту Тышкевічу[11] (1757—1816) — чалавеку вялікіх паступовых ідэйных перакананьняў, блізкаму да кіраўніцтва ўнівэрсытэту. Ён ня толькі даў згоду на адкрыцьцё акадэмічнай гімназіі ў Сьвіслачы, але ў першых гадох даў ёй вялікую матэрыяльную падтрымку. У асаблівасьці, на ягоныя сродкі ды далучаныя да іх потым даходы зь езуіцкіх маёнткаў для будучай гімназіі была набытая цудоўная бібліятэка, фізычны й мінэралягічны кабінэты, пастаўлены будынак (спачатку драўляны, пасьля цагляны), у якім у верасьні 1806 г. пачаліся заняткі.

Гімназія атрымала афіцыйны назоў *“Горадзенскай Губэрнскай Гімназіі”* ў Сьвіслачы, якая існавала там на працягу трох дзесяцігодзьдзяў.

Дзякуючы стараньням Віленскага ўнівэрсытэту для Сьвіслацкай акадэміцкай гімназіі быў падабраны й добры падбор выкладчыкаў. Настаўнікамі ў гімназіі былі лепшыя выпускнікі Віленскага ўнівэрсытэту, як правіла, ураджэнцы Беларусі. У асбалівасьці, рыторыку й паэтыку ў гімназіі выкладаў ураджэнец Піншчыны Лявон Бароўскі[12] (1784—1846), пазьней прафэсар тых-жа прадметаў у Віленскім унівэрсытэце, які першым, між іншым, прадказаў А[даму] Міцкевічу бліскучую будучыню. Іменна Л[явону] Бароўскаму традыцыя прыпісвае прарочыя словы, сказаныя ім пасьля знаёмства з раньнімі вершамі маладога А[дама] Міцкевіча: *“І ў нашым краі зьявіцца геній”*.

Разам зь Лявонам Бароўскім розныя гуманітарныя прадметы ў гімназіі выкладалі яго брат Ігнат Бароўскі, таксама ўраджэнец Барысаўшчыны, Ігнат Шыдлоўскі[13] — абодва выпускнікі Віленскага ўнівэрсытэту. Пасьля яны, як і Лявон, сталі прафэсарамі Віленскага ўнівэрсытэту ды актыўнымі сябрамі таварыства “Шубраўцаў”[14].

Выкладчыкам лацінскай і грэцкай моваў, а таксама антычнай літаратуры ў гімназіі быў зноў-такі выпускнік Віленскага ўнівэрсытэту Максімільян Якубовіч[15] (1785—1853), пазьней прафэсар Кіеўскага (ад 1834), а пасьля Маскоўскага (з 1840 году) унівэрсытэтаў. У 20-я гады XIX ст. было падрыхтавана й выдадзена некалькі навучальных дапаможнікаў, у іх ліку “Граматыка лацінскай мовы” (Вільня, 1825). Найбольш значная праца М[аксімільяна] Якубовіча — трохтомная

---

[11] **Вінцэнт Тышкевіч** (1757—1816), дзяржаўны дзеяч ВКЛ, пісар вялікі літоўскі (ад 1780), рэфэрэндар вялікі літоўскі (ад 1780 г.), уладальнік маёнтку ў Сьвіслачы.

[12] **Лявон Бароўскі** (1784—1846), літаратуразнаўца, філёляг, гісторык і тэарэтык літаратуры, пэдагог.

[13] **Ігнат Шыдлоўскі** (1793—1846), паэт, перакладчык, выдавец, фальклярыст.

[14] **Шубраўцы** — сябры літаратурна-грамадзкага таварыства лібэральна-асьветніцкага кірунку, якое дзейнічала ў Вільні ў 1817—1822 гг.

[15] **Максымільян Якубовіч** (1784—1853), расейскі філёляг і філёзаф.

“Хрысьціянская філязофія жыцьця ў параўнаньні з пантэістычнай філязофіяй нашага стагодзьдзя” (Вільня, 1853) — яшчэ чакае сваіх дасьледнікаў.

Добра было пастаўлена ў гімназіі й выкладаньне дакладных навукаў. Вучні Антона Сухадольскага, выкладчыка матэматыкі, ужо ў шостай клясе пасьпяхова займаліся канічнымі сячэньнямі ды нават балістыкай. Фізыку й прыродазнаўства выкладаў Ян Смольскі, аўтар шэрагу ведамых публікацыяў з гэтага прадмету.

Добрая навучная база, выдатна падабраны падбор настаўнікаў, высокі ўзровень выкладаньня забясьпечылі Сьвіслацкай гімназіі шырокую й далёкую рэпутацыю — на працягу многіх гадоў яна лічылася адной зь лепшых у літоўскіх (гэта значыць беларускіх) губэрнях.

Таму ў Сьвіслач пасьля заканчэньня павятовых школаў зьяжджалася моладзь з Горадзенскай, Менскай ды навет Валынскай губэрніяў. Асабліва многа студэнтаў было з гэткіх беларускіх гарадоў, як Ваўкавыск, Слонім, Пружана, Кобрынь, Берасьце, Пінск і інш. Лік вучняў дасягаў 300 чалавек.

Жыцьцё ў Сьвіслачы, пазбаўленай шумных і непатрэбных гульняў, схіляла да заняткаў, якім гімназісты прысьвячалі пяць дзён у тыдзень. Але і ў гэты дзень пасьля малітваў студэнты зьбіраліся супольна ды наведвалі сваю ваколіцу. Іншы раз іх запрашалі ў летнюю рэзыдэнцыю В[інцэнта] Тышкевіча — у Клепаны, за 9 вёрстаў ад Сьвіслачы, дзе ім аддаваліся парк і сажалка. Тут гімназісты езьдзілі на лодках, ганяліся на астравах за трусамі й зайцамі ды ў розных гульнях. Пасьля заўсёды быў абед з трох страваў для школьнікаў і зь пяці для выкладчыкаў. Гэтыя паездкі ў Клепаны ўспрымаліся перапоўненымі энэргіяй школьнікамі амаль як сьвяты. Хоць праўдзівых сьвятаў у Сьвіслачы было два — пачатак і канец навучальнага году.

Асабліва ўрачыста адзначалася заканчэньне навучальнага году — штогод 29 чэрвеня. Аб гэтым дні ў сваіх успамінах выпускнік Сьвіслацкай гімназіі — рэвалюцыянэр і пісьменьнік — Лявон Зянковіч пісаў: “*Гэта было сьвята са сьвятаў, урачыстасьць з урачыстасьцяў ня толькі для гімназыстаў, ня толькі для настаўнікаў, ня толькі для гораду ды навакольляў, але для ўсяго Палесься…*”.

Ужо за два-тры тыдні да выпускнога экзамену рознымі дарогамі дабіраліся да Сьвіслачы бацькі й маці, дзяды й бабулі, дзяцькі й цёткі, браты й сёстры, прыяцелі, каб парадавацца посьпехам сваіх дзяцей, унукаў, братоў, сваякоў, знаёмых, паглядзець на іх і — калі ўжо здарыўся выпадак — сябе паказаць.

Урачыстасьць пачыналася раніцай. Гучалі званы, іграў вучнёўскі аркестр, сьпяваў хор, якому дапамагалі прысутныя. А трэцяй папаўдні пасьля прамовы дырэктара пачынаўся экзамен лепшых вучняў усіх клясаў — галоўным чынам па тых прадметах, якія мелі цікавасьць для

публікі, прыкладам, геаграфіі, гісторыі, фізыкі або хіміі з вопытаньнямі. Гэты парад быў патрэбны, каб падагрэць ганарыстасьць як вучняў, так і прысутных бацькоў. Пасьля чыталіся імёны вучняў, якія канчалі курс, якім давалі пасьведчаньні. Музыка іграла ўрачысты марш, білі барабаны й літаўры, давалі некалькі залпаў марціры.

Вечарам умоўлены выстрал склікаў усіх у тэатар, дзе пачыналася бясплатнае прадстаўленьне. Пасьля яго — танцы, якія працягваліся да раніцы.

30 чэрвеня бацькі вучняў рабілі грашовыя разьлікі з гаспадарамі кватэр, таму што ўсе вучні гімназіі жылі на прыватных кватэрах. Прычым з мэтай падтрыманьня высокай маралі гімназістам забаранялася наймаць кватэры ў тых уласьнікаў, у якіх меліся дарослыя дочкі, іх суседства разглядалася як паважная перашкода на шляху, што вядзе да вяршыняў навукі. Плацілася таксама крамніку, які забясьпечваў гімназістаў сшыткамі, чарніламі, алоўкамі ды іншымі матарыяламі. Пасьля гэтага вучні з бацькамі разьяжджаліся на летнія канікулы. У верасьні, як звычайна, урачыста пачынаўся школьны год. Так разьмерана працякала жыцьцё ў Сьвіслацкай гімназіі. Дні навукі зьмяняліся канікуламі з такой-жа заканамернасьцю, зь якой чаргаваліся поры году. І здавалася, ніхто ня здолее парушыць гэткі рытм. Але раптам…

У чэрвені 1823 г. у Віленскім унівэрсытэце пачала рэпрэсыўныя дзеяньні царская сьледчая камісія, якую ўзначальваў сэнатар М[ікалай] Навасільцаў[16]. Было арыштавана больш сотні студэнтаў, якія ўваходзілі ў тайныя таварыствы філяматаў і філярэтаў[17] і якія ў пераважнай бальшыні былі ўраджэнцы Беларусі. Выяўленыя ў ходзе сьледзтва ў Вільні, Віленскім унівэрсытэце няўмела скрытыя ніці пацягнуліся ў Сьвіслач. Старанныя сьвіслацкія студэнты аказаліся маскоўскім сьледчыкам далёка не такімі бяскрыўднымі, як здавалася зь першага погляду. Выявілася, што тайныя таварыствы ў Сьвіслацкай гімназіі зьявіліся амаль у той-жа час, што і ў Віленскім унівэрсытэце, дзе вучылася большасьць былых гадаванцаў гімназіі.

Ужо ў 1819 г. пад уплывам віленскіх філяматаў у гімназіі ўзьнікла “Навуковае таварыства”, якое налічвала 15 вучняў гімназіяльных клясаў. Старшынёй яго быў Дзіянісі Шлаеўскі, сакратаром — Рыгор Вашчыловіч.

[16] **Мікалай Навасільцаў** (рус. *Николай Новосильцев*, 1761—1838), расейскі палітычны дзеяч, адзін з найбліжэйшых паплечнікаў імпэратара Аляксандра I. У 1824—1831 гг. быў апекуном Віленскага ўнівэрсытэту й Віленскай навучальнай акругі. У 1832—1838 гг. старшыня Камітэту міністраў Расейскай імпэрыі.

[17] **Таварыства філяматаў і Таварыства філярэтаў** — таемныя патрыятычныя таварыствы студэнтаў Віленскай навучальнай акругі, найперш Віленскага ўнівэрсытэту ў 1817—1820-х гг.

Сьледам за ім у тым-жа годзе ўтварылася “Маральнае Таварыства”, заснаванае вучнямі, што скончылі гімназію ды называліся хатнімі настаўнікамі. Старшынёй гэтага таварыства быў Якаў Адамовіч, сакратаром — Ігнат Качальскі.

У 1823 г. у Сьвіслачы ўзьнікла тайнае таварыства “Згодныя браты”,ператворанае пасьля ў таварыства “Заран”. Разам з гімназістамі ў яго ўваходзілі: адстаўны штабс-капітан Сьперскі, аптэкарскі вучань Чайкоўскі, землямер Акінчыц. На чале таварыства стаяў Кузьмінскі. Нарэшце, у Сьвіслацкай гімназіі знаходзілася трэцяя ступень “Таварыства ваенных сяброў”, арганізаванае ахвіцэрамі Літоўскага (Беларускага) корпусу (Гофманам, Ігельстромам[18] ды інш.) у Беластоку ў 1825 г. ды дзеючага ў цесным саюзе з рухам дэкабрыстаў.

Сябры ўсіх такіх таварыстваў падлягалі строгім карам. Гімназістаў, замешаных у гэты вызвольны рух, апраналі ў салдацкія шынэлі і адпраўлялі ў казармы.

Ня менш сурова расправілася камісія зь філяматамі ў Вільні. Пасьля сьледзтва, якое цягнулася каля 11 месяцаў, выданы быў царом Аляксандрам I 14-га верасьня 1824 г. загад, паводля якога 20 філяматаў і філярэтаў высяляліся ва ўнутраныя губэрні Расеі. Зь іх 12 чалавек — у Казанскі ўнівэрсытэт для навучаньня на факультэце ўсходніх моваў. Сярод гэтых “добраахвотнікаў”, як было адзначана ў прыгаворы, *“паводля собскага жаданьня”* (пад наглядам паліцыі) знаходзіўся й былы выхаванец Сьвіслацкай гімназіі, выпускнік філялягічнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту, ураджэнец Горадзеншчыны Язэп [Восіп] Кавалеўскі (1801—1878). Хто мог тады падумаць, што менш чым праз дзесяць гадоў ён стане, пабываўшы ў Бурацii, Манголіі й Кітаі, прафэсарам Казанскага ўнівэрсытэту, загадчыкам першай у Расеі катэдры мангольскай мовы, заснавальнікам манголазнаўства ў Расеі.

У 1855 г. В[осіп] Кавалеўскі стаўся рэктарам Казанскага ўнівэрсытэту. На працягу многіх гадоў ён падтрымліваў сувязь са Сьвіслацкай гімназіяй, зь месцамі, дзе прайшло ягонае дзяцінства. У 40-х гадох XIX стагодзьдзя з далёкай Казані ён прыслаў у Сьвіслач складзены ім і выйшаўшы ў гэты час з друку ўнікальны трохтомны “Мангольска-руска-францускі слоўнік”, за які Пецярбурская Акадэмія Навук прысудзіла яму поўную прэмію Дзямідава. Разам з далучаным пісьмом В[осіпа] Кавалеўскага слоўнік доўга захоўваўся ў бібліятэцы гімназіі, выклікаў узвышаную цікавасьць ды быў гордасьцю сьвіслацкіх гімназістаў.

Ведамым вучоным стаўся й другі выпусьнік Сьвіслацкай гімназіі, родам з Брэстчыны, Станіслаў Батысь Горскі (1802—1864). Скончыўшы

---

[18] **Канстанцін Ігельстром** (рус. *Константин Игельстром*, 1799—1851), расейскі афіцэр, камандзір 1-й роты Літоўскага піянэрнага батальёну, па справе дзекабрыстаў сасланы ў Сібір.

Сьвіслацкую гімназію й мэдыцынскі факультэт Віленскага ўнівэрсытэту, ён некалькі гадоў быў памочнікам прафэсара Я. Вольфганга, а ў 1830 г. яму даверылі ганаровую пасаду — кіраўніцтва ўнівэрсытэцкім батанічным садам, у якім да таго часу было сабрана каля 7 тысяч рэдкіх гатункаў расьлін з розных часьцін сьвету, аб чым А[дам] Міцкевіч у творы "Пан Тадэвуш" пісаў: *"Я бачыў у віленскім батанічным гародзе нямала праслаўленых дрэў, што растуць на ўсходзе або на паўдні ў краі Італьянскім..."*.

Калі дзейнасьць Віленскага ўнівэрсытэту ў 1832 годзе была спынена, С[таніслаў] Горскі стаўся прафэсарам батанікі й фармакалёгіі Віленскай мэдыка-хірургічнай акадэміі (1832—1842).

Не пакінуў ён заняткаў і пасьля таго, як акадэмія была пераведзена ў Кіеў. Каб коратка прадставіць навуковую дзейнасьць С[таніслава] Горскага, які застаўся ў Вільні ў гэтыя гады (1842—1864), дастаткова, на наш погляд, прачытаць адпаведнае месца зь нядаўна апублікаванай "Гісторыі Вільнюскага ўнівэрсытэту" ў жамойцкай мове (Вільня, 1979), дзе даецца высокая ацэнка навуковым дасягненьням нашага беларускага выдатнага вучонага: *"Сваімі дасягненьнямі ў галіне батанікі, якія працягваліся й пасьля закрыцьця Вільнюскай мэдыка-хірургічнай акадэміі, здабыў славу С[таніслаў] Горскі. Ён склаў каталёг 1205 гатункаў расьлін Віленшчыны. У адной з капітальных працаў (1849) на лацінскай мове зьмясьціў малюнкі 10 гатункаў расьлін, якія ён упершыню выявіў і апісаў. Двойчы бываючы за мяжой, устанавіў цесныя сувязі зь ведамымі батанікамі Эўропы, якія ў сваіх працах выкарыстоўвалі матарыялы С[таніслава] Горскага, а некаторыя гатункі расьлін нават называлі яго імям"*.

Да гэтага неабходна дадаць, што на працягу гадоў С[таніслаў] Горскі плённа вывучаў флёру Белавежскай пушчы, будучы, па сутнасьці справы, яе першым дасьледнікам. У час сваіх навуковых паездак па Беларусі ён неаднаразова бываў у Сьвіслачы, якая, як ведама, разьмешчана на краі Белавежскай пушчы.

Падтрымліваў сувязь з гімназіяй і пражываўшы доўгі час у Вільні Язэп Ігнат Крашэўскі (1812—1887) — вучань Сьвіслацкай гімназіі 1829 г., а таксама студэнт філязофскага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту. У 1841—1851 гадох ён выдаваў у Вільні часапіс "Атэнэум", які чытаўся гімназістамі. Ня выключана, што ў 40-я гады XIX ст. Ю[заф] Крашэўскі неаднаразова бываў у Сьвіслачы, таму што іменна ў гэты час у Сьвіслацкай гімназіі вучыўся ягоны малодшы брат Каятан, які закончыў яе ў 1847 годзе, у год паступленьня ў Сьвіслацкую гімназію Кастуся Каліноўскага. Пра гады свайго навучаньня ў Сьвіслачы Ю[заф] Крашэўскі пакінуў яркія ўспаміны...

Прыкметны сьлед у гісторыі Сьвіслацкай гімназіі пакінула паўстаньне 1830—1831 гадоў. Нямала яе выпускнікоў, ураджэнцы Беларусі,

выявілася ў радох паўстанцаў. Найбольш ведамыя сярод іх: Л[явон] Зянковіч, Р[айнальд] Сухадольскі, В[іктар] Гельтман. Апошняму, у сэнсе папулярнасьці, пашчасьлівіла больш за іншых. Мы ведаем, што пасьля паражэньня паўстаньня ён жыў у Брусэлі, стаўшыся адным з самых блізкіх сяброў І[ахіма] Лелявэля[19], удзельнічаў у рэвалюцыйных падзеях 1846—1848 гадоў у Польшчы й Нямеччыне, быў таксама ведамы як таленавіты публіцыст, багатая рукапісная спадчына якога, на жаль, не знайшла выдаўцоў. Памёр у Бэльгіі ў 1874 г.

Што датычыцца іншых удзельнікаў паўстаньня, таксама ўраджэнцаў Беларусі ды выпускнікоў Сьвіслацкай гімназіі — Лявона Зянковіча ды Райнальда Сухадольскага, то аб іх, можна сказаць, ведаем вельмі мала.

Ведаем адно, што Лявон Зянковіч нарадзіўся на Палесьсі ў вёсцы Ляхі ў 1808 г. Незадоўга да пачатку паўстаньня скончыў Сьвіслацкую гімназію ды паступіў у Варшаўскі ўнівэрсытэт. Пасьля паразы паўстаньня 1830—1831 гадоў як актыўны яго арганізатар і ўдзельнік вымушаны быў эміграваць у Францыю. Але й там ня спыніў рэвалюцыйнай дзейнасьці, якая вызначалася асаблівай актыўнасьцю з 1831 г. Л[явон] Зянковіч выдаваў матэрыялы з тагачаснай дзейнасьці. Разам з С[таніславам] Ворцэлям[20] дапамагаў Гэрцэну[21] ў стварэньні Расейскай вольнай друкарні ў Лёндане. Хоць паміж Гэрцанам і "маленькім ліцьвіном" (так называў Зянковіча расеец Гэрцэн) былі часам разнагалосьсі па некаторых пытаньнях стратэгіі й тактыкі рэвалюцыйнай барацьбы, тым ня менш у сваіх славутых успамінах "Былое й думкі"[22] расеец рэвалюцыянэр ня без сымпатыі згадвае прозьвішча Зянковіча сярод тых, хто адкрыта выступаў прыхільнікам рэвалюцыйнага руху прыгнечаных народаў. Як і Ю[заф] Крашэўскі, Л[явон] Зянковіч таксама пакінуў успаміны аб Сьвіслацкай гімназіі — "Пасядзелкі, або апавяданьні ля коміну", дзе зь вялікай цяплынёй ды любоўю расказвае аб гадох, праведзеных у Сьвіслачы. Памёр Л[явон] Зянковіч у Парыжы ў 1870 годзе.

Кароткае, але яркае жыцьцё правёў другі ўдзельнік паўстаньня 1830—1831 гадоў вучань Сьвіслацкай гімназіі Райнальд Сухадольскі (1804—1831), родны брат беларускага мастака-баталіста Януарыя

[19] **Яўхім Лялевель** (пол. *Joachim Lelewel*, 1786—1861), польска-беларускі гісторык і грамадзкі дзеяч.

[20] **Станіслаў Ворцэль** (пол. *Stanisław Gabriel Worcell*, 1799—1857), польскі рэвалюцыйны дэмакрат, сацыяліст-утапіст, удзельнік паўстаньня 1830—1831 гг.

[21] **Аляксандар Герцэн** (рус. *Александр Герцен*, 1812—1870), расейскі пісьменьнік, публіцыст, філёзаф, рэвалюцыянэр.

[22] ***"Былое и думы"*** — мэмуары Аляксандра Герцэна, упершыню апублікаваныя цалкам у 1868 г.

Сухадольскага[23] (1797—1875). Уладальнік арыгінальнага й сымбалічнага паэтычнага таленту, ён праславіўся як аўтар папулярных паўстанцкіх вершаў і песьняў. Загінуў у баі паўстанцаў з царскімі войскамі ў 1831 годзе. У тым часе выйшаў у сьвет ягоны зборнік вершаў "Любімыя песьні".

Пасьля паражэньня паўстаньня 1830—1831 гадоў гучная слава Сьвіслацкай гімназіі пайшла на спад. Парадзелі шэрагі таленавітых выкладчыкаў, зьменшыўся прыток здольных вучняў. Сярод прычын закрыцьцё Віленскага ўнівэрсытэту ў 1832 г. і адкрыцьцё 6 красавіка 1834 г. сьвецкай гімназіі ў Горадні, якая з 23 лістапада 1835 г. стала называцца губэрнскай. Сьвіслацкай гімназія ператварылася ў звычайную, павятовую. Але галоўная прычына, пахіснуўшая яе аўтарытэт, гэта прыгнёт мікалаеўскай рэакцыі, які пранік і ў сфэру асьветы.

Тым ня менш узровень выкладаньня ў Сьвіслацкай гімназіі ўсё-ж заставаўся высокім. Рэвалюцыйнае хваляваньне працягвалася. Сярод гімназістаў распаўсюджвалася забароненая літаратура, назіралася выяўленьне вольнадумства, паяўляліся рэвалюцыйныя вершы, за што вучняў аддавалі ў салдаты, выключалі з гімназіі, каралі розгамі. Урэшце рэшт расейскі ўрад вырашыў прыняць больш радыкальныя меры: перавесьці гімназію са Сьвіслачы ў павятовы горад Шаўлі Ковенскай губэрні (цяпер горад Шаўля Жамойцкай ССР). Загад аб пераводзе гімназіі выйшаў 2 студзеня 1845 г., аднак рэвалюцыйныя падзеі 1846—1848 гг. адклалі гэты перавод на шэсьць гадоў.

Іменна ў гэты трывожны для гімназіі час, калі ў Сьвіслачы з дня на дзень чакалі канчатковага сыгналу да ад'езду, і настаўнікі, і вучні старэйшых клясаў у поўным сэнсе слова сядзелі на сваіх пакунках, у гімназію паступіў будучы кіраўнік паўстаньня 1863 г. у Беларусі / Літве — Кастусь Каліноўскі. Бацька ягоны — Сямён Сьцяпанавіч Каліноўскі — прывёз яго ў Сьвіслач восеньню 1847 г. разам са старшым братам Віктарам, які з 1841 г. вучыўся ў тутэйшай гімназіі ў падрыхтоўчай клясе.

Школьнае жыцьцё зь першых дзён захапіла Кастуся, прыцягнула сваёй навізной, нялёгкай, разьлічанай на вялікае напружаньне маладых сілаў праграмай.

Аднак ня толькі навучальнай гімназіяльнай праграмай ён быў забавязаны ў тварэньні новага сьвету. Гады навучаньня Каліноўскага ў гімназіі супалі зь "Вясной народаў" — яркім ланцугом дэмакратычных рэвалюцыяў 1848 г. у Эўропе, якія грунтоўна ўзварушылі ўвесь эўрапэйскі кантынэнт. Звонкім рэхам яны адгукнуліся і ў Беларусі ды сталі магутным стымулам да беларускага адраджэньня.

Жывое вытварэньне маладога К[астуся] Каліноўскага адбывалася таксама пад уплывам эўрапэйскага руху на расейскіх, беларускіх ды

---

[23] **Януары Сухадольскі** (1797—1875), мастак-баталіст, удзельнік паўстаньня 1830—1831 гг.

польскіх землях, дзякуючы гэраічнай дзейнасьці тайных рэвалюцыйных арганізацыяў 30—40 гг. XIX ст. у Віленскай мэдычна-хірургічнай акадэміі, дзе, як раней на ўнівэрсытэце, навучалася бальшыня выпускнікоў беларускіх гімназіяў.

Сябры "Дэмакратычнага таварыства"[24] (так называлася расейская арганізацыя), разьвіваючы лепшыя традыцыя дзекабрыстаў і філяматаў, ставілі сваёй мэтай падрыхтоўку нацыянальнага паўстаньня супраць царскага самадзяржаўя ды прыгоньніцтва. На чале арганізацыі стаяў студэнт акадэміі родам зь Піншчыны — Франук Савіч[25] (1815—1846).

"Дэмакратычнае таварыства" дзейнічала ў цесным саюзе з таварыствам, якое падтрымлівала польскую вызваленчую справу, на чале якой стаяў Шымон Конарскі[26] з групай рэвалюцыйна настроеных ахвіцэраў у Віленскім гарнізоне, якім камандаваў паручык А. Кузьмін-Караваеў.

У той час беларускія, расейскія й польскія рэвалюцыянэры дзейнічалі супольна. І хаця гэтыя арганізацыі былі разгромленыя царызмам, у гісторыі вызваленчай барацьбы яны адыгралі выдатную ролю. Іх дзейнасьць паказала жыцьцёвую неабходнасьць рэвалюцыйнага саюзу прыгнечаных народаў у барацьбе супраць агульнага ворага — самадзяржаўя. Гулкі рэзананс ў Беларусі (гістарычнай Літве) выклікала дзейнасьць разгромленага ў 1849 г. "Брацкага саюзу моладзі"[27], на чале якога стаялі браты Далеўскія — Франук[28] і Аляксандр[29], устанавіўшыя, як і іх папярэднікі, саюз з польскімі й расейскімі рэвалюцыянэрамі.

Дзейнасьць тайных рэвалюцыйных арганізацыяў 1830—1840-х гг., весткі аб якой разьнесьліся па ўсёй Беларусі, мелі вялікае значэньне для рэвалюцыйна настроенай моладзі, для выхаваньня рэвалюцыянэраў, у тым ліку й Кастуся Каліноўскага.

Добры ўплыў на духовае разьвіцьцё Кастуся Каліноўскага выявіў старэйшы брат Віктар, які на працягу некалькіх гадоў разам зь ім

---

[24] **"Дэмакратычнае таварыства"** — таемнае студэнцкае таварыства, заснаванае ў Вільні ў 1836 г. на чале з Францам Савічам. Дзейнічала да 1838 г.

[25] **Франц Савіч** (1815—1845), публіцыст, удзельнік вызваленчага руху, адзін з пачынальнікаў рэвалюцыйнага дэмакратызму ў Беларусі.

[26] **Шыман Канарскі** (пол. *Szymon Konarski*, 1808—1839), дзеяч нацыянальна-вызвольнага руху ў Польшчы, Літве й Беларусі.

[27] Маецца на ўвазе **Братні саюз літоўскай моладзі** (пол. *Związek Bratni Młodzieży Litewskiej*) — таемная моладзевая арганізацыя, якая дзейнічала ў Беларусі й Літве ў 1846—1849 гг. пад кіраўніцтвам Францішка і Аляксандра Далеўскіх.

[28] **Францішак Далеўскі** (1825—1904), дзеяч вызвольнага руху, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863—1864 гг.

[29] **Аляксандар Далеўскі** (1827—1862), дзеяч вызвольнага руху.

вучыўся ў Сьвіслацкай гімназіі. Абдараны ад прыроды цікавасьцю, працавітасьцю, дзейным розумам, Віктар захапляўся мовамі, ведаў і любіў літаратуру, зачытваўся гістарычнымі дасьледчымі працамі. Іменна ад Віктара Кастусь упершыню пачуў аб тайных таварыствах 1820-х гадоў у Сьвіслачы й дзекабрыстах, удзельніках паўстаньняў 1830—1831 гг. ды аб рэвалюцыйных таварыствах 30—40-х гг. XIX стагодзьдзя, даведаўся пра імёны Кюхэльбэкэра[30], Зянковіча, Сухадольскага, Гельтмана, Савіча, Канарскага, Каратаева ды іншых барацьбітоў супраць самадзяржаўя, якія сталіся сапраўднымі кумірамі яго юнацтва.

Зусім бясспрэчна, што багатыя рэвалюцыйныя традыцыі, існаваўшыя ў сьценах Сьвіслацкай гімназіі, аказалі вялізны ўплыў на ўтварэньне сьветапогляду будучага рэвалюцыянэра. Іменна тут, у Сьвіслачы, пачалі засноўвацца рысы яго радыкальнага сьветапогляду.

Галоўнай ідэяй, якую К[астусь] Каліноўскі вынес са сьцен Сьвіслацкай гімназіі, была ідэя супольнай барацьбы прыгнечаных народаў супраць расейскага самадзяржаўя, ідэя рэвалюцыйнага саюзу паняволеных народаў у імя агульнай Свабоды. Ідэя гэтая сталася “Ідэяй ідэй” ягонага рэвалюцыйнага сьветапогляду.

У 1851 г. браты Каліноўскія часова разсталісь. Пасьля пераводу Сьвіслацкай гімназіі ў Шаўлі, Віктар як вучань выпускной клясы пераехаў у Горадню, каб закончыць там сярэднюю адукацыю ў мясцовай гімназіі. Атрымаўшы атэстат, ён у 1852 г. паступіў у Маскоўскі ўнівэрсытэт на мэдычны факультэт.

Кастусь Каліноўскі застаўся ў Сьвіслачы, дзе замест гімназіі было створана пяцікласнае дваранскае вучылішча, якое ён закончыў у 1852 г.

Пасьля папярэдняй падрыхтоўкі, паколькі праграма была значна ніжэйшая за праграму сямікляснай гімназіі ды не давала права на паступленьне ў вышэйшую навучальную ўстанову, К[астусь] Каліноўскі падаўся ў Маскву, каб быць студэнтам унівэрсытэту, дзе вучыўся Віктар. У 1856 г. браты пераехалі ў Пецярбург. Ужо ў часе знаходжаньня Віктара й Кастуся ў Пецярбурзе Сьвіслацкае вучылішча напаткаў удар: у 1858 г. яно было ператворанае ў прагімназію, што адпавядала чатыром малодшым клясам гімназіі.

Аднак і гэта мера не прынесла жаданых вынікаў: рэвалюцыйны дух з прагімназіі й пасьля гэтага не зьнік. Калі ў гістарычным Княстве Літоўскім успыхнула паўстаньне 1863 г., 16 вучняў Сьвіслацкай прагімназіі (паводля іншых крыніцаў — 10) далучыліся да паўстанцаў. За ўдзел гімназістаў у паўстаньні 1863 г. прагімназія ў наступным го-

---

[30] Маецца на ўвазе **Міхал Кюхельбэкер** (рус. *Михаил Кюхельбекер*, 1798—1859), вайсковец, дзекабрыст.

дзе па распараджэньню Мураўёва-вешальніка[31] была закрыта. Такім чынам, апошнім у летапісе гімназіі зьяўляецца 1864 год.

Вось такая ў агульных рысах гісторыя першай у Горадзенскай губэрні сьвецкай сярэдняй школы, якая адыграла выдатную ролю ў гісторыі й вызваленчай барацьбе Кастуся Каліноўскага.

## Лісты[32]

Чыкага, 15 лістапада 1972 г.

Дарагія Суродзічы!

Да Вас гэты нечаканы зварот. Вы ведаеце ўжо нашыя публікацыі, як навуковы часапіс "Літва"[33] № 1—4, кніжкі з гісторыі Беларусі і іншыя творы, у якіх выяўлена аграмадная дасьледчая праца ва ўсіх дзялянках беларусаведы, крытыка варожай нам літаратуры, "сьцёбаньне" беларускіх аўтараў, якія паўтараюць чужыя варожыя нам установкі замест самастойна дасьледваць і пераацэньваць згодна з гістарычнай праўдай важныя этапы нашага мінулага, абарона нашай нацыі ды выхаваўчая роля гісторыі ў нашым нацыянальным адраджэньні. Цяпер у нас поўнасьцю падрыхтаваныя дзьве вельмі цэнныя працы: часапіс "Літва" № 5 і "Вытокі Беларускага Народу", першы том 5-томнай гісторыі Беларусі. У № 5 "Літвы" маюцца такія вельмі цэнныя працы: М[іколы] Волацiча[34] "Тэрыторыя і насельніцтва Беларусі ў сучасную пару", дзе дэтальна паказаны статыстычны агляд тэрытарыяльных і папуляцыйных пераменаў за 70 г. нашага стагодзьдзя. Тут усе пытаньні абаснаваныя на фактах з многімі ілюстрацыйнымі дапаможнікамі. Паказаны нашыя нацыянальныя страты ў першай і другой вайне, у выніку расейскага наступу і беларусазабойчай палітыкі бальшавікоў. Паказаны сучасны рэнэсанс у БССР. Дэтальна паказаны лікі нашай эміграцыі на ўсход і захад і цяперашні стан нашага расьцярушанага народу. Паказаныя таксама дэтальна перамены ў насельніцтве Беларусі ў выніку бальшавіцкае акцыі перасяленьня і ўсяленьня чужога элемэнту; навуковыя й нацыянальныя кадры БССР і пэрспэктывы на будучыню.

---

[31] **Міхаіл Мураўёў Вешальнік** (1796—1866), расейскі дзяржаўны дзеяч. Ад 1831 г. быў гродзенскім губэрнатарам і браў удзел у задушэньні паўстаньня 1830—1831 гг. У часы паўстаньня 1863—1864 гг. быў прызначаны галоўным кіраўніком Паўночна-Заходняга краю й набыў вядомасьць жорсткім задушэньнем паўстаньня на беларуска-літоўскіх землях.

[32] Арыгіналы лістоў захоўваюцца ў архіве Янкі Запрудніка.

[33] **"Litva"** — часопіс, які пазыцыянаваўся як "навуковы", выдаваны Вацлавам Пануцэвічам у Чыкага ў 1967—1973 гг.

[34] **Мікола Волацiч** — псэўданім Вацлава Пануцэвіча.

У артыкуле С[таніслава] Аляксандровіча[35] дасьледуецца пытаньне ролі мястэчак Беларусі ў 16 ст. і першай палове 17 ст. Аўтар на аснове гістарычных матарыялаў даводзіць, што палітыка ВКЛ стымулявала да ўрбанізацыі ды разьвіцьця мястэчак і гарадоў як нацыянальных рухавікоў у разьвіцьці Беларусі насупраць расейскабальшавіцка-польскіх штампаў, быццам у 17—18 ст. ст. наступіў культурна-эканамічны заняпад Беларусі.

У аграмадным прадаўжэньні нарысу "Люблінскай Вуніі" В[ацлаў] Папуцэвіч разглядае на аснове дакумантаў ход падзеяў ад сьмерці Жыгімонта Старога[36] (1548) да Люблінскай Вуніі, якая была барацьба Беларусаў з палякамі на соймах, у публікацыях, як насядалі Масква і Польшча, як усё-ж такі абараніліся Беларусы, і Люблінская Вунія ня была зьдзяйсьненьнем польскіх募араў ліквідацыі нашай дзяржаўнасьці і самастойнасьці. Паказваюцца аб'ектыўна дасягненьні нашай дыплямацыі, міма здрады Жыгімонта Аўгуста[37]. Гэтая аграмадная праца В[ацлава] Папуцэвіча пра Л[юблінскую] В[унію] яшчэ ня скончана і будзе працягвацца ў № 6 "Літвы" і ў далейшых нумарах, паколькі на Люблінскую Вунію вельмі насядаюць Палякі.

Па-за гэтымі працамі ў № 5 "Літвы" маса цікавых матарыялаў кароткага нарысу. Хроніка й Крытыка.

У першым томе "Гісторыі Беларусі" даецца сумленны навуковы досьлед аўтарства В[ацлава] Пануцэвіча аб каранях беларускай нацыі, аб нарастаньні дзяржаўнай арганізацыі на прасторы часу ад ст. перад Хр[ыстом] да X ст. пасьля Хр[ыста] і ўсё на аснове багатых раскопак і старых пісаных крыніцаў. У сьвятле іх становіцца ясным, што беларуская этнічная тэрыторыя ўтварылася прыблізна ў 8 ст. перад Хр[ыстом] у сувязі з натуральнымі пушчанскімі абставінамі. У часапісе маюцца цікавыя кароткія нарысы.

Да Вас, чытачы, просьба. Каб мы змаглі ў хуткім часе апублікаваць названыя важныя працы, патрэбная Вашая хуткая дапамога. Мы ня просім нейкіх асаблівых ахвяраў, але адно ў выглядзе прэнумараты (перадаплаты за нашыя публікацыі), гэта значыць, просім прыслаць наперад 8 даляраў на кошты друку і рассылкі гэтых твораў (4 дал[яры] за кніжку), бо мы ў цяперашнім грашовым стане ніяк ня можам апублікаваць названых працаў. Цана кніжкі адно пакрые нашыя выдаткі

[35] **Станіслаў Александровіч** (пол. *Stanisław Aleksandrowicz,* 1931—2015), польскі гісторык, спэцыяліст па гісторыі Ўсходняй Эўропы XIV—XIX стст., а таксама гісторыі картаграфіі. Аўтар прац па гісторыі мястэчак, рамяства й гандлю ў Беларусі й Літве.

[36] **Жыгімонт I Стары** (1467—1548), вялікі князь літоўскі й кароль польскі (1506—1548).

[37] **Жыгімонт II Аўгуст** (1520—1572), вялікі князь літоўскі (1544—1572) і кароль польскі (1548—1572), сын Жыгімонта I Старога й Боны Сфорцы.

тэхнічнага характару (папера, хварбы, малюнкі, збрушараваньне), але за намі астаецца аграмадны кошт публікацыяў, які сягае ў тысячы даляраў.

Нам вось гэты крытычны кошт публікацыяў, на які трэба было вылажыць пакрыцьцё наперад, стварае грашовую камплікацыю і безнадзейнасьць. Вашая спагада здолее вырвацца нам з тупіку, і мы зможам прадаўжаць нашую дзейнасьць.

Дык наш вялікі заклік: Адгукнецеся спагадна!

Ваш В[ацлаў] Папуцэвіч.

Студзень 1972 г.

Пільная й важная справа.

Як стала ведама, каля 55 кангрэсмэнаў ніжняй Палаты амэрыканскага Кангрэсу плянуюць на чарговай сэсіі, якая пачнецца 18 студзеня 1973 году, прыняць рэзалюцыю ў выглядзе закліку да Прэзыдэнта Ніксана[38], каб урад ЗША паставіў на парадак асамблеі Зьедналых Народаў выключэньне з АЗН (УНО)[39] Беларусі і Ўкраіны на той аснове, што гэтыя дзьве савецкія Рэспублікі ня маюць поўнай дзяржаўнай самастойнасьці.

Не памогуць тут працы круталевічаў[40] і іншых абаронцаў дзяржаўнасьці БССР і УССР, ані спасылкі на канстытуцыі СССР і названых двух рэспублікаў, ані тая ці іншая рыторыка. Факт астаецца фактам: Масква тармозіць ужо 27 год, ад часу ўвядзеньня Беларусі і Ўкраіны як поўнапраўных сяброў-заснавальнікаў Арганізацыі Зьедналых Нацыяў, справу прызнаньня гэтым рэспублікам і народам так вялікай ваеннай цаной свайго нацыянальнага права на поўнае дзяржаўнае самакіраваньне. Няраз ужо ставілася ўрадам ЗША пытаньне ўстанаўленьня ў Беларусі і Ўкраіне амбасадаў і консулятаў замежных краін ды так-жа прадстаўніцтваў ад Беларусі і Ўкраіны ў іншых дзяржавах. Але заўсёды Масква, кіруючыся сваім імпэрыялізмам і каляніяльнай палітыкай, адсоўвала гэтую справу на пазьней ды была задаволена, што так танным коштам можа мець у АЗН два лішнія ў сваёй кішэні галасы, як дзіўная дзяржава ва ўсёй Арганізацыі з ТРЫМА ГАЛАСАМІ, калі ўсе іншыя, уключаючы і ЗША, у саюз якой уваходзяць аж 50 роўнапраўных стэйтаў-дзяржаваў, маюць згодна з канстытуцыяй АЗН толькі АДЗІН

[38] **Рычард Ніксан** (анг. *Richard Milhous Nixon*, 1913—1994), 37-ы прэзыдэнт ЗША (1969—1974).

[39] **АЗН (УНО)** — Арганізацыя Злучаных (Аб'яднаных) Нацый (*United Nations Organization*).

[40] Маецца на ўвазе **Вадзім Круталевіч** (1922—2006), юрыст, гісторык, сацыёляг, доктар юрыдычных навук. Ад 1954 г. працаваў у Інстытуце філязофіі й права АН БССР. У 1974 г. абараніў доктарскую дысэртацыю "Правал контррэвалюцыйных планаў стварэння беларускай буржуазнай дзяржавы і ўтварэння БССР (кастрычнік 1917 — люты 1919 г.)".

голас. Ясная рэч, нельга больш цярпець гэткай недарэчнасьці. Або так, або гэтак. Або Масква нарэшце прызнае Беларусі і Ўкраіне поўную дзяржаўную самастойнасьць зь міністрамі замежных справаў і дзяржаўнымі прадстаўніцтвамі (амбасады, кансуляты, місіі) — тады гэтыя народы ня могуць быць адлучаныя ад АЗН, а калі яна надалей хоча прадаўжаць імпэрыялістычную палітыку ды баіцца даць гэтым слаўным народам юрыдычнай поўнай самастойнасьці, то хто-ж можа талераваць упрывілёванае становішча Масквы ў АЗН?

Таму мы клічам нашых патрыётаў у Беларусі пільна сачыць за насьпяваючай справай, бо можа здарыцца, што цяперашні статус БССР будзе скасаваны на міжнародным грунце. Трэба націскаць на Маскву, каб яна апамяталася ды нарэшце прызнала Беларусі поўны юрыдычны й фактычны статус незалежнай дзяржаўнасьці, за што змагаўся й змагаецца беларускі народ. Далей ужо нельга цярпець каляніяльнай эксплятацыі беларускага народу.

В[ацлаў] Пануцэвіч.

Чыкага, 9.12.72.

Вельмі паважаны Спадар Я[нка] Запруднік.
Дарагі Сябра,

Дзякую за спагадны водгук на мой заклік. Адгукнулася значная колькасьць людзей, так што закупіў патрэбныя матарыялы ды прыступіў да друку. Дзякую таксама за англамоўны журнал, Вамі выдаваны для маладзейшага пакаленьня. Прэзыдэнт др. Жук[41] клікаў мяне на зборку БНР у Дэтройце на *Thanksgiving Day*[42]. У нас была і ёсьць суматоха ў шпіталі, дзе я працую: тады быў страйк нурскаў[43], цяпер Дырэктар Шпіталя звальняе з работы 1000 ч[алавек]. Аказваецца, што дэмакраты ў выбарах прасьвісталі грошы, а цяпер сякуць па затрудненым пэрсанэлу. Я вонкі гэтага нахлыну дзеля свайго стажу. Але ня змог прыехаць у Дэтройт. Прэзыдэнт піша, што таксама з Кліўланду нікога ня было, так што толькі ў рамках Дэтройту яны мелі зборку ды адзначылі Дзень Беларускіх Гэрояў. Дадае, што наглядаецца малая зацікаўленасьць сярод Беларусаў справамі БНР. Я яму сёньня адпісаў, што справа гэтак і прадстаўляецца. Скончыўся час, калі ішла “барацьба” паміж нашымі згрупаваньнямі. Настае новая пара, калі ўсе сьведамыя суродзічы з маладзейшага пакаленьня пачалі ўключацца пад сьцягам “*minority*”[44] ў абароне вызвольнай барацьбы Беларусі.

[41] Маецца на ўвазе Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

[42] **Дзень удзячнасьці** (анг. *Thanksgiving Day*) — дзяржаўнае сьвята ў ЗША, што адзначаецца ў чацьверты чацьвер лістападу.

[43] ***Nurse*** (анг.) — мэдбрат / мэдсястра.

[44] Меншасьці.

Я рэкамэндаваў Прэзыдэнту каардынацыйную акцыю БНР названай акцыі ды ігнарацыю ўсякіх апазыцыяў ці дывэрсіі. У надыходзячым 1973 г., мне здаецца, патрэба выдаваць (па-беларуску) месячны Бюлетэнь БНР, які каардынаваў-бы нацыянальную нашую барацьбу на 1973 г. Тут трэба было-б даваць аналізу міжнароднага палажэньня, становішча ў БССР, у вольным сьвеце, думкі беларускай эміграцыі і яе дзейнасьць без падзелу на ўгрупаваньні. Прэзыдэнт у гутарцы са мной на сустрэчы ў Канадзе рабіў уражаньне, што ён не разумее вялікага сучаснага працэсу ўсяго глобу й нашага становішча. Ён як быццам трымаецца даўно пераажытых формаў, установак, якія фармавалі сьветапогляд маладзейшага пакаленьня ў першай палове нашага веку. Ён "верыць" у нейкія партыі, блёкі і г. д. Калі людзі сёньня "абыякавыя" да розных угруповак, то гэта ўжо поступ. Нам нельга закранаць розьніцаў, а ўсё, што нас лучыць. Вось гэткім злучвом быў бы Бюлетэнь БНР, які таксама быў-бы дакумантам нашай дзейнасьці. Я ракамандаваў Прэзыдэнту Вашую Асобу як найлепшага ў гэтай справе. Магчыма, мы залішня хапаемся за бягучыя (таксама важныя справы), але не глядзім на каардынацыю руху, на інсьпірацыю ды ідэйнае праваднцтва. Калі далей справа пакоціцца гэтым шляхам, мы згубім шлях ідэі БНР. А ўсё-ж гэты шлях быў вызначаны нашым народам у "крывавых муках" ды быў дастаткова сьветлы, так што пасьля 50 гадоў бальшавіцкага панаваньня — ён больш прагрэсыўны. Прашу адгукнуцца на мае рэфлексыі, каб магчы знайсьці вытычныя на 1973 г.

Гарачыя прывітаньні й пажаданьні Вам усім у сям'і з нагоды Каляд і Новага Году.

Ваш В[ацлаў] Пануцэвіч.

## Артыкулы Вацлава Пануцэвіча ў газэтах "Бацькаўшчына" й "Беларус"

**Пануцэвіч, Вацлаў. А ў кішані — вялікая фіга** // Беларус. № 107. Люты 1966. С. 2.

Адказ на артыкул Я-скага ("Беларуская Думка". № 8. 1965) з нападкамі на Франца Кушаля за артыкул пра 20-я ўгодкі пераходу дывізіі "Беларусь" да амэрыканцаў.

**Пануцэвіч, Вацлаў. Айцец Міхась Урбановіч (30.10.1890—4.08.1973) //** Беларус. № 197. Верасень 1973. С. 2.

**Пануцэвіч, В[ацлаў]. Айцец Уладзімер Тарасэвіч Архімандрытам //** Беларус. № 215. Сакавік 1975. С. 3.

**Пануцэвіч, В[ацлаў]. Вялікая царкоўная урачыстасьць у Чыкага //** Беларус. № 218. Чырвень 1975. С. 1.

**Пануцэвіч, В[ацлаў]. Галоўная школа Вялікага Княства Літоўскага. 1775—1803. (З гісторыі вышэйшых школаў у Беларусі)** // Бацькаўшчына. № 38—39 (474—475). 18 кастрычніка 1959. С. 4—5.

**Пануцэвіч, В[ацлаў]. Горадзеншчына ў нацыянальным руху 1918—1919 гадох** // Бацькаўшчына. № 3—4 (617—618). Сакавік 1964. С. 4—7; № 5—6 (619—620). Травень 1964. С. 2—7; № 7—8 (621—622). Ліпень 1964. С. 2—7; № 9—10 (623—624). Жнівень 1964. С. 4—5.

**Пануцэвіч, В[ацлаў]. З гісторыі вышэйшых школаў у Беларусі** // Бацькаўшчына. № 29—30 (415—416). 10 жніўня 1958. С. 3—7; № 31 (417). 17 жніўня 1958. С. 3.

**Пануцэвіч, В[ацлаў]. Змагарнае паўстагодзьдзя** // Беларус. № 142. Люты 1969. С. 3.

**Пануцэвіч, В[ацлаў]. Камунікат Галоўнай Кватэры ЗБСН у справе скаўцкай канфэрэнцыі 9—10 сакавіка 1949** // Бацькаўшчына. № 9 (53). 6 красавіка 1949. С. 3.

**Пануцэвіч, В[ацлаў]. Кракаўскі Унівэрсытэт і перадскарынаўскія Крывічы з навуковымі тытуламі. (З нашай мінуўшчыны)** // Бацькаўшчына. № 20 (504). 15 травеня 1960. С. 3; № 21 (505). 22 травеня 1960. С. 3—4 (подпіс: Мікола Волаціч).

**Пануцэвіч, В[ацлаў]. “Палякі” на Беларусі** // Беларус. № 201. Студзень 1974. С. 4.

**Пануцэвіч, В[ацлаў]. Плян Агінскага ў 1811 годзе аб узнаўленьні Вялікага Княства Літоўскага** // Бацькаўшчына. № 35 (471). 20 верасьня 1959. С. 2—3; № 36 (472). 27 верасьня 1959. С. 2—3; № 37 (473). 4 кастрычніка 1959. С. 2—3; № 38—39 (474—475). 18 кастрычніка 1959. С. 3.

**Пануцэвіч, В[ацлаў]. Тры Віленскія Мучанікі: іх паходжаньне і накіраванасьць** // Бацькаўшчына. № 12—13 (547—548). 26 сакавіка 1961. С. 5—7; № 14—15 (549—550). Вялікдзень 1961. С. 4, 7.

**Пануцэвіч, В[ацлаў]. Сьв. Афрасіня Полацкая — патронка Беларусі** // Бацькаўшчына. № 6 (442). 8 лютага 1959. С. 2—3; № 7—8 (443—444). 22 лютага 1959. С. 4—6.

**Пануцэвіч, В[ацлаў]. Што пасееш, то й пажнеш...** // Бацькаўшчына. № 20 (406). 18 травеня 1958. С. 4.

*Падрыхтоўка да друку, прадмова й камэнтары*
*Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча*

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# ДАКУМЭНТЫ ЯНКІ ЧАРАПУКА-ЗМАГАРА Й ЯЗЭПА ВАРОНКІ З КАЛЕКЦЫІ БІНІМУ Ў БДАМЛІМ[1]

Сярод дакумэнтаў, што зьберагаліся ў Беларускім інстытуце навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку й на працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў паступова былі перададзеныя ў Беларускі дзяржаўны архіў-музэй літаратуры й мастацтва (БДАМЛіМ), вылучаюцца два невялікія комплексы, зьвязаныя з асобамі прадстаўнікоў БНР і беларускіх дзеячаў у Чыкага ў 1920—1950-я гг. Янкам Чарапуком-Змагаром і Язэпам Варонкам.

Спачатку крыху перадгісторыі. У траўні 1922 г. з ідэяй арганізацыі беларускай дзейнасьці ў ЗША й пошуку фінансаваньня для БНР у Нью-Ёрку, а потым у Чыкага зьявіўся афіцыйны прадстаўнік беларускага экзыльнага ўраду Янка Чарапук-Змагар. У 1923 г. яму ўдалося стварыць адну зь першых беларускіх нацыянальных арганізацыяў у Чыкага й пераканаць урад БНР скіраваць на дапамогу яшчэ аднаго дзеяча — першага старшыню Народнага сакратарыяту Язэпа Варонку. Разам афіцыйныя ўпаўнаважаныя БНР заняліся актыўнай працай. Ужо 1 верасьня 1923 г. у Чыкага адбыўся беларускі зьезд, у якім ўзялі ўдзел дэлегаты зь Вісконсіну, Агаё, Індыяны, Мічыгану, Нью-Джэрзі й Нью-Ёрку й на якім была заснаваная Беларуска-Амэрыканская нацыянальная асацыяцыя (саюз) на чале зь Язэпам Варонкам. Гэтая арганізацыя мела на мэце гуртаваць беларусаў у Новым Сьвеце вакол ідэі незалежнай беларускай дзяржаўнасьці, абараняць правы беларусаў, аказваць палітычную, культурную й эканамічную дапамогу бацькаўшчыне. У выніку на колькі дзесяцігодзьдзяў Чыкага стаў цэнтрам беларускай прысутнасьці ў ЗША. Тут ладзіліся беларускія мерапрыемствы, ад 1924 г. была распачатая традыцыя масавага сьвяткаваньня 25 Сакавіка, стала выходзіць газэта *“Белорусская Трибуна”* (1926—1932, пераважна ў рускай мове, але на беларускія тэмы й скіраваная таксама на беларусаў).

[1] Гэта тэкст дакладу, прачытанага на XVI Архіўных чытаньнях у Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва 4 кастрычніка 2018 г.

У канцы 1920-х — на пачатку 1930-х гг. шляхі Янкі Чарапука й Язэпа Варонкі сталі разыходзіцца. Апошні ўсё больш ангажаваўся ў рускіх эміграцыйных арганізацыях (дзе, што праўда, было багата выхадцаў зь Беларусі), увайшоў у кіраўніцтва Рускага народнага праваслаўнага таварыства, стаў дырэктарам заснаванага ў 1933 г. першага ў ЗША Рускага радыё, перадачы якога часта мелі выразную прасавецкую скіраванасьць, што асабліва стала заўважным з пачаткам Другой сусьветнай вайны. Янка Чарапук жа працягваў менавіта беларускую дзейнасьць. У 1930-я гг. ён стаў сябрам амэрыканскай каталіцкай арганізацыі "Рыцары Калюмба", выкарыстоўваючы новыя кантакты для прапаганды беларускай справы ў палітычных колах ЗША. А ў 1942 г. зь ягоным удзелам была заснаваная новая беларуская структура ў Чыкага — Беларуска-Амэрыканская нацыянальная рада, што працягнула сваю працу й пасьля сканчэньня Другой сусьветнай вайны з прыбыцьцём беларусаў з новай хвалі эміграцыі. Зь яе прадстаўнікамі кантактавалі й Язэп Варонка, і Янка Чарапук-Змагар да свайго сыходу адпаведна ў 1952 і 1957 гг.

Менавіта дзякуючы гэтай новай эміграцыі й дайшлі да нас дакумэнты згаданых дзеячаў. Лёс архіву Язэпа Варонкі, магчыма праз ягоную большую заангажаванасьць пры канцы жыцьця ў дзейнасьці рускай эміграцыі, застаецца невядомы. Дакумэнты, якія апынуліся ў БІНіМе, — гэта пераважна здымкі дзеяча з пачатку 1930-х гг. (індывідуальныя і ў групах), што зьберагаліся ў архіве паплечніка абодвух дзеячаў ад самага пачатку беларускай працы ў Чыкага, скарбніка розных беларускіх арганізацый Макара Аблажэя. Ён нашмат перажыў сваіх калегаў па грамадзкай дзейнасьці, памёр у 1984 г. Ад Макара Аблажэя здымкі трапілі да шматгадовага сакратара Беларуска-Амэрыканскай нацыянальнай рады Міколы Латушкіна, а пасьля ягонай сьмерці ў 2006 г. дзеці пераслалі іх Вітаўту Кіпелю ў БІНіМ (пра гэта сьведчаць адпаведныя надпісы на архіўнай капэрце). Праўда, некалькі здымкаў з калекцыі Макара Аблажэя зьберагаліся ў БІНіМе й раней, недзе ад 1990-х гг. У выніку зь БІНіМу ў БДАМЛіМ трапілі 12 здымкаў Язэпа Варонкі з пачатку 1930-х гг. (індывідуальныя і ў групах з Янкам Чарапуком, Макарам Аблажэем, беларускімі дзецьмі ў Чыкага й інш. — ня ўсе яны анатаваныя), 5 здымкаў Макара Аблажэя розных часоў, а таксама здымкі магілаў Варонкі й Аблажэя.

Таксама зь Язэпам Варонкам зьвязаныя два рэдкія друкаваныя выданьні, якія перахоўваліся ў БІНіМе. Першае зь іх — *"Русский народный календарь на 1929 г."*, рэдактарам якога быў Язэп Варонка. У выданьні ёсьць яго прадмова, рускамоўныя вершы, падпісаныя псэўданімам *Юрий Вегов*, магчыма, і некаторыя іншыя публікацыі, а таксама шэраг фотаздымкаў, у тым ліку й зь сябрамі аддзелу Рускага народнага праваслаўнага таварыства ў Дэтройце. Гэтае выданьне — ня толькі цікавы

ўзор друкаў расейскай эміграцыі, але і, як выглядае, важнае сьведчаньне беларускай прысутнасьці ў ЗША (сярод іншых там пазначаныя й беларускія сьвяты).

Другое выданьне — “*Памятный альбом 10-летия Русского Радио в Чикаго (1933—1943)*” з партрэтам Язэпа Варонкі на вокладцы. Ягоная ж (як дырэктара) і прадмова да выданьня, дзе распавядаецца кароткая гісторыя Рускага радыё ў Чыкага. На старонках альбому можна спаткаць таксама колькі здымкаў дзеяча ў часе працы ў студыі або разам з супрацоўнікамі. Асноўны ж зьмест выданьня — вітаньні розных асобаў зь юбілеем радыё, прынагодная рэкляма, а таксама кароткія зьвесткі пра тых, хто працаваў на радыё ў розныя часы, выступаў з музычнымі нумарамі, быў гасьцямі й г. д. Сярод іншага цікава даведацца, што першым спонсарам радыё быў Васіль Музыка, уладальнік пахавальнай канторы ў Чыкага (як вядома зь іншых крыніцаў, беларус па паходжаньні). Цікава таксама адзначыць, што сярод вядомых нам імёнаў беларусаў, якія віншавалі радыё зь юбілеем, няма Янкі Чарапука (хоць ёсьць і Аблажэй, і Лобач, і Чопка, і іншыя, хто фігуруе ў сьпісах беларускіх арганізацыяў у Чыкага). Гэта дадаткова сьведчыць пра дачыненьні паміж двума дзеячамі. Поўны віншаваньняў і рэклямы альбом падае каштоўную інфармацыю й да біяграфіі Язэпа Варонкі, і да гісторыі эміграцыйнай (у тым ліку й беларускай) штодзённасьці ў Чыкага.



Язэп Варонка й Янка Чарапук-Змагар.
Чыкага, 1931 г.

У сэнсе захаванасьці дакумэнтаў Янку Чарапуку пашанцавала крыху болей, чым Язэпу Варонку. Некаторыя ягоныя асабістыя дакумэнты, найперш пашпарт, а таксама колькі здымкаў і візытоўка захоўваюцца сёньня ў Беларускай бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лёндане. У БІНіМе ж апынулася частка карэспандэнцыі дзеяча, пераважна з 1950-х гг., чарнавікі, а таксама некаторыя біяграфічныя дакумэнты. Дакладна невядома, якім чынам гэтыя дакумэнты трапілі ў інстытут. Відавочна, іх перадаў нехта зь сябраў Янкі Чарапука з ўжо паваеннай эміграцыі, хто меў блізкія стасункі зь ім. Гэта мог быць Вацлаў Пануцэвіч, аўтар

вялікага пасьмяротнага біяграфічнага нарысу пра дзеяча, апублікаванага ў газэце “Бацькаўшчына”[2], дзе адначасова былі зьмешчаныя выявы дыпляматычнага пашпарту й некалькі здымкаў Чарапука (праўда, гэта якраз з тых дакумэнтаў, што сёньня захоўваюцца ў Лёндане). Іншая кандыдатура на часовага ўласьніка дакумэнтаў дзеяча, да перадачы ў БІНіМ, — доктар Станіслаў Грынкевіч, якому Янка Чарапук дапамагаў з афармленьнем ягонай мэдычнай практыкі ў Чыкага. Маглі перахоўваць дакумэнты дзеяча і ў сям’і чыкагскіх беларусаў Будзькаў, зь якімі ён таксама быў блізкі. Як бы там ні было, але ў 1990-я гг. у архіве БІНіМу знаходзілася тэчка з дакумэнтамі Янкі Чарапука-Змагара, якая часткова стала падставай для публікацыі Лявона Юрэвіча “Сьвет эміграцыйнага эпісталярыю: З матэрыялаў архіву Рады БНР” у часопісе *“Arche”*[3]. Цягам жа апошніх гадоў згаданыя дакумэнты былі перададзеныя ў БДАМЛіМ.

Дакумэнты Янкі Чарапука-Змагара, што сёньня захоўваюцца ў архіве-музэі, можна падзяліць на некалькі групаў. Першая — гэта некалькі біяграфічных дакумэнтаў: даведка (на фірменным блянку, у двух паасобніках), выдадзеная дзеячу 26 сакавіка 1951 г., што ён ад 16 лістапада 1936 г. працаваў у дрэваапрацоўчай кампаніі *Chicago and Riverdale Lumbert Company*, памінальная картка, а таксама фотакопія тастамэнту, напісанага 12 сьнежня 1955 г. Цікава, што душапрыказчыкамі Чарапука выступаюць Васіль і Багдан Музыкі, уласьнікі пахавальнага бюро, што ўжо згадвалася вышэй. У сваім тастамэнце дзеяч апісвае, дзе й як яго варта пахаваць, які мае быць помнік, як разьмеркаваць грошы, што па ім застануцца. Ён асобна ўпісвае тых людзей, якія ім апекаваліся ў апошнія гады (прыкладам, Ядзьвігу Чарнэцкую, Ванду Махнач), просіць чацьвертую частку сумы аддаць на БІНіМ або іншую беларускую навуковую арганізацыю ў ЗША, а рэшту пераслаць сваякам у Новы Двор Сакольскага павету.

Другая група дакумэнтаў Янкі Чарапука — творчыя. Гэта найперш некалькі рукапісных нататак “Уваскасеньня Хрыстовага 34 Угодкі Прагалашэньня Нез. Беларусі”, *“Несчастный случай с ~~Янкой Чарапуком-Змагаром~~ Защитником Белоруссии”*, *“Этот номер посвящается Янку Чарапуку-Змагару”*. Невядома, для якіх мэтаў рабіліся гэтыя нататкі, але зь іх мы сярод іншага даведваемся пра тое, што ў кастрычніку 1955 г. зь дзеячам здарыўся няшчасны выпадак: на пешаходным пераходзе ён быў зьбіты машынай, у выніку чаго з паламанай нагою больш за тры

[2] В. П. Янка Чарапук-Змагар // Бацькаўшчына. № 51—52 (385—386). Каталіцкія Каляды 1957. С. 3, 6.

[3] ARCHE Skaryna. № 3 (17). 2001. Перадрук ў: Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум: Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні. Мінск, 2012. С. 476—501.

месяцы правёў у шпіталі. Магчыма, менавіта гэтае здарэньне выклікала жаданьне напісаць згаданы тастамэнт.

Таксама да творчых дакумэнтаў адносяцца рускамоўныя нататкі, пляны публікацыяў, выпіскі, цытаты невядомага пакуль прызначэньня. Магчыма, Янка Чарапук друкаваўся ў нейкіх рускамоўных эміграцыйных выданьнях. Прынамсі сярод папераў захавалася невялікая запіска ў пэрыёдык "*Русское обозрение*" наступнага зьместу: "*гг. Савицкий и Шуйский. Э. Будзько мой друг, будьте любезны дать и оказать с вашей стороны совет и возможное содействие. Ваш Змагар. 2.12.50. Чыкага*".

Вялікую цікавасьць выклікае афіцыйны зварот "Да Беларусаў Сьвета", напісаны рукой Янкі Чарапука і падпісаны таксама Язэпам Варонкам, дзе дзеячы даваеннай БНР выказваюць прызнаньне паўнамоцтваў паваеннай БНР на чале зь Міколам Абрамчыкам. Таксама ў паперах захавалася нататка пра прыезд новага прэзыдэнта БНР у Чыкага 9 лютага 1952 г., відавочна, са сьпісам удзельнікаў спатканьня.

Найвялікшую групу дакумэнтаў Янкі Чарапука-Змагара складае перапіска. Найбольш раньнімі паводле зьместу зьяўляюцца копіі лістоў: ад старшыні Прэзыдыюму Рады БНР Пётры Крэчэўскага ад 25.07.1923 г. (адрасаванае "*Члену Рады, і Упоўнаважанаму ў Амэрыцы ад Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі Івану Чарапуку*") аб праграме будучага беларускага кангрэсу ў ЗША й заданьнях працы, а таксама ад старшыні ўраду БНР Аляксандра Цьвікевіча ад 27.08.1923 пра падзяку Чарапуку за скліканьне першага зьезду беларускай эміграцыі ў Амэрыцы й аб прызначэньні яго сталым прадстаўніком БНР. Зьмест гэтых лістоў быў выдрукаваны ў згаданым артыкуле Вацлава Пануцэвіча ў газэце "Бацькаўшчына", і, магчыма, іх арыгіналы таксама трапілі ў лёнданскую Скарынаўку.

Пазьнейшага часу датычыць зварот Янкі Чарапука-Змагара ад 18 сакавіка 1943 г. у Брытанскую амбасаду ў Вашынгтоне з заклікам пасьля вызваленьня беларусаў ад нямецкай акупацыі спрыяць атрыманьню імі незалежнасьці, а ня новай акупацыі палякамі ці расейцамі. Відавочна, што Чарапук неаднойчы зьвяртаўся да амэрыканскіх і іншых палітычных структураў і дзеячаў у беларускіх справах. Так, прыкладам, захаваліся ліст да каліфарнійскага сэнатара Вільяма Ноланда (беларуская вэрсія), а таксама копія ліста да кангрэсмэна Томаса Гордана й адказ на яго. Да апошняга Янка Чарапук зьвяртаўся з просьбай дапамагчы пераехаць у ЗША зь Вялікабрытаніі дзецям свайго сябры Эдварда Чаславу й Людвіцы Будзькам. Янка Чарапук стараўся забясьпечыць ім ашуранс для прыезду, дзеля чаго пісаў у тым ліку і ў Талстоўскі фонд, ліст зь якога таксама захаваўся ў паперах дзеяча.

Яшчэ адзін цікавы сюжэт у ліставаньні — справа Міколы Дзямідава. Гэты дзеяч зьявіўся ў Чыкага з паваеннай хваляй эміграцыі й выклікаў

пэўныя падазрэньні ў сувязах з НКУС. Таму Янка Чарапук-Змагар напісаў ліст да генэрала Ўладыслава Андэрса з просьбай ахарактарызаваць Дзямідава, зь якім той разам некалі сядзеў у турме на Лубянцы. І копія ліста Чарапука, і арыгінальны адказ Андэрса захаваліся сярод папераў, што сёньня зьберагаюцца ў БДАМЛіМ.

Сярод захаваных лістоў найвялікшую частку складае ліставаньне з прадстаўнікамі паваеннай беларускай эміграцыі. Тут арыгінальныя пісьмы й паштоўкі Янкі Чарапука да ўладыкі БАПЦ Васіля (Тамашчыка) (2 лісты), Міколы Шчорса (2 лісты), Станіслава Грынкевіча (1 ліст), Эдварда й Часлава Будзькаў (11 лістоў і паштовак), Вацлава Пануцэвіча (9 лістоў і паштовак), Антона й Людвікі Бяленісаў (3 лісты й паштоўкі), Віталя Кажана (1 ліст), а таксама ў БІНіМ (1 ліст). Акрамя таго, захаваліся лісты ўладыкі Васіля (11 лістоў) і Міколы Шчорса (4 лісты) да чыкагскага беларуса. Некаторыя з гэтых лістоў (але далёка ня ўсе) былі апублікаваныя Лявонам Юрэвічам, іншыя яшчэ чакаюць сваіх дасьледчыкаў.

Да дакумэнтаў Янкі Чарапука дадаюцца таксама сучасныя ксэракопіі з амэрыканскіх газэтаў, пераважна зьвязаныя з пошукамі зьніклага ў часе вайны ў Карэі сына (гэты сюжэт падрабязна апісаны ў згаданым артыкуле Лявона Юрэвіча).

Агулам зь БІНіМу ў БДАМЛіМ трапіла 85 дакумэнтаў Янкі Чарапука-Змагара. Сёньня яны ў комплексе дакумэнтаў БІНіМу чакаюць на навукова-тэхнічную апрацоўку.

Калі зірнуць на даступныя ў публікацыях і інтэрнэце біяграфіі Янкі Чарапука й Язэпа Варонкі, то можна заўважыць, што асноўны зьмест іх складае апісаньне дзейнасьці да ад’езду ў ЗША. Амэрыканскі пэрыяд, хоць і значна больш працяглы па часе й ня менш плённы, застаецца па-за ўвагай біёграфаў. Захаваныя ў БІНіМе й перададзеныя ў БДАМЛіМ дакумэнты ўтрымліваюць багата зьвестак пра жыцьцё й дзейнасьць прадстаўнікоў БНР у ЗША. Безумоўна, гэта толькі фрагмэнты архіваў дзеячаў, але яны даюць выдатную магчымасьць для папаўненьня і ўдакладненьня іх біяграфіяў.

*Тэма нумару: Амэрыканская гісторыя*
*Установа*

**Лявон Юрэвіч**
*Нью-Ёрк*

# КРЫВІЦКАЕ (БЕЛАРУСКАЕ) НАВУКОВАЕ ТАВАРЫСТВА ПРАНЦІША СКАРЫНЫ Й ЧАСАПІС "ВЕДА"

Крывіцкае навуковае таварыства Пранціша Скарыны было закладзена 23 чэрвеня 1946 г. у Рэгэнсбургу; 5 траўня 1949 г. цэнтар Таварыства быў перанесены ў Нью-Ёрк. Вехі арганізацыі адпавядалі вехам эміграцыйнага жыцьця ейнага заснавальніка й кіраўніка Янкі Станкевіча.

Як паведамлялася ў рэдакцыйным звароце ў першым нумары часопісу Таварыства "Веда" (студзень 1951 г.): *«Няма такога народу, што не патрабаваў-бы навукі, а мы, Крывічы, або Беларусы, асабліва яе патрабуем. За апошнія 150 год нашае гісторыі, калі наш народ, страціўшы сваю незалежнасьць, жыў безгаспадарстваваым нявольным жыцьцём, нашая навука ляжала дзірваном. За гэты час сьвет пайшоў далёка ўперад. Наўчоныя чужыя, а нашыя нацыянальна нясьведамыя, пад нацыянальнай фірмай чужой, шмат чаго вынайшлі, адкрылі, стварылі. Цяперашнія наўчоныя нашыя, ужо нацыянальна сьведамыя, не патрабуюць гэтага рабіць нанава, могуць ісьці далей. Але ё галіны веды вельмі нацыянальныя, такія, як навука нацыянальнае мовы й літаратуры, гісторыі свае бацькаўшчыны, яе этнографіі, археалёгіі, а ў ладнай меры й пазнаньне прыродных багацьцяў роднага краю і яго гаспадарскіх магчымасьцяў. У гэтых галінах веды ніколі чужнік ня зробе таго, што наўчоны свайго народу. І пагатове ня змогуць зрабіць гэтага тыя чужнікі, што часта падыходзяць тэндэнцыйна да пытаньняў, зьвязаных із жыцьцём нашага народу. Дзеля таго асабліва ў менаваных галінах веды, галінах так нам патрэбных, мы, Крывічы, асталіся далёка ззаду ад іншых. Дык мусім даганяць. Навука нам тут патрэбная, як хлеб штадзённы. А тым часам у нашай бацькаўшчыне-Беларусі маладая навука крывіцкая, што так хараша стала разьвівацца ў 20-х гадох, запынена, нат чыста задушана рукамі камуністычнае Масквы, а ейныя сьвятары адныя забітыя, другія гінуць у няшчысьлёных савецкіх турмах і концтабарах. Цяпер навуковыя ўстановы Беларусі замест запраўднае навукі папулярызуюць "навуку" Леніна й Сталіна. Дык*

*адказнасьць за крывіцкую навуку ляжыць на наўчоных нашае эміграцыі. Ім не даець загадаў НКВД, ані ніхто іншы, яны могуць працаваць аб'ектыўна. Дыкжэ заданьне разьвіваць крывіцкую навуку ўзялі на сябе наўчоныя, зарганізаваныя ў Крывіцкім Навуковым Таварыстве Пранціша Скарыны. Ужо пяты год, як гэтае Таварыства працуе. Але жаль, што дагэтуль праца крывіцкіх наўчоных на чужыне магла бачыць сьвет толькі ў хорме рэфэратаў, чытаных на навуковых паседжаньнях Таварыства, зь якіх можа скарыстаць толькі малая колькасьць людзёў. Як кажная навуковая арганізацыя, так і нашая складаецца з малое колькасьці сяброў, каторых складак аніяк ня можа стаць на выдавецтва Таварыства. Доля "Веды", а зь ёй у ладнай меры і беларускай або крывіцкай веды-навукі наагул, залежыць вылучна ад паддзяржаньня яе матар'яльна беларускай эміграцыяй. Калі гэтая эміграцыя зразумее сваю і ўсяго нашага народу надзвычайную патрэбу ў сваім навуковым часапісе, яна нам паможа, і часапіс наш будзе разьвівацца, зможам таксама рабіць дадаткі для моладзежы; калі не зразумее, "Веда" замрэць.*

*Таварыства нашае завецца "Крывіцкім" — старым запраўдным назовам нашага народу; але пакуль назоў гэты агульна й канчальна ня прыняты як адзіны сучасны назоў нашага народу, у "Ведзе" могуць і будуць ужывацца таксама іншыя нашыя назовы, як другі праўдзівы назоў нашага народу "Літва", "Ліцьвіны" і як накінены нам Масквою, але нядаўна пашыраны і цяпер яшчэ ўжываны назоў "Беларусы". У кажным артыкуле будзе тый назоў, які ўжываець аўтар»*.

Пры заснаваньні таварыства жаданьне стацца ягонымі сябрамі, згодна недатаванага дакумэнту, што захоўваецца ў архіве БІНіМу, далі гісторык Леў Акіншэвіч, др. Станіслаў Грынкевіч, прафэсар мэдыцыны Мікалай Сяргееў, прафэсар геафізікі Вячаслаў Фядуковіч і прафэсар мэдыцыны Алена Фядуковіч, кампазытары Мікола Равенскі, Мікалай Куліковіч, навуковец Мікалай Дарашэвіч, дацэнт мэдыцыны Аляксандра Багдановіч, дацэнт Гаркавы, літаратары й літаратуразнаўцы Антон Адамовіч, Натальля Арсеньнева, др. Станіслаў Станкевіч, Вацлаў Пануцэвіч, праўнікі Леанід Галяк і Мікалай Кунцэвіч, матэматык Мячыслаў Рагажэцкі, а таксама Марыя Станкевічанка, Антон Шукелойць.

У архіве БІНіМу захоўваецца й пратакол першага сходу таварыства, у дзьвюх частках, які ўпершыню публікуецца ніжэй:

*Нью Ёрк, 22 студзеня 1950 г.*

*Пратакол Першага Сходу Беларускага Навуковага Таварыства імянем Пранціша Скарыны ў ЗГА.*

*Парадак дня:*

*1. Адчыненьне сходу і выбары старшынюючага і сакратара.*

*2. Рэфэрат др. Янкі Станкевіча на тэму: "Беларускія плямёны і іхнія гаспадарствы ў IX — XVI стагодзьдзях".*

*3. Зданьне лічбы за мінулы год.*

*4. Зьмены ў статуце.*

*5. Прыймо новых сяброў.*

*6. Плян працы на будучы год: выдаваньне часапісу, справа Вольнае Акадэміі і сяброўская складка.*

*7. Выбары новага прэзыдыюма і рэвізійнай камісіі.*

*На сходзе прысутнічала 11 асоб, а менавіта: Сп. Прэзыдэнт БНР інж. М[ікола] Абрамчык, сп. праф. Вячаслаў Федуковіч, праф. Мікола Дарашэвіч[1], др. Янка Станкевіч, інж. Мікола Гарошка[2], сп. Натальля Орса[3], спадарышня Валентына Барашкевіч, сп. Янка Ніхаёнак[4], сп. Янка Крэсла[5], сп. Шакун Янка[6], сп. Карпека (?) Янка і др. Еўгені Вярбіцкі[7].*

---

[1] **Мікола Дарашэвіч** (1898—1974), торфазнаўца, прафэсар, грамадзкі дзеяч. Пасьля Другой сусьветнай вайны апынуўся ў ЗША. Адзін з заснавальнікаў БАЗА, першы скарбнік арганізацыі. Сябра БІНіМу.

[2] **Мікола Гарошка** (1902—1979), грамадзкі дзеяч, інжынэр. Вучыўся ў Чэхаславаччыне, пасьля вяртаньня на радзіму працаваў у каапэрацыі. Пасьля Другой сусьветнай вайны — на эміграцыі, быў старшынём Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня ў 1949—1952 і 1965—1967 гг., таксама першым старшынём Фундацыі імя П. Крэчэўскага.

[3] **Натальля Орса** (1903—1990), грамадзкая дзяячка, пэдагог, жонка Аляксандра Орсы. Скончыла Ўкраінскі пэдагагічны інстытут у Празе. Ад 1950-х гг. жыла ў Нью-Ёрку. Выкладала ў беларускіх школах. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіла ва ўправу й кіравала жаночай сэкцыяй Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі.

[4] **Янка Ніхаёнак** (1920—1986), грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў Вэрмонце (ЗША), жыў у в. Лебедзева Маладзечанскага пав. У часы нямецкай акупацыі настаўнічаў. Ад 1944 г. на эміграцыі ў Францыі. Адзін зь першых прыбыў у ЗША й стаў адным з арганізатараў беларускага жыцьця. Выдаваў часопісы "Беларус у Амэрыцы", "Віці", дапамагаў у выданьні першых нумароў газэты "Беларус". Быў сябрам БАЗА.

[5] Пра **Янку Крэсла** вядома толькі, што ён быў сябрам Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА.

[6] **Янка Шакун** (1916—1993), пісьменьнік, сябра БІНіМу. Жыў у ЗША.

[7] **Аўген Вярбіцкі** (1922—1986), грамадзкі дзеяч, навуковец, хімік, доктар навук. Жыў у ЗША, спэцыялізаваўся ў хіміі мясной прадукцыі. Меў пасаду галоўнага навукоўца ў ваеннай лябараторыі дасьледаваньняў ежы. Стваральнік "касьмічнай ежы", што выкарыстоўвалася ў палётах амэрыканскіх астранаўтаў. Быў сябрам Нью-Ёрскай акадэміі навук, Амэрыканскага хімічнага таварыства, Амэрыканскага інстытуту тэхналёгіі ежы,

*Пункт 1.*

*Сход быў адчынены Старшынёй БНТ імянем Пранціша Скарыны сп. др. Янкам Станкевічам. На старшыню сходу быў выбраны сп. праф. М[ікола] Дарашэвіч, на сакратара др. Е[ўгені] Вярбіцкі. Пасьля адчытаньня парадку дня старшынёю сходу былі паданы наступныя прапановы:*

*1. Інж. М[ікола] Гарошка: скараціць парадак дня, а менавіта, сяньня, г. з. 22 студзеня 1950 г. заслухаць толькі рэфэрат др. Янкі Станкевіча.*

*2. Праф. М[ікола] Дарашэвіч: заслухаць рэфэрат і па-магчымасьці пункт 3 парадку дня.*

*Гэтыя дзьве прапановы былі паданы на галасаваньне і 5 галасамі за прапанову 1. проці 2-х галасоў за прапанову 2. была прынята прапанова 1-шая.*

*Пасьля таго др. Янка Станкевіч запрапанаваў правядзеньне прадаўжэньня сходу за 4 нядзелі, г. з 19-га лютага 1950 г., што было агульным лікам прысутных зацьверджана.*

*Пункт 2. Рэфэрат др. Янкі Станкевіча на тэму "Беларускія плямёны і іхнія гаспадарствы ў IX—XVI стагодзьдзях". (Рэфэрат будзе надрукаваны дакладчыкам у прэсе).*

*Адносна рэфэрата Янкі Станкевіча была паднятая дыскусыя наступнымі прысутнымі:*

*1. Інж. М[ікола] Гарошка высказаў словы прызнаньня вялікае працы, якую выканаў др. Янка Станкевіч, працуючы над яго рэфэратам, бяручы тымбольш пад увагу недахоп бібліятэкі. Многае з гісторыі Беларускіх Князьстваў ад IX—XVI стагодзьдзяў было пачута першы раз. Аднак больш можна было-б падкрэсьліць наступныя палітычныя моманты:*

*а) Лёс Ноўгародзкага й Пскоўскага князьстваў быў моцна зьвязаны з лёсам Вялікага Княства Літоўскага. Асабліва за часоў Гэдыміна і Вітаўта князьствы Ноўгародзкае й Пскоўскае былі моцна залежны ад Вялікага Князьства Літоўскага. Каб не нэгатыўныя адносіны Польшчы да Вялікага Князьства Літоўскага, то-бы Ноўгарад і Пскоў мажа-бы і не папалі пад панаваньне ўзрастаючага тады князьства Маскоўскага. Аб гэтым піша вельмі абшырна рускі вучоны Кастамараў*[8]*. Нэгатыўныя адносіны Польшчы аслабілі сілу Вялікага Князьства, чым дано перавагу Князьству Маскоўскаму. Аб тым,*

Амэрыканскага таварыства мясной прамысловасьці і інш. Сябра БАЗА, у 1954—1957 гг. быў намесьнікам старшыні Галоўнай управы арганізацыі.

[8] **Мікалай Кастамараў** (рус. *Николай Костомаров*, 1817—1885), расейскі грамадзкі дзеяч, гісторык, публіцыст, аўтар шматтамовага выданьня "*Русская история в жизнеописаниях ее главнейших деятелей*".

*што Ноўгарадцы, напр., былі варожа настаўлены да Маскоўскага Князьства, сьведчыць той факт, што пры заваяваньні Ноўгараду царом Іванам Лютым Ноўгарад быў поўнасьцю зьнішчаны. Паводле Кастамарава, Ноўгарад і Пскоў хацелі быць пад апекай Князьства Літоўскага. Каб гэта было сталася, сказаў сп. інж. Гарошка, хто ведае, які-бы выгляд мела сяньня Ўсходняя Эўропа.*

*b) Дакладчыкам было мякка выражана беларускасьць беларускага племяні Севяране. Сяньня Ўкраінцы ўважаюць усю Дзісьненшчыну, дзе жыло наша племя Севяране, як свае вобласьці. Яны апіраюцца на тое, што як-будта жыхары Дзісьненшчыны ў часе Брэсцкага міру*[9] *прасілі аб далучэньні іх да Ўкраіны. Навуковае Таварыства мусі больш прысьвяціць увагі гэтаму пытаньню.*

*c) Беларускае племя Дзераўляньне, якое засяліла абшары Палесься далёка на поўдзень, ёсьць сяньня ўважана Ўкраінцамі таксама за ўкраінскае. Калі жыхары паўдзённага Палесься і маюць у сваёй мове мамэнты ўкраінскія, то ў іх мове перавышаюць беларускія мамэнты. Этнаграфічна — гэта Беларусы засяляюць абшары Палесься. Тут Навуковае Таварыства мусі даць гістарычныя асновы, якія праз прэсу мусяць быць распаўсюджаны, і такім чынам павінны быць выясьнены ўкраінскія довады адносна Палесься як не падстаўныя. Цікавае зьявішча таксама, што ўкраінскія мамэнты ў мове Беларусаў Палесься шмат больш распаўсюджаны на паўдзённым захадзе, чым на паўдзённым усходзе Палесься. Напрыклад, каля Кобрына знаходзіцца як-бы калёнія ўкраінская сярод Беларусаў. Якім чынам яны тут зьявіліся. Тут навуковае Таварыства мусі даць выясьненьне.*

*d) Таксама Навуковае Таварыства мусі больш апрацаваць пытаньні, якім ёсьць паходжаньні Прусакоў, Балтаў, Яцьвягаў. Частка плямёнаў прускіх напэўна была беларускаю; таксама ёсьць даныя, што Яцьвягі ёсьць паходжаньня славянскага.*

*2. Сп. Прэзыдэнт БНР інж. М[ікола] Абрамчык высказаў таксама словы прызнаньня вялікае працы дакладчыка над апрацоўкай рэфэрату. Вельмі добра асьветлена пытаньне беларускасьці ўсходняе й паўдзённае ўскраін Беларусі. Шкада толькі, што рэфэрат не ахапіў пытаньня беларускасьці заходніх ускраін Беларусі, на якія сяньня сягаюць Палякі. Напрыклад, Наваградчына — гэта ключавая частка, адкуль паўстала князьства Ноўгарадзкае — вельмі важнае пытаньне, зусім ня было ўспомнена дакладчыкам. Паводле чэскіх*

[9] Маецца на ўвазе **Брэсцкая мірная дамова**, заключаная 3 сакавіка 1918 г. паміж Савецкай Расеяй і Нямеччынай, Аўстра-Вугоршчынай, Баўгарыяй і Турцыяй. Паводле яе значная частка беларускіх тэрыторыяў пераходзіла да немцаў.

*вучоных Шафарыка*[10] *і Нідэрле*[11] *("Славянскія старажытнасьці", том II) у фармаваньні Вялікага Князьства Літоўскага вялікую ролю адыграла славянскае племя Веліжаў-Лютычаў (падвойны назоў), якое засяліла сяньняшнюю Новаградчыну. Гэта было вельмі ваяўнічае племя, якое было заняло ўсю паўночную Нямеччыну, і ёсьць даныя, што яны ў 13 стагодзьдзі былі ў Эльзасе, каля французкай граніцы. Міндаўг, паводле Шафарыка, як князь гэтых Лютычаў, меўшы вялікую сілу і ваенную практыку, асеў у Новаградку і зразу стаў магутным князем толькі таму. Аб гэтым пішуць нямала шведзкія й фінскія рукапісы. Гэта вялікі мамэнт, які можа даць поўны адказ на ахвоту ліцьвіноў прылучаць да сябе беларускую Наваградчыну. Гэты куток трэба было захапіць.*

*Далей Сп. Прэзыдэнт БНР сказаў, што нам асабліва нельга баяцца таго, што, напрыклад, Украінцы пішуць няпраўдзівыя факты адносна беларускіх паўдзённых абшараў, уважаючы іх за ўкраінскія. Сапраўдныя навукоўцы будуць справу разглядаць толькі на падставе гістарычных і навуковых дадзеных.*

*Інж. М[ікола] Гарошка зрабіў тут таксама малое дапаўненьне да ягоных папярэдніх заўваг, а менавіта чаму заходняя граніца Беларусі да сяньня пачці зусім не зьмяніла свайго першабытнага выгляду. Тут трэба прыпісаць вялікую заслугу пляменьню Яцьвягаў, якія адлічаюцца вялікай прыроднай адпорнасьцю на чужыя ўплывы. Далей інж. М[ікола] Гарошка падкрэсьліў, што нам нельга базавацца толькі на гісторыках расейскіх ды польскіх. Тут факты не заўсёды асьветленыя ў праўдзівым сьвятле. Нам трэба браць за аснову гісторыкаў Захаду.*

*3. Сп. праф. М[ікола] Дарашэвіч выразіў падзяку др. Янку Станкевічу за даклад. Я, сказаў праф. М[ікола] Дарашэвіч, нажаль, ня мог бачыць тыя гістарычныя матэрыялы, якія былі парушаны дакладчыкам, бо яны былі мне не даступны, я чую іх сяньня першы раз. Аднак прашу я др. Я[нку] Станкевіча ўзяць пад увагу ўсе заўвагі прысутных і на аснове даступных матэрыялаў даць яснае высьсьненьне гістарычных пытаньняў, пастаўленых прысутнымі пасьля заслуханьня рэфэрату.*

*Адказы дакладчыка сп. др. Янкі Станкевіча:*

*Дакладчык сказаў, што прычынаю ўзьнікненьня ўсіх успомненых пытаньняў ёсьць вельмі шырокая тэма рэфэрату. Дакладчык хацеў*

---

[10] **Павал Ёзаф Шафарык** (слав. *Pavel Jozef Šafárik*, 1795—1861), славацкі й чэскі паэт, гісторык, этнограф.

[11] **Любар Нідэрле** (чэш. *Lubor Niederle*, 1865—1944), чэскі археоляг, этнограф, гісторык.

*толькі ясна насьвяціць абраз этнаграфічны і пляменны ўсходу Эўропы ў той час.*

*Да заўваг сп. інж. М[іколы] Гарошкі дакладчык сказаў наступнае: у Пскове была тая-ж мова славянская, беларуская, што і ў Полацку і Смаленску. У Ноўгарадзе была-ж мова зусім іншая ад славянскае, мова зусім сэпэратная. Гэта няпраўда, што Ноўгарадцы маюць аканьне, як Беларусы. У іх, напрыклад, няма "һа", толькі "да". Кастамараў тут памыляецца ў сваіх вывадах. Ён не фаховец наконт моваў.*

*Адносна прычыны, што Польшча прычынілася да таго, што Маскоўскае князьства заняло Ноўгарад і Пскоў, трэба сказаць наступнае: Польская Карона была ў той час зацікаўлена больш поўднём, дзе ўзрастала пагроза з боку Турэччыны. Таму ўсход (а таму й Вялікае Князьства) быў на другім пляне.*

*Што тычыцца ўкраінскіх уплываў на мову Беларускую на поўдзённай граніцы Беларусі было сказана дакладчыкам наступнае: Тут у той час быў сталы націск украінцаў на поўнач, спрычынены палітычным палажэньнем на Ўкраіне. Націск гэты быў аднак ня ўсюды роўны, напр., каля Берасьця большы, чым каля [...]. Паўстаньне як-бы цэлых украінскіх калёніяў каля Берасьця, Кобрына можна высьніць тым, што адтуль цэлыя сем'і беларускія ішлі на Дон у казакі, то праз жаніцьбу, а не другім спосабам украінцы завяліся, а пасьля вярнуўшыся назад у сваю краіну, гутарылі па-украінску.*

*Што тычыцца пляменя Яцьвягаў, гэта па паходжаньню племя балцкае, толькі яно ў раньнюю пару расплылася ў беларускіх плямёнах, зьбеларушчаны. Гэта ёсьць праславяне.*

*На заўвагі Сп. Прэзыдэнта М[іколы] Абрамчыка дакладчык адказаў, што ён прыме пад увагу ўсе заўвагі, сказаныя ім, а таксама і другімі прысутнымі, і пастараецца праступдыяваць працы вучоных Шафарыка і Нідэрле, якія да сяньня былі яму ня ведамыя.*

*Што тычыцца таго, што на захадзе нашы беларускія плямёны былі больш адпорнымі на чужацкія ўплывы, былі дадзеныя дакладчыкам наступныя выясьненьні: на ўсходзе Беларусі частка за часткаю нашых земляў былі заваёўваваны Расеяй і там русыфікаваны. На захадзе-ж нашае краіны да часоў Люблінскае вуніі 1569 года ня было ўплыву маскоўскага, у той час як на ўсходзе рускі ўжо быў. Пасьля Люблінскае вуніі паветы Аўгустоўскі і Беластоцкі былі далучаны да Польшчы, і тут сяньня можна ўбачыць сільны ўплыў Польшчы. Агульна кажучы, на ўплыў суседніх моў на мову беларускую ў пагранічных беларускіх акругах прычыніліся — і прычыняюцца сяньня — умовы палітычныя.*

*Пасьля адказаў дакладчыка на заўвагі прысутных старшыня сходу праф. Дарашэвіч зачыніў сход, просячы прысутных зьявіцца на прадаўжэньне сходу 19 лютага 1950 года.*

*New York, 19 лютага 1950 г.*

*Пратакол прадаўжэньня першага сходу Беларускага Навуковага Таварыства ім. Францішка Скарыны ў ЗГА.*

*Ліста прысутных:*

*1. Сп. Прэзыдэнт БНР інж. Мікола Абрамчык.*
*2. Сп. праф. Мікола Дарашэвіч*
*3. Др. Янка Станкевіч.*
*4. Сп-ня Марыя Станкевіч*
*5. Сп. др. Аляксандр Орса.*
*6. Сп. інж. Мікола Гарошка*
*7. Др. Еўгені Вярбіцкі.*
*8. Сп. Янка Юхнавец*[12]*.*
*9. Сп. Янка Шакун.*

*Акрамя таго былі прысланы на імя др. Янкі Станкевіча і Спадарыні Марыі Станкевіч 3 упаўнаважаньні ад спадароў: др. Станіслава Грынкевіча, мгр. Галяка і сп. Пануцэвіча.*

*Да пункту 3: Зданьне лічбы за мінулы год.*

*Сп. др. Янка Станкевіч адчытаў лісту сяброў Таварыства, здаючы лічбу з працы кожнага сябры ў мінулым 1949 годзе (будзе коротка накінена сп. дакладчыкам). Некаторыя працы былі распачаты ў палавіне 1948 года і раней.*

*Пасьля дакладу сп. др. Янкі Станкевіча была ладжана дыскусія на конт пункту 3-га, а менавіта.*

*а) Сп. Прэзыдэнт інж. М[ікола] Абрамчык выразіў словы прызнаньня вялікае працы, якая не глядзя на так цяжкія ўмовы была праведзена аддзельнымі сябрамі Навуковага Таварыства. Гэтыя вынікі працы павінны абавязкова быць паданымі да прэсы.*

*Тут сп. др. Янка Станкевіч выказаў словы абурэньня на адрыс рэдакцыі "Беларускі Эміграант"*[13]*, якая адмовілася ўмясьціць гэтыя данныя на балонках свае газэты.*

*b) Сп. праф. Дарашэвіч сказаў таксама, што мы павінны гардзіцца з працы Навуковага Таварыства ў мінулым годзе. Справу апублікаваньня вынікаў працы Таварыства за мінулы год трэба яшчэ раз парушыць у рэдакцыі "Беларускі Эміграант", а таксама старацца найсьці другія магчымасьці апублікаваньня.*

*Да пункту 4: зьмены ў статуце.*

---

[12] **Янка Юхнавец** (1921—2004), літаратар, мастак. Жыў у Нью-Ёрку. Аўтар кніг "Шорах моўкнасьці" (1955), "Новая элегія" (1961), "Калюмбы" (1967), "Творы" (Т. 1—3, 1987—1990), "Дань майго часу" (1993), "Драматычныя начыркі" (1996).

[13] "**Беларускі Эміграант"** — газэта, якая выходзіла ў Таронта ў 1948—1954 гг. пад рэдакцыяй Кастуся Акулы.

*Тут інж. Мікола Гарошка запрапанаваў разгледзіць уперод пункт 5, а менавіта “Прыймо новых сяброў”. Прапанова была прынята.*

*Др. Янка Станкевіч падаў прапанову прыняць у пачэсныя сябры Навуковага Таварыства сп. Прэзыдэнта інж. Міколу Абрамчыка, бяручы пад увагу яго заслугі на полі навуковае працы, асабліва за яго дапамогу ў атрыманьні стыпэндыяў для беларускіх студэнтаў у Бэльгіі. Тут сп. праф. Дарашэвіч высказаў сваё зьдзіўленьне, што яшчэ да сяньня сп. Прэзыдэнт не зьяўляецца сябрам Таварыства.*

*Прапанова была адзінагалосна прынята, пасьля чаго сп. Прэзыдэнт згадзіўся быць сябром Таварыства, зазначаючы толькі, што ён у даны момант ня зможа прыняць актыўнага ўдзелу ў працы Таварыства, бо моцна пераладаваны працай палітычнай і грамадзкай.*

*Пасьля быў прачытаны разьдзел 2-гі статуту з мэтай, каб азнаёміць прысутных з парадкам прыйма новых сяброў у Таварыства.*

*У сябры Навуковага Таварыства імяні Францішка Скарыны былі прыняты адзінагалосна наступныя спадары:*

*1. Др. Аляксандр Орса (сапраўдны сябра).*
*2. Інж. Мікола Гарошка (сапраўдны сябра).*
*3. Др. Мітрафан Смаршчок*[14] *(сапраўдны сябра).*
*4. Др. Еўгені Вярбіцкі (сапраўдны сябра).*
*5. Сп. Янка Юхнавец (сябра-карэспандэнт).*
*6. Сп. Янка Шакун (сябра-карэспандэнт).*

*Зьмены ў статуце.*

*Перад прыступленьнем да агаварваньня пункту 4-га др. Янка Станкевіч даў кароткую інфармацыю адносна састаўленьня і прыняцьця статуту Навуковага Таварыства, а менавіта статут быў апрацаваны сп.* [у арыгінале замест прозьвішча пакінута пустое месца], *а пасьля на агульным сходзе сяброў Таварыства 23 чэрвеня 1946 году ў Рэгэнзбургу (Нямеччына) зацьверджаны.*

*Пасьля гэтага быў зачытаны ў цэласьці статут Навуковага Таварыства, а таксама пастаноўлена, што сядзібаю Таварыства будзе зьяўляцца Нью Ёрк; у тых-жа дзяржавах навонкі ЗГА, дзе ёсьць некаторая колькасьць сяброў Таварыства, могуць паўставаць аддзелы Таварыства.*

*Адносна зьмен у статуце былі высказаныя наступныя думкі:*

---

[14] **Мітрафан Смаршчок (Рэпкаў-Смаршчок**, псэўд. **Анатоль Бярозка**, 1915—2008), лекар, грамадзкі дзеяч, паэт. Ад 1950 г. жыў у ЗША, працаваў у шпіталі ў Мантысэла на розных пасадах, удзельнічаў у яго разбудове, кіраваў домам для старых. Быў прафэсарам Унівэрсытэту Мінэсоты, займаўся дасьледаваньнем хваробаў сэрца. Сябра БІНіМу. Аўтар зборніка “Адзінаццаць вершаў” (1989), а таксама кнігі “Анатоль Бярозка. Выбранае” (Мінск, 2004).

*а) Праф. Дарашэвіч сказаў, што статут у цэласьці добры, толькі трэба зрабіць некаторыя папраўкі ў апрацоўцы, не даючы, аднак, канкрэтных прапаноў.*

*b) Сп. Прэзыдэнт М[ікола] Абрамчык сказаў, што статут вельмі ясна выражае мэту Таварыства і таму ў прынцыпе не патрабуе зьмен. Умовы жыцьцёвыя, аднак, вымагаюць зьмены назову "Крывіцкае" на "Беларускае", так як наогул назоў "Беларусь" прынята сяньня ўсім грамадзтвам.*

*Сп. др Янка Станкевіч рэзка запратэставаў проці зьмену назову, апіраючыся на тое, што пакуль агульна ня прыняты ніводзін з нашых гістарычных назоваў, то і назоў "Крывіцкае" можа быць ужыванае на балонках часапісу. Для лепшае зразуменьня можна даць у дужках паясьненьне "Беларускае" таксама, сказаў др. Станкевіч, было-б нетактычна, без паразуменьня із старымі сябрамі Таварыства мяняць яго назоў.*

*с) Інж. М[ікола] Гарошка таксама доўга гутарыў адносна патрэбы зьмены назову, апіраючыся на тое, што нігдзе у гістарычных і этнаграфічных слоўніках няма назову "Крывіч, крывіцкі" і пад[обных] і што пад гэтым назовам праца Таварыства зойдзе на нішто. Такі назоў свайго часу прычыніў шмат шкоды ў працы Беларускага Камітэту ў Нямеччыне. Калі ўсе беларускія ўстановы прынялі назоў "Беларускі", то і Навуковае Таварыства мусі зьмяніць свой назоў. Таксама назоў "Пранцішак" трэба зьмяніць на "Францішак" згодна агульна прынятай беларускай граматыкі.*

*Др. Янка Станкевіч выступаў цэлы час востра проці зьмену назову, даючы цэлы лік ведамых нам усім аргумэнтаў. Была разгарэлась вострая дыскусыя, у якой прынялі ўдзел усе прысутныя.*

*d) За зьменай назову таварыства прамаўлялі яшчэ сп. Прэзыдэнт, праф. Дарашэвіч і др. Орса. Др. Орса між іншым заўважыў, што назоў "Крывія" і быў прычынай разьбіцьця нашага грамадзтва і што з боку практычнага неабходна зьмяніць назоў, так як гэта ўжо зроблена ўсімі палітычнымі арганізацыямі.*

*Сп. др. Станкевіч адказаў на гэта, што прычынай да разьбіцьця нашага грамадзтва ня быў ніколі назоў "Крывія, крывіцкі", бо і без яго так званыя "зарубежнікі" вялі цэлы час дэмагогію, а што тычыцца таго, што ўсе палітычныя арганізацыі зьмянілі назоў, а рачэй прынялі назоў нам варожы "Беларускі", што гэта толькі таму, што нашы палітычныя арганізацыі мелі заслабы актыў.*

*Спадарыня Марыя Станкевіч паддзяржала думку сп. др Станкевіча.*

*Паколькі дыскусыя не прывяла да адзінагалосься, хаця ўсе прысутныя былі проці сп. др Янкі Станкевіча, было пастаноўлена вырашыць гэта пытаньне дэмакратычным спосабам праз галасаваньне.*

*Канкрэтную прапанову падаў сп. інж. М[ікола] Гарошка, а менавіта зьмяніць назоў "Statut Kryvickaha Navukovaha Tavarystva Pranciša Skaryny" на "Статут Беларускага Навуковага Таварыства імя Францішка Скарыны".*

*Вынікі галасаваньня:*

*1) За зьмену назову: 5 галасоў.*

*2) За астаўленьне старога назову: 2 галасы + 3 праз упаўнамоцтвы, разам 5.*

*Сяброве-карэспандэнты, паводле нязьмененага статуту, не маглі галасаваць з правам рашаючага голасу.*

*Пасьля галасаваньня Сп. Прэзыдэнт інж. М[ікола] Абрамчык падаў прапанову, што паколькі колькасьць галасоў роўная і пытаньне зьмены назову Таварыства астаецца на сяньня ня вырашаным, трэба выслаць усім сябрам Таварыства рэфэрэндум, так як сабрацца ўсім на сход немагчыма. Прапанова была прынята і агульны сход выбраў сп. праф. Дарашэвіча і інж. М[ іколу] Гарошку для правядзеньня рэфэрэндум.*

*Пасьля гэтага былі дадзены другія прапановы адносна дапаўненьняў і зьмен у аддзельных разьдзелах статуту, якія былі агульным сходам прыняты, а менавіта:*

*Прапановы др. Янкі Станкевіча:*

*Дадатак да разьдзелу II, пункт 2: "Як вынятак, запраўднымі сябрамі Таварыства могуць быць таксама асобы з вышэйшай асьветаю і без папярэдняе ўмовы, калі можна спадзявацца, што яны стануць наўчонымі і калі яны спрыяюць Таварыству і будуць яму карыснымі".*

*Дадатак да разьдзелу III, пункт 2: "Агульны сход ёсьць важны, калі на ім будзе прадстаўлена ня меней 1/3 сяброў Таварыства, пры гэтым сяброў заграні́чных уважаюць за учасьнікаў сходу, калі яны прышлюць свае паўнамоцтвы іншым учасьнікам сходу. Калі на сходзе ня будзе 1/3 сяброў, дык за гадзіну пачынаецца сход важны пры кажным ліку ўчасьнікаў".*

*Прапанова Сп. Прэзыдэнта інж. М[ іколы] Абрамчыка:*

*Замест пункту 3 у разьдзеле III, а менавіта, што і сябры, і сябры-карэспандэнты карыстаюцца аднолькавымі правамі ў галасаваньні. Пункт 2 у разьдзеле III мае звучаць: "Усе сябры Таварыства маюць аднолькавыя правы голасу".*

*Да пункту 6: Плян працы на будучы год.*

*Да гэтага пункту высказаў сп. др. Янка Станкевіч наступнае: "Плян працы на будучы год ясны, але ня зусім просты. Усе сябры маюць памагаць у працы, кожны ў сваёй галіне. Трэба, каб працы абавязкова друкаваліся, бо інакш работа малавартасная. Для гэтага трэба выдаць часапіс, і каб ён ня быў засухі, можам умяшчаць на яго балонках побач прац навуковых таксама літаратурна-мастацкія.*

*На выдаваньне часапісу ёсьць ужо пачатковы фонд, а менавіта двух амэрыканцаў-беларусаў, якія ня хочуць падаваць іх імён, згадзіліся плаціць на навуковы часапіс у месяц, адзін ад студзеня па 20 даляраў, другі ад лютага па 30 даляраў".*

*Было пастаноўлена выбраць рэдкалегію часапісу, прычым Сп. Прэзыдэнт М[ікола] Абрамчык зазначыў, што ў рэдкалегію павінны ўваходзіць асобы кампэтэнтныя як у справе фахавай, так і тэхнічнай.*

*Адносна колькасьці асоб у рэдкалегіі былі пастаўлены пад адкрытае галасаваньне дзьве прапановы, а менавіта:*

*За рэдкалегію із 4 асоб — 3 галасы,*

*За рэдкалегію із 3 асоб — 4 галасы.*

*Такім чынам, рэдакцыйная калегія будзе складацца із трох асоб.*

*Кандыдаты ў рэдкалегію і колькасьць галасоў за кожны ізь іх:*

*Сп. праф. М[ікола] Дарашэвіч — 10 галасоў (разам із 3-ма ўпаўнаважаньнямі).*

*Др. Янка Станкевіч — 10 галасоў.*

*Сп. Янка Юхнавец — 10 галасоў.*

*Др. А[ляксандар] Орса — 0 галасоў.*

*Сп. Янка Шакун — 0 галасоў.*

*Такім чынам, у рэдкалегію часапісу былі выбраны спадары: праф. М[ікола] Дарашэвіч, др. Янка Станкевіч і Янка Юхнавец.*

*Адносна назову часапісу сп. др. Янка Станкевіч падаў прапанову, што часапіс можа называцца "Слова і веда". Агульны сход пастанавіў, што адно слова "Веда" будзе поўнасьцю дастаткова выражаць мэту часапісу. Унізе часапісу можна зазначыць яшчэ "навукова-літэратурны часапіс".*

*Сяброўскія складкі. Сход пастанавіў, што сяброўскія складкі будуць выносіць 1 даляр пры ўступе новага сябры ў Таварыства і 1 даляр узнос штомесячны.*

*Да пункту 7: Выбары новага прэзыдыюма і рэвізыйнай камісіі таварыства.*

*Было пастаноўлена, што ў склад прэзыдыюма Таварыства мае ўваходзіць 3 асобы, а менавіта старшыня, сакратар і скарбнік.*

*Выбары ў члены прэзыдыюма і рэвізыйнай камісіі Таварыства адбыліся тайным галасаваньнем, асобна на старшыню, сакратара і скарбніка, і ў члены рэвізыйнай камісіі.*

*Кандыдаты на старшыню Таварыства і колькасьць галасоў за кожнага зь іх:*

*Др. Янка Станкевіч: 5 галасоў.*

*Праф. М[ікола] Дарашэвіч: 3 галасы.*

*Кандыдаты на сакратара і скарбніка Таварыства і колькасьць галасоў за іх:*

*Др. Станіслаў Грынкевіч: на сакратара 1 голас, на скарбніка 4 галасы.*

*Сп. Янка Шакун: на сакратара 1 голас, на скарбніка 5 галасоў.*

*Др. Еўгені Вярбіцкі: на сакратара 3 галасы, на скарбніка 1 голас.*

*Такім чынам, у прэзыдыюм Таварыства былі абраныя наступныя сябры: Др. Янка Станкевіч — старшыня, др. Еўгені Вярбіцкі — сакратар, сп. Янка Шакун — скарбнік.*

*У рэвізыйную камісію былі выбраны 11 галасамі за і 1 голасам проці наступныя сябры: др. Станіслаў Грынкевіч, др. Аляксандр Орса і сп. інж. Мікола Гарошка.*

*На гэтым быў першы сход Таварыства ў ЗГА закончаны, кароткай падзякай старшыні сходу ўсім прысутным сябрам Таварыства.*

*Нью Ёрк, 19-га лютага 1950 г.*
*Старшыня сходу*
*Сакратар сходу Др. Е[ўгені] Вярбіцкі.*

Таварыства, якое з часам зьмяніла назоў на Крывіцкае (Вялікалітоўскае), а пазьней на Вялікалітоўскае (Беларускае), займалася й выдавецкай дзейнасьцю. Пад грыфам арганізацыі выйшлі працы Янкі Станкевіча "Маленькі маскоўска-беларускі слоўнічак фразеолёгічны і прыказкаў" (1952, разам з Антонам Адамовічам), «Мова рукапісу "Аль кітаб" крывіцкага музэю Івана Луцкевіча ў Вільні» (1952), "Некаторыя праўніцкія тэрміны беларускія" (1953), "Этнографічныя і гістарычныя тэрыторыі і граніцы Беларусі" (1953), "Доля мовы беларускае (яе вонкашняя гісторыя) у розныя пэрыяды гісторыі Беларусі" (1954), "Друкары Іван Хведаравіч Рагаза а Пётра Мсьціславец" (1969), "Нарысы з гісторыі Вялікалітвы-Беларусі" (1978) ды іншыя, "Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне за 1945—1950 гг." Міколы Панькова (1952), "Творы" Ўладзімера Жылкі (1953). Поўны сьпіс выданьняў Таварыства можна знайсьці ў бібліяграфіі Зоры й Вітаўта Кіпеляў "Беларускі друк на Захадзе"[15].

Большая частка гэтых публікацый спачатку пабачыла сьвет на бачынах часапісу "Веда". Выдаваўся ён ў Брукліне ў 1951—1954 гг., быў адноўлены ў 1973 г., апошні ведамы — том 5, № 2 за 1975 г.

[15] Kipel, Vitaut; Kipel, Zora. Belarusian Publishing in the West: A Bibliography = Беларускі друк на Захадзе: Бібліяграфія / пад рэд. Юрася Гарбінскага й Лявона Юрэвіча. Нью-Ёрк — Варшава, 2006. XVI+841 с.

*Тэма нумару: Амэрыканская гісторыя*
*Установа*

***Віталь Зайка***
*Нью-Ёрк*

# ДА ГІСТОРЫІ БАЗА: ПЕРАДУМОВЫ Й РАЗЬВІЦЬЦЁ ЗАКАЛОТУ 2007—2011 гг.

На 2006 г. у Беларуска-Амэрыканскім задзіночаньні (БАЗА) вылучаліся сваёй актыўнасьцю аддзелы ў Нью-Ёрку (старшыня Віталь Зайка) і Нью-Джэрзі (старшыня Юрка Азарка). Так, у аддзеле ў Нью-Ёрку, паводле сьпісу, налічвалася каля 300 сябраў, зь якіх прыблізна 60—70 чалавек рэгулярна наведвалі штомесячныя сходы, што праводзіліся ў памешканьні грамадзкай залі пры саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, і бралі ўдзел у розных імпрэзах. Як дзейны таксама згадваўся аддзел БАЗА ў Агаё, але аб дакладнай сытуацыі ў ім было вядома няшмат, і рэальная супраца была амаль адсутная. У сталічным Вашынгтоне лічылася існуючай дэлегатура БАЗА.

Паседжаньні Галоўнай управы БАЗА праводзіліся адносна рэгулярна, хоць яе старшыня сп. Антон Шукелойць быў у адвансаваным веку і ўжо ня мог з колішняй энэргіяй належным чынам даглядаць працу арганізацыі. Разам з тым ён заставаўся досыць актыўным і выказваў жаданьне працаваць з дапамогай намесьнікаў на пасадзе старшыні й надалей.

Згодна са статутам арганізацыі рэгулярна павінны былі праходзіць выбары кіраўніцтва на адмысловых кангрэсах БАЗА. Апошні кангрэс праводзіўся каля 14 гадоў перад тым. Варта згадаць, што сам статут быў складзены паўстагодзьдзя таму, не адпавядаў новай структуры й умовам працы арганізацыі. Ён быў недастаткова ясны й зразумелы ў справах выбараў і пераемнасьці кіраўніцтва, і шмат якія фармулёўкі пакідалі поле для адвольнага трактаваньня.

Вялікую ролю ў актыўнасьці сябраў адыгравала рэгулярнасьць правядзеньня сходаў Нью-Ёрскага аддзелу і штогадовы каляндар імпрэзаў. Ён улучаў сьвяткаваньне 25 Сакавіка і Дня герояў — угодкаў Слуцкага збройнага чыну, удзел у Маршы паняволеных народаў у ліпені, сьвяткаваньне Купальля й Гуканьня вясны, сустрэчы зь беларускімі культурніцкімі й палітычнымі дзеячамі з Бацькаўшчыны, што наведвалі ЗША. Таксама надзвычай важным быў рэгулярны штомесячны выхад газэты “Беларус”, адноўленай у 2002 г. і рэдагаванай

сп. Маратам Клакоцкім. У кожным выпуску газэты мелася старонка “Весткі й Паведамленьні”, што адлюстроўвала працу Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА.

У складзе гэтага найбольш колькаснага аддзелу БАЗА, Нью-Ёрскага, накрэсьліліся некалькі груповак, паміж якімі ўзьнікалі спарадычныя сутычкі па розных пытаньнях практычнай грамадзкай працы. Спрэчкі гэтыя, аднак, не пераходзілі межаў еднасьці й кансалідаванасьці арганізацыі.

На пачатку 2000-х гг. да актыўнай дзейнасьці БАЗА далучыўся сп. Вячка Станкевіч, які рэгулярна наведваў сходы арганізацыі і быў дзейны ў падрыхтоўцы пэўных кампаніяў, у тым ліку пашырэньня падтрымкі кангрэсовага праекту Акту аб дэмакратыі ў Беларусі ад 2003 г. У выніку ў тым ліку і кантактаў БАЗА з кангрэсмэнамі й сэнатарамі ЗША, напісаньня лістоў і зваротаў, Акт быў прыняты ў 2004 г. і падпісаны прэзыдэнтам Джорджам Бушам як фэдэральны закон аб падтрымцы дэмакратыі й правоў чалавека ў Беларусі (*Belarus Democracy Act of 2004*). Гэты дакумэнт істотна паўплываў на амэрыканска-беларускія дачыненьні, уводзячы санкцыі супраць асобаў і структураў у Беларусі (пачынаючы ад прэзыдэнта Лукашэнкі), што былі вінаватыя ў перасьледзе беларускіх грамадзянаў й абмежаваньні іх грамадзянскіх ды палітычных правоў і свабодаў.

Пэўны час сп. Вячка Станкевіч спрабаваў далучыцца да фармальнага кіраўніцтва БАЗА, актыўна заклікаў да правядзеньня кангрэсу БАЗА, як таго патрабаваў статут арганізацыі, але гэтаму перашкаджала неспрыяльная пазыцыя сп. Антона Шукелойця. Нарэшце ўвосень 2006 г. на адным з паседжаньняў Галоўнай управы большасьць прысутных прагаласавалі за правядзеньне кангрэсу БАЗА, які быў прызначаны на травень 2007 г.

Сп. Вячка Станкевіч актыўна рыхтаваўся да кангрэсу, і асноўнай працай яго, як аказалася пазьней, была мабілізацыя галасоў (упаўнаважаньняў на кангрэс) у аддзеле БАЗА ў Агаё. Разам з тым сам сп. Вячка быў адносна новым сябрам арганізацыі, дакладней, яе аддзелу ў Нью-Джэрзі. Ён фармальна ўступіў у БАЗА-Нью-Джэрзі й перадаў складкі старшыні сп. Янку Азарку толькі ўвесну 2005 г., за некалькі тыдняў да сьмерці апошняга. Сп. Вячка Станкевіч запрашаў мяне ўвайсьці ў ягоную “каманду” й прапаноўваў пасаду віцэ-старшыні БАЗА. Я на той час схіляўся да таго, што дзеля адзінства арганізацыі найбольш прыдатнай асобай на пасаду старшыні быў сп. Антон Шукелойць, а сп. Вячка Станкевіч мог бы браць удзел у яе дзейнасьці на любой іншай пасадзе. На той час прыкладна сфармаваліся два лягеры сябраў БАЗА: прыхільнікі кандыдатуры Антона Шукелойця й прыхільнікі кандыдатуры Вячкі Станкевіча.

У траўні адбыліся сходы аддзелаў у Нью-Ёрку й Нью-Джэрзі, на якіх былі абраныя дэлегаты на кангрэс БАЗА. Сп. Вячка Станкевіч

паведаміў, што прысутнічаў на прайшоўшым сходзе аддзелу БАЗА ў Агаё і што ў кангрэсе возьме ўдзел Аўген Кабяка, які прывязе ўпаўнаважаньні ад дэлегатаў з гэтага аддзелу, якія ня могуць прысутнічаць асабіста. Прыхільнікі сп. Вячкі Станкевіча досыць актыўна вялі працу з дэлегатамі, заклікаючы галасаваць за свайго кандыдата. Сам Вячка Станкевіч прапаноўваў для Антона Шукелойця пасаду "ганаровага старшыні".

26 траўня 2007 г. у грамадзкай залі пры саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне адбыўся 26-ы Кангрэс БАЗА (папярэдні кангрэс прайшоў у 1993 г.). Спачатку былі абраныя прэзыдыюм на чале з сп. Янкам Запруднікам і мандатная камісія на чале з сп. Валерам Дворнікам. Хвілінай цішы былі ўшанаваныя адышоўшыя за гэты час кіраўнікі й сябры БАЗА. Былі заслуханыя справаздачы старшыні Галоўнай управы (Антон Шукелойць), старшыняў аддзелаў (Віталь Зайка, Юрка Азарка), дэлегатуры ў Вашынгтоне (Алеся Кіпель), рэдактара газэты "Беларус" (Марат Клакоцкі), а таксама шэрагу іншых сябраў кіраўніцтва БАЗА (Янка Запруднік, Ала Орса-Рамана). Сп. Вячка Станкевіч зрабіў справаздачу ад англамоўнай публікацыі *"Belarusian Review"* ("Беларускі Агляд").

Затым былі высунутыя дзьве кандыдатуры на старшыню Галоўнай управы БАЗА: Антон Шукелойць і Вячка Станкевіч. Мандатная камісія чамусьці доўга не магла даць справаздачу пра колькасьць прысутных дэлегатаў і колькасьць прадстаўленых упаўнаважаньняў. Нарэшце, больш чым праз гадзіну, гэта было зроблена: 25 дэлегатаў і 12 упаўнаважаньняў. Паўстала пытаньне пра вусныя ўпаўнаважаньні ад адсутных дэлегатаў, у тым ліку па тэлефоне, якія было вырашана не прымаць. Адбылося тайнае галасаваньне, у выніку яго 19 галасоў былі пададзеныя за Вячку Станкевіча, 17 — за Антона Шукелойця і 1 бюлетэнь аказаўся пусты. Станкевіч быў абвешчаны пераможцам выбараў і выступіў з прамовай пра тое, што зьбіраецца рабіць на пасадзе старшыні. Адной зь першых была прапанова, каб аддзелы далі грошы для працы Галоўнай управы, чаго пад старшынствам Шукелойця не было. Альтэрнатыўнай была прапанова аб фінансаваньні аддзеламі канкрэтных праектаў Галоўнай управы, што было сп. Вячкам Станкевічам з абурэньнем адкінута. Быў сфармаваны новы склад Галоўнай управы, у які ўвайшлі пераважна прадстаўнікі ягонай "каманды". Так быў фактычна павялічаны разлад у шэрагах БАЗА.

У міжчасе супраца Нью-Ёрскага аддзелу з новым складам Галоўнай управы пачала паступова наладжвацца. Былі супольна падрыхтаваныя паездкі ў Вашынгтон для прыцягненьня ўвагі сэнатараў і кангрэсмэнаў у выбарчых акругах, дзе кампактна жылі беларусы, да сытуацыі ў Беларусі. Сумесныя дэлегацыі БАЗА бралі ўдзел у шэрагу імрэзаў, у тым ліку ў падрыхтоўцы Сустрэчаў беларусаў Паўночнай Амэрыкі. З ініцыятывы рэдактара газэты "Беларус" Марата Клакоцкага ўвосень 2007 г.

выйшаў першы выпуск штогадовага альманаху пісьменьнікаў замежжа "Беларус".

Паралельна з сытуацыяй у БАЗА разьвіваліся й справы ў БАПЦ і Фундацыі Крэчэўскага. У саборы Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ сходы Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА адбываліся з часоў спробы захопу кантролю над парафіяльнай радай з боку прарасейскай групоўкі Юрыя Чудзіна ("Васілеўскага") і а. Ігара Якуніна ў 2004—2005 гг. Гэта рабілася для ўмацаваньня падтрымкі беларускай часткі рады, якая ўрэшце перамагла. Калі да кіраваньня парафіяй прыйшла групоўка на чале з Мікалаем Сагановічам, адносіны парафіяльнай рады з аддзелам выправіліся, але затым зноў паступова пагоршыліся дзеля сталых абсурдных абвінавачаньняў у тым, што кіраўніцтва аддзелу БАЗА ў Нью-Ёрку нібыта агітуе моладзь супраць наведваньня царквы. У верасьні 2007 г. было пастаноўлена перанесьці сходы аддзелу зноў у Фундацыю Крэчэўскага ў Куінсе. Пазьней парафіяльная рада пад уплывам Міколы Сагановіча і Расьціслава Гарошкі сарвала падрыхтоўку сумеснага сьвяткаваньня Новага году.

Тым часам сталі даходзіць весткі пра тое, што праведзены нібыта сход аддзелу БАЗА ў Агаё, дзе былі абраныя дэлегаты на кангрэс БАЗА, што перадалі свае ўпаўнаважаньні Аўгену Кабяку, насамрэч не адбываўся. Дзеля браку непасрэднага доступу да датычных асобаў, гэтая інфармацыя на той час не была спраўджаная.

У жніўні 2008 г. у Стронгсьвілі (Агаё), адбылася 28-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Канфэрэнцыя на ёй рыхтавалася супольна ўсімі актывістамі БАЗА. У ёй бралі ўдзел прадстаўнікі як Галоўнай управы, гэтак і Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА. Падчас кулюарных размоваў стала зразумела, што ў той час, як праца парафіі БАПЦ у Стронгсьвілі, якая здабылася на будову новага сабору, і праца грамадзка-культурнага цэнтру "Полацак" — вакол якіх пераважна праходзіла ўсё беларускае грамадзкае жыцьцё ў асяродку, — былі насычаныя й актыўныя, дык аб працы мясцовага аддзелу БАЗА або нават аб тым, хто ўваходзіць у той аддзел, ніхто нічога ня мог сказаць. Адпаведна не было вядома і пра сходы, што абіралі дэлегатаў на кангрэсы БАЗА.

Увесь час, калі Нью-Ёрскі аддзел зьбіраўся на сходы ў Фундацыі Крэчэўскага, сп. Вячка Станкевіч заклікаў паразумецца з парафіяльнай радай сабору ў Брукліне, прапанаваць ёй аплату й перанесьці сходы ў грамадзкую залю пры саборы. Гэта фактычна было немагчыма дзеля абструкцыянісцкай палітыкі кіраўніцтва парафіяльнай рады. Неўзабаве Вячка Станкевіч прапанаваў увесьці абмежаваньні часу знаходжаньня на пасадах кіраўнікоў аддзелаў, што выклікала дваістую рэакцыю, бо было відавочна скіраванае супраць старшыняў двух найбольш актыўных аддзелаў, якія стрымана ставіліся да дзейнасьці кіраўніка Галоўнай управы. На працягу некалькіх месяцаў перад наступным кангрэсам

БАЗА ў траўні 2009 г., адбывалася дыскусія адносна новага праекту Статуту БАЗА. прапанаванага сп. Вячкам Станкевічам.

У той час, як уся рэальная грамадзкая праца праходзіла ў аддзелах, Галоўная ўправа займалася пошукам сродкаў зьмены кіраўнікоў гэтых аддзелаў. Актывізм Вячкі Станкевіча стаў успрымацца некаторымі як выніковая і патрэбная дзейнасьць. Пэўная колькасьць сябраў БАЗА стала на бок старшыні, адчуваючы, што ён мае больш адміністрацыйных начыньняў і таму больш шанцаў для перамогі ў супрацьстаяньні з аддзеламі. Адыграла сваю ролю й прыналежнасьць Вячкі Станкевіча да Рады БНР у якасьці віцэ-старшыні.

30 траўня 2009 г. у Нью-Брансьвіку прайшоў кангрэс БАЗА. У прэзыдыюм трапілі пераважна прыхільнікі сп. Вячкі Станкевіча, яны ж кантралявалі галоўнае пытаньне — праверку дэлегацкіх упаўнаважаньняў. Зноў значная колькасьць упаўнаважаньняў прыбыла з Кліўлэнду, але на пытаньне, як і калі прайшоў выбарчы сход, адказаў не было, акрамя сустрэчных рытарычных пытаньняў пра тое, як можна ставіць пад сумнеў словы паважаных дзеячаў. Значная колькасьць людзей сталі ўважаць, што колішні старшыня Галоўнай управы Антон Шукелойць дзеля свайго веку і стану здароўя ня можа весьці працу на пасадзе. У выніку галасаваньня Вячка Станкевіч атрымаў 28 галасоў супраць 17, адданых за Антона Шукелойця.

Увосень 2009 г. ад шэрагу асобаў зь беларускага асяродку ў Кліўлэндзе стала вядома, што мясцовы аддзел БАЗА фактычна не існуе ўжо доўгі час, сходы не праводзіліся з паўтара дзясятку гадоў, няма сьпісу сябраў, не зьбіраюцца сяброўскія складкі. Больш таго, гэтыя асобы адзначылі, што ніякага сходу для абраньня дэлегатаў на кангрэс БАЗА не праводзілася ані ў 2007 г., ані ў 2009 г. Упаўнаважаньні былі выпісаныя фіктыўна, і асобы, чые імёны стаялі на ўпаўнаважаньнях, ня ведалі аб гэтым.

У кастрычніку ў Кліўлэнд выехала прадстаўніца Нью-Ёрскага аддзелу Валянціна Якімовіч для збору больш дакладнай інфармацыі ў гэтай справе. На месцы некаторыя людзі, якія раней падавалі зьвесткі аб махлярстве з упаўнаважаньнямі, сталі адмаўляцца ад сваіх словаў і пазьбягаць кантактаў. Відавочна, гэтак адбылося дзеля ціску на іх з боку асобаў, што былі зацікаўленыя ў выніках прайшоўшых кангрэсаў БАЗА, на якіх былі скарыстаныя сумніўныя ўпаўнаважаньні.

У сьвятле згаданай вышэй інфармацыі, каб спрастаць справу з упаўнаважаньнямі й аднавіць давер унутры арганізацыі Нью-Ёрскі аддзел БАЗА супольна з аддзелам БАЗА ў Нью-Джэрзі выступілі з заявай, у якой запатрабавалі ад Галоўнай управы паўторна правесьці кангрэс. У заяве было прапанавана дакладна праверыць сяброўства ва ўсіх аддзелах і спраўдзіць усе ўпаўнаважаньні ад асобаў, што ня могуць узяць удзел асабіста.

Галоўная ўправа адмовілася правесьці паўторны кангрэс БАЗА і разгледзець пытаньне сапраўднасьці ўпаўнаважаньняў і тым самым сапраўднасьці вынікаў папярэдніх кангрэсаў 2007 і 2009 гг. У адказ на гэта аддзел БАЗА ў Нью-Ёрку перастаў лічыць Галоўную ўправу й яе старшыню легітымным кіраўніцтвам арганізацыі, і аддзел у Нью-Джэрзі заняў асобную пазыцыю па гэтым пытаньні, якая таксама не адпавядала пазыцыі Галоўнай управы.

Заміж спробаў палагодзіць сытуацыю, шукаючы паразуменьня з аддзеламі, Галоўная ўправа й яе старшыня Вячка Станкевіч сталі працаваць выключна ў кірунку зьмены існуючага кіраўніцтва ў аддзелах. Дзеля гэтага плянавалася скарыстаць наваствораную ўмову аб абмежаваньні часу знаходжаньня старшыняў аддзелаў на сваіх пасадах. Аднак паколькі пераважная большасьць сябраў аддзелаў падтрымлівала сваё кіраўнітва і была супраць Вячкі Станкевіча й новага складу Галоўнай управы, гэтая спроба ня мела плянаванага выніку. І вось тады быў узяты курс на выключэньне Нью-Ёрскага аддзелу са складу БАЗА.

Пад эгідай Вячкі Станкевіча быў зарганізаваны аддзел БАЗА ў Брукліне, які стаў спробай супрацьвагі Нью-Ёрскаму аддзелу. Аднак дзеля малога ліку сябраў, большасьць зь якіх былі таксама сябрамі Галоўнай управы, аддзел існаваў чыста фармальна і быў ня ў стане паўплываць на сытуацыю. Пазыцыю Вячкі Станкевіча, віцэ-старшыні Рады БНР, падтрымала старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла, што таксама дадало аўтарытэту старшыні БАЗА.

У другой палове 2009 г. адбыліся зьмены ў кіраўніцтве Фундацыі Крэчэўскага, на чале якой стаў таксама сп. Вячка Станкевіч. Нью-Ёрскаму аддзелу БАЗА было прапанавана пачаць аплочваць свае сходы ў памешканьні Фундацыі. Перамовы аб памеры аплаты зацягнуліся. У красавіку 2010 г. сябры Нью-Ёрскага аддзелу, што сабраліся на свой чарговы сход, знайшлі дзьверы Фундацыі зачыненымі дзеля нібыта распачатага рамонту. Сход даводзілася праводзіць у суседнім парку. Неўзабаве для правядзеньня мерапрыемстваў было знойдзена памешканьне на Мангэтане.

У жніўні 2010 г. Валянціна Якімовіч, сябра ўправы Нью-Ёрскага аддзелу, напісала й стала пашыраць сярод знаёмых крытычны артыкул пра дзейнасьць Вячкі Станкевіча, узгадаўшы між іншага махлярства з упаўнаважаньнямі нядзейнага аддзелу БАЗА ў Агаё, пра які ніхто нават ня мог даць адказ, якую афіцыйную назву ён мае: аддзел БАЗА ў Стронгсьвілі, ці Кліўлэндзе, ці Агаё? У артыкуле была скарыстаная інфармацыя, сабраная на падставе гутарак у Кліўлэндзе. Сп. Вячка Станкевіч ды асобы, закранутыя ў артыкуле, успрынялі яго як паклёп і зьнявагу й запатрабавалі выключыць Валянціну Якімовіч зь ліку сябраў аддзелу БАЗА. Управа аддзелу палічыла факты, выкладзеныя ў артыкуле, збольшага адпаведнымі рэчаіснасьці й адмовілася прыняць

захады ў адносінах да сп-ні Якімовіч, спасылаючыся на прынцыпы свабоды слова і ўнутрыарганізацыйнай дэмакратыі.

Гэтае рашэньне Нью-Ёрскага аддзелу Галоўная ўправа імкнулася скарыстаць, каб дэлегітымізаваць яго. Напрыканцы 2010 г. Галоўная ўправа пераняла выпуск газэты "Беларус", атрымаўшы дадтковы сродак уплыву на сяброў арганізацыі.

19 студзеня 2011 г., празь месяц пасьля разгону пратэстаў супраць фальшаваньня выбараў у Беларусі, адбылася дэманстрацыя на Лексынгтан авэню і 67-й вуліцы, каля місіі Беларусі пры ААН. Дэманстрацыя была зарганізаваная Мікалаем Халезіным і Свабодным тэатрам з дапамогай амэрыканскіх сяброў — драматурга Тоні Кушнера, Оскара Юстыса, Арна Ланмана ды інш. Моладзь была мясцовая амэрыканская — студэнты, а таксама й нашая зь Нью-Ёрскага аддзелу. Мы з БАЗА забясьпечылі беларускія сьцягі, частку плякатаў. Былі таксама прадстаўнікі Галоўнай управы й сам Вячка Станкевіч. Адбылася самая хіба масавая беларуская акцыя ў Нью-Ёрку, прынамсі на маёй памяці. Гэты прыклад супрацы — а ён быў далёка не адзіны — паказвае, што сутнасьцю закалоту ў БАЗА былі пераважна міжасабовыя разыходжаньні, розныя погляды на спосабы адміністраваньня арганізацыяй, але ніяк ня сутнасныя рэчы або перагляд прынцыпаў Акту 25 сакавіка 1918 г.

На жаль, шляхі канфліктуючых структураў унутры БАЗА працягвалі разыходзіцца. Прадстаўнікі Галоўнай управы як не прызнанай за легітымнае кіраўніцтва не былі дапушчаныя на справаздачна-выбарчы сход Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА. Неўзабаве, у верасьні 2011 г., з дапамогай юрыста Юрася Зянковіча Галоўная ўправа пераняла рахунак Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА, на якім знаходзілася на той момант 13 тысяч даляраў, зь іх 1 тысяча даляраў была выдзеленая некалі сьв. пам. Уладзімерам Набагезам для набыцьця Беларускага дому. У лісьце па-ангельску, які Юрась Зянковіч накіраваў управе Нью-Ёрскага аддзелу, заяўлялася аб пераняцьці рахунку, вылучэньні аддзелу з шэрагаў арганізацыі й патрабаваньне пра адмову ўжываньня назову БАЗА.

У выніку гэтага кроку найбольш дзейны аддзел БАЗА спыніў сваё існаваньне. Ягоныя сябры на сваім сходзе ў сьнежні 2011 г. утварылі новую структуру — Беларуска-Амэрыканскае згуртаваньне "Пагоня", якое працягнула практычную дзейнасьць колішняга аддзелу, пераняло арганізацыю мітынгаў і культурніцкіх імпрэзаў, стала выдаваць асобны бюлетэнь "Весткі й Паведамленьні". Працягваўся рэгулярны выхад альманаху "Беларус". Колькасьць сяброў новай арганізацыі стала пашыралася.

# ПРА БАЗА Й НЯ ТОЛЬКІ

## Гутарка Натальлі Гардзіенкі з Ганнай Сурмач

*Я хацела трапіць у беларускую царкву Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне менавіта ў час штогадовага фэстывалю Атлянтык-Антык. З аднаго боку, хацелася на свае вочы ўбачыць гэтую падзею, калі перакрываецца такая значная магістраль і на ёй вырастае горад-кірмаш, дзе прадстаўнікі розных нацыяў і групаў рэпрэзэнтуюць сябе, сваю культуру, свае вырабы. Гэткай разнастайнасьці колераў, гукаў і пахаў, сканцэнтраваных у адным месцы, я раней нідзе ня бачыла. З другога боку, вельмі хацелася ўбачыць і тое, як у гэтым шматаблічным моры выглядаюць беларусы са сваімі дранікамі й вышыванкамі. І магу сказаць, што выглядаюць мо й не выбітна, але годна. Каля беларускага намёта амаль ўвесь час былі госьці-пакупнікі — аматары нашай ежы. А жанчыны з кухні не пасьпявалі смажыць для ўсіх ахвотных дранікі. З хуткасьцю разыходзіліся й іншыя стравы.*

*Дзень быў ня толькі гарачы па надвор'і, зусім не верасьнёўскім, але й вельмі напружаны для тых, хто арганізоўваў беларускую прысутнасьць на фэстывалі. Але я змагла на колькі часу адцягнуць ад клопатаў адну з галоўных гераіняў, каб запісаць інтэрвію.*

*Ганна Сурмач на той час — верасень 2017 года — ужо гадоў шэсьць была старшынькай Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Дагэтуль жыла ў Чэхіі, працавала на Радыё "Свабода", яшчэ перад тым была адной з заснавальніц і кіраўнікоў Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", а раней дырэктаркай Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва, дзе сёньня працую я. То ў нас з спадарыняй Ганнай было багата падставаў для размовы. Але найбольш мяне цікавіў менавіта амэрыканскі пэрыяд жыцьця гэтай актыўнай жанчыны.*

*Мы схаваліся ад усіх на заднім двары царкоўнага будынку й больш за гадзіну размаўлялі пра БАЗА, Нью-Ёрк і мясцовых беларусаў, пра моладзь і фэстываль, і, вядома ж, пра архівы.*

*Сёньня ад моманту гутаркі прайшоў год. Спадарыня Ганна больш не старшыня БАЗА, але ўсё, што адбываецца ў царкве, застаецца пад яе пільным кантролем і робіцца пры яе няспынным удзеле. Актыўнасьці гэтага чалавека можна пазайздросьціць. Ну а інтэрв'ю за час, які прайшоў ад ягонага запісу, ня страціла сваёй актуальнасьці.*

*<u>Натальля Гардзіенка:</u> Напачатку хацела б зразумець, чаму Вы прыехалі ў ЗША. Вы былі ў Чэхіі, працавалі на Радыё “Свабода”. Як так атрымалася, што адтуль Вы вырашылі зьехаць за акіян?*

*<u>Ганна Сурмач:</u>* Маё выгнаньне пачалося менавіта з Чэхіі, і я вельмі ўдзячная гэтай краіне, якая ў вельмі цяжкі для мяне час падтрымала, дапамагла мне. Фактычна я выяжджала зь Беларусі вельмі хутка, у белы сьвет як у капейку, як кажуць. І для мяне гэта было вельмі драматычна — за некалькі гадзінаў пакінуць Беларусь. Ехала з адной маленькай сумачкай, абсалютна нічога ня маючы, грошай амаль не было ў кішэні. Апынулася зусім адна на чужыне. Спачатку ў Польшчы, дзе мяне падтрымалі мае сябры-беларусы, найперш Алена Глагоўская. А далей была Чэхія, якая мяне літаральна ўратавала. У той час Чэхія надавала вельмі многа ўвагі ўцекачам. У іх была створаная цэлая сыстэма лягераў бежанцкіх і ўвогуле прыёму эмігрантаў. Я таксама жыла ў такім лягеры цягам 7 месяцаў у чаканьні палітычнага прытулку, які нарэшце атрымала, а пазьней і сталася грамадзянкаю Чэхіі. Я палюбіла гэтую краіну, жыла сем гадоў у Празе, пяць зь іх працавала ў беларускай рэдакцыі Радыё “Свабода”, вяла праграму “Беларускае замежжа”. Вынікам гэтае працы маёй стала кніга “Беларусь бязь межаў”, выдадзеная ў Беларусі, пра беларускую дыяспару, беларусаў у сьвеце, беларускіх эмігрантаў у розных краінах. Гэтая кніга — нон-фікшн, у ёй рэальныя асобы распявядаюць пра свае лёсы, пра сваё жыцьцё на чужыне. Важна, што гэтая кніга паказвае, як беларуская эміграцыя пашырае межы нашай краіны на ўвесь сьвет, што менавіта эміграцыя робіць Беларусь краінай бязь межаў. Для нас гэта было важна як для краіны, якая столькі гадоў была за калючым дротам, за жалезнай заслонай, ня мела кантактаў амаль зь сьветам.

Працу ў радыё я вельмі любіла, працавала зь вялікім задавальненьнем. Але лёс мой пачаў складацца трошкі па-іншаму. Па-першае, на Радыё “Свабода” гэтая праграма ў пэўным часе занікла й трэба было шукаць нейкую іншую працу. Мне было ўжо больш за 50 гадоў і знайсьці працу добрую было цяжка. А па-другое, у Чэхіі, каб атрымаць пэнсію, трэба адпрацаваць у гэтай краіне 25 гадоў. Думаю, што мой жыцьцёвы запас наўрад ці б дазволіў мне гэта зрабіць. І тое было таксама адной з прычынаў. Але самае галоўнае, што ў Амэрыцы ўжо жыў мой сын і тут нарадзілася ў мяне двое ўнукаў, і я прыяжджала, пабыла ў іх тут паўгоду, потым яшчэ паўгоду, і яшчэ... І ўрэшце мы вырашылі, што я ў Чэхіі адна, а тут мой сын адзіны, трэба жыць разам, бо ўжо надыходзіць час, калі трэба быць бліжэй да блізкіх людзей, да свае радні. Таму я вырашыла ў 2007 годзе пераехаць у Амэрыку, і тут працавала напачатку архівістам ў Фундацыі Крэчэўскага.

*<u>Натальля Гардзіенка:</u> Ці беларусы дапамаглі Вам пераехаць у Амэрыку?*


Ганна Сурмач

*Ганна Сурмач:* Паколькі ў Беларусі я доўгі час працавала зь беларускай дыяспарай, я мела шмат сяброў і знаёмых сярод замежных беларусаў. Калі выехала спачатку ў Беласток, там у мяне многа сяброў было, блізкія людзі былі, дапамаглі мне. Калі я прыехала ў Чэхію, там былі супрацоўнікі Радыё "Свабода", людзі, зь якімі я сустракалася, бо езьдзіла раней туды многа разоў. Спадар Вячка Станкевіч мне дапамог, зь Сержуком Сокалавым-Воюшам мы працавалі разам на радыё. Я іх ведала ўсіх, і яны мяне ведалі. Сям'я Вольгі й Сержука Абламейкаў дапамагала мне, таксама сп. Юрка Станкевіч. Вельмі ўдзячная ім за гэта. Безумоўна, што бяз гэтай падтрымкі мне было б намнога цяжэй. Але, безумоўна, асноўны цяжар эміграцыі прыпаў на мае плечы, бальшыню праблемаў даводзілася вырашаць уласнымі сіламі.

У мяне склаліся добрыя адносіны й з чэскім асяродзьдзем. Яшчэ калі сем месяцаў жыла ва ўцякацкім лягеры пад Прагаю, туды прыяжджалі юрысты, якія дапамагалі нам. Былі розныя арганізацыі, якія дапамагалі бежанцам, і я пазнаёмілася зь імі. Гэта пераважна былі маладыя людзі. Мы добра сябравалі, і калі ўжо прыехала ў Прагу жыць, то падтрымлівала зь імі кантакты, найперш зь юрысткаю Вераю Ганускаваю, якая нават наведвала мяне тут ў Нью-Ёрку. Таксама вельмі істотна дапамагла мне адвакатка Мілада Зыгмундава, зь якою таксама пасябравалі. Суседзі мае ў Празе былі ўсе чэхі. Я мела вельмі добрую сяброўку, чэшку Магду, якая, на жаль, памерла ад раку. У мяне былі вельмі добрыя адносіны з чэскім асяродзьдзем, я добра пазнала Прагу, пісала артыкулы пра Прагу, жыла ў раёне недалёка ад таго дому, дзе некалі жыла Ларыса Геніюш. Люблю гэты горад, бо ён мне напамінае Гародню (а я сама з Гарадзеншчыны) ці Вільню — тую Беларусь, сярэднявечную, якая па мэнтальнасьці вельмі мне адпавядае. Я была вельмі радая жыць у Празе. І толькі гэтыя жыцьцёвыя абставіны вымусілі мяне прыехаць у Амэрыку. Прыехала па турыстычнай візе й працоўную ўжо зрабіла, як працавала ў Фундацыі. Гэта было няпроста. Я вельмі хутка атрымала працоўную візу катэгорыі нумар 1, якая не разыгрывалася ў лятэрэі на працаўладкаваньне ў Чэхіі, а выдавалася для людзей зь добрымі жыцьцёвымі набыткамі, якія я мела на той час па сваёй працы — грамадзкай і навуковай.

*Натальля Гардзіенка: А чаму Вы ехалі менавіта ў Нью-Ёрк?*

Ганна Сурмач: Тут мой сын — гэта адно, а другое — я дагэтуль езьдзіла ў Нью-Ёрк. Раней была ў Амэрыцы. Я добра ведала беларускую эміграцыю ўсюды, у любую краіну, куды я ні прыеду, людзей ведаю й мяне ведаюць. Для мяне сапраўды Беларусь бязь межаў існуе. Прыехала сюды, а тут усе блізкія людзі, усе знаёмыя, асабліва старэйшая эміграцыя. Проста сяброўскія добрыя адносіны былі. Нядаўна памерла спадарыня Юлія Андрусышын, а я пяць гадоў жыла зь ёй у адной кватэры, а я ведала яе сямью шмат гадоў перад гэтым, асабліва яе сына — знакамітага Данчыка. Дзьве жанчыны самотныя змагаліся з гэтым жыцьцём. Але гэта было вельмі карысна для мяне, я пазнала гісторыю беларускай эміграцыі ад яе, навучылася многа чаму, пазнала Амэрыку, пазнала цудоўнага чалавека, беларускую патрыётку. Шкада, што яна памерла. Празь яе я была добра знаёмая з Галінай Руднік, якая таксама нядаўна памерла ў Мюнхене. Спадар Янка Запруднік, Антон Шукелойць, зь якім мы сустракаліся кожны тыдзень, можна сказаць. Так што я ехала ў Нью-Ёрк, як дахаты. А тут яшчэ й свая сям'я. Для мяне Нью-Ёрк вельмі камфортны для жыцьця, галоўнае тут — адчуваньне свабоды, што ёсьць для мяне галоўным чыньнікам існаваньня. Прыветныя людзі, разнастайнасьць насельніцтва, напоўненае клопатамі імклівае жыцьцё, стваральнае, аптымістычнае. Зразумела, што я адразу далучылася да беларускага грамадзкага руху

*Натальля Гардзіенка: Што ўяўляла сабой беларуская грамада ў Нью-Ёрку, калі Вы прыехалі?*

Ганна Сурмач: Яна была трохі большая, чым цяпер, яшчэ старэйшыя многія жылі. Ужо тады, калі я была ў Беларусі, на Першым і Другім зьездах беларусаў сьвету мы ўздымалі пытаньне аб праблемах, якія могуць узьнікнуць у дыяспары ў сувязі са зьменай пакаленьняў. Вось я й застала тут, у Амэрыцы, гэты пэрыяд зьмены пакаленьняў, калі апошнія старэйшыя людзі ўжо адыходзяць, а прыходзіць маладзейшае пакаленьне. Сёньня мы тут прысутнічаем на фэстывалі Атлянтык-Антык каля нашай царквы, прадаем беларускія стравы: дранікі, галубцы й іншае. І тут, бачыце, моладзь. Гэта маладыя людзі прыходзяць і працуюць. Вядома, моладзь ёсьць, але ўжо менш масава, чым гэта было ў папярэдніх пакаленьнях. Адзінкі тых, хто прыяжджае ў Нью-Ёрк, шукаюць сваіх суродзічаў. Пераважна ідуць на Брайтан да расейцаў ці да палякаў — куды хочаце, а то й ні да каго ўвогуле не ідуць. Нават забываюць, адкуль яны родам. І такіх вельмі многа. Адну грынкард колькі выйграюць людзей, а адзінкі толькі сюды прыходзяць і далучаюцца. Гады савецкай улады так змарнавалі маральны воблік чалавека, ягоную нацыянальную аснову, мэнтальнасьць нацыянальную, што проста жахліва бывае. Але пры ўсім гэтым нейкія маладыя парасткі паўстаюць і прыходзяць, і па-беларуску гавораць добра, далучаюцца й робяць нешта. Іх мала, але мы яшчэ тут ёсьць.

*Натальля Гардзіенка: Як я разумею, Вы адразу ж прыйшлі ў Беларуска-Амэрыканскае задзіночаньне. А як Вы сталі яго старшынёй?*

*Ганна Сурмач:* Я стала старшынёй БАЗА ў 2011 годзе. У мяне такая планіда, я вельмі грамадзка актыўны чалавек. Ад дзяцінства ўвесь час так жыву, адчуваючы адказнасьць за ўсё, што адбываецца навокал: у школе, ва ўнівэрсытэце, на працы. Я скончыла гістарычны факультэт Белдзяржунівэрсытэту, дзённае аддзяленьне. І тут у Амэрыцы, тым больш, я ўжо ведала, якія праблемы тут існуюць і адразу прыняла самы актыўны ўдзел у беларускім жыцьці. А тут жа як і паўсюль: бачаць, што ёсьць жадаючыя працаваць, усе радыя і ўсе нагрузкі на цябе павесяць. А справа ж ня толькі ў маім жаданьні, але і ў адказнасьці.

Я ад самых вытокаў Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", ад самых пачаткаў стварэньня гэтай арганізацыі была ў ёй, фактычна ўзначальвала працоўную групу падрыхтоўкі Першага зьезду беларусаў сьвету. І ўсіх тых людзей, якія прыехалі тады ў 1993 годзе ў Беларусь, я бачыла. Людзі радаваліся ўсяму, і я пазнаёмілася з усімі, паглядзела, якія гэта годныя людзі. Пасьля зьезду я езьдзіла па ўсіх асяродках, у Аўстраліі была і тут, у Амэрыцы, у розных гарадох, у Ангельшчыне, у Францыі. Бачыла, як беларускія асяродкі працуюць. І я мела адказнасьць за тую справу, якую мы распачалі. Яна была надзвычай важная. Беларусь мае драматычную старонку ў сваёй гісторыі, зьвязаную з масавай стратаю свайго насельніцтва праз эміграцыю — пераважна прымусовую — палітычную ці эканамічную. Усе тыя хвалі эміграцыі пасьля паўстаньняў — гэта страта найлепшых людзей, найлепшага нацыянальнага патэнцыялу — інтэлектуальнага, гаспадарчага, здольнага дзяржаву ўтрымліваць.

Адчуваючы гэтую вялікую адказнасьць за тое, што я рабіла ў Беларусі, і паколькі ў мяне не было магчымасьці працягваць тую працу на Бацькаўшчыне, я працягнула яе спачатку ў Чэхіі, а потым ў Амэрыцы. Тут я магла сама спрабаваць у сувязі са зьменай пакаленьняў утрымаць тыя асяродкі, якія стварыла старэйшая эміграцыя. Прыкладам, гэтая царква. На ўваходзе вісіць сьпіс людзей, якія куплялі гэтую царкву ў 1957 годзе. Яны прыехалі сюды ў канцы саракавых, людзі ня мелі нічога, па 5, па 10, па 20 даляраў зьбіралі грошы пяць гадоў, каб купіць гэты будынак. Я заўсёды гляджу на гэты сьпіс і думаю, што не магу зрабіць так, каб гэты будынак прапаў. А зацікаўленасьць, каб ён зьнік, ёсьць. Мы маглі набыць побач з царквой дом і ўчастак, пяць тысяч каштаваў. Але людзі казалі: "*Навошта нам трэба? Гэта ж даглядаць трэба будзе*". А цяпер за гэта ўсё мільёны бяруць.

Мы ня можам страціць тое, што набыта. Назіраю за тым, што адбываецца па ўсёй беларускай дыяспары на сёньня, ведаю, колькі арганізацый незалежных засталося. На пальцах можна пералічыць, І тут, у Амэрыцы, таксама беларускія ўлады актыўна праводзяць палітыку на

тое, каб эміграцыя выконвала іх пажаданьні, служыла іх мэтам. Нам гэтыя мэты не адпавядаюць. Таму мы незалежная арганізацыя, мы ўтрымліваем тут незалежную царкву — Беларускую аўтакефальную, утрымліваем гэты беларускі цэнтар, беларускі асяродак, выдаем газэту "Беларус" больш за 65 гадоў. І гэта мы ня можам страціць, я не магу дапусціць думкі, што гэта зьнікне. Трымаемся да апошняга і стараемся выхаваць маладзейшых, каб было каму перадаць і пераняць, каб усё гэта захавалася. Гэтае месца (дзе знаходзіцца царкоўны будынак) вельмі прэстыжнае, тут маёмасьць дарагая, і прыходзіцца вырашаць розныя праблемы, каб і царкву, і БАЗА захаваць і каб гэтыя арганізацыі былі дзейныя надалей.

*Натальля Гардзіенка: Колькі прыкладна сяброў было ў БАЗА, калі Вы прыехалі ў Нью-Ёрк?*

Ганна Сурмач: Тут такая сытуацыя, што фіксаванае сяброўства ёсьць у аддзелах. Мы маем у структуры БАЗА аддзелы й гурткі. Гурток — дзе найменш пяць чалавек. Калі дзесяць і больш — гэта аддзелы. Вось, прыкладам, Бруклінскі аддзел існуе, фіксаванае сяброўства маюць, людзі плацяць складкі. Сама Галоўная ўправа БАЗА — парасонавая арганізацыя, якая аб'ядноўвае мясцовыя аддзелы. Але мы не кантралюем лік сябраў у аддзелах. Іншая справа — пастаянная зьмена сьпісаў сяброў: адны прыходзяць, другія адыходзяць. Таму мы вырашылі не пераймацца лічбамі, а проста рабіць справу, праводзіць мерапрыемствы. Колькі людзей прыходзіць? Сёньня 20, заўтра 30 ці сотня — гэта ўсё нашыя беларусы. Мы ня можам для іх устанаўліваць жорскую структуру, бо многіх адштурхнем.

*Натальля Гардзіенка: А колькі аддзелаў было ў БАЗА, калі Вы прыехалі?*

Ганна Сурмач: У Нью-Джэрзі быў аддзел, у Кліўлэндзе, у Вашынгтоне яшчэ не было. Тут, у Нью-Ёрку, быў аддзел. Гурткі былі ў Канэктыкуце, цяпер занік, у Каліфорніі быў, таксама занік. Там, кажуць, нешта новае створана, але яны да нас не зьвярталіся й ніякіх кантактаў з намі ня мелі. Цяпер у нас існуюць адззелы ў Нью-Джэрзі — адзін з самых старых, Бруклінскі аддзел — гэта фактычна Нью-Ёрскі (бо калі аддзяліўся Нью-Ёрскі, дык стварылі Бруклінскі, але функцыі Нью-Ёрскага аддзелу ён фактычна выконвае). У Вашынгтоне ёсьць аддзел, у Флёрыдзе таксама, гэта гурткі сталі аддзеламі. У Кліўлэндзе аддзел занікае, вельмі там дрэнная сытуацыя: паўміралі старэйшыя і іншых амаль няма. І ў Чыкага ў нас гурток, аддзелу пакуль не ўдалося стварыць, але прадстаўніцтва ёсьць.

*Натальля Гардзіенка: Калі ўявіць сабе тыповага сябру сёньняшняга БАЗА, то гэта хто?*

Ганна Сурмач: Пераважна ў сябрах цяпер моладзь, якая прыехала зь Беларусі й сфармавалася ўжо ў незалежнай краіне. Нягледзячы на

тое, якая ў нас незалежнасьць умоўная, гэтыя маладыя людзі ведаюць, што яны зь Беларусі. Тая праца нацыянальная, якая вядзецца ў Беларусі, усё ж спрацавала, і многія далучаліся да яе яшчэ да выезду. І мы сёньня бачым, што ёсьць беларускі рух, беларуская мова гучыць. Некаторыя, хто Ліцэй Якуба Коласа скончыў, прыходзяць да нас у арганізацыю, нават юрысты, што скончылі Інстытут кіраваньня, прыходзяць, і гавораць добра па-беларуску. Гэта людзі, якіх нейкім чынам закранула хваля беларускага Адраджэньня і тая, якая працягнулася ўжо пры Лукашэнку, не такая актыўная, задушаная, але й яна ўсё роўна дае свае парасткі. Гэтыя маладзёны ходзяць у Беларусі на канцэрты "Старога Ольсы" й інш. Такая моладзь шукае, дзе й тут беларускае, прыходзяць і бачаць, што ў нас добра. А з іншага боку, важнае — гэта сфармаваныя асобы, якія цікавяцца шырэйшым сьветам, сваім месцам у ім, яны шукаюць свае шляхі і шукаюць сваіх. І гэта важна.

Вось, напрыклад, калі мы прыляцелі ў Аўстралію, у Мэльбурн, 24 гадзіны ў самалётах. Прыяжджаем — усё тут іншае, у нас чорныя вароны, а ў іх белыя папугаі на вуліцы, у скверах ходзяць, страусы… адным словам, усё чужое. Але прыяжджаем у аэрапорт, а там стаіць група ў вышыванках і з нашымі бел-чырвона-белымі сьцягамі. І хіба мне чужы ўжо гэты Мэльбурн? Абсалютна не! Мы сустрэліся, і гэта ўжо свой горад. Так і Нью-Ёрк. Прыяжджаюць людзі сюды, у чужы горад. Але калі трапляюць да нас, то разумеюць, што ён для іх не чужы.

Я нядаўна скончыла кнігу пра беларускі Нью-Ёрк ("Беларускі Нью-Ёрк" называецца). Складаецца зь дзьвюх частак: кароткі агляд беларускай прысутнасьці ў Нью-Ёрку й падарожнік па беларускіх мясьцінах. І мушу сказаць, што гэта горад, дзе ёсьць нашая матэрыялізаваная прысутнасьць. Бо беларусы побач зь іншымі народамі сьвету будавалі гэтую краіну, і найперш гэты горад. Ва ўсіх будоўлях беларусы ўдзельнічалі, тут жылі вядомыя людзі: Ірвін Бэрлін на Іст Вілідж усё жыцьцё пражыў, там і Юля Андрусышын жыла. Беларусы працуюць і цяпер на будоўлях. Колькі беларусы набудавалі тут ўсяго, колькі ў сабвэі працуюць, аўтобусы водзяць, працуюць у розных банках. Гэта наш беларускі ўнёсак у гэты горад. І калі мы адкрываем гэтую прысутнасьць, мы паказваем людзям, што яны тут не чужыя, што яны маюць таксама права на гэтую спадчыну. Гэта сталіца сьвету, у якой ёсьць месца й нашае.

*Натальля Гардзіенка: Цягам апошніх дзесяцігодзьдзяў у арганізацыю прыйшлі беларусы новай хвалі эміграцыі. Наколькі зьмяніўся зьмест працы БАЗА?*

*Ганна Сурмач:* За гэтым мы глядзім вельмі добра, бо многа дзе зьмяняецца зьмест і траціцца незалежніцкая нацыянальная сутнасьць беларускіх арганізацый. З аднаго боку добра, што беларусы зьбіраюцца разам хоць зь якіх зацікаўленьняў. Але, гэта толькі тусоўкі,

людзі зьбіраюцца папіць піва й цікава час правесьці, ім не даводзіцца ўтрымліваць будынак, думаць, як зарабіць на ягонае ўтрыманьне, рамонты, страхоўкі. Ім добра й прыемна бавіць час, таму туды многія й ходзяць на такія сходкі. Няма ніякай адказнасьці, няма ніякае працы, а толькі прыемнасьць адна. А мы зусім іншыя, мы захоўваем асноўную інтэлектуальную і матэрыяльную базу дзеля падтрыманьня беларускай прысутнасьці у Амэрыцы. Мы сьвяткуем нашыя нацыянальныя сьвяты, робім мерапрыемствы, юбілейныя — усё тое, што адпавядае нашым нацыянальным інтарэсам, тое, што мае нацыянальныя карані, мае каштоўнасьць культурную, гістарычную, тую ці іншую. Мы стараемся гэты ўзровень трымаць. Калі, напрыклад, нядаўна да нас зьвярнуліся "Песьняры" сучасныя зь Беларусі, ці можна з канцэртам прыехаць. Мы паглядзелі на гэтых "Песьняроў" у інтэрнэце, дык, слухайце, мы такую культуру папулярызаваць ня будзем. Але калі прыяжджае "Стары Ольса", то гэта мы, вядома ж, радыя папулярызаваць. Нашая заля вельмі цёпла сустрэла "Старога Ольсу", і канцэрт быў цудоўны, спадабаўся, бо людзі працуюць глыбока, сур'ёзна, цэлы пласт беларускай культуры ўздымаюць. Выставы мастакоў розных былі ў нас. І паэты, Някляеў прыяжджаў. Мы працуем з асобамі, якія могуць штосьці даць людзям. Тут у нас часта праводзяць розныя лекцыі па гісторыі Беларусі, аб сучаснай сытуацыі ў Беларусі, прыкладам спадар Зянон Пазьняк. Прэзэнтацыя кніг тут адбываецца вядомых аўтараў. Мы рэагуем на тыя падзеі, якія адбываюцца ў Беларусі. Праводзім мітынгі пратэсту, стараемся падтрымаць нейкія праекты ў Беларусі, калі магчыма дапамагчы. Стараемся, каб людзі прыяжджалі сюды й маглі паглядзець на Нью-Ёрк і на Амэрыку. Тут свае людзі — пакажуць. Хочацца, каб беларусы разумелі, што тая прапаганда, якая ідзе супраць Амэрыкі на расейскіх каналах, якія ў Беларусі пануюць, гэта лухта. Убачыўшы ўсё на свае вочы, людзі будуць па-іншаму глядзець на гэты сьвет. І гэта таксама нашая задача.

*Натальля Гардзіенка:* *Што Вы назвалі б самым вялікім дасягненьнем нью-ёрскіх беларусаў?*

*Ганна Сурмач:* Мы тут з Вамі сядзім перад гэтым вялікім дасягненьнем — гэты вялікі будынак: тры паверхі, дзе ёсьць царква, грамадзкая заля, бібліятэка, музэйная экспазыцыя. Гэты будынак знаходзіцца ў прэстыжным раёне Брукліну недалёка ад Манхэтану. Для Нью-Ёрку мець такое памяшканьне ня кожная супольнасьць можа сабе дазволіць. Напрыклад, грузіны ня маюць ніякага свайго памяшканьня, на вуліцы праводзяць мерапрыемствы. Будынак ня сам па сабе важны, а як матэрыяльная аснова для беларускага жыцьця, бо хадзіць у піўбары беларускую справу праводзіць? Адпачываць можна, так, гэта таксама добра, я ня супраць такіх мэтадаў гуртаваньня. Я проста кажу, што ў нас задачы розныя, нехта павінен гэта рабіць, а нехта іншае. Калі моладзь

цікавіцца тым — няхай ходзіць туды. Хто больш сур'ёзным цікавіцца, яны прыходзяць сюды.

Самыя вялікія дасягненьні беларусаў у Нью-Ёрку — тое, што яны стварылі беларускія арганізацыі й матэрыяльную базу для іх дзейнасьці. Тая ж Фундацыя Крэчэўскага. Гэта важна. Напрыклад, у 1949 годзе было створанае БАЗА тут, на 100-й вуліцы на Істсайд на Манхэтане. Эмігранты толькі самі прыехалі сюды, а ўжо думалі, як бы арганізацыю стварыць. Потым газэта была закладзеная. І яна, і гэтая арганізацыя ня толькі не заніклі, але яны й разьвіваліся й існуюць да сёньня й ёсьць што перадаць тым, хто далей прыяжджае сюды.

На жаль, эміграцыя зь Беларусі не спыняецца. Цяпер яна не такая прымусовая ў поўным сэнсе, як раней. Прыйдзе час, Беларусь стане незалежная дэмакратычная, але таксама будзе эміграцыя, таму што сьвет цяпер такі, што нельга прыпыніць людзей. Людзі павінны езьдзіць, жыць і працаваць там, дзе могуць, прыяжджаць дахаты, працаваць у іншых краінах — гэта ўсё натуральна, нармальна для цывілізаванага сьвету. Мы спадзяемся, што мы зможам вяртацца ў сваю краіну.

Тое, што створаны беларускія арганізацыі, беларускі друк, беларускае кнігадрукаваньне ў замежжы — гэта вельмі важна. Ведаеце, як многа кніг выдадзена тут, у Амэрыцы, якіх не было і не магло быць выдадзена на Бацькаўшчыне? Матэрыяльная база дазваляе нам таксама падтрымліваць і ідэю Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, і ідэю яднаньня на нацыянальнай глебе, на нашых гістарычных каштоўнасьцях. Усё гэта — вялікія дасягненьні, якія трэба захаваць.

*<u>Натальля Гардзіенка:</u> А якія Вашыя ўласныя дасягненьні як старшыні БАЗА? Што Вы лічыце тым галоўным, што менавіта Вы зрабілі?*

*<u>Ганна Сурмач:</u>* Пра свае ўласныя дасягненьні цяжка казаць, але многа ў чым са сказанага ёсьць і частка маёй працы. Галоўнае, што я змагла зрабіць разам з паплечнікамі, гэта тое, што БАЗА ёсьць і выдаецца газэта "Беларус". І гэта цэлы беларускі сьвет. Гэта ўсё праца, штодзённая праца. Уявіце, наколькі гэта складана. Вось нядаўна адрамантавалі фасад царквы, цяпер трэба зь іншага боку яе памаляваць. Трэба зрабіць мерапрыемствы, на гэта ідуць сілы й грошы, бо трэба падрыхтаваць…

*<u>Натальля Гардзіенка:</u> БАЗА існуе толькі за кошт сяброўскіх складак ці ёсьць яшчэ й іншыя фонды?*

*<u>Ганна Сурмач:</u>* Што б я хацела падкрэсьліць: у нас мэнтальнасьць такая была яшчэ ў савецкія часы, думаю, яна захоўваецца й цяпер, — усё павінен нехта даць. Грамадзкія арганізацыі былі на кармленьні ў дзяржавы, і дзяржава была павінна ім даць, а яны ўсе сядзелі на пасадах, і ўсё сабе. Тут, на Захадзе, такога няма. Калі ты грамадзкая арганізацыя, ніякіх датацыяў тут асаблівых няма. Хтосьці штосьці мо й дастане,

выб’е, але нам гэтага не ўдаецца. Мы ўсё забясьпечваем уласнымі сіламі. Сказаць, што БАЗА існуе толькі за складкі, нельга. На такія патрэбы невялікія, скажам, як правесьці канцэрт, вядома, са складак у асноўным грошы й ідуць. Але, напрыклад, сёньня фэстываль, мы на ім прадаем беларускую ежу, грошы пойдуць на ўтрыманьне царквы. А робяць у асноўным сябры БАЗА. БАЗА трымае царкву, а царква трымае БАЗА. Будынак набывала БАЗА некалі й пасьля перадала царкве, так што мы маем маральнае права тут быць. Але ніякай фінансавай падтрымкі звонку мы ня маем. Зрэшты, ня маем і перашкодаў зарабляць, што самае істотнае. Калі працуеш і робіш, ды знаеш, што табе ніхто гэта не абрэжа й ня выкіне цябе з краіны, тады працуеш зь іншым настроем. Ты ведаеш, што гэта тваё, што гэта трэба ўтрымліваць і маеш за гэта адказнасьць. У Беларусі ты можаш працаваць, але знаходзішся пры гэтым у залежнасьці ад дзяржавы. На жаль, беларускае грамадзтва мае яшчэ такую вялікую хібу постсавецкую, што адказнасьць сваю перакладае на дзяржаву. Павінен даць Лукашэнка, павінен даць райвыканкам, павінен той ці гэты. Тут, у Амэрыцы, вы ня пойдзеце недзе скардзіцца, што вам не зрабілі рамонт ці штосьці іншае. Гэта ўсё ўласная адказнасьць. Гэта асноўны складнік і рухавік чалавечага жыцьця — адказнасьць за сябе, за сваю сям’ю, за сваю краіну. Гэта ў нас было разбурана савецкім часам.

*Натальля Гардзіенка: А што б Вы назвалі самай вялікай праблемай БАЗА як арганізацыі на сёньня?*

Ганна Сурмач: Іх так многа, тых праблемаў. Вялікая праблема, што працэс зьмены пакаленьняў у арганізацыі яшчэ далёкі да завяршэньня. Цяпер папаўняецца эміграцыя за кошт людзей, выхаваных з ідэяй незалежнасьці Беларусі, але пераважная частка грамадзтва глядзіць назад, а не наперад. І гэтыя людзі таксама прыяжджаюць, і яны не гатовыя далучыцца да беларускай справы, тым больш яе працягваць належным чынам. Але яны гатовыя забраць маёмасьць, гэткія спробы бясконцыя. Ёсьць вялікая небясьпека, што такім чынам мы лёгка можам страціць усё. Так страчваюць украінцы свае памяшканьні, цэрквы. Прыходзяць новыя людзі зь Беларусі з савецкай мэнтальнасьцю, і ім хочацца ўзяць у рукі найперш грамадзкую маёмасьць. Іншага разуменьня сьвету ў іх няма. Але надзея ў тым, што ўсё-такі сярод моладзі, якая прыяжджае, ёсьць і іншая частка, прагрэсіўная моладзь. Важна, што новае пакаленьне ведае мовы. Нашае пакаленьне мовам не навучылі. Я сама вучыла нямецкую мову. Але каму патрэбная нямецкая мова? У Чэхіі мусіла чэскую вучыць, здала экзамэн. Цяпер мне трэба было здаваць экзамэн на грамадзянства ў ЗША ў ангельскай мове. Я ў свае 70 гадоў мусіла здаваць экзамэн у ангельскай мове, мове, якую я ніколі не вучыла. Затое вучыла марксізм-ленінізм. А каб я гэты час аддала на ангельскую мову, для мяне настолькі шырэй адкрыўся б сьвет. Але гэтага нельга было

дапускаць у Савецкім Саюзе. А сёньняшняя моладзь прыяжджае ўжо зь веданьнем ангельскае мовы, для іх адаптацыя ў гэтым грамадзтве нашмат прасьцейшая. І гэта адукаваныя людзі. Наш народ заўсёды імкнуўся да адукацыі, якая дае больш магчымасцяў. А мы тут будзем прывучаць патрошкі, каб яны не забывалі, адкуль яны родам.

*Натальля Гардзіенка: Сёньня вельмі шмат беларускіх арганізацый у розных краінах зьнікае, сутыкнуўшыся з праблемай адыходу старога пакаленьня і недастатковай адказнасьці новага. Як Вы ацэньваеце пэрспэктывы БАЗА ў такой сытуацыі? Наколькі арганізацыя застрахаваная ад аналягічнага сцэнару?*

*Ганна Сурмач:* Страхоўкі тут быць ня можа. Мы ўжо столькі гэтага ўсяго пераслылі. Дзякуючы таму, што я ведаю гэтую мэтоду, ведаю, як у Вільні зьнішчылі, як усюды ў Расеі пазьнішчалі незалежныя арганізацыі, у Малдове. Проста памаленьку кось-кось і ў хамут. Заплацяць за адно, дадуць грошы на другое, трэцяе… камусьці бізнэс паабяцаюць — і ўсё. І ўжо арганізацыя стаіць на задніх лапках перад дзяржаваю. У нас такога ня будзе. Мы маем вопыт і прынцыпова трымаемся сваей пазыцыі. Пэрспэктыва — не магу сказаць, што сьветлая. Многа будзе залежыць ад таго, якой стане сама Беларусь. Калі стане лепшай Беларусь, будзе і тут лепш. Мы прынамсі ня будзем адчуваць прэсінгу з боку варожых структураў, гэта ўжо многа будзе значыць. Тады, можа, нейкая падтрымка з боку дзяржавы й будзе, і людзі самі змогуць краіну падтрымліваць. Многа будзе залежыць ад лёсу Беларусі, ад лёсу сьвету наогул, бо можа быць і не да культурніцкай працы наогул… Але галоўнае — хоць маленькая надзея ёсьць, што нешта мы здолелі зрабіць і яшчэ, калі дасьць Бог, здолеем.

*Натальля Гардзіенка: Крыху памяняем тэму. Хацела распытаць пра Вашую працу як архівіста ў Фундацыі Крэчэўскага. Вы разбіралі архівы. Што там ёсьць? Што ўяўляюць сабой архівы Фундацыі?*

*Ганна Сурмач:* На маю долю выпала самая брудная праца. Архівы пераважна захоўваліся ў падвале, дзе вада стаяла даволі часта, была высокая вільгаць. Частка папераў падгніла, і многа чаго давялося проста выкінуць. Але гэта пераважна не былі дакумэнты, больш кнігі й пэрыёдыкі. Я падняла ўсё з падвалу, выцягнула наверх, зрабіла першапачатковую сыстэматызацыю па фондах. Зрабіла навукова-тэхнічную апрацоўку дакумэнтаў Рады БНР.

Сама Фундацыя была створаная, каб зьбіраць беларускія архівы, і яна адпачатку фактычна гэтую функцыю выконвала: дзеячы, якія адыходзілі, стараліся перадаваць свае дакумэнты. На жаль, за архівамі Фундацыі не было належнага нагляду. Карысталіся імі, хто як хацеў, выбіралі, не вярталі, і я б не сказала, што поўныя архівы вельмі добра там захаваліся. Гэта вельмі шкада. Але я ролю Фундацыі не хачу прыніжаць. Гэта вельмі добра, што яны зьбіралі, што бібліятэка там добрая, і гэта сёньня ёсьць. Нешта там можна знайсьці.

*Натальля Гардзіенка: Але й тут пад царквой Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Брукліне ёсьць і бібліятэка, і царкоўныя архівы…*

*Ганна Сурмач:* Так, і царкоўныя, і іншыя архівы. Архівы не разабраныя, проста пакладзеныя ў шафы. Бо разабраць архівы забірае багата часу. Якая тут магчымасьць на гэта ёсьць? Тут хоць бы сыстэматызаваць паперы па фондах. Прыкладам, дасьледчык бачыць — Тамашчыка архіў, хоць і не разабраны, але можна ўзяць і паглядзець. Вядома, немагчыма забясьпечыць стопрацэнтную захаванасьць у такім выпадку, але на гэта ж мае цэлая ўстанова працаваць. Нашая ж задача — хаця б раскласьці, каб нешта можна было знайсьці, ня тое каб асобны дакумэнт, а хоць бы фонд. Вось гэта на першым этапе важна. Тут яшчэ я ня так даўно займаюся гэтым. Як будзе час — буду рабіць.

*Натальля Гардзіенка: А доступ да гэтых дакумэнтаў для зацікаўленых дасьледчыкаў магчымы?*

*Ганна Сурмач:* Гэта ж не закрытыя архівы, гэта архівы дзеля карыстаньня. Безумоўна, можна прыйсьці працаваць. Можаце дапамагаць і разьбіраць.

*Натальля Гардзіенка: А пра бібліятэку пры царкве, якой Вы займаецеся, раскажыце, калі ласка.*

*Ганна Сурмач:* Бібліятэка тут ад самага пачатку існаваньня парафіі. Гэта добрая бібліятэка. Наша задача цяпер — стварэньне каталёгу. Над інвэнтарным каталёгам зараз завяршаецца работа. Гэта аснова любой бібліятэкі. Тут некалькі тысяч кніг. Асобна на прапанову Вітаўта Кіпеля мы сталі фармаваць бібліятэку беларускай дыяспары. Бо як такога комплексу бібліятэкі беларускай дыяспары пакуль не існуе. У нас тут багатыя зборы, каталёг яшчэ ня скончаны, будзе асобны. Мы ўзялі за аснову бібліяграфію Кіпеляў "Беларускі друк на Захадзе" й стараемся фармаваць фонды бібліятэкі.

*Натальля Гардзіенка: А як фармуецца бібліятэка?*

*Ганна Сурмач:* Складаецца з таго, што было, плюс тое, што прывозяць на прэзэнтацыі, і інш. Сказаць, што мы мэтанакіравана ўсё адсочваем, ня можам, таму што паслаць кнігу ці атрымаць — усё патрабуе грошай. А вольных грошай мы ня маем. Таму папаўняем бібліятэку прынагоднымі рознымі шляхамі.

*Натальля Гардзіенка: Цяпер адыходзяць прадстаўнікі старой эміграцыі. Часта ў іх захоўваюцца кнігазборы. Ці яны перадаюць іх сюды? Ці Вы просіце пра гэта?*

*Ганна Сурмач:* Часта перадавалі й перадаюць у Фундацыю. Нядаўна я забрала бібліятэку Юлі Андрусышын. Думаю, што мы папоўнім нашую царкоўную бібліятэку менавіта кнігамі са збораў Юлі Андрусышын. Гэта тое, што апошняе мы атрымалі.

*Натальля Гардзіенка: Калі я была ў мінулым годзе ў Кліўлэндзе, бачыла, у якім жалюгодным стане тамтэйшая бібліятэка й архівы ў "Полацку". Ці няма пэрспэктывы перадаць іх сюды ў царкву?*



Натальля Гардзіенка
каля Беларускай царквы
Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне
ў часе фэстывалю Атлянтык-Антык.
Верасень 2017 г.

Ганна Сурмач: Так, у Кліўлэндзе раней усё рабілі, але цяпер няма каму. І пэрспэктывы перадачы мізэрныя, няясныя.

Натальля Гардзіенка: *І апошняя тэма. Раскажыце, калі ласка, пра той фэстываль, які сёньня адбываецца.*

Ганна Сурмач: Гэта адбываецца ўжо больш як 40 гадоў. Вуліца Атлянтык вельмі даўгая, ідзе праз два боро: Бруклін і Квінс. На ёй стаяць дзьве беларускія царквы, нашая і ў Рычманд Гіл. Для нас гэтая вуліца асаблівая. Мы тут сядзім, можна сказаць, дзьверы ў дзьверы з гэтым фэстывалем. З нашай кухні можна адразу несьці ежу прадаваць. Мы заўсёды напярэдадні фэстывалю купляем участак вуліцы перад царквой, каб удзельнічаць, дазвол атрымліваем і гандлюем. Зарабляем грошы для царквы, вунь у кухні рамонт зрабілі, пліту купілі.

Натальля Гардзіенка: *А што тут найлепш прадаецца? Што паказваецца беларускае?*

Ганна Сурмач: Дранікі, бяруць іх добра, галубцы, амэрыканскія мітболы папулярныя. Тушаную капусту паспрабавалі прадаваць, ідзе вельмі добра. Блінчыкі з тварагом таксама вельмі добра прадаюцца. Каўбаскі смажым…

Натальля Гардзіенка: *Я прайшлася па вуліцы ў часе фэстывалю й бачыла, што некаторыя нацыянальнасьці ладзяць нейкія песьні, выступы. Беларусы ніколі гэткага не рабілі?*

Ганна Сурмач: І мы рабілі, было такое. У нас гурт Валянціны Пархоменкі й Алеся Казака выступаў каля царквы ў часе фэстывалю, музыку беларускую пускалі. Больш магчымасьцей было крыху. Цяпер хоць бы нагатаваць ды прадаць. І рэпрэзэнтаваць беларусаў. Бачыце, наш сьцяг паўсюль, расьцяжка вялікая, што царква нашая, беларуская, каб людзі ведалі. Так мы папулярызуем сваё імя. Прадаем таксама вышыванкі, сувэніры беларускія.

Адна цікавостка. У пазамінулым годзе нас узнагародзілі памятным знакам на фэстывалі за тое, што мы тут, на вуліцы Атлянтык, найстарэйшыя. Мы тут 60 гадоў. Усе будынкі ў нашым раёне ад таго часу

многа разоў гаспадароў памянялі, а толькі мы трымаемся, трымаем сваю царкву і ніякіх праблемаў гораду не ствараем. Наадварот, яны ў нас і залю часам арандуюць для гарадзкіх мерапрыемстваў. Мы надзейныя партнёры. Усе 60 гадоў мы прыстойна займаем гэты будынак, і нас нарэшце заўважылі й ацанілі, адзначылі. А гэты будынак царквы, ён у 1856 годзе пачаў будавацца. На 23 гады старэйшы, чым Бруклінскі мост. Так што на нас адказнасьць ляжыць. Калі будынак не ўтрымаць, прыйдуць камэрцыйныя структуры, разбураць, нягледзячы што гэта царква. Хмарачос які паставяць, каб грошай зарабіць.

*Натальля Гардзіенка: Ці павялічылася цікавасьць да беларусаў на гэтых фэстывалях за той час, як Вы ў іх удзельнічаеце?*

*Ганна Сурмач:* Складана ацаніць. Галоўнае, што людзі нашыя стравы купляюць. Многія штогод прыходзяць менавіта да нас, бо ведаюць, што ў гэтым месцы прадаюцца гэткія стравы. Тут жа навокал амэрыканская ежа, а асабліва славяне, дый самі амерыканцы прыходзяць часта да нас, гэта штосьці новае для іх. Многія знаюць, што мы тут ёсьць штогод. Часам і інфармацыйныя матэрыялы пра Беларусь разам са стравамі раздаем. Распавядаем пра Беларусь. Нехта і ў царкву заходзіць паглядзець. Цікавяцца беларусамі. Тут адзінае месца ў Нью-Ёрку, дзе пастаянна лунае наш бел-чырвона-белы сьцяг.

*Тэма нумару: Амэрыканская гісторыя*
*Інтэрвію*

# БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ НА ЭМІГРАЦЫІ

## Гутарка Натальлі Гардзіенкі зь Лізай Літаровіч і Надзеяй Запруднік

*У часе сваіх спатканьняў зь беларускімі жанчынамі ў Аўстраліі й Вялікабрытаніі, ЗША й Канадзе, я бадай заўсёды апыналася за сталом, і размовы абавязкова скіроўваліся на тое, як харчаваліся суродзічы на чужыне. Часта гаспадыні паказвалі мне свае агародчыкі, дзе яны вырошчвалі памідоры, агуркі, зеляніну. Аднойчы ў Сыднэі я нават удзельнічала ў зьбіраньні грыбоў у вельмі дзіўным аўстралійскім лесе. Усё гэта спрыяла фармаваньню маёй цікавасьці да кухні эмігрантаў.*

*На жаль, ня ўсе тыя размовы было магчыма запісаць, і ў нейкі момант я зразумела, што неабходна адмыслова распытаць беларускіх гаспадыняў-эмігрантак, што яшчэ жывуць, пра кухню, беларускія стравы й звычкі харчаваньня на чужыне. Увосені 2017 году ў мяне зьявілася магчымасьць паразмаўляць пра ўсё гэта зь дзьвюма беларускамі, што жывуць у Нью-Джэрзі: спадарыняй Лізай Літаровіч (нар. 1933) і спадарыняй Надзеяй Запруднік (у першым шлюбе Кудасавай, нар. 1932). Зьмест гэтых размоваў і прапануецца ўвазе чытачоў.*

<u>*Натальля Гардзіенка:*</u> *Мяне даўно цікавіць тэма беларускай кухні на эміграцыі. Вельмі хачу зразумець, што ўяўляла зь сябе харчаваньне эмігрантаў пачынаючы ад Нямеччыны. Ці была магчымасьць там гатаваць і што гатавалі, што елі?*

<u>*Ліза Літаровіч:*</u> У Нямеччыне ў лягеры, як былі яшчэ за немцаў, то была бурда. Немагчыма казаць, што гэта была ежа. Кальрабі такое, каторае ўжо старое, бралі, рабілі нейкі суп і гэта елі, але не было нічога другога. Як прыйшлі амэрыканцы, дык тады ўжо варылі. Мы ж у беларускім лягеры жылі й там варылі сваё, прыкладам боршч, і хадзілі тады й бралі, бо нехта ня меў хаты й не варыў. А яшчэ сялёдку прывозілі ў лягер, рыбу…

<u>*Надзея Запруднік:*</u> У Нямеччыне елі, што было, не выбіралі. Як прыйшлі амэрыканцы, занялі тую частку Нямеччыны, дзе мы жылі, кожны стараўся дастаць, каб свайго смаку нешта зрабіць, сваёй традыцыі. Тады можна ўжо было купіць нешта й памагалі нам.

<u>*Натальля Гардзіенка:*</u> *А калі ў Амэрыку прыехалі, зьявілася яшчэ больш магчымасьцяў?*

*Ліза Літаровіч:* А ў Амэрыцы мы спачатку жылі два гады ў Пэнсыльваніі, дык там чорнага хлебу не было, толькі белы. Але муку можна было купіць, і мама сама пякла. Каўбасы там таксама зусім іншыя былі, курыныя. То езьдзілі да амішаў, яны, як беларусы, іхнія дамы немалёваныя, у кухнях печы такія стаялі, як у Нямеччыне, грубкі. І ў іх розных каўбасаў было багата, то ў амішаў і набывалі.

*Надзея Запруднік:* Як у Амэрыку прыехалі, дык у Саўт-Рывэры ўтварылася вялікая група беларусаў, і жанчыны ўзяліся за традыцыйную ежу. Калі Вялікдзень прыходзіў, то вельмі шмат у каго было цэлае парасё згатаванае. Ехалі недзе на фарму, куплялі. Я адзін год таксама рабіла парасё. І стараліся булкі заўсёды рабіць. Кажуць “кулічы”, а мы называем іх “пірагі”. Гэта кожная гаспадыня рабіла. І каўбасы свае рабілі.

*Натальля Гардзіенка: А што яшчэ менавіта беларускае варылі?*

*Надзея Запруднік:* Мы шмат чаго беларускага рабілі й робім. Капусту ўсе любяць, агуркі ўсе любяць, кожны рабіў, як прыпаміналі, што было ўдома. І гэта захавалі. Шчавель робім. Амэрыканцы ня ведаюць, што гэта. Я халаднік нават рабіла яшчэ гэтым летам. Буракі вельмі непапулярныя ў амэрыканцаў, а мы любім. Кашы розныя робім: і прасяныя, і грачаныя, і з гарбузом, і без гарбуза, нават пярловую вельмі карысную.

Мы стараемся мець у хаце сваё, каб суп быў, хоць і ня кожны дзень. Я люблю картафляны зрабіць на скорую руку ці там з капусты, агародніну кладу, усё што можна. Саляткі вельмі многа мы ядзім. Саляткі ў нас кожны дзень. Часта там бывае нешта пяць розных фруктаў



Ліза Літаровіч

на сьнеданьне, плюс мелі рыбу салман. Я неяк палічыла, што на стале было 10 розных страваў на сьнеданьне. Вельмі карыснае сьнеданьне, там і фрукты, і крэмчыз, і памідорчык, агурочак. Ня ўсе гэта робяць, але ў нашай хаце гэта ёсьць, без салятаў і бяз фруктаў у нас паніка — няма чаго есьці. Тут жа круглы год маеш сьвежае ўсё.

*Ліза Літаровіч:* Мы сваё заўсёды рабілі. Саляткі, супы варыла ўсякія, і баршчы, і капусту. Суп я варыла кожны дзень. Адзін раз бульбяны, другі боршч… Лёня мой толькі суп кожны дзень хацеў есьці. Яшчэ аладкі рабіла. Я раблю на дражджах. Картафляныя то цяпер не раблю. Раней рабіла, кожную пятніцу былі картафляныя аладкі. Гэта было як закон.

Зацірку рабілі. Макароны з малаком дзіцям варыла. Галубцы. З галубцамі во што было. Мой сын вельмі любіў галубцы. Я рабіла сама заўсёды, а аднойчы, як ужо ён быў дарослы, ня жыў з намі, а толькі прыяжджаў, то я паехала й купіла ў краме галубцы. А ён пакаштаваў і кажа: *"What`s the matter? You never make like this" ("Што з табой? Ты ніколі такое не рабіла").* А я кажу, што гэта я купіла. Але яны былі зусім не такія. Я рабіла галубцы па-свойму: цыбуля, перац прыправа, мяса — свініна й часамі валавіна. І залівала таматнай пастай. А мадзяры кладуць кіслую капусту яшчэ паміж галубцамі. Ведаю, бо на працы ў нас жанчына так рабіла. Раз у месяц мы мелі ланч, калі кожны рабіў сваё нешта. Я рабіла аладкі, рабіла налісьнікі (мая любімая страва). Я люблю налісьнікі з сырам. А тут можна купіць зь ягадамі. А яшчэ мы сала смажылі…

*Натальля Гардзіенка: А дзе сала бралі? Ці было ў Амэрыцы нармальнае сала?*

*Ліза Літаровіч:* А мы сваю сьвіньню калолі на працягу трынаццаць гадоў. Партугальцы на фарме прадавалі сьвіней, Лёня мой паедзе, купіць, яны абсмаляць там. Прывязем, і трэба разьбіраць. Але Лёня мой ня мог глядзець на гэта, сыходзіў з хаты. Лёнеў бацька сьвіньню разьбіраў, а я глядзела. Потым Лёнеў бацька памёр, і што? Я сама разьбірала, рабіла каўбасы, мы іх сушылі. Тут можна было штосьці ў капцілаўку пакласьці, занясеш, аддасі й потым забіраеш.

І цяпер яшчэ мо тая фарма ёсьць, але я ня знаю, ці яшчэ хто езьдзіць з нашых туды. Ужо ня робяць таго. Цяпер, напрыклад, сала можна набыць у кітайскай краме. Калі ў нас у царкоўнай залі робяць пікнік, дык Люды Бахар сын паедзе, купіць гэтага сала, пасоляць яго і смажаць. Усе любяць. Усякае было. Я сама некалькі разоў купляла сала й адзін раз таксама ўзяла пасаліла. Лёня бочкі спэцыяльныя зрабіў, і я туды пасаліла. А неяк была ўзяла сала, пасаліла й паклала ў фрызэр. І яно яшчэ лепей тады было. То пазьней купілі добры фрызэр і так рабілі. Лёня раздаваў сала сваім сябрам, і дома елі.

І каўбасы рабіла. Купляць было дорага, мала грошай было, але было дзёшава рабіць. У нас было трое дзяцей, разам — пяць чалавек. На

дзесяць даляраў можна было пражыць цэлы тыдзень. Цяпер папробуй! Цяпер я адна і мне трэба 50 даляраў.

Курыцу купляла або Лёнева мама, або я на фарме. Там заб'юць, прынясеш дадому, абскубеш іварыш. Магазінаў так не было, як цяпер. Цяпер перавярнулася ўсё ў фабрыку. У Саўт-Рывэры было шэсць пякарняў, на кажнай былі розныя магазіны, дзе можна было купіць хлеб. А тады як гэтыя вялікія крамы паадчыняліся, малыя павыходзілі зь бізнэсу, бо там дзешавей.

Надзея Запруднік: І мы самі каўбасы рабілі і сальцісоны. І яшчэ людзі робяць. Нядаўна Нік Бахар цяпер паехаў на фарму, купіў вялікае парасё і гэта ўсё парэзаў, падзяліў і нарабіў каўбасаў з маткай разам. Нават і мне пару прывез яшчэ. Ляжаць замарожаныя. Таксама мы зь Лізай кожны год робім хрэн на Вялікдзень. Кожны год плачам.

*Наталья Гардзіенка: А сам хрэн купляеце ці расьце ў кагосьці?*

Надзея Запруднік: Купляем і пільнуем, калі яўрэйская пасха, тады яны па нізкай цане аддаюць. Ліза сядзіць і пільнуе, дзе чатыры даляры за фунт, а дзе яна можа за паўтара даляры купіць. Дык мы робім многа хрэну. Бо якая то пасха бяз хрэну? Традыцыйна ўсе маюць хрэн, сальцісон, каўбасы, саляткі дадаюць свае.

*Наталья Гардзіенка: У Аўстраліі мне часта беларускі паказвалі свае агароды, дзе вырошчвалі агуркі, памідоры самі. Ці тут у Амэрыцы вы нешта сваё вырошчвалі?*

Надзея Запруднік: Вырошчвалі-вырошчвалі. Некаторыя і сёньня маюць. Некалі ў нас быў агародзік у некалькі градак. Цяпер ужо ня садзім.

Ліза Літаровіч: Раней мы мелі вялікі агарод, памідоры, агуркі. Мая мама садзіла буракі таксама. І мята ў мяне расла, і маліна.

*Наталья Гардзіенка: А салілі агуркі, памідоры?*

Надзея Запруднік: Салілі й цяпер робяць. Такія зацятыя жанчыны былі. Вунь сёньня капусту прывезьлі вельмі смачную сваю. Робяць на сёньня й на пару дзён, але ў банкі цяпер не закатваюць. Але адразу як прыехалі, дык рабілі. І памідораў закаткі рабілі, і іншае. Але яно не аплачваецца. Хто будзе з гэтым вазіцца, калі можна пайсьці й набыць?

Ліза Літаровіч: Я раней саліла агуркі й добра саліла, і капусту рабіла. У мяне бочка была для капусты. Мы куплялі нейкіх 6 галовак капусты, нью-ёрская капуста дужа добрая, вялікія галоўкі й яна поўная такая. Цэлую бочку капусты гэтай зраблю, бывала, яна як закісьне, моркву клала, і стаяла цэлую зіму. Раздавала людзям. І Лёня гасьцям даваў. Хто прыяжджаў, усе любілі. Тут цяпер у Нью-Джэрзі можна купіць усё, а раней гэтага не было. Была другая ежа, і людзі, якія прыехалі, гэтага не любілі. Я саліла таксама агуркі сама. А цяпер такія можна купіць, што амаль тое самае.

*Наталья Гардзіенка: А грыбы беларусы ў Амэрыцы зьбіралі?*

*Надзея Запруднік:* Грыбы тут — толькі шампіньёны. Амэрыканцы карыстаюць грыбы, дадаюць іх да мяса ці яшчэ. Некалі мая пляменьніца сама ў падвале грыбы вырошчвала. Беларусы хадзілі спачатку ў лес у грыбы, апенькі ці лісічкі часам я нават зьбірала. Але тут загорача. Мы некалі езьдзілі на адпачынак у штат Мэйн, дык там усё расьце і ў пачатку жніўня можна баравікоў назьбіраць. Ці чаго іншага. А тут загорача.

*Натальля Гардзіенка: А адкуль у вас былі рэцэпты беларускіх стравоў?*

*Ліза Літаровіч:* Рэцэпты ад мамы. Яна добрая гаспадыня была. І я ад яе шмат навучылася. Праўда, мама, прыкладам, варыла баршчы, а я не любіла капусты і ня ела.

*Надзея Запруднік:* Рэцэпты былі з дому. Многія старэйшыя жанчыны памяталі, а малодшыя пераймалі адразу. Скажам, у мяне ёсьць рэцэпт сырнай пасхі, якую мала дзе хто рабіў. Гэты рэцэпт ад майго першага мужа Гені бабулі зь Вільні. Генеў бацька быў сьвятар, з двух бакоў сьвятары былі ў яго. І дзед ягоны таксама, а ягоная матушка рабіла такую пасху. І ён вельмі часта ўспамінаў: вот мама рабіла, мама рабіла. Нарэшце мы пачалі перапіску, наладзілі лучнасьць з сваякамі, і мне прыслалі рэцэпт. То я кожны год традыцыйна гэтую пасху раблю. Сырную менавіта. Я тварог свой раблю. Там цэлая працэдура, кіпяціш малако, даеш сьмятану, яйкі, лімон, каб тварог атрымаўся, пасьля адцэжваеш і даеш ўжо, як на гатовае цукар, ванілу й прысмакі. Часам нават маленькія арэшкі кладу. Бяру формачку, мне зрабілі такую, як піраміда, і пасха вельмі прыгожа выходзіць. І кожны год усе нашыя робяць пасху, многа вазьні зь ёй. Я заўсёды вару ў чацьвер, у пятніцу мы прыяжджаем з цэрквы, і я яе адцэжваю цэлую ноч. А тады на другі дзень гэта ўсё ў формачку і ў халадзільнік. Гэта такое традыцыйнае. Я давала некалькім жанчынам рэцэпт, але нешта ў іх не атрымалася. Некаторыя робяць толькі з тварагу, і гэта таксама проста, але гэтая яна такая, як марожанае, яна вельмі далікатная.

*Натальля Гардзіенка: Значная частка беларускай кухні — кулічы, пірагі, караваі, булкі, рэцэпты якіх зьберагаліся свае ледзь ня ў кожнай сям'і. Ці шмат на эміграцыі жанчыны пяклі?*

*Надзея Запруднік:* Багата ўсяго рабілі, і пірагі, караваі. У нас такая была спадарыня Вайдэка, старэйшая жанчына. У яе быў сьпісак рэцэптаў. То як яна памерла, я ўзяла яго сабе на памяць. У мяне яна яшчэ й сёньня недзе ёсьць гэтая кніжка, старэнькая. І там быў рэцэпт булак-пірагоў, які мне вельмі спадабаўся. Называўся — “Булкі Клаўдзіі Ўладзіміраўны”. Хто гэтая Клаўдзія Ўладзіміраўна, ня ведаю, але гэтыя булкі я пераняла й далей раблю. Пякла іх адразу па 50 штук. Бо як нейкая аказія, прыкладам Кавыля кніжкі прэзэнтацыя, дык і ён шчасьлівы быў з тых пірагоў, бо сваё. Тыя ж Кавылі нас былі на 50 год вясельля

запрасілі, дык замест кветак я сьпякла пірог, паставіла на ім каласкоў пару й васілёчкай — ой шчасьце вялікае было.

Пробавала я таксама сеяць лён, у мяне ён рос, і было насеньне, каб для пірагоў. Я заўсёды пякла. Калі нашая Іра (Рагалевіч-Дутко. — *Н. Г.*) выходзіла замуж, дык я такія вялікія два пірагі сьпякла. Але была праблема, што як цеста падышло, мой пірог аказаўся завысокі — немагчыма было пячы. То я мусіла асобна пячы верх і ніз. А тады гэтыя часткі злучыла, паставіла там каласкі-васількі — і ніхто не заўважыў. Цэлы дзень я гэта рабіла.

А аднойчы было, што я сьпякла каравай, а ён упаў. Куды ж я такі панясу? А гэта ж для маёй хрэсьніцы было. Дык я купіла маленькі вазончык фіялкаў і паставіла кветкі малыя зьверху на пірог. І так прыгожа на стале выглядала гэта разам, што й не заўважылі, што каравай апаў.

Прыгоды былі розныя. Была Кіпелю на юбілей вялікі зрабіла каравай, а ён добра падгарэў, бакі падгарэлыя былі. Ну я ж не магу такі несьці. Зрабіла другі лепшы. То я кажу знаёмым, што першы раздам усім, бо прыпалены, а Кіпелю панясу другі, які даволі добра выйшаў. А ён як пабачыў каравай, то кажа, што гэта найлепшы падарунак. Ён любіць салодкае, асабліва нашае.

А аднойчы Кіпелева нявестка Ларэйн вырашыла для доктара, сябры мужа Юркі, зрабіць у падарунак пірог. Звоніць мне і пытаецца, як рабіць. То я па тэлефоне кансультавала яе ўвесь час, што рабіць. Але ж пірог не падняўся, Ларэйн яго выкінула. Стала рабіць другі, і той таксама. Толькі трэці пірог сьпякла нарэшце. Яна такая настойлівая. А гэта ж



Надзея Запруднік і Натальля Гардзіенка. Сомэрсэт, 2017 г.

столькі часу ўзяло! Я казала ёй: “Давай я сьпяку”. Але яна адказвае, што гэта мае быць ня Надзін пірог, а пірог Ларэйн. І дабілася. І гэты сябра такі быў шчасьлівы: яны паклалі на рушнічок і так паднесьлі яму той каравай.

Сёлета да Вялікадня я сьпякла мо якіх 18 пірагоў, большых ці меншых. Некаторыя старэйшыя людзі ўжо адны жывуць і ня могуць пячы. То я сабе запісваю, каму трэба, і пяку. І маленькі — сабе, смачны. Налаўчылася так лёгка іх рабіць, толькі трэба, каб хатняй тэмпературы ўсё было — расчыніш, падымецца ўсё, замясіла, у форму і як падымецца — у печ. Па пяць, па шэсьць запар, і вельмі прыгожа выходзіць. У вялікіх формах не сьпячэш, гарыць. Найлепш у банках ад кавы, там сьценкі тонкія, то пірагі хутка пякуцца й добра выглядаюць. Дык я цяпер пільную, каб знайсьці такую вялікую жасьцяную банку. Булкі гэтыя якраз па рэцэпце тае Вадэйчыхі раблю. Вадэйкі жылі недзе ў Баранавічах, то й рэцэпт адтуль. І я яго трымаюся. Многія, хто каштуе, кажуць, што вельмі смачныя.

<u>Ліза Літаровіч:</u> А я яшчэ й булачкі пякла. Як у Флярыдзе неяк была, дык з унучкамі напяклі 65 штук. Усе любілі тыя булачкі. Цеста салодкае раскатвала й рабіла розныя, часам масла, мармалад дадавала або як касу заплятала. Таксама ад маці навучылася. Думаю, усе гэта ўмелі. Таксама просьвіркі пякла ў царкву. На Пасху пяку кулічы. У гэтым годзе толькі 12 сьпякла. Сваякам трэба было паслаць, і тут і Соня, Кавылёва жонка, просіць, і Дзямешчыкам трэба. А сваякам па пошце дасылаю, трэба ўкруціць добра, і яно дойдзе. Можна яшчэ замарозіць. Дасылаю ў Паўночную Караліну і ў Морыстаўн.

*<u>Натальля Гардзіенка:</u> Царква была цэнтрам прыцягненьня беларусаў на эміграцыі, часта менавіта вакол яе гуртаваліся. І царкоўныя сьвяты былі вельмі важныя. Нездарма столькі ўжо расказвалі пра велікодныя кулічы. А што яшчэ рабілі на Вялікдзень? Як сьвяткавалі?*

<u>Надзея Запруднік:</u> Была традыцыя: у першы дзень на Вялікдзень мужчыны ходзяць па хатах і віншуюць. Кожная гаспадыня тады хоча, каб як найпрыгажэй было ўсё. А тады на другі дзень жанчыны ходзяць, а мужчыны прымаюць. Я памятаю, як да нас прыйшлі мужчыны ўжо трошкі пад мухай. Бо ж з хаты да хаты даюць па яйку й наліваюць. Усе вельмі стараліся рабіць багатыя сталы. Накрывалі стол, сьвятар хадзіў па хатах, айцец Мікалай Лапіцкі, сьвяціў ежу, стол. А тады памалу пачалося, што сьвятар ужо быў стары, то ня будзе хадзіць па хатах, то сталі прыносіць ежу ў царкву.

*<u>Натальля Гардзіенка:</u> А яйкі як фарбавалі?*

<u>Надзея Запруднік:</u> Цыбуляй. Мая суседка мне некалі піражок на Вялікдзень падарыла й спытала пра яйкі, чым фарбуем. Я кажу: “Цыбуляю”. “Цыбуляю?” — да яе не даходзіла, як гэта робіцца. І гэта натуральна. Маю знаёмую грачанку. То яны пякуць вялікі пірог і ставяць

у яго чырвоныя яйкі. Але чырвоныя ад фарбы. А я ёй кажу, што мы вось цыбуляй фарбуем. Мы і цяпер цыбуляй фарбуем. У царкве раней быў вялікі-вялікі кошык, і туды фарбавалі фарбамі мясцовымі яйкі, а як скончалася служба, іх сьвяцілі і людзі бралі сабе. У мінулым годзе ўжо не было гэтага. Але самі мы заўсёды фарбавалі цыбуляй. Я недзе ад Калядаў пачынаю зьбіраць. Тады яшчэ знаёмую прасіла, яна працавала ў нейкім вялікім прадпрыемстве, дык брала для мяне шалупіньне. Я замочваю, наліваю туды воцат, а тады сцаджваю гэта ўсё й вару. Харошыя выходзяць такія яйкі, прыгожыя.

*Натальля Гардзіенка: А на Каляды што рабілі, якія беларускія стравы?*

Надзея Запруднік: На Каляды гэта вушкі. Вушкі рабілі надзяваныя з грыбамі. Рабіўся вельмі смачны грыбовы расол такі чысты. Вушкі — гэта, як равіёлі, толькі ў форме вуха. Начынку кладзеш і адварваеш. Гэта нават нашыя дзяўчаты Русакі й цяпер яшчэ робяць. Адна за амэрыканца выйшла, другая, але вушкі — гэта мусіць быць, і яны любяць. Расол варыцца таксама з буракоў з рознымі прыправамі, смачны такі, бо туды ўсё кладзеш — і цыбулю, і ўсё іншае, толькі бязь мяса. Гэтым залiваюцца вушкі, і вельмі смачна. Некаторыя пробавалі браць жыдоўскі боршч, але ў яго зусім іншы смак. Наагул, нашыя жанчыны добра вараць.

На Каляды таксама заліваная рыба была, смажаная рыба была. Сухарыкі, што заліваюць макам. Я гэтага не рабіла, але людзі часта рабілі, бо прывезьлі з сабою рэцэпты. Посная куцьця. Памятаю, мы з Русакамі заўсёды рабілі разам, у нас была заліваная шчука, я часта рабіла фаршыраваную шчуку. Шчука тут прадаецца, але не заўсёды вялікая. У мяне ёсьць унікальны рэцэпт, яна так прыгожа тады ляжыць. Ну і селядцы былі на Каляды, грыбы, марынады розныя. Я любіла марынаваныя грыбы, шампіньёны. Многія так робяць. Вінегрэт таксама робяць. Як на Вялікдзень, дык я раблю з маянэзам трохі, і зь смятанай, а на Каляды, калі ўжо пост, дык з алеем. Але вушкі — гэта было самае смачнае.

О, яшчэ хвораст. Я некалі рабіла, і рабіла, і рабіла, і надаела мне, то цяпер не раблю, многа вазьні. Майго пляменьніка дачцэ калі было 14 гадоў, дык яна з мамай сваёй прыйшла й цэлую гору напяклі. Я яе вучыла, як гэта. Цяпер яна ўжо ня будзе варыць, бо мае двое дзяцей ды працуе настаўніцай, куды там да тых хрусьцікаў? Палякі часамі прадаюць, мо не такія, як сваёй работы, але ўсе любяць. Як арэшкі. І гэта на Каляды рабілі таксама. Я сама рабіла на 12 жаўткоў, то цэлая гара атрымоўвалася. Самае горшае, што трэба смажыць іх у алеі, то цэлая хата задымленая. Ёсьць машынка, што макароны робіць. То каб менш раскатваць, пускаеш праз гэтую машынку й толькі рэжаш цеста. І адразу можна смажыць. Але вазьні многа. Я бачыла некалі на фэстывалі, як жарылі дранікі славакі, яны такую вялікую печку мелі й туды закладалі:

пяць хвілінаў — і назад, і ўсё. А так па адным-два — марудная работа. Хвораст быў, я маю рэцэпт добры, але не раблю, бо смажыць зашмат, і жыр гэты, і лапаткі трэба мяняць. Гэта ўсё часу патрабуе.

*Натальля Гардзіенка:* *Ці тут у Амэрыцы цікавіліся беларускімі кулінарнымі кнігамі? Савецкія кулінарныя кнігі прыходзілі сюды?*

*Надзея Запруднік:* У мяне ёсьць пару. Я дзе магла падхоплівала. Польскія нават маю — некалі дзядзька нам прыслаў з Польшчы. Цікавыя рэцэпты ёсьць. Нешта мне прывезьлі зь Беларусі. Вялікія і маленькія, дзе добрыя рэцэпты маюцца. Ёсьць што ў Беластоку выдалі. Адну нам падаравалі зь Беластоку, як прыяжджала моладзь. У мяне ёсьць розныя кнігі — і амэрыканскія, і аўстрыйскія. "Літоўская гаспадыня" таксама ёсьць. Як яшчэ маладая гаспадыня была, дык мяне ўсё цікавіла, каб нешта новае зрабіць.

*Натальля Гардзіенка:* *Здаецца, адзіны зборнік рэцэптаў беларускай кухні, які быў апублікаваны эмігрантамі, — гэта кніга Марыі Станкевіч "Вялікалітоўская (беларуская) кухарка", што па-беларуску выйшла ў Нью-Ёрку ў 1959 годзе. Што вы ведаеце пра Марыю Станкевіч і яе кнігу?*

*Надзея Запруднік:* Я пробавала пару рэцэптаў, але нешта не пайшло. Нешта я не энтузіястка яе. На мой розум, што там замнога нянашага. Марыя была чэшка, але яна засвоіла беларускую мову. І была вельмі добрай беларускай, гэта ёй не закінеце. Але думаю, што яна не такой вялікай гаспадыняй была. У яе больш было навукі, а ня кухні.

Наогул, вельмі часта падавалі нашыя рэцэпты ў газэтах тутэйшых. Скажам, налісьнікі з тварагом мы пяклі, дык давалі тады наш рэцэпт у газэту. Але так сабралі ўсё гэта, то ніхто не зрабіў, гэтага не хапае. Шкадую, што ніхто не сабраўся, бо можна было б вельмі добра зрабіць. Але што ж? Часам людзі кажуць: "*А мне ня трэба, я й так знаю, як пячы*". У кожнай гаспадыні свой набор рэцэптаў заўсёды. Цяпер з нашых знаёмых, думаю, жанчыны ўсё менш вараць. Некаторыя жанчыны замуж выйшлі, дык думаюць: няўжо я мушу пячы ці варыць сама? Жанчыны, што каля нас жывуць, гэта ўсё ўдовы, ім няма для каго варыць. Дзеці-ўнукі самі ўжо гэта ня надта пераймаюць. Яны амэрыканізаваныя й стараюцца, як лягчэй каб было — пойдзем ды купім усё. Каб аддавалі так многа кухні часу — ня думаю. Дзяцей маюць і працуюць.

*Натальля Гардзіенка:* *Але ж вы таксама й працавалі, але й варылі...*

*Надзея Запруднік:* У нас запал застаўся ад выхаваньня свайго, зь сям'і. Памяталі, што некалі рабілі. Цяпер, як мяшу булкі, згадваю маму, яна слабога здароўя была, і мне гадоў, можа, 10, яна зьляжа, бо дрэнна чуецца, і кажа: "*Дык ты, Надзенька, памясі цеста*". І я мяшу гэты хлеб. Мяшу. "*Мама, можа, ужо досыць?*" — "*Яшчэ трошкі*". І ў мяне гэтая здольнасьць засталася ад мамы. Мама вельмі добрая гаспадыня была, хлеб вельмі смачны пякла...

*Публікацыі*

***Ірына Чыкалава***
*Менск*

# ІСААК АРОНАВІЧ ГУРВІЧ (1860—1924): ВЫБІТНЫ НАВУКОВЕЦ-АМЭРЫКАНІСТ, ПУБЛІЦЫСТ, ГРАМАДЗКІ ДЗЕЯЧ ЗЬ БЕЛАРУСІ Ў ЗША

Вывучэньне й навуковае асэнсаваньне гісторыі, палітыкі, культуры й разнастайных бакоў жыцьця Злучаных Штатаў Амэрыкі ў Беларусі мае ўласныя традыцыі. Першымі амэрыканістамі зь беларускімі каранямі былі Маісей Астрагорскі, аўтар выбітнай працы "Дэмакратыя й палітычныя партыі" (Нью-Ёрк, 1902, 1910; Парыж, 1903, 1912)[1], і Ісаак Гурвіч, аўтар кнігі "Іміграцыя й праца: эканамічныя аспэкты эўрапейскай іміграцыі ў Злучаныя Штаты" (Нью-Ёрк, 1912). І калі праца Астрагорскага зьявілася на рускай мове ў Маскве ў 1927—1930 гг. і была перавыдадзеная ў 1997 г., то кніга Гурвіча, напісаная ім у ЗША, куды ён эміграваў і дзе застаўся жыць на пастаяннай аснове, апынулася невядомай рускамоўнаму чытачу.

Хоць Ісаак Аронавіч нарадзіўся ў Вільні, рос у Менску, дзе закончыў мужчынскую гімназію, тут стаў прыкметным дзеячам сацыялістычнага руху. Ужо ў сталым узросьце ён ў 1877 г. паступіў у Пецярбургскую мэдыка-хірургічную акадэмію, потым перайшоў у Санкт-Пецярбургскі ўнівэрсытэт, зь якога ў 1879 г. быў выключаны. У 1881 г. яго адправілі ў высылку ў Табольскую губэрню. Адтуль у 1885 г. Гурвіч вярнуўся з жонкай і сынам у Менск, тут нарадзіў яшчэ траіх дзяцей. Скончыў адукацыю, здаўшы ў 1887 г. экстэрнам іспыты на ступень кандыдата права ў Яраслаўскім Дзямідаўскім юрыдычным ліцэі, які меў статус факультэту Маскоўскага ўнівэрсытэту. Яго першая навуковая праца —

[1] Ostrogorsky, Moisei. La democratie et l'organisation des partis politiques. Paris: Calmann-Lévy, 1903. 759 p.; Ostrogorsky, Moisei. Democracy and the Organisation of Political Parties. 2 vols. London: Macmillan, 1902; Ostrogorsky, Moisei. Democracy and the Party System in the United States: a study in extra-constitutional government. New York, 1910. 469 p.; Ostrogorsky, Moisei. La democratie et les partis politiques. Paris, 1912. 728 p.; Острогорский, Моисей. Демократия и политические партии / пер. с франц. А. М. Горовиц. Москва: Издательство Коммунистической академии, 1927—1930. 2 т.; Т. 2. Соединенные Штаты Америки. Москва, 1930.

манаграфія “Перасяленьне сялян у Сібір”[2] — стала вынікам дасьледчых пошукаў у гады высылкі. Цікавасьць да навукі Гурвіч захаваў на ўсё жыцьцё, хоць рэалізаваць прызваньне да дасьледчай працы яму давялося ў іншай краіне — у ЗША. Менавіта там ён атрымаў ступень доктара філязофіі Калюмбійскага ўнівэрсытэту, стаў вядомым спэцыялістам у галіне статыстыкі, аўтарам трох навуковых манаграфій, актыўным публіцыстам.

Эміграваць, а па сутнасьці, зьбегчы ў Амэрыку Гурвіч вымушаны быў у 1889 г. Сям'я (сястра, жонка й чацьвёра дзяцей) пасьля ягонага ад'езду ў ЗША засталася жыць у Менску. Ісаак Аронавіч пасяліўся ў Нью-Ёрку, атрымаў стыпэндыю для вучобы ў асьпірантуры Калюмбійскага ўнівэрсытэту[3], у 1893 г. здаў іспыты й абараніў дысэртацыю *“The Economics of the Russian Village”* на ступень доктара філязофіі ў эканамічных навуках. Яна была апублікаваная ў выглядзе кнігі ў 1893 г. Калюмбійскім унівэрсытэтам, у хуткім часе, у 1896 г., зьявілася і ў рускім перакладзе ў Маскве[4]. У гэтай буйной навуковай працы Гурвіч прааналізаваў актуальныя на той час пытаньні: стан пазямельнай абшчыны, характар прадукцыйных сіл, месца ў гаспадарчым жыцьці падаткаў і нядоімак, роль супольнай і індывідуальнай арэнды, ператварэньне самастойнага гаспадара ў земляробчага рабочага, заработную плату ў вёсцы, наяўнасьць сельскага залішняга насельніцтва, разбурэньне патрыярхальнай сям'і, земляробчыя клясы, суадносіны асабістага землеўладаньня й зямельнай абшчыны, перадзелы супольнай зямлі, буйное землеўладаньне, наступствы голаду 1891 г. Вялікую каштоўнасьць мелі разгорнутыя статыстычныя табліцы й дакумэнтальныя матэрыялы аб разьвіцьці сельскай гаспадаркі, зьмешчаныя ў кнізе ў якасьці дадаткаў. Першапачаткова апублікаваная на ангельскай мове праца Гурвіча “Эканамічнае становішча рускай вёскі” стала важным унёскам у разьвіцьцё русістыкі ў ЗША.

У сувязі з выхадам англамоўнага выданьня кнігі Гурвіч зьвярнуўся зь лістом у Лёндан да Фрыдрыха Энгельса, у якога прасіў парады аб магчымых практычных дзеяньнях, што маглі б ісьці сьледам за сытуацыяй, ахарактарызаванай у манаграфіі. У адказе Энгельс пісаў: *“Вельмі ўдзячны за Ваша цікавае дасьледаваньне эканомікі рускай вёскі, якое я прачытаў, спадзяюся, не без карысьці. Што ж тычыцца пякучых*

---

[2] Гурвич, Исаак. Переселения крестьян в Сибирь: Исследование И. А. Гурвича. Москва: Тип. А. Левенсон и К°, 1889. X + 144, [3] с.

[3] Пра гэты момант сваёй біяграфіі Ісаак Гурвіч згадвае ў нарысе “Амэрыканскія ўнівэрсытэты”: Образование. 1901. № 4. С. 29.

[4] [Гурвич, Исаак]. Экономическое положение русской деревни / Гурвич И., д-р философии, б. доц. статистики в Чикагском университете, присяжный поверенный Нью-Йоркского верховного суда и пр. Перевод с английского А. А. Санин. Москва: Типо-лит. В. С. Траугот, 1896. 395 с.

*пытаньняў рэвалюцыйнага руху ў Расеі й тае ролі, якую сялянству можа быць давядзецца адыграць у ім, то на гэтыя тэмы я ня мог бы з усёй добрасумленнасьцю выказаць сваё меркаваньне ў друку, ня вывучыўшы спачатку ўвесь прадмет зноўку й ня папоўніўшы свае вельмі недастатковыя веды фактаў па гэтым пытаньні найноўшымі дадзенымі. Але на гэта ў мяне, на жаль, цяпер няма часу. Разам з тым у мяне ёсьць усе падставы сумнявацца ў тым, ці будзе мець такое маё публічнае выступленьне тое ўзьдзеяньне, якога Вы ад яго чакаеце. На ўласным вопыце 1849—1852 гг. я ведаю, як непазьбежна ўсякая палітычная эміграцыя расколваецца на мноства варагуючых паміж сабою групаў, пакуль на радзіме заціша. Гарачае жаданьне дзейнічаць разам зь немагчымасьцю зрабіць што-небудзь карыснае выклікае ў многіх разумных і энергічных людзей звышінтэнсіўную працу думкі, спробы адкрыць або вынайсьці новыя, ледзь не цудадзейныя сродкі барацьбы. Слова староньняга чалавека зрабіла б нікчэмнае, у найлепшым выпадку часовае, уражаньне. Калі Вы сачылі за эміграцкай літаратурай апошняга дзесяцігодзьдзя, то самі ведаеце, як, напрыклад, асобныя месцы з твораў і перапіскі Маркса тлумачацца рознымі групамі рускіх эмігрантаў самым супярэчлівым чынам, цалкам гэтак жа, як калі б гэта былі выслоўі клясыкаў або тэксты з Новага запавету. Што б я ні сказаў па згаданым Вамі пытанні, мае словы, верагодна, будуць мець тую ж долю, калі наогул на іх зьвернуць увагу. Такім чынам, з гэтых розных меркаваньняў я заключаю, што для ўсіх, хто можа мець да гэтага дачыненьне, у тым ліку й для мяне самога, лепш мне ўстрымацца"*[5].

Несумненна, перасьцярога Энгельса аб небясьпецы спробаў адкрыць або вынайсьці новыя, ледзь не цудадзейныя сродкі барацьбы ва ўмовах, калі немагчыма зрабіць што-небудзь карыснае, Гурвіч мог аднесьці й на ўласны рахунак. Можна меркаваць, што адыход ад ідэалёгіі артадаксальнага марксізму і прыняцьце ім рэвізіяніцкай канцэпцыі паступовых сацыяльна-палітычных пераўтварэньняў у пэўнай ступені зьвязаныя з парадамі Энгельса.

У 1893 г., пасьля пераезду ў Чыкага, Гурвіч быў прыняты ў юрыдычную асацыяцыю штату Ілінойс, атрымаў пасаду прыват-дацэнта ў Чыкагскім унівэрсытэце на катэдры статыстыкі, аднак у хуткім часе вымушаны быў падаць у адстаўку на патрабаваньне ўнівэрсытэцкага кіраўніцтва ў сувязі з удзелам у папулісцкім руху. У 1893—1894 гг. дасьледчык выкладаў філязофію ў Нью-Ёрскім унівэрсытэце. Апублікаваў шэраг артыкулаў у акадэмічных часопісах, сярод якіх былі *"Yale Review"*, *"Journal of Political Economy"*, *"Political Science Quarterly"*. На працягу 1894—1900 гг. Гурвіч займаўся адвакацкай практыкай,

[5] Ф. Энгельс — Исааку Гурвичу. Лондон, 27 мая 1893 г. // К. Маркс и Ф. Энгельс. Сочинения. 1-е изд. 1946. Т. XXIX. С. 222—223.

а ў 1900 г. перайшоў на дзяржаўную службу: працаваў у Бюро перапісу Міністэрства ўнутраных спраў, а потым, у сувязі з пераразьмеркаваньнем функцыяў, у Бюро перапісу Міністэрства гандлю й працы ў Вашынгтоне.

Шматгадовае знаёмства з разнастайнымі праявамі жыцьця амэрыканскага грамадзтва зрабіла Гурвіча сапраўдным краіназнаўцам. З канца 1890-х гг. ён стаў друкавацца ў Расіі. Яго імя было знаёмае чытачам часопісаў *"Новое слово"*[6], *"Образование"*[7], *"Жизнь"*[8], *"Правда"*[9], *"Современный мир"*[10]. Нарысы на сацыяльныя тэмы з жыцьця амэрыканскага грамадзтва ў гэтых і іншых пэрыёдыках разам з артыкуламі "Амэрыканскі друк" у калектыўнай працы "Пэрыядычны друк на Захадзе"[11] (практычна паўтарае апублікаваны ім аднайменны нарыс ў часопісе "Образование" за 1902 г.) і "Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты" ў кнізе аб дзяржаўным ладзе й палітычных партыях у Заходняй Эўропе й ЗША[12] склалі ўнёсак Гурвіча ў расейскую публіцыстыку ў галіне амэрыканістыкі.

---

[6] Гурвич, Исаак. Страничка из истории промышленных синдикатов // Новое слово. 1897. № 10. С. 180—195; И. Г. [Исаак Гурвич]. Из Северо-Американских Соединенных Штатов. Американская социальная демократия // Новое слово. 1897. № 12. С. 216—232.

[7] Гурвич, Исаак. Из жизни американских университетов // Образование. 1898. № 5—6. С. 14—20; Гурвич, Исаак. Американские университеты // Образование. 1901. № 4. С. 21—46; Гурвич, Исаак. На Западе (Из Нью-Йорка). Американская печать // Образование. 1902. № 7—8. С. 1—24; № 9. С. 14—32.

[8] Гурвич, Исаак. Письма из Америки. "Хозяин" и "машина" // Жизнь. 1900. № 3. С. 269—286.

[9] Гурвич, Исаак. Промышленная консолидация в Северо-Американских Соединенных Штатах (Тресты) // Правда. 1904. № 9. С. 135—160; № 12. С. 65—92. Оттиск: Гурвич, Исаак. Промышленная консолидация в Сев.-Амер. Соед. Штатах. Б. м., 1904. 85 с.; Гурвич, Исаак. Письмо из Америки. Накануне президентских выборов // Правда. 1904. № 10. С. 227—243; Гурвич, Исаак. Всемирная выставка в С.-Луи // Правда. 1905. № 3. С. 243—267; Гурвич, Исаак. Последние выборы и политика Рузвельта (Письма из Америки) // Правда. 1905. № 7. С. 219—227.

[10] Гурвич, Исаак. Развитие рабочего законодательства в Северо-Американских Соединенных Штатах // Современный мир. 1907. № 5. С. 181—188; Гурвич, Исаак. Классовый состав американского населения // Современный мир. 1910. № 7. С. 38—56.

[11] Гурвич, Исаак. Американская печать // Периодическая печать на Западе. СПб., 1904. С. 286—315.

[12] Гурвич, Исаак. Северо-Американские Соединенные Штаты // Государственный строй и политические партии в Западной Европе и в Северо-Американских Соединенных Штатах. СПб.: Изд. Н. Глаголева, 1906. Т. III. С. 131—238.

З публіцыстычных працаў на амэрыканскія тэмы вылучаецца ягоны нарыс аб дзяржаўным ладзе ЗША, які не застаўся незаўважаным тагачаснай крытыкай. Часопіс *"Руское богатство"* ў рэцэнзіі адзначыў нарыс Гурвіча як годны асаблівай увагі: *«Хоць і гэты нарыс носіць кампілятыўны характар, але на зьмесьце яго выгадна адбілася й "асабістае знаёмства аўтара з амэрыканскім жыцьцём"»*[13]. Разгледзеўшы досыць каротка, але выразна гісторыю каляніяльнага пэрыяду, Гурвіч выявіў прычыны й наступствы адпаду паўночнаамэрыканскіх калёніяў ад Англіі. Паводле яго інтэрпрэтацыі, у аснове гэтай трагічнай для Брытанскай імпэрыі падзеі ляжалі пралікі ў эканамічнай палітыцы мэтраполіі: ангельскі парлямэнт лічыў задачай калёніяў служыць рынкам для айчыннай прамысловасьці й забясьпечваць яе таннай сыравінай. У барацьбе з мэтраполіяй не было й намёку на шырокі ідэйны ўздым, які б маніфэставаў рэзкі разрыў з традыцыямі мінулага, хоць і *"былі ў калёніях адукаваныя адзіночкі, выхаваныя на ідэях натуральнага права й знаёмыя з францускай філязофскай літаратурай; але масе народу яны былі зусім невядомыя; вясковыя жыхары ведалі на поўначы толькі свайго сьвятара й міравога судзьдзю, а на поўдні — плянтатара"*[14]. Адсюль і адмаўленьне ацэньваць барацьбу калёніяў з мэтраполіяй як рэвалюцыю. У гэтым Гурвіч пагаджаўся з прафэсарам Голдвінам Сьмітам, які сьцьвярджаў, што *"так званая амэрыканская рэвалюцыя была не сапраўднай рэвалюцыяй, а адкладаньнем"*. Вядома ж, што *"застрэльшчыкамі паўстаньня" "зьявіліся кантрабандысты Бостана і навакольных месцаў"*[15].

Хоць Гурвіч прызнаваў, што *"Дэклярацыя Незалежнасьці ўяўляе зь сябе кульмінацыйны пункт палітычнага радыкалізму амэрыканскай рэвалюцыі"*, але пры гэтым заключаў, што яе фразэалёгія была далёкая *"ад рэальнай грамадзкай думкі тае эпохі"*[16]. У яе праекце толькі ўскосна асуджалася рабаўладаньне, што, аднак, і ў такім выглядзе не знайшло падтрымкі Кантынэнтальнага кангрэсу 1776 г. Нават у тых штатах, дзе рабства мясцовымі канстытуцыямі было забароненае (Вэрмонт, Масачусэтс), зыходзілі не з высокіх ідэй свабоды й дэмакратыі, а з чыста прагматычных меркаваньняў: *"кліматычныя ўмовы Новай Англіі былі неспрыяльныя для распаўсюджаньня рабства: негры дрэнна пераносілі суровую зіму й выміралі ў вялікай колькасьці, а зь*

---

[13] Рецензия: *Государственный строй и политические партии в Западной Европе и в Северо-Американских Соединенных Штатах. Т. III* // Русское богатство. 1906. № 11. С. 164.

[14] Гурвич, Исаак. Северо-Американские Соединенные Штаты. С. 141—142.

[15] Гурвич, Исаак. Северо-Американские Соединенные Штаты. С. 141.

[16] Гурвич, Исаак. Северо-Американские Соединенные Штаты. С. 142.

*іншага боку, утрыманьне рабоў у бязьдзейнасьці на працягу доўгіх зімніх месяцаў было стратным*"[17]. У нарысе зварот да гісторыі ЗША быў фонам для больш выпуклага паказу галоўнага — дзяржаўнага ладу краіны.

На хвалі рэвалюцыі 1905—1907 гг. Гурвіч вярнуўся ў Расею, дзе зрабіў спробу зноў уключыцца ў палітычнае жыцьцё краіны й, паводле адных зьвестак, быў абраны выбарнікам Другой Дзяржаўнай думы, але вынікі выбараў былі ануляваныя ўладамі, паводле іншых — спрабаваў балатавацца ў Думу ад Менску, але няўдала. Яго ўварваньне ў палітычнае жыцьцё не віталі габрэйскія сацыялістычныя партыі, асабліва Бунд. Пасьля роспуску Думы Гурвіч вярнуўся ў ЗША, дзе зноў заняў месца дзяржаўнага чыноўніка.

У 1908—1909 гг. ён быў супрацоўнікам Бюро перапісу Нью-Ёрскага муніцыпалітэту. У гэтай якасьці Гурвіч выявіў сябе як выдатны статыстык. Ён шмат зрабіў для пераносу на амэрыканскую глебу распрацаваных ім мэтадаў статыстычнага дасьледаваньня міграцыі працоўных. На ягоную прапанову ўрад ЗША для высьвятленьня нацыянальнага складу насельніцтва краіны пры правядзеньні перапісу 1910 г. упершыню прыняў родную мову ў якасьці асноўнага крытэру вызначэньня нацыянальнасьці. Дагэтуль іміграпты рэгістраваліся толькі па краінах ранейшага пражываньня[18].

Галоўным вынікам шматгадовага пагружэньня ў тэму амэрыканскага жыцьця стала фундамэнтальная праца Гурвіча, прысьвечаная эканамічным аспэктам эміграцыі ў ЗША, якая і ў Расеі стала патроху вывучацца[19], бо з 1819 да 1913 г. у ЗША перасялілася каля 3 млн расейскіх падданых, што склала прыкладна 10 % ад агульнай колькасьці некарэнных жыхароў ЗША. Толькі ў 1880-я гг. з Расейскай імпэрыі ў Амэрыку прыбыла 2 102 596 чалавек, сярод якіх, паводле зьвестак Службы іміграцыі й натуралізацыі ЗША, больш за ўсё было габрэяў (43 %) і палякаў (27 %), за імі ішлі літоўцы (9 %), фіны (8 %), немцы (5 %), рускія (4 %). Пры гэтым усе яны былі з заходніх губэрняў, што дыктавала неабходнасьць зьвярнуцца да вывучэньня эміграцыі зь Віленскай губэрні: брашуру пра яе на даручэньне віленскага губэрнатара

---

[17] Гурвич, Исаак. Северо-Американские Соединенные Штаты. С. 144.

[18] Тудоряну, Николай. Очерки российской трудовой эмиграции периода империализма: (07.00.02): автореф. дис. ... д-ра ист. наук / ЛГУ им. А. А. Жданова. Ленинград, 1988. С. 6.

[19] Филипов, Юрий. Эмиграция. Санкт-Петербург: В. Ф. тип. Киршбаума, 1906. 92 с.; Патканов, Серафим. Итоги статистики иммиграции в Соединенные Штаты Америки из России за 1800—1909 гг. Санкт-Петербург, 1911; Курчевский, Борис. О русской эмиграции в Америку. Либава, 1914.

Дзьмітрыя Любімава напісаў Леў Афросімаў[20], матэрыялы для яе браліся з архіваў, зводак паліцэйскіх і валасных упраўленьняў.

Для Гурвіча ж тэма эміграцыі мела й асабістае вымярэньне: ён таксама быў адным зь мільёнаў імігрантаў, якія прыбылі ў ЗША, імігрантам у першым пакаленьні. Яго манаграфія “Іміграцыя й праца: эканамічныя аспэкты эўрапейскай іміграцыі ў Злучаныя Штаты” была апублікаваная ў 1912 г. і перавыдадзеная ў 1922 г. у перагледжаным выглядзе[21]. У ёй дасьледчык даказваў, што неабмежаваны прыцёк імігрантаў з Усходняй і Паўднёвай Эўропы быў карысны для амэрыканскай эканомікі. Гэты аргумэнт быў заснаваны на эканамічных паказчыках і стаў першай абаронай адкрытай іміграцыі, абгрунтаванай эканамічнымі, а не гуманітарнымі меркаваньнямі. Сваёй кнігай Гурвіч аспрэчваў высновы ўрадавай камісіі Дылінгема, якая прадставіла ў 1911 г. сэнату ЗША 42 тамы матэрыялаў па пытаньні эміграцыі ў ЗША. Гурвіч выявіў тэндэнцыйнасьць камісіі ў мэтодыцы збору й абагульненьня матэрыялу, яе расісцкія й шавіністычныя высновы ды рэкамэндацыі. У супрацьвагу тэзе пра нібыта заганныя прыродныя ўласьцівасьці асобных групаў імігрантаў на аснове аб’ектыўнага аналізу статыстычнага матэрыялу ён даказваў, што Эўропа дала Амэрыцы найлепшых сваіх прадстаўнікоў. Гэты ж тэзіс ён праводзіць у артыкуле “Рускае насельніцтва Злучаных Штатаў”[22].

Кніга й яе высновы зацікавілі Ўладзімера Леніна, які, праўда, зьвярнуў увагу на далёка ня самы галоўны бок фундамэнтальнай і шматграннай працы: *«цікавае назіраньне робіць Гурвіч, аўтар надзвычай павучальнай ангелійскай кнігі “Іміграцыя й праца”, якая выйшла ў мінулым годзе. Пасьля рэвалюцыі 1905 года колькасьць імігрантаў у Амэрыку асабліва ўзрасла. [...] Рабочыя, якія перажылі ўсялякія стачкі ў Расеі, прынесьлі і ў Амэрыку дух больш сьмелых наступальных масавых стачак»*[23]. Гурвіч паслаў сваю кнігу Леніну па пошце, паміж імі завязалася перапіска. На просьбу Леніна дасьледчык даслаў яму з ЗША кнігі па амэрыканскай статыстыцы, якія той выкарыстаў

[20] Офросимов, Лев. Отхожий промысел за океан: Обследование Виленской губернии. Вильна, 1912.

[21] Hourwich, Isaak. Immigration and Labor: The Economic Aspects of European Immigration to the United States. New York — London: G. P. Putnam’s Sons, 1912. XVII, 544 p.; New York, 1922. XXXII, 574 c.; New York: Arno Pr. and New York Times, 1969.

[22] Гурвич, Исаак. Русское население Соединенных Штатов // На чужбине. 1914. Ноябрь.

[23] Ленин, Владимир. Капитализм и иммиграция рабочих // Ленин В. И. Полн. собр. соч. Т. 24. С. 91.

у працы “Капіталізм і земляробства ў Злучаных Штатах Амэрыкі”, завершанай у 1915 і апублікаванай у 1917 г.[24]. Для Гурвіча добразычлівы водгук такога аўтарытэта аб яго працах, несумненна, быў важны.

Гурвіч і ў ЗША быў найцясьнейшым чынам уцягнуты ў сацыялістычны рух. Прыехаўшы ў краіну, ён далучыўся да Сацыялістычнай рабочай партыі. Стаў рэдактарам і выдаўцом літаратурна-палітычнага часопісу “*Прогресс*”, які выходзіў у сьвет двойчы на месяц. Хоць “*Прогресс*” ня быў сацыял-дэмакратычным выданьнем, а прытрымліваўся лібэральнага кірунку, на ягоных старонках таксама друкаваліся нарысы й артыкулы сацыял-дэмакратаў. У кожным нумары Гурвіч пад псэўданімам *Муранов Вл.* зьмяшчаў свае артыкулы на грамадзка-палітычныя й эканамічныя тэмы, карэспандэнцыю з Расеі й Амэрыкі, рабіў агляд пэрыядычнага друку. Ён таксама супрацоўнічаў з часопісам “*Free Russia*”, які выдаваўся рускімі эмігрантамі ў ЗША і Вялікабрытаніі, друкаваўся ў яўрэйска-амэрыканскай штодзённай “*Рабочей газете*”. У Гурвіча былі й іншыя псэўданімы, якімі ён падпісваў свае артыкулы ў рускамоўнай і англамоўнай прэсе: *W.; Г. И.; И. Г.; Сизиф; Muranov; Vladimir; Народник; Marxist; Isaac Halevy, Itzchok-Aisik-ben-Arieh-Zevi-Halevy (Ицхок-Айзек-бен-Арий-Цви-Галеви); Moire Nevuchim; Dosiger (der); Halevy Isaac; Maturus.*

Пасьля заснаваньня Юджынам Дэбсам у 1897—1898 гг. Сацыял-дэмакратычнай партыі Гурвіч далучыўся да яе й стварыў сумесна з Мэерам Лёнданам першае партыйнае аддзяленьне ў Нью-Ёрку, аднак не падтрымаў аб’яднаньне ў 1901 г. розных сацыялістычных арганізацый у адзіную Сацыялістычную партыю Амэрыкі. У кантэксьце эвалюцыі поглядаў Гурвіча заслугоўвае быць адзначаным факт, што на пакаленьне сацыяльных рэфарматараў, у тым ліку й на прэзыдэнта Тэадора Рузвэльта, паўплывалі погляды й працы яшчэ аднаго іміграната, ураджэнца Гародні Ісаака Рубінава, які прыехаў у ЗША ў сямнаццацігадовым узросьце. Менавіта ён стаў піянэрам амэрыканскага руху за стварэньне сыстэмы сацыяльнага забесьпячэньня. Ягоныя работы выкарыстоўваў Рузвэльт пры распрацоўцы плятформы Прагрэсіўнай партыі ў 1912 г. Што ж тычыцца Гурвіча, то з узьнікненьнем Прагрэсіўнай партыі ён падтрымаў яе плятформу й нават балятаваўся ад яе ў 1913 г. на вакантнае месца ў Кангрэс ЗША.

У гады Першай сусьветнай вайны Ісаак Гурвіч зноў зьблізіўся з сацыялістамі і ўступіў у Сацыялістычную партыю Амэрыкі. Ёсьць зьвесткі пра тое, што ён у 1919 г. зрабіў пераклад “Капіталу” Карла

[24] Тудоряну, Николай. Очерки российской трудовой эмиграции периода империализма: (В Германию, Скандинавские страны и США) / отв. ред. Э. М. Щагин. Кишинев: Штиинца, 1986. С. 10.

Маркса на ідыш[25]. У гэты час у ЗША ўжо некалькі гадоў знаходзіўся старэйшы сын Гурвіча Мікалай ("Іван Ішымаў"), які з моманту пераезду туды напрыканцы 1910 г. вёў актыўную палітычную прапаганду сярод расейскіх эмігрантаў. У лістападзе 1918 г. ён стаў рэдактарам выданьня Сацыялістычнай партыі ў Бостане "*The Revolutionary Age*". Разам з Джонам Рыдам быў адным з арганізатараў Камуністычнай партыі ЗША.

У 1922 г. Гурвіч наведаў Савецкую Расею. Ён пабываў у Менску й падарыў багатую кніжную калекцыю толькі што створанай бібліятэцы Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, першым дырэктарам якой была ягоная сястра — Яўгенія Гурвіч. Праўда, атрыманыя падчас візіту на радзіму ўражаньні зрабілі яго катэгарычным праціўнікам рэжыму бальшавікоў. Ён вярнуўся ў ЗША, а ягоны сын Мікалай, наадварот, пасьля расколу Кампартыі ЗША прыехаў у 1920 г. у Петраград, дзе удзельнічаў у рабоце Другога кангрэсу Камінтэрну, на якім разам з Джонам Рыдам быў абраны ў Выканкам Камінтэрну, і так і застаўся ў рэвалюцыйнай Расеі. Ісаак Гурвіч памёр 9 ліпеня 1924 г. у Нью-Ёрку ад пнэўманіі ва ўзросьце 64 гадоў[26]. Ягоны архіў захоўваецца ў Інстытуце габрэйскіх дасьледаваньняў у Нью-Ёрку[27].

---

[25] Proofs of Hourwich's Yiddish translation of Das Kapital by Karl Marx (Yiddish) // Guide to the Papers of Isaac A. Hourwich (1860—1924). 1882—1924. RG 587 / Processed by David A. Wolfson. New York: YIVO Institute for Jewish Research, 2011. Folder 97.

[26] Пра яго гл.: Бухбиндер, Наум. Иосиф Адольфович (Ааронович) Гурвич // Каторга и ссылка. 1926. № 5 (26). С. 239—240; Гросул, Владислав. Российская политическая эмиграция в США в XIX в. // Новая и новейшая история. 1994. № 2. С. 49—69.

[27] Guide to the Papers of Isaac A. Hourwich (1860—1924). 1882—1924. RG 587 / Processed by David A. Wolfson. New York: YIVO Institute for Jewish Research, 2011.

## *Публікацыі*

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# “НАДПІС ГЭТЫ ХТО ПРЫКМЕЦЕ, ХАЙ БОГА ПАПРОСЕ…”

Натальля Гардзіенка ў па-сапраўднаму піянэрскім артыкуле “Могілкі як частка мэмарыяльнай культуры эміграцыі”[1], цалкам слушна ўганараваным на VII Кангрэсе дасьледчыкаў Беларусі ў Варшаве, дала першасны агляд і аналіз эпітафіяў на надмагільных помніках беларусаў-эмігрантаў.

Пры ўсёй сваёй адметнасьці й спэцыфічнасьці, істотных для дасьледчыкаў эміграцыі, яны засталіся разам з тым бадай нязьменнымі ад старажытнасьці. Як пісаў францускі гісторык Філіпп Ар'ес (*Philippe Ariès*, 1914—1984) пра старарымскія могілкі:

*“На надмагільлі добра бачны надпіс, ці то даўгі, ці скарочаны, які паведамляе імя нябожчыка, яго сямейны стан, часам сацыяльны статус або прафэсыю, век, дату сьмерці і ступеню сваяцтва з чалавекам, які помнік паставіў. Надпісаў гэтых вялікая колькасьць, і яны складаюць важную крыніцу па рымскай гісторыі. Надпіс часта суправаджаецца партрэтам памерлага: мужа й жонкі, дзетак, чалавека падчас працы, у ягонай майстэрні ці крамцы, або проста бюстам або галавой у мэдальёне. Адным словам, бачная частка надмагільля мусіць адначасна паведамляць, каму яно належыць і, нарэшце, як выглядаў нябожчык.*

*Прызначэньне надмагільля было перадаць нашчадкам памяць аб памерлым. Адсюль — ягоны лацінскі назоў: monumentum, memoria; надмагільле — заўсёды мэмарыял. Пераджыць сьмерць мелася на ўвазе ня толькі займець гарантыі ў эсхаталягічным пляне, але й захаваць пра сябе славу на зямлі, у выглядзе надмагільля з надпісамі й знакамі або ў выглядзе ўхвальнага слова пісца”*[2].

Але эпітафія гэта яшчэ й *“невялікі верш, напісаны ў форме надмагільнага надпісу… гэта лірычны верш, дзе выяўляюцца жалобныя пачуцьці, выкліканыя сьмерцю вядомага чалавека”*[3]. Праўда, гаворачы

---

[1] Запісы БІНіМ. № 38. Нью-Ёрк — Менск, 2016. С. 8—70.

[2] Арьес, Филипп. Человек перед лицом смерти. Гл.: http://www.flibusta.is/b/223376.

[3] Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Т. 5. Мінск, 1987. С. 637.

пра сучаснасьць, аўтарка слоўнікавага артыкулу Тацьцяна Шамякіна гаворыць пра лірычныя эпітафіі, найбольш — жартоўнага характару, сатырычныя, называе гэты жанр зброяй ідэйнай, палітычнай барацьбы[4].

Бадай паўтарае за ёю й аўтар "Паэтычнага слоўніка" Вячаслаў Рагойша, гаворачы, што *"ў сучаснай беларускай паэзіі Э. зьяўляецца найперш відам сатырычнай паэзіі"*[5].

Але ў беларусаў на эміграцыі, а калі быць больш геаграфічна дакладнымі — у ЗША, усё ж захавалася *культура* эпітафіі ў першасным значэньні — вершу, прысьвечанаму памерламу; па выразе баўгарска-савецка-расейскага філёзафа й культуразнаўцы Георгія Гачава (1929—2008) — менавіта таго, хто прыдумаў тэорыю паскоранага разьвіцьця літаратуры, гэтак плённа прышчэпленую да беларускага літаратуразнаўства[6], — *"слоўны надмагільны помнік"*.

Самы распаўсюджаны від эпітафіі — "фармулярны", дзе згадваюцца моманты біяграфіі памерлага, ягоная ці ейная галіна дзейнасьці, паэтычна фармулююца тыя ўчынкі, якімі асоба, на думку аўтара, мае ўвайсьці ў гісторыю, часам "шыфруюцца" назвы твораў. Такія эпітафіі зьяўляюцца ня толькі паэтычным творам, але й цікавай *гістарычнай крыніцаю, сьведчаньнем погляду на памерлага ягонымі сучасьнікамі* (супрацоўнікамі, калегамі, вучнямі, etc).

Адметным майстрам падобнага тыпу эпітафій трэба перш-наперш назваць Янку Запрудніка:

***Мікола Абрамчык***
***Палітык, Старшыня Рады БНР***

*Аднавіў ён дзяржаўную Раду*
*Бараніць БНР ад нападу,*
*Накіроўваў на Крэмль здалёку*
*Вастрыё Парыскага Блёку.*

***Антон Адамовіч***
***Літаратар, гісторык літаратуры***

*Край Забраны, каб не загінуў,*
*Каб народ у ярме не хадзіў,*
*Ён нам кліч палымяны:*
*Супраціў — да канца супраціў.*

---

[4] Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Т. 5. С. 637—638.

[5] Рагойша, Вячаслаў. Паэтычны слоўнік. Выд. 3. Мінск, 2004. С. 593.

[6] Каваленка, Віктар. Вытокі. Уплывы. Паскоранасць: развіццё беларускай літаратуры XIX—XX стагоддзяў. Мінск, 1975. 334 с.

***Натальля Арсеньнева***
***Аўтарка малітвы за Беларусь***

*Каб волі дабіцца*
*І спорна разжыцца,*
*Тваёю малітваю*
*Будзем маліцца.*

***Васіль Быкаў***
***Народны пісьменьнік***

*Ты ў вечнасьць адышоў*
*Пад бел-чырвона-белым сьцягам —*
*Цярністы шлях з чужыны дома завяршыўся.*
*Твая магіла сталася жыцьця працягам —*
*Натхняць народ, каб пошасьці пазбыўся.*

***Браніслаў Даніловіч***
***Пашыральнік беларускага друку ў ЗША***

*З квяцістых палёў свойскай нівы,*
*Каб трымалася руху аснова,*
*Рассылаў ён для ўсіх на спажыву*
*Мёд духмянага роднага слова.*

***Зора Кіпель***
***Дасьледніца літаратуры***

*Адарваная лёсам ад роднага краю,*
*Па вандроўных шляхох чужынецкай зямлі,*
*Ты рупліва зьбірала зярняты ўраджаю —*
*Кніжным плёнам багатым яны прарасьлі.*

***Уладыка Мікалай***
***Мітрапаліт БАПЦ***

*Да Бога ён маўляў па-беларуску.*
*За вернасьць мове міласьцівы Бог*
*Евангельле, малітвы пераклады*
*На роднай мове выдаць дапамог.*

***Мікола Равенскі***
***Кампазытар, аўтар гімну “Магутны Божа”***

*Песьню-малітву, дагодную Богу,*
*Даў нам з сабой ён у дарогу,*
*Каб мы маглі, не згінаючы сьпіны,*
*Дайсьці нарэшце да Вольнай Краіны.*

***Барыс Рагуля***
***Афіцэр, грамадзкі дзеяч, доктар мэдыцыны***

*Эскадрон ён вёў за сабой у вайну,*
*Па вайне, на чужыне — студэнтаў у ВНУ.*

***Станіслаў Станкевіч***
***Літаратуравед, рэдактар***

*Ён страляў па дыктатуры*
*З пазыцыяў літаратуры,*
*Біў бяз промаху па ворагу,*
*Аж пакуль ня стала пораху.*

***Янка Станкевіч***
***Мовавед, гісторык***

*Ён гатоў быў ісьці на нажы*
*Бараніць крывіцкія рубяжы.*
*Крайнасьці патрэбныя — так заведзена,*
*Каб здаровай была сярэдзіна.*

***Вітаўт Тумаш***
***Доктар мэдыцыны,***
***дасьледнік жыцьця Францыска Скарыны***

*Ён хадзіў па сьлядах Скарыны,*
*Зерне думак зьбіраючы скрозь,*
*Накіроўваў Скарыну з далёкай чужыны*
*Да краіны свае, каб народ уваскрос.*

Янка Запруднік не адзіны стваральнік падобных эпітафій сярод паэтаў-эмігрантаў, вось яшчэ два прыклады:

***Віла Ляўчук***

***Памяці Ксавэры Барысаўца***

*Ён, як зорка, праляцеў*
*Праз Ваша доўгае жыцьцё.*
*Ён, як зорка, зіхацеў,*
*Праз усё сваё жыцьцё.*
*Быў вясёлы, ганаровы,*
*Дабрынёй лагодзіў гнеў.*
*І зь ягонай прапановы*
*Хор “Каліна” зазьвінеў.*
*І “Каліна” нам сьпявала,*
*Было слухаць любата.*
*І на сьвяты хвалявала*

*Слоў і гукаў пекната.*
*Кампазыцыі на песьні*
*Пасьля працы ён пісаў.*
*Дырыжорам быў на мейсцы..*
*Бо ўся гэтая краса*
*У яго квітнела ў сэрцы.*
*Ёй ніколі не памерці.*

***Міхась Кавыль***

### *Зора*

*Жыла-была Зора —*
*Дыктатуры савецкай непакора.*
*У Беларусь закаханая,*
*Яе доляй апантаная.*
*Па дарогах шырокіх і вузкіх*
*З гонарам несла беларускасьць.*
*Па лягерох ДП бадзяньне,*
*Змаганьне, змаганьне.*
*На станцыі “Свабода” і ў прэсе*
*Галасіла пра сталінскія рэпрэсіі;*
*З акупантаў у Беларусі маскі зрывала,*
*А ў маёй паэзіі вобраз месяца шукала.*
*Трэба толькі дзівіцца*
*З гэтае змагаркі-маладзіцы,*
*Падобную на Еўфрасіньню Полацкую*
*Ці на Ксеню Слуцкую...*
*Доўга-б мы маглі зь яе цешыцца,*
*Калі-б сьмерць ня стала на яе сьцежцы.*
*Няхай яе паміж сузор’яў дзесьці*
*Божая Маці песьціць!*

Ацэнкі й азначэньні ў гэтых эпітафіях адлюстроўваюць абагульнены вобраз, вобраз ідэальнага дзеяча-эмігранта, а таму важныя для культурнага аналізу ацэнак самой эміграцыі.

Сустракаецца ў творах паэтаў і той самы *“лірычны верш, дзе выяўляюцца жалобныя пачуцьці, выкліканыя сьмерцю вядомага чалавека”* з фармулёўкі ў ЭЛіМБел:

***Пётра Сыч***

### *Вячорны звон*
#### *У першую гадавіну апошняй сустрэчы з М. Равенскім*

*Нядаўна так, бо год назад,*
*таксама плакаў лістапад,*

*сьлязьмі сьцякаючы па шкле,*
*ля вокнаў мокла ноч у ймгле.*
*Але ў пакоі свойска так,*
*нас двух, п'яніна і каняк.*
*Да нас зыйшліся на Дзяды —*
*чые зь зямлі час сьцёр сьляды, —*
*якіх зглушыла тундраў шыр,*
*сьнягі тайгі, Байкал, Сібір…*
*Спамін пляцецца пад віхор,*
*як слуцкіх паясоў узор.*
*За іх спакой і за наш жаль*
*do-re-mi-fa — запеў крышталь,*
*пасьля ў чужую ноч і ціш*
*so-la-si-do — шапнуў клявіш.*
*А за акном, пад гамы тон,*
*адбіў на вежы поўнач звон.*
*Мяшаўся з тонам сум і чар.*
*Апошні раз мне пеў Пясьняр…*
*Пасьля спачыў ён вечным сном*
*пад туліпанаў курганом,*
*але пабегла ў вольны сьвет —*
*мінстрэль і волат — песьня-сьлед.*
*Ціхі яго па працы сон,*
*а нас усьцяж трывожыць звон. —*
*Вячорны звон…*

Трэба адзначыць, што зусім неабавязкова, каб аўтар асабіста ведаў памерлага, якому прысьвячае эпітафію. Вось, напрыклад, эпітафія Міхася Кавыля Ўсеваладу Краўчанку (замест кветак на магілу):

*Па менскіх завулках крочыў,*
*Пад небам Радзімы… Ці-ж*
*Спракудзілі чорныя вочы —*
*Ляцеў паміраць у Парыж?*
*Прыгожая восень у Кане,*
*І вусны нарманак — мёд…*
*А ты там прызначыў спатканьне*
*Са сьмерцю…*
*Скажы, Усевалод,*
*Ці ў рэчаньцы-рэчцы Нёман*
*Зчарнела блакітнае дно?*
*Ці маці прагнала з дому —*
*Махнуў у чужое вакно?*
*Ні маці, ні Нёман — молах,*

*Што сэрца і душу расьцяў,*
*Бясконцае страшнае кола,*
*Хімэра, жыцьцё бяз жыцьця.*
*Над Канам агні і зоркі,*
*Ты зорку Вэнэру шукаў...*
*Ці думаў: “Ва мне ёсьць вораг...*
*Прыкончу бальшавіка?”*
*“Прабачце мне, дзеткі, Радзіма!..”*
*Прабачаць, вянкі прынясуць,*
*А вораг ідзе хай міма,*
*Сваю спажывае “красу”:*
*Падкопы, паклёпы, даносы,*
*“Выконваць пярэчыць ня сьмець!”.*
*Таму, хто няволю ня зносіць,*
*Дае вызваленьне сьмерць.*
*Збылося тваё жаданьне:*
*Ты —вольны, спакойна сьпіш...*
*У вакно, праламанае ў Кане,*
*Глядзіць на цябе Парыж...*

Шырака распаўсюджанай, прынамсі ў эўрапэйскай паэзіі, зьяўляецца варыяцыя вершаванай эпітафіі — кенатаф (ад грэцкіх словаў *пусты* й *магіла*); гэтак называўся помнік на месцы, дзе няма й ніколі ня было захавана цела: сымбалічная магіла. І жанравая зьмена эпітафіі пад такім назовам таксама зьвернута да безыменнага памерлага. Яскравы ўзор падобнага тыпу — верш Натальлі Арсеньневай “На сьмерць змагара”:

*Яшчэ адзін змагар жыцьцёвы скончыў шлях,*
*Злажыў сваё жыцьцё ахвярай за айчыну,*
*За тое, каб ніхто не падцінаў крыльля*
*Ні ейным выводкам,*
*Ні іхным песьням сінім.*
*Мы ведаем, што ўсім —*
*Дарога нам адна,*
*І ў вочы прышласьці глядзём спакойна й сьмела.*
*А хочацца усё-ж,*
*Каб расьцьвіла пры нас*
*Радзіма хараством вясьняным, пышным, белым.*
*Таму — да сьлёз шкада,*
*Што йшчэ адзін змагар*
*Із намі не дажыў да сьвята ўваскрасеньня...*
*Ды сяньня*
*Не да сьлёз,*

*Далей, пакуль мага,*
*Пакуль у сэрцах гнеў ракою плешча пеннай!*
*Хай кроў сьвятых ахвяр*
*Прад намі, на пяску,*
*Каралямі суніц жывых, чырвоных сьпее.*
*Ня стане ні злабы у ворага, ні куль,*
*Каб зь беларускіх душ ды выпаліць надзею.*
*Не паддадземся мы,*
*Хай ці адзін змагар*
*Яшчэ аддасьць жыцьцё за нас і за айчыну.*
*Бывай, адбылы, сьпі…*
*Жыць будзе родны край,*
*Пакуль на сьвеце*
*Сэрцаў, вёснаў, сіні!*

А вось сатырычных эпітафіяў, шырака распаўсюджаных у беларускай падсавецкай паэзіі, сярод твораў паэтаў эміграцыйных назваць даволі складана. У нейкім набліжэньні гэткім можна лічыць верш Міхася Кавыля “Разьвітальнае”, прысьвечаны Ўладзімеру Клішэвічу. Для разуменьня твору трэба ведаць гісторыю Ўладзімера Клішэвіча, спачатку аўтара рэдагаванай Кавылём “Беларускай Думкі”, а пазьней — “Голасу Радзімы” — “завяртанкі”, як называлі яе ў беларускіх асяродках Амэрыкі; памятаць, што ён напісаў паэму “Васіль Каліна” й выдаў зборнік вершаў “Далячынь”; што па чутках, якія хадзілі сярод сябраў літаратурнага згуртаваньня “Шыпшына”, паэт Уладзімер Хадыка быў раздушаны глыбаю, якая звалілася на яго падчас працы на лесапавале.

А вось і сам верш:

*Што сказаць табе, Валодзя,*
*Недабіты небарак?*
*Карыстаецца ў народзе*
*Не вялікай славай рак.*
*Рак жывы — чорны.*
*Мёртвы рак — чырвоны.*
*Чырванее рак па сьмерці,*
*Каб ня пхнулі ў пекла чэрці…*
*Нешта з рака можна зьесьці,*
*Нешта выкінуць у сьмецьце.*
*Ты у чорта на прыкмеце.*
*Ужо смакуе твае косьці*
*“Завяртанка”…*
*“Раб” у злосьці…*
*“Раб” у суме…*
*Рака шыйка, клешні ў глуме.*

*Не паквапіцца “Зьвязда”*
*Ды і “Полымя” ня вельмі.*
*Ты экзамен дрэнна здаў:*
*Там сваіх хапае шэльмаў.*
*“Васіля Каліну” побач*
*Не паставяць Ільліча…*
*Не, браток. За тваю спробу —*
*Славіць Леніна пачаў —*
*Не даруе век Каліна:*
*Не заб’е, дык пракляне.*
*Здрадзіў ты яго, пакінуў,*
*Як той брата на вайне.*
*Мы яго тут не пакрыўдзім.*
*Сын за бацьку — не адказ.*
*Да цябе ён яшчэ прыйдзе*
*Даказаць пачаты сказ…*
*А у рака шлях вядомы:*
*Не наперад, а назад.*
*Мо й праедзеш ты ля дому,*
*Каля бацькаўскіх прысад;*
*Ды і ў родным агародзе*
*Ад сябе ня уцячы…*
*Прад табою, брат Валодзя,*
*Далячынь… Ой, далячынь…*
*Не прарочаць шчасьця хібы.*
*Дык ні пуху, ні кала!…*
*Хай мінуе цябе глыба,*
*Што Хадыку прытаўкла!..*

Як бачым, паэзія на эміграцыі мае ўзоры жанраў — ці падажанраў, — якіх бракавала, а хіба й сёньня бракуе ў паэзіі на бацькаўшчыне. Таму, напэўна, прысьпеў час (зрэшты, дадамо: даўно!) ствараць даведнікі, энцыкляпэдыі, слоўнікі з улікам эміграцыйнага даробку.

*Публікацыі*

***Андрэй Блінец***
*Клецк*

# АБ МЕСЦЫ НАРАДЖЭНЬНЯ РАДАСЛАВА АСТРОЎСКАГА

Радаслаў Астроўскі (1887—1976) бясспрэчна належыць да "доўгажыхароў" беларускага руху. Яго актыўнасьць у гэтым кірунку пачалася ў гады Першай рускай рэвалюцыі 1905—1907 гг. і скончылася ў 1962 г., калі была прыпыненая дзейнасьць Беларускай Цэнтральнай Рады. У гэтыя паўстагодзьдзя ўвайшлі стварэньне гімназіі ў Слуцку, выкладчыцкая праца ў Вільні, знаходжаньне ў шэрагах Беларускай сялянска-работніцкай грамады, супрацоўніцтва з польскімі ўладамі, кіраўніцтва БЦР, арганізацыя нацыянальных асяродкаў на эміграцыі. Ня буду тут ацэньваць эфэктыўнасць і мэтазгоднасьць усіх гэтых учынкаў. Адзначу толькі, што асоба Радаслава Астроўскага заслугоўвае грунтоўнай біяграфіі, якая калі-небудзь будзе створаная. А пакуль што рызыкну прапанаваць некалькі радкоў у жыцьцяпіс чалавека, якога адны называюць самаахвярным патрыётам, а другія — калябарантам.

Любая біяграфія пачынаецца з пазначэньня даты й месца нараджэньня. Калі зь першым пытаньняў не ўзьнікае (Радаслаў, сын Казіміра й Эміліі Астроўскіх, нарадзіўся 25 кастрычніка (6 лістапада) 1887 г.), то адносна другога варта правесьці невялікае дасьледаваньне. Даведнікі паведамляюць, што Радаслаў Астроўскі зьявіўся на сьвет на хутары Запольле Слуцкага павету (цяпер Слуцкі раён Менскай вобласьці)[1]. Сапраўды, амаль побач са Слуцкам у Бокшыцкім сельскім савеце знаходзіцца вёска з такой назвай. Але калі аўтар гэтых радкоў паспрабаваў высьветліць, што ж яна ўяўляла зь сябе ў 1887 г., то яго чакала расчараваньне. У апошняй чвэрці XIX ст. такога паселішча каля Слуцку не існавала! Сучаснае Запольле вядома толькі з 1921 г. як хутар у Забалацкай воласьці Слуцкага павету Менскай губэрні[2], а значыць, няма ніякіх падставаў лічыць яго радзімай будучага прэзыдэнта БЦР.

---

[1] Гардзіенка, Натальля. Дзеячы беларускай паваеннай эміграцыі. Біяграфічны даведнік // Запісы БІНіМ. № 36. Нью-Ёрк — Менск, 2014. С. 25; Адзінец, Аляксандар. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў. Менск. 2007. С. 638.

[2] Гарады і вёскі Беларусі: энцыклапедыя. Т. 8. Мінская вобласць. Кн. 4. Мінск, 2013. С. 345.

Прычына такога памылковага погляду, на маю думку, заключаецца ў тым, што дасьледчыкі атаясамлялі Слуцкі раён Менскай вобласьці БССР і Слуцкі павет Менскай губэрні Расейскай імпэрыі, а Радаслаў Астроўскі ўсяляк падкрэсьліваў сваю сувязь са Случчынай. Так, у сьпісе кандыдатаў ад Беларускай сацыялістычнай грамады на выбарах ва Ўсерасейскі ўстаноўчы сход, надрукаваным у № 13 "Вольнай Беларусі", значыцца: *"Остроўскі Родослаў Казіміраў, Слуцк, Камісарыят. Вучыцель с Случчыны, беларускі працаўнік"*[3]. Гэта *"с Случчыны"* стаіць там, дзе ў іншых кандыдатаў пазначана месца нараджэньня: *"родам с Капыля"* ў Зьмітра Жылуновіча, *"сын селяніна с-пад Вільні"* ў Браніслава Тарашкевіча[4] й г. д. На надмагільным помніку ў Саўт-Рывэры пазначанана: *"Born in Slutsk Byelorussia, oktober 25, 1887"*. Таму, натуральна, ствараласе ўражаньне, што карані гэтага дзеяча знаходзяцца ці ў самім Слуцку ці недалёка ад яго. Між тым тая Случчына, якую Радаслаў Астроўскі лічыў сваёй малой радзімай, гэта значыць Слуцкі павет, уключала ў сябе сёньняшнюю Капыльшчыну, Клеччыну, Нясьвіжчыну, Ляхавіччыну, Ганцаўшчыну. Ягоная плошча складала каля 7,8 тыс. км$^2$, у той час як плошча раёну *"ўсяго толькі"* 1796 км$^2$. Відавочна, што Запольле, дзе зьявіўся на сьвет сын Казіміра й Эміліі, варта пашукаць на абшары большым, чым сучасны Слуцкі раён.

*"Справочная книга и спутник по Минской губернии"*, выдадзеная ў 1889 г., называе тры Запольлі ў Слуцкім павеце. Яны знаходзіліся, адпаведна, у Грыцэвіцкай, Кіявіцкай і Мядзьведзіцкай валасьцях[5]. Сёньня гэта тэрыторыя Клецкага, Капыльскага й Ляхавіцкага раёнаў. Толькі адно з гэтых паселішчаў працягвае існаваць у наш час — вёска Запольле на Клеччыне[6]. Магчыма, з гэтай прычыны аўтары артыкула пра Астроўскага ў рускамоўнай Вікіпедыі сцьвярджаюць: *"Родился 25 октября 1887 г. в деревне Заполье Слуцкого уезда Минской губернии (ныне — в Клецком районе Минской области Республики Беларусь)"*[7]. Гэтае ж сцьверджаньне паўтараецца ў французскай вэрсіі артыкулу[8]. У той час як астатнія (беларуская, нямецкая, польская, ангельская, украінская й інш.) не лякалізуюць сучаснае месцазнаходжаньне Запольля.

---

[3] Цыт. паводле: Крапивин, С. Минск в октябре 1917 года: "День твой последний приходит, буржуй!" // Народная Воля. 31.10.17. С. 6.

[4] Крапивин, С. Минск в октябре 1917 года…

[5] Справочная книга и спутник по Минской губернии / сост. И. А. Бомштейн. Минск, 1889. С. 462.

[6] Пасёлак Заполле, які існуе ў Слабада-Кучынскім сельсавеце Капыльскага раёну, у канцы XIX ст. адносіўся да Ігуменскага павету й да нашай тэмы ня мае дачыненьня.

[7] https://ru.wikipedia.org/wiki/Островский,_Радослав_Казимирович.

[8] https://fr.wikipedia.org/wiki/Radoslav_Ostrovsky.

І ўсё ж мы маем даволі дакладную пазнаку месца нараджэньня беларускага дзеяча. У 1964 г. у Заходняй Нямеччыне выйшла кніга “Радаслаў Астроўскі — Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады, ягонае жыцьцё, праца і змаганьне” аўтарства Юрыя Жывіцы (сапр. Юры Попка). Яе аўтар неаднаразова гутарыў з Астроўскім: *“Ён быў маім госьцем. Мы мелі шмат вольнага часу, сядзелі, гаварылі, успаміналі Бацькаўшчыну… Прыемна, цікава і карысна было паслухаць, як Госьць расказваў аб сваім жыцьці…”*[9]. З тых гутарак Юры Жывіца мог даznацца шмат чаго, што ня трапіла ў афіцыйныя дакумэнты. У прыватнасьці — падрабязнасьці зь дзіцячых гадоў свайго героя: *“Радаслаў Астроўскі радзіўся на Случчыне на хутары Запольле… быў ахрышчаны ў праваслаўнай царкве ў Сіняўцы…”*[10]. На той час мястэчка Сіняўка (суч. вёска (аграгарадок) Клецкага раёну) была цэнтрам воласьці Слуцкага павету. Згадка пра царкву дапамагае зразумець, у якім менавіта Запольлі нарадзіўся Радаслаў. Калі б гэта была вёска Запольле каля Грыцэвічаў, то й хрысьцілі б яго, хутчэй за ўсё, у Грыцэвіцкай царкве Сьвятых Пятра й Паўла, а ня везьлі б у няблізкае мястэчка. А вось для жыхароў фальварку Запольле Мядзведзіцкай воласьці Сіняўская Сьвята-Мікалаеўская царква была найбліжэйшым праваслаўным храмам. Вядома, што ў саміх Мядзьведзічах, на ўскрайку якіх знаходзіўся згаданы фальварак, царквы не было (дзейнічаў каталіцкі касьцёл, зачынены ў 1887 г.)[11]. Таму праваслаўныя бацькі вымушаны былі везьці немаўля за 10 км у Сіняўку, хоць і не належалі да яе прыходу.

Яшчэ адным аргумэнтам на карысьць Запольля Мядзьведзіцкай воласьці зьяўляецца наступная згадка: *“…бацькі, Казімір і Амілія Астроўскія… сваёй зямлі ў той час ня мелі, а арандавалі гэтыжа хутар* (Запольле. — ***А. Б.***) *ад нейкага пана Навіцкага”*[12]. Сярод землеўладальнікаў Менскай губэрні ў 1889 г. згадываюцца Феафіл, Антаніна і Эвеліна Навіцкія, дваране рымска-каталіцкага веравызнаньня, якія валодалі маёнткамі Савейкі й Запольле Мядзьведзіцкай воласьці. Маёнткі перайшлі да іх па спадчыне ад бацькі Гектара Банавэнтур’евіча Навіцкага[13]. Не зусім зразумела, чаму Юры Жывіца называе Запольле

[9] Уводнае слова // Радаслаў Астроўскі — Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады, ягонае жыцьцё, праца і змаганьне. Апрацаваў Юры Жывіца. Выд. “Вехі”, 1964.

[10] Радаслаў Астроўскі — Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады… С. 3.

[11] Гарады і вёскі Беларусі: энцыклапедыя. Т. 2. Брэсцкая вобласць. Кн. 4. Мінск, 2007. С. 293.

[12] Радаслаў Астроўскі — Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады… С. 3.

[13] Дрозд, Дмитрий. Землевладельцы Минской губернии 1861—1900. Справочник. Минск, 2010. С. 365.

хутарам, хоць афіцыйна яно лічылася фальваркам[14]. Можна толькі дапусьціць, што Астроўскія арандавалі ня ўвесь фальварак, а толькі нейкую ягоную частку, у дачыненьні да якой і ўжывалася найменьне “хутар”.

Высьветліць гісторыю Запольля каля Мядзьведзічаў у мяне пакуль што не атрымалася. У даведніках, зь якімі даводзілася працаваць, зьвесткі аб ім адсутнічаюць. Можна дапусціць, што паселішча існавала даволі працяглы час. У матэрыялах польскага перапісу насельніцтва 1921 г. згадваецца фальварак *Zapole* гміны *Niedżwiedzica*, дзе пражывала 14 чалавек (10 мужчын і 4 жанчыны). Усе яны лічылі сябе палякамі, хоць сярод іх было 6 праваслаўных[15]. У другой палове XX ст. у выніку зьменаў, якія адбываліся ў беларускай вёсцы, фальварак перастаў існаваць, а ягоная тэрыторыя ўвайшла ў склад Мядзьведзічаў.

Такім чынам, можна з упэўненасьцю сцьвярджаць, што Радаслаў Астроўскі нарадзіўся ў фальварку Запольле Слуцкага павету (цяпер — у складзе вёскі Мядзьведзічы Ляхавіцкага раёну Берасьцейскай вобласьці). Чаму ён ніколі не акцэнтаваў увагу на дакладным месцы свайго нараджэньня? Адказ зразумелы. Бацькі, будучы арандатарамі, часта мянялі месца жыхарства, і невядома, колькі гадоў малы Радаслаў правёў у Запольлі. Ці адбілася ўвогуле гэтая мясьціна ў ягонай памяці? У той жа час са Слуцкам былі зьвязаныя гады вучобы й пачатку актыўнай грамадзкай дзейнасьці. Гэты горад быў вядомым месцам, а Случчына славілася як адзін з найбагацейшых рэгіёнаў Менскай губэрні.

Усё напісанае вышэй не дапаможа растлумачыць ці зразумець матывы ўчынкаў Радаслава Астроўскага. Але яно, прынамсі, дазволіць пазьбегнуць памылак у першых жа радках ягонай біяграфіі.

---

[14] Справочная книга и спутник по Минской губернии. С. 444.

[15] Skorowidz miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej. T. VII. Cz. I. Województwo Nowogródzkie. Warszawa, 1923. S. 7.

*Макар Краўцоў*

# ПРА ЖЫЛКУ Й ДУБОЎКУ

## Мае ўспаміны аб Жылцы[1]

Не магу добра ўжо прыпомніць, калі і як сустрэўся я першы раз і пазнаёміўся зь нябожчыкам Уладзімерам Адамавічам Жылкай. Помню толькі, што гэта было ў Менску, у часе бальшавіцкай акупацыі ў 1919 годзе. Жылка працаваў летам у сельска-гаспадарчай камуне Весялоўцы (б[ылая] дача банкіра Браўдэ, вярсты за паўтары ад гораду). Я быў настаўнікам, працуючы ў 22 беларускай школе на Аляксандраўскай вуліцы, але як сябра рады БНР, разам зь іншымі, лічыўся абвешчаным бальшавікамі *"вне закона"*, і папасьць у рукі тагочаснае Чэ Ка для мяне азначала… ведама, што азначала!

Жыў я на Міхайлаўскай вуліцы № 104 сярод мэнскага беларускага пролетарыяту; работнікі ведалі, хто і што я, але я верыў ім, што ня выдадуць, і не памыляўся.

Здарылася раз, што я быў на валасок ад таго, каб папасьць у рукі чрэзвычайкі. Яна шукала ўночы дэзэртыраў, якіх разьвялося бязь ліку шмат. А я як былы афіцэр ваеннага часу не рээстраваўся ў бальшавікоў і фармальна быў злосным дэзэртырам.

Аднаго дня зайшоў да мяне сусед — работнік з бровару Нужбіна і сябра народнага суда, — папераджаючы, што мне начаваць у сябе дома нявbooарта, бо мінулай ночай зравідована[2] была ўся Міхайлаўская вуліца і палавілі шмат дэзэртыраў. Работнік гэты як віцэстаршыня дамовага камітэту (на некалькі дробных дамкоў) быў патрывожаны чрэзвычайкаю, каб быць панятым пры вобысках.

Дамок, у якім пражываў я, стаяў на аднэй лініі з домам № 106 у глыбіні падворка і выглядаў, як халодны гаспадарчы будынак пры ім, бо цёмная ноч не дала п’яным чэкістам магчымасьці заўважыць пад страхою каміны.

Падзякаваўшы добраму суседу, я выйшаў у горад, мяркуючы, дзе знайсьці начлег на некаторы час, пакуль Чэ-Ка робіць вобыскі напавал, дзякуючы сільнаму напору польскага войска на подступы да Менску.

[1] Публікуецца паводле: Родны край. № 14 (66). 14 чэрвеня 1935. С. 3; № 15 (67). 21 чэрвеня 1935. С. 3. Асаблівасьці мовы першапублікацыі захаваныя.

[2] **Зравідована** (ад пол. *zrewidować*) — абшуканая,ператрэсеная.

Сустрэўся я з адным вядомым цяпер савецкім паэтам, якога, па зразумелай прычыне, не хачу называць, расказаў яму пра свой клопат, а ён мне раптам прапануе: едзем разам у Весялоўку, там ніякі чорт не дагадаецца, што мы не належым да настаўніцкага пэрсоналу сельскагаспадарчае камуны.

Здаецца, што ў Весялоўцы я і сустрэўся першы раз з Жылкаю; ён там быў другім, малодшым настаўнікам.

Мы здружыліся, сплючы разам на шырокай скураной канапе і бродзячы па дарожках раскошнай калісьці банкірскай дачы, паложанай над самаю рэчкаю Сьвіслачай.

Жылка безьперастанку дэклямаваў вершы Блока[3], Брюсава[4], Раслаўлева[5], Карынфскага[6], Бальмонта[7], Сяргея Гарадзецкага[8]. Мяне дзівіла гэткая маса завучаных ім напамяць вершаў, якія я ў значнай меры чытаў раней. Калі я загасьціўся ў Весялоўцы на цэлы месяц, пішучы пакрысе свой расказ “Ахвяра часу”, дык нябожчык Жылка здорава такі абрыд мне сваімі дэклямацыямі. Пішу, напрыклад, а тут ён схіляецца над вухам і сваім ціхім машастовым голасам рэцытуе:

*Ах, мой синий, васильковый*
*Да шелковый поясок…*

— *Ды кінь ты ўсякіх Гарадзецкіх,* — адгрызаўся я, — *лепш вось гэта: “Прощай, немытая Россия, страна рабов, страна господ”.*

Але Жылка ўжо абарваў Гарадзецкага і замест Лермантава перайшоў на Блока. Часамі ён цэлымі гадзінамі дэклямаваў мілых яго сэрцу расейскіх поэтаў, і тады была адна толькі рада:

— *Алесь, скрыпку!* — крычу я старшаму настаўніку весялкоўскае камуны. Алесь пачынае іграць які-небудзь раманс, і Жылка адразу сьціхае.

Па-беларуску Жылка тады не пісаў, да чаго я стараўся заахвоціць яго, чуючы, што яго любоў да поэзіі мусіць выклікаць у ім парыў да напісаньня чаго-небудзь.

---

[3] **Аляксандар Блок** (рус. *Александр Блок*, 1880—1921), рускі паэт, крытык, прадстаўнік сымбалізму.

[4] **Валер Брусаў** (рус. *Валерий Брюсов*, 1873—1924), рускі паэт, празаік, літаратурны крытык, драматург, адзін з заснавальнікаў рускага сымбалізму.

[5] **Аляксандар Раслаўлеў** (рус. *Александр Рославлев*, 1883—1920), рускі паэт.

[6] **Апалён Карынфскі** (рус. *Аполлон Коринфский*, 1868—1937), рускі паэт, журналіст, перакладчык.

[7] **Канстанцін Бальмонт** (рус. *Константин Бальмонт*, 1867—1942), рускі паэт-сымбаліст, перакладчык, эсэіст, прадстаўнік паэзіі Сярэбранага веку.

[8] **Сяргей Гарадзецкі** (рус. *Сергей Городецкий*, 1884—1967), рускі й савецкі паэт, перакладчык, пэдагог.

Першы яго верш прыпамінаю сабе ўжо ня то ў тыднёвіку “Рунь”[9], выходзіўшым пад рэдакцыяй Купалы пры палякох у 1920 годзе, ня то ў газэце “Звон”[10]; верш кароценькі, лірычны, крыштальна адшліфованы.

Пражываў у падвальнай кватэры і стары загадчык двара Весялоўкі; бальшавікі ўсё зьбіраліся яго выселіць, лічачы, відаць, беднага банкірскага аканома небясьпечным контр-рэвалюцыянэрам. Неяк у адзін вельмі цёплы летні вечар чалавек гэты вярнуўся з гораду вельмі сумны, зайшоў у пакой, дзе былі мы з Жылкаю, і расказаў, як ён дачуўся, што ўночы Чэ-Ка мае яго выкінуць з двара. Было гэта даволі позна. Разьвітваюся з Жылкай і аканомам. Хачу вяртацца ў горад.

— *Куды ты ўночы папрэш?* — стрымлівае Жылка, — *плюнь, цябе-ж не зачэпяць...*

Але я рашуча кіруюся да дзьвярэй. Жылка бярэ шапку і выходзіць разам.

— *Давай пераначуем на лоне прыроды,* — прапануе ён.

— *Што? Усю ноч па лесе бадзяцца?*

— *Ды не! Хадзем,* — кажа ён.

Прайшоўшы мэтраў з сорак весялкоўскаю сенажацяй, затрымліваемся каля трох копак сена, залазім у адну зь іх зьнізу і храпем да сьвету. Раніцай даведваемся, што чэкісты прыяжджалі, пашумелі і пакінулі аканома з жонкаю й дзяцьмі на месцы.

Помню, раз заехаў конна ў Весялкоўку адзін Жылкаў знаёмы — нейкі чырвоны камандзер, кіруючыся на фронт пад Радашкавічы; гаварыў благою расейскаю моваю зь вельмі выразным беларускім акцэнтам.

— *Што гэта за камісар?* — пытаюся ў Жылкі, калі той ад’ехаў.

— *Чырвоны сатрап,* — кінуў Жылка два словы ў адказ.

Ноч з 7 на 8 жніўня 1919 году была апошняю для нас у Весялоўцы. На раніцы нас па-вайсковаму штурхае Алесь:

— *Гэй, братва, ня сьпі! Чуеш?*

Гляджу на гадзіньнік: палова дзясятае. За вакном іграе сонца, а гэткі гром?..

О, гэта гром нам добра знаёмы зь вялікай вайны! Зусім недзе блізка грымяць гарматы. Хутка апранаюся, вылятаю на двор, на бераг Сьвіслачы, лезу на густую высокую вольху — глянуць у заходні бок, адкуль далятае да вушэй гэты гром. Над галавою высока пралятае аэраплян. Але чый? Раптам: жж! жж! У вушох знаёмы посьвіст куляў. І ў гэты самы мамэнт на другім беразе рэчкі, ледзь не пад самым маім носам, схапляецца на ногі, нябачаная мне дасюль, шэрая тыральера бальшавіцкіх стральцоў.

---

[9] **“Рунь”** — штотыднёвы ілюстраваны літаратурна-мастацкі часопіс, які выходзіў у Менску ў траўні — ліпені 1920 г.

[10] **“Звон”** — штодзённая палітычна-эканамічная й літаратурная газэта, што выходзіла ў Менску ў 1919 г.

Нейкі камандзер ці камісар блутаецца з канём, махае шашкаю, дарэмна стараецца затрымаць адступленьне. Польская артылерыя крые ўжо па заходняй акраіне гораду. З правага боку, на гасьцінцы, траскаціць кулямёт бальшавіцкага панцырнага самаходу…

Каменем спадаю з вольхі. Зьмешваюся з радамі перабрыўшых мелкую Сьвіслач чырвонаармейцаў. Адзін зь іх, трымаючы на вяровачцы стрэльбу на плячох, пытаецца:

— *Товарищ, махорка есть?*

— *К сожалению… не курю…* — адказваю яму.

Праз пару шагоў — Весялоўка. Алесь частуе чырвоных ваякаў махоркай. Салдаты шпургаюць стрэльбы ў кусты й даюць драла. Аканом выцягвае адну зь іх з куста, лаецца:

— *Далей кідайце, на сенажаці, с.. сыны, а тут няма чаго складу зброі рабіць…*

Жылка ўжо запрог каня і пакурэў у Менск. Буржуазная моладзь, сабраная для працы ў камуне, адпушчана Алесем дамоў. Сам ён рашыў астацца ў аканома.

Пру сьцежкаю праз сенажаць, кіруючыся проста на хату, дзе мая кватэра. Два чырвонаармейцы, раззброіўшыся, бягуць за мной…

Гадзіны каля 12-й, у поўдзень, горад ужо ў руках пазнанцаў і легіянэраў.

Калі зусім заціхла страляніна, іду на кватэру да Жылкавых бацькоў. Частуюць… нібыта чаем з белаю цукроваю патакаю…

— *Вось жыцьцё!* — бядуе сухотная на выгляд, як і сам Жылка, яго маці.

— *Дыктатура пралетарыяту!* — весела падхапляе бацька Жылкі, крыху сіваваты, ня то таксама аканом, ня то агароднік на выгляд. Старыя гаварылі чыстаю беларускаю моваю.

А ўвечары мы з Жылкай былі ўжо на сходзе беларусаў, дзе закладаўся часовы нацыянальны камітэт. Сабралася сотні з паўтары душ.

Пры палякох Жылка мала прабываў у Менску, бо ўся іх сям'я выехала недзе ў правінцыю. Колькі разоў яшчэ мы сустракаліся з Жылкай у Менску. Я быў заняты працаю ў Беларускай Вайсковай Камісіі[11] ды супрацоўніцтвам у штодзённай газэце "Беларусь"[12]. Жылка як беларускі эс-эр быў ворагам як вайсковае нашае фармацыі, так і наагул усяе

[11] **Беларуская вайсковая камісія** — орган па фармаваньні беларускіх частак у польскім войску, які існаваў у 1919—1921 гг. Утворана ў Вільні Цэнтральнай беларускай радай Віленшчыны й Гарадзеншчыны 2 жніўня 1919 г. паводле дамоўленасьці з Начальнікам Польскай дзяржавы Юзафам Пілсудзкім.

[12] **"Беларусь"** — штодзённая палітычна-эканамічная й літаратурная газэта, якая выдавалася ў Менску ў кастрычніку 1919 — ліпені 1920 г. Пераемніца газэты "Звон".

орыентацыі на Польшчу, якое тады шчыра трымалася часьць нашае інтэлігенцыі, носячыся зь вельмі рожавымі ідэямі. Жылка мякка, па-прыяцельску кідаў ня раз мне ў вочы:

— *Беларускія эн-дэкі*[13]*!*

Гэта адносілася да ўсіх, хто верыў тады ў беларускае вызваленьне пры дапамозе Польшчы. “*Беларускія эн-дэкі*” азначала ў вуснах Жылкі ня што іншае, як цяперашняе бальшавіцкае “нацдэмаўцы”.

Цераз два гады, у траўні месяцы 1921 году, сустрэўся я з Жылкай у Вільні на Вострабрамскай, 7, у фактычнага рэдактара “Нашай Думкі”[14], далейшае рэдагаваньне якой ён перадаваў мне. Жылка прачытаў некалькі сваіх вершаў. Рэдактар зазначыў, што ў іх ёсьць такія і гэткія шурпатасьці, і вершы забракаваў.

Празь нейкі час я поштаю атрымаў ад Жылкі з Гарадзеі пісьмо ў рэдакцыю вершам. Верш нішто сабе, але ў адным-двух месцах гэткая нястройнасьць, што псуецца ўсё. Я выправіў верш, як мог, і зьмясьціў у газэце. Калі пазьней мы сустрэліся з Жылкай, дык ён спытаўся:

— *Чаму-ж ты ўжо сам тады і не падпісаўся пад маім пісьмом? Гэтак ты яго адчыканіў!*

Ідэолёгіі Жылка трымаўся лева-эсэраўскай; я жартаваў часам у гутарцы зь ім, што гэта здаравеннае пробы ўсё-ж такі той самы бальшавізм.

Зь якім-жа цяжкім сэрцам павінен быў гэты хваравіты з выгляду лірык зьмяніць свой ідэалістычны сьветагляд, каб скіравацца з Чэхіі ў Менск, не сустрэць там ніякага поля для творчасьці і закончыць жыцьцё недзе на выгнаньні як беларускі “нацдэм”?!

Не павінна загінуць памяць аб Жылцы ў гаротным нашым народзе, які гэтак любіла яго тонкая душа!

## Уладзімір Жылка як мастак слова[15]
## Нарыс

*Душа мая тужлівая*
*Лілея між балот…*

Беларуская адраджоная літаратура мае надта-ж невялічкую жменю паэтаў-індывідуалістаў, мастакоў слова, песьняроў чыстае красы, пераважна-ж гэта — вясковыя самародкі з выдатна-сялянскай псыхікай: прымітыўнай і вузкай, як жыцьцё вёскі, і з гэткім-ж творамі.

---

[13] **Эндэкі** — скарочаны назоў сябраў Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Польшчы.

[14] **“Наша думка”** — штотыднёвая грамадзка-палітычная й літаратурная газэта, якая выходзіла ў Вільні ў сьнежні 1920 — ліпені 1921 г. Рэдактарам-выдаўцом быў Максім Гарэцкі.

[15] Публікуецца паводле: Беларускае Слова. № 26. 20 кастрычніка 1926. С. 2—3.

(Маем тут на думцы выключна пэрыяд зусім сьвядомага беларускага адраджэньня, пачынаючы з 1905—6 гадоў.)

Сярод першарадных беларускіх песьняроў характэрным прадстаўніком гэткай сялянскай псыхікі зьяўляецца Якуб Колас: круг ягоных тэмаў вузка-вясковы; места здаецца яму чымсь незразумелым і чужым; толькі пасьля доўгае працы робіцца ён здольным да перажываньня больш тонкіх настрояў і выражэньня іх у больш вышуканых і арыгінальных літэратурных формах.

Другарадныя-ж і дробныя беларускія пісьменьнікі амаль што ня ўсе належаць да гэтае "вясковае" катэгорыі.

Цікаўным прадстаўніком пераходнага — ад вясковага да меставога тыпу — зьяўляецца выдатны песьняр наш Янка Купала.

З аднаго боку, бачым у яго творах сялянскі прымітывізм, з другога-ж — вельмі дэлікатныя настроі, глыбокую думку, даволі шырокі кругазор і багацтва тэмаў і форм.

Дзеля таго, што звароты "*вясковы*", ужытыя для азначэньня ўмысловых тыпаў, зьяўляюцца не зусім сьціслымі і яснымі, можам замест іх ужыць гэткія яшчэ тэрміны: "*псыхіка прымітыўная*" і "*псыхіка інтэлігэнтная*", тыя-ж два першыя тэрміны мы ўжылі праз тое, што ў Беларусаў, дзякуючы ўтраце здэнацыяналізаванае, радавае інтэлігэнцыі — шляхоцтва — паняцьце "*інтэлігэнта*" лучыцца з паняцьцем "*места*", таго ўмысловага асяродка, у якім выхавалася новая беларуская інтэлігэнцыя, вышаўшая — праўда — зь вёскі, але — за выняткам некалькіх груп (сельскае настаўніцтва і г. п.) — асеўшая ў месьце.

Бяручы справу ў сусьветным, агульна-людзкім маштабе, найбольшую вартасьць для Беларусаў як доказ іхняе духовае культуры, маюць творы г. зв. песьняроў Чыстае Красы, прамаўляючыя да кожнае чалавецкае душы, незалежнае ад нацыі і веравызнаньня адзінкі.

Вось-жа найвыдатнейшым прадстаўніком гэтага кірунку і яго духоўным правадыром зьяўляецца ўмершы некалькі гадоў таму назад Максім Багдановіч, аўтар "Вянка", інтэлігэнт і Эўрапэец у поўным значэньні гэнага слова, вялікі мастак і глыбокі думаньнік-інтэлектуаліст.

Празь некалькі год, асірацеўшы пасьля сьмерці *maestro*, пасад ягоны заняў годны наступнік — Уладзімір Жылка, малады беларускі песьняр, пражываючы цяпер у Празе Чэскай.

Найбольш характэрнымі рысамі ягонае творчасьці ёсьць, з аднаго боку, нахіл да вышуканых імпрэсыяў, з другога-ж, — пранікаючы яе моцны, нацыянальны элемэнт.

Калі ў першым сваім зборніку п[ад] н[азовам] "Уяўленьне"[16] ён яшчэ хістаецца і шукае пуцявіну, дык за тое ў другім "На ростані"[17]

[16] Зборнік Уладзімера Жылкі "Ўяўленьне" пабачыў сьвет у 1923 г.

[17] Зборнік Уладзімера Жылкі "На ростані" пабачыў сьвет у 1924 г.

духовае аблічча Жылкі ўжо скрыстылізавана бадай што аканчальна: ён цьвёрда ступае па сьлядох М[аксіма] Багдановіча, не губляе пры тым свае індывідуальнасьці і самастойнасьці.

Крытыка беларуская спаткала маладога песьняра надта-ж прыхільна і толькі нейкісь "Букіністы" ў нябошчыку "Грамадзкім Голасе"[18] не ўстрымаўся і па свайму звычаю лягнуў маладога паэта ў недарэчнай стацейцы, падыходзячы да надыхнёных і арыгінальных паэзіяў песьняра з крамным аршынчыкам сухіх правапісаў і мёртвых граматычных правіл!

Зборнічак "На ростанях" — невялічкі, у ім толькі 46 старонак фармату шаснаццаткі, але затое ў ім бадай што зусім няма кепскіх вершаў!

Зьявішча гэнае заслугоўвае на спэцыяльную ўвагу як надта рэдкае ў беларускай літэратуры, дзе "старая гвардыя" нашаніўцаў ад часу да часу прыгаломышвае чытача вялізарнымі, па колькісот старонак, зборнікамі вершаў, у якіх добрае пераблутана зь нічога ня вартым і дзе драбнейшыя песьняры — праўда — друкуюць малыя, але-ж і — пераважна — мала вартыя зборнічкі вершаў ці паэмкі.

Па-за гэнымі зборнічкамі Жылкі мы можам вылічыць толькі некалькі зборнічкаў сапраўды цэнных; усе яны належаць да інтэлігэнцкае жменькі *"песьняроў чыстае красы"*, беларускіх модэрністаў імпрэсыяністаў, якая складаецца — збольшага — з гэткіх асоб: 1. М[аксім] Багдановіч; 2. Констанцыя Буйло[19]; 3. Натальля Арсеньнева; 4. У[ладзімір] Жылка, а зь песьняроў Радавай Беларусі: У[ладзімір] Дубоўка[20] і А[лесь] Дудар[21].

Але вернемся да зборніку "На ростані".

Зборнік гэны падзяляецца на 4 аддзелы: I-шы — патрыятычны, п[ад] н[азовам] "Бацькаўшчына"; II-гі — прырода-апісальны п[ад] н[азовам] "З палеткаў і лясоў"; III-ці — любоўны п[ад] н[азовам] "Спатканьне з Эросам" і IV-ты — імпрэсыянальны п[ад] н[азовам] "Думы й настроі".

---

[18] **"Грамадзкі голас"** — газэта Беларускай часовай рады, выдавалася ў Вільні ў 1924—1926 гг. пад рэдакцыяй Язэпа Салаўя.

[19] **Канстанцыя Буйло** (сапр. *Калечыц*, 1893—1986), паэтка, заслужаны дзеяч культуры БССР. У мінулым нумары "Запісаў БІНіМ" (№ 39) мы перадрукоўвалі тэксты Макара Краўцова, прысьвечаныя ёй і яе творчасьці.

[20] **Уладзімер Дубоўка** (1900—1976), паэт, празаік, перакладчык, крытык.

[21] **Алесь Дудар** (сапр. *Дайлідовіч*, 1904—1937), паэт, празаік, крытык, перакладчык. Друкаваўся ад 1921 г. Адзін з арганізатараў і заснавальнікаў літаб'яднаньня "Маладняк". Рэпрэсаваны. Аўтар кніг "Беларусь бунтарская" (1925), "Сонечнымі сьцежкамі" (1925), "І залацісьцей, і сталёвей" (1926), зборніка апавяданьняў "Марсэльеза" (1927), зборніка артыкулаў "Пра літаратурныя справы" (1928).

Прыгледзімся-ж бліжэй да гэных вершаў.

Бяручы агулам, прадусім зварочвае ў іх увагу чытача *інтэлігэнтнасьць іхняга зьместу*, якая выяўляецца і ў багацьці паэтыцкіх формаў, ідучых шырокай гамай ад суровай зважнасьці клясыцызму да “вольнасьцяў” сучаснага модэрнізму, і ў рожнароднасьці закранутых тэмаў, і ў глыбіні думак, і ў тонкасьці імпрэсіяў…

Кожны верш ягонага зборніку калі ня ёсьць шэдэўрам, дык у кожным выпадку заслугоўвае на назоў “добрага” і ёсьць старанна і арыгінальна апрацаваны, што — на жаль! — не належыць да паспалітых зьявішчаў сярод беларускіх песьняроў.

У авангардзе сучасных беларускіх мадэрністаў (ня лічучы — канешна — памёршага М[аксіма] Багдановіча) У[ладзімір] Жылка займае бязспрэчна першае мейсца!

Бо толькі вазьмеце першы-лепшы ягоны верш! Учытайцесь! Пастарайцеся яго належна адчуць, як ураз-жа і вас захопіць салодкі энтузыязм маладога песьняра і вы — самахоць — на’т не прыкмечаючы таго, акунецеся з галавой у блакітную краіну фантазіі і скупаеце і адсьвежыце Душу сваю ў крыніцы Вечнага Хараства…

Вось, напрыклад, пачатак вершу “Беларусь” (стр. 7):

*Беларусь, Беларусь — гэта зык*
*Паліць душу маю, як вагнём,*
*Я ня ведаю, чым ён вялік,*
*Але думак ня змог я аб ём.*
*Як пачую яго, задрыжыць*
*Маё сэрца, заные ў грудзёх,*
*І балюча так робіцца жыць,*
*І шукаеш чагосьці ў людзёх.*

Ці-ж чытаючы гэны верш, ня бачым мы, як сэрца паэты прост такі гарыць каханьнем да Бацькаўшчыны!?

Ці-ж ня чуем мы, што ён сапраўды ёсьць *“грамнічнай сьвечкай прад Богам”*, якая *“ціхай згарае малітвай”* за родны свой Край?!

А як выглядае беларуская прырода ў творах песьняра? Безпадобна!

Сапраўды ў артызьме малюнкаў натуры німа яму роўных у беларускай паэзыі!

Вось, напрыклад, некалькі адрыўкаў:

*Я люблю густыя шумы,*
*Перагуд высокіх хвой.*
*Ў цень і ціш лясной задумы*
*Я люблю прыйсьці вясной.*
*І спусьціўшыся лагчынай*

*У заросшы дол сыры,*
*Між бяроз, густой ляшчынай*

*Заблудзіўшы ў гушчары.*
*Дзе таёмна, сьцішна, змрочна,*
*Дзе вільготны мяккі мох,*
*Дзе ўзіраецца ставочна*
*Збуджаны перапалох.*

Тутака адзначым мімаходам, што дасканальны верш “Вецер” (стр. 19) памылкова зьмешчаны ў аддзеле II-гім прыродаапісальным; ягонае месца сярод імпрэсыяў у аддзеле IV-ым.

А вось і краіна каханьня!

Вось, напрыклад, успамін нейкагась даўнейшага, моʼ першага, каханьня:

*Тваe блакітнасьці нязьменны,*
*Нязьменна хараство твае.*

Кажа паэт і каючысь прызнаецца:

*А я атруты келіх пенны*
*Разьліў якраз ў жыцьцё маё.*

А крыху далей:

*...І нецьвярозы і распусны*
*Забыўся я твaё імя*
*І не адны галубіў вусны,*
*І не з аднэй схадзіўся я.*

Але салодкая, сьветлая мінуўшчына кліча і

*Хоць праўда (можа й прыпадкова)*
*Ўстаюць нясна інады,*
*Як скарбы патаёмных сховаў,*
*Даўно забытыя гады.*
*Мільгне праз хмельныя туманы*
*Жыцьця разбаенага сказ —*
*І моладасьць, і сны, і раны,*
*І любы, любы твой абраз.*

У апошнім аддзеле імпрэсыяў знаходзім тры сапраўдныя пэрліны беларускай паэзіі; першы зь іх будзе безнадзейны верш (стр. 36), пачынаючыся гэтак:

*Душа мая тужлівая*
*Лілея між балот.*
*Ўзрасла яна, маўклівая,*
*У багні сонных вод.*

*Ёй сьніцца неба іннае,*
*Дзе сонечна вясна,*
*І песьняй салаўінаю*
*Атручана яна…*
і г. д.

Другой зьяўляецца поўны сыновае любові II-гі верш “Да мае матулі” (стр. 39):

*Ты чакаеш сына, ведаю.*
*Зь сьлёзаў ведаю, з тугі*
*Ўпалі вочы, губы бледыя,*
*Старыць, сівіць лёс благі.*

І ведае паэт, што

*Калі лучыць нягодная*
*Доля загінуць ў чужыне,*
*Ня ўздыхне душа ніводная,*
*Не ўспамяне пра мяне.*
*Толькі ты згаворыш пацеры*
*Над нядоляю маёй,*
*Толькі вочы мае мацеры*
*Затуманяцца сьлязой.*

Трэцяй — урэшце — пэрлінай паэзіі зьяўляецца ізноў-жа безназоўны верш (стр. 43), пачынаючыся словамі: *“Прытулі, сястра, слабога”*, поўны ціхае мэланхоліі і лагоднае рэзыгнацыі:

*Прытулі, сястра, слабога,*
*Прыгалуб, каханка, сьмерць.*
*З гэткай шчырасьцю нікога*
*Не прасіці мне, ня сьмець:*
*Прытулі мяне слабога…*

Але гэта толькі хвілёвы настрой і, карыстаючыся словамі Ібсэна[22], паэт наш сьмела можа сказаць аб сабе:

*Я ветразь свой у сьвет вялікі*
*Пакіраваў і, як арол,*
*Ляту, і мора б’е наўкол,*
*І чаек ўсьлед чуцён крык дзікі.*

Дык ляці-ж, ляці, наш саколе, ляці што раз вышэй!

[22] **Генрык Ібсэн** (нарв. *Henrik Johan Ibsen,* 1828—1906), нарвэскі драматург.

## Уладзімер Дубоўка як Жылка Ўсходу[23]

Калісьці ў аднэй з сваіх брашураў вядомы польскі публіцысты і гісторык літэратуры прафэсар Брюкнэр[24], павярхоўна аглядаючы ў ёй беларускую літэратуру, між іншым едка адазваўся аб нябошчыку Максіме Багдановічу, аўтару “Вянка”, называючы яго адзіным інтэлігэнтам, які прыпадкова заблукаўся ў кампанію вясковых самавучак — якімі ахрысьціў праф[эсар] Брюкнэр усіх беларускіх песьняроў.

Ня кажучы ўжо аб тым, што гэткі погляд быў тэндэнцыйным, груба нясьціплым і падыктаваным варожасьцю да ўваскрашаючага беларускага Лазара, на’т тады, калі ён гэта пісаў, а было гэта яшчэ ў часы нямецкай акупацыі, — бо ўжо й тады побач з Багдановічам выступае здольная імпрэсыяністка беларуская Констанцыя Буйло, аўтарка “Курганнай Кветкі”[25], а такжа забывае чамусьці праф[эсар] Брюкнэр ці злосна абходзіць маўчаньнем увесь шляхоцка-рамантычны, народніцкі пэрыяд беларускае літэратуры, якая абыймае цэльнае XIX стагодзьдзе — можам з прыемнасьцю адзначыць тое, што ў сучасны момант можна пахваліцца ўжо цэлай літэратурнай сямейкай песьняроў інтэлігэнтаў ды яшчэ пры тым песьняроў Чыстае Красы!

Да гэтае сямейкі мастакоў-імпрэсыяністаў належаць: 1. Максім Багдановіч, духоўны бацька гэнага цэннага напрамку беларускае літэратуры; 2. Констанцыя Буйло; 3. Натальля Арсеньнева; 4. Уладзімер Жылка, а зь песьняроў Радавай Беларусі: 5. Уладзімер Дубоўка і 6. А[лесь] Дудар; магчыма, што там знайшлося-б яшчэ некалькі асоб, але дзякуючы істнуючым абставінам німа магчымасьці належна азнаёміцца з тамашняй творчасьцяй.

Памянёныя аўтары побач з старой гвардыяй “нашаніўцаў” складаюць паэтыцкі Олімп сучаснае беларускае літэратуры: фактычна, яны, у пэўным сэнсе, на’т перавышаюць “нашаніўцаў”, узносячысь у сваіх паэтыцкіх імпрэсыях на вышыню, не заўсёды даступнаю больш пазытыўнай, захопленай сучаснымі справамі й шэрай штодзённасьцю старой гвардыі: Купале, Коласу, Бядулі і інш., якія прадусім імпануюць колькасьцю працы: аграмаднымі зборнікамі паэзыяў, ці новэль, ёмкімі повесьцямі і г. д.

Тутака трэба прызнацца да аднаго вельмі балючага, але характэрнага зьявішча: памянёныя вышэй аўтары — кажам тут перадусім аб імпрэсыяністах, але ў немалой меру адносіцца гэта і да “нашаніўцаў” — нягледзячы на тое, што зьяўляюцца найбольш выдатнымі ў сучасны

---

[23] Публікуецца паводле: Беларускае Слова. № 27. 20 лістапада 1926. С. 2—3.

[24] Маецца на ўвазе Аляксандар Брукнэр.

[25] **“Курганная кветка”** — дэбютны зборнік Канстанцыі Буйло, выдадзены ў Вільні ў 1914 г. Рэдактарам быў Янка Купала, мастаком — Язэп Драздовіч.

мамэнт, ня толькі што ня ёсьць папулярнымі сярод беларускіх чытачоў, але адзначаюцца — о іронія лёсу! — найменшай пашыранасьцю іхніх твораў.

Тлумачыцца гэтае сумнае зьявішча вельмі лёгка: нястача інтэлігэнцыі, галоўнага консумэнта[26] гэткага роду твораў, ёсьць пярвейшай прычынай гэткага стану рэчаў.

Беларускія-ж сялянскія масы, складаючыя дасюль *gros*[27] чытачоў, а значыцца і купляючых кнігі, у сваіх духовых патрэбах наагул ня выходзяць па-за межы гэткіх сэнтымэнтальных або сьмешлівых прымітываў, як “Смык Беларускі” і “Дудка Беларуская” Ф[ранцішка] Багушэвіча[28], “Гапон” Марцінкевіча[29] ці “На прызьбе” Быліны[30].

Рэшту выпаўняюць выдаваныя штогод беларускія народныя календары і папулярныя гаспадарскія брашуры.

Бязсумліўна, гэткі анармальны стан рэчаў ня будзе трывалкім і ўжо ў працягу найбліжэйшых гадоў, дзякуючы беларускім гімназіям, узбагачваючымі нас новымі кадрамі беларускае інтэлігэнцыі, зьменіцца к лепшаму, а тымчасам вернемся да нашае ўласьцівае тэмы — беларускіх імпрэсыяністаў.

Вось-жа, у адным з нашых артыкулаў мы назвалі Ўладзімера Жылку, аўтара двух зборнічкаў паэзыяў п[ад] н[азовамі] “Уяўленьне” і “На ростані” — “*новым Багдановічам*”, а гэта таму, што ягоны талент і кірунак паэтыцкай творчасьці найбольш набліжаны да творчасьці прадчасна памёршага аўтара “Вянка”.

Сяньня мы хацелі-б зьвярнуць увагу чытача на іншага беларускага імпрэсыяніста, гэтым разам з Усходняе Беларусі — Уладзімера Дубоўку, роднага брата Жылкі ў краіне Хараства, якога дзеля таго і празвалі мы “*Жылка Ўсходу*”.

Уладзімер Дубоўка, як і Жылка, малады яшчэ паэт, пачаў сваю творчасьць зборнічкам вершаў п[ад] н[азовам] “Строма”, прысланым да Вільні й тутака старанліва і прыгожа выданым у 1928 г.

У наступных гадох ужо ў Радавай Беларусі зьявіліся чарговыя ягоныя зборнікі: “Трысьцё” й “Credo”.

---

26 ***Konsument*** (пол.) — спажывец.

27 ***Gros*** (пол.) — большасьць.

28 **Францішак Багушэвіч** (1840—1900), грамадзкі дзеяч, паэт, празаік, публіцыст, перакладчык. Адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, аўтар зборнікаў “Дудка беларуская” (Кракаў, 1891) і “Смык беларускі” (Познань, 1894).

29 **“Гапон”** — вершаваная аповесьць Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1808—1884), створаная не пазьней 1854 г.

30 **“На прызьбе”** — зборнік паэзіі рыма-каталіцкага сьвятара й паэта Янкі Быліны (сапр. Ян Семашкевіч, 1883—1956), які выйшаў у Вільні ў 1918 г.

З апошнімі двумя зборнікамі, дзякуючы істнуючым абставінам, тымчасам мы яшчэ ня мелі магчымасьці пазнаёміцца, а дзеля таго прымушаны спыніцца на першым — “Строме”.

Гэтак-жа, як і ў Жылкі ў яго першым зборніку “Ўяўленьне”, і зборніку “Строма” чуваць бурлівую “віхрыстую” моладасьць, шуканьне ўласных пуцявін, найлепшага паэтыцкага выразу для сваіх перажываньняў і пачуцьцяў, а дзякуючы таму часовую нерашучасьць і разьхістанасьць, урэшце моцныя ўплывы расейскай паэзіі апошніх часоў, толькі дзеля таго, што Дубоўка мае беспасрэдную сутычнасьць з сьветам рэвалюцыі, жывучы ў яго нутры, гэныя ўплывы расейскіх рэвалюцыйных паэтаў і ўсяе тамашняе атмасфэры, ёсьць у яго шмат мацнейшыя, чымся ў пражываючага ў Празе Жылкі.

Зь вялікай доляй пэўнасьці можна дапушчаць, што ў сваіх чарговых зборніках Дубоўка духова скансалідаваўся, гэтак, як Жылка ў апошнім сваім зборніку “На ростані”, але спраўдзіць гэтага пакульшто німа магчымасьці!

Зборнік “Строма” мае 30 старонак невялічкага фармату і падзелены на 3 аддзелы: 1. “На чужыне”; 2. “Лятуценьні” і 3. “Адраджэнцам”.

Прыгледзімся да паасобных вершаў зборніку.

У І-ым аддзеле “На чужыне” два першыя вершы даволі слабыя, асабліва першы: “Ты дэкляруеш”, які адзначаецца адсутнасьцю разьмеру і рыфмы, затое верш “Ня трэба мне пяяць аб Беларусі?” (стр. 9) адзначаецца сьвяжынёй пачуцьцяў і сьпеўнасьцю:

*У песьнях я на Беларусь малюся,*
*Як моліцца на возеры трысьцё,*

кажа Дубоўка аб сваей любові да краю і крыху далей скардзіцца:

*Далёка я… Я кленчу на маленьні,*
*Калі мне тут гудуць табой бары,*
*Віхрыцца дух і родзіць лятуценьні,*
*Як запяюць мне нават камары.*

Гэтак-жа цэнным зьяўляецца апошні верш гэтага аддзелу, пачынаючы словамі: *“захапіла навальніцаю”* (стр. 10), адметны вышуканым настроям, музыкальнасьцяй і ўмела падабраным, багатым слоўнікам.

На гэты асаблівы слоўнік Дубоўкі, зложаны часткаю са слоў існуючых ды рэдка ўжываных, а часткова з новатвораных паэтам, варта зьвярнуць спэцыяльную ўвагу як на зьявішча цікавае і для беларускае літэратуры карыснае, чаго, на жаль, нельга сказаць аб спробах іншых аўтараў.

У ІІ-ім аддзеле зборніку п[ад] н[азовам] “Лятуценьня” заслугоўвае на ўвагу першы верш п[ад] н[азовам] “Зданьне” (стр. 13), паўстаўшы пад моцным уплывам любоўных вершаў рэвалюцыйных паэтаў; вось яго пачатак:

*Вечар… П’яны вечар сваволі — траўня…*
*Вецер косы ночы расплёў, дуроньнік…*
*Салавей пяець над ракой, як слаўна!*
*Сны сьніць сасоньнік…*

Тут-жа побач з гэным модэрністычным сучасным вершам, пісаным пад выразным уплывам Багдановіча, невялічкі цыкль клясычных трыолетаў п[ад] н[азовам] “Пацеркі” (стр. 14—16).

Асабліва прыгожым зьяўляецца 2-гі зь іх, які тут дамо ў цэласьці:

*Час брылянцісты, залацісты*
*Імчыцца ў даль, як дзікі конь,*
*А мы на ім — у бор квяцісты.*
*Час брылянцісты, залацісты,*
*Настрой у сэрцы паліць чысты,*
*У нашым поглядзе вагонь.*
*Час брылянцісты, залацісты*
*Імчыцца ў даль, як дзікі конь!*

Пазасталыя вершы гэтага аддзелу адзначаюцца дэлікатнасьцяй настрою, сьпеўнасьцяй, а гэтак-жа высокім роўнем паэтыцкае тэхнікі: асабліва вершы “Не жальбую тых дзянькоў” (стр. 17) і “Ноч наплакалі бярозы” (стр. 19).

А вось адрывак з апошняга вершу гэтага аддзелу, які прыводзім як ілюстрацыю таго спэцыяльнага слоўніка, якім карыстаецца Дубоўка ў сваіх паэмах:

*Ілжа, і склізота і прыкрая золь*
*За скрыгатам ветру — навалай.*
*У чмарнасьць убралася сьветлая столь,*
*Блакіт ад зямлі адарвала*

і г. д.

У апошнім аддзеле “Адраджэнцам” трэба з боку ідэйнага адзначыць уступны верш “Спагадае хто?” (стр. 23), у якім паэт заклікае да працы на роднай ніве беларускую моладзь:

*Маладое пакаленьне,*
*Прачынайся, час прыйшоў.*
*Залатое Адраджэньне*
*Кліча ўсіх пад родны схоў.*

Чарговы верш “Мітусіцца лістота” (стр. 24) акрамя сьпеўнасьці ізноў-жа цікавіць сваім арыгінальным слоўнікам:

*Мітусіцца лістота мяцеліцай —*
*Мітульжынная, быццам дзьвіна*
*Па аселіцы лёнам пасьцеліцца,*
*Завіхрыцца квяціста яна…*

Зь іншых вершаў трэ тут адзначыць пасьмертныя ўспаміны, прысьвячаныя М. Лойцы (стр. 25) і Алесю Гаруну[31] (стр. 26).

Канчаючы гэты агляд "Стромы", можам сьцьвердзіць пакуль што адно: на беларускім літэратурным небе ўзышла новая зорка!

Сьцісьлейшая-ж ацэнка будзе магчымай толькі пасьля азнаямленьня з двумя апошнімі зборнікамі песьняра.

*Падрыхтоўка да друку й камэнтары*
*Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча*

31 **Алесь Гарун** (сапр. *Аляксандар Прушынскі*, 1887—1920), паэт, празаік, публіцыст, дзеяч беларускага Адраджэньня пачатку XX ст.

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# “БЕЛАРУСКІЯ МОГІЛКІ Ў СЬВЕЦЕ”

## (альбом-даведнік)

Беларускія пахаваньні па-за Беларусьсю — важнае сьведчаньне прысутнасьці нашых суродзічаў у сьвеце, захаваньня імі памяці па сабе. Гэтыя пахаваньні шмат гавораць пра раскіданых па розных краінах беларусаў. Захаваньне памяці пра іх і адлюстраваньне асаблівасьцяў беларускіх могілак у сьвеце — галоўная ідэя будучага ўнікальнага альбому-даведніка. Такога кшталту выданьні, прысьвечаныя асобным могілкам, друкуюць прадстаўнікі розных народаў: палякі, украінцы, расейцы. Беларусы пакуль ня маюць гэткіх публікацый, таму згаданы альбом-даведнік будзе першым беларускім “могілкавым” выданьнем.

Альбом будзе заснаваны на базе зьвестак пра беларускія могілкі ў сьвеце, якая на сёньня працягвае разбудоўвацца і ўжо ўключае



Беларуская частка на могілках Fawkner Memorial Park (Мэльбурн)

больш як 970 прозьвішчаў пахаваных у 13 краінах (Аўстралія, Бэльгія, Вялікабрытанія, Грэцыя, ЗША, Італія, Канада, Літва, Нямеччына, Польшча, Францыя, Швайцарыя, Швэцыя) нараджэнцаў беларускіх тэрыторый (пераважна эміграцыйнай хвалі пасьля Другой сусьветнай вайны). Упершыню будуць апісаныя найбуйнейшыя менавіта беларускія могільнікі ў Іст-Брансьвіку, Саўт-Рывэры, Кліўлэндзе, Мэльбурне[1].

У альбоме будуць прадстаўленыя ўсе вядомыя на сёньня месцы пахаваньняў замежных беларусаў ад пачатку XX ст. Плянуецца падаць зьвесткі як пра цэлыя беларускія могільнікі (час заснаваньня, разьмяшчэньне, колькасьць пахаваньняў), гэтак і пра кожнае асобнае пахаваньне. Да выяваў канкрэтнай магілы будуць (пры наяўнасьці) дадавацца здымкі саміх пахаваных і біяграфічныя зьвесткі пра іх. Пры гэтым ня будзе рабіцца розьніцы паміж беларусамі на падставе веравызнаньня, палітычных прыхільнасьцяў і г. д. Галоўная ідэя — як мага паўней апісаць вядомыя нам магілы

Мы зьвяртаемся да ўсіх, хто мае зьвесткі й здымкі беларускіх магілаў у сьвеце, далучацца да складаньня альбому. Дасылаць свае матэрыялы можна на адрас: *zapisybinim@gmail.com*.

(Ніжэй пададзены ўзор наяўных у нас зьвестак пра пахаваньні беларусаў і магчымага іх афармленьня ў альбоме.)



***Лявон САВЁНАК*** *(26.06.1897, в. Вялец, цяпер Глыбоцкі раён Віцебскай вобл. — 21.02.1974, Памон, Нью-Джэрзі, ЗША), грамадзкі дзеяч, пісьменьнік, журналіст, муж А. Савёнак, бацька З. Кіпель. Вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай сэмінарыі, якую закончыў, калі ўстанова эвакуявалася ў Смаленск. У 1920 г. прыехаў у Менск. У 1920-я гг. працаваў у “Савецкай Беларусі”, адкуль быў звольнены за беларускі нацыяналізм. У 1933 г. арыштаваны па справе “Беларускага нацыянальнага цэнтру”, высланы на шэсьць гадоў у Сібір, а пазьней у Комі АССР. У 1939 г. вярнуўся ў Беларусь, настаўнічаў на Крычаўшчыне. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у “Беларускай газэце”. Напісаў сатырычныя нататкі “Дзёньнік Ів. Ів. Чужанінава”. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У паваеннай Нямеччыне настаўнічаў, быў дырэктарам бела-*

[1] Першы варыянт базы зьвестак пра могілкі быў далучаны ў якасьці адмысловага дадатку на дыску да выпуску № 38 “Запісаў БІНіМ” (2016).

*рускай гімназіі ў Остэргофэне. Адзін з ініцыятараў аднаўленьня Рады БНР (пакінуў Раду праз канфлікт з М. Абрамчыкам). У 1948 г. увайшоў у кансысторыю аднoўленай БАПЦ. Ініцыятар заснаваньня газэты “Бацькаўшчына”. У 1950 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Памоне (Нью-Джэрзі), дзе займаўся сельскай гаспадаркай. Уваходзіў у склад рэдкалегіі газэты “Беларус”.*



***Апалёнія САВЁНАК*** *(дзяв.* ***Раткевіч****, 08.10.1901, Лагойшчына — 10.04.1982, Памон, Нью-Джэрзі, ЗША), пэдагог, пісьменьніца, жонка Л. Савёнка, маці З. Кіпель. Ад 1944 г. — на эміграцыі ў Нямеччыне. Была выкладчыцай у беларускай гімназіі ў Остэргофэне. Аўтарка некалькіх падручнікаў для дзяцей. Ад пачатку 1950-х гг. жыла ў ЗША, у Нью-Джэрзі.*

*Пахаваныя ў* ***Іст-Брансьвіку*** *(Нью-Джэрзі, ЗША) на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.*



***Лявон Юрэвіч***
*Нью-Ёрк*

# 100 ГАДОЎ ФЁДАРУ ЯНКОЎСКАМУ (1918—1989)

Філялягічны факультэт Менскага пэдагагічнага інстытуту — тады імя М. Горкага — быў знакаміты найперш катэдрай беларускага мовазнаўства ды ейным шматгадовым загадчыкам — Фёдарам Міхайлавічам (хай і не па-беларуску зьвяртацца зь імем па бацьку, але не магу ўявіць сабе хоць нейкі іншы зварот, тым больш кожны другі студэнт у думках дадаваў: Дастаеўскі) Янкоўскім.

Нямала напісана пра яго як мовазнаўцу, зьбіральніка моўных зярнятак, гаваркіх словаў, як пра пісьменьніка (хоць часам закідваецца дыдактычнасьць ягоных абразкоў, цалкам зразумелая, як на мой пагляд, для чалавека, які праз усё жыцьцё быў настаўнікам), і будуць пісаць яшчэ, асабліва калі нарэшце будзе сабраная й перавыдадзеная ўся творчая спадчына.

Ведаючы ФМ яшчэ ад школьных часоў, ня раз назіраючы за ім у хаце, ніколі ня мог пазбавіцца думкі, што ён і цяпер — той самы разьведчык, якім быў у часе вайны, начальнік атраду выведкі “Грозны”: нетаропкі ў адказах, з прыжмурам вачэй, якія вывучаюць цябе, як бы ўзважваюць, ацэньваюць.

ФМ багата ведаў, але на лекцыях ад яго тады, у 1980-я гады, было не пачуць ні імя Браніслава Тарашкевіча, хоць нават меў — ведаю дакладна! — уласную вэрсію сьмерці, дакладней, забойства ягонага сына, ні каго зь іншых “крамольных” вучоных, пісьменьнікаў, дзеячаў. Страляны верабей, прафэсійны разьведчык.

Але часам ён рабіў падарункі — кнігі, прычым ня толькі свае ўласныя, але і, прыкладам, “Каласкі” Зоські Верас або “На чабары настоена” Ларысы Геніюш, ужо гэтым сваім падарункам зьвяртаючы ўвагу на нешараговасьць выданьня.

Напэўна, тагачасным студэнтам варта было лепей слухаць настаўніка ды, пераадолеўшы павагу на мяжы з страхам, пытацца, распытваць, даведвацца. Гэта ўжо запозна.

Затое, хоць бы дзеля такіх угодкаў, варта разгарнуць ягоныя дыдактычныя кнігі, прачытаць, перачытаць, расчытаць… І пачуць.

***Станіслаў Станкевіч***

# НА 60-Я ЎГОДКІ ФЁДАРА ЯНКОЎСКАГА[1]

*21-га верасьня сёлета споўнілася 60 год ад нараджэньня вядомага беларускага вучонага моваведа, доктара навукаў і прафэсара, загадчыка катэдры моваведы Менскага пэдагагічнага інстытуту імя Максіма Горкага й пісьменьніка Фёдара Янкоўскага. Наўзьверх усяго, ён-жа гарачы энтузыясты роднага слова, вуснага й пісанага, шчодры руплівец пра ягоную культуру й чысьціню. Усе гэтыя якасьці вызначаюць Фёдару Янкоўскаму вельмі важнае месца ў беларускай нацыянальнай культуры й навуцы, месца зусім асобнае і апрычонае, чым ня мог бы пахваліцца ніхто зь ягоных сучасьнікаў.*

*Нарадзіўся Фёдар Янкоўскі ў вёсцы Клетнае Глускага раёну на Магілёўшчыне. Грунтоўна пазнаў родную мову сваёй мясцовасьці, а дзякуючы сваім моваведным студыям і пэдагагічнай дзейнасьці ў розных раёнах Беларусі, гэтае сваё веданьне мовы ён паглыбіў і пашырыў на ўсе іншыя мясцовасьці роднага краю. Будучы гарачым беларускім патрыётам, ён шчыра палюбіў родную мову й гэтую любасьць да яе захаваў да самага апошняга часу,*

*Апрача часапісных артыкулаў пра розныя пытаньні беларускай мовы, Фёдар Янкоўскі выдаў каля паўтары дзясяткаў большых і меншых, пераважна папулярна-навуковых, даступных для самага шырокага кола чытачоў і ня менш карысных для вузкіх спэцыялістых у галіне моваведы кніжак, а таксама сабраных ім-жа матарыялаў з галіны народнае фразэалёгіі, прыказак і прымавак, дыялектызмаў ды г. зв. крылатых словаў і афарызмаў.*

*У 1975 годзе ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” выйшла першая кніга й мастацкае прозы Фёдара Янкоўскага “Абразкі”. На фоне вельмі шырокага дыяпазону аўтаравых зацікаўленьняў і дасьледваньняў кніга “Абразкі” — гэта штосьці зусім новае, хоць і зьвязанае тэматычна таксама зь ягонымі моўнымі зацікаўленьнямі й практычнай дзейнасьцяй у галіне культуры й чысьціні роднае мовы. Кніга “Абразкі” складаецца з кароценькіх, часта зусім міньятурных твораў мастацкае прозы даволі рэдкага ў беларускай літаратуры жанру, які аўтар называе абразкамі або замалёўкамі.*

*У бальшыні зьмешчаных у кнізе “Абразкі” мастацкіх міньятураў кажацца пра тое ці іншае слова або выраз, сюжэты іншых абразкоў адлюстроўваюць маральна-этычныя якасьці людзей, іхную высакародную і духовую чысьціню або ўслаўляюць бязьмежную адданасьць маці і ейную любасьць да сваіх дзяцей. Аднак і творы гэтае апошняе*

[1] Друкуецца паводле: Беларус. № 258. Кастрычнік 1978. С. 4.



Фёдар Янкоўскі

*катэгорыі маюць таксама беспасярэднае дачыненьне да мовы. Прыкладам, цэлы другі разьдзел кнігі "Абразкі" гэтак і загалоўлены "Маці". Складаецца ён з васьмі кароткіх навэляк, адна зь якіх пад загалоўкам "І за гарою пакланюся" можа быць добрым прыкладам для ўсіх твораў гэтага разьдзелу.*

*У вабразку "І за гарою пакланюся" ход пра тое, як падарожныя, у іхным ліку і сам аўтар, едучы аднойчы з Карэліч у кірунку Нёмана, заўважылі хворага дзесяцігадовага хлопчыка, што ляжаў на беразе ракі, а воддаль ад яго валялася вудачка на рыбу. Падарожныя заапекаваліся хворым, прывезьлі яго ў вёску і аддалі зьбедаванай маці. Далей хай лепш гаворыць наступнае заканчэньне гэтае навэлькі:*

*"Сустрэла нас маці. Узяла з рук дзіця й сказала:*

*— Я й за гарою вам пакланюся. Дзякуй вам.*

*Дні праз два мы вярталіся зь Нёману. Маці пазнала нас, клікала ў хату, у сад. А калі сядалі ў машыну, каб ехаць, яна сказала зноў, сказала матчына, шчырае, ад сэрца, дарагое народнае й незабыўнае:*

*— Я й за гарою вам пакланюся".*

*Вось гэткім навакольным, але вынаходлівым спосабам даў пісьменьнік далейшае жыцьцё й пашырэньне тыпова народнаму й з мастацкага боку вельмі пластычнаму выразу: "Я й за гарою вам пакланюся".*

*Пасьля выданьня кнігі "Абразкі" Фёдар Янкоўскі сыстэматычна друкуе ў часапісе "Полымя" падобныя міньятурныя навэлькі, што ўжо іх хапіла-б на новую кнігу. Вялікую нізку гэтых навэляк на сваe 60-я ўгодкі надрукаваў ён у верасьнёўскім нумары "Полымя" сёлета. Але перад тым, як перайсьці да гэтага нумару, вернемся яшчэ да таго-ж "Полымя" за кастрычнік леташняга году й прывядзём у якасьці прыкладу адну вельмі характэрную з палітычнага гледзішча замалёўку-навэльку з цыклю "У кнігарні". Вось яна:*

*«Неяк падыходжу да кніжнай паліцы. Два маладыя мужчыны расхінуліся й далі мне месца, потым павіталіся — гэта былыя мае студэнты. Перакінуліся адным-*

*другім словам (як? дзе? што?), і настаўнікі напрасткі да мяне із сваёю нязгодай — яны, “абодвы градзенчукі”, не паверылі аўтару і чытаюць мне радок з кніжкі: “Сяляне зьвярталіся да Кастуся Каліноўскага напоўніцу: Канстанцін Сімановіч. Пытаюцца: хіба гэта адпавядае праўдзе? Ці беларускія сяляне з Гродзеншчыны — дзевятнаццатае стагодзьдзе! — гэтак зьвярталіся? Ды яшчэ да падпольшчыка, які падпісваў “Мужыцкую Праўду” хітра й прыхавана “Яська, гаспадар спад Вільні”? Так зьвярталіся да Кастуся падпольшчыка — патайнога кіраўніка паўстанцаў?*

*І дадаюць:*

*— З першае клясы дзяцей прывучаем зваць “Сьцяпан Кузьміч”, “Іосіф Андрэевіч”, а ўсёадно ў нас над Нёманам кажуць “Кузьмоў Сьцяпан”, “Андрэеў Юзік”, “Кастусёў Фэлікс”, “Сымонаў Алесь”».*

*Тут пісьменьнік асудзіў палітыку русыфікацыі шляхам упіханьня ў беларускую мову чужога й пракуднага ёй называньня людзей “па отчеству” й зьедліва высьмяяў гэткае-ж пракуднае хвальшаваньне нашае мінуўшчыны XIX стагодзьдзя. Вяртаючыся да абразкоў у сёлетнім верасьнёўскім нумары “Полымя”, варта спыніцца на абразку, дзе аўтар выясьняе няправільнае ўжываньне ў беларускай мове адных зычных і адных галосных, што навет два галосныя побач “ня хочуць вымаўляцца”. У якасьці прыкладу для гэтае зьявы аўтар цытуе словы сваёй субяседніцы:*

*“Даўнавата я вучылася на філфаку, але памятаю, што ў беларускіх тэкстах, у тых, што пісаліся на Беларусі яшчэ ў XIII і XIV стагодзьдзях, чыталі мы на занятках Юда, а не Іуда”.*

*Вось гэтак, узноў-жа вельмі вынаходліва, высьмяяў аўтар сяньняшнюю палітычную тэндэнцыю накіданьня беларускай мове чужога ёй расейскага вымаўленьня. У тым-жа сёлетнім верасьнёўскім нумары “Полымя” процьма прыкладаў, што і, як у народнай мове, вымаўляюцца правільна, тады калі ў кніжнай літаратурнай мове — наадварот, няправільна. Прывядзём з гэтых прыкладаў некаторыя яшчэ.*

*І так, этнограф падчас экспэдыцыі на Любаншчыне пытаецца ў вясковай жанчыны, ці ейныя абрусы саматканыя? Вясковая цётка спачатку не зразумела навет пытаньня, а этнограф у сваю чаргу не зразумеў пытаньня на пытаньне. Калі-ж нарэшце цётка зразумела, што значыць у вучонай мове этнографа слова “даматканае”, з палёгкай адказвае:*

*“— А! Дома, чалавеча, сама дома ткала. Ручнікі, праўда, ткала ня ў хаце: было цёпла, дык мы ў клеці кросны*

*ставілі, каб пылу менш было, каб у хаце лягчэй прыбіраць было. У мяне й дыванкі былі саматканыя, і кружэльнае палатно саматканае".*

*Гэтак дасьціпна даў дарогу ў людзі пісьменьнік чыста народнаму слову "саматканы" заміж штучнага "даматканы".*

*У вабразку "Варыстая печ" ізь зьедлівым гумарам паказвае аўтар, як два маладыя навукоўцы й пяць студэнтаў філялёгаў другі тыдзень жывуць у вёсцы на мяжы Маладэчанскага й Менскага раёнаў і ніяк ня могуць даўмецца, што такое "варыстая печ". Вось яны й пытаюцца ў вясковай цёткі:*

*«— Ну, а як печ завуць? "Руская печ", ці "літоўская печ", ці "вялікая печ"?*

*— Вялікая? Як у каго: у каго вялікая была, у каго меншая. Даўней варыстыя печы рабілі вялікія. А нашым часам нашто вялікая варыстая печ?*

*— А што гэта варыстая печ?*

*— Дык я-ж вам і кажу пра варыстую печ».*

*У газэце "Літаратура і Мастацтва" за 15 верасьня сёлета, у якой адзначаюцца 60-я ўгодкі ад нараджэньня Фёдара Янкоўскага, зьмешчаныя й два "юбілейныя", калі гэтак назавём іх, абразкі. У першым зь іх, загалоўленым "Ці ня тая самая?", ход пра тое, як навучэнец прафтэхвучылішча словы пяянай ім беларускай песьні вымаўляў, аднак, не па-беларуску, а па-расейску "діфчіначька", "Ластачька", "крінічьныя" й г. д. Калі-ж ягоны сябра заўважыў: "Песьню любіш, а слоў ня вывучыў", дык: «Прыгожы тэнарок спакойна й ветліва сказаў, што ён шукаў словы — тэкст, але не знайшоў, калі-б знайшоў, то вывучыў-бы ўсё песеньку "по буквочке". І хлопцы перайшлі на пералік асабліва любых песень (якую хто любіць) і скардзіліся: адну песьню друкуюць часта, а другой — нідзе не знайсьці, "ані дома ў нас" (хто зь іх, пачуў я, спад Нясьвіжа, хто — спад Валожына, хто — з Чэрвеня, Плешчаніц...), "ані тут" (больш за паўгады яны вучацца ў тэхнічным вучылішчы, спэцыянальнасьць набываюць)».*

*Калі-б, прыкладам, усе прыведзеныя ў гэтым артыкуле прыклады былі пададзеныя звычайнай папулярна-навуковай бясхварбнай мовай, дык эфэкт ад іх напэўна быў-бы невялікі. Ды яшчэ пытаньне, ці іх прапусьціла-б цэнзура, калі-б проста з мосту былі яны сказаныя. У тым якраз асаблівы талент Фёдара Янкоўскага, што ён патрапіць выказаць сваю думку непаўторнымі крылатымі словамі, якія моцна ўрэзваюцца ў памяць чытача й ніколі не забываюцца.*

*Фёдар Янкоўскі яшчэ ў поўным росквіце сваіх сілаў і творчых магчымасьцяў. Ён зможа шмат каштоўнага й незаменнага зрабіць*

*яшчэ для роднае свае мовы й беларускай літаратуры. Віншуючы яго з 60-мі ўгодкамі, хочацца й пад ягоным адрысам кінуць адзін лёгенькі дакор: пры ўсёй сваёй стараннасьці й працавітасьці для справы чысьціні й культуры роднае мовы сваё собскае імя, ня ведаю, чаму, ён піша не па-беларуску "Хведар", а паводля расейскага ўзору "Фёдар", як беларускі народ нідзе не гаворыць.*

***Вітаўт Кіпель***
*Haworth*

# “ГІСТАРЫЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ” І ЎСПАМІНЫ ПРА АЛЕНУ КАЗІМІРАЎНУ ЮРЭВІЧ

У чэрвені 2018 г. у друку, у інтэрнэце прамільгнула навіна-інфармацыя, што ў Менску закончанае выданьне “Гістарычнага слоўніка беларускай мовы” ды ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылася прэзэнтацыя апошняга, 37-га тому.

Скажу: не перабольшаньне! Падзея вялікая й памятная, ды ўважаю, што пажадана было б, каб пра яе ведала, гаварыла ды ганарылася ёю ўся Беларусь.

Калі прачытаў рэпартаж аб урачыстасьці-прэзэнтацыі, пагартаў мо ў тысячны раз старонкі слоўніка, які стаіць перада мной на працоўным стале, разважаючы захоплена аб багацьці беларускага слоўніцтва, насунуліся ўспаміны-настальгія па пэрыядзе-гадох, калі слоўнік ствараўся, пра тагачасныя палітычныя рэаліі: БССР — эміграцыя — халодная вайна, сябры, зь якімі штодня валкавалі “што новага ў Беларусі, беларускага”. Ды найперш, бадай, перабраў у памяці пачынальнікаў-складальнікаў слоўніка, з каторымі знаўся па літаратуры, працах, а з аднэй дык пашчасьціла й быць знаёмым, і сябраваць ды супрацоўнічаць у ЗША — з Аленай Казіміраўнай Юрэвіч (рэдкі, шчасьлівы выпадак у беларускай дзейнасьці)!

Аб некаторых эпізодах-здарэньнях, ускосна датычных і да таго часу, і да Алены Юрэвіч, падзялюся ўспамінам.

Пачну з часоў, калі я прыйшоў працаваць у Нью-Ёрскую публічную бібліятэку. Быў гэта год 1959, я спадзяваўся ў бібліятэцы падзарабіць, бо быў беспрацоўным, а ў выніку затрымаўся-застаўся ў гэтай установе аж да выхаду на пэнсію.

Як завядзёнка на любой працы, на навічка ўскладаюць абавязкаў-заданьняў цераз край, так было й са мной. Але ўсе абавязкі я пільна выконваў, бо праца мела дачыненьне да “беларускасьці”, а я дзеля “беларускасьці” перамяніў прафэсію!

Беларускімі дарадчыкамі звонку для славістаў-бібліятэкараў былі др. Вітаўт Тумаш і сп. Антон Шукелойць. Трэба сказаць, што на парады яны не скупіліся, а славянскі аддзел прыслухоўваўся. Як толькі ў працоўнай плошчы зьявіўся я, др. Тумаш парадзіў наладзіць дзьве

выставы: друкаў беларускай лацінкай і выставу большую, прысьвечаную акадэміку Яўхіму Карскаму (1860—1931), стагодзьдзе ад дня нараджэньня й 30-годзьдзе ад дня сьмерці якраз прыпадалі на той пэрыяд. Дадам: др. Тумаш быў вялікім сымпатыкам Карскага, ведаў ягоныя творы й вельмі паважаў.



Алена Юрэвіч

Выстава беларускай лацінкі адбылася пасьпяхова, славянскі аддзел пасьля яе скантактаваўся з букіністамі з надзеяй набыць больш беларускіх лацінкавых выданьняў.

Выстава Карскага таксама была наладжаная й сталася вельмі папулярнай. Паглядзець, парабіць нататкі з выстаўленых друкаў прыяжджалі студэнты з Прынстану й Агаё. Наагул, Карскі як філёляг, як аўтар “Беларусаў” добра ведамы амэрыканскім каледжам, што дапамагае інфармацыі й пра Беларусь.

У часе, калі я зьбіраў матэрыялы для выставы аб Карскім, працаў яго й аб ім у бібліятэцы было досыць ладна, і др. Тумаш парадзіў, і то вельмі настойліва, скласьці бібліяграфію ды напісаць артыкул, прыўрочаны да выставы. Бубніў мне аб гэтым др. Тумаш зь дзясятак разоў ды таксама сказаў др. Рычарду Леваньскаму, тагачаснаму дзейнаму загадчыку аддзелу. Др. Леваньскі да ідэі паставіўся прыхільна, але выслухаў і мяне. Я ж наадрэз адмовіўся ад ідэі, бо па вушы быў заняты на новай працы, новай спэцыяльнасьці ды толькі залічыўся на бібліятэчны факультэт Ратгерскага ўнівэрсытэту. Др. Леваньскі мяне зразумеў і падтрымаў, укладаньне бібліяграфіі Карскага на той момант было зьнятае з парадку дня.

Др. Тумаш быў вельмі незадаволены, а сам узяцца за працу над Карскім ён ня мог, бо заканчваў уласную працу “Жыхарства Беларускае ССР у сьвятле перапісу 1959 году”. Але пра Карскага ён не забыўся!

Празь нейкі час, працуючы ў бібліятэцы, ён мне кажа: “Паклічце Леваньскага — сходзім на каву”. Зроблена, пайшлі. І першае, што робіць др. Тумаш у бібліятэчнай кафэтэрыі, — дастае з кішэні капэрту лятнічай пошты, ліст (ад Флароўскага) з Прагі й чытае адтуль: “У Мінску выйшла бібліяграфія прац Карскага аўтарства Я. Рамановіч і А. Юрэвіч, калі атрымаю, перашлю Вам”.

Тумаш быў на дзясятым небе. Ён чытаў, чытаў нам тыя радкі, а потым рэк: “Вось бачыце, ёсьць працоўныя беларускія навукоўцы, якія ведаюць, што робяць! А вы празявалі! Малайцы ў Менску!”

Тумаш быў захоплены: выйшла бібліяграфія, і падкалоў нас, мяне з др. Леваньскім. Далей ён разважаў: "Цікава, хто гэта такія, Рамановіч і Юрэвіч? Зрабілі выдатную працу!" Я яго разумеў, бо Карскі быў блізкі яму, але ягоны ўздым мяне крыху ўсхваляваў, і я адказаў: "Ну вось бачыце, добра, што ў Менску нешта зрабілі, хоць вы яшчэ ня бачылі, што менавіта, а ў бібліяграфіі Скарыны вы будзеце першым, ніхто вас ня выперадзіць".

Тумаша мая рэпліка ахаладзіла, ён ўхмыльнуўся і сказаў: "Знайшоўся, што адказаць". Др. Леваньскі пры гэтай сутычцы чуўся ніякавата й маўчаў.

Гэтак праз Прагу ў зьвязку з Карскім БІНіМаўцы "пазнаёміліся", увялі ў свой "кампутар" дасьледнікаў-беларусістаў з БССР Я. Рамановіч і А. Юрэвіч як прафэсіяналаў, якія "ведаюць, што робяць".

Далей мая бібліятэчная праца й навука на ўнівэрсытэце ішлі звычайным шляхам. Па ходу працы ў бібліятэцы даводзілася досыць часта сустракацца з гасьцямі з СССР ды амаль рэгулярна мяне наведвалі беларускія дэлегаты на сэсіях ААН. Зь імі ўсімі залагоджваліся набыткі кнігаў з Саюзу. Аб сустрэчах зь землякамі я расказваў у кнізе "Жыць і дзеіць" (Менск, 2015), але прыпомніліся мне й меншыя сустрэчы-гутаркі. Найбольш сустрэчаў я меў зь Пятром Фёдаравічам Глебкам — ён быў на асамблеях ААН двойчы ў гадох 1960-х.

У тым жа пэрыядзе пачалася ў БССР моцная атака на праявы беларускасьці: спадабацца Мікіту Хрушчову пасьля ягоных нападаў на Мазурава, беларускую мову! У сустрэчах з Глебкам, калі я аб гэтым гаварыў, ён пярэчыў, матывуючы, што на акадэмічным фронце ў БССР робіцца гэтулькі новага: пачалася новая этнаграфічная сэрыя, новыя працы ў мовазнаўстве, пачалі гістарычны слоўнік беларускай мовы, кнігі па гісторыі мастацтва й г. д. Пры гэтым ён называў прозьвішчы маладых дасьледчыкаў: Уладзімер Конан, Адам Мальдзіс, Алена Юрэвіч, Лявон Баразна — усіх не прыпомню.

У некаторыя Глебкавы навіны я верыў (як этнаграфічная сэрыя, дзе ён быў кіраўніком), а некаторыя прымаў з засьцярогаю — пра той самы гістарычны слоўнік. Аднак Глебка меў рацыю: у пачатку 1970-х гадоў пачалі зьяўляцца ў друку весткі, што такі лінгвістычна-гістарычны слоўнік укладаецца, гэта падцьвердзілі з пэўнасьцю пры сустрэчах Анатоль Міхайлаў і Генадзь Бураўкін.

Недзе ў пачатку — сярэдзіне 1982 году слоўнік зьявіўся ў Публічнай бібліятэцы. Зора Кіпель была першай (яна найшчырэй захаплялася слоўнікам), хто трымаў першы том у руках. Паглядзелі на слоўнік таксама Вітаўт Кіпель, Антон Адамовіч (ківаў галавой ды прыгаворваў: "Глебка ведаў! Вялікая падзея!"). Але др. Тумаша на "агляд" слоўніка ў бібліятэку прывесьці не было магчымасьці: ён папраўляўся пасьля інфаркту (зьвязанага з справай Лофтуса).

Тады ж мы з Зорай пачалі “экзамэнаваць” слоўнік. Адразу выказалі засьцярогу, што праўдападобна не былі выкарыстаныя замежныя крыніцы, аднак агульны агляд, уводны, прафэсійны й вельмі інфармацыйны, артыкул, аб’ём слоўніка былі выдатнымі. Зьвярнулі ўвагу й на тое, што першасную картатэку слоўніка падрыхтавалі 15 асобаў, а картатэка налічвала 1 мільён 60 тысяч картак! Ды што нам было прыемна: сярод першых укладальнікаў картатэкі слоўніка значылася таксама А. К. Юрэвіч — нашая “знаёмая” па Карскаму. Прыпамінаецца, як Антон Адамовіч мармытаў: “Гэтая Юрэвіч напэўна з тых менскіх, каго я ведаў”. (Такая аб Адамовічу дэталька: ён, гаворачы-ўспамінаючы аб Менску, любіў падкрэсьліваць: “Аб Менску — пра Менск — мянчанаў — я ведаю ўсё!”.)

Я пераглядаў-спыніўся на сьпісе прозьвішчаў-пачынальнікаў картатэкі слоўніка, і тады прабегла думка, што калі б з намі быў др. Тумаш, ягоны камэнтар быў бы такі: “Вось бачыце, А. К. Юрэвіч адна з пачынальнікаў картатэкі — салідны работнік, а вунь першы стаіць А. І. Жураўскі — дык той, напэўна, прысабечыў нечыя карткі”. (Упэўнены, што так думаў бы др. Тумаш, бо з Аркадзем Жураўскім у яго былі “канфлікты” ў галіне скарыніяны). Ад часу апублікаваньня бібліяграфіі Яўхіма Карскага др. Тумаш заўсёды заўважаў прозьвішчы Рамановіч і Юрэвіч.

Тамы слоўніка пачалі рэгулярна прыходзіць у бібліятэку, на слоўнік падпісаліся ў амэрыканскіх кнігарнях некалькі асобаў-беларусістаў і энтузіястаў беларусікі. Як атрымоўвалі кожны новы том, думалася: абы закончылі. Але беларусам “вязло”.

Прайшлі гады 1980-я, перабудова, ляснуў СССР. А слоўнік рабіўся! Паднялася заслона на Беларусь і зь Беларусі — бясспрэчна, вялікая й добрая падзея. Так, як аўтар гэтых радкоў дзясяткі гадоў таму зайшоў у Публічную бібліятэку, шукаючы працу, гэтак сп. Лявон Юрэвіч зайшоў у пачатку 1993 году з тым самым намерам. У бібліятэцы Лявон сустрэўся з Зорай Кіпель, пазнаёміліся, закранулі беларушчыну, ды ў выніку Лявон і да сяньня працуе там.

У той жа вечар Зора абзваніла ўсіх сяброў БІНіМу з навіной, што ў Нью-Ёрку асела сям’я Алены Юрэвіч, пра якую мы ведалі. Трэба сказаць, што гэта — Юрэвічы ў Нью-Ёрку — была адна зь вельмі добрых вестак, бо ўсе спадзяваліся, што яны дапамогуць у Інстытуце. Так яно й сталася: апрацаваныя й надрукаваныя былі кнігі твораў Уладзімера Дудзіцкага, Міколы Цэлеша, Юркі Віцьбіча, Антона Адамовіча й іншае. Алена Юрэвіч дапамагала з ангельска-беларускім слоўнікам, адбылося некалькі сустрэчаў-сходаў. Дасьледчая праца ў БІНіМе вельмі ажывілася ў дадатак да аповедаў-лекцыяў Алены Юрэвіч аб моваведнай, бібліяграфічнай і пэдагагічнай дзейнасьці ў Беларусі. Спн. Алена Юрэвіч сваёй працай, жыцьцёвым дасьведчаньнем у Беларусі сталася злучвом паміж намі й радзімай. І вось з нагоды выхаду-заканчэньня апошняга тому

“Гістарычнага слоўніку беларускай мовы” трэба сказаць такое: спн. Алена Юрэвіч была адной з пачынальнікаў гэнае вялікае працы, як была таксама, разам з мужам Навумам, пачынальнікам беларускай эмігранцкай аналітычнай бібліяграфіі — ключа да аграмаднага нявывучанага пласту беларусістыкі. Яна — сапраўдны агульнабеларускі навуковец.

А да цяперашніх адміністратараў-уладаў над слоўнікам радзіў бы хадайнічаць перад парлямэнтам Рэспублікі Беларусь узнагародзіць і “Гістарычны слоўнік беларускай мовы”, і стваральнікаў яго адмысловай дзяржаўнай граматай.

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# САБОР У КАНСТАНЦЫ, АБО 70 ГАДОЎ АДНАЎЛЕНЬНЯ БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛІІ

2018 год — год важных для беларусаў юбілеяў: гэта ня толькі 100 гадоў Беларускай Народнай Рэспублііцы, але й 70 гадоў аднаўленьню Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, што адбылося 5 чэрвеня 1948 г. Гэтая падзея, хоць і менш вядомая за стварэньне нацыянальнай дзяржаўнасьці, мае вялікае значэньне для нашай гісторыі, асабліва да гісторыі эміграцыі, дзе прыходы БАПЦ дзейнічаюць і да сёньня. Таму з увагі да будучага юбілею мы хацелі б на падставе архіўных дакумэнтаў і публікацый згадаць, як менавіта адбывалася тое, чарговае й апошняе на сёньня аднаўленьне аўтакефаліі Беларускай праваслаўнай царквы.

Пасьля здрады беларускага епіскапату, які ў траўні 1946 г. цалкам перайшоў у Расейскую праваслаўную царкву за мяжой, беларускі грамадзкі актыў стаў актыўна шукаць сярод духавенства асобу, якая згадзілася б узяць на сябе кіраваньне нацыянальнымі царкоўнымі справамі й ачоліць — фактычна аднавіўшы гэтым — БАПЦ. Такой асобаю стаўся япіскап Сергій з Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, лучнасьць зь якім навязаў колішні беларускі дзеяч у Латвіі Мікола Дзямідаў.

Архіяпіскап Сергій (у міры Ягор Ахатэнка) нарадзіўся ў 1890 г. у сялянскай сям'і ў вёсцы Малыя Гарошкі на Жытоміршчыне. У 1919 г. ён жыў у Богаяўленскім манастыры, дзе й быў пастрыжаны ў манахі. У 1925-м — рукапакладзены ў сан іераманаха. Выконваў душпастарскія абавязкі на Карастэншчыне.

У 1937 г. савецкая ўлада арыштавала іераманаха Сергія й выслала яго ў Бярдзянск на рыбныя промыслы. Вызваліўшыся падчас Другой сусьветнай вайны, ён вярнуўся да працы ва Ўкраінскай аўтакефальнай праваслаўнай царкве й быў прызначаны настаяцелем сабору ў Мелітопалі, а ў 1943 г. прыняў архіяпіскапскае высьвячэньне ў Кіраваградзкім саборы.

На эміграцыі пасьля вайны архіяпіскап Сергій жыў у Канстанцы ў Нямеччыне. Менавіта туды на перамовы да яго скіраваўся ў 1948 г. беларускі грамадзкі дзеяч др. Віктар Войтанка. І архіяпіскап Сергій даў згоду на ачоленьне БАПЦ. Пасьля гэтага ад Старшыні Рады БНР

Міколы Абрамчыка было атрымана ўпаўнаважаньне на скліканьне адмысловага Саборыку й падпісаньне дамовы.

Варта згадаць, што ідэя аднаўленьня БАПЦ рэалізоўвалася ва ўмовах палітычнага расколу беларускай эміграцыі на прыхільнікаў Рады БНР і Беларускай Цэнтральнай Рады, які якраз у гэты час афармляўся. Пакуль прыхільнікі Радаслава Астроўскага ("зарубежнікі") імкнуліся пераканаць ранейшых япіскапаў БПЦ Філафея й Апанаса вярнуцца да незалежнай беларускай царквы, менавіта адэпты Прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка сталі ініцыятарамі й рухавікамі аднаўленьня аўтакефаліі БПЦ ужо без удзелу "япіскапаў-здрайцаў".

Саборнае абвяшчэньне было прызначанае на дзень сьв. Эўфрасіньні — 23 траўня (5 чэрвеня) 1948 г. Часопіс Жыровіцкага брацтва "Сілы Веры", рэдагаваны Аляксандрам Асіпчыкам, апісваў тую значную падзею ў найноўшай царкоўнай, дый ня толькі, гісторыі Беларусі наступна:

*«4—5 чэрвеня 1948 году адбылося ў Канстанцы (Французкая зона) вялікае сьвяткаваньне праваслаўных беларусаў. Дзень сьв. Прадславы-Эўфрасіньні быў там адсьвяткаваны беларусамі вельмі ўрачыста. У шмат якіх асяродках былі адпраўленыя царкоўныя службы. У Канстанцыю зьехаліся беларусы з шмат якіх асяродкаў. Будні дзень змусіў некаторых застацца дома. Міма запалохваньняў з боку зарубежнікаў, аднак, сабралася нямала людзей.*

*У асысьце пяці сьвятароў уладыка Сергій адслужыў 4-га Ўсяночную, а пятага — сьвятую літургію і малебен прап. Аўфрасіньні. У казаньні ўладыка падкрэсьліў значэньне гэтага дня ў беларускім царкоўным жыцьці. Ён прыпомніў пастанову Сабору ў Менску ў 1942 г. і абвешчаньне аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы. Як ведама, Сабор тады дастаў Беларускаму Сьв. Сыноду правесьці ў жыцьцё аўтакефалію.*

*Далей уладыка ў гарачых словах успомніў памяць мітрапаліта Аляксандра Пінскага, які ўзначальваў у сваім часе БАПЦ. Прадчасная сьмерць не дазволіла ўладыку Аляксандру пашырыць і ўмацаваць вялікую і сьвятую справу беларускай аўтакефальнасьці на эміграцыі. Беларусы-праваслаўныя зьвярнуліся да ўладыкі Сергія з просьбай памагчы ім праводзіць далей аўтакефалізацыю і ўзяць іх пад часовую пастырскую апеку. Уладыка, памятаючы аб вялікім укладзе мітр. Аляксандра ў справу Аўтакефальнасьці Украінскай Царквы (у якой уладыка Сергі япіскапам), ня мог адмовіць, наадварот — пачуваўся да абавязку як добры сябра ўладыкі Аляксандра і як праваслаўны япіскап узяць на сябе гэтае цяжкае заданьне.*

*Уладыка падаў вернікам выясьненьні канонаў сьв. Усяленскай Саборнай Праваслаўнай веры ў справе аўтакефаліі паасобных самастойных цэркваў. Ён падкрэсьліў, што ўсе закіды, быццам кананічнасьць аўтакефаліі патрабуе існаваньня дзяржавы,*

*неабгрунтаваныя. Наадварот, царква ніколі ня была зьвязаная з дзяржаўнасьцю і не павінна падлягаць ды зьвязвацца з палітычнымі ўстановамі, палітычнымі абмежаваньнямі. Грамадзянства — гэта адно, а прыналежнасьць да самаіснае царквы — другое. Як фактычны довад, уладыка падаў існаваньне патрыярхальных аўтакефальных цэркваў на Блізкім Усходзе ў дзяржавах (і паміж дзяржаваў) магамэтанскіх, варожых хрысьціянскай веры. Таксама і сьвятыя Апосталы Хрыстовы закладалі шмат цэркваў у адной тады адзінай дзяржаве — Рымскай імпэрыі... [...]*

*Для кіравецтва справамі БАПЦ Уладыка запрысяжыў пяцёх духоўнікаў і вернікаў у часовае кіраўніцтва, якое мае выконваць усе справы пад ягоным наглядам. "Пакуль, дадаў уладыка, я як япіскап кірую, Беларуская Аўтакефальная Царква стаіць і будзе стаяць на шляху Саборнай Усяленскай Праваслаўнай Веры"... [...]*

*Гэтак з днём сьв. Прадславы-Аўфрасіньні 5 чэрвеня 1948 году скончылася дасюль удовае існаваньне Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы».*

Такім чынам, на згаданым саборы ў Канстанцы быў прыняты сапраўды гістарычны дакумэнт, які зацьвердзіў аднаўленьне БАПЦ.

*ПАСТАНОВЫ*
*Саборыку Праваслаўных Беларусаў ў Нямеччыне, у дзень прп. Еўфрасінні 23 траўня, 5 чырвеня 1948 г. у Канстанцы, пад старнышыствам Прэасьвяшчэнняга Сергія, уп. Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы і духавенства: мітр. Прат. Ананія Сагайдакіўскі, прат. Барыс Масловскі, прат. Якаў Мефодзіевскі, дыякан Уладзімер Піндзюра, ды прадстаўнікоў-вернікаў.*

*1. Асноўваючыся на ідэі мітрапаліта Грыгорыя Цамблака незалежнасьці Беларускай (Вялікага Княства) Праваслаўнай царквы ды змаганьні за яе зьдзяйсьненьне пазьнейшых беларускіх праваслаўных герархаў, духоўнікаў і вернікаў, завершанага Мітрапалітам Менскім Мелхісэдэкам у 1922 годзе, абвешчаньнем Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, Саборык прызнае правільнай пастанову Усебеларускага Праваслаўнага Сабору ў Менску ў 1942 г. устанавіўшага Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву.*

*2. Саборык сьцьвярджае, што тры епархіі БАПЦарквы: Віленская, Гарадзенская й Пінская належалі да Польскай ПАЦарквы і атрымалі дазвол на аддзяленьне ў Беларускую ПАЦаркву, багаславенства і прызнаньне ад мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы, Блажэньнейшага Дыянісія, главы Польскай ПАЦарквы, дадзеныя ім на рукі Мітрапаліта Аляксандра Пінскага. Дзеля таго, што перад Менскім*

*Усебеларускім Праваслаўным Саборам існавалі толькі гэтыя тры епархіі, заснаваныя наступныя епархіі БАПЦарквы, Саборык сьцьвярджае кананічнасьць Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы, атрымаўшай прызнаньне Матчынай Польскай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы.*

*3. Саборык падтрымоўвае пастанову Мітр. Аляксандра Пінскага — трываць пры Аўтакефальнасьці БПЦарквы і на эміграцыі, і з жалем успамінае перадчасную сьмерць Мітр. Аляксандра.*

*4. Саборык пастанаўляе працягваць дзейнасьць Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на эміграцыі ды змагацца за яе ў краі пад часовым епаскапскім кіраўніцтвам Прэасьв. Сергія, епіскапа УАПЦарквы. Пераданьне часовага епіскапскага кіраўніцтва Прэасьв. Сергіем сталаму епіскапскаму кіраўніцтву наступіць з хвілінай наяўнасьці ня менш двух беларускіх епіскапаў у Беларускай АПЦаркве, жадаючых стварыць сталае кіраўніцтва БАПЦарквы і кіраваць Ёю на славу Праваслаўнай Веры ў Беларускім Народзе на век века.*

*5. Саборык выбраў кандыдатаў у часовае кіраўніцтва справамі БАПЦарквы і прадставіў Уладыку Сергію да назначэньня. Назначаныя і запрысяжаныя гэтага-ж 23 травеня (5 чэрвеня) у дзень прэпадобнай Еўфрасіньні ў архіерэйскай царкве ў Канстанцы (Нямеччына).*

*6. Саборык заклікае ўсіх Праваслаўных Беларусаў аб'яднацца каля адзінае Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы, гэтым ушанаваць памяць і заслугу сваіх лепшых дзядоў і прадзедаў, змагаўшыхся за аўтакефалію і чысьціню Праваслаўнае Веры. Умацоўвайце БАПЦаркву і Праваслаўную Веру на эміграцыі і ў Беларускім Народзе на Бацькаўшчыне на векі вечныя. Амін.*

*Подпісы: Епіскап Сергій, праф. М[ікола] Дзямідаў, сьвятар Сьцяпан Войтэнка*

*23 траўня (5 чэрвеня) 1948 г.*

Як згадвалася, ад самага пачатку аднаўленьне й разбудова БАПЦ адбываліся ў цесным супрацоўніцтве з Радаю БНР. Сярод карэспандэнцыі япіскапа Сергія зь Міколам Абрамчыкам і кіраўніком ураду БНР Аўгенам Каханоўскім ёсьць, прыкладам, такі ліст:

*Гаспода, 12.4.1949 г.*

*Апякуну Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Япіскапу Сергію.*

*Ваша Высокапрэасьвяшчэнства,*

*Урад БНР выслаў сёньня афіцыйнае паведамленьне ўсім сваім Прадстаўнікам у ЗША, Ангельшчыне, Францыі, Аргентыне, Канадзе, Швэдыі, Бэльгіі і Аўстраліі, а праз іх — кіраўніком усіх ін-*

*шых беларускіх арганізацыяў на эміграцыі ўважаць Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву пад Вашым зьверхніцтвам за адзінапраўную Беларускую Праваслаўную Царкву.*

*Ад гэтага часу ўсе Вашы крокі ў справе разбудовы Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы будуць урадова падтрымлівацца нацыянальнымі беларускімі органамі і арганізацыямі, а Вы, Ваша Высокапрэасьвяшчэнства, у паразуменьні зь Міністрам Культуры й Веравызваньняў Ураду БНР Др. Аляксандрам Орсаю ці беспасярэдня маеце адгэтуль магчымасьць карэспандаваць у беларускіх царкоўных справах з усімі Прадстаўнікамі Ўраду БНР дзеля чаго, разам з гэтым, дасылаем Вам сьпісы і адрасы Прадстаўнікоў і іншых беларускіх арганізацыяў на эміграцыі.*

*Прымеце, Ваша Высокапрэасьвяшчэнства, выраз мае шчырае да Вас пашаны.*

*Прэм'ер-Міністар Ураду БНР А[ўген] Каханоўскі*[1].

У адным з пратаколаў 1949 г. згадваецца, што сродкі на БАПЦ ішлі непасрэдна з касы ўраду БНР. Яшчэ на саборыку ў Канстанцы ў 1948 г. было заключанае пагадненьне адноўленай БАПЦ з Радай БНР аб узгадненьні пасьвячэньня царкоўных іерархаў. Гэтай справай кіраўніцтва БНР актыўна займалася цягам 1948—1949 гг. Адмысловыя перамовы ішлі з радным Уладзімерам Тамашчыкам як кандыдатам на япіскапства, і зацьвярджэньне яго кандыдатуры было таксама аформленае пастановай Рады БНР. Пасьвячэньне Васіля (Тамашчыка) на пасаду япіскапа БАПЦ адбылося 19 сьнежня 1949 г. у Розэнгайме. Ад гэтага часу, калі царква атрымала свой Сабор япіскапаў, а ўладыка Сергій ужо меў адпускную грамату ад УАПЦ, аднаўленьне БАПЦ прыйшло да пэўнага завяршэньня. Пачаўся працэс разбудовы царквы на Захадзе, які працягваецца й да сёньня.

[1] Збор дакумэнтаў Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы (на выгнаньні). 1983. С. 23.

***Натальля Гардзіенка***
*Менск*

# УПЛЫЎ ІМІГРАЦЫЙНАЙ ПАЛІТЫКІ КАНАДЫ НА ФАРМАВАНЬНЕ ХВАЛЯЎ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ

Іміграцыйная палітыка ёсьць неад'емнай часткай гісторыі Канады ад часоў зьяўленьня першых пасяленцаў на берагах ракі Сьв. Лаўрэнція. Цягам стагодзьдзяў прырост насельніцтва шмат у чым адбываўся дзякуючы імігрантам, што паступова асвойвалі ўсё новыя тэрыторыі, ствараючы перадумовы для ўзьнікненьня на мапе сьвету ў другой палове XIX ст. новай дзяржавы. Акт аб Брытанскай Паўночнай Амэрыцы 1867 г. аб'яднаў у адну дзяржаўную сыстэму — Канаду — 4 правінцыі: Антарыё, Квэбэк, Новую Шатляндыю й Нью-Брансьвік, у хуткім часе (1871 г.) да іх далучылася аддаленая Брытанская Калюмбія, пазьней дадаліся й іншыя (Манітоба, Саскачавань, Альбэрта, Ньюфаўндлэнд і г. д.). І хоць фармальна Канада заставалася ў складзе Брытанскай імпэрыі, яна атрымала ўласны ўрад і магчымасьць самастойна вызначаць сваю ўнутраную, а пазьней і зьнешнюю палітыку.

На момант стварэньня дзяржавы ў чатырох правінцыях Канады жыло толькі каля 3 млн чалавек. Перапіс 1871 г. зафіксаваў, што з 3 485 761 жыхароў[1] брытанскае паходжаньне мелі каля 2,1 млн чалавек, зь якіх 846 тысяч складалі ірландцы, 706 тысяч — ангельцы, 550 тысяч — шатляндцы. Франкаканадцы на той час налічвалі каля 1083 тысячы чалавек. Пры гэтым цягам 1861—1870 гг. з Канады больш выяжджалі, чым туды прыяжджалі — краіна была своеасаблівым перавалачным пунктам для эміграцыі ў ЗША, дый уласнае насельніцтва актыўна перабіралася да паўднёвых суседзяў для асваеньня на прывабных умовах земляў амэрыканскага Захаду.

Фэдэральны канадыйскі ўрад, які меў вызначальную ролю ў вырашэньні пытаньняў іміграцыйнай палітыкі, мусіў дзеля актывізацыі эканамічнага разьвіцьця краіны й загаспадараньня вялікіх тэрыторыяў стымуляваць іміграцыю. Для гэтага ў 1869 г. быў прыняты першы Іміграцыйны акт у Канадзе. У гэтым дакумэнце вызначаўся мэханізм

[1] Census of Canada 1870—1871 = Recensement de Canada. Vol. I. Ottawa, 1873. P. 426.

прыбыцьця імігрантаў, рэглямэнтавалася магчымая колькасьць імігрантаў на караблі ў залежнасьці ад ягонага танажу, памер падатку з кожнага іміґранта (пераважна складаў адзін даляр з чалавека), адказнасьць перавозчыка й г. д. Іміграцыйны акт меў на мэце стварыць умовы для кантраляванага, рэгуляванага прыбыцьця ў краіну замежнікаў. У ім фармуляваліся абавязкі перавозчыкаў па дакладным уліку імігрантаў, вызначаліся непажаданыя для ўезду ў краіну асобы: лунацікі, сляпыя, глухія, нямыя, псыхічнахворыя. Таксама адзначалася, што фэдэральны ўрад меў права абмежаваць прыбыцьцё ў краіну жабракоў і асацыяльных асобаў[2].

Падставаў для прыцягненьня працоўных рук у Канаду было некалькі. Па-першае, урад выкупіў у Кампаніі Гудзонскай затокі вялікія абшары земляў паміж Антарыё й Брытанскай Калюмбіяй — тэрыторыі, якія неабходна было асвойваць і засяляць (яны з часам склалі найперш правінцыі Манітоба, Альбэрта, Саскачавань). Па-другое, трэба было наладзіць сталую транспартную сувязь паміж тэрыторыямі на ўсходнім і заходнім узьбярэжжах Канады — нарадзіўся праект пабудовы Трансканадзкай чыгункі, які патрабаваў працоўных рук. Па-трэцяе, у працэсе асваеньня канадыйскіх земляў знаходзіліся ўсё новыя радовішчы карысных выкапняў (вугалю, руды й інш.), што патрабавалі распрацоўкі. Пад уплывам усіх гэтых фактараў ад 1870-х гг. Канада пачала актыўна запрашаць імігрантаў, у выніку чаго пашырыўся нацыянальны склад яе насельніцтва: на захадзе сталі зьяўляцца кітайцы, а з усходу ехалі немцы, шведы, нарвежцы, ісьляндцы, італьянцы, габрэі, палякі, украінцы ды інш.

Можна сьцьвярджаць, што на падставе Іміграцыйнага акту 1869 г. да канца XIX ст. на іміграцыю ў Канаду не было амаль ніякіх абмежаваньняў (за выключэньнем хваробаў). Ад 1885 г., праўда, канадыйскі парлямэнт пачаў стрымліваць кітайскую іміграцыю: быў уведзены падатак у памеры 50 даляраў на кожнага кітайца, які прыбываў у краіну.

Выглядае, што менавіта ў другой палове XIX ст. у Канаду сталі прыязджаць выхадцы зь беларускіх тэрыторыяў. Прынамсі вядома пра пасяленне пад назвай Вільня, якое зьявілася ў Атаўскай даліне ў правінцыі Антарыё ў 1865 г. Праўда, у літаратуры яно фіксуецца як польскае[3].

Іміграцыя спрычынілася да пачатку бурнага эканамічнага ўздыму ў Канадзе на мяжы XIX — XX стст., які атрымаў назву *"пшанічны бум"* (дзякуючы ўздыму сельскай гаспадаркі на новаасвоеных землях Манітобы, Альбэрты, Саскачавані). У гэты час да ўлады ў краіне прыйшлі кансэрватары на чале з Уілфрэдам Лур'е, які абвясьціў новую іміграцыйную палітыку, заснаваную на селектыўных прынцыпах.

---

[2] https://www.pier21.ca/research/immigration-history/immigration-act-1869.

[3] Шлепаков, А. Славянские группы Канады // Национальные проблемы Канады. Москва, 1972. С. 137.

У 1906 г. быў прыняты значна больш дэталёва распрацаваны, чым папярэдні, Іміграцыйны акт, які заклаў аснову канадыйскай іміграцыйнай сыстэмы. Дакумэнт дакладна вызначаў іміграцыйную тэрміналёгію, арганізацыю іміграцыйнай службы, магчымасьці зьмены правілаў, мэханізмы прыёму, мэдыцынскага агляду і ўліку імігрантаў і г. д.[4]. Важная частка Акту датычыла вызначэньня забароненых для іміграцыі катэгорыяў. Сярод іх былі псыхічнахворыя, асобы з інфэкцыйнымі хваробамі, а таксама глухія, сляпыя й нямыя асобы (за выключэньнем выпадкаў, калі яны прыбываюць да сям'і, якая ўжо жыве ў Канадзе й можа іх забясьпечыць усім неабходным). Забараняўся ўезд у Канаду жабракам, злачынцам, прастытуткам і суценёрам. Іміграцыйны акт зьмяшчаў таксама артыкулы, якія датычылі абароны правоў імігрантаў, рэгуляваў дзейнасьць іміграцыйных агентаў, уладальнікаў гатэляў, перавозчыкаў і г. д. у дачыненьні да імігрантаў. Варта зазначыць, што Іміграцыйны акт даваў фэдэральнаму ўраду выключныя правы на абмежаваньне іміграцыі пэўных групаў.

Тыя ж правы зацьвердзіў і нават пашырыў Іміграцыйны акт 1910 г., які прадугледжваў магчымасьці для ўраду забараніць уезд у краіну або дэпартаваць любога іміграпта. Новы дакумэнт яшчэ больш дэталёва распрацоўваў іміграцыйную тэрміналёгію, вызначаў катэгорыі імігрантаў і неімігрантаў, уводзіў панятак дазволу на сталае жыхарства (*domicile*), які мусіў атрымаць кожны імігрант праз тры гады жыцьця ў краіне. Да гэтага часу ён мог быць дэпартаваны, калі б быў вызначаны як непажаданы для грамадзтва. Яшчэ больш пашырыўся й дэталізаваўся сьпіс забароненых для ўезду асобаў: да злачынцаў, суценёраў, прастытутак, псыхічнахворых і іншых, што згадваліся ў папярэдніх актах, дадаліся асобы, якія прыбывалі ў Канаду на запрашэньне дабрачынных арганізацый. Гэта было выклікана вялікай колькасьцю беднякоў, што ад 1907 г. сталі прыбываць праз Брытанію дзякуючы дапамозе харытатыўных інстытуцыяў. У Акце была таксама пазначана магчымасьць дэпартацыі з Канады палітычных уцекачоў, што заклікалі да гвалтоўнага зьвяржэньня ўлады й парушалі грамадзкі парадак[5]. Іміграцыйны акт 1910 г. на дзесяцігодзьдзі вызначыў прынцыпы іміграцыйнай палітыкі Канады і стварыў умовы для прыезду значнай колькасьці імігрантаў. Цягам 1897—1929 гг. у краіну штогод прыбывала да 140 тысяч чалавек. За першыя тры дзесяцігодзьдзі XX ст. у Канаду прыехалі каля 4,6 млн імігрантаў, зь якіх каля 3,2 млн — да Першай сусьветнай вайны. Выехалі з краіны пры гэтым 3,4 млн, такім чынам, станоўчае сальда міграцыі склала 1,2 млн чалавек, — больш за 20 % ад насельніцтва краіны на пачатку стагодзьдзя.

---

[4] http://www.pier21.ca/research/immigration-history/immigration-act-1906.

[5] https://www.pier21.ca/research/immigration-history/immigration-act-1910.

У саміх іміграцыйных актах не вызначаліся тыя ці іншыя этнічныя ці нацыянальныя адметнасьці жаданых ці нежаданых імігрантаў, за выключэньнем пазнакі ў акце 1910 г. пра спэцыяльныя ўмовы для кітайскай іміграцыі, сфармуляваныя адмысловым дакумэнтам. Праз пэўныя пастановы парлямэнту пачатку ХХ ст., тым ня менш, былі агавораныя своеасаблівыя групы пераважнага спрыяньня. Так, перавага аддавалася прыбылым зь Вялікабрытаніі, кантынэнтальнай Эўропы й ЗША. Выразна абмежаваная была іміграцыя з Кітаю. Паводле адмысловай пастановы 1910 г. кожны кітаец павінен быў мець пры ўезьдзе ў Канаду 200 даляраў, у той час як іншыя імігранты абмяжоўваліся 25 далярамі. Да таго ж жыхары Паднябеснай не маглі прыбываць у Канаду праз трэція краіны. Усё гэта на доўгі час амаль спыніла кітайскую іміграцыю ў краіну.

Разам з тым этнічны склад імігрантаў у ХХ ст. істотна зьмяніўся. І хоць па-ранейшаму пераважаў сярод іх брытанскі элемэнт (англічане сталі значна пераважаць, а ірляндцаў стала меней), прадстаўніцтва эўрапейцаў у краіне значна пашырылася. Найбуйнейшымі групамі небрытанскага эўрапейскага паходжаньня былі ўкраінская (за 30 гадоў прыехала каля 180 тысяч), італьянская (150 тысяч), нямецкая (130 тысяч), габрэйская (120 тысяч), расейская (каля 114 тысяч выхадцаў з Расейскай імпэрыі па-за габрэямі й украінцамі) і інш.

Другі важны прынцып выбару імігрантаў датычыў іх галіны занятасьці — патрабаваліся найперш сельскагаспадарчыя працаўнікі, а таксама нізкакваліфікаваная працоўная сіла ў прамысловасьці й будаўніцтве. Актыўна запрашалі працоўных імігрантаў вялікія кампаніі кшталту *Canadian Pacific* і інш.

Такім чынам, іміграцыйная палітыка Канады пачатку ХХ ст. была арыентаваная на стварэньне ўмоваў для легальнай, кантраляванай працоўнай іміграцыі. І менавіта ў гэты час прыкладна ад 1902—1903 гг. пачынаецца масавая эміграцыя ў гэтую краіну беларусаў. Можна казаць пра дзьве вялікія хвалі беларускай эміграцыі ў Канаду: хваля 1903—1914 гг. (у выніку на 1921 г. у Канадзе было каля 9 тысяч беларусаў) і хваля 1925—1929 гг. (за пяць гадоў у Канаду выехалі каля 10 тысяч беларусаў).

Значныя зьмены ў іміграцыйнай палітыцы Канады адбыліся ў 1930 г., і зьвязаныя яны былі з сусьветным эканамічным крызісам ды потым Другой сусьветнай вайной. У выніку й прыезд зь беларускіх тэрыторыяў значна скараціўся. Цягам 1930-х гг. зь беларускіх ваяводзтваў Польшчы яшчэ выяжджалі ў Канаду ў сярэднім каля 200 чалавек штогод, але ад 1939 г. гэты працэс спыніўся.

Канец 1940-х — сярэдзіна 1960-х гг. — час новай актыўнай палітыкі запрашэньня імігрантаў у Канаду, якая пры гэтым захавала прынцыпы сэлектыўнасьці. Да сярэдзіны 1960-х гг. захоўвалася вызначэньне прыярытэтных рэгіёнаў для запрашэньня імігрантаў (сярод іх былі

й Цэнтральная і Ўсходняя Эўропа, уцекачы зь якіх запрашаліся ў Канаду, праўда, ня так з гуманітарных мэтаў, як працоўныя імігранты). Таксама зважалася на сфэру занятасьці патэнцыйных працаўнікоў, яе адпаведнасьць патрэбам канадыйскай эканомікі. У гэты пэрыяд пачынаецца ўжо новая хваля эміграцыі беларусаў у Канаду, якая ішла не непасрэдна зь Беларусі, а з краінаў Заходняй Эўропы, дзе беларусы апынуліся або як жаўнеры Арміі Андэрса, або як перамешчаныя асобы. Прычым для новапрыбылых беларусаў іміграцыя мела, хутчэй, не эканамічныя, а менавіта палітычныя прычыны, што зрабіла гэтую хвалю прынцыпова адрознай ад папярэдніх. Прычым колькасьць новапрыбылых беларусаў ацэньваюць у каля 20 тысяч чалавек.

Сярэдзіна 1960-х — сярэдзіна 1980-х гг. — час, калі канадыйскі ўрад адмовіўся ад нацыянальных абмежаваньняў у дачыненьні да імігрантаў, што выклікала вялікую хвалю іміграцыі найперш з краінаў Азіі. Аднак гэтыя зьмены фактычна не закранулі беларусаў, ня выклікалі новую хвалю нашай эміграцыі, бо магчымасьці выезду з БССР былі абмежаваныя, і адзіныя, хто зь беларусаў трапляў у гэты час у Канаду, былі паасобныя нараджэнцы Беласточчыны.

Сярэдзіна 1980-х — пачатах 2000-х гг. — канадзкая іміграцыйная палітыка канчаткова сканцэнтравалася на запрашэньні імігрантаў паводле прыкметаў прафэсіі й адукацыі, зь неабходным дадаткам гуманітарных падставаў. Канадыйскі парлямэнт штогод ад 1981 г. стаў зацьвярджаць колькасныя квоты перасяленцаў, прычым колькасьць з часам павышалася. І перавага стала аддавацца высокакваліфікаваным спэцыялістам. У выніку ад канца 1980-х — пачатку 1990-х гг., калі былі зьнятыя абмежаваньні на выезд з СССР, у Канаду сталі зноў прыбываць беларусы, найбольш — занятыя ў галіне інфармацыйных тэхналёгій. У выніку да канца 1990-х гг. сфармавалася новая адметная постсавецкая хваля эміграцыі беларусаў.

Ад пачатку 2000-х гг. адбыліся некаторыя зьмены ў канадыйскай іміграцыйнай палітыцы. У 2002 г. быў прыняты новы Закон аб іміграцыі, які абвясьціў новую палітыку “адчыненых дзьвярэй” з новым пашырэньнем магчымасьцей прыняцьця імігрантаў. Менавіта ў гэты час назіраецца й актыўны прыцёк новых беларускіх імігрантаў у Канаду. І хоць ён быў больш актыўны, чым у 1990-я гг., аднак яго можна разглядаць як працяг тае самае постсавецкай хвалі эміграцыі, у выніку чаго ў Канадзе апынулася да 10 тысяч беларусаў.

Аналіз мэханізмаў і зьместу іміграцыйнай палітыкі Канады дазваляе сьцьвярджаць, што яна мела значны ўплыў на характар і колькасны склад беларускай эміграцыі ў гэтую краіну. Разам з тым на фармаванне хваляў эміграцыі ўплывалі таксама ў вялікай ступені фактары, зьвязаныя з сытуацыяй і міграцыйнай палітыкай на самой беларускай тэрыторыі.

## *Эміграцыязнаўчая сэкцыя на VII Кангрэсе дасьледчыкаў Беларусі*

***Юры Грыбоўскі***
*Варшава*

# КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНАЯ Й ГРАМАДЗКАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ КАСТУСЯ ЕЗАВІТАВА Ў ЛАТВІІ ПАДЧАС НЯМЕЦКАЙ АКУПАЦЫІ (1941—1944)

У савецкі час імя Кастуся Езавітава было зусім невядомае беларусам. Савецкая гістарыяграфія згадвала ягонае прозьвішча зрэдку, і тое ў вельмі адмоўным кантэксьце — як прыклад “здрадніка” й “буржуазнага нацыяналіста”. На працягу апошняга 25-годзьдзя постаць гэтага дзеяча пачала паступова вяртацца зь нябыту. Але па-ранейшаму яна збольшага вядомая толькі гісторыкам і аматарам мінуўшчыны. Значны пэрыяд свайго жыцьця Кастусь Езавітаў правёў у Латвіі, на сваёй малой бацькаўшчыне (нарадзіўся ў Дзьвінску). Пачынаючы з восені 1919 г. амаль бесьперапынна ён знаходзіўся ў Латвіі: спачатку як кіраўнік Вайскова-дыпляматычнай місіі БНР у Балтыі, а потым як арганізатар і ўдзельнік мясцовай беларускай меншасьці. Ён лічыў, што ва ўмовах бягучай міжнароднай сытуацыі Латгалія мае шанец быць *“беларускім П'емонтам”*[1]. Унёсак Езавітава ў стварэньне й разьвіцьцё беларускага руху ў міжваеннай Латвіі цяжка пераацаніць: заснавальнік і кіраўнік грамадзка-культурных арганізацыяў, завадатар і арганізатар школьнай справы, аўтар і выдавец, нястомны абаронца беларускай меншасьці ў латвійскай дзяржаве. Сваю актыўнасьць на беларускай ніве ён не спыніў і з пачаткам Другой сусьветнай вайны.

У выніку маланкавага наступу нямецкіх войскаў на пачатку ліпеня 1941 г. уся тэрыторыя Латвіі была занятая вэрмахтам. З мэтай палягчэньня кіраваньня захопленым абшарам акупанты карысталіся прынцыпам *“падзяляй і ўладар”*. У сувязі з гэтым лічылася неабходным рабіць пэўныя саступкі на карысьць беларусаў і расейцаў, што тлумачылася жаданьнем аслабіць мясцовы польскі элемэнт, а таксама супрацьдзейнічаць празьмернай актыўнасьці латышоў[2]. Адным

---

[1] Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 2. Вільня — Ню Ёрк — Менск — Прага, 1998. С. 1178.

[2] Archiwum Akt Nowych (AAN). Sygn.: T-454, 88/001057—58.

з галоўных сродкаў захаваньня этнічнай адрознасьці мясцовага нелатыскага насельніцтва было ўтрыманьне культурна-асьветнай і моўнай аўтаноміі беларусаў і расейцаў. Аднак ні ў якім выпадку саступкі на карысьць нелатышоў не азначалі палітычнай падтрымкі для згаданых нацыянальных групаў, а разглядаліся выключна як сродак *"распазнаньня й ізаляцыі на тэрыторыі Остлянду расава непажаданых элемэнтаў"*[3]. Рэалізуючы гэтую палітыку, рэйхскамісар "Остлянду" Генрых Лёзэ й міністар усходніх акупаваных абшараў Альфрэд Розэнбэрг лічылі неабходным стварэньне сярод латвійскіх беларусаў органу даверу пры ўмове, што ён будзе дзейнічаць пад пільным наглядам немцаў[4].

Кастусь Езавітаў як шматгадовы дзеяч латвійскіх беларусаў ня мог застацца ў баку ад падзеяў, якія тады адбываліся. У аўтабіяграфіі сьцвярджаў, што 15 ліпеня 1941 г. ён арганізаваў Беларускі нацыянальны камітэт (БНК) у Латвіі[5]. Аднак іншыя крыніцы не пацвярджаюць гэтых зьвестак. Відавочна, што самаарганізацыі латвійскіх беларусаў паспрыяў візіт у Рыгу кс. Вінцэнта Гадлеўскага. 10 жніўня 1941 г. у Рызе адбыўся ініцыятыўны сход мясцовых беларускіх актывістаў і настаўнікаў[6]. Аднак сярод заснавальнікаў камітэту не было Езавітава. Стварэньне БНК у Рызе заініцыяваў кс. Гадлеўскі, але далейшая праца арганізацыі залежала выключна ад мясцовых беларусаў. І тут няма сумневу, што беларуская дзейнасьць набыла рэальны кшталт менавіта пасьля заангажаваньня ў яе Кастуся Езавітава. Больш падрабязныя зьвесткі пра пачаткі дзейнасьці БНК апошні выклаў у лісьце да Эдварда Будзькі (5 кастрычніка 1941 г.): *"Быў у Рызе кс. Гадлеўскі, але да мяне не зайшоў чамусьці. Заклаў ён тутака Беларускі Камітэт, але з выдатных нашых людзей там прадстаўнікоў мала, а таму Камітэт аказаўся неруплівым і нерухлівым. Нічога не рабіў цэлы месяц і мне прыйшлося 3 тыдні зьбіраць іх і выказваць думкі мае аб сучасным становішчы і аб тым, якія крокі Нац[ыянальны] Камітэт павінен распачаць. Нарэшце, пры канцы 2-га месяца свайго існаваньня Камітэт прыняў напісаны мной мэмарандум аб становішчы беларускае меншасьці і аб нашых культурна-асьветных і эканамічных патрэбах. Мэмарандум асобная дэлегацыя перадала тутэйшаму камісару"*[7].

---

3 Bundesarchiv Berlin-Lichterfelde Ost (BA). R6/173. S. 14, 19—20.

4 Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай і нямецка-фашысцкай акупацыі (1940—1945) // Беларускі Гістарычны Агляд. 2006. Т. 13. Сш. 2. С. 206—207.

5 Езавітаў, Кастусь. Кароткі жыцьцяпіс і праходжаньне службы // Юрэвіч, Лявон. Беларуская мемуарыстыка на эміграцыі. Менск, 2005. С. 192.

6 Беларусы ў Латвіі // Раніца. 20 лістапада1941. С. 3.

7 Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 458. Воп. 1. Спр. 20. Л. 20.

На пачатку верасьня Езавітаў падрыхтаваў мэмарандум ініцыятыўнай групы беларускай інтэлігенцыі да генэральнага камісара Латвіі. 26 верасьня 1941 г. дакумэнт быў перададзены гаўляйтэру Ота-Генрыху Дрэхлеру. Напачатку даваўся кароткі агляд сытуацыі беларускай меншасьці ў міжваеннай латвійскай дзяржаве з асаблівай увагай да рэпрэсіўных дзеяньняў уладаў у дачыненьні да беларусаў (працэс 1925 г., закрыцьцё школаў і культурна-асьветных установаў пасьля 1934 г.). Потым адзначалася, што *"сёньня беларускае насельніцтва былой вольнай латвійскай дзяржавы верыць, што беларускія дзеці пад апекай нямецкага вэрмахту й яго правадыроў зноўку будуць мець магчымасьць вучыцца ва ўласных беларускіх школах, беларускія настаўнікі ня будуць перасьледавацца за нацыянальную дзейнасьць, а беларускія сяляне змогуць у новых умовах працягваць сваю сельскагаспадарчую працу ў імя супольнага дабрабыту"*[8]. У дакумэнце акрэсьліваліся асноўныя патрэбы беларускай меншасьці: 1) легалізацыя БНК, створанага пры ўдзеле кс. В. Гадлеўскага, 2) дазвол на стварэньне Беларускага нацыянальнага камітэту самадапамогі як органу, які б рэпрэзэнтаваў культурныя й матэрыяльныя інтарэсы беларусаў, 3) утрыманьне ўжо існуючага беларускага школьніцтва, а таксама адкрыцьцё новых школаў у мясцовасьцях з колькаснай перавагай беларускага насельніцтва, 4) адкрыцьцё беларускай сярэдняй школы ў Індры, 5) прызначэньне беларускага школьнага інспэктара, 6) дазвол на працу беларускіх настаўніцкіх курсаў у Рызе ці Дзьвінску, 7) прызначэньне беларусаў на пасады пісараў і камэндантаў самааховы ў "беларускіх гмінах"[9].

Па згаданых раней прычынах нямецкія ўлады далі дазвол на існаваньне БНК (у сакавіку 1942 г. была зацьверджаная новая назва — Беларускае аб'яднаньне) у Генэральнай акрузе Латвія, на чале якога стаў Кастусь Езавітаў. Згодна са статутам арганізацыя ахоплівала ўсю тэрыторыю Генэральнай акругі Латвія. Арганізацыя ставіла сабе за мэту *"злучэньне ўсіх беларусаў, што жывуць на абшары б. латыскага*

[8] BA. R92/101. S. 59—63. На падставе аналізу даступных архіўных крыніцаў магчыма зрабіць выснову, што праект мэмарандуму быў падрыхтаваны К. Езавітавым 3 верасьня 1941 г. У канчатковай вэрсіі антылатыская рыторыка крыху палагоднела. Была выкрасьлена фармулёўка пра тое, што "цяпер беларускае насельніцтва Латвіі цешыцца, што часы гвалтоўнай латышызацыі беларусаў беззваротна мінулі". Першая рэдакцыя дакумэнту ўтрымлівала таксама пастулат аб дазволе БНК правесьці рэгістрацыю беларусаў у Латвіі й раздаць ім пасьведчаньні аб іх прыналежнасьці да беларускай нацыянальнасьці. НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 59. Л. 1—5.

[9] BA. R92/101. S59—63.

*гаспадарства дзеля супольнае працы і ўзаемнага падтрыманьня ў культурным матар'яльным сэнсе"*[10].

Як шмат якія іншыя нацыянальныя дзеячы, Езавітаў лічыў, што вайна прынясе беларусам карысныя зьмены. Ён шчыра верыў у тое, што бягучая міжнародная сытуацыя дазволіць адрадзіць беларускую дзяржаўнасьць. У лісьце да Аляксандра Махноўскага (6 лістапада 1941 г.) ён пісаў: *"Трэба гнаць, каб не толькі дзеткі, але і самі мы пабачылі сапраўды адроджаную Беларусь!"*[11]. Адначасова лідар латвійскіх беларусаў разумеў, што спрыяльнай вайскова-палітычнай кан'юнктуры зусім недастаткова дзеля таго, каб беларускія нацыянальныя асьпірацыі сталі рэальнасьцю. Быў перакананы, што ўмовай ажыцьцяўленьня гэтых мэтаў ёсьць здольнасьць беларусаў да самаарганізацыі. 17 студзеня 1943 г. ён пісаў да сяброўкі: *"Жывём у цяжкі й жудасны час, перажылі і перажываемо шмат цяжкіх падзеяў, але ў будучыне яшчэ іх будзе не менш і, відаць, не так хутка зажывём мірным жыцьцём, аб якім ужо горача пачынае лятуцець усё чалавецтва. Паасобныя сямейкі, добрыя сябры і цэлыя народы павінны як мага цясьней трымацца адзін за аднаго, каб не апынуцца толькі цацкамі ў руках мацнейшых і больш згуртаваных. На жаль, не ўсе беларусы яшчэ разумеюць гэтую простую ісьціну! Нават птушкі аднае пароды і зьвяры трымаюцца сваімі стаямі і табунамі. Толькі дзеці народу нашага разбрыдаюцца ўсё яшчэ па чужых табарох, дзе іх эксплюатуюць і лічаць людзьмі другога сорту. Асабліва горка бачыць, калі ад свайго народу ўходзе на службу да другіх ягоная інтэлігенцыя"*[12].

З моманту ачоленьня БНК Кастусь Езавітаў зноўку стаў галоўным рухавіком усіх пачынаньняў беларускай меншасьці ў Латвіі. Ён заклікаў паплечнікаў не губляць часу й не палохацца цяжкасьцяў, а самаарганізоўвацца як мага хутчэй. У лістах да Аляксандра Махноўскага й Андрэя Якубецкага раіў распачаць арганізацыйную працу на Дзьвіншчыне. Тым часам дзьвінскі асяродак беларусаў працяглы час не выяўляў ніякай актыўнасьці. Адной з прычынаў гэтага была няпэўнасьць у тым, якую палітыку будуць ажыцьцяўляць акупанты[13]. Езавітаў заклікаў сваіх аднадумцаў працаваць, не зважаючы на ўсе перашкоды. У лісьце да настаўніка Язэпа Клагіша (3 кастрычніка 1941 г.) ён падкрэсьліваў, што неабходна як мага хутчэй сфармаваць дэлегацыю мясцовых беларусаў да дзьвінскага гэбітскамісара: *"Зразумейце,*

[10] Статут Беларускага аб'еднаньня (у ген. кам. Латвіі) // Раніца. 14 чэрвеня 1942. С. 2—3.

[11] Latvijas Valsts vēstures arhīvs (LVVA). P-712 f. 1 apr.. 6 lieta. 10 lp.

[12] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 22. Л. 1.

[13] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 40. Л. 9.

*што патрэбны не абмовы і ад'езды, а змаганьне, і што дзьвінчукі і індраўцы павінны самі варушыцца, каб былі захады і ў Рызе і на мейсцах... Вы-ж усе дарослыя людзі! Дакуль жа Вас вадзіць за ручку, як дзецей?"*[14]. У лістох да паплечнікаў ён дамагаўся большай актыўнасьці, цікавіўся бягучымі справамі й зьвяртаў увагу на недахопы[15]. Намаганьнямі Кастуся Езавітава дзьвінскія беларусы ў кастрычніку 1941 г. скіравалі мэмарыял да мясцовага гэбітскамісара. Ён падрыхтаваў гэты дакумэнт на падставе адпаведнага мэмарыялу, адрасаванага да генэральнага камісара ў Рызе[16].

Актыўнасьць Кастуся Езавітава прынесьла вынікі. Дзякуючы ягоным намаганьням у 1941—1942 г. былі створаныя філіі арганізацыі ў Дзьвінску, Краславе, Пасіене, Індры й Зілупе[17]. Сябрамі арганізацыі былі ня толькі людзі, якія запісаліся туды пад уплывам ідэйных пераканаеньняў. Некаторыя ўступалі ў БНК, кіруючыся кан'юнктурнымі матывамі. Езавітаў ведаў пра гэта, аднак лічыў, што нікога нельга адкідаць ад адраджэнскай працы, а, наадварот, варта прыцягваць у арганізацыю людзей, якія раней не ўдзельнічалі ў беларускім руху. Быў перакананы, што нават *"кан'юнтурныя беларусы"* могуць быць карыснымі нацыянальнай справе. Свой погляд на дадзеную справу ён выклаў у лісце да Андрэя Якубецкага (5 кастрычніка 1941 г.): *"Такей мой лёс, што я заўсёды ствараю што-колечы новае, прабіваючы ўласным лобам мур, перад якім спыняюцца іншыя. Калі-ж мур разьбіты, быўшыя звады і стаяўшыя ў позе глыбокадумных пясімістаў раптам загараюцца энэргіяй і кідаюцца навыперадкі, каб захапіць лепшую частку ў новым здабытку. І вось, нягледзячы на тое, што я ведаю гэтых людзей, я ўсё-ж супрацоўнічаю з імі, бо змушаны супрацоўнічаць, бо лепшых людзей мала, амаль зусім няма, а праца беларуская павінна ісці пры ўсіх варунках. Зразумейце гэта, Андрэй Паўлавіч! Сьціснце зубы і зноў цягніце да працы нават тых, хто ганьбіў і Вас, і справу. Гэтага вымагаюць інтарэсы справы, для якой мы з Вамі ахвяравалі сваё жыцьцё"*[18]. У сакавіку 1942 г. старшыня БНК пісаў да таго ж Андрэя Якубецкага з нагоды ягонага абраньня старшынём Дзьвінскага аддзелу: *"Паклапаціцеся, каб лічба сяброў Аб'яднаньня расла. Трэба правесьці ўсьведамляючую працу, каб да нас прыйшлі тыя беларусы, што стаялі вонку ад нас, дзякуючы розным прычынам. Нікога не трэба адкідаць! Дзьвінскі аддзел павінен зь вялікім тактам прыцягнуць*

[14] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 20. Л. 17—17 зв.

[15] LVVA. P-712 f. 1 apr. 6 lieta. 20 lp.

[16] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 16. Л. 1.

[17] Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі... С. 207.

[18] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 20. Л. 19 зв.

*да нашага руху новыя сілы з шэрагаў маласьвядомае й несьвядомае беларускае масы і інтэлігенцыі. Прыцягнем жа мы іх не лаянінай за несьвядомасьць, а цярплівым выхаваньнем і павялічэньнем іх веды аб беларушчыне і беларускім руху*"[19].

Адзін з эпізодаў дзейнасьці Кастуся Езавітава ў пэрыяд кіраваньня Беларускім аб'яднаньнем у Латвіі тычыцца спробы стварэньня беларускіх вайскова-паліцыйных фармаваньняў. На тэрыторыі Латвіі гэткія фармаваньні ў 1943 г. былі аб'яднаныя ў Латыскі легіён СС. Езавітаў намагаўся перадухіліць заклік беларускіх юнакоў у гэты легіён шляхам стварэньня адзінак, якія б складаліся зь мясцовых беларусаў. У 1942—1944 гг. Беларускае аб'яднаньне на чале з Кастусём Езавітавым неаднаразова спрабавала атрымаць дазвол ад нямецкіх уладаў на стварэньне беларускіх узброеных аддзелаў. 27 траўня 1943 г. Кастусь Езавітаў прапанаваў кіраўнікам усіх аддзелаў Беларускага аб'яднаньня абмеркаваць магчымасьць фармаваньня беларускіх ахоўных ротаў і батальёнаў[20]. Старшыня арганізацыі лічыў, што адсутнасьць беларускай самаахновы робіць безабаронным беларускае насельніцтва перад нападамі савецкіх партызанаў[21]. Аднак плянам не было наканавана зьдзейсьніцца, і мабілізацыя беларускіх юнакоў у склад латыскіх фармаваньняў працягвалася ажно да канца нямецкай акупацыі[22].

Кастусь Езавітаў актыўна ўдзельнічаў у грамадзкім і культурным жыцьці рыскай калёніі беларусаў. Ён быў адным з галоўных завадатараў сьвяточных імпрэзаў і ўрачыстасьцяў, якія звычайна ладзіліся ў мурох беларускіх школаў[23]. Восеньню 1942 г. дзеяч усталяваў сувязь са сьпеваком Міхасём Забэйдай-Суміцкім[24], першыя гастролі якога па Латгаліі адбыліся ўлетку 1943 г. У верасьні й кастрычніку 1943 г. Кастусь Езавітаў зладзіў выступы тэнара ў Рызе й Лібаве[25].

Прыярэтэтам дзейнасьці беларускага актыву на чале зь Езавітавым было адбудаваньне й разьвіцьцё беларускага школьніцтва ў Латвіі. Праца па арганізацыі беларускіх сярэдніх і пачатковых школаў аказалася плённай. У Латвіі пад нямецкай акупацыяй дзейнічалі дзьве беларускія гімназіі (у Індры й Зілупе), адна сельскагаспадарчая школа (у Пасіене) і 35 беларускіх народных (5- і 7-гадовых) школаў. Напрыканцы 1942 г. агульная лічба вучняў гэтых школаў складала 3888 чалавек.

---

[19] LVVA. P-712 f., 1 apr., 5 lieta, 9 lp.

[20] Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі… С. 217—218.

[21] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 16. Л. 7.

[22] Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі… С. 217—218.

[23] Беларускае жыцьцё ў Латвіі // Раніца. 15 лютага 1942. С. 3.

[24] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 12. Л. 3.

[25] LVVA, P-712 f., 1 apr., 5 lieta, 30 lp.; Тамсама, 4 lieta, 35, 37 lp.

У беларускім школьніцтве працавала каля 100 настаўнікаў[26]. Школы былі важнымі асяродкамі культурнага жыцьця, асноўным месцам, дзе адбываліся розныя культурныя мерапрыемствы: творчыя вечарыны, імпрэзы, сьвяткаваньні Калядаў і Вялікадня. Падчас урачыстасьцяў і сьвяткаваньняў вучні выконвалі беларускія народныя танцы й сьпевы, патрыятычныя песьні, рабілі тэатральныя пастаноўкі й гімнастычныя выступы[27].

З мэтай кіраваньня працай беларускага школьніцтва была створаная пасада інспэктара беларускіх школаў у Латгаліі й Земгаліі. Першапачаткова кандыдатам на гэтую пасаду разглядаўся сам Езавітаў, які даў згоду[28]. Пры гэтым ён выказаў жаданьне не пакідаць сталіцы "Остлянду", спасылаючыся таксама на тое, што ў Рызе ён мае вялікую бібліятэку й архіў[29]. Перашкодай на шляху да прызначэньня Кастуся Езавітава інспэктарам стаў гэбітскамісар у Дзьвінску, які перасьцерагаў сталічныя ўлады наконт даручэньня дзеячу гэткай адказнай пасады ў беларускім школьніцтве. У якасьці доказу нелаяльнасьці рыскага беларуса да немцаў ён лічыў публікацыю ў часопісе "Беларуская Школа ў Латвіі" за 1933 г. успамінаў Езавітава з часоў нямецкай акупацыі Менску ў 1918 г. Гэбітскамісар раіў нават узяць дзеяча пад нагляд СД. Ёсьць падставы меркаваць, што сапраўднай прычынай недаверу з боку нямецкага ўрадоўца былі даносы нядобразычліўцаў[30]. У выніку 1 сьнежня 1941 г. на пасаду інспэктара беларускіх школаў замест Кастуся Езавітава быў прызначаны Мікола Дзямідаў, якога ў лютым 1942 г. зьмяніў Аляксандар Махноўскі[31].

Нягледзячы на тое што Езавітаў не атрымаў ніякай важнай пасады ў беларускім школьніцтве, ягоны ўнёсак у арганізацыю й працу асьветы ў гады акупацыі складана пераацаніць. Дзеяч быў наўпрост зьвязаны са школьнымі справамі, паколькі сябрамі БНК — Беларускага аб'яднаньня пераважна былі настаўнікі[32]. Настаўніцтва ён разглядаў як асноўную адраджэнскую сілу й апору арганізацыйнай працы на месцах. 27 кастрычніка 1941 г. Кастусь Езавітаў пісаў да Аляксандра Махноўскага: "*Калі зараз беларусы будуць спаць, дык гісторыя нам не даруе. Кожны беларускі вучыцель зараз — беларускі дзеяч*"[33]. Праз

[26] Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі // Раніца. 28 лютага 1943. С. 3.

[27] Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі // Раніца. 21 лютага 1943. С. 3.

[28] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 16. Л. 2.

[29] LVVA. P-712 f. 1 apr. 6 lieta. 5 lp.

[30] BA. R92/101. S. 45, 54.

[31] Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі... С. 210—211.

[32] LVVA. P-712 f. 1 apr. 6 lieta. 3 lp.

[33] LVVA. P-712 f. 1 apr. 6 lieta. 18—19 lp.

карэспандэнцыйныя кантакты з пэдагогамі ён намагаўся заангажаваць іх у культурна-асьветную працу. Варта прывесьці ўрывак зь ягонага ліста ад 3 кастрычніка 1941 г. да настаўніцы Эміліі Казакевіч: *"Памятайце... працу над усьведамленнем нацыянальным тых, хто цураецца беларушчыны... [...] Увесь жа лёс нашых школ будзе залежыць толькі ад вымогаў жыхарства й ступені ягонае сьвядомасьці! Таму лёс нашых школ — у руках пустынскае і прыдруйскае сьвядомае інтэлігенцыі. І яна адказвае маральна за гэты лёс"*[34].

Кастусь Езавітаў быў вельмі патрабавальны да настаўнікаў. У лісьце да Аляксандра Махноўскага ад 11 лістапада 1941 г. ён папікаў дзьвінскіх калегаў у занядбаньнях адносна рэгістрацыі беларускага насельніцтва й арганізацыі БНК: *"Наша вучыцельства надта інэртнае. Мяліць і тое, а канкрэтнай працы робіць вельмі мала. Не хапае тэмпэраманту, ініцыятывы ды разуменьня абстаноўкі. Усё чакаюць, што ім згары нехта зробіць. Патрэбна штодзённая праца. Штодзённая ўсьведамляючая работа"*[35]. Дзеля інтэнсыфікацыі арганізацыйнай працы дзеяч накіраваў лісты да кіраўнікоў паасобных беларускіх школаў у наступных справах: 1) падпіска на беларускую прэсу й магчымасьць наладжаньня распаўсюду, 2) стварэньне мясцовага аддзелу БНК, 3) магчымасьць усталяваньня кантакту зь мясцовым сялянствам з мэтай прыцягненьня яго ў арганізацыю й падпіскі на беларускую прэсу[36].

Беларускае школьніцтва ў Латвіі змагалася зь недахопам прафэсійных кадраў. Дзеля вырашэньня гэтага пытаньня Кастусь Езавітаў намагаўся зацікавіць працай ў краіне беларускіх дзеячаў зь Беларусі й Літвы. У ягоным лісьце да Мікалая Анцукевіча чытаем: *"Мы маемо вольную пасаду кіраўніка 7-гадовае беларускае школы ў Зілупэ і выкладчыка беларускай мовы і латыні ў гімназіі ў Зілупэ (Розенаве). Гімназія дазволена. Калі-б Ваш ліст быў на тыдзень раней, дык маглі-б Вам запрапанаваць дырэктара-арганізатара. Але думаю, што на месцы вы з Сяргеем Пятровічам Сахаравым добра будзеце жыць. У Зілупэ будзе тры школы: 7-гадовая асноўная школа, гімназія й сельска-гаспадарчая. Калі-б Вы мелі нахіл да сельскае гаспадаркі, дык маглі-б Вам дырэктара ў гэтай школе. Аклад кіраўніка 7-гадовае школы 180 марак плюс 20 % на кватэру, або сама кватэра. Затым лекцыі ў гімназіі, а калі захочаце, дык і ў сельска-гаспадарчай школе. Пажаданы Ваш пільны прыезд, каб пазнаёміцца з абставінамі на месцы. Галадаваць не будзеце, бо маемо сувязі тамака з сялянствам і глебаю!"*[37]. Жадаючых, аднак, не знайшлося.

---

[34] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 20. Л. 16 зв.

[35] LVVA. P-712 f. 1 apr. 6 lieta. 7 lp.

[36] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 14. Л. 1.

[37] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 12. Л. 14.

Кастусь Езавітаў браў удзел у працы беларускага школьніцтва ня толькі як арганізатар, але й як пэдагог. Пасаду старшыні Беларускага аб’яднаньня ён спалучаў з кіраваньнем вячэрняй школай для дарослых у Рызе, якая распачала працу ў сьнежні 1941 г. У 1941/42 навучальным годзе школа мела два старэйшыя й два паралельныя клясы й налічвала 80 вучняў[38]. У 1942 г. школу закончылі 20 чалавек, а ў наступным — 51 чалавек[39]. Езавітаў увайшоў у склад створанай у 1944 г. экзамэнацыйнай камісіі для няпоўнакваліфікаваных настаўнікаў[40]. Акрамя таго, ён працаваў на летніх курсах ўдасканаленьня настаўнікаў, дзе выкладаў беларускую літаратуру й мэтодыку выкладаньня гісторыі[41].

Нягледзячы на досыць спрыяльную палітычную кан’юнктуру, мясцовая беларуская дзейнасьць натрапляла на пэўныя перашкоды. Дзеяньні беларусаў выклікалі непакой многіх латышоў. У лістах і зваротах да нямецкіх органаў зьяўляліся досыць вострыя напады на беларускі актыў. Латыскі бок нярэдка намагаўся прадставіць беларусаў як зацятых і пасьлядоўных прыхільнікаў камунізму[42]. Некаторыя даносы вызначаліся асаблівым суб’ектывізмам і мелі на мэце ня толькі скампрамэтаваць беларускае школьніцтва й ягоных асобных прадстаўнікоў, але нават давесьці неіснаваньне беларусаў у Латвіі[43]. За словамі ішлі таксама справы. Гісторыя захавала дастаткова частыя выпадкі перасьледу беларускіх настаўнікаў з боку мясцовага самакіраваньня й дапаможнай паліцыі. Са скаргаў, якія прыходзілі ў 1942—1944 гг. у Беларускае аб’яднаньне ў Рызе ад мясцовых актывістаў гэтай арганізацыі, вынікала, што ў правінцыі частай зьявай быў адкрыты ціск[44]. Многіх настаўнікаў затрымоўвала паліцыя ў межах акцыі па вывазе насельніцтва на прымусовыя працы ў Нямеччыну. Кастусь Езавітаў як кіраўнік Беларускага аб’яднаньня рабіў захады перад нямецкімі ўладамі ў абарону беларускага настаўніцтва. У траўні 1942 г. ён зьвярнуўся да рэфэрэнта культуры й асветы Генэральнай акругі Латвія Франца Адольфі са скаргай, у якой прасіў дапамагчы вызваліць арыштаваных. Старшыня Беларускага аб’яднаньня лічыў інцыдэнт часткай шырокай акцыі, накіраванай супраць беларускай інтэлігенцыі[45]. Дзеяч прасіў,

---

38 BA. R92/102. S. 57—58.

39 BA, R92/107. S. 75.; Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі // Раніца. 28 чэрвеня 1942. С. 3.

40 Беларускае жыцьцё ў Латвіі // Раніца. 2 красавіка 1944. С. 3.

41 Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі // Раніца. 21 траўня 1944. С. 3.

42 BA. R92/101. S. 77—79.

43 BA. R92/101. S. 93—96.

44 BA. R92/102. S. 139.

45 Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі... С. 214—215, 221—222.

каб нямецкае кіраўніцтва паказала, што не талеруе кепскіх паводзінаў з боку асобных латыскіх урадоўцаў на правінцыі[46]. З архіўных крыніцаў вынікае, што Езавітаву даводзілася неаднойчы зьвяртацца да немцаў і латыскай адміністрацыі ў падобных справах. Захады кіраўніка Беларускага аб'яднаньня нярэдка прыносілі чаканыя вынікі, і затрыманых настаўнікаў вызвалялі[47].

У зьвязку з рэпрэсіямі Кастусь Езавітаў намагаўся падбадзёрваць настаўніцтва. Ён сьцьвярджаў, што напады з боку нядобразычліўцаў няздольныя зьнішчыць беларускай справы. Сваімі думкамі ён дзяліўся з Аляксандрам Махноўскім: *"Трэба разумець, што ўсе гэтыя запугіваньня — ёсць псыхалягічная вайна з боку тых, хто жыўцом хацеў бы беларусаў з'есьці, але-ж зараз не тыя ўжо часы, што былі пры Ульманісе: а) тады за нас не маглі заступіцца беларускія сілы, бо БССР не мела свайго дыпляматычнага апарату… б) зараз у Остлянду беларусы — галоўная маса жыхарства, з якой лічацца; апроч таго нямецкая ўлада зусім не жадае аблатышвання беларусаў, а знача ўсе гэтыя Няміры і К-о хутка атрымаюць па пысе гэтаксама, як атрымаў ужо дзе-хто; в) аб нашых, якія часова церпяць, мы рупімося, і я скажу Вам шчыра: дужа добра, што адбыліся гэтыя арэшты, бо гэта кажа немцам, як беспадстаўны ўсе закіды і як латышы мала зьмяніліся нават у новых абставінах!"*[48]. Лідар латвійскіх беларусаў уздымаў і ў прэсе пытаньне перасьледу беларускага настаўніцтва. На бачынах бэрлінскай "Раніцы" ён вінаваціў латыскую адміністрацыю ў масавым звальненьні беларускіх настаўнікаў, акрэсьліваючы гэтыя дзеяньні "*ульманісаўскім дурманам гульні ў вялікае гаспадарства*"[49].

Згаданыя праблемы былі адлюстраваньнем шырэйшых працэсаў, якія адбываліся на этнічным памежжы. Ішло своеасаблівае змаганьне паміж беларускімі й латыскімі дзеячамі за сэрцы й душы тутэйшага беларускамоўнага сялянства, якога нацыянальная сьвядомасьць знаходзілася ў стадыі фармаваньня. Стаўленьне латыскага боку можна зразумець, паколькі ў Латгаліі ў міжваенны час існавала рэальная праблема інтэграцыі гэтага рэгіёну з астатняй часткай латыскай дзяржавы[50]. Раптоўны ўздым — пасьля працяглай стагнацыі (ад сярэдзіны 1930-х гг.) — актыўнасьці беларускай інтэлігенцыі ня мог ня выклікаць насьцярогі латышоў, што бачылі ў ім пагрозу для сваёй тэрытарыяльнай цэласнасьці. Засьцярогі латыскага боку не былі пазбаўленыя

[46] BA. R92/102. S. 130.

[47] Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі… С. 208, 222.

[48] LVVA. P-712 f. 1 apr. 6 lieta. 17 lp.

[49] Беларускае жыцьцё ў Латвіі // Раніца. 21 лютага 1943. С. 3.

[50] Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі… С. 212.

рацыянальных падставаў. Беларусы разумелі, што новая палітычная кан'юнктура ў значнай ступені спрыяе ім, а акупацыйная рэчаіснасьць стварае шанец на ўзмацненьне сваёй пазыцыі коштам латышоў. Думкі беларусаў яскрава адлюстроўвае ліст Кастуся Езавітава да Аляксандра Махноўскага ад 10 лістапада 1941 г., у якім чытаем: *"Мяжы зараз няма і дзе яна будзе — ніхто не ведае: будзе там, дзе будзе наша большасьць! Можа здарыцца, што самі крыкуны будуць павінны выехаць, а не мы!"*[51]. У іншым лісьце (ад 27 кастрычніка 1941 г.) да таго ж адрасата дзеяч заклікаў не зьвяраць увагі на крыўды, якія беларуская справа можа прынесьці латышам: *"Уважайце, маемо мы за ўсё тое, што з намі яны рабілі, а яны хай памаўчаць. Адступаць тутака не варта, няможна, непатрэбна і маладушна нават. Могуць быць здарэньні, прыдзецца ўсе школы забраць ў пэўных валасьцёх, дык ці-ж і там мы будземо дэлікатнічаць? Пры абароне інтарэсаў уласнага народу дэлікатнічаць — шкоднае пачуцьцё. Вучыцеся ў саміх латышоў і ў немцаў. Нас за тое і білі, што мы за дужа дэлікатны народ… […] Даволі! — Гэта трэба скончыць!"*[52].

Супярэчлівымі былі таксама адносіны з расейскай меншасьцю, якая складала найбольш шматлікую групу нелатышоў. У Генэральнай акрузе Латвія дзейнічаў Расейскі камітэт, які праводзіў культурна-асьветную працу сярод мясцовага насельніцтва. У нацыянальна мяшаных рэгіёнах не абышлося безь непаразуменьняў паміж беларускімі й расейскімі дзеячамі[53]. У лісьце да генэральнага школьнага рэфэрэнта Генэральнай акругі Латвія ад 20 лістапада 1941 г. Кастусь Езавітаў сьцвярджаў: *"Неабходна канстатаваць, што ў істрынскай і рундзенскай валасьцях ёсьць група настаўнікаў, якая кіруецца Мікалаем Эйгемам і Канстанцінам Нікіфароўскім, якія на працягу многіх гадоў праводзілі русыфікатарскую працу зачыняючы дзейныя беларускія школы, намагаючыся пераканаць мясцовых праваслаўных беларусаў у тым, што яны вялікарусы. Гэтыя настаўнікі зараз варожа сустрэлі навіну аб адраджэньні беларускіх школаў і заяўляюць, што будуць дамагацца там рускіх школаў… […] Лічу абавязкам зьвярнуць вашую ўвагу на тое, што ў гарадах Рызе і Дзьвінску, ня лічачыся з безумоўна беларускім паходжаньнем бацькоў, якія, як гэта бачна з дакумэнтаў, зьяўляюцца выхадцамі з беларускім губэрняў, многія загадчыкі рускіх школаў у горадзе Рызе прымалі ў мінулыя гады, а сёлета ўжо рэгіструюць дзяцей гэтых выхадцаў з Беларусі ў свае школы. Дзеці і іх бацькі безумоўна зьяўляюцца беларусамі і ў вялікарускія школы не павінны былі прымацца. Каб абысьці нацыянальны момант*

[51] LVVA. P-712 f., 1 apr. 6 lieta. 4 lp.

[52] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 16. Л. 2.

[53] BA. R92/103. S. 70—71, 178—179.

*і выклікаць нeяснасьць, вялікарусы называюць свае школы рускімі, г. зн. такімі, у якія могуць прымацца і вялікарусы, і беларусы, і ўкраінцы. Па ініцыятыве і прыкладзе вялікарусаў і латыскія школьныя ўстановы называюць вялікарускія школы рускімі, што ўносіць неяснасьць, таму хадайнічаю, каб ад гэтага часу вялікарускія школы не называліся рускімі, а вялікарускімі і каб у вялікарускія школы дзеці беларускага паходжаньня не прымаліся. Належыць зьвярнуць увагу таксама на тое, што ў Ілукшскім, Дзьвінскім і Люцынскім паветах вялікарускага насельніцтва па сутнасьці няма, і карэнным насельніцтвам зьяўляюцца латгальцы і беларусы, а вялікарусы і палякі зьяўляюцца нешматлікім элемэнтам, узмацненьне ўплыву якога было зьвязана з расейскім панаваньнем і польскімі маёнткамі, а таксама з дзейнасьцю праваслаўнага вялікарускага духавенства і часткі духавенства каталіцкага, якое паходзіла з польскіх абласьцёў"*[54].

Кастусь Езавітаў зрабіў спробу перацягнуць на свой бок частку латгальскіх стараveраў, якія лічыліся нязломным апірышчам мясцовага расейскага руху. Выкарыстоўваючы асабістыя знаёмствы зь некаторымі лідарамі старaабрадцаў, старшыня БНК разьлічваў зацікавіць іх удзелам у беларускім жыцьці[55]. У лістападзе 1941 г. ён зьвярнуўся да адной з кіраўніц старавераў Марыі Фаміной з прапановай гуртавацца вакол беларускай нацыянальнай ідэі. Беларускі дзеяч схіляў старaабрадцаў да прызнаньня сябе беларусамі й заангажаваньня ў беларускую працу. Ён сьцьвярджаў, што ва ўмовах вайны старaверы павінны далучыцца да беларусаў, паколькі ў адваротным выпадку чакае іх перасяленьне ў Расею[56]. Сваімі думкамі старшыня БНК падзяліўся з Аляксандрам Махноўскім, якога заклікаў да пошуку супрацоўніцтва з кіраўнікамі старавераў: *"Калі-б прыцягнуць яе ды Васільева ды Баложыных на наш бок, дык Ваша становішча адразу ўмацавалася-б на многа разоў, то аб'яднаньне каля беларусаў нашых праваслаўных, каталікоў і старaабрадцаў адразу адчыніла-б перад нашым адраджэнскім рухам у Латгаліі надзвычайна шырокія перспектывы... [...] Зараз мы маемо большасьць у шэрагах валасьцей, а калі-б нашы ўсе каталікі, нашы старaабрадцы былі-б усьвядомлены, дык лічба гэтых валасьцей патроілася бы! А гэта надзвычай важна для нашага руху!"*[57]. Езавітаў адзначаў, што *"ўсе яны* (старaверы. — ***Ю. Г.***) *зрусіфікаваныя, але зараз мусяць зразумець, што Беларусь і беларусы маюць будучыню"*[58]. Няма падставаў, каб сьцвярджаць, што заклік дзеяча знайшоў зразуменьне

[54] BA. R92/102. S. 85.

[55] Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі... С. 205.

[56] LVVA. P-712 f., 1 apr. 6 lieta. 1—2 lp.

[57] Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі... С. 205—206.

[58] LVVA. P-712 f. 1 apr. 6 lieta. 4 lp.

сярод шырокіх масаў стараавераў, але ўсё ж здараліся адзінкавыя выпадкі далучэньня іх да беларускай грамады[59].

Як у кожным асяродку людзей, зьвязаных агульнай справай і інтарэсамі, у беларускім актыве Латвіі ўзьнікалі канфлікты, прычынай якіх найчасьцей былі ўласныя амбіцыі асобных дзеячаў. Няпростыя адносіны склаліся паміж Кастусём Езавітавым і Андрэем Якубецкім. Абодва дзеячы былі вэтэранамі беларускага адраджэнскага руху й мелі значны досьвед працы на нацыянальнай ніве як у пэрыяд 1918—1920 гг., гэтак і ў пазьнейшыя гады, калі ў міжваеннай Латвіі разам стваралі беларускія школы й таварыствы. Аднак зь цягам часу Якубецкі пачаў адыходзіць ад чыннай працы, засяроджваючыся на асабістых справах. З пачаткам нямецкай акупацыі, калі Езавітаў намагаўся разгарнуць нацыянальна-культурную й асьветную дзейнасьць, адносіны паміж старымі сябрамі й аднадумцамі пачалі псавацца. Кастусь Езавітаў намагаўся разварушыць свайго сябру й заахвоціць да актыўнасьці. Тым часам Якубецкі нярэдка ўспрымаў ягоныя парады як непатрэбнае павучаньне й лічыў, што апошні хварэе на манію вялікасьці.

Ці не ўпершыню адкрытыя разыходжаньні паміж беларускімі вэтэранамі выявіліся ў сакавіку 1942 г. падчас прызначэньня інспэктара беларускага школьніцтва. Езавітаў бачыў на гэтай пасадзе Аляксандра Махноўскага[60]. Тым часам Андрэй Якубецкі меў уласны погляд на згаданую справу. Ён ня столькі выступаў супраць кандыдатуры Махноўскага, колькі абураўся "самаўладствам" старшыні БНК —Беларускага аб'яднаньня. Сваю пазыцыю дзеяч выклаў у перапоўненым адчаю й пачуцьця крыўды лісьце да Езавітава: *«Замест пастановы камітэту Вы пішаце па гэтаму пытаньню прыватны ліст і зазначаеце, што "адкладаць гэтую справу ніяк няможна" і што інспэктарам павінен быць "або Вы, або Махноўскі пад Вашым кантролем". З аднаго боку Вы хацелі справе з інспэктарам прыдаць грамадзкасьць, а з другога боку, правесьці гаворачы за кулісамі беларускай грамадзкасьці правялі з гр. Міраловічам у інспэктары гр. Махноўскага, які ўжо 1-га III назначан на пасаду інспэктара Дзьвінскім камісарам, аб чым гр. Махноўскі ў сваім цыркуляры паведамляе вучыцялёў. 2 III г. г. Вы пішаце мне ліст, а Махноўскі ў гэты дзень ужо падпісываў паперы, як поўнапраўны інспэктар. Дзе логіка? Дзе грамадзкасьць? Яксьці сумна… […] Што гр. Кастылюк вучыцельства ня любіць, першы раз ад Вас чую. Гр. Сіцько, колькі я памятаю, 20 год назад нішто сабе гаварыў па-беларуску. Няўжо ён, працуючы ўвесь час ў беларускаке школе ў Латвіі, зусім развучыўся гаварыць на сваёй роднай мове? Дзіўна! Зазначаеце, што "з Міравовіча інспэктар ня*

[59] LVVA. P-712 f. 1 apr. 6 lieta. 4 lp.

[60] LVVA. P-712 f. 1 apr. 6 lieta. 17 lp.

*выйдзе". Ці-ж быць інспэктарам цяжэй, чым рэфэрэнтам. З усяго выходзіць, што толькі Махноўскі радзіўся быць інспэктарам... […] Дрэнна Вы ведаеце гр. Махноўскага, калі думаеце, што ён будзе пад Вашым ці маім кантролем працаваць. Увосень прошлага году я таксама думаў, што гр. Махноўскі будзе працаваць пад маім кантролем, а таму й заклікаў яго да беларускай працы. Практыка паказала, што я памыляўся. М[ахноўскі] робіць у беларускай справе сабе кар'еру і ні з кім не жадае лічыцца... […] Яму хочацца паказаць сябе ўва ўсім сваім харастве, а Вы тут хочаце падпарадкаваць яго другому ды яшчэ "беларускаму шавіністу". Мне здаецца, што ўсё гэта і Вы добра ведаеце. Пішаце-ж толькі таму, каб крыху пазабавіць мяне. У свой час з слоў М[ахноўскага] я бачу, што кожны, хто толькі любіць сваё роднае, гаворыць па-беларуску, ёсьць шавініст. Сапраўды трэба быць "разумным" чалавекам, каб дайсьці да такой высновы... […] Трымайце сувязі з Махноўскім, Бражго і Фёдаравым — пішаце. Я не на каго не гыркаю і не кога не кусаю. Усе яны добра ведаюць мяне і маю Нату. Хочуць працаваць на беларускай ніве, я кожнаму з іх рад і кожнаму, калі гэта патрэбна, гатоў дапамагчы. Цалаваць жа пяткі — не ў маёй натуры. "Прымірыцеся з Барткевічам". Што Вы прысталі да мяне з гэтым Б[арткевічам]? Ні я з ім сварыўся, ні я з ім мірыцца буду. Хоча Б[арткевіч] працаваць на беларускім шляху, няхай пакажа сваю душу. Я яму не перашкаджаў і не перашкаджаю... […] У школе я лекцыяў ня меў і не магу атрымаць, бо там усё занята і няма чаго даваць. Беларус можа быць і без пасады, абы даць хлеб маскалём. Прылашчваць маскаля і зрабіць прыкрасьць беларусу — гэта лозунг сёньняшняга дня ў нас у Латвіі. У свой час я пісаў Вам, што нікому не перашкаджаю працаваць. Вы-ж, калі хочаце, можаце ўсюды паставіць "сваіх людзей". Прыняўшы пад увагу ўсё мною зазначанае, прыходзіцца сказаць, што пры такім падыходзе да беларускай справы мы далёка не заедзем, а мне, як войстраму ражну, прыйдзецца, відаць, адмовіцца і ад працы ў Дз. БНК, каб даць дарогу "вялікім людзям"... […] 6 III быў у мяне Дзямідаў і гаварыў, што Вы баяцеся высунуць маю кандыдатуру ў інспектары бел[арускіх] школ таму, каб Якубецкая не была інспектаршай. А[нтаніна] К[ірылаўна]* (жонка Якубецкага. — ***Ю. Г.***) *ласкава просіць адказаць ёй, як разумець Вашыя словы»*[61].

Кастусь Езавітаў у адказ напісаў ня менш эмацыйны ліст, у якім тлумачыў сваю пазыцыю: *«Мала ўмець гутарыць па-беларуску, трэба мець яшчэ беларускае сэрца, чалавечы гонар і разуменне справы і адданасьці ёй. Добра гутарыў па-беларуску і Павал Аляксюк, лепш за нас з Вамі. Але-ж карысьці ад яго баўбатаньня Беларусь ня мела і ня будзе мець, бо патрэбны ня словы, а праца і наагул чынная,*

[61] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 39. Л. 5—6.

*праяўленьне сваіх настрояў і думак. Вера без справы — мёртвая ёсьць! Тутака патрэбны палітычны розум, які стрымоўваў бы гарачыя парывы сэрца. Патрэбна вытрымка і такт, інакш мы ня здолеем усіх сваіх этнаграфічных беларусаў зрабіць сьвядомымі беларусамі-патрыётамі. А гэта наша задача, і сёнека ёсьць новая магчымасьць гэта зрабіць. У Дзьвінску перад намі стаіць вялікае гістарычнае адказнасьці заданьне: спольшчаных і зрусіфікаваных беларусаў цярплівою працаю і каханьнем зьвярнуць да роднага народу. Ну а Вы што робіце? Вы лаеце "маскалямі" ўсіх тых, хто сёнека не гутарыць па-беларуску толькі дзякуючы таму, што як раз Вы самі не парупіліся аб гэтым. Вы адышлі ад беларускай грамадскай працы з 1925 году. Вы не зрабілі ні адных курсаў беларусаведы ў Дзьвінску і курсаў беларускае мовы… […] Вільня падобныя курсы робіць бязупынна і з гэтага лета ўжо тройчы зрабіла выпускі. Вось з чаго трэба пачынаць, а не з пустой лаяніны ды смешных "загадаў" здаць іспыты на курс гімназіі. Трэба "даць магчымасьць" людзям чуць і вучыцца мове, якой, на наш жаль, беларускі інтэлігент у Віцебшчыне і ня чуе. Не паўторвайце памылкі 1923 году, калі Вы з Пігулеўскім ды Краскоўскім тэрарызавалі вучыцельства і заместа таго, каб навучыць яго кахаць беларускую справу, зрабілі з іх ворагаў беларушчыны, бо яны пачалі баяцца за свой лёс. Гуртаваць трэба сілы, а не разганяць! […] Нашы асабістыя адносіны да сёнешняга дня для мяне былі яснымі і непарушнымі: я шчыра лічу, што ў Латвіі ёсьць два старых беларускіх дзеячы, якія адзін аднаго ведаюць яшчэ з 1918 году, г. ё. чвэрць стагоддзя, і якія ніколі не сварыліся, а заўсёды былі зьвязаны шчырым сяброўствам. Гэтага сяброўства і поўнае шчырасьці я жадаю і на далейшы час, на той можа яшчэ невялікі час, які нам астаецца абодвым жыць і працаваць у беларускім руху. Калі ўспомніце з якой шчырасьцю й вайсковай адвагай я бараніў Вас ад высылкі ў міністра Лайміньша ў 1925 годзе, нажываючы сабе персанальнага ворага на ўсё жыцьцё (ён нямала мне і помсьціўся потым), дык Вы можа і паверыце, што і сёнека я не задумаўся-б ні хвіліны, каб зноў бараніць Вас у гэткі-ж спосаб… […] Не я адзін, але ўсе беларусы Латвіі, ведаючы пад якім вялікім уплывам жонкі Вы знаходзіцеся, улічваюць гэтыя ўплывы і іх магчымыя некарысныя вынікі. Адышлі ад спраў Вы пад уплывам жонкі, якая баялася якіх-колечы непаразуменьняў, як і ўсе жонкі… […] Жонка і зара[з] затрымоўвае шмат Вашых крокаў. Яна-ж сварыць Вас і з людзьмі, бо сама трымаецца дужа нетактоўна ў школе. Былі нават пагрозы: "Са мной бороться? — Посмейте". На ейную манеру ўмешвацца ў кождую гутарку ў беларускім інспэктарыяце жаліліся мне ў Дзьвінску. Зразумела — "Начная кукушка ўсіх перакукуе!" Муж часта на сьвет глядзіць акулярамі жонкі… […] Зразумела, што я не жадаю, каб Вы ірвалі з жонкаю. Але мець свае думкі і чыны*

*вольнымі ад ейных уплываў Вам патрэбна. Вы мяне выбачце, скажу Вам па-сяброўску, хаця-ж ведаю, што стаўлю нашую дружбу пад моцны ўдар Вашага самалюбія й жаночае злосьці і помсты, — з Вас сьмяюцца ў Дзьвінску, бо ведаюць, што Антаніна Кірылаўна мае звычай запіраць Вас на замок, выходзячы з хаты… […] Не ведаю, ці будзе ў Вас даволі халоднага розуму, каб зразумець, што мне лягчэй было-б памаўчаць аб усім гэтым, чым пісаць Вам і рызыкаваць нажыць сваею шчырасьцю ў Вашай асобе і ў асобе Антаніны Кірылаўны сабе недругаў. Але я спадзяюся, што і яна зразумее, і Вы зразумееце, што Вам патрэбна неяк так зьмяніць у хаце адносіны, каб людзі ўбачылі, што яны нібы памыляліся дагэтуль, што г-нін Якубецкі зусім не ёсьць "пад пантофлем" сваей жонкі… […] Пішаце Вы, што можа Вам адмовіцца ад кіравання БНК у Дзьвінску. Ні ў якім разе! Гэта было-б, пане маёру, раўнасільна дэзэртырству з фронту нашага грамадзкага. Не зьвяртайце ўвагі на шмат непрыемнасьцяў. Грамадзкая справа без іх ніколі не абыходзіцца. Працуйце»*[62].

Аналізуючы згаданую карэспандэнцыю, можна заўважыць шчырасьць Езавітава ў адносінах да старога паплечніка й сябры. Ён не вагаўся дзяліцца зь ім сваімі крытычнымі заўвагамі, якія мелі нават асабісты характар. Нягледзячы на такія разыходжаньні, абодва дзеячы не перасталі супрацоўнічаць. Старым вэтэранам-адраджэнцам удалося пераадолець узаемныя крыўды ў імя агульнай справы. Якубецкі знайшоў у сабе сілы, каб падняцца над асабістымі амбіцыямі й не адмовіцца ад актыўнай працы ў Беларускім аб'яднаньні. У далейшым адносіны паміж абодвума дзеячамі былі добрыя. Кастусь Езавітаў цаніў патрыятызм і досьвед Якубецкага. Тым часам ён вельмі скептычна ацэньваў маральныя якасьці й арганізацыйныя здольнасьці многіх іншых латвійскіх беларусаў. У красавіку 1942 г. ён скіраваў ліст да Андрэя Якубецкага й Аляксандра Махноўскага, у якім напісаў: *"Зара[з] я рыхтуюся да таго, што мяне пакліча Беларускі Рух на іншую чыннасьць. Таму я клапачуся аб тым, каб латвійскія беларусы атрымалі новае кіраўніцтва з тых сіл, якія вырасьлі за 20 год працы на мейсьце. Не ведаю, ці астанецца на мейсцу Андрэй Паўлавіч [Якубецкі]. Што тычыцца Сяргея Пятровіча [Сахарава], дык ад сэрца жычу яму добрага здароўя, але-ж ён ужо стары чалавек і нядоўга будзе сярод нас. Міколу Янавіча [Дзямідава] вы ўсе ведаеце, дык няма чаго казаць. Якуб Фёдаравіч Кастылюк — чалавек дробны, завісьлівы і палітычна не ўмеючы думаць. Ён якраз належыў да тых, хто часьцей умеў пасварыць людзей, чым дапамагчы справе. На кіраўніка ён не радзіўся. Сіцько — проста круглы, тлусты нуль, да таго-ж чалавек ня надта разумны і пры тым дужа вялікі эгаіста, які толькі аб сваім*

[62] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 21. Л. 2—5.

*бруху дбае. Мірановіч, як дзеяч, патроху расьце, але яшчэ патрэбны час, каб ён перастаў палохацца і знайшоў у сабе пэўную цвёрдасьць і гібкасьць. Шкодзіць яму і тое, што ён слабаваты... [...] Знача сілаў мала. А ў Дзьвінску Вас толькі двое і я лічу запраўднымі беларускімі культурнымі і адраджэнчымі сіламі. Можа знойдуцца потым і выяваць сябе і іншыя... але сёнейка справа стаіць гэтак, што Вам абодвым трэба моцна трымацца адзін аднаго і сваім аўтарытэтам падтрымоўваць адзін аднаго*"[63].

Іншыя ўдзельнікі беларускага руху, якія прэтэндавалі на ролю кіраўнікоў беларускага жыцьця ў Латвіі, маглі бачыць у Езавітаве канкурэнта. Аналіз даступных крыніцаў дазваляе зрабіць выснову, што сярод кіраўнічага складу латвійскіх беларусаў панаваў недавер. Многія былі незадаволеныя кіраўнічай працай Кастуся Езавітава[64]. Некаторыя дзеячы абвінавачвалі яго ў тым, што, знаходзячыся ў сталіцы, старшыня Беларускага аб'яднаньня мала цікавіцца справамі на правінцыі. Унутраныя непаразуменьні былі прычынай звароту Кастуся Езавітава да Андрэя Якубецкага й Аляксандра Махноўскага 7 верасьня 1942 г., у якім адзначалася: «*З аднаго боку, я за старшынства не трымаюся, бо гэта мне, апроч непрыемнасьцяў, страты часу і шалёнае стомы, — нічога не дае і дужа адмоўна адбіваецца на стане здароўя, бо я ўжо згубіў пуд з цвэрцю свае вагі за гэты год, а таму я з ахвотаю перадаў бы старшынства каму-колечы больш разумнаму, больш сьвядомаму, больш энергійнаму і больш адданаму ў працы, чым я сам. З другога боку, я хацеў бы ведаць і тыя мае заганы і памылкі, якія выявіліся ў маёй працы, каб пабачыць іх і, перадаючы працу іншаму, дамагацца іх выпраўленьня. Дзеля гэтага, зусім спакойна й без якога-колечы пачуцьця незадаваленьня ці абразы, зьвяртаюся да Вас з грамадзкай прапазіцыяй: шчыра і адчынена выказаць мне прычыны Вашага незадаваленьня, бо, магчыма, што я дапусьціўся ў працэсе шалёнае спешкі і перагрузкі сапраўды паважных памылак. Не памыляецца той, хто не працуе! Дзеля Вашае асабістае інфармацыі, як людзей, з якімі я ўзяў сабе за правіла дзяліцца зусім адчынена сваімі думкамі, каб Вы маглі мяне ў кожды момант разумець правідлова, — пасылаю Вас дзеля перачытаньня пару лістоў з Вільні. Паслаў бы і берлінскія лісты, але лічу лепшым даць іх перагледзіць пры асабістым спатканьні, з увагі на некаторыя паштовыя зьявы. Апрошнім часам рэпрэзентацыя нашых культурных спраў, віленскіх і менскіх, перад Рэйхскамісарыятам сапраўды адбірае ад мяне больш часу, чым нашы тутэйшыя справы, нагэтулькі, што я ня змог нават пабываць ні ў Індры, ні ў Краслаўцы, ні ў Дзьвінску, але я лічу, што ратаваць*

[63] LVVA. P-712 f. 1 apr. 5 lieta. 6 lp.

[64] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 35. Л. 16.

*некаторыя нашы патрэбы тамака зараз найбольш важная справа, бо ў Латвіі мы ўжо больш-менш жывем стабілізаваным жыцьцём і шмат у чым маемо большую практыку, чым віленчукі і менчукі… […] Яшчэ адна просьба: падумайце таксама і аб тым, каго Вы змаглі-б высунуць на старшыню Аб'еднаньня, калі мая асоба Вам канчаткова абрыдла. Я разумею і гэткую ўстаноўку, якая выказваецца ўкраінскай народнай мудрасьцю: "Хай гіршы, абы іншы!»*[65].

Як бачна, Кастусь Езавітаў не трымаўся пасады кіраўніка й не займаў бескампраміснай пазіцыі ў дачыненьні да апанэнтаў, а, хутчэй, быў гатовы пайсьці на саступкі, але ня коштам шкоды адраджэнскай працы. Справа адстаўкі яго з пасады кіраўніка Беларускага аб'яднаньня не атрымала далейшага працягу.

Ня склаліся адносіны дзеяча зь Мікалаем Дзямідавым. Іх узаемная варожасьць цягнулася яшчэ зь міжваеннага часу. З пачаткам нямецкай акупацыі гэтыя адносіны не зьмяніліся на лепшае, чаму магла спрыяць пэўная канкурэнцыя ў імкненьні абодвух дзеячаў ачоліць беларускі рух у Латвіі. Бадай што найбольш вычарпальную характарыстыку свайму апанэнту Езавітаў даў у лісьце ад 6 верасьня 1942 г. да Вацлава Іваноўскага: *"Не дурань, з ініцыятывай, але склочнік, п'яніца, бабнік і ня ўмее абыходзіцца з грашыма. Таму можа быць часамі дужа карысным, але часамі дужа кампраметуе і сябе, і нас усіх. Дужа кепска яшчэ і тое, што надта-ж любіць усялякія сэнсацыі. А калі іх няма, дык не спыніцца перад тым, каб у момант што-дзе выдумаць. Пры ўсім тым, я часта яго бараніў і высоўваў на такую працу, дзе патрэбны спрытны чалавек, кемкі й троху з нахрапам. Калі ён пад кантролем разумнага чалавека і далёка ад касы, дык працаваць можа памысна. Толькі-б не спыніўся. Зараз ён ездзіць і тутака пашырае чуткі, што ў Менску — гніль, буза, спрэчкі, ніякага парадку, пляну й розуму"*[66]. Думку лідара латвійскіх беларусаў падзяляў і Аляксандар Махноўскі, якому нейкі час давялося супрацоўнічаць зь Дзямідавым падчас арганізацыі беларускіх школаў у Латгаліі. У лісьце да Езавітава ад 1 сакавіка 1942 г. ён пісаў пра Дзямідава наступнае: *"У ім 1000 талантаў, але і тысяча чартоў сядзіць. І не ведаю, што пераважае"*[67].

Найлепшыя адносіны старшыня Беларускага аб'яднаньня меў зь Сяргеем Сахаравым, дырэктарам гімназіі ў Зілупе. Абодвух дзеячаў аб'ядноўвала шматгадовая праца на беларускай ніве. Паміж імі практычна ніколі не ўзьнікалі канфлікты. Магчыма, таму іх карэспандэнцыя вельмі часта мела ня толькі службовы, але й асабісты характар[68]. Неад-

---

[65] LVVA. P-712 f., 1 apr., 5 lieta, 4 lp.

[66] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 21. Л. 13 — 13 зв.

[67] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 33. Л. 8.

[68] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 35. Л. 17.

нойчы Езавітаву даводзілася падтрымліваць на духу свайго паплечніка. У адным зь лістоў (ад 14 кастрычніка 1942 г.) ён пісаў: *«Мы памром калі-небудзь усе, але астанецца жыць наша праца й добрае імя ды астанецца жыць наш народ, для якога вартаісьці на ўсялякія ахвяры. Вы былі і астаецеся маладым душой, Вас захоўвае такая закалка, якую атрымалі Вы ў годы дзіцячыя, калі жыцьцё Вас ня песьціла. Таму Вы не падобны да тых маладых старычкоў, якія ў 30 год шукаюць "спакою" і "спакойнае працы". Гэтых людзей шанаваць не можна. А выйшлі яны з маменькіных сынкоў і з заможных бацькоў. Хай сабе сядзяць. Урэшце не кожны чалавек здолен быць дзеячам»*[69]. Пераезд Сахарава ў Зілупе супаў па часе з пагаршэньнем стану здароўя Вольгі Сахаравай. Неўзабаве матыў жонкі й ейнай хваробы задамінаваў у карэспандэнцыі паміж абодвума дзеячамі[70]. Незадоўга да сьмерці Сахаравай Езавітаў пісаў да сябры: *«...дужа пажадана, каб ейныя наведвальніцы паменш з ей разам такама плакалі ды "спачувалі". Ад гэтага ёй лепш ня будзе. Трэба стварыць бадзёры настрой і вытварыць адчуванне таго, што яна патрэбна нам і яшчэ можа многае зрабіць на карысць нашага гароду, нават лежачы ў ложку. Гэткі настрой робіць з хворымі цуды і часта падымае з ложка безнадзейна хворых»*[71].

Калі у сакавіку 1943 г. Вольгі Сахаравай ня стала, Езавітаў падрыхтаваў нэкралёг, які быў надрукаваны ў бэрлінскай "Раніцы", беластоцкай "Новай Дарозе" й віленскім "Беларускім Голасе". Хворы й зломлены стратай дарагога чалавека, Сахараў быў блізкі да таго, каб пакінуць працу ў беларускім школьніцтве[72]. Ён думаў пра магчымасьць пераезду ў Рыгу, дзе жыла дачка Ірына. Магчыма, меў намер адмовіцца ад працы ў школьніцтве пад уплывам памерлай жонкі, якая ў сваім тастамэнце напісала: *"Хай будзе ў беларусаў на сумленьні, што сунулі ў Індру, дзе я захварэла"*[73].

Кастусь Езавітаў ведаў, што адсутнасьць Сяргея Сахарава ў Латгаліі будзе вялікай стратай для беларускага школьніцтва, у якім і так не хапала настаўнікаў. У сувязі з гэтым ён па-сяброўску раіў калегу не пераяжджаць у сталіцу й тым самым не пакідаць чыннай працы на школьнай ніве. У сакавіку 1943 г., адразу пасьля сьмерці Вольгі Сахаравай, старшыня Беларускага аб'яднаньня напісаў да сябры: *"Усім сэрцам спачуваю Вашаму гору і Вашаму адзіноцтву, тым больш што я сам перажыў нядаўна страту усіх сваіх, аб чым Вы ўжо ведаеце.*

69 НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 17. Л. 16.

70 НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 35. Л. 26 зв.

71 НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 17. Л. 18.

72 НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 35. Л. 31.

73 НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 35. Л. 41.

*Асталіся мы з Вамі адзінокімі, як тыя дубы ў полі на мяжы. Мо і сумна нам, але нас павінна супакойваць сьвядомасьць таго, што пад ценьню нашых постацяў нямала яшчэ людзей, з ліку нашых латвійскіх беларусаў, знаходзілі і знаходзяць адпачынак у сваей нялёгкай працы. Мы з Вамі ўжо даўно не жывем для сябе, дык пацягнемо і далей наш воз. Распачыналі мы ў 1921 годзе. Безьлюдзь была. Потым былі і ўздым працы, і разбурэньні, і новыя ўзьлёты і падзеньні, але добра тое, што мы не здрадзілі свайму народу і сваім пачуцьцям, з якімі выйшлі на працу, пачынаючы яе… […] Цяжка Вам — разумею, але-ж трымайцеся, даражэнькі Сяргей Пятровіч! Чуў я, што Іра жадае, каб вы пераехалі ў Рыгу. Скажу Вам шчыра, як сябра. Не пераязджайце. У Розенаве Вы — дырэктар і вялікая беларуская сіла, а ў Рызе Ірына зробіць з Вас дзедушку-няньку. Характар ейны Вам добра вядомы. Можа мне аб гэтым не варта было-б пісаць, але-ж мы з Вамі пасьля чвэрцьвяковага сяброўства ўжо не толькі добрыя знаёмыя і сябры, але і блізкія людзі, шмат бліжэйшыя, чым кроўная радня! Дык выбачайце, калі Вам было гэта непрыямна прачытаць. Жадаю Вам многа сілаў і здароўя, каб падняць Розенаўскі беларускі гімназіяльны цэнтр на належную высату і распаліць у ім сапраўднае беларускае ідэёвае вогнішча*”[74]. Невядома, у якой ступені згаданыя словы Езавітава паўплывалі на Сахарава, але апошні не адважыўся кінуць школьнай працы й кіраваў гімназіяй у Зілупе ажно да канца акупацыі.

Акрамя грамадзкай і культурна-асьветнай працы, Кастусь Езавітаў быў актыўным карэспандэнтам беларускай прэсы. Ён друкаваў розныя артыкулы ў беларускіх выданьнях, якія выходзілі за межамі Латвіі. Рэгулярна рыхтаваў хронікі беларускага жыцьця для віленскага “Беларускага Голасу” й беластоцкай “Новай Дарогі”. Асабліва шмат увагі аўтар надаваў гісторыі беларускага руху й ягоным удзельнікам, а таксама гісторыі культуры. Плённым было супрацоўніцтва Езавітава з бэрлінскай “Раніцай”, на бачынах якой прысутнічала рубрыка “Беларускае жыцьцё ў Латвіі”. Аўтар рупіўся пра кожную дэталь, намагаўся апісаць найдрабнейшую ўрачыстасьць і імпрэзу, якую ладзілі латвійскія беларусы[75]. Апрача згаданых пэрыёдыкаў старшыня Беларускага аб’яднаньня шчыльна супрацоўнічаў з выданьнем “Новы Шлях”, якое пачало выходзіць у Рызе ў ліпені 1942 г. Гэты часопіс працягваў традыцыю расейскамоўнага часопісу “Новый Путь” (выходзіў ад канца 1941 г.). Паводле аўтараў працы “Беларусь учора й сяньня”, рэдактар-латыш утрымліваў выданьне ў расейскім духу, ігнаруючы беларушчыну. Але дзякуючы захадам Езавітава ўдалося дамагчыся зьмены выданьня на

---

[74] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 17. Л. 22.

[75] LVVA. P-712 f. 1 apr. 6 lieta. 20 lp.

беларускі лад[76]. Дзеяч рабіў актыўныя захады з мэтай паляпшэньня якасьці часопісу. У жніўні 1942 г. ён прасіў Аляксандра Махноўскага ініцыяваць збор подпісаў жадаючых павялічыць колькасьць беларускіх матэрыялаў на бачынах выданьня[77]. Многія свае публікацыі Езавітаў падпісваў уласным прозьвішчам, не хаваючыся за псэўданімам. У лісьце да галоўнага рэдактара Ўладзімера Сядуры ён пісаў: *"Яшчэ раз уважыўшы пытаньне аб прапанове Вашай надрукаваць мае артыкулы аб Ф. Багушэвічу і аб Беларускім тэатры над псеўданімамі, я прышоў да перакананьня, што зараз ня час хаваць сваё імя пад псеўданімамі, асабліва-ж пішучы артыкулы гістарычна-навуковага характару. Таму прашу мае артыкулы зьмяшчаць толькі пад маім уласным прозьвішчам"*[78]. Нягледзячы на тое што ён зьяўляўся сталым аўтарам часопісу, адносіны паміж ім і Ўладзімерам Сядурам не былі простыя. Паміж старым адраджэнцам і маладзейшым рэдактарам часта ўзьнікалі непаразуменьні[79]. Можна меркаваць, прычынай сварак была розьніца веку й выхаваньня, а таксама цяжкі характар рэдактара, які не выконваў сваіх абавязкаў з належнай стараннасьцю[80].

Кастусь Езавітаў выступаў таксама як аўтар на бачынах нямецкамоўнай прэсы. Яму належаць некалькі артыкулаў у штомесячніку *"Ostland"*. Беларускі дзеяч падрыхтаваў, між іншым, тэксты пра беларускі тэатар, а таксама беларускую народную культуру. Плёнам ягонай працы была публікацыя "Беларуская народная вопратка", якая пабачыла сьвет як у беларускай, гэтак і ў нямецкай прэсе. Акрамя таго, ад лета 1942 г. Езавітаў рэдагаваў беларускамоўную кінахроніку ў рыскім аддзеле кінастудыі *Ostland Film G.m.b.H*[81].

Беларускі дзеяч надаваў вялікае значэньне прэсе[82]. Зь першых дзён нямецкай акупацыі ён наладзіў распаўсюд сярод настаўніцтва і сяброў БНК газэтаў, якія выходзілі ў Менску, Рызе, Вільні, Беластоку й Бэрліне. Першапачаткова Езавітаў дасылаў (за грошы) частку атрыманага накладу зацікаўленым асобам, а потым па лініі БНК ікмнуўся

[76] Найдзюк, Язэп; Касяк, Іван. Беларусь учора й сяньня. Менск, 1993. С. 284.

[77] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 16. Л. 12—13.

[78] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 18. Л. 4.

[79] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 36. Л. 23; Тамсама. Спр. 18. Л. 7.

[80] Вось якім чынам Уладзімера Сядуру згадвала Лёнгіна Брылеўская, якая мела нагоду пазнаёміцца зь ім у Рызе: "Сядура, хоць і быў галоўным рэдактарам, свайго стала ня меў. Прыходзіў у рэдакцыю рэдка й псаваў усім кроў". Брылеўская, Лёнгіна. Сьцежкі жыцьця // Адзінец, Аляксандар. Паваенная эміграцыя: скрыжаваньні лёсаў: зборнік успамінаў. Менск, 2007. С. 186.

[81] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 57. Л. 1—51.

[82] LVVA. P-712 f. 1 apr. 6 lieta. 17 lp.

наладзіць у Латгаліі сталую падпіску[83]. У адным зь лістоў (ад 11 ліпеня 1942 г.) да сябры ён пісаў: *"Наогул трэба, каб нашы сяляне пачалі нарэшце чытаць і выпісываць беларускія часопісы ў кождую хату. Гэта найлепшая адзнака нацыянальнае сьвядомасці і найлепшы спосаб умацаваць наш Рух"*[84].

Трэба адзначыць, што старшыня Беларускага аб'яднаньня не цураўся стасункаў з простымі людзьмі. Асабліва ён кантактаваў з моладзьдзю, якая толькі пачынала свой творчы й жыцьцёвы шлях. Кідаецца ў вочы непасрэднасьць і шчырасьць Езавітава ў адносінах зь людзьмі. З аднаго боку, ён намагаўся духова падтрымаць маладых аднадумцаў, якія ірваліся да працы, а з другога — не вагаўся дзяліцца сваімі крытычнымі заўвагамі. У лісьце ад 15 ліпеня 1943 г. да беларускага юнака з Латгаліі дзеяч пісаў: *«Скажу коратка — трэба Вам вучыцца. Вучыць Вас сваімі лістамі завочна, я не маю часу. Раджу паступіць у Віленскую сэмінарыю вучыцельскую або ў гімназію. Працуйце і ў хаце над сабой: чытайце як мага больш, але чытайце добрую кніжку. Вашы вершы слабаватыя. Перадаў іх беларускім паэтам у "Новы Шлях": П[ётру] Сокалу і А. Радзюку ды А[лесю] Салаўю. Абяцалі Вам напісаць. Ды вельмі мы ўсе тутака занятыя, а вучыцца Вам трэба не на лістах, а многа і ўпарта. Тады выйдзе з Вас толк. Без агульнае-ж асьветы будзе Вам цяжка многае зразумець»*[85].

Вялікую ўвагу Езавітаў надаваў адраджэньню ў Латвіі беларускай выдавецкай дзейнасьці. Стары дзеяч добра разумеў карысьць кнігавыдавецкай справы для нацыянальнага руху. Сваім задумамі лідар латвійскіх беларусаў дзяліўся зь сябрамі. У лісьце да Міколы Абрамчыка чытаем: *«Трэба паказаць беларусам, што яны зара[з] будуць мець новы ўзьлёт культуры і асьветы. А гэта найперш робіцца праз кнігу. Латышы і ліцьвіны маюць старыя выданьні "перадсавецкія", а ў нас гэткіх запасаў няма, бо і палякі, і саветы нашу нацыянальную кнігу нішчылі»*[86]. Як старшыня Беларускага аб'яднаньня ён заклікаў калегаў ашчадна ставіцца да грашовых сродкаў арганізацыі, каб назапасіць капітал на выданьні[87]. Восеньню 1941 г. ён меў намер перавыдаць сваю кнігу "Беларусы ў Латвіі"[88]. Аднак справа ня выйшла за межы праекту. Непасрэдным штуршком да пачатку выдавецкай працы быў недахоп падручнікаў і іншых кнігаў у беларускіх школах. Да Езавітава зьвярталіся настаўнікі з просьбай атрымаць неабходныя падручнікі й літа-

[83] LVVA. P-712 f. 1 apr. 6 lieta. 17 lp.

[84] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 16. Л. 17.

[85] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 16. Л. 20.

[86] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 21. Л. 20.

[87] LVVA. P-712 f. 1 apr. 5 lieta. 9 lp.

[88] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 16. Л. 2.

ратуру. Беларускі дзеяч высылаў настаўнікам "лішкі" кнігаў з уласных збораў, але ягоныя запасы не былі аднак невычарпальныя.

На пачатку 1942 г. з ініцыятывы менскіх беларусаў зьявілася думка наконт наладжаньня ў Рызе выданьня падручнікаў для беларускіх школаў. Латвійская сталіца была абраная ў якасьці месца выданьня з прычыны адсутнасьці ў Менску адпаведнага абсталяваньня й матэрыялу[89]. У гэтым працэсе павінен быў узяць удзел Кастусь Езавітаў, якому даручалася справа пошуку мясцовых выдаўцоў. У студзені 1942 г. ён быў дэлегаваны ў Менск для перамоваў па пытаньнях каардынацыі працы[90]. Аптымізм, аднак, аказаўся заўчасным. Наступныя месяцы паказалі, што выдавецкая справа ня зрушылася зь месца. Менскія беларусы тлумачылі крызіс у выданьні адмоўнай пазіцыяй нямецкага боку[91]. У сваю чаргу, Езавітаў меў іншае бачаньне справы. Вось якім чынам ён характарызаваў сытуацыю ў лісьце ад жніўня 1942 г. да супрацоўніка інспэктарату беларускіх школаў Генэральнай акругі Беларусь Штэрнбэрга: "*Цешуся я, што зараз Беларусь мае магчымасьць вясьці далей сваю Адраджэнчую Працу, але разам з тым і сумую з таго, што тэмп гэтае працы надзвычайна марудны. Асабліва сумна тое, што дагэтуль няма падручнікаў для школ. Набліжаецца новы навучальны год, а падручнікаў няма як няма. Быў я у гэтай справе ў Менску на пачатку гэтага году, радзіліся і нібыта дагутарыліся. Дагаварыўся тутака з друкарнямі... [...] Мушу прызнацца Вам зусім шчыра і адчынена, што мне дужа сорамна перад тымі латыскімі друкарамі, аўтарамі і мастакамі, з якімі я вёў тутака перагаворы. І шкада мне беларускіх дзяцей, якія дзічэюць без беларускае кніжыцы (а мо чытаюць, за адсутнасцю новае беларускае кніжыцы, якія колечы расейскія старыя творы, напоеныя зьнявагаю да ўсяго беларускага, а магчыма і тое, што чытаюць якія-колечы савецкія рэчы, што яшчэ захаваліся, бо моладзь павінна чытаць і яе цягне кніга)*"[92].

У сярэдзіне 1942 г. Кастусь Езавітаў ініцыяваў сярод настаўніцтва Дзьвіншчыны й Люцыншчыны збор сродкаў на выдавецкі фонд[93]. Праца прынесла плён, і ў сярэдзіне 1943 г. накладам 3 тысячы асобнікаў выйшла чытанка "Беларуская школа" (перадрук даваеннага выданьня)[94]. Адначасова з выданьнем кнігаў на патрэбы школьніцтва Езавітаў меў намер выдаваць іншую літаратуру. З камэрцыйных пры-

---

[89] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 13. Л. 5.

[90] Беларускае жыцьцё ў Лацьвіі // Раніца. 15 лютага 1942. С. 3—4.

[91] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 34. Л. 14.

[92] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 18. Л. 16 зв.

[93] Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006. С. 342.

[94] LVVA. P-712 f. 1 apr. 4 lieta. 36 lp.

чынаў ён вырашыў аддаць перавагу музычнай прадукцыі. Ад лістапада 1942 г. да траўня 1943 г. дзеячу ўдалося выдаць у Рызе 12 беларускіх народных песьняў і рамансаў з нотамі й 2 зборнікі. Наклад выданьняў вагаўся каля 1—2 тысячы асобнікаў[95].

Плённым было супрацоўніцтва Кастуся Езавітава зь менскімі кампазытарамі Аляксеем Туранковым, Аляксандрам Спаскім, Рыгорам Самохіным. Выданьнем музычнай літаратуры дзеяч разьлічваў дасягнуць некалькіх мэтаў: пашыраць сярод насельніцтва веды пра айчынную музычную творчасьць і грашова падтрымаць ейных стваральнікаў[96]. Выдавецкую прадукцыю Езавітаў намагаўся распаўсюджваць сярод суродзічаў у Латвіі й за ейнымі межамі. У яго лісьце да Ўсевалада Боева ад 24 траўня 1943 г. чытаем: *"Гэтымі днямі выйдуць яшчэ 7 рамансаў, ды таксама дашлю. Добра-б было і ў Вільні наладзіць пашырэньне іх. Пераслаў я туды на імя Беларускага Камітэту па 200 экземпляраў, але баюся, што яны не возьмуцца за пашырэньне іх так, як трэба. Быў-бы Вам дужа ўдзячны, калі-б Вы дапамаглі мне ў Вільні зарганізаваць пашырэньне. Дужа хачу дапамагчы нашым капазітарам, бо яны ў Менску ў надзвычайна цяжкім матар'яльным стане. Але ноты сярод нашага жыхарства ідуць цяжкавата, асабліва рамансы, бо піаніна няма ў беларускіх хатах, ды і ў беларускай інтэлігенцыі яно з'яўляецца пакуль што яшчэ толькі рэдкім гасьцём. А музыкальную культуру трэба пашыраць. Ды і раманс добра рэпрэзентуе нашу музыку і культуру. Каталіцкая-ж Вільня найбольш пашырае тое, што зьвязана з кантычкай. Раманс — злой дух, д'ябал, распуста! Таму я ўхваліў выдаць колькі толькі магу рамансаў. Трэба каму-небудзь ахвяравацца на гэтую справу. Інакш справа будзе стаяць на месцы, а кампазітары будуць пухнуць з голаду. Якая-ж нацыянальная культура без музыкі?"*[97].

Нягледзячы на станоўчыя водгукі рэцэнзэнтаў, попыт на музычную прадукцыю быў нязначны, што потым абумовіла прыпыненьне іх далейшага выданьня. Прадукцыя ня стала папулярнай сярод сялянства, якое складала асноўную частку беларускага грамадзтва[98].

Выдавецкая праца не была зь лёгкіх. Езавітаў адчуваў недахоп ня толькі сродкаў, але й адпаведных матэрыялаў да друку[99]. Каб вырашыць тэхнічныя праблемы выдавец мусіў шукаць ратунку за межамі Латвіі. На дапамогу дзеячу прыходзіў Мікола Абрамчык, які ўвесну 1943 г.

---

[95] Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя… С. 343.

[96] LVVA. P-712 f. 1 apr. 4 lieta. 36 lp.

[97] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 13. Л. 2.

[98] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 35. Л. 20.

[99] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 18. Л. 8.

выслаў у Рыгу пэўную колькасьць літаграфічнай паперы[100]. Пэўныя цяжкасьці былі абумоўленыя мясцовай спэцыфікай працы. Езавітаў пісаў да Аляксея Туранкова 7 чэрвеня 1943 г.: *"Дужа гневаўся я на наборшчыкаў за тое, што, папраўляючы карэктуру, рабілі яны новыя памылкі і да таго-ж яшчэ горшыя. Нічога не зробіш з імі, бо яны — латышы і ня ведаюць зусім беларускай мовы"*[101]. Нягледзячы на складанасьці, дзеяч не спыніў выдавецкай працы ажно да канца акупацыі. У сярэдзіне 1943 г. выйшаў "Статут Беларускага аб'яднаньня ў Латвіі". У траўні 1944 г. пабачыла сьвет кніга для дзяцей "Камарочак". Аднак многім выдавецкім праектам не было наканавана зьдзейсьніцца. Ня быў выдадзены зборнік народных твораў пад рэдакцыяй Сяргея Сахарава. Не пабачылі сьвет падручнікі Зофіі Дабжыньскай — лемантар і чытанка "Наша кляса", а таксама падручнік "Арытмэтыка"[102]. У плянах Езавітава было выданьне альбому слуцкіх паясоў. Дзеля гэтага выдавец нават зьвяртаўся да Ўсевалада Боева й Клаўдзія Дуж-Душэўскага з просьбай намаляваць слуцкія паясы, якія знаходзіліся ў гарадзкім музэі ў Коўне[103]. Асноўнай прычынай сьціплых вынікаў выдавецкай дзейнасьці была адсутнасьць сродкаў. Езавітаву не даводзілася наракаць на недахоп аўтараў і матэрыялаў, але на ажыцьцяўленьне плянаў не хапала грошай[104].

Дзеяч лічыў таксама вельмі важным вядзеньне навуковай працы. Зь ягонай ініцыятывы ў сакавіку 1942 г. пры Цэнтральнай управе БНК у Рызе распачала працу навуковая сэкцыя, кіраўніком якой быў ён сам. Акрамя таго, ён зрабіў няўдалую спробу стварыць навуковую сэкцыю ў Дзьвінску[105]. У 1942 г. намаганьнямі навуковай сэкцыі ў Рызе быў ўкладзены беларуска-нямецкі слоўнік, над якім працавалі П. Бруноўскі, К. Езавітаў і П. Масальскі[106]. У 1942 г. дзеяч падрыхтаваў нямецкамоўны тэкст "Гісторыя станаўленьня й дзейнасьці Беларускай акадэміі навук"[107]. Езавітаў бачыў патрэбу напісаньня гісторыі беларускага адраджэнскага руху. Яшчэ ў верасьні 1941 г. у вольны час ён працаваў над кнігай "Беларускае нацыянальнае адраджэньне", якую спадзяваўся выдаць пры дапамозе беларусаў[108]. Дзеля гэтага ён прасіў віленскіх

---

[100] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 22. Л. 14.

[101] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 15. Л. 5.

[102] Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя... С. 342—344.

[103] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 13. Л. 1—2.

[104] Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя... С. 342—344.

[105] Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі... С. 209.

[106] Беларускае жыцьцё ў Латвіі // Раніца. 26 ліпеня 1942. С. 3.

[107] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 56. Л. 1—13.

[108] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 18. Л. 10.

калегаў прыдбаць у Беларускім музэі кнігу Фёдара Турука. З карэспандэнцыі Езавітава зь іншымі дзеячамі вынікае, што ён зьбіраўся таксама падрыхтаваць “Беларускі біяграфічны слоўнік” і зьвяртаўся да сяброў і знаёмых з просьбай даслаць аўтабіяграфічныя зьвесткі[109]. Вядома, што дзеяч працаваў над уласнымі ўспамінамі, а таксама заахвочваў Клаўдзія Дуж-Душэўскага да напісаньня каротнага нарысу беларускага нацыянальнага руху. У лісьце да яго ад 14 красавіка 1943 г. Езавітаў наступным чынам тлумачыў неабходнасьць выданьня такой працы: *“Старая адраджэнчая гвардзія беларуская вымірае. Тыя, што яшчэ жывуць, павінны парупіцца, каб нашчадкі мелі ўяўленьне аб нашай працы”*[110].

Нягледзячы на заангажаваньне ў беларускія справы ў Латвіі, Езавітаў не зьнікаў з далягляду агульнабеларускага жыцьця, аб чым яскрава сьведчаць ягоныя сувязі з аднадумцамі. Лідар латвійскіх беларусаў уважліва сачыў за падзеямі, якія адбываліся ў Беларусі. У лісьце да Івана Ермачэнкі ён пісаў: *“Мы ўсе тутака дужа цікавімся менскім жыцьцём і ўсё больш адчуваем з ім сувязь, хаця-ж брак пачтовых зносін дае сябе адчуваць”*[111]. Некалькі разоў Езавітаў выяжджаў у Менск. Першае падарожжа ў студзені 1942 г. дзеяч спалучыў з наведваньнем Дзьвінску й Вільні, падчас якіх адбыліся сустрэчы з прадстаўнікамі мясцовага беларускага руху[112]. Вынікі працы менскага нацыянальнага актыву ён ацэньваў па-рознаму. Пасьля чарговай паездкі ў беларускую сталіцу лідар латвійскіх беларусаў 22 чэрвеня 1942 г. напісаў да сябры: *«Беларускіх кваліфікаваных інтэлігентаў ёсьць у Менску даволі, каб распачаць вялікую культурную працу. Але, на вялікі жаль, г-нін Гадлеўскі згары лічыць “бальшавікамі” ўсіх тых, хто не ходзіць у касьцёл. Ён не гутарыць з гэтымі людзьмі і не прыцягвае іх да працы. Людзі працуюць нейкімі перакладчыкамі ды ледзь не вартаўнікамі. Гэткую ўстаноўку трэба рашуча адкінуць. На адных клерыкалах далёка не паедзеш! У беларускі рух трэба прыцягаваць усе беларускія сілы, а не адкідаць іх, як гэта заўсёды рабіла Вільня ў сваім хваравлівым жаданьні каля маленечкае справы гуртаваць “сваіх людзей”. Мы не касту будуем і не парахвію, а падайшлі да будаўніцтва ўсяе Беларусі, дык псыхалогія гаспадара-пробашча, або павадыра якое-колечы падпольнае группкі павінна быць адкінута»*[113].

Разам з тым аўтар гэтых радкоў разумеў, што менавіта Менск ёсьць асноўным цэнтрам беларускага руху. Ён разглядаў магчымасьць вы-

[109] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 12. Л. 4.

[110] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 22. Л. 5.

[111] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 14. Л. 11.

[112] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 21. Л. 6.

[113] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 21. Л. 8.

езду ў Беларусь, дзе зьбіраўся працягваць выдавецкую працу[114]. У чэрвені 1942 г. Язэп Найдзюк заахвочваў Кастуся Езавітава да пераезду, бо лічыў, што *"трэба ўзмацняць цэнтр"*[115]. У жніўні 1942 г. кіраўнік Беларускай народнай самапомачы Іван Ермачэнка прапаноўваў Езавітаву ўзяць удзел у арганізацыі камандзірскай школы Беларускай самаахновы. Лідар латвійскіх беларусаў ахвотна згадзіўся ўключыцца ў гэтую працу[116]. Нягледзячы на запрашэньні, дзеяч не наважыўся, аднак, пераехаць у Беларусь, тлумачачы тым, што латвійскія беларусы просяць яго іх *"не пакідаць"*[117]. У лісьце да Сяргея Сахарава ён адзначаў, што разам зь ягоным ад'ездам *"шмат чаго тутака спынілася-б"*[118].

Сярод тых менскіх беларусаў, зь якімі Езавітаў трымаў сувязь, быў Вацлаў Іваноўскі. Асноўнай тэмай, якая ўздымалася абодвума дзеячамі, была пэрспэктыва будучага разьвіцьця беларускай культуры ва ўмовах новай рэчаіснасьці. У верасьні 1942 г. Езавітаў запэўніваў Іваноўскага, што хутка немцы павінны стварыць у Менску Беларускую акадэмію навук, у якой ён зойме пасаду сакратара[119]. Тым часам Вацлаў Іваноўскі дзяліўся сваімі думкамі наконт ініцыятывы адкрыцьця беларускага ўнівэрсытэту. У сувязі з гэтым ён заклікаў латвійскага беларуса шукаць сярод беларускай моладзі ў Латвіі адпаведных кандыдатаў на вучобу[120]. Магчыма, што кантакты з бургамістрам Менску мелі ня толькі афіцыйны характар. Адным з дыскусійных момантаў у дзейнасьці Езавітава падчас вайны ёсьць ягоны ўдзел у Партыі беларускіх нацыяналістаў (ПБН). Паводле некаторых зьвестак, у студзені 1942 г. у Менску ў кватэры Вацлава Іваноўскага адбылася патаемная сустрэча беларускіх дзеячаў, у якой акрамя гаспадара й Езавітава ўзялі ўдзел Янка Станкевіч, Антон Адамовіч і Яўхім Кіпель. Мэтай сустрэчы было абмеркаваньне магчымасьці стварэньня нелегальнай Беларускай нацыянал-дэмакратычнай партыі. Пасьля вайны Кастусь Езавітаў прызнаў, што спроба стварэньня згаданай падпольнай палітычнай групоўкі скончылася няўдачай. На ягоную думку, паўплывала на гэта сьмерць Вацлава Іваноўскага ў сьнежні 1943 г.[121]. Зьвесткі пра згаданыя падзеі і ўдзел у іх лідара латвійскіх беларусаў паходзяць з паваенных допытаў Езавітава, калі ён быў вязьнем менскай сьледчай турмы, што прымушае

[114] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 20. Л. 18.

[115] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 34. Л. 14 зв.

[116] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 14. Л. 12.

[117] Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі... С. 208.

[118] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 17. Л. 21.

[119] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 21. Л. 13.

[120] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 31. Л. 35—36.

[121] Езовитов, Константин. Воспоминания // Неман. 1993. № 3. С. 150.

нас вельмі крытычна ставіцца да гэтай інфармацыі. Тым часам у іншых крыніцах адсутнічаюць зьвесткі наконт удзелу Езавітава ў "падпольлі".

Іншым асяродкам беларускага жыцьця, зь якім лідар латвійскіх беларусаў падтрымліваў сувязь, была Літва. Кіраўнік латвійскіх беларусаў кантактаваўся з тамтэйшымі дзеячамі — Эдвардам Будзькам, Янкам Шутовічам, Язэпам Малецкім, кс. Адамам Станкевічам і інш. Вільня была найбліжэйшым да Рыгі цэнтрам беларускага руху. Кастусь Езавітаў цікавіўся справамі суайчыньнікаў над Віліяй, досьвед арганізацыйнай працы якіх быў запатрабаваны ў Латвіі[122]. Да ліку беларускіх дзеячаў у Літве, якія былі добра знаёмыя латвійскаму беларусу, належаў маёр Аляксандр Ружанцоў. Ліставаньне паміж імі тычылася перадусім арганізацыі вайсковай справы. Езавітаў станоўча паставіўся да праекту Ружанцова адносна арганізацыі вайскоўцаў-беларусаў у Літве. Адначасова ён перасьцерагаў, каб беларусы не ішлі на службу ў літоўскія аддзелы. Ён лічыў больш карысным высылаць беларускіх вайскоўцаў зь Літвы ў Беларусь на папаўненьне Беларускай самааховы[123].

Іншы характар мела ліставаньне з Францішкам Аляхновічам, зь якім Езавітава аб'ядноўвала захапленьне літаратурай. У адным зь лістоў (ад 26 сьнежня 1943 г.) да драматурга лідар латвійскіх беларусаў не хаваў свайго смутку: *«Зайздрошчу Вам, што працуеце ў родным асяроддзі, сярод сваіх людзей, бо мне ўжо 25 год даводзіцца працаваць сярод чужынцаў, або сваіх, якія паступова трацяць сувязь з роднай глебай і якіх увесь час даводзіцца духова ратаваць ад загібелі. Заўсёды прыходзіцца толькі даваць нешта ад сваёй энергіі і духу, а ад іншых "зарадкі" ня маю. Павінен "самазараджвацца" праз кнігу, газэту, верш і ўласны друк»*[124].

У гады акупацыі Кастусь Езавітаў усталяваў сувязь і зь беларусамі Бэрліну. У першую чаргу лідар латвійскіх беларусаў ліставаўся зь Міколам Абрамчыкам, кіраўніком тамтэйшага Беларускага камітэту самадапамогі (БКС). Абодва дзеячы дзяліліся думкамі наконт бягучых арганізацыйных справаў, але таксама наконт магчымасьцяў і пэрспэктываў далейшай нацыянальна-адраджэнскай працы. Езавітаў лічыў беларускую прысутнасьць у сталіцы Трэцяга рэйху вельмі важнай з гледзішча беларускай працы. У сувязі з гэтым ён заклікаў Абрамчыка рупіцца пра агітацыю беларускіх інтарэсаў сярод еўрапейскіх палітыкаў. Заслугоўвае ўвагі адзін з урыўкаў зь ліста Езавітава, у якім той падкрэсьліваў, што неабходна *"абсадзіць эўрапейскія цэнтры нашымі прадстаўнікамі, якія здолелі-б інфармаваць аб беларусаў*

[122]НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 23. Л. 7.

[123]НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 21. Л. 11 — 11 зв.

[124]НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 12. Л. 13.

*і зьліквідавалі-б ўсю тую хлусьню, што аб нашай краіне і народзе панапісалі і палякі, і расейцы, і латышы, і ліцьвіны — дужа патрэбна. Рабеце ўсё магчымае, каб гэтага дапяць*"[125]. Адначасова ён асьцерагаў кіраўніка БКС перад расейскімі ўплывамі на немцаў. Ён зьвяртаў увагу на тое, што расейскія эмігранты шкодзяць беларусам, адпаведным чынам апрацоўваючы немцаў і пераконваючы іх у неіснаваньні самастойнага беларускага народу[126]. Дзеля папулярызацыі ведаў пра беларусаў Езавітаў прапаноўваў Абрамчыку перавыдаць працу Мітрафана Доўнар-Запольскага. Старшыня БКС быў адным з тых, што ня раіў Езавітаву выяжджаць у Менск, паколькі лічыў, што гэта магло б прынесьці некарысныя наступствы для беларускай справы. Ён сьцьвярджаў, што ў Рызе як сядзібе ўладаў "Остлянду" беларусы мусяць мець свайго чалавека. Тым часам кіраўнік Мікола Абрамчык браў пад увагу магчымасьць запрашэньня Езавітава ў Бэрлін з мэтай даручэньня яму пасады старшыні Беларускага прадстаўніцтва[127].

У асобе Абрамчыка лідар латвійскіх беларусаў знайшоў свайго аднадумца, але ў некаторых справах іх погляды прынцыпова адрозьніваліся. У ліпені 1943 г. Кастусь Езавітаў дакараў Абрамчыка за вострыя тон у адносінах да Івана Ермачэнкі, які страціў пасаду кіраўніка БНС і быў адасланы немцамі ў Прагу пад нагляд гестапа. Латвійскі беларус заклікаў малодшага калегу трымацца больш "эўрапейскага стылю"[128]. Ён быў перакананы, што дзеля карысьці нацыянальнай справы ў беларускі рух належыць ангажаваць розных людзей, нават тых, якія ў асабістым і маральным сэнсе нечым сябе заплямілі. Ён лічыў гэты крок запатрабаваньнем часу пры адсутнасьці альтэрнатывы. Сваё бачаньне справы ён вельмі дасьціпна выклаў у адным зь лістоў да Міколы Абрамчыка (ад 28 ліпеня 1943 г.): *"Я таксама за тое, каб наша грамадзтва было маральным, ганаровым і мела-б заўсёды адчуваньне свае вялікае адказнасьці перад Народам і Рухам за сваю працу, паступаньне і манеры трыманьня наагул. Гэтых людзей трэба выхоўваць, паказуючы ім прыклад. Спадзяюся, што мы гэткіх людзей узгадуемо, калі будземо мець магчымасьць шырока працаваць на грамадскай ніве... [...] У сучасны момант, калі мы толькі пачынаемо працу і маемо ўсяго 25 год грамадска-арганізацыйнае працы, часта перарыванае і псаванае чужынцамі, мы павінны да працы прыймаць людзей, якія патрэбны як супрацоўнікі, але якім мы не даверымо ідэйнага кіраўніцтва рухам. Вось-жа да гэтых папутчыкаў, якія нам*

---

[125] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 21. Л. 21.

[126] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 12. Л. 8.

[127] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 28. Л. 10, 21.

[128] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 22. Л. 15.

*патрэбны, мы можамо ставіцца толькі два галоўных вымаганьні: каб энэргічна працавалі і мелі розум ды спрыт… […] Нам патрэбны: а) паліцыянт, які хай і чарку вып'е і за дзяўчатамі прывалакнецца, але які зможа ў адпаведны момант адважна кінуцца адзін супраць трох і пяцёх на змаганьне за Адраджэньне Беларусі; нават такі, які Купалу не адрозьніць ад Багушэвіча, але, калі-б хто пачаў абражаць памяць аднаго ці другога, дык ён здолен будзе і аплявуху даць з усяго пляча; б) вайсковец, які лепш ведае кулямёт, чым гісторыю нашае Бацькаўшчыны, але які будзе біцца за яе да апошняга, і калі гэткі вайсковец загадае закалоць чужое парасё, накарміць сваіх салдатаў, дык патрэбна ад яго вымагаць толькі, каб ён паквітаваў гэта і, калі мае грошы ў касе, дык зараз-жа заплаціў бы, але-ж салдаты ягоныя павінны быць накормленыя; в) урадовец, які сам змогбы арыентавацца і зараз-жа адважыцца на правядзеньне тае ці іншае справы, не чакаючы, пакуль нехта дасьць яму інструкцыю і возьме на сябе адказнасьць за пільна-патрэбныя чыны. Ініцыятыва, розум, спрыт не заўсёды зьвязаны з высокаю маральнасьцю… […] Зразумела, што нам патрэбны і культурныя сілы, якія ўздымалі-б нашу культуру. Але, зноў-жа, калі-б наша выдатная паэтка, або артыстка штомесяц мела-б іншага каханка і пры гэтым пісала-б выдатнейшыя новыя творы, а артыстка стварала-б новыя ролі, дык не глыбей пакланіўся-б ей, чым самой маральнай нашай грамадзянцы, якая штодня хадзіла бы ў касьцёл, але затое пісала-б нейкія глупейшыя вершкі, або іграла-б гэтак, што за яе чырванець варта. Зусім не адзначае гэта, што я за безагляднае прымірэньне з жулікамі і нявыгоднікамі. Не! — я хачу толькі, каб кождага судзілі не за тое як ён жыве, або трымае сябе персанальна, але за тое, што ён здолеў зрабіць для свайго народу… […] Калі Беларусь стане на ногі, ды мы зможамо ачысьціць сябе ад пылу, бруду, трэсак і плямаў, ды атынкаваць і пафарбаваць фасад і вонкавыя пакоі Беларускага Дому. Зараз трэба даць магчымасьць працаваць усім і прыглядацца да іх… […] Беларускі Народ у сярэднім — высокамаральнага складу. І якраз гэтая маральнасьць пазбавіла нас ініцыятывы, рашучасьці і энэргіі… […] А зараз нам патрэбны людзі ініцыятывы, волі, спрыту, розуму. А чысткі — зараз шкодныя. За дужа мы пад уплывамі клерыкальнага спосабу думаньня. Моцныя людзі, якія нам якраз зараз патрэбны, часта-густа пераступаюць агульнавызначаныя нормы, але зараз караць патрэбна было-б толькі здрайцаў нагаша народу і Руху*"[129].

У адказ Мікола Абрамчык бараніўся, што прынцыпы эўрапейскага стылю трыманьня ня могуць "*стасавацца да найрафінаванейшага жуліка*". Ён лічыў, што беларускі рух не павінен талераваць тых, хто

[129] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 23. Л. 12 — 12 зв.

дэманструе немаральнае аблічча. Кіраўнік БКС пісаў: *"Я, паважаны грамядзянін, зусім адваротнай думкі. Іменна ў пачатку нам патрэбна тварыць асяродак здаровы, высока маральны, бо толькі на гэткіх падставах мы патрапім тварыць маральныя якасьці"*[130].

Лідар беларусаў Латвіі ўтрымліваў таксама карэспандэнцыйную сувязь з суайчыньнікамі ў Чэхіі. Асабліва актыўнымі былі кантакты з Ларысай Геніюш. Стары адраджэнец высока цаніў творчыя й патрыятычныя якасьці паэткі. У адным зь першых лістоў да яе (ад 7 лютага 1943 г.) лідар латвійскіх беларусаў пісаў: *"На тэй зямлі, дзе мы праводзілі першую баразну, зараз Вы мусіце сеяць. Сейце, мая даражэнькая, сейце лепшае, што знойдзецца ў Вашым сэрцы. Сейце зярняткі ўсхожыя, каб зарунела і закаласавала як найхутчэй, як найбуйней!"*[131]. У карэспандэнцыі з паэткай Кастусь Езавітаў выступаў з пазіцыі дасьведчанага дзеяча-адраджэнца, не шкадуючы сваіх парадаў. У згаданым ліставаньні чарговы раз выявіўся яго нястомны характар змагара, які заклікаў аднадумцаў да самаадданай працы, нягледзячы на ўсе перашкоды і цяжкасьці. Яскрава сьведчыць пра гэта наступны ўрывак зь ліста да Ларысы Геніюш: *"Абавязкова дамагайцеся выданьня календара! Не зьвяртайце ўвагі на адмовы і гутаркі аб браку паперы, бо выданьне Беларускага Календара мае значэньне агітацыйнае і прапаганднае, не толькі для беларусаў патрэбнае, але і для паказу таго, што беларусы нешта маюць ад новага ладу карыснага. Якія могуць быць гутаркі аб падтрыманьні беларускае культуры, калі беларусы не маюць магчымасьці нават календара выдрукаваць! Гэткі стан рэчаў будзе даваць магчымасьць антыбеларускім і антынямецкім чыньнікам вясьці варожую нам агітацыю, і мы самі даемо ім зброю ў рукі. Гэтак і матывуйце свае захады. Тады і канцылярскія чыноўнікі, якія не бачаць далей свайго носа, зразумеюць, што каляндар, або лемантар, ці чытанка для дзяцей — у пэўных варунках — не менш карысней дзейнічаюць, чым іншая вайскова-прапагандная зброя"*[132].

Гучным рэхам у беларускім асяродзьдзі адбілася сьмерць у Празе старшыні Рады БНР Васіля Захаркі. 12 красавіка 1943 г. Ларыса Геніюш пісала да Кастуся Езавітава: *"Дзядзька Васіль часта Вас успамінаў, былі гэта надта добрыя ўспаміны, як шкада што ня мог бачыць сваяго старога прыяцеля"*[133]. Езавітава вельмі хваляваў лёс архіву нябожчыка, які ўтрымліваў шмат крыніцаў па гісторыі беларускага руху. У лісьце да

---

[130] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 28. Л. 20.

[131] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 13. Л. 17.

[132] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 13. Л. 17.

[133] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 31. Л. 19 зв.

паэткі ад 15 красавіка 1943 г. ён дзяліўся сваімі развагамі: *"Зараз на Вас ляжыць абавязак парупіцца, каб ягоныя персанальныя і грамадзкія архівы не загінулі, бо яны маюць надзвычайна важнае значэньне для гісторыі нашага Адраджэнчага руху. Я спадзяюся ўлетку пад'ехаць да Вас і папрацаваць над імі, бо зара[з] працую якраз над гісторыяй нашага Адраджэнчага Руху, прыводзячы да ладу свае архівы ўласныя, а таксама апрацоўваюы друкаваныя матар'ялы"*[134]. Латвійскаму беларусу не давялося, аднак, папрацаваць з праскім архівам. Вядома, што збор трапіў у рукі Івана Ермачэнкі, які ад вясны 1943 г. знаходзіўся ў Празе. Колішні кіраўнік БНС меў намер на базе архіву Васіля Захаркі стварыць у Празе беларускі архіў. У сувязі з гэтым ён зьвярнуўся да Кастуся Езавітава з просьбай перадаць яму частку ўласных дакумэнтаў[135]. Нягледзячы на досыць халоднае стаўленьне да гэтай просьбы, Іван Ермачэнка не адмовіўся ад далейшых кантактаў зь лідарам латвійскіх беларусаў. 19 студзеня 1944 г. ён прасіў Езавітава дапамагчы ў падрыхтоўцы працы, прысьвечанай узаемаадносінам паміж Нямеччынай і беларускім нацыянальным рухам у 1918 г. Але й гэтым разам супрацоўніцтва паміж двума старымі беларускімі дзеячамі не атрымалася. Магчыма, прычынай нежаданьня Кастуся Езавітава кантактаваць з Іванам Ермачэнкам было тое, што апошні меў вельмі напружаныя адносіны з многімі беларускімі дзячамі, зь якімі супрацоўнічаў латвійскі беларус. У сваю чаргу, Ермачэнка лічыў, што Езавітаў адвярнуўся ад яго з прычыны таго, што ён страціў пасаду кіраўніка БНС: *«Злуюся на Вас, што Вы не адпавядаеце на лісты; калі не хочаце пісаць, дык трэба аб гэтым мне адкрыта сказаць. У вадным з Вашых папярэдніх лістоў я бачыў адну фразу, зьмест якой мне вельмі падабаўся, бо Вы ў ім выказалі чарту свайго характару, якую я ў людзёх вельмі шаную: "Ніколі я не адварачваўся ад людзей толькі таму, што яны страцілі сваё становішча, якое займалі". Гэтыя словы ад Вас мне вельмі спадабаліся, бо адпавядалі майму аб Вас прадстаўленьню. Ці няўжош я змыліўся у Вашым характару. Не можа быць!»*[136].

У багатай карэспандэнцыі Кастуся Езавітава часоў вайны можна знайсьці лісты ад беларускіх дзеячаў з Польшчы, Аўстрыі, Нямеччыны, Эстоніі. Вядома, што кіраўнік латвійскіх беларусаў высылаў выданьне "Новы Шлях" дзеячам філіі Беларускага аб'яднаньня ў Бела-Падлясцы. Ён намагаўся прапагандаваць веды пра беларускую працу на Беласточчыне, друкуючы ў часопісе "Новы Шлях" артыкулы беластоцкіх беларусаў пра Падляшша[137]. Кіраўнік латвійскіх беларусаў

---

134 НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 13. Л. 19.

135 НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 28. Л. 19.

136 НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 31. Л. 24.

137 НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 31. Л. 28.

наладзіў распаўсюд беларускай прэсы таксама ва Ўсходняй Прусіі. Восеньню 1943 г. ён заклікаў кіраўніка філіі Беларускага прадстаўніцтва ў Кёнігсбэргу Віктара Рамановіча паруліцца пра выданьне беларускага сельскагаспадарчага часопісу[138].

Безумоўна, тэмп працы й працавітасьць Кастуся Езавітава ня можа ня ўражваць. З прычыны занятасьці на пасадзе старшыні Беларускага аб'яднаньня і ўдзелу ў выдавецкіх праектах ён быў вымушаны неаднаразова адмовіцца ад школьнага кіраваньня. Так, калі ў 1943 г. ішло абмеркаваньне адкрыцьця беларускай гімназіі ў Дзьвінску й кандыдатура Езавітава планавалася на пасаду кіраўніка гэтай школы, ён катэгарычна адмовіўся. У лісьце да кіраўніцтва дзьвінскага аддзелу Беларускага аб'яднаньня дзеяч пісаў: *"Кандыдатуру сваю на дырэктара Дзьвінскае беларускае гімназіі я зьняў ужо ў 1942 годзе, бо дужа заняты ў Рызе. І зараз становішча не зьмянілася, бо я нават узяў безграшовы вотпуск з кіраваньня Вячэрняй школай, каб мець магчымасьць працаваць грамадзка і літаратурна. Цэлы шэраг артыкулаў з гісторыі беларускага адраджэнчага руху рыхтую я зараз, а таксама працую над артыкуламі аб беларускай культуры. Мне трэба даць магчымасьць працаваць у літаратурна-публіцыстычным кірунку для карысьці ўсяе нашае справы, а для гімназіі трэба шукаць чалавека, якія толькі гімназіяй і заняўся-б... [...] Няўжо Вы не разумееце, што зрываць мяне з Рыгі — шкодна ў агульна-беларускім маштабе. Таму дзякуючы Вас за памяць, я змушаны адхіліць прапазіцыю Вашую аб дырэктары-арганізатары. Ня можна мне раскідацца далей: і выдавец кніг і нотаў, і аўтар шэрагу артыкулаў, якія, я хачу верыць, маюць некаторую карысьць для нашае справы, і старшыня Аб'еднаньня — ужо ўсяго гэтага за дужа многа і я хацеў бы сябе звольніць дзе-адчаго, як звольніўся часова ад кіравання школаю... [...] Чым змагу тутака — дапамагу, як дапамагаць стараюся заўсёды, але прыехаць у Дзьвінск ня маю магчымасьці"*[139].

Грамадзкая праца не дазваляла Кастусю Езавітаву засяродзіцца на старым каханьні, якім была паэзія. Нягледзячы на тое што ён неаднойчы браўся за паэтычнае пяро, адсутнасьць вольнага часу заўсёды станавіліся на перашкодзе. У адным зь лістоў да Ларысы Геніюш ён прызнаўся: *"Час ад часу зьяўляецца знаёмы і дарагі настрой, калі ў душы недзе звоніць і пад пяро просіцца, але шалёная сьпешка і вечныя неадкладныя справы — змушаюць пісаць нешта іншае: дзелавы ліст, або палітычна-грамадзкі артыкул, ці якую-колечы афіцыйную паперу, ці нават цэлы агляд-мемарандум. Праўду казаў нябожчык Жылка, якога пэўна-ж і Вы ведаеце па Празе: альбо паэта, альбо*

[138] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 17. Л. 3—4.

[139] LVVA. P-712 f. 1 apr. 5 lieta. 30 lp.

*грамадзкі дзеяч!"*[140]. Заангажаваньне ў розных галінах беларускага жыцьця патрабавала ад яго надзвычайнага высілку, каштавала ня толькі часу, але й здароўя. У адным зь лістоў (ад 17 студзеня 1943 г.) Езавітава да сяброўкі чытаем: *"Прашу выбачыць, што і Вам пішу на машыне, але ў мяне ад пісаньня ўжо гадоў з 20 абразаваўся вечны мазоль на сярэднім пальцы і бываюць дні, калі я не толькі не магу ўзяць пяро ў рукі, але і відзець яго не магу без некаторай нэрвовай дрожы, якая ідзе ад пальца ў локаць і далей у плячо. Дык апошнім часам толькі на машыне і пішу"*[141]. На пагаршэньне фізычнай формы старшыня Беларускага аб'яднаньня скардзіўся ў лісьце ад 22 жніўня 1942 г. да кс. Адама Станкевіча: *"Мне персанальна шмат даводзіцца хадзіць і, літаральна, бегаць па розных установах, парадкуючы розныя справы нашы грамадзкія, што адбірае шмат часу і энэргіі, а нават і здароўя, бо часамі астаешся без поўдніка, або без вячэры. За год страціў пуд з цвэрцю вагі. Проста ўжо боязна за сваё існаваньне, але тэмпу не зьмяншаю. Ці хопіць мяне яшчэ на пару год — шчыра кажу — ня ведаю. Далучаю картку, з якой убачыце, як моцна я здаў за апошніх 8 месяцаў пасьля нашага спатканьня"*[142].

Дзякуючы захаваным архіўным матэрыялам за вобразам Кастуся Езавітава як актыўнага нацыянальнага дзеяча магчыма ўбачыць звычайнага чалавека з эмоцыямі й перажываньнямі. У гады вайны ён быў самотны. Сувязь з роднымі ў Беларусі — бацькам Барысам Ануфрыевічам Езавітавым, братам Барысам і маці Стэфанідай Данілаўнай і сястрой Зінаідай — ён страціў яшчэ да вайны. Малодшы брат, Барыс Езавітаў (1903 г. н.), які жыў у Оршы, дзе працаваў вэтэрынарам у Аршанскай вэтлякарні, быў арыштаваны 21 траўня 1933 г. Асуджаны 9 ліпеня 1933 г. калегіяй АДПУ як *"член контррэвалюцыйнай шпіёнскай шкодніцкай арганізацыі"* на 5 гадоў зьняволеньня. Тым часам бацька, пэнсіянэр Барыс Ануфрыевіч Езавітаў, які жыў у Віцебску, трапіў пад сякеру рэпрэсіяў падчас "вялікага тэрору". 10 кастрычніка 1937 г. ён быў асуджаны "тройкай" за антысавецкую агітацыю на 10 гадоў лягераў. Верагодна, што абодва Езавітавы загінулі ў сталінскіх катоўнях[143]. У пэрыяд нямецкай акупацыі латвійскі беларус безвынікова спрабаваў высьветліць іх лёс па лініі Міжнароднага Чырвонага Крыжа. З гэтай мэтай ён таксама кантактаваўся са старшынём БНС Іванам Ермачэнкам і бургамістрам Віцебску Ўсеваладам Родзькам. Аднак гэтыя захады не прынесьлі чаканых вынікаў. У лісьце да школьнага

[140] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 13. Л. 19.

[141] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 22. Л. 1.

[142] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 21. Л. 28.

[143] Гл.: http://www.stalin-list.org/node/51452.

інспэктара Дзятлава дзеяч у роспачы пісаў: *“ім галава не баліць, нават на лісты не адказалі”*[144]. Праўда, потым Езавітаву ўдалося адшукаць маці, якая жыла ў Віцебску. Захвалася нешматлікая карэспандэнцыя паміж імі, зь якой вынікае, што маці беларускага дзеяча жыла ў вялікай нястачы. Сын намагаўся падтрымаць яе грашова, але ва ўмовах ваеннага часу дапамога была нязначная[145]. Нядоўга, аднак, яму давялося цешыцца сыноўскім шчасьцем: ужо ўзімку 1943 г. маці памерла[146]. 5 траўня 1943 г. Кастусь Езавітаў пісаў да кампазітара Аляксея Туранкова: *«Калі-б Вам спадабаўся верш Кастусёнка на бал. 45-й у “Першы крок” пад назовам “Маей матулі”, дык быў бы рады, калі [б] Вы паклалі яго на музыку. Сваю матулю я дужа любіў і сумаваў па ёй за межамі. Ёй і напісаў гэты вершык у адну з сумных хвілінаў»*[147].

Грамадзкая праца й зьвязаныя зь ёй цяжкасьці не спрыялі асабістаму жыцьцю. Пра свае сямейныя адносіны ён згадваў у адным зь лістоў да Андрэя Якубецкага: *«Былі і на мяне спробы паўплываць “Паберагі сябе!” ды інш., а не дык і “Пашкадуй мяне!” Але-ж з аднэй жонкаю, якую я моцна шанаваў і сёнека шаную, я разышоўся пасьля выхаду з турмы ў 1930—1931 годзе, а другой запрапанаваў жыць, але не зьвязваць ейнага імя з маім, каб да яе не чапляліся. Абедзьвем шчыра дзякую за іхні розум і згоду»*[148]. Другая жонка Езавітава, настаўніца Галіна Нікіфароўская, напярэдадні нападу Нямеччыны на СССР разам з групай іншых пэдагогаў паехала на сельскагаспадарчую выставу ў Маскву, адкуль з пачаткам вайны была эвакуяваная за Волгу[149]. Дзеяча вельмі непакоіў лёс жонкі. Не жадаючы ёй нашкодзіць, ён нейкі час намагаўся не падпісвацца ў прэсе ўласным прозьвішчам[150]. Пра сваю тугу й сум па жонцы ён пісаў матулі: *“Апошнім часам нешта асабліва многа думаецца аб Галіне. Ідзе ўжо другая зіма, як яе няма ў хаце. Часта сьніцца яна мне. Апошні раз бачыў зусім нейкі дзіўны сон... […] Калісьці мы ўмовіліся, што кождага 13-га чысла мы ўвечары будземо думаць адзін аб адным, дзе-б мы ні былі. І вось кождага 13-га ўвечары мне неяк асабліва бывае сумна. Нягледзячы на тое, што няма ніякае надзеі на хуткі мір і спатканьне, я ўсё-ж маю глыбокую надзею, што ў гэтым годзе яна зьвернецца да нас. Магчыма, што яна пападзе ў якую-небудзь занятую немцамі мясцовасьць, а стуль*

[144] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 14. Л. 8.

[145] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 24. Л. 3.

[146] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 22. Л. 21.

[147] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 18. Л. 8.

[148] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 21. Л. 4.

[149] Беларускае жыцьцё ў Латвіі // Раніца. 20 лістапада 1941. С. 3.

[150] LVVA. P-712 f. 1 apr. 6 lieta. 8 lp.

*ужо прыедзе ў Латвію"*[151]. Аднак спадзяваньні былі дарэмныя. Галіна Нікіфароўская здолела вярнуцца ў Латвію толькі пасьля заканчэньня нямецкай акупацыі.

Год 1944 быў апошнім, калі Кастусь Езавітаў працаваў на беларускай ніве ў акупаванай Латвіі. Нямецка-савецкі фронт няўхільна рухаўся на захад. У апошнія месяцы нямецкай акупацыі Беларусі галоўная ўвага Езавітава была зьвернутая на бацькаўшчыну. 22 чэрвеня 1944 г. у Рызе адбыўся зьезд сябраў Беларускага аб'яднаньня, на якім дзеяч быў накіраваны ў якасьці дэлегата ад беларусаў Латвіі на Другі Ўсебеларускі кангрэс[152]. Езавітаў узяў удзел у гэтым мерапрыемстве, падчас якога выступіў у дыскусіі[153]. Пасьля заканчэньня кангрэсу ён на непрацяглы час вярнуўся ў Рыгу, але ў сувязі з распачатым наступам савецкіх войскаў мусіў рушыць на Захад. Улетку 1944 г. Езавітаў назаўсёды пакінуў краіну, у якой яму было наканавана жыць і дзеіць цягам чвэрці стагодзьдзя.

Нягледзячы на тое што ваенны пэрыяд "латвійскай адысеі" Кастуся Езавітава складаў усяго некалькі гадоў, гэта быў час вельмі бурнай актыўнасьці. Яго дзейнасьць у разгляданы час складана ацаніць адназначна. Найбольшыя насьцярогі й спрэчкі выклікае яго стаўленьне да акупантаў. Няма сумневу, што дзеяч шчыра верыў у ажыцьцяўленьне беларускіх нацыянальных памкненьняў пры дапамозе Трэцяга рэйху. Погляды лідара латвійскіх беларусаў варта, аднак, разглядаць у кантэксьце грамадзка-палітычных і міжнародных працэсаў, якія тады адбываліся. Як многія тагачасныя дзеячы беларускага руху, Кастусь Езавітаў на супрацоўніцтва з гітлераўцамі глядзеў перадусім праз прызму таго, што яно можа даць беларускай справе. Лічыў, што галоўным заданьнем беларускага руху на гэтым этапе ёсьць нацыянальная агітацыя сярод шырокіх масаў жыхарства, якую належыць ажыцьцяўляць незалежна ад вонкавых абставінаў. Цяпер мы ведаем, што стаўка на Бэрлін была пазбаўленая шанцаў на посьпех. Варта, аднак, памятаць, што ў часе, у якім давялося жыць і працаваць Езавітаву, гэта не было такім відавочным. Яскрава сьведчыць пра гэта факт, што ў выпадку многіх беларускіх дзеячаў калябарацыя з Трэцім рэйхам была вынікам складаных і працяглых дылемаў.

Не павінен выклікаць ніякіх сумневаў іншы аспэкт дзейнасьці Езавітава ў гады вайны. Ягоны ўнёсак у арганізацыю беларускага жыцьця ў Латвіі ва ўмовах акупацыі складана пераацаніць. Менавіта яму

[151] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 24. Л. 3.

[152] Езавітаў, Кастусь. Кароткі жыцьцяпіс... С. 192.

[153] Другі Ўсебеларускі Кангрэс. Матарыялы, сабраныя і апрацаваныя на падставе пратакольных запісаў камісіяй Беларускай Цэнтральнай Рады пад рэдакцыяй праф. Р. Астроўскага. Мюнхэн, 1954. С. 50.

належыць роля арганізатара й лідара латвійскіх беларусаў. Аналіз даступных матэрыялаў дазваляе меркаваць, што беларуская дзейнасьць была немагчымая без асабістага заангажаваньня гэтага дзеяча, які шмат у чым нагадваў чалавека-ўстанову. Ён адначасова выступаў як арганізатар і кіраўнік Беларускага аб'яднаньня, пэдагог, журналіст, выдавец. Застаючыся чалавекам, бязьмежна адданым сваёй працы, даваў прыклад працавітасьці й бездакорнасьці іншым беларускім дзеячам. Сваё заангажаваньне ў нацыянальную працу Езавітаў тлумачыў шчырым жаданьнем прысьвяціць сябе справе, якую ён абраў тады, калі быў яшчэ маладым афіцэрам былой царскай арміі. У сьвятле вядомых нам фактаў ня будзе перабольшаньнем сказаць, што служэньню беларускай нацыянальнай ідэі гэты чалавек ахвяраваў усё сьвядомае жыцьцё. Як сам пісаў 6 верасьня 1942 г. у лісьце да Вацлава Іваноўскага, *"я ўсёды, дзе працую, аддаю Бацькаўшчыне ўсе свае сілы без астачы, бо чуюся, як першы беларускі палкоўнік, мабілізаваным усё сваё жыцьцё"*[154].

[154] НАРБ. Ф. 458. Воп. 1. Спр. 21. Л. 13.

**Вольга Зубко**
*Віньніца*

# ЯНКА ГЕНІЮШ І САЮЗ УКРАІНСКІХ ЛЕКАРАЎ У ЧСР (1922—1940) (ПРАЦА Й ПАЎСЯДЗЁННАСЬЦЬ)

*Кожны мае права на ўласнае меркаваньне,*
*але ня кожны мае права на ўласныя факты.*
Дэніэл Патрык, сэнатар штату Нью-Ёрк

Імя Янкі Геніюша (1902—1979) — знакавае для беларускай гісторыі, у першую чаргу дзякуючы ягонай грамадзка-палітычнай дзейнасьці. Вельмі паказальная ў гэтым пляне "сьвежая" публікацыя Алёны Ціхановіч "Пра што дапытвалі Ларысу й Яна Геніюшаў: рэдкія дакумэнты"[1], дзе ўласна прафэсійнай дзейнасьці таленавітага лекаравэнэроляга, прыхільніка, зазначым, сапраўднай эўгенікі, а таксама яго штодзённаму побыту нададзена вельмі мала ўвагі. Паспрабуем ліквідаваць згаданы прагал.

У 1922 г. у Празе пачаў сваю працу Саюз украінскіх лекараў у ЧСР (абрэвіятура — СУЛЧ). Гэтая прафэсійная супольнасьць згуртавала 120 спэцыялістаў, 10 зь якіх былі вэтэрынарамі. (Нацыянальны склад СУЛЧ: 1 — армянін, 3 — беларусаў, 1 — расеец, 115 — украінцаў[2].) Супольнасць была створаная ў першую чаргу з мэтай дапамогі лекарам на прафэсійнай ніве, а ўжо затым дзеля іх навуковага ўдасканаленьня. У 1922—1935 гг. Саюз узначальваў Барыс Мацюшэнка — першы кіраўнік Дэпартамэнту народнага здароўя УНР, пазьней міністар народнага здароўя, кіраўнік замежнага бюро Ўкраінскага Чырвонага Крыжа. У 1935—1940 гг. яго зьмяніў Юры Дабрылоўскі. А ў 1940 г. на пасаду прыйшоў Мікалай Завальняк. Ад самага пачатку намесьнікам і скарбнікам быў абраны Іван Рыхла, які заставаўся на сваёй пасадзе праз усе васямнаццаць гадоў працы СУЛЧ[3]. Янку Геніюшу, па гіроніі

[1] Ціхановіч, Алена. Пра што дапытвалі Ларысу і Яна Геніюшаў: рэдкія дакумэнты. Гл.: https://www.svaboda.org/a/29080039.html.

[2] Наріжний, Симон. Українська еміграція. Культурна праця української еміграції між двома світовими війнами. 1918—1939 рр. Ч. I. Прага, 1942. С. 225.

[3] Центральний державний архів вищих органів влади та управління України в м. Києві (ЦДАВОВУ). Ф. 4411 (Спілка українських лікарів в м. Празі (1922—1940)). Оп. 1. Спр. 19.

лёсу, давялося працаваць пры кожным з кіраўнікоў і зь нязменным скарбнікам і сакратаром. Мяркуем, што сяброўства ў СУЛЧ было для Янкі Генюша фактычна спосабам ня страціць мэдычную практыку й адбыцца як лекару. Справа ў тым, што дыплём Карлавага ўнівэрсытэту для грамадзяніна іншай краіны (ня чэха) патрабаваў адначасовай наяўнасьці й так званага рэвэрсу — пісьмовага абавязацельства не займацца мэдычнай практыкай на тэрыторыі Чэхаславаччыны. Пра гэта "паклапацілася" Мэдычная палата ЧСР, баючыся канкурэнцыі. Сытуацыя пагаршалася яшчэ й тым, што калі лекар пасьля заканчэньня Карлавага ўнівэрсытэту цягам трох гадоў ня меў мэдычнай практыкі, ягоны дыплём губляў юрыдычную моц. У той жа час удзел у СУЛЧ ствараў магчымасьці мець адпаведную практыку па спэцыяльнасьці.

Самымі плённым гадамі працы СУЛЧ былі, вядома ж, 1920-я. Актыўнасьць арганізацыі была настолькі заўважная, што на яе дзейнасьць зьвярнула ўвагу чэхаславацкае кіраўніцтва. У 1923—1928 гг. зь дзяржаўнага бюджэту ЧСР СУЛЧ атрымала 672 000 чэхаславацкіх кронаў. Гэта былі вялікія грошы па тых часах, што адпавядалі 22 400 амэрыканскіх даляраў, зыходзячы з афіцыйнага курсу чэхаславацкай кроны да даляру 100:2,96 або 100:3[4].

Атрымаўшы грашовую дапамогу, СУЛЧ сканцэнтравалася першым часам на выданьні "Ўкраінскага мэдычнага весьніка". Так, у 1923—1925 гг. выйшлі ажно шэсьць нумароў гэтага непэрыядычнага выданьня. У "УМВ" увайшлі арыгінальныя распрацоўкі ў галінах клінічнай, тэарэтычнай, сацыяльнай мэдыцыны й згаданай вышэй эўгенікі, а таксама медычнай тэрміналёгіі. Варта адзначыць, што часопіс атрымаў прызнаньне Сусьветнай арганізацыі лекараў.

Як ужо было сказана, Янка Генюш быў (і, хутчэй за ўсё, да канца жыцьця заставаўся) прыхільнікам сапраўднай эўгенікі, ідэі якой распрацоўваў, у прыватнасьці, Барыс Мацюшэнка. Толькі ў адрозьненьне ад колішніх навукоўцаў, а затым спэцыялістаў-мэдыкаў Трэцяга рэйху, якія бачылі ў эўгеніцы магчымасьці захаваньня і ўдасканаленьня "найвышэйшай расы", Янка Генюш разумеў эўгеніку (дзякуючы сваёй спэцыялізацыі ў вэнэралёгіі — рашэньні вострых праблемаў гінэкалёгіі, уралёгіі й андралёгіі), па-першае, як навуку, якая павінна была вырашаць сацыяльныя задачы (перш за ўсё выкараненьня прастытуцыі, а зь ёй і шэрагу псыхічных адхіленьняў і захворваньняў), а па-другое, як навуку аб спадчыннай "бацькоўскай" вартасьці. На навуковых зьездах ў Празе (першы адбыўся 3—7 кастрычніка 1926 г., другі — 20—24 сакавіка 1932 г.) Янка Генюш падтрымаў даклады Мацюшэнкі, які падкрэсьліваў: *"Толькі нядаўна эўгеніка й зьвязаныя зь ёй дысцыпліны*

---

[4] Зубко, Ольга. Створення та діяльність Українського вищого педагогічного інституту ім. М. Драгоманова в Празі (1923—1933 рр.). Дисертація кандидата історичних наук: 09.00.12. КНУТШ. Київ, 2010. С. 85—86.

*ў краінах Заходняй Эўропы й асабліва ў Амэрыцы, стала сыстэматычна вывучаць спадчынныя якасьці індывідаў, сямействаў, групаў і народаў. І на гэтым шляху яна робіць, варта адзначыць, вялізарныя посьпехі. Стан здароўя цяперашняй чалавечай генэрацыі будзе залежаць якасна й колькасна ад тых фактараў, якія ўплываюць на генэратыўны працэс і могуць адбіцца на ўласьцівасцях будучых генэрацыяў. У той жа час разам з дасьледаваньнямі агульнагігіенічных умоваў жыцьця народу, залежных ад формаў і ступеняў ягонай культуры й сацыяльна-эканамічнага ладу, мы павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на тыя фактары, якія нясуць пагрозу спадчынным якасьцям індывідаў, а ў сусьветным маштабе — шкодзяць генэрацыйным уласьцівасьцям цэлага народу...". "...Сучасная цьвярозая сацыяльная палітыка, пабудаваная на асновах прэвэнтыўнасьці, імкнецца ня толькі лекаваць хворых, але й не дапускаць хваробы, а ещё памяншаць колькасьць тых, хто мае патрэбу ў мэдычнай дапамозе...". "...Для захаваньня здароўя чалавека трэба клапаціцца пра захаваньне жыццёвых функцыяў і пра тое, каб людзі нараджаліся па магчымасьці з добрымі біялягічнымі прыкметамі". "...Мужу й жонцы проста неабходныя так званыя шлюбныя эўгенестычныя парады: дашлюбныя мэдычныя агляды, вывучэньне радаводаў, афіцыйная забарона шлюбаў з хворымі на сухоты, вэнэрычныя й псыхічныя захворваньні..."»*[5]. Відавочна, Янка Геніюш разам з Барысам Мацюшэнкам адстойвалі неабходнасьць мэдыка-генэтычных кансультацыяў фактычна за 70—80 гадоў да таго, як гэтыя кансультацыі зьявіліся на прасторах былога СССР.

У 1923—1926 гг. другая частка чэскіх датацыйных сродкаў, з улікам такіх распаўсюджаных ў эміграцыйным асяродзьдзі ў той час тыфусу, сухотаў, "інфлюэнцы" й хваробаў, якія перадаюцца полавым шляхам, пайшла на арганізацыю адукацыйных лекцыяў, чытаньне рэфэратаў з абмеркаваньнямі. Напрыклад, для моладзі з Камітэту дапамогі ўкраінскім і беларускім студэнтам у 1923 г. было прачытана 8 лекцыяў "*пра сухоты ды полавыя хваробы*" і 11 рэфэратаў па аказаньні першай мэдычнай дапамогі[6]. А паколькі вэнэролягамі ў СУЛЧ былі выключна Янка Геніюш і Іван Ортынскі (вэнэроляг-патолягаанатам), абодва яны апынуліся задзейнічанымі. Дарэчы, да чытаньня лекцыяў і рэфэратаў для моладзі з Камітэту дапамогі ўкраінскім і беларускім студэнтам быў дапушчаны таксама тэрапэўт-гігіеніст Уладзімер Налівайка. Гэты лекар, родам з Падольля, у 1922—1923 гг. меў вялізарную мэдычную

---

[5] Ганіткевич, Ярослав. Борис Матюшенко — український вчений-гігієніст і суспільно-політичний діяч (до 120-річчя від дня народження) // Вісник соціальної гігієни та організації охорони здоров'я України. 2003. № 3. С. 78—82.

[6] Гл.: Наріжний, Симон. Українська еміграція... С. 226.

практыку сярод беларусаў (у Белавескай Пушчы, Пінску, Драгічыне й Брэсьце-Літоўскім)[7].

Падчас Усеславянскіх лекарскіх зьездаў у Бялградзе ў 1926 г. і Варшаве 1927 г. Янка Геніюш падтрымаў пазыцыю СУЛЧ, якая рашуча пакінула шэрагі Ўсеславянскага мэдычнага саюзу з прычыны ягонай рэарганізацыі не паводле нацыянальнага, а паводле дзяржаўнага прынцыпу. Варта адзначыць, што нацягнутымі былі адносіны ў СУЛЧ і з чэхаславацкімі калегамі з тых жа палітычна-прафэсійных прычынаў. Пра гэта трапна, хоць і пазьней, у 1930-я, адзначала жонка Янкі Геніюша Ларыса Антонаўна: *“У Чэхах я адразу адчула вельмі нямілую зьяву — там выразна не любілі т. зв. чужынцаў. Іх было ў Празе многа, ад яўрэяў пачынаючы. У Чэхаславаччыне была сапраўдная дэмакратыя, свабода, там кожны мог вучыцца й жыць. Праўда, працаваць ня ўсім дазвалялася, бо было шмат сваіх беспрацоўных…”*[8].

У 1928 г. сябры СУЛЧ яшчэ пасьпелі выдаць Мэдычны лацінаўкраінскі слоўнік (рэдактарам выступіў Мартырый Галін). Разам з Іванам Ортынскім доктар Янка Геніюш курыраваў спэцыялізаваную вэнэралягічную тэрміналёгію. Але набліжаўся 1929 год, і сацыяльнапалітычная ды эканамічная сытуацыя ў ЧСР радыкальна зьмяняліся. Чэхаславакію не абышоў сусьветны эканамічны крызіс. Адзінае адрозьненьне ад іншых краінаў было ў тым, што ён зацягнуўся тут да 1935 г. Для ўсіх без выключэньня эмігрантаў імкліва закрываўся й так закрыты рынак працы. У чэскім грамадстве і ў эміграцыйным асяродзьдзі толькі й гаварылася пра тое, дзе й як здабыць грошы. *«…Чэхаў я часам не разумела — яны маглі плакаць, калі птушанятка ўпала з гнязда, і спакойна праходзіць міма чалавека ў бядзе. Усе ў іх лічылася на “коруны”, і кожным трэцім словам у гутарцы іхняй была “коруна”»*, — успаміналa Ларыса Антонаўна[9]. Для эмігрантаў-прафэсіяналаў у той час адзіным шанцам зарабіць прыстойныя грошы былі летнія адпачынкі чэскіх участковых лекараў, якія на час свайго адпачынку павінны былі знайсьці сабе годную замену. За адзін-два месяцы можна было зарабіць суму, што дазваляла больш-менш зводзіць канцы з канцамі наступныя паўгода. Магчыма, і Янка Геніюш выкарыстоўваў “гадавы шанец”.

Калі “пані дактарова” прыехала з сынам у Прагу ў 1937 г., “пан доктар” ужо працаваў у кабінэце чэскага лекара Вітэслава Градзіла: *“…Мой муж працаваў, сказаць, нелегальна за маленькія грошы. Ён замяшчаў лекара — спэцыяліста скурнавэнэрычных хваробаў, чэскага легіянера палкоўніка Вітэслава Градзіла, які працаваў сам на Чэскім Градзе*

[7] Тамсама.

[8] Геніюш, Ларыса. Споведзь / падрыхтоўка тэксту, прадмова, каментарыі М. М. Чарняўскага. Мінск, 1993. С. 53.

[9] Геніюш, Ларыса. Споведзь. С. 62.

*(Крамлі), а муж увесь час вёў ягоны кабінет. Градзілу падабалася чэснасьць і працавітасьць беларуса, а муж меў там харошую й цікавую працу…”*[10]. Хоць наогул *“беларусы, за малымі выняткамі, жылі вельмі бедна. Загадкава багата жыў толькі адзін Іван Абрамавіч Ермачэнка. Быў гэта лекар, які меў багатыя апартаменты ў цэнтры Прагі і інзэраты* [рэкламу. — **В. З**.] *аб сваім кабінэце даслоўна ва ўсіх чэскіх газэтах. Гэта быў вельмі добра апрануты сярэдняга росту нехуды чалавек, які вечна ўсьміхаўся, але зусім не выклікаў да сябе даверу. Жанаты ён быў з нейкай рускай з Румыніі, якая таксама скончыла мэдыцыну (зубніха) на беларускую стыпэндыю…”*[11]. Так працягвалася да сакавіка 1938 г., калі ў Чэхаславакію прыйшоў Трэці рэйх.

З узьнікненнем пратэктарату Багеміі й Маравіі ў 1939 г. у дзьверы ўсіх без выключэньня эмігрантаў, якія засталіся на той час у ЧСР, настойліва стукала Другая сусьветная вайна. Янку Геніюша, які працаваў у тым жа кабінэце Вітэслава Градзіла, нават мабілізавалі на нейкі час: *“У мяне бяз мужа было даволі цяжкае матэрыяльнае становішча. Справа ў тым, што доктар Градзіл плаціў мужу вельмі нямнога, а каб таньней яму было, дык у працоўнай кніжцы ганарар мужа быў запісаны напалову меншы, бо тады меней плаціць на касу хворых для работніка і інш. Калі ж мужа забралі, дык плацілі мне толькі паводле кніжкі. Градзіл ведаў гэта, але яму такое было абыякава. На карткі пражыць было цяжка, а дакупіць што ўжо не было за што. Гатоўкі ў нас не было ніколі, бо замнога было галодных і наагул патрабуючых. Я расказала ўсе фраў Піпэр, і яны парадзілі мне сходзіць да доктара Вэхтэра, які быў начальнікам Саюзу нямецкіх лекараў. Час быў неспакойны й кожны шчасьліва пражыты дзень быў ужо сам па сабе выйгрышам”*[12].

У 1940 г. дзейнасьць СУЛЧ была афіцыйна забароненая новымі “гаспадарамі жыцьця”. Заканчваючы пра СУЛЧ, нельга не згадаць і пра ў пэўным сэнсе кур’ёзнае “фірмовае адрозьненьне” ўсіх без выключэньня славянскіх лекараў-эмігрантаў. І расейцы, і ўкраінцы, і беларусы для функцыянальнай падтрымкі мозгу й карыснасьці ў цэлым, аддавалі перавагу… танным нардычным селядцам. Гэта быў як бы своеасаблівы мэдычны знак, таўро, пах якога ўсё ж старанна маскавалі[13].

У побытавым пляне жыцьцё доктара Янкі Геніюша мала чым адрозьнівалася ад жыцьця шараговага беларускага эмігранта. Яму, як і ягоным “калегам па зыходу”, прыйшлося вырашаць у першую чаргу пытаньні жыльля й харчаваньня. Жыльлёвае пытаньне было ці не

---

[10] Геніюш, Ларыса. Споведзь. С. 53.

[11] Геніюш, Ларыса. Споведзь. С. 69.

[12] Геніюш, Ларыса. Споведзь. С. 73.

[13] ЦДАВОВУ. Ф. 4411. Оп. 1. Спр. 15. Арк. 5.

самае вострае для беларусаў. Як i ўкраiнцы, беларускiя выгнаньнiкi не маглi дазволiць сабе будаўнiцтва (жыльлёвы каапэратыў) або набыцьцё дому (кватэры, пакою). Кошт прыватнага дому ў мiжваеннай ЧСР быў роўны 90000—100000 кронаў. Кошт двухпакаёвай-трохпакаёвай кватэры варыяваўся ў межах 68000—75000 кронаў[14]. У адрозьненьне ад расейцаў яны ня мелi стартавага капiталу. Таму абмяжоўвалiся арэндай танных пакояў для сямейных i адзiнокiх або iнтэрнатамi выключна для адзiнокiх. Арэнда жыльля для эмiгрантаў фактычна была арэндай голых сьценаў, якiя звычайна мiнусавалi калi не на трацiну, дык на добрую палову сумы мiнiмальнага эмiграцыйнага бюджэту (1000—1200 кронаў).

Мэбля ў здымным доме (кватэры, пакоi) не заўсёды была ў наяўнасьцi, як i тое, што ня ўсе дамы (пакоi, кватэры) мелi газ (пераважна ў кухнях карысталiся газавымi прымусамi, а ацяплялася жытло дровамi) i былi электрыфiкаванымi (дзе-нiдзе яшчэ заставалiся газавыя лямпы). Аднак у суму арэнды не ўваходзiлi так званыя камунальныя плацяжы. Уласна з камунальных плацяжоў у ЧСР абавязковай была толькi аплата водаправоду й каналiзацыi. (Кiраўнiцтва Рэспублiкi вельмi баялася розных эпiдэмiяў, у першую чаргу халеры, i таму старанна сачыла за санiтарным станам вады.) Як правiла, у прыватных i шматкватэрных дамах мелася ванна, ваду для якой награвалi ў катлах (душ у той час яшчэ быў прадметам раскошы). На арэнду жыльля iстотна ўплывала ягонае разьмяшчэньне. Чым далей ад цэнтру гораду, тым нашмат таньней. Найбольш прымальным варыянтам быў прыгарад.

Так, да 1937 г. Янка Генiюш здымаў адзiн з танных пакояў разам зь нейкiм студэнтам: *"Муж быў на кватэры, з нейкiм студэнтам наймаў пакойчык. Мы прыехалi ў апошнiя днi 37-га года, мужа калега паехаў да сваiх бацькоў. Пару тыдняў мы пажылi разам, а пасьля завёз муж мяне й сваяго цiкаўнага залiшне хлопчыка, якi ўжо пасьпеў яму паламаць стрэлкi на гадзiньнiку (бо чаму яны круцiлiся?), у Моджаны. Гэта быў прыгарад Прагi… Сам ён жыў i працаваў у Празе, да нас часам прыяжджаў"*[15]. Але ад 1939 г. канчаткова пасялiўся зь сямьёй у чэхаславацкай сталiцы: *"Жылi мы ў вялiкiм доме, т. зв. Кашпараку. Жыла там, за малымi выняткамi, пераважна бяднота, эмiгранты й прастытуткi. Адныя з iх — румынскiя яўрэi — уцякалi з Прагi й пакiнулi нам сваю кватэру. Гэта быў невялiчкi пакойчык, i цераз карыдор куханька. Недарагая кватэра й для нас аккурат… Гэта быў чацьвёрты паверх, найвышэй у гэтым доме"*[16].

---

[14] Ковалёв, Михаил. Повседневная жизнь российской эмиграции в Праге в 1920—1930-е годы: исторические очерки. Саратов, 2014. С. 32—33.

[15] Генiюш, Ларыса. Споведзь. С. 61.

[16] Генiюш, Ларыса. Споведзь. С. 61.

Другім ня менш істотным пытаньнем для беларускіх эмігрантаў было харчаваньне. Але калі ў 1920-я беларускія эмігранты маглі здаволіць голад у каапэратыўных сталовых, створаных украінскімі братамі па няшчасьці (сталовая на "Казім Намесьці", "Наша Хата", "Україна", "Сталовая жанчын-хрысьціянак"), то ў 1930-я многія недаядалі. Не былі выключэньнем і лекары. Дзесьці ў мінулым заставаліся стравы роднай беларускай, украінскай, чэскай і славацкай кухняў, на сталах усё часьцей прысутнічаў хлеб, гародніна (пераважна памідоры, агуркі, цыбуля) і танны амэрыканскі смалец, "які зьядаўся тонамі"[17]. *«Чэскі быт памалу ўваходзіў у мае прывычкі,* — успамінала Ларыса Антонаўна. — *Каб лепей варыць, я купіла сабе кулінарную кніжачку й з цікавасьцю прачытала там, як прыгатаваць на абед "жабі стэгінка" (жабіныя кулыпачкі). У гэты час мне прыпомніліся нашыя каўбасы, сальцэсоны, вантрабянкі, парасяты і індыкі, якія так смачна падавалі на Беларусі. Жабы, гэта ж, мусіць быць, несусьветная несмач! Але чэскія кнэдлікі мне падабаліся»*[18].

Што датычыць адзення, то для многіх лекараў у ЧСР, у прыватнасьці й для Янкі Геніюша, асноўным дрэс-кодам заставаўся дзелавы касьцюм ("двойка", "тройка") і, вядома ж, белы халат. Паўсядзённы гардэроб беларускага эмігранта, як правіла, папаўняўся з улікам дарагоўлі адзеньня й абутку (напрыклад, у 1920-я пара восеньскіх жаночых скураных ботаў або мужчынскіх чаравікаў каштавала ад 65—80 да 150—180 кронаў, у 1930-я цана абутку ўзрасла ўдвая), дзякуючы розным дапаможным фондам, гуманітарнай дапамозе або самастойным шляхам "*з густам у доўг*" у краўца.

Як вядома, пасьля 1956 г. Янка Геніюш разам з жонкай Ларысай Антонаўнай вымушаныя былі жыць у Зэльве. Савецкай уладзе давялося прызнаць калясальны эміграцыйны досьвед і веды ў галіне нэўралёгіі, сэксалёгіі й вэнэрычных захворваньняў "непакорлівага лекара". У мясцовым шпіталі й паліклініцы Янку Геніюшу давялося працаваць, да ўсяго іншага яшчэ й тэрапэўтам ды хірургам. Досьвед сяброўства ў СУЛЧ і вырашэньня побытавых эміграцыйных пытаньняў, як і моцны дух, чэпкі розум, вера ў Беларусь, прыдаліся доктару і ў ягоным жыцьці на радзіме.

---

[17] Прохода, В. Записки непокірного. Книга ІІ. На чужині. Національно-культурна діяльність, боротьба за існування. З перебування на чужині. Новий Ульм, 1972. С. 11.

[18] Геніюш, Ларыса. Споведзь. С. 87.

*Кніжная паліца*

***Зьміцер Матвейчык***
*Менск*

# УСПАМІНЫ ЗЫГМУНТА МІНЕЙКІ

*Мінейка, Зыгмунт. З тайгі пад Акропаль: Успаміны з 1848—1866 гадоў / пераклад, уклад., прадмова, камент. Марыны Запартыкі. Мінск: Лімарыус, 2017. 568 с.: іл. (Беларуская мемуарная бібліятэка).*

Сёньня беларуская гістарыяграфія перажывае пэрыяд свайго актыўнага разьвіцьця. Нягледзячы на шматлікія перашкоды арганізацыйнага, фінансавага й ідэйнага характару, штогод зьяўляюцца глыбокія навуковыя дасьледаваньні, вартыя ўвагі як прафэсійных дасьледчыкаў, так і шырокага кола аматараў мінуўшчыны. Тэматыка адпаведных выданьняў самая разнастайная, і адзін з кірункаў, які распрацоўваецца, — гісторыя Беларусі пэрыяду ўваходжаньня ў склад Расейскай імпэрыі, ці часам у заходняй тэрміналёгіі — *“доўгага XIX стагодзьдзя”*. Прычым асобнае месца ў гэтых дасьледаваньнях займае паўстаньне 1863—1864 гг., асабліва ў апошнія гады, што вызначана істотным павелічэньнем увагі да яго пасьля 150-гадовага юбілею падзеі, які адзначаўся ў 2013 г.

Аднак дасьледаваньні паўстаньня маюць цэлы шэраг складанасьцяў. Гэта і неадназначнасьць самой падзеі й яе наступстваў, з чаго вынікаюць самыя супрацьлеглыя ацэнкі; і вялізны комплекс рукапісных крыніцаў, якія захоўваюцца ў разнастайных айчынных і замежных сховішчах, а адсюль — неабходнасьць вялікай мабільнасьці пры правядзеньні дасьледаваньня; і вялікая колькасьць асабістых сьведчаньняў удзельнікаў і сучасьнікаў падзей, якія дайшлі да нас у выглядзе мэмуарных і эпісталярных помнікаў; і г. д.

На мэмуары варта зьвярнуць асаблівую ўвагу, бо для беларускага чытача яны даступныя толькі часткова. Успаміны ўдзельнікаў задушэньня паўстаньня — расейскіх чыноўнікаў і вайскоўцаў — напісаныя на рускай мове, і іх даступнасьць для кожнага канкрэтнага чытача вызначаецца толькі даступнасьцю для яго таго ці іншага выданьня, дзе яны апублікаваныя. Мэмуары ж непасрэдных удзельнікаў паўстаньня й зьвязаных зь імі асобаў (у першую чаргу іх сваякоў) напісаныя пераважна па-польску, і тут самым непасрэдным чынам паўстае праблема веданьня мовы. Адпаведна, пытаньне зь перакладам такіх твораў на беларускую мову сёньня стаіць дастаткова востра.

Немагчыма казаць, што ўспаміны ўдзельнікаў паўстаньня ў Беларусі не перакладаліся да гэтага часу. У апошнія гады на старонках




беларускіх пэрыядычных і працяглых выданьняў выйшлі пераклады некаторых невялікіх твораў — Яўгена Броэль-Плятэра, Браніслава-Мірона Нарбута, Вандаліна Шукевіча, Юзэфы Абязерскай, Фэлікса Ражанскага, Тадэвуша Корзана. Аднак згаданымі перакладамі сьпіс фактычна абмяжоўваецца, выключэньні зь яго будуць складаць толькі некаторыя ўрыўкі, напрыклад, з успамінаў Якуба Гейштара, Апалёніі Серакоўскай (Далеўскай), Яна Яноўскага й іншых пра Канстанціна Каліноўскага[1]. З улікам таго, што толькі апублікаваных на польскай мове мэмуарных твораў па гісторыі паўстаньня ў Беларусі маецца некалькі дзясяткаў, зробленае на сёньня варта прызнаць толькі кропляй у моры.

Выдавецтва “Лімарыус” працягвае рэалізоўваць свой праект па выданьні ўспамінаў ураджэнцаў Беларусі (альбо пра Беларусь) XIX—XX стст. у межах сэрыі “Беларуская мэмуарная бібліятэка”. У 2017 г. убачыла сьвет чарговая кніга — пераклад успамінаў удзельніка паўстаньня 1863—1864 гг. Зыгмунта Мінейкі. Для выдавецтва гэта своеасаблівы тэматычны працяг ужо зробленых у папярэдні пэрыяд выданьняў — нататак аднаго з галоўных удзельнікаў падзей 1863—1865 гг. у Беларусі Міхаіла Мураўёва (2016) і (у меншай ступені) паўстаньнем выкліканых успамінаў гісторыка Мікалая Маліноўскага (2014).

Пераклад успамінаў Мінейкі зроблены літаратуразнаўцай Марынай Запартыкай і зьяўляецца самым аб’ёмным з усіх зробленых да цяперашняга часу перакладаў на беларускую мову мэмуараў удзельніка паўстаньня 1863—1864 гг. Аб’ём выкананай працы ня можа ня ўражваць. Больш за 450 старонак уласна мэмуараў і дададзеных да іх лістоў, каля 70 старонак арыгінальнага й перакладнога камэнтатарскага апарату, 20 старонак прадмовы — гэта толькі колькасныя паказчыкі выдадзенай кнігі.

[1] Каліноўскі, Кастусь. За нашую вольнасць: Творы, дакументы / уклад., прадм., паслясл., пер. і камент. Г. Кісялёва. Мінск: Міжнар. фонд “Бел. кнігазбор”, 1999. 459 с., [2] л. іл. (Беларускі кнігазбор. Серыя 2, Гісторыка-літаратурныя помнікі).

У прадмове адзначаецца: *“Успаміны З. Мінейкі выкарыстоўвае ўжо не адно пакаленне польскіх гісторыкаў у якасці крыніцы інфармацыі пра падзеі паўстання”* (с. 5). Памылку ў гэтай фразе магчыма ўбачыць толькі ў тэрміне “польскіх”, бо ня толькі польскія, але й беларускія дасьледчыкі выкарыстоўваюць мэмуары ў сваіх працах. Першае выданьне, зробленае ў 1971 г. у Варшаве, увяло Мінейку ў беларускі навуковы дыскурс. Прынамсі з пачатку 1990-х гг. прысьвечаныя яму публікацыі няспынна зьяўляліся ў навуковай і навукова-папулярнай формах (аўтарства Адама Мальдзіса, Уладзімера Арлова, Генадзя Кісялёва, Вітаўта Чаропкі, Тацьцяны Пятроўскай і інш.). Увогуле, менавіта дзякуючы сваім успамінам Мінейка ёсьць адной з найлепш вядомых постацяў паўстаньня сярэдняга зьвяна (камандзір невялікага атраду).

Таксама неабходна адзначыць, што ўспаміны ахопліваюць значна большы храналягічны пэрыяд, чым уласна паўстаньне, якое зьяўляецца ягонай цэнтральнай тэмай. Яны пачынаюцца з падзей 1848 года (перасьледаваньне хадачковай шляхты, уплыў пазнанскіх падзей на сытуацыю ў Беларусі й інш.) і заканчваюцца 1869 годам (выездам з Парыжу ў Асманскую імпэрыю). Калі ж яшчэ ўлічыць некаторыя дададзеныя да іх лісты, то гэтую мяжу ўвогуле можна аднесьці да пачатку XX ст. Таму колькасьць зьмешчанага ў іх фактаграфічнага матэрыялу магчыма прызнаць як вялікую. Тут маюцца зьвесткі пра сотні людзей і мясцовасьцей, дзе давялося пабываць Мінейку падчас свайго бурлівага жыцьця. Гэтым твор нагадвае ўспаміны іншага паўстанца зь Беларусі й падарожніка XIX стагодзьдзя — Ігната Дамейкі.

Сярод пададзеных зьвестак ва ўспамінах Мінейкі маюцца некалькі тэматычных сюжэтаў, якія павінны выклікаць асаблівую цікавасьць дасьледчыкаў гісторыі. Напрыклад, менавіта ім зроблена адно з найбольш аб’ёмных апісаньняў Польскай вайсковай школы ў Італіі ў пэрыяд яе знаходжаньня ў Генуі ў 1861 г., пакінуты шматлікія зьвесткі пра падарожжа групы навучэнцаў са школы ў Аўстрыйскую імпэрыю й іх жыцьцё ў Румыніі, а таксама адно з апісаньняў бітвы пад Грахавіскамі — найбольш важнай у Паўднёвай Польшчы ў пачатковы пэрыяд паўстаньня. У гэтых мэмуарах зьмешчаныя адзінае вядомае да гэтага часу апісаньне бою ля вёскі Расолішкі Ашмянскага павету ў 1863 г., дзе быў разьбіты ашмянскі паўстанцкі атрад. Успаміны падаюць адныя з найбольш аб’ёмных звестак пра дзейнасьць у Санкт-Пецярбургу брата Канстанціна Каліноўскага Віктара, які актыўна ўдзельнічаў у фармаваньні й падтрыманьні кола навучэнцаў зь земляў былой Рэчы Паспалітай (гэта, дарэчы, адно зь невялікіх адкрыцьцяў М. Запартыкі, бо ў выданьні 1971 г. Э. Казлоўскім была зроблена, як аргумэнтавана сьцьвярджаецца (с. 515—516), памылковае атаясамленьне згаданай у тэксьце Мінейкі асобы зь іншым

чалавекам — Балтазарам Каліноўскім). Таксама тут магчыма знайсьці цікавыя зьвесткі пра штодзённае жыцьцё навучэнцаў Мікалаеўскага інжынэрнага вучылішча ў Санкт-Пецярбургу, у тым ліку пра такія моманты, якія рэдка трапляюць у афіцыйныя дакумэнты — дзедаўшчына, гомасэксуальныя згвалтаваньні, масавыя бойкі й да т. п. Адным словам, пераацаніць каштоўнасьць успамінаў Зыгмунта Мінейкі як гістарычнай крыніцы цяжка, нягледзячы на наяўныя ў тэксьце храналягічныя неадпаведнасьці альбо фактаграфічныя памылкі, якія вынікаюць з таго, што твор ствараўся праз амаль 60 гадоў пасьля апісаных падзей. Таму нават саму ініцыятыву перакладчыцы, што ўзялася за такую вялікую й важную для айчыннай гістарыяграфіі й літаратуры працу, варта ацаніць толькі станоўча.

Тым ня менш кніга не пазбаўленая некаторых недахопаў і памылак, якія былі зроблены на розных этапах яе падрыхтоўкі. На іх варта спыніцца больш падрабязна.

Па-першае, пераклад зроблены не паводле арыгінальнага рукапісу, які захоўваецца ў Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве, а паводле выданьня 1971 г. Пры гэтым нават сама перакладчыца слушна адзначае, што ў першым выданьні “*цэнзурай былі выкінутыя часткі, што былі скрайне антырускіх поглядаў, якія ён* [Мінейка] *выказваў у сваіх разважаньнях*” (с. 24). Усяго ў тэксьце маецца ажно 22 (!) купюры. Што дазволена цэнзуры савецкага часу, тое не дазволена сучаснаму навукоўцу! Інакш кажучы, якімі б “*антырускімі*” ні былі погляды Мінейкі, ніякія навуковыя прынцыпы не дапускаюць іх цэнзураваньня, бо яны разам зь іншымі яго схільнасьцямі, перакананьнямі і ў цэлым ладам мысленьня зьяўляюцца неад’емнай часткай ягонай асобы, а твор — помнік сваёй эпохі незалежна ад таго, што́ сучаснаму чалавеку падабаецца ў ёй альбо не. Безумоўна, абраны перакладчыцай спосаб істотна палегчыў ёй працу, бо не патрабаваў якіх-небудзь паездак за межы гораду Менску (асобнік кнігі маецца нават у зборах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі), аднак ён адбіўся на цэласнасьці твору. Што ж тычыцца пытаньняў арганізацыйнага характару, то Кракаў сёньня ня можа лічыцца цяжкадаступным для беларускага дасьледчыка, тым больш на працягу некалькіх гадоў, пакуль вялася праца над перакладам кнігі й камэнтаваньнем (2010—2011), а затым яна чакала свайго выхаду (да 2017). Апрача таго, пераважная большасьць рукапісных матэрыялаў са збораў Ягелонскай бібліятэкі даступныя на мікрафільмах у Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве, што аблягчае патэнцыйную паездку яшчэ больш.

Па-другое, памылковы пераклад некаторых тэрмінаў. Найбольш яскравым прыкладам тут будзе зьяўляцца польскі тэрмін “*obywatel*”, які ў тэксце шмат разоў перакладзены як “грамадзянін” (с. 21, 26, 39, 42, 48, 51 і інш.). Гэты тэрмін у польскай тэрміналёгіі XIX ст. меў вялікую

колькасьць значэньняў і на сучасную беларускую павінен перакладацца ў залежнасьці ад кантэксту. Для прыкладу варта прывесьці вытрымку з аднаго з дарэвалюцыйных польска-рускіх слоўнікаў:

***Obywatel**, -а м. обитатель, житель, см. **Mieszkaniec**; || гражданин, мещанин, горожанин, см. **Mieszczanin**; || помещик; || обыватель (właściciel domu albo miejsca)*[2].

Як бачна з вытрымкі, ніводзін з прыведзеных тэрмінаў не адпавядае сучаснаму паняцьцю “грамадзянін” — асобы, прыналежнай да дзяржавы-рэспублікі. Для доказу варыянту перакладу як “памешчык” варта прывесьці яшчэ адно выказваньне — сучасьніка Мінейкі й таксама ўдзельніка паўстаньня Баляслава Ліманоўскага — у тэксьце за 1893 г. (прыводзім яго менавіта ў польскім арыгінале):

*...którzy zajmowali się właściwie poszukiwaniem panien posażnych, ażeby w ten łatwy sposób zostać obywatelami*[3] *— jak się wyrażali — to jest właścicielami większych dóbr ziemskich*[4].

Нават той сучасны польска-беларускі слоўнік 2004 г., які выкарыстоўваўся для перакладу, падае наступныя варыянты:

***obywatel** м. **1.** грамадзянін; жыхар; [...] **2.** уст. памешчык*[5].

Апрача таго, у Расейскай імпэрыі інстытут прыналежнасьці да дзяржавы існаваў ня ў выглядзе грамадзянства, а ў выглядзе падданства. Тэрмін жа “грамадзянін” азначаў прыналежнасьць да канкрэтнага саслоўя — грамадзянаў (рус. — “*граждан*”), якое існавала з 1831 г. У сувязі з гэтым фраза, напрыклад, “*грамадзяне Вільні раілі*” (с. 31) у адносінах да 1812 г. проста пазбаўленая сэнсу, бо ў гэтым годзе ў Расейскай імпэрыі не існавала грамадзянаў — ні ў дзяржаўным, ні ў саслоўным сэнсе. Тэрмін “*obywatel*”, які ўжываецца Мінейкам ва ўспамінах, павінен перакладацца найбольш часта як “жыхар” (у адносінах да насельніцтва гарадоў) альбо “памешчык” (калі размова вядзецца пра зямельных уладальнікаў у сельскай мясцовасьці), і толькі ў рэдкіх выпадках, калі размова ідзе пра пачатак XX ст. і ў абстрактным станоўчым сэнсе, тэрмін можа перакладацца як “грамадзянін”, як, напрыклад, гэта зроблена на с. 73 (“*учынак сапраўднага грамадзяніна*”), с. 79 (“*страціў годнага грамадзяніна*”) і да т. п.

---

[2] Dubrowski, P. Dokładny słownik języka polskiego i ruskiego: część polsko-ruska: часть польско-русская. Warszawa: Ferdynand Hösick, 1901. S. 361.

[3] Вылучана ў арыгінале.

[4] Limanowski, B. Urywek z opowiadania mego przyjaciela // Upominek : książka zbiorowa na cześć Elizy Orzeszkowej (1866—1891). Kraków: Gebethner, 1893. S. 364.

[5] Волкава, Я.; Авілава, В. Польска-беларускі слоўнік: звыш 40 000 слоў. Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2004. С. 385.

Прыведзеныя вытрымкі таксама выразна паказваюць, што для перакладаў гістарычных тэкстаў неабходна карыстацца ня толькі сучаснымі, але й тагачаснымі слоўнікамі і абавязкова ўлічваць гістарычны кантэкст выкарыстаньня тэрміналёгіі.

Яшчэ пэўная колькасьць тэрмінаў перакладзена памылкова альбо некарэктна з прычыны фанэтычнага сугучча польскіх і беларускіх словаў і іх пэўнай сэнсавай блізкасьці. Варта падкрэсьліць: менавіта блізкасьці, але ня тоеснасьці. Прычым у кожным канкрэтным выпадку ступень блізкасьці неабходна вызначаць паводле сэнсу. Найбольш яскравы прыклад у гэтым шэрагу — польскі тэрмін *"kraj"*, які Марына Запартыка ва ўсіх выпадках перакладае як "край". І гэта прытым, што нават сучасны слоўнік падае некалькі варыянтаў перакладу:

***kraj, ~ u*** *м.* ***1.*** *край, краіна, старонка; […]* ***2.*** *радзіма, айчына; […]*[6].

У беларускай мове тэрмін "край" звычайна ня мае канкрэтнай прывязкі й патрабуе ўдакладненьня — які канкрэтна край маецца на ўвазе. Таму фразы, напрыклад, *"выратаваць край і вярнуць страчанае шчасце"* (с. 37), *"дазвол на вяртанне ў край"* (с. 60), *"вярнуўся ў край"* (с. 65), *"уцягваць у гэтую справу край"* (с. 168) і іншыя альбо выглядаюць простымі палянізмамі, альбо губляюць свой сэнс і становяцца незразумелымі. У польскай мове XIX ст. *"kraj"* часта зьяўляецца сынанімічным сучаснаму беларускаму тэрміну "радзіма". І таму варыянты перакладу згаданых фраз, як *"выратаваць радзіму і вярнуць страчанае шчасьце"*, *"дазвол на вяртаньне на радзіму"*, *"вярнуўся на радзіму"*, *"уцягваць у гэтую справу радзіму"*, былі б значна больш зразумелымі. Апрача таго, у вялікай колькасьці выпадкаў у тэксьце Зыгмунта Мінейкі тэрмін *"kraj"* больш карэктна перакладаць на сучасную беларускую мову як "краіна".

Памылковым варта прызнаць пераклад як *"сьпісаў"* слова *"spsiał"* (с. 70), якое павінна быць перакладзеным як "сапсаваўся", "апусьціўся", нават (у меншай верагоднасьці) "дэградаваў" альбо, магчыма, прамой калькай "ссабачыўся".

Па-трэцяе, наяўнасьць у тэксьце перакладу пэўнай колькасьці іншых палянізмаў. Па ўсім тэксьце як у зваротнай форме, так і ў паважлівай пакінуты польскі тэрмін "Пан" (жан. — "Пані"), напрыклад *"Шаноўны Пан"* і *"Выдатна памятаю Пана"* (с. 60), *"Пра Пана даўней шмат чуў"* (с. 61), *"паненка"* (с. 40, 131, 143, 222, 231, 359 і інш.). На сучасную беларускую мову гэтыя тэрміны ўсё ж павінны перакладацца як "спадар" (жан. "спадарыня", "жанчына" альбо іншае — у залежнасьці ад кантэксту), "Вы" (у зваротнай форме) і "дзяўчына". Варта заўжды памятаць, што пераклад зроблены на **сучасную беларускую** мову,

[6] Волкава, Я.; Авілава, В. Польска-беларускі слоўнік. С. 255.

а не на неўнармаваную (альбо слаба ўнармаваную) беларускую мову XIX ці пачатку XX ст. Адпаведна, у перакладзе павінны ўжывацца менавіта **сучасныя** нормы, а ня польскія канструкты XIX ці пачатку XX ст. Пагоня ж за перадачай такім спосабам нейкага *"каларыту часу"* ці *"духу эпохі"* — ня больш, чым міф. У сучаснай беларускай мове існуе слова "пан", аднак яно ўжываецца ў іншым сэнсе — як назва прадстаўніка пануючага саслоўя, сэнсава супрацьпастаўленага саслоўю ніжэйшаму, і менавіта ў такім сэнсе некалькі разоў яно цалкам слушна перакладзена Марынай Запартыкай, напрыклад *"Паніч, ратуй мяне!"* (с. 32—33), *"паселішча бедных паноў"* (с. 37), *"прымалі як вялікіх паняў"* (с. 445) і інш.[7].

Таксама палянізмамі неабходна прызнаць словы *"пад прэтэкстам"* (с. 67, 124, 208, 509; павінна быць "знайшоўшы (прыдумаўшчы) прычыну", "пад маркай" ці "апраўдваючыся"), *"у Вількамірскім"* (*"з Вількармірскага"*) і *"ў Мінскім"* (с. 71 і 90; павінна быць "на Вількаміршчыне", "з Вількаміршчыны" й "на Міншчыне"), *"панна"* (с. 43—44, 71, 132, 209, 215—216, 223 і інш.; павінна быць у залежнасьці ад кантэксту "спадарыня", "незамужняя" альбо "дзяўчына"), *"бацян"* (с. 75; павінна быць "бусел"), *"энтузіястычна"* (с. 119; павінна быць "з энтузіязмам"), *"маткі"*, *"матак"* (с. 32, 33, 87, 126, 404; павінна быць "маці"), *"пастанова"* й *"пастанавіць"* (с. 160, 164, 174, 175, 182, 208, 227, 257, 296, 420, 450 і інш.; павінна быць "рашэньне" й "вырашыць"), *"перамовіцца"*, *"перамаўляўся"* і да т. п. (с. 174, 176, 270, 310 і інш.; павінна быць у залежнасьці ад кантэксту "дамовіцца", "весьці перамовы" альбо "паразмаўляць"), *"выкшталцонасць"* (с. 186; тут павінна быць "вытанчанасьць"), *"хрышчоны"* (с. 80 і 81; павінна быць "хросны"). Тое ж тычыцца шматразова ўжыванага Мінейкам прыметніка *"dawny"* і аднакарэнных яму слоў *"dawniejszy"* і *"dawniej"*, якія Марына Запартыка перакладае ў некаторых выпадках палянізмамі *"даўні"*, *"даўнейшы"*, *"даўней"* (с. 25, 34, 61, 62, 67, 68, 170, 176 і інш.), у іншых больш карэктнымі "ранейшы" й "раней" (с. 30, 34, 55, 103 і інш.).

Апрача згаданага, палянізмы закраліся ў пабудову некаторых словазлучэньняў: *"праз два месяцы"* (с. 106; павінна быць "на працягу двух месяцаў"), *"выглядала на тое"* (с. 107; павінна быць "было падобна" альбо "было верагодна"), *"так афіцэры, як і салдаты"* (с. 116; павінна быць "як афіцэры, так і салдаты"), *"пастанова застацца ў краі"* (с. 127; павінна быць "рашэньне застацца на радзіме"), *"успамінаў з майго дзяцінства"* (с. 65; павінна быць "успамінаў пра маё дзяцінства", "успамінаў часоў майго дзяцінства" альбо проста "ўспамінаў майго

[7] Больш падрабязна пра варыянты перакладу гл.: Волкава, Я.; Авілава, В. Польска-беларускі слоўнік. С. 431, 432.

дзяцінства”) і аналягічнае вынесенае ў падтытул назвы “*Успаміны з 1848—1866 гадоў*”.

Па-чацьвёртае, наяўнасьць невялікай колькасьці русізмаў. Такімі неабходна прызнаць наступныя словы й словазлучэньні: “*сямейны савет*” (с. 80, 2 разы; павінна быць “сямейная рада”), “*адчытацца*” (с. 236; павінна быць “даць справаздачу”), “*ціха сябе весці*” (с. 215; павінна быць “ціха сябе паводзіць”), “*прыгатаваную для мяне лазню*” (с. 216; павінна быць “падрыхтаваную для мяне лазню”), “*з акон*” (с. 139; павінна быць “з вокнаў”), “*укладалі спаць*” (с. 97; павінна быць “клалі спаць”), “*пасродкам*” (с. 359; павінна быць “пры дапамозе” альбо “праз”).

Да гэтага ж шэрагу належыць словазлучэньне з вайсковай тэрміналогіі “*аддаваць чэсць*” (с. 106, 177), якое, на жаль, да цяперашняга часу не выпрацавала ў беларускай мове адэкватнага адпаведніка.

Па-пятае, непасьлядоўнасьць перакладу аднолькавых словаў у аднолькавым сэнсе. Гэта тычыцца, напрыклад, польскага слова “*egzamin*”, якое перакладаецца на беларускую як “*экзамен*” (с. 29, 44, 59, 311 і інш.) і “*іспыт*” (с. 119, 455, 550), адзін раз — нават у межах аднаго сказа (с. 455). Назоўнікі “*opowiadanie*”, “*opowieść*” і дзеяслоў “*opowiadać*” перакладаюцца: першыя — як “*расказ*” (с. 60), “*расповед*” (с. 36, 59, 62, 218, 348, 366 і інш.) і “*аповед*” (с. 43, 49, 67, 70, 78 і інш.), а другі — “*расказваць*” (с. 30, 67, 95, 146, 220, 271 і інш.), “*распавядаць*” (с. 49, 66, 70, 77, 205, 404 і інш.) і “*апавядаць*” (с. 345). Апрача таго, гэтыя варыянты выкарыстоўваюцца для перакладу іншых польскіх дзеясловаў: “*udzielić*”, “*wyłuszczać*”, “*przedstawić*”, “*powiadać*” і інш. Слова “*męczarnia*” перакладаецца як “*мукі*” (с. 114), “*мучэнні*” (с. 31) і “*пакуты*” (с. 28, 32, 41, 83, 106 і інш.).

Па-шостае, празьмернае выкарыстаньне сынанімііі й перакладчыцкай інтэрпрэтацыі арыгіналу. Пры перакладзе гістарычных тэкстаў заўжды неабходна памятаць: яны не зьяўляюцца літаратурнымі ў прамым сэнсе гэтага слова. Адпаведна, захаваньне аўтарскай тэрміналёгіі й структуры пабудовы фразаў павінна быць абавязковым ва ўсіх выпадках, дзе гэта магчыма. Гэта варта праілюстраваць наступным кароткім прыкладам: польская фраза “*o męczarniach więziennych Zana i innych ofiar narodowych*” перакладзена як “*пра арыштанцкія мучэнні Зана і іншых нацыянальных пакутнікаў*” (с. 31). Пры гэтым прамы пераклад славянскага слова “*więzienny*” — не “арыштанцкі” (у польскай мове таксама ёсьць слова “*aresztancki*”), якое мае да таго ж лацінскі корань і зьяўляецца прыметнікам ад слова “арыштант” (ня “арышт”), а “турэмны”. Гэтыя словы хоць і сэнсава блізкія, але ні ў якім разе ня тоесныя. Апрача таго, ня можа лічыцца карэктным пераклад слова “*ofiara*” як “*пакутнік*”, бо яго прамы беларускі пераклад — “ахвяра”. А тое, што слова “ахвяра” ўжываецца ў тым жа невялікім абзацы яшчэ раз, мо-

жа лічыцца некарэктным (дый тое, у зусім невялікай ступені) толькі з пункту гледжаньня сучаснай стылістыкі, што ў дадзеным выпадку цалкам непрымяняльна, бо ў самім арыгінале ўжываецца двойчы адно слова — *“ofiara”*. Уся ж фраза павінна перакладацца як *“пра турэмныя пакуты Зана і іншых нацыянальных ахвяр”*. У агульным сэнсе пераклад гэтай фразы Марыны Запартыкі нібыта нічога ня страчвае, але граматычна карэтным ён лічыцца ўсё ж ня можа.

Апрача гэтага, маюцца шматлікія выпадкі, калі залежныя часткі складаных сказаў у перакладзе неправамоцна пераведзены ў галоўную частку, дзеепрыметнікі й дзеепрыслоўі пераўтвораны ў дзеясловы, назоўнікі й іншыя часьціны мовы і да т. п. Аднак ізноў жа варта паўтарыцца: тут размова вядзецца менавіта пра неправамоцнае (альбо некарэктнае) пераўтварэньне й толькі некаторых фразаў і сказаў, бо ў большасьці выпадкаў пераўтварэньні зробленыя цалкам абгрунтавана.

Па-сёмае, вершаваныя ўстаўкі ў тэкст (на с. 55 і 91) пакінутыя неперакладзенымі альбо нетрансьлітараванымі. На с. 55 у беларускім тэксьце пакінута польскамоўнае чатырохрадкоўе, а яго вершаваны пераклад вынесены ў камэнтары ў канцы кнігі, хоць лягічней зрабіць наадварот. На с. 91 украінамоўны верш пакінуты ў лацінічным напісаньні, хоць яго трансьлітараваньне на кірыліцу ня толькі выглядае лягічным, але й не зьяўляецца тэхнічна складаным.

Па-восьмае, недастаткова якасная праца карэктара. Апрача таго, што ў ягоныя абавязкі павінна было ўваходзіць выпраўляць тэкст ад вышэйзгаданых палянізмаў, русізмаў і іншых недакладнасьцяў і памылак, невялікая колькасьць выяўленых памылак наўпрост тычацца ягонай працы: *“зняўшыся”* (с. 72) (павінна быць “заняўшыся”), *“брааць”* (с. 58) і інш. Таксама маюцца памылкі ва ўжываньні вялікай і малой літараў у напісаньні імёнаў уласных, назвах геаграфічных аб’ектаў, установ і пасадаў: *“крымская вайна”* (с. 52; павінна быць “Крымская вайна”), біскуп *“Віленскі”* (с. 65; павінна быць “віленскі”), *“Чорнага Мора”* (с. 72; павінна быць “Чорнага мора”), *“віленскі павет”* (с. 75, 80; павінна быць “Віленскі павет”), *“віленскай вайсковай акругай”* (с. 76; павінна быць “Віленскай вайсковай акругай”), *“віленская гімназія”* (с. 44, 45, 51, 60 і інш.; павінна быць “Віленская гімназія”) і інш. Да гэтага ж шэрагу належыць неўнармаванасьць ужываньня канчатку ў словах жаночага роду множнага ліку роднага склону, напрыклад *“зменаў”* (с. 50, 53, 57, 67, 69, 106, 207, 316) і *“змен”* (с. 92, 148, 181, 335), *“сілаў”* (с. 112, 127, 161, 199, 228, 233 і інш.) і *“сіл”* (с. 112, 115, 248, 276, 281, 285, 292 і інш.), *“сценаў”* (с. 147, 206) і *“сцен”* (с. 182); *“пакутаў”* (с. 86, 151, 229, 262, 264 і інш.) і *“пакут”* (с. 32, 93, 248 і інш.), і да т. п. Аднак нашмат больш памылак зроблена ў выкарыстаньні знакаў пунктуацыі — па тэксьце амаль на кожнай старонцы трапляюцца выпадкі, дзе коскі стаяць у непатрэбных месцах і не стаяць у патрэбных.

Па-дзявятае, камэнтатарскі апарат недастатковы. Хоць тут варта зрабіць агаворку. Яго няпоўнасьць можа быць вынікам не недастатковай працы перакладчыцы й камэнтатара, а проста абмежаванага бюджэту выданьня. Аднак некаторыя няпоўнасьці ўсё ж варта адзначыць. Напрыклад, некалькі разоў Мінейка ўжывае назву дзяржавы ў форме “Рэч Паспалітая Польская” (с. 55, 58, 90—91, 436), аднак зьмешчаны камэнтар да згадкі на с. 55 тычыцца толькі тлумачэньня дзяржавы Рэчы Паспалітай і не тлумачыць, чаму Мінейка ўжывае менавіта такую форму. Таксама адсутнічаюць камэнтары на некаторых асоб. На с. 71 згаданы Цэзар Плятэр і ў якасьці тлумачэньня — хто гэта — пададзена (с. 507) усяго толькі *“капітан польскіх войскаў”*. Хоць граф Цэзар Плятэр — асоба вядомая: камандзір паўстанцкага атраду ў Беларусі ў 1831 г., адзін з ініцыятараў заснаваньня ў Парыжы Таварыства Літоўскага й Рускіх Зямель, затым актыўны дзеяч каталіцкай плыні Вялікай эміграцыі й заможны памешчык, ён заслужыў сабе біяграфічны артыкул нават у агульнавядомым “Польскім біяграфічным слоўніку” (t. 26, s. 649—652), што робіць лёгкім напісаньне адпаведнага камэнтара. І падобны прыклад далёка не адзіны.

Апрача таго, варта структурна падзяляць заўвагі да тэксту самога аўтара (Зыгмунта Мінейкі) і камэнтары ўкладальнікаў, і першыя зьмяшчаць, як гэта зроблена ў выданьні 1971 г., не пасьля ўсяго тэксту, а на тых старонках, дзе зьмешчаныя фразы, да якіх яны прывязаны. Тэхнічна гэтаму нічога не перашкаджае, і любыя кампутарныя праграмы, з дапамогай якіх робіцца вёрстка, дазваляюць гэта рабіць без асаблівых складанасьцяў.

Тым ня менш усе выказаныя заўвагі, якімі б аб’ёмнымі яны не здаваліся, ні ў якім разе не зьніжаюць вялікай заслугі перакладчыцы і выдаўцоў. Варта паўтарыцца: рэцэнзаваная кніга — самы вялікі пераклад мэмуараў непасрэднага ўдзельніка паўстаньня 1863—1864 гг. на беларускую мову. Гэта адзін з самых каштоўных унёскаў у беларускую гістарыяграфію й мэмуарыстыку XIX ст. Апрача таго, указаныя недахопы нівэлююцца вялікім аб’ёмам тэксту, у цэлым добра падрыхтаванага, і могуць быць выпраўлены ў далейшых выданьнях (калі такія будуць). Да таго ж вельмі хочацца спадзявацца, што прыклад Марыны Запартыкі будзе ўспрыняты іншымі філёлягамі, якія возьмуцца за пераклад і падрыхтоўку да друку мэмуарных твораў іншых паўстанцаў зь Беларусі, што ўзбагаціць айчынную гістарыяграфію новым — цікавым і карысным — фактаграфічным матэрыялам.

***Сяргей Русецкі***
*Віцебск*

# ПРА БЕЛАРУСКІХ АРТЫСТАЎ У РАСЕЙСКІМ ВЫДАНЬНІ

*Близнюк, Михаил. Войной навек проведена черта… Вторая мировая война и русские артисты: под оккупацией, в Рейхе, в лагерях Ди-Пи. Москва: Старая Басманная, 2017. 1120 с.*

Відавочная небанальнасьць тэмы, на якую ўказвае назва таўстое кнігі Міхаіла Блізьнюка, і беларускі кантэнт, на які назва зусім ня ўказвае, прыцягнулі нашую пільную ўвагу да гэтага, безумоўна, годнага павагі выданьня. Агульныя ўражаньні самыя станоўчыя — аўтару ўдалося зрабіць кнігу цікавай і займальнай. “*Паказаць складаныя й драматычныя лёсы артыстаў*” —заяўленая мэта працы цалкам дасягнутая. Мы хацелі б адрэагаваць на беларускі яе складнік і перасьцерагчы чытача ад некаторых памылак.

Па-першае, выданьне не навуковае, а публіцыстычнае. Хоць у афіцыйным выдавецкім прэс-рэлізе ўтрымліваецца сьцьвярджэньне, што аўтар “*уводзіць у навуковы ўжытак шмат невядомых крыніц*”, дый сам Міхаіл Блізьнюк у кнізе называе яе “*дасьледаваньне*”. Нягледзячы на тое што дасьледчык скарыстаў сапраўды вялікую колькасьць крыніц, большасьць зь якіх складаюць матэрыялы акупацыйнай і эмігранцкай пэрыёдыкі, а таксама сабраныя аўтарам успаміны, усё ж стыль тэксту, падыходы да афармленьня яго й спасылак робяць кнігу публіцыстычнай.

Па-другое, абсалютна не зразумела, у якім зь ведамых значэньняў ужывае Міхаіл Блізьнюк тэрмін “рускі”. Нават у загаловак вынесены выраз “*рускія артысты*”. У першай частцы кнігі, прысьвечанай акупацыі, выклікае цікавасьць геаграфія. Ёсьць разьдзелы “Беларусь” (у якой чамусьці асобнае месца адведзена Навазыбкаву), “Паўночны Захад і Захад Расеі”, “Прыбалтыка”, “Паўночны Каўказ і Крым” і “Ўкраіна”. І калі, напрыклад, у Прыбалтыцы ці на Каўказе аўтара цікавяць сапраўды рускія артысты й калектывы (перш за ўсё па мове), то беларускія і ўкраінскія артысты залічаныя ў “рускія” без асаблівага разбору. Пагатоў дзіўна, бо дасьледчык у прынцыпе культурна ўнікае дэманстрацыі ўласных палітычных ці ідэалягічных перакананьняў, ня склалася ўражаньня й пра нейкі шавінізм. Аднак такая вольнасьць інтэрпрэтацыяў этнонімаў, ужываньне іх у якасьці палітонімаў ці ў нейкіх іншых непразрыстых для

чытача значэньнях яшчэ раз указваюць на ненавуковасьць падыходаў і мысьленьня, а таксама на пэўны налёт прапаганды, што дзіўна бачыць у кнізе, часткова прысьвечанай самой гэтай зьяве (прапагандзе).

Урэшце што да беларускага зьместу. Беларускі матэрыял расьцярушаны па ўсёй кнізе. Можна вылучыць такія яго блёкі: 1) спэцыяльны разьдзел у частцы, прысьвечанай нямецкаму акупацыйнаму рэжыму на савецкіх землях; 2) дзейнасьць беларускамоўнай бэрлінскай радыёстанцыі ў гады вайны; 3) дзейнасьць беларускіх калектываў і асобных артыстаў пад эгідай “Вінэты” і ў лягерах для перамешчаных асобаў у Нямеччыне напрыканцы вайны й пасьля яе завяршэньня; 4) асобныя нарысы, прысьвечаныя лёсам беларускіх артыстаў на чужыне (сьпевакі Вольга Лука (Ачыновіч), Павел Пракапеня, Пётра Конюх, танцор Васіль Міхайлаў). Таксама маюцца адзінкавыя згадкі беларускіх артыстаў у іншых кантэкстах.

Найбольшую каштоўнасьць мае агляд беларускіх тэатральна-канцэртных арганізацый, дзейнасьці беларускіх актораў і музыкантаў пад нямецкай акупацыяй (с. 17—34). Каштоўнасьць гэтага агляду ў тым, што Міхаіл Блізьнюк фактычна выступіў піянэрам у гэтай тэме. У якасьці крыніцаў аўтар выкарыстоўвае пераважна матэрыялы акупацыйнае пэрыёдыкі, у тым ліку й недаступнай цяпер у Беларусі. Аўтар прысьвяціў асноўную ўвагу тэатру ў Берасьці, Менскаму гарадзкому тэатру, тэатрам у Магілёве, Гомелі й Бабруйску, і, наколькі хапіла крыніцаў, зусім крыху згадваюцца тэатральныя ды музычныя калектывы Баранавічаў, Барысаву, Слоніму й інш.

Так, з тэкстаў Міхаіла Блізьнюка чытач даведваецца аб тым, што ўжо адразу пасьля ўстанаўленьня акупацыйнага рэжыму ў Берасьці, якое ўваходзіла ў склад рэйхскамісарыяту Ўкраіна, адкрыўся музычна-драматычны тэатар, у якім ставіліся апэрэты й драматычныя п’есы. Аўтара зьдзіўляе *“дзіўная заклапочанасьць немцаў арганізацыяй культурнага жыцьця на акупаванай тэрыторыі*”. Адказ на сваё пытаньне Міхаіл Блізьнюк знайшоў у данясеньні берасьцейскага гэбітскамісара за люты — сакавік 1943 г.: намаганьні немцаў скіраваныя на *“адцягненьне ўвагі насельніцтва ад палітычных памкненьняў”* (с. 18). Як гэта часта бывае ў гэтай працы, адсутнічае якая-кольвечы спасылка на архіў ці публікацыю прыведзенага данясеньня.

Найбольшую нашую цікавасьць выклікаў тэкст пра Менскі гарадзкі тэатар. Цікавасьць палягае на некаторым веданьні гэтае тэмы, а таксама на перакананьні, што Менскі гарадзкі тэатар быў самай значнай культурнай установай ва ўсёй акупаванай Беларусі (шмат гастраляваў), працаваў па-беларуску, меў даволі высокі прафэсійны ўзровень і ня быў установай прапагандысцкага кшталту, што вылучала яго з шэрагу іншых тэатраў, створаных нямецкімі акупантамі ці пад іх эгідай на акупаваных тэрыторыях Усходняй Эўропы. Пры напісаньні тэксту




пра Менскі гарадзкі тэатар Міхаіл Блізьнюк амаль цалкам даверыўся матэрыялам акупацыйнай пэрыёдыкі, а таксама ўспамінам актора драмы Міколы Счансновіча. Магчыма, аўтару не былі даступныя фонды Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва і Дзяржаўнага архіву Менскай вобласьці, у якіх захоўваецца дастатковая колькасьць матэрыялаў, каб уявіць сабе дзейнасьць Менскага гарадзкога тэатру і ўнікнуць некаторых памылак.

Так, напрыклад, Міхаіл Блізьнюк адзначае, што дырэктарам тэатру быў *"Ваня Краўчонак, якога зьмяніў Пётра Булгак"* (с. 21). У сапраўднасьці першым дырэктарам быў Ільля Надаў, другім — Яўген Краўчонак (ніякі ня Ваня), якога на нейкі час у ліпені 1942 г. зьмяніў Алесь Карповіч, потым дырэктарам быў Пётра Булгак (1942—1944), і ў самыя апошнія дні існаваньня тэатру — Мікола Зубковіч.

Аўтар ужывае выраз *«Менскі тэатр аднавіў працу 10 жніўня 1941 пастаноўкай пад назвай "Канцэрт"»* (с. 21). Аднак у Менску да вайны было некалькі тэатраў, а не адзін, да таго ж гэта ніякае не аднаўленьне, а абсалютна новы тэатар — тэатар, які й зьместам, і арганізацыйнай структурай (опэрная, драматычная, эстрадна-цыркавая трупы), і сваім статусам, выкліканым акупацыйным рэжымам, зусім розьніўся ад даваенных менскіх тэатраў. І ўрэшце, гэта быў звычайны канцэрт артыстаў опэры й эстрады, а ня нейкая няўцямная "пастаўноўка" пад назвай "Канцэрт".

Некаторыя дробныя памылкі дапушчаны ў пераліку пэрсанальнага складу опэрнай трупы (с. 21), якія аўтар узяў з газэтнай публікацыі. Так, пад *"Д. Самохиным"* трэба разумець артыста Дзьмітрыя Салохіна, пад *"Я. Щетихин"* — артыста Яўгена Шаціхіна, пад *"М. Гарф"* — піяністку Марыю Гарпф.

Міхаіл Блізьнюк падае цэны на квіткі ў тэатар, але ў сапраўднасьці яны вельмі адрозьніваліся залежна ад таго, драма гэта, ці опэра, ці канцэрт, ранішні ці вячэрні спэктакль, прэм'ерны ці шараговы.

Па сутнасьці, згаданымі зьвесткамі абмяжоўваецца аповед пра Менскі гарадзкі тэатар. Варта сказаць, што аўтар прыводзіць яшчэ надзвычай цікавыя ўспаміны Міколы Счансновіча, абсалютна не

спасылаючыся на іх паходжаньне, — пасьлядоўная кампілятыўнасць як мэтад, — тады як успаміны актора былі выдадзеныя яшчэ ў 1976 г. у Менску асобнай кнігай. Гэта ці не адзіная згадка ў савецкай мэмуарыстыцы тэатру пад нямецкай акупацыяй — разгорнутая, хоць і шмат у чым асьцярожная.

У дадатку да тэмы Менскага гарадзкога тэатру Міхаіл Блізьнюк прыводзіць гісторыю аднаго зь яго музычных кіраўнікоў — выдатнага беларускага дырыжора й кампазытара Мікалая Клаўса. Гледзячы па ўсім, аўтар пабудаваў яго складаную, надзвычай драматычную біяграфію на матэрыялах інтэрнэту, тады як у Беларускім дзяржаўным архіве кінафотафонадакумэнтаў захоўваецца матэрыял зьмястоўнай гутаркі музыказнаўцы Вольгі Брылон зь Мікалаем Клаўсам, а ў Беларускім дзяржаўным архіве-музэі літаратуры й мастацтва маецца асобны фонд кампазытара й дырыжора.

Блёк невялікай інфармацыі пра беларускую рэдакцыю радыё, якое вяшчала з Бэрліну (с. 260), не нясе нічога новага, да таго ж пераважна складаецца з успамінаў Міхася Забэйды-Суміцкага пра тое, як яму ўдалося адмовіцца стаць кіраўніком гэтай рэдакцыі. Застаючыся верным сваім прынцыпам, аўтар не спасылаецца на паходжаньне прыведзеных успамінаў.

У блёку пра дзейнасьць беларускіх калектываў і асобных артыстаў пад эгідай "Вінэты" і ў лягерах для перамешчаных асобаў у Нямеччыне ў канцы вайны й пасьля яе завяршэньня Міхаіл Блізьнюк распавядае пра дзейнасьць тэатральнай гастрольнай групы "Жыве Беларусь", пра лёсы Аўгена Кавалеўскага, Барбары Вержбаловіч (якую ён пасьлядоўна называе Варвара), Ірыны Жылінскай і Міколы Шчаглова. Не ўтрымаўся аўтар ад доўгай цытаты з кнігі ўспамінаў Галіны Руднік "Птушкі пералётныя" (цытаты ажно на пяць старонак).

А вось даволі ёмістыя нарысы пра беларускіх артыстаў на чужыне зьвяртаюць на сябе ўвагу й навізной фактаў, і паўнатой, і стылем. Так, вельмі каштоўным зьяўляецца матэрыял пра Вольгу Лука (Ачыновіч), артыстку опэры (лірыка-каляратурнае сапрана), абсалютна невядомую на радзіме. Салістка Менскага гарадзкога тэатру, пазьней Баварскага радыё й некаторых нямецкіх опэрных тэтраў — пра яе амаль ніхто не пісаў, за выключэньнем хіба што сучаснага расейскага праваслаўнага публіцыста зь Мюнхэну Анатоля Халадзюка. З гэтае ж прычыны ёсьць унікальным і матэрыял пра танцора беларускага паходжаньня Васіля Міхайлава. Куды больш вядомыя на радзіме Пётра Конюх і Павел Пракапеня. І калі тэкст пра Конюха не нясе нейкай новай інфармацыі, то нарыс пра Пракапеню надзвычай зьмястоўны й нават захапляльны, як і сам лёс гэтага артыста.

Творчы мэтад Міхаіла Блізьнюка зразумелы й шмат у чым даравальны — надзвычай шмат задачаў пастаўлена, можна сабе ўявіць, як доўга й аддана працаваў аўтар над сваёй у цэлым вельмі сымпатычнай

кнігай. Дадамо, што Міхаіл Іванавіч Блізьнюк у жыцьці называе сябе пісьменьнікам, і гэта шмат што тлумачыць. Беларускаму ж чытачу варта быць асьцярожным, хоць і хочацца падзякаваць аўтару за ўвагу да беларускае праблематыкі.

***Аляксандар Сълесараў***
*Менск*

# НОВЫ ДАКУМЭНТАЛЬНЫ ЗБОРНІК АБ ЦАРКОЎНЫМ ЖЫЦЬЦІ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ

*Мікалай (Мацукевіч), архіяпіскап. У малітве за Беларусь. Творы / уклад., прадмова, камэнтары Юрыя Гарбінскага. Нью-Ёрк — Люблін — Варшава: БІНІМ, Факультэт Паліталёгіі Ўнівэрсытэту Марыі Кюры-Складоўскай, ІСПАН, 2017. Т. 1. — 862 с.*

Найважнейшай умовай пасьпяховага разьвіцьця й дабрабыту кожнага народу зьяўляецца наяўнасьць у яго нутранага адзінства, абумоўленага адзінствам культуры, сьветапогляду й рэлігіі. Дваццатае стагодзьдзе прынесла беларускаму народу ня толькі магчымасьць стварэньня незалежнай дзяржвы й адраджэньня нацыянальнай культуры, але й шмат выпрабаваньняў, зьвязаных з сусьветнымі войнамі, зьменамі палітычных рэжымаў, савецкім таталітарызмам і эміграцыяй у заходнія краіны. Ад'езд у першай палове 1940-х гг. вялікай колькасьці беларусаў у Заходнюю Эўропу, а затым і ў Амэрыку выклікаў спыненьне на дзесяцігодзьдзі іх сувязяў з роднай краінай. Гэты разрыў зрабіў недасягальным ажыцьцяўленьне любых формаў узаемадзеяньня паміж разарванымі часткамі адзінага народу. Гэткае выпрабаваньне для беларусаў замежжа было ўзмоцненае выклікам іх нутранаму адзінству. Існаваньне шматлікіх супярэчнасьцяў нарадзіла палітычныя й царкоўныя разьмежаваньні, што пазбавілі беларускую дыяспару магчымасьці праводзіць адзіную палітычную лінію, кансалідавана разьвіваць і рэпрэзэнтаваць нацыянальную культуру, уладкоўваць царкоўнае жыцьцё.

Праблема адсутнасьці ўзаемаразуменьня й духоўнага адзінства паміж беларусамі ў розных краінах існуе й сёньня. Усьведамленьне неабходнасьці дасягненьня страчанай еднасьці патрабуе пошуку шляхоў для яе здабыцьця. На наш погляд, першым і найважнейшым крокам у кірунку да еднасьці беларускага народу зьяўляецца вывучэньне беларусамі ў мэтраполіі гісторыі й культурных дасягненьняў беларускай эміграцыі. Гэта таксама датычыць і пытаньня царкоўнай еднасьці паміж праваслаўнымі беларусамі. Праваслаўныя ў Рэспубліцы Беларусь адносяць сабе да Беларускай праваслаўнай царквы, якая знаходзіцца ў кананічнай еднасьці з Маскоўскім патрыярхатам. У той жа час з канца

1940-х — пачатку 1950-х гг. значная частка беларусаў замежжа адносяць сябе да Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ), а некаторыя належаць да Канстантынопальскага патрыярхату.

У 1946 г. епіскапат Беларускай мітраполіі ў эміграцыі ўвайшоў у склад Расейскай праваслаўнай царквы замяжой (РПЦЗ), што выклікала неразуменьне з боку значнай часткі беларускіх грамадзка-палітычных арганізацый, асобных сьвятароў і пэўнай часткі вернікаў. Намаганьнямі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі на чале з прэзыдэнтам Міколам Абрамчыкам былі створаныя ўмовы для адраджэньня Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, што адбылося 5 чэрвеня 1948 г. на Царкоўным Саборы ў г. Канстанца (Нямеччына). З прычыны адсутнасьці беларускіх архірэяў, гатовых падтрымаць ідэю беларускай царкоўнай незалежнасьці, створанае ў Кастанцы Часовае кіраўніцтва БАПЦ узначаліў япіскап Сергій (Ахатэнка), ярарх Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (УАПЦ). У лістападзе наступнага году Архірэйскі Сабор УАПЦ задаволіў просьбу ўраду БНР адносна прадастаўленьня япіскапу Сергію кананічнага дазволу на пераход у юрысдыкцыю БАПЦ і садзейнічаньня ў фармаваньні вышэйшай ярархіі БАПЦ праз удзел украінскіх архірэяў у хіратоніях беларускіх япіскапаў. 19 сьнежня 1949 г. у беларускім храме лягеру для перамешчаных асобаў у г. Розэнгайм (Нямеччына) адбылося высьвячэньне архімандрыта Васіля (Тамашчыка) у япіскапа Віленскага. Дарэчы адзначыць, што кандыдатура першага беларускага япіскапа была ўхваленая 14 сакавіка 1949 г. на паседжаньні Прэзыдюму Рады БНР, пасьля чаго інжынэр Уладзімер Тамашчык прыняў манаскі пострыг зь імем Васіля й сьвятарскі сан.

У наступны дзень пасьля хіратоніі япіскапа Васіля прайшла першая сэсія Сабору япіскапаў БАПЦ, у час якой было прынятае рашэньне аб абраньні япіскапа Сергія (Ахатэнка) першаіерархам БАПЦ з узьвядзеньнем яго ў сан архіяпіскапа. Другім саборным рашэньнем стала разьмеркаваньне сфэраў адказнасьці паміж беларускімі архіярэямі. З гэтага часу архіяпіскап Сергій стаў адміністратарам БАПЦ у Аўстраліі, а япіскап Васіль — адміністратарам БАПЦ у Эўропе, ЗША й Канадзе.

Узьнікненьне Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы пры непасрэднай падтрымцы БНР выклікала рэзка нэгатыўную рэакцыю з боку другога палітычнага цэнтру беларускай эміграцыі — Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР) на чале з Радаславам Астроўскім. Абвінаваціўшы стваральнікаў БАПЦ у парушэньні царкоўных канонаў і імкненьні да адраджэньня вуніі з Рыма-Каталіцкай царквой, прыхільнікі палітычнага курсу БЦР з пачатку 1950-х гг. пачалі ствараць беларускія прыходы ў юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату. На працягу чвэрці стагодзьдзя гэтую плыню ў царкоўным жыцьці беларускай дыяспары ўзначальваў протапрэсьвітар Мікалай

Лапіцкі (1907—1976). Не пакідаючы думкі пра стварэньне незалежнай беларускай праваслаўнай царквы, ён падкрэсьліваў неабходнасьць дасягненьня гэтай мэты кананічным шляхам і адмаўляўся вызнаваць кананічны статус БАПЦ.

На працягу доўгіх гадоў вывучэньне царкоўнай гісторыі беларускай эміграцыі для айчынных дасьледчыкаў было вельмі складаным з прычыны далекай адлегласьці, а таксама недаступнасьці й закрытага характару большасьці царкоўных архівасховішчаў дыяспары. Але ў 2000-я гг. гэтая праблема была часткова вырашаная дзякуючы дакумэнтальным публікацыям у часопісе "Запісы БІНіМ", выданьню кніжнай сэрыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны", а таксама публікацыям крыніц і дасьледаваньняў Натальлі Гардзіенкі, Алега Гардзіенкі, Юрыя Гарбінскага, Лявона Юрэвіча й інш. Вялікае значэньне ў справе азнаямленьня беларускіх гісторыкаў з жыцьцём беларускіх прыходаў Амэрыкі юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату мае дакумэнтальны зборнік "Лапіцкі Мікалай. У служэньні Богу й Беларусі"[1], які пабачыў сьвет у 2005 г. Акрамя казаньняў, публікацый і дасьледаваньняў протапрэсьвітара Мікалая Лапіцкага, у зборнік увайшло ягонае ліставаньне з шэрагам праваслаўных ярархаў, сьвятароў, грамадзка-палітычных дзеячаў і царкоўных актывістаў у ЗША, Канадзе й Аўстраліі. Дзякуючы ўкладальнікам гэтага выданьня для многіх стала магчымым ня толькі азнаямленьне, але й навуковае асэнсаваньне тых падзеяў і тэндэнцыяў, якія былі характэрныя для царкоўнага жыцьця беларусаў, арыентаваных на Беларускую Цэнтральную Раду.

У 2017 г. пабачыў сьвет першы том аналягічнага дакумэнтальнага зборніку "Архіяпіскап Мікалай (Мацукевіч). У малітве за Беларусь. Творы"[2], прысьвечаны адной з найбольш неардынарных постацяў ў кіраўніцтве Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Выдаўцамі пазначаныя Беларускі інстытут навукі й мастацтва, факультэт паліталёгіі Ўнівэрсытэту Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне й Інстытут славістыкі Польскай акадэміі навук. Уступнае слова да выданьня напісаў доктар Вітаўт Кіпель, а пасьлямову — доктар Янка Запруднік, што сьведчыць аб вялікай зацікаўленасьці ў выданьні з боку навуковага асяродзьдзя беларускага замежжа.

Выхад з друку гэтага выданьня стаў сапраўднай падзеяй для дасьледчыкаў найноўшага пэрыяду беларускай царкоўнай гісторыі. Дзякуючы намаганьням гісторыка Юрыя Гарбінскага ў зьмест зборніка

[1] Лапіцкі, Мікалай. У служэньні Богу й Беларусі. Нью-Ёрк — Варшава: БІНіМ, ІСПАН, 2005. — 672 с.

[2] Мікалай (Мацукевіч), архіяпіскап. У малітве за Беларусь. Творы. Нью-Ёрк — Люблін — Варшава: БІНіМ, Факультэт Паліталёгіі Ўніверсітэту Марыі Кюры-Складоўскай, ІСПАН, 2017. Т. 1. — 862 с.

ўвайшлі царкоўныя пропаведзі, архіпастырскія пасланьні, публіцыстыка, а таксама складзеныя архіяпіскапам (мітрапалітам) Мікалаем малітвы за беларускі народ і да сьвятой Еўфрасіньні Полацкай. Асобны разьдзел складаюць успаміны аб архіяпіскапе (мітрапаліце) Мікалаю. Завяршае зборнік вялікі па сваім аб'ёме й вельмі цікавы разьдзел фотадакумэнтаў. Навуковы характар публікацыям надае крытычны апарат, складзены таксама Юрыем Гарбінскім. Няма ніякіх сумневаў у тым, што разглядане выданьне дапаможа чытачам пазнаёміцца зь яшчэ адной плыньню рэлігійнага жыцьця беларускага замежжа й адным зь яе яскравых прадстаўнікоў.




Першае, што зьвяртае на сябе ўвагу ў самім выданьні, гэта царкоўны тытул Мікалая (Мацукевіча). Складальнік зборніку пазначае яго архіяпіскапам, нягледзячы на тое што сам іерарх тытулаваўся мітрапалітам. Адрозьненьне тытулаў заключаецца ў тым, што ў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве мітрапалітамі менаваліся першаіерархі, а япіскапамі й архіяпіскапамі —залежныя ад іх кіраўнікі япархій. Такім чынам, складальнік зборніку адмаўляе Мікалаю (Мацукевічу) у праве на ўзначальваньне БАПЦ і мае на гэта пэўныя падставы. Справа ў тым, што на пачатку 1980-х гг. у царкоўным жыцьці БАПЦ адбыўся шэраг падзеяў, які прывёў да расколу царкоўнай структуры на дзьве незалежныя часткі. Кожная зь іх атаясамлівала сябе з БАПЦ і мела свайго перашаярарха, адным зь якіх і быў архіяпіскап Мікалай (Мацукевіч), прадстаўлены сваімі пасьлядоўнікамі да годнасьці мітрапаліта. Другую частку падзеленай БАПЦ узначальваў мітрапаліт Ізяслаў (Бруцкі), для якога Мікалай (Мацукевіч) заставаўся ня больш, чым архіяпіскапам. Узнаўленьне адзінства БАПЦ адбылося толькі ў 2003 г., пасьля сьмерці мітрапаліта Мікалая. Уключаны ў назву зборніка тытул архіяпіскапа сьведчыць пра пазыцыю ўкладальніка па пытаньні азначанага царкоўнага канфлікту ў БАПЦ й не павінен бянтэжыць тых, хто ведае Мікалая (Мацукевіча) як мітрапаліта. (Дарэчы, для аўтара гэтай рэцэнзіі, які не зьяўляецца прыхільнікам пазыцыяў ніводнага са згаданых архірэяў, уяўляецца больш карэктным абазначэньне абодвух ярархаў мітрапалітамі. Маючы шмат пытаньняў да іх

кананічнага статусу, у гістарычных працах пазаканфэсійнага характару, мы аддаем перавагу таму тытулаваньню, якое абралі для сябе самі іерархі БАПЦ.)

Пераходзячы да разгляду пропаведзяў і сьвяточных архіпастырскіх пасланьняў мітрапаліта Мікалая, трэба адзначыць, што, на наш погляд, ён ня быў выдатным багасловам ці арыгінальным прапаведнікам. Таму тэксты ягоных пропаведзяў не выклікаюць нейкай асаблівай цікавасьці з пункту гледжаньня тэалёгіі й гамілетыкі. Безумоўна, мітрапаліт зьвяртаўся з казанямі да сваёй паствы, тлумачыў сэнс рэлігійных успамінаў і царкоўных сьвятаў, заклікаў да духоўнага жыцьця й меў сваіх удзячных слухачоў. Напэўна, ягоныя пропаведзі й іншыя формы звароту да вернікаў мала чым адрозьніваюцца ад казаняў, якія прамаўляе бальшыня праваслаўнага духавенства. Таму па сваім зьмесьце яны наўрад ці могуць зацікавіць тых, хто мае ўяўленьне аб праваслаўным прапаведніцтве. Але гэта зусім не абясцэньвае публікацыю пропаведзяў і архіпастырскіх пасланьняў мітрапаліта Мікалая. Як вядома, на працягу многіх гадоў ён працаваў над перакладам на беларускую мову кніг Сьвятога Пісьма й богаслужбовага ўжытку, што сьведчыць аб філялягічных прыхільнасьцях мітрапаліта. Таму згаданыя тэксты могуць мець вялікую цікавасьць з пункту гледжаньня філялягічнай навукі, бо да сёньня актуальным ёсьць пытаньне стварэньня агульнапрызнанага слоўніка беларускай рэлігійнай лексыкі.

Наступны разьдзел зборніку ўключае тэкст краязнаўчага нарысу, прысьвечанага мітрапалітам Мікалаем (Мацукевічам) ягонай малой радзіме — мястэчку Моталь (цяпер аграгарадок у Іванаўскім раёне Берасьцейскай вобласьці). Гэты нарыс выразна сьцьвярджае, што мітрапаліт Мікалай быў захопленым краязнаўцам, які ня толькі зьвяртаўся да гістарычных крыніцаў і навуковых працаў, але і ўважліва сачыў за публікацыямі беларускага пэрыядычнага друку (у тым ліку й савецкага), прысьвечанымі ягонаму роднаму мястэчку. Характэрнай рысай гістарычнага сьветапогляду аўтара, якая яскрава выявілася ў апісаньні падзеяў XVIII — пачатку XX ст., зьяўляецца крытычнае стаўленьне да расейскай улады й ейнай палітыкі. На наш погляд, аўтар дапускае вельмі дыскусійныя ацэначныя меркаваньні, аналіз якіх патрабуе асобнага артыкулу. Вялікую цікавасць у сучасных дасьледчыкаў і краязнаўцаў можа выклікаць частка нарысу, прысьвечаная гісторыі Моталя ў першай палове XX ст. У ёй мітрапаліт Мікалай апісвае шэраг падзеяў, сучасьнікам і нават сьведкам якіх ён быў.

У разьдзеле “Публіцыстыка” зьмешчаны артыкулы мітрапаліта Мікалая (Мацукевіча), напісаныя ў розныя гады й прысьвечаныя шэрагу розных пытаньняў. Акрамя беларускай царкоўнай гісторыі старажытных часоў, аўтар таксама зьвяртаўся да сучасных яму праблемаў арганізацыі царкоўнага жыцьця беларускай эміграцыі. Безумоўна, гэткія

артыкулы ёсьць каштоўнымі сьведчаньнямі эпохі, адлюстраваньнем клопатаў і надзеяў беларускага замежжа.

Асобны разьдзел зборніка складаюць успаміны мітрапаліта Мікалая. Пачынаюцца яны з кароткага апісаньня роднага мястэчка Моталь і досыць падрабязных зьвестак з радаводу Мацукевічаў. Потым аўтар дзеліцца з чытачом успамінамі пра сваё дзяцінства, школьныя гады, юнацтва, вайсковую службу, пачатак Другой сусьветнай вайны, нямецкі палон, вяртаньне ў Моталь, вучобу ў пэдвучэльні, пачатак нямецкай акупацыі Беларусі, адпраўку на прымусовую працу ў Нямеччыну, уцёкі ад немцаў і вайсковую службу ў польскай арміі Андэрса, пасьляваеннае ўладкаваньне, пераезд у Амэрыку, падрыхтоўку да сьвятарства ў Калегіі сьвятога Андрэя, прыняцьце ярэйскага сану й пачатак парафіяльнага служэньня. На жаль, успаміны абрываюцца на сярэдзіне 1950-х гг. і нічога не апавядаюць пра архірэйскі пэрыяд біяграфіі мітрапаліта Мікалая. Тым ня менш нават няпоўнае апісаньне іерархам свайго жыцьцёвага шляху дае магчымасьць скласьці ўяўленьне пра тыповы лёс маладога беларуса, які пераэжыў цяжкія выпрабаваньні сваёй эпохі, што прынесьлі вайна й эміграцыя. Апошняя частка ўспамінаў — цікавае сьведчаньне стану беларускага царкоўнага жыцьця Канады на пачатку 1950-х гг.

Лягічным працягам мэмуарнай часткі зборніку выступае разьдзел з успамінамі пра мітрапаліта Мікалая (Мацукевіча), напісанымі беларусамі бацькаўшчыны й замежжа, што асабіста ведалі ярарха. Азнаямленьне з гэтымі ўспамінамі дазваляе чытачу скласьці больш выразнае ўяўленьне пра асобу мітрапаліта, ягоную рэлігійную дзейнасьць у складзе БАПЦ і пошукі шляхоў да пераадоленьня царкоўнага расколу.

У апошнім разьдзеле выданьня прадстаўленая багатая калекцыя фотаздымкаў, што адлюстроўваюць жыцьцёвы шлях мітрапаліта Мікалая ад вайсковай службы ў арміі Андэрса да служэньня ў якасьці першаярарха аднаго з “аскепкаў” БАПЦ. Акрамя фотаздымкаў, безумоўнай каштоўнасьцю гэтага разьдзелу ёсьць фотакопіі дакумэнтаў, што насьвятляюць асобныя старонкі царкоўнага жыцьця беларускай дыяспары.

На заканчэньне агляду зборніку матэрыялаў, зьвязаных зь дзейнасьцю мітрапаліта Мікалая (Мацукевіча), трэба адзначыць, што, на наш погляд, ягонае выданьне дазваляе значна пашырыць уяўленьні беларускіх гісторыкаў аб нутраным жыцьці БАПЦ і дзейнасьці аднаго з найбольш прыкметных яе іерархаў. Але разам з тым немагчыма не заўважыць наяўнасьці вялікай праблемы, зьвязанай з унутрыканфэсійным падзелам сярод праваслаўных беларусаў. Сьведчаньнем ненармальнасьці існаваньня расколаў у праваслаўным асяродку зьяўляецца ўжо тое, што нават на вокладцы разгляданага выданьня тытул Мікалая (Мацукевіча) падаецца інакш, чым ён сам сябе

тытулаваў. Трэба прызнаць, што палітычна матываванае прагалошанне курсу на дасягненьне беларускай царкоўнай незалежнасьці прывяло да рэлігійнага расколу ня толькі паміж беларусамі замежжа й мэтраполіі, але й да падзелу ўнутры самой беларускай дыяспары. Больш за тое, фармаваньне структуры й ярархіі БАПЦ праводзілася з парушэньнем царкоўных канонаў, што прывяло прыхільнікаў ідэі беларускай аўтакефаліі да ізаляцыі ад усяго праваслаўнага сьвету. Гэтае становішча можна ахарактарызаваць як кананічны тупік, выхад зь якога павінен быць знойдзены ў тым ліку й дзеля духоўнага ўзьяднаньня праваслаўных беларусаў усяго сьвету. Найважнейшымі крокамі ў гэтым кірунку ёсьць сустрэчы беларусаў Бацькаўшыны й замежжа, разьвіцьцё іх узаемнага інтарэсу, асэнсаваньне й вывучэньне гісторыі, культуры й традыцый далёкіх суайчыннікаў. У значнай меры ўсяму гэтаму садзейнічае й выданьне зборніку “Архіяпіскап Мікалай (Мацукевіч). У малітве за Беларусь”, складзенага Юрыем Гарбінскім.

*Кніжная паліца*

***Віктар Скорабагатаў***
***Ганна Каржанеўская***
***Кірыла Насаеў***
***Ігар Алоўнікаў***
*Менск*

# ПЕРШЫ ЗБОР ТВОРАЎ

## Да выданьня Збору твораў Міколы Равенскага

*Равенскі, Мікола. Збор твораў: Вакальныя творы / пад рэд. Г. Каржанеўскай. Мінск: Тэхналогія, 2005. — 27 с.*

*Равенскі, Мікола. Збор твораў: Літургічныя творы / пад рэд. К. Насаева. Мінск: Тэхналогія, 2005. — 90 с.*

*Равенскі, Мікола. Збор твораў: Творы для фартэпіяна / пад рэд. І. Алоўнікава. Мінск: Тэхналогія, 2007. — 30 с.*

*Равенскі, Мікола. Збор твораў: Беларускія народныя песні / рэдкал.: І. Алоўнікаў [і інш.]. Мінск: Тэхналогія, 2008. — 191 с.*

*Равенскі, Мікола. Збор твораў: Харавыя творы. У 2 сш. Сш 1 / пад рэд. К. Насаева, Г. Каржанеўскай; рэдкал.: В. Скорабагатаў (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Тэхналогія, 2017. — 179 с.*

*Равенскі, Мікола. Збор твораў: Харавыя творы. У 2 сш. Сш. 2 / пад рэд. К. Насаева; рэдкал.: В. Скорабагатаў (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск: Тэхналогія, 2017. — 103 с.*

Выхад у сьвет Збору твораў Міколы Равенскага (1886—1953) — зьява для беларускага мастацтва неардынарная. За амаль паўтысячагадовую гісторыю айчыннага нотадрукаваньня гэта першы збор твораў аднаго кампазытара. Сымбалічна, што адлік гэткіх друкаў пачынаецца з творчасьці клясыка беларускай музычнай культуры першай паловы XX стагодзьдзя — аўтара славутага рэлігійнага гімну ўсёй беларускай нацыі “Магутны Божа”.

Летам 1913 г. у газэце “Наша Ніва” (№ 30, 26 ліпеня) артыкулам Юр’я Верашчакі (псэўданім Вацлава Ластоўскага) “Сплачвайце доўг” распачалася культуралягічная дыскусія пра шляхі разьвіцьця беларускага мастацтва, у прыватнасьці прыгожага пісьменства, і яго ролю ў духоўным жыцьці народу. Ці быў тады знаёмы Мікола Равенскі з гэтым артыкулам і адказамі на яго Янкі Купалы, Лявона Гмырака, Максіма Гарэцкага, нам невядома — малады музыка толькі-толькі пачынаў свой

шлях у мастацтве. Але ўсё творчае жыцьцё Міколы Равенскага — адказ на пытаньні, пастаўленыя беларускай інтэлігенцыяй яшчэ ў 1913 г.

Ён атрымаў грунтоўную акадэмічную музычную адукацыю — спачатку як харавы дырыжэр, пазьней — у найлепшых настаўнікаў Маскоўскай кансэрваторыі як кампазытар. Застаючыся выканаўцам, працуючы з рознымі калектывамі ў якасьці артыста, Равенскі пісаў творы "высокага стылю", пры гэтым у выразна нацыянальнай беларускай стыхіі. Праз усё жыцьцё Мікола Равенскі пранёс гарачую любоў да Радзімы, яе культуры, мовы[1]. Пранёс нягледзячы на тое, што яго як "нацдэма" пры канцы 1930-х гг. выгналі з кансэрваторыі й Саюзу кампазытараў. А на той час Равенскі меў ужо непахісны аўтарытэт выканаўцы й выкладчыка. Пад яго настаўніцкім доглядам — прафэсара Беларускай дзяржаўнай кансэрваторыі (цяпер Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі) — у 1930-я гг. набылі веды шматлікія выдатныя дзеячы беларускай культуры.

У гады нямецкай акупацыі Мікола Равенскі працаваў рэгентам у царкве на сваёй радзіме — у Чэрвені. У 1944 г. ён быў вымушаны эміграваць. Гады выгнаньня былі напоўненыя творчасьцю. Любоў да Радзімы натхняла на актыўную дзейнасьць. Равенскі стварыў аматарскі хор са студэнтаў, якія навучаліся ў Лювэнскім унівэрсытэце (Бэльгія). Маладыя беларусы пад кіраўніцтвам майстра езьдзілі па розных краінах, знаёмілі эўрапейцаў зь беларускімі народнымі песьнямі й танцамі. Для гэтых канцэртаў Мікола Равенскі напісаў "Беларускую харавую сюіту".

Творы аўтара ўзьнёслага рэлігійнага гімну "Магутны Божа" — малітвы беларускіх хрысьціянаў усіх канфэсій і дэнамінацый — працяглы час заставаліся невядомымі на ягонай радзіме. Аднак з канца 1980-х гг. творчасьць Міколы Равенскага вярнулася ў канцэртнае жыцьцё Беларусі, а малітва "Магутны Божа" на поўны голас загучала ва ўсіх цэрквах Беларусі. Харавыя, вакальныя ды інструмэнтальныя творы кампазытара пачалі выконваць найлепшыя калектывы й салісты. Выйшаў і кампакт-дыск з запісамі твораў Міколы Равенскага. Штогод у Магілёве адбываецца Міжнародны фэстываль рэлігійнай музыкі, назоў якому даў славуты гімн — "Магутны Божа". На адкрыцьці й закрыцьці фэстывалю сотні сьпевакоў з розных куткоў сьвету натхнёна выконваюць гэтую цудоўную малітву за Беларусь.

У 2003 г. намаганьнямі дзьвюх установ — Беларускага інстытута навукі й мастацтва (Нью-Ёрк) і Міністэрства культуры Рэспублікі Бе-

---

[1] Усе вакальныя й харавыя творы, якія выяўлены сёньня ці ня выяўленыя, але вядомыя хоць бы па назовах, напісаны кампазытарам толькі на беларускія тэксты. Выняткам зьяўляюцца літургічныя творы — іх перакладаў на беларускую мову пры жыцьці Міколы Равенскага яшчэ не існавала.

ларусь праз творчы калектыў “Беларуская капэла” (Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр опэры і балету Рэспублікі Беларусь) — пачалося ажыцьцяўленьне выданьня “Збор твораў Міколы Равенскага”. Рэдакцыйная калегія сьвядома не называе яго “поўным”. Бязьлітасны лёс не пашкадаваў творчых намаганьняў кампазытара. Равенскаму давялося двойчы (!) узнаўляць свае творы: у 1930-я гг. частка іх была канфіскаваная савецкімі ўладнымі структурамі, частка загінула ў 1941 г., у першыя дні нямецкай акупацыі. Гартаючы разьдзел “Страчаныя творы” Каталёгу твораў Равенскага, мы бачым: з напісанага кампазытарам захавалася, на жаль, толькі блізу 8%. Пры канцы жыцьця, на эміграцыі, маэстра рыхтаваў да выданьня тое, што ўзнавіў і напісаў за мяжой. Выданьню перашкодзіла хвароба й сьмерць. Аднак менавіта той зборнік і лёг у аснову цяперашняга збору яго твораў, стаў штуршком да працы рэдакцыйнага калектыву. Дзякуючы пошукам супрацоўнікаў “Беларускай капэлы” ў менскіх і лёнданскіх архівах і бібліятэках было выяўлена нямала твораў кампазытара, якія ня згадваюцца ў даведніках. Асобныя экзэмпляры аўтографаў маглі захавацца і ў прыватных архівах. Таму мы не губляем надзеі й верым, што ня ўсё зь нязнойдзенага згінула за смугою часу.




Кампазытары часьцей за ўсё карыстаюцца трыма відамі натаваньня: для выдавецтва, для выканаўцаў, сабе на заметку. У першым выпадку выканальніцкія рэкамэндацыі натуюцца дакладна. У другім — неабавязкова, бо шмат што можна сказаць асабіста. У трэцім — выканальніцкія рэкамэндацыі могуць увогуле адсутнічаць. Калектыву рэдактараў давялося працаваць ня толькі з выдадзенымі творамі Міколы Равенскага, але з усімі трыма відамі аўтографаў. Зазначым, што непераадольных цяжкасьцяў нам маэстра не пакінуў. Выдатная адукацыя дазволіла яму “відавочна” акрэсьліваць намеры. Лёгіка разьвіцьця музычнай тканіны паказвае шляхі рэдактуры. Наймацнейшы бок яго кампазыцый — мэлёдыя. Нават тады, калі мэлёдыя не запазычана з фальклёру, а напісана ўласна Равенскім, яўна адчуваецца беларускі “космас” гэтага мэлясу. Скіроўвалі кампазытара ў гэты бок перакананьні пра самабытнасьць і самастойнасьць беларускай творчай прыроды.

Такім быў яго асабісты досьвед навукоўца-этнографа й досьвед выканаўцы. Нарэшце, такімі былі памкненьні тагачаснага беларускага грамадзтва.

Бацькаўшчына, якую Мікола Равенскі любіў болей за жыцьцё, аддае належнае свайму таленавітаму сыну. Збор твораў кампазытара — гэта нашая даніна ўдзячнасьці славутаму творцу, патрыёту Беларусі.

**Літургічныя творы.** Ужо ў маленстве Равенскі далучыўся да малітоўных сьпеваў. Пачатковую адукацыю, у тым ліку музычную, ён атрымаў у 1895—1903 гг., калі вучыўся ў школе праваслаўнага брацтва пры Менскім архірэйскім хоры. Пасьля заканчэньня, у 1903 г., Равенскі быў накіраваны ў Менскі мужчынскі манастыр як рэгент тамтэйшага хору. У 1905 г. пераехаў у Навагрудак, дзе працаваў рэгентам царкоўнага хору й выкладаў музыку ў школах. Тады ж, у 1912—1914 гг., ён прайшоў курсы рэгента царкоўнага хору ў Маскве й Петраградзе.

З 1918 да 1942 г. Равенскі, хутчэй за ўсё, ня меў дачыненьня да царквы. У канцы 1942-га, заняўшы пасаду рэгента царквы ў Чэрвені, адразу ж стаў пісаць для свайго хору літургічныя творы. Рэгенцкія абавязкі выконваў да апошніх дзён жыцьця. Хоры меў пераважна мужчынскія, зрэдку мяшанага складу. Гэта не магло не адбіцца на яго кампазыцыях — пераважаюць партытуры для мужчынскага выканальніцкага складу.

Партытуры, якія дайшлі да нас, сьведчаць, што пісаў кампазытар хутка, правак у нотны тэкст уносіў мала. Зьвяртаючыся да твораў літургічнага характару, Равенскі выконваў шэраг задач: па-першае, гэтыя партытуры павінны былі адразу ўвайсьці ў богаслужбовы працэс, па-другое, запоўніць вакуум літургічнай музыкі, які ўтварыўся ў час панаваньня ў Беларусі бязбожжа. Выдатная адукацыя, веданьне традыцый, надзвычайная працаздольнасьць дапамаглі вырашыць гэтыя задачы. Аднак немагчыма не заўважыць маленькія дробязі, якія не зусім укладаюцца ў межы традыцый. Напрыклад, выкарыстаньне італьянскай, а не расейскай музычнай тэрміналёгіі. Арыентацыя ня толькі на кіеўска-літоўскі "расьпеў" і беларускія "напевы", а яшчэ й выкарыстаньне беларускага народнага мэлясу. На гэта кампазытар сам зьвяртаў увагу сваіх харыстаў-выхаванцаў — студэнтаў Лювэнскага ўнівэрсытэту.

Пазалітургічныя творы рэлігійнага зьместу былі напісаныя кампазытарам у 1947 г. Час складаны й няпэўны для ўсіх беларусаў незалежна ад таго, дзе яны жылі — на радзіме ці ў выгнаньні. Толькі выдатнаму мастаку было пад сілу абагульніць пачуцьці людзей ва ўзьнёслым малітоўным гімне. І гэтым гімнам стаў "Магутны Божа" на верш Натальлі Арсеньневай. Пра першае выкананьне малітвы ўспамінала Зора Кіпель:

*«Увосені 1947 году гімн "Магутны Божа" быў выдрукаваны ў Парыжы. [Беларускія] Остэргофэнскія хоры, было іх два, цар-*

*коўны і сьвецкі, абодва пад кіраўніцтвам кампазытара Равенскага, развучвалі “Магутны Божа” недзе падвосень.*

*Увосені 1947 году адбыўся тыдзень маленьня за Беларусь і беларускі народ. 27-га лістапада гэткія малебны служыліся ў лягэры Остэргофэн у праваслаўнай і каталіцкай цэрквах. Праваслаўны сьвятар Др. М. Сьцяпанаў і каталіцкі ксёндз М. Маскалік прысутнічалі на малебнах. Гэта было сапраўды экумэнічнае маленьне за Беларусь. Вось жа на беларускай каталіцкай службе, у нямецкім касьцёле і прагучэў першы раз гімн “Магутны Божа”, калі прысутныя беларусы, як каталікі, гэтак і праваслаўныя, у дружным хоры ўзьнесьлі свае малітвы.*

*...мамэнт, калі я ўпяршыню пачула “Магутны Божа”, назаўсёды застанецца ў маёй памяці. І колькі-б разоў пасьля гэтага я ня чула нашую малітву — кожны раз у мяне на вачох сьлёзы»*[2].

**Харавыя творы.** Усе пададзеныя ў Зборы твораў харавыя партытуры маюць фальклёрную аснову й клясычную аўтарскую апрацоўку. Сам Мікола Равенскі называў такія апрацоўкі “*шырокімі распрацоўкамі*” (а ня простай гарманізацыяй песень), і ў гэтай справе ён быў першым беларускім кампазытарам таго часу.

“Поры года”, напісаныя на вершы беларускіх паэтаў у розныя гады, сталі першым драматургічна арганізаваным харавым цыклем. Вяршыня гэтага цыклю — вялікая чатырохгалосая фуга на словы Ўладзімера Дубоўкі “О, Беларусь, мая шыпшына”, напісаная Міколам Равенскім падчас вучобы ў Маскоўскай кансэрваторыі ў 1926 г. Увогуле, Равенскі — першы кампазытар, які напісаў аўтарскую харавую музыку на вершы Максіма Багдановіча, Канстанцыі Буйлы, Уладзімера Дубоўкі, Алеся Гаруна ды іншых беларускіх паэтаў.

Частка апрацовак беларускіх народных песень была створаная ў першы пэрыяд творчасьці кампазытара, падчас яго працы з хорам Беларускага работніцкага клюбу. Другая частка пісалася ў эміграцыі й вылучаецца большай дасканаласьцю — вольным карыстаньнем рознымі харавымі фактурамі: поліфанічнай, гарманічнай, гамафоннагарманічнай; спалучэньнем гэтых прыёмаў у адным творы (напрыклад, “Чаму ж мне ня пець” — поліфанічная й гарманічная фактуры; “А ў полі вярба” — поліфанічная й гамафонна-гарманічная). Пры гэтым Мікола Равенскі ўважліва ставіўся да народнай мэтра-рытмічнай асновы, захоўваючы яе першасную імправізацыйную структуру. Што да характару выкананьня гэтых песень, дык нават жартоўныя песьні гучаць у кампазытара пад вэлюмам любоўнай іроніі, як і сумная песьня бабыля “Чаму ж мне ня пець”. Алесь Карповіч у артыкуле, прысьвечаным памяці

[2] Кіпель, Зора. “Магутны Божа” — упершыню // Беларус. № 382. Верасень 1991.

свайго сябра й калегі, пісаў: *«Песьню “Чаму ж мне ня пець” М. Равенскі разумеў інакш, чым гэта было дасюль на беларускай сцэне і наогул у вакальнай практыцы. Паводле яго, гэтая песьня мае горка-саркастычны характар, а не іранічна-жартаўлівы. У сувязі з гэткім разуменьнем зьместу песьні, яна была апрацавана кампазытарам у сумным мінорным тоне»*[3].

“Беларуская сюіта” для мужчынскага хору ў суправаджэньні фартэпіяна была напісаная Міколам Равенскім за вельмі кароткі тэрмін. Як пісаў у дзёньніку за 18.12.1950 г. выхаванец кампазытара па хоры Лювэнскага ўнівэрсытэту Васіль Шчэцька, літаральна празь месяц пасьля першага знаёмства харыстаў з мастацтвам сьпеву хор прадставіў праграму й *“канцэрт удаўся, дзякуючы добраму выкананьню, народным строям ансамблю ды ўпорнай працы праф. Равенскага”*[4].

Сюіта падзялялася на часткі і, такім чынам, магла выконвацца як канцэрт — цалкам або асобнымі разьдзеламі ў залежнасьці ад драматургіі ці рэглямэнту канцэртнага выступу. Акрамя таго, кампазытар уводзіў у сюіту некалькі твораў іншых кампазытараў або ўстаўляў сольныя й танцавальныя нумары паміж часткамі, якія ўзбагачалі канцэртны стыль сюіты.

Нягледзячы на вельмі кароткі час актыўнай творчай працы над харавой музыкай сьвецкага зьместу (каля пяці гадоў), Мікола Равенскі стаў клясыкам у галіне беларускага харавога мастацтва. Ён рупліва працягваў традыцыі найлепшых прадстаўнікоў рамантычных і позьнерамантычных школ XIX — XX стст.

**Вакальныя творы.** У Збор твораў увайшлі толькі тры выяўленыя вакальныя творы Міколы Равенскага. Гэта Арыя Браніславы з аднайменнай опэры, фантазія-нактурн “Менск” для голасу, скрыпкі й фартэпіяна ды вакальны дуэт “Мой родны кут”.

Опэра “Браніслава” на лібрэта Ўладзімера Дубоўкі пісалася ў Маскве ў 1929—1930 гг. Пасьля арышту паэта (20 ліпеня 1930 г.) праца Равенскага над амаль завершанай опэрай была спыненая, а сам матэрыял канфіскаваны Наркаматам асьветы БССР. У Лювэне на пачатку 1950-х гг. Мікола Равенскі ўзнавіў арыю Браніславы. Гэта — адзіны вядомы на сёньня фрагмэнт страчанай опэры. Мікола Куліковіч (Шчаглоў) у кнізе “Беларуская савецкая опэра” (1949) пісаў: *«...“Браніслава” Равенскага задумана была як беларуская гэраічная музычная народная драма. Лібрэта Дубоўкі й музычныя накіды кампазытара*

[3] Карповіч, Алесь. Памяці Міколы Равенскага // Бацькаўшчына. № 10—11 (141—142). 1953.

[4] Цыт. паводле: Запруднік, Янка. Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1946—1954 гг.). Нью-Ёрк — Беласток, 2002. С. 142.

*давалі магчымасьць бачыць, што патэнцыяльна "Бранілава" мела дадзеныя стацца найбольш яскравым творам гэтага часу, як у сэньсе ідэйным, гэтак і паводля манумэнтальна задуманай формы. У сваёй паэме "Бранілава" (1929 г.), якая клалася ў аснову опэрнага лібрэтта, Дубоўка ўзяў адвечную тэму: сымбалічны вобраз Маці-Беларусі, што зьбірае раскінутых па сьвеце сваіх дзяцей*[5]*. Пад выглядам прыгоннага часу Дубоўка раскрываў запраўды жудасны малюнак народнага жыцьця пад бальшавікамі. Нажаль, опэра "Бранілава" гэтак і засталася незакончанай з палітычных прычынаў і, навет, усе накіды й чарнавікі кампазытар быў змушаны зьнішчыць»*[6].

Фантазія-нактурн "Менск" для голасу, скрыпкі й фартэпіяна напісана Равенскім на верш Уладзімера Дубоўкі ў 1928 г. у Маскве. У розных даведніках існуюць два назовы гэтага твору: "Менск" і "Такая ноч…" ("*Ноч над Менскам*"). Аўтограф быў страчаны ў часе Другой сусьветнай вайны, таму твор адноўлены кампазытарам на пачатку 1950-х гг. у Лювэне. Аднак і гэты аўтограф ня знойдзены. У фондах Беларускай бібліятэкі імя Францыска Скарыны ў Лёндане выяўлены рукапіс нактурну пяра кампазытара Міколы Куліковіча (Шчаглова). Вядома, што нактурн "Менск" уваходзіў у канцэртны рэпэртуар жонкі Куліковіча — сьпявачкі Яўгеніі Градэ. На першай старонцы рукапісу Міколам Куліковічам пазначана: *New York, october 19, 1953*. Гэта паказвае на тое, што арыгінал нактурну, магчыма, пасьля сьмерці Равенскага трапіў у Нью-Ёрк.

У рукапісе пад нотамі ўпісаны тэкст верша з прагаламі. Гэтая акалічнасьць стала падставаю для стварэньня паэтам Яўгенам Міклашэўскім у сьнежні 1993 г. парафразы верша Ўладзімера Дубоўкі. У гэтым варыянце твор замацаваўся ў сучаснай канцэртнай практыцы.

Хоць напісаньне "Менску" датуецца 1928 г., у ім надзіва прадказальна адчуваецца глыбокі сум расстаньня з Радзімай, уласьцівы Равенскаму на эміграцыі.

Дуэт "Мой родны кут" — першае музычнае ўвасабленьне знакамітага Коласавага верша й… апошні твор Міколы Равенскага. Зь ліста Янкі Запрудніка да Алеся Карповіча ад 01.08.1954 г.: *«…Равенскі быў тады ўжо хворы даволі сур'ёзна і, нягледзячы на тое, што перад ім скрывалася прычына й небясьпека ягонае хваробы, ды не зважаючы на ягоны прыродны аптымізм і бадзёрасьць (ён, прыкладам, не любіў ні гутарыць, ні слухаць пра сваю хваробу, а таксама — прыклад клясычны — дакладна тры дні перад сьмерцяй у гутарках з знаёмымі*

[5] Гэтая ж тэма гучала й у творах Купалы, Коласа, Бядулі і інш. (Драма Купалы "Раскіданае гняздо"). — Заўв. М. Куліковіча.

[6] Мне ўдалося ўжо на эміграцыі бачыць некалькі накідак Равенскага да опэры. — Заўв. М. Куліковіча.

*й сябрамі не пакідаў думак аб творчай і арганізацыйнай працы), у яго магла час ад часу зьяўляцца думка, якую ён аднойчы выказаў уголас перад хлапцамі: "Хаця каб косьці свае занесьці на Бацькаўшчыну...". Гэтая ж думка й магла яму падштурхнуць ідэю напісаньня "Мой родны кут" — апошні крык з далёкае чужыны...»*[7].

Зь ліста Алеся Карповіча да Янкі Запрудніка ад 04.08.1954 г.: «...*Я... ня ведаю дакладна даты напісаньня дуэту, але аб ім ён успамінае ў сваім лісьце да мяне ў верасьне 52 г., дзе піша: "напісаў дуэт на словы Я. Коласа "Мой родны кут"... Урэшце, дакладная дата ня так важная, важны факт, што гэта ягоная "лебядзіная песьня"*...»[8].

**Творы для фартэпіяна.** Асноўныя кірункі творчасьці Міколы Равенскага вызначаліся сфэрай вакальна-харавой музыкі, але яго пяру належыць і шэраг фартэпіянных твораў, што маюць бясспрэчную цікавасьць як для дасьледніка, так і для музыканта-практыка — выканаўцы й пэдагога. Аўтабіяграфія кампазытара, датаваная 1951—1952 гг., сьведчыць, што падчас навучаньня ў Маскве (1923—1930) ім былі створаныя 22 фартэпіянныя фугі на два, тры й чатыры галасы (ды іншыя, напрыклад, васьмігалосая фуга для фартэпіяна й квартэту драўляных духавых інструмэнтаў). У той жа час ці трохі пазьней зьявіліся дзьве фартэпіянныя прэлюдыі. Паводле ўспамінаў Уладзімера Дубоўкі, які часта працаваў разам з Равенскім, кампазытарам былі створаныя яшчэ дзьве канцэртныя мазуркі (перапрацаваныя потым для струннага квартэту) і два нактурны. Найбольш значны твор для фартэпіяна, названы "Вялікая сюіта" (*Grande suite*), быў напісаны ўжо ў Бэльгіі (1950). У той жа час зьявілася й трохгалосая фартэпіянная фуга "Ў выгнаньні".

Нястрымная цяга да фартэпіяннай творчасьці праяўлялася ў кампазытара нават у тыя пэрыяды, калі ён цалкам быў захоплены напісаньнем вакальных і харавых твораў. У многіх зь іх старанна прадуманы фартэпіянны акампанэмэнт, а яго прысутнасьць у партытуры пунктуальна адлюстроўваецца ў назовах. Імкненьне выкарыстоўваць фартэпіяна ў разнастайных ансамблевых спалучэньнях прывяло да нараджэньня такіх твораў, як "Менск" — фантазіі-нактурну для голасу, скрыпкі й фартэпіяна, "Фантазіі" для скрыпкі й фартэпіяна на беларускія народныя тэмы ды інш. На сёньня з фартэпіяннай спадчыны Равенскага мы маем толькі творы, зьмешчаныя ў выдадзеным зборніку: гэта "Прэлюдыя" Рэ-бемоль мажор (першадрук — Менск, 1930 г.) і "Вялікая сюіта", апублікаваная ўпершыню.

Фартэпіянная манэра Міколы Равенскага вызначаецца выдатным разуменьнем калярыстычных магчымасьцяў інструмэнта, імкненьнем

[7] З архіву Янкі Запрудніка.

[8] З архіву Янкі Запрудніка.

да шматпланавасьці фактуры, свабодным і апраўданым выкарыстаньнем розных тэхнічных формулаў. Наогул, у тканіне яго фартэпіянных твораў яўна адчуваецца аркестравы й харавы пачатак, які й гучыць, і пяе; аб'ёмнасьць гучаньня вызначаецца напластаваньнем розных фартэпіянных фактураў, а паліфанія гэтых пластоў дадае лінеярнасьці мэлядыйнаму разгортваньню.

Творы, пададзеныя ў зборніку, адрозьніваюцца й часам напісаньня, і жанрава-стылёвым мэтадам. Калі зьмест "Прэлюдыі" не выходзіць за межы ўскладненай рамантычнай лірыкі з дынамізацыяй вобразу ў сярэднім разьдзеле трохчасткавай формы з ўрачыста-фанфарнай кодай, дык "Вялікая сюіта" трактуецца кампазытарам нетрадыцыйна для гэтага жанру. Фактычна сюіта — цэласная разгорнутая п'еса ў форме сямічасткавага ронда, дзе рэфрэнам служыць павольная й велічная, напоўненая падгалосачнай паліфаніяй "аўтарская" тэма, а ў эпізодах выкарыстоўваюцца розныя паводле характару беларускія народныя мэлёдыі — дзьве танцавальныя й адна павольная. Замест заключнага рэфрэну ідзе віртуозная кода на матэрыяле першага й другога эпізодаў. Цікава, што напісаньне эпізодаў пазбаўленае поліфанічнай вязкасьці й болей за ўсё адпавядае манэры венскіх клясыкаў зь іх тыповымі прыёмамі фартэпіяннага стылю.

Адметнай рысай музыкі "Вялікай сюіты" зьяўляецца яе надзвычайная фантазійнасьць, якая праяўляецца ня толькі на роўні формы цалкам, але й як прынцып разьвіцьця кожнага з разьдзелаў. Нечаканыя зьмены настрою (нават у межах аднаго эпізоду), непрадказальныя гарманічныя павароты, калейдаскапічнае чаргаваньне тэхнічных прыёмаў выклікаюць уражаньне вольнай, нават трохі эксцэнтрычнай імправізацыі, калі кампазытар быццам музыцыруе сам-насам.

Асноўная задача выканаўцы — пазьбегнуць раздробленасьці, знайсьці натуральнасьць эмацыйных пераключэньняў, пераканаўчае спалучэньне тэмпаў, захаваўшы пры гэтым яскравыя вобразныя характарыстыкі й дух жывой віртуознасьці.

Аўтограф утрымлівае неабходную колькасьць выканальніцкіх пазнак для дакладнасьці ў перадачы задумы кампазытара. Гэта датычыць тэмпаў, дынамікі й артыкуляцыі. Аплікатурныя й пэдальныя пазначэньні адсутнічаюць. У нашым выданьні захаваны аўтарскі стыль зь нязначнымі карэктывамі — разьмяшчэньне ліг для больш нагляднай фразіроўкі й дабаўленьня іншых відавочных штрыхоў з мэтай наданьня дадатковай інфармацыйнасьці й нотаграфічнай яснасьці. У асобных выпадках разьмеркаваньне тэксту было прыведзенае ў адпаведнасьць з сучаснымі стандартамі нотнай графікі. Аднак гэтыя зьмены найперш разлічаныя на магчымасьць улучэньня п'есаў у пэдагагічны рэпэртуар і носяць непрынцыповы характар, ніяк не закранаюць сыстэму аўтарскіх указаньняў.

**Беларускія народныя песьні ў запісах і дасьледаваньні Міколы Равенскага.** У справе фіксацыі беларускага песеннага фальклёру Мікола Равенскі адным зь першых у XX ст. пераняў эстафэту слаўных папярэднікаў рамантычнага веку. Паводле словаў самога кампазытара, зацікавіўся ён беларускай песьняй яшчэ напярэдадні Першай сусьветнай вайны:

*“...Я працаваў у Наваградку, дзе быў дырыгентам царкоўнага хору й заадно настаўнікам сьпеваў. У той час пазнаёміўся я зь дзяўчынай з аднэй вёскі недалёка ад Наваградку. Было якраз жніво, і я часта хадзіў пераймаць яе па дарозе, калі яна вярталася з поля. Аднаго разу я выйшаў крыху раней. Хоць сонца было ўжо на захадзе, людзі яшчэ жалі. Я, чакаючы, прысеў на прыдарожным камені. Абапал дарогі пераліваліся каласамі жыта і паасобныя грамадкі жнеяў, параскіданыя па ўсім полі, увіхаліся каля яго. Мяне тут ведалі добра, і, відаць, пабачыўшы мяне, найбліжэйшая група жнеяў завяла жніўную песьню. Іншыя, далейшыя адна за аднэй падхоплівалі яе. Урэшце сьпявала ўсё поле. Адлегласьць між групамі была вялікая, й гукі неяк дзіўна мяшаліся між сабой: да гэтага далучалася рэха. Усё разам тварыла неапісальную цудоўную сымфонію. Я сядзеў, як зачараваны. Жнеі ўжо замоўклі, а рэха яшчэ доўга пераліваліся, заміраючы ўрэшце ў далечы. Ня раз я ў жыцьці ўспамінаў той вечар і тую дзіўную сымфонію. У сваіх творах я прабаваў перадаць некаторыя фрагмэнты зь яе. Але адтварыць цэласьць, гэта не на людзкія сілы й здольнасьці. З таго часу я й зацікавіўся народнай песьняй...”*[9].

У 1921 г. Акадэмічны цэнтр Наркамату асьветы БССР сфармаваў этнаграфічную экспэдыцыю, якая праводзіла дасьледаваньні па зборы й вывучэньні беларускай народнай творчасьці ў Слуцкім павеце. У ёй браў удзел і Мікола Равенскі як спэцыяліст-музыказнаўца.

9 сьнежня 1921 г. у сваёй справаздачы кампазытар адзначыў: *“...Маю гонар далажыць Акадэмічнаму Цэнтру Народнага Камісарыяту Асьветы Б. С.С.Р., што з дня павароту майго з экскурсіі па Слуцкаму павету я прыняўся за абробку сабранага мною сьпевальнага матар’ялу, пры чым сабрата мною 80 матываў народных песянь, а ўласьне: вясельных, летніх, бытавых і г. д. Апрача таго, песянь без мэлёдый блізка 30 штук. За гэты час з сабраных песянь мною прыведзена ў парадак, г. зн. апрацавана мэлёдычная пасьледаўнасьць і дадзена гарманізацыя 10-і песьням. [...] Пачата падгатоўчая праца да ўкладаньня з беларускіх песянь папуры для струннага квартэту, каторае маю намер прыспасобіць да канцэртнага выкананьня. За зімовы сэзон спадзяюся [...] гарманізаваць 25 песень, напісаць му-*

[9] Цыт. паводле: Немановіч, У. На службе мастацтва й ідэі // Наперад! № 25. 1953.

*зыку да пяці вершаў і даць аднагалосную абробку сабраным мною ў Слуцкім павеце песьням. […] К вясьне маю скласьці зборнік народных песянь, прыстасаваных да 2 мэтаў: па-першае, да канцэртнага выкананьня, а па-другое, для школы ў лёгкай трохгалоснай і чатырохгалоснай гарманізацыі*"[10].

Ужо праз год зборнік выйшаў з друку. Яшчэ праз год Равенскага накіравалі на вучобу ў Маскоўскую кансэрваторыю. Там заняткі па народнай творчасьці вялі выдатныя і высокааўтарытэтныя спэцыялісты: праф. А. В. Нікольскі, праф. А. Н. Гарбузаў. Да 1930 г. Равенскі жыў у Маскве, але сувязі з радзімай ня траціў, сачыў за мастацкімі навінкамі. У часопісе "Ўзвышша", якім кіраваў паэт Уладзімер Дубоўка, Равенскі адгукнуўся рэцэнзіяй на выданьне "Беларускія народныя песьні — сольныя і харавыя, з акомпанімэнтам фортэпіяно, гармонізаваныя Аладавым, Аленіным, проф. М. М. Іпалітавым-Іванавым, Я. Прохаравым: выпуск першы" (Бел. дзярж. выдавецтва. Менск, 1928.). У артыкуле некалькі разьдзелаў. Рэцэнзія — апошні разьдзел. У папярэдніх Равенскі палемізуе з Іосіфам Здановічам наконт мастацкіх вартасьцяў беларускіх народных песень. Акрамя таго, кампазытар падае свае погляды на прынцыпы гарманізацыі народных мэлёдый. Артыкул Міколы Равенскага зьяўляецца адной з самых грунтоўных працаў таго часу ў галіне тэорыі народнай творчасьці Беларусі.

Знаёмства з паэтам Уладзімерам Дубоўкам, які быў паўнамоцным прадстаўніком ураду БССР у сталіцы Савецкага Саюзу, хутка перарасло ў сяброўства. У часе працы над опэрай "Бранcaptslава" сябры вандравалі па Магілёўшчыне. Равенскі ўспамінаў: *«Зьбіраючы на Магілеўшчыне песенны матарыял для опэры "Браніслава", мы шмат часу правялі разам. Ён браў мяне пад руку й мы, дыскутуючы, паволі йшлі ад вёскі да вёскі. Сяляне ўжо ведалі нас, і пэўна сьмяяліся з нашае пары: ён высокі й плячысты, а я малы й худы»*[11].

Вярнуўшыся пасьля вучобы ў Менск, Равенскі стаў выкладчыкам Беларускай дзяржаўнай кансэрваторыі. Паважлівае стаўленьне да беларускага фальклёру многіх музыказнаўцаў і кампазытараў фармавалася пад уплывам Равенскага. Яго былыя вучні музыказнавец Браніслаў Смольскі й кампазытар Анатоль Багатыроў згадвалі, што іх настаўнік быў вялікім знаўцам беларускай народнай творчасьці.

У 1929 г. у Вільні праз тамтэйшае Беларускае выдавецкае таварыства выйшаў з друку зборнік "Беларускія народныя песьні. Сабраў і выдаў Р. Шырма. Вып. 1". У гэтым выданьні Шырма зьмясьціў песьню

[10] Цыт. са справаздачы М. Равенскага ў Акадэмічны Цэнтр Народнага Камісарыяту Асьветы БССР за 9.12.1921 г. // Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 42. Воп. 1. Спр. 519. Арк. 27—27 адв.

[11] Цыт. паводле: Немановіч, У. На службе мастацтва й ідэі // Наперад! № 25. 1953.

“Зялёны дубочак” у апрацоўцы Канстанціна Галкоўскага, над нотамі пазначыў: *Нар[одная] мэл[ёдыя са] збор[у М.] Равенскага.*

У 1930-я гг. Равенскі актыўна супрацоўнічаў з Акадэміяй навук БССР. Вынікам гэтага супрацоўніцтва стала выданьне “Песні Беларускага Народу. Том 1-шы. Укладальнік Грынблат. Пад агульнай рэдакцыяй акадэміка Нікольскага”. Яно выйшла з друку ў 1940 г. У ім акрамя ўласна беларускіх народных песень знаходзім і “народныя” творы, што ўслаўляюць савецкую ўладу, і, вядома ж, *“вялікага павадыра ўсіх народаў”* Сталіна. Ніводнае выданьне такога кшталту ня мела шансу пабачыць сьвет без абавязковага ахвярапрынашэньня. Што ж, такія былі вымогі культурнай палітыкі БССР.

У 1942 г. Равенскі вярнуўся зь Менску на радзіму, у Чэрвень. Працаваў рэгентам праваслаўнай царквы, аднак не пакідаў займацца фальклёрам. У свой час Рыгор Шырма, характарызуючы мэляс Станіслава Манюшкі, указваў на той самы рэгіён (менска-слуцкі), які й Равенскі — зямляк Манюшкі — лічыў самым асноўным і паказальным, бо тут беларускі фальклёр вольны ад суседзкіх уплываў. У згаданым ужо артыкуле ў часопісе “Ўзвышша” Равенскі ў прыватнасьці пісаў: *“Чалавеку, які прэтэндуе на годнасьць навуковага працаўніка, варта было б азнаёміцца з беларускай народнай песьняй як належыць. Для такога знаёмства трэба ўзяць ня песьні ўскраіны, а трэба ўзяць песьні цэнтральнае Беларусі, якія незалежны ад уплываў. Для прыкладу можна ўзяць любую песьню, хоць бы жніўную або вясельную, якія займаюць у рытмічных адносінах зусім самастойнае становішча”*[12].

У Чэрвені Мікола Равенскі запісваў народныя песьні ў сшытак, на вокладцы якога пазначыў: 1942. Ніжэй гэтага надпісу стаіць яшчэ адна дата — 1944. Таму што прадоўжыў працу фальклярыста ўжо ў Нямеччыне, калі апынуўся ў лягеры перамешчаных асобаў. Працаваў як апантаны, бо нечакана атрымаў рэдкую магчымасьць фіксаваць песьні розных беларускіх рэгіёнаў. У сшытку зьяўляліся ўсё новыя й новыя запісы беларускіх народных песень. Равенскі сьпяшаўся. Назоваў песьням не даваў, нават не запісваў цалкам тэкст, толькі першыя радкі. Відавочна, што гэты сшытак зьмяшчае пачатковыя нататкі. Апрацоўкай унікальнага назапашанага матэрыялу заняўся пазьней, у 1949 г. У новым сшытку на 270 старонак пачаў сваім каліграфічным почыркам запісваць песьні, сабраныя ў 1920—1940-я гг. Тут досыць часта пазначаў, ад каго зроблены запіс, жанр і рэгіён Беларусі, адкуль паходзіць песьня й г. д.

Сшытак фальклёрных запісаў Міколы Равенскага 1949 г. — гэта надта каштоўная для беларускай навукі скарбонка народнай творчасьці. Калі мы параўнаем яго са знакамітымі зборамі Рыгора Шырмы й Гена-

---

[12] Равенскі, Мікола. Гармонізаваньне беларускіх народных песень маскоўскімі композыторамі // Узвышша. 1928. № 4.

дзя Цітовіча, то ўбачым і агульнае, і адрознае. Да агульнага аднясём, напрыклад, аднолькавыя песьні. Аднак запісаныя яны ў розны час, ад розных людзей, у розных абставінах. Дый адных і тых жа песень у зборах выдатных беларускіх навукоўцаў, па сутнасьці, ня так ужо й шмат. Што да адрозьненьняў, дык іх нямала. Першае, што кідаецца ў вочы, — розная мэтрарытмічная арганізацыя нотнага тэксту. Другое — крыху адрозныя варыянты тэкстаў песень. Зьвяртае на сябе ўвагу й тое, што тэксты добра вядомых нам песень часам запісаныя ня цалкам або, наадварот, шырэйшыя за варыянты, запісаныя Шырмам, Цітовічам ды іншымі беларускімі фальклярыстамі. Навуковы аналіз запісаў Равенскага, будзем спадзявацца, у сувязі з выхадам з друку гэтай кнігі будзе зроблены.

Сярод аўтографаў Равенскага ёсьць яшчэ адзін, пазьнейшага часу сшытак, які таксама зьмяшчае шэраг фальклёрных запісаў. Тамсама зьмешчаны й ягоныя ўласныя творы й нават творы іншых беларускіх кампазытараў. Гэты сшытак мы называем “Лювэнскім”. Называем так таму, што ў ім сабраны творы (тут іх каля 90), якія Равенскі прызначаў для працы з хорам беларускіх студэнтаў Лювэнскага ўнівэрсытэту. Сярод фальклёрных запісаў у сшытку 1949 г. толькі ў адзінкавых выпадках сустракаюцца згадкі пра запісы калегаў (Міколы Шчаглова, Мікалая Чуркіна), а сярод апрацовак народных песень у Лювэнскім сшытку пераважаюць менавіта кампазыцыі Міколы Шчаглова, Нестара Сакалоўскага, Уладзімера Тэраўскага ды іншых. Тамсама зьмешчаныя й харавыя партытуры апрацовак беларускіх народных песень самога Равенскага.

Праца з хорам вымагала ад кампазытара ствараць канцэртны рэпэртуар для сваіх выхаванцаў. Каб падтрымліваць у іх на чужыне дух нацыянальнай сьвядомасьці й гонару за сваё беларускае мастацтва, Равенскі ўзнавіў і шэраг уласных твораў на вершы беларускіх паэтаў. Акрамя таго, для студэнцкага хору стварыў “Беларускую сюіту” для салістаў, мужчынскага хору ў суправаджэньні фартэпіяна, большасьць нумароў якой — апрацоўкі беларускіх народных песень.

Запісы беларускіх народных песень Равенскага нават пры першым азнаямленьні выклікаюць багата роздумаў. Вось некаторыя назіраньні. Як ужо адзначалася, у 1930-я гг. Мікола Равенскі супрацоўнічаў з Акадэміяй навук БССР і вынікам гэтай супрацы стала выданьне “Песні Беларускага Народу”. Адна з абавязковых у тагачасным рэпэртуары псэўданародных песень гэтага зборніка, прысьвечаная Сталіну, “Не пытай жа, мой міленькі…”, паводле камэнтару, *«запісана М. Равенскім у 1937 г. у к-се “Асветнік” (в. Лучыцы), Капаткевіцкага р-на ад Шацко Дуні, 18 г. Тэксты запісаны ў розных раёнах БССР»*. Аднак вось што цікава. Мэлёдыя прыпевак “Не пытай жа, мой міленькі…” ёсьць пародыя на… песьню Антона Абрамовіча (вершы Яна Баршчэўскага) “Гарэліца”.

Ад старэйшых людзей даводзілася чуць наступнае. У 1930-я гг. усе музычныя выдавецтвы абавязаны былі зьмяшчаць у сваіх выданьнях гэткія "ўзоры" народнай творчасьці. Таму падчас фальклёрных экспэдыцый літаратары й музыканты часта проста самі пісалі тыя прыпеўкі, выдаючы іх за народныя. Хутчэй за ўсё, так атрымалася й з прыпеўкамі "Не пытай жа, мой міленькі..."[13].

*Не пытай жа, мой міленькі,*
*Чым я апячалена, —*
*Не бывала я ў Маскве,*
*Не відала Сталіна.*

*У зялёненькім у садзе*
*Распусцілась вішанька.*
*Лепшы ўдарнік у калгасе*
*Мой мілёнак Мішанька.*

Музычны сымбаль падабенства з "Гарэліцай" Абрамовіча паказвае на падабенства жыцьця беларускага сялянства часоў зьяўленьня "Гарэліцы" (першая палова XIX ст.) і "слаўных" сталінскіх часоў прыпеўкі "Не пытай жа, мой міленькі...".

Узьнікае пытаньне, ці ведаў Равенскі "Гарэліцу" Абрамовіча. Ускосны станоўчы адказ знайшоўся ў ягоным сшытку фальклёрных запісаў 1949 г. Там за № 190 упісаная песьня з назовам "Гумарыстычная". На самай справе гэта — "Дзеванька" Антона Абрамовіча на верш Яна Баршчэўскага. Нотны запіс, паводле камэнтару кампазытара, ажыцьцёўлены Равенскім у 1940-я гг. у лягерах Ды-Пі ў Нямеччыне. Значыць, творы Антона Абрамовіча да сярэдзіны XX ст. фальклярызаваліся. Калі гэта здарылася зь "Дзеванькай", магло тое самае здарыцца й з "Гарэліцай". Акрамя таго, ня трэба забывацца, што Равенскі вучыўся ў Маскве, дзе ў яго быў доступ да тых архіўных матэрыялаў, якіх у Менску проста не было. Там ён таксама мог пазнаёміцца зь першадрукам "Гарэліцы". У кожным разе, зроблена было гэта наўмысна ці не, падабенства прыпеўкі "Не пытай жа, мой міленькі..." з "Гарэліцай", калі б яно было заўважана тады, у 1940 г., магло каштаваць Равенскаму жыцьця. Праўда, ужо другі год, як ішла Другая сусьветная вайна. Улады маглі й недагледзець гэткую дробязь.

Некаторыя народныя песьні, запісаныя Равенскім, вядомыя па друках XIX ст. Напрыклад, песьня "Разьвівайся, сухі дубе" (Сшытак 1949 г. № 234). Яна нам вядомая па "Сялянскіх песеньках з-над Нёмна

[13] Між іншым, у іх праглядае вобраз, які ўвасобіўся ў 1970-я гг. такім двухрадкоўем: "Прайшла зіма, прыходзіць лета, / Дык дзякуй, партыя, за гэта".

й Дзьвіны” Яна Чачота (Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny. Wilno, 1846 (№ XXXVI))[14]. Вось тэкст песьні, запісаны Янам Чачотам:

*Разьвівайся, сыры дубе,*
*Зараз мароз будзе;*
*Прыбірайся, сыну, ў панцыр,*
*Зараз паход будзе.*
*“Я марозу не баюся,*
*Зараз разьбяруся;*
*І паходу не баюся,*
*Зараз разьбяруся”.*

*Ой, сеў сабе на коніка,*
*Нізенька скланіўся:*
*“Выбачайце, вы, суседзі,*
*Можа, пасварыўся”.*
*Матка ў яго запытала:*
*“Калі будзеш госьцем?” —*
*“Як у сенях на памосьце*
*Травіца вырасьце”…*

А вось тэкст песьні, які запісаў Мікола Равенскі:

*— Разьвівайся, сухі дубе,*
*Заўтра мароз будзе.*
*Сабірайся ты, малойчык,*
*Заўтра паход будзе.*
*— Я марозу не баюся,*
*Зараз разаўюся.*

*— Я паходу не баюся,*
*Зараз сабяруся.*
*Ой, сеў сабе на коніка,*
*Нізенька скланіўся:*
*— Выбачайце мне, суседзі,*
*Можа з кім сварыўся.*

Натуральна, за сто гадоў некаторыя зьмены ў тэксьце адбыліся, але, хутчэй, у лепшы бок.

Яшчэ адна запісаная Равенскім песьня — “Мяцеліца” (Сшытак 1949 г. № 149). Цытуем фрагмэнт тэксту гэтай песьні:

[14] У 1857 г. да польскага перакладу гэтай песьні Станіслаў Манюшка напісаў музыку, якую назваў “Ад’езд на вайну”.

*Бадай, таго каваля, каваля*
*Мяцеліца замяла, замяла.*
*Як ён мяне маладу, маладу*
*Ды змарозіў на ляду, на ляду.*

А вось фрагмэнт Сцэны Навума Прыгаворкі з опэры Станіслава Манюшкі й Канстанціна Крыжаноўскага "Ідылія" ("Сялянка") на лібрэта Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча:

*Бадай, таго каваля, каваля*
*Мяцеліца замяла, замяла.*
*Як ён яе маладу,*
*Да й змарозіў на ляду.*

Паводле словаў Станіслава Манюшкі, працуючы з тэкстамі Яна Чачота, ён імкнуўся да стварэньня *"...цыклю мэлёдый, якія адлюстроўвалі б мясцовы характар люду і былі б выяўленьнем забаваў, абрадаў і звычаяў народу"*[15]. Асваеньне, дакладней, выяўленьне празь сябе народных мэлёдый роднага краю (найперш Меншчыны, дзе ён нарадзіўся) Манюшка зьдзяйсьняў на высокапрафэсійным роўні, пераводзячы іх з фальклёрнага стану ў акадэмічны[16].

Адной з самых важных і цікавых для нас зьяўляецца сцэна Навума Прыгаворкі з опэры "Ідылія" ("Сялянка") — бліскучая стылізацыя, абразок, фрагмэнт вясковага сьвята. Заслуга аўтараў у тым, што яна абсалютна натуральна ўпісваецца ў разьвіцьцё акадэмічнага спэктаклю. Па словах праўнучкі Дуніна-Марцінкевіча Стэфаніі Сасноўскай, музыку да сцэны Навума Прыгаворкі падабраў (ці стварыў?) Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Вядома, што ролю Навума ў спэктаклі выконваў сам драматург. Магнітафонная стужка захавала нам запіс выкананьня пад гітару пані Стэфаніяй шасьці нумароў з музыкі да спэктакляў "Ідылія" ("Сялянка"), "Пінская шляхта" ды іншых з папярэдняй аб'явай: *"Словы і музыка (!) Дуніна-Марцінкевіча"*. Магчыма, Манюшка ці Крыжаноўскі толькі апрацавалі гэтую мэлёдыю[17]. Супадзеньне слоў "Мяцеліц", запісаных з розьніцаю амаль у сто гадоў Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам і Міколам Равенскім, змушае нас яшчэ больш пільна ўслухацца ў музыку Станіслава Манюшкі й нарэшце пачаць ня толькі задаваць, але й адказваць на пытаньні пра беларускасьць ягонай творчасьці. Тут дарэчы будзе меркаваньне Рыгора Шырмы: *«...Манюш-*

[15] Tygodnik Petersburgski. № 72. 1842.

[16] Скорабагатаў, Віктар. Зайгралі спадчынныя куранты. Мінск: Тэхналогія, 1998.

[17] Гл. больш падрабязна ў кнізе: Скорабагатаў, Віктар. Зайгралі спадчынныя куранты.

*ка ў сваёй творчасці не мог пазбегнуць уплыву беларускага народнага меласу. У песнях і асабліва ў оперы "Фліс" (Плытагон) такое багацце народных інтанацый, што, слухаючы, адчуваеш, нібы прысутнічаеш недзе пад Слуцкам або каля Мінска на ўрачыстым свяце беларускіх сялян»*[18].

У сшытку фальклёрных запісаў 1949 г. за № 61 Равенскім занатавана беларуская народная песьня "Ці я ў полі":

*Ці я ў полі, ці я ў полі не калінкай расла,*
*Ці я ў полі, ці я ў полі не чырвоная была?*
*Яе ўзялі паламалі ды ў пучочкі павязалі,*
*Мусіць трэба было, мусіць трэба было.*

А цяпер працытуем фрагмэнт тэксту рамансу Пётры Чайкоўскага (сач. 1880 г.) на словы Івана Сурыкава *"Я ли в поле да не травушка была"*:

*Я ли в поле не калинушка была,*
*Я ли в поле да не красная росла;*
*Взяли калинушку, сломали,*
*Да в жгутики меня посвязали!*
*Ох, ты, горе моё, горюшко!*
*Знать такая моя долюшка!..*

Надрукаваны ў 1875 г. верш Івана Сурыкава мае назоў "Маларасійская песьня". Чаму? Улічым такую акалічнасьць. Як ведаем, у той час нават слова "Беларусь" было пад забаронай. Ці не таму ў перакладзе на расейскую мову песьня зь беларускай ператварылася ва ўкраінскую?

Як навуковец у галіне беларускай музычнай этнаграфіі, Мікола Равенскі пакінуў нам тры працы. Дзьве зь іх былі апублікаваныя ў 1928 г. ва "Ўзвышшы"[19]. Яны ўяўляюць зь сябе навукова-папулярныя крытычныя артыкулы. Апошняя ж — "Асаблівасьці беларускай народнай песьні" — да гэтага часу заставалася ў рукапісе. Яе нам перадала дачка кампазытара Вольга Мікалаеўна Аляксеенка (Равенская).

"Асаблівасьці..." кампазытар пачаў пісаць у 1949 г., пасьля таго як назапасіў запісы народных песень. Напісаньнем гэтае працы завяршаецца трыццацігадовая праца Равенскага-фальклярыста. Па ўсім відаць, ён рыхтаваў навуковую працу да публікацыі, дзе рэфэрат, хутчэй за ўсё, меўся быць разам са зборам беларускіх народных песень. Равенскі засяродзіўся ў працы на асэнсаваньні ўжо назапашанага матэрыялу. Ён

[18] Шырма, Рыгор. Песня — душа народа. Мінск: Мастацкая літаратура, 1972. С. 305.

[19] Гармонізаваньне беларускіх народных песень маскоўскімі композыторамі // Узвышша. 1928. № 4; Пра зборнік песень, які выдрукаваны на Беларусі для дзяцей дашкольнага ўзросту // Узвышша. 1928. № 6.

глыбока вывучаў песьні, запісаныя ў папярэднія гады. У сшытку 1949 г. алоўкам пазначаў у мэлёдыях лад, жанр — рыхтаваў гарманізацыі песень. Шматлікія пазнакі сьведчаць, што Равенскі ўвесь час шукаў заканамернасьці, вылучаў *"характэрныя рысы беларускіх народных песень"*, а на аснове іх глыбокага й аб'ектыўнага абагульненьня рабіў высновы, у якіх радасна сьцвярджаў самому сабе й сьвету яскравую самабытнасьць беларускай народнай песеннай творчасьці.

Чытаючы "Асаблівасьці...", увесь час адчуваеш, што кампазытар, жывучы далёка ад радзімы, быў зусім не адарваны ад агульнабеларускага навуковага працэсу ў галіне фальклёру. У тыя ж гады Рыгор Шырма й Генадзь Цітовіч пісалі фундамэнтальныя дасьледчыя працы. Аднак яны мелі магчымасьць працаваць ня толькі з уласнымі запісамі, але й з працамі іншых навукоўцаў у бібліятэках і архівах. Гэтых магчымасьцяў у Равенскага не было. Ён мог абапірацца толькі на ўласныя веды, уласную памяць і ўласны дасьледніцкі досьвед працы з народнымі песьнямі.

Азнаёміўшыся з падрыхтаваным да друку рэфэратам, доктар мастацтвазнаўства Вольга Дадзіёмава трапна заўважыла: *"Узноўлена, паўстала з попелу яшчэ адна клясычная праца ў галіне беларускай фальклярыстыкі. Можа, погляды Равенскага сёй-той палічыць сёньня ў чымсьці наіўнымі або першапачатковымі, але гэта — погляды аднаго з пачынальнікаў беларускай фундамэнтальнай этнаграфіі XX стагодзьдзя, яе сапраўды айчыннага значэньня"*.

Ёсьць шэсьць рукапісных варыянтаў аўтографаў гэтай навуковай працы. Аднак, бадай, толькі адзін зь іх мае больш-менш закончаны выгляд. Стан здароўя не дазволіў кампазытару давесьці задуманае да канца. А ў сакавіку 1953 г. яго ня стала.

Больш чым праз паўстагодзьдзя нам, каб апублікаваць гэтую працу, па сутнасьці давялося прайсьці шляхам Равенскага-навукоўца. Зьвялі тэксты шасьці варыянтаў у адзін цэласны й пасьлядоўны пласт, зьнялі паўторы. Толькі тады й высьветлілася, што праца мае завершаны выгляд. Падрыхтоўка да друку рэфэрату й запісаў беларускіх народных песень пераканала нас і ў тым, што гэта — дзьве часткі адной працы.

***Ціхан Чарнякевіч***
*Менск*

# ЯК РАБІЛІ ГАЛОЎНУЮ КНІГУ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА[1]

*Як укладалі “Спадчыну”: Да 135-годдзя ад нараджэння і 75-годдзя смерці Янкі Купалы / уклад., падрыхтоўка тэкстаў, уступ. слова, агульнае рэдагаванне Наталлі Гардзіенкі, Лявона Юрэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2018. — 290 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 35).*

За таўсматую кнігу Янкі Купалы “Спадчына” заўсёды чапляешся вокам у букіністычных кнігарнях. Нават займеўшы гэты тамок, хочацца купіць яшчэ адзін пры нагодзе — усё ж такі вельмі мала сапраўды шыкоўных самавітых выданьняў было ў беларусаў, і амэрыканска-мюнхенская “Спадчына” 1955 г. — бясспрэчна, адно зь іх. Вага, аб’ём, файная вокладка, ілюстрацыі, шоргат акуратна ці ня вельмі разрэзаных старонак, нетрывіяльныя фотаздымкі Купалы даюць пэўную букіністычную асалоду.

Кніга сапраўды знакавая, але не заўсёды ўсьведамляеш, што вакол яе была й свая гісторыя. У прынцыпе дык кожная кніжка — гэта проста тэксты. Яна ня скажа табе, як гэтыя творы пісаліся, што выкрасьлілася (аўтарам, рэдактарам, цэнзарам) і засталося за кадрам, адкуль узяліся грошы на друк, хто выбіраў вокладку, празь якія выпрабаваньні трэба было прайсьці перад, уласна кажучы, друкарняй — і ці куплялі гэтую кнігу наогул. Тым ня менш уся гэтая закадравая гісторыя кніжак, як на мяне, надзвычай пэрспэктыўная што да раскрыцьця й абнародаваньня. На паверхні такой альтэрнатыўнай гісторыі беларускай кнігі лунаюць толькі нейкія асобныя выпадкі, як правіла, зьвязаныя з цэнзурай — напрыклад, рассыпаны набор першага рамана Ўладзімера Караткевіча “Леаніды ня вернуцца да Зямлі”. Можна ўспомніць, як грамадою ўпершыню зьбіралі грошы на выданьне першай незалежнай кнігі Быкава “Сьцяна”, глухія чуткі пра тое, як рэдагаваўся той ці іншы культавы твор сучаснай літаратуры. Разам з тым нават у ня вельмі цікавай кнігі можа быць шалёная гісторыя ўзьнікненьня, і раз-пораз такія *“патаемныя жыцьці кніг”* трапляюцца ў архіўных справах, аднак пакуль там, у справах, і застаюцца.

---

[1] Тэкст быў апублікаваны на сайце “Будзьма беларусамі!”. Гл.: http://budzma.by/literature/yak-rabili-halownuyu-knihu-byelaruskaha-zamyezhzha.html.

Вось жа, упершыню ў нас і, што таксама ў нейкім сэнсе паказальна, менавіта ў сувязі з найпершым клясыкам Янкам Купалам зьяўляецца выданьне ў жанры *"кніга пра кнігу"* — «Як укладалі "Спадчыну"» Натальлі Гардзіенкі й Лявона Юрэвіча.

Стваральнікаў "Спадчыны" — фактычна двое: нью-ёркавец Вітаўт Тумаш і мюнхенец Станіслаў Станкевіч, былыя заходнебеларусы й выпускнікі віленскіх унівэрсытэтаў, адміністратары часоў акупацыі, тагачасныя топ-мэнэджары беларускага руху й лютыя ворагі УКП(б). Іх двухбаковае ліставаньне — аснова дадзенай кнігі.

Трэба ведаць, што на той час, у 1950-я, Станіслаў Станкевіч выдае разам з газэтай "Бацькаўшчына" кнігу за кнігай, якія спачатку друкуюцца на газэтных палосах, а потым выходзяць асобнымі выданьнямі, кожнае зь якіх у пэўным сэнсе прадстаўляе тое, што ў гэты самы час Антон Адамовіч назаве "супраціўленьнем саветызацыі ў беларускай літаратуры": "Запіскі Самсона Самасуя" Андрэя Мрыя, "Нядоля Заблоцкіх" Лукаша Калюгі, "Новая зямля" й "Сымон-музыка" Якуба Коласа, "Тутэйшыя" й "Раскіданае гняздо" Янкі Купалы. Неўзабаве выйдуць выбраныя творы Вацлава Ластоўскага й нават скандальныя "Дабрасельцы" Аляксея Кулакоўскага, праз якіх апошняга зьнялі з пасады галоўнага рэдактара часопіса "Маладосьць".

Станкевіч такім чынам фармуе антысавецкі канон, што на пачатак 1950-х зрабіць зусім не складана, бо фактычна большасьць заўважных твораў даваеннай літаратуры не перавыдадзеная ў БССР, не рэабілітаваныя яшчэ й іх аўтары. Значная частка клясыкі ў Савецкім Саюзе таксама застаецца пад забаронай, а Янка Купала шануецца выключна прасавецкі, пэрыяду 1930-х гг.

Укладальнікі кнігі абсалютна недвухсэнсоўна даюць зразумець сваю пазыцыю, што Купала пасьля 1930 г., пасьля спробы самагубства, — гэта ўвогуле не Купала, адзначаючы ў "Спадчыне", што *"сваім абсягам кніга ня выходзіць за тую канцавую, замыкаючую вольную песьняровую творчасьць мяжу, якую сам Купала сваёй-жа рукою й крывёй правёў у часе гаракіры ў чэрвені 1930 году"*. То бок нават храналягічны "савецкі Купала" бярэцца ўкладальнікамі толькі ў той сваёй часьціне, дзе ён сьцьвярджае нацыянальную годнасьць — маюцца на ўвазе вершы 1920-х супраць вялікарасейскіх шавіністаў. Сам пэрыяд 1920-х, які ў сучасны момант праходзіць стадыю некрытычнага прыняцьця й міталягізацыі, называецца ўкладальнікамі *"эпохай безназоўнага"*, калі чаканьні нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі ня спраўджваюцца і настае, на іх погляд, час, груба кажучы, абы-чаго — самастойнасьць, незалежнасьць, увогуле беларушчына як суб'ект не набывае таго статусу й тае сілы, якія чакаліся нашаніўцамі.

Такім чынам, распачынаючы друк "Спадчыны", Тумаш і Станкевіч бачаць статус свайго аднатомнага выданьня Купалы як узорны, адзіна

патрэбны для эміграцыі — у нейкім сэнсе адпаведны клясычнаму “Кабзару” Тараса Шаўчэнкі. Недарэмная ў рэклямнай абвестцы аб папярэдняй падпісцы (фактычна аналягу цяперашняга краўдфандынгу) і згадка пра Біблію, якую некаторыя эмігранты выпісваюць і купляюць сабе за 45 даляраў, а вось жа выданьне Купалы каштуе ў чатыры разы таньней. Можна сказаць, што складальнікі ўяўляюць аднатамовую “Спадчыну” як Кнігу Кніг, своеасаблівы сакральны “маст хэв” для кожнага беларуса замежжа. Яны нават вырашаюць ня згадваць у абвестках імя прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка — фактычнага фундатара выданьня, каб аб’яднаць вакол Купалы прыхільнікаў БНР і БЦР.




З сакралізацыяй адразу (і непазьбежна) узьнікаюць праблемы, бо свайго дыстыляванага “Кабзара” Купала не пакінуў. Канцэптуалізаваць ягоны пакручасты й неаднародны лірычны наробак даводзіцца з нуля. Фактычна — пры адсутнасьці папярэднікаў і пры надзвычай ускладненым нямецка-амэрыканскім доступе нават папросту да прыжыцьцёвых публікацый ягонай лірыкі (узважваючы кіляграмовы том “Спадчыны”, трэба ведаць, што нават першых дзьвюх кніжак Купалы — “Жалейкі” й “Гусьляра” — укладальнікі на руках ня мелі. Іх проста не было дзе ўзяць).

Вітаўт Тумаш бярэ на сябе гэтую працу і, па вялікім рахунку не зьяўляючыся чыстым літаратуразнаўцам ці купалазнаўцам, выдатна выконвае “структурны” аналіз усёй паэзіі Купалы, групуе яе па асноўных тэматычных блёках, вызначае гады напісаньня і ўрэшце на 500 старонках прадстаўляе кампазыцыйную ўвэрцюру ўсёй паэзіі Купалы. Ён вызначае пачатковыя вершы й кульмінацыі-фіналы для кожнага разьдзелу кнігі. Перад чытачом узьнікае строгая форма “кнігі вершаў”, падобная да багдановічаўскага “Вянка”. Кожны твор займае сваё дакладнае месца, і Тумаш зь вялікімі цяжкасьцямі й відавочнай неахвотай пасьля рэдагуе створаную ўласнаручна кампазыцыю зборніка.

Усё гэта адбываецца яшчэ ў Нью-Ёрку, а ў Мюнхене пад кантролем Станкевіча — ня менш працаёмкая тэхнічная праца. Здабыцьцё грошай, дамовы з друкарнямі, вёрстка, пераклады ўступу на замежныя мовы, друк, пераплёт, распаўсюд…

Як жа быў ацэнены гэты тытанічны чын працягласьцю ў некалькі гадоў? Ці ёсьць у лістах згадка, *"па колькі чырвонцаў"* атрымліваюць укладальнікі? Ды не. Можа, яны атрымаюць ганарар кніжкамі? Адказ ёсьць у лісьце Станкевіча: *«Купалаў зборнік разсылаем у пачках па 5 штук у кажнай. Днямі атрымаеш і інструкцыю, як іх прадаваць і нікому абсалютна не даваць задарма. Навет я, які бадай найбольш працы ўлажыў пры яе выданьні, адзін эгзэмпляр за 11 даляраў купіў за "налічныя"»*.

Як кажуць, без камэнтарыяў.

Праз усю кнігу разам з гутаркамі пра вёрстку ці карэктуру фонам праходзіць палітычная барацьба, праца аднаўленай Рады БНР, кагадзе створанай беларускай службы Радыё "Свабода", канфлікты з БЦР, канфлікты ў Інстытуце вывучэньня СССР. Вакол купкі людзей стаіць неймаверны шум: ідуць дыскусіі фактычна па праве беларусаў на самавызначэньне перад усім сьветам. Відавочна, што беларуская дыяспара й пасьля вайны адчувала сябе ня вельмі моцна ў параўнаньні з расейскай, украінскай, якія даўно заявілі пра сябе. Літаральна некалькім людзям даводзілася ў наўпроставым сэнсе адбівацца ад прапановаў злучыцца ў саюз з рускімі антысаветчыкамі, стаць пад крыло ўкраінскай ідэнтычнасьці, увайсьці ў той ці іншы альянс, які пагражаў бы самастойнаму існаваньню беларускіх арганізацый. Дзякуючы імпэту й бескампраміснай пазыцыі Міколы Абрамчыка й Станіслава Станкевіча высокіх урадоўцаў Амэрыкі й Эўропы ўдалося пераканаць у праве на асобную беларускую "рацыю стану", а часта нават і пазнаёміць увогуле з існаваньнем беларускага народу, зь яго гісторыяй. *«Расейскія пызыцыі й так забясьпечаныя, а што-ж датычыцца, каб нешта можна было зрабіць "нацыяналам", дык усё ўпіраецца ў аргумэнт "няма грошаў". Тое, што мы... дабіліся выданьняў сваіх зборнікаў, дык гэта даслоўна было вырвана з зубоў іхных пры загрозе, што бразьнем дзьвярыма»*, — абмалёўвае сытуацыю зь беларускімі выданьнямі мюнхенскага інстытуту Станіслаў Станкевіч.

Зразумела, што назваць гэта фонам можна толькі "мякка кажучы". Насамрэч барацьба за кожную капейку, за месца пад сонцам займала львіную долю часу, і тое, што ў такіх варунках атрымлівалася рабіць свае газэты, радыёстанцыі, кнігі, падобныя да "Спадчыны", само па сабе ўражвае. Усё пастаянна вісела на валаску.

*"Кніга вялізарная (каля кіляграма вагі) і вымагае шмат тэхнічных і рэдактарскіх выканчэньняў. Яна мне, ды, думаю, і Табе далася моцна ў знакі, што больш за такія вялікія выданьні ніколі брацца ня буду"*, — піша за некалькі месяцаў да выхаду "Спадчыны" Станіслаў Станкевіч. *"Надаела кніга, то пэўна,* — адказвае на ліст Тумаш. — *Працы й часу таксама затрачана нямала. Самой перапіскі ў гэтай справе, перадусім з Табой, набралася ўжо ня менш хіба як тэксту*

*самой кнігі. Як некалі справа ўжо будзе закончаная, думаю ўсю перапіску вылучыць, скласьці ў месца ды для архіўных патрэбаў даць апрацаваць: том, думаю, будзе мала меншы за самую Купалаву кнігу*".

Вось жа, праз 63 гады той архіўны том дачакаўся свайго часу. Застаецца спадзявацца, што ён будзе ўдзячна прачытаны й "*трутнем ня зъедзены*".

*Кніжная паліца*

**_Ціхан Чарнякевіч_**
*Менск*

# ПАЭТ, ЯКІ ПЕРАЙМЕНАВАЎ “МЕНСК” У “МІНСК”[1]

*Масей Сяднёў: Pro et contra / аўтар-уклад. Лявон Юрэвіч. Мінск: Кнігазбор, 2018. — 148 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны: кн. 36).*

Як правіла, аб беларускія выданьні “пісьменнікаў мінулых гадоў” можа добра ўвэдзгаць пальцы — столькі ліюць бронзы на квадратны сантымэтр выдавецкай плошчы, што яна міжволі застаецца на эпітэліі пасьля прачытаньня. А то і ў горле дырынчыць, аж хочацца адкашляцца. Новая кніжка Лявона Юрэвіча “Масей Сяднёў: pro et contra” — акурат спроба кашлянуць і падумаць, што зь мітаў пра Сяднёва можна са спакойным сумленьнем адпрэчыць.

Колькасьць нашай бронзы, безумоўна, выкліканая адвечным негалоўным відам спорту — сацыяльным канструяваньнем рэальнасьці, якое пры наяўнасьці адсутнасьці нейкіх істотных зменаў у навакольлі замяняе магчымасьць ускараскацца на вяршыню п’едэсталу. Вакол прадстаўнікоў эміграцыі бронзы заўжды было асабліва шмат, што зьвязана з адчуваньнем пэўнай калектыўнай віны за дзесяцігодзьдзі замоўчваньня іх наробку ў савецкі час. Нейкі флёр ад таго некрытычнага прыманьня застаецца й дагэтуль — тады, калі ў тых жа “Запісах БІНіМ” апублікаваныя, без перабольшваньня, тысячы самых розных, у тым ліку вельмі контравэрсійных, дакумэнтаў, датычных шмат каго з эміграцыі. Дзясятак гадоў чытаючы згаданы альманах, я ня раз сустракаў недвухсэнсоўна адмоўнае стаўленьне да аднаго з найвядомейшых літаратараў замежжа — Масея Сяднёва. Цяпер гэтыя ацэнкі, згадкі, водгукі й палемічныя выказваньні фактычна цалкам увайшлі ў кнігу Лявона Юрэвіча й высьвечваюць асобу Сяднёва як прафэсіянала ў галіне мастацкага тролінгу й дэканструкцыі.

Ня памятаю, ці выходзіла на беларускай службе Радыё “Свабода” публікацыя “невядомых фактаў” пра Масея Сяднёва, былога дырэктара РС, але калі такая зьявіцца, то адным з найбольш відавочных фактаў будзе той, што амаль усе супрацоўнікі беларускай службы хацелі зрабіць свайму кіраўніку “цёмную”.

[1] Тэкст быў апублікаваны на сайце “Будзьма беларусамі!”. Гл.: http://budzma.by/news/paet-yaki-pyeraymyenavaw-myensk-u-minsk.html.




Сяднёў улазіў ва ўсе тэксты з глыбокім рэдагаваньнем, перайменаваў на радыё Менск у Мінск, заклікаў менш нэгатыўна ставіцца да савецкага ладу, захапляўся супрацоўнікамі рускай службы “Свабоды” й схільны быў лепш прыцягваць да працы іх, чым кагосьці зь беларусаў, перапісваў гатовыя тэксты ад заслужаных журналістаў, рэгулярна заварочваў гатовыя тэксты (пры іх немалым дэфіцыце). “Сьвінствы Сяднёва”, паводле вызначэньня Янкі Запрудніка, выклікалі ў супрацоўнікаў трывалы нэўроз, які можна лёгка адсачыць празь мюнхенска-амэрыканскую перапіску.

Знаходзячыся ў Амэрыцы, Сяднёў у лірычным вершы “Вызваленьне” ўнёс пэўную бадзёрасьць у літаратурныя колы радкамі пра “юнкерсы” й “мэсэршміты”:

*Маліўся сіле агнявой*
*і дню, што лёс мой перайначыў.*
*Я самалёту кожнаму над галавой*
*жадаў найлепшае ўдачы.*
*Як зьвязаныя ніцямі душы,*
*і ў лёце не гублялі яны згоды.*
*І крыльле іх у сонечнай вышы*
*гарэла водблескам мае свабоды.*

Але гэтым эпатажнасьць ягоная ня скончылася. Неўзабаве ён напісаў рэзанансны тэкст пра тое, што ў прынцыпе ўся беларуская літаратура, улучна з клясыкамі Коласам і Купалам, дастаткова другарадная ў сусьветным маштабе зьява, правінцыйная й непараўнальная з рускай культурай. Літаратурную супольнасьць беларускай эміграцыі артыкул Сяднёва прывёў у стан шоку. Што да іншых ацэнак, то можна даведацца, напрыклад, пра аповесьць Максіма Гарэцкага “Дзьве душы” як пра *“рэч слабую, блізу нечытэльную”* (ліст да Янкі Запрудніка ад 17.07.1974). Вершы Алеся Салаўя, паводле яго, — *“дзіцячыя, вучнёўскія, гімназіяльныя, не становяць сабой блізу ніякай вартасьці ні з гледзішча мастацкага, ні з гледзішча ідэйнага”* (с. 52) і *“за іх прост-такі сорамна перад нашым слухачом”* (с. 55). *“Каліноўскі — гэта польская*

*гісторыя. У яго не было ніякай беларускай праграмы*". "*Касьцюшка. Ну пашто мы робім зь яго нейкага беларускага героя? Як і Каліноўскі, Касьцюшка змагаўся за Польшчу, а не за Беларусь*". "*Ня трэба ствараць ілюзіі беларускай дзяржаўнасьці ў мінулым, ілюзіі, што мы яе мелі, знаходзячыся ў складзе Вялікага Княства Літоўскага. Гэта ня так*". "*Караткевіч — добры пісьменьнік, але — зноў жа — у сваіх гістарычных творах ідэалізуе ня нашу, а, па сутнасьці, чужую гісторыю — дзеі шляхты, гэта значыць, палякаў. У гістарычных творах Караткевіча мы ня бачым уласна беларусаў*" (с. 132—134).

Дажыўшы да незалежнасьці Беларусі, Сяднёў прыехаў у Менск і — ужо пры Лукашэнку — выступіў з дакладам на канфэрэнцыі, дзе даводзіў, што малітву "Ойча наш" увогуле ня трэба перакладаць на беларускую мову, трэба пакінуць яе ў арыгінале, то бок па-царкоўнаславянску. Бо ў іншым выпадку "*губляецца дух самой малітвы, тут парушаны рытм, строй арыгінальнай царкоўнаславянскай мовы, плаўнасьць яе і паэтычнасьць*".

Цытаты можна доўжыць далей, але й бяз гэтага відавочна: новая кніга Юрэвіча падкладае неслабую бомбу ў падваліны беларускай літаратуры. І тое, што бомба не ўзарвалася дагэтуль, можа тлумачыцца толькі няспраўным заводным механізмам. Вось жа наладжваем яго й чакаем гуку раскручанага вэнтылятара.

# ЗЬВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ

**Ігар Алоўнікаў** (нар. 1954), народны артыст Беларусі, ляўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, прафэсар Беларускай акадэміі музыкі. Вучыўся ў Маскоўскай кансэрваторыі імя П. І. Чайкоўскага (кляс фартэпіяна праф. Я. Фліэра і кляс арганаў праф. Л. Ройзмана), у тым ліку ў асьпірантуры (кляс праф. М. Васкрасенскага). Гастралюе па краіне й за яе межамі. Выступае як з сольнымі фартэпіяннымі й арганнымі праграмамі, так і ў камэрных ансамблях зь вядомымі салістамі-інструмэнталістамі й вакалістамі, а таксама з сымфанічным і камэрным аркестрамі. Праводзіць майстар-клясы для маладых піяністаў зь Японіі, Тайваня і іншых замежных краінаў. У 1987—1993 гг. узначальваў катэдру спэцыяльнага фартэпіяна Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Рэдактар шэрагу сэрый нотных выданьняў, якія ажыцьцяўляе “Беларуская Капэла” з 1996 г.: “Беларускі гістарычны нотазбор”, “Музыка старажытных сядзібаў”, “Збор твораў Міколы Равенскага”, старшыня рэдакцыйнай калегіі Збору твораў Яна Тарасэвіча.

**Аляксандар Асіпчык** (1909—1990), грамадзкі й царкоўны дзеяч. У гады Другой сусьветнай вайны браў удзел у дзейнасьці беларускіх грамадзкіх і культурна-нацыянальных арганізацыяў. З 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку жыў у Нямеччыне, супрацоўнічаў з часопісам “Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі”. У сакавіку 1950 г. выехаў у Амэрыку, жыў сьпярша ў ЗША, потым у Канадзе і ўрэшце зноў у ЗША. З 1950-х гг. быў зьвязаны з Расейскім аб’яднаньнем таварыства ўзаемадапамогі (РООВА).

**Андрэй Блінец** (нар. 1974), гісторык, краязнаўца. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага пэдагагічнага ўнівэрсытэту імя Максіма Танка. Жыве ў Клецку. Працаваў настаўнікам гісторыі ў школах Клецкага раёну. З 2006 г. навуковы супрацоўнік Музэю гісторыі Клеччыны. Аўтар шэрагу краязнаўчых публікацыяў. Артыкулы з гісторыі нацыянальных вайсковых фармацыяў часоў Другой сусьветнай вайны друкаваліся ў часопісах “Беларускі рэзыстанс” (Менск) і “Беларуская думка” (Саўт-Рывэр, ЗША).

**Часлаў Будзька** (1913—1985), грамадзкі дзеяч, гісторык, пэдагог, сын Эдварда Будзькі. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, а ў 1938 г. — аддзяленьне гісторыі гуманістычнага факультэту Віленскага ўнівэрсытэту. За актыўную грамадзкую дзейнасьць пазбаўлены

права працаваць па спэцыяльнасьці. Падчас Другой сусьветнай вайны знаходзіўся ў Нямеччыне. Па сканчэньні вайны жыў у беларускім лягеры Ды-Пі ў Ватэнштэце, выкладаў гісторыю ў беларускай гімназіі. У 1948 г. прыбыў на працу ў Вялікабрытанію. У 1951 г. выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага. Займаўся грамадзка-асьветніцкай працай, гістарычнымі дасьледаваньнямі, праектаваньнем вышыванак і дываноў.

**Леанід Галяк** (1910—1980), грамадзкі дзеяч, юрыст. У 1930—1935 гг. вучыўся на хімічным, а пазьней на юрыдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. У часе нямецкай акупацыі працаваў юрыстам у Менскай акрузе. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1944—1945 гг. быў супрацоўнікам Галоўнага кіраўніцтва вайсковых спраў БЦР. Заснаваў Беларускае бюро ў Брытанскай зоне акупацыі Нямеччыны. Адзін з заснавальнікаў Саюзу беларускіх журналістаў на чужыне й выданьня “Летапіс беларускай эміграцыі”. Ад 1949 г. жыў у ЗША. Адзін з заснавальнікаў ды першы рэдактар газеты “Беларус” (1950—1951). Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, у 1953—1956 гг. уваходзіў ва ўправу Стамфардзкага аддзелу арганізацыі. У 1955 г. выйшаў з Рады БНР, а ў наступным годзе й з БАЗА. Аўтар “Успамінаў” (выдрукаваныя ў 2 тамах у 1982—1983 гг.).

**Натальля Гардзіенка** (нар. 1977), гісторык, кандыдат гістарычных навук. Аўтарка некалькіх манаграфій і сотні артыкулаў, прысьвечаных гісторыі беларускай эміграцыі. Галоўны рэдактар “Запісаў БІНіМ”. Старшыня навукова-творчай ініцыятывы “Цэнтар камплектаваньня й вывучэньня дакумэнтальнай спадчыны беларускага замежжа”, намесьніца дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіву-музэю літаратуры й мастацтва.

**Язэп Гладкі** (псэўданім **Адам Варлыга**, 1890—1972), грамадзкі дзеяч, пэдагог, выдавец, этнограф, мовазнаўца. У 1912 г. быў мабілізаваны ў царскае войска. Па сканчэньні фэльчарскай школы браў удзел у ваенных дзеяньнях часоў Першай сусьветнай вайны. Кавалер трох Георгіеўскіх крыжоў. Браў удзел у Першым зьезьдзе беларускіх вайскоўцаў і Першым Усебеларускім кангрэсе. Ад 1921 г. актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі беларускага школьніцтва на Лагойшчыне, дзе настаўнічаў да 1930 г., калі быў звольнены з працы. Каб пазьбегнуць рэпрэсіяў, перабраўся ў Менск, дзе ў 1936 г. скончыў Вышэйшы пэдагагічны інстытут і працаваў у Інстытуце школьнай пэдагогікі пры Наркамаце асьветы. У 1941 г. вярнуўся настаўнічаць у родную вёску, аднак у 1943 г., ратуючыся ад партызанаў, зноў прыехаў у Менск, дзе працаваў у выдавецтве школьных падручнікаў. Ад 1944 г. — у Нямеччыне. У лягерах Ды-Пі настаўнічаў ды займаўся выданьнем падручнікаў (каля 10 кніг), для чаго на ўласныя грошы заклаў выдавецтва “Заранка”.

Пазьней перабраўся ў ЗША, дзе працягваў выдавецкую дзейнасьць, аднавіўшы выдавецтва “Заранка”. У 1950-я гг. выкладаў беларускую мову на беларусаведных курсах у Нью-Ёрку. Аўтар працаў “Прыказкі Лагойшчыны” (Нью-Ёрк — Мюнхен, 1966), “Краёвы слоўнік Лагойшчыны” (Нью-Ёрк, 1970).

**Аляксандар Горны** (нар. 1988), гісторык, кандыдат гістарычных навук. Дацэнт кафедры гісторыі Беларусі, археалёгіі й спэцыяльных гістарычных дысцыплін Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту імя Янкі Купалы. Дасьледуе гісторыю беларускага нацыянальнага руху ў XX ст., палітычную гісторыю Заходняй Беларусі ў міжваенны пэрыяд, гісторыю беларускай дыяспары ў міжваенны пэрыяд. Аўтар каля 50 навуковых і навукова-папулярных публікацый.

**Юры Грыбоўскі** (нар. 1979), гісторык. Доктар габілітаваны. Прафэсар Варшаўскага ўнівэрсытэту. Займаецца вайсковай, палітычнай і рэлігійнай гісторыяй краінаў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы. Аўтар некалькіх манаграфій і больш як 130 навуковых артыкулаў у друку Польшчы, Беларусі, Нямеччыны, Вялікабрытаніі, Расеі, Украіны.

**Сяргей Емяльянаў** (нар. 1986), гісторык, выкладчык, экскурсавод, магістар гісторыі. Вучыўся ў Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце. Займаецца праблематыкай палітычнай і сацыяльнай гісторыі Полацкай зямлі X — пачатку XIII ст.

**Віталь Зайка** (нар. 1961), грамадзкі дзеяч, навуковец. Скончыў фізычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. У 1993 г. выехаў у ЗША. Супрацоўнік нью-ёрскага Цэнтру габрэйскай гісторыі. Аўтар шэрагу навуковых публікацый па беларускай гісторыі. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, старшынём яго Нью-Ёрскага аддзелу. Цяпер старшыня Беларуска-Амэрыканскага згуртаваньня “Пагоня”.

**Вольга Зубко**, гісторык, кандыдат гістарычных навук. Спэцыяліст Цэнтру міжнародных сувязяў і дзейнасьці Віньніцкага нацыянальнага аграрнага ўнівэрсытэту. Займаецца вывучэньнем грамадзка-культурнага й палітычнага жыцьця ўкраінскай і беларускай эміграцыі ў Празе ў 1920-я гг., грамадзка-культурнага жыцьця ўкраінцаў у Беларусі ў 1991—2014 гг.

**Вітаўт Кіпель** (нар. 1927), грамадзкі дзеяч, навуковец, дасьледнік беларускай эміграцыі, доктар мінэралёгіі. Жыве ў Нью-Джэрзі. З 1982 г. старшыня БІНіМу. Аўтар працы “Беларусы ў ЗША” (1993 і 2017.; ангельскамоўнае выданьне — 1999), шэрагу грунтоўных бібліяграфічных даведнікаў, а таксама соцень публікацый, у тым ліку артыкулаў на беларусазнаўчую тэматыку ў амэрыканскіх энцыкляпэдыях.

**Макар Краўцоў** (1891 — пасьля 1939), паэт, грамадзкі дзеяч, публіцыст. Дэлегат Першага Ўсебеларускага кангрэсу (1917). Аўтар гімну БНР “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”. Арыштаваны ў 1939 г. неўзабаве пасьля далучэньня Заходняй Беларусі да БССР. Відавочна, памёр у зьняволеньні.

**Кірыла Насаеў** (1960—2018), харавы дырыжор, аўтар музычных праектаў “Унія”, “Музыка Літвы і Кароны”, “Менка” й інш. Нарадзіўся ва Ўкраіне. Скончыў Беларускую дзяржаўную кансэрваторыю. Хоць ня меў беларускіх каранёў, але захапіўся беларускай культурай. Вайсковую службу праходзіў у Ансамблі песьні й танцу Беларускай вайсковай акругі (пазьней — Узброеных Сілаў Рэспублікі Беларусь). У 1993 г. зрабіў на просьбу кіраўніка ансамбля харавыя вэрсіі гімнаў “Пагоня” й “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”. Паралельна працаваў над самым галоўным праектам свайго жыцьця — стварэньнем мужчынскага хору “Унія”. Пад ягоным кіраўніцтвам разам сьпявалі праваслаўныя, каталікі, уніяты, пратэстанты. Дзякуючы яму была адроджаная традыцыя беларускага мужчынскага камэрнага сьпеву. Афіцыйнае прызнаньне да хору прыйшло пасьля перамогі на першым фэстывалі духоўнай музыкі “Магутны Божа” ў 1993 г. У 1998 г. выйшаў альбом “Беларускія маршы і песьні. Лірыка змаганьня”. На пачатку 2000-х гг. стварыў хор *“FanaBona”*, кіраваў хорам *“Harmonia”*, ажыцьцявіў рэдагаваньне ўсіх выяўленых харавых твораў Міколы Равенскага. Апошнія гады жыцьця выкладаў на катэдры харавых сьпеваў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

**Жорж Наумчык** (нар. 1935), грамадзкі дзеяч, выдавец. У 1944 г. разам з бацькамі выехаў зь Беларусі. У Нямеччыне жыў у лягеры Ды-Пі ў Ватэнштэце, вучыўся ў беларускай пачатковай школе й гімназіі. У 1950 г. выехаў у ЗША. Пасяліўся ў Саўт-Рывэры (Нью-Джэрзі). Гуляў у беларускіх футбольнай і валейбольнай камандах “Нёман”. Вывучаў друкарскую справу ў тэхнічнай школе ў Нью-Брансьвіку. У 1959—1962 гг. служыў у амэрыканскім войску. Па вяртаньні ўладкаваўся на фабрыку *National Can Company*, дзе працаваў цягам 43 гадоў. Быў актыўны ў дзейнасьці амэрыканскіх палітычных арганізацый, належаў да Этнічнай Рэспубліканскай партыі штату Нью-Джэрзі. Уваходзіў у Беларуска-Амэрыканскую рэспубліканскую партыю-клюб. Быў сябрам Саюзу беларуска-амэрыканскіх вэтэранаў. Удзельнік будаўніцтва царквы Сьв. Эўфрасіньні Полацкай і грамадзкага цэнтру ў Саўт-Рывэры. Займаўся друкарскай працай пры Беларуска-амэрыканскім грамадзкім цэнтры. Доўгачасовы рэдактар і выдавец часопіса “Беларуская думка”.

**Вацлаў Пануцэвіч** (да эмігр. **Папуцэвіч**, псэўданім **Мікола Волаціч**, 1910—1991), грамадзкі дзеяч, гісторык, пэдагог. У 1936—1939 гг. вучыўся на юрыдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту.

Уваходзіў у склад Беларускага інстытуту навукі й гаспадаркі, быў сябрам Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі. У 1936 г. увайшоў у склад ініцыятыўнай групы па стварэньні Беларускага нацыянальнага фронту. У 1939—1941 гг. настаўнічаў у Горадні. Падчас нямецкай акупацыі працаваў на розных адміністрацыйных пасадах у Баранавічах. Ад лета 1944 г. — на эміграцыі. У 1945 г. узначаліў Беларускую гімназію імя М. Багдановіча ў Ватэнштэце. Ад 1946 г. кіраваў Згуртаваньнем крывіцкіх скаўтаў на чужыне. У 1949 г. выехаў у ЗША. Жыў у Чыкага. Быў актывістам мясцовага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня. Займаўся дасьледніцкай дзейнасьцю (вывучаў рэлігійную гісторыю Беларусі), браў актыўны ўдзел у арганізацыі грэка-каталіцкай парафіі Сьв. Хрыста-Збаўцы ў Чыкага. Рэдактар часопісаў “Беларуская царква”, “Літва”.

**Вера Пруская,** удава грамадзкага дзеяча й выдаўца Міколы Прускага. Жыве ў Гранд-Рапідс (Мічыган).

**Сяргей Русецкі** (нар. 1983), гісторык, этноляг. Аўтар прац па этналёгіі й гісторыі музычнага тэатру Беларусі.

**Віктар Скорабагатаў** (нар. 1951), сьпявак, дасьледчык гісторыі музыкі, заснавальнік і мастацкі кіраўнік “Беларускай капэлы”, прафэсар Беларускай акадэміі музыкі. Скончыў Беларускую дзяржаўную кансэрваторыю (1977), асыстэнтуру-стажыроўку (1984), стажаваўся ў Міланскім тэатры *La Scala* (1980—1981). За гады працы салістам беларускай опэры выканаў 40 опэрных і 7 драматычных роляў. Быў першым выканаўцам болей за 200 твораў розных жанраў беларускіх кампазытараў. У фонд Беларускага радыё запісаў звыш 400 твораў. Ажыцьцявіў пастаноўкі опэр: “Фаўст” А. Радзівіла, “Дырыжор аркестру” Д. Чымароза, мастацкі кіраўнік пастаноўкі опэры Я. Голанда “Чужое багацьце нікому ня служыць”. Зь яго імем зьвязаная шматгадовая дзейнасьць у росшуку, дасьледаваньні, канцэртна-тэатральным выкананьні й гуказапісе твораў беларускай музыкі XII — XXI стст., выяўленьні фактаў жыцьця й творчасьці малавядомых беларускіх кампазытараў і музыкантаў. Галоўны рэдактар шэрагу сэрый нотных выданьняў, якія ажыцьцяўляе “Беларуская Капэла”: “Беларускі гістарычны нотазбор”, “Музыка старажытных сядзібаў”, Збор твораў Міколы Равенскага, сябар рэдакцыйнай калегіі Збору твораў Яна Тарасевіча.

**Аляксандар Сьлесараў,** прарэктар па навуковай працы, загадчык катэдры царкоўнай гісторыі й царкоўна-практычных дысцыплін Менскай духоўнай акадэміі, кандыдат багаслоўя, дацэнт.

**Вячка Станкевіч** (нар. 1932), грамадзкі дзеяч, сын Янкі й Марыі Станкевічаў. У 1949 г. прыехаў у ЗША. Спачатку пасяліўся ў Мінесоце,

пазьней жыў у Кліўлэндзе, дзе ўдзельнічаў у беларускай футбольнай камандзе “Пагоня”. У 1951—1954 гг. служыў у амэрыканскім войску. Па вяртаньні жыў у Нью-Ёрку. У 1959 г. скончыў Нью-Ёрскі гарадзкі каледж з дыплёмам інжынэра-электроніка. У 1968 г. у Ньюаркскім інжынэрным каледжы (Нью-Джэрзі) атрымаў ступень магістра інжынэрыі. Гуляў за нью-ёрскую футбольную каманду “Беларусь”. Быў актыўным сябрам Згуртаваньня беларускай моладзі ў Амэрыцы, быў старшынём яго Нью-Ёрскага аддзелу, пазьней старшынём Галоўнай управы. Працаваў інжынэрам у карпарацыях *ITT* і *WesternUnion*. У 1963—1966 гг. у сувязі з працай жыў у Заходняй Эўропе, пазьней вярнуўся ў Нью-Ёрк. Быў сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, уваходзіў у кіраўніцтва арганізацыі (старшыня Галоўнай управы ў 1969—1971 гг.). У 1988—1998 гг. быў кіраўніком беларускай службы Радыё “Свабода” ў Празе. Пасьля вярнуўся ў ЗША. Стаў выдаўцом часопіса *“Belarusian Review”*. У 2003 г. пераняў кіраванне Фундацыяй імя Льва Сапегі. Радны БНР, быў абраны заступнікам старшыні Рады. У 2007—2011 гг. быў старшынём Галоўнай управы БАЗА. Ад 2009 г. зьяўляецца старшынём Беларускай фундацыі Крачэўскага. У 2013 г. разам з жонкай заклаў фундацыю *“Monroe-Vilnia Foundation”* для падтрымкі розных беларускіх праектаў.

**Марыя Станкевіч** (дзяв. **Новак**; 1900—1983), грамадзкая дзячка, жонка Янкі й маці Вячкі Станкевічаў. У 1922 г. скончыла *Vassar College* ў Нью-Ёрку, потым Карлаў унівэрсытэт у Празе. У 1926 г. разам з мужам пераехала ў Вільню. У 1941—1945 гг. разам з сынамі жыла ў Празе, пазьней у лягерах Ды-Пі ў Нямеччыне. Брала ўдзел у працы розных беларускіх арганізацый, выкладала ў Беларускай гімназіі імя Я. Купалы. У 1949 г. пераехала ў ЗША. Была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, некаторы час была кіраўніцай жаночай сэкцыі Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі.

**Ганна Тамашэвіч-Каржанеўская** (сцэнічны псэўданім **Каржанеўская**, нар. 1949), канцэртмайстар, акампаніятар, мастацкі кіраўнік, прафэсар Беларускай акадэміі музыкі. Скончыла Беларускую дзяржаўную кансэрваторыю па клясе фартэпіяна (1973), асыстэнтуру-стажыроўку па спэцыяльнасьці “акампаніятар-канцэртмайстар” (1975). У 1986—2008 гг. канцэртмайстар Акадэмічнага хору Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь. Сярод найбольш значных працаў араторыі й кантаты *А. Багатырова, Ф. Шубэрта, Л. ван Бэтховэна, С. Манюшкі, Д. Бартнянскага* ды інш. Падрыхтавала да запісу опэру *Я. Голанда “Агатка, або Прыезд пана”*, опэру *А.Г. Радзівіла “Фаўст”* і інш. Удзельнічала ў сусьветна вядомых музычных фэстывалях: імя К. Шыманоўскага, імя С. Манюшкі (Польшча), “Нямецка-беларускія музычныя сустрэчы” (Германія), Фэстывалі ду-

хоўнай музыкі (ЗША). Гастралявала па розных краінах сьвету разам з выдатнымі айчыннымі сьпевакамі. Выйшлі 10 кампакт-дыскаў зь яе ўдзелам. Займаецца дасьледаваньнямі ў галіне беларускай музыкі. З 1996 г. зьяўляецца рэдактарам шэрагу нотных выданьняў: “Музыка старажытных сядзібаў”, “Беларускі гістарычны нотазбор”, Збор твораў Міколы Равенскага, “Беларуская вакальная музыка XVII — XXI стагодзьдзяў”.

**Ціхан Чарнякевіч** (нар. 1986), літаратуразнаўца, сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў. Навучаўся на факультэце беларускай філялёгіі й культуры Беларускага дзяржаўнага пэдагагічнага ўнівэрсытэту імя Максіма Танка, у магістратуры й асьпірантуры пры ім. Укладальнік і камэнтатар крытычна-архіўнага зборніка “Максім Багдановіч: вядомы і невядомы” (2011), выбраных твораў Лявона Савёнка “Творы” (2012, разам з Л. Юрэвічам) і інш.

**Ірына Чыкалава** (нар. 1961), доктар гістарычных навук, прафэсар катэдры ўсеагульнай гісторыі й мэтодыкі выкладаньня гісторыі Беларускага дзяржаўнага пэдагагічнага ўнівэрсытэту імя Максіма Танка й Інстытуту гісторыі НАН Беларусі.

**Лявон Юрэвіч** (нар. 1965), архівіст, працуе ў Нью-Ёрскай публічнай бібліятэцы. Сябра БІНіМу й рэдкалегіі “Запісаў”.

# SUMMARY

**Adam VARLYHA. What I have heard, seen, and gone through**

Not printed earlier memoirs of Jazep Hladki (1890—1972), born in the Lahojsk District, a participant of the First All-Belarusan Congress in 1917, a teacher and a public figure, who lived in the USA since the 1950s.

## Topic: American History

### *Archivalia*

**Anent the history of Belarusan interbella emigration in the USA**

Reprint of articles from Belarusan periodicals of the 1920s dedicated to Belarusans' presence in Chicago and the state of Michigan.

**Alexander GORNY. "We are moving forward...": American Belarusans' correspondence with the Council of the Belarusan People's Republic in 1923**

Publication of Janka Čarapuk-Zmahar's and Jazep Varonka's letters to Alexander Cvikievič and members of the BPR Council sent from Chicago and dedicated to the first steps in the organization of Belarusan life in this city.

**Parochial lists of St. George Belarusan Orthodox Church in Chicago (from Mikola Latuškin's archive)**

Lists of parishioners, priests, participants, and management of St. George Belarusan Parish in Chicago made by its longstanding secretary Mikola Latuškin.

**Alexander ASIPOVIČ-ASIPČYK. Letters**

Alexander Asipčyk's letters to Janka Zaprudnik concerning Belarusan communities in Jackson (New Jersey) and Rockford (Illinois).

**Natalla HARDZIYENKA, Lavon JUREVIČ. Fighting for Kupala**

Article about the discussion concerning Janka Kupala's creativity, which took place in intellectual circles of post-war emigration in connection with the publishing of the "Heritage" collection of poetry by Kupala; publication of the article "To Falsify Kupala" by M. Ravič (Janka Limanoŭski) in connection with the mentioned discussion.

## *Memoirs*

**George NAUMČYK. My memories of life in Belarus, Germany, and America**

Memoirs of the public figure and publisher George Naumčyk, born in the Sluck District (in 1935), of his childhood in Belarus, life during World War II, life in DP camps, moving to South River (New Jersey), his public and professional work.

**Viera PRUSKAJA. Memoirs**

Memoirs of the wife of Mikola Pruski (1928—2014), a public figure and a publisher, Jakub Kolas' nephew.

**Vitaut KIPEL. The Association of Belarusan Scouts Abroad and new initiatives of young Belarusan emigrants**

Memoirs of scouts' life in Germany and the USA — concerning the publication in the previous issue of "Zapisy" of Ales Vinicki's work dedicated to Belarusan Scouting.

**Vitaut KIPEL. Contacts with Vasil Bykaŭ**

Memoirs of Director of the Belarusan Institute of Arts and Sciences of his acquaintance and meetings with the writer Vasil Bykaŭ.

## *Epistolary intercourse*

**Uladzimier Bakunovič's Odyssey**

Public figure Uladzimier Bakunovič's letters to his friend Janka Zaprudnik concerning various events in Belarusan students' life in Leuven, family and public events in New Jersey, Michigan, etc.

## *People of Books*

**Časlaŭ BUDZKA. Anent the history of our national self-awareness. Letters**

Reprint of the public figure and historian Časlaŭ Budzka's little-known work and his selected letters to Janka Zaprudnik, Jurka Vicbič, Vincent Žuk-Hryškievič, and Guy Picarda.

**Leanid HALAK. Origin of "Lithuanian" grand dukes**

Publication of the emigrated researcher's work, in which he proves Scandinavian origin of grand dukes of the Grand Duchy of Lithuania.

**Siarhiej JEMIALJANAU. Errors as lessons: thoughts concerning two texts on Belarusan history**

The professional historian's comments on the research publications of Časlaŭ Budzka and Leanid Halak.

**Zora KIPEL. Belarusan Tristan**

Belarusan translation of the preface to the English-language publication of "Belarusan Tristan" (New York — London, 1988).

**Vaclaŭ PANUCEVIČ. About the Svislač Gymnasium and letters**

Reprint of an article dedicated to the history of the Svislač Gymnasium and its famous pupils, as well as publication of his letters-appeals to various people concerning publishing and other matters.

## *Archive*

**Natalla HARDZIYENKA. Janka Čarapuk-Zmahar's and Jazep Varonka's documents from the collection of the Belarusan Institute of Arts and Sciences at the Belarusan State Archive-Museum of Literature and Art**

Publication of a report presented during the Archival Reading in October 2018, which is dedicated to Janka Čarapuk-Zmahar's and Jazep Varonka's documents that are today preserved at the Belarusan State Archive-Museum of Literature and Art.

## Establishments

**Lavon JUREVIČ. Kryvian (Belarusan) Scientific Association named after Francysk Skaryna and "Vieda" magazine**

Reconstruction on the basis of reports of the history of the creation of a scientific organization of Belarusan post-war emigration — the Krivian (Belarusan) Scientific Association named after Francysk Skaryna, initiated by Janka Stankievič.

**Vital ZAJKA. The history of BAZA: preconditions and development of the plot 2007—2011**

Sketches-memoirs of the events in the Belarusan-American Association BAZA in 2007—2011.

**About BAZA and not only (Natalla Hardziyenka's conversation with Hanna Surmač)**

Interview with the head of the Belarusan-American Association BAZA, public figure, journalist, and archivist Hanna Surmač.

## *Interviews*

**Belarusan cuisine in emigration (Natalla Hardziyenka's conversation with Liza Litarovič and Nadzieja Zaprudnik)**

Conversation with two American Belarusans Liza Litarovič and Nadzieja Zaprudnik about features of national cuisine in emigration.

## Publications

**Iryna ČYKALAVA. Isaak Aronavič Hurvič (1860—1924): scientist, americanologist, publicist, public figure from Belarus in the USA**

The article is dedicated to the contribution of Isaak Aronavič Hurvič (Isaac Aronovich Hourwich), who was born in Vilnia [today's Vilnius], who graduated from the Minsk Gymnasium For Boys, the Yaroslavl Demidoff Juridical Lyceum, and Columbia University postgraduate studies, in the development of American Studies. Russian-speaking pre-revolutionary readers knew Hurvič who lived the USA thanks to publications of his articles on American life in magazines "Novoye Slovo", "Obrazovaniye", "Zhizn", "Pravda", "Sovremennyi Mir", etc. At the same time, his largest work "Immigration and Labor: The Economic Aspects of European Immigration to the United States" (1912) has not been translated.

**Lavon JUREVIČ. "He who sees this inscription should ask God..."**

The article is dedicated to the genre of epitaphs in the literature of Belarusan emigration.

**Andrej BLINIEC. About Radaslaŭ Astroŭski's birthplace**

The article determines the birthplace of Radaslaŭ Astroŭski, President of the Belarusan Central Council, — the folwark of Zapolle, the Sluck Powiat (now — a part of the village of Miadzviedzičy, the Lachavičy Rajon [District], the Brest Voblasc [Region]).

## The Future Book

**Makar KRAŬCOŬ. About Žylka and Duboŭka**

Publication of Makar Kraŭcoŭ's texts dedicated to the lives and creativities of poets Uladzimier Žylka and Uladzimier Duboŭka.

**"Belarusan cemeteries in the world" (album-directory)**

Information on the project aimed at publishing an album-directory of Belarusan graveyards in the West.

## Anniversaries

**Lavon JUREVIČ. 100 years of Fiodar Jankoŭski**

Lavon Jurevič's memoirs of his teacher — linguist Fiodar Jankoŭski (1918—1989) and Stanislaŭ Stankievič's article dedicated to Fiodar Jankoŭski.

**Vitaŭt KIPEL. "The historical dictionary of the Belarusan language" and memoirs about Alena Kazimirauna Jurevič**

Vitaŭt Kipel's memoirs of Alena Kazimirauna Jurevič (1928—2006), linguist, teacher, member of the Belarusan Institute of Arts and Sciences.

**Natalla HARDZIYENKA. The Council of Constance, or 70 years of restored Belarusan autocephaly**

The article is dedicated to the restoration of the Belarusan Autocephalous Orthodox Church implemented by Belarusans in Germany in 1948.

## The Emigration Studies section at the 7th Congress of Researchers of Belarus

**Natalla HARDZIYENKA. Influence of Canada's immigration policy on the formation of waves of Belarusan emigration**

The report is dedicated to the history of Canada's immigration policy and its influence on Belarusan emigrants' arrival in this country in the 19th — early 21st c.

**Jerzy GRZYBOWSKI. Kastus Jezavitaŭ's cultural-educational and public work in Latvia during the German occupation (1941—1944)**

The article is about different aspects of activities of the public figure and publisher Kastus Jezavitaŭ, which were aimed at organizing Belarusan life in occupied Latvia.

**Volha ZUBKO. Janka Hienijus and the Union of Ukrainian Doctors in Czechia (1922—1940) (work and everyday life)**

The report is dedicated to the doctor and public figure Janka Hienijus (the husband of the poetess Larysa Hienijus) — between the wars he studied and worked in Prague and cooperated with Ukrainian organizations in this country.

## Bookshelf

**Zmicier MATVIEJČYK. Zyhmunt Miniejka's memoirs**

Review on the Belarusan translation of the book of the former insurgent and the national hero of Greece Zyhmunt Miniejka (Zygmunt Mineyko) "From The Taiga To The Acropolis: Memoirs of 1848—1866" (Minsk, 2017).

**Siarhiej RUSIECKI. About Belarusan actors in a Russian book**

Review of Belarusan materials in the Russian researcher Mikhail Bliznyuk's book "World War II and Russian actors: under the occupation, in the Reich, in DP camps" (Moscow, 2018).

**Alexander SLESARAŬ. The new documentary collection on the church life of Belarusan emigration**

Review of the collection of the creative heritage of the metropolitan of the Belarusan Autocephalous Orthodox Church Mikalaj (Macukievič) "In a prayer for Belarus. Works" (New York — Lublin — Warsaw, 2017).

**Viktar SKARABAHATAŬ, Hanna KARZANIEŬSKAJA, Kiryla NASAJEŬ, Ihar ALOŬNIKAŬ. The First Collected Edition: anent the edition of Mikola Ravienski's collected works (Minsk: Technology, 2005—2017)**

Review of the first collected edition of the composer Mikola Ravienski, which includes his vocal, liturgical, and choral works, as well as works for the piano and processed Belarusan national folklore songs.

**Cichan ČARNIAKIEVIČ. The main book compiled by the Belarusans abroad**

Review of the book "Heritage: To the 135th anniversary of birth and the 75th anniversary of death of Janka Kupala" (Minsk, 2018), dedicated to the history of the preparation and edition of a collection of Kupala's poetry in 1955 in Munich by Belarusan emigrants.

**Cichan ČARNIAKIEVIČ. The poet who renamed "Miensk" into "Minsk"**

Review of the book "Masiej Siadnioŭ: Pro et contra" (Minsk, 2018), compiled by the New-York-based archivist Lavon Jurevič, dedicated to the Belarusan emigrant writer, longstanding head of the Belarusan Radio "Free Europe".

## The book in the "Zapisy"

**Natalla HARDZIYENKA, Viačka STANKIEVIČ. Maria Stankievič (1900—1983) and her book**

Preface to the reprinted book of Maria Stankievič's culinary recipes

**Maria STANKIEVIČ. Greatlithuanian (Byelorussian) Cookbook**

Reprint of the only book of Belarusan culinary recipes printed in emigration (in New York in 1959).

# МАРЫЯ СТАНКЕВІЧ І ЯЕ КНІГА

Беларуская кухня як неад'емная частка штодзённасьці эмігрантаў да сёньня застаецца па-за спэцыяльнай увагай дасьледчыкаў. Хоць побач з мовай яна выступае ў якасьці аднаго з найбольш яскравых і трывалых нацыянальных маркераў. Набытыя ў дзяцінстве харчовыя ўпадабаньні перакрочвалі дзяржаўныя межы разам зь беларусамі й стваралі на чужыне грунт для адчуваньня супольнасьці з суродзічамі. Традыцыйныя беларускія дранікі й бабкі смакавалі на беларускіх мерапрыемствах у Аўстраліі й Вялікабрытаніі, ЗША й Канадзе. Ва ўспамінах аўстралійскіх беларусак трывала прысутнічала цьверджаньне, што яны заўсёды “варылі сваё”, і гэткая сытуацыя была характэрная ня толькі для далёкай паўдзённай краіны[1].

Вывучэньне эміграцыйнай кухні — справа працаёмкая, бо зьвязаная зь цяжкасьцю пошуку крыніцаў інфармацыі. Па-за запісанымі ў той ці іншы час адмысловымі ўспамінамі ды рэдкімі публікацыямі ў пэрыядычных выданьнях некаторых рэцэптаў, зьвесткі на гэтую тэму недзе знайсьці складана. Адмысловых зборнікаў рэцэптаў беларускіх страваў на Захадзе амаль не было.

Выключэньнем ёсьць дзьве кнігі (беларуская й ангельская вэрсіі), што пабачылі сьвет у ЗША. “Вялікалітоўская кухарка” (падзагаловак па-ангельску *“Greatlithuanian (Byelorussian) Cookbook”*) была выдадзеная ў Нью-Ёрку ў 1959 г. і складалася з 31 старонкі машынапісу. Пазьней, у 1972 г., выйшла другое пашыранае выданьне па-ангельску. Аўтаркай абедзьвюх кулінарных кніг была Марыя Станкевіч, чэшка паводле паходжаньня й жонка ведамага беларускага мовазнаўцы д-ра Янкі Станкевіча. Яе мэтай было пашырэньне веды пра беларускую кухню найперш сярод сем'яў беларускіх эмігрантаў на Захадзе, асабліва для прадстаўнікоў другога пакаленьня ды гэткіх, як і сама аўтарка, жонак беларусаў, што належалі да іншых нацыянальнасьцяў. Рэцэпты Марыя Станкевіч атрымала ад дасьведчаных беларускіх гаспадыняў-кухарак, што таксама апынуліся ў эміграцыі ў Амэрыцы.

Каб зразумець, якім чынам жанчына чэскага паходжаньня занялася ўкладаньнем і выданьнем “беларускай кухаркі” ў Амэрыцы, варта зьвярнуцца да біяграфіі аўтаркі.

---

[1] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Аўстраліі: Да гісторыі дыяспары. Мінск, 2004.

Марыя Станкевіч (дзявочае прозьвішча Новак) нарадзілася ў 1900 г. у Чэскім Бродзе, гарадку недалёка ад Прагі. У той час Чэхія была на працягу больш як двухсот гадоў у складзе Аўстрыйскай імпэрыі. Чэскае нацыянальнае адраджэньне пачалося ў канцы XVIII ст. праз увядзеньне чэскай мовы ў школах і паступова працягвалася й пашыралася на заснаваньне грамадзкіх установаў і палітычных партыяў. У пачатку XX ст. адбыліся агульныя выбары ў аўстрыйскі фэдэральны парлямэнт, у склад якога ўвайшлі й прадстаўнікі чэскага народу. Сярод апошніх быў і будучы першы прэзыдэнт Чэхаславаччыны, унівэрсытэцкі прафэсар Томаш Масарык. Развал імпэрыяў, у тым ліку й Аўстрыйскай, як вынік Першай сусьветнай вайны, даў магчымасьць чэхам і славакам абвесьціць незалежнасьць Чэхаславаччыны ў кастрычніку 1918 г. Месяцам пазьней чэхаславацкі парлямэнт абраў Томаша Масарыка прэзыдэнтам. Ягоныя добрыя сувязі з Амэрыкай далі магчымасьць для пяці чэскіх дзяўчын працягваць вышэйшую асьвету ў прэстыжным жаночым *Vassar College* ў штаце Нью-Ёрк. Сярод іх была й Марыя Новак. Атрымаўшы ў 1922 г. дыплём у сацыялёгіі, яна вярнулася ў Чэхаславаччыну.

Годам пазьней яна ўзяла ўдзел у Зьезьдзе славянскіх студэнтаў у Празе, дзе пазнаёмілася зь беларускім студэнтам Янкам Станкевічам. Той трапіў у Прагу, атрымаўшы стыпэндыю ад чэхаславацкага ўраду з ініцыятывы прэзыдэнта Масарыка, які здолеў арганізаваць працяг асьветы для славянскіх студэнтаў з былой Расейскай імпэрыі, сярод якіх былі й дзясяткі беларусаў. Зрабіўшы дактарат зь філялёгіі, Янка Станкевіч у 1926 г. вярнуўся ў Вільню, тады ўжо пад Польшчай, а Марыя паехала сьледам, далучылася да яго. Маладзёны ажаніліся ў віленскім касьцёле Сьв. Мікалая, дзе ў той час праходзілі беларускія службы. Ксёндз Адам Станкевіч, сваяк Янкі з родных Арлянятаў, даваў шлюб.

Марыля, як яе называў Янка, адразу ўключылася ў супольную беларускую дзейнасьць, рэдагуючы часопіс “Народ”, орган пазьнейшай Беларускай сялянскай партыі. Ад гэтай партыі зь Лідзкай акругі Станкевіч быў выбраны ў польскі сойм у 1928 г. Жонка засталася ў Вільні, бо ў сакавіку таго самага году нарадзіўся першы сын Юрка (хрышчаны як Юры Ўсяслаў). У 1930 г., калі сойм быў разагнаны, кароткая палітычная кар’ера Янкі Станкевіча скончылася. Ад таго часу ён пераважна займаўся навуковай і грамадзкай дзейнасьцю.

Сям’я пабольшылася, калі нарадзіліся наступныя два сыны: Вячка (Вячаслаў Ждан) у 1932 г. і Богуш (Багуслаў Леў) у 1938 г. У пачатку Другой сусьветнай вайны Янка Станкевіч, каб пазьбегчы арышту савецкімі ўладамі, пераехаў спачатку ў Коўна, а пазьней ў Варшаву, Менск і Прагу, дзе далучыўся да сям’і. Марыя зь дзецьмі правяла пад апекай сваякоў у чэскай сталіцы большую частку вайны. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны сям’я апынулася ў лягеры Ды-Пі ў амэрыканскай зоне. Добра валодаючы ангельскай мовай, Марыя здолела атрымаць працу

ў міжнародных установах, а таксама выкладала ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу. І адначасова дапамагала фінансава ў выданьні дзьвюх кніжак аўтарства мужа — граматыкі беларускай мовы[2] і зборніка папулярных песьняў[3].



Марыя Станкевіч

У 1949 г. сям'я Станкевічаў выехала ў Злучаныя Штаты Амэрыкі, дзе й далей працягнулася амаль 50-гадовае супрацоўніцтва Марыі й Янкі дзеля беларускай справы. Марыя Станкевіч была сябрам Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня, некаторы час была кіраўніцай жаночай сэкцыі Нью-Ёрскага аддзелу арганізацыі. У 1960-я гг. яна кароткі час ачольвала Амэрыканска-Беларускае жаночае таварыства. Марыя памерла 5 траўня 1983 г. і пахаваная ў Іст-Брансьвіку на могілках царквы Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ.

Відаць, актыўная супраца з мужам, заангажаванасьць у беларускай дзейнасьці, спалучаная зь неабходнасьцю выкананьня традыцыйных жаночых абавязкаў у хаце, і сталі падставаю для зьяўленьня ў 1959 г. першай укладзенай Марыяй Станкевіч "Вялікалітоўскай кухаркі". Як напісалі ў сваім дакладзе пра беларускую кухню пафэсар-славіст з Масачусэцкага ўнівэрсытэту Робэрт Ротштэйн і ягоная жонка Галіна, *«рэдагаваньне й выданьне "Беларускіх кухарак" стала часткай доўгага працэсу ў ператварэньні маладой чэскай выпускніцы каледжу Вассар у палымяную патрыётку й абаронцу беларускай справы»*[4].

Кулінарны рэцэпт — люстэрка культуры й побыту народу, частка ягонай карціны сьвету й нацыянальнай самасьвядомасьці. Паводле рэцэптаў можна вывучыць стаўленьне народу да працэсу прыгатаваньня ежы.

---

[2] Станкевіч, Ян. Падручнік крывіцкае (беларускае) мовы: граматыка, правапіс, укладаньні, прытарнаваныя вучыцца ў школе й дома. Kryvian (Whiteruthenian) Grammar. [Рэгенсбург], 1946 [на вокладцы: 1947]. 124 с.

[3] Скарыніч, Брачыслаў. [Станкевіч, Ян]. Новы песеньнік крывіцкі (беларускі) для школаў. [Аўгсбург, выданьне ўкладальніка], 1946. 73 с.

[4] Rothstein, Robert A.; Rothstein, Halina. The Cookbook as political statement: A note on two Belarusian examples // Belarusian Review. Fall-winter 2015. Vol. 27. № 3—4.

Сама па сабе кніга Марыі Станкевіч, безумоўна, цікавая сваім зьместам, дзе знаёмыя кожнаму галубцы ці зразы суседнічаюць зь фірмовымі тортамі “Ярашэвічыхі” ці “Шабуніхі”, падказанымі каляжанкамі па эміграцыйным амэрыканскім жыцьці. Выданьне складаецца з тых страваў, якія аўтарка апрабавала ўласнаруч (г. зн. тымі, што складалі тую самую штодзённасьць побыту сям’і). Некаторыя зь іх, відаць, былі настолькі звыклымі для Станкевічыхі, што яна апісвала іх толькі схэматычна, некалькімі сказамі, самым агульным альгарытмам. Іншыя рэцэпты пададзеныя больш дэталёва, з дадатковымі парадамі, што зрабіць для лепшага смаку або чаго не рабіць, каб не сапсаваць страву. Усё гэта робіць “Кухарку” ня проста тэарэтычным выданьнем, але й своеасаблівай “практычнай кулінарыяй”, магчымай для ўжываньня гаспадынямі й сёньня.

Аднак ня толькі зьместам адметная “Вялікалітоўская кухарка” Марыі Станкевіч. Важная яе складовая частка — гэта мова, на якой відавочны ўплыў рэдактара й карэктара выданьня Янкі Станкевіча. Лексыка, што нібыта сышла са старонак ягонага слоўніка, спэцыфічныя формы словаў і словазлучэньні — усё гэта робіць кнігу цікавай ня толькі для этнографаў ці дасьледчыкаў эміграцыйнай штодзённасьці, але й для мовазнаўцаў. Што праўда, гэта ж у пэўнай ступені стварае складанасьці для выкарыстаньня апублікаваных у выданьні рэцэптаў на практыцы. Пры перавыданьні “Вялікалітоўскай кухаркі” мы пастараліся патлумачыць найбольш складаныя словы, тым ня менш для працы з апублікаванымі рэцэптамі ёсьць сэнс трымаць пад рукамі “Слоўнік” Янкі Станкевіча[5].

*Натальля Гардзіенка*
*Вячка Станкевіч*

[5] Станкевіч, Янка. Белорусско-русский (Великолитовско-русский) словарь = Беларуска-расейскі (Вялікалітоўска-расейскі) слоўнік. Нью-Ёрк. 1305 с.

## ПЕРАДМОВА

Жонка былога празыдэнта Гувэра[1] ў перадмове да “Кухарка Кангрэсавага Клюбу”[2] піша: *“дзівіць нас тое, як кажны з нас дзяржыцца ежы, да якой прывык, і звычаёў, злучаных ізь ежаю”*.

Гэта спраўджаецца на кажным кроку ў нашых родзічаў, каторыя выэміґравалі 40—50 год таму. Яны вараць і любяць сваю ежу. *“Беларуская ежа найлепшая на сьвеце. Яна адзяржала-б надгароду, калі-б прыраўнаваць да ежы іншых”,* — зь перакананьням сказала амэрыканская Беларуска.

Дык другому пакаленьню Беларусаў у Амэрыцы ўкладзеная гэтая кніжка. І ё надзея, што кніжка выйдзе і ў ангельскай мове[3].

На другім месцу яна мае наўвеце тых, каторыя замужам за Беларусамі. Адна знаёмая хацела зрабіць мужу мілую неспадзеўку і сьпякла бліны, але дачакалася гэткіх словаў: *«Ведаеш, даражэнькая, рабі другі раз валей “кнэдлікі”, чымся бліны»*. Мая праблема была із заціркаю. Прабавала я розным спосабам, то болей яец, то болей малака, адылі ўсё не праўдзівая зацірка. Наапошку я папыталася ў знаёмай і зрабіла подле ёйнага рэцэпту. Ня кажучы нічога пра гэта, я паставіла зацірку на стол і пачула: *“Вось смачная зацірка”*.

Хоць у песьні жаляцца на бульбу: *“З бульбы мука, з бульбы каша, прападзі ты, доля наша!”*, адылі нядаўна Дасьледавальная Лябараторыя Ўнівэрсытэту Корнэль, што ў Ітацы, абвесьціла вынік аднаго дасьледаваньня. Аказалася, што чалавек можа абмежыцца добрым чорным хлебам, бульбай і малаком (а значыцца, і вырабамі з малака, як сьмятана, масла, сыр. — *М. С.*), зь невялікім дадаткам вітаміну Ц, каторы нашы сяляне здабываюць із кіслай капусты й садавіны.

Дык шануйма сваю старадаўную ежу, варэма яе і будзем гаварыць, як той жанаты сын, каторы прыйшоў у госьці да маткі і сказаў: *“Чужая ежа, то пячэць, то нудзе, але твая ежа, мама, як раз”*.

---

[1] Маецца на ўвазе **Лу Генры Гувэр** (1874—1944), жонка 31-га прэзыдэнта ЗША Гербэрта Гувэра (1874—1964).

[2] Маецца на ўвазе выданне: The Congressional Club Cook Book: favorite national and international recipes. [Washington, D.C.]: Published by the Congressional Club, 1927. XII, 799 p.

[3] Англамоўны варыянт кнігі сапраўды пазьней пабачыў сьвет: Stankievič, Maryja. Greatlitvanian (Byelorussian) Cookbook. Howthorne (N. J.), 1972. 64 p.

Рэцэпты тут паданыя пераважна выпрабаваныя й разьлічаныя на 4 асобы. Калі напісана лыжка, дык значыць сталовая лыжка.

Дзякую гэтта сп. З. Вадэйчысе за пазычаныя мне рэцэпты. Сп. А. Касьцюкевічысе, каторая мне з практыкі падала шмат рэцэптаў. І іншым сяброўкам, што супрацавалі пры выданьню гэтае кніжкі.

У Ню Іёрку, 8 ліпеня 1959 — Марыя Станкевічыха.

## МЕРЫ

2 кубкі масла або іншага туку[4] ........ 1 хунт
4 кубкі перасеянай мукі ........ 1 хунт
2 кубкі цукру — 2 кубкі рыжу[5] ........ 1 хунт
2 лыжкі масла ........ 1 унцыя
4 лыжкі мукі ........ 1 унцыя

1 кг ........ 2 хунты і 1 унцыя і цьверць (2,2 хунта)
1 хунт ........ 453, 6 гр.
1 унцыя ........ каля 29 гр.
1 літра ........ 1,06 кварты
1 кварта ........ 0,95 літры
1 пінта ........ 1/2 кварты
1 кубак ........ 1/2 пінты

## СТРАВЫ

ЗАЦІРКА

1/2 яйка,
1 кубак мукі,
1/2 гарб. лыжкі солі,
1 літра вады.

Убіць 1/2 яйка ў муку без вады. Перацерці на дробна. Сыпаць аднэй рукою ў вар, а другой рукою мяшаць. Варыць 10—15 часінаў (мінутаў). Пасаліць. Кажны сам сабе ў талерцы забеліць малаком. Можна такжа ваду сцадзіць і забяліць 1 літрам гарачага малака.

КРУПНІК (крупеня, пансак) ЗЬ МЯСАМ

1/2 кубка ячменных круп намачыць нанач.
3 морквы,
косьць із кумпяка з крыхаю мяса,
1 літра вады, солі да смаку.

---

[4] **Тук** — тлушч.

[5] **Рыж** — рыс.

Вялікія або маленькія ячменныя крупы варыць 1—1½ гадзіны разам із косьцяй. Апошнюю 1/2 гадзіны дадаць дробна пакрышанае морквы. Пасаліць. Абабраць з косьці мяса, пакрышыць і палажыць у страву.

Можна варыць бязь мяса і тады забяліць малаком.

КРУПНІК З ГРЫБАМІ А МЯСАМ

Колькі сушаных грыбоў, або 1/2 сьвежых
1/2 кубка ячменных круп намачыць нанач.
1 х. мяса (ялавічыны),
цыбуля, морква, пятрушка,
1 літра вады, далівацъ болей, калі тр.

Перамыць сушаныя грыбы, дробна пакрышыць і мачыць 2 г. Варыць усё разам 1—1½ гадз. Калі сьвежыя грыбы, дык памыць, пакрышыць, смажыць у масьле 10 часін (мін.). У вапошнюю паўгадзіну варэньня дадаць грыбы, разам з морквою а пятрушкаю. Пасаліць. Пакрышыць мяса і ўкінуць у страву.

БУЛЁН ІЗЬ МЯСА (асноўны навар)

Хунт ялавічыны,
кварта вады,
цыбуліна, морква, пятрушка, соль,
1—2 суш. грыбы.

Мяса вымыць, парэзаць, укінуць у халодную воду, варыць на малым агню 3 гадз. Цыбуля, морква, пятрушка, грыбы, соль дадаецца паўгадзіны перад зьняцьцем. Астудзіць, зьняць тук. Калі хочам ужываць пазьней, паставім із тукам у лядоўку.

БУЛЕН ІЗ ГАРОДНІНЫ (асноўны навар)

Гародніна: салера, морква, малыя цыбулькі,
грыбы, памідоры.
На 2 літры навару патрэбныя
2 цыбулі, 2 морквы, 1 салера, 1 кубак пакрышаных
грыбоў, 1—2 памідоры.

Падсмажыць пакрышаную дробна цыбулю аж зарумеліцца. Усё добра пакрышанае варыцца разам на малым агню праз 3 гадзіны. Карыстаецца як чысты адцэджаны навар, так і з працёртымі гароднінамі залежна ад жаданьня.

ШЧАЎЁ — страва

1 х. шчаўя (прыгоршні), 3 яйкі,
цьверць літры салодкай сьмятаны,
мясны навар або вада-соль.

Адварыць на крута яйкі. Заварыць навар, ці ў ваду ўсыпаць дробна пасечанае шчаўе, пасаліць. Заварыць, укінуць пакрышаныя яйца і сьмятану. Падаваць на гарача. Калі закіслае — знача замала вады-адвару, трэба даліць. Калі есца з бульбаю — кісласьць дадае смаку.

ШЧАЎЕ — халаднік

Шчаўе, пёркі цыбулі, сьвежы гурок, кроп,
цьвёрды бялок зь яйцаў, кіслая сьмятана.

Заварваецца пакрышанае шчаўе ў вадзе. У астужанае кідаецца разьцёртую із сольлю цыбулю, абабраныя і пакрышаныя гуркі, парэзаныя бялкі, можна разьцёрці 1—2 жаўткі, закрашваецца кіслай сьмятанай перад падаваньнем, пасыпаецца кропам на талерках.

ШЧАЎЕ З КРАПІВОЙ

Шчаўе, два разы больш маладой вясьнянай крапівы,
4 падсмажаныя пакроеныя каўбаскі, кіслая сьмятана.

Заварыць дробна пасечаную із шчаўем крапіву ў мясным адвары. Старэйшую крапіву трэба варыць даўжэй. Тады ўкідаюцца пакроеныя каўбаскі, забяліць кіслай сьмятанаю.

БУРАКІ — страва

1 х. буракоў, паўхунта мяса, 1 кубак сьмятаны,
2—4 яйкі, 2—3 лыжкі цытрынавага соку або воцту,
1 морква, 1 цыбуля, пятрушкавы ліст, соль,
перац да смаку, 1 л. вады.

Варыць мяса з моркваю, цэлай цыбуляю, пятрушкаю. Буракі можна адварыць у лупінах і, як зьмякнуць, выняць, абабраць, парэзаць, як макароны, укінуць у варыва, яшчэ варыць з паўгадзіны. Можна таксама ababраць буракі, разрэзаць на палавінкі і варыць разам зь мясам, выняць, пакрышыць і далей варыць коратка. Соль, перац, квас дадаецца ў другое варэньне. Яйкі разьціраецца нацёпла з крыхай варыва, каб не зварыліся ў ком. Таксама разьціраецца з варывам сьмятана і ўліваецца ў страву перад падаваньнем.

БУРАКІ — халаднік

Варацца падобна, як гарачая страва, але бязь мяса. Зьмяшаўшы зь яйкамі пакідаецца астынуць. Забельваюцца кіслаю сьмятанаю перад падаваньнем.

БАЦЬВІНЬНЕ

1 л. вады або мяснога адвару,
2 пучкі бурачкоў з бацьвіньнем,
1 лыжка мукі, 1 кубак кіс. сьмятаны,
2 лыж. цытр. соку (воцту), 1 лыж. цукру.

Перабраць, памыць, адкінуць ліст ды дробна пакрышыць бурачкі й бацьвіньне. Варыць у мясным навары або вадзе, пакуль крышанкі буракоў ня зьмякнуць. Дадаць квасу й цукру, заварыць. Зьмяшаць муку із сьмятанаю, дадаць пару лыжак гарачай стравы й добра разьцерці. Уліць у варыва, добра мяшаючы. Зьняць, як заварыцца. Калі страва з мясам, цукру не даецца.

ХАЛАДНІК

1 л. масьлянкі[6], паўліт. кіслае сьмятаны,
1 кубак бурачнага або гурковага квасу,
2 кубкі бацьвіньня покрышанага й спаранага,
3—4 яйкі на крута, 10—15 вараных бурачкоў,
1 луста сьцюдзёнае цяляціны, 2 гуркі.

Гуркі абабраць, тонка пакроіць, пасыпаць соляй, паставіць на 2 гадзіны. Сок з гуркоў выціскаецца і адкідаецца. Біць масьлянку із сьмятанай, ажно пакуль будзе пеніцца, тады дадаць усё іншае. Улетку гэтай аднэй стравай чалавек насыціцца.

ХАДАДНІК Б.А.З.А.

1 захоўка бурачкоў, 1 сьвежы гурок,
3—4 бялкі ад крутых яечкаў, 1 пінта йогурту,
1 кубак малака-парашку, соль,
цытрына або воцат да смаку,
кубікі лёду.

Зарабляецца малако-парашок з вадою, дадаецца йогурт разам да кварты, ставіцца ў цяпле на пару гадзін ці цераз ноч. У кіслае малако ўліваецца сок з бурачнай захоўкі. Бурачкі крышыцца на дробна. Гурок абіраецца і крышыцца на тонкія лісткі. Бялкі яечкаў крышыцца крыху буйней. Усё скідаецца ў адзін збан. Дадаецца солі, воцту або выціскаецца цытрыну. Перамешваецца і дадаецца кубікі лёду. Гэты халаднік мае шмат вітамінаў, вельмі мала наедку (калёрыяў).

КАПУСТА салодкая

1 л. мясногa навару, малая галоўка капусты,
памідор, цыбуля, 3 лыж. мукі, 2 лыж. масла,
цытрына (воцат), соль, перац, цукар да смаку.

Падсмажыць цыбулю, капусту, памідор з мукою. Укінуць у мясны навар і варыць, пакуль капуста ня зьмякне. Дадаць смакавыя.

[6] **Масьлянка (масьлёнка)** — малако, якое застаецца пасьля зьбіваньня масла.

КАПУСТА кіслая

1 х. капусты, паўхунта тлустай сьвініны, 1 л. вады,
соль, разскваранае сала, сьмятана, мука.

Выціснуць капусту з квасу і варыць разам зь мясам, пакуль ня зьмякне. Пасаліць, даліць капуснага квасу паводле патрэбы. Разскварыць сала і ўкінуць скваркі (крышаныя ў кубікі), заварыць. Забяліць сьмятанай перад падаваньнем або разьцёрці сьмятану з 1—2 лыжкамі мукі, забяліць і заварыць. Мука загушчае страву а зьменшывае кісласьць.

КАЛЯФЕРЫ[7] — страва

Малая галоўка каляфёру, 1 л. вады,
паўхунта мяса, паўкубка сьмятаны,
паўлыжкі масла, паўлыжкі мукі,
морква, пятрушка, соль.

Зварыць мяса разам з моркваю, пятрушкаю, а палавінай каляфёру. Другую палавіну каляфёру пакрышыць і ўтушыць у масьле. Заліць наварам. Разьцёрці муку ў сьмятане і забяліць, а заварыць, каб мука склейлася.

КАЛЯФЁРЫ на густа

2 галоўкі каляф., колькі лістоў гародніны,
1 лыж. масла, 1 лыж. мукі,
2 кубкі вады або мяснога навару,
2 жаўткі, паўтара кубка салодкай сьмятаны,
солі да смаку.

Зварыць лісты гародніны й адну галоўку каляфёру. Другую галоўку дробна пакроіць, уварыць з маслам і трохі навару, працёрці празь сіта. Разпусьціць паўлыжкі масла, прысмажыць на гэтым і лыжку мукі, разьвесьці кубкам навару, зьліць у працёрты каляфёр. Убіць у навар 2 жаўткі, зьмяшаныя са сьмятанаю, заварыць. Звараны каляфёр ложыцца ў гатовую страву перад падаваньнем.

ПАМІДОРЫ — страва

1 х. мяса, 4—5 памідораў, 1 кубак сьмятаны,
1 кубак рыжавай кашы,
1 лыж. масла, 1—2 лыж. мукі, соль.

Варыць мяса ў вадзе. Утушыць памідоры ў масьле, працерці празь сіта, дадаць у варыва. Зацерці муку са сьмятанаю і крыхай навару, уліць у варыва, заварыць, зьняць. Рыж даецца на талеркі або разварваецца ў страве. Можна рыж варыць ад пачатку зь мясам. Намест сьвежых памідораў — карыстацца захоўкавымі, 2 кубкі.

---

[7] **Калафёр** (ад пол. *kalafior*) — кветкавая капуста.

ВЯСКОВЫ БУЛЁН

Колькі бульбаў, сала і цыбуля да засквараньня,
лыжка мукі да падкалоткі, морква або бручка,
1 л. вады, соль.

Ababраную бульбу крышыцца на скрылікі, аскрабаную моркву або ababраную бручку сьціраецца на бурачную тарку. Усё разам варыцца ў вадзе, пакуль гародніна ня зьмякне. Сала кроіцца на дробна й разскварваецца з дробна крышанай цыбуляю. Лыжку мукі засмажваецца ў туку сала. Засквараньне можа быць разам з булёнам заваранае або й не. Намест засквараньня можна забяліць. Можна абыйсьціся бяз морквы ці бручкі, адылі іншы смак. Гэтую страву елі нашыя сяляне кажную раніцу, апрача нядзелі.

ПАНСКІ БУЛЁН

Пару бульбін, паўкубка ячменных дробных круп,
1 хунт касьцей або паўх. мяса, 1л. вады, 1 цыбуля,
пятрушка, морква, кроп, соль, перац (цэлы) да смаку.

Асобна варацца крупы на густа, асобна мяса. Калі мяса зварыцца, яго выймаецца. У навар кідаецца на дробныя скрылікі парэзаная 1—2 бульбы, старкованая на буйна морква. Цэлую цыбулю ложыцца да варэньня зь мясам або пазьней з бульбаю. Крупы дадаюцца ў страву, як усё зваранае. Мяса разьдзяляецца на талерках.

ГАРОХ — страва

1 кубак гароху намачыць нанач.
Паўхунта дымляніны[8] ці падчарэўка[9],
сала да засквараньня, 1 лыжка мукі,
4 булачкі і масла да іх падпражаньня,
соль, перац да смаку.

Гарох варыцца асобна, праціраецца на сіта. Дымляніна рэжацца на кусочкі і варыцца з аснаўною вадою (2 літры). Працёрты гарох укідаецца ў пар. Сала раскварваецца, і ў туку запражваецца муку. Усё разам яшчэ раз запарыць. Булкі рэзаць на кубікі, зарумяніць-падсушыць з крыхаю масла ці туку, амаль на суха. Сухарыкі даецца на стол асобна кожнаму да спадобы або ўкідаюцца на талеркі пры падаваньні.

ГАРОХ — вясковая страва

1 кубак гароху, 1—2 бульбіны,
крыху сала або малако, 1 цыбуля,
1 лыж. мукі або пансаку[10] круп.

---

[8] **Дымляніна** — вэнджанае мяса.

[9] **Падчарэвак** — сала з нутранай часткі жывата жывёлы, падчарэўе.

[10] **Пансак** — ячныя крупы.

Намочаны гарох варыцца ў поўнай вадзе, пакуль не пачне мякчэць, дадаецца скрылікамі парэзаную бульбу і дробна парэзанае сала. Зьняць, як гарох і бульба мяккія. Крупы дадаюцца, як толькі гарох зшумуецца. Падкалотка з мукі дадаецца перад зьняцьцем. Забельваецца (калі няма сала) на талерцы або на гаршку па зьняцьці.

ПАСОЛЯ[11] — страва

1 кубак пасолі намачыць нанач.
1—2 бульбіны, 1 х. касьцей ці мяса,
або крыху сала, або малако,
2 л. вады.

Косьці, мяса, пасоля варыцца разам. Як пасоля пачне мякчэць, дадаецца скрылікамі парэзаную бульбу. Зьнімаць, як пасоля й бульба звараныя. Дадатак бульбы выдатна палепшывае страўнасьць пасолі.

ГАРОДНІНА — страва

1—3 бульбы, 1—2 морквы, 1—2 памідоры, 1—2 цыбулі,
1 корань пятрушкі, паўкубка зялёнага бобу,
крыху каляфёру, колькі лісткоў пятрушкі,
паўкубка сьмятаны, соль да смаку.

Моркву й пятрушку тушыць у масьле. Асобна варыць бульбу, боб, каляфёр. Морква зьліваецца разам блізка перад дараварaньнем. Памідор дадаецца ў даваранае. Закрасіць сьмятанаю перад адстаўленьнем.

БЕЛАЯ СТРАВА

Пучок гародніны, 1—2 прыпечаныя цыбулі, 1 морква,
крыху салеры, пятрушкі, масла, туку з навару,
3 лыжкі мукі, 2 жаўткі, паўкубка салодкай сьмятаны,
галоўка капусты або рыж,
кроп або ліст пятрушкі.

Варыць прыпечаныя цыбуліны з пакрышанай гароднінаю. Асобна падсмажыць на масьле дробна пакроенаю моркву, салеру, пятрушку, падліваючы туку з навару. Заліць крыхаю навару з гародніны. Асобна падпражыць муку, разьвесьці паўкубкам халоднай вады, уліць у варыва, заварыць, працадзіць. Асобна разьцерці са сьмятанай жаўткі, разьвесьці, добра мяшаючы цёплым наварам, заварыць. Адвараную раней капусту ці рыж укладаецца на талеркі і заліваецца стравою. Пасыпаецца кропам або пятрушкай.

КЛЕЦКІ НА РЫБЕ

Рыба, гародніна, 1 лыж. масла, 1 кубак сьмятаны,
1 кубак мукі, 1 яйка.

---

[11] **Пасоля** — фасоля.

Заварыць навар із гародніны. Сцадзіць. Варыць у адвары рыбу. Зноў сцадзіць і на чысты навар спусьціць рэзаныя клёцкі з мукі й яйка, крыху вады. Перад клёцкамі дадаецца ў навар масла й сьмятана. Можна масла падсмажыць із цыбуляй і мукой і дадаць 1 жаўток разьцёрты із стравай. Мяса із рыбы можа быць разьдзелянае па талерках, а то зьнятае на іншае карыстаньне.

КАПУСТА А РЫБА

Кварта капусты, 2—3 х. рыбы, 4 лыж. масла,
1 кубак сьмятаны, 1 лыж. мукі, 1 цыбуля,
пятрушка, кроп, соль, пармазан да смаку.

У масьле падсмажыць цыбулю, зьлёгку выціснутую кіслую капусту, дадаць лыжку мукі, разьвесьці вадой і варыць, пакуль ня зьмякне. Асобна падсмажыць парэзаную на кавалкі рыбу. Улажыць падсмажаную рыбу ў страву, заварыць. Пад канец дадаць перцу, солі, сыру, пятрушку, кроп, уліць сьмятану, зьняць.

КАЛДУНЫ З ГРЫБОЎ

Жменя сухіх грыбоў, цыбуля, цытрына,
1 лыж. масла, 1—2 кубкі мукі.

Грыбы перамыць і намачыць на пару гадзін. Варыць страву на грыбах з дадаткам солі, цэлай цыбулі ля 1 гадзіны. Выняць грыбы, скруціць ці дробна пасячы, дадаць масла, а можна й падсмажыць грыбы крыху ў масьле. Зрабіць цеста з мукі. Закруціць грыбную рэзанку ў цеста калдунамі. Адварыць калдуны асобна і заліваць грыбным наварам прад падаваньнем. Дадатак цытрынавага соку ў грыбны навар палепшывае смак.

КАЛДУНЫ ЗЬ МЯСА

1 х. мяса (авечае, кароўе), 2 кубкі мукі, соль,
майран, масла, яйцо паводле жаданьня.

Мяса скручваецца на дробна. Цеста зарабляецца зь яйцом або бяз. Калдуны закручваюцца цесна без паветра, ня большыя, як узяць ложкаю або цалком у рот. У мяса дадаецца соль, майран, а то й перац, але ня яйка. Варацца калдуны ў пасолянай вадзе свабодна па 5—10 часін залежна ад таўшчыні цеста й велічы калдуноў. Падаецца на гарача з крыхаю вады-навару.

КАЛДУНЫ ЗЬ ЯГАДАМІ, СЫРАМ-ТВАРАГОМ

Ягады ці тварог зарабляецца на соладка. Есца такжа із салоджанай сьмятанаю, а то маслам і навар-ваду выліваецца або скарыстваецца на іншае варыва.

ПРЭСНЫЯ стравы з крупамі, або макаронамі, або клёцкамі

Крупы: ячменныя, грычаныя, пшонныя, аўсяныя, рыжавыя, іншыя збожжавыя.
Малако або масла, тук, жаўток.

Заварваецца ваду й у вар сыплецца мяшаючы дробныя крупы, макарон, спускаюцца заробленыя зь яйкам клёцкі. Буйныя крупы можна намочваць нанач (прысьпешвае варэньне). Усыпаныя ў халодную воду — прыгараюць да дна. Дадатак туку або масла спрыяе лепшаму ўварваньню. Дробныя крупы лепш адразу засыпаць на вар-малако (манна). Спалосканьне макаронаў або рыжу палепшывае смак, але вельмі паніжае пажыўную якасьць.

## МЯСЫ

### Я Л А В І Ч Ы Н А

КАТЛЕТЫ простыя

1 х. скручанай ялавічыны, 1 яйка, тук.

Мяса разьмешваецца разам зь яйкам, сольлю, перцам і заробліваецца ў пляскія галкі. Смажыцца на палавіну схаваныя ў туку. Памазаньне маслам дадае адумысны смак. Пакачаньне ў цёртай булцы палепшывае страўныя якасьці. Дадатак намочанай булкі ў сярэдзіну зьмякчае мяса й затрымоўвае сок ад выцяканьня.

КАТЛЕТЫ мяшаныя

Паўхунта ялавічыны й паўх. сьвініны,
2 яйкі, жменю мочанай выціснутай булкі,
тук, прыправы да смаку.

Зьмяшаць мяса і яшчэ раз перакруціць. Дадаць яйкі, булку, перац, соль, дробна пасечаную цыбулю. Галкі трэба канешне абсыпаць цёртай булкаю і лажыць на разпаляны тук. Калі зашмат у катлетах вады — разваляцца. Замала булкі — будуць цьвёрдыя.

ГАЛУБЦЫ

1 галава капусты, 1 х. мяса, 1 кубак рыжавай кашы,
1 яйка, 1—2 памідоры, прыправы да смаку.

Абварыць цэлую галоўку капусты, каб лісты зьмяклі й ня ламаліся пры разьніманьні й скручваньні. Зьмяшаць мяса з рыжам, дадаць смажаную цыбулю, яйка, перац, соль. Закруціць мешань у лісты й улажыць цесна ў гаршок. Заліць разваранымі памідорамі. Тушыць на малым агні, пакуль верхняя капуста ня будзе мяккай. Намест памідораў можна заліць цукранай вадою. Калі мяса худое, дадатак туку ці масла ў заліваньне можа быць канешным. Калі капуста слаба спараная, можна

абвязаць ніткаю. Малыя лісты із сярэдзіны галоўкі можна падлажыць на дно, стрымаюць ад прыгараньня.

Бульбяныя КАЛДУНЫ

1 х. мяса, 2 кубкі камяку (бульбяной кашы),
1 кубак мукі, 2 яйкі, соль, перац.

Зарабіць з камяку, мукі, яйкі цеста. Зарабіць мяса зь перцам, сольлю, яйцом. Закруціць мяса ў цеста малымі калдунамі. Кідаць у вар, пакуль не ўсплывуць. Падаецца залітыя маслам або тукам.

БУЛЬБЯНЫЯ накладаныя ГАЛКІ

1 х. мяса, 2 кубкі дзёртай бульбы, кубак мукі,
2 яйкі, 1 гарб. лыж. соды або парашку,
таквеляж [?] солі.

Сцадзіць бульбу як найсушэй, замяшаць з мукою, парашком, сольлю. Зарабіць мяса яйкам, цыбуляй. Зарабіць мяса і надзець ім бульбяныя галкі. Падсмажыць галкі, зложыць у гаршок, заліць сьмятанай, тушыць. Намест сьмятаны скарыстаць іншую падліўку.

СМАЖАНІНА (біфстэйк)

Ялавічына-паляндвіца разразаецца ўпопярак
валакна на каля 2-пальцавай таўшчыні.

Кавалкі паляндвіцы ложыцца на добра разагрэтую й пакрытую тукам сквараду. Як крыху прысмажыцца, перавярнуць без пароньня. Часта варочаць. Некатарыя любяць сырое мяса ўсярэдзіне, прыпалянае зьверху, тады смажыцца цэлы час на вялікім агні. Соліцца і перчыцца на талерцы.

ПЕЧАНІНА (ростбіф)

Ялавічына кумпяк, колькі ложак мукі,
масла, соль, перац, часнык.

Цэлае мяса соліцца, перчыцца, абсыпаецца мукою, каб асушыць. Хто любіць, можа тады нацёрці часныком і палажыць зуб два часныку ў шчыліны. Ложыцца на разагрэты тук разрэзаным бокам калі на пліце, а ўверх калі ў разагрэтай духоўцы. Масла ўкладаецца ў шчыліны, як і на верх. Печ трымаць 450 °Ф, а потым зьменшыць на 350. Паліваць сокам-тукам і пераварочваць час ад часу. Мёрзлае мяса садзіцца ў печ без адмарожваньня. Пячэцца, каб не перапячы. Сыраватая смакуе лепш.

ТУШАНІНА (патрост)

Танейшая ялавічына, крыху сала, лыж. масла,
паўкубка навару або вады, паўшклянкі сьмятаны,
цыбуля, перац, грыбы, бабковы ліст,
мука, воцат, часнык.

Мяса можа быць у пару кусках. Выбіць мяса, апарыць гарачым воцтам, нашпікаваць салам, часныком (калі любяць), пасаліць, паперчыць, пакінуць на гадзіну. Пачаткава мяса зарумяніць на суха. Заліць наварам (вадою), дадаць парэзаныя грыбы, цыбулю (калі бяз часныку), бабковы ліст, тушыць накрытае ля 2 гадз. Паліваць сокам і вадою. Пад канец абсыпаць мукою, падліць сьмятаны (кіслая лепш), вады, залежна ад жаданьня больш падліўкі. Падаецца толькі на гарача.

СМАЖАНАЯ РЭЗАНКА (гуляш)

1 х. маладой ялавічыны, мука, цыбуля, перац, соль, памідорная каша, кубак навару.

Мяса парэзаць на кусочкі ўпоперак валакна. Падсмажыць з крыхаю туку. Зьліць пушчаны мясны сок у рондаль. Смажыць больш з даданьнем больш туку, калі мяса худое. Падсмажаныя амаль да гатовага кусочкі мяса ўкідаецца ў рондаль. Дадаецца пакрышаная цыбуля (некатарыя любяць засмажыць цыбулю зь мясам), перац, соль, мука (можна засмажыць на мясе), памідоры, навар або вада, каб пакрыць усё мяса. Тушыць, пакуль мяса ня дойдзе на мякка.

ВАРАНАЯ РЭЗАНКА (сту[12])

1 х. жылаватага мяса, колькі бульбаў, цыбуля, пару моркваў, мука, соль, перац, вада.

Парэзаць мяса на кусочкі, пакрышыць на дробна жылы, плеўкі, храсткі. Варыць на поўгуста ў вадзе, пакуль мяса ня зьмякне. Абабраць і парэзаць скрылікамі бульбу, колцамі моркву, на дробна цыбулю. Варыць далей, пакуль бульба ня зварыцца. Пасаліць, паперчыць. Калі любяць густа: засмажыць ці так закалаціць ложкаю мукі, заварыць, адставіць.

ЗРЭЗЫ МЕНСКІЯ

2 х. лепшага мяса, 2 цыбулі, паўхунта цёртага хлеба, колькі сухіх грыбоў, 1 кубак сьмятаны, 1 куб. навару, соль, перац, мушкат, 1 яйка.

Парэзаць мяса на тонкія а доўгія зрэзы, добра выбіць, пасаліць, паперчыць, адставіць на паўгадзіны. Засмажыць цыбулю ў колцах амаль на суха (з крыхай туку-масла). Зьмяшаць з хлебам, дробна пасечанымі намочанымі грыбамі, выбіць яйка, пасаліць, паперчыць, дадаць мушкату, добра зьмяшаць. Палажыць мешанку на зрэзы, закруць у трубку. Смажыць пад покрыўкаю абсыпаныя мукою зразавыя трубкі на крыху туку. Падліць навар або ваду, сьмятану, крыху грыбнага адвару (калі грыбы, трэба было варыць, бо старыя), крыху цёртага хлеба. Тушыць усё разам добрую гадзіну залежна ад якасьці мяса.

---

[12] ***Stew*** (анг.) — тушанае мяса.

БІТКІ З ЦЫБУЛЯЙ

Лепшае мяса, цыбуля, перац, соль, мука, тук.

Мяса зрэзваецца на тонкія зрэзы, выбіваецца, каб разбіць цягласьць валаконцаў, пасаліць, паперчыць, смажыць на туку. Некатарыя любяць смажыць абсыпаныя мукою. Цыбулю можна смажыць разам пад канец смажаньня біткоў, а то асобна і ў масьле. Можна падаваць на суха з цыбуляю на версе, а то на мокра, адпаведна патушыўшы крыху ў вадзе ці навары.

БІТКІ З ГАРЭЛКАЙ

Добрае мяса, чарка гарэлкі або белага віна кубак, колькі захоўкавых цыбулькаў, цытрына, соль, перац, масла, навар.

Парэзаць мяса на зрэзы пажадана з храстком-косьцяй, выбіць на біток, пасаліць, паперчыць, абкачаць у муцэ, падсмажыць на абодва бакі. Злажыць у рондаль, заліць віном-гарэлкаю, даліць навару або вады, тушыць, пакуль мяса ня зьмякне. Пакрыць кружкамі цытрыны, аблажыць варанымі (захоўкавымі) цыбулькамі, дадаць масла, заварыць і даць, каб усё разам дашло.

ВАРАНАЕ ЗАПЯКАНАЕ

Мяса, памідоравая каша, мука, масла, навар, цёртая булка.

Варанае мяса рэжацца на кускі. Кускі ложацца пластамі ў рондаль, пераліваючы густою памідорнаю, цыбульнаю або іншай падліўкаю. На верх пакрываецца маслам, пасыпаецца булкаю. Запячы й каб дашло.

ВАРАНАЕ ТУШАНАЕ

Мяса, розная гароднiна, соль, навар, тук, масла.

Варанае мяса ў вялікіх кусках палажыць у рондаль, заліць тукам з навару. Пакрышыць розную, сырую гародніну, закрыць разам на густа, тушыць. Мяса не даварваецца, калі даецца старую гародніну (буракі, капусту). Тушыць, пакуль гародніна ня дойдзе.

КІСЛАЕ ТУШАНАЕ

Мяса, воцат, часнык, гвазьдзікі, перац, салетра[13], соль, мука, тук, цыбуля.

Лепшае мяса палажыць у квасатрыўкую (шкляную, гліняную) судзіну. Нагрэць воцат з вадою, сольлю, цэлым перцам. Пакрыць мяса кружкамі цыбулі, заліць воцтавым адварам, пасыпаць салетраю, выста-

[13] Маецца на ўвазе **харчовая салетра** — нітрат калію ці натрыю, выкарыстоўваецца ў прыгатаваньні мяса для наданьня яму прывабнага ружовага колеру.

віць на холад на пару дзён, перавярнуць, паліць пару разоў. Абрумяніць мяса, абкачаўшы ў муцэ. Тушыць, падліваючы працэджанага расолу.

ТУШАНІНА З ГАРОДНІНАЙ

Сытае мяса, бручка, морква, цыбуля,
корань пятрушкі,
масла, соль, перац, бабковы ліст.

Мяса рэзаць на палец тоўстымі зрэзамі, выбіць, пасаліць, паперчыць. Пакроіць ня надта дробна гародніну. Лажыць пластамі ўрондаль: цьверць разтопленага масла, пласт гародніны, пласт мяса, пласт гародніны і г. д., заліць наварам, тушыць 2—3 г.

ПЕЧАНІНА Ў ХРЭНЕ

Лепшае мяса, хрэн, цыбуля, мука, воцат, масла,
цукар, соль, гвазьдзікі.

Зьвязаць шнуркам мяса ў бохан, запячы ў печы амаль да гатовага, падліваючы крыху вады. Тушыць на малым агні да гатовага. У падліўку дадаць зарумененай цыбулі і 2 лыжкі мукі, заварыць. Дадаць лыжку цукру (валей бранзовага), на сок сьцёртых гвазьдзікоў, з 4 лыжкі цёртага хрэну, 2 лыжкі воцту, паперчыць, разьмяшаць і яшчэ раз заварыць. Печаніну ўкладаецца ў такую падліўку і ўстаўліваецца на колькі часінаў у духоўку.

## С Ь В І Н І Н А

СЬВІНІНА печаная

Кумпяк, лапатка, каркавіна або іншая з косьцю,
мука, соль, вада.

Мяса соліцца на 1 гадзіну. Абсыпаць мукою, падставіць казлы (сетку, падстаўку) у бляху і пячы на казлох. Час ад часу паліваць капкамі[14] і вадою. Запячы трэба ў 500 °Ф дапякаць у 350. Пячэцца залежна ад хормы: круглае мяса ля паўгадзіны на хунт, плаская-падоўжнае шмат карочай.

МЯСНАЯ АПАЛЬКА

2 х. ялавічыны, паўхунта сьвініны,
5—10 лустаў цьвярдога хлеба (2 кубкі камяку або
рыжу), 1—3 яйкі, соль, цыбуля.

Скруціць мяса на дробна, зьмяшаць з размочаным хлебам, камяком, яйкамі, сольлю. Цыбулю пакрышыць дробна і дасыпаць сырую

[14] **Капка** — кропля.

або прысмажаную. Злажыць на скврараду і пячы як хлебную апальку ля 1 гадзіны залежна ад таўшчыні.

КУМПЯК У ХЛЕБЕ

Дымляны кумпяк, хлебнае цеста.

Кумпяк добра абмываецца і залепліваецца ў цеста каля 1 палец таўшчыні. Зважаць, каб пад цестам не было паветра, ані вады. Пячы ля 3 гадзін, як хлеб. Хлебную покрыўку зьнімаецца, як крыху астыне. Гэта адзіны здаўна народны спосаб пячэньня цудоўна захоўвае смак і ўсю якасьць печанага.

КУМПЯК З ГВАЗДАМІ

Дымляны кумпяк, гвазьдзікі, цукар, віно,
садавінныя сокі.

Кумпяк зьлягка абварваецца, высушваецца. Гвазьдзікі набіваюцца радочкамі ў вольнае мяса-сала, пячэцца на казялкох. Можна зьняць шкуру і набіць усюды, хаця шкура й сала пад шкураю е найсмачнейшай часткаю кумпяка, а то й найпажыўнейшай. Пры пячэньні паліваецца капкамі і вадою (вясковы спосаб) або сокам, віном, пасыпаць цукрам (панскі спосаб). Пячэньне ў цукры й ананасах — амэрыканскі-вірджынія спосаб.

ВЕРАШЧАКА ПАНСКАЯ

Дымляныя скабкі[15], каўбаса, сала,
3 лыж. мукі, вада, соль, перац.

Парэзаць сала і падсмажыць на ім кружкі каўбасаў. Скабкі варыць у поўнай меры вады, укінуць смажанае. Разкалаціць муку ў крыху вады, уліць, хутка мяшаючы, заварыць. Можна дадаць падсмажанай цыбулі, перац, бабковы ліст перад закалотаю.

ВЕРАШЧАКА ВЯСКОВАЯ

Сьвіныя соляныя-ляжалыя косьці, сала,
крыху ячменнай або жытняй мукі.

Косьці-мяса рэжацца на дробна й варацца, пакуль не разварацца. Разскварваць дробна парэзанае сала (цыбуля або не), укінуць у варыва. Разбоўтаць пару ложак мукі, уліць, хутка мяшаючы, заварыць. Варэньне колькі ялаўцовых ягад перад закалоткаю дадае дымлянінны смак.

КУМПЯК З КРУПЕНЯЙ

1 х. сьвініны (бараніны), 1 куб. круп, сала.

---

[15] **Скабкі** — рэбрышкі.

Варыць мяса з крупамі на густа, як уварыцца, пакроіць мяса на дзялянкі. Разскварыць крыху сала дробна крышанага, укінуць у кашу зь мясам, заварыць, падаваць. Некатарыя любяць скваркі на суха, тады не заварваць, разьмяшаць, падаваць.

НАДЗЯВАНАЯ БУЛЬБА

Колькі бульбін, крыху скручанага мяса, туку,
соль, перац, цыбуля.

Выбіраецца большыя бульбіны, абіраецца, разразаецца на дзьве, выбіраецца крыху бульбы, каб зрабіць дупло на мяса. Мяса разьмешваецца з сольлю, перцам, дробнай цыбуляй (або не), налажыць у бульбу. Злажыць у рондаль з крыхай туку й вады, тушыць пад накрыўкаю ля паўгадзіны.

СЬВІНЫЯ КАТЛЕТЫ

Робяцца так, як і зь іншага мяса, але заўсёды тушацца пасьля падсмажаньня. Тушыць можна ў вадзе-пары, мучной падліўцы, малаку, грыбнай падліўцы і г. д. Вельмі смачныя тушаныя з скрылікамі яблык.

ЗРЭЗЫ З ПРУТКОМ

Сьвініна без прарости, цёрты хлеб,
зялёная пятрушка, яйка, перац, соль.

Парэзаць сьвініну на зрэзы, выбіць, калі старая, пасаліць. Зьмяшаць 3 кубкі хлеба, 3 лыжкі пасечанай пятрушкі, 1 яйка, крыху вады або навару. Памазаць мешанку на зрэзы й закруць, заткнуць ражэнчыкам[16]. Зьлёгку прысмажыць, тады злажыць у рондаль, падліць вады й тушыць ля паўгадзіны.

ЗРЭЗЫ ЗЬ ПЕРАВЯСЛАМ

Сьвініна, сала, колькі грыбоў, булка,
грыбная падліўка, соль, перац, тук.

Сьвініну парэзаць на зрэзы, зьлягка выбіць, пасаліць, паперчыць. Адварыць грыбы, пакрышыць, зьмяшаць з мочанай булкаю, яйкам (або без), мазаць на зрэзы, укладаць кантоўку з сала, закруціць, зьвязаць ніткаю, як перавяслам. Смажыць у гарачым туку. Калі зарумяняцца, пералажыць у грыбную падліўку, тушыць паўгадзіны. Дадаць у падліўку лыжку мукі, заварыць.

СТРЭСЬ ЛЯСЬНІЧАЯ (бігос)

Капуста, сьвінскія косьці, дымляніна, дзічына,
цыбуля, соль, перац, сала або тук.

[16] **Ражэнчык** — тут: завостраная шчэпка

Косьці, кускі дзічыны (зайцавы касьцякі і г. д.) заліваюцца вадою на густое варыва. Выціскаецца капусту зь лішкі квасу, укідаецца да варэньня. Сьвежую капусту варта абварыць з горычы і пакрышыць. Дымляніну (кумпяк, падчарэвак, каўбасу і г. д.) кроіць на дробна і ўкінуць за капустаю. Сала лепш разскварыць з цыбуляю або і на сыра. Перац даецца бобкамі, бабковы ліст, соль да смаку. Варыцца-тушыцца, час ад часу мяшаючы, пакуль капуста ня зьмякне. Можна есьці некалькі дзён, часьцей адаграваная смачнейшая.

ПАДЧАРЭВАК З КАПУСТАЮ

1 х. падчарэўку або іншай сытной сьвініны,
капуста галоўкамі, морква, бручка,
бульба або іншая гароднiна, мука, соль.

Варыць падчарэвак у крыху вады ля паўгадзіны. Апарыць капусту, парэзаць на цьверці, уціснуць у рондаль з бачком, дакінуць пакрышаную гародніну, цыбулю, тушыць разам, покуль капуста ня зварыццазьмякне. Дастаць бачок-падчарэвак, зрабіць запражань з мукі-масла, разьвясьці наварам, заліць сьвініну й тушыць з паўгадзіны.

ГРЫБНЫЯ КАТЛЕТЫ

1 х. сьвежых грыбоў, паўх.сьвініны,
3—4 вараныя бульбіны, 1 яйка, соль.

Адварыць грыбы, адцадзіць, скруціць. Дадаць скручаную сьвініну, бульбу, яйка, соль, перац. Разьмяшаць, зрабіць катлеты, смажыць на малым агні ў масьле або туку.

КРЫВЯНКА (кашанка)

Сьвіная кроў, лёгкія, абрэзкі сала й мяса,
грэцкія буйныя (жалезныя) крупы, майран,
перац, соль, тоўстая кішка.

Адварыць мяса на густа, выняць. У навары вараць крупы на кашу. Высмажыць тук з сала, здору ці іншага сьвежага лою. Зьмяшаць на халодна парэзаныя дробна кусочкі мяса, кашу, скваркі з крывёю і напхаць мешаньню кішкі. Адварыць крывянкі па паў да аднае гадзіны. Есца на халодна.

КВАШАНІНА-ДРЫГУНЕЦ

Ножкі, вушы, язык ды іншае з заколу,
часнык, соль, бабковы ліст.

Жылаватыя адпады заколу сьвіней варацца ў вадзе з сольлю, бабковым лістам, покуль мякаць ня будзе адставаць ад косьці. Выняць, аддзяліць і выкінуць косьці. Разьдзяліць мяса роўна з наварам на міскі-хормы, паставіць застынуць. Варыць на густа, калі хочацца

мець цьвёрды дрыгунец. Часнык дадаецца разьцёрты ў місах-хормах. Есца з воцтам.

КУНДЗЮК[17] (руляда)

Галавізна[18], соль, перац, бабковы л.

Адварваецца галавізна без мазгоў. Мяса абіраецца з касьцей, сала, шкура, вушы рэжацца на кубікі, язык на кантоўку. Дадаецца перцу, солі, крыху навару і напіхаецца гэтым кундзюк. Адварваецца з паўгадзіны. Ахалоджваецца пад прэсам-дошкаю.

ПАРАСЁ ПЕЧАНАЕ

Пячэцца надзетае ў брушка булкаю, яблыкамі.

Выцерці сольлю зьверху і ўсярэдзіне.Чэраўка выпхаць булкаю, зашыць і пячы ў высокай гарачыні, часта паліваючы маслам. Вушы, хвост, лычык можна загарнуць у паперу, каб ня счарнелі.

ПАРАСЁ ВАРАНАЕ

Гародніна на адвар, соль, перац, парасё.

Паварыць пакрышаную гародніну: морква, пятрушка. Ачысьціць парасё, заліць адварам з гародніны, варыць паволі ля 2 гадзін. Парэзаць на дзялянкі, паліць хрэнам із кіслай сьмятанаю, падаваць студзёнае.

## Ц Я Л Я Ц І Н А

ЦЯЛЯЦІНА печаная

Кумпяк (чвэртка), сала, часнык, соль, тук, вада.

Пасаліць чвэртку, нажом нарэзаць дзіры і напхаць туды кусочкі сала, зубкі часныку. Пячы на козьліках, паліваючы тукам, маслам, вадою. Падаецца на халодна.

ЦЯЛЯЦІНА АШМЯНСКАЯ

Чвэртка, лапатка, сала, морква, пятрушка, салера,
3—4 лыж. кіс. сьмятаны, 3 лыжкі гарчыцы (мукі).

Пакрышыць моркву, корань пятрушкі, салеру. Зьмяшаць з гарчычнай мукою. Убіць мешань у цяляціну. Замарозіць мяса ў шчыльнай судзіне на колькі дзён. Тушыць, паліваючы тукам, больш гадзіны. Падліць сьмятану й далей тушыць, пакуль сьмятана не зарумяніцца. Пакроіць на лусты, есьці на гарача.

---

[17] **Кундзюк** — трыбух, страўнік.

[18] **Галавізна** — ядомыя часткі галавы жывёлы.

БІТКІ

Чыстая бяз плеваў цяляціна,
мука — сухар — цёртая булка,
тук, перац, соль.

Парэзаць цяляціну на зрэзы ля пальца таўшчыні, выбіць, пасаліць, паперчыць (вельмі лёгка), абкачаць у муку, булку. Можна абмачыць у зьбітым яйку і абкачаць булкаю. Смажыць на туку ці масьле. Тушыць прысмажаныя біткі ў памідоравай падліўцы, грыбнай, як і ў малаку.

ЦЯЛЯЧАЯ ХЛЯБА (рулет)

Хлябы ці іншае пласкае цяляціны,
сала, крутыя яйкі, мука, соль, гароднiна.

Цяляціна выбіваецца на адзін бок, соліцца, выкладаецца стужкамі сала, колкамі яйка, скручваецца як зрэз, абвязваецца абораю, пячы на козьліках ці тушыць з крыхай вады, гароднiны.

РЭЗАНКА цялячая (піляў)

2 х. цяляціны, паўкубка круп,
колькі марынаваных грыбоў, мука, масла,
цыбуля, соль, перац.

Адварыць цяляціну. Зарабіць падліўку: падсмажыць дробна пакрышаную цыбулю, паўлыжкі мукі, развесьці наварам да 2 кубкаў. Укінуць зялёнага кропу, пятрушкі, можна дадаць 2 лыжкі пакрышаных марынаваных грыбоў, падліць 3 лыж. воцту з марынату. Цяляціну дробна парэзаць, укінуць у падліўку, яшчэ раз заварыць. Адварыць крупы ў навары на сыпка. Зьмяшаць звараныя крупы з гатовай цяляцінай і запячы ў духоўцы.

КВАШАНІНА З ГАЛАВЫ

Галоўка, цьверць сала, масла, туку,
2 цытрыны, жэлятына, соль.

Апараную, бяз шэрсьці, цялячую галоўку вымачыць праз адну пару. Апарыць яшчэ пару разоў перад варэньнем. Улажыць у рондаль, дадаць масла, сала, тук, колькі цытрыны безь зярнят, заліць вадою і варыць каля 3 гадз. З гатовага выняць косьці, пакроіць. Язык і мазгі варацца асобна. Навар сцадзіць а дадаць жэлятыны.

# Б А Р А Н І Н А

БАРАНІНА печаная

Пасаліць, нашпікаваць часныком, салам (або без), пасаліць, пячы ля паўтары гадзіны пачынаючы з 480 °Ф[19], зьніжаючы на 300[20]. Падаецца на халодна.

НАДЗЯВАНАЯ БАРАНІНА

Лапатка, паўхунта цяляціны, 3 яйкі, сала, цыбуля, масла, соль, перац, кроп.

Дастаць косьць з бараніны, пакідаючы дупла. Зрабіць надзяваньне: скруць папалам цяляціну з баранінаю, дадаць пакрышаныя крутыя яйкі, падсмажаную дробную цыбулю, пятрушку, перац, соль, кроп, перамяшаць, выпаўніць гэтым дупла ў бараніне, перакладаючы надзяваньне стужкамі сала. Лапатку зашыць, пасаліць, абсыпаць мукою, палажыць у рондаль, зарумяніць на туку, дадаць гароднiны, падліць наварам, тушыць ля 2 гадзін. Падаваць такжа студзёным.

СМАЖАНІНА Ў СЬМЯТАНЕ

Худая бараніна, сала, кубак сьмятаны, соль, перац.

Бараніну ачысьціць з лою, нашпікаваць салам, смажыць у сьмятане, паліваючы часта. Падаваць з грэцкай кашай.

ГРУДЗІНКА

Грудзіна, гароднiна, цыбуля, масла, мука, 3 жаўткі, 1 кубак сьмятаны, соль.

Зварыць грудзінку з гароднінай. Падсмажыць 2 цыбулі на масьле, запражыць лыжку мукі, разьвесьць наварам, даліць кубак сьмятаны, заварыць, дадаць 3 жаўткі, абліць гэтай падліўкаю парэзаную на дзялянкі грудзінку і тушыць ля паўгадзіны.

ТУШАНІНА З ЦЫБУЛЯЙ

3 х. бараніны, гароднiна, колькі цыбулін, мука, цытрынавы сок, масла, соль.

Варыць бараніну з гароднінай, падліць воцту — цытр. соку перад канцом. Выняць, абсыпаць цёртай булкай, смажыць на масьле, падліваючы наварам, далажыць колькі цыбулін і датушыць.

БАРАНЯЯ АПАЛЬКА З ГРЫБАМІ

Скручаная бараніна 2 х.,

---

[19] 480 °F — каля 250 °С.

[20] 300 °F — каля 150 °С.

1 кубак вараных грыбоў,
кубак варанага макарону, цыбуля, перац, соль,
пармазан, 1 кубак памідоравай кашы.

Падсмажыць цыбулю, дадаць і падсмажыць грыбы, зьмяшаць мяса, макароны і г. д., зложыць у хорму, пасыпаць пармазанам, пячы паўгадз.

## П Т У Ш К І

### ПЕЧАНАЕ КУРАНЁ

Памыць, пасаліць, надзець і зашыць. Надзяваньне робіцца з патрахоў, адвараных і скручаных з дадаткам булкі, перцу, солі, зялёнай пятрушкі. Прывязаць ногі і крылы, памазаць маслам, пасадзіць у печ на козьліках, часта паліваць капкамі, маслам, падліць вады на бляху.

### ВАРАНАЯ КУРЫЦА

Уварыць курыцу з морквою, бабковым лістам, зялёнай пятрушкаю. Выняць, парэзаць на дзялянкі. У навар засыпаць макарон ці спусьціць клёцкі. Зрабіць падліўку: зьбіць 2 жаўткі ў паўкубку сьмятаны, даліць паўкубку навару, разьмяшаць, заварыць. Дадаць больш сьмятаны, крыху цытрынавага соку, убіць. Заліваць гэтым дзялянкі, падаваць з рыжам, ячменнай дробнай, грычанай белай ці іншай кашаю.

### ТУШАНАЯ КУРАЦІНА

Падсмажыць кавалкі кураціны пакачаныя ў муццэ. Зложыць у рондаль, дакінуць масла, грыбнага падліўкі, тушыць ля паўгадзіны. Перад канцом даліць кіслай сьмятаны.

### ПЕЧАНАЯ КАЧКА

Ачышчаецца качку. Калі аддае балотам-морам, вымачыць у бягучай вадзе. Напхаць у чэрава сушаных абмытых сьліў, зашыць. Пячы добрыя 2 гадзіны, паліваючы капкамі, тукам ці маслам, а то вадою.

### ПЕЧАНЫ ГУСЬ

Ачысьціць гусь. Адрэзаць шыю, выняць касьцяк, напхаць кішку шкуркі надзяваньнем з патрахоў, булкі, варанага іншага мяса. Выпхаць чэрава яблыкамі, зашыць. Пячы, часта паліваючы, аж пад 3 гадзіны.

## Р Ы Б Ы

### СЕЛЯДЗЕЦ У МАЛАЧАІ

Вымачыць селядцоў у бягучай вадзе. Выбраць мяса, парэзаць на кускі. Сьцёрці малачай з воцтам, дадаючы вады і воцту, пакуль досыць

падліўкі. Перакладаць кусочкі селядца пластамі з кружкамі цыбулі і заліваньнем падліўкаю. Можна такжа колькі цыбулі заварыць крыху ў воцтавай вадзе, скарыстаць ваду ў падліўку.

СЕЛЯДЗЕЦ У СЬМЯТАНЕ, ВОЦЬЦЕ, АЛІВЕ, ПАМІДОРАХ

Вымачаныя селядцы ўкладаюцца з осьцьмі і шкуркай у падліўкі, што з воцтам. Лепш адабранае мяса лажыць у бяз воцтавыя. Воцат заўсёды заварыць (каб ня сплесьнялі).

СМАЖАНАЯ РЫБА

Ачышчаную рыбу пасаліць, пакачаць у муцэ, смажыць на абодва бакі ля 5—10 часін залежна ад таўшчыні і агню. Накрыць і пагрэць-датушыць колькі часін. Падобна такжа пячэцца рыбу, патрэба менш туку.

РЫБА НА СТУДЗЁНА

Зварыць навар із морквы, пятрушкі, цыбулі, перац, соль. У навар класьць рыбу, варыць на цесна 15—30 часінаў. Астудзіць, выняць на талеркі, заліць наварам. Упрыгожваецца яйкамі, цытрынаю, буракамі, морквою, пятрушкаю.

ВАРАНАЯ РЫБА

Варыць малую рыбу або кавалкі ў булёне з бульбай каля 10 часінаў, асьцярожна выняць і падаваць з памідоравай падліўкаю.

РЫБА З ПАДЛІЎКАЙ І ХРЭНАМ

3 х. рыбы, паўкубка сьцёртага хрэну,
паўтары кубкі сьмятаны, гароднiна, мука,
масла, цытрына.

Заліць рыбу наварам з гароднiны і цытрынавага соку, пасаліць, заварыць. Асобна 1 л. масла, паўлыжкі мукі, хрэн зьмяшаць і засмажыць, разьвесьці кубкам рыбнага навару, кубак-паўтара сьмятаны і яшчэ раз заварыць, паліваць рыбу.

КАРАСІ ВАРАНЫЯ ІЗЬ СЬМЯТАНАЮ

3 х. карасёў, 4 лыж. сьмятаны, гароднiна, масла,
мука, крыху кропу.

Карасі ачысьціць, пасаліць, пакінуць на гадзіну. Палажыць у рондаль, заліць наварам, звароным із гароднiны, варыць ля 20 часінаў. Засмажыць лыжку мукі ў лыжцы масла, разьвесьці 2 кубкамі рыбнага навару, заварыць. Палажыць 4 лыж. сьмятаны, шчопць цукру, пакроенага кропу, заварыць, абліваць рыбу, зложаную ў місцы.

ГАЛКІ з рыбы

1 х. рыбы, 2 яйкі, паўкубку мукі, булка, тук.

Рыбу змалоць, дадаць яйкі, соль, муку, зрабіць галкі, пакачаць у цёртай булцы або муцэ, смажыць у туку.

АКУНЬ ПОДЛЕ РАДЗІВІЛ

Акунь, кубак віна, 4 жаўткі, 5 грыбоў, 3 лыж. масла, мука, перац, соль, магі косткі[21].

Ачысьціць і зьняць шкуру з акуня, аскрабаць мяса з касьцей. Осьці і галаву варыць у кубку навару з гародніны. Сцадзіць, укінуць грыбы, магі, віно. Засмажыць лыжку мукі ў лыжцы масла, разьвесьці рыбным наварам, убіць жаўткі і трымаць на цёплым месцу. Пакроіць рыбу на роўныя кавалкі, пасаліць, варыць на малым агню 10 часінаў у паўкубку вады. Палажыць на пражаны хлеб і паліць падліўкаю.

СЕЛЯДЦЫ З МОРКВАЙ

2 селядцы, паўкубка алею, морква, перац, бабковы ліст, цытрыновы сок.

Заварыць алей з цыбуляй і морквай, падзёртай на бурачаную тарку, палажыць перцу звычайнага й ангельскага, бабковы ліст, трохі цытрыны або воцту, солі й яшчэ раз заварыць. Заліць ачышчаныя селядцы гарачай падліўкаю.

СЕЛЯДЦЫ З ЦЫБУЛЯЙ

Шмат цыбулі падсмажыць у валею і заліць ачышчаныя, вымачаныя селядцы.

КАТЛЕТ ІЗЬ СЕЛЯДЦА

Селядзец або два, 2 х. бульбы, цыбуля, масла, малако, булка.

Мяса зь селядца намачыць у малацэ на колькі гадзінаў. Змалоць. Абабраць і зварыць бульбу, патушыць на камяк, дадаўшы лыжку масла й малака, зьмяшаць зь селядцом і смажанай цыбуляй, зрабіць катлеты, пакачаць у булцы, смажыць.

СМАЖАНЫ СЕЛЯДЗЕЦ ІЗ ПАДЛІЎКАЙ

2 х. селядцоў, яйка, булка й цёртая булка, цыбуля, масла, паліўка.

Селядцы добра вымачыць, выняць мяса, пасячы з цыбуляй і з малачаем, зьмяшаць із аднэй булкай, намочанай у малацэ і выціснутай, дадаць лыжку масла, разьмяшаць, зьляпіць хорму рыбы, прылажыць хвост і галаву, памазаць яйком, пасыпаць цёртай булкаю, пячы ля 15 ч. Падаваць на скварадзе, есьці з памідоравай або гарчычнай падліўкаю.

---

[21] Маюцца на ўвазе булённыя кубікі “*Maggi*”.

## Я Й К І

### ЯЕШНЯ (глазаўка)

Разскварыць сала, каўбасу, кумпяк, зьбіць яйкі, накрыць накрыўкаю, патушыць агонь, каб дашлі ў сваёй собскай пары. Калі па 2—3 ч. яшчэ разьлезлыя — зноў падагрэць. Жаўткі маюць быць цэлыя й мяккія.

### ЯЕШНЯ НА СЬМЯТАНЕ

Растапіць крыху масла, даліць у яго сьмятаны, убіць колькі яек, стараючыся, каб яны засталіся цэлымі, пасаліць, пасыпаць пёркамі цыбулі.

### ЯЕШНЯ БОЎТАНАЯ

Разскварыць на глыбокай скварадзе сала. Разбоўтаць 2—3 яйкі з 1—2 лыжкамі мукі, разьвесьці малаком на рэдка, зьліць на разскваранае, пячы 10 час. у лёгкай печы. Адумысна смачная з блінамі.

### НАДЗЯВАНЫЯ ЯЙКІ

Паўкубка сьмятаны, 9 яек, 2 л. масла,
пятрушка, цыбуля.

8 цьвёрда звараных яек разрэзаць папалам, выняць жаўткі, дробна іх пасячы, дадаць падсмажанай цыбулі, зялёнай пятрушкі, сырое яйка й цьверць кубка сьмятаны, добра зьмяшаць, падсмажыць у 1 л. масла, не забыцца пасаліць, напоўніць бялкі, падаваць.

### ЯЙКІ ЗЬ БЕЛАЙ ПАДЛІЎКАЮ

4 цьвёрдыя яйкі аблупіць, пакроіць удоўж і заліць гэткай падліўкай. Гарбатнюю лыжку мукі запражыць у л. масла, але не заруменіць. Разьвесьці кубкам салодкай сьмятаны або малака, пасаліць, дадаць перцу, цытрыновага соку, зял. пятрушкі, заварыць. Потым дадаць адзін жаўток, зьмяшаны з малаком.

## Г Р Ы Б Ы

### ТУШАНЫЯ ГРЫБЫ

1 х. грыбоў, паўкубка сьмятаны або яйкі, цыбуля,
масла, перац, соль.

Грыбы вымыць, пакроіць на кавалкі, абліць варам. Злажыць у рондаль, дадаць цыбулю, масла, троху вады і тушыць. Пасаліць, паперчыць, уліць сьмятану. Замест сьмятаны можна ўбіць яйкі, замяшаць, не заварваць, падаваць.

ГРЫБЫ З БУЛЬБАЙ

Вараную бульбу пакроіць на скрылікі й падсмажыць із цыбуляй на масьле. Грыбы ўтушыць, палажыць наверх бульбу. Разбоўтаць 3 яйкі ў паўкубку сьмятаны й заліць наверх, паставіць на колькі часінаў у печ, каб яйкі запякліся.

ВЕРАШЧАКА з грыбоў НА КУЦЬЦЮ

Паўкубка сушаных грыбоў пакрышыць і варыць у паўлітры вады паўгадзіны. Пасаліць. Перасмажыць цыбулю ў масьле, укінуць, заварыць.

## С А Л А Т Ы

САЛАТА ІЗЬ СЕЛЯДЦОМ

1 селядзец, 4 вараныя бульбіны, 2 яблыкі, 2 яйкі, 2 лыжкі сьмятаны, 2 бурачкі (вараныя), 1 лыж. алівы, 1 л. гарчыцы, 1 л. воцту.

Пакроіць бульбу скрылікамі; бурачкі й яблыкі дробна пакрышыць. Пераляшаць і заліць падліўкаю ізь сьмятаны, алівы, воцту й гарчыцы. Прыбраць кавалкамі селядца й скрылікамі яйка.

ПАМІДОРЫ ЗЬ ЯЙКАМІ

Пакроіць памідоры скрылікамі, яйкі на 6 часьцяў, заліць сьмятанай, зьмяшанай з гарчыцаю і цукрам, пасаліць.

СЫРАЯ САЛАТА

Пакрышыць дробна галоўку капусты, дадаць крышанай цыбулі, морквы, зьмяшаць з маянэзам або кіслай сьмятанаю. Хто любіць, можа дакрышыць крыху зялёнага перцу.

КУРАНЯ ІЗ САЛЕРАЙ

Выбраць чыстае мяса із варанае курыцы, пакрышыць. Пакрышыць салеру, каб было палова таго, як мяса. Пасаліць, паперчыць замяшаць з маянэзам. Можна ўжыць рыбу.

## П А Д Л І Ў К І

ЗАПРАЖКА (асноўная падліўка)

Запражыць лыжку мукі на лыжцы масла (туку), разьвесьці кубкам навару, вады або малака, заварыць.

КІСЛА-САЛОДКАЯ ПАДЛІЎКА (жыдоўская)

У запражку дадаецца 1—2 лыжкі цукру, пару скрылікаў цытрыны, сок з цытрыны, крыху разынкаў, паўкубка вараных сьліў, можна даліць кубак віна, разьмяшаць, заварыць.

ГАРЧЫЧНАЯ ІЗ ЖАЎТКОМ

2 лыж. гатовай гарчыцы, паўлыжкі мукі, паўлыжкі масла, кубак-паўтара навару разам разьмяшаць, дадаць чарку віна, гарб. л. цукру, разьмяшаць, заварыць, накрыць. Укінуць 2—3 жаўткі ў другую судзіну, падліць трохі падліўкі, разьмяшаць, уліць астачу, пагрэць, але не заварваць.

ХРЭНАВАЯ

Запражыць лыжку мукі на 1—2 л. масла, дадаць паўкубка старкованага хрэну, разьвесьці 1—2 кубкамі навару, заварыць, дадаць паўкубка сьмятаны з адным жаўтком, трохі цукру, цытрыны, солі, замяшаць.

ПАМІДАРОВАЯ

Утушыць 1 х. помідораў із 1 л. масла, усыпаць лыжку мукі, разбоўтаць, разьвесьці кубкам навару, дадаць паўкубка сьмятаны, солі, заварыць, працадзіць, памалу дадаць 1 жаўток.

ГУРКОВАЯ

1 кіслы гурок пакрышыць і ўтушыць із маслам, падліваючы навар. Асобна падсмажыць лыжку мукі ў лыжцы масла, разьвесьці ля кубкам навару або расолу з гуркоў. Даліць паўкубка сьмятаны, усё разам зьмяшаць, заварыць, пасыпаць зял. пятрушкай або кропам.

ХРЭНАВАЯ ІЗЬ СЬМЯТАНАЙ

Паўкубка хрэну, 2 лыж. сьмятаны, 2 жаўткі, цукар, навар, воцат.

Разьцерці хрэн са сьмятанай, даліць трохі навару, воцту, солі, разьмяшаць, заварыць. Расьцерці 2 жаўткі з 1 гарб. л. цукру, зьмяшаць із вараным, аднак не варыць.

БЕЛАЯ да катлетаў

Зьмяшаць паўлыжкі масла із лыжкай мукі, разьвесьці 2—3 шклянкамі навару, дадаць цытрыноваго соку (воцту), солі, заварыць, працадзіць, усыпаць жменю зялёнага кропу, разбоўтаць 2 жаўткі, дадаць, хутка мяшаючы, добра падагрэць, але не варыць.

МАКАВАЕ МАЛАКО (салодкая посная падліўка)

2 кубкі маку, цукар або мёд, вада.

Адварыць мак, адставіць. Зьліць ваду, новай наліць, варыць, ізноў зьліць ваду, потым перамыць у сьцюдзёнай. Церці, калі пабялее, уліць 2—3 кубкі варанай вады, працерці, дадаць цукру або мёду да смаку.

## Х А Л О Д Н Ы Я   П А Д Л І Ў К І

ГАРЧЫЧНАЯ

2 цьвёрда звараныя жаўткі расьцерці з 1 л. гарчыцы, дадаць крыху цукру, солі, цытрынавага соку й разьвесьці сьмятанай да патрэбнай гушчыні.

ГАРЧЫЧНАЯ да дымляніны, рыбы

Узяць пароўну гарчыцы, жаўткоў, белага віна, воцту, навару, растопленага масла, крыху цукру, солі. Палажыць усё гэта ў рондаль, грэць і мяшаць, аж пакуль пагусьцее, але не заварваць.

## Б Я З Ь   М Я С А

НАЛІСЬНІКІ ІЗ СЫРАМ

1 х. сыру-тварагу, 1 кубак мукі, 1 куб. малака,
2 яйкі, цукар, соль.

Разбоўтаць муку з 1 яйкам, малаком, пасаліць. Наліваць і пячы на тукам памазанай скварадзе тонкія бліны-налісьнікі. Падсмажваць толькі на адзін бок, крыху не дапякаючы. Добра разьмяшаць сыр з 1 яйкам і дадаткам цукру (да смаку). Палажыць-намазаць сыр на падсмажаны бок бліна (на халодна). Закруціць у трубку або злажыць у трыкутнік, яшчэ раз падсмажыць у большай колькасьці туку.

КАПЫТКІ

4 бульбы, мука, чуць солі й пітной соды.

Дадаць мукі, каб можна было раскачаць цеста, пакроіць на палоскі 2—3 цм даўгія й пячы. Тады варыць 10—15 часінаў. Падсмажыць цыбулю ў сале й паліць.

БУЛЬБЯНЫЯ КЛЁЦКІ

2 кубкі дзёртай бульбы, 1 куб. мукі, 2 яйкі,
1 гарб. л. солі, 1 г. л. парашку да пячэньня або соды.

Бульбу выціснуць, зьмяшаць з мукой, яйкамі, зрабіць клёцкі й варыць у пасоленай вадзе ля паўгадзіны. Калі закруціць усярэдзіну кубікі сала, завуцца: “камы з душой”.

БУЛЬБЯНЫЯ БЛІНЫ

Зьдзёрці бульбу, зьняць лішку вады, дадаць мукі, яйка або два, пасаліць, добра разьмяшаць. Накідаць асобныя галадкі ля 1 лыжкі велічы ў гарачы тук так, каб амаль плавалі. Сьвіны тук найздаравей і, кажуць, найсмачней, посныя на алеі. На маргарыне або масьле — прыгараюць. Есьці са сьвежым маслам, сьмятанаю, скваркі-цыбуляю,

мясам, мясной падліўкаю, а нат на гарача з палоскамі сырога сала. Калі дадаць больш мукі, будуць багатшыя ў калёрыі.

БУЛЬБЯНАЯ КАЎБАСА, або КІШКА

Засмажыць цыбулю ў бульбяное бліннае цеста, напхаць у кішку. Падсмажыць з двох бакоў, дапячы ў духоўцы.

БУЛЬБЯНАЯ БАБКА (тэйгэрц)

Старкаваць бульбу, убіць яйка-два, дадаць мукі, каб зрабіць густое цеста. Падсмажыць у валею цыбулю, дадаць, пасаліць, укінуць у хорму-скварраду, смажыць на абодва бакі, лепш пячы ў духоўцы.

МІРСКАЯ ДРАНКА, або БУЛЬБЯНАЯ АПАЛЬКА

Разьмяшаць із мукой соду, лепш парашок да пячэньня. Падкалаціць гэтай мукою цёртую (драную) бульбу. Дакінуць шкварак адператопліванага здору або разскварыць сала, добра вымяшаць, улажыць у хорму або глыбокую скварраду, уставіць у печ на 1—2 гадзіны залежа ад таўшчыні дранкі а гарачыні печы. Падаецца на гарача із кіслай сьмятанаю. Лішка туку палепшыць смак дранкі.

БУЛЬБЯНЫЯ КРОКЕТЫ (мяшчанскія галкі)

3 кубкі бульбяной кашы, 1 куб. сырой дзёртай,
2 яйкі, соль.

Зьняць ваду з дранай бульбы, дадаць яйка, соль, перац, крышаную цыбулю, перамяшаць із варанай бульбай. Зрабіць галкі, пакачаць у муцэ, яйку й сухарыку й падсмажыць.

КЛЁЦКІ із сырой і варанай бульбы:

2 кубкі падзёртай бульбы, 1 куб. бульбяной кашы,
1 куб. цёртага хлеба, 3 яйцы, гарб. л. солі

Выціснуць як найболей вады з бульбы, замяшаць із кашай, яечкамі й хлебам, пасаліць, рабіць клёцкі й варыць 10 часін.

ПШОННЫЯ БЛІНЫ

1 кубак мукі, 3 яйцы, 1 куб. малака,
паў гарб. л. солі і парашку да пячэн.

Зьмяшаць з мукою парашок і соль, убіць яйкі, заліваць патрохі малаком, пакуль не разьмяшаецца на патрэбнае цеста. Пячы-смажыць на абодва бакі. Можна лажыць кружкі яблыка на паасобныя галадкі і разам запякаць. Можна яблыкі разьмяшаць разам із цестам.

ЛЯНЫЯ СЫРНІКІ

Паўхунта белага сыру, 2 унцыі мукі, 4 яйцы,
1 лыжка туку, соль.

Сьвежы, добра выціснуты тварог працерці цераз сіта або прапусьціць цераз машынку. Расьціраць тук, дадаючы па адным жаўтку, пакласьці сыр, усё расьцерці ў ваднае тайную масу. Зьбіць пену зь бялкоў, замяшаць у сырную масу, дадаць муку, зьлёгка пасаліць, замясіць. Цеста пакласьці на мукой пасыпаную кухонную дошку, раскачаць, пакроіць на кавалкі ўшыркі 2—3 цм. Ляныя сырнікі апусьціць у пасолены вар, перамяшаць, накрыць вечкам. Калі зварацца, адсунуць рондаль на край пліты і шумоўкай выкладаць сырнікі на міску. Абліць распушчаным маслам, зьмешаным із падрумяненымі цёртымі сухарамі. Можна падаваць ізь сьмятанай.

СЫРНІКІ

3 яйцы, 1 кубак тварагу, масла, 3 л. мукі,
цытрынавая шкурка.

Тры масла, пакуль ня будзе мяккое. Дадай жаўткі, сыр, соль, цукар, муку, цытрынавую шкурку. Бі пену зь бялкоў, дадай, разьмяшай. Апускай лыжкай у вар, накрый, вары 10 ч. Выбяры й паліператопленым да бранзова маслам.

СЫРНІКІ З БУЛЬБАЙ

2 яечкі, 1/2 х. мукі, 1/2 х. сыру, 1 л. масла,
2 вараныя бульбы, соль.

Расьцерці сыр з бульбаю. Расьцерці 2 жаўткі з лыжкай масла. Усё зьмяшаць, дадаць пену з 2 бялкоў, усыпаць муку, пасаліць, добра вымяшаць, апускаць лыжкай у вар, варыць 5 часінаў.

## Г А Р О Д Н І Н А

РЭДЗІКА: ядуць із кіслай сьмятанай або алеем, зьмяшаным із цытр. сокам і пакрышанай цыбуляй.

ГУРКІ: сьвежыя ядуць із мёдам або пакроеныя і залітыя кіслай сьмятанай.

БРУЧКА: вараць на страву; мяшаюць на палову з бульбай, забельваюць або засквараваюць. Тушаць зь мясам, мяшаюць з бульбай, тушаць із салам, мясам, падкалочваюць мукою.

МОРКВА: з бульбай як страва: булён. Тушаць зь мясам або маслам. Адумысна тушаная з цукрам, маслам ведамая на ўвесь сьвет як “цымус”.

ЦЫБУЛЯ: выкарыстваецца на прыправы да стравaў і сырая.

ТУШАНАЯ: разскварыць сала, выняць скваркі, усыпаць пакрышаную скрылікамі цыбулю, тушыць 15 ч.

## САЛОДКАЯ ЕЖА

### СУХАРЫКІ

3 яйцы, 1/4 х. масла, 1/2 х. цукру, гарб. лыжка ванілі,
2. гарб. л. парашку да пяч.

Масла добра расьцерці з цукрам, дадаць яечкі, ванілі, памалу сыпаць муку, перасеяную з парашком. Дадаць гэтулькі мукі, каб можна было раскачаць цеста. Тады выкраіць хормы й пячы 10 часінаў пры 375 ° Ф[22]. Замест выкроеваць хормы, можна зрабіць даўгаватую галку, закруціць у паперу і ўлажыць на колькі гадзінаў у лядоўку. Тады кроіць цеста войстрым нажом на ценкія лустачкі і пячы.

### ХРУШЧЫ

4 яйцы, 1/2 кубка цукру, 1/2 кубка малака,
зьнюшок солі, 2—3 гарб. л. парашку, мука,
чарка гарэлкі.

У крышку мукі зьбіць яйкі, цукар, малако, гарэлку. Працерці муку з парашком, дасыпаць да цеста, пакуль зробіцца здатнае да качаньня. Разкачваць, рэзаць на кавалкі, пасярэдзіне кожнага куска-лоскута прарэзаць дзірку, вывярнуць. Грэць тук у рондлі (з палец углыбкі туку) з высокімі бегамі. Смажыць з двох бакоў. Як астынуць, пасыпаць цукрам-парашком.

### ХРУШЧЫКІ

Робяцца таксама, як хрушчы, але ўжыць адны жаўткі. Хрушчыкі будуць ценшыя.

### ГРЫБОК

4 яйцы, 1/2 кубка цукру, 1/2 кубка малака,
1 гарб. л. парашку, 1/4 гарб. л. солі.

Дадаць мукі, каб было цеста, як на бліны. Наліць у памазаную бляху й пячы.

### ГРЫБОК ІЗЬ ЯБЛЫКАМІ

2 жаўткі, 2 лыжкі мукі, 2 л. цукру,
1/2 гарб. л. парашку, 2 яблыкі, 2 бялкі, 2 л. масла,
1/2 кубка малака.

2 жаўткі расьцерці з 2 лыжкамі цукру, усыпаць 2 лыжкі мукі, 1/2 гарб. лыжкі парашку, уліць 1/2 шклянкі малака. Ачысьціць яблыкі, пакроіць скрылікамі. На скварадзе распусьціць 2 лыжкі масла, падсмажыць яблыкі, выліць на іх цеста. Уставіць у печ. Гатовае пакроіць

[22] 375 °F — каля 190 °C.

накрыж, пасыпаць цукрам із ваніляй. Замест яблыкаў можна ўжыць вішні, чарэшні ці рабарбар[23].

ЛАМАНЦЫ

Замясіць цеста з мукі, вады, крыхі алівы й солі, як на макарон. Раскачаць досыць ценка, пакроіць на кавалкі і ў духоўцы сьпячы. Заліваць макавым малаком.

ЯЕЧНЯ

1/2 кварты малака, 3 яйцы, 2 лыжкі цукру, соль.

Разьбіць яйцы ў рондалік, наліць малака, дадаць цукру й солі і пячы 15 часінаў.

БЛІНЫ НА ДРОЖДЖАХ

1 кубак мукі, 2 лыжкі цукру, 1/4 гарб. л. солі,
3 кубкі малака, 3 яйцы, 1 пачок сухіх дрожджаў.

Перасеяць муку ў міску, дадаць цукру й солі. Тады памалу дадаваць малако зь яйцамі а дрожджамі. Добра разьмяшаць. Хай пастаіць 2 гадз. Тады смажыць з двох бакоў.

ГАРБУЗ

Гарбуз, мука, соль, малако.

Ачысьціць гарбузовае мяса зь мякішу і абабраць, парэзаць на кубікі, варыць у крыху пасоленай вадзе, пакуль ня мяккі. Адцадзіць, стаўчы на кашу, калі жылаваты — працёрці праз друшляк. Разбоўтаць муку ў малацэ, уліць у кашу, разьмяшаць, заварыць. Можна дадаць масла, а то цукру. Будзе кляйсты, калі зашмат мукі; разводзіць малаком, калі за густы. Падаваць на гарача.

БАБКА З РУМАМ

1/2 кубка малака, 1 пачок с. дрожджаў, кубак мукі,
2 л. цукру, 1/2 кубка масла, 6 лыж. цукру,
1/2 гарб. л. цытрынавай скуркі, паўтара кубка мукі,
3 яйцы, 1/4 кубка румавай асэнцы.

Звары 1/2 кубка малака, дай астынуць, каб было летняе. Дадай дрожджаў, пэратры, дадай кубак мукі і 2 лыжкі цукру, мяшай, пакуль ня будзе гладка. Накрый, хай падыдзе 1 гадзіну на цёплым месцу. Тры паўкубка масла, памалу дадаючы 6 лыж. цукру. Дадай солі, цытрыновай скуркі, добра разьмяшаныя яйцы, муку й дрожджы. Бі добра 12 часінаў. Вымаж маслам дно й бакі хормы, кладзі цеста да палавіны, накрый і пакінь паўгадзіны, каб падышло. Пячы 20 часінаў.

---

[23] **Рабарбар** — тое самае, што па-расейску *“ревень”*.

Вары паўкубка цукру, кубак вады 5 часінаў. Калі астыне, улі румовай асэнцы. Калі бабка гатовая, палі гэтым сыропам, каб нацягнула.

ПАПУШКІ

3 лыжкі мяккага масла, 3 яйкі,
1/2 унцы сьвежых дрожджаў, 3 лыж. цукру,
трохі цытрыновай скуркі, соль,
1 х. цёплай перасеянай мукі,
1 кубак малака або сьмятаны.

Церці масла, аж пакуль ня пеніцца. Дадаць яйкі, зьмяшаныя з дрожджамі. Дадаць цукру, солі, цытрыновае скуркі, перасеянай мукі й малака. Мяшай цеста цьверць гадзіны ўсё ў адзін бок. Пасып мукой і дай падыйсьці. Выбяры цеста на дошку, пасыпаную мукой, раскачай на палец таўсьціні і выкрай шклянкай колцы. Гэтулькі сама колцаў назначай, але ня выкрай. У сярэдзіну нявыкроеных колцаў палажы смажэньне, накрый выкроенымі колцамі й выкрай меншай шклянкай, каб яны злучыліся разам. Кладзі на цёплую, мукой пасыпаную дошку, накрый абруском і дай падыйсьці. Распусьці сала або сала й масла разам, палажы папушкі нізам уверх, каб яны плавалі ў туку. Накрый сквараду і, калі гатовыя з аднаго баку, абярні й дапячы без накрыцьця. Вымі, на сіце асушы, пасып цукрам. А калі астыгнуць, злажы на міску.

ПАПУШКІ (галкі)

2 кубкі мукі, 1/2 кубка расьцёртага масла, 4 жаўткі,
трохі солі, цытрыновай скуркі, 1/2 унцы сьвежых
дрожджаў, зьмяшаных ізь цёплай сьмятанай,
разынкі.

Зрабі цеста, каб ня клейлася да лыжкі. Усып 2 лыжкі разынкаў, пасып мукой і дай падыйсьці. Пакрой на кавалкі, зрабі галкі й дай падыйсьці. Смаж у сале-туку, каб не дакраналіся дна. Калі гатовыя, вымі, пакачай у цукру.

ТОРТ ЯРАШЭВІЧЫХІ

1/2 х. сьвежага масла, 1/2 х. мукі, 1/2 х. цукру,
4—5 яек,
какаа, бітая сьмятана, цытрынавы сок, цукар.

Цукар цёрці з маслам, убіваць па адным яйцу, увесь час цёрці разам ня меней як паўгадзіны. Муку перасеяць із 1/4 гарб. л. парашку да пячэньня або соды. Разьліць на палавіну. У адну палажыць 1 гарб. лыжку какаа. Палавіны цеста наліць у хорму адна на другую, пячы. Калі наліць ня мяшаючы, атрымаецца двукалёрны торт, калі крыху зьмяшаць — хвалявы. Калі астыгне, памазаць сьліўкамі цукру. Верх прыбраць бітай сьмятанай із цытрыновым сокам і цукрам.

Подле В. Ярашэвічыхі

ТОРТ СТАНКЕВІЧЫХІ

1 кубак масла, 1 і 2/3 кубка перасеянай мукі,
1 кубак бяз 2 лыжак цукру,
3 жаўткі ізь цьвёрда вараных яец, 1 бялок, 1 яйцо.

Пагрэй духоўку ля 325 °Ф[24]. Зьмяшай масла з мукой. Зьмяшай цукар із жаўткамі, зь яйцом і добра вырабі цеста. Падзялі на 2/3 і 1/3. Першыя 2/3 раскачай і вылажы ёй дно памазанай круглай хормы, падымі берагі цеста вышэй. Налажы на гэта смажэньня із малінаў. Астачу цеста выкачай на пальцавыя валкі, налажы накрыж у кратку або іншы узор (манаграм). Памазаць бялком і пячы каля 1/2 гадзіны.

Падала М[арыя] Станкевічыха

ТОРТ ШАБУНІХІ

1 х. масла, 1/4 х. цукру, 1 яйцо, паўтара хунта мукі.

Расьцерці масла на сьмятану, усыпаць цукар, добра расьцерці, потым яйцо, памалу ўсыпаць муку. Пячы 1/2 гадзіны.

Падала Е. Шабуніха[25]

КЛЕЦКІ ІЗЬ СЬЛІВАМІ

2 і 1/5 х. варанай бульбы, 3/4 х. мукі, 4 лыж. масла,
2 яйцы, 1/4 кубка масла, цертая булка, цукер, соль.

Працерці будьбу перазь сіта. На дошку насыпаць муку й зрабіць гладкае цеста. Раскачаць на 2 цм таўшчыні. Выкраіць квадрацікі, у сярэдзіну класьці па аднэй сьліве й закруціць цеста каля сьлівы. Укінуць у вар, падняць ад дна і варыць 5 часінаў на малым агню ў салонай вадзе. Цертую булку падсмажыць у 1/4 кубка масла, пакачаць у ёй клёцкі і пасыпаць цукрам парашком.

СТРУЦАЛЬ ІЗЬ ЯБЛЫКАМІ

3/4 х. мукі, 2 лыж. масла, 3 х. яблыкаў,
1/2 кубка цертай булкі, 3 лыж. масла,
1/4 кубка разынкаў, 1/2 кубка цукру, трохі солі, вады.

Насыпаць муку на дошку, зрабіць пасярэдзіне лагчыну, уліць трохі летнай вады, 2 лыжкі масла, трохі солі. Зрабіць цеста й качаць рукамі, аж пакуль перастане клеіцца да рук. Цеста мусіць застацца мяккое. Тады накрыць цёплай судзінай і пакінуць на 1/2 гадзіны. У тым часе абабраць яблыкі, парэзаць на ценкія скрылікі. Падсмажыць цертую булку, прыгатаваць разынкі й цукар. Цукру подле таго, як яблыкі кіслыя. Калі цеста паляжала 1/2 гадзіны, накрыць вялікі стол абрусам, і абрус пасы-

[24] 325 °F — каля 160 °C.

[25] Магчыма, маецца на ўвазе **Эмілія (з Луцкевічаў) Шабуня** (1886—1974), сястра Івана й Антона Луцкевічаў, маці Яніны Каханоўскай.

пацьмукой. Качалкай трохі разкачаць на дошцы, потым расьцягнуць рукамі, аж пакуль цеста ня будзе прасьветнае і ня будзе перасягаць дошку. Добра памазаць берагі цеста шчотачкай, памочанай у масьле. Выцягненае цеста абкроіць зь няроўных берагоў, пасыпаць палавіну яблыкамі із смажанай булкай і разынкамі. Другую палову цеста папырскаць маслам, як і скручвану дольнюю старану цеста, скруціць, палажыць на памазаную бляху, пячы каля 3/4 гадзіны. Як сьпячэцца, пакроіць на лусты, злажыць на місу і пасыпаць цукрам парашком.

ПІРОГ МАСЬЛЯНЫ

½ х. масла (туку), 1 кубак цукру,
2 яйцы або жаўткі і бялкі,
1 гарб. л. ванілі або цытрынавага соку
й дзертую скурку, 2 кубкі перасеянай мукі,
3 гарб. лыжкі парашку, 3/4 кубка малака, соль.

Церці масла, памалу дадаючы цукру, каб мешанка была лёгкая. Дадаць толькі жаўткі й ванілю або цытрыну. Біць болей. Перасеіць муку з парашком і соляй, дадаваць на перамену з малаком, увесь час мяшаючы. Дадаць зьлёгку пену зь бялкоў. Наліць у тукам вымазаную хорму й пячы пры 350 °[26] каля 50 часінаў. Можна дадаць чакаляды, або разынкаў, або мігдалаў.

ПІРОГ БАНАНАВЫ

2 расьцертыя бананы, 3 лыжкі туку,
1 і 1/4 кубка цукру, 1 гарб. л. ванілі,
4 лыжкі вады, 1 і 1/2 кубка мукі,
2 яйцы асобна бялкі й жаўткі,
1 гарб. лыжка парашку — пітной соды.

Церці цукар із тукам, жаўткамі й ваніляй. Памалу дадаваць муку на перамену з вадой і пену зь бялкоў. Пячы ў духоўцы ля 350 °Ф каля гадзіны.

СМАЖАНЫЯ СЫРНІКІ

1 х. тварагу, 2 лыжкі цукру, 1/4 шклянкі мукі, 1 яйцо.

Разьмяшаць, рабіць блінцы й пячы.

САЛАДЖОНКА ЗЬ ПЕНЫ БЯЛКОЎ

2 бялкі хатняй тэмпературы, 3/4 кубка цукру,
1/4 кубка пасечаных арэхаў, 1/8 гарб. л. солі,
1/8 гарб. л. крым оф тартар[27].

---

[26] 350 °F — каля 175 °C.

[27] ***Cream of tartar*** (анг.) — вінны камень.

